# РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2001

# ПРАДМОВА

На фоне тых працэсаў і перамен, што адбываюцца ў эканамічным, палітычным і духоўным жыцці нашага грамадства, рэзка павышаецца цікавасць людзей да гісторыі нацыянальнай культуры і самасвядомасці народа, у т.л. да гісторыі развіцця, фарміравання і станаўлення яго канфесіянальнай структуры. У наш час на Беларусі існуе 26 рэлігійных кірункаў (канфесій), што з'яўляецца сведчаннем гістарычнай традыцыі мірнага суіснавання розных веравызнанняў і працягам талерантнасці, характэрнай для беларускага этнасу яшчэ з сярэднявякоўя; дзейнічае каля 2700 рэлігійных абшчын.

Абуджэнне цікавасці да рэлігіі, аднаўленне дзейнасці рэлігійных арганізацый і аб'яднанняў пасля доўгіх дзесяцігоддзяў панавання атэістычнай ідэалогіі непасрэдна звязаны з трансфармацыяй дзяржаўна-царкоўных адносін, рэалізацыяй канстытуцыйнага права грамадзян на свабоду сумлення і веравызнання. Узважаная пазіцыя дзяржавы, пошукі кампрамісаў на шляху стварэння дэмакратычнага грамадства садзейнічаюць таму, што дзяржаўная ідэалогія складваецца на аснове агульнахрысціянскіх каштоўнасцей, а не на аснове дамінавання якой-небудзь адной канфесіі.

У сувязі з гэтым наспела неабходнасць у выданні літаратуры, якая б давала неабходныя звесткі па тэорыі і гісторыі рэлігіі, актуальных праблемах царкоўна-рэлігійнага жыцця. Энцыклапедычны даведнік «Рэлігія і царква на Беларусі» — адно з першых выданняў, дзе ў сістэматызаваным выглядзе асвятляюцца рэлігійная дагматыка, абраднасць, царкоўныя структуры, гісторыя і культура розных канфесій на Беларусі. Таму ў даведніку змешчаны артыкулы і пра больш пашыраныя рэлігійныя кірункі (праваслаўе, каталіцызм, пратэстантызм, уніяцтва), і пра менш значныя, якія былі ў мінулым або існуюць і сёння, пра канкрэтныя рэлігійныя арганізацыі і таварыствы, пра ўсе сучасныя праваслаўныя і каталіцкія епархіі, пра найбольш вядомыя манастыры і кляштары, цэрквы і касцёлы, манаскія ордэны, рэлігійныя выданні, цудатворныя абразы, важныя падзеі ў рэлігійным жыцці Беларусі і інш.

Стваральнікі кнігі імкнуліся, з аднаго боку, пераадолець вульгарна-атэістычную ацэнку рэлігіі, як неадэкватную існаму быццю чалавека форму яго самарэалізацыі, а з другога — яны не ставяць перад сабой задачу абгрунтаваць багаслоўска-тэалагічную інтэрпрэтацыю рэлігіі як звышнатуральнага ўтварэння. На суд чытача выносяцца розныя пазіцыі, якія даюць магчымасць на аснове навуковых даных і фактычнага матэрыялу раскрыць змест рэлігіі, яе структуру і функцыі ў жыцці чалавека і грамадства. Асаблівая ўвага аддаецца асноўным кірункам рэлігійнай філасофіі, якія складваліся

і развіваліся на аснове сусветных рэлігій, найперш хрысціянства. Знаходзяць адлюстраванне і традыцыі вальнадумства ў духоўнай культуры, рэлігійныя і нерэлігійныя погляды на чалавека, свет і грамадства, на стан і эвалюцыю рэлігійных арганізацый у сучасных умовах. У некаторых артыкулах аналізуецца паходжанне дарэлігійных вераванняў беларускага народа, самабытнасць беларускай міфалогіі, якая абапіралася на ідэнтычныя прыродныя з'явы іншых народаў, на агульначалавечыя каштоўнасці. Чытач можа пазнаёміцца з гісторыяй, сутнаснымі рысамі і праяўленнямі практычнай дзейнасці нетрадыцыйных культаў, або так званых «новых рэлігій», што існуюць у рэспубліцы. У даведнік уключаны і біяграфічныя артыкулы пра кананізаваных святых, што нарадзіліся ці жылі на Беларусі, праваслаўных і уніяцкіх мітрапалітаў, найбольш вядомых епіскапаў, генералаў манаскіх ордэнаў, кіраўнікоў Рэфармацыі ў ВКЛ, святароў, якія пакінулі след у культуры і гісторыі, рэлігійных дзеячаў і інш.

Як і ў большасці энцыклапедычных даведнікаў, артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку. Акрамя вызначэння сутнасці адпаведнага паняцця (дэфініцыі), у кожным артыкуле даецца неабходны інфармацыйна-даведачны матэрыял з улікам дасягненняў сучаснага рэлігіязнаўства і практыкі. Каб пазбегнуць паўтораў інфармацыі і даць магчымасць чытачу лепш арыентавацца ў прапанаваным матэрыяле, у даведніку выкарыстана сістэма спасылак. Слова або спалучэнне слоў, набраных *курсівам*, азначае, што ў кнізе ёсць артыкул пад такой назвай. Значная частка артыкулаў мае бібліяграфію ўнутры тэксту або пад тэкстам. З мэтай эканоміі месца ў даведніку ўжываюцца скарачэнні слоў, спіс якіх змешчаны ў канцы кнігі. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, партрэтамі.

Кніга адрасавана навучэнцам і выкладчыкам агульнаадукацыйных школ, каледжаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, усім, хто цікавіцца пытаннямі рэлігіязнаўства і гісторыі Беларусі.

# А

АБА́Т [лац. abbas (abbatis) ад грэч. abba бацька] — настаяцель каталіцкага манастыра — *абацтва* (настаяцельніца — абатыса). Першапачаткова паводле статута выбіраўся манахамі і зацвярджаўся *епіскапам*, фактычна назначаўся свецкімі магнатамі. У больш агульным значэнні — свяшчэннаслужыцель у каталіцкай царкве.

АБА́ЦТВА — вялікі каталіцкі кляштар з маёмасцю і зямельнымі ўладаннямі, якім кіруе *абат* ці абатыса. Падпарадкоўваецца біскупу, часам непасрэдна рымскаму папу. Паявіліся А. ў 5—6 ст., уплывалі на рэлігійнае, эканамічнае, паліт. жыццё Зах. Еўропы. У перыяд Рэфармацыі і асабліва ў ходзе буржуазных рэвалюцый 18 ст. страцілі сваё значэнне. Часткова захаваліся ў Іспаніі, Францыі, Італіі і інш.

АБНАЎЛЕ́НЦЫ — апазіцыйны рух у рускай *праваслаўнай царкве* ў 1920—40-я гады. Узніклі пасля Кастр. рэвалюцыі 1917. Выступалі за «абнаўленне царквы», за яе лаяльныя адносіны да савецкай улады; мелі на мэце змяніць традыцыйныя формы рэліг. дзейнасці, не закранаючы асновы веравучэння і культу. Змагаліся супраць кіраўніцтва афіц. рус. царквы, якое ў пач. 1920-х г. было настроена супраць савецкай улады. Асн. групы А.: «Жывая царква», «Царкоўнае адраджэнне», «Саюз абшчын старажытнаапостальскай царквы». На Беларусі стварылі *Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву.* З пераходам кіраўніцтва патрыяршай царквы на шлях лаяльнасці да савецкай улады рух А. пачаў затухаць. Многія з іх парвалі з рэлігіяй, некаторыя вярнуліся ў старую царкву. Пасля смерці аднаго з лідэраў абнаўленства А.І.Увядзенскага (1946) рух канчаткова спыніўся.

АБРА́ДЫ РЭЛІГІ́ЙНЫЯ — эмацыянальна-вобразнае ўвасабленне рэлігійных ідэй і ўяўленняў; знешняя форма праяўлення рэлігійнасці. Кожная рэлігія мае сваю сістэму і рэгламентацыю А.р. Іх разнастайнасць абумоўлена асаблівасцямі веравучэння, нац.-этнічнымі традыцыямі і ўмовамі жыцця веруючых людзей. Напр., у хрысціянстве найважнейшыя магічныя культавыя абрады, якія, паводле царк. веравучэння, надаюць людзям цудадзейную моц («боскае харатво») — таінствы: *хрышчэнне, мірапамазанне, прычасце, споведзь*, царк. шлюб, ялеасвяшчэнне, пасвячэнне ў духоўны сан. У А.р. беларусаў цесна пераплятаюцца некаторыя элементы язычніцтва і хрысціянства.

*Г.П.Караткевіч.*

АБРА́З, і к о н а — 1) у хрысціянскай рэлігіі (праваслаўе, каталіцызм і уніяцтва) выявы Ісуса Хрыста, Божай Маці, святых на драўлянай дошцы, палатне, камені; сімвал, які з'яўляецца аб'ектам рэлігійнага ўшанавання. 2) Твор мастацтва (найчасцей станкавага жывапісу), які мае культавае прызначэнне. Першыя А. вядомы з 2 ст. н.э. Найб. стараж. А., што захаваліся, паходзяць з Пярэдняй Азіі. Культ А. як абавязковага элемента храма афіц. прыняты на 7-м Усяленскім саборы (786—787, Канстанцінопаль). Паводле хрысц. падання першаўзорам вобраза Хрыста з'явіўся адбітак яго твару на ўбрусе, а першыя выявы Божай Маці выкананы евангелістам *Лукою*. А. асабліва шырока былі распаўсюджаны ў Візантыі, Егіпце,



Да арт. **Абрады рэлігійныя.** Хрышчэнне.


Да арт. **Абраз.** А.Рублёў. Спас. 1420-я гады.

Эфіопіі, паўднёва-слав. краінах, Грузіі. Для А. характэрны іканаграфічны канон, які вытрымліваецца стагоддзямі. Пад уплывам Візантыі ўзнік старажытнарускі А., класічныя ўзоры якога адносяць да канца 14—15 ст. (А.Рублёў, Феафан Грэк).

На Беларусі А. з'явіўся, верагодна, у канцы 10 ст. ў Полацку і Тураве. Першыя А. прывозілі з Візантыі, напр., *Ефрасіння Полацкая* падаравала мужчынскаму манастыру ў Полацку абраз «Маці Божая Адзігітрыя Эфеская», які яна атрымала ад імператара Мануіла Камніна. Беларускія А. 11—15 ст. ствараліся ў сферы правасл. візант.-балканскага ўплыву («Маці Божая Замілаванне» з-пад Брэста, «Успенне» з Мінска 15 ст.). Фарміраванне самабытнай *беларускай школы іканапісу* адбылося ў 16 ст. Найб. яркія творы належаць да 1-й паловы 17 ст. (група маларыцкіх абразоў 1648; «Нараджэнне Марыі» Пятра Яўсеевіча з Галынца, 1649; «Успенне» з в. Олтуш, 1650 і інш.). Для іх характэрна спалучэнне сімвалізму і кананічнасці сярэдневяковага мастацтва з натуральнасцю персанажаў і асяроддзя, характарнасцю вобразаў, элементамі навакольнай рэчаіснасці, засвоенымі з еўрап. Адраджэння. У 17—18 ст. выяўляюцца рэгіянальныя асаблівасці ў А. Зах. Палесся, Падняпроўя, Падзвіння, Міншчыны, звязаныя з цэнтрамі іканапісу (Брэст, Вільня, Віцебск, Пінск, Магілёў, Мінск, Полацк). А. маляваліся на дошках (да 16 ст. ўключна з каўчэгам) па клеемелавым грунце (ляўкасе) яечнай тэмперай, пазней у спалучэнні з алейнымі фарбамі. Фон гладкі, пазалочаны, з канца 16 ст. аздабляўся рэльефным раслінным арнаментам. З сярэдзіны 18 ст. пашыраецца А. на палатне. Асаблівую галіну бел. іканапісу ўтвараюць алтарныя А. з рысамі готыкі, рэнесансу, барока. Характэрнай аздобай А. былі абклады, накладныя чаканеныя металічныя *ризы* («сукенкі»). Разам са звычайным (жывапісным) А. існуюць А. ляпныя і разныя. Самастойны (арыгінальны) бел. А. знікае ў сярэдзіне 19 ст. з ліквідацыяй у 1839 уніяцтва.

*А.А.Ярашэвіч.*

АБРАНТО́ВІЧ Фабіян (14.9.1884, г. Навагрудак — 1940) — беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч. Магістр тэалогіі (1909), доктар філасофіі (1912). Скончыў Пецярбургскія духоўныя семінарыю (1906) і акадэмію (1909). Вучыўся ў каталіцкім універсітэце ў Лувене (Бельгія). У 1914—18 выкладчык філасофіі ў Петраградскай духоўнай акадэміі. Сябраваў з Б.Эпімах-Шыпілам, Я.Купалам. Адзін з заснавальнікаў бел. хрысц. руху і яго саюза «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць» (гл. *Беларуская хрысціянская дэмакратыя*). Ініцыятар правядзення ў Мінску з'езда бел. каталіцкага духавенства (24—25.5.1917). З 1918 рэктар Мінскай духоўнай семінарыі. 6.8.1918 А. разам з біскупам З.*Лазінскім* адправіў першую бел. імшу ў Мінску. Два месяцы (студз.—люты 1920) правёў каля ложка цяжка хворага Я.Купалы ў Мінскай бальніцы. Удзельнічаў у рабоце з'езда бел. каталіцкага духавенства ў Вільні (12—13.7.1921). З 1921 у Пінску, прэлат пінскай капітулы. З 1926 у Друйскім манастыры айцоў Марыянаў. Выступаў за вядзенне службы на бел. мове ў касцёлах і духоўных навуч. установах. У чэрв. 1928 Апостальскім пасадам накіраваны ў г. Харбін для місійнай дзейнасці сярод рус. эміграцыі. У 1939 вярнуўся на


Да арт. **Абраз.** Маці Божая Ерусалімская. Брэстчына. 16 ст.

Беларусь. Арыштаваны сав. уладамі і зняволены ў турму ў Львове. Пазней высланы ў Расію. *Г.В.Бабкін.*

АГІЯГРА́ФІЯ (ад грэч. hagios святы + grapho пішу) — жанр царкоўна-рэлігійнай літаратуры, аповеды пра жыцце святых. Пры стварэнні жыцця хрысц. А. шырока выкарыстоўвала ант. міфалогію, біблейскія паданні, народныя легенды. Біяграфіі ранніх хрысц. святых вельмі падобныя на інш. паданні пра багоў і герояў.

АГНАСТЫЦЫ́ЗМ (ад грэч. agnostos недаступны пазнанню) — філасофскае вучэнне, паводле якога немагчыма пазнанне аб'ектыўнага свету, яго сутнасці і заканамернасці развіцця, дасягненне абсалютнай ісціны; крайняя форма скептыцызму. Роля навукі абмяжоўваецца толькі пазнаннем з'яў. Тэрмін уведзены ў 1863 англійскім прыродазнаўцам Т.Гекслі. Ідэі А. прасочваліся яшчэ ў ант. філасофіі (Пратагор, сафісты). Найб. паслядоўна А. прадстаўлены ў вучэннях Д.Юма і І.Канта. Юм лічыў, што ўсё пазнанне звязана толькі з вопытам і прынцыпова не выходзіць за яго межы, а таму нельга меркаваць пра адносіны паміж вопытам і рэальнасцю. Кант абгрунтаваў А. увядзеннем і размежаваннем паняццяў «рэч у сабе» (недасягальная для пазнання) і «рэч для нас» (у працэсе якой утвараецца вобраз гэтай рэчы). Пазнаючы вобраз, розум імкнецца пазнаць і «рэч у сабе», але гэта яму не ўдаецца, паколькі ён валодае магчымасцямі толькі для пазнання вобраза рэчы, таму розум канчаткова заблытваецца ва ўзаемна супярэчлівых выказваннях аб прадмеце (антыноміях), якія дапускаюць пераканаўчае лагічнае абгрунтаванне. А. параджаецца абсалютызацыяй, празмерным абасабленнем і проціпастаўленнем тэорыі і практыкі, пазнання і рэчаіснасці, суб'екта і аб'екта пазнання. Разнавіднасцю А. з'яўляецца іерогліфаў тэорыя, неапазітывізм, экзістэнцыялізм і інш. *М.В.Анцыпенка.*

А́ГНЕЦ, ягня — першынец у статку, якога выкарыстоўвалі як ахвярную жывёліну ў іудаісцкім культе. Выраз «агнец Божы», які ўжываецца ў хрысціянстве, азначае Ісуса Хрыста, які прынёс сябе ў ахвяру за збавенне грахоў людскіх. У *Апакаліпсісе*, у малітвах і абрадах Ісус прадстае бязгрэшным А., а на ранніх фрэсках яго паказваюць пастухом з ягнём на плячах (увасабленне добрага пастыра). А. называюць таксама частку прасфоры, што вынута на *праскамідыі*.

АГРА́РНЫЯ КУ́ЛЬТЫ — сістэма рэлігійна-магічных абрадаў і ўяўленняў, накіраваных на павелічэнне і захаванне ўраджаю. Засн. на веры ў магчымасць уплыву звышнатуральных сіл (божастваў, духаў) на выбікі паўсядзённай працы людзей. У аснове А.к. ляжыць развіты політэістычны пантэон (гл. *Політэізм*), у якім вылучаюцца божаствы, што спрыяюць земляробству. Сістэма А.к. пачала складвацца са з'яўленнем сельскай абшчыны і мае многа агульных рыс у розных народаў



Да арт. **Адам**. «Адам і Ева». Мастак Кранах Старэйшы. 16 ст.

свету, якія знаходзяцца на аднаведным этапе развіцця. Першапачатковая форма А.к. — аграрная *магія*.

На Беларусі ў аснове А.к. ляжаць уласнабел. пантэон божастваў і народны земляробчы каляндар. Культ Сонца (*Ярылы*) характарызуе самы стараж. пласт традыц. культуры беларусаў. Найб. земляробчыя ўрачыстасці прыпадалі на зімовае і летняе сонцастаянне (*калядкі, купалле*). З Ярылам звязваўся надыход вясны. Каб паспрыяць урадлівасці зямлі, сяляне прыбіралі Ярылам самую прыгожую дзяўчыну і вадзілі карагоды па засеяных нівах, спявалі прысвечаныя яму песні. Апякункай вялікага ўраджаю і дабрабыту лічылася багіня лета Цёця. Са зборам ураджаю і восеньскай сяўбой звязаны культ *Жыценя*, які ўзнагароджваў на наступны год вялікім ураджаем руплівых гаспадароў і караў гультаяватых. У народным календары пэўныя часы адводзіліся ўшанаванню багіні вясны Лёлі (Лялі), багіні вясновага цвіцення Цацы, божаства летняга росквіту Лады і інш. Усе цыклы земляробчых работ суправаджаліся звязанымі з А.к. абрадамі і святамі. З веснавой сяўбой звязаны *гуканне вясны*, заворванне (першая баразна), засеўкі, *сёмуха* і інш. Наступны комплекс абрадаў і святаў меў дачыненне да ўборкі ўраджаю (зажынкі, дажынкі, спас, пакровы і інш.) Многія з абрадаў і святаў, якія звязаны з А.к., трансфарміраваліся пад уплывам хрысціянства і бытуюць у сучасным сялянскім побыце.

АДА́М (стараж.-яўр. — чалавек) — у хрысціянстве, іудаізме і ісламе (паводле *Бібліі* і *Карана*) першы чалавек, прабацька ўсіх людзей, якога стварыў Бог па сваім падабенстве і пасяліў з *Евай* у раі, адкуль яны былі выгнаны за грэхападзенне. Паводле падання, пражыў 930 гадоў і быў пахаваны на *Галгофе*, на тым месцы, дзе пазней быў распяты на крыжы Ісус Хрыстос.

АДВА́ЖНЫ Вінцук (сапр. Германовіч Язэп Станіслававіч; 4.3.1890, в. Гальшаны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. — 26.12.1978) — беларускі пісьменнік. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1913). Служыў ксяндзом. За казанні ў касцёле на бел. мове зазнаў ганенні польскіх улад. У 1924 уступіў у ордэн *марыянаў* у г. Друя. У 1932 выехаў у г. Харбін (Кітай), у 1936 вярнуўся ў Вільню, адтуль выселены ў Польшчу, потым зноў выехаў у Харбін. У 1948 арыштаваны кіт. ўладамі і перададзены ў СССР, дзе беспадстаўна асуджаны на 25 гадоў. Вызвалены ў 1955, выехаў у Польшчу, потым у Італію, Вялікабрытанію, дзе рэдагаваў час. «Божым шляхам». Друкаваўся з 1917. Празаічная гутарка «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928) пра маральнае самаўдасканаленне заходнебеларускай моладзі. Самадурства чыноўнікаў выкрыў у вершаваным апавяданні «Як Ганулля збіралася ў Аргенціну» (1930). Аўтар зб-каў вершаў «Беларускія цымбалы» (Вільня, 1933), «Байкі і іншыя вершы» (Лондан, 1973 ) і інш., аповесці «Хлопец» (Вільня, 1935), успамінаў «Кітай—Сібір—Масква» (Мюнхен, 1962).

АДВЕНТЫ́СТЫ (ад лац. adventus прышэсце) — паслядоўнікі хрысціянскай плыні ў *пратэстантызме*.

Вучэнне адвентызму ўзнікла ў 1830-я г. ў ЗША, заснавальнік У.Мілер. А. прапаведуюць блізкасць 2-га прышэсця Хрыста і ўстанаўлення на Зямлі 1000-гадовага царства Божага, уваскрэсенне мёртвых і пекла для грэшнікаў. Прызнаюць абрады водахрышчэння, прычашчэння, узаемнага абмывання ног. Абавязковай прызнаюць плату $^1/_{10}$ часткі даходаў на карысць абшчыны, місіянерскую дзейнасць. Мае некалькі галін: А. першага дня, сёмага дня (найб. пашыраны), рэфармісты і інш.

Групы абшчын А. утвараюць злучэнні, з якіх складаюцца уніёны (саюзы), дывізіёны. У дывізіён уваходзяць А. некалькіх дзяржаў (напр., у б. СССР А. складалі 1 дывізіён). Цэнтр А. знаходзіцца ў Вашынгтоне. Усяго ў свеце 3 млн. А., з іх 1 млн. А. сёмага дня. Адвентызм належыць да таталітарных культаў, уплывае на свядомасць і паводзіны веруючых, якія знаходзяцца ў трывожным чаканні «канца свету». На Беларусі А. з'явіліся ў 1920-я г. ў зах. рэгіёнах. Першым місіянерам на Палессі быў М.Даўгун (у 1921 вярнуўся з заробкаў з ЗША), актыўную дзейнасць вялі прыезджыя місіянеры. У 1925 у Столінскім р-не створана першая абшчына. У 1973 на Беларусі было каля 300 А., у 1998 іх колькасць падвоілася. На 2001 існавала 48 абшчын.

АДЛУЧЭ́ННЕ ад царквы — выключэнне з рэлігійнай абшчыны асоб за тое, што адмаўляюць Бога, не шануюць Маці Божую, святыя абразы і інш. Выкарыстоўваецца як мера царкоўнага пакарання ў праваслаўі, каталіцызме, іудаізме і некат. інш. рэлігіях. Кананічнае права адрознівала вялікае А., публічнае (*анафема*) і малое (часовае, якое «вылечвае»). У сучасных умовах назіраюцца тэндэнцыі да адмаўлення ад такога віду пакарання.

АДПУШЧЭ́ННЕ ГРАХО́Ў — рэлігійны абрад, звязаны з вучэннем царквы аб тым, што людзі могуць атрымаць боскую ласку даравання за свае грахі ў выніку пакаяння. Гэта вучэнне — найважн. ў маральнай канцэпцыі хрысціянства — трактуецца ў Новым запавеце як праяўленне міласэрнасці Хрыста і ўрок вернікам. З 2 ст. усталявалася канцэпцыя магічнай прэрагатывы святара пры А.г. Гэту ідэю распрацоўвалі *Аўгусцін Блажэнны*, *Фама Аквінскі*, Пётр Ламбардскі, якія ў святару бачылі «боскі інструмент». Гэты погляд замацаваны буламі пап Марціна V (1418) і Льва X (1520), а таксама канонам Трыдэнцкага сабора (1551). У перыяд ранняй *патрыстыкі* выключную ролю святароў пры А.г. аспрэчваў Тэртуліян, у перыяд *схаластыкі* — П.Абеляр, І.Дунс Скот, У.Окам, а таксама папярэднікі пратэстантызму — Дж. Уікліф, Я.Гус, Іеранім Пражскі. Крытыка каталіцкага вучэння пра А.г. аргументуецца тым, што права адпушчэння грахоў належыць толькі Богу, а, значыць, папства яго узурпіравала. Прадстаўнікі пратэстантызму падкрэслівалі асабістую маральную адказнасць вернікаў пры А.г. і адмаўлялі магічную ролю ў гэтым абрадзе святароў.

АДПЯВА́ННЕ — царкоўны абрад, які спраўляе святар над памёрлым; паводле сведчання царквы пры А. адбываецца пераход нябожчыка да вечнага жыцця. Спраўляецца як у храме, так і па-за яго межамі (завочнае). Раней завочнае А. дапускалася толькі ў выключных выпадках; у наш час практыкуецца значна часцей. Паводле хрысц. канонаў нельга спраўляць абрад А. над няхрышчанымі, самагубцамі і тымі грэшнікамі, што памерлі без пакаяння.

АДСТУ́ПНІЦТВА, апастазія — адыход ад догматаў, асноўных палажэнняў веравызнання. Асобу, якая адышла (адступілася) ад сваёй веры, называюць адступнікам (апастатам).

АЙЦЫ́ ЦАРКВЫ́ — найбольш уплывовыя дзеячы хрысціянскай царквы 2—8 ст., якія стварылі яе дагматыку і арганізацыю. А.ц. называюць епіскапаў першых хрысціянскіх абшчын, а з канца 4 ст. — аўтарытэтных царкоўных пісьменнікаў. Неабходныя ўмовы для прылічэння да А.ц. — прававерн асць вучэння, прыналежнасць да *патрыстыкі*, прызнаная святасць іх жыцця. Прынята абмежаванне патрыстычнай эры Іаанам Дамаскінам (памёр каля 749). А.ц., якія, паводле падання, пераймалі вучэнне непасрэдна ад *апосталаў*, назы-

ваюць апостальскімі айцамі (Клімент Рымскі, Ігнацій Антыяхійскі, Палікарп Смірнскі і Папій Іерапольскі). Падзяляюцца на заходніх (лацінскіх) і ўсходніх (грэчаскіх) у залежнасці ад мовы, на якой яны пісалі. Акрамя згаданых, сярод заходніх А.ц. найб. шануюцца Юсцін-філосаф, Ірыней Ліёнскі (2—3 ст.), Кіпрыян, Лактанцый (3—4 ст.), Іларый Піктавійскі, Аўросій Медыяланскі (4 ст.), Аўгусцін, Іеранім (4—5 ст.), папа Леў I Вялікі (5 ст.), папа Грыгорый Вялікі (6 ст.), Ісідар Севільскі (7 ст.); сярод усходніх — Клімент Александрыйскі (2 ст.), Афанасій Вялікі (Александрыйскі), Яфрэм Сірын, Кірыла Іерусалімскі, Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Грыгорый Ніскі, Іаан Златавуст (4 ст.), Кірыла Александрыйскі (5 ст.), Іаан Лесвічнік, Максім Вызнаўца (6—7 ст.). Многія творы А.ц. захаваліся цалкам ці фрагментарна, інш. вядомыя з крыніц па цытатах, пераказах або назвах. Творчасць А.ц. зрабіла вялікі ўплыў на фарміраванне хрысц. дагматыкі, літургічнага культу, традыцый, аскетызму. *І.М.Дубянецкая.*

АКАДЭ́МІЯ ДУХО́ЎНАЯ — вышэйшая царкоўная навучальная ўстанова, якая рыхтуе багасловаў, выкладчыкаў тэалагічных дысцыплін духоўных навучальных устаноў і спецыялістаў для царкоўна-практычнай дзейнасці. Рус. правасл. царква мае 3 А.д. з 4-гадовым тэрмінам навучання: Маскоўскую ў г. Сергіеў Пасад Маскоўскай вобл., Санкт-Пецярбургскую і Кіеўскую.

АКА́ФІСТ (грэч. akathistos ад а... + kathizō саджуся) — хрысціянскае хвалебнае царкоўнае песнапенне. Выконваецца абавязкова стоячы. Кожны А. складаецца з 25 асобных песнапенняў. Найб. вядомыя і стараж. А.: Божай Маці (7 ст.) і Ісусу Найсаладзейшаму (9 ст.), святцілелю Мікалаю Цудатворцу (14 ст.). Створаны таксама А. святым, абразам, царк. святам. Кніга, дзе сабраны ўсе А., наз. акафіснік. Першы на Беларусі акафіснік выдадзены Ф.Скарынай у 1525. Шматтомны акафіснік з 1991 друкуецца ў Маскве (ім карыстаюцца і правасл. на Беларусі). *Г.М.Шэйкін.*

АКУЛЬТЫ́ЗМ (ад лац. occultus патаемны, скрыты)— агульная назва ідэалістычных вучэнняў і поглядаў, што прызнаюць існаванне звышнатуральных, не даступных навуковаму даследаванню феноменаў і сіл у чалавеку і космасе. Да акультных вучэнняў адносяць *магію, спірытызм, тэасофію*, астралогію, парапсіхалогію, тэлепатыю, ёга і інш. У філасофскім плане блізкі да гілазаізму і *пантэізму*. Вядомы з часоў антычнасці. На розных этапах развіцця культуры быў у складаных узаемаадносінах з навукай, філасофіяй, рэлігіяй, мастацтвам.

А́КЦЫЯ КАТАЛІ́ЦКАЯ — сукупнасць свецкіх арганізацый вернікаў-католікаў, дзейнасць якіх каардынуе Ватыкан. Пачалі стварацца ў 19 ст. дзеля захавання ўплыву каталіцкай царквы і магчымасці непасрэднай паліт. дзейнасці духавенства. Арганізацыйна аформілася пасля 1922 па ініцыятыве Папы Пія XI, які вызначыў яе мэты: спрыянне ўкараненню ў грамадстве асн. ідэй каталіцкай сацыяльнай праграмы, папскіх энцыклік (пасланняў), пашырэнне грамадскай базы каталіцкай царквы, актыўны ўплыў на паліт. асяроддзе. У час парламенцкіх выбараў арганізацыі А.к. вядуць агітацыю пераважна за прадстаўнікоў каталіцкіх партый. Некаторыя з гэтых партый (Хрысціянска-дэмакратычная партыя ў Італіі, Хрысціянска-дэмакратычны саюз, Хрысціянска-сацыяльны саюз у Германіі і інш.) прыходзілі да дзярж. улады. У залежнасці ад рэгіёну і гіст. умоў дзейнасць А.к. набывае спецыфічныя рысы: у 1929—43 у Італіі ў адпаведнасці з Латэранскімі пагадненнямі яна падпарадкоўвалася рэжыму Б.Мусаліні; у Германіі дзейнічае пры епархіях як сістэма камісій па наглядзе за выхаваннем у школе, а праз сродкі масавай інфармацыі — за «маральным станам нацыі». У 1925—39 А.к. дзейнічала ў Заходняй Беларусі (пераважна суполкі пры касцёлах). Старшыні і сакратары гэтых суполак падпарадкоўваліся Віленскаму епархіяльнаму «Інстытуту акцыі каталіцкай», які ў сваю чаргу нёс адказнасць перад Ватыканам. Члены А.к. спалучалі прапаганду каталіцкіх ідэй з культурна-асветніцкай работай. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР (1939) арганізацыі А.к. забаронены як антысавецкія, а іх арганізатары і кіраўнікі ў 1949—52 рэпрэсіраваны.

*Літ.:* Ковальский Н.А. Международные католические организации. М., 1962. *А.А.Цітавец.*

АЛА́Х, Алаг (ад араб. ілах — бажаство) — імя Бога ў *ісламе*. Паводле мусульманскага веравучэння А. — творца ўсяго існага: неба, зямлі і чалавека, усемагутны валадар свету, гаспадар суднага дня; чалавек павінен яму пакарацца. А. прыпісваюць найлепшыя якасці, якія выказаны ў 99 эпітэтах (міласцівы, міласэрны, вялікі, мудры і інш.).

АЛІЛУ́Я (ад стараж.-яўр. халелуя — хваліце Бога) — у хрысціянскім богаслужэнні прыпеў царк. песнапення, ва іудаізме заклік да ўхвалення Бога. Часта трапляецца ў псалмах Давіда, Старым і Новым Запаветах.

АЛТА́Р (лац. altaria ад altus высокі) — у праваслаўі частка храма, аддзеленая перагародкай або *іканастасам*. У першабытных і стараж. народаў — узвышэнне, якое служыла месцам для прынясення ахвяр. У біблейскай гісторыі — сімвал прымірэння чалавека з *Богам*. Ант. грэкі і



Да арт. **Алтар**. Царскія вароты з Давыд-Гарадоцкай Георгіеўскай царквы. Сярэдзіна 18 ст.

рымляне ставілі А. па-за храмам, аздаблялі скульптурнымі выявамі (Пергамскі алтар). У першых хрысц. храмах А. меў выгляд стала («прастол»), на якім гатавалі і раздавалі *прычасце*; часам пад ім рабілі склепы для пахавання пакутнікаў. З 4 ст. такую ж назву атрымала частка храма, дзе знаходзіўся *ахвярнік*. У раманскай архітэктуры гал. А. каталіцкага храма размяшчаўся каля ўсх. сцяны, меў простую аздобу, у гатычнай (А.-шафка) — упрыгожваўся жывапісам, разьбой, пазалотай, паліхроміяй, у рэнесансавай — пераважна жывапісам. У эпоху барока ўзніклі ансамблі багата аформленых скульптурна-жывапісных А. у сінтэзе з архітэктурай храма. На Беларусі такія А. захаваліся ў касцёлах у Гродне, Слоніме, Дзятлаве, у вёсках Камаі Пастаўскага, Будслаў Мядзельскага, Новая Мыш Баранавіцкага р-наў, у Спаса-Праабражэнскай царкве ў в. Порплішча Докшыцкага р-на і інш.

*А.А. Ярашэвіч.*

АЛЬБЕ́РТ ВЯЛІ́КІ (Albertus Magnus), Альберт фон Бальштэт (Albert fon Bollstädt; каля 1193, г. Лаўінген — 15.11.1280) — нямецкі філосаф, тэолаг, прыродазнавец. Манахдамініканец, епіскап Рэгенсбурга, папскі легат, арганізатар крыжовага паходу на тэр. Германіі. Вучыўся ў Падуі, Балонні. Выкладаў у Парыжы, Кёльне і інш.; настаўнік *Фамы Аквінскага*. Вывучаў анатомію, эмбрыялогію, батаніку, заалогію, хімію, касмалогію, оптыку. У сваіх творах даў энцыклапедычны агляд дасягненняў тагачаснай навукі. Увёў ва ўжытак сярэдневяковай філасофіі і навукі працы Арыстоцеля, якія выкладаў і пракаменціраваў з пазіцый хрысц. тэалогіі. Сцвярджэнне пра стварэнне матэрыі і часу дало А.В. магчымасць узаконіць у рамках схаластыкі арыстоцелеву фізіку з яе вучэннем пра неперарыўнасць матэрыі як асновы змены. Поруч з сістэматызатарскай працай у галіне прыродазнаўства праводзіў уласныя даследаванні. Аўтар філасофскай працы «Сума тэалогіі», прыродазнаўчанавук.



Да арт. **Алтар**. Бакавы алтар «Ганна і Марыя з дзіцем» у Спаса-Праабражэнскай царкве ў в. Порплішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобл. 17 ст.



Да арт. **Алтар**. Галоўны алтар касцёла ў в. Камаі Пастаўскага раёна Віцебскай вобл. 1-я пал. 18 ст.

трактатаў і інш. У 1931 кананізаваны каталіцкай царквой.

АЛЬБЯРЦІ́НСКАЯ КАТАЛІ́ЦКА-ЕЗУІ́ЦКАЯ ГРУПА — місія ордэна *езуітаў* для прапаганды і распаўсюджвання ўсходне-славянскага (візантыйска-славянскага) абраду на тэр. Зах. Беларусі. Існавала ў 1924—42 у пас. Альбярцін (цяпер у межах г. Слонім). Мела на мэце адрадзіць у форме гэтага абраду царк. унію (гл. *Брэсцкая унія 1596*). Патронамі місіі былі папа рымскі Пій XI і віленскі арцыбіскуп мітрапаліт Ю.*Матулевіч* (з 1925 — Р.Ялбжыкоўскі). Непасрэдна групай кіраваў езуіцкі правінцыял у Польшчы Я.Урбан. Езуітам быў выдзелены будынак, дзе раней размяшчаліся дырэкцыі Альбярцінскіх суконнай і кардонна-папяровай фабрык; былы іх уладальнік граф У.Пуслоўскі ахвяраваў місіі значныя сродкі. У 1925 сакратар генерала ордэна езуітаў У.Пянткевіч стаў протаігуменам адкрытага там манастыра, а потым суперыёрам місіі (да 1933). Разам з ім у Альбярцін прыбыла група місіянераў-езуітаў з Францыі, Германіі, Бельгіі. 24.7.1925 Альбярцін атрымаў статус першага ў Зах. Беларусі прыхода ўсходне-слав. абраду, а ў 1926 місія зацверджана як навіцыят (установа для падрыхтоўкі да ўступлення ў члены манаскага ордэна), які заснаваў свой філіял у в. Сынковічы, а *Сынковіцкая царква-крэпасць* стала цэнтрам прыхода ўсходне-слав. абраду. У 1927—31 у Альбярцін прыбылі новыя групы навіцыяў, якія пажадалі ўступіць у ордэн езуітаў, з ліку мясцовай бел. і польскай моладзі; у канцы 1932 тут прайшлі падрыхтоўку больш за 60 святароў, а манастыр у Альбярціне і філіял у Сынкавічах мелі 25 місіянераў. У пач. 1930-х г. місія ў Альбярціне набыла новыя памяшканні, зямельны ўчастак з лесам, рэканструявала уніяцкую царкву, пачала будаўніцтва капліцы. На тэр. манастыра заснавана рэзідэнцыя жаночага ордэна «Сэрца Ісуса», манашкі якога вялі місіянерскую дзейнасць сярод дзяцей і моладзі з правасл. сем'яў. Формы дзейнасці альбярцінскіх місіянераў былі разнастайныя: правядзенне набажэнстваў ва уніяцкіх традыцыях; аднаўленне занядбаных храмаў і ператварэнне іх ва уніяцкія; пропаведзі на бел., рус. і польскай мовах за адраджэнне уніі ў новай форме; філантрапічная дапамога бедным; правядзенне тыдняў малітваў у памяць святога І.Кунцэвіча; выкладанне гісторыі уніяцтва ў школах Слонімскага пав.; выданне уніяцкай літаратуры, у тым ліку кнігі Пянткевіча «Праўда аб Альбярціне». Навіцыят наведвалі вышэйшыя каталіцкія іерархі: нунцый (папскі пасол) у Польшчы кардынал Ф.Мармаджы, польскі прымас, біскупы, кіраўніцтва ордэна езуітаў. У 2-й палавіне 1930-х г. дзейнасць навіцыята пачала занепадаць, бо «мясцовае насельніцтва ў цэлым непрыхільна ўспрыняло ідэю адраджэння царк. уніі і паралізавала ўсе намаганні». Намаганні новага кіраўніка місіі А.Неманцэвіча не стрымалі паступовага згасання езуіцкай базы ў Зах. Беларусі. У 1942 Альбярцінскі навіцыят спыніў існаванне ў сувязі з забаронай дзейнасці місіянераў нямецка-фашысцкімі акупацыйнымі ўладамі. *І.А.Фёдараў.*



Аляксій.

АЛЯКСЕ́Й — прысвятак у народным календары (адзначаўся 17 сакавіка ст.ст.). У гэты цёплы веснавы дзень (таму называлі яшчэ А. цёплы, веснавы) чакалі прылёту буслоў, у некаторых рэгіёнах пачыналі сеяць лён, авёс («Аляксей сохі чэша, хамуты строе»). У прырэчных вёсках А. лічыўся днём рыбалова, у гэты дзень дазвалялася рамантаваць сеткі («Аляксей сеці садзіць, лодкі смаліць»). Бортнікі на А. падглядалі пчол: «На цёплага Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік на хвою». *А.Ю.Лозка.*

АЛЯКСІ́Й (у свеце Сіманскі Сяргей Уладзіміравіч; 9.11.1877, Масква — 17.4.1970) — патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі [1945—1970]. Скончыў Маскоўскія ун-т (1899) і духоўную акадэмію (1904). Быў рэктарам Тульскай і Наўгародскай духоўных семінарый. У сане епіскапа з 1913. У 1943—45 мітрапаліт Ленінградскі і Наўгародскі. У 1945 на памесным саборы ў Маскве абраны патрыярхам.

АЛЯКСІ́Й II (у свеце Рыдзігер Аляксей Міхайлавіч; н. 23.2.1929, г. Талін) — патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. Скончыў Ленінградскія духоўную семінарыю (1949) і духоўную акадэмію (1953) са ступенню кандыдата багаслоўя. З 1950 святар і настаяцель царквы ў г. Іыхві Талінскай епархіі, з 1957 настаяцель Успенскага сабора г. Тарту. У 1961 пастрыжаны ў манахі, узведзены ў сан


**Аляксій II** на плошчы Перамогі ў Мінску. 1991.

архімандрыта, потым епіскапа Талінскага і Эстонскага. З 1964 архіепіскап, з 1968 мітрапаліт. З 1964 кіраўнік справамі Маскоўскай патрыярхіі, з 1986 мітрапаліт Ленінградскі і Наўгародскі. У 1990 выбраны патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі.

АМБО́Н (ад грэч. ambōn узвышэнне к а з а л ь н і ц а, п у л ь п і т) — паўкруглае і высунутае на сярэдзіну храма ўзвышэнне перад царскімі варотамі, з якога чытаюць Евангелле, гавораць казанні. Сімвалізуе камень каля труны Гасподняй, які адваліў анёл і з яго абвясціў міраносцам пра ўваскрэсенне Хрыста. А. рабілі з каменю, дрэва, металу, багата дэкарыравалі. У ранні перыяд хрысціянства А. у форме трыбуны з парапетам устанаўлівалі перад алтаром каля балюстрады, што аддзяляла хоры ад нефа; з сярэднявечча — каля левага міжнефавага ці цэнтр. слупа; у аднанефавых храмах — на сцяне. У эпоху Адраджэння А. меў пераважна акруглую ці чатырохгранную форму.

АМІНЬ (грэч. і лац. amen, ад старaж.-яўр. — «Хай будзе ісціна») — традыцыйнае заключнае слова, якім заканчваюцца малітвы і пропаведзі ў хрысціянстве і іудаізме, а таксама св. тэксты (евангеллі, пасланні і інш.). Запазычана з богаслужэння старaж. яўрэяў; па паходжанні — чарадзейнае закляцце.

АМУЛЕ́Т (лац. amuletum) — прадмет, які носіцца на целе і, на думку ўладальніка, мае магічную ўласцівасць адводзіць хваробу, засцерагаць ад ліхіх чараў. Вера ў сілу А. звязана з першабытнай *магіяй* і *фетышызмам*. У многіх народаў свету вера ў А. захавалася да нашых дзён. Гл. таксама *Талісман*.

АНАБАПТЫ́СТЫ (ад грэч. anabaptizō перахрышчваю) — перахрышчэнцы, удзельнікі радыкальнага народнасектанцкага руху эпохі *Рэфармацыі* пераважна ў Германіі, Швейцарыі, Нідэрландах. Патрабавалі паўторнага хрышчэння (у свядомым узросце), адмаўлялі царк. іерархію, асуджалі багацце, заклікалі да ўвядзення агульнай маёмасці. Удзельнічалі ў Сялянскай вайне 1524—26 у Германіі, утварылі Мюнстэрскую камуну (1534—35); разгромлены. А. пранiклі ў некаторыя бел. гарады, дзе знайшлі паслядоўнікаў сярод мясц. рамеснікаў. Асобныя элементы вучэння А. перайшлі ў дагматыку некаторых пратэстанцкіх сектаў (*баптыстаў* і *квакераў*).

АНАЛО́ГІЯ БЫЦЦЯ́ — адно з асноўных паняццяў каталіцкай філасофіі — *тамізму*, паводле якога Бог і ўсё ім створанае знаходзяцца ў суадносінах з агульным для іх быццём. *Фама Аквінскі* ўзвёў гэтую дактрыну ў фундаментальны прынцып і распрацаваў яго філасофскі змест. У 20 ст. ўклад у распрацоўку А.б., вызначэнне яго сфер і магчымасцей выкарыстання зрабілі Э.Пшывара, Ф. Ван Стэенберген, Б.Лакебрынк, К.Ранер. Сутнасць А.б. яны бачаць у тым, што паміж Богам і яго тварэннямі існуюць першапачатковыя адносіны падабенства ў адрозненнях і адрозненні ў падабенстве. Таму адносіны аналогіі могуць пераважаць толькі там, дзе няма ні поўнага падабенства, ні поўнага адрознення, а спалучаюцца адно з адным. Першасным, вызначальным прызнаецца падабенства, першакрыніца якога — стварэнне Богам сусвету і ўсяго, што ў ім існуе.


Да арт. **Амбон**. Касцёл Тройцы. Ружаны, Брэсцкая вобл. Каля 1788.

Гэта дае магчымасць філасофска-тэалагічнымі сродкамі абгрунтаваць быццё Бога як першакрыніцу створанага сусвету розных падабенстваў, сярод якіх самае набліжанае да творчай магутнасці стваральніка — творчая дзейнасць чалавека. Але яе нельга атаясамліваць з творчым актам стварэння, бо яна толькі набліжаецца да яго паводле падабенства (аналогіі). *Я.М.Бабосаў.*

АНАЛО́Й, н а л о й (ад грэч. analogeion) — адмысловы столік з накрыўкай, на які кладуць абразы, крыж, богаслужэбныя кнігі ў час іх чытання ў правасл. храмах.

АНА́ФЕМА (ад грэч. anathēma праклянцце) — царкоўнае праклянцце; найвышэйшая кара ў хрысціянстве, звязаная з адлучэннем ад царквы асобы, якая адвяргае ці скажае асновы веравучэння і не выказвае жадання пакаяцца ў гэтым. Устаноўлена з часу Халкідонскага ўсяленскага сабора (451). А. абвяшчаецца на царк. саборах, а таксама ў храмах падчас богаслужэння (напр., у канцы 1-га тыдня вялікага посту ў правасл. царкве).

АНДРЭ́Й — прысвятак народнага календара, які адзначаўся 30 лістапада ст. ст. (хрысціянскае свята апостала Андрэя Первазванага). Адметнае *варажбой*, якую наладжвала моладзь (дзяўчаты звычайна варажылі на суджанага). Акрамя агульных форм варажбы (выліванне на ваду расплаўленага воску, выкраданне мужчынскага адзення і г.д.), у гэты дзень дзяўчаты, загадваючы на суджанага, «высявалі» насенне лёну ці канапель ля калодзежа або ў пасцелі і прыгаворвалі: «Святы Андрэю, канапелькі сею, дай мне знаць, з кім буду век каратаць» (калі кінутае ў агародзе насенне вясной добра прарастала, гэта абяцала дзяўчыне шчаслівы шлюб). Каб жаданні лепш збываліся, дзяўчаты цэлы дзень стараліся вытрымліваць пост і пазбягалі размоў. *У.А.Васілевіч.*

АНДРЭ́Й (В а с і л а, В і с і л а, А н д р э й П а л я к; ? — 1398) — рэлігійны дзеяч, першы віленскі біскуп у ВКЛ [1388—98]. Вучыўся ў Гнезне, служыў у Кракаве. З 1374 сакратар і казначэй пры двары польскага караля. Садзейнічаў шлюбу каралевы Ядвігі з Вялікім кн. ВКЛ Ягайлам. У 1386 Ягайла даў згоду на ўтварэнне Віленскага каталіцкага біскупства і прызначэнне А. біскупам. У 1392 А. каранаваў Вітаўта на ВКЛ. Заручыўшыся яго падтрымкай, праводзіў палітыку пашырэння каталіцызму на тэр. ВКЛ. Аднак быў вымушаны прызнаць таксама праваслаўе, бел. мову, паліт. незалежнасць ВКЛ ад Польшчы.

АНДРЭ́Й (свецкае К р ы т Аляксандр; 3.7.1901, каля г. Стоўбцы Мінскай губ.— 25.5.1983) — беларускі рэлігійны дзеяч. Да 2-й сусв. вайны жыў у Заходняй Беларусі, пасля вайны — у Германіі, Вялікабрытаніі: святар у правасл. прыходах, адміністратар Вікарыяльнай управы *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі* (БАПЦ). З 1961 жыў у ЗША: настаяцель прыхода св. Жыровіцкай Маці Божай у г. Кліўленд (ініцыятар рэліг. навучання дзяцей-беларусаў, вывучэння гісторыі царквы на Беларусі), з 1969 епіскап, з 1970 архіепіскап епархіі. З 1972 мітрапаліт БАПЦ у Паўн. Амерыцы. *А.У.Языковіч.*

АНІМАТЫ́ЗМ (ад лац. animatus адушаўлёны) — вера ў безасабовую адушаўлёнасць прыроды або асобых яе частак і з'яў; характэрная рыса першабытных рэлігій. А. адрозніваюць ад гілазаізму і *анімізму*.

АНІМІ́ЗМ [ад лац. anima (animus) дух, душа] — сістэма ўяўленняў і вераванняў аб духах і душы як вызначальных пачатках свету і чалавечага жыцця. Тэрмін А. уведзены ў этнаграфічную навуку англійскім вучоным Э.Б.Тайларам для характарыстыкі першабытнага светапогляду, які ўзняўся да празпастаўлення бачнага і нябачнага (незямнога) свету. А. — характэрная адзнака ўсякай рэлігіі. Анімістычныя вобразы (душы, духі, дэманы, чэрці і інш.) узніклі як увасабленне незразумелых стыхій, што пагражалі чалавеку, з'яў і працэсаў, непасрэдна звязаных з яго існаваннем. У адпаведнасці з характэрным для архаічных вераванняў антрапамарфізмам духі надзяляліся чалавечымі рысамі і якасцямі. Персаніфікацыя прыродных сіл на пэўнай ступені развіцця грамадства служыла формай іх засваення, уключэння ў свет чалавечай культуры. У слав. язычніцтве адлюстраваннем дуалістычнага А. паляўнічых плямён каменнага веку быў культ «крывацмокаў і берагіняў». Пераход да земляробства абумовіў з'яўленне культур «роду і парадзіх» (Лады і Лёлі), які існаваў да 17 ст. Да хрысціянізацыі Кіеўскай Русі ў язычніцкі пантэон славян уваходзілі багі-духі: Пярун (бог грому і маланкі, заступнік воінаў), Сварог (бог неба), Ярыла, Дажбог (багі сонца), Мокаш, Цёця (багіні ўрадлівасці), Зюзя (бог холаду), Вялес (апякун жывёлагадоўлі) і інш.

З А. звязана частка народных вераванняў беларусаў, многія абрады і звычаі. Напрыклад, *«дзяды»* (памінанне продкаў), «завіванне барады» (у дажынках). Вобразамі бел. нар. дэманалогіі з'яўляюцца духі прыроды (палявік, вадзянік, лясун, жыцень і інш.), хатнія духі (дамавік), злыя духі (чорт) і інш. Анімістычныя ўяўленні адлюстраваны ў бел. фальклоры, нар. традыцыях, святах, трапілі ў больш познія рэліг. вераванні.

*Літ.:* Т а й л о р Э. Первобытная культура: Пер. с англ., М., 1989; Р ы б а к о в Б.А. Язычество Древней Руси. М., 1987.

*Г.У.Грушавы.*



Святы **Антоній Пячэрскі.** Медыярыт Л.Тарасевіча. 18 ст.

АНІСІ́ФАР (прозвішча П я т р о в і ч - Д з е в а ч к а; ? — 1592 ці 1594) — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсея Русі. Паходзіў з галіцкай шляхты. Пасля 1568 архімандрыт *Лаўрышаўскага манастыра* (каля г. Навагрудак). У 1579 абраны мітрапалітам, ад караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя атрымаў у пажыццёвае ўладанне і кіраванне віленскі Святатроіцкі манастыр, дамогся зацвярджэння пры ім правасл. брацтва (1584). Кіраваў правасл. царквой ВКЛ у цяжкіх умовах унутранага крызісу і наступу каталіцызму. Жыў пераважна ў Навагрудку. Садзейнічаў выданню ў віленскай друкарні Мамонічаў «Службоўніка» (1583). Дамогся ад караля Стафана Баторыя пацвярджэння незалежнай юрысдыкцыі правасл. царквы (1585) і дазволу спраўляць царк. святы паводле юліянскага календара (1586). У 1589 пазбаўлены сану канстанцінопальскім патрыярхам за парушэнне кананічнага правіла (быў двоюжонцам), а мітрапалітам прызначаны прыхільнік уніі з рымска-каталіцкай царквой М.*Рагоза*. У 1590 А. адмовіўся ад правоў на Святатроіцкі манастыр, але застаўся архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра, дзе і памёр.

*І.В.Нікалаеў.*

АНТО́НІЙ, А н т о н і (у свеце М е л ь н і к а ў Анатоль Сяргеевіч; 19.2.1924, Масква — 29.5.1986), дзеяч і гісторык праваслаўнай царквы на Беларусі. Д-р багаслоўя honoriz cauza (1981). Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію (1950). З 1956 архімандрыт *Жыровіцкага Успенскага манастыра*, рэктар Мінскай (1956—63), пазней Адэскай духоўных семінарый. У 1964—65 епіскап белград-дністроўскі (Украіна). З мая 1965 епіскап, з кастрычніка 1965 архіепіскап, з 1975 мітрапаліт мінскі і беларускі. У 1978—86 мітрапаліт ленінградскі і наўгародскі. Тэма дысертацыі на ступень магістра багаслоўя — «Жыровіцкі манастыр у гісторыі заходніх рускіх епархій» (1965; не апубл.); сабраны звесткі па гісторыі праваслаўя на Беларусі ў 1917—62. Склаў спіс жыровіцкіх архімандрытаў (звесткі пра стараж. перыяд гісторыі Жыровіцкага манастыра запазычыў у П.М.Жуковіча). Даследаваў стараж.-рус. жывапіс. Збіраў калекцыю стараж. бел. ткацтва.

*Тв.:* Преподобная Ефросинья Полоцкая // Богословские труды. 1972. Сб. 9; Из истории новгородской иконографии // Тамсама. 1986. Сб. 27; Миссия Русской православной церкви в прошлом и настоящем // Журн. Московской патриархии. 1982. № 5; Жировицкая святыня // Вестн. Белорусского Экзархата. 1990. № 3.

*Літ.:* Ч и ж о в А. Высокопреосвященный митрополит Ленинградский и Новгородский Антоний (Мельников) // Журн. Московской патриархии. 1986. № 10.

*В.В.Антонаў, М.В.Нікалаеў.*

АНТО́НІЙ ПЯЧЭ́РСКІ (у свеце Антон; 983—1073) — адзін з заснавальнікаў Кіева-Пячэрскай лаўры і пачынальнікаў рускага манаства. Нарадзіўся і жыў у г. Любеч (паблізу Чарнігава). Паводле падання, манаства прыняў на Афоне, потым вярнуўся ў Кіеў, дамогся ў кіеўскага князя дазволу адкрыць манастыр на ўзор афонскага. Кананізаваны Рус. правасл. царквой.

АНТРАПАМАРФІ́ЗМ (ад антрапа... + грэч. morphē форма, від) — прыпадабненне да чалавека, надзяленне чалавечымі ўласцівасцямі прадметаў і з'яў нежывой прыроды, нябесных цел, жывёлін, міфічных істот. Узнік як першапачатковая форма светапогляду чалавека на ранніх ступенях развіцця грамадства (гл. *Анімізм*). А. уласцівы большасці рэліг. уяўленняў пра багоў і інш. звышнатуральных істот (багі т.зв. вышэйшых рэлігій, язычніцкія багі і інш.). Антрапаморфныя паняцці выкарыстоўваюць у сучаснай навук.-тэхнічнай л-ры (камп'ютэр «запамінае», «рашае задачу» і г.д.), выяўл. мастацтве, паэзіі, прозе («зямля спіць», «мора хвалюецца»).

АНТРАПАСО́ФІЯ (грэч. antrōpos чалавек + sophia мудрасць) — акультна-містычнае вучэнне пра чалавека як носьбіта таямнічных духоўных сіл; разнавіднасць *тэасофіі*. Заснавальнік А. нямецкі філосаф-містык Р.Штайнер стварыў у 1913 антрапасофскую школу з мэтай выхавання ў юнакоў уменняў «духоўнага сузірання», каб самыя таямнічыя з'явы станавіліся даступнымі для ўспрымання. Паводле гэтага вучэння, пазнанне чалавекам свету адбываецца праз самапазнанне — у трыадзінстве цела, душы і духу; духам кіруе закон пераўвасаблення (рэінкарнацыя). У асобным жыцці чалавечы дух паўтарае сам сябе з улікам

ранейшых уражанняў і перажыванняў. Чалавечае цела кіруецца законам наследавання, душа — створаным ёю самой лёсам (карма). Пасля смерці сувязь духу і душы захоўваецца, пакуль душа не вызваліцца ад цела. У сацыяльна-паліт. жыцці А. зыходзіць з раздраблення сацыяльнага арганізма на самастойныя сферы: дзяржаву, правасуддзе, эканоміку. У 1-й трэці 20 ст. вучэнне А. стала пашыраным у шэрагу краін Еўропы. Пэўны ўплыў яно зрабіла на дзеячаў культуры і мастацтва (А.Белы, В.Кандзінскі, І.Валошын, Б.Вальтэр і інш.). Цікавасць да А. ажывілася і ў апошняй трэці 20 ст., асабліва ў ЗША, еўрап. краінах. У апошнія гады распаўсюдзілася на Беларусі, гал. чынам гэтаму садзейнічалі аднаўленне цікавасці да тэасофскіх ідэй А.Блавацкай і ўзнікненне суполак крышнаітаў.

*Я.М.Бабосаў.*

АНТЫКЛЕРЫКАЛІЗМ (грэч. anti + лац. clericalis царкоўны) — ідэйная плынь, скіраваная супраць прэтэнзій царквы на кіраўнічую ролю ў грамадстве. А. імкнецца падарваць аўтарытэт духавенства, абмежаваць яго ўздзеянне на людзей. Адыграў значную ролю ў аслабленні рэліг. ўплыву на грамадскае жыццё, на светаўспрыманне людзей. У адрозненне ад *атэізму* А. не аспрэчвае рэліг. веру, а толькі змагаецца з засіллем царквы ў грамадскім жыцці. Найб. ролю А. адыграў у сярэднія вякі, калі барацьба супраць афіц. царквы зліваліся з антыфеадальнымі выступленнямі нар. мас. Ідэолагі рэвалюцыйнай буржуазіі выкарыстала А. як зброю ў барацьбе з феадальнай дзяржавай. Пашыраныя спосабы антыклерыкальнай дзейнасці: дыскрэдытацыя царк. служыцеляў, адмаўленне царк. абрадаў, прадпісанняў, дзеянняў, скіраваных на ўзмацненне ўлады і памнажэнне багаццяў клерыкалаў. Традыцыі А. на Беларусі ўзыходзяць да сярэдневяковых ерасей. Прадстаўнікі гуманістычна-асветніцкай культуры Адраджэння (М.Гусоўскі, Ф.Скарына, С.Будны, Л.Зізаній і інш.) садзейнічалі пашырэнню свецкіх ведаў, змене поглядаў на царкву, царк. абрады і рэліг. артадоксію. У гісторыі бел. А. найб. выразнай і багатай з'яўляецца парадыйная літаратура 17—19 ст.

*Г.У.Грушавы.*

АНТЫТРЫНІТАРЫІ (ад грэч. and супраць і лац. trinitas тройца), прыхільнікі хрысц. плыняў і абшчын, якія адмаўляюць догмат пра трыадзінства Бога (Тройцу). Рух і вучэнне А. бяруць пачатак у 2—3 ст., калі ўсталёўваліся асн. догматы *хрысціянства*. Вучэнне асуджана Усяленскімі саборамі, але ў сярэднія вякі яго прытрымліваліся прыхільнікі наміналізму (філасофскі напрамак, які адмаўляў існаванне агульных паняццяў), асобныя ерэтычныя рухі. Нярэдка ідэі антытрынітарызму былі своеасаблівай праявай вальнадумства. У сваіх поглядах яны асноўваліся на вучэнні неаплатанізму і пантэізму, зыходзілі з таго, што першапачатковае хрысціянства не прадпісвала ніякіх догматаў. Веру ў Тройцу яны лічылі лагічным непаразуменнем, народжаным недасканаласцю схаластычнага мыслення. З адмаўленнем Тройцы А. спалучалі пераасэнсаванне боскай прыроды Хрыста, што падрывала хрысц. версію замагільнага жыцця. Многія А. лічылі смерць натуральным працэсам, Святы дух трактавалі не як самастойную субстанцыю, а як атрыбут Бога-айца. Яны патрабавалі ўзгаднення палажэнняў рэлігіі з розумам, адстойвалі права кожнага чалавека свабодна чытаць і інтэрпрэтаваць Біблію.

Пашырэнне ідэй антытрынітарызму на Беларусі ў 16 ст. звязана з рэфармацыйным рухам у Зах. Еўропе, прадстаўнікі якога (Г.Бляндрата, П.Альтыяці, В.Джэнтылі і інш.) наведвалі Беларусь. Умацаванню руху А. на Беларусі садзейнічалі таксама творы іспанскага мысліцеля М.Сервета «Сем кніг памылковых поглядаў на Тройцу», «Аднаўленне Хрысціянства» і інш. На аснове рэліг. рацыяналізму А. фарміравалася айчынная атэістычная думка (К.Бекеш, С.Лован, Ф.Даманеўскі, Ян Ліцыній Намыслоўскі, К.Лышчынскі і інш.). У 16 ст. ў руху А. на Беларусі ўтварыліся 2 кірункі: памяркоўны і радыкальны. Прадстаўнікі першага (С.Будны, В.Цяпінскі і інш.) для абгрунтавання сваіх поглядаў выкарыстоўвалі ант. спадчыну і абвяргалі апалагетыку схаластыкі, якая пры дапамозе сафістыкі імкнулася абараніць хрысц. догматы. Яны адзначалі непазбежнасць сацыяльнага расслаення грамадства, выступалі ў абарону дзярж. ладу, былі прыхільнікамі яго паступовага ўдасканалення. Ідэолагі радыкальнай плыні (Якуб з Калінаўкі, Пётр з Ганёндза, Павел з Візны, М.Чаховіц), якія адстойвалі інтарэсы і грамадскія ідэалы народных мас, імкнуліся не да рэформаў, а да радыкальных сацыяльна-паліт. пераўтварэнняў, выступалі супраць прыватнай уласнасці, саслоўных прывілеяў, сацыяльнай і маёмаснай няроўнасці, патрабавалі скасавання дзярж. інстытутаў. Большасць з іх адмоўна ставілася да філасофскай і тэалагічнай спадчыны, прызнавала толькі аўтарытэт Свяшчэннага пісання і асабістай веры. Важную ролю ў рацыяналізацыі дактрыны А., ператварэнні яе з рэліг. у філасофскую адыграла пашырэнне на Беларусі вучэння *сацыніян*. А. зазналі ганенне каталіцкай царквы і артадаксальнага пратэстантызму. У 1647 друкарні і школы А. зачынены, а ў 1658—60 іх паслядоўнікі выгнаны з Рэчы Паспалітай. Вучэнне А. працягвае існаваць, яго прытрымліваюцца многія пратэстанцкія абшчыны.

*Літ.:* Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Саверчанка І.В. Сымон Будны: Гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993.

*С.А.Яцкевіч.*

АНТЫХРЫСТ — у хрысціянскай міфалогіі і тэалогіі праціўнік Ісуса Хрыста, які павінен з'явіцца ў канцы гісторыі (гл. *Эсхаталогія*) і ўзнача-


Да арт. **Апосталы**. Абраз «Сашэсце Духа Святога». 18 ст.


Да арт. **Апосталы**. Сашэсце Святога Духа на апосталаў. Зёлаўскі майстар. 2-я пал. 18 ст. Беларуская іканапісная школа.

ліць тайную татальную вайну супраць хрысціянства, але ён будзе пераможаны ў час 2-га прышэсця Хрыста на Зямлю. Прароцтвы антыхрыста ёсць у старазапаветных кнігах Біблii, яго прыход сімвалічна апісаны і ў Новым Запавеце. Ён увасабляе даўнюю варожасць «анёлаў цемры» да хрысціянства, поўнае адмаўленне хрысц. веры і маралі. Уяўляецца магутным чалавекам, надзеленым дэманічнай сілай *Д'ябла*, які прыходзіць у зманлівым абліччы Хрыста. Паводле сцвярджэнняў апостала Паўла, у царстве антыхрыста людзі будуць самалюбівыя, зламоўныя, абыякавыя да любові і дабра, нахабныя, больш палюбяць раскошу, чым Бога. Антыхрыст — увасабленне дэманічнага пачатку ў чалавеку і грамадстве, спроба ўсталяваць бязбожную ўладу на зямлі і космасе. Міфу пра антыхрыста прысвечаны фрэскі Л.Сіньярэлі, гравюры Л.Кранаха Старэйшага; аблічча антыхрыста апісаў *Сімяон Полацкі* ў творы «Жазло праўлення» (1667) і інш. *У.М.Конан.*

АНУ́ФРЫЕЎСКІ МАНАСТЫ́Р — адзін са старажытных манастыроў на Беларусі. Існаваў у 15—19 ст. у в. Ануфрыева (з 1976 в. Сялец Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.). Паводле царк. падання засн. ў 1407 мсціслаўскім князем Сямёнам Лугвенам Альгердавічам у глухім лесе, на месцы, дзе яго маламу сыну Юрыю з'явіўся св. Ануфрый і паказаў дарогу дадому. У 1635 кароль Уладзіслаў IV зацвердзіў манастыр за уніятамі. Яго ігуменам лічыўся тытулаваны архіепіскап смаленскі і северскі. Да сярэдзіны 18 ст. ўсе будынкі, у т.л. царква св. Ануфрыя, былі драўляныя. У апошняй чвэрці 18 ст. пабудавана мураваная царква і да яе далучаны корпус манастыра. Манастыру належаў суседні фальварак, у 1809 манастыр перададзены ваеннаму ведамству. Паводле інвентара 1817 бібліятэка налічвала 302 кнігі, у т.л. рукапісныя. Манастыр зачынены ў час скасавання Брэсцкай царк. уніі. Зальны храм з высокай франтальнай вежай стаў прыходскай царквою, захаваўся ў напаўразбураным стане. Помнік архітэктуры. *А.А.Ярашэвіч.*

АПАКА́ЛІПСІС (грэч. apokalypsis літаральна — адкрыццё) — адна з кніг *Новага Запавету* (Адкрыццё святога Іаана Багаслова), напісаная ў 68 — пач. 69 н.э. *Іаанам Багасловам*. У ёй у форме бачанняў, пасланых Богам, апісаны будучы лёс свету і чалавецтва. Гал. ідэя А. — чаканне страшнага Божага суда, калі на грэшнае чалавецтва абрынуцца сусветныя катастрофы. Рэлігійна арыентаваныя тлумачальнікі разглядаюць А. як прарочую кнігу пра апошнія часы свету і здарэнні, што павінны адбыцца напярэдадні 2-га прышэсця Хрыста на зямлю. Праз увесь яго тэкст праходзіць сакральная лічба 7 (7 цэркваў, 7 зорак у руцэ Бога, 7 анёлаў, што выліваюць на грэшнікаў 7 чаш Божага гневу, і г.д.). Сямікратнае памнажэнне бедстваў і катастроф прызначана выклікаць у чытача свяшчэнны жах перад непазбежным сканчэннем свету. Пасля Чарнобыльскай катастрофы шматлікія тлумачальнікі апакаліптычных прароцтваў, у т.л. на Беларусі, пачалі звязваць трубныя гукі трэцяга анёла, што апавяшчае пра падзенне на зямлю вялікай зоркі пад назвай «палын» (усходнеслав. «чарнобыль»), з біблейскім прадказаннем гэтай самай згубнай у гісторыі чалавецтва катастрофы — нац.

трагедыі бел. народа. Акрамя інтэрпрэтацыі А. як страшнага суда і канца свету яго яшчэ тлумачаць як абяцанне тысячагадовага шчасця пасля такога суда. У шырокім сэнсе А. — буйнамаштабнае бедства, пагроза пагібелі чалавецтва, культуры, навакольнага асяроддзя. А. часта асацыіруецца з крызісам або канцом цывілізацыі, экалагічнымі катастрофамі, ядзернай вайной. *Я.М.Бабкоў.*

АПАЛАГЕ́ТЫКА (ад грэч. apologētikos абараняльны) — раздзел хрысціянскага багаслоўя, які пры дапамозе аргументаў, звернутых да розуму і свядомасці чалавека, адстойвае веравучэнне; у вузкім сэнсе — галоўнае багаслоўе, грунтоўная тэалогія. Асновы А. закладзены ў 2—3 ст. Юсцінам, Тацыянам, Арыгенам, Тэртуліянам і інш. для абароны хрысціянства ад іудзейства, «язычніцтва» (пад ім разумелася ант. філасофія), дзярж. улады, ерасей. Пашырана гал. чынам у праваслаўі і каталіцызме. Змест А. — інтэрпрэтацыя сутнасці рэлігіі, абвяржэнне накіраваных супраць яе абвінавачванняў, абгрунтаванне перавагі пэўнай канфесіі. Апелюючы да розуму, А. ўсё ж лічыць, што нават лагічна абгрунтаваная сістэма догматаў павінна прымацца на веру, бо вера ў тэалогіі лічыцца вышэйшай за розум.

АПО́КРЫФЫ (ад грэч. apokryphos таемны, запаветны) — мастацкія аповесці ў сярэдневяковых літаратурах, сюжэтна звязаныя з *Бібліяй*, жыціямі святых, легендамі пра рай, пекла, канец свету. Забараняліся царквой як некананічныя. У дахрысц. і раннехрысц. часы А. лічылі кнігамі вялікай мудрасці, глыбокі і патаемны сэнс якіх быў даступны не кожнаму. З пашырэннем *ерасяў* А. сталі называць творы ератычнага кірунку. Царк. цэнзура складала індэксы «фальшывых» кніг, якія падлягалі знішчэнню. У перыяд Кіеўскай Русі на ўсх.-слав. землях шырокую вядомасць набылі А. пра стварэнне Богам Адама, пра цара Саламона, «Хаджэнне Багародзіцы па пакутах» (у бел. апрацоўцы 15 — 16 ст. — «Аб дванаццаці пакутах»), «Страцім-птушка», апакрыфічныя евангеллі Іакава, Фамы, Нікадзіма. У А. адлюстроўваліся нар. ўяўленні эпохі феадалізму пра светаўладкаванне, пошукі праўды і дабра. А. паўплывалі на некаторыя жанры бел. фальклору (казкі, духоўныя вершы). Матывы А. выкарыстоўваў М.Багдановіч («Апокрыф», «Страцім-лебедзь»). *Л.Л.Карпткая.*

АПО́СТАЛЫ (ад грэч. apostolos пасланец) — вандроўныя прапаведнікі, арганізатары і духоўныя настаўнікі хрысціянскіх абшчын у часы ранняга хрысціянства. Разам з вуснымі пропаведзямі А. звярталіся да хрысціян з пасланнямі па пытаннях веравучэння. У Новым Запавеце названы 12 А., вучняў і першых паслядоўнікаў Ісуса Хрыста: Сымон (Пётр), Андрэй, Варфаламей, Іаан, Матфей, Сымон Зілот, Фадзей (або Іуда, сын Іакава), Філіп, Фама, Іаакаў (сын Алфея), Іаакаў (сын Зяведзея і брат Іаана), Іуда Іскарыёт, які выдаў Хрыста. Паводле Дзеянняў святых апосталаў, пасля смерці Ісуса яго вучні, каб захаваць лічбу 12, якая ў іудзеяў лічылася свяшчэннай, замест Іуды Іскарыёта абралі апосталам Матфія. Апосталам называў сябе і *Павел*, хоць ён не быў вучнем Ісуса. Дзейнасці 12 А. і Паўла хрысц. паданне прыпісвае заснаванне першых хрысц. абшчын. Найб. гістарычна рэальная фігура з іх — Павел. Пра астатніх звестак вельмі мала, гал. чынам з апакрыфічных дзеянняў асобных апосталаў, створаных не раней канца 2 ст. н.э.

АРА́БСКАЕ ПІСЬМО́ на Беларусі — уласна арабская сістэма пісьма, дастасаваная да беларускай фанетыкі. Такое А.п. створана татарамі, якія ў 14—15 ст. пасяліліся ў ВКЛ, у тым ліку і на Беларусі, і паступова пачалі карыстацца бел. мовай. Для абазначэння некаторых гукаў, якіх няма ў арабскім пісьме, былі створаны спец. літары, напр., для перадачы мяккіх «дз» і «ц», гукаў «ж», «ч», «п». У выніку з'явіліся рукапісныя помнікі, напісаныя А.п. на бел. мове: *кітабы, тэфсіры, хамаілы, тэджвіды*. Некаторыя фанетычныя асаблівасці бел. мовы ў гэтых помніках адлюстраваны лепш, чым у тэкстах, запісаных кірыліцай або лацінкай.

*Літ.:* Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Фридрих М. История письма: Пер. с нем. М., 1979; Павленко Н.А. История письма. 2 изд. Мн., 1987. *Ю.А.Крыніцкі.*

АРСЕ́НЬ Бярло — украінскі і беларускі праваслаўны рэлігійны дзеяч. У 1728 архімандрыт Кіеўскага Межагорскага манастыра, у 1728 або 1730—1733 епіскап Аршанскі, Мсціслаўскі і Магілёўскі. Выбраны на Магілёўскую епархію Магілёўскім правасл. брацтвам. У снеж. 1728 паводле распараджэння Кіеўскага мітрапаліта Варлаама прызначаны адміністратарам Магілёўскай епархіі, пазней (паводле розных крыніц, у 1728 ці ў 1730) пасвячоны ў епіскапы. Выбранне А. адбылося на-



Да арт. **Арабскае пісьмо.** Фрагмент Аль-Кітаба.

суперак волі праўніяцкі настроенай часткі мясцовага духавенства. У Магілёве яго сустрэлі непрыхільна і не дапусцілі да кіравання епархіяй. Магілёўская епархія, адзіная ў гэты час праваслаўная епархія на Беларусі, знаходзілася ў цяжкім становішчы, бо адчувала на сабе ціск пэўных колаў Рэчы Паспалітай, што жадалі ліквідаваць яе і ператварыць ва уніяцкую. А. не быў зацверджаны каралеўскім прывілеем, бо ён быў «не з Беларусі і не са знатнага шляхецкага роду...». Аб яго зацвярджэнні на епіскапства перад каралём Рэчы Паспалітай хадайнічалі рас. імператар Пётр II і двойчы імператрыца Ганна Іванаўна. Кароль Аўгуст II маніфестам ад 29.7.1730 забараніў называць яго Магілёўскім епіскапам. У 1733 новы кароль Аўгуст III таксама не прызнаў А. епіскапам і таму ён у студз. 1733 быў пераведзены на кафедру Пераяслаўскую і Барыспальскую (Левабярэжная Украіна).

*Літ.:* Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. Мартос А. Беларусь в исторической и церковной жизни. Мн., 2000. *І.А.Пушкін.*

АРТАДО́КСІЯ (ад грэч. orthodoxia правільная думка) — цвёрдая паслядоўнасць, прыхільнасць да традыцый, асноў якога-небудзь вучэння, светапогляду, якая цалкам выключае нават нязначныя адхіленні. А. ў рэлігіі — прававерʼе, няўхільнае прытрымліванне традыц. вучэння царквы. Паняцце А. ўзнікла ў хрысціянстве ў 2 ст. З узнікненнем першых *ерасей* тэрмін выкарыстоўваецца як супрацьпастаўленне іншаверʼю.

АРХА́НГЕЛЫ («анёланачальнікі») — у хрысціянскіх уяўленнях старэйшыя *анёлы*; у сістэме анёльскай іерархіі, распрацаванай візант. багасловам Псеўда-Дыянісіем Арэапагітам (5 — пач. 6 ст.), А. — восьмы з дзесяці чыноў анёльскіх (займаюць іерархічнае месца ніжэй улад і вышэй уласна анёлаў). Тэрмін «А.» ўпершыню зʼявіўся ў грэкамоўнай іудзейскай літаратуры перадхрысц. часу (грэч. звод «Кнігі Яноха» 20, 7) як перадача выразаў накшталт sar haggadol («вялікі князь») у дачыненні да Міхаіла (вялікага анёла) старазапаветных тэкстаў (Данііл, 12, 1). Пазней гэты тэрмін успрыняты новазапаветнымі аўтарамі і больш позняй хрысц. літаратурай. Стараж. паданне, што ўзыходзіць да старазапаветных уяўленняў, гаворыць аб сямі А.; з іх агульнапашыраная артадаксальная традыцыя называе па імёнах траіх: Міхаіл — нябесны «архістраціг» (грэч. «вярхоўны военачальнік»), палкаводзец верных Богу анёлаў і людзей у касмічнай вайне з ворагамі Бога, перамоганосны антаганіст Дʼябла (Апакаліпсіс, 12, 7), апякун і быццам бы анёл-захавальнік «народа Божага» (у Старым запавеце — Ізраіля, у Новым запавеце — «ваяўнічай царквы», гэта значыць сукупнасці ўсіх вернікаў); Гаўрыіл, вядомы пераважна сваім удзелам у дабравешчанні *Багародзіцы*; Рафаіл — А.-лекар, спадарожнік Товії са старазапаветнай Кнігі Товіта. У познаіудзейскіх і хрысц. апокрыфах сустракаюцца і інш. імёны А.: Урыіл, Салафііл, Іегудыіл, Варахііл, Йерэмііл.



Да арт. **Архангелы**. Сабор архангела Міхаіла. 17 ст. Беларуская іканапісная школа.

АРХІЕПІ́СКАП (ад грэч. archi старэйшы, галоўны + episkopos наглядчык) — духоўная асоба вышэйшай (трэцяй) ступені хрысц. царк. іерархіі. У 2—3 ст. з *епіскапаў*, роўных па сваёй уладзе, вылучыліся гал. епіскап (архіепіскап), якому давалася права царк. нагляду над іншымі. У Апостальскіх правілах (агульнахрысц. кодэкс, які складваўся на працягу 1—3 ст. і рэгуляваў рэліг.-царк. паводзіны недухоўных і духавенства) сцвярджалася: «Епіскапам усялякага горада належыць ведаць першага з іх і прызнаваць яго як галаву і нічога, што перавышала б іх уладу, не рабіць без яго развaжання». Упершыню тытул А. прысвоены епіскапу Александрыйскаму. З заснаваннем *патрыярхатаў* (4 ст.) тытул А. прысвойваўся *патрыярхам* і *мітрапалітам* аўтакефальных епархій. У *пратэстантызме* тытул А. даецца кіраўнікам цэркваў асобных краін. Першы на Русі тытул А. атрымаў епіскап наўгародскі Ніфлот у 1165. Тытул А. насілі і праваслаўныя іерархі ў бел. землях: полацкі А. Феадосій згадваецца ў Саборнай грамаце 1415 пра вылучэнне мітрапалітам Грыгорыя *Цамблака*.

АРХІМАНДРЫ́Т (ад грэч. archi старшы і mandra аўчарня; духоўная аўчарня) — вышэйшы духоўны сан у манахаў праваслаўнай царквы. У А. пасвячаюць настаяцеляў вялікіх мужчынскіх манастыроў, рэктараў духоўных семінарый, кіраўнікоў духоўных місій; таксама некаторых манахаў за асаблівыя заслугі перад царквою.

АРХІМАНДРЫ́Я — 1) буйны мужчынскі манастыр на Беларусі, настаяцель якога насіў тытул *архімандрыта*. Да прыняцця Брэсцкай уніі 1596 настаяцелі манастыроў прызначаліся мітрапалітам або епіскапамі і залежалі ад іх. Пасля абвяшчэння уніі ўсе манастыры, якія прынялі яе, у т.л. і А., утварылі асобную кангрэгацыю — базыльянскі ордэн (гл. *Базыльяне*). Настаяцелі А. прызначаліся генералам ордэна або архімандрытам. Найб. вядомыя А.: Слуцкі Святой Тройцы, Пінскі Ляшчынскі, Лаўрышаўскі (Навагрудскі р-н), Віленскі Святадухаўскі. 2) Манастыр, які атрымаў фундуш ад вялікага князя ВКЛ або магната і паводле фундушовага запісу падлягаў кціtарскаму праву. Манастыр, які атрымаў фундуш ад вялікага князя ВКЛ або караля Рэчы Паспалітай належаў да ліку каралеўскіх бенефіцый і мог быць ахвяраваны духоўнай, а іншы раз і цывільнай асобе ў пажыццёвае ўладанне за пэўныя заслугі. Напр., у 1570 Жыгімонт II Аўгуст аддаў ва ўладанне шляхціца Бакі Мінскі манастыр Ушэцця; у 1576 гэты манастыр перададзены шляхціцу Стафану Дастаеўскаму. *Г.А.Кушчык.*

АРХІПА́СТЫР — агульная назва для свяшчэннаслужыцеляў вышэйшай (трэцяй) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі: *епіскапаў, архіепіскапаў, мітрапалітаў, экзархаў, патрыярхаў*. Выкарыстоўваецца нароўні з назвамі «*архірэй*», «іерарх».

АРХІРЭ́Й (ад грэч. archi старэйшы, галоўны + + hiereus святар) — агульная назва духоўных асоб вышэйшай (трэцяй) ступені хрысц. царк. іерархіі. Уключае *епіскапаў, архіепіскапаў, мітрапалітаў, экзархаў, патрыярхаў*. Бываюць епархіяльныя (якія правяць) і вікарныя (іх памочнікі). Сінонімы тэрміна «А» — архіпастыр, іерарх.

АРЦЕ́МІЙ, Троіцкі (?—1570) — рускі царкоўны дзеяч і публіцыст, прадстаўнік рэлігійнага вальнадумства, прыхільнік *несцяжацельства*. З 1536 манах у Парфір'евай пустыні каля Кірыла-Белазерскага манастыра. Узвысіўся пры цару Іване IV, перапісваўся з ім. У 1551 прызначаны ігуменам Троіца-Сергіева манастыра, у 1552 самавольна вярнуўся ў Парфір'еву пустынь. Выступаў супраць прыхільнікаў манастырскага землеўладання. У 1553 выкліканы на царк. сабор сведкам па справе рус. вальнадумца М.Башкіна. У 1554 абвінавачаны ў ерасі, адлучаны ад царквы і сасланы ў Салавецкі манастыр. Каля 1554—55 уцёк у ВКЛ. Напачатку жыў у Віцебску, дзе зблізіўся з Феадосіем *Касым*, які таксама ўцёк сюды са зняволення. Пасля выгнання з Віцебска пасяліўся ў Слуцку пры двары кн. Юрыя Алелькі. Займаўся літ. дзейнасцю, вёў барацьбу супраць каталіцтва і лютэранства ў абарону праваслаўя. Быў асабіста знаёмы з прадстаўнікамі бел. рэфармацыйнага руху (С.Будным, К.Каладынскім, І.Зарэцкім), выступаў супраць антытрынітарыяў. У 1562 С.Будны паслаў А. свой «Катэхізіс», выдадзены ў Нясвіжы. А. адказаў яму некалькімі пасланнямі «да Сімона ерэтыка Буднага» (захавалася 2), у якіх папракнуў яго за «памылковыя» думкі і заклікаў адмовіцца ад ерасі. Разам з тым А. высока ацаніў асобу і веды С.Буднага, называў яго чалавекам, узбагачаным найвышэйшым сэнсам і розумам. А. — аўтар 16 пасланняў, 9 з якіх напісана ў Слуцку. Зарэкамендаваў сябе таленавітым публіцыстам, быў пад моцным уздзеяннем патрыстыкі. Адстойваў ідэі духоўнага самаўдасканалення, чалавекалюбства, цярпімасці да «ерэтыкоў», разумнага пераканання, любові да «кожнага слова».


Да арт. **Аршанскае евангелле**. Евангеліст Лука. Мініяцюра. 13 ст.

*Літ.*: Зимин А.А. И.С.Пересветов и его современники. М., 1958; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). М., 1973. *Г.У.Грушавы.*

АРЦЫБІ́СКУП, духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядаў сану *архіепіскапа* ў правасл. царкве. Часта А. называлі і архіепіскапаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

АРЦЫДЫЯЦЭ́ЗІЯ (ад грэч. archi старэйшы + + лац. diocesis) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў каталіцкай царкве; адпавядае *епархіі*.

АРША́НСКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ — беларускі рукапісны помнік канца 12 — пачатку 13 ст. Выяўлена ў г. Орша ў 1812. Найб. верагодна, створана на Полаччыне. Зберагліся 142 аркушы (без пачатку і канца), пісаныя ўставам на высакаякасным пергаменце. У А.е. змешчаны 2 мініяцюры з выявамі евангелістаў Лукі і Мацвея (найб. раннія

ва ўсх.-слав. рукапісах), 2 застаўкі і 310 ініцыялаў з варыяцыямі старавізант. і першапачатковых тэраталагічных формаў (у асобных ініцыялах — выявы чалавека). За рэліг. абалонкай праглядаецца жывая нар. аснова, што зближае іх з размалёўкамі Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў г. Полацк. Зберагаецца ў Цэнтр. навук. бібліятэцы АН Украіны.

АРШАНСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ. Дзейнічаў у 1612—1820 у г. Орша. Засн. па фундацыі караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы, які разам з канцлерам ВКЛ Л.Сапегам і ксяндзом Лаўрэнціем у 1609 распрацаваў план яго стварэння, а ў 1610—11 падараваў аршанскім езуітам 210 валок зямлі з прыгоннымі сялянамі в. Князі, Крыніцы, Цянкі, Чабаданы, Чална, Чэрніца; у 1616 — маёнтак Фашчаўка (больш за 2 тыс. сялян). Кароль надзяліў езуітаў манаполіяй на адукацыю шляхетнай моладзі ў горадзе і Аршанскім пав. У калегіуме выкладаліся рыторыка, логіка, філасофія. У 1643 адкрыты 2 бурсы: музычная і для шляхетнай моладзі са збяднелых сем'яў. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 калегіум на 9 гадоў прыпыніў дзейнасць. Пажар 1680 знішчыў усе пабудовы, якія праз 3 гады адбудаваны. У калегіуме быў створаны рукапісны зб. польскіх драм. і бел. інтэрмедый «Аршанскі кодэкс».

*Т.Б.Блінова.*

АРШАНСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Існаваў у 1636—1832 у г. Орша. Засн. Андрэем і Крысцінай Млоцкімі, якія выдзелілі пад кляштар пляц і 6 маргоў зямлі. Мураваныя будынкі касцёла і 2-павярховага жылога корпуса пастаўлены ў 2-й палавіне 18 ст. на ахвяраванні жыхароў. Касцёл, пашкоджаны паводкай 1760, пазней заняты пад ваенны склад, у 1817—19 адрамантаваны і вернуты духавенству.

Пасля закрыцця кляштара (1832) жылы корпус заняты пад шпіталь. Касцёл не захаваўся. *А.А.Ярашэвіч.*

АРШАНСКІ КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ. Існаваў у 1653—1832 у г. Орша. Заснаваў князь Геранім Друцкі-Сакалінскі і аддаў кляштару фальварак Воскава. У 1816—19 пабудаваны касцёл св. Іосіфа. Пры кляштары быў шпіталь на 10 ложкаў. Пасля закрыцця кляштара касцёл стаў парафіяльным. Пасля Вял. Айч. вайны ў ім размяшчаўся Дом культуры; з 1990 дзейнічае. *А.А.Ярашэвіч.*

АРШАНСКІ КЛЯШТАР ТРЫНІТАРЫЯЎ. Існаваў у 1714—1832 у г. Орша. Засн. Адамам і Уладзіславам Саковічамі. Мураваныя будынкі касцёла і 2-павярховага жылога корпуса пастаўлены ў 18 ст. Касцёл у 1836 пераабсталяваны пад праваслаўны Васкрасенскі сабор, у 1920-я г. закрыты, 1950-я г. знесены. Захаваўся жылы корпус. *А.А.Ярашэвіч.*

АРШАНСКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ. Існаваў у 1680—1832 у г. Орша. Засн. рэчыцкім стольнікам Война Станіславам Катоўскім. Мураваны касцёл з бакавой вежай-званіцай асвячоны 10.8.1768. Тады ж пабудаваны жылы корпус. Пасля закрыцця кляштара ў яго будынку размяшчаліся інвалідная каманда, потым арыштанцкі дом, у 1920—30-я г. рамеснае вучылішча. Касцёл знесены ў 1970-я г.

*А.А.Ярашэвіч.*

АРШАНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН — помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст. з цэглы ў цэнтры г. Орша на правым беразе р. Аршыца. У 1842 пераўтвораны ў правасл. мужчынскі Пакроўскі манастыр і духоўнае вучылішча. Складаўся з аб'яднаных у адзіны асіметрычны арх. комплекс касцёла Апекі Маці Божай (3-нефавая крыжова-купальная 2-вежавая базіліка; знішчаны ў 1967) і жылога корпуса. Жылы корпус — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак з вальмавым дахам. Фасады падзелены прамавугольнымі вокнамі і плоскімі нішамі, вязкамі пілястраў у прасценках, руставанымі лапаткамі, міжпаверхавымі цягамі. Абодва паверхі маюць галерэйную сістэму планіроўкі. *А.М.Кулагін.*

АРЫЯНСКІЯ ШКОЛЫ — навучальныя ўстановы прадстаўнікоў радыкальнага рэфармацыйнага руху на Беларусі, вядомых пад назвай арыяне (гл. *Арыянства*), *антытрынітарыі*, літоўскія браты, сацыніяне. У 2-й палавіне 16 — пач. 17 ст. А.ш. існавалі ў Іўі, Клецку, Лоску, Любчы, Навагрудку, Нясвіжы і інш. гарадах і мястэчках. Мелі 3—5 класаў. На чале школы стаяў рэктар, ён жа выкладаў у старэйшых класах. Вучні, апрача багаслоўя, вывучалі творы стараж. філосафаў, гісторыкаў, паэтаў, польскую, бел., грэч., лац., стараж.-яўрэйскую мовы, цывільнае права і кодэкс Юсцініяна, логіку (па Арыстоцелю), рыторыку, этыку, музыку, медыцыну, арыфметыку, фізіку. У А.ш. існавала рэліг. верацярпімасць, тут вучыліся дзеці не толькі арыян, але і правасл. і каталікаў. У вучняў выхоўвалі павагу да чалавека і яго розуму, вучылі самастойна мысліць. Найб. вядомая А.ш., або акадэмія, у Іўі, заснаваная Янам Кішкам, магнатам, прыхільнікам арыянства. У 1585—93 рэктарам яе быў педагог і мысліцель Ян Ліцыній Намыслоўскі. *С.А.Падокшын.*

АРЫЯНСТВА — адна з буйнейшых хрысціянскіх плыней (артадаксальнай царквой трактуецца як ерась). Узнікла ў 4 ст. ва Усходняй Рымскай імперыі. Заснавальнік — александрыйскі прэсвітэр Арый (каля 256—336). Паводле яго вучэння, 2-я асоба Святой Тройцы, Хрыстос, не роўны Богу-бацьку, ён Сын Божы не па сутнасці, а па лас-

цы Божай. Арый абвяргаў, што сын адзінасутны (адзінапрыродны) з Айцом. У веры ў боскасць Хрыста ён бачыў пагрозу двухбожжа. Нікейскі сабор 325 асудзіў А. і пацвердзіў артадаксальны сімвал веры, падкрэсліўшы, што Сын ёсць адзінасутны з Айцом. А. распалася на некалькі кірункаў, працягвала пашырацца на Усходзе пры падтрымцы імператараў. З 381 А. зноў асуджана на саборы ў Канстанцінопалі. На арыянаў пачаліся жорсткія ганенні, і да канца 4 ст. іх амаль не засталося сярод грэка-рымскага насельніцтва імперыі. Да 6—7 ст. А. затрымалася сярод готаў і інш. тэўтонскіх плямён, якія прынялі хрысціянства ад арыянскіх місіянераў. У 16 ст. ідэі А. адрадзіліся ў асяроддзі радыкальных рэфармацыйных плыней. Розныя кірункі А. (сацыніянства, антытрынітарызм) існавалі і на Беларусі (С.Будны, В.Цяпінскі). Цяпер А. існуе на Захадзе ў невялікіх рэліг. суполках (унітарыі і інш.). *І.М.Дубянецкая.*

АСВЯЧЭ́ННЕ — рытуальнае дзеянне служыцеляў культу над рознымі прадметамі для надання ім містычных уласцівасцей, пасля чаго яны нібыта становяцца магчымымі для выкарыстання. А. падлягае кожны новы ці адрамантаваны храм, царк. адзенне, культавыя рэчы, што выкарыстоўваюцца пры богаслужэнні; асвячаюцца «святыя дары» (для прычашчэння), вада. Могуць асвячацца таксама новапабудаванае жыллё, грамадскія будынкі і інш.

АСКЕТЫ́ЗМ (ад грэч. askētes які практыкуецца ў чым-небудзь, падзвіжнік) — маральны прынцып, які прадугледжвае строгі лад жыцця, добраахвотнае адмаўленне ад матэрыяльных даброт, абмежаванне і прыглушэнне пачуццёвых жаданняў дзеля маральнага самаўдасканалення ці здзяйснення якіх-небудзь сац. ідэалаў. Проціпастаўляецца геданізму, эўдэманізму, эпікурэізму. Доўгі час тэарэтычнае абгрунтаванне і практычнае ўвасабленне А. звязвалі з рэліг. светапоглядам (напр., у хрысціянстве — манаства). Уласцівы і розным сац. формам пратэсту; часам разглядаўся як найважн. ўмова для мабілізацыі фізічных і духоўных сіл асобы ў барацьбе за ідэі роўнасці і справядлівасці.

АСТРА́ЛЬНЫЯ КУ́ЛЬТЫ — пакланенне нябесным свяцілам і з'явам. Вядомыя ў рознай ступені ўсім народам. Былі найб. распаўсюджаны ў Стараж. Двухрэччы, Егіпце і Стараж. Індыі, дзе храмы адначасова служылі і абсерваторыямі. У вавілонскай рэлігіі Месяц і 5 бачных няўзброеным вокам планет былі абвешчаны багамі і атрымалі ўласныя назвы (Сін — Месяц, Шамаш — Сонца, Мадрук — Юпітэр, Іштар — Венера, Нергал — Марс, Набу — Меркурый, Нінурту — Сатурн; пра Уран і Нептун народы стараж. свету не ведалі. На аснове А.к. у вавілонскай рэлігіі ўзніклі астралогія, варажба і рэліг. прароцтвы. Адлюстраваннем А.к. у хрысціянстве з'яўляюцца легенды пра віфлеемскую зорку і сем зорак у Апакаліпсісе.

АТЭІ́ЗМ (франц. athéisme ад грэч. atheon бязбожжа) — сістэма поглядаў, якая адмаўляе існаванне *Бога*, звышнатуральных сутнасцей. Існуе некалькі форм А. А г н а с т ы ч н ы А. аспрэчвае сцвярджэнне, паводле якога Бог, нават калі ён і існуе, не можа быць пазнаны ў якой-небудзь ступені людзьмі. Такі погляд пашыраны сярод філосафаў Стараж. Грэцыі і Рыма: Дэмакрыт, Крытый, Эпікур і інш., сафісты (Пратагор, Георгій), раннія кінікі і скептыкі, а таксама Лукрэцый. У 20 ст. падобныя погляды выявіліся ў працах пазітывістаў (Б.Расел, Л.Вітгенштэйн і інш.). Р а д ы к а л ь н ы А. адмаўляе існаванне Бога ў прынцыпе. Ён характэрны для паслядоўнікаў матэрыялізму (Д.Дзідро, К.Гельвецый, П.Гольбах, Ж.Ламетры, а таксама Л.Феербах). Найб. рэльефна яго рысы выяўлены ў поглядах К.Маркса, У.І.Леніна і іх паслядоўнікаў, у ідэалогіі камуністаў. П а с т у л а т ы ў н ы А. лічыць веру ў боскага заканадаўцу несумяшчальнай з этыкай каштоўнасцей. Яго гал. прадстаўнік — нямецкі філосаф Н.Гартман, заснавальнік т.зв. крытычнай (новай) анталогіі. Ён лічыў, што мэтавы дэтэрмінізм боскага наканавання адмаўляе этычную свабоду, разам з тым і ўсялякія перадумовы этычнага выбару і маральных паводзін. У адрозненне ад тэарэтычнага А. існуе т.зв. стыхійны А., уласцівы многім людзям, занятым у матэрыяльнай вытворчасці і ў розных галінах духоўнай дзейнасці (у навуцы, асабліва ў прыродазнаўстве, палітыцы, мастацтве). Ён зыходзіць з прызнання самадастатковасці прыроды і чалавека без звышнатуральных з'яў. Яго праявы вельмі разнастайныя: ад інтуітыўных уяўленняў да цвёрдых перакананняў, падстава для якіх — вопыт жыцця і веды ў розных сферах рэчаіснасці.

На Беларусі ідэі А. пачалі пашырацца ў 16—17 ст. (К.Бекеш, С.Лован, К.Лышчынскі і інш.). Крыніцай А. служылі вальнадумства і ерасі; моцны штуршок для яго развіцця даў рэфармацыйны і гуманістычны рух і звязаны з імі рэліг. скептыцызм (С.Будны, В.Цяпінскі, Я.Ліцыній Намыслоўскі). Атэіст. тэндэнцыі рэльефна праяўляліся ў творчасці К.Каліноўскага, Ф.Багушэвіча, А.Гурыновіча, Я.Лучыны і інш. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 пачалося глабальнае разбурэнне рэлігійнасці і ператварэнне А. ў дзярж. ідэалогію. Але пасля таго, як Беларусь набыла сваю дзярж. незалежнасць (1991), пачалася светапоглядная трансфармацыя, сфера распаўсюджання А. звузілася. Калі ў 1989 веруючымі дэкларавалі сябе 22% насельніцтва Беларусі, то ў



Да арт. **Аўгусцін**. «Святы Аўгусцін». Мастак С.Сігнаньега. 17 ст.

1994 — 43,4%. У 1995 сваю прыналежнасць да няверуючых дэкларавалі 35% апытаных.

*Літ.:* Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Свободомыслие и атеизм в древности, средние века и эпоху Возрождения. М., 1986; Основы религиоведения. М., 1994.

*Я.М.Бабосаў.*

АЎГУСЦІН Блажэнны (Augustinus Sanctus) Аўрэлій (13.11.354, г. Тагаст, Паўн. Афрыка — 28.8.430) — хрысціянскі багаслоў, філосаф, буйнейшы прадстаўнік заходняй (лац.) патрыстыкі. Епіскап г. Гіпон (395). Асн. творы «Споведзь» (400), «Пра тройцу» (400—416), «Пра горад божы» (413—426). Яго вучэнне — філасофска-тэалагічнае абгрунтаванне хрысціянства ў духу неаплатанізму. Распрацаваў сацыяльна-паліт. канцэпцыю, якая падзяляе чалавечае грамадства на 2 процілеглыя царствы — «горад зямны» і «горад божы». Не адмаўляючы свецкай улады, аддаваў перавагу ўладзе духоўнай. Яго ідэі моцна паўплывалі на развіццё сярэдневяковай тэалогіі і філасофіі. На Беларусі яго творы вядомыя з 11 ст., цікавасць да іх пабольшала ў 16—17 ст., калі тут былі выдадзены яго зборнікі павучанняў, творы «Пра горад божы», «Богападобная любоў», «Пра бачанне Хрыста».

*Літ.:* Бычков В.В. Эстетика Аврелия Августина. М., 1984.

*Г.У.Грушавы.*

АЎГУСЦІНЦЫ (лац. augustiniani), члены каталіцкага жабрацкага ордэна. Паводле легендарнай версіі царквы, ордэн утвораны ў 391 біскупам г. Гіпона (Паўн. Афрыка) Аўрэліем Аўгусцінам (354—430). На самай справе ён узнік пасля аб'яднання 4 кангрэгацый манахаў-пустэльнікаў і зацверджаны булай папы Аляксандра IV у 1256 пад назвай «Ордэн пустэльнікаў святога Аўгусціна» (лац. Ordo Eremitarum S.Augustini). У аснову яго дзейнасці пакладзена т.зв. «Правіла святога Аўгусціна» — зборнік тэкстаў, напісаных нібыта Аўрэліем Аўгусцінам. На чале ордэна стаяў генерал, якога выбіраў ордэнскі капітул. Улада генерала была абмежавана дзейнасцю дэфінітарыяў (дарадчыкаў). Вопратка А.— хабіт (чорная суконная рыза з вострым капюшонам і доўгімі шырокімі рукавамі). У перыяд позняга сярэднявечча А., як і *францысканцы*, абаранялі кірунак сярэдневяковай схаластыкі — аўгусцініянства (арыентацыя на Платона, неаплатанізм, аналогія паміж трыма здольнасцямі душы — памяццю, розумам, воляй — і трыма абліччамі Тройцы, тэзіс аб веры як перадумове ўсялякіх ведаў і інш.). У 16 ст. манахі-А. падтрымалі *Рэфармацыю*. Заснавальнік пратэстантызму М.Лютэр да свайго разрыву з каталіцызмам належаў да ордэна А. Прыродазнаўца, заснавальнік генетыкі Г.Мендэль таксама быў А. У ВКЛ і Польшчы ордэн А. быў самым нешматлікім сярод жабрацкіх ордэнаў. На Беларусі А. мелі кляштары ў Брэсце (1410—1830, фундатар вял. князь ВКЛ Вітаўт), Гродне (1503—1673, фундатар вял. князь ВКЛ Аляксандр). У в. Міхалішкі (цяпер Астравецкі р-н) у 1653 на сродкі Яна Бжастоўскага і яго сына Цыпрыяна пабудаваны касцёл А. (архітэктар К.Пэнс).

*Літ.:* Zakony męskie w Polsce w 1772 roku: Materiały do Atlasu historycznego chrześcijaństwa w Polsce. T. 1. Lublin, 1972.

*А.А.Карнілава.*

АЎДАКЕЯ — прысвятак у народным календары, які часам лічылі 1-м днём вясны (1 сакавіка ст. ст.). Называлі таксама Аўдакей, Яўдока. Царква прымеркавала да яго дзень хрысц. пакутніцы Еўдакіі. Жанчынам у гэты дзень забаранялася працаваць (дазвалялася толькі сукаць гатовыя ніткі), рэзаць што-небудзь можна было толькі авечымі нажніцамі). Мужчынам дазвалялася рабіць усё. З дня А. ў некаторых мясцовасцях пачыналі гуканне вясны. З днём А. былі звязаны шматлікія метэаралагічныя і гаспадарчыя прыкметы: калі на А. вол нап'ецца з-пад страхі, то вясна будзе добрая; цёплы дзень А. абяцаў удалы сенакос, дажджлівы — ураджай жыта, марозны — пагражаў памарозіць грэчку ў час цвіцення, завіруха ў дзень А. — чакаўся халодны і неўраджайны год. *У.А.Васілевіч.*

АЎЛАС — прысвятак у народным календары, які адзначалі з язычніцкіх часоў (свята Вялеса). Царква прымеркавала яго дзень да свята хрысц. пакутніка Уласа (11 лютага ст. ст.), які ў народзе лічыўся апекуном свойскай жывёлы. Таму А. называлі «каровіным святам», не шануючы яго, гаспадар меў небяспеку наклікаць на сваю жывёлу бяду. Каб цяляты раслі здаровыя, гаспадыні выпякалі на А. аладкі. У некаторых мясцовасцях А. спраўлялі як конскае свята. У гэты дзень

коней лепш кармілі, не працавалі на іх (але аб'язджалі маладых коней). А. часта супадаў з масленіцай — апошнім скаромным тыднем перад вялікім пастом, адкуль і пайшла прыказка «на А. бяры каўшом масла». *У.А.Васілевіч.*

АЎРА́МІЙ СМАЛЕ́НСКІ (Працалюбівы) — рэлігійны і грамадскі дзеяч, мастак. Нарадзіўся ў сярэдзіне 12 ст. ў Смаленску ў заможных бацькоў, якія да яго мелі 12 дачок. З дзяцінства выхаваны ў духу строгай хрысц. набожнасці і прывучаны да сістэматычных кніжных заняткаў. Пасля смерці бацькоў раздаў усю іх маёмасць манастырам, цэрквам і бедным, а сам пайшоў у манастыр, што размяшчаўся ў ваколіцах Смаленска. Тут ён вывучаў творы Іаана Златавуста, Яфрэма Сірына, жыціі святых: Антонія Вялікага, Яўхімія, Савы, Феадосія Палесцінскіх, Антонія і Феадосія Пячэрскіх і інш., збіраў і перапісваў кнігі. У гэты час смаленскі князь Раман Расціслававіч (памёр у 1170) заснаваў у горадзе вучылішча, у якім навучаліся па слав., грэч. і лац. кнігах. Аўрамій садзейнічаў росквіту гэтага вучылішча, дапамагаў фарміраваць яго бібліятэчны фонд. Пасля 30 гадоў манаскага служэння ў 1198 ён прыняў сан прэсвітэра і стаў шырока вядомы як прапаведнік і настаўнік для манаскай брацці і недухоўных асоб. Гэта выклікала зайздрасць у часткі духавенства, а Аўрамію давялося перайсці ў Смаленскі Крыжаўзвіжанскі манастыр. Сюды да яго прыходзілі людзі за духоўнай парадай, настаўленнем. Ён ўдзельнічаў у аздабленні храма, намаляваў для яго 2 абразы. Няспынныя пропаведзі і поспех сярод веруючых зноў выклікалі зайздрасць у духавенства і гарадской знаці. Яго абвінавацілі ў ерасі і распаўсюджванні забароненых кніг, а таксама ў спакушэнні жанчын і пераманьванні духоўных дзяцей. На судзе, які ўзначальвалі князь і епіскап, ён апраўдаўся, але яму забаранілі свяшчэннадзейнічаць і загадалі вярнуцца ў папярэдні манастыр. Але папулярнасць Аўрамія ў народзе была такой вялікай, што царк. ўлады вымушаны былі адмяніць сваю забарону на прапаведніцтва і прызначылі яго ігуменам новага манастыра. Па-ранейшаму да яго сыходзіліся баяры і простыя людзі, багатыя і жабракі, каб паслухаць парады і настаўленні. Аўраміў заклікаў смалян няўхільна прытрымлівацца маральных прынцыпаў хрысціянства, клапаціцца пра духоўнае ўдасканаленне жыцця, заўсёды помніць пра Бога, маліцца дзень і ноч, каб не быць асуджаным на судзе Божым. Пражыўшы ў манастве 50 гадоў, ён памёр да 1224 г. Пасля смерці, як і пры жыцці, Аўрамія шанавалі смаляне як нястомнага прапаведніка рэліг. пакаяння і непазбежнасці страшнага суда. За актыўнае прапаведаванне хрысціянства і ўзорнае жыццё правасл. царква кананізавала яго. Яго вучань манах Яфрэм напісаў «Жыціе прападобнага Аўрамія Смаленскага». *В.П.Орліш.*



Да арт. **Аўрамій Смаленскі**. Аўрамій і Меркурый Смаленскія. 1723—1728. Беларуская іканапісная школа.

АЎТАКЕФА́ЛІЯ (ад грэч. autos сам, kephalē (галава), аўтакефальная царква — у праваслаўі самастойная царква, арганізацыйна незалежная ад канстанцінопальскага патрыярха. Першыя аўтакефальныя цэрквы ўзніклі ў 4 ст. ў працэсе адасаблення патрыярхій і мітраполій у 4 ст. ў правінцыях Візантыі (Александрыі, Антыёхіі, Палесціне). У наш час у свеце існуе 15 кананічных аўтакефальных правасл. цэркваў: Канстанцінопальская, Александрыйская, Антыяхійская, Іерусалімская, Руская, Грузінская, Сербская, Румынская, Балгарская, Кіпрская, Эладская, Албанская, Польская, Чэшскіх земель і Славакіі, Праваслаўная царква ў Амерыцы. Усе яны ўтвараюць Усяленскую царкву і ў гэтым сэнсе, з'яўляючыся яе часткамі, узаемазалежны ў галіне правасл. вучэння, адступленне ад якога аўтаматычна вядзе да аддзялення ад Усяленскай правасл. царквы. Але пры гэтым Усяленская правасл. царква не мае адзінага цэнтра і кіраўніка. Ні адзін з патрыярхаў, у т.л. ўсяленскі канстанцінопальскі (захоўвае гэты тытул традыцыйна), не мае якіх-небудзь адм. пераваг у параўнанні з інш. кіраўнікамі А. Гл. таксама *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Епархія.* *В.П.Орліш.*

АФАНА́СІЙ АЛЕКСАНДРЫ́ЙСКІ (Athanasios каля 295 — 2.5.373) — царкоўны дзеяч і багаслоў, прадстаўнік *патрыстыкі.* Епіскап г. Александрыя з 328. У барацьбе з арыянствам распрацаваў містычнае вучэнне пра «адзінасутнасць» Бога-айца і Бога-сына, дагматызаванае на 1-м (325) і 2-м (381) Усяленскіх саборах. Ідэалам рэліг. жыцця лічыў эскетызм. Адстойваў незалежнасць Алек-


Афанасій Брэсцкі.

сандрыйскай царквы, за што ў 335—65 імператары 5 разоў яго звяргалі і ссылалі. Аўтар «Жыція Антонія», прысвечанага заснавальніку манаства ў Егіпце Антонію Вялікаму.

АФАНА́СІЙ БРЭ́СЦКІ (Афанасій Філіповіч; каля 1595, Брэстчына — 5(15).9.1648) — святы беларускай праваслаўнай царквы, пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч. З сям'і незаможнага шляхціца. Меў даволі добрую адукацыю. У 1622 канцлер ВКЛ Леў Сапега прызначыў яго выхавацелем Я.Ф.Лубы, якога польскія прыдворныя выдавалі за рус. царэвіча, прэтэндэнта на маскоўскі трон. У 1627 А.Б. пастрыгся ў манахі пры Віленскім Свята-духаўскім манастыры. Жыў у манастырах Куценскім (пад Оршай), Міжгорскім (пад Кіевам), Дубайскім, Купяцiцкім (каля Пінска); у 1640—41 ігумен Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. У 1637—38 ездзіў да рас. цара, у спец. рэляцыі «Гісторыя падарожжа ў Маскву» расказаў пра цяжкае становішча правасл. насельніцтва Беларусі і Украіны ў складзе Рэчы Паспалітай. За супрацьдзеянне *Брэсцкай уніі 1596*, рэзкія выпады ў адрас караля ў 1643 сасланы ў Кіеў, у 1644 арыштаваны як «дзяржаўны злачынца» па справе Я.Ф.Лубы. З варшаўскай турмы накіраваў каралю шэраг артыкулаў з крытыкай палітыкі Рэчы Паспалітай, царк. іерархаў і свецкіх магнатаў. Выступаў за адраджэнне правасл. царквы і саюз з Рас. дзяржавай. Праз год пасля выхаду на волю зноў арыштаваны (1648) і абвінавачаны ў аказанні дапамогі казакам Б.Хмяльніцкага. Пасля здзекаў і жорсткіх катаванняў па прыгаворы суда расстраляны. Аўтар «Дыярыуша» (1646), які змяшчае ўсю яго публіцыстыку і напеў (запісаны кіеўскай 5-лінейнай натацыяй) гімнападобнага канта — аднаго з найб. ранніх нотных запісаў у бел. музыцы. Кананізаваны царквой паміж 1658 і 1666. Памяць двойчы: 20 ліп. — аднойдзенне мошчаў і 5 вер. — спачын (паводле старога стылю). Мошчы А.Б. знаходзяцца ў Брэсце. У яго памяць пабудаваны капліца ў в. Гершоны Брэсцкага р-на, а ў Гродзенскім Барыса-глебскім манастыры — царква (не захавалася).

*Літ.:* Коршунов А.Ф. Афанасий Филипович: Жизнь и творчество. Мн., 1965; Мельников А.А. Путь не печален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992. *А.А.Цітавец.*

АХВЯРАПРЫНАШЭ́ННЕ — абрад задобрывання звышнатуральных сіл (духаў прыроды, духаў продкаў, багоў і інш.), прынясеннем ім дароў, у т.л. жывых істот. Узнікла ў перыяд зараджэння рэліг. уяўленняў пра існаванне звышнатуральных сіл, якія нібыта маглі паўплываць на зыход палявання, ураджай, прыплод жывёлы, лёс людзей. Славяне задобрывалі духаў прыроды, памерлых родзічаў. У старажытнасці ўсх. славяне ў выпадку смерці князя забівалі і хавалі або спальвалі разам з ім яго жонку, нявольніц, коней, лічачы, што ўсё гэта спатрэбіцца яму ў замагільным жыцці. У труну з нябожчыкам клалі і яго асабістыя рэчы. У перыяд язычніцтва ахвяры ў выглядзе рытуальнай ежы прыносілі да велізарных дрэў, незвычайных па форме валуноў, крынічак. З пашырэннем хрысціянства ў месцах язычніцкіх пакланенняў пачалі будаваць цэрквы, капліцы, а крыніцы, камяні, дрэвы аб'яўлялі святымі месцамі і праводзілі каля іх багамаленні. Варварскія формы А. сустракаліся сярод стара-вераў (прыхільнікі пратапопа Авакума спальвалі сябе). Рэшткі А. ў той ці інш. ступені захаваліся і ў каталіцызме, і ў праваслаўі (запальванне свечак і лампад, прынашэнне ў царкву ці касцёл вышытых сурвэтак, ручнікоў, палатна, грошай і інш., вешанне ручнікоў на крыжы каля дарог і г.д.).

*Літ.:* Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларусаў. Мн., 1929; Штернберг Л.Я. Первобытная религия в свете этнографии. Л., 1936; Токарев С.А. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX в. М.; Л. 1957; Його ж. Ранние формы религии и их развитие. М., 1964. *Л.І.Мінько.*

АХВЯ́РНІК — чатырохвугольны стол каля сцяны злева ад прастола ў паўднёва-ўсходняй частцы *алтара* правасл. храма, на якім праводзіцца *праскамідыя*, першая частка *літургіі*. А. лічыцца месцам свяшчэнным, яго закрываюць покрывам, на ім стаяць свяшчэнныя пасудзіны.

АШМЯ́НСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ. Заснаваны ў 1505 у Ашмянах вялікім князям ВКЛ і каралём польскім Аляксандрам. Будынкі амаль на працягу ўсяго часу існавання былі драўляныя. У інвентары касцёла 1585 сярод кніг упамінаецца вельмі рэдкі антыфанар (літургічная кніга для спеваў антыфонам) на пергаменце. У 1659 збудаванні кляштара разбураны. У 1822 пабудаваны мураваны зальны касцёл. У 1832 кляштар закрыты.

*А.А.Ярашэвіч*

# Б

БАБО́ЛЯ Андрэй (30.11.1591, в. Страхоцін каля г. Санак, цяпер у Падкарпацкім ваяв., Польшча — 16.5.1657), беларускі каталіцкі святы, рэлігійны дзеяч, місіянер. Скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію (1616), Віленскую тэалагічную акадэмію (1622). Член ордэна *езуітаў* (1611), ксёндз (1622). Працаваў у езуіцкіх установах Нясвіжа (1623—24), Вільні (1625—30), Бабруйска (1630—33), Плоцка (1633—38), Варшавы і Ломжы (1638—42). З 1642 у Пінску (у 1646—52 наездамі жыў і ў Вільні). Праславіўся як глыбокі знаўца твораў грэч. айцоў царквы і здольны прамоўца, што дазваляла яму перамагаць прадстаўнікоў праваслаўя ў дыспутах і схіляць іх да пераходу ў каталіцтва ці уніяцтва. Прапагандаваў ідэі *Брэсцкай уніі 1596* у Вільні, Бабруйску, Полацку, Ломжы і Пінску; празваны «апосталам Піншчыны» і «душахватам». У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 схоплены і закатаваны ў в. Янаў-Палескі (цяпер г. Іванава Брэсцкай вобл.) атрадам казакоў палкоўніка А.Здановіча. Цела Б. перавезена ў Пінск і пахавана ў крыпце касцёла езуітаў; у 1702 эксгумавана і знойдзена нятленным. Культ Б. напачатку быў пашыраны ў Рэчы Паспалітай, потым у Аўстрыі і Германіі. 30.10.1853 яму нададзены пасмяротны тытул «благаславёны». У 1808 цела Б. перавезена ў Полацк, у 1922—24 экспанавалася ў Маскве ў музеі медыцыны, 18.5.1924 перавезена ў Рым і змешчана ў езуіцкім саборы «Іль-Джэзу». 17.4.1938 Б. кананізаваны (дзень памяці 16 мая), пасля чаго яго цела перавезена ў Варшаву. У 1958 рымскі папа Пій XII выдаў энцыкліку з нагоды 300-годдзя спачыну святога. Б. лічыцца гал. патронам *Пінскай рымска-каталіцкай епархіі*, а таксама ўшаноўваецца як адзін з патронаў Віленскай, Ломжынскай, Плоцкай, Вармінскай дыяцэзій.

*Э.С.Ярмусік.*

БАБРО́ЎСКІ Міхаіл Кірылавіч (19.11.1784 ці 1785, в. Вулька Падляскага ваяв., Польшча — 3.10.1848) — беларускі славіст і арыенталіст. Д-р тэалогіі (1823), святар. Член Археалагічнай акадэміі ў Рыме, Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім ун-це, парыжскага і лонданскага азіяцкіх навук. таварыстваў. З сям'і уніяцкага святара. Скончыў Гал. духоўную семінарыю пры Віленскім ун-це (1812). З 1817 канонік брэсцкі. У 1817—22 ў замежнай камандзіроўцы ад Віленскага ун-та, падчас якой удасканальваў веды ў галіне слав., усходніх і стараж. моў, археалогіі, гісторыі, літаратуры, сабраў вялікі навук. матэрыял, вывучыў і апісаў многія слав. старажытнасці. У 1822—24, 1826—33 прафесар экзегетыкі і герменеўтыкі Віленскага ун-та, у 1824—26 у ссылцы ў базыльянскім манастыры ў Жыровічах (каля Слоніма). З 1833 жыў у мястэчку Шарашова Пружанскага пав., дзе атрымаў прыход. Даследаваў гісторыю слав. кнігадрукавання, збіраў матэрыялы пра дзейнасць Ш.*Фіёля*, І.*Фёдарава*, П.*Мсціслаўца*. Зрабіў навук. апісанне стараж. кірылічных і глаголічных кніг Ватыканскай б-кі, увёў у навук. ўжытак 1-ю глаголічную друкаваную кнігу «Місал па законе Рымскага двара» («Служэбнік», 1483). Выявіў



А.**Баболя**.


М.К.**Баброўскі**. Гравюра.

у 1822 Супрасльскі рукапіс (летапісная кампіляцыя пач. 16 ст., рукапісныя зборнікі 11 і пач. 16 ст.). Стаяў каля вытокаў сусв. славяназнаўства, спрыяў узнікненню беларусазнаўства. Нанава адкрыў для бел. і еўрап. навукі імя і справу Ф.*Скарыны*, які на заранку Адраджэння абвясціў старабел. мову і народ цалкам раўнапраўнымі сярод інш. еўрап. моў і народаў. Звесткі пра Скарыну ўвайшлі ў ненадрукаваную ім «Гісторыю славянскіх друкарняў у Літве». Разам з І.М.*Даніловічам* быў адным з пачынальнікаў бел. нац. адраджэння. Пры жыцці Б. ўдалося надрукаваць толькі нязначную частку сваіх прац. З яго багатай спадчыны захаваліся толькі асобныя рукапісы.

*Літ.:* Лабынцев Ю.А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Я г о ж. Михаил Бобровский — первый исследователь болгарского «Абагара» 1651 г. // Русско-болгарские связи в области книжного дела. М., 1981; Я г о ж. Первая книга, напечатанная глаголицей, и её исследователь Михаил Бобровский: (К 500-летию начала книгопечатания глаголическим шрифтом) // Сов. славяноведение. 1983. № 4; Я г о ж. Пачатае Скарынам. Мн., 1990.

*Ю.А.Лабынцаў.*

БАБРУ́ЙСКАЯ ЕЗУІ́ЦКАЯ РЭЗІДЭ́НЦЫЯ — установа ордэна *езуітаў* у г. Бабруйск у 17—18 ст. У пач. 17 ст. місіянерскую дзейнасць па прапагандзе каталіцызму ў Бабруйску пачалі манахі *Нясвіжскага езуіцкага калегіума*. У 1618 яны замацаваліся тут, у 1630 узнікла іх рэзідэнцыя. Гарадскі староста П. Трызна перадаў езуітам маёнткі Гарбачэвічы, Рыня, Устайла, пабудаваў для іх дом у Бабруйску і перадаў 7500 фларэнаў, атрыманых пад заклад маёнтка Кісялевічы. У 1638 нашчадкі Трызны аддалі езуітам в. Дваранавічы з уніяцкай царквой, пабудавалі касцёлы ў в. Гарбацэвічы і Шацілкі, якія ў 1643 падаравaў ордэну шляхціц П.Суляціцкі. Гэта дало магчымасць езуітам адкрыць тут місіянерскія пункты. У час антыфеадальнай вайны 1648—51 рэзідэнцыя прыйшла ў заняпад. У 1681 адноўлена дзейнасць яе школ. У час Паўночнай вайны 1700—21 яна неаднаразова спыняла сваю дзейнасць. З 1720 пры рэзідэнцыі быў прытулак для збяднелай шляхты. Закрыта ў 1773 у сувязі са скасаваннем ордэна езуітаў у Рэчы Паспалітай.

*Т.Б.Блінова.*

БАГАМІ́ЛЫ, б а г у м і л ы — адна з буйнейшых ерытычных сект еўрапейскага сярэднявечча (назва, верагодна, ад спалучэнняў слоў «Бог» і «мілы», магчыма, ад імя заснавальніка секты балгар-


Да арт. **Багародзіца**. Маці Божая Брэсцкая. 16 ст.



Да арт. **Багародзіца**. Маці Божая Адзігітрыя. 1640. Беларуская іканапісная школа.


Да арт. **Багародзіца**. Браслаўскі абраз Маці Божай. Сярэдзіна 18 ст.


Да арт. **Багародзіца**. Абраз Навагрудскай Маці Божай. 18 ст.

скага святара Багаміла). Узніклі ў 10 ст. на Балканах пад уплывам *паўлікіянства*. У 11 ст. рух Б. (багамільства) пашырыўся ў Малай Азіі, Італіі, Францыі, дзе на гэтай глебе ўзніклі секты катараў і альбігойцаў. У 13 ст. было 16 цэркваў Б., у т.л. 3 у Францыі, 7 у Італіі; на Балканах — 3 дыяцэзіі (Балгарская, Драгавіцкая, Баснійская); у Малаазійскай Філадэльфіі — біскупства. У 14 ст. існавалі і на Афоне. Паводле веравучэння, Б. — нашчадкі маніхейскага дуалізму. Згодна з іх дагматыкай, у свеце існуюць 2 апазіцыйныя сілы — Дабро і Зло (часам прадстаўленыя Белабогам і Чарнабогам). Вярхоўны Бог стварыў нябачны духоўны свет і анёлаў; матэрыяльны свет (зямлю, чалавека) — яго першародны сын Сатанаіл (Шатан), які за бунт супраць бацькі быў скінуты з неба. Свет заставаўся ва ўладзе Шатана, пакуль Бог не паслаў на зямлю другога свайго сына — Хрыста, які адабраў у Шатана рэшткі боскай сілы і вярнуўся на неба. Б. адмаўлялі Стары Запавет, хрысціянскую царкву і яе таямніцы (сакраманты), асуджалі багацце, выступалі супраць эксплуатацыі. Падзяляліся на 2 катэгорыі: вышэйшую — дасканалыя і ніжэйшую — вернікі. Лад жыцця дасканалых быў сурова аскетычны, накіраваны на адыход ад свету зла — матэрыяльнасці. Барацьба з багамільствам пачалася з 10 ст. У 11 ст. ў Канстанцінопалі спалены лідэр іх абшчыны Базыль, у 1180 у Сербіі спалены лідэры Б. і іх кнігі. У 1237 папа рымскі Ганоры III склікаў крыжовы паход супраць баснійскіх Б., але пасля нашэсця татараў на Венгрыю багамільства ў Босніі на 2 стагоддзі ператварылася ў нац. рэлігію. У 1450 кароль Томас загадаў падданым вярнуцца да каталіцкай веры, якую пасля захопу туркамі Босніі (1463) і Герцагавіны (1482) многія змянілі на іслам. Пазней багамільства складалася з асобных сект, якія праіснавалі да 18 ст.

*І.М.Дубянецкая.*

БАГАРО́ДЗІЦА, Божая Маці — у хрысціянскай міфалогіі найсвяцейшая Дзева Марыя, Мадонна, маці бязгрэшна зачатага Ісуса Хрыста. У 4 ст. абвешчана «прачыстай», на Усяленскім саборы 431 у Эфесе афіцыйна прызнана Б. і Царыцай Нябеснай. У каталіцызме, дзе культ


Да арт. **Багародзіца**. Абраз «Маці Божая Замілаванне» з Брэстчыны. 1644.



Да арт. **Багародзіца**. Лагішынскі абраз Маці Божай. Сярэдзіна 17 ст.

Мадонны асабліва папулярны, абвешчаны шэраг догматаў, якіх не было ў стараж. царк. традыцыі. З 12 ст. на Захадзе распаўсюджваецца легенда пра бязгрэшнае зачацце Марыі яе маці Ганнай. У 1854 гэтая версія афіцыйна замацавана ў форме догмату. У 1950 прыняты догмат аб цялесным узнясенні Б. пасля смерці на неба, а ў 1964 папам Паўлам VI найсвяцейшая Дзева Марыя абвешчана «маці царквы». Тэма Б. з дзіцем шырока выкарыстоўваецца ў сусв. выяўл. мастацтве і літаратуры.

БАГАСЛО́ЎЕ, т э а л о г і я — сукупнасць рэлігійных ідэй і дактрын, якія ў сістэматызаванай форме выкладаюць вучэнне пра Бога ў адпаведнасці з тэкстамі, што разглядаюцца як «слова божае» («Свяшчэннае пісанне»). Грунтуецца на тэістычным светапоглядзе і тэарэтычных канструкцыях, запазычаных з ідэалістычнай філасофіі. Дагматыка, што ляжыць у аснове Б., прымаецца за «богам дадзеную», бясспрэчную і абсалютную мудрасць. Таму мэтай багаслоўскіх даследаванняў з'яўляюцца не пошукі раней невядомых ісцін, а сістэматызацыя, абгрунтаванне і тлумачэнне «боскіх адкрыццяў», асэнсаванне ідэй і рэліг. вопыту «айцоў царквы» і святых, распрацоўка культавага (абрадавага) боку богаслужэння і г.д. Для Б. характэрны аўтарытарызм, кансерватызм, дагматызм. З-за гэтага яно асуджае праяўленні вальнадумства, духоўнай незалежнасці і самастойнасці, прызнаючы за філасофіяй, навукай і мастацтвам гал. чынам службовую ролю ў адносінах да рэлігіі. Разам з тым, для абгрунтавання рэліг. светаўспрымання Б. імкнецца выкарыстаць увесь арсенал рацыянальна-лагічных сродкаў. Таму, прымаючы за асн. аргумент спасылку на свяшчэнныя тэксты і боскую ласку, Б. культывуе і рэліг. філасофію, якая даказвае разумнасць боскіх ісцін, гармонію веры і ведаў, рэлігіі і навукі. У абліччы багаслова як бы сумяшчаюцца цвярозы даследчык і глыбокі містык, паглыблены ў «нявыказаны вопыт» зносін з Богам. У той або інш. ступені Б. ўласціва любой рэлігіі. Аднак у строгім разуменні яно найб. характэрна веравучэнню трох чыста тэістычных рэлігій: іудаізму, хрысціянству, ісламу. Хрысц. Б. абапіраецца на *Біблію*, пастановы Усяленскіх сабораў і *патрыстыку*. Сучаснае хрысц. Б. ўключае: а с н о ў н а е Б. (фундаментальная тэалогія, апалагетыка), д а г м а т ы ч н а е Б. (удакладняе сістэму догматаў), м а р а л ь н а е Б. (праграма этычных паводзін вернікаў), п а р а ў н а л ь н а е Б. (даказвае перавагу сваёй веры перад інш. веравызнаннямі), п а с т ы р с к а е Б. (практыкум для святара), а таксама тэорыю богаслужэння (літургіка), тэорыю пропаведзі (гамілетыка), тэорыю царк. права (каноніка).

На Беларусі ўжо з 10 ст. мелі пашырэнне багаслоўскія працы хрысц. «айцоў царквы» *Афанасія Александрыйскага, Васілія Вялікага, Грыгорыя Назіянзіна, Іаана Златавуста, Іаана Дамаскіна*. Паколькі дагматычны канон правасл. веры быў распрацаваны ў рэчышчы грэка-візант. патрыстыкі (Афанасій Александрыйскі — «бацька» праваслаўя), пераважны ўплыў на культурнае развіццё ўсходне-славянскіх народаў мела Б. ўсходняй царквы. Грэч. патрыстыка знаходзіць адлюстраванне ў Словах *Кірылы Тураўскага*. У якасці *Катэхізіса* да 17 ст. на бел. землях шырока выкарыстоўваўся твор Іаана Дамаскіна «Спавяданне веры». У 17—18 ст. аўтарытэтам на Беларусі карыстаўся раннехрысц. багаслоў *Яфрэм Сірын* (4 ст.). Ва ўмовах езуіцка-каталіцкай экспансіі багаслоўская цікавасць да твораў «айцоў царквы» дапаўнялася імкненнем знайсці ў іх апору для абароны духоўных традыцый бел. народа, яго нац. культуры і мовы. Вучэнне патрыстычнага Б. перакладалі і прапагандавалі С.*Зізаній*, Л.*Карповіч*, М.*Сматрыцкі* і інш. з патрыятычнымі мэтамі. Уключэнне Беларусі ў склад Рэчы Паспалітай абумовіла пашырэнне і развіццё тут каталіцкага і уніяцкага Б.

Сутнасць Б. як мыслення ўнутры царкоўна-дагматычных канонаў робіць яго несумяшчальным з прынцыпамі свабоды філасофскага і навук. пазнання свету. Таму ўжо з эпохі Адраджэння фарміруецца ідэйная традыцыя крытыкі Б. Найб. разгорнуты і паслядоўны характар яна мела ў французскіх матэрыялістаў 18 ст. і Л.Феербаха. Марксісцкі атэізм разглядае Б. як адчужаную форму чалавечага мыслення, што адлюстроўвае антаганістычныя сацыяльныя адносіны як ідэалагічнае замацаванне рэліг. погляду на свет.

*Літ.:* Ф л о р е н с к и й П.А. Столп и утверждение истины. М., 1914; К р ы в е л ё в И.А. Современное богословие и науки. М., 1959; Г а б и н с к и й Г.А. Критика христианской апологетики. М., 1967; Богословские труды. Сб. 1—29. М., 1960—89.

*Г.У.Грушавы.*

БАГА́Ч. 1) Старадаўняе земляробчае свята беларусаў, што спраўлялася пасля заканчэння жніва.

З пашырэннем хрысціянства Б. быў прымеркаваны да свята нараджэння Божай Маці (8 верасня ст. ст.), якая лічылася заступніцай ураджаю, 2) Сімвал свята Б. — сявенька з жытам ці пшаніцай і ўстаўленай васковай свечкай (збожжа вымалочвалі з 1-га зажыначнага снапа і зносілі па жменьцы з кожнага двара). З Б. абыходзілі ўсе двары ў вёсцы, а потым ставілі ў хаце пэўнага гаспадара і пакідалі да наступнага жніва. Паводле нар. павер'я, Б. забяспечваў дому багацце і шчасце.

БАГДАНО́ВІЧ Вячаслаў Васілевіч (1878, Лепельскі пав. Віцебскай губ. — 1941?) — беларускі праваслаўны рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч, багаслоў. З сям'і святара. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1903). З 1903 выкладчык біблейскай і царк. гісторыі ў Віцебскай правасл. семінарыі. З вясны да восені 1907 інспектар правасл. семінарыі ў Мінску, з восені 1907 — інспектар Віленскай духоўнай семінарыі, потым яе рэктар. У 1911—13 адначасова ахоўнік Літоўскага епархіяльнага сховішча стараж. каштоўнасцей. Дэлегат вялікага царк. сабора ў Маскве (1917—18). Выкладаў Закон Божы ў Віленскай бел. гімназіі. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў «Беларускага праваслаўнага аб'яднання». У 1922 абраны ў сенат Польскай Рэспублікі, уваходзіў у Бел. пасольскі клуб. У 1920—30-я г. член Бел. нац. камітэта ў Вільні. Выступаў супраць аўтакефаліі бел. правасл. царквы. Член Духоўнай правасл. кансісторыі. Да сярэдзіны 1930-х г. звязаны з *Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй*. Аўтар музыкі да некалькіх рамансаў і на лібрэта А.Пшчолкі. Паводле звестак А.Клімовіча, у 1920-я г. Б. прыпісвалася аўтарства раманса «Зорка Венера» на словы М.Багдановіча. У канцы 1930-х г. арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У вер. 1939 вызвалены Чырв. Арміяй, друкаваўся ў «Віленскай праўдзе». У кастр. 1939 арыштаваны органамі бяспекі БССР. Далейшы лёс невядомы.
*А.С.Лс.*

БАГУСЛО́ЎСКІ Юзаф Канстанцін (9.12.1754 — 14.3.1819) — рэлігійны і грамадскі дзеяч, філосаф, правазнавец, калекцыянер. Нарадзіўся на Брэстчыне. Адукацыю атрымаў у рэліг. установах Польшчы. З 1788 доктар тэалогіі, з 1789 прафесар Гал. школы ВКЛ (Віленскі ун-т). Склаў зборнік біяграфій дзярж. дзеячаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, выдадзены ў Варшаве (1788) і Вільні (1814). Аўтар кн. «Пра дасканалае заканадаўства» (1786), у якой поруч з натуральным правам як асновай справядлівага заканадаўства разглядаў чалавека як адзінства двух субстанцый — матэрыяльнай і духоўнай.

БАЖНІ́ЦА, Кіот (ад грэч. kibōtos скрынка) — 1) у праваслаўі — зашклёная скрынка або шафка для абразоў. 2) У стараж. кірунках хрысціянства — вітрына для размяшчэння прадметаў рэліг. пакланення.

БАЗЫЛЬЯ́НЕ — супольнасць манахаў, якія жылі па правілах, распрацаваных у 4 ст. св. Васілём (Базылём, ад яго і назва); пазней (з 17 ст.) уніяцкі ордэн. Манастыры Б. былі распаўсюджаны на Блізкім Усходзе, Балканах, у паўд. Італіі; пасля прыняцця хрысціянства ўсходнімі славянамі яны паступова з'явіліся і на іх землях, у т.л. на Беларусі. Вылучаецца некалькі асн. базыльянскіх абрадаў: Гротаферата (італа-албанскі), св. Збаўцы і св. Іаана Хрысціцеля, Мелкіцкі (у Ліване, Палесціне і Егіпце), св. Іасафата (на Украіне, у Румыніі і Польшчы). Пасля абвяшчэння Брэсцкай уніі 1596 Б. набылі ордэнскую арганізацыю на тэр. Рэчы Паспалітай. У 1605 уніяцкі мітрапаліт І.В.*Руцкі* запрасіў у падначалены яму віленскі манастыр Св. Тройцы манахаў-*кармелітаў*, а ў 1621 *езуітаў*, каб яны пасадзейнічалі стварэнню манаскага ордэна грэка-каталіцкай царквы. У 1617 Навагрудская кангрэгацыя зацвердзіла статут новага ордэна, распрацаваны Руцкім, які быў абраны 1-м протаархімандрытам (генералам) Б. Паводле статута протаархімандрыт ордэна падпарадкоўваўся папе рымскаму праз уніяцкага мітрапаліта. Протаархімандрытамі Б. былі Руцкі (1617—21), Леў Крэўза Ржавускі (1621—26), Рафаіл *Корсак* (1626—36), Пахомій Война Аранскі (з 1636), Антоній *Сялява* (з 1652), Якуб Суша (з 1661), Гаўрыіл *Календа* (з 1666), Пахомій Агілевіч (1675—79), Стэфан Мартышкевіч Бусінскі (1679—86), Язэп Пяткевіч (1686—90), Сымон Агурцэвіч (з 1690), Якім Кушэвіч (з 1694), Леў *Кішка* (1703—13), Васіль Працэвіч (1713—17), Максіміллян Вятржынскі (1717—19), Антон Завадскі (з 1719), Карнелій Сталпавіцкі-Лябецкі (да 1727), Антанін Тамiловіч (1729—36), Патрыцый Жураўскі (1739—43), Палікарп Мігуневіч (1743—47), Ігнацій Білінскі (1747—51; 1759—72), Іраклій Лісянскі (1751—59), Парфірый Скарбек Важынскі (1772—80 і з 1788), Язэп Маргулец (1780—85), Ерафей Карчынскі (1786—88), Максіміллян Вільчынскі (да 1793), Афанасій Фалькоўскі (да 1802), Юстын Гусакоўскі (1802). У 1743 ордэн Б. падзелены на 2 правінцыі: Рускую (або Польскую, каронную) і Літоўскую (уваходзілі землі ВКЛ, у т.л. Беларусі). На Беларусі існавала 55 манастыроў Б. Найбуйнейшыя з іх Полацкі, Жыровіцкі, Мінскі, Віцебскі, Беразвецкі, Барунскі, Быценскі, Антопальскі. Акрамя протаархімандрыта ордэнам кіравалі правінцыялы (кіраўнікі правінцый), 4 кансультары і сакратар. Вышэйшай заканадаўчай уладай у Б. былі кангрэгацыі, на якіх павінны былі прысутнічаць мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы, прота-

архімандрыт, вышэйшыя іерархі, настаяцелі манастыроў, выбраныя прадстаўнікі ад кожнага манастыра. Кангрэгацыі склікаліся не радзей чым раз у 4 гады ў любым буйным цэнтры Б., найчасцей у Навагрудку (1617, 1671, 1686, 1703, 1717, 1719, 1730), Жыровічах (1629, 1631, 1658, 1659, 1661, 1675, 1679, 1694), Вільні (1636, 1642, 1646, 1650, 1667, 1713). У 1635 атрымалі прывілей караля Уладзіслава IV, паводле якога епіскапамі уніяцкай царквы маглі выбірацца толькі манахі-Б., што ўзмацніла пазіцыі ордэна. Расла колькасць манастыроў. У 1772 у кожнай правінцыі было па 72 манастыры, больш за 600 манахаў. Б. актыўна займаліся адукацыйнай дзейнасцю. Прывілеем 1613 кароль Жыгімонт III Ваза дазволіў Б. адкрываць школы са статутам пачатковых і сярэдніх навуч. устаноў з выкладаннем на «рускай» (старабел. ці стараўкр.) і польскай мовах. Б. распрацавалі сістэму свецкай адукацыі пераважна лінгвістычнага, багаслоўскага і агульнагуманітарнага кірунку. У 18 — першай трэці 19 ст. буйнейшыя базыльянскія школы мелі па 300—500 вучняў. Б. займаліся таксама выдавецкай справай. У іх друкарнях у Вільні, Супраслі, Мінску, Пачаеве, Львове выдадзена каля 1080 назваў кніг у асноўным на польскай, лацінскай і стараслав. мовах. Каля 40% выданняў складала свецкая літаратура. У 1772 акрамя Рускай і Літоўскай правінцый створаны Галіцкая (на далучаных да Аўстрыі землях) і Беларуская (на далучаных да Расіі землях). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Б. на тэр., далучаных да Рас. імперыі, паступова губляюць ордэнскую арганізацыю: з 1802 не выбіраліся протаархімандрыты і правінцыялы, з 1804 не праводзіліся кангрэгацыі, спынены кантакты з Рымам. Ордэн ператварыўся ў групу асобных манастыроў, падначаленых мясц. уніяцкім епіскапам. Але Б. яшчэ мелі вялізную маёмасць, што дазваляла ім займацца адукацыйнай і выдавецкай дзейнасцю да канца 1820-х г. З гэтага часу сумеснымі намаганнямі ўрада Рас. імперыі і часткі белага уніяцкага духавенства, што імкнулася далучыцца да Рус. правасл. царквы, магутнасць і ўплыў Б. абмяжоўваліся. У 1828 прынята пастанова Грэка-уніяцкай калегіі (таксама праведзена ўказам імператара) аб скасаванні «лішніх» манастыроў Б., але яе фактычнае выкананне зацягвалася. Пасля *Полацкага царкоўнага сабора 1839*, які скасаваў на тэр. Рас. імперыі уніяцкую царкву, манастыры Б. былі пераўтвораны ў правасл. або скасаваны, за выключэннем Каралеўства Польскага, дзе яны скасаваны ў 1870-я г. Б. захаваліся ў Аўстра-Венгрыі (14 манастыроў у Галіцыі і 7 у Венгрыі). Яны працягвалі сваю дзейнасць у Галіцыі і пасля ўваходжання яе ў склад Польшчы (1918) і Украінскай ССР (1939). У 1946 на Львоўскім саборы ліквідавана Укр. грэка-каталіцкая царква. З гэтага часу Б. дзейнічалі на эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы і Амерыкі. У канцы 1980-х г. яны аднавілі сваю дзейнасць ва Усходняй Еўропе. На Беларусі Б. маюць 2 манаскія суполкі, ураджэнцы Беларусі праходзяць навіцыят (падрыхтоўку да ўступлення ў ордэн) ва ўкраінскіх базыльянскіх манастырах. Жаночыя уніяцкія манастыры не мелі ўласнай ордэнскай структуры, падпарадкоўваліся епархіяльным архірэям і называліся базыльянскімі таму, што дзейнічалі паводле статута св. Васіля. На Беларусі манастыры базыльянак існавалі з пач. 17 ст. да 1839. Найбуйнейшымі з іх былі Віленскі, Гродзенскі, Мінскі, Пінскі, Вальнянскі, Мазалеўскі.

*І.М.Дубянецкая, В.Р.Кірэй.*

БА́КА (Baka) Юзаф (18.3.1707, Міншчына — 2.5.1780), польскі паэт, каталіцкі прапаведнік. Сын мсціслаўскага скарбніка Адама Бакі. У 1740-я гады жыў у Мінску. Потым вёў місіянерскую дзейнасць у Навагрудку і Вільні. Яго паэтычны зб. «Развагі пра смяротны стан і грахоўную злосць» (1766) належыць да метафізічнай паэзіі позняга барока. 2-я частка зб. «Роздум пра непазбежную смерць» (1766), выдадзеная асобна, атрымала процілеглыя ацэнкі: у 19 ст. — прадмет насмешак і жартаўлівых наследаванняў, сёння лічыцца шэдэўрам гратэску; спроба паказаць у ёй дэманічную ўсемагутнасць смерці, блізкая да нігілізму. Стыль Б. выкарыстоўвалі В.Дунін-Марцінкевіч («Просьба» № 1), У. Сыракомля («Наследаванне Баку»).

*Літ.:* Nawarecki A. Czarny karnawał: «Uwagi śmierci niechybnej» księdza Baki — poetyka tekstu i paradoksy recepcji. Wrocław etc., 1991.

*А.В.Мальдзіс.*

БАНІФРА́ТЫ, браты міласэрнасці — манахі каталіцкага манаскага ордэна св. Яна Божага (лац. Ordo S.Joannis de Deo) групы клірыкаў рэгулярных. Заснавальнік ордэна партугалец Ян Божы ў 1540 стварыў у Грэнадзе цывільнае брацтва, галоўнай мэтай якога быў догляд хворых, удоў і сірот. 1.1.1572 папа рымскі Павел V надаў брацтву статут св. Аўгусціна і назваў яго ў сваім брэве (кароткім пасланні) манаскім ордэнам. На чале ордэна стаяў генерал. Выпрабавальны тэрмін пры ўступленні 1 год, яшчэ 1 год адводзіўся для выпрабавання прынятага ў ордэн. Апрача 3 асн. манаскіх абавязкаў (паслушэнства, устрымання, беднасці) узялі на сябе яшчэ адзін — догляд хворых. Кляштарнымі шпіталямі кіравалі цывільныя ардынарыі, якія мелі медыцынскую адукацыю. Вопратка Б. (хабіт): рыза з чорнага сукна, шкаплер такога ж колеру, маленькі круглы капюшон, скураны пояс. У 1592 Б. падзяліліся на 2 галіны: іспанскую (іх кляштары ў Іспаніі і Зах. Індыі) і італьянскую (іх кляштары ў Італіі, Францыі, Германіі і Рэчы Паспалітай).

У Рэчы Паспалітай першы кляштар Б. заснаваны ў Кракаве ў 1609. На Беларусі кляштары Б. былі ў Навагрудку (1649—?, фундатар падканцлер ВКЛ Казімір Леў Сапега); Мінску (1700—1836, фундатар стольнік мінскі Тэадор Ванькові), Гродне (1727—1843, фундатар віленскі біскуп Панцажынскі, у 1798 кляштар атрымаў фундуш ад рас. імператара Паўла І), Высока-Літоўску (1785—1840, фундатар Аляксандр Сапега), Ракаве (1638—1832 ?). *Л.А.Карнілава.*

БАПТЫ́СТЫ (ад грэч. baptizō акунаю, хрышчу вадой) — паслядоўнікі аднаго з кірункаў *пратэстантызму* — баптызму. Першая абшчына Б. узнікла ў 1609 з англійскіх эмігрантаў у Амстэрдаме (Галандыя). Найбольш распаўсюджаны баптызм у ЗША. На тэр. Рас. імперыі, у т.л. на Беларусь, баптызм прыйшоў у асноўным з Германіі. У аснове іх веравучэння агульныя пратэстанцкія догматы: адмаўленне ролі царквы як абавязковага пасрэдніка паміж Богам і чалавекам, прызнанне прынцыпу ўсеагульнага святарства, вера ў Святую Тройцу. Б. прытрымліваюцца догматаў аб выратавальнай місіі Ісуса Хрыста, яго другім прышэсці, спрадвечнай грахоўнасці чалавека. Для Б. абавязковыя місіянерская дзейнасць і дабрачыннасць. Яны прызнаюць 2 асн. абрады — хрышчэнне ў вадзе паўналетніх і абрад хлебапераламлення. Асн. іх святы: Нараджэнне і Хрышчэнне Хрыста, *Вялікдзень*, *Тройца*, Праабражэнне, Свята Жніва, Дзень Адзінства. На Беларусі першыя абшчыны Б. з'явіліся ў 1870-я г.; цяпер большасць Б. уваходзіць у *Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў*, які ў 2001 налічваў на Беларусі 268 абшчын. *А.У.Верашчагіна.*

БАРАНО́ВІЧ Лазар (1620—13.9.1693, паводле інш. звестак 1593—1693 або верасень 1694) — украінскі і беларускі праваслаўны царкоўны дзеяч і пісьменнік. З сям'і бел. шляхціча. Вучыўся ў Віленскай і Кіеўскай духоўных акадэміях. Іераманах, з 1642 выкладчык Кіеўскай акадэміі, у 1650—58 яе рэктар. Адначасова ігумен кіеўскіх Брацкага і Кірылаўскага манастыроў, з 1652 — архімандрыт Купяціцкага (каля Пінска) і Дзятлавіцкага (каля Лунінца) манастыроў. Удзельнічаў у адраджэнні рэліг.-культурнага жыцця на Палессі. У 1655 — пач. 1656 перавёз з Пінска ў Кіеў і змясціў у Сафійскім саборы агульную святыню праваслаў. беларусаў і ўкраінцаў — *Купяціцкі абраз Маці Божай*. З сак. 1657 да канца жыцця Б. — епіскап (з 1668 архіепіскап) Чарнігаўскі і Ноўгарад-Северскі. Адначасова ў ліпені — лістападзе 1657 месцаахоўнік кафедры мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі. На гэтай пасадзе паказаў вялікія дыпламатычныя здольнасці: захаваў, не пакрыўдзіўшы Расіі, залежнасць *Кіеўскай мітраполіі* ад Канстанці-



Л.Барановіч.

нопальскага патрыярха і не дапусціў пераводу ва унію правасл. украінцаў і беларусаў на землях ВКЛ і Польшчы. Б. быў буйным грамадска-паліт. і культурным дзеячам. Найб. паліт. уплывам карыстаўся пры гетмане Левабярэжнай Украіны (1668—72) Д.Многагрэшным. Выступаў за адзінства Украіны з Расіяй, аб'яднанне беларусаў, украінцаў, расіян і палякаў для барацьбы супраць туркаў і татар у абарону паўднёвых славян. Імкнуўся адцягнуць гетмана Правабярэжнай Украіны (1665—76) П. Дарашэнку ад саюза з татарамі і туркамі. У пач. 1670-х г. заснаваў у Чарнігаве друкарню, якая стала цэнтрам кнігадрукавання на старабел. мове, стаяў ля вытокаў бел. багаслоўска-літаратурнай школы Новага часу. Аўтар «Жыццяў святых» (1670, на польска-бел. мове), зборніка эмблематычнай паэзіі «Лютня Апалонава» (1671), кніг казанняў «Меч духоўны» (1666), «Трубы славес» (1674), «Благадаць і праўда Хрыстова», «Слова ўдзячнае Ісусу Хрысту» (1680), твораў, прысвечаных рас. правіцельніцы Соф'і Аляксееўне «Вянец Божай Маці» і «Найяснейшая неба і зямлі царыца Дзева Маці Марыя ад Лазара Барановіча праслаўляемая» (1683). У трактаце «Новая мера старой веры» (1676), напісаным у адказ на кнігу езуіта Паўла Боймы «Старая вера» (1668), адстойваў правасл. («старую») веру, даводзіў немэтазгоднасць змены веры правасл. беларусамі і ўкраінцамі, адвяргаў тэзіс аб сусв. уладзе рымскіх пап і ўдакладняў іерархію сыходжання Св. Духа. Спрыяў развіццю іканапісу, удасканаленню царк. напеваў на аснове бел.-украінскай народнай традыцыі.

*Літ.:* Богданов А.П. Перо и крест. М., 1990; Игумен Антоний. Житие святителя Феодосия, архиепископа Черниговского чудотворца. М., 1996. С. 4—16.

*А.А.Яскевіч.*


Баркалабаўскі абраз Божай Маці.

БАРКАЛА́БАЎСКІ АБРА́З БО́ЖАЙ МА́ЦІ — выява Божай Маці, якая захоўваецца ў Троіцкай царкве г. Быхава Магілёўскай вобл. Першапачаткова знаходзілася ў правасл. Баркалабаўскім жаночым манастыры (адсюль назва абраза), заснаваным Б. Сцяцкевічам у 1648. У манастырскім архіве захоўвалася легендарнае паданне аб паходжанні абраза. Згодна з ім у 1659 нейкі «князь вояў рускіх» Пажарскі вяртаўся «з Польшчы», маючы пры сабе патаемна гэты абраз Багародзіцы. Калі атрад князя праходзіў каля манастыра, «абраз стаў нерухомы» і ніякія намаганні людзей не маглі зрушыць яго з месца. Пажарскі зразумеў, што абраз жадае застацца ў манастыры і перадаў яго ігуменні Фацінні Кіркораўне. Тут абраз праславіўся многімі цудамі, аб чым сведчылі яго шматлікія копіі ў навакольных цэрквах. Найвялікшым цудам лічылася тое, што абраз перажыў усе войны 18—20 ст. і ганенні на рэлігію 20 ст. (адзіны з шанаваных абразоў Усходняй Беларусі). Баркалабаўская Адзігітрыя, намаляваная тэмперай на хваёвай аснове з пазалочаным разьбяным фонам, з'яўляецца адным з найвялікшых шэдэўраў бел. школы іканапісу, разам з тым захоўвае выразныя рысы яго стараж.-візант. асновы. Навукоўцы выказваюць меркаванне, што абраз створаны на мяжы 16—17 ст., ці ў 1-й палавіне 17 ст. ў цэнтральна-бел. рэгіёне (магчыма, у Слуцку ). Святкаванне абраза адбываецца 11 ліпеня, у дзень яго з'яўлення ў Баркалабаўскім манастыры. *А.А.Ярашэвіч.*

БАРУ́НСКІ АБРА́З БО́ЖАЙ МА́ЦІ — адна з найбольш шанаваных хрысц. святынь Беларусі. Знаходзіцца ў касцёле св. Пятра і Паўла ў в. Баруны Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. У пач. 19 ст. быў адным з самых шанаваных на Віленшчыне. Напачатку абраз належаў базыльянскаму манаху Іазафату Бражыцу, які ў 1671 быў ігуменам кляштара ў Полацку, трымаў абраз у келлі, і памёр у 1683 у Віцебску. Базыльянскі гісторык І.Сцябельскі паведамляе, што яшчэ пры жыцці Бражыц аддаў абраз набожнаму Мікалаю Песляку, які заснаваў на месцы сучаснай в. Баруны *Барунскі манастыр базыльян* (1692) і перадаў туды абраз. Ён уцалеў ад пажару 1707 і быў змешчаны ў асобным алтары адбудаванага ў 1715 храма. Упершыню абраз згадваецца ў 1705, а ў 1712 у Супраслі надрукавана кніга мітрапаліта Лявона *Кішкі* аб яго цудах (перавыдадзена ў 1742 там жа). Вядомая гравюра абраза 18 ст. Паводле В.Навакоўскага, у пач. 19 ст. М.Важынскі ўзяў абраз у свой дом у Алянах, а базыльянам узамен даў копію. Пасля перадачы Барунскага храма каталікам (1919) у 1926 абраз вернуты Важынскімі ў касцёл, у 1927 адрэстаўрыраваны віленскай мастачкай Г.Шрамоўнай. Іканаграфія абраза — Адзігітрыя, дзіця на левай руцэ, апранута ў белы хітон, злёгку адхілена ад Маці. Марыя ў хітоне вішнёвага колеру і сіне-зялёным мафорыі, нізка апушчаным на лоб. Вакол галоў слабое высвятленне з праменямі. Фон карычневы, з кірылічнымі манаграмамі Маці Божай і Хрыста. У каталозе Віленскай дыяцэзіі (1935) абраз характарызуецца як наяўны і цудадзейны. Лёс абраза пасля 1939 дакладна не высветлены. Магчыма, цяперашні абраз у Барунскім касцёле — толькі копія. Паводле вусных звестак арыгінал загінуў у час 2-й сусв. вайны ў выніку неадпаведных умоў захавання. *А.А.Ярашэвіч.*

БАРУ́НСКІ МАНАСТЫ́Р БАЗЫЛЬЯ́Н — помнік архітэктуры 18 ст. Створаны ў в. Баруны (Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.). Уключае царкву,


Барунскі абраз Божай Маці.

манастырскі корпус, вежу-званіцу і капліцу. У 1692 пабудавана драўляная царква, у 1700—07 на яе месцы — мураваная (згарэла, у 1715 адбудавана, не захавалася). Новая мураваная царква пабудавана ў 1747—57 паводле праекта архітэктара А.Асікевіча ў стылі віленскага барока, дабудавана ў 1760—70. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай накрыта 2-схільным дахам. Дэкаратыўнае аздабленне сканцэнтравана на пластычна вырашаным гал. фасадзе. Вежы пастаўлены пад вуглом да бакавых нефаў: паўднёвая 3-ярусная квадратная ў плане завершана гранёным купалам, ад другой застаўся ніжні ярус, накрыты 4-схільным купалам. Да вежаў з абодвух бакоў прылягаюць брамы з пластычнымі абрысамі. Паўночная брама злучае царкву з 2-яруснай вежай-званіцай. Манастырскі корпус пабудаваны ў 1778—93. Будынак Т-падобны ў плане, 2-павярховы, пры аднаўленні ў канцы 19 ст. яму нададзены рысы класіцызму. На пач. 19 ст. тут працавала публічная 6-класная школа базыльян (адкрыта ў 1793). На плошчы перад царквой размешчана капліца — цэнтрычны 2-ярусны аб'ём (чацвярык на васьмерыку; пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст.).

*Т.В.Габрусь.*

БАРЫ́С І ГЛЕБ, малодшыя сыны вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча, якія першымі ў рас. правасл. царкве былі прылічаны да ліку святых (у 1071). Пасля смерці Уладзіміра яны вераломна забіты. Паводле адных звестак забіты па загаду іх старэйшага брата Святаполка, т.зв. Акаяннага, які захапіў велікакняжацкі прастол; паводле другіх — па загаду брата Яраслава. Гібель братоў выкарыстаў Яраслаў Уладзіміравіч для апраўдання сваёй барацьбы са Святаполкам. У стараж.-рус. л-ры Б. і Г. сталі ўвасабленнем вернасці абавязку і рус. зямлі. Рус. правасл. царква стварыла іх вобразы як памагатых рус. князёў у барацьбе супраць міжусобіц. Культ Б. і Г. меў ярка выражаны патрыятычны характар. Ім прысвечаны літ. творы і мноства храмаў. У 12 ст. Барысаглебскія храмы пабудаваны ў Полацку, Тураве, Гродне, Навагрудку.

БАТЛЕ́ЙКА (ад Betleem польская назва г. Віфлеема, паводле біблейскіх сказанняў — месца нараджэння Хрыста) — беларускі народны лялечны тэатр. Вядомы з 16 ст. У розных рэгіёнах Беларусі меў назвы яселка, батляемка, остлейка, жлоб, вяртэп. Падобны да Б. тэатр апісваў Герадот. Блізкія да Б. ўкраінскі вяртэп і польская шопка. Для паказаў Б. з дрэва рабілі скрынкі розных памераў, звычайна ў выглядзе хаткі ці царквы, з гарызантальнымі ярусамі-сцэнамі, кожная з якіх мела прорэзі для ваджэння лялек; аздаблялася тканінай, паперай, геаметрычнымі фігурамі з тонкіх палачак і нагадвала балкон. На задніку сцэны малявалі абразы, зоркі, крыжы, вокны, лялечныя кампазіцыі на біблейскія сюжэты. Скрынка, падобная да царквы, мела купалападобны дах з крыжам і зачынялася дзверцамі. Лялькі-персанажы рабілі з дрэва, каляровай паперы, тканіны; валасы, бровы, вусы — з лёну ці аўчыны; вопратку — з тканіны. Лялькі мацавалі на драўляны ці металічны шпень, пры дапамозе якога батлеечнік вадзіў іх па прорэзях у ярусе-сцэне. Вядома Б. і з лялькамі-марыянеткамі на нітках з верхнім прынцыпам ваджэння, з пальчатачнымі лялькамі. Паказы суправаджаліся музыкай, сцэна і лялькі асвятляліся свечкамі. Батлеечнік знаходзіўся за скрынкай, адтуль вадзіў лялькі, гаварыў тэкст, падрабляючы голас персанажа. Часта ён быў не толькі адзіным выканаўцам, але і драматургам, мастаком, рэжысёрам, музыкантам, іншы раз — своеасаблівым канферансье (звяртаўся да гледача, характарызуючы ад свайго імя персанажы). Звычайна батлеечнікі былі таленавітымі акцёрамі-самародкамі. Рэпертуар Б. складаўся з 2 частак: кананічнай (рэліг.) і свецкай (народна-бытавой), якія разыгрываліся адпаведна на верхнім і ніжнім ярусах. Найб. папулярнасцю карыстаўся свецкі рэпертуар з камічнымі сцэнамі, народнымі песнямі і танцамі: «Вольскі — купец польскі», «Ірыдыяда, Рыгор і франт», «Волжскі дваранін і Ванька», «Барыня і доктар», «Цыган і цыганка», «Яўрэй і казак», «Скамарох з мядзведзем» і інш. Батлейкавы паказ меў сінтэтычны характар, уключаючы песні, танцы, маналогі, дыялогі. У 2-й палавіне 19 ст. запісаны некаторыя тэкставыя варыянты паказаў Б. Язы дзеляцца на сцэнкі і песні рэліг. зместу, містэрыяльную драму «Цар Ірад» і народныя жанравыя сцэны. Апошнія маюць вострасатырычны характар, у іх высмейваюцца такія сацыяльныя тыпы як доктар-шарлатан, карчмар, фанабэрысты шляхціц і інш. Сатырычным вобразам процістаўляўся селянін — гал. герой папулярных сцэн «Мацей і доктар», «Антон з казой і Антоніха». Вядомыя батлеечнікі Н.Дыла, С.Трывога (Слуцк), В.Бутома (Магілёў), Мураніцкі і Дамбіцкі (Мінск), Бранкоўскі і Бурдун (Дзятлава), М.Барашка (Мір) і інш. У канцы



Магілёўская **батлейка**. 2-я пал. 19 ст.

19 — пач. 20 ст. асобныя сцэны Б. выконвалі жывыя акцёры, т.зв. жывыя Б. Заняпад Б. пачаўся ў 2-й палавіне 19 ст. У 1915 у Мінску наладжаны паказы Б., у 1923 І.Барашка дэманстраваў мастацтва Б. ў Маскве, на Усерас. сельскагаспадарчай саматужна-прамысловай выстаўцы, у 1927 батлеечнікі давалі прадстаўленне ў Мінску, у Бел. дзярж. музеі. З канца 1980-х г. робяцца спробы адрадзіць традыц. батлеечныя паказы.

*Літ.:* Барышаў Г.І., Саннікаў А.К. Беларускі народны тэатр батлейка. Мн., 1962; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983. *М.А.Каладзінскі.*

БАХАІСТЫ — паслядоўнікі бахаізму, рэлігійна-палітычнага вучэння Хусейна Алі Нуры (1817—92), які называў сябе Баха Алах і атаясамліваўся з Богам, намагаўся стварыць універсальную рэліг. сістэму. У канцы 19 — пач. 20 ст. бахаізм распаўсюдзіўся па ўсім свеце, у т.л. ў Расіі. Існуе больш як у 160 краінах. На Беларусі зарэгістраваны ў 1992; на 1.1.2001 дзейнічае 6 абшчын Б. Сучасныя Б. прапаведуюць ідэі касмапалітызму, грамадскай дыферэнцыяцыі, эканамічнага прагматызму. Цэнтральны кіруючы орган Б. — «Сусветны дом справядлівасці» знаходзіцца ў Хайфе (Ізраіль).

БЕКЕШ Каспар (1520, Трансільванія — 1579) — беларускі мысліцель, палітычны і ваенны дзеяч. Венгр па паходжанні, быў супернікам Стэфана Баторыя ў барацьбе за трансільванскае княжанне, пазней — яго сябар і саюзнік. Пасля выбрання Баторыя каралём Рэчы Паспалітай Б. камандаваў венгерскай пяхотай у каралеўскім войску. Праявіў свае ваенныя здольнасці ў бітвах пад Гданьскам (1578) і Полацкам (1579). Некаторы час быў гродзенскім ваяводам. Вакол Б. групаваліся *антытрынітарыі*. Паводле сведчання сучаснікаў, Б. не вызнаваў ніякай рэлігіі. Памёр у Гродне. Пасля смерці Б. каталіцкая і правасл. цэрквы адмовіліся хаваць яго на сваіх могілках. Паводле загаду Баторыя яго цела перавезена ў Вільню і пахавана на высокім беразе р. Вільня, а на надмагіллі, паводле наказу Б., высечаны надпіс: «... Не веру ў Бога, не прагну яго неба, не баюся пекла, не турбуюся пра Божы суд, не трывожуся пра цела і тым больш пра душу, якая памерла разам са мною...». У Бел. дзярж. музеі гісторыі рэлігіі ў Гродне экспануецца скульптурная выява Б. (скульптар Салятыцкі).

*Тв.:* У кн.: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962.

«БЕЛАРУС» («Bielarus») — грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і рэлігійна-асветніцкая штотыднёвая каталіцкая газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася з 13(26).1.1913 да 30.7(12.8). 1915 у Вільні на бел. мове, друкавалася лацінкай. Была разлічана пераважна на каталіцкую частку бел. сялян і інтэлігенцыі. Рэдактары-выдаўцы: А.І.Бычкоўскі, з № 5 за 1914 Б.А.Пачопка. Эпіграф да ўсіх нумароў «Б.» — словы з Евангелля: «Шкада мне гэтага народу... бо не мае што есці» (Марк, 8, 2). Мела аддзелы і рубрыкі: «рэдакцыйныя артыкулы», «вершы, аповесці, апавяданні і нарысы», «каталіцкі касцёльны каляндар», «сялянская гаспадарка», «краёвая царкоўная і замежная хроніка», «перапіска з уласнымі карэспандэнтамі», «усячына» (афарызмы, загадкі, незвычайныя здарэнні і інш.). Друкавала артыкулы на эканамічныя, паліт. і сельскагаспадарчыя тэмы, казанні святароў на тэмы маралі і педагогікі, жыціі святых, малітвы. У праграмным артыкуле рэдакцыя заявіла, што «будзе стаяць заўсёды на грунце хрысціянскім-каталіцкім, баронячы справу хрысціянскую і беларускую», паважаючы інш. народнасці і веравызнанні (26.1.1913). Асаблівасць бел. адраджэнскай ідэі ў газ. «Б.» — адзінства нац. культуры, асветы і хрысц. веры. Газета агітавала беларусаў-католікаў за развіццё нац. самасвядомасці, заахвочвала каталіцкі клір да ўжывання бел. мовы ў набажэнстве, арыентавалася на сацыяльную гармонію і вясковы, сялянскі лад жыцця, не прымала класавую барацьбу і сацыялістычныя ідэі. Для надрукаваных у газеце матэрыялаў характэрны нашаніўскі матыў абуджэння беларусаў да актыўнай гіст. творчасці, ідэя нац. адзінства беларусаў правасл. і католікаў, крытыка русіфікатарскіх і паланізатарскіх тэндэнцый. *У.М.Конан.*

БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ БРАЦТВА ТРОХ ВІЛЕНСКІХ ПАКУТНІКАЎ — беларуская рэлігійная арганізацыя, якая дзейнічае паводле прынцыпаў хрысціянскай маралі, дабрачыннасці і самакіравання. Узнікла ў студзені 1992 пры Петра-Паўлаўскім саборы г. Мінска паводле благаславення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Названа ў гонар святых зямлі беларускай Антонія, Іаана і Яўстафія Віленскіх (гл. *Віленскія пакутнікі*), якія пацярпелі за веру Хрыстову ў 1347. Аб'ядноўвае правасл. вернікаў, пераважна інтэлігенцыю, з мэтай хрысц. асветніцтва, дабрачыннасці, царк. і сацыяльнага служэння. У маладзёжны філіял Брацтва ўваходзіць навучэнская, пераважна студэнцкая моладзь, што цікавіцца пытаннямі правасл. адукацыі і выхавання, арганізацыяй адпачынку дзяцей і падлеткаў, кантактамі з моладдзю інш. краін. Асветніцкую дзейнасць ажыццяўляе выдавецкі аддзел, які выдае царк. календары, богаслужэбную, гіст., даведачную і інш. рэліг. літаратуру на бел. і рус. мовах. Час. «Праваслаўе», што выдаецца сумесна з выдавецтвам «Ортдрук»

(Беласток, Польшча), мае пастаянныя рубрыкі: багаслоўе, рэліг. думка, царк. гісторыя, духоўная спадчына, архівы і дакументы, мастацкае слова. У лабараторыі царк. гісторыі назапашваюцца звесткі па гісторыі праваслаўя на Беларусі, вядзецца праца па стварэнні бібліятэкі, архіва, базы дадзеных, бягучай і рэтраспектыўнай бібліяграфіі. Сацыяльнае служэнне ажыццяўляецца шляхам супрацоўніцтва з дабрачыннымі і дыяканічнымі арганізацыямі ў Рэспубліцы Беларусь і за мяжой. Праводзіцца праца з дзецьмі-інвалідамі, выхаванцамі школ-інтэрнатаў, дзецьмі, што часова знаходзяцца ў прыёмніку-размеркавальніку Міністэрства ўнутр. спраў. Арганізуецца летні адпачынак дзяцей з нядзельных школ і малазабяспечаных сем'яў. У рамках супрацоўніцтва з Біблейскім т-вам Рэспублікі Беларусь і ў складзе Біблейскай камісіі Бел. Экзархату члены Брацтва ўдзельнічаюць у перакладзе Св. пісання і правасл. богаслужэнняў на бел. мову. Сумесна з творчымі саюзамі, навуч. ўстановамі, музеямі Брацтва арганізуе тэматычныя сустрэчы, канферэнцыі з удзелам духавенства і інтэлігенцыі. Падтрымлівае пастаянныя кантакты з арганізацыямі і прадстаўнікамі правасл. цэркваў інш. краін, з'яўляецца членам міжнар. рэліг. арганізацый і Сусветнай федэрацыі хрысціян-студэнтаў. Хор Брацтва нясе послух на клірасе Пятра-Паўлаўскага сабора г. Мінска, удзельнічае ў дабрачынных канцэртах, фестывалях царк. музыкі, адраджае бел. царк. пеўчую традыцыю. *Л.Я.Кулажанка.*

БЕЛАРУ́СКАЕ ТАВАРЫ́СТВА АХО́ВЫ ПО́МНІКАЎ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ. Створана ў 1966. Праводзіць работу па выяўленні, вывучэнні і прапагандзе помнікаў гісторыі і культуры (у т.л. культавых), забеспячэнні іх аховы, фінансуе работы па кансервацыі і рэстаўрацыі. Мае індывідуальнае і калектыўнае членства. Працуюць абласныя, раённыя і гарадскія саветы, пярвічныя арг-цыі.

БЕЛАРУ́СКАЯ АЎТАКЕФА́ЛЬНАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́ (БАПЦ) — адміністрацыйна незалежная (ад грэч. autos сам + kephalē галава) ад іншых цэркваў правасл. царква беларускага народа. Тэндэнцыі да аддасаблення бел. епархій ад Рус. правасл. царквы праявіліся ў хуткім часе пасля ўтварэння БССР. У 1922 на Мінскім епархіяльным з'ездзе бел. мітрапалітам абраны *Мелхіседэк*, у 1927 бел. мітраполія абвешчана *аўтакефальнай царквой*. Але аўтакефалія ў БССР не атрымала развіцця з прычыны рэпрэсій з боку Сав. улады (Мелхіседэк высланы ў Краснаярск, потым пераведзены ў Маскву, дзе і памёр; амаль усе епіскапы загінулі ў турмах і лагерах), а таксама з прычыны вострай унутрыцарк. барацьбы. Мэтанакіраваная дзярж. палітыка ліквідацыі рэлігіі, асабліва інтэнсіўная ў 1929—37, прывяла да амаль поўнага знішчэння правасл. храмаў і духавенства ў БССР. Некаторае ажыўленне царк. жыцця ў 1939—40 (у прыватнасці, заснаванне экзархата Маск. патрыярхіі для Зах. Украіны і Зах. Беларусі) закранула толькі зах. раёны і было выклікана імкненнем улад супрацьдзейнічаць уплыву каталіцызму на былых польскіх тэрыторыях. У гэтых умовах частка духавенства і бел. антысавецкія арганізацыі (Беларускі нац. камітэт у Варшаве і інш.) успрынялі ням. акупацыю Беларусі ў Вял. Айчынную вайну як магчымасць аднаўлення БАПЦ. На працягу 1941—42 было сфарміравана царк. кіраўніцтва (мітрапаліцкая ўправа, потым Сінод), Беларусь падзелена на епархіі, прызначаны епіскапы. Да сярэдзіны 1944 існавалі епархіі: Мінская мітрапаліцкая, Брэсцкая, Віцебская, Гомельская, Гродзенская, Магілёўская, Навагрудская, Палеская. Усебеларускі царк. сабор (Мінск, жнівень—верасень 1942) зацвердзіў статут БАПЦ, але адклаў кананічнае афармленне аўтакефаліі да канца вайны. У 1942—44 павялічваліся супярэчнасці паміж епіскапамі БАПЦ і шэрагам паліт. і грамадскіх дзеячаў (Р.Астроўскі, І.Касяк, М.Ліпіцкі і інш.), якія пры падтрымцы нямецкіх улад спрабавалі фарсіраваць працэс беларусізацыі царквы (увядзенне бел. мовы ў набажэнства і рэліг. навучанне, звальненне архірэяў і святароў прарускай арыентацыі і інш.), а з утварэннем Бел. цэнтральнай рады (снеж. 1943) на чале з Астроўскім — падначаліць царкву яе паліт. кантролю. Падчас вызвалення Беларусі Чырвонай Арміяй (чэрв.—ліп. 1944) епіскапат БАПЦ эвакуіраваўся ў Германію, а ў лютым 1946, нягледзячы на пратэсты эмігранцкіх Беларускага царк. камітэта і Бел. правасл. аб'яднання, увайшоў у склад Рус. замежнай правасл. царквы. Трэці раз БАПЦ заснавана ў г. Канстанцы (Германія) у чэрв. 1948 (гл. *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква на эміграцыі*).

*Літ.:* Касяк І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Йорк, 1956; Документы обличают: Реакционная роль религии и церкви на территории Белоруссии. Мн., 1964; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *В.В.Антонаў.*

БЕЛАРУ́СКАЯ АЎТАКЕФА́ЛЬНАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́ НА ЭМІГРА́ЦЫІ (БАПЦЭ) — рэлігійная арганізацыя беларусаў на эміграцыі. Засн. ў чэрвені 1948 у Германіі рэліг. і грамадскімі дзеячамі, прыхільнікамі ўрада Бел. Народнай Рэспублікі. Першапачаткова дзейнічала ў Еўропе (Германія, Англія, Францыя, Бельгія), з пачатку 1950-х г. — у ЗША, Канадзе і Аўстраліі. Прыходы БАПЦЭ (у 1990-я г. каля 20, з іх 10 у ЗША) прызнаны і афіцыйна зарэгістраваны дзяржаўнымі структурамі гэтых краін. Богаслужэнне вядзецца на бел. мове. Займаецца таксама культурна-асветніцкай, выдавецкай, грамадскай, дабрачыннай дзейнасцю, дапамагае беларусам-эмігрантам захоў-

ваць сваю нац.-духоўную спадчыну. Не атрымала кананічнага прызнання з боку інш. правасл. цэркваў.

Першапачаткова БАПЦЭ узначальваў епіскап Укр. аўтакефальнай правасл. царквы Сергій (Грыгор Ахатэнка), з 1971 — епіскап Андрэй (Аляксандр Крыт). У 1949 створаны сабор епіскапаў БАПЦЭ, у які ўваходзіў і епіскап Васіль (Уладзімір Тамашчык — у 1951— 70 кіраваў амерыканскай епархіяй). У 1983 БАПЦЭ раскалолася на 2 рэліг. арганізацыі: адну ўзначаліла рада БАПЦЭ з мітрапалітам *Мікалаем* (Міхаілам Мацукевічам), другую — кансісторыя БАПЦЭ з мітрапалітам Ізяславам (Янам Бруцкім). Друкаваныя выданні: *«Голас царквы»*, «Царкоўны пасланец» і інш

*Літ.:* Касяк І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Йорк, 1956; Кіпель В. Беларусы ў ЗША. Мн., 1993; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *А.У.Ялыковіч.*

БЕЛАРУ́СКАЯ АЎТАНО́МНАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́ — аб'яднанне беларускіх епархій абнаўленчай царквы (гл. ў артыкуле *Абнаўленцы*). Існавала ў 1924—34. Утворана ў маі 1924 на чале са Свяшчэнным сінодам і мітрапалітам магілёўскім і беларускім на 1-м Беларускім абласным царкоўным саборы ў г. Магілёў. Падзялялася на 5 епархій (Аршанская, Віцебская, Высачанска-Веліжская, Магілёўская і Мсціслаўская), налічвала каля 500 парафій (пераважна ва ўсходнім рэгіёне; у снеж. 1924 прыходы Дубровенскага раёна абвясцілі ўласную незалежнасць). Выдавала часопіс «Белорусский православный вестник» (Магілёў, 1924—27). Мітрапаліты: Уладзімір (1924—26), Іосіф (І.П.Крачатовіч; 1926—34). З пачатку 1930-х гадоў, ва ўмовах пераходу савецкай дзяржавы да жорсткай антырэліг. палітыкі і агульнага крызісу абнаўленства, аўтаномная царква пачала страчваць пазіцыі і спыніла існаванне. Парафіі вярнуліся пад уладу Маскоўскага патрыярхату.

БЕЛАРУ́СКАЯ КАТАЛІ́ЦКАЯ ГРАМАДА́, грамадская арганізацыя католікаў Беларусі. Створана ў 1990. Асн. кірункі дзейнасці: вяртанне бел. касцёла да нац. вытокаў, забеспячэнне паўнапраўнага функцыянавання ў ім бел. мовы, выданне рэліг. і богаслужэбнай літаратуры, выхаванне патрыятызму, маральнасці, культуры і грамадзянскай адказнасці. Падтрымлівае сувязі з каталіцкімі арганізацыямі замежжа. З 1992 выдае час. «Хрысціянская думка». Выдала кнігу А.Станкевіча «Родная мова ў святынях» (факсіміле), зб. вершаў А.Зязюлі «З роднага загону» і інш. Скульптурна-манументальная секцыя грамады ўдзельнічае ў распрацоўках праектаў рэстаўрацыі культавых збудаванняў, стварэнні помнікаў гіст. асобам.

БЕЛАРУ́СКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́, Беларускі экзархат — кананічнае царкоўна-адміністрацыйнае аб'яднанне праваслаўных епархій у межах Беларусі. Гісторыя бел. царквы бярэ пачатак з заснавання ў 992 Полацкай епархіі. Да 13 ст. Б.п.ц. складалі 2 епархіі: Полацкая і Тураўская (1005), якія ўваходзілі ў *Кіеўскую мітраполію*. У сувязі з раздзяленнем гэтай мітраполіі на правасл. царкву ў межах Маскоўскага княства і правасл. царкву Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ; Літоўская мітраполія, 1316) Полацкая, а з 1347 і Тураўская епархіі ўвайшлі ў склад апошняй. У 1459 адбылося канчатковае аддзяленне Кіеўскай (Літоўска-Наваградскай) мітраполіі ад Маскоўскай. У сярэдзіне 16 ст. ў склад Літоўска-Наваградскай мітраполіі (цэнтр у Навагрудку, потым у Вільні) уваходзіла 9 епархій: Полацкая, Тураўская з кафедрай у Пінску, Смаленская, Чарнігаўская, Галіцкая, Пярэмышльская, Холмская, Луцкая, Уладзіміра-Валынская.

Найб. вядомыя літоўска-наваградскія мітрапаліты: *Грыгорый Балгарын (1458—75)*, *Місаіл* (1475—80), *Сімяон* (1481—88), *Іона І Глезна* (1492—94), *Макрый* (1495—97), *Іосіф І Булгарыновіч* (1498—1501), *Іона ІІ* (1503—07), *Іосіф ІІ Солтан* (1508—21), *Іосіф ІІІ* (1522—34): *Макарый ІІ (1534—55)*, *Сільвестр* (1556—67), *Іона ІІІ Пратасовіч* (1568—77), *Ілья Куча* (1577—79), *Анісіфар* (1579—88), Міхаіл *Рагоза* (1589—95). Яны знаходзіліся ў кананічных і малітоўных сувязях з Усяленскім (Канстанцінопальскім) патрыярхам.

Пасля *Брэсцкай уніі 1596* правасл. царква ў ВКЛ як кананічнае цэлае перастала існаваць. Зноў заснаваная ў 1632 Магілёўская (Беларуская) епархія была адзінай правасл. епархіяй у межах Беларусі да канца 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 засн. Мінская епархія. У 1833 адноўлена Полацкая, створаны Віленская (1840) і Гродзенская (1900) епархіі. У Брэсце, Беластоку, Слуцку, Гомелі, Коўне і Дзвінску існавалі кафедры вікарных епіскапаў. Усе епархіі ўваходзілі ў склад Грэка-рас. царквы і знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Свяцейшага кіруючага Усерас. Сінода. Да 1-й сусв. вайны ў 5 правасл. епархіях Беларусі былі 3552 храмы і 35 манастыроў, 3 духоўныя семінарыі. Кожная з епархій мела свае перыядычныя выданні. У Заходняй Беларусі, якая ў 1921 адышла да Польшчы, правасл. епархіі (Віленская, Гродзенская і Палеская) былі ў юрысдыкцыі Польскай аўтакефальнай царквы. У БССР у 1922 была ўтворана Бел. правасл. мітраполія на чале з мітрапалітам *Мелхіседэкам* (Паеўскім; 1920—27), які меў тытул «мінскі і беларускі». У складзе мітраполіі знаходзіліся Мінская, Бабруйская, Мазырская і Слуцкая епархіі. Аднак рэпрэсіўная палітыка савецкіх улад у адносінах да царквы (арышты, забойствы святароў, масавае закрыццё і руйнаванне храмаў і манастыроў) прыпыніла царк. жыццё; не дзейнічала ніводная з кананічных бел. правасл. епархій. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі ў 1942 адноўлена 6 епархій: Мін-

ская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Навагрудская і Смаленская. Б.п.ц. ўзначальваў мітрапаліт мінскі і ўсяе Беларусі *Панцеляймон* (Ражноўскі). У канцы 1941 у афіц. царк. дакументах упершыню ўжыта назва «Беларуская праваслаўная царква». У час вайны Б.п.ц. кананічна не падпарадкоўвалася ніякай інш. царкве. Спробы належным чынам аформіць яе аўтакефалію былі беспаспяховыя (гл. *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква*). Пасля вайны кіраўніцтва Б.п.ц. ажыццяўлялася праз Мінска-Беларускую епархію, якая ўваходзіла ў склад Маскоўскага патрыярхата Рус. правасл. царквы. Створаныя раней епархіі ў 1950-я г. паступова спынілі дзейнасць. Кіруючы мінскі архірэй (насіў тытул «мінскі і беларускі») ажыццяўляў кіраўніцтва непасрэдна.

Кіруючыя мінска-бел. архірэі: архіепіскап Васілій (Ратміраў, 1944—45), мітрапаліт Піцірым (Свірыдаў, 1945—58), Гурый (Ягораў, 1958—61), Антоній (Крацэвіч, 16.3—17.7.1961), архіепіскап Варлаам (Барысевіч, 1961—63), мітрапаліты Нікадзім (Ротаў, 4.8—9.10.1963), Сергій (Пятроў, 1963—65), *Антоній* (Мельнікаў, 1965—78), *Філарэт* (Вахрамееў, з 1978).

У 1957 Б.п.ц. мела 968 храмаў, з якіх 709 былі прыходскімі, 3 манастыры, 1 духоўную семінарыю. У выніку чарговых ганенняў на царкву ў канцы 1950 — пач. 1960-х г. засталося 369 царк. прыходаў і 1 манастыр; духоўная семінарыя была зачынена. У канцы 1980-х г. пачалося адраджэнне царк. жыцця. Да 1992 адноўлена 9 епархій: Полацкая, Магілёўская, Пінская, Брэсцкая, Гомельская, Навагрудская, Гродзенская, Тураўская, Віцебская, якія разам з Мінскай епархіяй уваходзяць у Беларускі экзархат (утвораны ў 1989). Вышэйшая заканадаўчая і выканаўчая ўлада ў экзархаце належыць Сіноду, у якім 5 кіруючых епіскапаў бел. епархій. Сінод узначальвае мітрапаліт мінскі і слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. На 1.1.2001 у Б.п.ц. 10 епархій, 1172 царк. прыходы, 3 мужчынскія і 6 жаночых манастыроў; дзейнічаюць Мінская вышэйшая духоўная семінарыя, Мінскае духоўнае вучылішча. Бел. экзархат выдае час. *«Веснік Беларускага экзархата»*, *«Минские епархиальные ведомости»*, *«Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце»*, газ. *«Могилевские епархиальные ведомости»*, «Преображение», «Царкоўнае слова» і інш.

*Літ.:* Карташев А.В. Очерки по истории русской церкви. Т. 1—2. Париж, 1959 (репр. изд. М., 1991); Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.
*Г.М.Шэйкін.*

БЕЛАРУ́СКАЯ ХРЫСЦІЯ́НСКА-ДЭМАКРАТЫ́ЧНАЯ ЗЛУ́ЧНАСЦЬ (БХДЗ) — палітычная партыя ў Рэспубліцы Беларусь. Утворана ў чэрвені 1991. Абвясціла сябе пераемніцай *Беларускай хрысціянскай дэмакратыі*. Кіруючы орган — каардынацыйная рада. Асн. мэта БХДЗ — духоўна-маральнае, нац., паліт. і эканамічнае адраджэнне Беларусі на прынцыпах негвалтоўнасці, плюралізму, прыватнай уласнасці, хрысц. брацтва з усімі народамі. З 1991 БХДЗ аднавіла выданне газ. «Беларуская крыніца».

БЕЛАРУ́СКАЯ ХРЫСЦІЯ́НСКАЯ ДЭМАКРА́ТЫЯ (БХД), Беларускае нацыянальнае аб'яднанне (БНА) — клерыкальная дэмакратычная беларуская нацыянальная партыя. Засн. ў маі 1917 у Петраградзе, дзейнічала на тэр. Заходняй Беларусі да 1940. Да сярэдзіны 1920-х г. называлася Хрысціянская дэмакратычная злучнасць (ХДС), са студз. 1936 — БНА. Заснавальнікі і гал. ідэолагі БХД — бел. ксяндзы Ф.Абрантовіч, Л.Хвецка, А.Станкевіч, В.Гадлеўскі, Ф.Будзька, А.Зязюля (А.С.Астрамовіч), К.Сваяк (К.Стаповіч) і інш. Друкаваны орган — газ. «Беларуская крыніца». Заснаванне ХДЗ садзейнічала актывізацыі грамадска-паліт. дзейнасці каталіцкага духавенства непасрэдна на Беларусі. Як актыўны ўдзельнік Бел. нац. камітэта, а потым і Вялікай бел. рады ХДЗ-БХД падтрымлівала Часовы ўрад А.Ф.Керанскага, у адносінах да савецкай улады паступова заняла адмоўныя пазіцыі. На думку Станкевіча, «палітычны незалежны ідэал БХД лагічна выцякае з акта 25 сакавіка 1918 года, які абвясціў Беларусь незалежнай суверэннай дзяржавай». У аснову практычнай дзейнасці БХД была пакладзена тэорыя самабытнасці развіцця бел. нацыі, адмаўленне класавай барацьбы. Усе 5 праграм партыі, пачынаючы з 1920, адстойвалі асновы дэмакратычнага ладу, у т.л. прыватную ўласнасць. З 2-й палавіны 1920-х г. БХД узяла курс на пераўтварэнне партыі ў грамадска-паліт. арг-цыю на грунце агульнахрысц. ідэалогіі, што знайшло адлюстраванне ў 5-й праграме (1936) і змене назвы на БНА. Аднак змена назвы партыі не мяняла яе сутнасці, а толькі падкрэслівала незалежнасць ад кліру і прэтэнзію на аднаасобнае паліт. прадстаўніцтва бел. народа. Гал. паліт. мэту бачыла ў тым, «каб у незалежнай Беларусі быў створаны такі грамадскі лад, які абапіраючыся на працу, грамадскую роўнасць і справядлівасць, не дапускаючы да эксплуатацыі адных другімі, забяспечваў бы палітычна-грамадскія, культурныя і эканамічныя патрэбы грамадзян». БХД выступала за самастойнасць бел. народа на ўсіх яго землях, перадачу зямлі ва ўласнасць і без выкупу беззямельным і малазямельным сялянам, абавязковасць вывучэння рэлігіі ў школах, супраць аддзялення царквы ад дзяржавы: «дыктатуры капіталізму, фашызму і камунізму» і інш. З мэтай пашырэння сацыяльнай базы партыі ў чэрвені 1926 у Вільні быў адкрыты Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры як філіял БХД. Кіраўнікі БХД—БНА адмоўна сустрэлі прапанову ЦК КПЗБ пра стварэнне адзінага фронту барацьбы супраць польскіх улад, аднак удзельнічалі ў сумесных акцыях барацьбы за школу на роднай мове. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР многія члены партыі рэпрэсіраваны. *У.Ф.Ладысеў*

«БЕЛАРУ́СКАЯ ЦАРКВА́» — рэлігійна-гістарычны часопіс, які выдаваўся ў 1956—65 у Чыкага (ЗША) на бел. мове з адначасовым выкарыстаннем лацінкі і кірыліцы. Заснавальнік — бел. культ.-рэліг. цэнтр, які ў сярэдзіне 1950-х г. аб'яднаў бел. эміграцыю вакол царквы Хрыста Спаса (Збаўцы). Мэта дзейнасці — паліт. незалежнасць бел. дзяржавы, стварэнне незалежнай грэка-каталіцкай царквы (уніяцкай), барацьба супраць камуністычнай ідэалогіі. У часопісе пераважалі артыкулы гіст. і рэліг. зместу. Аўтарам большасці з іх быў вядомы на эміграцыі гісторык В.Пануцэвіч. Змяшчаў таксама артыкулы гісторыкаў і мовазнаўцаў Беларусі, маст. творы рэліг. зместу і інш. *М.А.Матрунчык.*

БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ РЭЛІГІІ. Заснаваны ў 1978 у г. Гродна як Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі. З 1989 сучасная назва. Адкрыты для наведвання 15.1.1985. Размяшчаўся ў будынках былога Гродзенскага базыльянскага жаночага манастыра (у 1978—85 зроблена рэстаўрацыя і архітэктурны комплекс прыстасаваны пад музей). Меў 15 экспазіцыйных і 3 выставачныя залы (агульная пл. 2200 $м^2$). Экспазіцыя асвятляла гісторыю развіцця духоўнай культуры на Беларусі ад узнікнення рэліг. вераванняў да нашых дзён. У сувязі з паступовай перадачай з 1992 будынкаў музея дзеючаму манастыру Раства Багародзіцы экспазіцыя ў 1994 закрыта. Музею перададзены будынак 18—19 ст. па вул. Замкавай — былы палац Храптовіча, Тызенгаўза, Ляхніцкага. У снеж. 1994 у адрэстаўрыраванай частцы палаца адкрыты экспазіцыя «Эпоха, час, будынак», выставачная і канцэртная залы (пл. 300 $м^2$). У фондах музея захоўваюцца творы выяўл. і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (12—20 ст.), кнігі (16—20 ст.), археал. знаходкі і этнаграфічныя экспанаты (на 1.1.1995 агульны фонд 57 тыс. прадметаў). Пры музеі створана навуковая бібліятэка (больш за 13 тыс. тамоў), з 1983 працуе і рэстаўрацыйная майстэрня. *Л.А.Карнілава.*

«БЕЛАРУ́СКІ ПРАВАСЛА́ЎНЫ КАЛЯНДА́Р» — рэлігійна-асветніцкае выданне для богаслужбовага ўжытку і выкарыстання праваслаўнымі вернікамі ў штодзённым царкоўным жыцці. Выдаецца з 1994 *Беларускім Праваслаўным Брацтвам Трох Віленскіх Пакутнікаў* пры Св. Петра-Паўлаўскім саборы г. Мінска. Выходзіць штогод і складаецца з некалькіх раздзелаў. У каляндарным раздзеле звесткі пра штодзённыя богаслужэнні, пра святых, памяць якіх адзначаецца, пра раздзелы з Евангелля, якія чытаюцца за богаслужэннем і асаблівасці царк. службы ў гэты дзень. Асабліва адзначаны дні памяці святых зямлі Беларускай, змешчаны ў перакладзе на бел. мову царк. песнапенні — трапары і кандакі *дванадзесятым святам* і бел. святым. У раздзеле «Звод імёнаў святых» у алфавітным парадку змяшчаюцца імёны святых, што шануюцца праваслаўнай царквою (даты памяці святых прыводзяцца паводле новага стылю). Спецыяльна для «Б.п.к.» распрацоўваюцца тэматычныя раздзелы, якія прысвячаюцца разнастайным кірункам бел. царк. традыцыі: «Катэхізіс» (1994), «Беларускія праваслаўныя святыні» (1994, 1995), «Народны каляндар» (1995), «Полацкая епархія» (1996), «Мінская епархія» (1997), «Князь К.К.Астрожскі — славуты асветнік і абаронца Праваслаўя» (1998), «Бажэственная літургія» (пераклад на бел. мову, 1999), «Беларуская Праваслаўная Царква напярэдадні 2000-годдзя Раджджаства Хрыстовага» (2000), «Вялікая вячэрня» (пераклад на бел. мову, 2001), «Цудадзейныя іконы Беларусі» (2001) і інш. *Т.М.Матрунчык.*

БЕЛАРУ́СКІ ПРАВАСЛА́ЎНЫ КРЫЖ — гл. *Крыж Ефрасінні Полацкай.*

БЕНЕДЫКЦІ́НЦЫ — манахі найстарэйшага ў Еўропе каталіцкага манаскага ордэна святога Бенядзікта (лац. Ordo Sancti Benedicti). Засн. ў 530 Бенядзіктам Нурсійскім (ён быў і аўтарам статута) у г. Монтэкасіна (Італія). Статут патрабаваў ад Б. сталага жыхарства ў кляштары (кляўзуры), паслушэнства, устрымання і беднасці. Мэта ордэна (харызмат) — кантэмпляцыя (прывядзенне псіхікі ў стан глыбокай засяроджанасці), фізічная і разумовая праца, выхаванне моладзі. Адным з абавязкаў Б. было правядзенне ўрачыстай літургіі. У 9—10 ст. кляштары Б. мелі аўтаномію, карысталіся шматлікімі прывілеямі, сабралі значныя багацці. Гэта прывяло да адыходу ад статута ордэна.



**«Беларускі праваслаўны каляндар».**




«Беларускі праваслаўны каляндар».




«Беларускі праваслаўны каляндар».

Дзеля вяртання да першапачатковых ідэалаў была праведзена Клюнійская рэформа (10—11 ст.), у выніку якой ўтварыліся новыя кангрэгацыі: картузаў, цыстэрцыянцаў, трапістаў, камедулаў. Б. адыгралі вялікую ролю ў развіцці каталіцкай тэалогіі, умацаванні каталіцкай царквы і папства. Шматлікія кляштары Б. мелі свае школы, буйныя б-кі з рэдкімі зборамі, скрыпторыі, дзе перапісваліся кнігі і летапісы. У 13 ст. Б. саступілі першынство *дамініканцам* і *францысканцам*. У 11—13 ст. Б. ўдзельнічалі ў місіянерскай дзейнасці на славянскіх землях і ў Прыбалтыцы. У ВКЛ яны прыйшлі з Польшчы. На Беларусі Б. мелі кляштары ў Гарадзішчы каля Пінска (1659—1855, фундатар ваявода полацкі Ян Караль Копец; засн. манахамі, якія прыйшлі з Монтэкасіна, таму атрымаў назву Castrum Cassinum — «Пастаянны лагер Касіна»), у Мінску (1700—1832, фундатар жонка менскага харунжага Стацкевіча), у Нясвіжы (1673—1864, фундатар Мікалай Радзівіл). Былі і жаночыя кляштары Б.: у Мінску (1632—1867, фундатары Крыштаф Хадкевіч, ваявода віленскі, і Войцех Сялява, канонік віленскі), Оршы (?—1669, фундатар невядомы), Нясвіжы (1590—1872, фундатар Мікалай Радзівіл Сіротка), Слоніме (1669—1850, фундатар Ганна Пшэўлаўская; першыя манашкі прыйшлі сюды с закрытага смаленскага кляштара, таму наз. Exulantki Smolenski — смаленскія выгнанніцы). Пры жаночых кляштарах існавалі школы для дзяўчынак са шляхецкіх сем'яў. У ВКЛ манашкі-Б. мелі права прышываць да вэлюму крыж с ярка-чырвонага аксаміту як напамінак пра ахвяры ордэна ў час Паўночнай вайны 1700—21. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі царскі ўрад аб'яднаў кляштары Б. і інш. каталіцкіх манаскіх ордэнаў у бенедыкцінска-цыстэрцыянска-камедула-картузскую кангрэгацыю. Пасля паўстанняў 1830—31 і 1863—64 на Беларусі кляштары Б. былі закрыты. У Зах. Еўропе ў 1893 папа Леў XIII засн. федэрацыю Б., якая пацверджана статутам папы Пія XII у 1952. Гэты ж папа ў 1947 прысвоіў Бенядзікту Нурсійскаму тытул «Бацька Еўропы», а папа Павел VI у 1964 абвясціў яго «патронам Еўропы». У 1980 папа Іаан Павел II даў яму «сапатронаў» — святых Кірылу і Мяфодзія.

*Літ.:* Holzherr G. Reguła benedyktyńska w życiu chrześcijańskim. Tyniec, 1988. *А.А.Карнілава.*

БЕРАЗВЕЦКІ КЛЯШТАР БАЗЫЛЬЯН. Драўляны кляштар базыльян пабудаваны ў 1643 на паўн. беразе воз. Глыбокае каля в. Беразвечча (цяпер у межах г. Глыбокае Віцебскай вобл.) паводле фундацыі старосты мсціслаўскага Я.Корсака. Пры кляштары дзейнічала школа, у якой выкладаліся прыродазнаўчыя навукі і замежныя мовы. У 1756—63 на месцы старых будынкаў узведзены новы мураваны кляштар з царквой — адзін з лепшых узораў віленскага барока. Аўтарам праекта царквы лічаць віленскага дойліда І.К.Глаўбіца, над дэкорам з 1753 працаваў архітэктар і лепшчык Ян Табіяш Дыдрыштэн (Дыдрыхтэн). У канцы 18 ст. комплекс уключаў царкву з араторыумам (зімовая капліца, прыбудаваная ў 1766—76), жылыя і гаспадарчыя карпусы, школу і сад, абнесеныя мураванай агароджай з брамай. Пасля скасавання ў 1839 Брэсцкай уніі 1596 кляштар перададзены правасл. мужчынскаму манастыру (1847—74), пазней — жаночаму. У 1919 царква перайшла да каталікаў, у манастырскіх будынках

размяшчаўся польскі корпус аховы сумежжа. У 1930-я г. комплекс рэстаўрыраваны. У Вялікую Айчынную вайну на тэр. манастыра нямецкія фашысты стварылі лагер смерці. У 1960-я г. царква разбурана. *В.В.Гліннік.*

БЕРНАРДЗІНЦЫ — 1) другая назва *цыстэрцыянцаў*, якая замацавалася за імі з 12 ст. пасля рэарганізацыі ордэна Бернарам Клервоскім (1090—1153, кананізаваны ў 1174).

2) Манахі-*францысканцы*, якія першапачаткова прытрымліваліся больш строгага статута Францыска Асізскага. Патрабаванні аб вяртанні да гэтага статута з'явіліся ў 13 — пач. 14 ст. У 1415 Канстанцкі сабор задаволіў просьбу францысканскага прапаведніка Бернарда Сіенскага і пацвердзіў першапачатковы статут. У 1430 на генеральным капітуле ордэна францысканцаў-абсервантаў, пазней на тэр. Рэчы Паспалітай і паўднёваслав. землях за імі замацавалася назва Б. (ад імя прапаведніка Бернарда Сіенскага). У 1431 пры папе Яўгену IV францысканцы-абсерванты атрымалі права ўнесці пасаду генеральнага *вікарыя* (ім стаў Бернард Сіенскі). У 1517 адбыўся канчатковы разрыў Б. з ордэнам францысканцаў. На Беларусь Б. прыйшлі з Польшчы і вялі тут місіянерскую і пастырскую дзейнасць сярод правасл. насельніцтва. У 1467 быў створаны Польскі вікарыят, а на яго аснове ў 1517 — Польская правінцыя, з якой у 1530 вылучалася Літоўская правінцыя (у 1570 зноў аб'яднана з Польскай). У 1628 Польская правінцыя падзелена на Велікапольскую, Малапольскую, Рускую і Літоўскую, а ў 1630 Малапольская, Руская і Літоўская правінцыі аб'яднаны ў Польскую (Малапольска-Літоўскую) правінцыю. З апошняй у 1637 вылучылася Руская правінцыя, а ў 1731 — Літоўская. Манашкі-бернардзінкі першапачаткова сяліліся пры мужчынскіх кляштарах ордэна і не прымалі абавязку сталага жыхарства пры кляштары (кляўзуру). У 1566 папа Пій V абавязаў іх прыняць кляўзуру і 3 манаскія абавязкі. На Беларусі дзейнічалі 4 жаночыя кляштары Б.: у Брэсце (1624—1831), Гродне (каля 1618—1853), Мінску (1630—1866), Слоніме (1645—1907). Мужчынскіх кляштараў Б. было больш: у Беніцы (1700—1852), Беразіне (1682—1832), Будславе (1504—1858), Гродне (1494—1853), Брэсце (1605—1830), Віцебску (1676—1832), Валожыне (1683—1860), Глуску (1662—1832), Друі (1646—1850), Іўі (1631—1858), Магілёве (1696—1864), Мазыры (1645—1832), Мінску (1624—1868), Нясвіжы (1598—1864), Оршы (1631—1832), Слоніме (1630—1864) і інш. Пры кляштарах Б. дзейнічалі школы (у т.л. музычная ў Будславе), б-кі, часам аптэкі. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі ўплыў Б. паступова змяншаўся, амаль усе іх кляштары спынілі дзейнасць у 1860-я гады. *Л.А.Карнілава.*

БЕСПАПОЎШЧЫНА — адзін з кірункаў, на якія падзяліліся *стараабраднікі* ў сярэдзіне 1690-х г. Паслядоўнікі Б. адмаўлялі царк. іерархію і святароў. Богаслужэнне вялі спец. абраныя настаўнікі. З царк. абрадаў захавалі толькі хрышчэнне і споведзь (некаторыя з плыняў Б. адмаўлялі і іх). Для ранняга этапу Б. характэрны адмоўныя адносіны да свету «антыхрыста» і яго «слуг» — прадстаўнікоў улады, адмаўленне шлюбу. Некаторыя плыні прапаведвалі крайнія формы выратавання душы — самаспаленне. Б. не ўяўляла сабой адзінага цэлага і распалася на мноства плыняў (паморцы, федасееўцы, філіпаўцы, бегуны і інш.). Асобныя абшчыны Б. захаваліся на Беларусі да нашага часу.

БЕССМЯРОТНАСЦЬ у міфалогіі і рэлігіі — фантастычная якасць, якой надзяляюцца звышнатуральныя бесцялесныя істоты (Бог монатэістычных рэлігій, асабліва іудаізму, хрысціянства, ісламу), а таксама фантастычныя міфалагічныя персанажы (духі, богі этнічных рэлігій, анёлы і інш.). Б. чалавека ў большасці рэліг. вучэнняў уяўляецца як Б. душы — працяг існавання асаблівай звышнатуральнай, нематэрыяльнай сутнасці чалавека пасля смерці цела. У шэрагу рэлігій Б. душы дапаўняецца вучэннем пра пераўвасабленне душ, а ў іудаізме, хрысціянстве і ісламе — вучэнне пра ўсеагульнае ўваскрэсенне памерлых, вечным існаванні праведнікаў і вечных пакутах грэшнікаў. У сучаснай пратэстанцкай і каталіцкай тэалогіі адбываецца пераасэнсаванне вучэння пра Б. душы; выказванні пра Б. і вечнае жыццё разглядаюцца як сімвалы, сэнс якіх заключаецца ў акце веры. У пратэстантызме вядомы некірункі (адвентызм, іегавізм), якія фармальна адмаўляюць Б. душы. Але ўсе гэтыя рэліг. плыні захоўваюць вучэнне пра звышнатуральны працяг існавання асобы, звязаны з ідэяй загробнай адплаты.

БЖАЗОЎСКІ (Brzozowski) Тадэвуш (24.10.1749, Вармія, Польшча — 5.2.1820) — дзеяч каталіцкай царквы, генерал ордэна *езуітаў* (з 1805), педагог. Уступіў у ордэн езуітаў у 1765. Вывучаў мовы, філасофію і прыродазнаўчыя навукі ў езуіцкіх школах у Слуцку і Нясвіжы, скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1775). Быў настаўнікам у ваяводскай школе ў Мінску. У 1782 перасяліўся ў Полацк, дзе выкладаў у езуіцкім навіцыяце, займаўся перакладамі, стаў вядомы як прапаведнік. З 1797 сакратар, з 1802 асістэнт ордэна. Узначаліўшы ордэн пасля смерці Г.*Грубера*, Б. працягваў яго палітыку актыўнага пашырэння ўплыву езуітаў у Расіі і прапаганды каталіцызму

шляхам утварэння новых і ўмацавання існуючых місій, калегій, навуч. устаноў ордэна. Для гэтага выкарыстоўваў пэўныя сімпатыі да езуітаў ва ўрадавых колах (А.К.Разумоўскі, А.М.Галіцын) і езуіцкую партыю ў Пецярбургу (сардзінскі пасланнік і публіцыст Ж. дэ Местр, блізкі да імператара Аляксандра I сенатар А.І.Ілінскі і інш.). Дзякуючы намаганням Б. ў 1808 з Пінска ў Полацк былі перанесены мошчы езуіта *А.Баболі*. Вяршыняй поспехаў Б. было стварэнне ў 1812 *Полацкай езуіцкай акадэміі* з вывядзеннем навуч. устаноў езуітаў з падпарадкавання Віленскай навуч. акрузе. Падчас вайны 1812 езуіты трымаліся падкрэслена лаяльна: Б. пераехаў з Полацка ў Пецярбург, езуіцкія ўстановы ў Полацку, Віцебску, Оршы з набліжэннем французаў зачыняліся. Аднак з 1813 адносіны ордэна з рас. урадам пагоршыліся. Б. адмовіўся стаць членам *Біблейскага таварыства*, куды, па жаданні рас. імператара, увайшлі многія правасл. іерархі і каталіцкі мітрапаліт *С.Богуш-Сестранцэвіч*. Пры аднаўленні ордэна езуітаў ва ўсім свеце ў 1814 (быў скасаваны папам Кліментам XIV у 1773, але захаваўся на тэр. Рас. імперыі) Б. захаваў сваё месцазнаходжанне ў Пецярбургу. У снеж. 1815 езуітаў выслалі з Пецярбурга і цэнтральная адміністрацыя ордэна вярнулася ў Полацк, дзе Б. і памёр. Неўзабаве пасля яго смерці прыняты закон (25.3.1820) аб высылцы езуітаў з Расіі.

*В.В.Антонаў.*

БЖАСТО́ЎСКІ Канстанцін Казімір (1644 — кастр. 1722) — каталіцкі царкоўны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Д-р тэалогіі (1669). Са шляхецкага роду Бжастоўскіх. З 1661 канонік віленскі, з 1664 кафедральны прапаведнік. Вышэйшую багаслоўскую адукацыю атрымаў у Рыме. З 1671 сакратар ВКЛ, настаяцель касцёла ў г. Трокі (цяпер Тракай у Літве), пісар ВКЛ. З 1684 біскуп смаленскі, у 1687—1722 біскуп віленскі. Адзін з ініцыятараў вынясення смяротнага прыгавору бел. мысліцелю-атэісту К.Лышчынскаму ў 1689. Падтрымліваў каралёў Яна III Сабескага і Аўгуста II ў паліт. барацьбе супраць групоўкі князёў Сапегаў. У 1705 пры сустрэчы ў Верках (каля Вільні) з рас. царом Пятром I спрабаваў абараніць уніятаў ад царскіх ганенняў. Разам з былым сваім ворагам Казімірам Сапегам уступіў у Віленскую канфедэрацыю 1716 супраць саксонскай дынастыі. Фундаваў і асвяціў шмат касцёлаў. Спрыяў уніятам, нецярпіма ставіўся да *дысідэнтаў*. Аўтар багаслоўскіх твораў.

БІБЛЕ́ЙСКІЯ ТАВАРЫ́СТВЫ — грамадскія рэлігійна-дабрачынныя арганізацыі, якія маюць на мэце пераклад Бібліі і яе частак на нац. мовы і распаўсюджанне Пісання свяшчэннага. сярод народаў свету. Найбольш вядомае — Брытанскае і замежнае біблейскае таварыства (засн. ў 1804). На яго ўзор у 1812 было створана Пецярбургскае біблейскае таварыства, пераўтворанае ў 1814 у агульнаімперскае Расійскае біблейскае таварыства. Узначальвалася камітэтам, куды ўвайшлі вышэйшыя саноўнікі і духоўныя асобы — прадстаўнікі ўсіх хрысц. канфесій імперыі. Прэзідэнтам быў абраны галоўнакамандуючы замежнымі вызнаннямі А.М.Галіцын (з 1817 міністр духоўных спраў і нар. асветы, обер-пракурор Сінода). Таварыства купляла, перакладала, друкавала і распаўсюджвала кнігі Пісання свяшчэннага больш чым на 40 мовах, праводзіла місіянерскую работу сярод нехрысц. насельніцтва імперыі. У 1814—24 таварыства распаўсюдзіла больш за 700 тыс. экз. Бібліі і яе частак. Садзейнічала пашырэнню ў Расіі ланкастэрскіх школ для бедных, займалася дабрачыннай дзейнасцю. За час існавання яно адкрыла 289 мясцовых аддзяленняў, у т.л. на Беларусі. З 1816 яго аддзяленні дзейнічалі ў Магілёве, Віцебску, з 1817 у Мінску і Гродне. Аддзяленні Рас. біблейскага таварыства ў губернскіх цэнтрах і іх «сутаварыствы» (падраздзяленні) у павятовых гарадах распаўсюджвалі сярод насельніцтва Беларусі Біблію на царкоўнаславян., французскай, нямецкай мовах і Новы запавет на царкоўнаслав. рус., польскай, латышскай, нямецкай, французскай, яўрэйскай (лонданскае выданне) мовах. Пытанне пра бел. пераклад Бібліі не ставілася. Дзейнасць Рас. біблейскага таварыства была супярэчлівая. Цесна звязанае з уладай і палітыкай самадзяржаўя, яно мела выразна афіцыёзны характар. Імкненне таварыства як мага шырэй распаўсюджваць Біблію на нац. мовах без каментарыяў і тлумачэнняў, выклікала рэзкі пратэст Ватыкана і незадаволенасць рус. кансерватыўных колаў, у т.л. тых іерархаў Рус. правасл. царквы, якія бачылі ў яго дзейнасці наступ іншаземных рэфарматарскіх ідэй, падрыў пазіцый пануючай царквы і ідэалагічных асноў рус. дзяржавы. У 1824 пад націскам крытыкаў Аляксандр I вымушаны быў прыпыніць дзейнасць Рас. біблейскага таварыства, канчаткова яно скасавана ў 1826 Мікалаем I. З 1831 у Расіі дзейнічала выключна для пратэстантаў імперыі Евангелічнае біблейскае таварыства. У Заходняй Еўропе і Амерыцы Б.т. не спынялі дзейнасці. У 1946 у Лондане створана міжнар. Аб'яднанае біблейскае таварыства. Шырокае распаўсюджанне Бібліі на Беларусі аднавілася з канца 1980-х гадоў у выніку ўзнікнення спрыяльных умоў для дзейнасці царк. і рэліг. арганізацый і дзякуючы намаганням міжнар. цэнтраў па перакладзе і папулярызацыі кніг Пісання свяшчэннага.

*С.А.Кузняева.*

БІ́БЛІЯ (грэч. biblia літ. кнігі) — зборнік твораў старажытнага пісьменства, святая кніга іудзейскай (Стары запавет) і хрысціянскай (Стары і Но-

вы запаветы) рэлігій; своеасаблівая анталогія выбраных кніг, аб'яднаных і фармальна (згрупаваны ў адным пераплёце паводле храналагічнага прынцыпу), і ўнутраным зместам, і сімвалічным сэнсам.

Складалася на працягу 1-га тысячагоддзя да н.э. — 2-га ст. н.э. на тэр. Палесціны (страж. Ізраільска-Іудзейскае царства) і ў месцах яўрэйскай дыяспары на арамейскай, старaж.-яўрэйскай і страж.-грэч. мовах. Поўная Б. складаецца з 2 частак — *Старога запавету* (50 кніг, з іх 39 кананічных, якія выкарыстоўваюцца ў літургічнай службе, і 11 некананічных, прызнаных хрысц. царквою карыснымі для духоўнага выхавання) і *Новага запавету* [27 кніг: 4 *Евангеллі* (паводле Матфея, Марка, Лукі, Іаана), зборнік з 22 твораў пад агульнай назвай *Апостал, Апакаліпсіс* (Адкрыццё Іаана Багаслова)]. Паводле багаслоўскага тлумачэння, у назвах частак Б. слова «запавет» азначае наказ Бога «выбранаму народу» (страж. яўрэям, якія спавядалі монатэістычную рэлігію), а праз яго — усяму чалавецтву. Іудзейская Б. складаецца з 39 кананічных кніг: Закон, або *Пяцікніжжа* (па-яўрэйску *Тора*, прыпісваецца Майсею), *Прарокі* (кнігі Ісаі, Ераміі, Езекііль, Данілы і 12 «малых прарокаў», кніг Ісуса Навіна, Суддзяў, 4 кнігі Царстваў), Пісанні (кнігі Руф, 1-я і 2-я Параліпаменон, *Ездры*, Неяміі, Эсфір, Іова, *Псалтыр*, Прытчы Саламона, Эклезіяст, Песня песням, Плач Ераміі). Кананічныя кнігі Старога запавету напісаны страж.-яўрэйскай і часткова арамейскай мовамі. Старазапаветная частка хрысц. (правасл. і каталіцкай) Б., у дадатак да кананічных, уключае таксама некананічныя кнігі: 1—3-ю Ездры, Тавіта, Юдзіф, Прамудрасць Саламона, Прамудрасць Ісуса Сірахава, прарока Баруха, 1—3-ю кнігі Макавеяў. Некананічныя кнігі напісаны на страж.-грэч. мове (кнігі Тавіт і Юдзіф, на думку некаторых даследчыкаў, першапачаткова пісаліся на халдзейскай, г. зн. арамейскай, мове). У Б., якую выдаюць пратэстанцкія царк. абшчыны, некананічныя кнігі звычайна не ўключаюцца.

Новы запавет напісаны на т.зв. александрыйскай гаворцы страж.-грэч. мовы. Выключэннем з'яўляецца Евангелле паводле Матфея, напісанае на сірыйска-халдзейскай гаворцы страж.-яўрэйскай мовы. У Б. не ўвайшлі *апокрыфы* — першае Евангелле Якава, Евангелле Фамы, Апакаліпсіс апостала Пятра, Апакаліпсіс апостала Паўла, Хаджэнне Багародзіцы па пакутах, Аб дванаццаці пакутах і інш. творы розных жанраў (маст., публіцыстычныя, філасофскія), напісаныя на біблейскія тэмы і матывы ананімнымі аўтарамі ў эпоху позняй антычнасці і ранняга сярэднявечча. Царк. традыцыя і біблейская крытыка лічаць іх падробкамі або наследаваннямі.

На працягу амаль тысячагоддзя біблейскія творы распаўсюджваліся паасобку ў рукапісных спісах (скрутках) і выкарыстоўваліся з выхаваўчымі і рэліг. мэтамі. Першы звод старазапаветнай часткі Б. стварылі ў 2 ст. да н.э. ў Александрыі 70 «талкоўнікаў», перакладчыкаў са страж.-яўрэйскай і арамейскай моў на страж.-грэчаскую. Захаваўся рукапісны спіс 4 ст. н.э. гэтага перакладу пад назвай Септуагінта (лац. Septuaginta семдзесят), які стаў адной з асн. крыніц пазнейшых выданняў біблейскіх кніг. У 386—406 багаслоў Еранім зрабіў лац. пераклад Б. — *Вульгату* (лац. Vulgata народная, агульнадаступная). Еранім выкарыстаў тэксты на страж.-грэч. мове і Септуагінту. Вульгата пакладзена ў аснову варыянта Б., прынятага каталіцкай царквой у якасці афіц. тэксту. У 4—13 ст. з'явіліся шматлікія рэгіянальныя пераклады Б.: сірыйскі, арабскі, версіі персідская, караімская, татара-іудзейская і інш. У 9 ст. слав. асветнікі Кірыла і Мяфодзій пераклалі Б. на старaслав. мову. Гэты пераклад лёг у аснову рукапісных біблейскіх кніг, што бытавалі на ўсходне-слав. землях, у т.л. Полацкім, Турава-Пінскім і інш. бел. княствах. Першы рукапісны звод Б. на царк.-слав. мове ўкладзены ў 1499 у Ноўгарадзе па ініцыятыве архіепіскапа Генадзя («Генадзіеўская Біблія»). У 1488 у Празе першымі сярод славян на роднай мове выдалі друкаваную Б. чэхі.

На Беларусі спісы асобных біблейскіх кніг або іх фрагментаў з'явіліся пасля *хрышчэння Русі* (988). Верагодна, у канцы 10 ст. перапісваннем кніг Б. займалася Рагнеда Рагвалодаўна, якая ў Ізяслаўлі (Заслаўі) пастрыглася ў манашкі пад імем Анастасіі. У 1-й пал. 12 ст. *Еўфрасіння Полацкая* стварыла асветніцкі цэнтр у Полацку, дзе перапісваліся біблейскія кнігі. Свае скрыпторыі —



Да арт. **Біблія**. Тытульны ліст «Бібліі» Ф.Скарыны. 1519.




Тытульны ліст **Біблії**, выдадзенай на беларускай мове ў Нью-Йорку. 1973.

цэнтры, у якіх перапісваліся кнігі, — мелі манастыры, гарады, епіскапскія кафедры. Цэнтр у Полацку быў найбольш буйным. Пра сталую біблейскую традыцыю сярэдневяковай Беларусі сведчаць высокамаст. ілюстраваныя помнікі рукапіснай кнігі: *Аршанскае евангелле, Полацкія евангеллі, Лаўрышаўскае евангелле, Друцкае евангелле, Мсціжскае евангелле, Смаленскі псалтыр з Мсціслаўскага Пустынскага Успенскага манастыра* (в. Пустынкі Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл.). Практычна ў кожнай стараж. бібліятэцы Беларусі меліся біблейскія кнігі. Першым зборам царк.-слав. рукапісных кніг Б. на Беларусі стаў багата аздоблены ў неавізант. стылі «Дзесятаглаў», створаны ў 1502—07 у Вільні і Супраслі перапісчыкам Мацеем Дзесятым. Разам з *«Пяцікніжжам»*, перапісаным дзякам Фёдарам у 1514, «Дзесятаглаў» склаў поўны цыкл кніг Старога і Новага запаветаў. Да з'яўлення кнігадрукавання Б. заставалася элітарнай, маладаступнай кнігай. У 1517—19 Ф.*Скарына* пры падтрымцы віленкіх мецэнатаў Якуба Бабіча і Багдана Онкава заснаваў у Празе друкарню і выдаў 23 ілюстраваныя кнігі першай бел. Б. пад агульнай назвай «Бивлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцка, Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Гэта было унікальнае навук.-папулярнае выданне Б. на роднай мове, блізкай да тагачаснай бел. літ. мовы. У якасці крыніц для сваіх перакладаў біблейскіх кніг Скарына выкарыстаў Вульгату, «Біблію чэшскую ў Венецыі друкаваную» (1506), стараж.-яўрэйскія арыгіналы і стараж.-слав. рукапісныя пераклады. На думку даследчыка Я.Л.Неміроўскага, бел. першадрукар пераклаў і, магчыма, надрукаваў усе кнігі Старога запавету, але яны не ўсе зберагліся. Пра гэта сведчаць рукапісныя спісы са скарынавых перакладаў: «Пераліпаменон», 4 кнігі «Ездры» і «Тавіт», 12 раздзелаў 1-й кнігі «Макавеяў», якія ў друкаваных кнігах не захаваліся. Такі спіс зрабіў у 1575 «пісарчык» Дзмітрый з Зенькава в «неславном же граде Маначине» (цяпер с. Маначын Хмяльніцкай вобл. Украіны). Невядомыя ў друку пераклады Скарыны (2-й кнігі «Параліпаменон», 4 кнігі «Ездры» і кнігі «Тавіт») знойдзены ў рукапіснай Б., якая спісана ў 1559 «повелением же и пильностию худаго человека на имя Луки в неславном же гради Тернополи» (травестацыя ўзнёслых слоў у прадмовах і пасляслоўях Скарыны: «у славном старом месте Празском», «у великославном месте Виленском», «ученого мужа, в лекарских науках доктора Франциска, Скоринина сына из славного града Полоцка, во великом месте Празском», «избранного мужа, в лекарских науках доктора...» і г.д.). Каля 1522 Скарына абсталяваў друкарню ў Вільні і надрукаваў там «Малую падарожную кніжку», дзе аб'яднаны Псалтыр, Часасловец (малітвы), урачыстыя гімны (*каноны* і *акафісты*), некаторыя з іх — паэтычныя творы Скарыны. У 1525 Скарына выдаў «Апостал». Напісаныя Скарынам 50 прадмоў і 62 пасляслоўі да сваіх кніг з'яўляюцца першымі на Беларусі каментарыямі да Б., у якіх тлумачацца паходжанне кожнай з апублікаваных кніг, іх аўтарства, асаблівасці сюжэтаў, вобразаў і сімвалаў, іх значэнне для рэліг., маральнага і грамадзянскага выхавання «людзей простых, паспалітых». Перад кожным раздзелам біблейскіх кніг перакладчык і выдавец змясціў кароткія анатацыі, у якіх сцісла вызначаны змест адпаведнай часткі кнігі. На перакладчыцкую творчасць Скарыны паўплывала гуманістычная атмасфера эпохі Рэнесансу, своеасаблівы артыстызм, погляд на культуру з эстэт. пункту гледжання. Параўнаўчы аналіз фрагментаў кананічнай Б. і адпаведных месцаў перакладу Скарыны сведчыць пра тое, што шмат якім маральна-тэалагічным ацэнкам перакладчык надаў эстэт. сэнс. Першыя словы «Біблії» (кнігі «Быццё») у рэдакцыі Скарыны: «В начале сотвори Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена». У папярэдніх старасслав. рэдакцыях толькі што створаная зямля ацэньваецца як «невидима и неустроена» («безвидна и пуста» сучасны рус. пераклад).

Свецкае выданне «Біблії» Скарыны ўскосна паўплывала на ўзнікненне і развіццё *Рэфармацыі* на Беларусі. У 1563 на сродкі ўплывовага кальвініста *Радзівіла* Мікалая *Чорнага* на старапольскай мове надрукавана *Брэсцкая Біблія* (радзівілаўская Біблія), («Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запавету з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю



Да арт. **Біблія**. «Саламон і леў». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Суддзі» Ф.Скарыны.



Да арт. **Біблія**. «Юдзіф і Алаферн». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Юдзіф» Ф.Скарыны.

дакладна перакладзеная»). Выданне было забяспечана прадмовай, каментарыямі і прадметным паказальнікам, багата аздоблена гравюрамі, застаўкамі і канцоўкамі. Заснавальнік біблейскай крытыкі на Беларусі і ў Літве С.*Будны* таксама выдаў Б. на старапольскай мове (Нясвіж, 1572; друкаванне закончана ў Заслаўі або Уздзе) і Новы запавет (Лоск, 1574). Каментарыі да апошняга выдання — адна з першых у Еўропе спроб рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг. На першым этапе сваёй творчасці Будны прадоўжыў біблейска-асветніцкія традыцыі Скарыны. У 1562 у *Нясвіжскай друкарні* ён выдаў на бел. мове *«Катэхізіс»* — дыдактычны пераказ асноўных ідэй Б. з прадмовай і пасляслоўем, стылістычна блізкімі да адпаведных твораў Скарыны. Прадаўжальнікам кнігавыдавецкай справы Скарыны на Беларусі быў В.*Цяпінскі.* Каля 1580 ён пераклаў на старабел. мову і выдаў «Евангелле» (паводле Матфея, Марка і частку Евангелля паводле Лукі) з прадмовай, у якой выступаў супраць дэнацыяналізацыі беларусаў, за дзяржаўнасць бел. мовы. Вопыт Скарыны, біблеіста і перакладчыка, выкарысталі І.*Фёдараў* і П.*Мсціславец,* якія выдавалі ў Маскве «Апостал» (1564). Пераехаўшы на Беларусь у 1566, яны на сродкі Р.Хадкевіча выдалі «Евангелле вучыцельнае» (Заблудаў, 1568—69) на царк.-слав. мове з прадмовай ад імя Хадкевіча, напісанай па-беларуску. Фёдараў таксама выдаў «Псалтыр з Часаслоўцам» (Заблудаў, 1569). Мсціславец выехаў у Вільню і ў друкарні Кузьмы і Лукі Мамонічаў выдаў «Евангелле напрастольнае», «Псалтыр» і «Часоўнік» (1575—76). Фёдараў у канцы 1572 — пач. 1573 пераехаў у Львоў, заснаваў там першую на Украіне друкарню і выдаў «Апостал» (1574), пазней, у друкарні К.Астрожскага ў Астрогу, — «Псалтыр» і «Новы запавет» (1580), а таксама 1-ю поўную слав. друкаваную «Астрожскую біблію» кірылічным шрыфтам (1581).

Даследчыкі мяркуюць, што на змест, афармленне і прадмовы гэтых кніг паўплывала кнігавыдавецкая традыцыя Скарыны. «Астрожская біблія», як і кніга «Быццё» ў перакладзе Скарыны, пачынаецца з эстэт. ацэнкі: «Искони сотвори Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшена». У канцы 16—17 ст. Вільня і мястэчка Еўе (каля Вільні) заставаліся асяродкамі выдання біблейскіх кніг на царк.-слав. мове (нярэдка з прадмовамі і пасляслоўямі, напісанымі па-беларуску). Там былі надрукаваны: у друкарні Мамонічаў — «Псалтыр з расследаваннем» (1586—95, 4 выд.), «Апостал» (1591—95, 3 выд.), «Псалтыр» (каля 1592, 2 выд.), «Евангелле вучыцельнае» (1595, 2 выд.), «Біблія» (т. зв. «Віленскія лісты» ненадрукаваных экзэмпляраў «Астрожскай бібліі» Фёдарава, каля 1595), «Евангелле» (1600, 2 выд.); у друкарні Віленскага правасл. брацтва — «Новы запавет з псалтыром» (Вільня, каля 1596; 2 і 3 выд. ў Еўі, 1611 і 1623); «Псалтыр» (1632—42, 5 выд.), «Псалтыр з Часасловам» (1629), «Новы запавет з псалтыром» (1641), «Евангелле» (Вільня—Еўе, 1644); у друкарні Троіцкага манастыра ў Вільні — 7 выд. «Псалтыра» (1768—99), «Евангелле вучыцельнае» (1782); у друкарні Віленскай езуіцкай акадэміі — «Псалтыр» (1779). З 2-й чвэрці 17 ст. на тэр. цяперашніх Магілёўскай і Віцебскай абласцей узніклі новыя цэнтры друкавання біблейскіх кніг. Друкарня Куцеінскага манастыра пад Оршай выпусціла ў свет «Апостал» (1632), «Новы запавет з Псалтыром» (1652), «Псалтыр» (1642; 2 выд. каля 1650). У друкарні С.Собаля ў Буйнічах пад Магілёвам надрукаваны «Псалтыр» (1637—38; 4 выд. ў 2-й пал. 17 ст.), «Апостал» (Магілёў, 1638). Магілёўская друкарня М. Вашчанкі выдала «Псалтыр» (1693—1711, 4 выд.), «Евангелле вучыцельнае» Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага (1697). У брацкай друкарні Магілёва выйшлі ў свет «Псалтыр» (1738) і «Катэхізіс» (1757; 2 выд. 1761). Друкарня Супрасльскага манастыра надрукавала 5 выд. «Псалтыра» (1780—97) і «Евангелле вучыцельнае» (1700).


Да арт. **Біблія**. «Благаславенне». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Прамудрасць божая» Ф.Скарыны.


Да арт. **Біблія**. «Будаўніцтва храма ў Ерусаліме». Гравюра з тытульнага ліста 3-й кнігі «Царствы» Ф.Скарыны.

У канцы 18 ст. віленскія друкарні перадрукавалі з маскоўскіх выданняў «Евангелле» (1790), «Евангелле вучыцельнае» (1794), «Псалтыр» (1795; 2-е выд. 1796). З канца 18 ст. да 1917 на Беларусі біблейскія кнігі не друкаваліся. Толькі уніяцкая царква выдала шэраг катэхізісаў, малітоўнікаў і падручнікаў, якія знаёмілі вернікаў са зместам Б. Заклікі да выдання Святога пісання па-беларуску з'яўляліся ў бел. друку ў 1906—17. Каталіцкая газета «Biełarus» («Беларус») знаёміла чытачоў з паасобнымі сюжэтамі і вобразамі Б. Першыя практычныя крокі да перакладу Новага запавету на сучасную бел. мову былі зроблены ў Зах. Беларусі і Польшчы. Баптысцкі прапаведнік Л.*Дзекуць-Малей* у пач. 1920-х гадоў пераклаў Евангеллі, якія ў 1926—30 выходзілі асобнымі брашурамі ў баптысцкім выдавецтве «Компас» (Лодзь). А.*Луцкевіч* адрэдагаваў пераклады Дзекуць-Малея, а паасобныя кнігі Новага запавету пераклаў сам. Вынікам гэтай працы стала выданне па-беларуску «Новага запавету і Псалмаў» (Гельсінгфорс, 1931; 2-е выд. Лондан, 1948; 3-е выд. Таронта, 1985). У 1930 ксёндз В.Гадлеўскі пераклаў Новы запавет, які быў выдадзены лацінкай пад назвай «Чатыры Евангеллі і Апостальскія дзеі» (Вільня, 1939). У пач. 1950-х гадоў ксёндз П.Татарыновіч выдаў па-беларуску лацінкай «Святое Евангелле і Апостальскія дзеі» (Рым, 1954) са сваімі каментарыямі, а пазней — «Лісты святых апосталаў» (Рым, 1974). Бел. гісторык і філолаг Я.Станкевіч у 1950—60-я гады пераклаў на бел. мову Б. без некананічных кніг. Новы запавет выдадзены ў Нью-Йорку ў 1970, а поўны пераклад пад назвай «Святая Біблія» ў 1973. У перакладзе першаіерарха Бел. аўтакефальнай правасл. царквы архіепіскапа Мікалая выдадзена «Напрастольнае святое Евангелле» (Таронта, 1988). Выйшлі таксама паасобныя старазапаветныя кнігі ў перакладзе метадысцкага пастыра Я.Пятроўскага «Генезіс» і «Кніга Эклізіяста, або прапаведніка» (Гэйнсвіле, 1984 і 1987). Упершыню ў афіц. друку Беларусі час. «Беларусь» апублікаваў 3 кн. Бібліі — «Паводле Лукі Святое Евангелле» і «Апакаліпсіс» (1990, № 1—12, перадрук з «Новага запавету і Псалмаў» у перакладзе Дзекуць-Малея і Луцкевіча), «Песню песняў» у перакладзе В.Сёмухі (1991, № 8—9). У 1990—92 час. «Спадчына» апублікаваў Евангеллі паводле Матфея, Лукі і Іаана ў перакладзе А.Клышкі. Бел. біблейская камісія пад старшынствам мітрапаліта Філарэта ўхваліла да друку перакладзенае на бел. мову В.Сёмухам Евангелле паводле Матфея ў складзе грэка-слав.-рус.-бел. тэтраглоты (1990, на 4 мовах). Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» ўпершыню ажыццявіла перавыданне «Бібліі» Скарыны факсімільным спосабам (т. 1—3, 1990—91).

Б. як збор разнастайных паводле жанру твораў (хронікі, кодэксы, паэтычныя медытацыі, маральна-філасофскія трактаты, *прароцтвы, прытчы*, афарызмы, гімны і інш.) — кніга гістарычная, гэта падкрэслівае яе другая назва — Святая гісторыя. Фундаментальным гістарызмам яна адрозніваецца ад класічнай культуры ант. цывілізацыі, творы якой пазначаны гарманічнай устойлівасцю і завершанасцю на ўсіх узроўнях — ад макракосмасу (вобразы язычаскіх багоў як сімвалы закончанай дасканаласці прыроды, сусвету) да мікракосмасу (вобразы дасканалых герояў як сімвалы гарманічна сфарміраванага, «закончанага» чалавека). Біблейскія сюжэты і вобразы дэманструюць парыў ад небыцця да быцця, ад хаосу да гармоніі, ад злога пачатку да дабра, ад граху да пакаяння. Б. — першая кніга пра драматычны шлях станаўлення чалавечай духоўнасці, першая «фенаменалогія духа». Універсальнае значэнне Б. як гістарычнай крыніцы абумоўлена шматжанравасцю яе асобных частак-кніг, спалучэннем паэтычна-маст., канкрэтна-гіст., філасофска-рэфлексійнага і прагнастычна-прарочага пазнання. Б. пачынаецца з кнігі Быццё, якая з'яўляецца сімвалічна-тэалагічным адлюстраваннем станаўлення Сусвету і чала-

вечага грамадства, а заканчваецца Апакаліпсісам — сімвалічным малюнкам канца гісторыі. Першая кніга апавядае пра станаўленне часу і прасторы, жыцця і яго «вянка» — чалавека, г.зн. пра ўзнікненне гісторыі. Апошняя кніга прарочыць канец гісторыі, малюе вобразы катастрафічнага «знясцця» гістарычнага часу. У Б. выявіліся 3 этапы станаўлення гістарызму: эпіка-міфалагічны перыяд непасрэднага адзінства пазнання і быцця (Пяцікніжжа Майсея, кнігі Ісуса Навіна, Суддзяў, Руф і інш.); перыяд аналітычна-эмпірычны (хранікальны характар 4 кніг Царстваў, апалагетыка 2 кніг Дзей апостальскіх і інш.); этап станаўлення біблейскай філасофіі гісторыі (кнігі Іова, Эклезіяст, усе творы ў жанры прароцтваў). У аснове біблейскай філасофіі гісторыі — тэадыцэя (апраўданне жыцця і яго крыніцы — Бога перад тварам сусветна-гістарычнага зла); правідэнцыялізм, паводле якога гістарычныя падзеі, з'яўляючыся выяўленнем волі людзей на універсальна-касмічным узроўні, прадвызначаны божай воляю; антынамічнасць гісторыі, ход падзей якой спалучае свабоду чалавека выбіраць паміж дабром і злом і абсалютна добрую па сваёй сутнасці боскую неабходнасць; месіянства — веру ў прыход збавіцеля і яго царства на зямлі, упэўненасць у тым, што ёсць выбраныя, прызваныя Богам народы і асобныя людзі, якія аб'ектыўна выконваюць боскае прадвызначэнне; эсхаталагізм — перакананне ў тым, што гістарычны працэс, які разгортваецца ў часе і прасторы, меў свой пачатак і будзе мець свой канец, завяршэнне; у эсхаталагізме — сутнасць біблейскага гістарызму, бо без уяўлення пра пачатак гісторыі і яе канчатковую мэту немагчыма ўспрыманне гісторыі. Паводле біблейскай дыялектыкі, драматычнае і катастрафічнае гіст. быццё, разгортванне падзей і паступальны рух жыцця ад ніжэйшых да больш высокіх узроўняў адбываецца праз барацьбу быцця і небыцця, пазначаных у этычным плане катэгорыямі дабра і зла, а ў сімвалічна-маст. аспекце — вобразамі святла і цемры. Першы раздзел кнігі Быцця ўяўляе сабою метафарычны малюнак-сімвал дачалавечай, касмічнай гісторыі, якая пачалася з «будавання» Сусвету і супрацьстаяння святла і цемры. Аддзяленне «святла» ад «цемры» азначала сцвярджэнне дасканалага быцця, раздзяленне дабра і зла. На «сёмым» акце тварэння Бог «блаславіў» дасканалы Сусвет і на ім «спачыў». Закончылася касмічная гісторыя. Гісторыя чалавецтва пачалася актам «грэхападзення» першых людзей, пранікненнем у жыццё злога пачатку. Адгэтуль пайшла драматычная барацьба дабра і зла, пад знакам якой праходзіла ўся зямная гісторыя. Яна была б немагчымай без гэтай барацьбы двух палярных пачаткаў: поўная перамога дабра азначала б завяршэнне гісторыі, перамога зла над дабром прывяла б да татальнай смерці, знікнення быцця. Першым актам гіст. драмы стала паўстанне *Каіна*, сына *Адама*, які з зайздрасці забіў свайго брата *Авеля* (кніга Быцця, 4, 1—12). Такім чынам вайна, а па сутнасці братазабойства, увайшла ў гісторыю чалавецтва і на тысячагоддзі стала адным з асн. гіст. фактараў, спосабам вырашэння канфліктаў.

Большасць кніг Старога запавету з'яўляецца гісторыяй стараж. Ізраільска-Іудзейскай тэакратычнай дзяржавы і часткова іншых рэгіёнаў Блізкага Усходу (Егіпет, Сірыя, шматлікія родаплемянныя саюзы і першабытныя дзяржавы Палесціны) у святле правідэнцыялісцкай і эсхаталагічнай канцэпцыяй быцця і культуры. Асаблівасцю Б. як помніка культуры з'яўляецца сінкрэтызм — адзінства рэальнасці і міфа, гісторыі і тэалогіі, гіст. фактаў і цудаў, філасофіі і паэзіі, даследавання і прароцтва, навук. і аксіялагічнага падыходаў да ацэнкі ідэй, фактаў, ідэалаў. Б. паўплывала на экзістэнцыялісцкую філасофію гісторыі. М.Бярдзяеў пісаў: «Для мяне міф не ёсць нешта супрацьлеглае рэальнаму, наадварот, паказвае на самую глыбокую рэальнасць». З 19 ст. ў крытычнай біблеістыцы вызначыліся дзве плыні: г і с т а р ы ч н а я (Э.Цэлер, Д.Штраус і інш.), якая не адмаўляе рэальнасці міфалагізаваных герояў Б. і яе асн. апавядальнай канвы, і м і ф а л а г і ч н а я плынь (Б.Баўэр і інш.), паводле якой біблейскія персанажы (Аўраам, Ісаак, Якаў, *Іосіф*, Майсей, Аарон, *Ісус* Навін, Самсон і інш.), у т.л. цэнтральны вобраз новазапаветнай часткі Б. Ісус *Хрыстос*, — персанажы міфалагічныя.

Біблейскія сюжэты, матывы, вобразы і сімвалы шырока выкарысталі сусв. літаратура, выяўленчае, тэатральнае і музычнае мастацтва, кінематограф. У бел. літаратуры вобразная і сімвалічная сістэма Б. выявілася ў 16—18 ст. у творчасці Ф.Скарыны, М.*Сарбеўскага*, М.*Сматрыцкага*, І.*Пацея*, братоў *Л.Зізанія* і *С.Зізанія*, А.*Філіповіча* і універсальная — у паэзіі і аратарскай прозе *Сімяона Полацкага*. Біблейскія матывы сустракаюцца ў творчасці Я.Купалы, З.Бядулі, У.Караткевіча і інш. бел. пісьменнікаў, у фальклоры (чарадзейныя казкі, абрадавыя песні, легенды), школьным і прыгонным тэатры 17—19 ст. У савецкай гістарыяграфіі Б. не была прадметам комплекснага (агульнагіст., гісторыка-культурнага, археаграфічнага і філасофскага даследавання. Яе фрагментамі часта карысталіся для псеўданавук. выкрыцця «класавай прыроды» хрысціянства. Сучасны ўзровень сусветнай біблеістыкі дазваляе падрыхтаваць навуковае выданне Б. з фундаментальнымі каментарыямі.

*Літ.:* Н и к о л ь с к и й Н.М. Древний Израиль. 2 изд. М., 1922; В и п п е р Р.Ю. Возникновение христианской литерату-

ры. М.; Л., 1946; Фрэзер Дж.Дж. Фольклор в Ветхом завете: Пер. с англ. М.; Л., 1981; Марковский И.С. Библейская археология. 2 изд. Саратов, 1948; Робертсон Дж. Первоначальное христианство: Пер. с англ. М., 1930; Шупа С. З гісторыі новабеларускіх перакладаў Бібліі // Вестн. Белорусского Экзархата. 1990. № 4; Конан У. Каля вытокаў духоўнасці // Беларусь. 1990. № 1.

*У.М.Конан.*

«БІ́БЛІЯ» Ф.СКАРЫ́НЫ — першае бел. выданне Бібліі (1517—19). Гл. ў арт. *Біблія*.

БІ́СКУП — духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядае сану *епіскапа* ў праваслаўнай царкве. Часта біскупамі называлі епіскапаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

БЛАГАСЛАВЕ́ННЕ — асобы знак рукой або ўскладанне рук на галаву, які сімвалізуе перадачу (паднясенне) блаславяемым *благадаці* божай. Выконваецца архірэямі або свяшчэннікамі. На свята Праабражэння Гасподняга свяшчэннік праводзіць Б. пладоў — акрапляе святой вадой прынесеныя ў храм выспеўшыя садавіну (гал. чынам яблыкі і ігрушы) і гародніну. На ўсяночнай адбываецца Б. хлябоў, пшаніцы, віна і алею, як напамін вернікам пра пяць хлябоў Ісуса Хрыста, якімі ён накарміў 5 тыс. чалавек.

БЛАГАЧЫ́ННЕ — у праваслаўнай царкве частка *епархіі*, якая аб'ядноўвае групу *прыходаў* і цэркваў, што знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці. Звычайна ўключае ад 10 да 30 цэркваў. Межы благачынняў і іх назвы вызначаюцца *архірэямі* сумесна з епархіяльным саветам. Узначальваецца *благачынным*, якога прызначае архірэй.

БЛАГАЧЫ́ННЫ — святар, памочнік кіруючага епіскапа ў Рускай і іншых праваслаўных цэрквах. Пасада Б. ўзнікла ў 17 ст., калі паводле рашэння Маскоўскага сабора (1667) нагляд за цэрквамі і духавенствам быў даручаны «пратапопам» і «папоўскім старастам». Назва «Б.» зацвердзілася ў канцы 17 ст. Правы і абавязкі вызначаліся спец. інструкцыямі. Свяцейшага сінода (1-я выдадзена ў 1721). Да 1860-х г. у многіх епархіях Б. выбіраліся самім духавенствам з ліку свяшчэннікаў епархіі. З 1880-х г. паводле ўказа сінода Б. выбіраўся архірэямі з найб. вопытных свяшчэннікаў. Б. павінен быў наглядаць за жыццём і дзейнасцю прыходаў і духавенства сваёй акругі — благачыння (клопаты пра царк.-маральнае выхаванне веруючых, выкананне пастаноў і ўказаў епархіяльнай улады, нагляд за захоўваннем і будаўніцтвам будынкаў, унясенне прапаноў аб узнагародах і інш.). Цяпер абавязкі Б. вызначаюцца Статутам Рус. правасл. царквы. У Рус. правасл. царкве існуе пасада Б. манастыра (яна зацверджана сінодам у 1779).

БО́БІЧ Ільдэфонс (1890, в. Дзедзіна Міёрскага р-на Віцебскай вобл. — 28.4.1944) — беларускі рэлігійны і культурны дзеяч. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1911). Вышэйшую духоўную адукацыю атрымаў у Рыме (1911—13). Дамогся папскага блаславення на выданне першай бел. каталіцкай газ. *«Беларус»*, у якой супрацоўнічаў пад псеўданімам Пётра Просты. 27.7.1915 пасвячоны ў ксяндзы. Служыў у розных прыходах, быў настаўнікам у Віленскай бел. гімназіі, карыстаўся бел. мовай у пропаведзях. Аўтар працы на бел. мове «Нядзелішнія эванэліі і навукі» (т. 1—3, 1921—22), артыкулаў па рэліг. і культурных пытаннях, вершаў. Склаў 2 кнігі казанняў «Роднае слова ў касцёле» і «Навучайце ўсе народы» (у рукапісах).

*І.І.Трацяк.*

БОГ, багі. У тэалогіі — вярхоўная сутнасць, надзеленая вышэйшым розумам, абсалютнай дасканаласцю і ўсемагутнасцю, што стварыла Сусвет і кіруе ім.

У язычніцкай міфалогіі і політэістычных рэліг. сістэмах багі — увасабленне касмічных сіл і грамадска-культурных функцый. Асноўны догмат монатэістычных рэлігій — *іудаізму, хрысціянства, ісламу* — вера ў адзінага Б. Паводле *Пісання свяшчэннага* і царк. паданняў, Б. — найвышэйшая трансцэндэнтная (па-за часам і прасторай) істота, Дэміург, уседзяржыцель, літасцівы айцец, спрадвечны і справядлівы суддзя, крыніца Жыцця, увасабленне праўды, дабра і красы. У іудаізме Б. існуе ў адзінай асобе, якая ажыццяўляе свае мэты праз асобныя народы і гіст. асоб, пра сябе сведчыць праз анёлаў і прарокаў, утрымлівае Сусвет і кіруе жыццём не прымусова, а паводле свабоднай волі людзей. Гэта багаслоўская канцэпцыя набыла шматграннае развіццё ў хрысціянстве, аднак на аснове догмата Траістасці, паводле якога адзінасутны Б. існуе ў трох асобах-іпастасях — Б.-Айца (спрадвечны стваральнік Сусвету, яго духоўная сутнасць), Б.-Сына (Логаса, або абсалютнага Сэнсу, які ўвасобіўся ў Ісуса Хрыста) і Б.-Святога Духа — жыватворчага пачатку, духоўнай сутнасці ўсіх праяў касмічнага быцця на вышэйшых (анёльскім і людскім) узроўнях. У тэалогіі асн. аргументамі на карысць быцця Б. служыць наяўнасць яго тварэння (Сусвету) і магчымасць цудаў як выніку прамога або ўскоснага ўздзеяння Б. на зямное быццё. У іудаізме сувязь чалавека з Б. ажыццяўляецца праз анёлаў, у асобных выпадках — «тварам у твар» (сустрэча Майсея-Багавідца з Б. на Сінайскай гары). У хрысціянстве пра Б. сведчаць анёлы, пракокі, *Пісанне свяшчэннае*, царк. паданні, тайна богаўвасаблення, нараджэнне і ўваход у зямную гісторыю Ісуса Хрыста. У ісламе асн. сведка Б., яго звястун — прарок Мухамед. Гісторыя сусв. культуры ведае тры асн. тыпы рэліг. свядомасці — *тэізм, дэізм, пантэізм*, якія аспрэчваюц-

ца разнастайнымі плынямі безрэліг. свядомасці (атэізм). На Беларусі хрысц. богапазнанне сфарміравалася на аснове праваслаўя (Кірыла Тураўскі, Ефрасіння Полацкая, Клімент Смаляціч, М.Сматрыцкі, летапісная традыцыя 12—17 ст.), каталіцызму (езуіцкія і асветніцкія школы тэалогіі ў канцы 16 — пач. 19 ст., А.Доўгірд), пратэстантызму (С.Будны), бел. рэліг. асветніцтва (Ф.Скарына, Сімяон Полацкі, А.Станкевіч), уніяцтва (І.Пацей, І.В.Руцкі, Р.Корсак, базыльянскі ордэн). У выніку фальклрызацыі біблейскіх сюжэтаў, евангельскай гісторыі і царк. паданняў вобразы Бога, Хрыста і хрысц. святых набылі прыкметы міфалагічных, казачных і літ. персанажаў. У фальклоры Б. уяўляецца ў аблічы «вельмі гожага сівага дзеда». Калісьці ён «хадзіў па беламу свету, бо раней людзі былі вартыя таго; а цяпер надта грэшныя, Бог выракся іх». *У.М.Конан.*

БОГАЗНЕВАЖА́ННЕ — царкоўнае паняцце, якое азначае знявагу да любога аб'екта рэлігійнага пакланення. Тэарэтычна Б. ўключае толькі акты здзеквання над Богам ці святынямі. Практычна гэта паняцце пашыраецца і на іншыя формы крытыкі ці непрыняцця ідэі Бога — ад вальнадумства да *атэізму*. Заканадаўствам тых краін, дзе царква цесна звязана з дзяржавай, Б. караецца як крымінальнае злачынства.

БОГАЗ'ЯЎЛЕ́ННЕ — гл. ў артыкуле *Вадохрышча*.

БО́ГАСЛУЖБО́ВЫЯ КНІ́ГІ — рэлігійныя выданні, у якіх змяшчаюцца правілы і апісанні парадку *богаслужэнняў*, а таксама тэксты для іх, што ўжываюцца ў царкоўнай практыцы. Згодна з царк. статутам, богаслужэнні дазваляецца адпраўляць толькі паводле адпаведных кніг. Б.к. ўключаюць Служэбнік (змяшчае парадак правядзення літургій), *Часаслоў*, Мінеі, Трыодзь (тэксты песнапенняў і малітваў да вялікага посту, праслаўленні Вялікадня і наступных святаў), Тыпікон, ці Статут (змяшчае парадак богаслужэнняў), Трэбнік (парадак правядзення трэб і малітвы да іх). Падчас царк. службаў выкарыстоўваюцца і біблейскія кнігі (напр., Евангелле напрастольнае і богаслужбовы «Апостал», *Псалтыр*).

БОГАСЛУЖЭ́ННЕ — сукупнасць культавых абрадаў, дзеянняў, цырымоній, звязаных з сістэмай рэлігійный уяўленняў і прызначаных у эмацыянальна-вобразнай форме адлюстроўваць той ці іншы аспект веравызнання. Праводзіцца свяшчэннаслужыцелем пры актыўным удзеле вернікаў гал. чынам у храме паводле здаўна распрацаванага рытуалу. У розных рэліг. сістэмах агульнае для ўсіх Б. — наяўнасць магічнага элемента. Хрысц. Б. ўключае малітвы, песнапенні, паклоны, прыкладванне да абразоў і крыжа, акрапленне вадой, запальванне лампад і свечак, чытанне святых тэкстаў і інш. Б. цесна пераплецена з нац., сямейна-бытавымі традыцыямі і звычаямі і ўспрымаецца вернікамі як непасрэдныя зносіны з Богам. Рэгламентуецца Б. царк. Статутам (Тыпіконам); пазастатутных Б. праваслаўе не прызнае. Праводзіцца на нац. мовах; выкарыстоўваюцца і мёртвыя мовы (напр. царкоўнаславянская).

БОГАСТВАРА́ЛЬНІЦТВА — філасофска-этычная плынь у Расіі ў 1910-я г., якая імкнулася спалучыць навуковы сацыялізм з рэлігіяй. Яе прадстаўнікі (А.В.Луначарскі, У.А.Базараў, П.С.Юшкевіч, часткова М.Горкі і інш.) мелі на мэце абгрунтаваць неабходнасць стварэння новай «пралетарскай рэлігіі» без Бога, што фактычна зводзілася да абагаўлення калектыву і прагрэсу, якія павінны абуджаць у чалавека «складанае творчае пачуццё веры ў свае сілы, надзею на перамогу любові да жыцця» і дзейсна звязаць ідэал з рэчаіснасцю. Плынь не мела шырокай падтрымкі і да пач. 1-й сусветнай вайны (1914) перастала існаваць.

*Літ.:* К о р о т к а я Т.П. Религиозная философия в Белоруссии начала XX в.: Критич. анализ. Мн., 1983.

БОГАШУКА́ЛЬНІЦТВА — рэлігійна-філасофская плынь, што ўзнікла ў пачатку 20 ст. сярод расійскай ліберальнай інтэлігенцыі. Адзін з філасофскіх вытокаў Б. — канцэпцыя «ўсяеднання» У.С.Салаўёва і яго погляды на спасціжэнне быцця шляхам містычнага вобразна-сімвалічнага асвятлення; яно накіравана на выратаванне грамадства з дапамогай тэорыі хрысц. «богачалавечага працэсу». Прадстаўнікі Б. (М.А.Бярдзяеў, С.М.Булгакаў, Дз.С.Меражкоўскі, З.М.Гіпіус, М.М.Мінскі і інш.) шукалі «трэці шлях» паміж традыц. правасл.-дзяржаўнымі каштоўнасцямі і рэвалюцыйным рухам, таму іх ідэалогія з абодвух бакоў сустракала непаразуменне і не мела вялікага пашырэння. Прыхільнікі Б. прапаноўвалі вучэнне пра новую рэлігійную свядомасць, усталяванне божага царства ў зямным жыцці; крытыкавалі марксісцкую тэорыю класавай барацьбы як аднабаковую і недасканалую; негатыўна ставіліся да філасофскага матэрыялізму і лічылі яго «іншародным псіхічнаму складу» рус. чалавека. Цікавасць да Б. праяўлялі прадстаўнікі мастацтва, асабліва прыхільнікі дэкадэнцтва і сімвалісты старэйшай генерацыі.

*Літ.:* История философии. Т. 5. М., 1961; К о р о т к а я Т.П. Религиозная философия в Белоруссии начала XX в.: Критич. анализ. Мн.; 1983.

БО́ГУШ Францішак Ксаверый Міхал (1.1.1746, Вількамірскі пав. Віленскага ваяв. — 4.4.1820) — гісторык, тэолаг, філосаф і пісьменнік ВКЛ. Скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію. Быў хатнім настаўнікам у графа А.Тызенгаўза; наведаў з ім Германію, Італію, Францыю. З 1780 жыў у Вільні, займаўся навук. дзейнасцю. Удзельнік Бар-

скай канфедэрацыі, паўстання Т.Касцюшкі 1794, за што быў інтэрніраваны ў Смаленск. Пасля вяртання ў Вільню стаў прэлатам. Апошнія гады працаваў у Варшаве. Удзельнічаў у рабоце Т-ва аматараў навукі, быў цэнзарам. Ганаровы член шматлікіх еўрап. навук. т-ваў. Аўтар твораў «Філосаф без рэлігіі» (1785), «Пра пачатак народа і мовы літоўскай» (1808), «Успаміны пра Антонія Тызенгаўза» (1820) і інш. Лічыў неабходным заахвочваць духавенства да таго, каб веданне рэліг. догматаў пашыралася, а вера была адзінай, г.зн. каталіцкай, і такім чынам аб'яднаць край на аснове аднадумства.

БО́ГУШ-СЕСТРАНЦЭ́ВІЧ Станіслаў Іванавіч (3.9.1731, в. Занкі Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл. — 13.12.1826), беларускі вучоны, рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч, літаратар. Дзядзька пісьменніка В.Дуніна-Марцінкевіча. Скончыў Варшаўскую школу піяраў (1763). Быў настаяцелем у Гомелі і Бабруйску, канонікам і біскупам-суфраганам у Вільні. З 1773 біскуп Беларускага біскупства (цэнтр ў Магілёве), з 1782 магілёўскі арцыбіскуп. У 1798—1826 мітрапаліт рымска-каталіцкай царквы Рас. імперыі. З 1801 жыў у Пецярбургу, выбіраўся членам Рас. акадэміі навук і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, з 1813 прэзідэнт Вольнага эканамічнага т-ва. Заснаваў у Магілёве друкарню, дзе друкаваў і свае творы. Аўтар прац па гісторыі, філалогіі: «Аб Заходняй Расіі» (Магілёў, 1793; разглядзеў пытанне пра паходжанне беларусаў, украінцаў і рускіх), «Гісторыя Таўрыды» (т. 1—2, Брауншвейг, 1800; рус. пераклад СПб., 1806), «Гісторыя сарматаў і славян» (т. 1—4. СПб., 1812), «Граматыка літоўская» (бел. мовы; не выдадзена). Выдаў і паставіў у Магілёве сваю вершаваную трагедыю «Гіцыя ў Таўрыдзе» (1783). Пісаў вершы, казанні (пропаведзі) і інш. дыдактычныя творы.



С.І.**Богуш-Сестранцэвіч**.

БО́ЖАСТВЫ дахрысціянскія — язычніцкія божаствы, культ якіх спавядалі да прыняцця хрысціянства продкі сучасных хрысц. народаў. Славянам дахрысц. часоў характэрны політэізм (многабожжа), вытокі якога ў *татэмізме* і *дэманалогіі* часоў абшчынна-родавага грамадства, ва ўяўленнях пра розных фантастычных істот (*ваўкалак*, лясун, *вадзянік*, палявік, *дамавік*, русалкі і г.д.). На працягу тысячагоддзяў язычніцкія Б. зазналі шматлікія змены, пачынаючы ад культу Маці-Багіні эпохі т.зв. матрыярхату, праз Б. Рожніцы, Берагіні і да складанага агульнаслав. пантэона Б., ідалам якіх пакланяліся, у гонар якіх узводзілі свяцілішчы-капішчы. Да *хрышчэння Русі* (канец 10 ст.) продкі беларусаў (Крывічы, Дрыгавічы, Радзімічы) пакланяліся бажаствам, што ўвасаблялі культ продкаў (Род і Ражаніца), розныя з'явы прыроды, грамадскага і гаспадарчага жыцця (бог сонца і агню, пазней земляробства, урадлівасці і дабрабыту *Дажбог*; бог жывёлагадоўлі, урадлівасці, пазней і гандлю *Вялес*; бог агню, апякун рамёстваў і шлюбу *Сварог*; бог сонца *Ярыла*; бог грому і маланкі, апякун воінаў *Пярун*; бог холаду Зюзя; і інш.). Сваім Б. (Перкунасу, Велнясу, Дыевасу і інш.) пакланялася балцкае насельніцтва (яцвягі і інш.), што жыло на тэр. Беларусі і пазней асімілявана славянамі. Пасля хрышчэння Русі асобныя рысы некаторых язычніцкіх Б. народ у сваіх рэліг. уяўленнях перанёс на хрысц. святых (Вялеса на св. Уласа, Пяруна і Дажбога — на св. Ілію і г.д.). Гл. таксама *Язычніцтва*. *І.П.Хаўратовіч.*

БО́СКАЯ ЛА́СКА (ад грэч. charisma, лац. gratia) — паводле рэлігійных уяўленняў — асобая боская сіла, якая даецца чалавеку з мэтай пераадолення выпрабавальных грахоў, пасланых на яго, і дасягнення выратавання ў замагільным свеце. У хрысціянстве заходнія айцы царквы лічылі Б.л. адзінай умовай выратавання, а ўсходнія — дапускалі поруч з Б.л. і свабоду волі. Першы пункт погляду быў абгрунтаваны ў 5 ст. Аўрэліем Аўгусцінам. Яму супрацьстаяла вучэнне Пелагія, якое дапускала магчымасць выратавання без дапамогі Б.л. Хрысціянства прыняло пункт погляду Аўгусціна, але з прызнаннем пэўнага ўдзелу ў працэсе выратавання і чалавечай волі. Каталікі і правасл. лічаць носьбітам і перадатчыкам Б.л. духавенства, абгрунтоўваючы тым самым вырашальную ролю царк. іерархіі ў працэсе выратавання. Пратэстанты прызнаюць магчымасць непасрэднага атрымання Б.л. любым веруючым. Канцэпцыя Б.л. у пратэстантызме зыходзіць з асн. ідэі Аўгусціна аб карэннай заганнасці чалавека, які ў выніку грэхападзення страціў права на выратаванне і не ў стане вярнуць яго ўласнымі сіламі. Па гэтай прычыне выратаванне можа быць выключна ласкай Бога, якая распаўсюджваецца толькі на асобных богаабраных людзей.

БРА́СЛАЎСКІ МАНАСТЫ́Р БАЗЫЛЬЯ́Н. Існаваў з 15 ст. (?) да 1827. Знаходзіўся за 4 км на ПнУ ад г. Браслаў, на адным з астравоў пад назвай Манастыр на возеры Неспіш, на зах. ускраіне в. Шавуры. Першапачаткова быў праваслаўны. Каля 1500 г. жонка вялікага князя ВКЛ Аляксандра Алена ахвяравала манастыру 15 сялян з зямлёй, сенажацямі, млынам і возерам. У 16—17 ст. ахвяраванні манастыру зрабілі Масальскія, Тышкевічы і інш., пасля чаго манастыр валодаў больш як 1 тыс. дзесяцін зямлі, вёскамі Агоні, Дубкі, Княжына, Літоўшчына, Маскаўцы, Мутураўшчына, Солакаўшчына, Татараўшчына і інш. У дараванай грамаце старосты Я.Тышкевіча ў 1631 названы манастыром Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. 5.7.1633 Уладзіслаў IV пацвердзіў усе ўладанні манастыра і граматай ад 14.3.1635 у шэрагу інш. манастыроў перадаў яго уніяцкаму ордэну *базыльян*. Манастырскі комплекс складаўся з драўляных царквы святой Прачыстай і некалькіх гасп. і жылых будынкаў. Востраў злучаўся з берагам мостам. На невялікім суседнім востраве пад назвай Святы быў пастаўлены крыж, які лічыўся цудадзейным. На манастырскіх могілках побач з в. Шавуры існавала царква св. Юрыя (у 1852 разабрана), манастыру належала царква св. Духа на Замкавай гары ў Браславе (у 1812 згарэла). У часы Паўночнай вайны 1700—21 і вайны 1812 манастыр разрабаваны. У 1827 закрыты, яго маёмасць перададзена ва уніяцкі фундуш. У 1832 усе манастырскія будынкі на востраве знішчаны пажарам. Паводле падання, не загінуў толькі абраз Багародзіцы, які зберагаецца ў Браслаўскім касцёле. У 19 — пач. 20 ст. на месцы існавання манастыра традыцыйна збіраліся паломнікі, наладжваліся фэсты. У 1864 востраў абследаваў археолаг і мастак Дз.Струкаў. Ён правёў раскопкі, зрабіў замалёўкі планаў падмуркаў манастырскіх будынкаў.

*К.С.Шыдлоўскі.*

БРА́ЦКІЯ ШКО́ЛЫ — навучальныя ўстановы, якія ствараліся *брацтвамі* ў канцы 16—18 ст. на Беларусі, Украіне і ў Літве. Адыгралі значную ролю ў развіцці асветы. У ліку першых Б.ш. адкрыты ў Вільні (каля 1584), Магілёве (1590), Брэсце (1591), Мінску (1612), Пінску, Слуцку, Львове, Кіеве, Луцку і інш. гарадах. Кожная Б.ш. мела свой статут, які вызначаў змест і арганізацыю навучання, рэгламентаваў паводзіны настаўнікаў і вучняў у школе і па-за школай. На чале школы стаяў рэктар, які кіраваў навуч. працэсам і адказваў за работу школы перад брацтвам, што яго абрала. Дыдаскалы (настаўнікі) таксама выбіраліся брацтвам, якое ўстанаўлівала ім плату. Для пачатковага навучання настаўнікі Б.ш. карысталіся Псалтыром, Часасловам, азбукамі і букварамі. Атрымаўшы першапачатковую падрыхтоўку, вучні пераходзілі да засваення «сямі вызваленых (свабодных) навук»: «трывіума» (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і «квадрывіума» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка). Вывучаліся царкоўнаслав., грэч., рус. (бел.), лац. і польская мовы. Асаблівая ўвага надавалася вывучэнню вершаскладання і дэкламацыі. На ўроках рыторыкі вучняў вучылі складаць і чытаць казанні, на ўроках дыялектыкі — весці спрэчку, складаць сілагізмы. Царкоўнаслав., грэч. і лац. мовы вывучаліся па граматыках. Вядомы падручнікі, складзеныя настаўнікамі школ Л. і С. Зізаніямі, М.Смагрыцкім, Сімяонам Полацкім і інш. Выкарыстоўваўся падручнік па дыялектыцы Іаана Дамаскіна. Пры вывучэнні «квадрывіума» у Б.ш. карысталіся падручнікамі, выдадзенымі ў Зах. Еўропе. У Б.ш. выкарыстоўвалася групавая, або класна-ўрочная сістэма навучання, у якой панаваў катэхізічны метад навучання, пабудаваны на пытаннях і адказах. У процівагу езуіцкім містэрыям наладжваліся тэатралізаваныя прадстаўленні. У кожнай школе быў хор, якім кіраваў рэгент. Б.ш. Беларусі, Літвы і Украіны мелі архівы і б-кі, абменьваліся настаўнікамі, палемічнай, свецкай і духоўнай літ.

*М.Б.Батвіннік.*

БРА́ЦТВЫ — рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі беларускага і ўкраінскага гарадскога насельніцтва ў 16—18 ст. Існавалі правасл., уніяцкія, каталіцкія Б. Ствараліся звычайна пры цэрквах, манастырах, касцёлах або парафіях. У іх уваходзілі рамеснікі, купцы, духавенства. Б. займаліся рэліг.-дабрачыннай дзейнасцю, распаўсюджваннем рэліг. літаратуры.

На Беларусі першыя п р а в а с л а ў н ы я Б. ўзніклі ў 2-й палавіне 16 ст., а ў канцы 16 — пачатку 17 ст. існавалі ва ўсіх значных гарадах (у вялікіх гарадах па некалькі): Вільні (з 1584 Троіцкае, пазней Святадухаўскае), Магілёве (з 1589 Спаскае, пазней Праабражэнскае і інш.), Брэсце (з 1591 Мікольскае, пазней Каляднае), Слуцку (з 1606), Мінску (з 1612—14 Петрапаўлаўскае), Пінску (з 1633 Богаяўленскае, вядома таксама Фёдараўскае), Барысаве (Успенскае), Оршы, Полацку, Мсціславе і інш. Называліся Б. па цэрквах, пры якіх збіраліся брачыкі. Вяліся рэестры (спісы) брачыкаў. Вышэйшым органам кіравання Б. правасл. былі сходкі. Штодзённымі справамі кіравалі старасты, «шпітальныя» дазорцы. Правасл. Б. актыўна выступалі супраць каталіцызму, царк. уніі і пратэстантызму, дамагаліся раўнапраўя для ўсіх хрысц. канфесій, вялі культурна-асветніцкую дзейнасць, адкрывалі *брацкія школы* і друкарні, адыгралі значную ролю ў пашырэнні і дэмакратызацыі адукацыі, літаратуры, музыкі, іканапісу, кнігадрукавання, дойлідства, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, школьнага тэатра. Яны мелі значны

ўплыў на магістраты некаторых гарадоў (Магілёў, Віцебск, Вільня і інш.). Найб. Б. (у Вільні, Магілёве, Слуцку) мелі статус стаўрапігіі (падпарадкоўваліся непасрэдна канстанцінопальскаму патрыярху). Братчыкамі правасл. Б. былі многія дзеячы бел. і ўкр. культуры, у т.л. *Л.Зізаній* і *С.Зізаній*, М.*Смятрыцкі*, С.Собаль і інш.

Б. к а т а л і ц к і я на Беларусі і ў Літве ўпершыню з'явіліся ў Вільні (15 ст.) на ўзор Б. польскіх гарадоў. Першапачаткова яны былі звязаны з гал. касцёлам горада, аднак хутка сталі ўтварацца амаль пры кожнай парафіі і нават пры кожным касцёле. Найчасцей іх назвы былі звязаны з назвамі касцёлаў, пры якіх яны дзейнічалі. Паводле агульных пастаноў каталіцкага касцёла, у адным горадзе, пры адным касцёле не магло быць больш за 1 Б. з аднолькавымі назвай і мэтамі. Падпарадкоўваліся біскупу той епархіі, на тэрыторыі якой знаходзілася. Кіраўніцтва каталіцкага Б. складалася з рэктара, дырэктара і прызначанага біскупам мадэратара (арбітра). Біскуп меў права кантраляваць дзейнасць Б., наглядаць за іх маёмасцю, перадаць пасаду рэктара Б. ксяндзу. Першынство сярод каталіцкіх Б. вызначалася даўнасцю акта кананічнага зацвярджэння таго ці іншага брацтва. Прыём новых братчыкаў суправаджаўся пэўным рытуалам і запісам у брацкую кнігу. Каталіцкія Б. пашыралі хрысц. мараль, рэліг. тэксты і дапамагалі вернікам іх вывучаць, спрыялі пашырэнню ў бел. гарадах польскай культуры. Яны арганізоўвалі агульныя маленні, рэліг. працэсіі па вуліцах і плошчах горада, святочныя абеды, пахаванні нябожчыкаў, займаліся дабрачыннай дзейнасцю. Выдаткі пакрываліся з брацкіх скарбонак, у якія братчыкі ўносілі складкі. У кожным Б. былі свае малітоўнікі. Братчыкі рэгулярна збіраліся на сесіі, дзе выбіралі свае кіраўніцтва, рэвізавалі фінансавае становішча Б., прымалі новых членаў. У гарадах ВКЛ дзейнічалі таксама каталіцкія арцыбрацтвы (архібрацтвы) — аб'яднанні некалькіх каталіцкіх Б. Найб. вядомае з іх — арцыбрацтва св. Ганны, якое дзейнічала выключна ў межах Рэчы Паспалітай.

Пасля *Брэсцкай уніі* 1596 у Б. у н і я ц к і я ператварыліся правасл. Б. ў тых гарадах Беларусі, Літвы і Украіны, дзе прыходы правасл. царквы пераходзілі да уніяцкай царквы. Новыя уніяцкія Б. ўзнікалі пры пабудаваных у 17—18 ст. уніяцкіх цэрквах і манастырах. Назвы Б. утвараліся ад назваў цэркваў і манастыроў, да якіх яны былі прыпісаны. У 17—18 ст. большасць нац.-рэліг. арганізацый на Беларусі адносілася да уніяцкіх Б., бо 75% насельніцтва належала да уніяцкай царквы. Найб. вядомымі Б. уніяцкімі былі Троіцкае (згадваецца з 1613) у Вільні, пры цэрквах Спаса і св. Пятра ў Друі (17—18 ст.). Ва уніяцкія Б. ўваходзілі пераважна гараджане — рамеснікі, гандляры, купцы, духавенства, зрэдку шляхціцы. Кантроль за дзейнасцю Б. ажыццяўляў той уніяцкі епіскап, у епархіі якога яны знаходзіліся. Дамінуючая роля ў Б. належала купецка-цэхавым вярхам горада і уніяцкаму духавенству. Паколькі на чале гарадскіх магістратаў таксама стаялі прадстаўнікі гэтых вярхоў, уніяцкія Б. на Беларусі былі часткаю сістэмы гарадскога самакіравання. У Б. былі свае статуты і харугвы, іх дзейнасцю кіравалі выбраныя на агульных сходах «старэйшыя» (старшыны). На сходах таксама рабіліся запісы ў брацкія кнігі, збіраліся ўклады ў брацкую скарбонку, прымаліся новыя братчыкі. Гал. мэтай уніяцкіх Б. была рэліг., дабрачынная і асветніцкая дзейнасць. Ладзіліся агульныя маленні, пахаванні нябожчыкаў, святочныя абеды. Са скарбонкі Б. выдаваліся пенсіі старым і нядужым «братам», іх удовам і сіротам. Б. ўтрымлівалі «калечыя куты» (прытулкі), багадзельні, шпіталі. У выключных выпадках яны аказвалі грашовую дапамогу людзям, што не належалі да Б. Ахвяравалі таксама сродкі на ўтрыманне вязняў у астрогах. Б. уніяцкія дапамагалі прыпісаным да іх школам, распаўсюджвалі рэліг. літаратуру, прапагандавалі хрысц. веравучэнне інш. сродкамі. Літаратура, якой карысталіся члены уніяцкіх Б., выдавалася на бел. і царкоўнаслав. мовах. Уніяцкія Б. зрабілі значны ўклад у развіццё бел. нац. культуры.

*Літ.*: М а р т о с А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *А.П.Грыцкевіч.*

БРЫГІ́ТКІ І БРЫГІТА́НЕ, с а л ь в а т а р ы я н е (ад лац. Salwator Уратавальнік) — члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага Брыгітай (1302—73), дачкой шведскага князя Біргера. Першы кляштар ордэна створаны ў 1334 у Швецыі. Статут ордэна (не ўключаў патрабавання абавязковага ўстрымання і беднасці) у 1370 зацвердзіў папа рымскі Урбан V. Пасля смерці Брыгіты ордэн сальватарыян сталі называць часцей брыгіцкім. Ордэн ствараўся гал. чынам для жанчын, аднак у яго маглі ўступаць і мужчыны, якія былі ў ім духоўнікамі. Існавалі змешаныя (для брыгітак і брыгітанаў) кляштары і ўласна жаночыя. Вопратка брыгітак: цёмна-вішнёвая сутана і такога ж колеру доўгі плашч з драўлянымі гузікамі, белая хустка і чорная льняная накідка з каронай з белага палатна і 5 кружкамі чырвонага сукна (памяць пра раны Хрыста). Ордэн хутка пашыраў свой уплыў. Большая частка яго кляштараў знаходзілася ў краінах Паўночнай Еўропы. На Беларусь Б. трапілі праз Польшчу, дзе іх кляштары з'явіліся ў 15 ст. ў Эльблонгу (змешаны) і Любліне (жаночы). Ордэн меў жаночыя кляштары ў Брэсце (1624—1830) і Гродне [1634



Ілюстрацыя «Патоп» у **Брэсцкай біблії**.

(1632?) — пач. 20 ст.]. Статут і традыцыі ордэна спрыялі таму, што ў яго ўступалі, як правіла, дзяўчаты са шляхецкіх і магнацкіх сем'яў, што вызначала трывалае эканамічнае становішча гэтых кляштараў.

*Л.А.Карнілава.*

БРЭ́СЦКАЯ БІ́БЛІЯ, Радзівілаўская біблія — помнік польскамоўнага кнігадрукавання на Беларусі. Выдадзена ў 1563 у Брэсце на сродкі Мікалая *Радзівіла* Чорнага, старосты берасцейскага, аднаго з кіраўнікоў кальвіністаў у ВКЛ (гл. *Кальвінізм*). На той час Б.б. была адным з лепшых выданняў у ВКЛ і Польшчы. Сярод яе перакладчыкаў былі Гжэгаж Оршак, Пётр Статорыус, Ян Тэнаўдус, Ежы Шоман, Якуб Любельчык. У выданні, відаць, прымаў удзел і Ц.Базылік, які ў той час кіраваў адной з брэсцкіх друкарняў. Поўная назва Б.б. — «Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запаветаў з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзеная». У ёй пазначана: «Друкавана ў Брэсце Літоўскім паводле загаду і коштам сіяцельнага пана Мікалая Радзівіла, князя на Алыцы і на Нясвіжы, ваяводы віленскага, у Вялікім княстве Літоўскім найвышэйшага маршалка і канцлера». У выданні змешчаны поўны тэкст Старога і Новага запаветаў. Амаль на кожнай яе старонцы на палях змешчаны каментарыі да тэксту. Упершыню ў гісторыі кнігадрукавання на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. У прадмове, пратэстанцкай па накіраванасці, перакладчыкі тлумачаць прынцыпы і асаблівасці перакладу, адзначаючы, што за ўзор бралі Біблію на французскай мове (выдадзена гугенотамі). Кніга — вялікі фаліянт з малюнкамі і графічным афармленнем, апраўлена ў скураную вокладку. Асобныя гравюры паводле кампазіцыі, малюнка і некаторых дэталей узыходзяць да гравюр Ф.*Скарыны*. Біблія выдадзена фарматам «у ліст», у ёй 738 старонак. Тэкст надрукаваны гатычным шрыфтам у 2 калонкі па 58 радкоў у кожнай. Экземпляры Б.б. зберагаюцца ў Дзярж. публічнай б-цы ў Маскве (былая Дзярж. б-ка імя Леніна), Цэнтр. б-цы АН Літвы і ў Ягелонскай б-цы ў Кракаве, няпоўны экз. — у Цэнтр. навук. б-цы імя Я.Коласа Нац. АН Беларусі.

*Літ.:* Нікалаеў В. «Зроблена ў Брэсце 1563 года, месяца верасня чацвёртага дня...» // Беларусь. 1980. № 12.

*А.П.Грыцкевіч.*

БРЭ́СЦКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка праваслаўнай царквы на Беларусі. Да канца 16 ст. тэр. Брэстчыны знаходзілася пад уладай уладзіміра-валынскіх епіскапаў, якія часам называліся «епіскапамі ўладзімірскімі і берасцейскімі». У 1596—1630-я г. ўсе яе прыходы перайшлі ў унію, у 1765 утворана Брэсцкая уніяцкая епархія (існавала да 1839). У 1840 яе тэр. уключана ў якасці епіскапства (вікарыяту) у *Літоўскую праваслаўную епархію*, з 1900 уваходзіла ў асобную *Гродзенскую праваслаўную епархію*. У Вялікую Айчынную вайну 1941—45 упершыню створана самастойная Б.п.е. (з 1944 у складзе Мінскай мітраполіі). У 1945 яна скасавана, а яе тэр. ўключана ў *Пінскую праваслаўную епархію*. У 1952—89 кіравалася непасрэдна мінскімі архіепіскапамі і мітрапалітамі. Адноўлена ў 1990, уключае тэр. Брэсцкага, Бярозаўскага, Драгічынскага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Кобрынскага, Маларыцкага і Пружанскага р-наў, падзяляецца на 8 аднайменных з раёнамі благачынных акруг (благачынняў). У канцы 1999 у Б.п.е. мелася 162 абшчыны, 163 дзеючыя храмы і 18 капліц; дзейнічаў Свята-Афанасьеўскі мужчынскі манастыр. З 1997 выдаецца газ. «Духовный вестник». Тытул правячага архірэя епіскап брэсцкі і кобрынскі. Кіраўнікі Б.п.е.: епіскапы Іаан (Лаўрыненка, 1942—44), Паісій (А.П.Абразцоў, 1944—45), архіепіскап (з 1995) Канстанцін (К.А.Хоміч, 1990—2000), епіскап Сафроній (Юшчук, з 2001).

*Літ.:* Брэсцкая епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999. С. 115—118.

*В.В.Антонаў.*

**БРЭ́СЦКАЯ У́НІЯ 1596** — акт пра арганізацыйнае аб'яднанне правасл. царквы з каталіцкай на тэр. Рэчы Паспалітай. Абвешчаны 9.10.1596 на царкоўным саборы ў Брэсце (праходзіў 6—10.10.1596). Зацверджана каралём Жыгімонтам III Вазай. Паводле Б.у. правасл. царква прызнавала вяршэнства папы рымскага і каталіцкі догмат аб зыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога-айца, але і ад Бога-сына (з часам прынята і інш. каталіцкая дагматыка) і ператваралася ў грэка-каталіцкую (уніяцкую) царкву. Аднак уніяцкая царква захоўвала ўласную арганізац. структуру і іерархію, многія правасл. абрады, царкоўнаслав. і бел. мовы (на Украіне — укр.) у богаслужэнні, рэліг. літаратуры, казаннях. Прыняцце Б.у. праводзілася на аснове *Фларэнтыйскай уніі 1439* (пагадненне пра аб'яднанне каталіцкай і правасл. цэркваў, заключанае ў г. Фларэнцыя; фактычна засталося невыкананым), якую спрабаваў увесці ў ВКЛ у сярэдзіне 15 ст. мітрапаліт *Грыгорый Балгарын*. Гал. прычынай заключэння уніі было імкненне да кансалідацыі царк. і свецкіх феадалаў ВКЛ і Польшчы пасля Люблінскай уніі 1569, паводле якой Вялікае княства Літоўскае і Польскае каралеўства аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. Правасл. іерархі ВКЛ не жадалі падпарадкоўвацца маскоўскаму патрыярху, які прыняў гэты тытул у 1589 і меў намер пашырыць сваю царк. ўладу на ўсю тэр. былой Кіеўскай Русі. Адначасова яны разлічвалі атрымаць усе прывілеі каталіцкіх біскупаў, абаперціся на падтрымку каталіцкай царквы ў нарастаючым канфлікце з *брацтвамі* і ў барацьбе з рэфармацыйным рухам. Папства праз Б.у. імкнулася пашырыць свой уплыў на Усход. Гал. тэарэтыкам уніі быў езуіт П.*Скарга*, які абгрунтаваў сваю задуму ў кнізе «Пра еднасць касцёла Божага» (1577). Непасрэднымі ініцыятарамі падпісання Б.у. сталі епіскапы уладзімірскі і берасцейскі І.*Пацей* і луцкі і астрожскі К.*Цярлецкі*, якія ў 1595—96 наведалі Рым і падрыхтавалі з папам Кліментам VIII тэкст уніі. Унію падтрымала большасць іерархаў, у тым ліку мітрапаліт кіеўскі М.*Рагоза*, які захаваў свой тытул. Аднак частка духавенства і свецкіх феадалаў на чале з кн. К.*Астрожскім* не прыняла Б.у. і правяла ў Брэсце свой сабор адначасова з уніяцкім. Правасл. царква ў Рэчы Паспалітай фактычна захавала самастойнасць побач з грэка-каталіцкай, але ў канцы 16 — 1-й трэці 17 ст. знаходзілася па-за законам. Частка насельніцтва (асабліва мяшчане) змагалася супраць уніі, але ў канцы 18 ст. уніятамі былі ўжо 75% жыхароў Беларусі. Б.у. скасавана ў Рас. імперыі *Полацкім царкоўным саборам 1839* (за выключэннем Люблінскай, Сувалкаўскай і Сядлецкай губ., дзе уніяцтва існавала да 1875), у 1946 унія скасавана і ў зах. абласцях Украіны (б. Галіцыя, што знаходзілася ў складзе Аўстра-Венгрыі, потым Польшчы, з 1939 — у СССР). Пра гісторыю уніяцтва глядзі ў артыкулах *Уніяцкая царква, Уніяцтва.*

*Літ.*: Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. 1—2. СПб., 1859—61; Мараш Я.Н. Роль Ватикана в подготовке и утверждении Брестской унии 1569 г. // Вопросы истории религии и атеизма: Сб. ст. М., 1963. Т. 11; Никольский Н.М. История русской церкви. Мн., 1990; Гайдук Н. Брестская уния 1596 года. Мн., 1996; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998.

*А.П.Грыцкевіч.*

**БРЭ́СЦКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ**, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Знаходзіцца ў Брэсцкім парафіяльным касцёле Св. Крыжа. Паводле царк. падання, раней захоўваўся ў касцёле дамініканцаў у Шараўцы на Падоліі, засн. ў 1607 ваяводам Якубам Прэтвічам, потым у Брэсцкім дамініканскім кляштары, засн. ў 1635 Зоф'яй Бухавецкай. У час казацкіх войнаў абраз быў узяты татарамі, адбіты Мікалаем Патоцкім і змешчаны ў капліцы. Пасля смерці Патоцкага (1676) яго жонка Святаслава (з Дунін-Раецкіх), пратэстантка, прыняла каталіцтва, калі выйшла замуж за ломжынскага старосту Война Пражмоўскага, аддала абраз у Брэсцкі кляштар дамініканцаў. Тады ж Дунін-Раецкая аздобіла абраз металічным абкладам з каронамі, на якім вычаканены выява фамільнага герба Дунін-Раецкіх і ініцыялы фундаторкі. Пасля будаўніцтва Брэсцкай крэпасці і пераносу старога Брэста ў 1830-я г. на новае месца касцёл Св. Крыжа ўцалеў як адзіны парафіяльны. Абраз Маці Божай перажыў шматлікія іншаземныя нашэсці, 2 сусв. вайны, атэістычны вандалізм. Абраз намаляваны алеем на палатне, наклееным на дошку памерам 120 × 80 см; кампазіцыя мае заходнееўрап. паходжанне. Захаваўся металічны абклад. 30.6.1995 абраз урачыста каранаваны як цудатворны. *А.А.Ярашэвіч.*

**БРЭ́СЦКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ.** Існаваў у 17—18 ст. у Брэсце. Па запрашэнні луцкага біскупа П.Валуцкага з 1616 *езуіты* пачалі ў Брэсце місіянерскую дзейнасць, у 1629 тут засн. і калегіум. У 1620 брэсцкі ваявода А.Валовіч падараваў езуітам фальварак Адамкаў, які стаў іх рэзідэнцыяй. Віленскі ваявода і магілёўскі староста Л.Сапега ахвяраваў ім фальварак Дзераўна з в. Мольткі і Мяневеж (Брэсцкі пав.), а ў 1650 — фальварак і в. Паніквы (Камянецкі р-н). У 1669 кароль Міхал Вішнявецкі перадаў езуітам в. Плоскі і землі ў Прылуках (Брэсцкі р-н). На працягу 17—18 ст. ордэн езуітаў набываў тут новыя землі з вёскамі (Слаўкі, Студзіловічы, Ляскавічы і інш., Брэсцкі пав.), аддаючы грошы пад залог маёнткаў, праз некаторы час ператварыўся ў буйнога ліхвяра і арганізатара па эксплуатацыі промыслаў. У 17 ст. ордэн меў кляштар, б-ку, аптэку (з 1694). Навуч. праграма калегіума была тыповай для езуіцкіх ся-

рэдніх навуч. устаноў класічнага тыпу. З 1634 тут выкладалі толькі настаўнікі, якія мелі званне прафесараў. У 1772/73 навуч. г. з 28 выкладчыкаў 17 былі святарамі, 3 — настаўнікамі пачатковых класаў, 8 — манахамі. У 1696—1760-я г. пры калегіуме дзейнічаў школьны тэатр. У б-цы (каля 2 тыс. тамоў) былі кнігі на лац., нямецкай, французскай і інш. мовах. У калегіуме вучыўся бел. мысліцель-атэіст К.Лышчынскі. Будынкі калегіума знаходзіліся на тэр. сучаснай Брэсцкай крэпасці, і разбураны ў час будаўніцтва крэпасці. *Т.Б.Блінова.*

БРЭ́СЦКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ. Існаваў у 1605—1830. Заснаваны луцкім біскупам М.Шышкоўскім у Валынскім прадмесці г. Брэст пры ўпадзенні р. Мухавец у Буг. Побач з драўлянымі будынкамі была і мураваная капліца св. Дароты. Пасля пажару 1617 кляштар адбудаваны на сродкі ваяводы мсціслаўскага і старосты берасцейскага Г.Ходкевіча. У 1623 Я.Галімскі пры фінансавай падтрымцы канцлера ВКЛ Л.Сапегі пабудаваў мураваны касцёл Яна Хрысціцеля і св. Ганны — трохнефавую базіліку з закрытай галерэяй. Да касцёла прылягаў мураваны будынак кляштара, у 1647 у ім жыло 30 манахаў. У спецыяльна прыбудаванай да касцёла капліцы знаходзілася копія абраза «Маці Божая» з рымскага храма Санта-Марыя Маджорэ, атрыманая П.Пацеем ад папы рымскага Клімента VIII разам з візант. абразом «Хрыстос». Кляштар значна пацярпеў у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У якасці кампенсацыі кляштар атрымаў з дзярж. скарбу 80 тыс. злотых, датацыі караля Яна Казіміра і П.Сапегі, які завяшчаў пахаваць яго ў адбудаваным касцёле. У 18 ст. праведзена рэстаўрацыя. З пач. 19 ст. пры кляштары дзейнічала школа. У час будаўніцтва Брэсцкай крэпасці ў 1830 памяшканні кляштара і касцёла заняты пад Брэсцкі кадэцкі корпус. Разбураны ў час Вял. Айч. вайны. *А.А.Ярашэвіч.*

БУ́ДНЫ Сымон (каля 1530, в. Буды ў Мазовіі, Польшча — 13.1.1593), беларускі гуманіст, асветнік, рэлігійны рэфарматар, філосаф, сацыёлаг, гісторык. Скончыў ф-т вольных мастацтваў Кракаўскага ун-та (паступіў у 1544), магчыма, і тэхналагічны ф-т Базельскага ун-та. З 1558 выкладаў на бел. мове катэхізіс у пратэстанцкай школе ў Вільні. З 1560 кальвіністкі прапаведнік у г. Клецк. Адзін з ініцыятараў (з Л.Крышкоўскім і М.Кавячынскім) заснавання *Нясвіжскай друкарні,* дзе выдаў на бел. мове «Катэхізіс» (1562), «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» і інш. творы. Незадаволены памяркоўнасцю кальвінізму, перайшоў на больш радыкальныя рэфармацыйныя пазіцыі антытрынітарызму. У 1563 у лісце да швейцарскага тэолага Г.Булінгера выказаў сумненне ў праўдзівасці хрысц. догмату тройцы. У сярэдзіне 1560-х г. вёў пісьмовую палеміку з рус. правасл. багасловам Арцеміем, устанавіў сяброўскія кантакты з друкарамі І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам.* У 1564 разам з Крышкоўскім пераклаў на польскую мову і выдаў у Нясвіжы «Гутаркі святога Юсціна, філасофа і пакутніка, з Трыфанам іудзеем». У 1572 выдаў Біблію, аднак яго каментарыі і заўвагі да яе не былі змешчаны выдаўцамі. У 1574 у Лоску (каля Валожына Мінскай вобл.) выдаў Новы Запавет з прадмовай, каментарыямі і заўвагамі, што было першай у сусв. літаратуры спробай радыкальнай рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніг. У тым самым годзе ў лісце да англійскага гісторыка Дж.Фокса выступіў супраць царк. догмату пра боскую прыроду Хрыста. У 1576 выдаў твор «Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры», у якім абагульніў свае рэліг.-філасофскія погляды. Як ідэолаг бел. радыкальна-рэфармацыйнага руху ўдзельнічаў у рабоце арыянскіх сінодаў. Палемізаваў па рэліг. і сацыяльных пытаннях з ідэолагам арыянскай «лявіцы» Пятром з Ганёндза, Якубам з Калінаўкі, М.Чаховіцам. У творы «Пра свецкую ўладу» (1583) апісаў гісторыю сваіх сацыяльных і рэліг.-філасофскіх рознагалоссяў з «левымі» пра адносіны да феадальнага грамадства і дзяржавы, за што ў 1584 выключаны з брацкай абшчыны, але ў канцы 1580-х г. ва ўмовах наступлення контррэфармацыі пайшоў на прымірэнне з «левымі». У 1589 у Полацку палемізаваў з езуіцкімі тэолагамі, абвяргаў догмат пра бессмяротнасць душы.

Самым надзейным аўтарытэтам у справах веры і пазнання Б. лічыў Біблію. Крытэрый біблейскай ісціны — індывідуальны розум і сацыяльна-прыродны вопыт чалавека. Рацыяналістычна-натуралістычна трактаваў паняцці замагільнага свету і пасмяротнай узнагароды, боскую тройцу, біблейскія цуды і інш. Матэрыяльную субстанцыю лічыў першаснай адносна духоўнай. Высока цаніў культурна-філасофскую спадчыну ант. свету. Яго рацыяналістычнае вучэнне падрыхтавала глебу для развіцця на Беларусі атэіст. і матэрыялістычнай думкі. Творы Б. садзейнічалі фарміраванню рус. вальнадумства. Ён быў ідэолагам прагрэсіўна настроенай бел. шляхты і гараджан. Апраўдваючы тагачасныя грамадскія і дзярж. асновы, менавіта прыгонніцтва, ён патрабаваў абмежавання феадальнага самавольства, указваў на неабходнасць пэўных змен і рэформ у жыцці грамадства і дзярж. структуры, крытыкаваў беззаконне, захопніцкія войны, быў абаронцам верацярпімасці і інтэлектуальнай свабоды. Выступаў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам і справядлівасць правасуддзя. Яго паліт. ідэалам была асветная манархія, абмежаваная саслоўным прадстаўніцтвам і законам. Асуджаў агрэсіўную палітыку феадалаў, лічыў, што для простага народа, развіцця рамяства і гандлю, пашырэння асветы патрэбен мір, што феадалы і багатыя гараджане павінны клапаціцца пра адукацыю простага народа і не шкадаваць сродкаў



**Будслаўскі абраз Маці Божай.**

на будаўніцтва школ. Сцвярджаў нац. годнасць славян, у т.л. беларусаў, адзначаў іх багатыя і разнастайныя духоўныя традыцыі, неабходнасць развіцця бел. культуры на роднай мове. Яго ідэі пра развіццё бел. мовы, культуры былі адным з фактараў станаўлення іх нац. свядомасці. Б. быў таленавітым літаратарам (пісаў на бел., польскай, лац. мовах), празаікам і паэтам, вучоным-філолагам, перакладчыкам, усведамляў вялікую ролю свабоды ў творчасці, з'яўляўся папярэднікам рацыяналістычнага кірунку ў эстэтыцы, выступаў за ўсебаковае супрацоўніцтва ўсіх слав. народаў. Памёр ў Вішневе (цяпер Валожынскі р-н). У Нясвіжы яму пастаўлены помнік.

*Літ.:* Алексютович Н.А. Будный — идеолог гуманизма и реформации в Белоруссии и Литве // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970.

БУ́ДСЛАЎСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ, адзін з найбольш шанаваных каталіцкіх абразоў на Беларусі. Знаходзіцца ў касцёле Ушэсця Маці Божай у в. Будслаў Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Паводле касцёльнай гісторыі, падараваны ў 1598 папам рымскім Кліментам VIII мінскаму ваяводзе Яну Пацу з нагоды яго пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. Пасля смерці Паца абраз перайшоў капелану І.Салакаю, які ў 1613 падараваў яго *Будслаўскаму кляштару бернардзінцаў*. Шату для абраза ў 1-й палавіне 17 ст. падараваў віленскі гвардыян бернардзінцаў Ф.Калецкі. Абраз праславіўся цудамі вылечвання, якія апісаны настаяцелем Э.Зеляевічам у кнізе «Задыяк на зямлі» (1650). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 абраз часова быў вывезены ў мяст. Саколка (Беласточчына). Бернардзінцы літоўскай правінцыі прапагандавалі культ абраза, з пач. 19 ст. друкавалі з яго гравюры. Пасля скасавання кляштара ў 1859 вядомасць абраза зменшылася. З пач. 1990-х г. аднаўляецца яго культ, адбываюцца паломніцтвы пілыгрымаў, прымеркаваныя да 2 ліпеня. 2.7.1996 папскі нунцый арцыбіскуп Д.Грушэўскі абвясціў папскае пасланне, у якім Маці Божая Будслаўская названа патронкай Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, г. зн. Беларусі. Абраз намаляваны алеем на палатне памерам 72 × 65 см, іканаграфічна належыць да зах.-еўрап. тыпу Адзігітрыі. Рэстаўрыраваны ў 1991—92 В.Лукашэвічам.

*А.А.Ярашэвіч.*


І.Булгак.

БУ́ДСЛАЎСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Існаваў у 16 — 1-й пал. 19 ст. ў мяст. Будслаў (Мядзельскі р-н Мінскай вобл.). Упершыню згадваецца ў дакументах у 1504, калі вял. князь ВКЛ Аляксандр даў віленскім бернардзінцам 6 тыс. маргоў лесу ў Мінскім пав. Манахі жылі па 2—4 чал. ў будах, мелі капліцу. У 1591 пабудаваны драўляны касцёл Наведання Марыяй Елізаветы, у якім знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай, прывезены ў 1598 Я.Пацам з Рыма (дар папы Клімента VIII) і ў 1613 перададзены ў касцёл. У 1643 пабудаваны новы касцёл, у 1750 — жылы корпус кляштара. 29.6.1767 закладзены новы касцёл. У яго аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўвайшоў як бакавая капліца касцёл св. Варвары (будаўніцтва завершана ў 1643). У 1783 касцёл асвячоны ў гонар Ушэсця Маці Божай. На працягу 2-й пал. 18 ст. прыбудаваны розныя кляштарныя памяшканні. З 1756 пры кляштары працавала муз. школа, у 1793—1842 — 2-класная школа і шпіталь. У 1731—97 у духоўнай школе кляштара вывучалі маральную тэалогію і рыторыку. Манахаў было 4—17 чал. Пасля закрыцця кляштара (1852) некаторыя яго манахі бралі ўдзел у паўстанні 1863—64. Касцёл захаваўся як парафіяльны. Побач з ім захаваўся будынак плябаніі 19 ст. *А.А.Ярашэвіч.*

БУ́ЙНІЦКІ СВЯТАДУ́ХАЎСКІ МАНАСТЫР. Існаваў у 1633—1918 каля мястэчка Буйнічы пад Магілёвам на правым беразе р. Дняпро. Засн. як мужчынскі манастыр Багданам Статкевічам і яго жонкай Аленай (Саламярэцкай). Паводле статутных правіл арыентаваўся на Віленскі манастыр Св. Духа. Належаў да групы правасл. манастыроў, пабудаваных з мэтай процідзеяння *Брэсцкай уніі 1596.* Наглядаў за манастыром куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвіч. Існуе шэраг каралеўскіх грамат у абарону манастыра ад замахаў суседзяў на валоданне зямельнай уласнасцю. За агітацыйныя дзеянні сярод насельніцтва на вернасць каралю Яну II Казіміру ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 буйніцкія манахі атрымалі прывілей на млын. У 1708 у час Паўночнай вайны 1700—21 манастыр разбураны шведамі, але хутка адбудаваны. З 1835 ператвораны ў жаночы, з 1896 пры ім працавала 2-класная жаночая школа, з 1891 — епархіяльны свечачны завод. У 1908 у манастыры 18 двароў, 118 насельнікаў. Будынкі не захаваліся. *А.А.Ярашэвіч.*

БУ́ЛГАК Ігнацій Іасафат (20.4.1758, Слонімскі павет — 9.3.1838) — грэка-каталіцкі царкоўны дзеяч. Доктар тэалогіі і кананічнага права (1785). Вучыўся ў школе пры Жыровіцкім манастыры (1763—74) і ў Рыме (1782—85). З 1774 член ордэна *базыльян.* Выкладаў у манастырскіх школах у Беразвеччы (цяпер у межах г. Глыбокае) і Жыровічах. У 1790—95 епіскап тураўскі, каад'ютар Пінскай епархіі. У час царавання Паўла І садзейнічаў вяртанню ў унію прыходаў, якія былі пераведзены ў праваслаўе. У 1798—1828 епіскап брэсцкі. У 1817—38 мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы, з 1818 адначасова старшыня 2-га (уніяцкага) дэпартамента Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, з 1828 старшыня асобнай Грэка-каталіцкай калегіі, з 1833 архіепіскап полацкі. У канцы жыцця яго акружалі епіскапы — прыхільнікі збліжэння, а потым і аб'яднання з правасл. царквой (І.*Сямашка,* А.Зубко, В.Лужынскі і інш.), што вяло да змяншэння яго ўплыву. Смерць Б. зняла апошнюю перашкоду для скасавання *Брэсцкай уніі 1596.* *В.В.Антонаў, А.М.Філатава.*

БУЧЫ́НСКІ Вінцэнцій (17.3.1789, Беларусь — 29.3.1853) — беларускі філосаф, тэолаг, крытык. Скончыў Полацкі езуіцкі калегіум (1809). Выкладаў рыторыку і паэтыку ў езуіцкіх калегіумах Мсціслава і Віцебска, потым прафесар філасофіі Полацкай езуіцкай акадэміі. Засн. першы на Беларусі літ.-навуковы часопіс «Miesięcznik Polocki» («Полацкі месячнік») і на працягу ўсяго часу выдання быў яго рэдактарам (1818—20). Змясціў у часопісе свой артыкул «Гістарычнае даследаванне аб слушнасці прысуду, паводле якога быў распушчаны ордэн тампліераў», дзе палемізаваў з часопісам «Tygodnik Wileński» («Віленскі штогоднік»). Набыў шырокую вядомасць удзелам у палеміцы 1817—18 паміж прафесарамі Віленскага ун-та і Полацкай езуіцкай акадэміі вакол паэмы Н.Мусніцкага «Палтава» (Полацк, 1803). Яго палемічныя выступленні ў 1818 ананімна выдадзены ў Полацку. Пасля забароны ў 1820 дзейнасці ордэна езуітаў у Рас. імперыі Б. больш як 20 гадоў выкладаў філасофію ў каталіцкіх навуч. установах у Цярнопалі, Грацы, Лінцы, Інсбруку (Аўстрыя). У 1843—44 на аснове сваіх лекцый выдаў у Вене 3-томную працу «Філасофскія разважанні» (на лац. мове). Першы том уключаў логіку, другі — метафізіку, трэці — этыку. Разглядаючы этыку як уводзіны ў палітыку, прыводзіў шмат прыкладаў з гісторыі

Рэчы Паспалітай, у т.л. Беларусі. Прытрымліваўся тэалагічнай канцэпцыі гісторыі. У 1848 эмігрыраваў у Бельгію, выкладаў філасофію ў г. Намюр, затым Лёвенскім (Лувенскім) ун-це, дзе і памёр. Пакінуў багатую рукапісную спадчыну (не даследавана), якая ўключае працы па гісторыі Польшчы, Беларусі, праваслаўя ў Расіі і інш. *В.Ф.Шалькевіч.*

БЫЦЕНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН. Існаваў у 1607—1845 у мяст. Быцень (цяпер Івацэвіцкі раён). Засн. уласнікам Быценя Р.Р.Трызнам для дачкі Еўфразіны, якая, аднак, пайшла да віленскіх базыльянак, таму быценскі манастыр стаў мужчынскім. Яго настаяцелямі былі І.Кунцэвіч (да 1613), потым Г.Катлубай, Д.Цісовіч (да 1640), С.Стаўроўскі (да 1654). У 1615 папа рымскі даў манастыру прывілей на адкрыццё духоўнай школы (навіцыяту), у якой пазней навучалася шмат дзеячаў уніяцкай царквы. У 1626 М. Трызна заснаваў тут шпіталь на 10 месцаў. Навіцыят і шпіталь існавалі да 1830-х гадоў. Першыя будынкі манастыра былі драўляныя. У 1640 М.Трызна перадаў манахам мястэчка і маёнтак Быцень, заклаў мураваную царкву (магчыма, сучасная Успенская царква), якая, відаць, была і іх сямейнай пахавальняй. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 манастыр даў прытулак базыльянам з Вільні, Полацка, Віцебска, Мінска. Настаяцель Б.Цярлецкі (часовы кіраўнік ордэна) вывез сюды з Віленскага Троіцкага манастыра цудатворны абраз Маці Божай і інш. царк. каштоўнасці. Тут захоўваўся абраз Жыровіцкай Маці Божай; жыў І.Бражыц, уласнік гэтага абраза (пазней вядомы як цудатворны ў *Барунскім манастыры базыльян*). Быценскі манастыр базыльян лічыўся адным з найб. заможных у ордэне, яго фундушавы маёнтак Дзяткавічы ў 1613 і 1634 павялічаны. У 1775 падскарбі надворны літоўскі А.Тызенгаўз (нашчадак Трызнаў) адсудзіў у базыльян мястэчка. У 1712 навагрудскі гараднічы І.Баканоўскі адпісаў манастыру в. Мілавіды. У пач. 18 ст. пры І.Пяткевічу (памёр у 1708) пабудавана Троіцкая царква — крыжовая ў плане, з 2-вежавым фасадам і паўкруглымі ў плане апсідай і трансептам. У 1730—37 у ёй усталяваны разны іканастас і 11 алтароў. Да царквы прымыкаў 2-павярховы жылы корпус. З 1814 манастыру належаў маёнтак Гошчава. У часы скасавання уніяцкай царквы (1839) у манастыры інтэрніравалі непакорных уніяцкіх святароў. Троіцкая царква і жылы корпус манастыра разбураны ў час 1-й сусветнай вайны. Захаваліся Успенская царква і абраз «Спас Уседзяржыцель» 16 ст. *А.А.Ярашэвіч.*

БЫЦЦЁ — назва першай кнігі *Старога запавету* ў рускім перакладзе *Біблії*; у яўрэйскім арыгінале яна названа па першым слове тэксту «Бершыт» («З пачатку»), у перакладах на новыя мовы — «Генезіс» («Паходжанне»). Сінагога і царква лічаць, што кнігу Б., як і ўсе інш. кнігі Пяцікніжжа, напісаў Майсей. Першыя раздзелы кнігі ўтрымліваюць гісторыю стварэння свету і чалавека, грэхападзення першых людзей і выгнання іх з раю, размнажэння патомкаў Адама і Евы, сусв. патопу, будаўніцтва вавілонскай вежы. Потым ідуць апісанні жыцця прабацькоў Аўрама, Ісака і Іакава. Асабліва істотнымі ў гэтай частцы кнігі з'яўляюцца: «запавет», які Бог даў Аўраму, а потым Ісаку, «памножыць іх семя» і зрабіць іх нашчадкаў сваім абраным народам; апавяданне аб продажы Іосіфа ў егіпецкае рабства, аб пасяленні яўрэяў у Егіпце.

БЯЛЫНІЦКІ АБРАЗ МАЦІ БОЖАЙ — адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Вядомы з 1623, знаходзіўся ў *Бялыніцкім кляштары кармелітаў*. Паводле іканаграфіі — Адзігітрыя з дзіцем на левай руцэ і са скіпетрам у правай. Згодна з паданнем твары Марыі і Ісуса былі намаляваны анёлам. Існавала версія пра паходжанне абраза з Куцеінскага манастыра. У 1635 шату на абраз падараваў Казімір Завіша. Абраз набыў славу ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, калі знаходзіўся ў Ляхавіцкай крэпасці і, як лічылі сучаснікі, дапамог вытрымаць яе аблогу рас. войскамі І.А.Хаванскага. Дакладна невядома, калі абраз вярнуўся ў Бялынічы, але з канца 17 ст. тут фіксаваліся цудоўныя вылячэнні і выратаванні з яго дапамогай. У 1761 адбылося ўрачыстае каранаванне абраза каронамі, асвечанымі ў Рыме (на сродкі Агінскіх і Сапегаў). У 2-й палавіне 18—19 ст. абраз карыстаўся вялікай пашанай у хрысціян розных канфесій, асабліва на ўсходзе Беларусі; копіі з яго вядомы і ў інш. рэгіёнах. Ініцыятарамі яго культу былі *кармеліты*. Да абраза адбываліся шматлікія працэсіі і паломніцтвы, а Бялынічы называлі «Беларускім Чанстаховам». Свята абраза адзначалася 12 красавіка. Абраз застаўся на сваім месцы і пасля перадачы ў 1876 Бялыніцкага касцёла правасл. духавенству. У 1930-я г. пасля закрыцця царквы абраз захоўваўся ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі, адкуль знік у час 2-й сусв. вайны. З'яўляўся вы-



**Бялыніцкі абраз Маці Божай.**

датным помнікам бел. іканапісу, найб. дакладная копія сярэдзіны 17 ст. знаходзіцца ў Музеі стараж. бел. культуры ІМЭФ Нац. АН Беларусі. *А.А.Ярашэвіч.*

БЯЛЫНІЦКІ КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ. Існаваў у 1624—1832 у г.п. Бялынічы Магілёўскай вобл. Засн. Л.І.Сапегам. Атрымаў фундушавыя вёскі Вугольшчына, Царковішча, Цяхціц. Першыя драўляныя будынкі кляштара ў 1742 згарэлі, каменныя пабудовы — у 1742—61. У 1763, калі ўласнікамі Бялыніч былі Агінскія, асвячоны касцёл Успення (Ушэсця Маці Божай). Прыёр кляштара П.Пятроўскі. Пасля пажару 1859 касцёл рэстаўрыраваны. Уяўляў сабою 3-нефавую базіліку, сцены размаляваны сюжэтнымі кампазіцыямі, 9 алтароў аздоблены разьбой і лепкай. Будынак кляштара Т-падобны ў плане, 2—3-павярховы, унутры сцены таксама размаляваны. У сярэдзіне 17 ст. пры кляштары працавала друкарня. У касцёле знаходзіўся вядомы з 1634 цудатворны *Бялыніцкі абраз Маці Божай*, які ў 1655 з-за ваеннай пагрозы перанесены ў Ляхавіцкі замак, вернуты ў Бялынічы пры садзейнічанні кн. Алены Агінскай у сярэдзіне 18 ст. З таго часу Б.к.к. стаў буйным цэнтрам рэліг. жыцця Усх. Беларусі, пачалося масавае паломніцтва вернікаў да цудатворнага абраза. Тут пастаянна жыў папскі нунцый, адбываліся ўрачыстыя фэсты з працэсіямі; існаваў аркестр. У касцёл хадзілі вернікі правасл. і каталіцкага веравызнанняў. Пасля закрыцця кляштара і спробы ў 1867 зачыніць касцёл 11.4.1876 ён асвячоны ў правасл. царкву Раства Багародзіцы. У 1877 у Б.к.к. пераведзены *Тупічэўскі Святадухаўскі манастыр.* Пасля 1930 будынак касцёла прыстасаваны пад клуб, потым пад склад, у 1960-я г. знесены. Корпус кляштара ўзарваны ў 1970-я гады. *А.А.Ярашэвіч.*

БЯРОЗАЎСКІ КЛЯШТАР КАРТЭЗІЯНЦАЎ. Існаваў у сярэдзіне 17 ст. — 1831 у г. Бяроза Брэсцкай вобл. Засн. падканцлерам ВКЛ Казімірам Львонам Сапегам, які запрасіў сюды манахаў ордэна *картэзіянцаў.* Будынкі кляштара пастаўлены ў 1648—89, на балоцістым месцы, з-за чаго пад фундаменты давялося забіваць палі. У 1661 пад кіраўніцтвам невядомага архітэктара з Варшавы скончана будаўніцтва мураванага касцёла ў стылі сталага барока — трохнефавай базілікі з 3 апсідамі і вежайзваніцай, прыбудаванай да сярэдняй апсіды. У інтэр'еры 13 алтароў былі аздоблены лепкай са стука і разьбой па дрэве, паліхромнымі з пазалотай скульптурамі, карцінамі мясцовых і італьянскіх мастакоў. У комплекс таксама ўваходзілі аднатыпныя групы жылых карпусоў, прыстасаваных для адзіночнага жыцця манахаў, як таго патрабаваў статут ордэна, і гаспадарчыя будынкі. Былі бібліятэка, майстэрні, сады і агароды і інш. Кляштарны комплекс быў абнесены мураванай сцяною з 5 вежамі і брамай. Па-за яго сценамі знаходзіліся лазарэт, дом лекара і аўстэрыя. Кляштар меў сваю цагельню. У сцяне кляштара ў 1656 пахаваны К.Сапега, пазней і інш. прадстаўнікі яго роду. У 1830 агульная вага кляштарных каштоўнасцей складала больш за 100 фунтаў. Храм быў накрыты ліставой меддзю, падлога выкладзена шведскім мармурам. У кляштары захоўвалася 39 рукапісных кніг, у т.л. 11 псалтыроў (кляштар славіўся перапісчыкамі кніг), 2314 друкаваных тамоў. Звычайна ў кляштары жыло 14—16 манахаў, на кляштар працавала больш за 2,4 тыс. феад.-залежных сялян. У час паўстання 1830—31 прыслуга кляштара далучылася да паўстанцкага атрада Ц.Пуслоўскага, што дало рус. уладам падставу закрыць кляштар. Касцёл стаў парафіяльным, але ў 1866 таксама закрыты. Пазней ён разабраны, цэгла скарыстана рус. вайскоўцамі на будаўніцтва салдацкіх казармаў. Захаваліся рэшткі кляштара.

*Літ.:* Дзярновіч А., Калнін В. Гісторыка-археалагічныя даследаванні Бярозаўскага кляштара картузаў // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культурал. зб. Мн., 1992. *А.А.Ярашэвіч.*



**Бярозаўскі касцёл і кляштар картэзіянцаў.** З малюнка Н.Орды. 1870-я г.

# В

ВАДЗЯНІ́К — у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. народаў вобраз уладара вадаёмаў і жывых істот у іх. На Беларусі яго ўяўлялі ў выглядзе старога чалавека, укрытага водарасцямі і цінай, з зялёнай барадой, доўгімі валасамі на клінападобнай галаве, расплывістым тварам. Месца яго жыхарства — віры рэк, асабліва каля млыноў («вірнік»), дно азёр, крыніц, глыбокіх калодзежаў («ціхоня»). Яму прыпісвалі рух, памутненне вады, пары над ёю, разлівы рэк, разбурэнне рыбалоўных прылад, млыноў, гібель людзей і жывёл. У першыя замаразкі млынары іншы раз ахвяравалі яму мяса, а ў некаторых мясцінах рыбакі прасілі ўдалага ўлову. Вобраз В. страціў рэліг. значэнне ў 2-й палавіне 19 — пач. 20 ст. і знайшоў адлюстраванне ў фальклоры (марскі цар у рус. былінах, беларускіх чарадзейных казках і ў творах інш. народаў). *М.Ф.Пілітенка.*

ВАДО́ХРЫШЧА, Хрышчэнне Гасподне, Богаяўленне — адно з *дванадзесятых свят* праваслаўя; зімовае свята народнага календара, якім завяршаюцца Каляды. Адзначаецца 6(19) студзеня. Хрысц. рэлігія звязвае В. з хрышчэннем Ісуса Хрыста Іаанам Хрысціцелем у рацэ Іардан і з'яўленнем усіх асоб Св. Тройцы. У царк. каляндар увайшло не раней як у 2-й палавіне 2 ст. У гэты дзень у цэрквах адбываецца асвячэнне вады, у цудадзейную моц якой верылі яшчэ з дахрысц. часоў. На В. варажылі пра будучую гаспадарку.

ВАЙШНА́ВЫ (санскрыт — адданыя), крышнаіты — паслядоўнікі рэлігійна-філасофскага вучэння, перанятага з раздзела «Бхагавадгіта» (Песня Бога) старажытнаіндыйскага эпасу «Махабхарата». Вучэнне выкладзена ад імя Крышны (Усявышняга Бога), які нарадзіўся на зямлі ў вобразе мудрага цара-воіна, каб перадаць сваім вучням сістэму бхакці-ёгі (шлях любві да Бога). Паводле гэтага вучэння, людзі з'яўляюцца спрадвечна духоўнымі істотамі, якія могуць вызваліцца ад пакут матэрыяльнага існавання і кола перараджэнняў пры дапамозе магічнай практыкі. Яны маюць магчымасць атрымаць стан вечнага шчасця (Свядомасць Крышны) і трапіць на трансцэндэнтальную планету Крышны (Крышналоку). Гэта планета лічыцца вечнай у адрозненне ад матэрыяльнага свету, які будзе знішчаны праз 4 эпохі. В. лічаць, што настала апошняя эпоха — Калі-Юга (Жалезны век), эпоха зла і пакут, найб. неспрыяльная для чалавека. У 16 ст. прапаведнік Шры Чайтанья Махапрабху ўнёс у вучэнне метад санкіртаны (услаўлення Бога ў танцы і апяванне імем Бога) і распрацаваў прынцыпы арганізацыі абшчыны В., у якую ўваходзілі прадстаўнікі розных каст, нацыянальнасцей, веравызнанняў, а таксама жанчыны. З 1965 Шры Шрымад А.Ч.Бхактыведанта Свамі Прабхупада (1896—1977) распаўсюджваў вучэнне В. ў ЗША, пазней пашырыў сваю дзейнасць на інш. краіны свету. У 1966 ён заснаваў Міжнар. т-ва свядомасці Крышны, у якое ўваходзяць храмы, школы, інстытуты, сельскагаспадарчыя абшчыны; дзейнічае выдавецтва. З 1971 абшчыны В. з'явіліся на тэр. СССР, дзе да 1985 яны падвяргаліся праследаванням. На Беларусі арганізацыя В. з'явілася ў 1989, у студз. 2001 тут зарэгістравана 7 абшчын В.

*Літ.:* Фаликов Б.З. Трансформация индуизма в США // Взаимодействие культур Востока и Запада. М., 1987; Пудов В.С. Кришнаиты-вайшнавы в СССР // На пути к свободе совести. М., 1989; Сатсварупа Даса Гасвами. Очерки ведической культуры: что говорит о себе великая традиция. (Б.м.), 1990; Гурко А.В. Движение вайшнавов («Харе Кришна») и его последователи в Беларуси. Мн., 1999. *А.В.Гурко.*

ВАЛАДКО́ВІЧ Феліцыян Пілін (1697—1778) — дзеяч уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай. З 1730 епіскап холмскі і бэлзскі, з 1753 каад'ютар (памочнік-намеснік) мітрапаліта кіеўскага Ф.*Грабніцкага*, з 1756 епіскап уладзімірскі (г. Уладзімір-Валынскі). У 1762—78 мітрапаліт кіеўскі. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спрабаваў абвінаваціць В. ў злоўжываннях. Нягледзячы на заяву папскага прастолу пра невінаватасць В. (1770), нападкі на яго з боку каралеўскай улады працягваліся да канца жыцця.



Вастрабрамскі абраз Маці Божай.

ВАЛАЧО́БНІКІ — група мужчын (часам з жанчынамі), якія ў першы дзень *Вялікадня* з вечара і ўсю ноч абходзілі двары і спявалі пад вокнамі валачобныя песні (асобна гаспадару, гаспадыні, іх дарослай дачцэ, нежанатаму сыну). Валачобны гурт складаўся з запявалы («пачынальніка»), падпявальнікаў, музыкі (звычайна скрыпача) і механошы, які збіраў дары («валачобнае» — фарбаваныя яйкі, велікодныя булкі, сыр, невялікія грошы). Валачобны абрад, пашыраны пераважна на Пн і У Беларусі, цяпер страціў аграрна-магічны сэнс і бытуе як вясёлая святочная забава.

ВАМПІ́Р, крывасмок, ваўкалак — паводле старадаўніх павер'яў беларусаў і іншых народаў — мярцвяк, які ноччу выходзіць з магілы, каб шкодзіць людзям (смактаць кроў, душыць, ірваць на часткі і г.д.). Нар. фантазія ўяўляла В. з тоўстымі (раздутымі) губамі і тонкім, вострым, як змяінае джала, языком. У нар. вераваннях В. — увасабленне страху прымхлівых людзей перад памерлымі чараўнікамі. Стараж. славяне нават прыносілі В. ахвяры.

ВАРАЖБА́ — магічныя дзеянні, што нібыта расказваюць пра мінулае і прадракаюць будучае. Узнікла ў першабытным грамадстве разам з ранімі формамі рэлігіі — верай у звышнатуральныя сілы, у лёс, добрых і злых духаў. Звязана з прыкметамі, пэўная частка якіх засн. на жыццёвым і гаспадарчым вопыце, назіраннях за з'явамі прыроды, паводзінамі жывёл. З даўніх часоў варажылі па лініях на далоні, па зорках, на картах, вадзе, зернях і інш. Выкарыстоўвалі розныя прадметы (пярсцёнкі, люстэркі, замкі), прыслухоўваліся да кукавання зязюлі, галасоў вешчых птушак (савы, крумкача, пеўня). Большасць відаў В. вынікае з забабонных уяўленняў; ім уласцівы містычны характар; грунтуюцца яны на ўяўным знешнім падабенстве або процілегласці, сугуччы слоў і інш. У Стараж. Русі В. займаліся варажбіты, знахары, чарадзеі, вешчуны. На Беларусі найчасцей варажылі на *Каляды*, на куццю, калі В. павінна была вызначыць, чаго можна чакаць у надыходзячым годзе, якая збажына ўродзіць; варажылі і пра замужжа і інш. Гл. таксама *Магія*.

ВАРВА́РА — у народным календары прысвятак, дзень хрысціянскай пакутніцы Варвары (Барбары) (адзначаўся 4 снежня с. ст.), які лічыўся ў народзе жаночым святам. На В. забаранялася прасці кудзелю; у гэты дзень выпякалі вылепленыя з пшанічнага цеста галовы, рогі, капыты, вушы і імі кармілі хатнюю жывёлу, каб яна добра вялася. Пасля В. дзень паступова пачынаў расці («Варвара ночы ўварвала, а дня прытачыла»). Добрае надвор'е на В. прадракала добры ўраджай ільну на наступнае лета. *У.А.Васілевіч.*

ВАРЛАА́М (свецкае Шышацкі Рыгор; 1750, в. Красілаўка, Чарнігаўская вобл. Украіны — 1821 або 1823) — дзеяч праваслаўнай царквы. Скончыў Пераяслаўскую духоўную семінарыю і Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1774 выкладчык, пазней рэктар Пераяслаўскай духоўнай семінарыі. У 1776 прыняў манаства, у 1780—95 ігумен і архімандрыт манастыроў у Расіі, на бел. і літоўскіх землях Рэчы Паспалітай. У 1789 высланы за адмову даць прысягу каралю і дзяржаве. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай 1793 вярнуўся на Беларусь, адзін з супрацоўнікаў мінскага архіепіскапа Віктара (В.С.*Садкоўскага*), садзейнічаў вяртанню уніятаў у праваслаўе. З 1795 вікарны епіскап жытомірскі (пад уладай мінскага архіепіскапа), з 1799 епіскап зноў утворанай Валынскай епархіі. З 1805 епіскап, з 1808 архіепіскап магілёўскі і віцебскі. У час вайны 1812 застаўся ў акупіраваным французамі Магілёве, прысягнуў імператару Напалеону І, удзельнічаў ва ўрачыстых набажэнствах у дні нараджэння Напалеона і імператрыцы Марыі Луізы. Загадаў служыць набажэнствы за Напалеона ў Мсціславе, Чавусах, Быхаве і Чэрыкаве. Пасля выгнання французаў па справе аб здрадзе В. і 5 членаў Магілёўскай кансісторыі ўтворана следчая камісія на чале з разанскім архіепіскапам Феафілактам (Ф.Г.Русанавым) і ўказам імператара Аляксандра І ад 13.5.1813 В. пазбаўлены сану і як просты манах сасланы ў Ноўгарад-Северскі Спаса-Праабражэнскі манастыр. *В.В.Антонаў.*

ВАСІ́ЛІЙ ВЯЛІ́КІ (Basileios Megas), Васілій Кесарыйскі (каля 330, г. Кесарыя, М.

Азія — 1.1.379) — царкоўны дзеяч, тэолаг, філасаф-платонік, адзін з айцоў царквы; епіскап г. Кесарыя (з 370). Выступаў супраць арыянства, прапаведаваў аскетызм, падтрымліваў манаства. Прапаведуючы хрысціянства, выкарыстоўваў традыцыі ант. рыторыкі. Асн. працы: «Любамудрасць» (з *Грыгорыем Багасловам*) і «Супраць Еўнамія». У іх і гутарцы «Шастаднеў» выклаў асновы хрысц. касмалогіі, даваў парады і настаўленні па царк. дзейнасці. Распрацаваў варыянт літургіі (прынята ў праваслаўі і цяпер), рэгламентаваў правілы манастырскага жыцця. Лічыў, што ў інтарэсах хрысціянства магчыма «карыснае выкарыстанне» ант. культуры (пропаведзь «Да юнацтва»). Яго працы паўплывалі на развіццё слав. літаратур.

ВАСТРАБРА́МСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ — адна з галоўных хрысціянскіх святынь у Літве і на Беларусі. Захоўваецца ў Вільні ў Вострай браме (сучасная літоўская назва Аўшрас Варту). Ушаноўваецца каталіцкай і правасл. цэрквамі. Уяўляе сабой паясную выяву Дзевы Марыі без дзіцяці, на фоне Месяца, намаляваную тэмперай на дубовай дошцы. Найб. вядома т.зв. карсунская версія паходжання абраза, якая ў 1839 надрукавана Т.Нарбутам, пазней распрацавана царк. гісторыкамі. Паводле яе, абраз прывезены ў Вільню вял. кн. ВКЛ Альгердам у 1363 з Корсуні (Херсанес, цяпер у межах г. Севастопаль, Украіна) пасля паспяховага паходу ў Крым. Вял. княгіня Ульяна, правасл. хрысціянка, аддала абраз у заснаваны ёю манастыр св. Тройцы. У канцы 15 ст., калі Вільню абнеслі мурам, абраз паставілі над Медніцкай (Вострай) брамай. Калі манастыр св. Тройцы стаў уніяцкім, капліца над брамай разам з абразом перайшла пад апеку кармелітаў, для якіх у 1621 падканцлер Стафан Пац і віленскія бургамістры Дубовічы засн. кляштар непадалёку ад Медніцкай брамы. Існуе таксама легенда, што прататыпам для абраза паслужыла Барбара Радзівіл, незвычайная прыгажосць і драматычны лёс якой зрабілі яе легендарнай асобай. Стыль жывапісу і тэхналагічныя асаблівасці сведчаць, што абраз, што існуе цяпер, намаляваны ў 1-й трэці 17 ст. невядомым мастаком, які добра ведаў усх.-правасл. іканапіс і жывапіс Паўн. Еўропы. Адметнае шанаванне абраза пачалося ў канцы 17 — пач. 18 ст. У кнігах пра цудатворныя абразы 1650—87 вастрабрамскі абраз яшчэ не называецца. Першы запісаны цуд — уваскрэсенне памерлай дзяўчынкі — адносіцца да 1671. Шырокую славу абраз набыў у 1702 пасля паражэння шведаў, якія спрабавалі яго папсаваць. Найб. ўражанне на жыхароў горада зрабілі шматразовыя выратаванні абраза ў час пажараў Вільні 1706, 1748—49, 1754. У 1756 надрукавана песня пра абраз як абаронцу Вільні, тады ж уведзена ўрачыстае святкаванне Апекі Маці Божай. У шанаванні Вастрабрамскай Маці Божай аб'ядналіся рыма-каталікі і уніяты, імшы служыліся па лац. і грэч. абрадах. Вострая брама стала самым святым месцам у Вільні. У 19 ст. Вастрабрамская Маці Божая стала лічыцца патронкай зямель былога ВКЛ (Літвы і Беларусі), культ абраза набыў патрыятычны сэнс, прапагандыстам яго стала інтэлігенцыя. У 1852 надрукавана першая анталогія вершаў, прысвечаных абразу. З'явіліся шматлікія копіі абраза, у т.л. В.Ваньковіча для касцёла ў Парыжы, распаўсюдзіліся медальёны з яго выявай. 2.7.1927 на абраз урачыста накладзены залатыя кароны. Копіі абраза ёсць у многіх храмах Беларусі і Літвы. Свята абраза па правасл. календары 26 снежня па с. ст.

*А.А.Ярашэвіч.*

ВАТЫКА́Н (Vaticano), Дзяржава-горад Ватыкан (Stafo della Citta del Vaticano) — папская суверэнная дзяржава, цэнтр каталіцкай царквы, рэзідэнцыя яе кіраўніка — *папы рымскага* (з канца 14 ст.). Размешчаны ў Рыме на беразе р. Тыбр. Афіц. мовы лац. і італьянская. В. мае свае сцяг, гімн, грашовыя знакі, маркі, музеі, б-кі,



Да арт. **Ватыкан**. Плошча св. Пятра.



Да арт. **Ватыкан**. Папа рымскі Іаан Павел II благаслаўляе дзяцей-чарнобыльцаў з Беларусі.

архівы, чыгуначны вакзал, радыёстанцыю, штодзённую газету (выходзіць на розных мовах), друкарню, шэраг ун-таў, акадэмій, каледжаў і семінарыяў, у якіх навучаюцца прадстаўнікі многіх замежных дзяржаў. У В. сканцэнтраваны найкаштоўнейшыя шэдэўры культуры і мастацтва. В. падтрымлівае дыпламатычныя адносіны з больш як 125 краінамі свету, з лістапада 1992 — і з Рэспублікай Беларусь. Прадстаўлены ў ААН.

ВАЎКАВЫ́СКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ — беларускі рукапісны помнік 16 ст. Месца стварэння дакладна не высветлена. Прыпіска на кнізе, зробленая ў 1751 прэсвітэрам «церкви Волковицкой» айцом Іаанам Савічам, дазволіла даследчыку В.Шматаву звязаць Евангелле з Ваўкавыскам. Аднак, магчыма, што кніга знаходзілася ў в. Ваўкавічы Навагрудскага пав. (у прыпісцы ўпамінаецца таксама пан Казімір Корсак, навагрудскі гродскі суддзя). У 19 ст. А.Рачынскі вывез Евангелле з Віцебскага Маркавага манастыра ў Віленскую публічную б-ку. В.е. з'яўляецца рэдкім узорам рукапіснай бел. кнігі рэнесансавага стылю: шматколерныя раслінныя арнаменты ініцыялаў і заставак выходзяць на правае і левае палі рукапісу. Рукапіс пашкоджаны: няма пачаткаў Евангелляў ад Марка, Матфея, няправільна збрашураваны Саборнік 12 месяцаў і казанні евангелістаў на кожны дзень (у канцы кнігі). Зберагаецца ў б-цы АН Літвы (Вільнюс).

*Літ.:* Н і к а л а е ў М. Палата кнігапісная. Мн., 1993.

*М.В.Нікалаеў.*

ВАЎКАЛА́К (ад стараслав. влъкъ воўк + длакъ поўсць) — вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў і інш. слав. народаў; пярэваранець, чалавек, які чараўніцкім спосабам ператварыўся ў ваўка. Уяўлялі, што ў адрозненне ад звычайнага воўка В. больш высокага росту, з вялікай галавой, чатырма вачыма, вые не па-воўчы, а стогне і плача, як чалавек. Паводле паданняў, В. падзялялі на 2 групы: В. — фантастычная істота, у якую нібыта ператваралі людзей чараўнікі, і В., у якога ператварыўся сам чараўнік.

Генетычна вобраз В. звязаны з татэмізмам, з абрадамі пераапранання ў шкуру татэмнай жывёлы, якой пакланяліся (у мінулым гуцулы нават спраўлялі свята воўка). Паступова вобраз В. страціў рэліг. значэнне і захаваўся ў фальклоры як фантастычны персанаж. *М.Ф.Піліпенка.*

ВАХАБІ́ЗМ — рэлігійна-палітычны рух у суніцкім *ісламе*. Сфарміраваўся ў сярэдзіне 18 ст. як апазіцыя ва ўмовах турэцкага панавання ў Неджздзе (Цэнтральная Аравія). Заснавальнік руху — Мухамед ібн Абд аль-Вахаб (1703—87; назва В. ад яго імя), які заклікаў вярнуцца да чысціні ранняга ісламу і аскетызму племяннога жыцця. Вахабіты асуджалі раскошу і бяздзейнасць уладароў султанскай Турцыі, выступалі супраць пышных культаў святых, музыкі, ужывання віна, кавы, тытуню і інш. Карысталіся падтрымкай бедуінаў. Пасля смерці аль-Вахаба рух узначаліў Махамед Саўд, які распачаў актыўную заваёўніцкую дзейнасць. Яго прыхільнікі — саудзіды падпарадкавалі сабе большую частку Аравіі са святымі ісламскімі гарадамі Медынай (1804) і Меккай (1806). Супраць саудзідаў выступіў егіпецкі правіцель Мухамед Алі. Саудзіды змагаліся са сваімі праціўнікамі на працягу ўсяго 19 ст. У 1902 адноўлены вахабіцкі эмірат са сталіцай у Эр-Рыядзе. З 1932 дзяржава саудзідаў называлася каралеўствам Саудаўская Аравія, дзе вахабізм — афіц. ідэалогія.

*Літ.:* Васильев А.М. Пуритане ислама? Ваххабизм и первое государство саудидов в Аравии (1744/45—1818). М., 1967.

ВЕ́РА — прыняцце якіх-небудзь ідэй, ведаў, меркаванняў, палажэнняў і інш. без непасрэднага эмпірычнага і рацыянальнага абгрунтавання. У рэлігіі В. — прыняцце Бога як першакрыніцы ўсяго існага, стваральніка свету, жыцця на зямлі і самога чалавека, прыняцце пэўных сцверджанняў (догматаў) і рашучасць прытрымлівацца іх насуперак усім сумненням. Асновы такой В. значна глыбей, чым веды і мысленне, у адносінах да якіх В. — першапачатковы фактар і таму мацней за іх. Тэалогія лічыць рэліг. В. неад'емнай уласцівасцю чалавечай душы, божым дарам. Для пераадолення супярэчнасцей паміж розумам і В. артадаксальная тэалогія выкарыстоўвае максіму *Аўгусціна Блажэннага* і Ансельма Кентэрберыйскага «верую дзеля таго, каб разумець», якая з'яўляецца зыходным пунктам для пабудовы паслядоўнасці фармальна-лагічных вывадаў. *В.М.Пешкаў.*

ВЕРАВЫЗНА́ННЕ — 1) прыналежнасць да пэўнай рэлігіі; прызнанне асобай рэлігійнага вучэння якой-небудзь царквы. У краінах, дзе ажыццёўлена свабода сумлення, усім грамадзянам дадзена права свабодна выбіраць любое з В., арганізоўвацца ў рэліг. суполкі, выяўляць у набажэнствах і пропаведзях свае рэліг. перакананні. Рэліг. свабода, упершыню абвешчаная ў час Франц. рэвалюцыі 1789—99, з цягам часу пашырылася на інш. краіны. Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь кожны грамадзянін мае «права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў». 2) Рэлігійнае аб'яднанне, якое мае сваё распрацаванае веравучэнне, культ і ўстойлівую арганізац. структуру. Падрабязна распрацаванае з дагматычнымі ўстанаўленнямі, выкладзенае ў спец. палажэннях веравучэнне называецца *канфесіяй*. У сучасным разуменні В. — прыналежнасць да пэўнай царквы ў веравучэнні і абраднасці. Звычайна тэрмін «В.» ўжываецца ў дачыненні да рэліг. кірункаў, якія маюць развітую багаслоўскую школу — *хрысціянства, іудаізм, іслам, будызм*. На Беларусі дзейнічаюць арганізацыі і абшчыны, вернікі якіх належаць да правасл., рымска-каталіцкай, грэка-каталіцкай, стараверскай, новаапостальскай цэркваў, евангельскіх хрысціян-баптыстаў, адвентыстаў сёмага дня, сведкаў Іеговы, іудзейскай, мусульманскай рэлігій і інш. В. і іх дзейнасць ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і законам Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» (1992). *Ю.В.Бажэнаў, Г.А.Маслыка.*

ВЕРАЦЯРПІ́МАСЦЬ — цярплівыя, паважлівыя адносіны да прадстаўнікоў любых іншых веравызнанняў; прызнанне права на спавяданне любой рэлігіі (свабода веравызнання). Барацьба за В. узнікае ва ўмовах панавання пэўнага рэліг. кірунку, які прыгнятае іншадумства. Яна мае прагрэсіўны характар, садзейнічае гуманізацыі грамадства. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе грамадзянам свабоду вызначэння сваіх адносін да рэлігіі, а значыць, асабіста або сумесна з інш. вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, магчымасць выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэліг. культаў, рытуалаў, абрадаў, не забароненых законам.





Фрагменты **Ваўкавыскага евангелля**.

ВЕ́РБНАЯ НЯДЗЕ́ЛЯ, гл. у арт. *Вербніца.*

ВЕ́РБНІЦА — апошняя нядзеля перад *Вялікаднем.* У некаторых мясцовасцях пашырана назва вербная нядзеля. На В. паўсюдна асвячалі ў царкве галінкі вярбы, якімі ў гэты дзень традыцыйна прынята было сцябаць адзін аднаго. Асвячонай вярбе надаваліся магічныя ўласцівасці, таму яе доўга захоўвалі ў хаце (ёю выганялі на першы выпас жывёлу, існавала павер'е, што з'едзеныя з галінкі пупышынкі засцерагаюць ад пэўных хвароб). Аздобленыя засушанымі кветкамі і каласкамі галінкі вярбы імітавалі пальмы, з якімі народ сустракаў Хрыста пры ўездзе ў Іерусалім (гэта хрысц. свята і прымеркавана да В.).

ВЕ́РНІК — чалавек, які верыць у Бога і належыць да пэўнай рэлігійнай *канфесіі.* Гл. *Веравызнанне.*

«ВЕ́СНІК БЕЛАРУ́СКАГА ЭКЗАРХА́ТА» — выданне Бел. правасл. царквы (Бел. экзархата Маскоўскай патрыярхіі). Засн. у 1990 як часопіс на базе час. *«Минские епархиальные ведомости».* Выходзіў у Мінску на бел. і рус. мовах, быў разлічаны на святароў і на ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі і сучаснага стану правасл. царквы на Беларусі, а таксама прадстаўнікоў інш. правасл. цэркваў і хрысц. канфесій. У часопісе пераважалі артыкулы гісторыка-архіўныя, аналітычныя багаслоўскага зместу, прысвечаныя найб. значным падзеям у Бел. экзархаце. Кожны нумар (пачынаючы з № 4) прысвячаўся адной тэме. З 1990 у дадатак да «В.б.э.» выдаецца серыя брашур «Библиотека «Вестника Белорусского экзархата». У 1998 часопіс, пры захаванні старой назвы і структуры, пераўтвораны ў альманах. *А.А.Петрашкевіч.*

ВІКА́РЫЙ (ад лац. vikarius намеснік). У праваслаўнай царкве епіскап — свяшчэннаслужыцель вышэйшай (трэцяй) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі, які замяшчае кіруючага *архірэя,* не здольнага з прычыны якіх-небудзь абставін адпраўляць ускладзеныя на яго абавязкі па кіраўніцтве *епархіяй,* або дапамагае яму ў гэтай справе на пастаяннай аснове. Узнікненне гэтай пасады адносіцца да 4—5 ст., калі за папам рымскім было прызнана найменне «вікарый Ісуса Хрыста» і зацвярдзілася практыка прызначэння ў аддаленыя ад Рыма вобласці вікарыяў — яго намеснікаў. У Рус. правасл. царкве найменне «В.» афіцыйна ўведзена ў 1708, калі мітрапаліту Наўгародскаму быў прызначаны памочнік з тытулам вікарыя Карэльскага і Ладажскага. Штат вікарных архірэяў устаноўлены пры імператрыцы Кацярыне II (1764), а ў 1865 дазволена засноўваць вікарствы ўсюды, дзе, паводле меркавання Сінода, у гэтым ёсць неабходнасць. В. непасрэдна падпарадкоўваюцца епархіяльным архірэям, якія і вызначаюць кола іх абавязкаў. В. ажыццяўляюць кіраўніцтва рэліг. жыццём у прыходах, аб'яднаных у вікарыяцтва (звычайна група прыходаў у адным горадзе з прылеглымі раёнамі) і ў гэтым выпадку яны падпарадкаваны правячаму епіскапу і праводзяць рукапалажэнні ў сан толькі з яго ведама. В. таксама прадстаўляюць Маскоўскі патрыярхат у міжнар. рэліг. арганізацыях, кіруюць дзейнасцю духоўных навуч. устаноў, узначальваюць падвор'і Рус. правасл. царквы за мяжой і г.д. На Беларусі апошні В. (навагрудскі) спыніў сваю дзейнасць у 1992 у сувязі з адраджэннем самастойнай Навагрудскай епархіі. У каталіцкай царкве В. — памочнік біскупа, прыходскага святара (ксяндза, кюрэ); папскі намеснік у аддаленых (місіянерскіх) раёнах. У пратэстанцкай царкве В. — памочнік святара.

ВІ́ЛЕНСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ ДУХО́ЎНАЯ АКАДЭ́МІЯ — вышэйшая рэлігійная навучальная ўстанова ў 1833—42. Створана паводле ўказа рас. імператара Мікалая І ад 19.7.1833 у Вільні на аснове зачыненага ў 1832 Віленскага універсітэта. Адкрыта 23.2.1834. Кіраванне акадэміяй ажыццяўлялі рэктар, інспектар, 2 прарэктары і эканаміст. Тэрмін навучання спачатку 3, потым 4 гады. Мела 10 кафедраў: свяшчэннага пісання; біблейскай археалогіі і герменеўтыкі; дагматычнай, маральнай і пастырскай тэалогіі; логікі і маральнай філасофіі; царк. гісторыі і кананічнага права; гамілетыкі разам з вышэйшым курсам гісторыі польскай літаратуры; старaж.-грэч. і лац. літаратуры; рус. літаратуры; усеагульнай гісторыі; моў (стараж.-яўрэйскай, французскай, ням.). Працавалі 7 прафесараў (Я.Бароўскі, К.Ленартовіч, Я.Скідзель, А.Фіялкоўскі і інш.), 3 ад'юнкты і 3 лектары. На ўсіх курсах займалася каля 400 студэнтаў. Тэалагічныя дысцыпліны выкладаліся на лац. мове, астатнія — на рускай. Акадэмія мела права прысвойваць навук. ступені магістра і доктара тэалогіі, а таксама доктара кананічнага права. Рэктары: А.Асінскі (1834—39), Фіялкоўскі (1839—42). У 1842 пераведзена ў Пецярбург, дзе стала базай для стварэння Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі (дзейнічала да 1918). *В.Ф.Шалькевіч.*

ВІ́ЛЕНСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ ЕПА́РХІЯ, Віленская дыяцэзія, Віленскае біскупства — царкоўна-адміністрацыйная адзінка рымска-каталіцкай царквы, найстарэйшая на тэр. Літвы і Беларусі. Цэнтр — г. Вільня. Утворана паводле прывілея вялікага кн. ВКЛ *Ягайлы* ад 17.2.1387, зацверджана папам рымскім у 1388. Напачатку падпарадкоўвалася папству, у 1418—1795 — гнезненскаму арцыбіскупу. Ахоплівала амаль усе парафіі ў Літве і на Беларусі (акрамя парафій Брэсцкага ваяводства, якія ўваходзілі ў Луцкую епархію). Першы біскуп — *Андрэй.* У 1772 са складу епархіі вылучылася Магілёўская епархія. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 Віленская епархія скасавана і замест яе ўтворана Інфлянцкая каталіцкая епархія з цэнтрам у Вільні. У 1798 Віленская епархія адноўле-







«Веснік Беларускага экзархата».

на. У яе склад увайшлі парафіі Літоўскай і Курляндскай губ. У канцы 1840-х г. епархія засталася толькі ў межах Віленскай і Гродзенскай губ. У канцы 1860-х г. — 1883 ў яе склад уваходзіла тэр. скасаванай Мінскай каталіцкай епархіі. У 1918 епархія падзелена польска-літоўскай граніцай, большая частка з г. Вільня адышла ў 1921 да Польшчы. Булай папы Пія XI ад 28.10.1925 яна атрымала статус архіепархіі (арцыбіскупства) Польскай рымска-каталіцкай царквы; у яе ўваходзілі парафіі Віленскага, палавіны Навагрудскага і часткі Беластоцкага ваяводстваў. Пасля 1939 тэр. Віленскай епархіі апынулася ў розных дзяржавах: асн. частка на тэр. БССР, меншая з Вільняй у Літве, з 1944 заходняя частка зноў у Польшчы. Пасля 2-й сусв. вайны епархія намінальна засталася ў складзе Польскай каталіцкай царквы, з 1945 рэзідэнцыя біскупа знаходзілася ў г. Беласток. У 1991 у сувязі з рэарганізацыяй каталіцкіх епархій у адпаведнасці з нац.-дзярж. граніцамі, В.р.-к.е. афіцыйна пераведзена ў юрысдыкцыю Літоўскай каталіцкай царквы, атрымала статус мітраполіі. *В.Л.Насевіч, А.М.Філатава.*

**ВІЛЕНСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ**, Віленская Адзігітрыя, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Паводле царк. падання, намаляваны евангелістам Лукой. Далейшы яе шлях нібыта праходзіў праз Царград (Канстанцінопаль), Галіцкую Русь у Маскву. Паводле інш. звестак абраз прывезла ў Маскву Соф'я Палеалог, калі выходзіла замуж за вял. князя маскоўскага Івана III Васілевіча. Яго дачка Алена прывезла абраз у Вільню, калі ў 1495 выходзіла замуж за вял. князя ВКЛ Аляксандра. Пасля смерці вял. княгіні Алены абраз быў пастаўлены ў Прачысценскім саборы над яе грабніцай. Ёсць сведчанне, што Іван Грозны хацеў вярнуць абраз у Маскву і прапанаваў Жыгімонту Аўгусту за абраз 50 знатных літоўскіх палонных, але кароль і віленскае духавенства не згадзіліся. У 1701 з-за пагрозы шведскай акупацыі Вільні абраз вывозілі ў Жыровічы. У сярэдзіне 18 ст. абраз Віленскай Божай Маці перанесены ў Троіцкі базыльянскі манастыр, дзе заставаўся і пасля пераходу манастыра ў праваслаўе; знаходзіўся ў мясцовым радзе іканастаса. Абраз намаляваны на 4 дошках, сярэднія 2 з кіпарысу, крайнія — бярозавыя. Рэстаўрыраваны ў 1864. Іканаграфічна набліжаецца да Ціхвінскай Божай Маці, якая, паводле царк. падання, прынесена анёламі на воблаках з Канстанцінопаля ў 1383 на бераг р. Ціхвінкі ў Наўгародскай зямлі. У час 1-й сусв. вайны Віленскі абраз вывезены ў Расію, далейшы лёс невядомы. *А.А.Ярашэвіч.*

**ВІЛЕНСКІ СВЯТАДУ́ХАЎСКІ МАНАСТЫ́Р**. Заснаваны ў Вільні пры Святадухаўскай праваслаўнай царкве, пабудаванай у 1597 на сродкі дачок смаленскага ваяводы Рыгора Валовіча Фядоры і Ганны і перададзенай Віленскаму Троіцкаму праваслаўнаму брацтву. Пачатак дзейнасці манастыра дакладна не высветлены. У 1609 Троіцкі манастыр перададзены базыльянам, а правасл. брацтва перайменавана ў Святадухаўскае. У гэты манастыр пераведзена і друкарня брацтва. Да 1686 манастыр падпарадкаваны канстанцінопальскаму патрыярху, пазней — маскоўскаму. З'яўляўся *архімандрыяй*, яму былі падпарадкаваны 17 мужчынскіх і 2 жаночыя манастыры на Беларусі і ў Літве, у т.л. Петрапаўлаўскі ў Мінску, Еўінскі ў Трокскім ваяв., Цяперскі і Сноўскі ў Навагрудскім ваяводстве. Настаяцелямі манастыра былі *Л.Карповіч* (1-ы настаяцель), М.*Сматрыцкі*, Іосіф Бабрыковіч і інш. Манастыр валодаў значнымі матэрыяльнымі сродкамі, у т.л. маёнткамі, дамамі, млынамі, частка якіх складалася з ахвяраванняў членаў Святадухаўскага правасл. брацтва. Прымаліся ахвяраванні і з Масквы. Ад часу заснавання В.С.м. не прыпыняў сваёй дзейнасці. Цяпер ён падпарадкаваны архіепіскапу Віленскаму і Літоўскаму. *Г.А.Кухарчык.*



**Віленскія пакутнікі.** Абраз.

ВІЛЕНСКІ ТРО́ІЦКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 14 — пач. 20 ст. ў Вільні. Узнік як правасл. пры царкве св. Тройцы. Пабудаваны жонкай вялікага князя ВКЛ Альгерда Ульянай на месцы гібелі трох *віленскіх пакутнікаў*, першыя манахі ўпамінаюцца ў 1391. Адным з архімандрытаў быў Макарый (15 ст., пазней мітрапаліт кіеўскі). Напачатку манастыр існаваў на міласціну, потым атрымаў зямельныя ўладанні ад кн. Галоўчынскага і К.Астрожскага. Апошні пабудаваў мураваную Троіцкую царкву (каля 1514), у якой знаходзіўся абраз Маці Божай (гл. *Вастрабрамскі абраз Маці Божай*). У 16 ст. манастыр пад патранатам гараджан, потым — мітрапаліта. Пры царкве з 1589 існавала брацтва, якое мела прывілей на друкарню. У 1609 манастыр стаў уніяцкім, сярод яго архімандрытаў былі дзеячы уніяцкай царквы: І.В.*Руцкі*, Л.*Крэўза*, А.Дубовіч, Ф.*Грабніцкі*. Ва уніяцкі перыяд манастыр атрымаў значныя зямельныя надзелы. У 1-й палавіне 17 ст. дзейнічаў базыльянскі *навіцыят*. Пасля пажару 1706 пабудаваны новы манастырскі корпус. Пасля *Полацкага царкоўнага сабора 1839* манастыр зноў правасл., у 1845 аднесены да 3-га класа, у ім размешчана Літоўская духоўная семінарыя, амаль усе зямельныя ўладанні забраны ў казну. Для іканастаса Троіцкай царквы І.Т.Хруцкі намаляваў абразы. У час 1-й сусв. вайны манастыр спыніў існаванне. *А.А.Ярашэвіч.*

ВІЛЕНСКІЯ ПАКУ́ТНІКІ, літоўскія пакутнікі — беларускія святыя Іаан, Антоній і Яўстафій (да хрышчэння Кумец, Няжыла, Круглец), якія загінулі ў 1347 пакутніцкай смерцю за пераход з язычніцтва ў хрысціянства. На месцы пакарання В.п., якія былі прыдворнымі вялікага кн. Альгерда, па жаданні яго жонкі пабудавана капліца, пазней — Свята-Троіцкая царква. У 1374 В.п. кананізаваны. З 16 ст. іх мошчы знаходзіліся ў *Віленскім Святадухаўскім манастыры*. У ліп. 1993 часткі мошчаў В.п. закладзены ў абраз трох В.п. і перанесены ў Мінскі Свята-Петрапаўлаўскі сабор. Гісторыя В.п. коратка выкладзена ў «Сказанні пра віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія, Яўстафія». У 1993 у Мінску створана *Беларускае праваслаўнае брацтва трох Віленскіх пакутнікаў*.

*Літ.:* Меендорф І. Тры літоўскія мучанікі: Візантыя і Літва ў 14 ст. // Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце. 1993. № 1.

ВІННІ́ЦКІ Юрый (Георгій, свецкае імя Габрыэль; 1660—23.9.1713) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З укр. шляхецкага роду герба «Сас». Служыў у войску, займаў адм. пасады, пасол на Варшаўскі вальны сейм 1690 ад Рус. ваяв. (Зах. Украіна). У 1700 прыняў манаства. У 1700—13 епіскап перамышльскі. З 1708 адміністратар (выконваючы абавязкі кіраўніка) *Кіеўскай мітраполіі*, Уладзіміра-Брэсцкай і Львоўскай епархій. Ад кіравання мітраполіяй адхілены каралём Станіславам Ляшчынскім, але пасля вяртання на трон караля Аўгуста II у 1710—13 быў мітрапалітам кіеўскім. Актыўна пашыраў унію на заходне-укр. землях, нават шляхам закрыцця правасл. цэркваў; адначасова імкнуўся прадухіляць (беспаспяхова) пераход шляхты ў рымска-каталіцкі абрад. *С.В.Казуля.*

ВІ́ЦЕБСКАЯ ДАБРАВЕ́ШЧАНСКАЯ ЦАРКВА́. Заснаванне храма адносяць да 11 ст. і прыпісваюць кіеўскай княгіне Вользе. Пабудавана ў 1120—30-я г. грэч. дойлідамі. У 14 ст. пры вялікім князю ВКЛ Альгердзе перабудавана. У 1619 царква разам з асобна пастаўленай драўлянай званіцай перайшла да уніятаў. У сярэдзіне 17 ст. перабудавана — замест арачных закамар з'явіліся 2-гранныя шчыты, якія абумовілі 8-схільнае пакрыццё храма, падобнае наўгародскім цэрквам. У 1831 храм вернуты правасл. вернікам. Адрамантаваны ў 1833 губернскім архітэктарам Бецціні. Найб. сталаж. малюнак царквы адносіцца да 1664. У 2-ю сусв. вайну пашкоджана нямецкімі фашыстамі (1944). Археалагічныя даследаванні праводзілі І.Хозераў (1946), Г.В.Штыхаў (1964), М.К.Каргер (1968) і П.А.Рапапорт (1975). У 1961 узарвана. У 1977 праведзена кансервацыя рэштак (архітэктар С.А.Друшчыц), з 1992 адноўлена (архітэктар Г.А.Лаўрэцкі). *А.М.Кулагін.*



**Віцебская Дабравешчанская царква.**

ВІЦЕБСКАЯ ДУХО́ЎНАЯ СЕМІНА́РЫЯ — сярэдняя рэлігійная навучальная ўстанова на Беларусі ў 19 — пач. 20 ст. Засн. уніяцкім архіепіскапам І.*Лісоўскім* ў 2-й палавіне 1807 у архірэйскім маёнтку Струнь (каля г. Полацк) на падставе ўказа імператара Аляксандра І (снеж. 1806). Прызначалася для навучання дзяцей белага уніяцкага духавенства Беларусі і называлася «Беларуская Грэка-уніяцкая духоўная семінарыя». Напачатку ўтрымлівалася за кошт маёнткаў і часткі грашовай сумы, адабранай ў базыльян. У фундуш семінарыі ўваходзілі маёнткі: Новы Двор, або Судзілавічы, Дзвоня, Гутава, Мягель, Чарсвяты Лепельскага пав. і Астраўляны Полацкага пав. У вер. 1808 мітрапаліт Лісоўскі зацвердзіў агульныя правілы навуч.-выхаваўчага працэсу семінарыі і вызначыў штат на 50 вакансій для «самобеднейших священнических и церковничьих детей» епархіі. У ліст. 1808 семінарыя перамясцілася ў г. Полацк у будынак Сафійскага сабора. У 1812 разрабавана французамі. У пач. 1813 заняткі аднавіліся ў в. Судзілавічы. У 1821 семінарыя пераведзена ў Полацк, знаходзілася ў залежнасці ад Гал. семінарыі пры Віленскім ун-це. Пасля заканчэння пяцікласнага агульнаадукацыйнага курса семінарыі вучні для далейшай адукацыі наведвалі *Полацкую езуіцкую акадэмію*. У 1823/24 навуч. г. пераўтворана ва ўласна семінарыю (2 аддзяленні) і ніжэйшае пры ёй вучылішча (мела 3 класы). Семінарскі курс уключаў да 28 прадметаў. У пач. 1828/29 навуч. г. стала 3-класнай (навучанне ў кожным класе працягвалася 2 гады). У 1839 яна ўраўнавана ў навуч. курсах з семінарыямі Пецярбургскай і Кіеўскай навуч. акруг. Пасля ліквідацыі уніяцкай царквы (1839) семінарыя стала правасл., у 1840 перайменавана ў Полацкую духоўную семінарыю. У пач. 1840-х г. яе маёнткі адабраны і семінарыя пераведзена на казённае ўтрыманне. У 1856 пераведзена ў г. Віцебск, у снеж. 1871 перайменавана ў Віцебскую. У 1872 паводле статута 1867 яна стала 6-класнай. У семінарыі выхоўваліся архіепіскапы В.Лужынскі і А.*Зубко*, гісторык К.*Гаворскі*. Зачынена пасля 1917. *С.М.Васовіч.*

ВІЦЕБСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — царкоўна-адміністрацыйная адзінка, кананічная частка *Беларускай праваслаўнай царквы*. Утворана ў сакавіку 1942 паводле пастановы сабора Бел. епіскапаў. На Віцебскую кафедру архіепіскапам прызначаны Афанасій (Мартас) з тытулам віцебскі і полацкі. У 2-й палавіне 1944 епархія скасавана, яе тэр. ўвайшла ў кананічнае падпарадкаванне мінска-беларускага епіскапа, з 1989 знаходзілася ў падпарадкаванні Полацкай епархіі. Адноўлена як асобная епархія 10.5.1992 паводле Пастановы Сінода Бел. правасл. царквы (Бел. Экзархата). У яе кананічныя межы ўключаны тэр.: Аршанскага, Бешанковіцкага, Віцебскага, Гарадоцкага, Дубровенскага, Лепельскага, Лёзненскага, Сенненскага, Талачынскага, Чашніцкага, Шумілінскага раёнаў Віцебскай вобл. У канцы 1999 складалася з 6 благачынных акруг: Аршанскай, Бешанковіцкай, Віцебскай, Гарадоцкай, Лепельскай, Сенненскай, у склад якіх уваходзілі 82 царк. прыходы. З 1992 правячы архірэй — епіскап віцебскі і аршанскі Дзімітрый (Драздоў).



Троіцкая царква **Віцебскага Маркава манастыра**. Малюнак 19 ст.

Сучасная кананічная тэр. епархіі ад стараж. часоў да пач. 20 ст. знаходзілася пад царк. юрысдыкцыяй полацкіх, беларускіх (магілёўскіх), пазней зноў полацкіх епіскапаў. Пасля аднаўлення ў 1833 Полацкай праваслаўнай епархіі ў Віцебску знаходзілася кафедра і рэзідэнцыя полацкага і віцебскага правячага епіскапа.

*Літ.:* Віцебская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. Мн., 1999. С. 119—123. *Г.М.Шэйкін.*

ВІ́ЦЕБСКІ МА́РКАЎ (ТРО́ІЦКІ) МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 1633—1918 у Віцебску, на правым беразе Заходняй Дзвіны. Засн. аршанскім цівуном Л.С.Агінскім і браслаўскім земскім суддзёй С.Мірскім. У 1638 фундатары падаравалі манастыру зямлю на Маркаўшчыне (дзе ў 16 ст. нейкі Марк пабудаваў царкву, адсюль назва) і фальварак Шыдлоўшчыну. У 18 ст. меў шэраг вёсак і юрыдыкі ў Віцебску. У 1751 зроблена няўдалая спроба зрабіць манастыр уніяцкім. Традыцыйна быў у падпарадкаванні Кіеўскай мітраполіі. У 1773 прылічаны да Пскоўскай епархіі, у 1795 — да Магілёўскай, у 1833 — да Полацкай. З 1798 меў ранг архімандрыі, да яго быў прыпісаны Невельскі заштатны манастыр. У 1842 залічаны да манастыроў 1-га класа, мог мець 20 манахаў, атрымліваў ад дзяржавы 3185 руб. серабром, маёнткі былі ўзяты ў казну (апрача 150 дзесяцін зямлі). Меў майстэрні, пачатковую школу для слабадскіх дзяцей. Пасля закрыцця манастыра будынкі (акрамя Пакроўскай, зараз вядома як Казанская царква) знесены. Казанская царква — помнік архітэктуры барока з рысамі ранняга класіцызму. Пабудавана з цэглы да 1752 як Пакроўская царква. У 1847 да яе прыбудавана Мітрафанаўская царква. Першапачаткова храм быў крыжова-купальны. Да асн. кубападобнага аб'ёму з трыма паўкруглымі апсідамі далучаны развіты прытвор. Сцены прарэзаны


Да арт. **Вялікдзень**. Уваскрэсенне — сашэсце ў пекла. Абраз з Троіцкай царквы в. Бездзеж Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. 2-я пал. 17—пач. 18 ст.

высокімі арачнымі вокнамі і раскрапаваны пілястрамі. Бакавыя фасады царквы і прытвора завершаны трохвугольнымі франтонамі з арачнымі праёмамі. На цэнтральнай апсідзе размешчана ляпная дэкаратыўная рама-бленда. *А.А.Ярашэвіч.*

ВІЦЕБСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ. Існаваў у г. Віцебск у 1893—1919. Засн. па ініцыятыве бел. гісторыкаў і краязнаўцаў А.П.Сапунова і Е.Р.Раманава. Першыя экспанаты сабраны ў Віцебску. Папаўняўся матэрыяламі археалагічных раскопак на Віцебшчыне і выпадкова знойдзенымі рэчамі. У 1905 было 1247 экспанатаў, у т.л. манеты, медалі, царк. начынне, творы бел. мастакоў 17—18 ст., узоры народнай разьбы па дрэве і косці і інш. Найб. каштоўнасць мелі рукапісныя кнігі і дакументы ўстаноў Полацкай епархіі, апісаныя Сапуновым у кнізе «Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі» (1898). У 1919 большасць матэрыялаў перададзена Віцебскаму губернскаму музею (цяпер Віцебскі абласны краязнаўчы музей).

ВЫРАТАВАННЕ — паводле рэлігійных уяўленняў, дасягненне чалавечай душой стану вызвалення ад грахоў і атрыманне вечнай ласкі божай пры выкананні ўмоў і патрабаванняў, якія Бог перадае чалавеку непасрэдна або ад свайго імя праз *Пісанне свяшчэннае* ці інш. чынам. У хрысціянстве з яго вучэннем аб першародным граху і ўсеагульнай грэшнасці роду чалавечага лічыцца, што шлях да В. душы ляжыць праз выкананне біблейскіх запаветаў, пакаянне, самаўдасканаленне асобы для яе прымірэння з Богам і паслушэнства. У адрозненне ад каталіцызму і праваслаўя, якія сцвярджаюць, што «па-за царквой няма выратавання», пратэстантызм адмаўляе выратавальную функцыю царквы і прапануе спецыфічную для яго дактрыну асабістага В., паводле якой чалавек апраўдваецца перад Богам *верай*, г. зн. В. прыходзіць як узнагарода за асабістую веру ў збавіцельна-выратавальную ахвяру Хрыста. Гэтай дактрыны В., якая атрымала назву sola fide (лац. «толькі верай»), прытрымліваюцца ўсе кірункі пратэстантызму.

ВЯЛЕС — язычніцкае бажаства ўсходніх славян. Лакальныя назвы Валос, Волас. В. лічылі апекуном жывёлагадоўлі (у «Аповесці мінулых гадоў» яго называлі «скоцій бог»), багацця (яго імем кляліся купцы і княжацкія дружыннікі), мастацтва, у прыватнасці паэзіі (у «Слове аб палку Ігаравым» княжацкі паэт Баян называецца ўнукам В.). З увядзеннем хрысціянства ў Кіеўскай Русі (канец 10 ст.) уяўленне пра В. паступова знікла, а яго гал. функцыя — апекуна жывёлагадоўлі — нададзена хрысц. св. Уласу (Аўласу), у гонар якога спраўлялі конскае свята 11 лютага ст. стылю. *М.Ф.Піліпенка.*

ВЯЛІКДЗЕНЬ, вяліканне — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх дзён» палявых работ. Адсюль і назва. Падобнае свята пачатку жніва было і ў стараж. семіцкіх плямён, называлася яно «Пасха» (стараж.-яўрэйскае passah праходзіць міма). З развіццём культу бога *Яхве* Пасху святкавалі ў гонар зыходу яўрэяў з Егіпта. Потым яе сталі звязваць з чаканнем «нябеснага збавіцеля» — месіі. На Беларусі на В. адбываліся магічныя абрады з мэтай забеспячэння плоднасці жывёлы, ураджайнасці зямлі, засцеражэння ад нягод. У велікодны абрадавы комплекс уваходзілі рытуальныя трапезы, гульні з велікоднымі яйкамі (біццё і качанне яек з лубка), карагоды і памінанне памерлых родзічаў — веснавыя дзяды (гл. *Радаўніца*). У першы велікодны вечар на Беларусі былі пашыраны валачобныя абыходы, у час якіх групы *валачобнікаў* хадзілі па хатах і выконвалі валачобныя песні з пажаданнем селяніну плёну на ніве, прыплоду ў статку, добрага здароўя, шчаслівай долі. Хрысціяне пераасэнсавалі В. у свята *ўваскрэсення* распятага Ісуса Хрыста, якое стала гал. хрысц. святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванне перамогі над грахом і смерцю. Першапачаткова хрысц. В. і іудзейская Пасха супадалі па часе. У 325 на 1-м Усяленскім Нікейскім царк. саборы вырашана святкаваць В. у першую нядзелю пасля веснавога раўнадзенства і поўні, з умовай несупадзення даты з іудзейскай Пасхай. В. з'яўляецца рухомым святам. Раздічваецца правасл. царквой па юліянскім календары, каталіцкай — па грыгарыянскім. У залежнасці ад месячнага календара прыпадае на час ад 4 крас. да 8 мая. Паводле закону «Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь» ад 19.12.1991 В. лічыцца святочным (нерабочым) днём. *А.У.Верашчагіна.*

ВЯРЫГІ — прылады рэлігійнага самакатавання (кайданы, аковы, жалезныя або медныя ланцугі, кольцы, пласціны і да т.п.), якія насілі на голым целе аскеты, падзвіжнікі з мэтай пакаяння і ўтаймавання плоці. Паводле евангельскіх сказанняў, В. называлі ланцугі, у якіх быў закаваны апостал *Пётр*.

# Г

ГАБРЫЛО́ВІЧ Станіслаў (? — каля 1579) — дзяржаўны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага 16 ст. Архідыякан віленскі. Дакладных звестак пра час і месца нараджэння не захавалася. Добра ведаў тэалогію, кананічнае і, магчыма, свецкае права, таму што ў 16 ст. сярод віленскіх канонікаў былі вучоныя спецыялісты ў розных галінах навук. ведаў. Меў вялікую б-ку, якая пасля яго смерці дасталася Віленскай капітуле. Прымаў удзел у стварэнні Статута Вялікага княства Літоўскага 1588, праца над якім была выклікана разуменнем мэтазгоднасці і неабходнасці рэформ, што адпавядалі інтарэсам шляхты, для ўмацавання саслоўнай дзяржаўнасці ВКЛ. *Г.В.Дзербіна.*

ГАВЕ́ННЕ — падрыхтоўка да таінства *прычашчэння*. Працягваецца некалькі дзён; уключае *пост*, наведванне ўсіх храмавых богаслужэнняў, а таксама *споведзь*.

ГАЗАВА́Т (араб.) — адна з назваў «свяшчэннай вайны» мусульман супраць іншаверцаў. Гл. *Джыхад*.

ГАЛГО́ФА (грэч. Golgotha) — пагорак у наваколлі Іерусаліма, на якім адбываліся пакаранні і дзе, паводле хрысц. падання, быў распяты Ісус Хрыстос. Размяшчэнне Г. дакладна не ўстаноўлена. У пераносным сэнсе — месца пакарання, сімвал мук страшэнных і маральных пакут («узысці на Г.»).

ГАЛУБІ́НСКІ (сапр. П я с к о ў) Яўген Еўсцігнеевіч (12.3.1834, г. Кастрама, Расія — 20.1.1912) — гісторык рускай праваслаўнай царквы. Доктар багаслоўя (1880), прафесар (1881), акадэмік Пецярбургскай АН (1903; член-карэспандэнт 1882). Скончыў Кастрамскую духоўную семінарыю, Маскоўскую духоўную акадэмію (1858), дзе з 1861 выкладаў гісторыю рус. царквы. У гал. працы «Гісторыя рускай царквы» (т. 1—2, 1880—1900; ахоплівае перыяд з 10 да сярэдзіны 16 ст.) змешчаны вялікі фактычны матэрыял, у т.л. па гісторыі правасл. царквы ў ВКЛ. Падзяляў гісторыю рус. царквы на перыяд «пісьменнасці» (дапятроўскі) і «асветы» (пасляпятроўскі), абверг верагоднасць шэрагу легенд з гісторыі Стараж. Русі.

ГАЛЬША́НСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ — помнік архітэктуры 16—18 ст. Пабудаваны ў в. Гальшаны (Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.). Будынак касцёла ўзведзены ў пач. 16 ст., ёсць звесткі, што ў сярэдзіне 16 ст. ён служыў як кальвінскі збор. У 1618 на сродкі П.Сапегі касцёл перабудаваны ў стылі барока, узведзены жылы корпус кляштара. У пач. 1770-х г. будынак касцёла часткова разабраны, яго фундамент і сцены выкарыстаны для пабудовы новага касцёла, які захаваўся да нашага часу. Будынак прамавугольны ў плане, яго гал. фасад і апсіда маюць рысы барока: фігурны франтон, раскрапоўка пілястрамі, валюты. Эмацыянальны акцэнт інтэр'ера касцёла — жывапіс на сцяне 3-яруснага гал. алтара (выкананы ў 1790-я г.). У адной з капліц (3-ярусная кампазіцыя ў стылі рэнесансу) знаходзілася надмагілле Сапегі і яго жонак (цяпер захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі). Да касцёла з паўднёва-заходняга боку прымыкае П-падобны ў плане 2-павярховы жылы корпус (часткова разбураны ў



Касцёл святога Іаана Хрысціцеля **Гальшанскага кляштара францысканцаў**.

1832). У 1810-я г. перад касцёлам пастаўлена мураваная брама-званіца ў стылі класіцызму.

*Літ.:* К у к у н я О. Францисканский монастырь в Гольшанах // Каштоўнасці мінуўшчыны-3: Помнікі культавага дойлідства на Беларусі: Матэрыялы канф. Мн., 2000. *В.Р.Кукуня.*

ГАМІЛЕ́ТЫКА (ад грэч. **homilētike** уменне гаварыць з людзьмі, мастацтва весці гутарку) — раздзел *багаслоўя*, у якім разглядаюцца тэарэтычныя і практычныя пытанні царк. пропаведзі. Адзін з кірункаў у Г. — т. зв. рытарычны. Поспехам пропаведзі, ступенню яе ўздзеяння на вернікаў лічаць красамоўства прапаведніка, асваенне ім практычных метадаў пераканання. Другі кірунак робіць упор на веданне прапаведнікам сваёй паствы.

ГАРО́ШКА Леў Юр'евіч (айцец Леў, псеўд. Ант. Ж м е н я, Пр. К а в а л ь; 11.3.1911, в. Трашчычы Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. — 8.8.1977) — беларускі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч, даследчык гісторыі рэлігіі і царквы на Беларусі, бел. культуры, літаратар. Скончыў Навагрудскую бел. гімназію (1931), вучыўся ва Украінскай духоўнай акадэміі ў Львове (1931—36). З 1937 святар, з 1965 архімандрыт. У 1937—39 праводзіў бел. душпастырства ў Пінскай дыяцэзіі (Любашава, Грынічы, Гродна, Стоўбцы). Праследаваўся польскімі свецкімі і царк. уладамі. У 1939—44 выкладчык бел. мовы і інш. прадметаў у баранавіцкіх гандлёвай і медыцынскай школах. З 1944 у эміграцыі. Арганізоўваў бел. душпастырства ў Германіі (1945), быў рэктарам Бел. каталіцкай місіі ў Францыі (1946) і Вялікабрытаніі (1960), кіраўніком бел. школы імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане (1961) і бел. секцыі радыё Ватыкана (1970—77), рэдактарам і выдаўцом час. «Божым шляхам» (1947—57). Рэліг., культурна-асветніцкую дзейнасць спалучаў з вывучэннем, папулярызацыяй багаслоўскай думкі, гісторыі хрысц. царквы і рэліг. адносін на Беларусі, бел. культуры. Аўтар шэрагу публікацый па гэтай тэматыцы, у т.л. біяграфічных нарысаў пра бел. святых (Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага), рэліг.-грамадскіх дзеячаў (У.Талочку, А.Станкевіча, А.Неманцэвіча). Асаблівую ўвагу звяртаў на ролю царквы, найперш грэка-каталіцкай (уніяцкай), у кансалідацыі, нац. самапазнанні і адраджэнні бел. народа. Праводзіў ідэю ўзаемазалежнасці і ўзаемадзеяння рэлігіі, навукі і культуры дзеля гарманічнага развіцця чалавека і грамадства. У час. «Божым шляхам» змяшчаў маст. замалёўкі і нарысы на рэліг.-маральныя і бытавыя тэмы з бел. жыцця. Выдаў «Зборнік беларускіх народных прыказкаў і прымаўкаў» (Лондан, 1963), склаў грэка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік (20 тыс. слоў). Аўтар прац «Божым шляхам: Малітоўнік для беларусаў» (Рым, 1946), «Беларусь у датах і лікях» (Парыж, 1947), «Святая Ефрасіння-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі» (Парыж, 1950), «Своеасаблівасці беларускае мовы» (Парыж, 1951), «Навука і рэлігія» (Рым, 1977), «Пад знакам «рускае і польскае» веры» (1990) і інш. Кніжныя і рукапісныя зборы Г. леглі ў аснову Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. *А.Лямец.*

ГАСПО́ДЗЬ, гл. ў арт. *Бог.*

ГАЎРЫІ́Л БЕЛАСТО́ЦКІ (1684, в. Зверкі каля Беластока, Польшча — 1690) — святы пакутнік-дзіцятка беларускай праваслаўнай царквы. Паводле жыццяпісу, паходзіў з сялянскай сям'і, быў схільны да малітвы і самоты. Жорстка забіты. Праз 30 гадоў пасля пахавання яго цела знойдзена нятленным. Мошчы захоўваліся ў Слуцку, потым у Гродне, з 1992 — у Мікалаеўскім саборы ў Беластоку. Дзень памяці 20 крас. старога стылю. *Т.А.Матрунчык.*

ГЕДЭО́Н С в я т а п о л к - Ч а ц в я р ц і н с к і (?—17.4.1690) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расіі. Паходзіў са стараж.-рус. княжацкага роду Рурыкавічаў. Мітрапалітам *Кіеўскай мітраполіі* (уключала правасл. прыходы Украіны і Беларусі) *Дыянісіем* Балабанам пасвячоны ў епіскапа луцкага і астрожскага. Прабыў на гэтай пасадзе 25 гадоў, супрацьстаяў спробам львоўскага епіскапа Іосіфа Шумлянскага схіліць да уніі правасл. іерархію і духавенства Рэчы Паспалітай. Каб захаваць вернасць праваслаўю, быў прымушаны пераехаць на Левабярэжную Украіну (з 1667 у складзе Расіі), дзе жыў у Крупецкім манастыры. Мітрапаліт кіеўскі ў 1685—90 (абраны Кіеўскім саборам 1685, у тым жа годзе пасвячоны ў сан маскоўскім патрыярхам Іаакімам). Пры ім са згоды канстанцінопальскага патрыярха Дыянісія IV адбылося далучэнне Кіеўскай мітраполіі да Маскоўскага патрыярхату (1686). Асобым указам ад 7.2.1688 кіеўскаму мітрапаліту было забаронена тытулавацца мітрапалітам усяе Русі.

*Літ.:* С о л о в ь ё в С.М. История России с древнейших времён. Кн. VII. М., 1962; З н о с к о К. Исторический очерк церковной унии. М., 1993; К а р т а ш е в А.В. Очерки по истории русской церкви. Т. 2. М., 1997. *В.А.Цяплова.*

ГЕНАТЭІ́ЗМ [ад грэч. hen (henos) адно + theos бог] — форма рэлігійнага веравання, якая прызнае існаванне многіх багоў на чале з адным вярхоўным богам, вакол якога засяроджаны рэліг. культ; пераходная форма ад *політэізму* да *монатэізму*. Тэрмін уведзены ў 1878 англійскім гісторыкам рэлігіі і санскрытолагам М.Мюлерам. Ён ім абазначаў характэрную форму стараж.-індыйскіх рэлігій, калі з мноства багоў (Індра, Агні, Сур'я і інш.) той, да якога звяртаецца вернік з малітвай, сумяшчае для яго атрыбуты ўсіх інш. і ўяўляецца ў гэты момант найвышэйшым бажаством. Часам прыхільнікі розных веравызнанняў у якасці гал. разглядалі не толькі нябесных багоў,

але і зямных. Так, гімны *Вед* упамінаюць пра багіню зямлі Прытхіві, а служыцелі ведычнай рэлігіі звяртаюцца і да Бацькі-неба, і да Маці-зямлі. У стараж. Кітаі ў адным шэрагу такіх божастваў былі Цянь (неба) і Ту (зямля), у стараж. грэкаў — адпаведна Уран і Гея. У славян дахрысц. часоў Г. таксама быў звязаны з пакланеннем божаствам, якія ўладарылі на небе і на зямлі. Ва ўяўленнях беларусаў вярхоўным бажаством быў Пярун — магутны цар нябесны (адпавядаў Індры — цару багоў у індусаў; Зеўсу — бацьку ўсіх багоў і людзей; галава алімпійскай сям'і багоў у грэкаў). У паданнях беларусаў захавалася памяць пра гал., добрага Белабога, бацьку Перуна. Нярэдка вернікі вылучалі як асн. апекуноў Вялеса, Жыжаля, Ярылу і інш. багоў з уласна бел. пантэона, часам звярталіся з малітвамі да Дажбога — сына Перуна, унукамі якога лічыліся ўсе, хто загінуў на ратным полі. Пакланенню божаствам асаблівае значэнне надавалі ў час спусташальных войнаў, пры аб'яднанні стараж. плямён у племянныя саюзы, калі на чале політэістычнага пантэона аказваўся бог племені-гегемона. *С.Ф.Дубянецкі.*

ГЕРА́СІМ (?—26.7.1435) — дзеяч праваслаўнай царквы ў ВКЛ. З 1417 епіскап смаленскі, у 1432—35 мітрапаліт літоўскі. Паводле некаторых летапісаў, меў тытул «мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі». Аднак улада Г. абмяжоўвалася тэр. ВКЛ і некаторых суседніх усходне-слав. зямель (напр., Пскова), бо ў 1433 галавой правасл. царквы Маскоўскай дзяржавы з такім жа тытулам «мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі» быў абраны разанскі епіскап Іона. Пасвячоны ў мітрапаліты ў Канстанцінопалі патрыярхам Іосіфам паводле просьбы вялікага кн. ВКЛ Свідрыгайлы. Працягваў жыць у Смаленску. Рымскі папа Яўген IV спадзяваўся з дапамогай Г. падпісаць унію з правасл. царквой ВКЛ. З пачаткам у 1432 вайны паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам Г. быў на баку Свідрыгайлы, аднак у 1435 абвінавачаны апошнім у тайных зносінах з Жыгімонтам, арыштаваны і спалены на вогнішчы ў Віцебску. Расправа з Г. падарвала аўтарытэт Свідрыгайлы ў войску і садзейнічала яго паражэнню. *Ю.В.Бажэнаў.*

ГІЖЫ́ЦКІ (Giżycki) Ян Марэк Антоній [псеўданімы Валыняк (Wołyniak), Марэк Газдава (Marek Gozdawa), Конрад Мазавецкі (Konrad Mazowiecki); 7.5.1844, мястэчка Міхноўка Валынскай вобл., Украіна — 27.6.1925] — гісторык каталіцкай царквы ў ВКЛ. Скончыў Дэрпцкі (цяпер Тартускі) універсітэт (1870). Выкладаў у гімназіях, з 1895 у адстаўцы. Жыў у Кракаве, вывучаў гісторыю манаскіх ордэнаў (дамініканцаў, кармелітаў, езуітаў і інш.), карыстаўся архівамі кляштараў. Аўтар артыкулаў «З мінулага базыльянскага ордэна на Літве і Русі» (1904), «Базыльянскія уніяцкія манастыры ў беларускай правінцыі» (1907) і інш.

ГЛЫБО́ЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯ́ШТАР КАРМЕЛІ́ТАЎ — помнік архітэктуры ранняга барока. Размешчаны ў старым цэнтры г. Глыбокае Віцебскай вобл., на паўночным беразе возера Вялікае. Засн. ў 1639 мсціслаўскім ваяводам Іосіфам Корсакам, які запісаў кляштару сваю частку Глыбокага, 27 фальваркаў і вёсак. Кляштар спалены ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Мураваны касцёл Ушэсця Маці Божай пабудаваны ў 2-й палавіне 17 ст. прыёрам Тышкевічам, перабудаваны ў 1735 паводле праекта архітэктара І.Глаўбіца (зменены гал. фасад і інтэр'ер), першы ўзор віленскага барока на Беларусі. У 1727 у кляштар пераведзены з Вільні кананічны *навіцыят*. Касцёл — 3-нефавая 4-вежавая базіліка з



**Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў.**


С. Глякоўскі.

трансептам і прамавугольнай у плане алтарнай апсідай. Гал. фасад багата аздоблены ордэрнай пластыкай і завершаны 2 скразнымі 4-яруснымі чацверыковымі вежамі і фігурным франтонам паміж імі. Інтэр'ер аздоблены пілястрамі, антаблементам з кованай агароджай над ім, лепкай у тэхніцы стука і інш. Зберагліся разныя з пазалотай дзверы 17 ст. З паўночнага захаду да касцёла прылягаў трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара з унутраным дваром (зберагл осся ўсходняе крыло). На восі касцёла размешчана трохпралётная брама ў стылі позняга барока. Пры кляштары ў 1830 былі бясплатны канвікт для вучняў (пансіён), музычная капэла, бібліятэка (2621 том, 1655 гравюр, збор планаў і карт), шпіталь, аптэка, гаспадарчыя пабудовы. У 1842 канфіскаваныя ў казну ўладанні кляштара складалі больш за 760 валок зямлі, 11 фальваркаў і 67 вёсак, каля 800 дымоў, гадавы прыбытак 12 785 руб. серабром. У 1862 кляштар скасаваны (манахі выехалі ў Камянец-Падольскі), яго будынкі аддадзены Палаце дзярж. маёмасці. Касцёл у 1872—78 перароблены ў царкву Раства Багародзіцы, дзейнічае. *Т.В.Габрусь, А.А.Ярашэвіч.*

ГЛЯКО́ЎСКІ Станіслаў (2.3.1896, гар. пас. Поразава Свіслацкага р-на Гродзенскай вобл. — 1943) — беларускі каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст. Д-р тэалогіі. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю, Грыгарыянскі ун-т у Рыме. Служыў вікарыем у Ваўкавыску, пробашчам у в. Трычаўка (пад Беластокам). З 1929 — прэфект у Вільні. Выкладаў у Віленскіх бел. гімназіі і настаўніцкай семінарыі. Пасля высылкі польскімі ўладамі ў 1938 з Вільні А.*Станкевіча* ўзначаліў бел. каталіцкую парафію. Член Бел. навуковага т-ва, Бел. каталіцкага выдавецтва ў Вільні. Арганізатар і выдавец дзіцячага часопіса «Пралескі». З публікацыямі па пытаннях бел. гісторыі, філасофіі, этычнай думкі выступаў у газеце «Беларуская крыніца», часопісе «25 сакавіка» і інш. Свае творы падпісваў таксама псеўданімамі Стасіла, Стасюк з-пад Нёмна і інш. У гады 2-й сусветнай вайны актыўна ўдзельнічаў у бел. рэліг. і культурна-асветніцкім руху на акупіраванай нямецкімі фашыстамі тэр. Беларусі. Выконваў святарскія абавязкі пры касцёле св. Сымона і Алены ў Мінску. Расстраляны гітлераўцамі разам з групай бел. каталіцкіх святароў. *А.С.Лis.*

ГНАСТЫЦЫ́ЗМ (ад грэч. gnōstikos пазнавальны) — агульная назва рэлігійна-філасофскіх вучэнняў, якія спалучаюць тэалогію ранняга хрысціянства, элементы старажытна-ўсходніх рэлігій, ідэі філасофіі (неаплатанізм, неапіфагарэізм) і інш. Узнік у I ст. ва ўсходняй частцы Рымскай імперыі, росквіт прыпадае на 2 ст. Найб. значныя прадстаўнікі Г.: Васілід, Гераклеан, Карпакрат Александрыйскі, Валянцін. Вылучаюць х р ы с ц і я н с к і Г. (1—3 ст.), вядомы па творах раннехрысц. ерасеографаў і па творах з г. Наг-Хамады; я з ы ч н і ц к і Г. той жа эпохі; м а н д э і з м (2—3 ст., ад арамейскага мандагносіс) — самастойнае развіццё Г. на семіцка-вавілонскай глебе (захаваўся да нашага часу ў Іраку). Чалавек паводле Г. — асноўны цэнтр сусв. працэсу. Ён, хоць і з'яўляецца стварэннем цёмных сіл свету, па сваёй субстанцыі не належыць яму. Гэта яго боская субстанцыя часта прымае форму самастойнай іпастасі «Першачалавека», або «Антропаса». Душа чалавека іншародная целу і па сваёй сутнасці належыць надкасмічнай сферы (Васілід). Разам з дуалізмам душы і цела ў Г. існуе і трыхатамічнае раздзяленне чалавека на «духоўнае», «душэўнае» і «цялеснае». З Г. звязана ўзнікненне *маніхейства.*

«ГО́ЛАС ПРАВАСЛА́ЎНАГА БЕЛАРУ́СА» — грамадска-царкоўны часопіс, які выдаваўся ў лістападзе—снежні 1931 у Вільні на бел. мове. Рэдактар-выдавец М.Маркевіч. Імкнуўся спалучаць каштоўнасці хрысціянства з бел. ідэяй, «рашуча і безадказна стаць на шлях адраджэння царкоўнага жыцця ў суадказнасці з агульным адраджэннем беларускага народа» (арт. «Мэты і метады беларусізацыі», «Да праблемы адраджэння нацыянальнай царквы», «Без народа — без Хрыста»). Выказваўся за дэмакратызацыю ўнутр. жыцця царквы, крытыкаваў «прыказны лад» Польскай аўтакефальнай правасл. царквы («Аб саборы і саборнасці праваслаўнай царквы ў Польшчы»). Выказваў заклапочанасць станам правасл. царквы ў Зах. Беларусі і БССР. З пазіцый абнаўлення праваслаўя разглядаў гісторыю рэлігіі на Беларусі («Беларуская праваслаўная царква ў мінуўшчыне»), негатыўна ацэньваў унію («З чаго спарадзілася і як памерла гістарычная вунія»). Выступаў супраць «царкоўнага беларускага праваслаўнага камітэта» і яго органа час. «Светач Беларусі», які схіляўся да аб'яднання ўсходніх і заходніх хрысц. канфесій. Друкаваў хроніку царк. жыцця ў Зах. Беларусі. Выйшлі 2 нумары. *А.С.Ліс.*

«ГО́ЛАС ЦАРКВЫ́» — рэлігійна-грамадскі часопіс праваслаўных беларусаў. Выдаецца з 1955 у Нью-Йорку на бел. мове [спачатку Царк. радай Бел. аўтакефальнай правасл. царквы (БАПЦ) у Нью-Йорку, з 1960 — Епархіяльнай управай у Нью-Йорку, потым Радай БАПЦ]. Выходзіць 2 разы на год (на Вялікдзень і Каляды). У рэдакцыйную калегію ў розны час уваходзілі архіепіскап Васіль (У.Тамашчык), М.Гарошка, Я.Запруднік, П.Манькоўскі, М.Міцкевіч, М.Тулейка і інш. Асвятляе пытанні набажэнства, гісторыі бел. правасл. царквы, дзейнасць бел. прыходаў на эміграцыі. Друкуе архіпастырскія пасланні да вернікаў, тэксты малітваў з нагоды пэўных дат, матэрыялы па гісторыі правасл. брацтваў у ВКЛ, манастыроў і цэркваў на Беларусі. Аналізуе старадаўнія рэліг. рукапісы, творы *Кірылы Тураўскага*, жыццё і дзейнасць *Сімяона Полацкага*, *Ефрасінні Полацкай*, Ф.*Скарыны*, мітрапалітаў К.Смаляціча, Г.*Цамблака* і інш. Публіцыстычныя матэрыялы прысвечаны пераважна пытанням рэліг. ўціску на Беларусі.

*М.М.Міцкевіч.*

ГО́МЕЛЬСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ. Утворана 31.1.1990 з часткі *Магілёўскай праваслаўнай епархіі* паводле вызначэння Архірэйскага сабора Рускай правасл. царквы. У 1907—35 існавала Гомельскае вікарыяцтва Магілёўскай епархіі на чале з вікарным епіскапам (намеснікам) з тытулам «епіскап Гомельскі». У чэрв. 1943 Сінод *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы* заснаваў самастойную Гомельска-Мазырскую епіскапскую кафедру, але ўмовы ваеннага часу не дазволілі распачаць дзейнасць епархіі. Першапачаткова Г.п.е. ўключала ўсю тэр. Гомельскай вобл., гомельскі правячы архірэй меў тытул епіскапа гомельскага і мазырскага. З адраджэннем у ліп. 1992 стараж. *Тураўскай праваслаўнай епархіі* ёй падпарадкавалася ў царк.-адм. адносінах заходняя частка Гомельскай вобл. Г.п.е. стала ахопліваць 11 раёнаў Гомельскай вобл.: Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Гомельскі, Добрушскі, Жлобінскі, Кармянскі, Лоеўскі, Рагачоўскі, Рэчыцкі, Светлагорскі, Чачэрскі, а правячы архірэй атрымаў тытул «епіскап гомельскі і жлобінскі». У канцы 1999 епархія ў царк.-адм. адосінах падзялялася на 7 благачынных акруг (благачынняў): Гомельскую, Жлобінскую, Добрушска-Кармянскую, Лоеўскую, Рагачоўскую, Рэчыцкую, Светлагорскую, у склад якіх уваходзілі 86 царк. прыходаў; дзейнічаў 81 храм, 7 абшчын адпраўлялі богаслужэнне ў малітоўных дамах. На тэр. епархіі дзейнічаюць 2 манастыры: Свята-Нікольскі Гомельскі (з 1995) і Свята-Ціхвінскі Гомельскі (з 1993). З ліп. 1990 епархію ўзначальвае епіскап Арыстарх (А.Е.Станкевіч).

*Літ.:* Гомельская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999.

ГО́РНЯЕ МЕ́СЦА — у праваслаўным храме месца за *прастолам у алтары*, дзе на ўзвышэнні ставіцца *кафедра епіскапа*.

ГО́СЦІЯ (лац. — ахвяра) — а п л а т к а, маленькі сухарык з прэснага пшанічнага цеста, які замяніў у абрадзе *прычасця* (еўхарысціі) хлеб, што ўпамінаецца ў новазапаветных тэкстах. Звычай ужывання для прычашчэння Г. з выявай на ёй распяцця або ягняці вядомы на Захадзе з 12 ст. і захаваўся ў каталіцкай і лютэранскай цэрквах (інш. пратэстанцкія цэрквы вярнуліся да кваснага хлеба).

ГРАБНІ́ЦКІ Фларыян (1664, Полацкае ваяводства — 1762) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Скончыў Львоўскі калегіум (паводле інш. звестак — віленскую акадэмію). Д-р тэалогіі. Чл. ордэна *базыльян* (1709), епіскап віцебскі (1716—19), архіепіскап полацкі (1719—62), мітрапаліт кіеўскі (1748—62). Пашыраў уніяцтва ў Полацкай архіепархіі, у місіянерскай дзейнасці выкарыстоўваў прымусовыя метады. Удзельнік *Замойскага сабора 1720*. Ахвяраваў сродкі на адбудову Полацкага Сафійскага сабора (1738—50).

*С.В.Казуля.*

ГРАМНІ́ЦЫ, С т р э ч а н н е — зімовае свята народнага календара. Адзначаецца 2(15) лютага. Назва, магчыма, паходзіць ад язычніцкага бога Грамаўніка (Перуна) — бога веснавых навальніц і дажджоў, якія спрыялі расліннасці. Другая назва — Стрэчанне — тлумачыцца як сустрэча зімы з летам: «Прыйдуць грамніцы — скідай рукавіцы». Па стане надвор'я ў гэты дзень меркавалі, якое надвор'е будзе вясной і летам. Асноў-


**Госція.**

ным рытуалам на Г. было асвячэнне ў царкве свечак. Грамнічныя свечкі шанавалі, іх запальвалі ў навальніцу, каб маланка не спаліла хату, іх агнём падсмальвалі валасы жаніху і нявесце на пасадзе, давалі цяжка хвораму перад смерцю, падвешвалі ў хляве ці стайні, каб нячыстая сіла не шкодзіла хатняй жывёле. Пасля Г. селянін пачынаў рыхтавацца да веснавых работ.

У хрысціянстве Г. з'явіліся ў 6 ст. на тэр. Рымскай імперыі і трактуюцца як у Старым запавеце, так і ў Новым. Усталявана ў памяць аб сустрэчы немаўляці Ісуса Хрыста (носьбіта Новага запавету) з прадстаўнікамі Старога запавету Сімяонам і Ганнай-прарочыцай у Іерусалімскім храме. Паводле старазапаветнага закону на саракавы дзень пасля нараджэння першынца-хлопчыка бацькі павінны былі прынесці дзіця ў храм, што і зрабілі Божая маці і Іосіф.

ГРО́ДЗЕНСКАЯ БА́РЫСА-ГЛЕ́БСКАЯ (КАЛО́ЖСКАЯ) ЦАРКВА́ — помнік архітэктуры 2-й палавіны 12 ст. Пабудавана на высокім беразе р. Нёман, побач з Замкавай гарой, на тэрыторыі б. Каложскага пасада, непадалёку ад Старога замка. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1183. Назва ад імёнаў святых — нябесных заступнікаў, яе заснавальнікаў — гродзенскіх князёў Барыса і Глеба Усеваладавічаў. Аднаўлялася ў пач. 16 ст. дойлідам Богушам Багутовічам (Багувіцінавічам) пасля разбурэння крыжакамі. Пры царкве існаваў манастыр, якому вялікі кн. Аляксандр у 1500 ахвяраваў маёнтак Чэшчэўляны. У 1508 і 1538 ахвяраванні манастыру рабіў кароль Жыгімонт І Стары. На гравюры М.Цюнда 1568 бачна царква пасля перабудовы — страчаны рысы крыжова-купальнага храма, над дахам узведзены высокі шацёр, шчыпец апсіды завершаны невялікім крыжом, да паўднёва-заходняга боку далучана круглая ў сячэнні ярусная вежа-званіца, завершаная купалам. Пасля Брэсцкай царк. уніі 1596 пры царкве створаны Каложскі базыльянскі манастыр. У 1853—59 у выніку апоўзняў часткова разбурана (абваліліся частка заходняй сцяны і скляпенні), у 1872—73 рэканструявана (у апсідзе створана капліца ў імя св. Барыса і Глеба); у 1889 часткова абвалілася. Упершыню помнік навукова апісаны і замаляваны мастаком В.В.Гразновым у 1860-я гады, адлюстраваны на малюнку Н.Орды 1869. Царква была першым помнікам, пытанне пра захаванне якой разглядала імператарская археалагічная камісія ў 1896; у 1904 пры Сінодзе створана спец. камісія па яе рэстаўрацыі; у 1914 архітэктар П.П.Пакрышкін падаў у сінодскую камісію праект рэстаўрацыі храма. У 1910 і 1935 праведзены работы па кансервацыі, у 1970 — кансервацыйна-рамонтныя. Захаваліся паўночная і частка заходняй сцяны, апсіда са скляпеннямі і 2 міжнефавыя слупы. Знаходзіцца на рэстаўрацыі. Дзейнічае. 24.9.1995 храм наведаў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксей II.

Царква — помнік старажытнарус. і візант. царк. дойлідства. Мураваная крыжова-купальная 6-стоўпная 3-нефавая 3-апсідная базіліка. Аб'ём храма завяршаўся адным купалам і меў пазакамарнае пакрыццё. Фасады раскрапаваны слаёнымі 3-ступеньчатымі лапаткамі. Сцены складзены з плінфы ў тэхніцы раўнарадавай муроўкі. Выкарыстаны цагліны лякальныя, трапецападобныя, з паўкруглым шырокім бокам, са скошаным вуглом. На тарцах некаторых цаглін ёсць знакі. Фа-



**Гродзенская Барыса-Глебская (Каложская) царква.** Літаграфія з акварэлі Н.Орды. 19 ст.

сады ўпрыгожаны ўстаўкамі з паліраваных валуноў і маёлікавых плітак карычневага, зялёнага і жоўтага колераў. Памеры камянёў у сценах памяншаюцца ўгару, што візуальна яе аблягчае. З маёлікавых плітак набраны крыжы. На гал. фасадзе ўваходны арачны праём. Унутраная прастора расчлянёна круглымі слупамі на прамавугольных цокалях, уверсе паступова набываюць крыжападобную форму: 4 усходнія падкупальныя, 2 заходнія пад хорамі, якія абапіраліся на корабавае скляпенне. У тоўшчы сцяны апсіды размешчаны вузкія лесвіцы, якія вялі на драўляныя бакавыя галерэі, аб'яднаныя з хорамі (не захаваліся). Асаблівасць інтэр'ера — мноства керамічных збаноў-галаснікоў, умураваных у верхнія часткі паўночнай, заходняй і паўднёвай сцен і скляпенні. Сцены былі аздоблены фрэскавым жывапісам (амаль не захаваўся; вядомы па малюнках Гразнова). Падлога была з квадратных маёлікавых плітак. Цэнтральная апсіда вылучана 2-ярусным драўляным іканастасам (створаны ў 1996—99, мастак-рэстаўратар А.Льянаў). *А.М.Кулагін.*



Гродзенская Барыса-Глебская (Каложская) царква.

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ВЕ́РХНЯЯ ЦАРКВА́** — помнік стараж. дойлідства. Пабудавана на мяжы 13 і 14 ст. на месцы *Гродзенскай Ніжняй царквы* на тэр. Гродзенскага Старога замка. Выяўлена ў 1933 у час. археалагічных раскопак Ю.Ядкоўскім. Захаваліся: усходняя частка сцен, частка паўночнай сцяны з паўночна-заходнім вуглом, унутраны слуп (з 1939 захоўваецца ў асобным павільёне). Гэта быў невялікі (8,9 × 8,9 м) квадратны ў плане храм з паўкруглай выступаючай апсідай. Вуглы яго былі абрэзаны, што нагадвае абрысы Ніжняй царквы. Падмурак складзены з 2—3 радоў камянёў, у муроўцы выкарыстаны тонкая і тоўстая брусковая цэгла. На думку археолага М.М.Вароніна, будынак быў атынкаваны, але гэта малаверагодна, бо тынкоўка на Беларусі паявілася ў 16 ст. Падлога была цагляная. У сярэдзіне будынка знойдзены рэшткі крыжовага ў плане слупа са зрэзанымі вугламі, які, на думку Вароніна, быў зроблены значна пазней. Больш познімі ён лічыў і яшчэ 2 слупы, што аддзялялі апсіду ад асноўнага аб'ёму будынка. Варонін прапанаваў першапачатковую рэканструкцыю плана царквы ў выглядзе бесслуповага аб'ёму з вялікай апсідай. Пра час узнікнення помніка ў даследчыкаў няма адзінай думкі. Польскія вучоныя лічылі, што храм пабудаваны ў 13 ст. Ю.Вайцяхоўскі звязваў існаванне царквы з часам княжання Міндоўга (1230—60-я г.), але, на яго думку, яна магла знаходзіцца і ў замку вялікага кн. Вітаўта. Варонін лічыў, што царква пабудавана ў 14 ст., пазней ён датаваў храм канцом 14 — пачаткам 15 ст. Даследчыкі С.Абрамаўскас і В.Левандаўскас лічаць, што храм пабудаваны ў 2-й палавіне 13 ст. Параўноўваючы цэглу гэтага храма з цэглай інш. тагачасных помнікаў Беларусі і Літвы (Крэўскі і Лідскі замкі, мураваныя збудаванні Навагрудка і Вільні), можна зрабіць вывад, што храм пабудаваны на мяжы 13 і 14 ст. У 1-й палавіне — сярэдзіне 16 ст. Верхняя царква існавала як замкавы храм і была разабрана ў час будаўніцтва замка Стафана Баторыя ў апошняй чвэрці 16 ст. *А.А.Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ВЫШЭ́ЙШАЯ ДУХО́ЎНАЯ СЕМІНА́РЫЯ** — духоўная рымска-каталіцкая вышэйшая навучальная ўстанова. Засн. ў Гродне ў 1990 1-м апостальскім адміністратарам біскупам Т.Кандрусевічам. Рыхтуе святароў. Тэрмін навучання 6 гадоў. Выкладаюцца: лац., англійская, нямецкая, польская, рус., бел. мовы; філасофія, тэалогія, літургія і інш. прадметы філасофскага і тэалагічнага зместу. Узначальвае семінарыю рэктар, якога, як і прарэктара, і выкладчыкаў, назначае дыяцэзіяльны біскуп. Размешчана ў будынку *Гродзенскага кляштара бернардзінцаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ НІ́ЖНЯЯ ЦАРКВА́** — помнік архітэктуры 12 ст. Шасціслуповы храм памерам 16,8 × 11,6 м, з трыма апсідамі і зрэзанымі вугламі. Стаяў на тэр. Гродзенскага Старога замка, на былым дзядзінцы. Захаваліся рэшткі сцен, драўлянай алтарнай сценкі, падлогі з керамічных плітак. Рэшткі заходняй і паўднёвай сцен на вышыню ад 2 да 3,5 м выяўлены ў час земляных работ 1932—33, якімі кіраваў Ю.Ядкоўскі. У 1937—39 даследаваў З.Дурчэўскі, які лічыў, што царква загінула ў час пажару 1183 і потым не аднаўлялася; на мяжы 13—14 ст. на яе месцы пабудавана *Гродзенская Верхняя царква.* У 1949 раскопкі храма прадоўжыў М.М.Варонін. Адкапаны паўночна-заходні слуп меў зрэзаныя вуглы. Фасады і інтэр'ер былі аздоблены плоскімі лапаткамі. Унутраныя паверхні сцен мелі шматлікія адтуліны,

што ўтвараліся гарлавінамі галаснікоў. У паўднёва-заходнім куце будынка размяшчаліся цагляныя вітыя ўсходы, якія вялі на хоры. Муры царквы складзены з плінфы, некаторыя цагліны маюць на тарцах знакі. Фасады храма былі ўпрыгожаны керамічнымі паліванымі пліткамі рознай формы, вялікімі шліфаванымі камянямі і паліванымі круглымі блюдамі. Захаваліся рэшткі падлогі з керамічных паліваных плітак, якія стваралі складаны геаметрычны малюнак. Царква не мела фрэскавай размалёўкі. Былі прасочаны таксама рэшткі драўлянай алтарнай сценкі, некалі аздобленай шматлікімі меднымі пласцінкамі з рознымі малюнкамі. Воронін лічыў, што царква пабудавана ў 2-й чвэрці — сярэдзіне 12 ст. П.А.Рапапорт датуе храм 2-й пал. 12 ст. Каляровую рэканструкцыю маёлікавай падлогі царквы зрабіла М.У.Малеўская. *А.А.Трусаў.*

ГРО́ДЗЕНСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ. Утворана ў 1900 з часткі *Літоўскай праваслаўнай епархіі* на тэр. Гродзенскай губ. З 1923 у складзе Польскай праваслаўнай царквы (тэр. Беластоцкага і Навагрудскага ваяв.). У 1940 адноўлена пад уладай Маскоўскай патрыярхіі на тэр. Баранавіцкай, Беластоцкай (1940—41), Гродзенскай (з 1944) абласцей. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі 1941—44 Г.п.е. — экзархат *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У 1950-я г. епархія скасавана і ўвайшла ў склад *Мінскай праваслаўнай епархіі* (да 1985 дзейнічала 53 храмы). Адноўлена ў лют. 1992. Ахоплівае 8 адм. раёнаў Гродзенскай вобл.: Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Воранаўскі, Гродзенскі, Зэльвенскі, Мастоўскі, Свіслацкі і Шчучынскі. У царк.-адм. адносінах падзелена на 7 благачынных акруг (благачынняў): Гродзенскую, Ваўкавыскую, Бераставіцкую, Зэльвенскую, Мастоўскую, Свіслацкую і Шчучынскую. У канцы 1999 ў епархіі была 81 абшчына, дзейнічалі 79 храмаў, 5 малітоўных дамоў, 1 храм пры бальніцы, Свята-Раства-Багародзіцкі манастыр у Гродне. Епархія выдае *«Гродненские Епархиальные Ведомости»*. Тытулы правячых архірэяў — епіскапаў: гродзенскі і брэсцкі (1900—15, 1948—49, 1950—51), гродзенскі і беластоцкі (1918—22, 1941—44), гродзенскі і навагрудскі (1923—39), гродзенскі і баранавіцкі (1940—41, 1945—47), гродзенскі і лідскі (1947—48), гродзенскі і ваўкавыскі (з 1992). З лют. 1996 епархіяй кіруе епіскап гродзенскі і ваўкавыскі Арцемій (А.А.Кішчанка). У мінулым Г.п.е. кіравалі епіскапы Іаакім (І.А.Лявіцкі, 1900—03), Ніканор (Н.Ц.Каменскі, 1903—05), Міхаіл (В.Ф.Ермакоў, 1905—15, з 1912 архіепіскап), Уладзімір (В.М.Ціханіцкі, 1918—22), Алексій (А.Грамадскі, 1923—34, з 1928 архіепіскап), Антоній (Марценка, 1934—35), *Сава* (Г.Саветаў, 1936—39), *Панцеляймон* (П.С.Ражноўскі, 1940—41), Венедыкт (Бабкоўскі, 1941—44, з ліст. 1941 архіепіскап), Варсанофій (К.Д.Грыневіч, 1945—48), Паісій (П.П.Абразцоў, 1948—49), Сергій (С.І.Ларын, 1950—51), Валянцін (Ц.А.Мішчук, 1992—94). *В.А.Антонаў.*

ГРО́ДЗЕНСКАЯ ПРАЧЫ́СЦЕНСКАЯ ЦАРКВА́ — помнік архітэктуры 12 ст. Пабудавана ў тэхніцы рознаслаёвай муроўкі з выкарыстаннем дэкаратыўных элементаў. Ад гал. фасада захаваўся толькі падмурак. У апсіднай частцы муроўка сцен захавалася на вышыню 1,5 м, яна паніжаецца ў заходнім напрамку. У 1-й палавіне 15 ст. бажніца была капітальна адрамантавана буйнапа-



**Гродзенскі езуіцкі калегіум**. Галоўны фасад касцёла.



Гродзенскі касцёл імя св. Францыска Ксаверыя (б. **Гродзенскі езуіцкі калегіум**).



Гродзенскі касцёл імя св. Францыска Ксаверыя (б. **Гродзенскі езуіцкі калегіум**).



**Гродзенскі езуіцкі калегіум**. Інтэр'ер касцёла.

мернай цэглай-пальчаткай цёмна-чырвонага колеру. У 1980 археолагі правялі даследаванні яе рэшткаў. Царква ўяўляла сабой 6-слуповы 3-нефавы храм з 3 прамавугольнымі ў плане апсідамі. Даўжыня яго 12,5 м, шырыня 3,8 м, даўжыня падкупальнай прасторы 3,35 м. Сцены (таўшчыня 1—1,1 м) складзены з плінфы ў тэхніцы рознаслаёвай муроўкі. У верхнія часткі сцен і скляпенні былі ўмураваны керамічныя збаны (галаснікі). Фасады былі аздоблены лапаткамі, маёлікавымі пліткамі квадратнай і трапецападобнай формы, устаўкамі з абчасаных паліраваных валуноў. Падлога, выкладзеная маёлікавай пліткай жоўтага, зялёнага і карычневага колеру разнастайнай формы, сваім малюнкам нагадвае падлогу *Гродзенскай Ніжняй царквы*. Храм загінуў у час пажару каля 1654. У пачатку 18 ст. рэшткі яго разабраны, а пры будаўніцтве манастыра базыльянак, якое пачалося ў 1720, засыпаны будаўнічым друзам. На гэтым месцы з 2-й палавіны 17 ст. размяшчаліся магільныя склепы. *І.М.Чарняўскі.*

ГРО́ДЗЕНСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ ЕПА́РХІЯ, Гродзенская дыяцэзія — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка рымска-каталіцкай царквы на Беларусі ў межах Гродзенскай вобл. Утворана 13.4.1991. Уваходзіць у склад *Мінска-Магілёўскай архіепархіі* (арцыбіскупства). Мае 152 парафіі (на 1.1.1995). Існуюць курыя, Вышэйшая духоўная семінарыя, катэхізічны ін-т (рыхтуе выкладчыкаў катэхізіса для дзяцей).

ГРО́ДЗЕНСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ — навучальная ўстанова ў Гродне ў 1625—1773. Уключаў вучэбныя і жылыя памяшканні, б-ку (у 1773 — 2373 кнігі), аптэку (засн. у 1687), сад, гаспадарчыя будынкі, касцёл Францыска Ксаверыя. Пабудовы калегіума займалі цэлы квартал горада. Калегіум складаўся з 2 аддзяленняў: малодшага, якое мела 5 класаў (апошні — 2-гадовы), і старэйшага, 3-гадовага. Выкладаліся традыц. для калегіума прадметы: «сем вольных мастацтваў», тэалогія, класічныя мовы і інш. З 1667/68 навуч. г. ўсе настаўнікі калегіума мелі вучонае званне прафесара. У 1707 пры калегіуме адкрыта музычная бурса, пры ёй дзейнічала капэла (у 1773 мела 63 музычныя інструменты). На 1773 калегіум валодаў 7 фальваркамі і 25 вёскамі ў Гродзенскім пав. Пасля роспуску ў 1773 ордэна езуітаў будынкі і маёмасць калегіума перададзены Адукацыйнай камісіі, пазней — урадавым установам. Касцёл пераўтвораны ў фарны (прыходскі). Калегіум адыграў значную ролю ў пашырэнні ўплыву каталіцкай царквы на Беларусі, яго дзейнасць спрыяла зацвярджэнню еўрап. сістэмы адукацыі на Гродзеншчыне. У ліку яго выхаванцаў асветнік і астраном М.Пачобут-Адляніцкі. *Т.Б.Блінова.*

ГРО́ДЗЕНСКІ ЖАНО́ЧЫ МАНАСТЫ́Р РАСТВА́ БАГАРО́ДЗІЦЫ, Гродзенскі манастыр базыльянак. Заснаваны ў 1633 як уніяцкі пры б. правасл. Прачысценскай царкве. Пабудаваны майстрамі гродзенскай архітэктурнай школы. У 1642 уніяцкі мітрапаліт А.*Сялява* загадаў перадаць базыльянкам «на вечныя часы пляцы, якія пустуюць, незаселеныя, ляжаць направа ад Прачысценскай царквы і на захад ад яе, аж да каралеўскага замка». У 1647 пажар

вынішчыў значную частку горада, а разам з ёй і Прачысценскую царкву. Пазней базыльянкі пабудавалі тут драўляны храм Раства Багародзіцы і жылыя памяшканні. У 1720 манастыр зноў знішчаны пажарам. У тым жа годзе пачалося будаўніцтва мураванай царквы і жылых памяшканняў пад кіраўніцтвам архітэктара Іосіфа Фантаны III на сродкі уніяцкага мітрапаліта *Л.Кішкі*. Нягледзячы на пашкоджанні ад пажару 1754, буд-ва было закончана, у 1756 манастыр асвячоны. Пасля скасавання Брэсцкай уніі 1596 *Полацкім царкоўным саборам 1839* манастыр у 1843 пераўтвораны ў праваслаўны. У 1848 царква адрамантавана, яе новы іканастас размяшчаўся ва ўсходняй частцы, а ўваход зроблены ў б. алтарнай (заходняй) частцы. У 1860-я г. прыбудавана царква св. Сергія Раданежскага. У 1891 у заходняй частцы манастырскага комплексу пабудаваны 2-павярховы гасп. корпус. У 1-ю сусв. вайну царква Раства Багародзіцы пашкоджана. Манастыр дзейнічаў да 1960. Манашкі з яго выселены ў Жыровічы. Да 1977 у будынках комплексу знаходзіліся розныя ўстановы. У 1977—92 у адрэстаўрыраваных памяшканнях размяшчаўся Бел. дзярж. музей гісторыі рэлігіі. У чэрвені 1992 сваю дзейнасць аднавіў Свята-Раства-Багародзіцкі жаночы правасл. манастыр.

*Літ.:* Гродненский Свято-Рождество-Богородицкий женский монастырь. М., 1999. *Л.А.Карнілава.*

ГРО́ДЗЕНСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАДЗІ́НЦАЎ. Пабудаваны ў 1595—1618 у Гродне на зямлі, ахвяраванай ордэну *бернардзінцаў* Аляксандрам Ягелончыкам у 1494, у 1586 фундацыя пацверджана каралём Стафанам Баторыем. У 1595 па просьбе ксяндза *Гродзенскага фарнага касцёла* Ф.Канапацкага бернардзінцы прынялі фундацыю і пасяліліся на зямлі каля касцёла св. Крыжа, ахвяраванай ордэну Г. Друцкай-Сакалінскай. У 1596 Я.Тарасевіч ахвяраваў бернардзінцам зямлю побач, пасля чаго фундацыя была прынята генералам ордэна і зацверджана каралём. У 1602 закладзены касцёл Знаходжання св. Крыжа, які быў пабудаваны ў 1615—17 на сродкі Жыгімонта III Вазы, Л.Сапегі, Е.Валовіча і інш.; інтэр'ер аздоблены на сродкі Масальскіх, у 1618 асвячоны віленскім біскупам Я.Валовічам. Касцёл (3-нефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай, архітэктура спалучае элементы готыкі і ранняга барока), 2-павярховы жылы корпус (прыбудаваны з паўднёвага боку касцёла, планіроўка галерэйная), 4-ярусная вежазваніца ўтвараюць прамавугольны замкнёны двор. У 1622 у кляштары часова працавалі віленскія курсы. Да 1637 быў у складзе польскай правінцыі ордэна бернардзінцаў, потым у яго малапольскай правінцыі, у 1733 увайшоў у літоўскую правінцыю. У 1656 комплекс пацярпеў ад пажару ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1682 у перабудаваным будынку жыло 30 манахаў. Бернардзінцы выконвалі пастырскую апеку над кляштарамі бернардзінак і брыгітак, дзе былі капеланамі і духоўнікамі. У 17—18 ст. у кляштары збіраліся павятовыя сеймікі. У пачатку 19 ст. пры кляштары працавала прыватная пачатковая школа. У 1677 з Нясвіжа ў Гродна пераведзены філасофскія курсы. У 1813 на курсах было 13 клерыкаў. У 1853 кляштар зачынены, касцёл стаў прыходскім, у ім вянчалася Э.Ажэшка. У 1990 будынкі кляштара вернуты рымска-каталіцкай царкве, дзе размясцілася Вышэйшая рымска-каталіцкая духоўная семінарыя. *Л.А.Карнілава*



**Гродзенскі жаночы манастыр Раства Багародзіцы.**

ГРО́ДЗЕНСКІ КЛЯ́ШТАР БРЫГІ́ТАК. Заснаваны ў Гродне ў 1630-я гады для манашак ордэна *брыгітак і брыгітан* маршалкам ВКЛ К.Весялоўскім і яго жонкай А.М.Сабескай. Першай ігуменняй у 1640 была люблінская ваяводзінка Г.Сабеская. У 1642 пачалося будаўніцтва касцёла, які атрымаў назву Звеставання Дзевы Марыі і ў 1651 асвячоны віленскім біскупам Е.Тышкевічам. У касцёле захоўваліся рэліквіі св. Клімента (заступніка горада). Да касцёла прылягаў прамавугольны ў плане жылы корпус. Кляштарны комплекс пабудаваны ў стылі ранняга барока, уключаў таксама гаспадарчыя будынкі, драўляны лямус, званіцу, быў абнесены мураванай агароджай з 4 брамамі і шасціграннымі вежамі па вуглах. У кляштар прымалі дзяўчат са шляхецкіх і магнацкіх сем'яў. Звычайна тут жыло 20—30 манашак (у 1745—31). Духоўнікамі былі ксяндзы-бернардзінцы. У 1752 брыгіткі адмовіліся ад іх паслуг, да 1759 духоўнікамі былі дамініканцы, кармеліты, езуіты. Гал. храмавыя святы: Звеставанне Дзевы Марыі, святых Кацярыны, Клімента, Аўгусціна і Брыгіты,



Гродзенскі кляштар бернардзінцаў.

апостала Пятра. У 1684 віленская друкарня францысканцаў спецыяльна для манашак кляштара надрукавала дапаможнік з малітвамі і апісаннем правядзення богаслужэнняў. А.Сабеская адпісала кляштару мяст. Крамяніца, фальваркі Князева, Мартынаўшчына, Вузлаўцы, Шылавічы, Задвор'е, Рагозніца, пакінула спецыяльны капітал на шпіталь пры кляштары для 6 старых жанчын. З канца 18 ст. ў кляштары выхоўвалі дзяўчатак-сірот са шляхецкіх сем'яў. Кожны год кляштар водным шляхам адпраўляў у Крулявец (Кёнігсберг, цяпер Калінінград) збожжа, а адтуль прывозіў для горада і наваколля соль, жалеза, посуд. У 1842 рас. ўлады закрылі кляштар. У яго памяшканні пасялілі манашак з зачыненых кляштараў бенедыкцінак у Нясвіжы, брыгітак у Луцку, дамініканак у Навагрудку. У канцы 19 ст. іх было 5. У 1908 перададзены ордэну Святой сям'і з Назарэта — назарэцянкам. Пасля 2-й сусветнай вайны ў будынках размяшчаліся медыцынскія ўстановы. У 1990 касцёл перададзены вернікам рымска-каталіцкай царквы, 2.6.1992 яго асвяціў арцыбіскуп Т.Кандрусевіч.

*Л.А.Карнілава.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ.** Існаваў у 17—19 ст. Засн. ў г. Гродна ў 1635 упіцкім старостам Яўстахіем Курчам з жонкай Зузанай. Фундацыя на падараванне кляштару фальварка Панямонь зацверджана каралём Уладзіславам IV 13.4.1639. Касцёл яшчэ згадваецца ў 1675 як драўляны, мураваны упершыню ўпамінаецца ў 1700. Кансекраваны (асвячоны) у гонар Панны Марыі Анёльскай біскупам інфлянцкім Юзафам Пузынаю (1744), пасля пажару і аднаўлення ў 1761 — біскупам-суфраганам беларускім Феліксам Тавянскім. Званіца пабудавана ў 1753, да сярэдзіны 18 ст. адносіцца і будаўніцтва корпуса кляштара. Фундатарамі алтароў і аргана былі жонка кашталяна мсціслаўскага Канстанцыя Лазова (з Юндзілаў) і навагрудскі ваявода Радзівіл. Парафія пры касцёле ўтворана ў 1744. Акрамя касцёла і кляштарнага корпуса мураванымі былі стайня і бровар. Бібліятэка налічвала 533 тамы (1804). Кляштар скасаваны ў 1832; касцёл застаўся як парафіяльны, у 1922—27 у ім служыў М.М.*Кольбе*. Помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння.

*А.А.Ярашэвіч.*



Гродзенскі кляштар брыгітак.



**Гродзенскі кляштар францысканцаў**. Інтэр'ер касцёла.

ГРО́ДЗЕНСКІ ФА́РНЫ КАСЦЁЛ Прачыстай Божай Маці (фара Вітаўта). Існаваў у 14 — сярэдзіне 20 ст. ў Гродне ў заходняй частцы Старога рынку (Гандлёвая плошча). Упершыню ўпамінаецца ў 1389 у грамаце вялікага кн. ВКЛ Вітаўта. У 1494 «абноўлены» вялікім кн. Аляксандрам, у 1551 — каралевай Бонай. Паводле гравюры Г.Адэльгаўзера — М.Цюнта 1568, на якой касцёл названы «польскім храмам у горадзе», уяўляў сабой драўляны аднанефавы прамавугольны ў плане будынак з 2-схільным дахам і прылеглай вежай-званіцай. У 1584—86 паводле распараджэння караля Стафана Баторыя драўляны касцёл перабудаваны на мураваны з удзелам італьянскага майстра А.Дзігрэпа. Трохнефавы зальны храм (58,6 × 23 м) меў рысы готыкі і маньерызму. Цэнтральны неф пераходзіў у больш нізкі прэсбітэрый, завершаны трохграннай алтарнай апсідай. Гал. фасад быў вылучаны высокай прамавугольнай у плане 4-ярусная вежай-званіцай, завершанай фігурным купалам. Па баках да яе прымыкалі 2 баявыя вежы. З паўночнага боку ад прэсбітэрыя далучалася сакрысція, з поўдня прыбудавана капліца. Бакавыя сцены былі ўмацаваны контрфорсамі ў выглядзе пілястраў, аб'яднаных уверсе аркамі, прарэзаны вузкімі стральчатымі вокнамі. Храм пашкоджаны пажарамі (1753, 1782, 1892), шмат разоў перабудаваны. З 1804 ператвораны ў правасл. сабор, які ў 1807 асвячоны ў імя св. Сафіі. Каля 1900 набыў рысы правасл. царквы (5 цыбулепадобных купалаў на высокіх барабанах, паўкруглыя какошнікі, з паўднёвага боку — прыбудова, з усходняга — апсіда). Шатровая вежа стала значна вышэйшая. У 1919 вернуты каталіцкай царкве, выкарыстоўваўся як гарнізонны касцёл. Перабудовы (пасля пажару) 1923 (архітэктар В.Гэннеберг) і 1935 (архітэктар А.Сасноўскі) надалі касцёлу рысы раманскага стылю. Пасля Вялікай Айчыннай вайны не дзейнічаў, у 1961 узарваны.

*А.У.Мілінкевіч, Е.Пашэнда.*

«ГРО́ДНЕНСКИЕ ЕПАРХИА́ЛЬНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ» — часопіс, орган Гродзенскай духоўнай кансісторыі, які выдаваўся штотыднёва ў 1901—14 у Гродне на рус. мове. Рэдактары М.Дзікоўскі, М.Шалуцінскі. Мелі афіц. і неафіц. (з перапынкам у 1907—09) аддзелы. У афіц. аддзеле публікаваліся царскія маніфесты і рэскрыпты, пастановы ўрада, распараджэнні па епархіі. Неафіц. аддзел змяшчаў хроніку епархіяльнага жыцця, прамовы епіскапаў, багаслоўскія артыкулы, у т.л. «Велікодныя пісьмы» У.С.Салаўёва (1901), «Вучэнне аб царкве па сімвалічных кнігах праваслаўя, каталіцтва і пратэстанцтва» В.К.Тычыніна

(1902—04) і інш. У часопісе надрукавана шмат гіст. дакументаў, успамінаў, навук. артыкулаў, асабліва па гісторыі хрысц. рэлігіі і царквы. Сярод іх: «Кароткі гістарычны нарыс праваслаўя ў межах цяперашняй Гродзенскай губерні і жыццё святога прападобнага пакутніка Афанасія (Філіповіча)» І.У.Карчынскага (1903), «Гродзенскія праваслаўныя цэрквы ў XVI ст.» (1904) і «Лёс праваслаўя ў сувязі з гісторыяй лацінства і уніі ў Гродзенскай губерні ў XIX ст. (1794—1900)» (1901—02) Я.Ф.Арлоўскага, і інш. З 1992 выданне адноўлена. *А.М.Філатава.*


Г.Грубер.

ГРУ́БЕР (Gruber, Grueber) Габрыель (6.5.1740, Вена — 7.4.1805) — аўстрыйскі вучоны-энцыклапедыст, мастак, архітэктар, дзеяч *езуітаў*. Скончыў Венскі універсітэт са ступенню доктара медыцыны. Выкладаў архітэктуру і гідраўліку ў езуіцкім калегіуме ў Любляне, кіраваў будаўніцтвам суднаў у Трыесце (Італія), асушэннем балот у Славеніі, выкладаў прыродазнаўчыя і матэматычныя дысцыпліны ў *Полацкім езуіцкім калегіуме*. Па яго праектах і ініцыятыве ў калегіуме быў пастаўлены будынак музея (аздоблены фрэскамі Г. і яго вучняў), створаны фізіка-матэматычны кабінет, хімічная лабараторыя, бібліятэка, карцінная галерэя, тэатральная зала і інш. У 1787 адкрыў друкарню. Аўтар карцін на рэліг. тэмы, краявідаў Полацка і яго ваколляў, рабіў мініяцюры са слановай косці. З 1800 1-ы рэктар Пецярбургскага езуіцкага калегіума, быў прыбліжаны да расійскага імператара Паўла І. З 1802 генерал ордэна езуітаў у Расійскай імперыі. Загінуў у час пажару. Пасля смерці Г. частка яго карцін з Полацка і Пецярбурга перавезена езуітамі ў Джорджтаўн (ЗША), лёс астатніх невядомы.


Гродзенскі фарны касцёл.

*Літ.:* Парнов Е. Парадоксы и курьёзы одного царствования // Атеистические чтения. М., 1986. Вып. 15.

*В.Ф.Шалькевіч.*

ГРЫГАРО́ВІЧ Іван Іванавіч [12.9.1790 (паводле інш. звестак 6.9.1792), г. Слаўгарад Магілёўскай вобл. — 13.11.1852] — беларускі праваслаўны царкоўны дзеяч, археограф, гісторык, краязнавец, пісьменнік. Нарадзіўся ў сям'і святара, па маці — сваяк бел. архіепіскапа Г.*Каніскага*. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1811), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1819; на сродкі дзярж. канцлера М.П.Румянцава). У 1811—15 выкладчык Магілёўскага духоўнага вучылішча. З 1820 саборны протаіерэй, рэктар Гомельскага духоўнага вучылішча, з 1829 саборны протаіерэй у Віцебску, з 1831 служыў у Пецярбургу пры цэрквах гвардыі Фінляндскага палка, Анічкава палаца. Навук. дзейнасць Г. пачалася ў час навучання ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі: рабіў пераклады лацінамоўных лістоў, апісваў рукапісныя кнігі з Румянцаўскай бібліятэкі. У Гомелі падрыхтаваў да выдання дысертацыю пра наўгародскіх пасаднікаў, збіраў матэрыялы ў архівах Мсціслава і Магілёва для напісання паліт. і царк. гісторыі Беларусі. Меў пастаянныя навук. кантакты з мітрапалітам Яўгеніем (Балхавіцінавым, Кіеў), І.Лабойкам (Вільня), членамі Румянцаўскага гуртка (Пецярбург, Масква). Збіраў і рыхтаваў да друку першы бел. археаграфічны зб. «Беларускі архіў старажытных грамат» (ч. 1, 1824, выдадзена на сродкі графа Румянцава). Аўтар гіст. даследавання «Беларуская іерархія» (1824). Пасля пераезду ў Пецярбург падрыхтаваў і выдаў зб. дакументаў пра ўзаемаадносіны рас. самадзержцаў і рымскіх пап, у 1835 — збор твораў у 2-х т. Г.*Каніскага* са сваёй прадмовай. Гэту працу высока ацаніў А.С.Пушкін. З


І.І.Грыгаровіч.

1837 член Археаграфічнай камісіі, з 1838 гал. рэдактар яе выдання «Акты гістарычныя...» (1841—42), прымаў удзел у падрыхтоўцы да выдання «Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі...» (1846—53). У апошнія гады жыцця па прапанове міністра народнай асветы П.А.Шырынскага-Шахматава займаўся складаннем слоўніка бел. мовы. Аўтар казанняў, у якіх закранаў філасофскія праблемы быцця, часу, правасл.-багаслоўскую думку пра навакольны сусвет. Пахаваны на Волкавых могілках у С.-Пецярбургу.

*Тв.:* Беларуская іерархія. Мн., 1992.

*Літ.:* Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 16—40.

*М.В.Нікалаеў.*

ГРЫГАРЫЯ́НСКІ КАЛЯНДА́Р, гл. ў арт. *Каляндар* царкоўны.

ГРЫГО́РЫЙ І ВЯЛІ́КІ (каля 540 — каля 604) — адзін з настаўнікаў царквы, з 590 — папа. Нашчадак знакамітага роду; у 573 — прэфект Рыма; з 574 — манах, заснаваў некалькі манастыроў у Паўд. Італіі і Рыме. У 579—585 — папскі пасол у Канстанцінопалі. Г. І В. праявіў сябе выдатным адміністратарам; арганізаваў абарону Рыма і Паўд. Італіі ад лангабардаў, з якімі ў 592—593 заключыў мір. Адстойваў тэзіс аб вяршэнстве папы ў спрэчках з візант. ўладамі і Канстанцінопальскай царквой. Натхняльнік хрысціянізацыі Англіі. Славу пісьменніка Г. І В. прынеслі каментарыі на біблейскія кнігі «Пастырскае павучанне» і «Дыялогі пра жыццё і цуды італійскіх айцоў». Літаратурная дзейнасць Г. І В. сведчыць пра разрыў з ант. традыцыяй, сувязь з якой яшчэ захоўвалася ў прадстаўнікоў лац. патрыстыкі. Г. І В. паклаў пачатак царк. абгрунтаванню вучэння аб чысцілішчы. Пры ім у Рыме была створана школа спеваў. Яму прыпісваюць рэформу літургіі, якая паклала пачатак т.зв. грыгарыянскім спевам. Каталіцкая традыцыя лічыць яго святым. Дзень памяці — 12 сакавіка.

ГРЫГО́РЫЙ БАГАСЛО́Ў, Назіянзін (каля 330 — каля 390) — адзін з *айцоў царквы*, выдатны прадстаўнік *патрыстыкі*. Аўтар тэалагічных твораў, прысвечаных абгрунтаванню хрысц. догмата аб Тройцы і накіраваных супраць арыянства, а таксама пропаведзей, пабудаваных у адпаведнасці з правіламі ант. рыторыкі, і гімнаў, што ўвайшлі ў правасл. спевы.

ГРЫГО́РЫЙ БАЛГА́РЫН (?—1472 або 1473) — адзін з першых дзеячаў уніі праваслаўнай царквы з каталіцкай у ВКЛ. Родам з Балгарыі. Вучань і паплечнік мітрапаліта *Ісідора*. Пасля заключэння *Фларэнтыйскай уніі 1439* уцёк разам з Ісідорам з Масквы ў Рым. З 1452 у Канстанцінопалі, ігумен манастыра св. Дзімітрыя. У 1458 пасвячоны канстанцінопальскім патрыярхам-уніятам Грыгорыем Мамам з дазволу папы Калікста III у мітрапаліты 9 заходніх епархій рус. правасл. царквы з тытулам архіепіскапа кіеўскага, літоўскага і Ніжняй (Малой) Русі (рэзідэнцыя у г. Навагрудак). Прыняты і зацверджаны каралём польскім і вялікім кн. ВКЛ Казімірам IV. Такі тытул мітрапаліта сведчыў аб прэтэнзіях на кананічную ўладу над усёй тэр. былой Кіеўскай Русі, што выклікала пратэсты з маскоўскага боку (з 1459 мітраполія ў Маскве афіцыйна стала называцца Маскоўскай, а не Кіеўскай, што сведчыла пра фактычны падзел 2 цэркваў). Прызнанне мітрапаліта-уніята епіскапамі заходніх епархій сведчыла пра імкненне да незалежнасці ад маскоўскага мітрапаліта. Нягледзячы на намаганні Г.Б., духавенства і вернікі не


Святы **Грыгорый І Вялікі**. Медыярыт 18 ст.

прынялі унію. У 1469 Г.Б. звярнуўся да Канстанцінопальскай патрыярхіі з адмовай ад уніі і з просьбай зацвердзіць яго ў сане мітрапаліта. У 1472 патрыярх Дыянісій зацвердзіў Г.Б. як правасл. мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Русі (фактычная аўтакефалія Маскоўскай мітраполіі не была прызнана ў Канстанцінопалі). Такім чынам правасл. царква ВКЛ і Галіцыі (у Каралеўстве Польскім) атрымала поўнае кананічнае прызнанне. У адказ Масква разарвала адносіны з Канстанцінопальскай патрыярхіяй і Кіеўскай мітраполіяй. Г.Б. лічыцца аўтарам шэрагу літаратурна-царк. твораў. Памёр у Навагрудку.

*Літ.:* Лурье Я.С. Две истории Руси XV века. Ранние и поздние летописи об образовании Московского государства. СПб., 1994; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *В.В.Антонаў.*

ГРЫГО́РЫЙ НІ́СКІ (каля 335 — каля 394) — царкоўны пісьменнік і багаслоў. Удзельнічаў у распрацоўцы хрысц. *сімвала веры*, прадстаўнік грэч. *патрыстыкі*. Актыўны барацьбіт супраць *арыянства*. Паводле Г.Н., ісціна толькі ў тым, што носіць адбітак Пісання свяшчэннага, а вера — той крытэрый, якім вызначаюцца веды, тым больш дасканалыя, чым бліжэй яны да боскіх ісцін веры. Заклаў асновы хрыс. *экзегетыкі*.

ГРЫГО́РЫЙ ЦА́МБЛАК, гл. *Цамблак Г.*

ГРЭХ — маральнае зло, якое заключаецца ў парушэнні дзеяннем, словам ці думкай волі Бога. Паходзіць з уяўленняў аб «чыстым» і «нячыстым» («свяшчэнныя забароны», *табу*, характэрныя першабытнаабшчыннаму ладу). У іудаізме, ісламе і хрысціянстве ўзнікненне Г. звязваецца з міфам пра першародны Г. (парушэнне першымі людзьмі *Адамам і Евай* запаведзі Божай, вынікі якога наследуюць нашчадкі). Догмат пра Г. цесна звязаны з вучэннем аб *выратаванні*, з'яўляецца прадметам тэалагічных спрэчак у хрысціянстве з часу яго ўзнікнення. Паводле каталіцкага веравучэння, першародны Г. прывёў толькі да страты звышнатуральных дарэнняў, якімі Бог узнагародзіў чалавека падчас стварэння. Грэхападзенне аслабіла чалавечую прыроду, але не разбурыла яе канчаткова. Чалавек застаецца свабоднай сацыяльнай і разумнай істотай, якая складаецца з натуральнага і звышнатуральнага пачаткаў. Рэліг. рэфарматары адхілілі дуалізм прыроды і звышпрыроды ў чалавеку, і ідэя чалавека як «вобраза і падабенства» Бога была разбурана Г. Згодна з вучэннем Ж.Кальвіна, чалавек — бясконца грахоўная і паўшая істота, якая не з'яўляецца свабоднай асобай і страціла здольнасць да дабра і богапазнавання. Супраць такога погляду выступаў Арміній, які лічыў, што чалавек свабодны і нясе маральную адказнасць за сваё выратаванне. *Антытрынітарыі* ўвогуле адрынулі канцэпцыю грэхападзення. Паводле праваслаўя, гал. мэтай жыцця з'яўляецца аднаўленне ў чалавеку першапачатковага «вобраза і падабенства», якія дасягаюцца пасля смерці, калі веруючы ў выніку хрысц. жыцця заслужыў дараванне грахоў.



**Гудагайскі абраз Маці Божай.**

ГУДАГА́ЙСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Знаходзіцца ў парафіяльным касцёле в. Гудагаі (Астравецкі р-н Гродзенскай вобл.). Паходжанне яго і час з'яўлення ў Гудагаі невядомы. Паводле царк. падання, абраз трапіў сюды праз рускіх купцоў, пазней належаў уладальнікам Гудагая Развадоўскім, з 1735 — Людвіцы Войнавай. У 1764 полацкі абозны Юзаф Война з жонкай Людвікай (з Сулістроўскіх) заснавалі пры касцёле кляштар кармелітаў. У гэты час абраз набыў вядомасць як цудадзейны. Пасля закрыцця касцёла (1866) абраз перанеслі ў касцёл у Ашмянах. У 1906 ён вернуты ў адроджаную гудагайскую парафію. Абраз намаляваны, верагодна, у 16 — пач. 17 ст. на дошцы невялікіх памераў тэмперай: належыць да іканаграфічнага тыпу «Замілаванне», Маці Божая з дзіцём на правай руцэ. Паводле характару жывапісу належыць да візант.-правасл. традыцыі, паўтарае іканаграфічна вядомы візант. абраз «Маці Божая Уладзімірская». *А.А.Ярашэвіч.*

ГУКА́ННЕ ВЯСНЫ́ — язычніцкі абрад, першае па часе веснавое свята. У асобных месцах пачыналася 1 сак. ст. стылю (на хрысц. свята *Аўдакею*), усюды — з 25 сак. (на Звеставанне). Удзельнікі абраду выходзілі на высокае месца (горку, бераг ракі, возера), раскладалі вогнішчы, спявалі вяснянкі, вадзілі карагоды. На Магілёўшчыне палілі смецце (ачышчалі зямлю), на Гомельшчыне запаленае кола пускалі на плыце па

рацэ (водгалас культу сонца — бога Ярылы). У свята Г.в. пранік і культ раслiннасці: ушанаванне бярозы (на бярозу кідалі кастрыцу), забаранялася спяваць песні на голы лес (калі лісце не распусцілася). Захаваліся сляды аграрна-магічнай функцыі хлеба ў печыве, якое рабілі ў выглядзе птушак (буслоў, жаўрукоў), прыносілі своеасаблівую ахвяру зямлі (закопвалі гаршчок кашы). *Г.А.Барташэвіч.*

ГУМАНІ́ЗМ (ад лац. humanus чалавечы, чалавечны) — сістэма светапогляду, кірунак філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, паводле якіх чалавечая асоба ў яе гарманічных суадносінах з народам, нацыяй і грамадствам ёсць найвышэйшая каштоўнасць сацыяльнага быцця і культуры. Паняцце Г. ў сучаснай гістарыяграфіі, філасофіі, сацыялогіі, мастацтвазнаўстве і культуралогіі тлумачыцца неадназначна. Да 20 ст. ў еўрап. навуцы і публіцыстыцы Г. звычайна ідэнтыфікаваўся са светапоглядам і культурай эпохі Рэнесансу, пераважала яго вузкае тлумачэнне як свецкага вольнадумства, стымуляванага адраджэннем ант. культуры. Рэнесансавы Г. як тып культуры і светапогляду сфарміраваўся ў Італіі ў творчасці пісьменнікаў і вучоных Ф.Петраркі, Дж.Бакачыо, Ларэнца Вала, Піка дэла Мірандала, мастакоў Рафаэля, Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла і распаўсюдзіўся на інш. рэгіёны разам з рухам Рэфармацыі (М.Мантэнь і Ф.Рабле ў Францыі, Ф.Бэкан і У.Шэкспір у Англіі, А.Дзюрэр і Эразм Ратэрдамскі ў Германіі, М.Сервантэс у Іспаніі).

Паводле швейцарскага гісторыка 19 ст. Я.Буркхарта, «гуманісты» эпохі Рэнесансу імкнуліся да адраджэння ант. культуры, адкрыцця ўнутранага свету чалавека, сцвярджалі ўладалюбства, рост індывідуалізму, гіпертрафію асабовага пачатку і нярэдка амаралізм, рэліг. вальнадумства, імкненне да энцыклапедызму ў творчасці і пазнанні. Энцыклапедызм, рацыяналізм, вальнадумства і этыка «разумнага эгаізму» — асн. прыкметы філасофска-антрапалагічных канцэпцый еўрап. Асветніцтва. Як ідэалагічная і сацыяльна-палітычная апазіцыя да індывідуалістычнага і арыстакратычнага Г. часоў Рэнесансу і Асветніцтва сфарміравалася гуманістычная плебейская плынь утапічнага камунізму (Т.Мор, Т.Кампанела, Т.Мюнцэр у 16—17 ст., А.Сен-Сімон, Ш.Фур'е, Р.Оўэн у канцы 18 — пач. 19 ст.), прадстаўнікі якой выкрывалі антычалавечую, на іх погляд, сутнасць прыватнай уласнасці, эксплуатацыі, буржуазнага грамадства, арыентаванага на эгаістычны асабісты інтарэс, марылі пра справядлівае грамадства, засн. на прыярытэце агульнанародных, грамадскіх інтарэсаў, роўныя магчымасці для працоўнага люду, на ўсебаковае выяўленне сваіх творчых сіл. У слав. рэгіёне канца 18—19 ст. сфарміраваліся і ярка выявіліся ў асветніцкай філасофіі, літ. і грамадскай думцы, мастацтве крытычнага рэалізму самабытныя плыні рэвалюцыйна-дэмакратычнага і народніцкага Г., арыентаванага на «сплачванне доўгу» народу інтэлігенцыяй і пануючымі саслоўямі, пабудову справядлівага грамадства без эксплуатацыі і сацыяльнай няроўнасці (А.Радзішчаў, В.Бялінскі, М.Дабралюбаў, М.Чарнышэўскі, Л.Талстой у Расіі, К.Каліноўскі, пісьменнікі і публіцысты «Нашай нівы» на Беларусі).

На Беларусі гуманістычныя канцэпцыі свету, грамадства і чалавечай асобы самабытна і ў разнастайных формах выяўляліся на ўсіх этапах развіцця культуры, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі. У дахрысц. перыяд гэта першабытная, натуральная гармонія чалавека з жыццёвым асяроддзем і наіўны «гомацэнтрызм» міфалагічнай свядомасці, паводле якой уся разнастайнасць прыроды і сусвет у цэлым уяўляўся па аналогіі з чалавечым жыццём. У сярэдневяковы перыяд гісторыі Беларусі (канец 10—15 ст.) адбывалася засваенне духоўных адкрыццяў хрысціянства, іх сутнасць раскрылася ў спасціжэнні духоўнага прызначэння чалавека, яго свабоды ад «рабства» ў прыроды і вучэнне пра чалавека як завяршэнне зямнога быцця і боскага тварэння. Хрысц. Г. пранікаў у свядомасць сярэдневяковага бел. грамадства праз рукапісную новазапаветную літаратуру (*Тураўскае евангелле, Аршанскае евангелле, Полацкія евангеллі, Друцкае евангелле, Лаўрышаўскае евангелле,* Мсціжскае евангелле і Жыровіцкае евангелле), богаслужэнне і царк. вучэнне, хрысц. літаратуру (агіяграфічная літаратура, «Дыёптрыя», творы *Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча,* дыдактычны зборнік «Пчала» і інш.), свецкую літаратуру («Слова аб палку Ігаравым», перакладныя аповесці), разнастайныя жанры народнай творчасці (фальклор, прыкладное мастацтва, дойлідства), царк. архітэктуру, жывапіс, музыку. Асаблівасць гуманістычнай культуры і грамадскай думкі на Беларусі эпохі Рэнесансу (16 — 1-я палавіна 17 ст.) — адсутнасць індывідуалістычных і элітарных канцэпцый чалавека, арыентацыя на гармонію чалавека і грамадства, на адзінства веры і пазнання, царк. і свецкага жыцця.

Тыповым дзеячам культуры гуманістычнага кірунку быў асветнік, настаўнік, кнігавыдавец, дзярж. дзеяч. Сінтэз раннехрысц. і рэнесансавага Г. характэрны для этыкі і аксіялогіі *Ф.Скарыны.* Аснова грамадскага жыцця, праванай дзяржавы і маралі, на яго думку, ёсць абсалютны этычны пастулат *Новага Запавету:* «Вось усё, што хочаце, каб вам рабілі людзі, дык тое рабіце і вы ім». Бел. асветнік называе яго натуральным, прыроджаным законам чалавечага жыцця і фармулюе не толькі ў пазітыўнай форме маральнага «прыказання»,

але і ў «адмоўным», прававым плане: «Людьское естество двояким законом бываеть справовано: от Бога, то есть прироженым, а написаным. Закон прироженый в том наболей соблюдаем бываеть: То чините иным всем, что самому либо ест от иных всех; и того не чинити иным, чего сам не хоцеши от иных имети. А на том, яко на уднении, вси законы писаны и заложены суть... Сей закон прироженый написан ест в серци единого каждого человека». Грунтуючыся на гэтым гуманістычным імператыве, Скарына прапанаваў сваю сістэму заканадаўства і прававой дзяржавы. Гуманістычная этыка і прававыя ідэі Скарыны паўплывалі на Статуты ВКЛ, адзін з найб. гуманных зводаў законаў у тагачаснай Еўропе, якія грунтаваліся на хрысц. справядлівасці, правах чалавечай асобы, прынцыпах доказнасці віны, суровай адказнасці за паклёп і дыфамацыю, прынцып выключна асабістай адказнасці, праве на выезд за мяжу «для пошуку сабе лепшай долі». Ідэі грамадскай справядлівасці развівалі *С.Будны*, В.*Цяпінскі*, Я.Даманеўскі, А.Волан. Гуманістычным пафасам прасякнута творчасць новалац. паэтаў Беларусі Міколы *Гусоўскага* і Я.Вісліцкага. На станаўленне гуманістычнага светапогляду 10—18 ст. паўплывала засваенне народамі Сярэдняй Еўропы, у т.л. беларусамі, ант. свецкай культуры — у сярэднявеччы пераважна праз візант. ўплыў на праваcл. рэгіён, пазней, у перыяды Адраджэння, барока і Асветніцтва — праз рымска-каталіцкі касцёл, пераклады ант. пісьменнікаў і філосафаў, творчасць *Сімяона Полацкага*, М.К.*Сарбеўскага*, Б.*Буднага*, І.Капіевіча, Б.*Дабшэвіча*, К.Нарбута, А.Доўгірда, інш. дзеячаў бел., літоўскай, польскай культур. Важнае значэнне для развіцця Г. на Беларусі мела развіццё свецкай паэзіі (творчасць А.Рымшы, Сімяона Полацкага і інш.), жывапісу, музыкі, тэатральнага мастацтва і архітэктуры ў 15 — пач. 19 ст., тэорыя паэзіі і красамоўства (*Л.Зізаній*, М. *Сматрыцкі*, Сарбеўскі, *Я.Фалькоўскі*, Ф.Галянскі, Л.Бароўскі, Э.Слвацкі і інш.). Свецкая гуманітарная навука і маст. культура рэабілітавалі красу прыроды і чалавека, яго творчай дзейнасці, імкнуліся гарманізаваць ідэалы і штодзённае жыццё, наблізіць духоўныя каштоўнасці да чалавечага грамадства.

У канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. пад уплывам французскай рэвалюцыі, нямецкай класічнай філасофіі і еўрап. утапічнага сацыялізму на Беларусі ўзніклі дэмакратычныя і сацыяльна-утапічныя плыні гуманістычнай думкі, накіраванай супраць прыгонніцтва, сацыяльнага нераўнапраўя, за пабудову грамадства без эксплуатацыі, на аснове хрысц. згоды і гармоніі (кніга Ю.Паўлікоўскага «Аб польскіх прыгонных», рукапіс віцебскага шляхціца Сямёна Зяновіча «Сапраўднае вучэнне аб правах асобнага чалавека і правах народаў», хрысц.-сацыялістычная утопія Я.Яленскага «Добрая вестка Ізраілю Расійскаму...», тайнае «Дэмакратычнае таварыства» ў 1836—38 на чале з Ф.Савічам). На крытыцы буржуазна-ліберальнай тэорыі «асабістай карысці» грунтавалася гуманістычная грамадска-паліт. і асветніцкая праграма таварыства філаматаў. У 19 ст. сфарміравалася нац.-бел. дэмакратычная плынь гуманістычнай думкі, што імкнулася вярнуць народу спрадвечныя гіст. і духоўна-культурныя каштоўнасці, адрадзіць яго нац. самасвядомасць. Яна выявілася ў развіцці фалькларыстыкі і этнаграфіі, станаўленні новай бел. літаратуры і маст. прафесійнай культуры (творчасць Я.Чачота, Я.Баршчэўскага, У.Сыракомлі, В.Дуніна-Марцінкевіча, А.Абуховіча), у духоўна-гуманітарным лідэрстве бел. пісьменнікаў, іх актыўным удзеле ў паўстанні 1863—64 на чале з К.Каліноўскім (сям'я Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіч) і барацьбе за нац. самавызначэнне бел. народа (Цётка, Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч, пісьменнікі і публіцысты газ. «Наша ніва» і інш.). Пасля 1-й сусв. вайны, Лютаўскай і Кастр. рэвалюцый 1917 і распаду Рас. імперыі былі гераічныя спробы рэалізацыі бел. нац.-гуманістычнай ідэі (абвяшчэнне Бел. Народнай Рэспублікі, нац.-вызваленчы рух на Беларусі ў 1917—21).

У савецкай філасофіі і культуралогіі паняцце Г. празмерна сацыялагізавана, разглядалася з пункту погляду догмаў марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Вузкакласавая пралетарская арыентацыя ў эканоміцы, грамадскім быцці і палітыцы, адмаўленне хрысц. гуманістычных каштоўнасцей з пазіцыі вульгарнага матэрыялізму і атэізму, рух грамадства да сусв. камунізму выдаваліся за «рэальны Г.», які проціпастаўляўся «абстрактнаму Г.» папярэдніх этапаў развіцця грамадскай думкі і культуры. Усё гэта вялося пад лозунгам «гуманізацыі грамадскіх адносін» і пабудовы бяскласавага камуністычнага грамадства, якое абвяшчалася канчатковым вынікам сусв.-гіст. развіцця па шляхах татальнай класавай барацьбы. Бел. мова, літаратура, фальклор, народная маст. творчасць і нац. маст. культура, нягледзячы на ідэалагічны і адм. націск з боку КПСС—КПБ і паслухмяных ёй дзярж. і афіц. грамадскіх структур, заставаліся апошнім апірышчам бел. Г. Пасля частковага пераадолення т.зв. «культу асобы Сталіна» і партыйна-бюракратычнага кантролю ў 2-й палавіне 1950 — 1-й палавіне 1960-х гадоў пачалося сістэматычнае вывучэнне і вяртанне народу гуманістычных традыцый бел. культуры. Гэты працэс паскорыўся пасля абвяшчэння незалежнай Рэспублікі Беларусь.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; К о н о н В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстетич. мысли Белоруссии в


Да арт. **Гусоўскі** М. А.Марачкін. Мікола Гусоўскі.

XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Я г о ж. Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору. Мн., 1989.
*У.М.Конан.*

ГУСО́ЎСКІ Мікола (1470-я гады — пасля 1533) — беларускі і польскі паэт-гуманіст эпохі Адраджэння, прадстаўнік навалацінскай паэзіі. Найб. верагодна, паходзіў з сям'і селяніна-паляўнічага з в. Уса (Усава) цэнтральнай Беларусі. У сталыя гады жыў у Польшчы, служыў пры двары свайго мецэната біскупа Эразма *Вітэлія* (Цёлка). Паводле нядаўна выяўленага ў Варшаве тастамента С.Гальшанскай, складзенага ў 1518 у воўпе пад Ваўкавыскам і заверанага Г., паэт у той час меў духоўны сан (называў сябе клірыкам Перамышленскай епархіі) і часам выконваў абавязкі публічнага натарыя. У 1520—22 у складзе пасольства ВКЛ, якое ўзначальваў Э.Вітэлій, пабываў у Рыме, дзе напісаў на лац. мове паэму «Carmen de statura feritate ac venatione bisontis» («Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго») і шэраг вершаў (выд. у зб. «Песня пра зубра». Кракаў, 1523). Апошнія гады жыцця правёў у Польшчы, цяжка хварэў, але займаўся літ. дзейнасцю. Напісаў і выдаў паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы» (1524), «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта» (1525) і інш. Г. — заснавальнік лацінамоўнай рэнесансавай паэзіі Беларусі, стваральнік першай, адрасаванай еўрап. чытачу рэалістычнай ліра-эпічнай паэмы пра нашу краіну — «Песня пра зубра». Змест твора засн. на асабістых назіраннях, уражаннях і перажываннях аўтара, вылучаецца багаццем, арыгінальнасцю і самабытнасцю, цеснай сувяззю з бел. рэчаіснасцю, глыбокім патрыятызмам. З вялікай мастацкай сілаю апісаў прыроду роднага краю (называе яго Літвою) і паляванне на зубра, гістарычна дакладна і праўдзіва падаў і ўславіў ратныя і працоўныя справы свайго народа, яго гераічнае мінулае. Вобраз зубра — сімвал Бацькаўшчыны. Аўтар асуджае братазабойныя войны, антынародную палітыку ўладароў, заклікае хрысц. народы Еўропы да яднання перад турэцкай пагрозай. У паэме выявіўся рэнесансавы эстэт. ідэал паэта з яго верай у дзейнага гарманічна развітага, духоўна і фізічна дасканалага чалавека. «Песня пра зубра» — каштоўная крыніца для вывучэння біяграфіі аўтара і яго поглядаў, пазнання эпохі, у якую ён жыў, прыроды, этнаграфіі, асаблівасцей духоўнага жыцця і побыту нашых продкаў, іх заняткаў, вераванняў, гісторыі Беларусі на мяжы сярэднявечча і Адраджэння. Г. стварыў станоўчы ў эпічных традыцыях вобраз вялікага кн. Вітаўта як магутнага і справядлівага валадара, таленавітага палкаводца і мужнага воіна, што ў многім пераклікаецца з летапісным. Інш. творы Г. таксама нясуць пэўную гіст. інфармацыю. На бел. мову «Песню пра зубра» пераклалі Я.Семяжон (Полымя. 1969. № 6) і У.Шатон (Спадчына. 1991. № 2). Інш. творы Г. перакладзены таксама на польскую, рус., літоўскую, укр. мовы. У сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння Г., якое адзначалася ў 1980, яго імя ЮНЕСКА унесла ў каляндар памятных міжнар. дат, у Мінску была наладжана маст. выстаўка. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

*Тв.:* Песня пра зубра. Мн., 1973; Песня пра зубра. Мн., 1980.

*Літ.:* К о н о н В.М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978; Д о р о ш е в и ч В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина 16 в. Мн., 1979; П о р е ц к и й Я.И. Николай Гусовский. Мн., 1984; К а л е с н і к У.А. Мікола Гусоўскі // Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1985.
*Р.А.Чамярыцкі.*



Да арт. **Гусоўскі** М. «Песня пра зубра». Вокладка. Кракаў. 1523.



«ДА ЗЛУЧЭ́ННЯ» — беларуская рэлігійная газета грэка-католікаў у Заходняй Беларусі. Выдавалася ў 1932—37 у Вільні на бел. мове [рэдакцыя ў Слоніме, з 1934 — у Папскай духоўнай семінарыі ў г. Дубна ў Заходняй Украіне (цяпер Ровенская вобл.)]. Рэдактар святар А. *Неманцэвіч*. Друкавала Евангелле, артыкулы пра неабходнасць адраджэння уніі на Беларусі, хроніку рэліг. жыцця. Змясціла працу М.Бярдзяева «Аб'яднанне хрысціян Усходу і Захаду». Мела куток для дзяцей. Сярод сталых аўтараў святары Б.Пачопка, Я.Урбан і інш. Выйшлі 60 нумароў. *Г.В.Бабкін.*

ДАБШЭ́ВІЧ (Dobszewicz) Бенядзікт (12.3.1722—1799) — тэолаг, філосаф, прадстаўнік эклектычнай філасофіі Беларусі і Літвы. Нарадзіўся каля Навагрудка Гродзенскай вобл. Скончыў Навагрудскі езуіцкі калегіум, Віленскую езуіцкую акадэмію. Выкладаў у іх і ў Полацкім езуіцкім калегіуме (з 1773 дэкан тэалагічнага ф-та Віленскай акадэміі). Прызнаваў і прапагандаваў філасофскія і прыродазнаўчанавук. ідэі П.Гасендзі, Р.Дэкарта, І.Кеплера, І.Ньютана, геліяцэнтрычную сістэму М.Каперніка і яго паслядоўнікаў («Погляды новых філосафаў», 1760). Фундаментальнымі палажэннямі логікі лічыў прынцыпы дастатковай падставы і сумлення («Лекцыі па логіцы», 1761). Прызнаваў 3 віды пазнання: гістарычнае (пазнанне фактаў, іх успрыняцце), філасофскае (раскрыццё прычын і асновы прадмета) і матэматычнае (пазнанне колькасных адносін). Паводле Д., мэта навукі — дасягненне ісціны для карысці чалавека. Ісціну падзяляў на лагічную, метафізічную і маральную. У філасофскіх поглядах прытрымліваўся картэзіянства пазнейшага часу, спалучаў тэалагічны светапогляд з новафіласофскімі поглядамі, што не магло не прывесці да ўнутраных супярэчнасцей у яго сістэме, якія выразна выявіліся ў кн. «Тэзісы ва універсальную філасофію» (1763). Псіхалогія ў сістэме Д. разглядалася як самастойная частка, але па сутнасці звязаная з метафізікай і натуральнай тэалогіяй. З аднаго боку, ён выступаў як натураліст-даследчык, з другога, — тэолаг-прафесіянал. Душу ён лічыў духоўнай субстанцыяй, звязанай з Богам, але цесна звязанай з целам (з нервамі і г.д.). Для Д. свет — гэта тварэнне Бога, нягледзячы на тое, што ён часам у логіцы, філасофіі ці ў фізіцы пагаджаўся з матэрыялістамі. *Э.К.Дарашэвіч.*

ДАВЫ́Д (канец 11 ст. да н.э. — каля 950 да н.э.) — цар Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы. Праслаўляецца царквой як лагодны праведнік, але з біблейскага апісання яго жыцця відаць, што ён быў дэспатам. Д. стварыў цэнтралізаваную дзяржаву са сталіцай у Іерусаліме. З мэтай надаць Іерусаліму большае значэнне ён перанёс туды каўчэг запавету і заснаваў богаслужэнне пры ім. Рэліг. традыцыя прыпісвае Д. аўтарства псалмоў. З развіццём у іудаізме веры ў прыход *месіі* Д. стаў ушаноўвацца і як продак месіі. У хрысціянстве Хрысту прыпісваецца паходжанне ад Д.

ДАДЭ́РКА, Дзядзерка Якаў Ігнацій (1751—24.12.1829) — першы мінскі рымска-каталіцкі епіскап. Нарадзіўся на Валыні. Сваё служэнне пачаў у езуітаў, потым доўгі час служыў у Вільні настаўнікам семінарыі, прыходскім святаром, прафесарам права ў акадэміі. З 1792 займаў пасаду епіскапа-суфрагана, 28.4.1798 прызначаны мінскім епіскапам. У 1810 засн. у Мінску Таварыства дабрачыннасці, распачаў будаўніцтва дома для бяздомных, сірот, жабракоў і невылечных хворых. У 1812 прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці Полацкай езуіцкай акадэміі. Прыхільнасць Д. да Напалеона І у час вайны 1812, прадузятасць у адносінах да правасл. царквы выклікалі гнеў рас. імператара Аляксандра І, які перадаў Д. на суд мітрапаліта С.І.*Богуш-Сестранцэвіча*. 16.5.1816 Д. быў пазбаўлены пасады і адпраўлены з Мінска на Валынь пад нагляд луцкага біскупа.

ДАЖБО́Г — язычніцкае бажаства ўсходніх славян, бог сонца і агню; пазней бог земляробства, урадлівасці, дабрабыту. Сын *Сварога*. У Кіеўскай Русі Д. пакланяліся (яго ідал быў пастаўлены

побач з *Перуном* і інш. багамі на капішчы за церамным дваром у Кіеве). Як сімвалічны вобраз трапляецца ў стараж.-рус. літаратуры (першае ўпамінанне ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980). У «Слове аб палку Ігаравым» Д. выступае як продак і апякун Русі і стараж.-рус. народа.

ДАМАВІ́К, хатнік, гаспадар — вобраз у старадаўніх павер'ях беларусаў. Яго ўяўлялі ў выглядзе старога ў белай вопратцы, з сівой барадою і доўгімі валасамі. Лічылася, што ён жыве пад печчу ці за печчу (падпечнік, запечнік) або ў сенях, каморы, клеці. Паводле павер'я, у кожнай хаце быў свой Д. (увасабляў памерлага гаспадара — апекуна патрыярхальнай сям'і), які нібыта ахоўваў дом, маёмасць, клапаціўся пра гаспадарку, назіраў за сямейным побытам, караў тых, хто нядбайна вёў гаспадарку і быў вінаваты ў сямейных сварках. Людзі імкнуліся задобрыць Д.: у памінальныя і святочныя дні яго звалі да стала, «частавалі», звярталіся з просьбай, каб не рабіў шкоды. Рэліг. значэнне вобраз Д. страціў у канцы 19 — пач. 20 ст. і знайшоў адлюстраванне ў бел. фальклоры.

ДАМІНІКА́НЦЫ (позналац. dominicani, fratres praedicatores браты-прапаведнікі) — каталіцкі «жабрацкі» манаскі ордэн. Назва ад імя заснавальніка іспанца Дамініка дэ Гусмана (1170—1221), кананізаванага ў 1234. Створаны ў пач. 13 ст., зацверджаны папам Ганорыем III у 1216. Статут ордэна складзены на падставе статута св. Аўгусціна (гл. *Аўгусцінцы*). Дамінік актыўна змагаўся з ерасямі, таму гал. кірункам яго ордэна стала прапагандысцка-місіянерская дзейнасць. Пры папе Грыгорыі IX (1227—41) Д. атрымалі шэраг прывілеяў. Ім была даручана і інквізіцыя. «Жабрацкі» характар ордэна не заўсёды вытрымліваўся. У 1475 і 1477 Д. афіцыйна дазволена валодаць маёмасцю і мець сталыя крыніцы прыбытку. Папства выкарыстоўвала ордэн у барацьбе з ерасямі, свецкімі ўладамі, пазней — з рэфармацыйным рухам. Д. ўзначальвалі кафедры ў многіх еўрап. універсітэтах. З гэтага ордэна выйшлі вядомыя тэолагі і дзеячы каталіцкай царквы: *Альберт Вялікі*, Вікенцій Бавэскі, Саванарола, *Фама Аквінскі*. Ордэн падзяляўся на правінцыі на чале з правінцыяламі, кляштары ўзначальвалі прыёры. На чале ордэна стаяў генерал (генеральны магістр), рэзідэнцыя якога была ў Рыме. Вышэйшы калегіяльны орган Д. — капітул, які складаўся з генерала, правінцыялаў і дэлегатаў (па аднаму з кожнай правінцыі). У наш час ордэн дзейнічае ў 50 краінах. У 1233 Д. заснавалі першы кляштар у Польшчы (Кракаў), адкуль яны сталі пранікаць на землі ВКЛ (Навагрудак, Вільня), дзе сустракалі тады значныя перашкоды. На Беларусі і ў Літве яны замацаваліся ў пач. 16 ст. Першай іх рэзідэнцыяй лічыцца кляштар пры касцёле Св. Духа ў Вільні. Спачатку дамініканскія кляштары ўваходзілі ў склад Польскай правінцыі. У 1647 была створана асобная Літоўская правінцыя Анёла Ахоўніка, якая ў 1818 налічвала 38 кляштараў, размешчаных на сучаснай тэр. Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі. Д. належалі бібліятэкі, гімназіі і павятовыя школы, калегіум пры віленскім кляштары. Кляштары Літоўскай правінцыі былі ў Астраўцы, Ашмянах, Васілішках, Віцебску, Гродне, Дзярэчыне, Друі, Забялах, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Полацку, Слоніме, Ушачах, Халопенічах і інш. Кляштары Д. паўднёвай, усходняй і цэнтральнай Беларусі ўваходзілі ў склад Рус. правінцыі св. Яцэка (створана ў 1596, адноўлена ў 1612). Яны знаходзіліся ў Астроўне, Беліцы, Галоўчыне, Дудаковічах, Заслаўі, Зембіне, Клецку, Мінску, Маляцічах, Мсціславе, Пінску, Ракаве, Рэчыцы, Смалянах, Стоўбцах, Хатаевічах, Чашніках, Шклове і інш. У 1782 праведзена рэарганізацыя Рус. правінцыі, у 1813 яна злучана з Літоўскай правінцыяй. Кляштар у Брэсце ўваходзіў у склад Польскай правінцыі. Акрамя кляштараў (канвентаў) на Беларусі было каля 10 рэзідэнцый Д. Існавала і жаночая галіна ордэна, першыя іх кляштары створаны ў пач.13 ст. На Беларусі вядомы адзін жаночы кляштар у Навагрудку. Самая вядомая манахіня гэтага ордэну — св. Кацярына Сіенская (Італія, 14 ст.). У 1830—60-я г. кляштары Д. на Беларусі зачынены, жылыя будынкі прыстасаваны пад казармы, шпіталі і да т.п., касцёлы сталі парафіяльнымі або перададзены правасл. царкве.

*Ю.В.Бажэнаў.*



**«Данііл з ільвамі».** Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Прарок Данііл» Ф. Скарыны.

ДАНІІ́Л («суддзя бог», «бог мой суддзя») — у *Бібліі* праведнік, прарок-мудрэц, прароцтвы і прыгоды якога апісаны ў «Кнізе прарока Данііла». Паводле падання, Д. быў дастаўлены ў Вавілон паводле загаду цара Навуходаносара і атры-

маў імя Валтасар. За асаблівую набожнасць *Яхве* падараваў Д. мудрасць і здольнасць растлумачваць сны і прывіды. Уражаны мудрасцю Д. Навуходаносар прызнаў Яхве «богам багоў» і паставіў Д. на чале ўсіх вавілонскіх мудрацоў. Паводле хрысц. тлумачэння, аўтарам «Кнігі прарока Данііла» лічыцца сам Д., і напісана яна ў 6—5 ст. да н.э. Сучасныя даследчыкі лічаць, што кніга напісана некалькімі аўтарамі ў 167—163 да н.э. Існуюць кананічныя часткі гэтай кнігі і апакрыфічныя, якія змешчаны ў грэч. перакладах Бібліі.

ДАНІСЕ́ВІЧ Стафан (1836, каля г. Чэрыкаў на Магілёўшчыне — 3.12.1913) — беларускі каталіцкі рэлігійны дзеяч, педагог і мецэнат. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1863). У 1863 пасвячоны ў святары. Выкладаў рэлігію ў навуч. установах Оршы і Магілёва, выступаў з казаннямі ў Магілёўскім архікафедральным касцёле. З 1866 куратар рымска-каталіцкага касцёла ў Смаленску і выкладчык Закону Божага ў мясцовай губернскай гімназіі. З 1873 пробашч Магілёўскага архікафедральнага касцёла і дэкана Магілёва. Са снежня 1876 зноў куратар Смаленскага касцёла, адначасова з 1891 займаў пасаду кіраўніка Клімавіцка-Мсціслаўскага дэканата. У 1895 узведзены ў сан каноніка-сеньёра Магілёўскай архікафедральнай капітулы, прызначаны засядацелем Магілёўскай духоўнай рымска-каталіцкай кансісторыі. З 1901 прэлат-схаласт і афіцыял Магілёўскай архікафедральнай капітулы. З 1903 узначальваў Магілёўскую архідыяцэзію, у 1908 пасвячоны ў біскупы. Першым пачаў карыстацца ў казаннях бел. мовай, уводзіў яе ў рэліг. жыццё беларусаў-католікаў. Цэнзар і выдавец першых беларускамоўных падручнікаў па рэлігіі. Аказваў матэрыяльную дапамогу газ. «Беларус». Праследаваўся царскімі ўладамі. У 1911 пазбаўлены тытулаў капітулярнага прэлата і афіцыяла кансісторыі, а таксама грашовых узнагарод. Пасля году апалы памілаваны. Пахаваны ў Смаленску.

*Літ.:* Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Мн.—Мюнхен, 1999. С. 63—64.

ДАРАЗАХАВА́ЛЬНІЦА — пасудзіна ў форме храма (капліцы) з дзверцамі і крыжам зверху. Унутры яе захоўваюцца *святыя дары*, прызначаныя для прычашчэння ў хатніх умовах цяжка хворых людзей, што паміраюць. Д. захоўваецца на прастоле ў алтары царквы.

ДАРАНО́СІЦА — невялічкі каўчэг, часцей у выглядзе капліцы з дзверцамі і крыжам зверху. У Д. пераносяць *святыя дары*, прызначаныя для прычашчэння ў хатніх умовах хворых і тых, хто памірае.



Да арт. **Дванадзесятыя святы**. Маларыцкі майстар. Праабражэнне. 1648. Беларуская іканапісная школа.

ДАРБІ́СТЫ, евангельскія хрысціяне дарбісты, плімуцкія браты — рэлігійная пратэстанцкая секта. Узнікла ў г. Плімут (Англія) у 1820—30-я г. як апазіцыя афіц. англіканскай царкве. Назва ад імя заснавальніка Дж.Н.Дарбі. Паводле веравучэння Д. блізкія да *баптыстаў* і *евангельскіх хрысціян*, іх абраднасць больш спрошчаная. Вялі рэліг. прапаганду сярод хрысціян і іудзеяў. У пач. 20 ст. абшчыны Д. з'явіліся на Беларусі (Мінск, Вільня). У 1920-я г. ў прыгарадзе Варшавы Радасць засн. дарбісцкі цэнтр і біблейская школа, якая рыхтавала прапаведнікаў для Зах. Беларусі і Зах. Украіны (пераважна з сялян). Пазней цэнтр і школу ўзначаліў М.Гітлін, хрышчаны яўрэй. У 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі склаліся 3 цэнтры Д.: у Брэсце, Кобрыне, Пінску. У Пінску Д. мелі б-ку і чытальню. У Брэсце на малітоўныя сходы ў нядзельныя і святочныя дні збіралася шмат членаў секты і асабліва запрошаных іудзеяў. Прапаведнікі выступалі на рус. і яўрэйскай мовах. Пасля Вялікай Айчыннай вайны секта заняпала. Пэўная яе актыўнасць адзначалася ў в. Хідры (Кобрынскі р-н). Цяпер актыўнасці ў дзейнасці Д. не назіраецца. *Б.І.Камейша.*

ДВАНАДЗЕСЯ́ТЫЯ СВЯ́ТЫ — 12 найбольш значных свят праваслаўя: Раство Хрыстова (Каляды), якое святкуецца 7 студзеня (25 снежня па с. ст.); Хрышчэнне Гасподняе (Вадохрышча) — 19(6) студзеня; Стрэчанне Гасподняе (Грамніцы) — 15(2) лютага; Дабравешчанне — 7 красавіка (25 сакавіка), Уваход Гасподні ў Іерусалім (Вербніца) — за тыдзень да Вялікадня, Узнясенне Гасподняе (Ушэсце) — на 40-ы дзень пасля Вялікадня, Дзень св. Тройцы (Сёмуха, Пяцідзесятніца) — на 50-ы



Да арт. **Дванадзесятыя святы**. Звеставанне. 18 ст. Беларуская іканапісная школа.



Да арт. **Дванадзесятыя святы**. Звеставанне. 2-я пал. 18 ст. Беларуская іканапісная школа.

дзень пасля Вялікадня, Праабражэнне Гасподняе (Спас) — 19(6) жніўня, Успенне Прасвятой Багародзіцы (Прачыстая) — 28(15) жніўня, Раство Прасвятой Багародзіцы — 21(8) верасня, Узвіжанне Крыжа Гасподняга — 27(14) верасня, Уводзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы (Уводзіны) — 4 снежня (21 лістапада). Разам з Вялікаднем лічацца гал. святамі правасл. царквы. Пераважная большасць хрысц. свят спалучае стараж. святы, звычаі і абрады нар. календара з хрысц. зместам. Звычайна хрысц. святы пачынаюцца з вечара, усяночнай, а раніцай у царкве адбываецца святочная літургія. *А.У.Верашчагіна.*

ДЖЫХА́Д (араб. літаральна — намаганне) — адно з асноўных паняццяў у ісламе і адзін з галоўных і рэлігійных абавязкаў мусульман-мужчын. У сярэдневякоўі азначала ўзброенае змаганне з няверными (немусульманамі) у імя пашырэння (захавання) мусульманскага ўплыву ў свеце («свяшчэнная вайна», або газават ці фатх). Пазней Дж. стаў разглядацца як духоўнае ўдасканаленне ісламскіх вернікаў праз іх пэўныя намаганні (пераадоленне чалавечых слабасцей і шкодных звычак, пакаранне злачынцаў і парушальнікаў маральных нормаў). У гісторыі мусульманскіх краін ідэя Дж. выкарыстоўвалася для ўзмацнення рэліг. пачуццяў вернікаў (часам у форме фанатызму) і згуртавання насельніцтва ў час унутраных і знешніх войнаў, у т.л. нац.-вызваленчых паўстанняў. Часам лозунгам Дж. імкнуцца абгрунтаваць свае дзеянні тэрарысты-мусульмане. *У.С.Кошалеў.*

ДЗЕ́КУЦЬ-МАЛЕ́Й Лукаш (Лука Мікалаевіч; 1.10.1888, Слонімскі пав. Гродзенскай губ. — 20.1.1955) — беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч. Скончыў Першыя бел. настаўніцкія курсы ў Вільні (1919). Наведваў (2 гады) рэліг. курсы ў Пецярбургу. З 1910 член баптысцкай царквы. У 1918 у якасці камісара крэйза Крынкі—Лунна (раён на акупіраванай Германіяй тэр. Беларусі і Літвы) арганізоўваў валасныя камітэты і міліцыю з мэтай абароны ад польскіх легіянераў. На Гродзенскім беларускім сялянскім з'ездзе 1918 абраны ў Гродзенскую павятовую раду і Аргкамітэт па скліканні Краёвага Бел. з'езда Гродзеншчыны. За выступленні ад імя Літоўскай дзяржавы 13.2.1919 арыштаваны польскімі ўладамі; выпушчаны. Удзельнічаў у стварэнні «Грамады беларускай моладзі ў Гародні», акцёр яе драматычнай секцыі. Летам 1919 узначаліў Гродзенскую цэнтральную бел. вучыцельскую раду. У пач. 1920 адзін з кіраўнікоў бел. нац. камітэта і старшыня Бел. школьнай рады ў Гродне, уваходзіў у склад прэзідыума Цэнтральнай бел. школьнай рады. У ліпені—верасні 1920 камісар сацыяльнага забеспячэння Гродзенскага рэўкома, потым баптысцкі прапаведнік у Брэсце. У 1920—24 пераклаў 17 рэліг. брашур з польскай і рус. моў на беларускую. Разам з А.Луцкевічам пераклаў і выдаў «Новы Запавет і Псальмы» (Гельсінгфорс, 1931). Перад 2-й сусв. вайной прапагандаваў ідэі баптысцкай абшчыны на тэр. Заходняй Беларусі, асабліва сярод навучэнцаў гімназій Брэста, Вільні, Маладзечна, Навагрудка і інш., апекаваў бедных навучэнцаў. У Вялікую Айчынную вайну прэсвітэр бел. баптыстаў на акупіраванай тэр. Беларусі. У 1942 у Мінску выдаў малітоўнік на бел. мове. Памёр у ЗША.

*Літ.:* Луцкевіч А. Дзённік // Полымя. 1991. № 4—5.

*М.І.Аўсяная, У.В.Ляхоўскі.*

ДЗЕ́СЯЦЬ ЗА́ПАВЕДЗЕЙ — у іудзейскай і хрысціянскай рэлігіях прадпісанні сацыяльнага і маральнага характару, якім царква надае божы аўтарытэт. Гл. арт. *Запаведзь*.

ДЗЯДЫ́ — народны памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых продкаў. Дз. таксама называлі дзень, калі адбываўся абрад, і нябожчыкаў, якіх ушаноўвалі. Паходзяць Дз. з дахрысціянскага ўсходне-славянскага звычаю *трызны*; звязаны з *культам продкаў*. Пазней абрад ускладніўся напластаваннем хрысц. культу. Дз. спраўлялі ў пэўныя дні, у залежнасці ад мясцовасці па некалькі разоў на год, часцей вясной і ўвосень. Гал. былі Змітраўскія Дз. (асяніны) у суботу перад Змітравым днём (26 кастр. с. ст.), а таксама на *радаўніцу*, перад масленіцай, сёмухай. На Дз. гатавалі рытуальныя стравы (7 і болей няцотных святочных і абрадавых страў). Абавязковымі былі куцця, клёцкі, бліны, мяса, яечня. Паводле звычаю, ад кожнай стравы ў асобны посуд адкладвалі па кавалачку для нябожчыкаў і пакідалі на ноч.

*Літ.:* Пахаванні. Памінкі. Галашэнні. Мн., 1986.

ДЗЯРЭ́ЧЫНСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ. Існаваў у 1618—1832 у в. Дзярэчын (цяпер Зэльвенскі раён Гродзенскай вобл.). Належаў да літоўскай правінцыі. Засн. мсціслаўскім кашталянам Канстанцінам Палубінскім з жонкай Зоф'яй Сапежанкай. У 1685—1832 апекунамі кляштара былі Сапегі. У касцёле пахаваны вядомы военачальнік і мецэнат Аляксандр Гіляры Палубінскі (1626—79). Асабліва шанаванымі былі абразы Маці Божай Снежнай, Збавіцеля каля слупа і Антонія Падуанскага. Верагодна, з кляштарам нейкім чынам звязаны вядомы лац. старадрук «Rosarium et Officium B.V.M.» А.Палубінскага з медзярытамі Аляксандра Тарасевіча. Пасля скасавання кляштара касцёл да 1866 заставаўся парафіяльным. Мураваныя будынкі 17 ст. адлюстраваны на малюнку Напалеона Орды незадоўга да іх разбурэння ў 2-й палавіне 19 ст. Зараз на гэтым месцы стаіць неагатычны касцёл 1906—10.

*А.А.Ярашэвіч.*

ДЗЯ́ТЛАВІЦКІ ПРАВАСЛА́ЎНЫ МАНАСТЫР. Існаваў у 17—19 ст. Засн. ў 1622 у в. Дзятлавічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. каралеўскім дваранінам Канстанцінам Долматам, які завяшчаў свае маёнткі Дзятлавічы і Лунінец настаяцелям Кіева-Пячэрскай лаўры з умовай, што яны пры Дзятлавіцкай Праабражэнскай царкве створаць манастыр, падначалены канстанцінопальскаму патрыярху і кіеўскаму мітрапаліту. З дыярыуша св. Дзмітрыя Растоўскага вядома, што 23.10.1678 грэчаскі мітрапаліт Макарый Лігарыд, які жыў у той час у Слуцкім Троіцкім манастыры, правёў тут пахаванне бел. епіскапа слуцкага архімандрыта *Феадосія* Васілевіча, памерлага ў Любліне. На працягу ўсёй сваёй гісторыі манастыр заставаўся праваслаўным, але ў 1842 яго маёнткі канфіскаваны ў казну (1121 душа), а ён прыпісаны да *Пінскага Богаяўленскага манастыра*, а ў 1855 наогул скасаваны. Пабудаваная ў 1823 драўляная царква засталася прыходскай; у ёй ў 1870-я г. захоўвалася рукапіснае Евангелле, старадаўні іканастас і літургічныя рэчы, якія сведчылі пра сувязь з Кіева-Пячэрскай лаўрай. Частка архіва манастыра ў 19 ст. захоўвалася ў Мінскай духоўнай кансісто-



**Дзярэчынскі кляштар дамініканцаў.** З малюнка Н.Орды. 1877.


Друйскі кляштар айцоў марыянаў.

рыі, з дакументаў вядомы імёны яго ігуменаў пачынаючы з 1680-х г. *А.А.Ярашэвіч.*

ДЗЯЧО́К, **дзяк, псаломшчык** — царкоўны служыцель ніжэйшай ступені ў праваслаўнай царкве, які дапамагае святарам падчас богаслужэнняў. У стараж. хрысціянстве на Д. ўскладаліся абавязкі неадлучна знаходзіцца пры св. месцах з мэтай аховы і аказання розных паслуг паломнікам. Д. назіраў за маёмасцю храма, запальваў свяцільні перад пачаткам богаслужэння і гасіў іх пасля заканчэння яго. З часам да абавязкаў Д. аднесена чытанне і спяванне ў час богаслужэння, прынясенне ў алтар прасвір, віна, вады, ладану, прыгатаванне і падача святарам кадзіла, заклікание вернікаў перазвонам, прыбіранне храма і алтара. З 1885 Д. называюць псаломшчыкамі.

ДО́ГМАТЫ РЭЛІГІ́ЙНЫЯ — асноўныя формулы *веравучэння*, сапраўднасць якіх лічыцца бясспрэчнай. Д.р. не падлягаюць перагляду ці зменам. Усе яны абвяшчаюцца богаўстаноўленымі, успрынятымі «айцамі і настаўнікамі царквы» праз боскае адкрыццё. Хрысц. догматы сфармуляваны на двух першых усяленскіх саборах і атрымалі назву Нікеа-Цараградскага *сімвалу веры*. Агульныя хрысц. догматы ўключаюць вучэнні аб трыадзінстве Бога, увасабленні, збавіцельнай ахвяры, *уваскрэсенні* Хрыста, яго адзінасутнасці з Богам-Айцом, выратавальнай місіі царквы, уваскрэсенні мёртвых і *Страшным судзе*. Пасля падзелу цэркваў заходняя (рымска-каталіцкая) царква ўключыла ў сваё веравучэнне новыя догматы. Яна прызнае прынцып дагматычнага развіцця, які дазваляе абнаўленне Д.р. у адпаведнасці з Пісаннем. Акрамя агульнахрысціянскіх каталіцкія догматы ўключаюць вучэнне пра зыходжанне Святога Духа ад Бога-Сына, чысцілішча, бязгрэшнасць папы рымскага ў справах веры, пра бязгрэшнае зачацце Марыі і яе ўзнясенне на неба. Пратэстантызм будуецца на догматах аб апраўданні верай і ўяўленні аб Бібліі як адзінай крыніцы веравучэння. Правасл. царква не прызнае прынцып дагматычнага развіцця і падвяргае крытыцы ўсе Д.р., якія выходзяць па-за межы Нікеа-Цараградскага сімвалу веры.

ДРУ́ЙСКІ КЛЯ́ШТАР АЙЦО́Ў МАРЫЯ́НАЎ. Дзейнічаў у мяст. Друя ў 1923—39. Засн. па ініцыятыве віленскага біскупа і генерала ордэна марыянаў Ю.*Матулевіча* і паводле рэскрыптаў папы Пія XI ад 23.7 і 10.8.1923. Арганізацыя дзейнасці кляштара была даручана ксяндзу А.Цікоту, які восенню 1921 выязджаў у Амерыку збіраць сродкі на адкрыццё бел. кляштара, у 1923 пачаў дзейнасць у Друі. Значную ролю ў адкрыцці кляштара адыгралі грашовыя ахвяраванні княгіні М.Радзівіл. Размяшчаўся ў памяшканнях б. бернардзінскага кляштара. Пры кляштары была наладжана гаспадарка, аснову якой склаў фальварак Забароўшчына (60 га). Кляштар забяспечваў духоўныя патрэбы 5-тысячнай парафіі. Казанні чыталіся на бел. мове ў друйскім касцёле і філіяльнай капліцы ў в. Малькаўшчына. Айцы марыяне дапамаглі ў арганізацыі друйскага жаночага кляштара сясцёр еўхарыстак і потым апекавалі яго. У 1924 *навіцыят* кляштара налічваў 9 юнакоў, якія рыхтаваліся ўступіць у ордэн. У кляштар уступілі ксяндзы Я.Германовіч (В.*Адважны*), Ф.*Абрантовіч*. У 1924 арганізавана школа (з 1930 гімназія імя Стафана Баторыя, дырэктар у 1924—33 Цікота), навучанне ў якой вялося на польскай мове. Гімназія вылучалася дэмакратычнымі традыцыямі, у ёй навучалася моладзь розных веравызнанняў, бедных навучэнцаў марыяне апеквалі. У гімназіі вучыліся будучыя гісторык В.Ярмалковіч, мастак В.Жаўняровіч, рэліг. дзеяч, генерал ордэна марыянаў у 1963—69, заснавальнік б-кі імя Ф.Скарыны ў Лондане Ч.*Сіповіч*, ксёндз, доктар філасофіі Т.Падзява і інш. У сярэдзіне 1930-х г. друйскія марыяне адкрылі ў Вільні дом студый, куды накіроўваліся выпускнікі гімназіі. Грашовымі сродкамі яны падтрымлівалі *Беларускую хрысціянскую дэмакратыю*, садзейнічалі адкрыццю ў Вільні бел. друкарні імя Ф.Скарыны, фінансавалі выданне бел. перыёдыкі і л-ры. Бел. накіраванасць дзейнасці кляштара варожа сустракалася польскімі свецкімі і рэліг. уладамі. Паступова з Друі ў інш. месцы пераведзены Абрантовіч, Германовіч, Цікота. У 1938 паліцыя выселіла з Друі айцоў марыянаў Я.Дашуту, К.Смульку, В.Хамёнка, Ю.Кашыру, праз месяц яшчэ 4 манахаў-беларусаў. Была скарочана коль-

касць класаў гімназіі, забаронена сумеснае навучанне юнакоў і дзяўчат, з мэтай абмежавання ўплыву арганізавана аднатыпная гімназія ў Браславе. У Друю былі накіраваны марыяне-палякі. У канцы 1939 кляштар і гімназія зачынены сав. уладамі. У 1964 Сіповіч заснаваў у Лондане бел. марыянскі дом, дзе знайшлі прытулак некаторыя з друйскіх айцоў марыянаў.

*Літ.:* Туронак Ю. Беларускія Марыяны ў Друі // Спадчына. 1991. № 5. *К.С.Шыдлоўскі.*



Першы аркуш **Друцкага евангелля**. Рэканструкцыя застаўкі В.Яўкайкіна.

ДРУ́ЦКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ, рукапісны помнік царкоўнаславянскага пісьменства 14 стагоддзя. Адзін з найбольш стараж. і добра захаваных рукапісаў Полацкай зямлі. Напісана на пергаменце царк.-слав. мовай уставам на 376 старонках фарматам у аркуш. Маст. аздабленне — застаўкі і 54 ініцыялы тэраталагічнага характару, выкананыя чырвонай фарбай (кінавар). Тэкст размешчаны ў 2 калонкі па 25—28 радкоў у кожнай. Змяшчае кананічныя тэксты, сінодзік (кніга запісаў для памінання) друцкіх князёў, дароўную грамату Багародзіцкай царкве ў Друцку, а таксама тэксты, напісаныя ў 15—18 ст. Найбольш важным з'яўляецца запіс, зроблены ў 14 ст. ў канцы асноўнага тэкста Евангелля: «...в лето 6509 (1001) створена бысть церковь сия святая Богородица въ граде во Дрютьсце» (сапраўднасць запісу пацверджана дадзенымі сучаснай археалагічнай навукі). Запіс, які стаў падставай для аднаўлення (будаўніцтва нанава) царквы ў Друцку, з'явіўся і прававой асновай для святкавання (2001) юбілею стараж. горада. Паводле дароўнай ґраматы, друцкі князь Васіль Міхайлавіч і яго жонка Васіліса перадалі Багародзіцкай царкве «село Муравьиничи, и с людьми и со всеми доходами и с медовой данью», наладзілі ў ёй «вседеньскую» (штодзённую) службу. Грамата змяшчае таксама ўказанні панамару, праскурніцы па правядзенню рытуальных дзеянняў «на кануны к святец Богородице» і ў час інш. хрысц. (праваслаўных) святаў, а таксама завяшчанне князя сваім дзецям. Запіс ад 17.3.1441 сведчыць, што Евангелле з Друцка перадаецца ў Вільню — сталіцу ВКЛ (відавочна, паводле ўказання каралевы Польшчы Соф'і Гальшанскай), а таксама аб тым, што сын каралевы, вялікі князь літоўскі Казімір, меў у Вільні «человека божьего» Аляксея (запіс у Евангеллі аб першым годзе княжання Казіміра пацвярджаецца і інш. летапіснымі звесткамі). У Вільні Евангелле было перададзена для захавання ў царкву Уваскрэсення Хрыстова віленскім месцічам (гараджанінам) Конанам (сынам Аляксея). Уваскрэсенская царква з'яўлялася адной з найстараж. сярод 20 правасл. храмаў Вільні, а яе святары лічыліся ў складзе старэйшага віленскага духавенства і карысталіся асобай пашанай (будынак царквы захаваўся; да пачатку 20 ст. царква дзейнічала ). У 18 ст., верагодна, у час Паўночнай вайны 1700—21 і наведвання царом Пятром I Вільні (1705) Евангелле было перададзена (падаравана?) свяшчэннаслужыцелям Рускай праваслаўнай царквы (некаторы час належала вяліканаўгародскаму архіепіскапу Феадосію Яноўскаму). Далейшая гісторыя Евангелля і яго месцазнаходжанне дакладна не ўстаноўлены. У 1965 «аб каштоўнай знаходцы» — Друцкім Евангеллі, — якое «не было вядома ў навуцы», паведаміў савецкі гісторык акадэмік М.М.Ціхаміраў. На яго думку, «тэкст Евангелля пакуль яшчэ нікім не вывучаны з лінгвістычнага пункту гледжання», мае «важнае значэнне для гісторыі беларускай мовы», а яго значнасць для гісторыі Беларусі «яшчэ цяжка ацаніць». Друцкае Евангелле зберагаецца ў бібліятэцы Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук у Навасібірску, а яго фотакопія — Цэнтральнай бібліятэцы Нацыянальнай АН Беларусі ў Мінску (факсімільнае выданне — у кнізе «Друцк летапісны. Друцкае Евангелле», 2001.

*Літ.:* Виноградов А. Путеводитель по Вильне и ее окрестностям. 2-е изд. 1905; Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968; Друцк старажытны. Мн., 2000; Друцк летапісны. Друцкае Евангелле. Мн., 2001; Друцкое Евангелие: его открытие и оценка академиком М.Н. Тихомировым // Древнему Друцку 1000 лет. Материалы к научно-практической конференции. Витебск, 2001.

*Р.Ч.Лянькевіч.*

ДУБО́ВІЧ Іван (?—1646) — беларускі і ўкраінскі царкоўны і грамадскі дзеяч, пісьменнік. Прыхільнік царк. уніі 1596. У палемічных творах «Пра вярхоўную ўладу ў царкве божай» (Львоў, 1644), «Правільны каляндар» (Вільня, 1644) шырока выкарыстоўваў бел.-літоўскія і ўкр. летапісы, маскоўскія хронікі, заходнееўрап. літаратурныя крыніцы. Высока ацэньваў каляндарна-астранамічныя даследаванні М.Каперніка, разам з тым адмаўляў яго геліяцэнтрычную тэорыю.

*Г.Я.Галенчанка.*

ДУХ — філасофскае паняцце, што азначае нематэрыяльны пачатак у адрозненне ад матэрыяльнага, прыроднага. Азначае таксама мысленне, псіхічныя здольнасці, пачатак, які вызначае паводзіны, унутраную маральную сілу асобы (духоўнасць). У гісторыі філасофіі Д. трактаваўся як паняцце (панлагізм), субстанцыя (*пантэізм*), асоба (*тэізм*, персаналізм). У рацыяналізме вызначальным бокам Д. лічыцца мысленне, свядомасць, у ірацыяналізме — пазаразумовыя аспекты (воля, пачуццё, уяўленне, інтуіцыя і г.д.). Дыялектычны матэрыялізм звязвае духоўнае з працэсам і вынікам чалавечай дзейнасці, з духоўнай вытворчасцю. У стараж.-грэч. філасофіі Д. — пнеўма, нус, логас; у рэліг.-містычных уяўленнях — бесцялесная, звышнатуральная істота (гл. напр., *Тройца*).

*В.В.Краснова.*

ДУХ СВЯТЫ́ — трэці член хрысціянскай боскай тройцы, поруч з Богам-Айцом і Богам-Сынам. Адным з разыходжанняў паміж католікамі і правасл. з даўніх часоў з'яўляецца пытанне аб «зыходжанні Святога Духа» (т.зв. спрэчка пра філіоквэ). Каталіцкая царква вучыць, што Д.С. зыходзіць «ад Айца і Сына». Правасл. царква лічыць, што Д.С. выконвае волю толькі Бога-Айца. У пратэстантызме ў розных варыянтах існуюць абодва пункты погляду, але ўвогуле найб. значэнне надаецца Д.С. Такая пазіцыя асабліва характэрная пяцідзесятнікам, руху святасці, рывайвелізму. Рывайвелістычныя т-вы лічаць, што для паспяховага «духоўнага росту» веруючага недастаткова воднага хрышчэння; неабходна яшчэ адна ступень — хрышчэнне Д.., якое павінна суправаджацца цудатворствам, прароцтвам і інш.

ДУХАБО́РЫ, духаборцы — адзін з кірункаў духоўных хрысціян, сектанцкая плынь, што ўзнікла ў Расіі ў 2-й палавіне 18 ст. Назва паходзіць ад «барацьбы за дух і ісціну». Асновы вучэння Д. выкладзены ў псалмах «Жывотнай кнігі», дзе трактуецца гал. іх паняцце: Бог — усюдыісны дух. Д. не прызнавалі таінстваў, абрадаў (акрамя шлюбу), святароў, манаства, адмаўлялі свецкую і духоўную ўладу, выступалі супраць дзяржавы і Рус. правасл. царквы. За непадпарадкаванне ўладам і адмаўленне ад воінскай службы праследаваліся царскім урадам, неаднаразова зведвалі дэпартацыі. У канцы 19 ст. частка Д. перасялілася ў Канаду. Невялікімі групамі жывуць на Паўн. Каўказе, у Азербайджане, у Растоўскай, Тамбоўскай, Арэнбургскай абласцях Расіі, на Д. Усходзе, Украіне і ў Сярэдняй Азіі.

ДУХАВЕ́НСТВА — асобная іерархічная карпарацыя прафесійных служак культу ў розных рэлігіях, якая выконвае ролю пасрэдніка паміж Богам і вернікамі, ажыццяўляе арганізацыйныя, магічна-культавыя дзеянні і прапаведуе веравучэнне пэўнай рэлігіі. Д. сфарміравалася ў стараж. часы на аснове *жрэцтва* і па сутнасці з'яўляецца прадаўжальнікам яго традыцый. У залежнасці ад свайго становішча і функцыі ў царкве Д. падзяляецца на вышэйшае і ніжэйшае. У некаторых рэлігіях прадстаўнікоў вышэйшага Д. шануюць як намеснікаў Бога на зямлі (*папа рымскі* ў каталіцызме) або як увасабленне бажаства (далай-лама ў ламаізме, кіраўнік секты ісмаілітаў). У шэрагу рэлігій Д. падзяляецца на белае (абслугоўвае прыход, храмы; складаецца з асоб жанатых, што знаходзяцца ў адным шлюбе, неразведзеных) і чорнае (спалучае манаства са свяшчэнніцкім санам, дае зарок бясшлюбнасці, поўнага паслушэнства і г.д.). У першых хрысц. абшчынах Д. не існавала. У 2 ст. склаўся інстытут *епіскапаў* (кіраўнік хрысц. абшчын). У 4 ст. пашырылася *манаства*, потым на аснове епіскапата ўзнікла *папства*. Канчаткова ў хрысціянстве Д. сфарміравалася ў 5 ст., пасля таго, як яно стала дзярж. рэлігіяй Рымскай імперыі. У Стараж. Русі, у т.л. і Беларусі, куды хрысціянства прыйшло ў канцы 10—11 ст. з Візантыі, паступова фарміраваліся кадры свяшчэннаслужыцеляў, усталёўвалася выразная царк.-адм. структура, якая складалася з епархій на чале з епіскапамі. Узначальваў іерархію Д. кіеўскі *мітрапаліт*, што падпарадкоўваўся канстанцінопальскаму *патрыярху*. У 1448 на чале *Рускай праваслаўнай царквы* быў пастаўлены мітрапаліт Маскоўскі і ўсяе Русі. У 1589 вышэйшы правасл. іерарх быў пасвячоны ў сан патрыярха. У 14—15 ст. амаль усю тэр. Беларусі ахоплівала Віленскае біскупства (дыяцэзія), якое налічвала 259 парафій каталіцкай царквы. Д. тут было прадстаўлена *арцыбіскупамі*, *біскупамі*, *суфраганамі*, плябанамі (*пробашчамі*), *вікарыямі* і інш. Падобная структура Д. была характэрна і для *Беларускай грэка-каталіцкай царквы*, якая ўсталёўвалася ў выніку *Брэсцкай уніі 1596*. У 1790 у 14 бел. паветах ВКЛ было 143 правасл., 1199 уніяцкіх, 83 рымска-каталіцкія і 16 кальвініцкіх прыходаў. У канцы 19 — пач. 20 ст. на Беларусі служылі 104 протаіерэі, 1924 святары, 234 *протадыяканы*, *дыяканы* і паддыяканы, 1911 псаломшчыкаў, прычэтнікаў, пеўчых і званароў. З 2-й палавіны 16 ст. на Беларусі разгарнула дзейнасць і стварыла свае абшчыны пратэстанцкае Д. — кальвіністы, лютэране, *антытрынітарыі*. Мячэці мусульм. абшчын, якія таксама існавалі на Беларусі,

абслугоўваліся *муламі* (*імамамі*) і муэдзінамі (памочнікамі).

Рэліг. жыццё і дзейнасць Д. на Беларусі сталі актыўна адраджацца ў 1990-я г. На 1.1.2001 зарэгістравана 26 рэліг. канфесій, 2663 рэліг. абшчыны. *Беларуская праваслаўная царква* (БПЦ) аб'ядноўвае 1172 абшчыны. Дзейнічаюць 978 і будуецца 135 правасл. цэркваў. У благачынных акругах служыць 1021 святар. Дзесяць правасл. епархій узначальваюць 2 архіепіскапы і 8 епіскапаў, кіраўніком БПЦ з'яўляецца Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі *Філарэт*. Вышэйшую іерархію рымска-каталіцкай царквы (аб'ядноўвае 417 абшчын) з 1994 узначальвае арцыбіскуп, мітрапаліт мінска-магілёўскі *кардынал* Казімір *Свёнтак*. У 1999 Ватыканам створана Канферэнцыя біскупаў на Беларусі (5 епіскапаў). Дзейнічаюць 342 і будуюцца 36 касцёлаў, у якіх служаць 274 ксяндзы. У дэканат Бел. грэка-каталіцкай царквы уваходзіць 13 абшчын. Розныя катэгорыі Д. абслугоўваюць 470 абшчын Саюза хрысціян веры евангельскай (прэзідэнт Ф.К.Марчук), 268 — Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў (прэзідэнт А.І.Фірысюк), 58 — хрысціян поўнага Евангелля, 48 — адвентыстаў сёмага дня, 26 — сведкаў Іеговы, 34 — стараабрадцаў; 24 — мусульм. абшчыны, 22 іўдзейскія абшчыны і інш. Падрыхтоўкай Д. на Беларусі займаюцца *духоўныя навучальныя ўстановы*. *Т.І.Адула.*

ДУХО́ЎНА-РЫЦАРСКІЯ О́РДЭНЫ — ваенна-рэлігійныя аб'яднанні, арганізаваныя на ўзор каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Узніклі ў час крыжовых паходаў як брацтвы для дапамогі паломнікам у Палесціне, з 12 ст. — ваенныя арганізацыі для аховы і пашырэння хрысц. уладанняў на Усходзе, барацьбы з мусульманамі і язычнікамі. З канца 11 ст. да 1300 заснавана 12 такіх ордэнаў: Ордэн канонікаў шпіталя св. Яна Іерусалімскага (шпітальеры, прыблізна з 1070); Ордэн бедных рыцараў Хрыста і Саламонава храма (тампліеры, з 1116 ці 1119); Авіскі ордэн (з 1162 ці 1166); Ордэн св. Міхаіла (з 1167); ордэн мечаносцаў (з 1202); Ордэн прускіх рыцараў Хрыстовых з Добжыні (з пач.13 ст.) і інш. Іх члены давалі зарокі ўстрымання, паслушэнства, беднасці, падзяляліся на братоў-воінаў, капеланаў (святароў) і братоў-служыцеляў. Ордэн узначальваў вялікі магістр (выбіраўся пажыццёва), якому падпарадкоўваліся камандзіры мясцовых аддзелаў (правінцый і бальяжаў) — магістры (прыёры), прэцэптары, камандоры, канэтабль (ваенны саветнік караля) і інш. і пры якім перыядычна склікаўся генеральны капітул (савет), што валодаў заканадаўчай уладай. Ордэны былі незалежныя ад мясцовых свецкіх і духоўных улад і падпарадкоўваліся непасрэдна рымскаму папу, які даваў ім значныя прывілеі. Найб. магутнымі былі т.зв. «інтэрнацыянальныя» ордэны (шпітальеры, тампліеры, Тэўтонскі ордэн), якія мелі аддзелы ва ўсіх краінах Зах. Еўропы, уласныя арміі, вялікія зямельныя ўладанні і грашовыя сродкі. Пасля страты ў 13 ст. уладанняў на Усходзе ордэны перанеслі дзейнасць на Зах. Еўропу, дзе яны сталі адной з вядучых ваенных і палітычных сіл. З умацаваннем каралеўскай улады б.ч. ордэнаў перастала існаваць.

*Літ.:* Печников Б.А. «Рыцари церкви»: Кто они? М., 1991. *Дз.М.Чаркасаў.*

ДУХО́ЎНЫЯ НАВУЧА́ЛЬНЫЯ ЎСТАНО́ВЫ. Рыхтуюць служыцеляў культу і даюць тэалагічную адукацыю. Першыя вядомыя Д.н.ў. існавалі пры храмах Стараж. Егіпта і Стараж. Вавілона (2-е тыс. да н.э.) для падрыхтоўкі жрацоў (гл. *Жрэцтва*). Сучасныя Д.н.ў. падзяляюцца на вышэйшыя — тэалагічныя ун-ты і ін-ты, адпаведныя ф-ты пры свецкіх ун-тах, акадэміі; сярэднія — семінарыі, каледжы і ліцэі (хрысц.), медрэсэ (мусульм., бываюць таксама вышэйшымі), вышэйшыя тэалагічныя і каранічныя школы, *ешыбот* (іудаісцкія); ніжэйшыя — біблейскія, катэхізічныя, каранічныя, манастырскія і інш. школы. Найб. колькасць розных Д.н.ў. маюць сусв. рэлігіі — будызм, іслам, хрысціянства. На Беларусі першыя Д.н.ў. ўзніклі ў канцы 16 — пач. 17 ст. (гл. *Езуіцкія навучальныя ўстановы*, *Кальвінісцкія школы*). Былі закрытага ці паўзакрытага тыпу. Адукацыя мела пераважна гуманітарны характар. У наш час правасл. святароў рыхтуюць *Мінская духоўная акадэмія*, *Мінская вышэйшая духоўная семінарыя* (в. Жыровічы Слонімскага р-на), каталіцкіх святароў — *Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя*. У Мінску працуюць Біблейскі ін-т і Біблейская школа Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў, Тэалагічны ін-т і Біблейскі каледж («Хрыстос для народаў») Саюза хрысціян веры евангельскай, Вышэйшы завочны іудзейскі рэліг. ешыбот, Вышэйшы духоўны каледж «Эйш Хаторы» («Агонь Торы») іудзейскага рэліг. аб'яднання. Святароў рыхтуе таксама багаслоўскі ф-т Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.

ДУША́ — паняцце, якое адлюстроўвае гістарычна зменлівыя погляды на псіхіку чалавека і жывёл; у рэлігіі, ідэалістычнай філасофіі і псіхалогіі — паняцце пра асаблівую нематэрыяльную субстанцыю, незалежную ад цела. Узыходзіць да стараж. уяўленняў пра асаблівую сілу, што знахо-

дзіцца ў целе чалавека і жывёлы (часам раслін) і пакідае яго ў час сну або смерці (вучэнне пра перасяленне душ — метэмпсіхоз). Ідэі ўсеагульнай адушаўлёнасці космасу (гілазаізм, панпсіхізм) сталі асновай вучэння пра сусв. душу (Платон, неаплатанізм). У Арыстоцеля Д. — актыўны мэтазгодны пачатак («форма») жывога цела, неаддзельны ад яго. У тэістычных рэлігіях Д. чалавека — створаны Богам, непаўторны бессмяротны пачатак. У пантэістычным авераізме Д. — толькі індывідуальнае праяўленне адзінай духоўнай субстанцыі (монапсіхізм). У дуалістычных вучэннях Д. разумеецца як нешта спрадвечнае і існуючае поруч з целам (Р.Дэкарт, Г.Спенсер, В.Вунт, У.Джэмс). У новаеўрап. літаратуры тэрмін «Д.» выкарыстоўваецца пераважна для абазначэння ўнутранага свету чалавека.

*В.В.Краснова.*

ДЫСІДЭ́НТЫ (ад лац. dissidens нязгодны, супярэчлівы) — вернікі-хрысціяне, якія не прытрымліваліся пануючага веравызнання, пераважна ў краінах, дзе дзярж. ці пануючай рэлігіяй з'яўляецца *каталіцызм* або *пратэстантызм*. У сярэдневяковых краінах Заходняй Еўропы каталіцкая царква праследавала Д., лічыла іх «адступнікамі» ад веры, ератыкамі. У 16—17 ст. грамадзянскія правы Д. парушаліся ў сувязі з рэліг. Рэфармацыяй (напр., гугенотаў у Францыі, анабаптыстаў, квакераў, кальвіністаў, лютэран і інш., а з 1596 і праваслаўных у Рэчы Паспалітай. Улады Рэчы Паспалітай у 1616 пазбавілі правасл. доступу на сеймы, у 1718 забаранілі дысідэнцкай шляхце займаць пасады ў трыбуналах, камісіях, мясцовых урадах; асабліва варожыя дзеянні да Д. праяўлялі *езуіты* (у 17 — 1-й пал. 18 ст. ў праваслаўных адабрана каля 200 цэркваў). Д. часта баранілі свае правы з дапамогай знешніх сіл. У 1767 пад патранажам Прусіі і Расіі ўтвораны Тарунская (пратэстанцкая) і Слуцкая (правасл.) канфедэрацыі. У 1768 сейм ураўнаваў у правах Д. з католікамі, аднак гэта праблема ў Рэчы Паспалітай не была поўнасцю вырашана, што давала падставы Расіі для ўмяшання ў справы Рэчы Паспалітай.

*Я.К.Анішчанка.*

ДЫЯ́КАН (грэч. diakonos служка) — свяшчэнны служка ніжэйшай (першай) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі. У яго абавязкі ўваходзіць дапамога епіскапам і прэсвітарам пры адпраўленні імі *таінстваў*, *абрадаў* і набажэнстваў, але самастойна ён не выконвае ні аднаго з іх. Непасрэдна знаходзіцца ў падпарадкаванні настаяцеля храма, да якога ён прызначаны, і выконвае яго распараджэнні. Упершыню ў хрысц. літаратуры Д. упамінаецца ў пасланнях апостала *Паўла*. Яны загадвалі арганізацыйна-гаспадарчымі справамі хрысц. абшчын. У першапачатковы перыяд пашырэння хрысціянства на Русі Д. былі не ў кожным храме. Колькасць іх павялічвалася з павелічэннем колькасці духавенства. Да 19 ст. быў устаноўлены парадак, паводле якога ў прыходзе ўводзілася штатная адзінка Д., калі там налічвалася больш за 700 прыхаджан. На Д., як правіла, ускладаўся абавязак выкладання ў царк.-прыходскай школе. У Д. рукапакладаюць толькі іпадыякана (прамежкавая ступень паміж чытальнікам і Д.), таму дыяканскаму рукапакладанню можа папярэднічаць пасвячэнне ў іпадыяканы. Д., які прыняў манаства, называецца *ерадыяканам*. Старшы Д. у белым духавенстве называецца *протадыяканам* (першым Д.), а ў манастве — архідыяканам (старшым Д.).

ДЫЯНІ́СІЙ Балабан (?, Падляшша — 1663) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Адстойваў праваслаўе ад уціску уніятаў. Епіскап холмскі, луцкі. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (ліст. 1657—63). У жн. 1661 па рэкамендацыі канстанцінопальскага патрыярхата і гетмана Украіны І.Выгоўскага прызначыў епіскапам магілёўскім і мсціслаўскім Іосіфа *Нелюбовіча-Тукальскага*, аднак з мая 1661 кафедра была занята епіскапам Мяфодзіем, прызначаным маскоўскім патрыярхатам. Канфліктная сітуацыя прымусіла Д. адысці ад царк. і паліт. спраў. Апошні час жыў у Чыгірыне (Украіна), застаючыся мітрапалітам намінальна.

*Літ.:* Карташев А.В. Очерки по истории русской церкви. М., 1991; Т. 2. С. 294—295; Яскевіч А.А. Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI—XVII ст.: Адзінства экзэгезы і герменеўтыкі. Мн., 1996. С. 103—108.

*А.А.Яскевіч.*

ДЫЯНІ́СІЙ ПО́ЛАЦКІ (?—1182 або 1183) — беларускі святы, епіскап полацкі, манах Кіева-Пячэрскай Лаўры. Верагодна, выхоўваўся ў Кіева-Пячорскім манастыры. У сан епіскапа полацкага пасвечаны ў 1166. Менавіта з благаславення Дыянісія накіравалася з паломніцтвам у Святую зямлю *Ефрасіння Полацкая*. Мяркуюць, што і наведванне ёю Канстанцінопаля было звязана з нейкім даручэннем епіскапа. Не без падстаў лічаць, што праслаўленне знакамітай асветніцы адбылося па ініцыятыве Дыянісія. Пісьмовыя крыніцы і нар. паданні не данеслі да нашага часу звестак пра духоўныя справы святога. Невядома таксама, дзе захоўваюцца яго мошчы. Дзень памяці 10 ліпеня.

ДЫЯЦЭ́ЗІЯ, дыяцэз (лац. diocesis) — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў каталіцкай царкве. Адпавядае *епархіі*.

ДЭІ́ЗМ (ад лац. deus Бог) — рэлігійна-філасофскае вучэнне, паводле якога Бог з'ўляецца толькі першастваральнікам свету, які ў далейшым развіваецца па сваіх уласных законах. Д. адрозніваюць ад *тэізму* (прызнае боскую наканаванасць і пастаянную сувязь чалавека і Бога), *пантэізму* (атаясамлівае Бога і сусветнае цэлае) і *атэізму* (адмаўляе існаванне Бога наогул). Пачынальнік Д. англ. філосаф 17 ст. Э.Чэрберы, які развіваў ідэі натуральнай рэлігіі, або рэлігіі розуму. Найб. росквіту Д. дасягнуў у Вялікабрытаніі ў 1-й палавіне 18 ст. (Дж.Толанд, Дж.А.Колінз, А.Шэфтсберы і інш.). Ідэі Д. праводзілі Вальтэр, Ж.Ж.Русо (Францыя), Г.Лейбніц, Г.Лесінг, І.Кант (Германія), Т.Джэферсан (ЗША), І.П.Пнін, А.С.Лубкін, А.М.Радзішчаў (Расія). На Беларусі элементы Д. характэрны для светапогляду філосафа і паэта 17 ст. Я.Белабоцкага, прадстаўніка ранняга асветніцтва К.Нарбута. На пазіцыях Д. стаялі бел. асветнік І.Страйноўскі, прафесар Гал. школы ВКЛ К.Багуслаўскі і інш. Д. садзейнічаў развіццю вальнадумства, з'ўляўся формай барацьбы з тэалогіяй. *Т.І.Адула.*

ДЭІСУ́С, дэісіс (ад грэч. маленне), дэісусны чын — абраз з выявай Ісуса Хрыста ў архірэйскім адзенні з Багародзіцай справа ад яго і *Іаанам Хрысціцелем* злева. Ён размяшчаецца над абразом «Тайная вячэра» у 3-м ярусе іканастаса. Д. называюць таксама 3 асобныя абразы або ўвесь шмат'ярусны іканастас.

ДЭКА́Н (ад лац. decanus дзесятнік, першапачаткова — начальнік 10 салдат) — у каталіцкай і англіканскай цэрквах — старэйшы святар, які наглядае за групай прыходаў.

ДЭМАНАЛО́ГІЯ (ад грэч. daimon дух, бажаство + logos слова, вучэнне) — сукупнасць міфічных уяўленняў, заснаваных на старажытнай веры ў духаў, аб зносінах духаў і дэманаў з людзьмі. Зародкі Д. ёсць амаль ва ўсіх народаў зямлі, асабліва развіццё яна атрымала ў халдзеяў. Паводле іх уяўлення дэманы — духі, якія з'ўляюцца прычынай усіх прыродных з'яў. Ёсць добрыя і злыя дэманы, паміж імі ідзе адвечная барацьба, змагацца з імі можна *магіяй*. У аснову сярэдневяковай еўрап. магіі лягло стараж. яўрэйскае містычнае вучэнне — *кабала*, якая моцна паўплывала на хрысц. светапогляд. У бел. Д. найб. раннімі па паходжанні з'ўляюцца ўяўленні аб духах прыроды — лесу, вады, што ўзніклі ў той час, калі асн. заняткам людзей было паляўніцтва, рыбалоўства і збіральніцтва. Духа лесу называлі *лесуном*, лесавіком, лешуком, пушчавіком, дабрахотам; духа вады — *вадзянікам*. Абодвух уяўлялі ў выглядзе старых дзядоў. Паводле павер'яў, у лесуна былі вялікія вочы, белы, як бяроста, твар, белая вопратка, у вадзяніка — доўгія валасы на клінападобнай галаве, расплывісты твар. Лічылі, што лясун можа перакінуцца ў ваўка, мядзведзя, што ён гаспадар у лесе, паказвае людзям грыбныя і ягадныя мясціны і інш.; вадзянік псаваў рыбалоўныя прылады, губіў у вадзе людзей і жывёл. У багне, лазняку жылі багнік, лазнік. Стараж. дэманалагічнымі ўяўленнямі з'ўляюцца духі хвароб: цётухна (увасабленне ліхаманкі), крыкса, начніца (увасабленне дзіцячых хвароб), маровая панна (эпідэмія, мор). Пазней узнік вобраз хатняга духа — *дамавіка* (гаспадара, хатніка), якога ўяўлялі дзедам з сівой барадой, доўгімі валасамі, у белай вопратцы. Дамавік клапаціўся аб гаспадарцы. У хляве, ёўні жылі хлеўнік, ёўнік. Пашырана было ўяўленне аб злым духу — чорце (істоце з рагамі, казлінай барадой, хвастом і капытамі), які можа жыць у балоце, рэчцы і інш. месцах. У канцы 19 — пач. 20 ст. многія дэманалагічныя вобразы, найперш духі прыроды, хвароб, хатнія духі, страцілі рэліг. рысы і засталіся ў фальклоры як персанажы чарадзейных казак.



**Дыянісій Полацкі.**

*Літ.:* Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этногр. очерк. Гродно, 1895; Ор-

лов М.А. История сношений человека с дьяволом: Репринт. изд. М., 1992. *М.Ф.Піліпенка, А.А.Шымбалёў.*

ДЭНАМІНА́ЦЫЯ (ад лац. denaminatio наданне спец. імя), рэлігійнае аб'яднанне, якое знаходзіцца ў стадыі станаўлення і арганізацыйнага афармлення.

Д'Я́БАЛ (ад грэч. diabolos літаральна — паклёпнік) — у рэлігійным уяўленні нячысты дух, князь цемры, увасабленне злога пачатку на зямлі. Д. — вобраз сінтэтычны, сфарміраваўся ў старажытнасці, мае сацыяльныя і гнасеалагічныя карані. Яго гіст. крыніцай з'яўляюцца стараж.-ўсходнія рэлігіі. Уяўленні славян аб Д. звязаны з міфалагічнымі канцэпцыямі аб чорце, злых духах, ведзьмаках. Уяўляецца ў выглядзе змея, дракона, страшэннай істоты, укрытай доўгай поўсцю, з рагамі і капытамі. У зямным жыцці ён натхняльнік усіх нячыстых сіл, у замагільным — валадар *пекла*. У хрысціянстве ён — Вельзевул, Люцыпар, анёл зла, які з-за пыхі і зайздрасці нібыта выгнаны Богам з неба. Менавіта ён у вобразе змея-спакусніка з'явіўся першапрычынай грэхападзення Адама і Евы. Аналагічныя вобразы ёсць у інш. міфалогіях (у мусульманскай — шайтан, будысцкай — мара). Вобраз Д. выкарыстоўваецца ў фальклоры, нар. і прафесійнай выяўленчай творчасці.

*Т.І.Адула*



ЕВА (стараж.-яўрэйскае Хава — крыніца жыцця) — паводле *Бібліі* і *Карана*, жонка *Адама*, створаная Богам з адамавага рабра; першая жанчына на свеце і прамаці ўсіх людзей. Паводле падання, Е. першая парушыла боскае прадпісанне: паспытала ў Эдэме (раі) сама і ўгаварыла Адама паспытаць «забаронены плод з дрэва пазнання дабра і зла». За гэта яны былі пазбаўлены бессмяротнасці і выгнаны з раю. У хрысціянстве гэта паданне тлумачыцца як грэхападзенне або першародны *грэх*.

ЕВАНГЕЛІСТЫ — паводле царкоўнай традыцыі, аўтары жыццяпісанняў Ісуса Хрыста — *евангелляў*. Аўтарамі кананічных евангелляў лічацца *Матфей*, *Марк*, *Лука*, *Іаан*.

ЕВАНГЕЛЛЕ (ад грэч. euaggelion добрая вестка) — агульная назва першых чатырох кніг *Новага Запавету* пра зямное жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста (усе разам называюцца Чацвераевангелле). Паводле царк. традыцыі, напісана вучнямі Хрыста і іх паслядоўнікамі ў 2-й палавіне 1 ст. Прадстаўнікі рацыяналісцкай крытыкі Бібліі і хрысціянства — матэрыялістычнага (французскія філасафы-асветнікі 2-й палавіны 18 ст.) і ідэалістычнага (Б.Баўэр, Д.Штраус; 19 ст.) кірункаў — адмаўлялі рэальна-гіст. змест Е., бачылі ў ім міфы і легенды 2—4 ст. Яны ацэньвалі міфалогію і рэлігію па-рознаму: матэрыялісты-асветнікі схіляліся да атэізму, некаторыя з іх прызнавалі толькі сацыяльна-рэгулятыўную ролю евангельскага вучэння; паслядоўнікі ідэалістычнай плыні «міфалагічнай школы» ў рэлігіязнаўстве адзначалі яго духоўна-этычную каштоўнасць. У савецкі час ад папярэдняй традыцыі бралася толькі адмаўленне гістарычнасці евангельскіх падзей і аднабаковая крытыка евангельскіх маральных установак, у выніку чаго т.зв. навуковы атэізм у 1920—30-я гады набыў вульгарна-сацыялагічны кірунак. У сучасным еўрап. рэлігіязнаўстве заўважаецца тэндэнцыя да сінтэзу гіст. (багаслоўскай) і крытычна-міфалагічнай інтэрпрытацый Е., спалучэння экзегетыкі і філасофскай герменеўтыкі. У полі зроку гэтай філасофіі евангельская гісторыя бачыцца як тоеснасць рэальнасці і міфа. На думку М.Бярдзяева, міф не ёсць адмаўленне рэальнасці, наадварот, ён сведчыць пра найглыбейшае быццё, якое раскрываецца ў Бібліі як падзеі, што выходзяць за межы гісторыі ў надчасовую, вечную рэальнасць. Тры першыя Е. (ад *Матфея*, ад *Марка*, ад *Лукі*) у біблеістыцы названы сінаптычнымі (грэч. synopticoc зводныя; падзеі, якія можна аглядаць разам), таму што яны блізкія паміж сабою кампазіцыяй і зместам. Ад сінаптычных Е., у якіх апавядаецца пераважна пра зямное жыццё Хрыста і цуды, учыненыя ім у Галілеі, адрозніваецца Е. ад *Іаана Багаслова*, дзе гутарка ідзе пра духоўны сэнс Хрыста-богачалавека, увага акцэнтуецца на боскай прыродзе Хрыста і на цудах, створаных ім у Іудзеі. Рукапісы-першакрыніцы Чацвераевангелля напісаны стараж.-грэч. мовай александрыйскай рэдакцыі, вядомай адукаваным людзям Рымскай імперыі і суседніх дзяржаў. Некаторыя даследчыкі лічаць, што першае Е. ад Матфея напісана ў арыгінале на арамейскай мове. Усе 4 Е., узаемадапаўняльныя паводле зместу, адзіныя паводле хрысталагічнай канцэпцыі, прызнаны хрысц. царквою кананічнымі ў адрозненне ад некананічных, вольных інтэрпрытацый евангельскага зместу (Е. ад Пятра, ад Андрэя, ад Філіпа і інш.; гл. *Апокрыфы*). Кананічныя Е. складаюць асн. крыніцу і крытэрый хрысціянскай веры, таінстваў і догматаў, сімвалічна выяўленых у літургіі і царк. мастацтве. Пропаведзь Е., пераўтварэнне асабістага і грамадскага жыцця паводле Хрыстова закону свабоды — асн. прызначэнне хрысц. царквы.

На Беларусі Е. бытуюць з 10 ст. Найстарэйшае з рукапісных *Тураўскае евангелле* (11 ст.). Вядомы таксама рукапісныя Е.: *Полацкія евангеллі* (12—14 ст.), *Аршанскае евангелле* (13 ст.), *Друцкае евангел-*

*ле, Лаўрышаўскае евангелле, Мсціжскае евангелле* (14 ст.), Жыровіцкае евангелле (15 ст.), Шарашоўскае *евангелле* (15 — сярэдзіна 16 ст.) і інш. Евангельскія сюжэты, вобразы, сімвалы, прытчы шырока выкарыстоўвалі ў літ. і асветніцкай дзейнасці *Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч, Ф.Скарына*, В.*Цяпінскі* (выдавец першага друкаванага Е. на старабел. мове), браты Л.*Зізаній* і С.*Зізаній*, М.*Сматрыцкі*, А.Філіповіч, *Сімяон Полацкі*, пісьменнікі і асветнікі лацінска-каталіцкай традыцыі (Мікола *Гусоўскі*, М.К.*Сарбеўскі* і інш.). С.*Будны* выдаў на польскай мове «Новы Запавет» у арыянскай рэдакцыі (Лоск, 1574) са сваімі каментарыямі, у якіх крытыкаваў кананічныя Е. з пазіцый арыянскага антытрынітарызму (гл. *Антытрынітарыі*). Асн. сюжэт Е. — хаджэнне Ісуса Хрыста з апосталамі па землях Іудзеі і Галілеі і пропаведзь Царства Божага — фальклярызаваўся ў бел. легендах, наблізіўшыся, у адпаведнасці з фальклорнай паэтыкай, да штодзённага сялянскага побыту і народных уяўленняў пра дабро і справядлівасць. Паводле народных легенд, Бог са сваімі вучнямі, звычайна з апосталамі Пятром, Паўлам і прарокам Іллёю, святымі Юрыем і Міколам вандраваў па нашым краі ад Вялікадня да Ушэсця. Святыя вандроўнікі прымалі выгляд жабракоў, выпрабоўваючы людскую дабрачыннасць, узнагароджвалі добрых і спагадлівых, каралі бессардэчных і скупых. Таленавітую стылізацыю на гэту тэму стварыў М.Багдановіч пад назвай «Апокрыф: Ад Максіма кніжніка пачатак...», у якой Хрыстос бласлаўляе прыгажосць бел. краю, песні яго народа. У народных чарадзейных казках фальклярызаваліся і набылі прыкметы народнай паэтычнай фантазіі евангельскія сюжэты *ўваскрэсення* і сімвалічны вобраз гэтага цуду — жывой вады. У бел. літаратуры і публіцыстыцы адбыўся сінтэз евангельскіх і народна-паэтычных уяўленняў пра ўваскрэсенне, своеасаблівая кантамінацыя багаслоўскіх і фальклорных ідэй-вобразаў, і на гэтай аснове сфарміравалася ідэя бел. нац. адраджэння, сімваламі якога служылі адначасова народнае свята *Купалле* і хрысц. *Вялікдзень*. Пазней у асяроддзі літ.-маст. аб'яднання «Узвышша» (1926—31) узнікла ідэя «аквітызму» (лац. aqua vita жывая вада) як жыватворнай плыні ў бел. літаратуры. Бальшавіцкі атэізм як афіц. ідэалогія ў СССР арыентаваў навуку і літаратуру на сатырычнае выкрыццё Е. (паэма К.Крапівы «Біблія»). У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Евангелле ад Іуды» (1966) У.Караткевіч пераасэнсаваў традыцыю народнай карнавальнай культуры і гратэскавага амбівалентнага смеху, стварыў арыгінальны твор у стылі маст. «апокрыфа» на евангельскі сюжэт.

*Літ.:* Конан У. Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору. Мн., 1989; Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 114—133.

*У.М.Конан.*

«ЕВА́НГЕЛЛЕ ВУЧЫ́ЦЕЛЬНАЕ» — помнік старажытнабеларускага кнігадрукавання, першае на Беларусі друкаванае евангелле. Выдадзена І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам* у 1569 у Заблудаве на царк.-слав. мове. Уключае таксама творы візант., балгарскай і стараж.-рус. пісьменнасці, у т.л. «Слова на ўшэсце Кірылы Тураўскага». Мае прадмову, напісаную гетманам ВКЛ Р.Хадкевічам. Вядома больш за 40 экзэмпляраў; неаднаразова перавыдавалася.

ЕВА́НГЕЛЬСКІЯ ХРЫСЦІЯ́НЕ — паслядоўнікі адной з плыней *пратэстантызму*, падобнай да баптызму (гл. *Баптысты*). Найб. распаўсюджаны ў ЗША. У Расіі з'явіліся ў 1870-я г. ў арыстакратычным асяроддзі Пецярбурга. Першапачатковая назва — рэдстакісты або пашкоўцы (ад імён актыўных прапаведнікаў лорда Рэдстака і палкоўніка В.А.Пашкова). З сярэдзіны 1890-х г. называюцца Е.х. У 1909 засн. Усерас. Саюз Е.х. на чале з І.С.Пражанавым і адбыўся іх 1-ы з'езд у Пецярбургу. У аснову веравучэння, распрацаванага Праханавым, пакладзены агульнапратэстанцкія догматы: вучэнне аб спрадвечнай грахоўнасці чалавека і выратавальнай місіі Ісуса Хрыста; догмат аб другім прышэсці Хрыста і магчымасці выратавання толькі асабістай верай у выратавальную ахвяру Хрыста. Іх абраднасць і царк. арганізацыя яшчэ больш спрошчаныя, чым у баптыстаў. У 1930-я г. многія кіраўнікі Саюза Е.х. і вернікі былі рэпрэсіраваны; дзейнасць Саюза фактычна спынілася, адноўлена толькі ў 1942. У 1944 Е.х. аб'ядналіся з баптыстамі ў царкву *Евангельскіх хрысціян-баптыстаў* (Саюз ЕХБ). На Беларусі першыя паслядоўнікі Е.х. (пашкоўцы) з'явіліся ў 1870—90-я г. на Гомельшчыне. У 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі замежныя місіі засн. шэраг абшчын Е.х., пераважна ў Палескім ваяв. Цяпер большасць Е.х. уваходзіць у Саюз ЕХБ Беларусі. Адна абшчына Е.х. зарэгістравана аўтаномна (1997).

*А.У.Верашчагіна.*

ЕВА́НГЕЛЬСКІЯ ХРЫСЦІЯ́НЕ-БАПТЫ́СТЫ, Саюз ЕХБ — царква, якая ўзнікла на тэрыторыі СССР у 1944 у выніку зліцця пратэстанцкіх плыней — *баптыстаў* і *евангельскіх хрысціян*. Кіруючым органам царквы ЕХБ да 1991 быў Усесаюзны савет ЕХБ. У 1945—47 да Саюза ЕХБ далучылася частка *пяцідзесятнікаў*, у 1963 — «брацкія менаніты». Царк. арганізацыя, парадак набажэнства, абраднасць і царк. дысцыпліна ЕХБ грунтуюцца на прынцыпах баптыстаў, веравучэн-

не — на палажэнні евангельскіх хрысціян. Пяцідзесятнікі адмовіліся ад гласалалій (гаварэння на «іншамовах»). У 1960-я г. з Саюза выйшла найб. кансерватыўная частка вернікаў і стварыла Савет цэркваў ЕХБ. Некаторыя з іх па-ранейшаму адмоўна ставяцца да рэгістрацыі. У 1947 з Саюза выйшла частка пяцідзесятнікаў, у 1980-я г. выхад пяцідзесятніцкіх суполак набыў масавы характар. Існуе Саюз ЕХБ Беларусі, які ўваходзіць у Сусв. саюз баптыстаў. *А.У.Верашчагіна.*

ЕЗДРА (сярэдзіна 5 ст. да н.э.) — аўтар аднайменнай кнігі Старога Запавету і кадыфікатар *Пяцікніжжа.* Каля 444 да н.э. перасяліўся ў Іерусалім, дзе разам з Неяміяй разгарнуў дзейнасць па рэстаўрацыі культа Яхве і ўзнаўленні дзеяння забарон і прадпісанняў, змешчаных у вядомых да таго часу старазапаветных кнігах. На шырокім народным зборы абвясціў Пяцікніжжа. Яму прыпісваюць яшчэ 2 кнігі, якія не ўвайшлі ў канон (2 і 3 кн. Ездры).



**«Евангелле вучыцельнае»** Каліста. Еўе. 1616.

ЕЗУЇТЫ (ад лац. Jesus Ісус) — члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства Ісуса, створанага ў 1534 іспанскім дваранінам Ігнаціем Лаёлам для барацьбы супраць Рэфармацыі і ўмацавання каталіцызму. Ордэн зацверджаны 27.9.1540 папам Паўлам III. Ён будаваўся на аснове строгай цэнтралізацыі, ваеннай дысцыпліны і абсалютнай волі яе кіраўніка — генерала («чорнага папы»), які выбіраўся пажыццёва і падначальваўся толькі папу рымскаму. Распрацаваная Е. сістэма маралі дазваляла ім шырока тлумачыць асн. рэліг.-духоўныя патрабаванні, адступаць ад клятвы, праяўляць неразборлівасць у сродках у паліт. барацьбе дзеля «большай славы гасподняй», што адлюстравалася ў дэвізе, які прыпісваюць Е. — «Мэта апраўдвае сродкі». Усё гэта дазволіла ператварыць ордэн у моцную ўплывовую арганізацыю, якая распаўсюдзілася па Еўропе, пранікла ў многія краіны Афрыкі, Азіі і Паўднёвай Амерыкі, назапасіла вял. багацці і стварыла лепшую на той час сістэму адукацыі. У 1555 Е. з'явіліся ў Польшчы, у 1564 адкрылі калегіум у Брунсбергу (Браневе). У 1569 пачалі дзейнасць і ў ВКЛ. У 1608 створана асобная Літоўская правінцыя ордэна, куды ўвайшла ўся тэр. Беларусі, Літвы, Мазовіі, Латвіі. У 1759 з Літоўскай правінцыі вылучылася Мазавецкая правінцыя, у якую ўвайшла таксама частка зямель Беларусі. У 1770-я г. ў гэтых 2 правінцыях толькі на тэр. ВКЛ было каля 90 езуіцкіх устаноў. Каб задушыць рэфармацыйны рух у ВКЛ, які дасягнуў тут небяспечных для каталіцкай царквы памераў, Е. выкарыстоўвалі розныя формы апрацоўкі масавай свядомасці, у т.л. і праз свае ўстановы, рэзідэнцыі і місіі, што вялі прапаведніцкую дзейнасць. Важнае значэнне надавалася дабрачыннай дзейнасці (арганізацыя прытулкаў і шпіталяў). Бел. мова выкарыстоўвалася Е. толькі для выкладання ў малодшых класах калегіумаў, пакуль вучні не засвойвалі латынь, на якой працягвалася далейшае навучанне. Літаратуру Е. выдавалі на лац. і польскай мовах. У пач. 1770-х г. Е. належала ў ВКЛ больш за 12 тыс. валок зямлі (каля 250 тыс. га), больш за 11 тыс. валок лесу; іх ліхвярскі капітал складаў 1119,9 тыс. руб. серабром. У 18 ст. за карыстанне ў Е. надзелам сяляне адпрацоўвалі ад 6 да 12 дзён у тыдзень з дыма, выконвалі згоны, талокі і інш. павіннасці. Ва ўладаннях Е. нярэдка адбываліся антыфеад. выступленні. Пад уплывам ідэй Асветніцтва і ў выніку дзейнасці іх ордэна стаўленне да Е. з боку грамадства і дзярж. улад пагоршылася, у 1773 булай папы Клімента XIV ордэн скасаваны. Маёмасць езуіцкіх устаноў у ВКЛ перайшла да Адукацыйнай камісіі, на базе калегіумаў ствараліся свецкія школы. Ва ўсходняй Беларусі, далучанай да Рас. імперыі, Кацярына II насуперак папскай буле захавала ордэн. У 1780 пад апякунствам графа З.Чарнышова і кн. Р.Пацёмкіна Е. заснавалі ў Полацку *навіцыят*, у 1782 дамагліся права выбіраць генеральнага вікарыя (в.а. генерала ордэна). Езуіт Г.*Грубер* пры пасрэдніцтве імператара Паўла I у 1801 атрымаў фармальны дазвол папы Пія VII на прызнанне ордэна ў межах Рас. імперыі. Агульная колькасць Е. тут дасягнула 350. Свае школы яны вызвалілі ад урадавага кантролю і падначалілі іх Полацкаму калегіуму (з 1812 *Полацкая езуіцкая акадэмія*). На Беларусі вакол Полацка

была створана своеасаблівая навучальная акруга, куды ўваходзілі калегіумы Віцебска, Дынабурга (Даўгаўпілса), Магілёва, Оршы і інш. У 1820 Е. былі выгнаны з Рас. імперыі, Полацкая акадэмія і калегіумы закрыты. У 1814 ордэн адноўлены папам Піем VII ва ўсім свеце. У 1920—30-я г. Е. праяўлялі пэўную актыўнасць у Заходняй Беларусі, была створана *Альбярцінская каталіцка-езуіцкая група*. Цяпер Е. — адзін з найбуйнейшых і ўплывовых каталіцкіх ордэнаў.

*Літ.:* Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; Блинова Т.Б. Езуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Цярохін С.Ф. Многія прыйдуць пад імем маім (езуіты на Беларусі). Мн., 1995.

*Дз.У.Караў.*

ЕЗУІЦКІЯ КАЛЕГІУМЫ, гл. ў арт. *Калегіумы.*

ЕЗУІЦКІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ — навучальныя ўстановы, якія засноўваліся езуітамі на Беларусі, Украіне і Літве. Існавалі з 2-й палавіны 16 ст. да пач. 19 ст. Былі пачатковыя, сярэднія (езуіцкія *калегіумы*) і вышэйшыя (Віленская акадэмія, *Полацкая езуіцкая акадэмія*) школы. Першая Е.н.ў. — езуіцкі калегіум у Вільні (1570). Потым яны з'явіліся ў інш. гарадах Беларусі і была створана шырокая сетка такіх устаноў. Найчасцей яны размяшчаліся ў прыгожых светлых будынках (захаваліся ў Пінску, часткова ў Полацку), дзе падтрымліваўся ўзорны парадак. У 1870-я г. Е.н.ў. перададзены Адукацыйнай камісіі. Існавалі на Беларусі да 1820.

*В.Ф.Шалькевіч.*



Помнік прападобнаму **Елісею Лаўрышаўскаму** ў в. Лаўрышава Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. 1996.

ЕКЦЕННЯ — від малітвеных просьбаў, якія ўваходзяць у праваслаўнае богаслужэнне. Гал. віды Е. — вялікая, прасіцельная, асаблівая і малая. Існуюць таксама спец. Е. для адпраўлення таінстваў, Е. абвешчаных і памерлых.

ЕЛІСЕЙ ЛАЎРЫШАЎСКІ (?—5.11.1250) — беларускі святы, паводле царкоўнай версіі, заснавальнік Лаўрышаўскага манастыра. Згодна з жыццяпісам у пераказе А.*Каяловіча*, быў сынам князя Траняты, займаў высокую пасаду пры двары вялікага кн. Міндоўга. Але пакінуў прыдворную службу і адасобіўся ў пустыні, дзе яго знайшоў правасл. манах, імя якога невядома. Разам яны ў 1225 заснавалі *Лаўрышаўскі манастыр*. Сярод братіі гэтага манастыра быў князь Войшалк (паводле іншай версіі, менавіта Войшалк заснавальнік манастыра). У ноч на 23.10.1250 (с. ст.) Е.Л. быў забіты сваім слугою. Паводле паданняў, мошчы Е.Л. вызначаліся цудатворнымі вылячэннямі душэўных і цялесных хвароб. Існуе легенда пра татараў, якія каля 1505 спустошылі ваколіцы Навагрудка і наблізіліся да Лаўрышаўскага манастыра, але ім падалося, што манастырскі двор запоўнены адборнай конніцай, і яны кінуліся наўцёкі. Гэты цуд прыпісваўся Е.Л., і ў 1511 ён быў кананізаваны мітрапалітам *Іосіфам II* Солтанам. Падчас адной з войнаў мошчы Е.Л. пахаваны ў зямлю, і месца пахавання засталося невядомым. Е.Л. ўваходзіць у *Сабор Беларускіх святых.* У 1996 у Лаўрышаве Е.Л. адкрыты помнік.

«ЕПАРХИАЛЬНЫЕ ВЕДОМОСТИ» — назва перыядычных выданняў, афіцыйных органаў *епархій*, якія выдаваліся з 2-й палавіны 19 ст. да 1917 у Рас. імперыі, у т. л. на Беларусі. Мелі 2 часткі: афіц. і неафіцыйную. У першай друкаваліся ўрадавыя пастановы, указы і распараджэнні *Сінода*, царк. хроніка, у другой — матэрыялы па багаслоўі, літаратуры, фальклоры, этнаграфіі, археалогіі, краязнаўстве, гісторыі царквы. Выдаваліся *«Литовские епархиальные ведомости»* (1863—1916, Вильня, Масква), *«Минские епархиальные ведомости»* (1869—1917, Мінск, Разань; адноўлены ў 1989 у Мінску), *«Полоцкие епархиальные ведомости»* (1874—1917, Віцебск; адноўлены ў 1995 у Полацку), *«Могилевские епархиальные ведомости»* (1883—1917, Магілёў; адноўлены ў 1991), *«Гродненские епархиальные ведомости»* (1901—14, Гродна; адноўлены ў 1992). З 1998 выдаецца газ. *«Новогрудские епархиальные ведомости»*.

ЕПАРХІЯ (ад грэч. eparchia) — хрысціянская царкоўна-адміністрацыйная адзінка ў межах пэўнай тэрыторыі (вобласці, зямлі, дзяржа-

вы), падведамная *епіскапу.* Першапачаткова дзярж.-адм. адзінка на ўсходзе Рымскай імперыі. Калі з 4 ст. царк.-адм. падзел стаў адпавядаць дзярж.-адм. падзелу імперыі, назва Е. пачала ўжывацца і ў хрысц. царкве. Складаецца з *прыходаў*, якія ўтвараюць *благачынні* (благачынныя акругі).

Е. на Беларусі ў праваслаўнай царкве. У Кіеўскай Русі з'явіліся ў канцы 10 ст. пры кн. Уладзіміру Святаславічу [980—1015], ён разам з мітрапалітам Лявонціем заснаваў 8 Е., у тым ліку 2 на тэр. Беларусі: старэйшую *Полацкую праваслаўную епархію* (992) і Тураўскую. Да мангола-татарскага нашэсця (1237—41) у сувязі з раздрабненнем Русі на асобныя княствы і ўдзелы ўзнікла яшчэ 8 Е., у тым ліку Смаленская (1137). Пасля 1241 з пераносам епіскапскай кафедры ў Пінск Тураўская Е. стала называцца Турава-Пінскай. *Кіеўская мітраполія* ўсяе Русі да сярэдзіны 15 ст. захоўвала адноснае адзінства (нягледзячы на перыяды фактычнага адасаблення Маскоўскай і Літоўскай мітраполій). У 1458—59 Рус. правасл. царква канчаткова падзялілася на 2 мітраполіі: Кіеўскую (у межах ВКЛ і Польшчы з цэнтрам у Навагрудку) і Маскоўскую. З 1472 правасл. царква ВКЛ і Польшчы атрымала кананічнае прызнанне канстанцінопальскага патрыярха. Была створана асобная мітрапаліцкая Кіеўская Е., куды ўваходзілі ў 15—16 ст. тэр. Віленскага, Навагрудскага, Трокскага ваяводстваў. У 16 ст. тэр. Беларусі ўваходзіла, акрамя мітрапаліцкай, у склад Е. Полацкай, Турава-Пінскай, Уладзіміра-Валынскай (Уладзіміра-Берасцейскай), Смаленскай, невялікая частка паўднёва-ўсходніх зямель (з Гомелем і Чачэрскам) — у Чарнігаўскую Е. Пасля пераходу ўсіх правасл. Е. у выніку *Брэсцкай уніі 1596* пад уладу грэка-каталіцкіх епіскапаў была створана Магілёўская (Мсціслаўская, Беларуская) Е., якая ў 1633—1793 з'яўлялася адзінай правасл. Е. на Беларусі. З далучэннем Беларусі да Рас. імперыі (канец 18 ст.) і пераходам бел. праваслаўя пад юрысдыкцыю грэка-рас. правасл. царквы ў 1793 засн. *Мінская праваслаўная епархія*, у якую ўвайшла тэр. Валыні, Падолля і Мінскай губ. З 1796 Мінская Е. ўключала Міншчыну, Віленшчыну і Гродзеншчыну; Е. стала называцца Мінскай і Літоўскай (пазней назвы мяняліся). У 1833 адноўлена Полацкая Е., у 1840 утворана Літоўская (Літоўска-Віленская) Е., у 1900 — Гродзенская. У 1922 на з'ездзе духавенства Мінскай Е. абвешчана Бел. мітраполія на чале з мітрапалітам мінскім і бел. *Мелхіседэкам*, якая падзялялася на Мінскую, Бабруйскую, Мазырскую, Слуцкую Е. Аднак жорсткія рэпрэсіі супраць епіскапаў у 1920—30-я г. фактычна спынілі дзейнасць усіх Е. у БССР, хоць афіц. рашэнні аб іх скасаванні не прымаліся. Адначасова ў 1924—34 існавала *Беларуская аўтаномная праваслаўная царква*, якая ўключала 5 Е. Але яна была некананічная і, страціўшы падтрымку вернікаў, спыніла існаванне. У Заходняй Беларусі, якая была пад уладай Польшчы, акрамя Гродзенскай і Віленскай, існавала Палеская Е. Усе яны падпарадкоўваліся Польскай аўтакефальнай правасл. царкве. У 1939—41 на заходнебел. і заходнеўкр. землях зроблены спробы арганізаваць новыя Е. і прызначыць новых епіскапаў, аднак не былі ажыццёўлены ў сувязі з пачаткам Вял. Айчыннай вайны 1941—45. Ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі абвешчана, але кананічна не аформлена *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква*, праведзены падзел Беларусі на Е. Пасля вайны адноўленыя пад юрысдыкцыяй Маскоўскага патрыярхата Е. праіснавалі да 1950-х г. Адзінай дзеючай Е. на Беларусі на працягу больш за 30 гадоў заставалася Мінская. У 1989—93 адноўлены Брэсцкая, Віцебская, Гродзенская, Гомельская, Магілёўская, Навагрудская, Пінская, Полацкая, Тураўская Е. (пра кожную глядзі адпаведныя арт.).



**Елісей Лаўрышаўскі.**

Е. на Беларусі ў рымска-каталіцкай царкве (біскупствы, дыяцэз, дыяцэзія). З прыняццем каталіцтва ў ВКЛ (1387) у 1388 засн. Віленскае біскупства, якое ахоплівала тэр. Беларусі і Літвы (без Жмудзі). У 1417 утворана Жмудская Е. Яны падпарадкоўваліся гнезненскаму ар-

цыбіскупу. У розныя гады былі засн. Камянецкая, Кіеўская, Луцкая Е., аднак з 1569 яны апынуліся па-за межамі ВКЛ (Луцкая Е. захавала за сабой нязначную частку паўднёва-заходняй Беларусі). У канцы 14 — сярэдзіне 16 ст. на тэр. Беларусі ў межах Віленскай Е. ўзніклі 142 парафіі (прыходы). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) паводле загаду Кацярыны II ад 22.11.1773 утворана Бел. каталіцкая Е. з цэнтрам у Магілёве, якая ахоплівала далучаныя да Рас. імперыі землі ВКЛ. У 1782—83 тут засн. Магілёўскае арцыбіскупства. Пасля далучэння да Рас. імперыі астатніх частак Беларусі (1793, 1795) у 1798 засн. Мінская каталіцкая Е. У 1-й палавіне 19 ст. існавалі Магілёўская архіепархія, Віленская і Мінская Е. У 1869 Мінская Е. скасавана царскімі ўладамі, але паводле царк. канонаў намінальна працягвала існаваць. Спачатку яна была аб'яднана з Віленскай Е., а з 1883 касцёлы б. Мінскай Е. сталі падпарадкоўвацца непасрэдна Магілёўскай архіепархіі. У канцы 19 — пач. 20 ст. Віленская Е. аб'ядноўвала Віленскую і Гродзенскую губ., Магілёўская архіепархія ўключала касцёлы Магілёўскай, Віцебская Мінскай губ. *Арцыбіскупу* магілёўскаму як мітрапаліту (знаходзіўся ў Пецярбургу) падпарадкоўваліся ўсе рымска-каталіцкія парафіі ў Рас. імперыі. У ліст. 1917 адноўлена дзейнасць Мінскай Е. У 1921 яе тэр. падзелена паміж Польшчай і БССР. На частцы, што адышла да Польшчы, створана Пінская Е. У 1925 у Заходняй Беларусі адбыўся новы адм. падзел касцёла. Была ўтворана Віленская архіепархія, якая разам з Пінскай і Ломжынскай Е. склала адну з 5 польскіх каталіцкіх мітраполій. Пасля 1939 тэр. Віленскай архіепархіі апынулася ў розных дзяржавах: асн. частка на тэр. БССР, меншая частка з Вільняй — у Літве, а заходнія часткі Віленскай архіепархіі і Пінскай Е. — у пасляваеннай Польшчы. З 1945 да 1991 кіраўніцтва віленскай архіепархіі знаходзілася ў Беластоку. Пасады генеральных вікарыяў Віленскай архіепархіі ў Глыбокім, Гродне, Лідзе займалі ксяндзы-дэканы. Землі цэнтральнай і ўсходняй Беларусі працягвалі ўваходзіць у Мінскую Е. і Магілёўскую архіепархію, якія кананічна не былі ліквідаваныя, але фактычна не функцыянавалі. У 1947 з праектам арганізацыі самастойнай кананічнай адзінкі кіравання каталіцкай царквою у БССР выступіў бел. ксёндз *А.Станкевіч*. Але ў выніку забароны ўлад да 1989 епархіяльныя структуры ў БССР не ствараліся, біскупаў не было, колькасць святароў скарачалася. Пачатак нармальнай дзейнасці каталіцкай царквы на Беларусі пакладзены ў 1989, калі пастановаю папы рымскага Іаана-Паўла II у межах БССР была засн. апостальская адміністрацыя ў Мінску. У 1991 утвораны 3 новыя адм. адзінкі — Гродзенская Е. і Мінска-Магілёўская архіепархія (мітраполія) з уключэннем у апошнюю Пінскай Е. ў рангу апостальскай адміністрацыі. У 1999 утворана Віцебская Е.

Е. на Беларусі ў грэка-каталіцкай царкве. Створаная ў 1596 грэка-каталіцкая царква доўгі час захоўвала правасл. традыцыі, у тым ліку ў адм.-тэр. будове. Першапачаткова Е. падзялялася на пратапопіі (благачынні), з 18 ст. пашырыўся падзел на афіцыялаты, якія складаліся з дэканатаў, узначальваліся афіцыяламі і дэканамі. Гістарычна Е. пераўтвараліся ў грэка-каталіцкія з правасл. пры пераходзе іх епіскапаў ва уніяцтва і захоўвалі свае ранейшыя назвы. Землі ВКЛ ахоплівалі цалкам Полацкую і Турава-Пінскую, значныя часткі Е. Кіеўскай мітрапаліцкай, Смаленскай і Уладзіміра-Берасцейскай. Кіеўская Е. знаходзілася ў непасрэдным падпарадкаванні мітрапаліта, была самай вялікай па тэрыторыі, ахоплівала Віленскае, Мінскае, Навагрудскае, Трокскае (на Беларусі), Кіеўскае і Брацлаўскае (на Украіне) ваяводствы. Намінальным цэнтрам гэтай Е. лічыўся Кіеў, фактычна мітрапаліты жылі ў Навагрудку, Вільні, у Варшаве (з 18 ст.). Полацкая Е. ахоплівала Полацкае, Віцебскае і Інфлянцкае ваяв., Курляндскае герцагства. Яна была найб. па тэр. і колькасці прыходаў (у сярэдзіне 18 ст. — каля 600) пасля Кіеўскай мітрапаліцкай Е. ў ВКЛ. На працягу 17—18 ст. Полацкая Е. была арэнай барацьбы уніятаў і праваслаўных. У 1650—60-я г. правасл. дамагліся скарачэння Полацкай Е. ўдвая і нават яе поўнага скасавання (1657) пасля заняцця Полацка рас. войскам у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654—67). Пазней падобныя захады уніяцкія епіскапы рабілі ў дачыненні да Магілёўскай правасл. Е. (1699). У выніку місіянерскай дзейнасці і рэліг. ўціску значная частка б. правасл. прыходаў увайшла ў Полацкую Е., а Смаленская пашыралася на Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы. З далучэннем Смаленшчыны да Рас. дзяржавы (1667) Смаленская епархія спыніла існаванне, адноўлена пасля «вечнага міру» (1686) на невялікай тэр. (поўнач Віцебскага ваяв.), вернутай Расіяй Рэчы Паспалітай. У 18 ст. смаленскі архіепіскап меў рэзідэнцыю ў Ануфрыеўскім манастыры (Мсціслаўскае ваяв.). Найменшая з усіх Турава-Пінская Е. ахоплівала Пінскі і ўсходнюю частку Брэсцкага павета. Уладзіміра-Брэсцкая Е. ўключала заходнюю частку Брэсцкага і паўночна-заходнюю Луцкага ваяв. Яе епіскапы неаднаразова выбіраліся мітрапалітамі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) пад уладай Рас. імперыі цалкам

апынуліся Полацкая, Смаленская, Турава-Пінская, частка Кіеўскай, Уладзіміра-Брэсцкай, Луцкай, Львоўскай і Холмскай Е. Невялікая тэр., якая раней належала Кіеўскай і Уладзіміра-Брэсцкай Е. (Беластоцкая акруга), адышла да Прусіі. У 1795 імператрыца Кацярына II скасавала ўсе уніяцкія Е., акрамя Полацкай. У 1797 Павел I загадаў утварыць 2 Е.: Луцкую (на Украіне) і Брэсцкую (цэнтр у Навагрудку, з 1810 у Жыровічах), якая існавала ў межах Літоўскай і Мінскай губ., у 1807 да яе далучана частка Супрасльскай Е., утворанай у 1797 паводле загаду прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II з часткі прыходаў Кіеўскай і Уладзіміра-Брэсцкай Е., якія апынуліся пад уладай Прусіі. Уключала ў асн. тэр. Падляшша і падпарадкоўвалася непасрэдна папу рымскаму. Скасавана з далучэннем Беласточчыны да Расіі (1807). У 1797 да Полацкай Е. далучаны Гомельскі і Рагачоўскі дэканаты б. Кіеўскай Е. Віленская Е. засн. ў 1809 паводле загаду Аляксандра I з паўночнай і ўсходняй частак Брэсцкай Е. (Віленская, Курляндская і частка Мінскай губ.). У 1828 на яе аснове ўтворана Літоўская Е., куды ўвайшлі таксама тэр. скасаваных Брэсцкай і часткі Луцкай Е. Ахоплівала Гродзенскую і Віленскую губ., Беластоцкую вобл., паўночныя паветы Валынскай і Падольскай губ. Цэнтр Літоўскай Е. — Жыровічы. У 1828 з Полацкай, большай часткі Луцкай і ўсходняй часткі Віленскай Е. ўтворана Бел. Е. з цэнтрам у Полацку, якую ўзначальваў мітрапаліт.

Усе уніяцкія Е. на тэр. Беларусі скасаваны рашэннем *Полацкага царкоўнага сабора 1839*. Грэка-каталіцкія парафіі ў Заходняй Беларусі ў 1920—30-я г. падначальваліся рымска-каталіцкім біскупам. У снеж. 1941 рымскі папа Пій XI утварыў на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэр. Бел. грэка-каталіцкі экзархат на чале з экзархам А.*Неманцэвічам* (падпарадкоўваўся мітрапаліту галіцкаму на Украіне А.Шаптыцкаму). Але сталая епархіяльная структура ў бел. уніятаў так і не аднавілася.

*Літ.:* Грыгаровіч І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Глябовіч А. Касцёл у няволі // Спадчына. 1994. № 1—2; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

*Г.М.Шэйкін, М.А.Матрунчык, В.В.Грыгор'ева, І.А.Ганчарук, С.В.Казуля.*

ЕПАРХІЯЛЬНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ — сярэднія жаночыя навучальныя ўстановы ў Расійскай імперыі. Засн. паводле Статута 1843 пераважна для дачок правасл. духавенства. Утрымліваліся на сродкі збораў, свячачных заводаў і інш. Падпарадкоўваліся Сіноду. Навучальны курс (6 кл.; з 1900 спец. дадатковы 7-ы пед. кл.) набліжаўся да курса жаночых гімназій. Выпускніцы атрымлівалі права хатніх настаўніц і настаўніц пачатковых, пераважна сельскіх, школ (з 1884 — царкоўнапрыходскіх). Пры некаторых Е.в. існавалі пачатковыя школы, у якіх выхаванкі старэйшых класаў праходзілі практыку. На Беларусі існавалі Е.в.: Спаса-Ефрасіннеўскае каля Полацка (з 1884), у Парычах (з 1860), Мінску і Магілёве (з 1863), Віцебску (з 1864). Ліквідаваны паводле пастановы СНК ад 24.12.1917.

ЕПІСКАП (грэч. episkopos літар. наглядальнік) — вышэйшы духоўны сан у праваслаўнай, каталіцкай, англіканскай і старажытнаўсходніх цэрквах. Кіраўнік царк.-адм. тэр. адзінкі — *епархіі* ці яго памочнік (*вікарый* у праваслаўі, *суфраган* у каталіцызме). Е. — кіраўнікі вялікіх епархій ці акругоў з некалькіх епархій могуць мець ганаровыя тытулы: *архіепіскап*, *мітрапаліт*, *экзарх*, *патрыярх* і інш. Паводле царк. дагматыкі Е. — носьбіт таінства святарства, толькі ён можа выконваць хіратонію (пасвячэнне) *дыяканаў* і *святароў*. Палажэнне аб Е. вызначаецца ў кожнай царкве адпаведнымі канонамі. Е. мае спец. знакі епіскапскай годнасці і асаблівае адзенне. У яго тытул звычайна ўваходзіць назва горада, дзе знаходзіцца кафедра. Пасвячаюць у Е. пажыццёва, пазбаўляюць сану ў выключных выпадках. У шэрагу пратэстанцкіх аб'яднанняў, напр. лютэранстве, пяцідзесятнікаў і інш., некаторых вышэйшых асоб таксама называюць Е., але ў іх гэтая пасада не мае сакральнага сэнсу.

ЕПІЦІМІЯ (ад грэч. epitimion пакаранне) — царкоўнае пакаранне вернікаў за парушэнне імі царкоўных канонаў, прадпісанняў і ўказанняў святароў. Віды пакаранняў: працяглая малітва, пост, зямныя паклоны перад абразамі, крыжам.

ЕРАСІ (ад грэч. hairesis асобае веравучэнне) — рэлігійныя плыні ў хрысціянстве, якія адхіляліся ад артадаксальнай царкоўнай дактрыны ў дагматыцы і культы; спецыфічная форма пратэсту супраць пануючай царквы, афіцыйнага рэлігійна-тэалагічнага светапогляду, існуючых сацыяльных адносін.

На Беларусі вядомыя з часоў Кіеўскай Русі. У пач. 15 ст. сярод часткі бел. шляхты і гараджан былі папулярныя ідэі гусізму. У 2-й палавіне 15 — пач. 16 ст. на Беларусі, як і ў Расіі, пашырылася рэліг.-рацыяналістычнае вучэнне, якое мела назву Е. «жыдоўствуючых». Вядомы погляды рус. ератыкоў сярэдзіны 16 ст. М.Башкіна, Арцемія, Ф.Касога. Паводле Башкіна, яго настаўнікамі былі «литвянин аптекарь и другой литвянин Андрей Хотеев». Разам з Касым і Арцеміем у Віцебску прапаведа-

валі правасл. манахі-ератыкі Феадосій і Фама. Апошні быў таксама і ў Полацку. Захапіўшы ў 1563 г. Полацк, цар Іван IV загадаў утапіць Фаму. Антыпрыгонніцкі характар мела Е. віцебскага гараджаніна А.Каладынскага. У 2-й палавіне 16 ст. ўзнікла рацыяналістычная Е. (нонадарантызм). Шляхта, некаторыя магнаты, гараджане падтрымлівалі ідэі лютэранства, кальвінізму, *антытрынітарыяў*, якія ў правасл. традыцыі таксама лічыліся Е. Сярод гар. беднаты былі папулярныя анабаптысцкія ідэі. Існавалі секты містыкаў-хіліястаў (Вільня). Ератычныя плыні зліваліся з рэфармацыйным рухам (гл. *Рэфармацыя*). Да 2-й палавіны 16 ст. сфарміравалася ератычная плынь атэіст. кірунку, яе прадстаўнікі К.Бекеш, С.Лован і інш. З узмацненнем нац.-рэліг. і антыфеадальнай барацьбы (канец 16 — пач. 17 ст.) у правасл. царкве намеціўся ератычны рух, у якім удзельнічалі гарадскія рамеснікі, чаляднікі, бедныя святары. Яны самастойна вывучалі і інтэрпрэтавалі Біблію. Выразнік ідэалогіі гэтага руху С.Зізаній. У 17 ст. пашыраецца «сацыніянская» Е. (гл. *Сацыніянства*).

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989; Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990.

*С.А.Падокшын.*

ЕРАТЫ́К — чалавек, які адступіў ад догмаў пануючай царквы; паслядоўнік *ерасі*.

ЕЎІНСКАЯ ДРУКА́РНЯ. Існавала з 1610 да сярэдзіны 17 ст. ў мястэчку Еўе каля Вільні (цяпер г. Вэвіс, Літва). Засн. правасл. віленскім Святадухаўскім брацтвам ва ўладанні падкаморага троцкага, старосты віленскага правасл. брацтва Багдана Агінскага. Кіравалі друкарняй Лявонцій *Карповіч* (да 1620), потым ігумен еўінскага Успенскага манастыра друкар Гаўрыла Іванавіч. Надрукавана больш за 25 выданняў, пераважна на царк.-слав. мове, у т.л. «Новы запавет з Псалтыром» (1611), «Дыёптра» (1612, у перакладзе Віталія), «Казанне двое...» Карповіча (1615), «Буквар славянскай мовы» (1618), «Граматыка славянская» М.*Сматрыцкага* (1619) і інш. 4 выданні, у т.л. «Евангелле вучыцельнае» Каліста (1616), выйшлі на бел. мове. Кнігі распаўсюджваліся на Беларусі і Украіне, часткова вывозіліся ў Расію. Дзейнасць друкарні спынена з прычыны аслаблення Святадухаўскага брацтва і войнаў.

*Г.Я.Галенчанка.*

ЕЎХАРЫ́СТЫЯ, прычашчэнне — адно з таінстваў хрысціянскай царквы; рэлігійны абрад, які заключаецца ў тым, што падчас богаслужэння вернікаў частуюць хлебам і віном, у якіх быццам бы ўвасабляецца цела і кроў Хрыста. *Айцы царквы* падкрэслівалі важнасць гэтага абраду для замацавання веры. Е. займае цэнтральнае месца ў літургіі. У правасл. і каталіцкай цэрквах Е. лічыцца святой тайнай, праз якую хлеб і віно пры асвячэнні падчас літургіі літаральна пераўтвараюцца ў цела і кроў Ісуса Хрыста. Прыхільнікі *пратэстантызму* адмаўляюць містычны сэнс Е. і бачаць у ёй сімвал «духоўнага прычашчэння» да вучэння Хрыста.



Прыбыццё мошчаў **Ефрасінні Полацкай** у Быхаў ( на шляху да Полацка). 1910.

ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ (Еўфрасіння Полацкая, свецкае імя Прадслава; каля 1101 — 23 або 25.5.1167) — полацкая князёўна, беларуская святая. Дачка малодшага сына кн. Усяслава Брачыславіча Святаслава-Георгія і Софіі (?), дачкі Уладзіміра Манамаха. Нарадзілася, верагодна, у 1104, бо пасля 1113, дасягнуўшы паўналецця (12 гадоў), адмовілася ад дынастычнага шлюбу і пайшла ў манастыр, дзе ігуменняй была яе цётка. Праз пэўны час з благаслаўлення полацкага епіскапа Ільі (пасля 1116) пасялілася ў келлі *Полацкага Сафійскага сабора*, дзе ў храмавым скрыпторыі перапісвала і, верагодна, перакладала кнігі. Магчыма, каля 1124 атрымала ад епіскапа Ільі месца пад Полацкам (Сяльцо), метахію (падвор'е) св. Сафіі для пабудовы ўласнага манастыра. Тут заснавала жаночы манастыр св. Спаса (гл. *Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр*). У ім да 1128 атрымала манаскі пастрыг яе малодшая сястра Градслава (Еўдакія), у 1128 — стрыечная сястра Звеніслава Барысаўна (Еўпраксія). Па замове Е.П. дойлід Іван на месцы драўлянай царквы паставіў (верагодна, каля 1132) мураваны храм. Верагодна, ён жа пры заснаваным Е.П. мужчынскім манастыры пабудаваў царкву св. Багародзіцы, для якой ігуменне выпрашыла набыць абраз Адзігітрыі Эфескай у Канстанцінопалі, куды ў 1158 паслала Міхаіла, відаць, настаяцеля манастыра. З прывезеных святынь па замове Е.П. Лазарам Богшам зроблены рэліквіяр у форме крыжа (гл. *Крыж Ефрасінні Полацкай*). Засн. ёю манастыры сталі асяродкам асветы ў Полацкім княстве, пры іх працавалі вучэльні (выкладалі чытанне, пісьмо, нотную грамату, магчыма, грэч. мову), бібліятэкі, скрыпторыі, верагодна, іканапісныя і ювелірныя майстэрні, багадзельня і інш. Тут была складзена царк. служба Е.П., намаляваны яе абраз, да 1187 створана «Жыціе Ефрасінні Полацкай». Сама Ефрасіння складала і, магчыма, запісвала малітвы і дыдактычныя пропаведзі. Сярод сучаснікаў была вядома як справядлівы суддзя, дарадчык і міратворца. У пажылым узросце рушыла ў паломніцтва па святых месцах у Іерусалім (крас. 1167), атрымала аўдыенцыю ў патрыярха Лукі, у Іерусаліме, знясіленая падарожжам, захварэла і памерла. Пахавана ў манастыры св. Феадосія (непадалёку ад Іерусаліма). У 1187 перапахавана ў Феадосіеву пячору Кіеўскай лаўры, у 1910 — у Полацк (у 1871 сюды была перанесена частка яе мошчаў). Царк. шанаванне св. Ефрасінні пачалося, верагодна, яшчэ пры епіскапе Дыянісіі ў канцы 12 ст. без афіц. кананізацыі. На Маскоўскай Русі Е.П. стала шырока вядомая ў 16 ст., калі мітрапаліт Макарый уключыў яе «Жыціе...» ў «Мінеі-чэцці». У спісах 16—18 ст. захаваліся царк. спевы пра Е.П. (адна сціхіра вядома ў рукапісе канца 12 ст. — унікальны помнік музычнай культуры ранняга сярэднявечча на Беларусі). «Жыціе... Е.П.» — адзін з найб. ранніх твораў гіст. прозы, адзіная крыніца біяграфічных звестак пра яе, складзена, верагодна, манахам з манастыра св. Багародзіцы. Аўтар услаўляе настойлівую і самаахвярную жанчыну, яе імкненне да ведаў і духоўнай дасканаласці, перадае ў строгай храналагічнай паслядоўнасці сапраўдныя гіст. факты (звесткі пра Полацк, яго культурнае жыццё, побыт княжацкай сям'і). Е.П. прылічана да *Сабора Беларускіх Святых* (1984), яе імя носяць цэрквы ў г. Саўт-Рывер (ЗША) і аронта (Канада). Помнік Е.П. устаноўлены ў двары БДУ.



Да арт. **Ефрасіння Полацкая**. Ефрасіння, князёўна Полацкая. Гравюра 19 ст. са старажытнага абраза ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.

*Літ.:* Гарошка Л. Святая Ефрасіння-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі. Парыж, 1950; Мельников А.А. Путь непечален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992; Арлоў У. Асветніца з роду Усяслава: Ефрасіння Полацкая. Мн., 1989; Яго ж. Таямніцы полацкай гісторыі. Мн., 1994; Мельнікаў А. «Жыціе» і жыццё» Еўфрасінні, ігуменні Полацкай // Адраджэнне: Гіст. альманах. Мн., 1995. Вып. 1.

*А.А.Мельнікаў.*

ЕШЫБОТ, Іешыва (ад стараж.-яўрэйскага — сядзенне, пасяджэнне) — яўрэйская вышэйшая рэліг. ўстанова, дзе гал. чынам вывучалі *Талмуд* з каментарыямі і рыхтавалі *рабінаў*. Былі асн. цэнтрамі іудзейскай тэалагічнай думкі і месцамі выхавання духоўнай і інтэлектуальнай эліты яўрэйства. Іх існаванне і папулярнасць залежалі ад наяўнасці рабіна-мудраца, здольнага самастойна выкладаць Талмуд і пастановы Галахі, даваць уласныя тлумачэнні рэліг. крыніц. У Е. прымаліся юнакі з 13 гадоў, якія скончылі *хедэр* (пачатковую школу). Навучанне было бясплатнае. Е. ўтрымлі-

валіся на ахвяраванні яўрэйскіх абшчын і прыватных асоб. Тэрмін навучання дакладна не быў вызначаны. У Е. чыталіся лекцыі 2—3 разы на тыдзень, выкладчыкі давалі агульныя кірункі і растлумачвалі асобныя месцы і палажэнні Талмуда і Галахі, астатні час вучні займаліся самастойна. На Беларусі вядомы з 16 ст., старэйшым лічыцца Е. у Брэсце. Найбольшыя Е. былі ў Валожыне, Лідзе, Міры, Слоніме, Слуцку, Радуні. Самым знакамітым быў валожынскі Е., заснаваны ў 1802 Хаімам бен Іцхакам Валожынерам (Валожынскім) і названы ў яго гонар «Эц Хаім» (Дрэва Хаіма). Тут выкладалі рабіны Нафталі Цві Іехуда Берлін, Йосеф Бер Салавейчык, Хаім Салавейчык і інш. У 2-й палавіне 19 ст. ў ім займаліся каля 400 вучняў з Рас. імперыі, Англіі, Аўстрыі, Германіі, Паўднёвай Амерыкі. Царскія ўлады тройчы закрывалі валожынскі Е. (1824, 1858, 1892), а ў апошні раз выслалі з Валожына ўсіх выкладчыкаў і вучняў. Праз некалькі гадоў Е. аднавіў дзейнасць і праіснаваў да 1942, калі нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі апошніх 64 навучэнцаў. Яўрэйскі паэт Хаім Нахман Бялік (1873—1934), які вучыўся ў валожынскім Е., у паэме «Падзвіжнік» стварыў вобраз вучня гэтай установы і паказаў панаваўшую тут атмасферу. Валожынскі Е. стаў узорам для іншых талмудычных школ. У 1815 у Міры мясцовы гандляр Ш.Цікімскі заснаваў Е., які стаў сусв. вядомым. Колькасць навучэнцаў, сярод якіх былі выхадцы з многіх краін Еўропы і Амерыкі, даходзіла да 500 чалавек. Пасля ўз'яднання Зах. Беларусі з БССР у 1939 Е. пераведзены ў Вільню; у 1940 вучні перабраліся ў Кітай, потым у Іерусалім і Нью-Йорк, дзе былі створаны Е., якія і зараз называюцца мірскімі. У радунскім Е., заснаваным у 1869, выкладаў знаўца Талмуда і Галахі Новага часу рабін Ізраіл Меір Каган (Пупко). Гэтыя Е. мелі ў аснове артадаксальны характар і не дапускалі вывучэння свецкіх дысцыплін. Рэарганізатарам у сістэме адукацыі ў Е. быў ураджэнец в. Каралін (прыгарад Пінска) Іцхак Якаў Рэйнес. У 1905 пры садзеянні і фінансавай дапамозе барона Д.Гінцбурга ён адкрыў у Лідзе памяркоўна рэфармаваны Е. з тэрмінам навучання 6 гадоў. Побач з Талмудам праграма ўключала вывучэнне іўрыту з граматыкай і агульныя прадметы ў аб'ёме павятовага вучылішча. На Беларусі Е. праіснавалі да 1930—40-х г. Некаторыя іх будынкі (напр., у Валожыне, Міры) захаваліся.

*Б.А.Мельцэр.*



ЖАБА́ (Żaba) Ігнацы (10.8.1713—1799) — рэлігійны і грамадскі дзеяч ВКЛ, тэолаг, педагог. Нарадзіўся ў сям'і мінскага ваяводы Яна Казіміра. Навучаўся ў езуіцкіх школах у Гродне, на філасофскім ф-це Віленскай акадэміі (1731—34). З 1735 займаўся багаслоўскімі навукамі, з 1740 выкладаў паэтыку, красамоўства і філасофію ў езуіцкіх калегіумах, у 1748 быў прапаведнікам пры двары свайго старэйшага брата Яна Антонія. У 1752 абараніў доктарскую дысертацыю. У 1753—54 прафесар тэалогіі ў Вільні, пракуратар Літоўскай правінцыі. У 1756—60 член прадстаўніцтва Рэчы Паспалітай пры генеральнай курыі ў Рыме. Пасля вяртання з-за мяжы прызначаны рэктарам Віленскай акадэміі (1760—69). Узначальваў калегіумы ў Гродне (1763—66), Жодзішках (1766—69) і Браневе (1770—72), быў настаяцелем у Мітаве (Елгаве, Латвія). З 1774 зноў рэктар Віленскай акадэміі, у 1779 пайшоў у адстаўку. Памёр і пахаваны ў Вільні.

ЖАБРА́ЦКІЯ О́РДЭНЫ — манаскія каталіцкія ордэны, якія патрабуюць ад сваіх членаў, паводле статутаў, зароку беднасці ў духу першапачатковага хрысціянства, адмовы ад маёмасці, існавання на міласціну. Узнікалі ў Італіі, Іспаніі, Францыі ў 13 ст. ў знак пратэсту супраць раскошы папскага двара і ладу жыцця царк. іерархаў. З ростам свайго аўтарытэту і ўплыву былі афіц. прызнаны папствам і выкарыстоўваліся ў барацьбе з ерасямі. Зарок беднасці паступова стаў выконвацца менш строга. На Беларусі вядомы Ж.о. *аўгусцінцаў, бернардзінцаў, домініканцаў, кармелітаў, францысканцаў.*

ЖАХО́ЎСКІ Цыпрыян (Кіпрыян; каля 1635, б. Полацкае ваяв. — кастр. 1693) — дзеяч грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду герба «Бродзіч». Першапачаткова рыма-католік, уступіў у ордэн базыльян. Вучыўся ў грэч. калегіуме ў Рыме (1658—64), д-р тэалогіі. Аўдытар пры мітрапаліце Г.*Календзе* (з 1667), архімандрыт Лешчынскага манастыра, кад'ютар (намеснік) мітрапаліта (у 1671—74), адміністратар Перамышльскай епархіі (1670), архімандрыт Дзерманскага і Дубенскага манастыроў на Валыні. У 1674—93 архіепіскап полацкі, мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсея Русі. Для пашырэння уніі выкарыстоўваў адм. сродкі і нават прымус. Удзельнік склікання ў Любліне з'езда уніятаў і правасл. (1680), які апісаў у кн. «Люблінскі калёквіум...» (Замосце, 1680, на польскай мове). Імкнуўся абмежаваць у царкве ўплыў базыльян, вывеў з іх падпарадкавання шэраг манастыроў, у 1683 на базыльянскім *капітуле* ў Мінску зняў з пасады протаархімандрыта (генерала) ордэна С.Мартышкевіча і прымусіў абраць на яго месца сябе. Аднак пры падтрымцы рымскай курыі і караля пастановы Мінскага капітула былі скасаваны. Навагрудскі (1686) капітул базыльян забараніў мітрапалітам займаць пасаду галавы ордэна і ўмешвацца ў яго ўнутраныя справы. У пач. 1690-х г. заснаваў *Супрасльскую друкарню.* Выдаў уніяцкі «Служэбнік» (Вільня, 1692; Супрасль» 1695). Прыхільнік лац. запазычанняў ва уніяцкім набажэнстве. Ахвяраваў сродкі на рамонт храмаў Вільні, Навагрудку, Полацку. Аўтар казанняў, прысвечаных І.*Кунцэвічу.* *С.В.Казуля.*



Ц.Жахоўскі.

ЖРЭ́ЦТВА (ад старaслав. жрьти — прынесці ў ахвяру), грамадская група, якая займалася выкананнем рэлігійных культаў у старажытных рэлігіях (ахвярапрынашэнні, малітвы і г.д.). Складала

вузка карпаратыўную касту, валодала багаццем і вял. уладай, у т.л. палітычнай. Члены касты (жрацы) павінны былі строга выконваць адпаведныя правілы паводзін і заставацца «валадарамі» сіл прыроды; пры першых жа прыкметах слабасці цара-жраца ўмярцвялі, яго месца займаў маладзейшы. Ж. было цесна звязана з інстытутам дзярж. улады і складала яго неад'емнае арганічнае звяно. Напр., брахманы, якія паходжаннем належалі да найб. стараж. саслоўяў жрацоў, былі на працягу многіх стагоддзяў адной з самых высокіх каст у індыйскім грамадстве, валодалі зямлёй, вырашалі дзярж. пытанні. У Стараж. Грэцыі і Рыме Ж. не было замкнёным, вузка карпаратыўным саслоўем і не адыгрывала значнай ролі ў паліт. жыцці дзяржавы. У Грэцыі жрацоў і жрыц выбіралі на народных сходах. Толькі ў Дэльфах, пры храме Апалона, існавала калегія жрацоў. Своеасаблівую арганізаваную супольнасць складалі і жрацы бога Асклепія, асн. абавязкам якіх было лячэнне хворых у асклепіях (свяцілішчах). Паводле Плутарха, пасада вярхоўнага жраца (пантыфіка) у Рыме была ўстаноўлена царом Нумам Пампіліем. Вярхоўнага жраца выбіралі грамадзяне Рыма, ім мог стаць кожны свабодны грамадзянін. Вярхоўны жрэц узначальваў калегію пантыфікаў (гл. *Пантыфікат*), куды ўваходзілі вышэйшы жрэц (свяшчэнны цар), які ведаў ахвярапрынашэннямі, і 3 старэйшыя фламіны (жрацы Юпітэра, Марса і Квірына), якіх выбіралі з прадстаўнікоў знатных патрыцыянскіх родаў. Малодшыя фламіны, якімі маглі стаць і выхадцы з плебсу, у калегію пантыфікаў не ўваходзілі. Вярхоўны пантыфік узносіў малітвы, кіраваў урачыстымі ахвярапрынашэннямі. Яго памочніцамі былі жрыцы багіні Весты (весталкі). У Кітаі Ж. (даосы) не адыгрывала вядучай ролі ў паліт. жыцці дзяржавы. Гэтую роль выконваў культ канфуцыянства. З паяўленнем монатэістычных рэлігій (хрысціянства, ісламу і інш.) Ж. як сац. інстытут знікла і на змену яму прыйшло *духавенства*. На Беларусі ў стараж. часы былі шырока распаўсюджаны абрады ахвярапрынашэння, якія ажыццяўляліся пад кіраўніцтвам валхвоў, і інш. кудзеснікаў, але Ж. як самастойнага інстытута не існавала. Захавалася Ж. ў некаторых народаў Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі, Акіяніі.

*Т.І.Адула.*

ЖЫ́ЖАЛЬ — персанаж беларускай *дэманалогіі*, Бог агню, апякун рамёстваў, найбольш — кавальскага. Уяўляўся магутным дэманам, які пад зямлёю ў вогненнай кузні куе зброю, каб скінуць *Перуна*. Ж. паважалі за мужнасць і непакорнасць, але і баяліся: лічылася, што калі Ж. доўга працаваў у кузні, пераграваласся зямля і пачыналася засуха, гарэлі тарфяныя балоты, лясы; калі Ж. выходзіў з-пад зямлі, Пярун кідаў у яго стрэлы-маланкі і мог пачацца пажар. У размове з дзецьмі дарослыя часам называюць словамі «жыжаль», «жыжа» агонь.

ЖЫРО́ВІЦКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ — беларускі рукапісны помнік 15 ст. Назва ад в. Жыровічы (Слонімскі р-н), дзе яно захоўвалася ва Успенскім саборы да сярэдзіны 19 ст. Напісана ўставам на 404 аркушах. На 376—377-м аркушах па-беларуску зроблены надпіс — фундушавы запіс канцлера ВКЛ Льва Сапегі (адсюль другая назва рукапісу — «Евангелле Сапегі»). Евангелле багата аздоблена застаўкамі, мініяцюрамі з выявамі евангелістаў, шматлікімі ініцыяламі. Мініяцюры абведзены шырокімі залачонымі рамкамі, арнаментаванымі геаметрычнымі і раслліннымі ўзорамі. У выкананні мініяцюр адчуваецца сувязь з візант. маст. традыцыяй. Іх малюнак вызначаецца пластычнасцю, выразнай індывідуалізацыяй вобразаў, жанравасцю



**Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр.**
Гравюра. Канец 18— пач. 19 ст.



**Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр.** Успенскі сабор.

задумы і мажорным каларытам (кадмієва-чырвоныя, сінія, зялёныя і вохрыста-залацістыя фарбы). Захоўваецца ў Цэнтральнай б-цы АН Літвы. *Е.Ф.Шматаў.*

ЖЫРО́ВІЦКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі, якая ушаноўваецца правасл. і грэка-каталіцкай цэрквамі як цудатворная. Знаходзіцца ў *Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры.* Абраз — авал з яшмы, на адным баку якога рэльефная выява Маці Божай тыпу Замілавання з дзіцем на правай руцэ. Паводле «Гісторыі...» Ф. Баравіка (Вільня, 1622; 1628), святыня з'явілася пастушкам у лесе на грушы-дзічцы ў 2-й палавіне 15 ст., калі дзяржаўцам Жыровіч быў А.Солтан. У пач. 18 ст. І.Нардзі вызначыў дату падзеі — 1470, якая афіц. прынята і зараз. П.М.Жуковіч лічыў больш верагоднымі даты 1493—95. Шырокая вядомасць абраза як цудатворнага пачалася з пач. 17 ст. Абраз набыў славу шматлікімі цудоўнымі вылячэннямі, да яго звярталіся людзі з розных пластоў грамадства, у тым ліку магнаты Война, Палубенскія, Радзівілы, Сапегі. У 1644 кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV з каралевай былі 2 дні ў Жыровічах на набажэнстве ў гонар абраза; пакланіцца абразу прыязджалі каралі Ян Казімір перад паходам на Б. Хмяльніцкага ў час антыфеадальнай вайны 1648—51 і Ян III Сабескі ў 1683 перад бітвай пад Венай, у 18 ст. — Аўгуст II і Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. 9.9.1730 у прысутнасці 38 тыс. чал. адбылося ўрачыстае каранаванне абраза. Прывезеныя з Рыма кароны ўсклаў уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і галіцкі Афанасій Шаптыцкі. Тады ж быў зроблены дарагі абклад, кароны аздоблены каштоўнымі камянямі, якія падаравала Ганна Сангушка (па мужу Радзівіл). У 1660 абраз вывозілі ў Быценскі манастыр базыльян, у 1915 — у Маскву, адкуль ён вярнуўся без большасці аздоб. З яго шматразова рабіліся жывапісныя копіі на дошках і палатне; выконваліся гравюры, найб. вядомыя Л.Тарасевіча (1682) па малюнку П.Бацэвіча. Пашкоджаны пажарам, верагодна, у 1-й палавіне 16 ст. Свята абраза адзначаецца 7 мая старога стылю (20 мая новага стылю). *А.А.Ярашэвіч.*



**Жыровіцкі абраз Маці Божай.**

ЖЫРО́ВІЦКІ СВЯТА-УСПЕ́НСКІ МУЖЧЫНСКІ МАНАСТЫР. Заснаваны ў 16 ст. у в. Жыровічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. Сваім узнікненнем абавязаны *Жыровіцкаму абразу маці Божай.* На месцы яго з'яўлення ўласнік Жыровіч падскарбі літоўскі А.Солтан пабудаваў правасл. царкву (драўляную), а каля 1560 адзін з яго нашчадкаў пачаў будаваць мураваную царкву. У 1587 упершыню ўпамінаецца мужчынскі манастыр. У 1609 ён перайшоў да уніяцкай царквы, і з 1613 належаў ордэну *базыльян* (фундатары Іван Мялешка і Даніла Солтан). 29.10.1613 Мялешка

даў першую даравальную грамату, а ў 1618 аддаў манастыру сваю частку Жыровіч, у 1616 канцлер ВКЛ Л. Сапега падараваў яму «шмат ворнай зямлі», карчму ў Шылавічах і звон для царквы. У 1667 кароль Рэчы Паспалітай Ян Казімір аддаў манастыру вёскі Баравікі і Була. Першым ігуменам ва уніяцкі перыяд быў І. *Кунцэвіч*. Тут адбываліся кангрэгацыі базыльян (1629, 1658, 1659, 1661, 1675, 1679, 1694). З 1636 набажэнства праходзіла паводле лац. і грэчаскіх абрадаў. Пры манастыры існавала школа для свецкіх асоб. Да 1709 дзейнічалі ніжэйшая і філасофская школы, якія Адукацыйная камісія ператварыла ў павятовае 3-класнае вучылішча (у пач. 19 ст. вывучалі польскую, лац., французскую і рус. мовы, трыганаметрыю, алгебру, хімію, права і інш.).

Архітэктурны ансамбль манастыра склаўся ў 17—18 ст. Уключае 3 храмы, званіцу, будынак семінарыі, жылы корпус, трапезную, бальніцу, шэраг гаспадарчых пабудоў. Гал. Успенскі сабор пачалі будаваць у 1629, работы і рамонт працягваліся да 1670—80. Яўленская царква (на месцы другога з'яўлення абраза пасля пажару) узведзена ў 1672 (паводле інш. звестак у 1769). Крыжаўзвіжанская царква пабудавана ў 1769 і размалявана мастаком Шашалевічам. У 1828 Успенскаму сабору нададзены рысы класіцызму, насупраць увахода праз вуліцу пабудавана царква-званіца. У пач. 19 ст. манастыру належалі фальваркі Боцькавічы, Яцукі, частка в. Квасевічы і палавіна в. Ахонава. Манастыр утрымліваў шпіталь на 10 чалавек. У 1810—28 тут размяшчаліся рэзідэнцыя Брэсцкай уніяцкай епархіі, у 1828—39 — Літоўскай уніяцкай епархіі. У 1828 на аснове павятовага вучылішча засн. уніяцкая духоўная семінарыя. Пасля скасавання *Брэсцкай уніі 1596* манастыр зноў стаў праваслаўным. У 1842 амаль усе яго зямельныя ўладанні адышлі ў казну (пакінуты 342 дзесяціны), манастыр залічаны да 2-га класа. Да 1845 тут часова знаходзілася епіскапская кафедра Літоўскай праваслаўнай епархіі і *Літоўская духоўная семінарыя* ператвораная ў праваслаўную. З 1-й палавіны 19 ст. да 1915 існавала Жыровіцкае духоўнае вучылішча. У манастыры была вялікая бібліятэка з рэдкімі рукапісамі, сярод якіх Жыровіцкае евангелле, і архіў. У 1845 частка іх адпраўлена ў Вільню, у сярэдзіне 19 ст. калекцыю дакументаў, манускрыптаў і старадрукаў П.*Дабрахотаў* вывез у Пецярбург, шмат кніг і інш. каштоўнасцей эвакуіраваны ў 1-ю сусветную вайну. У 1960—90 на тэр. манастыра жылі насельніцы закрытых жаночых манастыроў Гродзенскага Раства Багародзіцы і Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага. У 1989 тут адноўлена дзейнасць *Мінскай духоўнай семінарыі*. У 1994 у манастыры знаходзіліся 30 насельнікаў. Узначальвае манастыр намеснік у сане архімандрыта. *А.А.Ярашэвіч*

**ЖЫЦЕНЬ**, у беларускай народнай *дэманалогіі* «гаспадар» поля (яго жаночая паралель — жытная баба). Ж. уяўлялі ў выглядзе маленькага дзядка («жытні дзед») з доўгай барадой. Лічылася, што ён забяспечваў ураджай жыта («даваў жыта»), збіраў каласы на жытняй ніве нядбайнай гаспадыні і пераносіў іх на поле руплівай жняі. Яго шанавалі таксама як духа багацця і дабрабыту. З вобразам Ж. звязаны земляробчы абрад «завіванне барады».

**«ЖЫЦЦІ СВЯТЫХ»**, помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры 17 ст. Перакладзены з польскай мовы. Першакрыніца — «Жыцці святых» П. *Скаргі*. Вядомы тры скарочаныя бел. пераклады. Найб. поўны (141 жыціе) створаны ў 2-й палавіне 17 ст., відаць, у Магілёве; у ім захаваны многія літаратурныя асаблівасці арыгінала. Бел. перакладчыкі выбіралі творы пра найб. вядомых «святых», часам уносілі змены ў тэксты (адпускалі выпады супраць правасл. і пратэстантаў, пахвалы рымска-каталіцкаму касцёлу і інш.). Творы ў зборніку маюць сярэдневяковы рэліг.-аскетычны, дыдактычны характар, схематычныя вобразы, але дзякуючы багаццю зместу, даходлівасці выкладу былі папулярныя сярод бел., польскіх і ўкр. чытачоў.

*Літ.:* Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994. *В.А.Чамярыцкі.*



**Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр.** З гравюры 19 ст.



ЗАБЕ́ЛЬСКІ ДАМІНІКА́НСКІ КАЛЕ́ГІУМ. Існаваў у 1716—1811 пры дамініканскім кляштары ў фальварку Забелы каля в. Валынцы (Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл). Пры калегіуме працаваў школьны тэатр. Росквіт тэатра прыпадае на 1787—91, калі на яго сцэне ставіліся трагедыі і камедыі (на польскай мове) — «Свабода ў няволі» К.Марашэўскага, «Сапар», «Фемістокл», «Камедыя» М.Цяцерскага, «Крэз» І «Пышнагольскі» І.Юрэвіча. Спектаклі былі асветніцкія паводле ідэйнай задумы і класіцысцкія паводле стылю. Асабліва гэта выявілася ў арацыях («судовых справах») — дыскусіях па надзённых грамадска-паліт. праблемах. У 1789 сіламі вучняў пастаўлена камічная аперэта «Апалон-заканадаўца», або Рэфармаваны Парнас», музыку да якой напісаў Р.Вардоцкі, лібрэта М.Цяцерскі. У 1787 пастаўлена «Камедыя» К.Марашэўскага, першая бел. камедыя, дзе асн. персанажы, селянін і карчмар, гавораць па-беларуску. Рукапісныя зборнікі тэкстаў камедый, трагедый і інш. на бел., польскай і лац. мовах зберагаюцца ў бібліятэцы АН Літвы. Сярод выкладчыкаў доктар філасофіі, аўтар падручніка па фізіцы Фелікс Цяцерскі, гісторык і мемуарыст Фаустын Цяцерскі, які да гэтага быў у Сібірскай ссылцы. У 1811 калегіум пераўтвораны ў гімназію, якая існавала да 1836. У гімназіі вучыўся бел. пісьменнік А.Вярыга-Дарэўскі.

*А.В.Мальдзіс.*

ЗАВІТНЕ́ВІЧ Уладзімір Зянонавіч (14.4.1853, в. Ліцвяны Уздзенскага р-на Мінскай вобл. — сак. 1927), беларускі археолаг, гісторык. Д-р царк. гісторыі (1897), прафесар (1904). Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1875), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879). У 1879—83 настаўнік Варшаўскага духоўнага вучылішча. З 1884 дацэнт, з 1899 экстраардынарны прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, адначасова выкладчык гісторыі ў Кіеўскім ін-це шляхетных дзяўчат. У 1880—90-я г. ўваходзіў у групу бел. інтэлігенцыі (М.В.Доўнар-Запольскі, Я.А.Ляцкі, Д.М.Мейчык і інш.), што гуртавалася вакол газ. «Минский листок», вывучала гісторыю і этнаграфію Беларусі; член гіст. т-ва Нестара-летапісца, Маскоўскага археалагічнага т-ва, царк.-архіўнага т-ва, камісіі па зборы стараж. актаў і інш. Даследаваў каля 700 курганаў дрыгавічоў у 82 могільніках, пераважна ў Бабруйскім, Мазырскім, Рэчыцкім пав. Вызначыў межы рассялення дрыгавічоў, іх этнавызначальныя прадметы. На 9-м археалагічным з'ездзе ў Вільні (1895) выступіў з дакладам пра формы пахавальнага абраду ў магільных курганах Мінскай губ. Шэраг прац прысвяціў пытанням царк. гісторыі, дзейнасці славянафілаў і інш. У даследаванні «Палінодыя Захарыя Капысценскага і яе месца ў гісторыі заходнярускай палемікі XVI і XVII стст.» (1883) зрабіў агляд палемічнай літаратуры пра *Брэсцкую унію 1596*. У 1918 чытаў лекцыі на курсах беларусазнаўства, арганізаваных культурна-асветніцкай секцыяй Бел. вайсковай рады ў Кіеве; быў дэлегатам Памеснага сабора правасл. рас. царквы, кандыдатам на пасаду прафесара Бел. ун-та, які планаваў утвараць урад Бел. Народнай Рэспублікі. Выступаў за рэформы царк. жыцця, не пагаджаўся з вольным абыходжаннем з гіст. фактамі. Звесткі пра далейшую дзейнасць у савецкі час адсутнічаюць.

*Літ.:* Киселев В. Исследователь внимательный и трудолюбивый... // «Мінская праўда». 1994. 13 студз., 3 лют.

*У.В.Ляхоўскі.*

ЗАКО́Н БО́ЖЫ, 1) агульная назва асноўных прынцыпаў і ідэй рэлігійнага веравучэння і адпаведных норм паводзін, веданне якіх абавязкова для яго паслядоўнікаў. 2) Вучэбны прадмет у агульнаадукацыйных навуч. установах. Упершыню паявіўся ў пратэстанцкіх дзяржавах (16 ст.) і пашырыўся ў краінах, дзе дзяржава афіц. падтрымлівала рэлігію. Ва ўмовах адлучэння царквы ад дзяржавы выключаны з ліку прадметаў выкладання ў дзярж. школах або прызнаны факультатыўным для навучэнцаў. У Расіі першы падручнік З.Б. («Первое учение отроком...», 1720) склаў Феафан Пракаповіч. У 19 ст. быў асн. маральна-светапоглядным прадметам для агульнаадукацыйных школ. Выкладалі З.Б. пераважна свяшчэннаслужыцелі (законанастаўнікі). Пасля Кастр. рэвалюцыі выкладанне З.Б. ва ўсіх дзярж. агульнаадукацыйных установах краіны адменена. У пачатку 1990-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь выкладанне З.Б. вядзецца ў нядзельных школах, а таксама ў агульна-

адукацыйных школах, з улікам пажадання навучэнцаў і бацькоў.

ЗАЛЕ́НСКІ (Ш л ю б і ч) Леў (каля 1638, Валынь — 21.7.1708) — дзеяч грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай. Напачатку рыма-католік, уступіў у ордэн *базыльян*. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах Оламаўца (Чэхія) і Рыма. З 1679 епіскап уладзімірскі і берасцейскі, архімандрыт Кобрынскага манастыра. Удзельнічаў у Люблінскім з'ездзе уніятаў і правасл. (1680). Мітрапаліт (1694—1708), захаваў пасады епіскапа ўладзіміра-берасцейскага (рэзідэнцыя ва Уладзіміры-Валынскім), архімандрыта Кобрынскага, Дзерманскага і Дубенскага манастыроў. У 1697 перадаў Полацкае архіепіскапства М.Белазору. У час кіравання З. да уніяцкай царквы далучаны Львоўская (1700) і Луцкая (1702) епархіі. Спрыяў росту ўплыву базыльян. Занепакоены праследаваннямі уніятаў рас. войскамі ў час Паўночнай вайны 1700—21 уцёк у Аўстрыю (1705). Пасля вяртання на радзіму (1708) у хуткім часе памёр. *С.В.Казуля.*

ЗАМО́ВЫ — устойлівыя рытмізаваныя празаічныя творы формульнага характару, якім прыпісвалася сіла магічнага ўздзеяння ў патрэбным для чалавека кірунку; адзін з найб. стараж. жанраў фальклору. Нар. назвы: шэпты, загаворы, словы, малітвы і інш. У аснове іх класіфікацыі утылітарная накіраванасць. Паводле бытавога выкарыстання — універсальны жанр. У адпаведнасці з прызначэннем і тэматыкай З. падзяляюцца: на гаспадарчыя (пры паляванні, лоўлі рыбы, развядзенні пчол, сельскагаспадарчых работах, для захавання статку і інш.); ахоўныя ад злых духаў і шкодных істот, прыродных з'яў, ад звяроў і гадаў; лекавыя (ад хвароб і прафілактычныя); любоўныя (прысушкі, адсушкі, вясельныя, на лад у сям'і); сац. зместу (ад несправядлівага суда, салдацкія і інш.). Паводле кампазіцыі — маналагічныя і дыялагічныя. Пастаянныя элементы структуры: малітоўны ўступ, зачын, эпічная частка, закрэпка. Уступныя і заключныя формулы часам слаба звязаны з сюжэтам і пераходзяць з твора ў твор. Разнастайныя формулы асноўнай, эпічнай часткі: формулы пераліку, невыканальнай умовы, застрашвання, пагрозы, месца выгнання, забароны і інш. З. уласцівы антрапамарфізм, персаніфікацыя з'яў, хвароб, духаў, усяго, супраць чаго яны накіраваны. Мастацкія прыёмы ў З. (параўнанні, паралелізмы, метафары, эпітэты) падпарадкаваны практычнай прадвызначанасці і апіраюцца на веру ў магічную сілу прамоўленага слова.

*Публ.:* Замовы. Мн., 1992.

*Літ.:* Т о л с т о й Н.И. Из наблюдений над полесскими заговорами // Славянский и балканский фольклор. М., 1986; Б а р т а ш э в і ч Г.А. Магічнае слова. Мн., 1990. *Г.А.Барташэвіч.*

ЗАМО́ЙСКІ САБО́Р 1720 — сход іерархіі грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай 26.7.—17.9.1720 у Замосці (Польшча). Скліканы па ініцыятыве мітрапаліта *Л.Кішкі*. Удзельнічалі ўсе епіскапы, 8 архімандрытаў, 129 прадстаўнікоў сярэдняга і ніжэйшага духавенства. Старшынстваваў папскі нунцый Рэчы Паспалітай Геранім Грымальдзі. Сабор увёў у абрадавую практыку чытанне каталіцкага сімвала веры (замест ранейшага, агульнага з правасл.), узгадванне імя папы рымскага ў час набажэнства. Спрыяў упарадкаванню нормаў царк. жыцця, уніфікацыі абраднасці на ўзор рымска-каталіцкай царквы, паляпшэнню духоўнай адукацыі. Скасаваны дзень св. Грыгорыя Паламы як чыста правасл., прынята лац. свята Божага Цела, узаконена свята блажэннага пакутніка *І.Кунцэвіча*, царк. начынне і адзенне святароў мелі набыць лац. рысы і г.д. Прыняў рашэнне надрукаваць малы катэхізіс для вернікаў і вялікі для святароў на «паспалітай» мове (выдадзены ў адной кнізе «Собрание припадков краткое», Супрасль, 1722, на старабел. мове), выдаць адзіны для ўсіх епархій трэбнік (на царк.-слав. мове), забараніў карыстацца інш. богаслужэбнай літаратурай. Замацаваў аўтаномію ордэна *базыльян* ва уніяцкай царкве і прызнаў перавагу манахаў у заняцці епіскапскіх кафедраў. У 1724 рашэнні сабора зацверджаны папам Бенядзіктам XIII, у 1725 абвешчаны ў епархіях Рэчы Паспалітай. *С.В.Казуля.*

ЗА́ПАВЕДЗЬ, д з е с я ц і с л о ў е, д э к а л о г, — прадпісанні, павучанні, у якіх выкладзены рэлігійна-этычныя прынцыпы, што складаюць аснову *іудаізму* і *хрысціянства*. Выкладзены ў Пяцікніжжы (назва 5 кніг Старога запавету). Верагодна, да пісьмовай фіксацыі існавалі ў вуснай форме. Сфарміраваліся ў 1-й палавіне 1-га тыс. да н.э. Падзяляюцца на З., якія абвяшчаюць монатэ-



**Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква.**

ізм Яхве і забараняюць культ інш. багоў; З., якія змяшчаюць нормы маралі і правілы паводзін (прытрымліванне суботняга адпачынку, забарона забіваць, красці, квапіцца на чужое і інш.). Частка іх абумоўлена канкрэтна-гіст. зместам, таму іх нельга лічыць сукупнасцю норм абсалютнай маралі для ўсіх часоў і народаў. У Старым Запавеце, напр., сустракаюцца наказы, што супярэчаць хрысц. З. (норма «душа за душу, вока за вока» супярэчыць забароне забіваць), старазапаветныя З. часам абвяргаюцца ў Новым Запавеце.

ЗАСЛА́ЎСКАЯ СПА́СА-ПРААБРАЖЭ́НСКАЯ ЦАРКВА́ — помнік архітэктуры 2-й паловы 16 ст. Пабудавана ў 1577 у г. Заслаўе Мінскай вобл. з цэглы кн. Іванам Глябовічам як кальвінскі збор, пазней вядома як касцёл архангела Міхаіла. У 1676—1832 пры храме існаваў *Заслаўскі кляштар дамініканцаў*. Пасля скасавання кляштара храм некаторы час быў парафіяльны, у 1840 асвячоны як Спаса-Праабражэнская царква. Рамантавалася ў 1840 і 1864—65 за кошт казны (узведзены новы купал, заменена падлога, дах накрыты бляхай). Часткова разбурана ў Вял. Айчынную вайну. У 1968—72 рэстаўрыравана і прыстасавана пад музей рамёстваў і народных промыслаў. Уваходзіць у гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе». У наш час дзейнічае. Прастольнае свята 19 жніўня. 20.10.1996 адбыўся пажар. Царква — помнік абаронча-культавай архітэктуры рэнесансу. Вырашана працяглым прамавугольным аб'ёмам пад высокім 2-схільным чарапічным дахам, які раней меў па цэнтры глухі купал. Да гал. фасада далучана 5-ярусная (4 васьмерыкі на чацверыку) шатровая вежа-званіца (мела 3 званы). Абарончы характар будынку надавалі байніцы па перыметры фрызавай часткі. Фасады дэкарыраваны пілястрамі, круглымі нішамі, тонкапрафіляваным карнізам, чляненны вузкімі лучковымі вокнамі. Зала храма перакрыта крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, якія абапіраюцца на насценныя пілястры. Над уваходам драўляная галерэя хораў. 2-ярусны драўляны разны іканастас меў 11 абразоў, залачэнне і жоўта-блакітную афарбоўку. Пад царквой шырокая 2-камерная крыпта, перакрытая цыліндрычнымі скляпеннямі. *А.М.Кулагін.*

ЗАСЛА́ЎСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІ́КАНЦАЎ. Існаваў у Заслаўі ў 1676—1832. Засн. тагачаснымі ўладальнікамі горада Казімірам і Крыстынаю (з Глябовічаў) Сапегамі. У 1678 асвячоны віленскім біскупам. Размяшчаўся на замчышчы пры касцёле архангела Міхаіла, перабудаваным з кальвінскага збору. Пабудаваны ў 1772 корпус жылога будынка з часанага дрэва быў 2-паверховы, на каменным падмурку, франтонам звернуты на ўсход. Б-ка ў 1818 мела 422 тамы. Пасля скасавання кляштара касцёл некаторы час быў парафіяльны, у 1840 асвячоны як *Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква.* *А.А.Ярашэвіч.*



Кальвінскі збор у в. Асташын Карэліцкага р-на. Фота пач. 20 ст.

ЗБОР, кальвінскі збор — тып культавага збудавання рэфармацкай царквы. З распаўсюджваннем *Рэфармацыі* ў 16—1-й палавіне 17 ст. былі пашыраны ў Польшчы, Літве і на Беларусі. Драўляныя ці мураваныя З. узводзіліся ў строгіх лаканічных формах, спалучалі мясцовыя будаўнічыя традыцыі з асаблівасцямі гатычнага і рэнесансавага стыляў: прамавугольны або 8-гранны ў плане аб'ём, завяршаўся стромкім 2-схільным, вальмавым, шатровым або купальным дахам; на гал. фасадзе звычайна меў высокую абарончую вежу-званіцу з вокнамі байніцамі, накрытую шатром або купалам; сцены часта ўмацоўваліся контрфорсамі. Некаторыя З. былі храмамі-крэпасцямі. Пры З. часта будаваліся школы, друкарні, шпіталі. У часы Контррэфармацыі (2-я палавіна 17 ст.) многія З. прыстасоўвалі і перабудоўвалі пад касцёлы, ў 19 ст. — пад правасл. цэрквы. Найб. вядомыя на Беларусі кальвінскія З.: Дзераноўскі, Клецкі, Койданаўскі, Смаргонскі, *Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква.*

ЗВАНІ́ЦА — высокае вежападобнае збудаванне для падвешвання царкоўных званоў. Будуецца каля царквы, або як частка храма. Першыя ў хрысц. царкве З. пабудаваны ў Рыме пры базіліках св. Іаана Латэранскага і св. Пятра. Ва ўсх. славян упершыню згадваецца ў 988. Найб. раннія З. вядомы ў Кіеве (у Ірынінскай і Дзесяцціннай цэрквах), з 1107 у Полацку, Уладзіміры, Ноўгарадзе-Северскім. Крыніцай развіцця іх форм былі абарончыя вежы са званом і металічным білам для


**Званіца** ў в. Чэрск Брэсцкага р-на. 18 ст.

гукавога апавяшчэння. Іканаграфічныя матэрыялы, гравюры 15—17 ст. сведчаць, што на Беларусі З. мелі сакральныя пабудовы Віцебска, Магілёва, Нясвіжа, Клецка, Гродна, Брэста і інш. Яны былі драўляныя, мураваныя і драўляна-мураваныя. Драўляныя паводле тыпу канструкцыі бываюць слупавыя, каркасныя, зрубныя, зрубна-каркасныя. Найб. простыя З. — слупавой канструкцыі з перакладзінай, на якую падвешваюць звон; або козлы з брусоў, якія ставілі побач з царквою або касцёлам (в. Ражкоўка Камянецкага р-на). У іх часам быў подыум з дошак і стрэшка ці 4-схільны дах. Пазней З. ашалёўвалі дошкамі. Яны мелі гарыз. бэлькі, што дазваляла рабіць іх 2-яруснымі і размяшчаць званы на бэлечнай крыжавіне пад дахам. Больш трывалыя зрубныя З. Часцей сустракаюцца зрубна-каркасныя, дзе зрубам-чацверыком былі ніжнія ярусы, а верхні рабіўся каркасным і завяршаўся стромкім дахам (г.п. Шаршова Пружанскага р-на, 1799; в. Дуды Іўеўскага р-на; в. Чэрск Брэсцкага р-на, абедзве 18 ст.). Вядомы і мураваныя, асобна збудаваныя З. (в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на, 16 ст.). Іх верхнія ярусы часам былі глухія і мелі спец. праёмы, якія зачыняліся аканіцамі (г. Слуцк, 18 ст.; г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на, 17 ст.; в. Моладава Іванаўскага р-на, пач. 20 ст. ). Будавалі З. ў арх. стылях адпаведна часу. Яны фланкіравалі фасады сакральных пабудоў абарончага тыпу 16—17 ст. (в. Сынкавічы Зэльвенскага, в. Мураванка Шчучынскага, в. Камаі Пастаўскага р-наў), а таксама шматлікія 2-вежавыя касцёлы 17—18 ст. У царк. архітэктуры існавалі З.-дабудовы. Яны размяшчаліся над прытворам ці перад ім (в. Гнезна Ваўкавыскага р-на, 16 ст.; г.п. Заслаўе, 16 ст., і інш.). Вядомы З.-брамы: зрубныя, мураваныя, зрубна-мураваныя, якія ставілі пры ўваходзе на двор царквы (касцёла); іх ніжні ярус выконваў ролю брамы. Дабудова З. з боку прытвора была пашырана ў 19 — пач. 20 ст. (Пакроўскі сабор у г. Баранавічы), у т. л. пры рэканструкцыі уніяцкіх цэркваў (в. Моладава Іванаўскага, в. Рамель Столінскага, в. Порплішча Докшыцкага, в. Хацілаў Маларыцкага р-наў і інш.) і некаторых касцёлаў пад правасл. храмы.

*А.І.Лакотка.*

ЗІЗА́НІЙ (Тустаноўскі) Лаўрэнцій (1550—60-я г. — каля 1634), беларускі і ўкраінскі педагог, перакладчык, царкоўны дзеяч. Брат С.*Зізанія*. Працаваў выкладчыкам царк.-слав. і грэч. моў у Львоўскай (да 1592), Брэсцкай (1592—95), Віленскай (1595—97) правасл. брацкіх школах, хатнім настаўнікам у крычаўскага старосты Б. Саламярэцкага ў маёнтку Баркулабава на Магілёўшчыне (1597—1600), у князёў А. Астрожскага (1600—03) і Я.Карэцкага ў Карцы на Вільні (1603—18), дзе адначасова быў святаром у царкве. У 1596 у Віленскай брацкай друкарні выдаў свае вучэбныя кнігі: «Наука ку читанию и розуменю писма словенскаго», «Азбука» і «Грамматіка словенска съвершеннаго искуства осми частій слова» (у іх друкары выкарысталі клішэ з выданняў Ф.Скарыны). У «Азбуцы», адной з першых на Беларусі і Украіне, змешчаны «Лексис» — тлумачальны слоўнік, які палягчаў разуменне старaслав. мовы, дапамагаў пашырыць веды па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўстве, набліжаў навучанне да жывой размоўнай бел. мовы. У 1619 запрошаны ў Кіева-Пя-


**Званіца** ў в. Ражкоўка Камянецкага р-на Брэсцкай вобл. 19 ст.

чэрскую лаўру. Працаваў настаўнікам у Кіеўскай брацкай школе, быў перакладчыкам з грэч. мовы і рэдактарам выдання вучонага гуртка пры лаўры. У 1626 прывёз у Маскву рукапіс кнігі «Катехізис». Па даручэнні патрыярха Філарэта кніга абмеркавана маскоўскім артадаксальным духавенствам і свецкімі асобамі, якія ўбачылі ў ёй шмат ератычных думак. «Катехізис» у перапрацаваным выглядзе выдадзены ў Маскве ў 1627, перавыдаваўся старaверамі ў Гродне (1783, 1787, 1788). Як духоўная асоба прамаўляў свае казанні, якія сведчаць пра добрае веданне стараж. гісторыі і філасофіі.

*Літ.:* Алексютович Н.А. Культурно-просветительная деятельность братьев Зизаниев // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Подокшин С. Рационалистические и гуманистические идеи во взглядах Стефана и Лаврентия Зизаниев // Вопросы философских наук. Мн., 1965; Ботвинник М. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973.

*М.Б.Батвіннік.*

ЗІЗА́НІЙ (Тустаноўскі) Стафан (сапраўднае, верагодна, Куколь; каля 1570, с. Пацеліч Львоўскай вобл., Украіна — ?) — беларускі і украінскі педагог, царкоўны прапаведнік і пісьменнік-палеміст канца 16 — пач. 17 ст. Брат *Л.Зізанія.* Выкладаў у Львоўскай (з 1586, з 1592 рэктар) і Віленскай (1593—99) брацкіх школах. У 1595 у брацкай друкарні ў Вільні выдаў «Катэхізіс» на бел. і польскай мовах (не збярогся), які на правасл. саборы ў Навагрудку (1596) асуджаны як ератычны; З. пазбаўлены духоўнага сану і адлучаны ад царквы, апраўданы Брэсцкім царкоўным саборам 1596. Аўтар рэліг.-філасофскіх твораў: «Лист Іеремеи патріархи константинопольскаго напоминальный» (1596), «Казанье святого Кирилла патріархи іерусалимъскаго...» (Вільня, 1596; перавыдадзена ў 1644 у Маскве пад назвай «Книга Кириллова», у Гродне старaверамі ў 1786, 1791 пад назвай «Кириллова книга»). У «Азбуцы» Л.Зізанія 1596 змешчаны твор З. «Изложеніе о православной вѣрѣ» — маленькі катэхізіс пытанняў і адказаў. Творы З. скіраваныя супраць каталіцкага духавенства і папы рымскага, варожа сустрэлі і правасл. артадоксы, таму што для светапогляду З. была характэрна ідэалогія сярэднявечча, цесная сувязь з нац.-вызваленчай барацьбой народных мас у ВКЛ. Імкнучыся даць сваю інтэрпрэтацыю Бібліі, прапаведаваў верацярпімасць, рацыяналістычна падыходзіў да ацэнкі з'яў прыроды і навакольнага свету. У 1599 у выніку барацьбы з уніятамі З. вымушаны быў пайсці ў Троіцкі правасл. манастыр у Вільні, дзе прымаў імя Сільвестра, але ў хуткім часе ўцёк з горада.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Ботвинник М. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973.

*М.Б.Батвіннік.*




Тытульны ліст «Граматыкі славянскай» Л.**Зізанія**.

ЗНА́МЕННЫ СПЕ́Ў, стаўповы спеў — асноўны спеў старажытнарускай манадыйнай музыкі. Назва ад стараж.-рус. слова «знамя» — знак, нота ў безлінейным неўменным запісе музыкі. Падпарадкаваны агульным кананічным прынцыпам правасл. царк. музыкі: папевачнаму развіццю, радку як асн. вышыннаму ўзроўню формаўтварэння знаменнага песнапення, сістэме асмагласся. Выконваўся унісонным мужчынскім хорам. Мелодыка З.с. — строгая, суровая, стрыманая, падпарадкаваная вядучаму слоўнаму тэксту, вылучаецца плаўным паступовым меладычным рухам, дазволенасцю скачкоў на тэрцыю, кварту, квінту. Адзін з тыповых прынцыпаў арганізацыі знаменных напеваў — лінеарная перакампаноўка мелодыі. Вылучаюць вялікі З.с. (больш урачысты, распеты), лірызаваны і малы (скарочаны варыянт З.с.). Вядомы з рукапісаў канца 11 — пач. 12 ст. (Благавешчанскі кандакар). Гістарычна меў 3 перыяды развіцця: стараж.-рус. сапраўднамоўя, раздзельнамоўя і новага сапраўднамоўя. Існуюць грэч., балгарскі, сербскі, кіеўскі З.с. На аснове стараж.-рус. развіўся кіеўска-літоўскі, на Беларусі — беларускі, супрасльскі З.с., а таксама лакальныя — магілёўскі, віцебскі, нясвіжскі, куцеінскі, слуцкі, мірскі, віленскі, жыровіцкі. Беларусы стварылі ў Расіі шэраг новых спеваў, у т.л. старасіманаўскі, вяцкі і інш. На аснове ўскладнення З.с. і яго натацыі склаліся дзямественны спеў, пуцявы і т.зв. «казанскае знамя» (16—17 ст.). *Л.П.Касцюкавец.*

ЗНАХА́РСТВА, лячэбная магія — сукупнасць прымхлівых спосабаў лячэння хвароб, заснаваных на веры ва ўздзеянне чалавека на звышнатуральныя сілы прыроды. Узнікла ў старажытнасці. На Беларусі было вельмі пашырана з

эпохі сярэднявечча. Знахары і знахаркі спраўлялі абрады. Прычынай многіх захворванняў прымхлівыя людзі лічылі злога духа, які нібыта пранікае ў цела чалавека. Каб выгнаць яго, нярэдка рабілі механічныя ўздзеянні — таптанне, качанне, высмоктванне. Таптаннем лячылі радыкуліт, качаннем — болі ў галаве і жываце, высмоктваннем — дзіцячыя хваробы. Спалох лячылі вымярэннем. Ніткай вымяралі дзіця, прыгаворваючы: «Выходзь перапалох з ручак, ножак, з усіх костачак, з усіх сустаўчыкаў». Нітку спальвалі. Найб. пашыраным знахарскім спосабам была замова — абрадавая моўная формула, сказаная паўшэптам, таму нярэдка знахароў называлі шаптунамі (шаптухамі). У сярэднявеччы ў замовы праніклі элементы хрысціянства: часта сустракаецца зварот да Бога, Багародзіцы, святых, замовы нярэдка мелі форму малітвы. Прымхлівыя спосабы лячэння хвароб у практыцы знахароў іншы раз спалучаліся з рацыянальнымі (у адрозненне ад З. яны называюцца народнай медыцынай). У 20 ст. з пашырэннем кваліфікаванай медыцынскай дапамогі З. амаль знікла.

*М.Ф.Піліпенка.*

ЗУБКО́ Антоній (1797, с. Белае Полацкага пав. Беларускай губ. — 1884) — беларускі рэлігійны дзеяч. Магістр. багаслоўя (1822). З сям'і уніяцкага святара. Скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію са ступенню кандыдата філасофіі, семінарыю пры Віленскім ун-це (1822). Выкладаў у Полацкай семінарыі логіку, рыторыку, царк. і ўсеагульную гісторыю, маральнае багаслоўе. У 1824 святар Полацкага уніяцкага кафедральнага сабора. У 1828 першы рэктар заснаванай ім Жыровіцкай семінарыі. У 1833 епіскап брэсцкі, вікарый Літоўскай уніяцкай епархіі. Блізка пазнаёміўшыся з І.*Сямашкам*, стаў яго прыхільнікам і дзейсным памочнікам па далучэнні уніятаў да праваслаўя. На *Полацкім царкоўным саборы 1839* падпісаў акт пра аб'яднанне *уніяцкай царквы* з праваслаўнай. У 1840 правасл. мінскі епіскап. У канцы жыцця пасяліўся ў Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры, дзе і памёр. Аўтар гіст. працы «Аб грэка-уніяцкай царкве ў Заходнім краі» (1864).

ЗЮ́ЗЯ — бог холаду ў язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян. На Беларусі яго ўяўлялі як барадатага дзеда, які ў расхрыстаным кажусе, босы ходзіць па снезе і лютай сцюжаю наганяе страх на ўсё жывое. Ад яго подыху ўздымалася завіруха і мяцеліца. Калі ад марозу трашчалі дрэвы і бярвенне ў хаце, лічылі, што гэта З. б'е па іх вялікай булавой-доўбняй. У размове з дзецьмі і цяпер слова «зюзя» азначае холад. Было павер'е: мароз памякчэе, калі пералічыць імёны 7 лысых дзядоў у вёсцы.

# І

ІАА́Н БАГАСЛО́Ў — у новазапаветных легендах адзін з апосталаў, вучань Ісуса Хрыста; сын галілейскага рыбака Заведзея. Паводле сцвярджэння епіскапа Іерапольскага (1-я пал. 2 ст.), І.Б. забіты ў 60-я г. 1 ст., згодна з пазнейшымі хрысц. традыцыямі, ён дажыў да мяжы 1—2 ст. (закончыў жыццё ў Эфесе). Хрысц. царква прыпісвае І.Б. шэраг твораў, уключаных у Новы запавет: 4-е Евангелле, 3 пасланні і Апакаліпсіс.


**Іаан Багаслоў**. Фрагмент царскіх варот з Праабражэнскай царквы с. Варанілавічы Брэсцкай вобл. 16 ст.

ІАА́Н ДАМАСКІ́Н (Iōannēs Damaskēnos; каля 675, г. Дамаск, Сірыя — каля 749) — візантыйскі багаслоў, філосаф, паэт. Відаць, быў наблжаным да халіфа, потым стаў манахам (да 700). Выступаў як ідэйны праціўнік іканаборства. Завяршальнік і сістэматызатар грэч. *патрыстыкі*. На аснове арыстоцелеўскай логікі стварыў асновы схаластычнага метаду (гл. *Схаластыка*), што пазней развіты сярэдневяковымі тэолагамі Захаду. Яго гал. твор «Крыніца ведаў» паўплываў на погляды многіх тэолагаў. У гісторыі літаратуры ён вядомы як паэт, аўтар царк. песнапенняў. Яго творы распаўсюджваліся і ва ўсх.-слав. краінах (Грузіі, Стараж. Русі і інш.). Верагодна, аўтар рамана «Варлаам і Іасаф».


Святы **Іаан Дамаскін**. Медыярыт. 1747.

*Тв.*: Рус. пер. — у кн.: Антология мировой философии. М., 1969. Т. 1, ч. 2. С. 621—26; Памятники византийской литературы IV—IX вв. М., 1968. С. 270—280. *В.В.Краснова.*

ІАА́Н ЗЛАТАВУ́СТ (Iōannēs Chrysostomos; 341, Антыёхія — 14.9.407) канстанцінопальскі патрыярх (з 398), ідэолаг усх.-хрысціянскай царквы, выдатны прамоўца (за што празваны «Златавустам»). Адукацыю атрымаў у школе язычніцкага рытара Ліванія. Аўтар пропаведзей, панегірыкаў, псалмоў, каментарыяў да Бібліі. У сваіх пропаведзях адлюстроўваў характэрныя рысы тагачаснага рэліг. і грамадскага жыцця. Змаганне за аскетычныя ідэалы і крытыка грамадскай несправядлівасці зрабілі яго папулярным, але супрацьпаставілі яму ўплывовых асоб імператарскага двара і вышэйшага кліру. Неаднаразова быў сасланы



Святы **Іаан Златавуст**.

і зноў вернуты. Кананізаваны хрысц. царквой. У Візантыі і на Русі быў ідэалам прапаведніка. Правасл. царква прыпісвае яму літургію, т.зв. літургія Іаана Златавуста.

*Тв.:* Полн. собр. творений: В 12 т. Т. 1—3. М., 1991—94.

*Літ.:* Курбатов Г.Л. Ранневизантийские портреты: К истории общественно-полит. мысли. Л., 1991. С. 99—135.

ІАА́Н ХРЫСЦІ́ЦЕЛЬ (каля 8 да н.э. — каля 28 н.э.) — біблейскі прарок і аскет. У 27—28 пачаў прапаведаваць у пустыні каля р. Іардан: абвяшчаў надыход «царства божага», заклікаў да пакаяння і даваў воднае хрышчэнне. Сярод ахрышчаных быў і Ісус *Хрыстос*, на якога І.Х. указаў як на чаканага месію; яго вучні Андрэй, Сымон, Якаў і Іаан сталі вучнямі Ісуса. За публічнае асуджэнне сувязі цара Галілеі Ірада Антыпы з Ірадыядай зняволены і абезгалоўлены. Пра смерць І.Х. згадвае яўр. гісторык Іосіф Флавій. Памяці І.Х. прысвечана самая стараж. базіліка Рыма — Латэранская. Выявы І.Х. пашыраны ў сярэдневяковым мастацтве (жывапіс у баптыстэрыях, скульптуры ў Ам'енскім, Шартрскім, Рэймскім саборах) і новага часу (Данатэла, Л.Гіберці, Анджэліка, Д.Гірландайо, П'ера дэла Франчэска, Леанарда да Вінчы, Рафаэль, Эль Грэка, М.Караваджа, Рэмбрант, Б.Э.Мурыльё, Н.Пусэн). *Н.К.Мазўка.*

ІАРДА́НЬ — палонка, высечаная ў лёдзе, для асвячэння вады на свята *вадохрышча*. Назва паходзіць ад ракі Іардан, у водах якой, паводле евангельскіх паданняў, Іаан Хрысціцель пахрысціў Ісуса Хрыста.

ІВА́Н ГАЛАВАСЕ́К — свята адсячэння галавы *Іаана Хрысціцеля* (адзначалася 29 жн. ст. ст.). У гэты дзень забаранялася есці скаромнае, а таксама ўжываць у страву круглыя плады, каб не быць падобным на Ірадыяду, якая забаўлялася галавой Іаана Хрысціцеля, як яблыкам (парушэнне гэтай забароны пагражала нарывамі на целе). Верылі, што на працягу года адсечаная галава прырастае да свайго цела, але калі на І.Г. карыстацца нажамі і сякерамі, яна можа зноў адпасці, таму стараліся ў гэты дзень нічога не сячы, не рэзаць, нават хлеб ламалі рукамі, пазбягалі чырвонага варыва, баючыся, што на працягу года ў доме пральецца чыянебудзь кроў. На Палессі на І.Г. (Калінавага Івана) ламалі каліну і варылі кісель, каб цэлы год не балела галава. *У.А.Васілевіч.*

ІВАНО́ЎСКІ Міхаіл Якімавіч (1823—91) — царкоўны дзеяч, асветнік. Паходзіў з сям'і святара на Гродзеншчыне. Скончыў духоўную семінарыю, потым вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі, якую не скончыў з-за хваробы. У 1844 працаваў настаўнікам у Беразвецкім духоўным вучылішчы Літоўскай епархіі. У 1845 прыняў сан святара. У 1848—63 выкладаў Закон Божы ў Маладзечанскім павятовым вучылішчы для дваран, у 1864—75 — у нанава адкрытай маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Пазней быў святаром у правасл. цэрквах у Дзясне, Радаме, Любліне. Надрукаваў «Настаўленне да вывучэння Закона Божага» (1876), у перыядычным друку змясціў шмат пропаведзей, артыкулаў і нататак рэліг. і гіст. зместу.

ІГНА́ЦІЙ (? — каля 1640) — расійскі праваслаўны царкоўны дзеяч. Грэк па паходжанні, быў архіепіскапам Кіпра. Пасля захопу вострава туркамі (1571) уцёк у Рым. У 1593 прыбыў у Мас-

кву. З 1603 епіскап разанскі. У 1605—06 патрыярх маскоўскі і ўсяе Русі. На патрыяршы прастол узведзены 4.7.1605 духавенствам па патрабаванні самазванца Лжэдзмітрыя I, якога I. урачыста сустрэў у Туле, як рас. цара. Здзейсніў абрад вянчання Лжэдзмітрыя на царства і абвянчаў яго з Марынай Мнішак. Пасля зверржэння самазванца пазбаўлены сану і накіраваны звычайным манахам у Чудаў манастыр (у Маскве). У 1611 у час вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18 вызвалены баярамі — прыхільнікамі прэтэндэнта на рас. прастол польскага каралевіча Уладзіслава і зноў пастаўлены патрыярхам замест Гермагена. Аднак другое прызначэнне не было кананічным. У тым жа годзе выехаў у ВКЛ, прыняў унію, жыў і памёр у Вільні.

ІГУ́МЕН (грэч. hegumenos які ідзе ўперадзе, вядучы) — настаяцель праваслаўнага манастыра. У старажытнасці — настаяцель кожнага манастыра; паводле штатнага спісу 1764 у Рас. імперыі — толькі манастыра 3-га класа (гл. *Духавенства*). I. буйнейшых манастыроў (пасля 1764 манастыроў 1-га і 2-га. класаў) маюць тытул *архімандрыт*. Тытул I. можа надавацца і настаяцелю храма, калі ён манах.

І́ДАЛ (ад грэч. eidōlon вобраз, падабенства) — матэрыяльны прадмет, які з'яўляецца аб'ектам рэлігійнага пакланення. На Беларусі I. — каменныя, драўляныя або металічныя скульптурныя выявы язычніцкіх багоў. Лакальныя назвы — багі, балваны, каменныя бабы, куміры, стоды, ёлапы. У часы язычніцтва I. ставілі на *капішчах* як аб'екты пакланення. Пасля ўсталявання хрысціянства большасць I. была знішчана, закапана ў зямлю ці ўтоплена; на многіх выбівалі крыжы ці надавалі ім форму крыжа.


Да арт. **Ідал.** Шклоўскі ідал.


**Іаан Хрысціцель.**

ІЕРАДЫЯ́КАН — у хрысціянскай царкоўнай іерархіі свяшчэннаслужыцель ніжэйшай (першай) ступені — *дыякан*, які прыняў манаства.

ІЕРАМАНА́Х (ад грэч. hiereus, літаральна — жрэц, святар-манах) — свяшчэннаслужыцель сярэдняй (другой) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі, які прыняў манаства. Першапачаткова пры ўвядзенні хрысц. манаства манахі былі пазбаўлены сану свяшчэнства. Літургію ў манастырах праводзілі белыя святары, якіх спецыяльна запрашалі. З 5 ст. дазволена пасвячаць у святары і манахаў. Колькасць I. у манастырах не рэгламентавалася і вызначалася неабходнасцю. У Рус. правасл. царкве іераманаства ўведзена ў часы Феадосія Пячэрскага (11 ст.).

ІЕРАНІ́М В а ў ч а н с к і (? — 14.10.1754) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Брат *Іосіфа* Ваўчанскага. Ігумен Віленскага Свята-Духавага манастыра. Епіскап магілёўскі (1742—54). У 1744 пасвячоны ў епіскапы ў Маскве, тады ж атрымаў каралеўскі прывілей аб зацвярджэнні ў сане. У студзені 1745 урачыста прыбыў у Магілёў. У час епіскапскага служэння зведаў вял. цяжкасці і пакуты. Пахаваны ў алтары тады яшчэ недабудаванай Спаса-Праабражэнскай царквы ў Магілёве. *І.А.Пушкін.*

ІЕРАНІ́М Яўсевій Сафроній (каля 342—420) — прадстаўнік лац. *патрыстыкі* і адзін з настаўнікаў царквы. Нарадзіўся ў Далмацыі. Вывучаў у Рыме рыторыку і філасофію. Каля 374 паехаў на Усход,


Да арт. **Іканапіс**. Багародзіца Адзігітрыя. Абраз іканастаса Ражэнскага манастыра. 17 ст. Балгарыя.


Да арт. **Іканапіс**. Параскева. Сярэдзіна — 2-я пал. 16 ст. Беларуская іканапісная школа.

дзе ў Сірыі і Палесціне вывучаў багаслоўе, яўрэйскую мову і ўдзельнічаў у спрэчках з ератыкамі. У 382 прыехаў у Рым, дзе па даручэнні Дамаса пачаў выпраўленне лац. перакладу Новага запавету. У 385 вярнуўся ў Палесціну і ў 389 заснаваў манастыр у Віфлееме. У 405 завяршыў пераклад на лац. мову большасці біблейскіх кніг Старога запавету (з яўрэйскага арыгінала) і Евангелляў, што стварыла аснову *Вульгаты*. Вялікае значэнне мелі яго палемічныя творы, каментарыі да біблейскіх кніг і лісты. Яшчэ да пач. 13 ст. ўзнікла легенда, паводле якой Дамас даў І. званне кардынала, адсюль традыцыя маляваць яго ў чырвоным капелюшы. Часта І. малююць у келлі з ільвом каля ног. Дзень памяці — 30 верасня.


Да арт. **Іканапіс**. Выбраныя святыя: Васіль Вялікі, Грыгорый Багаслоў, Іаан Златавуст. 2-я пал. 18 ст. Беларуская іканапісная школа. Шарашоўскі майстар.

ІЗРА́ІЛЬ — імя, якое, паводле Старога запавету Бібліі, атрымаў Іакаў, адзін з *патрыярхаў* старaж. яўрэяў, ад *Бога* (Быццё 32:28). У старaж. біблейскім апавяданні Бог даў гэтае імя Іакаву пасля яго вяртання з Месапатаміі (Быццё 35:10). Сяміцкае імя Ізраіль сустракаецца ў стараж. тэкстах, якія адносяцца адпаведна да 3-га і 2-га тыс. да н.э. Яно можа быць перакладзена як «панаваць», «няхай пануе Бог».

ІКАНАБО́РСТВА — рэлігійны рух у сярэднія вякі, накіраваны супраць хрысціянскага культу абразоў. Яшчэ ў 7 ст. ў Малой Азіі (некаторыя даследчыкі лічаць, што пад уплывам *ісламу*, які забараняў вывы чалавека) пачаліся выступленні супраць выкарыстання культу *абразоў*, *крыжа* і інш. як ідалапаклонства. Найб. пашырылася І. ў 8 ст. — 1-й палавіне 9 ст. ў Візантыі, дзе яго ўзначалілі першыя імператары ісаўрыйскай дынастыі. Леў III, які імкнуўся ўмацаваць дзярж. ўладу і аслабіць уплыў царк. іерархаў і манаства, у 726 забараніў пакланенне абразам, канфіскоўваў царк. землі і маёмасць; яго пераемнікі патрабавалі поўнай забароны святых выяў у цэрквах. Супраць І. выступілі візант. багаслоў *Іаан Дамаскін*, сталічная знаць і манаства, падтрыманыя папствам. Барацьба цягнулася больш за стагоддзе, суправаджалася муштрамі, катаваннямі, выгнаннямі, знішчэннем абразоў, разбурэннем манастыроў. У час І. загінулі тысячы помнікаў рэліг. мастацтва. Але гал. мэта візант. імператараў была дасягнута — канфіскацыя царк. і асабліва манастырскіх зямель і раздача іх ваеннаслужыламу саслоўю; візант. імператар стаў на чале правасл. царквы. Канчаткова культ абразоў у Візантыі адноўлены ў 843, але большасць секулярызаваных зямель

царкве не вернута. Іканаборскі рух узмацніў супярэчнасці паміж усходнімі і заходнімі галінамі тады яшчэ адзінай хрысц. царквы. І. — характэрная рыса радыкальных кірункаў пратэстантызму (найперш *кальвінізму*) у шэрагу краін Заходняй Еўропы ў эпоху Рэфармацыі (Нідэрланды, Германія, Францыя). Знішчэннем абразоў і інш. святынь суправаджалася Іканаборскае паўстанне 1566 у Нідэрландах.

*Літ.:* Удальцова З.В. Византийская культура. М., 1988.
*З.І.Малейка.*

ІКАНАПІС, пісанне абразоў (ікон) — від жывапісу, рэлігійнага па тэматыцы і сюжэтах, культавага па прызначэнні. Найб. характэрны для ўсходняга хрысціянства. Узнік і развіваўся як важны элемент візант. культуры і рэгіёнаў, мастацтва якіх зведала яе ўплыў. Тэхніка І. блізкая да станковага жывапісу, аднак яго творы — *абразы*, што звычайна ўваходзяць у адзіны ідэйна-маст. комплекс з архітэктурай, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам і ў ансамбль *іканастаса*, не разглядаюцца як цалкам станковыя творы. Найб. стараж. творы І. (6 ст.) паходзяць з Пярэдняй Азіі і захаваліся ў сінайскіх манастырах. Узнік на аснове познаэліністычнай традыцыі пахавальных партрэтаў. Паводле царк. паданняў, сімвалічнае аблічча Хрыста, цудоўным чынам захавалася на пахавальным убрусе (хусце), а прататып абразоў Маці Божай намаляваны евангелістам Лукой. *Іканаграфія* святых і евангельскіх падзей склалася пераважна ў Візантыі, ідэйнага і маст. росквіту дасягнула ў 11—12 ст., творы таго часу сталі кананічнымі. У 14—15 ст. склаўся рускі І. (Феафан Грэк, А.Рублёў, Дыянісій), які ў 17 ст. перажыў карэнныя змены пад уплывам еўрап. мастацтва праз пасрэдніцтва бел., укр., польскіх мастакоў. На Беларусі І. узнік з прыняццем хрысціянства. Да 16 ст. развіваўся на аснове візант. традыцый, паступова засвойваў рэалістычныя рысы заходнееўрап. сакральнага мастацтва. У 16 — 1-й пал. 17 ст. склалася самабытная беларуская іканапісная школа, якой характэрна візант. духоўная і іканаграфічная аснова ў спалучэнні з рэальнасцю вобразаў, уключэннем у біблейскія сюжэты этнаграфічных элементаў, простанароднасць тыпажу, пэўная маст. свабода выканаўцаў. Праіснавала яна да сярэдзіны 19 ст., калі страціла сваю самабытнасць і прыйшла ў заняпад.



Да арт. **Іканапіс**. Абраз «Архангел Міхаіл» з Навагрудскага касцёла Праабражэння Гасподняга.

*Літ.:* Жывапіс Беларусі XII—XVIII ст.: [Альбом]. Мн., 1980; Алпатов М.В. Древнерусская иконопись. М., 1984; Іканапіс Беларусі XV—XVIII стст. 3 выд. Мн., 1995.
*А.А.Ярашэвіч.*

ІКАНАСТА́С (ад ікона + грэч. stasis месца стаяння) — перагародка з *абразамі* і варотамі паміж асноўнай і алтарнай часткамі інтэр'ера пра-



**Іканастас**. Давыд-Гарадоцкай Георгіеўскай царквы. 2-я чвэрць 18— пач. 19 ст.


**Іканастас** царквы ў в. Бярозавічы Пінскага раёна Брэсцкай вобл. Канец 18— пач. 19 ст.

васлаўнага храма. І. склаўся на аснове нізкай алтарнай перагародкі з абразамі над ёй. У класічнай форме (распрацавана ў 15 ст. на Маскоўскай Русі) складаецца з 5 радоў (чыноў) абразоў, якія ў пэўнай паслядоўнасці паказваюць жыццё царквы ад пачатку да Страшнага Суда. Верхні чын («праайцоўскі») з абразом св. Тройцы («Гасціннасць Аўраама») у сярэдзіне сімвалізуе перыяд ад Адама да Майсея. Наступны чын («прарочы») прадстаўляе старазапаветную царкву ад Майсея да Хрыста, у цэнтры — абраз «Маці Божая Знаменне», выказанае прароцтва Ісаі і пераемнасці Новага запавету, ад Старога. «Святочны» чын адлюстроўвае падзеі Новага запавету, якія на працягу года асабліва ўрачыста адзначаюцца царквою. Гал. частка І. — «дэісусны» чын, у якім вакол абраза Спаса з Маці Божай і Іаанам да тэмы малення царквы за свет далучаны выявы 12 апосталаў, святціцеляў, пакутнікаў і інш. У ніжнім («мясцовым») чыне па баках *царскіх варот* (сімвал уваходу ў Царства Нябеснае) абразы Спаса і Маці Божай з дзіцем і храмавыя, на бакавых дзвярах — архангелаў або дыяканаў.

На Беларусі І. вядомы з 15 ст. Захаваліся І. сярэдзіны 17 ст. (Жыровічы, Магілёў, Супрасль), для якіх характэрна разное аздабленне ў стылі барока. Існавалі ў правасл. і уніяцкіх храмах. Бел. І. вызначыўся пэўнымі асаблівасцямі: колькасць радоў 3—4, «дэісусны» чын ператвораны у «апостальскі», які разам з абразамі, змешчанымі па вертыкалі над царскімі варотамі, утвараў крыжовы кампазіцыйны стрыжань і нёс асн. сэнсавую і дэкаратыўную нагрузку; «праайцоўскі» чын адсутнічаў або змяшаны з «прароцкім». Апошні часам рабіўся ў выглядзе групы картушаў. У сярэдзіне 18 ст. ва уніяцкіх храмах заменены *алтарамі* на ўзор касцельных. У правасл. цэрквах як самабытная з'ява І. існаваў да 1840-х г., пазней яго стваралі па зацверджаных тыпавых праектах і пакідалі ў аздабленні толькі асобныя самабытная дэкаратыўныя элементы. *А.А.Ярашэвіч.*

ІЛАРЫЁН, Ларыён — старажытнарускі царкоўны дзеяч, філосаф і пісьменнік, заснавальнік Кіева-Пячэрскай лаўры (1051), першы мітрапаліт кіеўскі з мясцовага духавенства (1051—54 ці 1055). Аўтар публіцыстычнага твора Старaж. Русі — «Слова пра закон і дар божы» (паміж 1037 і 1050), дзе развіваецца думка пра роўнасць народаў, якія вызнаюць хрысціянства, высока ацэньваюцца справы князёў, якія праслаўвілі Русь у інш. краінах. У «Слове» выказаны таксама ідэі вял. кіеўскага кн. Яраслава Мудрага пра царк. незалежнасць Кіеўскай дзяржавы ад Візантыі.

ІЛІЯ́ («бог мой Яхве») — прарок у Старым запавеце (3-я і 4-я кн. Царстваў); прыхільнік бога *Яхве*, змагар за ўмацаванне яго культу як адзінага ў Ізраільскім царстве, смела ўступае ў змаганне са жрацамі і ізраільскімі царамі — абаронцамі культу бога Ваала. Лічыцца цудатворцам, адораны амаль боскай уладай, вуснамі якога гаворыць сам Бог, прапаведнікам, які прадказвае будучыню ад імя Бога. Паводле падання, меў аблічча жабракааскета. Пасля заканчэння яго місіі Бог узнёс І. на неба на вогненнай калясніцы. У розных народаў пра І. існуе вялікая паслястаразапаветная міфалагічная традыцыя. Напр., у слав. традыцыях І.-прарок выступае як персанаж, звязаны з громам, даждждом і ўрадлівасцю. Менавіта ў гэтым кантэксце 20 ліп. па с. ст. правасл. адзначаюць свята «Ільін дзень», ці Ілья (Ілля).

ІЛЬІ́НЦЫ, грыбаўская секта — рэлігійная секта, якая ўзнікла як плынь у праваслаўі ў сялянскім асяроддзі Заходняй Беларусі ў пач. 20 ст. і аформілася ў самастойную арг-цыю ў 1930-я г. Засн. бел. сялянінам Ільёй (Альяшом) Клімовічам з в. Грыбаўшчына (каля Беластока). Ён назваў ся-


**Іканастас** Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве. Разьбяры К.Міхайлаў, Д.Залатароў і інш. 1683—86.



**Ілія** Прарок. Абраз наўгародскай школы. Канец 14— пач. 15 ст.



Да арт. **Ільінцы.** Абраз з выявай І.Клімовіча.

бе пракокам Ільёй, які сышоў на зямлю, абвясціў хуткі надыход канца свету і для яго сустрэчы арганізаваў будаўніцтва «горада будучага» Вершаліна, куды сыходзіліся вернікі. Меў прыбліжаных «апосталаў». Як духоўнага папярэдніка Ільі сектанты ўшаноўвалі Іаана Кранштацкага; прасочваецца таксама ўплыў рус. секты хлыстоў. Вучэнне і рэліг. практыка секты вызначаліся крайнім містыцызмам, фальсіфікаваліся цудатворныя вылячэнні і прывіды. Найб. дагматычна і арганізац. аформленай сярод ільінцаў была група «а ў т о р а к а ў». Паводле іх тлумачэння, слова «аўторак» паходзіць ад «паўторнага» прышэсця Хрыста, які прыйдзе менавіта ў гэты дзень. Таму дзень адпачынку перанесены на аўторак. Абраднасць мала адрознівалася ад правасл., шанаваліся абразы з выявамі Іаана Кранштацкага, І.Клімовіча і інш. кіраўнікоў секты ў выглядзе Тройцы і святых. Існавала «грыбаўская літаратура» — рукапісныя зборнікі гімнаў, малітоўнікі, брашуры, складзеныя малапісьменнымі аўтарамі. Пасля 1939 секта занепала. У цяперашні час вядомы адзінкавыя паслядоўнікі ільінцаў на Гродзеншчыне і Беласточчыне. Секта падрабязна апісана ў рамане бел. пісьменніка А.Карпюка «Вершалінскі рай» (1974).

*Літ.:* P a w l u c z u k W. Sekta grzybowska — doctryna i ideologia // Rocznik Białostocki. Tom IX. 1970. *Ю.В.Бажэнаў.*

ІЛЬЯ К у ч а (?—1579?) праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Са шляхецкага роду. Прыбліжаны *Іоны III*, па яго хадайніцтву 23.9.1576 прызначаны Стафанам Баторыям кіраваць *Кіеўскай мітраполіяй.* Пасля смерці *Іоны III* — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1577—79).

ІМА́М (араб. — які знаходзіцца наперадзе) — 1) асоба, якая кіруе богаслужэннем у мячэці. 2) Кіраўнік мусульманскай абшчыны. Функцыя І. ў абшчыне належала халіфу, які з'яўляўся адзіным заканадаўцам і вышэйшым духоўным аўтарытэтам. У абавязкі І.-халіфа ўваходзіла ахова рэлігіі і кіраванне штодзённымі справамі ў адпаведнасці з рэліг. законам. Склаліся 2 процілеглыя погляды на І.: прыхільнікі *сунізму* і хараджызму лічылі, што І. павінен выбірацца ўсімі членамі абшчыны; прыхільнікі ідэі ўлады божаскай прыроды настойвалі на спадчынным прынцыпе перадачы ўлады (гл. *Шыізм*). На практыцы І.-халіф назначаўся папярэднікам. 3) Ганаровае званне вышэйшых духоўных асоб у мусульманстве.



**Ілія**. 1-я палавіна 17 ст. Беларуская іканапісная школа.



Да арт. **Індуізм**. Індуісцкі храм багіні Лакшмі і бога Нараяна ў Дэлі. 1970-я г.

ІМША́ — гл. *Меса*.

І́НАК (ад старажытнаслав. «ин» адзін), агульная назва манаствуючых у правасл. царкве незалежна ад іх сана.

ІНДУ́ІЗМ — збор светапоглядных падыходаў, рэлігійна-філасофскіх поглядаў і сацыяльных дактрын, што сфарміраваліся ў Індыі ў 1-м тыс. н.э. на аснове ведычнай рэлігіі, касмалогіі, брахманізму, асіміляваных элементаў мясцовых неарыйскіх культаў і інш. рэліг. сістэм. У аснове аб'яднання ў І. самых розных вераванняў і культаў (ад пантэістычных да монатэістычных) — прызнанне аўтарытэту *Вед*. Асн. паняцці: атман (абсалютны і субстанцыянальны суб'ект), карма (закон прычыннавыніковых сувязей адносна лёсу чалавека), сансар (ланцуг перараджэнняў, якасць якіх залежыць ад кармы), мокша (вызваленне ад ланцуга перараджэнняў, набыццё дасканаласці, зліццё з Богам, Абсалютам), ёга (метады лячэння дасягнення зліцця з Богам, Абсалютам). І. абумоўлены падзел індыйскага грамадства на варны (саслоўі) і джаты (касты), а таксама сістэма варнашрама (уключае 4 стадыі жыцця чалавека; вучнёўства, перыяд гаспадара, адасабленне для роздуму і пустэльніцтва). Рэліг. л-ра І. падзяляецца на адкравенні (шруці) і паданні (смрыці). Да адкравенняў належаць веды, брахманы (жрэцкая л-ра), араньякі (медытатыўнаёгавыя настаўленні), упанішады (філасофскія каментарыі да тэкстаў вед). У смрыці ўваходзяць кнігі эпасаў «Махабхарата» і «Рамаяна», пураны (багаслоўскія творы), іціхасы (гіст. творы). Асн. рэліг. кірункі І. — *вішнуізм* і *шываізм*. Культавыя абрады праводзяцца ў храмах, мясцовых і хатніх алтарах, у свяшчэнных месцах. Жыццё паслядоўнікаў І. рэгламентавана сістэмай сямейнай і календарнай абраднасці. У традыцыі рэліг.-філасофскіх школ Індыі артадаксальнымі лічацца тыя, што прызнаюць аўтарытэт Вед н'яя, вайшэйшыка, санкх'я, ёга, міманса, веданта; неартадаксальнымі — традыцыі джайнізм, будызм і чарваку (не прызнаюць аўтарытэту Вед). Пад уплывам еўрап. культуры, з канца 18 ст. ў І. пачаліся рэформы па змякчэнні яго сац. дактрыны (Р.Рай, Д.Сарасваты, Рамакрышна, С.Вівекананда, А.Гхош). На рубяжы 19—20 ст. некаторыя кірункі мадэрнізаванага І. пачалі пранікаць у Еўропу і Амерыку, у 1960—70-я г. распаўсюдзіліся сярод моладзі заходніх краін. У пач. 1990-х г. на Беларусі зарэгістравана першая абшчына вайшнаваў (крышнаітаў), створана Т-ва ведычнай культуры. На 1.1.2001 дзейнічала 7 абшчын крышнаітаў.

*Літ.:* Боги, брахманы, люди: Четыре тысячи лет индуизма: [Пер. с чеш.]. М., 1969; П а н д е й Р.Б. Древнеиндийские домашние обряды (обычаи): Пер. с англ. 2 изд. М., 1990; Г у с е в а Н.Р. Индуизм: История формирования. Культовая практика. М., 1997.

*А.У.Гурко.*

ИНДУЛЬГЕ́НЦЫЯ (ад лац. indulgentia паблажлівасць, літасць) — папская грамата, якая выдавалася за грошы або за асаблівыя заслугі перад каталіцкай царквой, і сведчыла пра поўнае або частковае адпушчэнне грахоў. Багасловы абгрунтоўвалі гэта тым, што каталіцкая царква мае запас добрых спраў, якія здзейснілі Ісус Хрыстос, Дзева Марыя і святыя, і імі можна пакрываць грахі людзей. Продаж І. пачаўся з 12—13 ст., што выклікала пратэст гуманістаў. Адмена І. была ў ліку асн. патрабаванняў Рэфармацыі. У пераносным сэнсе — дазвол на якія-небудзь дзеянні, учынкі.

І́НДЭКС ЗАБАРО́НЕНЫХ КНІГ (лац. index librorum prohibitiorum) — у мінулым у каталіцкай царкве спіс кніг, прызнаных шкоднымі для веры і маралі, за чытанне, захоўванне і распаўсюджванне якіх пагражалі меры царк. спагнання. Дзейнічаў з 1559 да 1966. Неаднаразова рэдагаваўся. Ужо з першахрысц. часоў свецкія і царк. ўлады імкнуліся да кантролю над шкоднымі, на іх думку, кнігамі. Першыя ва ўласным сэнсе І.з.к. з'явіліся ў 16 ст. ў час *Рэфармацыі*, калі пасля вынаходніцтва кнігадрукавання стала немагчыма старымі сродкамі кантраляваць кнігі. Такія індэксы часта выдаваліся па ініцыятыве свецкіх улад у Францыі, Італіі, Германіі і інш. Першы рымскі І.з.к. абвешчаны ў 1559 папам Паўлам IV. Перапрацаванае на Трыдэнцкім саборы каталіцкай царквы 2-е выданне 1564 стала асновай для наступных індэксаў, якія значна перараблялся пры папах Аляксандру VII (1664), Бенядзікту XIV (1757) і Льву XIII (1900). У 20 ст. ў І.з.к. не ўносіліся ўсе шкодныя

для царквы кнігі, а толькі, як правіла, найбольш вядомыя творы каталіцкіх аўтараў і кнігі паводле пэўных тэматычных груп. Кантроль над здзяйсненнем І.з.к. выконвала з 1566 рымская кангрэгацыя індэксаў, а з 1917 — кангрэгацыя св. канцылярыі інквізіцыі на падставе кодэкса кананічнага права. З 1966 выданне І.з.к. спынена. Новая рэдакцыя кананічнага права (1984) не прадугледжвае забароны якіх-небудзь кніг. Акрамя рымскага І.з.к. існавалі мясц. варыянты. Першы мясц. індэкс для Гнезненскай правінцыі, у склад якой ўваходзіла Віленскае біскупства, надрукаваны ў 1603 у Кракаве (2-е выданне 1604, Замосце; 3-е — 1617, Кракаў). У Кракаўскім І.з.к. акрамя рымскага спіса змешчаны выданні, што выходзілі ў ВКЛ і Польшчы, у прыватнасці творы А.Волана, С.*Буднага*, Я.Каханоўскага, Я.Немаеўскага, *Пятра з Ганёндза*, М.*Радзівіла* Чорнага, *Ф.Соцына*, А.Фрыча Маджэўскага, *Брэсцкая Біблія* і інш. Кракаўскае выданне І.з.к. шырока ўжывалася да з'яўлення рымскіх індэксаў 1704 і 1758 са спісамі аўтараў Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Григулевич И.Р. Инквизиция. 3 изд. М., 1985. С. 396—404; Лозинский С.Г. История папства. 3 изд. М., 1986. С. 351—355. *І.Г.Ганчарук.*

ІНКВІЗІ́ЦЫЯ (ад лац. inquisitio расследаванне) — трыбунал каталіцкай царквы, створаны для барацьбы з ерасямі, вальнадумствам, антыцаркоўным і антыфеадальным рухам. Існавала ў 12—19 ст. амаль ва ўсіх каталіцкіх краінах. Вызначалася жорсткасцю і фанатызмам. Рост у 12—13 ст. царк. і рэліг. апазіцыі (катары, альбігойцы, вальдэнсы) выклікаў узмацненне рэпрэсій з боку царквы. У 1184 на сінодзе ў Вероне папа Луцый III выдаў дэкрэт, у якім вызначаны юрыдычныя нормы І., а кіраванне ёю ўскладзена на епіскапаў. Стварэнне І. зацвердзілі 4-ы Латэранскі (1215) і Тулузскі (1229) саборы. Для ўдасканалення дзейнасці І., а таксама з мэтай прадухілення злоўжыванняў улад папа Грыгорый IX у 1223 увёў пасады папскіх інквізітараў для асобных краін і дыяцэзій (займалі пераважна дамініканцы і францысканцы). У 1232—35 інквізітарскія трыбуналы створаны ў Германіі, Арагоне, Аўстрыі, Ламбардыі, паўд. Францыі і Італіі. У 1252 пры папе Інакенцію IV афіц. ўведзена катаванне як сродак для атрымання паказанняў. Першапачаткова інквізіцыйныя трыбуналы разглядалі толькі рэліг. справы, пазней (14—15 ст.) справы пра чараўніцтва, сувязь з д'яблам і інш. Асабліва жорсткай была іспанская І., якая ў 14—15 ст. вяла масавыя рэпрэсіі супраць магаметан і яўрэяў, якія прынялі каталіцтва; іх абвінавачвалі ў патаемным вызнанні даўнейшай веры. З 1478, калі кароль Іспаніі атрымаў права прызначаць інквізітараў, І. цалкам падпарадкавана ўладзе і выкарыстоўвалася для яе ўзмацнення. Гал. іспанскі інквізітар Т. Тарквемада асабіста адправіў на касцёр каля 9 тыс. чалавек. Быў уведзены звычай публічнага і ўрачыстага спальвання асуджаных. З Іспаніі І. была перанесена ў Партугалію, амер. правінцыі, Нідэрланды. У 1542 створаны вярхоўны інквізітарскі трыбунал у Рыме на ўзор ісп. І., які стаў адным з асн. сродкаў *Контррэфармацыі*. Ахвярамі І. ў 17 ст. сталі найперш выдатныя вучоныя і мысліцелі (Дж. Бруна, Дж. Ваніні, Г.Галілей і інш.). У 1543 выдадзены «Індэкс забароненых кніг» і ўведзена жорсткая цэнзура.

У слав. краінах І. не адыграла значнай ролі. У большасці еўрап. краін яна скасавана да 18 ст. і толькі ў некат. захавалася да сярэдзіны 19 ст. (у Партугаліі да 1820; у Іспанніі да 1835; у Італіі канчаткова скасавана ў 1859).

*Літ.:* Шпренгер Я., Инститорис Г. Молот ведьм. М., 1992; Григулевич И.Р. Инквизиция. 2 изд. М., 1976. *Н.К.Мазўка.*

ІОНА І Глезна (?—1494), — праваслаўны царк. дзеяч ВКЛ. Архіепіскап полацкі. У 1489 ? — 94 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (у 1492 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам). Ад вял. князя ВКЛ Аляксандра ў 1492 атрымаў пацвярджэнне ўсіх правоў, дадзеных духавенству, князям, баярам і шляхце любога веравызнання. Пры ім шэраг правасл. манастыроў атрымалі ад магнатаў сёлы і зямельныя ўгоддзі.

ІО́НА II (?—1507) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ; архімандрыт Мінскага манастыра Ушэсця, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1503—07). Да прыняцця манаства быў, верагодна, белым святаром. Прызначаны мітрапалітам дзякуючы



Да арт. **Інквізіцыя**. Катаванні, узаконеныя інквізіцыяй. Гравюра 1508.



Святы **Іосіф**. 18 ст.

хадайніцтву вял. князіні ВКЛ Алены Іванаўны. У 1504 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Пахоміем. У адрозненне ад свайго папярэдніка *Іосіфа І* Балгарынавіча актыўна абараняў правасл. царкву. Дамогся ад вял. князя ВКЛ і караля польскага Аляксандра выдання шэрагу прывілеяў для правасл. духавенства ВКЛ і правасл. жыхароў Віцебска (1503). Садзейнічаў будаўніцтву Супрасльскага манастыра і аднаўлення Гродзенскага Каложскага манастыра, разбуранага ў час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1500—03. У час гэтай вайны трапіў у маскоўскі палон сын І. ІІ Сенька Крывы, вызваліць якога мітрапаліту пры жыцці не ўдалося (адпушчаны ў 1509).

*Ю.В.Бажэнаў.*

ІОНА ІІІ Пратасовіч-Астроўскі (?—1577) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ; епіскап пінскі і тураўскі, мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1568—77). Са шляхецкага роду. Да прыняцця сану быў, верагодна, каралеўскім дваранінам. Правіў у складаных умовах пачатку пранікнення езуітаў у ВКЛ і схілення імі буйных бел. феадалаў у каталіцызм. Клапаціўся пра ўпарадкаванне дзейнасці епархій. Ад вял. князя ВКЛ і караля польскага Жыгімонта ІІ Аўгуста, атрымаў граматы аб недатыкальнасці духоўных спраў і судоў. Дамагаўся забароны даваць епіскапскія кафедры і манастыры свецкім асобам, аднак, нягледзячы на абяцанні караля, гэтыя з'явы ў царк. жыцці ВКЛ працягваліся. Беспаспяхова прасіў Жыгімонта ІІ дазволіць правасл. іерархам засядаць у каралеўскай радзе побач з каталіцкімі біскупамі. Калі састарэў, у 1576 прызначыў правіць мітраполіяй *Ілью* Кучу, захаваўшы за сабой старшынства ў духоўных справах.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *Ю.В.Бажэнаў.*

ІО́СІФ — паводле старажытнаяўрэйскіх гістарычных легендаў (Стары запавет) любімы сын Іакава ад Рахілі. Быў прададзены сваімі братамі ў рабства. Пасля доўгіх ліхіх прыгод І. па даручэнні фараона стаў фактычна кіраваць Егіптам. Калі ў Егіпет прыбылі ў выніку голаду яго браты, ён прапанаваў ім і ўсяму роду Іакава перасяліцца ў гэту краіну, дзе неўзабаве яны і пасяліліся (правінцыя Гесем). Пры зыходзе яўрэяў з Егіпта яны ўзялі з сабой, паводле завяшчання І., яго астанкі і пахавалі іх у Ханаане. З некаторымі зменамі і інтэрпрэтацыямі апавяданне пра І. ўвайшло ў Каран. Асобныя сюжэты сталі тэмай многіх літ. твораў сярэдневякоўя (персідска-таджыкскіх паэм) і новага часу (Т. Ман, Н.Хікмет і інш.), адлюстраваны ў выяўл. мастацтве (у мастакоў школы Рэмбранта і інш.).

ІО́СІФ І Балгарынавіч (?—1501), праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Са шляхецкага роду, блізкі сваяк Івана Сямёнавіча Сапегі, пісара вялікага князя ВКЛ Аляксандра. Настаяцель Слуцкага Троіцкага манастыра, епіскап смаленскі, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (30.5.1498—1501). У 1498 прызначаны мітрапалітам вялікім кн. ВКЛ Аляксандрам, у 1500 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Іаакімам. Быў прыхільнікам далучэння правасл. царквы ВКЛ да *Фларэнтыйскай уніі 1439* (паміж каталіцкай і правасл. цэрквамі). У перапісцы з рымскім папам Аляксандрам VІ абгаворваў умовы гэтага акта, аднак у хуткім часе захварэў і памёр.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

ІО́СІФ ІІ Солтан (?—1521 або 1522) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з феадальнага роду Солтанаў. У пач. 16 ст. епіскап смаленскі. У час вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1500—03 захаваў пры асадзе Смаленска вернасць вялікаму князю ВКЛ і каралю польскаму Аляксандру. За гэта ў 1504 атрымаў ад Аляксандра 3 маёнткі ў Бельскім пав. (Тапілец, Бацюты і Пышчава), у 1507 ад караля Жыгімонта І Старога — с. Капусцінскае. Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1507—1521 або 1522; у 1509 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Пахоміем). 25.12.1509 склікаў у Вільні (тут знаходзілася яго рэзідэнцыя) сабор духавенства *Кіеўскай мітраполіі*, на якім было прынята 15 правіл, гал. чынам па паляпшэнні маральнага стану царквы. У прыватнасці, забаранялася прадаваць епіскапскія ка-

федры, ставіць свецкіх асоб на епіскапскія пасады. Аднак гэтыя пастановы парушаліся вялікакняжацкай уладай. У 1511 І. II пры дапамозе гетмана Канстанціна Астрожскага атрымаў ад Жыгімонта І. грамату з пацвярджэннем ранейшых прывілеяў праваслаўным. У 1514 склікаў новы сабор, на якім было ўстаноўлена свята прападобнага *Елісея Лаўрышаўскага* (паводле легенды, заснавальніка Лаўрышскага манастыра ў 13 ст.). Пры І. II манастыры і прыходскія цэрквы ў Вільні, Віцебску, Гродне, Кіеве, Кобрыне, Мінску, Мсціславе, Навагрудку, Пінску, Смаленску, Супраслі, Тураве і інш. атрымалі ад буйных свецкіх феадалаў шэраг маёнткаў і інш. ахвяраванняў. У 1521 І. II разам з К. Астрожскім дамогся ад Жыгімонта І. пастановы аб паляпшэнні становішча правасл. насельніцтва Галіцыі (ў складзе Польскага каралеўства). Завяшчаў Астрожскаму апеку над усёй мітрапаліцкай маёмасцю да абрання новага мітрапаліта.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *Ю.В.Бажэнаў.*

ІО́СІФ III (?—1534) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў са шляхецкага роду. У 1516 архіепіскап полацкі, у 1522—34 мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. Правіў ва ўмовах вострай барацьбы каталіцкіх і правасл. феадалаў за ўплыў на вялікага князя ВКЛ і караля польскага Жыгімонта І. Пры дапамозе гетмана К.*Астрожскага* дамогся ад Жыгімонта І. новых прывілеяў для правасл. цэркваў і манастыроў у Віцебску, Кіеве, Мінску, Пінску, Троках (цяпер Тракай) і інш.

*Літ.:* Мартос А.: Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

ІО́СІФ Бабрыковіч-Капет-Анехожскі (?, Вільня — 1634 або 1635) — беларускі праваслаўны царкоўны дзеяч. На яго выхаванне паўплываў настаяцель *Віленскага Свята-Духаўскага манастыра* Л. *Карповіч*. Пазней ва Угорніцкім скіце ў Галіцыі вывучаў статут і парадкі манаскага жыцця па чыне св. Васіля Вялікага. З 1624 рэктар Віленскай брацкай школы і брацкі прапаведнік. З 1625 намеснік Віленскага Свята-Духаўскага манастыра. У 1625 даваў парады паслам Запарожскага войска, якія накіроўваліся на сейм у Варшаву, неаднаразова прымаў удзел у варшаўскіх сеймах. Удзельнік Кіеўскага сабора правасл. іерархаў (1628), які асудзіў і пракляў праўніяцкую «Апалогію» М.*Смятрыцкага*. У 1632—34 (35?) архірэй *Магілёўскай праваслаўнай епархіі* з тытулам «епіскап аршанскі, мсціслаўскі і магілёўскі» (выбраны ў ліст. 1632, зацверджаны ў сак. 1633 прывілеем караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV). У 1633 пасвячоны ў сан епіскапа. Кіраваў епархіяй з Вільні, часам наведваў Магілёў. Пахаваны кіеўскім мітрапалітам Пятром *Магілай* у *Віленскім Свята-Духаўскім манастыры*.


Іосіф II.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *І.А.Пушкін.*

ІО́СІФ Ваўчанскі, праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі 18 ст. Брат *Ераніма* Ваўчанскага. Рэктар Кіеўскай акадэміі, член Кіеўскай духоўнай кансісторыі. Архімандрыт Кіева-Мікалаеўскага Пустынскага манастыра. У 1732—42 епіскап магілёўскі. У ліпені 1732 выбраны на з'ездзе духавенства ў Магілёве, 1734 пасвячоны ў сан епіскапа (30.12.1735 зацверджаны прывілеем караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III). Садзейнічаў атрыманню ад Аўгуста III пацвярджальных грамат на Магілёўскі Богаяўленскі манастыр са школай і друкарняй, на друкаванне духоўных і свецкіх кніг, набыццё будынкаў і зямлі і інш. У 1740 заклаў у Магілёве мураваную Спаскую царкву. У 1737 беспаспяхова прасіў Сінод рус. правасл. царквы падпарадкаваць яму залежныя ад Кіева манастыры, у тым ліку Слуцкую архімандрыю. З верасня 1742 архіепіскап маскоўскі і ўладзімірскі. Памёр у Маскве, пахаваны ў Чудавым манастыры.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *І.А.Пушкін.*

ІО́СІФ Канановіч-Гарбацкі (?—сак. 1653 ) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Прафесар і рэктар Кіева-Магілянскага калегіума, ігумен Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра ў Кіеве. З 1644 каад'ютар (памочнік-намеснік) магілёўскага епіскапа Сільвестра *Косава* з тытулам «епіскап беларускі». У 1647—53 епіскап магілёўскі. Напачатку лічыўся епіскапам фармальна, бо пасля абрання Сільвестра (1647) мітрапалітам кіеўскім магілёўская кафедра да 1650 належала уніятам. 2.5.1650 (паводле інш. звестак 2.5.1651)

атрымаў ад караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра прывілей на «епіскапства Беларускае». Паводле гэтага прывілея правасл. былі вернуты «Пячэрск з іншымі маентнасцямі і цэрквы». Пахаваны ў саборы *Магілёўскага Спаскага манастыра.*

*Літ.:* Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 21. *І.А.Пушкін.*

IOЎ (у свеце Іван Мацвеевіч) Барэцкі (?, с. Бірычы Гарадоцкага р-на Львоўскай вобл., Украіна — 12.3.1631) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, перакладчык, пісьменнік. Выкладаў у Львове лац. мову, у 1604—05 рэктар брацкай школы (пазней акадэмія). З 1620 Кіеўскі мітрапаліт. Падтрымліваў кнігадрукара і асветніка С.Собаля. Выступаў супраць каталіцтва і *Брэсцкай уніі 1596,* пашыраў пісьменнасць у асяроддзі простага люду. Аўтар пасланняў, лістоў, прадмоў, перакладаў, палемічных твораў, у тым ліку «Дыялог пра праваслаўную веру» (Астрог, 1606), «Анафалагіён, або Выбраная мінея на ўвесь год» (пераклад з грэч. мовы, дапоўнены службамі рус. святых і іх кароткімі біяграфіямі; Кіеў, 1619), «Аполія Апалогіі М.*Сматрыцкага*» (накіравана супраць поглядаў М. Сматрыцкага на унію; Кіеў, 1628) і інш. Творы І. былі вядомы бел. чытачам 17 ст. Яго дзейнасць адыграла пэўную ролю ў развіцці бел. культуры.

*Літ.:* Возняк М. Письменницька діяльність Івана Борецького на Волині і у Львові. Львів, 1954. *А.Ф.Коршунаў.*

ICIДÓР, Сідар (Izydor; ?, Фесалонікі, цяпер г. Салонікі, Грэцыя — 1462)— праваслаўны, пазней уніяцкі царкоўны дзеяч у Маскоўскай дзяржаве і ВКЛ. Архімандрыт манастыра св. Дзімітрыя ў Канстанцінопалі, пазней памочнік ілірыйскага архіепіскапа. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1437—41) з рэзідэнцыяй у Маскве (гл. *Кіеўская мітраполія*). Пасвячоны канстанцінопальскім патрыярхам Іосіфам. 8.9.1437 з дазволу вял. кн. маскоўскага Васіля II Цёмнага ўзначаліў вялікае пасольства на Ферарскі сабор (Італія), дзе абмяркоўвалася пытанне уніі паміж каталіцкай і правасл. цэрквамі. У 1438 праз Ноўгарад, Пскоў, Рыгу, Любек, Лейпцыг, Цірoль прыбыў у Ферару. У сувязі з эпідэміяй халеры і фінансавымі праблемамі пасяджэнні сабора з 26.2.1439 працягваліся ў Фларэнцыі. Разам з нікейскім мітрапалітам Візарыёнам падпісаў *Фларэнтыйскую унію 1439.* Атрымаў ад папы Яўгена IV званне кардынала і прызначаны апостальскім легатам да «паўночных краін». На зваротным шляху ў Будзе (Венгрыя) разаслаў пастырскія пасланні пра аб'яднанне цэркваў ва ўсе падначаленыя яму епархіі Маскоўскай (Рускай) дзяржавы, ВКЛ, Польшчы, Інфлянтаў. На Вавелі (Кракаў) у гонар І. быў наладжаны ўрачысты прыём. 6 месяцаў (з жн. 1440) прабыў на землях ВКЛ, наведаў Вільню, Полацк, Тураў і інш. У час наведвання Кіева атрымаў ліст ад кіеўскага кн. Аляксандра Уладзіміравіча Алелькавіча з прызнаннем недатыкальнасці мітрапаліцкіх уладанняў і судовых прэрагатыў. Гэта было амаль афіц. прызнанне ўсіх паўнамоцтваў новага мітрапаліта. Прызначыў уладзімірскага і берасцейскага (брэсцкага) епіскапа Даніїла, які ў 1452 адрокся ад І. У цэлым яго пастырская дзейнасць у ВКЛ не мела поспеху, бо вялікі князь ВКЛ і кароль польскі Казімір, як і большасць каталіцкіх іерархаў, падтрымлівалі не папу Яўгена IV, а абранага базельскім саборам Фелікса V. Правасл. насельніцтва ВКЛ унію таксама не прыняло. Вясной 1441 І. прыбыў у Маскву і правёў урачыстую літургію ва Успенскім саборы, пасля чаго была зачытана пастанова аб уніі. Вялікі кн. Васіль II абвясціў І. ератыком і «фальшывым пастырам», а правасл. епіскапы і баярская рада прызналі акты Фларэнтыйскага сабора неканаНічнымі і неадпаведнымі правасл. веравызнанню. І. зняволены ў Чудавым манастыры (Масква), адкуль уцёк у Цвер, потым у Навагрудак, дзе сустрэўся з вялікім кн. Казімірам. Пазней жыў у Рыме і Канстанцінопалі, дзе ў 1453 пры ўзяцці горада туркамі трапіў у палон, але не быў апазнаны. Выкуплены, вярнуўся ў Рым. Рассылаў лісты да еўрап. манархаў з заклікам наладзіць крыжовы паход супраць Турцыі. У 1458 сам адрокся ад Кіеўскай мітраполіі на карысць свайго сябра *Грыгорыя Балгарына,* але хутка атрымаў ад папы Пія II сан канстанцінопальскага патрыярха (уніяцкага). Быў адукаваным асобай, прамоўцам, пісьменнікам, перапісваўся з гуманістамі, пакінуў апісанне аблогі і заваявання Канстанцінопаля туркамі, а таксама некаторыя каментарыі да Евангелля паводле Лукі.

*Літ.:* Рамм Б.Я. Папство и Русь в X—XV вв. М.; Л., 1959; Винтер Э. Папство и царизм: Пер. с нем. М., 1964; Тихомиров М. Греки из Мореи в средневековой России // Средние века: Сб. М., 1964. Вып. 25; Зноско К. Исторический очерк церковной унии, ее происхождение и характер. М., 1993. *Г.Я.Галенчанка.*



«Пераход цераз Іардан». Гравюра з кнігі **«Ісус Навін»** Ф.Скарыны.

ІСЛА́М (араб., літар. пакорнасць, адданне сябе волі Бога), м у с у л ь м а н с т в а — адна з трох сусветных рэлігій (разам з *будызмам* і *хрысціянствам).* Узнік у Аравіі ў пач. 7 ст. Заснавальнік — *Мухамед.* Веравызнанне выкладзена ў свяшчэннай кнізе *Каран.* Грунтуецца на 7 догматах веры: у адзінага Бога — Алаха; у анёлаў; ва ўсе кнігі Гасподнія (*Тора, Евангелле, Псалмы* і Каран); ва ўсіх пасланнікаў Алаха, у т.л. Адама, Майсея (Муса) і Ісуса Хрыста (Іса бен Марыям), якія прызнаюцца папярэднікамі Мухамеда; у прадвызначэнне; у канец свету і судны дзень; уваскрэсенне памерлых. Культ І. абапіраецца на 5 «слупоў веры»: спавяданне веры — абвяшчэнне, што «няма Бога акрамя Алаха, і Мухамед — пасланнік Божы» (шахада); штодзённая 5-разовая малітва (салят); падатак у суме $^{1}/_{40}$ ад гадавога прыбытку (для асоб, якія валодаюць пэўным мінімумам маёмасці) на карысць бедных (закят); пост саўм (цюрк. — ураза) у месяц рамадан (цюрк. — рамазан); паломніцтва у свяшчэнны горад Мекку (хадж). Вялікае значэнне надаецца рэліг. святам; ід-аль-адха (цюрк. — курбан-байрам), ід-аль-фітр (цюрк. — ураза-байрам) і інш.; існуюць шматлікія абрады і рытуалы. Акрамя Карана мусульмане прызнаюць Суну (свяшчэннае паданне, выкладзенае ў апавяданнях пра жыццё і дзеянні прарока Мухамеда). На Каране і Суне грунтуецца шарыят — збор норм мусульманскага права. Сучасны І. падзяляецца на 2 асн. кірункі: *сунізм* (лічыцца артадаксальным кірункам) *і шыізм* (у ім Суна прызнаецца толькі часткова). Духавенства ў І. (мулы, імамы, муфтыі і інш.) выбіраецца вернікамі і не мае такой складанай іерархіі, як хрысціянскае, няма пасвячэння і ступеней свяшчэнства. Паслядоўнікі І. складаюць большую частку насельніцтва многіх краін Азіі, Афрыкі, Балканскага паўвострава. У краінах СНД І. пашыраны ў народаў Паволжа, Каўказа, Сярэдняй Азіі. Паводле Ісламскай лігі, І. вызнае больш за 1 млрд. вернікаў. Дзейнічае Арганізацыя Ісламская канферэнцыя (з 1971 аб'ядноўвае 45 краін), створаны Ісламскі банк развіцця.

На землях Беларусі І. (сунізм) вызнае татарскае насельніцтва. Тут ў канцы 14 ст. з'явіліся першыя мячэці. У 1591 у Рэчы Паспалітай пражывала каля 100 тыс. татар, якія мелі амаль 400 мячэцей. У 17 ст. мусульмане трапілі пад уплыў каталіцкай царквы, іх колькасць зменшылася да 30 тыс. Працэс адыходу ад І. і асіміляцыі бел. татар працягваўся і ў наступным стагоддзі. Паводле перапісу 1897 у Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губ. пражывала 13 877 мусульман. У 1939 у Зах. Беларусі было 17 мячэцяў і 2 малітоўныя дамы. Пасля Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі дзейнічала адзіная мячэць у Іўі. У 1980-я г. пачалося ажыўленне рэліг. і грамадска-культурнай дзейнасці сярод татар. На Беларусі створаны самастойны Муфтыят Рэспублікі Беларусь (1994), дзейнічаюць 24 абшчыны мусульман (2001). І. спрыяе захаванню нац. самасвядомасці бел. татар у іншаэтнічным і іншарэліг. асяроддзі.



Да арт. **Ісус Хрыстос.** Распяцце. Канец 14 ст.

*Літ.:* Д у м і н С.У. К а н а п а ц к і І.Б. Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Л а к о т к а А.І. Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994.

*Ю.А.Крывіцкі.*

ІСУ́С НА́ВІН, паводле біблейскіх паданняў, слуга і паплечнік Майсея, гал. памагаты прарока ў справе вяртання народа іудзейскага ў зямлю запаветную. Паходзіў з калена Яфрэмава і насіў імя Осіі, але перайменаваны Майсеем у Ісуса, як збавіцеля, які выратуе народ ад бедстваў у час блуканняў па пустыні на шляху ў зямлю запаветную.

ІСУ́С ХРЫСТО́С (грэч. Iisus Cristos, яўр. Іешуа, «Машыах» месія, памазанік — заснавальнік *хрысціянства,* другая асоба хрысціянскай Тройцы — Бог-Сын. Вера ў І.Х. адрознівае хрысціянства ад іудаізму, у недрах якога яно ўзнікла. Жыццё і вучэнне І.Х. выкладзены ў Новым запавеце Свяшчэннага пісання (*Біблії*). У большасці хрысц. канфесій (апрача монафізітаў) І.Х. лічаць Богачалавекам, г.зн. які звышнатуральным чынам злучае ў сабе 2 пачаткі — боскае і чалавечае. З І.Х. звязаны евангельскія апавяданні пра яго бязгрэшнае зачацце дзевай Марыяй, уцёкі сямейства ў Егіпет ад праследавання цара Ірада, хрышчэнне І.Х. *Іаанам Хрысціцелем,* прапаведніцкую дзейнасць І.Х. і яго 12 вучняў (апосталаў), цуды І.Х(уваскрэсенне мёртвых, хаджэнне па вадзе, вылячэнне хворых і інш.). здраду апостала *Іуды,* суд над І.Х., яго рас-


Да арт. **Ісус Хрыстос**. Хрыстос Уседзяржыцель. 16 ст. Беларуская іканапісная школа.


Да арт. **Ісус Хрыстос**. Хрыстос Уседзяржыцель. 1640. Беларуская іканапісная школа.

пяцце на крыжы, уваскрэсенне І.Х. і ўзнясенне на неба. Многія з дэталей біяграфіі І.Х. лічацца прадказанымі ў Старым запавеце, дзякуючы чаму ствараецца пераемная сувязь паміж Старым і Новым запаветамі. Праблема існавання або неіснавання І.Х. як рэальнай гіст. асобы да гэтага часу застаецца для гістарыяграфіі нявырашанай, аб чым сведчыць распачатая ў пазамінулым стагоддзі палеміка ў хрысталогіі паміж гіст. і міфалагічнай школамі. Пратэстанты лічаць, што І.Х. сваёй ахвярай на крыжы гарантаваў усім, хто верыць у яго, боскае прабачэнне і вечнае выратаванне, чым зрабіў залішнімі прынятыя ў каталіцызме і праваслаўі таінствы, літургію, паломніцтвы, пакланенні святым, крыжу, абразам і г.д. Нягледзячы на значныя разыходжанні канфесіянальных меркаванняў і рознагалоссі сярод тэолагаў, для пратэстантызму ў цэлым характэрны больш хрыстацэнтрызм, чым ў каталіцызме і праваслаўі. Вобраз І.Х. у пратэстантызме выступае з большым акцэнтам на яго чалавечую прыроду: І.Х. разумеецца не столькі як ўсётрымальнік і цудатворца, колькі як гранічна аўтарытэтны мараліст, дасканалы настаўнік, жыццё і смерць якога поўнасцю зліваюцца з яго ўсёвыратавальнай місіяй. І.Х. звязаны з кожным сапраўдным вернікам непасрэдна — Святым Духам.


Да арт. **Іудаізм**. Сінагога ў Гродне.

ІУ́ДА ІСКАРЫЁТ (ад старaж.-яўр. іш Карыёт — чалавек з Карыёта) — у Новым запавеце адзін з 12 вучняў (апосталаў) Ісуса Хрыста, які прадаў свайго настаўніка за 30 сярэбранікаў. У пераносным сэнсе — здраднік.

ІУДАІ́ЗМ — рэлігійны, нацыянальны і этычны светапогляд, які на працягу тысячагоддзяў вызначаў вераванні і жыццёвы ўклад яўрэяў. У больш вузкім сэнсе — нац. яўрэйская рэлігія. Дзярж. рэлігія Ізраіля.

Узнік у 2-м тысячагоддзі да н.э. як прынцыпова новая рэліг. канцэпцыя, якая пасля заваявання яўрэямі Ханаана (стараж. назва Палесціны) супрацьпаставіла політэістычным вераванням мясц. і паўночнааравійскіх плямёнаў ідэю адзінага Бога — Яхве, стваральніка і ўладара Сусвету. Адыграў гал. ролю ў станаўленні стараж. дзяржавы — Ізраільска-Іудзейскага царства (10 ст. да н.э.). З пачатку зараджэння знаходзіўся ў канфлікце з рэліг. культамі Месапатаміі і Егіпта, дзе панаваў політэізм. Пасля заваявання Блізкага Усходу Аляксандрам Македонскім (4 ст. да н.э.) канфлікт найбольш абвастрыўся, аднак І. і элінізм у розных формах і праявах уплывалі адзін на аднаго. Монатэістычныя ўяўленні ў І. ўзмацніліся ў 5 ст. да н.э. і пасля вяртання яўрэйскага народа з вавілонскага па-

лону. У гэты час з'явіўся сам тэрмін «І», які ў яўрэйскай эліністычнай л-ры быў антытэзай язычніцтву. Гал. крыніца веравучэння ў І. — *Біблія* (Стары запавет), асн. догмы выкладзены ў яе першых 5 кнігах, аб'яднаных у *Тору* (Пяцікніжжа Майсеева). Яўрэйскі монатэізм адыграў вырашальную ролю ў стварэнні і фарміраванні тэалогіі і культаў *хрысціянства* і *ісламу*. Цэнтрам І. ў 1-м тысячагоддзі да н.э. быў Іерусалімскі храм (у 586 да н.э. зруйнаваны вавіланянамі, адбудаваны, у 70 н.э. канчаткова зруйнаваны рымлянамі) . У перыяд 2-га Храма найбольш поўным выражэннем І. стала Галаха — сукупнасць законаў, якія рэгламентуюць жыццё яўрэяў. Калі практычна ўсё яўрэйскае насельніцтва апынулася пад уладай Рыма (1 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.), завяршылася фарміраванне вучэння аб будучым прыходзе Месіі — збавіцеля з роду Давіда, 2-га цара Ізраіля, які павінен адрадзіць Ізраільска-Іудзейскае царства і прынесці выратаванне яўрэйскаму народу. Пасля зруйнавання 2-га Храма рэліг. жыццё ў І. засяродзілася вакол *сінагог* — малітоўных дамоў, якія з'явіліся з 4 ст. да н.э.; рэліг. кіраўнікамі сталі законавучыцелі — *рабіны*, якія выбіраюцца абшчынамі вернікаў і не маюць складанай іерархіі. Да 5. ст. н.э. склалася другая па значэнні крыніца І. — *Талмуд*, у якім сабраны ўсе дагматычныя, рэліг.-этычныя і прававыя палажэнні І., рэгламентуюцца складаная абраднасць і нормы паводзін кожнага верніка. У далейшым у І. творча ўзаемадзейнічалі процілеглыя ідэі і антаганістычныя тэндэнцыі: этыка і рытуал; ідэя абранасці яўрэйскага народа як носьбіта Божага адкрыцця і роўнасці ўсіх людзей, створаных «на ўзор і падабенства Божае», адданасць страчанай радзіме, імкненне да вяртання на яе і адаптацыя да жыцця ў дыяспары. З пашырэннем хрысціянства (з 4 ст. — дзярж. рэлігія Рымскай імперыі) і ісламу (7 ст.), якія бяруць пачатак у І., узнік іх канфлікт з І.: яўрэйства адмовілася прызнаць прэтэнзіі гэтых рэлігій быць адзінымі носьбітамі ісціны і разглядала іх як скажэнне І., тыя, са свайго боку, ставіліся да І. як да гіст. рудымента і богаадступніцтва. Змены ў гіст. і сацыяльных умовах не прывялі да сур'ёзных змен Галахі, якая на працягу многіх стагоддзяў заставалася асновай жыццёвага ўкладу яўрэяў, а выкананне яе прадпісанняў вызначала прыналежнасць да яўрэйства, садзейнічала ізаляванасці ў іншаэтнічным і іншаканфесійным асяроддзі ў дыяспары. У сувязі з эмансіпацыяй яўрэяў (ураўнаванне ў правах з астатнім насельніцтвам) у 19 ст. ў шэрагу заходнееўрап. краін узнікла супярэчнасць паміж неабходнасцю захавання вернасці І. і інтэграцыяй у навакольнае культ. асяроддзе. Вынікам гэтага стала з'яўленне новых кірункаў у І., адрозненні паміж якімі вызначаюцца адносінамі да Галахі: выкананне



Да арт. **Іудаізм**. Сінагога ў Слоніме. Фрагмент дэкору інтэр'ера.

ўсіх яе патрабаванняў абвяшчае артадаксальны І.; за сінтэз традыцыі з рэформамі, якія не супярэчаць асновам Галахі, выступае кансерватыўны І.; адмаўленне ад прызнання бясспрэчнасці законаў Галахі і выкананне толькі яе асобных палажэнняў характарызуе рэфармісцкі І.

Першыя дакладныя звесткі пра пасяленне яўрэяў-іудаістаў на землях Беларусі вядомы з 14 ст. Гэта акты аб прывілеях 1388—89 вялікага кн. Вітаўта, дадзеныя 5 яўрэйскім абшчынам ВКЛ: у Троках, Брэсце, Гродне, Луцку і Уладзіміры-Валынскім. У цэнтральнай і ўсходняй Беларусі яўрэі рассяліліся з 16 ст. Тады пачалося буд-ва мураваных і драўляных сінагог, якія былі ў кожным мястэчку і па некалькі ў кожным горадзе. Акрамя сінагог у многіх населеных пунктах існавалі і невялікія малітоўныя дамы. З 16 ст. на Беларусі вядомы іудзейскія рэліг. навуч. ўстановы — *ешыботы* (найстарэйшая ў Брэсце). У 18 ст. з Валыні на Беларусь пачала пранікаць новая містычная рэліг. плынь — *хасідызм*. Хасідскія лідэры — цадзікі (святыя, праведнікі) — у адрозненне ад рабінаў лічыліся пасрэднікамі паміж вернікамі і Богам, цудатворцамі і празорцамі. На Беларусі хасідызм меў больш рацыянальны, чым на Украіне, характар і атрымаў мясц. самабытную форму — хабад. Паміж хасідамі і прыхільнікамі артадаксальнага рабінскага І. (іх хасіды называлі міснагдым —



Да арт. **Іудаізм**. Сінагога ў Слоніме.

«апаненты») разгарнулася актыўная барацьба ў форме памфлетаў, адлучэння хасідаў ад сінагогі (херэм), узаемных даносаў уладам. Хасідскаму містыцызму міснагдым супрацьпастаўлялі рабінскую вучонасць, дзеля чаго была значна пашырана сетка ешыботаў. Неафіц. прымірэнне паміж бакамі ў 19 ст. тлумачылася гал. чынам агульнай барацьбой супраць хаскалы (гаскалы, літаральна «асвета») — яўрэйскага інтэлігенцкага руху, удзельнікі якога імкнуліся да авалодання еўрап. свецкімі ведамі і грэбавалі абраднасцю І. Большасць іудзейскіх абшчын Беларусі заставалася пад уплывам рабінаў. Пасля 1917 значэнне І. ў жыцці яўрэяў у БССР у выніку рэвалюцыйных пераўтварэнняў, нац. эмансіпацыі, развіцця свецкай адукацыі, антырэліг. прапаганды і інш. моцна скарацілася. Ешыботы і пачатковыя рэліг. школы — хедэры — былі закрыты, сінагогі выкарыстоўваліся для свецкіх патрэб. У Заходняй Беларусі ў 1921—39 І. захоўваў свае пазіцыі. У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі ў ходзе генацыду яўрэйскага народа знішчалі і помнікі матэрыяльнай культуры І. (спалены драўляныя сінагогі Беларусі). У 1980-я г. пачалося адраджэнне яўрэйскага нац.-культурнага і рэліг. жыцця. На 1.1.2001 у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 22 іудзейскія абшчыны і 10 абшчын «прагрэсіўнага іудаізму». Акрамя яўрэяў І. вызнаюць некаторыя інш. этна-канфесійныя групы, напр. *караімы*.

*Я.З.Басін, Ю.В.Бажэнаў.*

ІЯЎЛЕ́ВІЧ (Яўлевіч) Ігнацій (26.9.1619, г. Магілёў — каля 1686) — беларускі педагог-асветнік, пісьменнік, грамадскі і царкоўны дзеяч. Вучыўся ў Шклове, потым у Магілёўскай брацкай школе, тэалогію і медыцыну вывучаў у Замойскай акадэміі (Польшча). Працаваў выкладчыкам Кіева-Магілянскага калегіума, быў прафесарам свабодных навук. Разам з рэктарам гэтага калегіума С. Пачаскім удзельнічаў у арганізацыі ў Ясах (Румынія) славяна-грэка-лац. акадэміі (адкрыта ў 1640). У 1647 пастрыгся ў Кіеве ў манахі. Жыў у Львове, Яраславе (Галіцыя), Кракаве, Скіце, Камянцы, Сочаве (Валахія), Оршы і інш. З 1655 у Полацку, быў ігуменам Богаяўленскага манастыра, пры якім адкрыў школу і б-ку. З 1660 таксама архімандрыт Полацкага Барысаглебскага манастыра. Апекаваўся паэтамі Ф. Утчыцкім і Сімяонам Полацкім, падтрымліваў прыязныя адносіны з рус. дзярж. і культурнымі дзеячамі, у т.л. Ф. Рцішчавым і А. Ардын-Нашчокіным. Удзельнік Маскоўскага царк. сабора 1660 па справе патрыярха Нікана. Апошнія весткі пра І. ў перапісцы з маскоўскім патрыярхам Іаакімам за студз. — сак. 1686. З літ. спадчыны І. дайшла яго аўтабіяграфічная запіска (на польскай мове, апубл. С. Голубевым у 1886), у якой ёсць важныя матэрыялы па гісторыі адукацыі 2-й чвэрці 17 ст., культурныя і педагагічныя ўзаемасувязі бел. і ўкр. народаў. Захаваліся яго прамовы з нагоды розных рэліг. і паліт. падзей, некалькі лістоў да Сімяона Полацкага. Вядомы яго дэкламацыя на прыезд у Магілёў віцебскага, аршанскага, мсціслаўскага і магілёўскага епіскапа *Іосіфа* Гарбацкага (4.8.1650), некалькі вершаў на ўзор элегій Авідзія.

*А.Ф.Коршунаў.*

К

КААД'ЮТАР — у каталіцкай царкве духоўная асоба, якая прызначаецца папам рымскім для дапамогі епіскапу ў выпадку, калі той не можа выконваць свае абавязкі па стану здароўя або па старасці. К. валодае ўсёй паўнатой улады *епіскапа.*

КАБАЛА (стараж.-яўр., літар. паданне) — містычная плынь у *іудаізме.* Аб'яднала пантэістычную пабудову неаплатанізму і міфалагемы *гнастыцызму* з верай у *Біблію* як свет сімвалаў. Узнікла ў 9 ст., развіццё атрымала ў 13 ст. сярод яўрэяў Іспаніі і Praванса (Францыя), у 15 ст. распаўсюдзілася сярод хрысц. вучоных Еўропы. Вучэнне К. — кабалістыка прапаведуе пошук асновы ўсіх рэчаў у лічбах і літарах яўр. алфавіта, лекавых сродкаў — у амулетах і формулах. Засн. на веры, што пры дапамозе спец. рытуалаў і малітваў чалавек можа ўмешвацца ў боска-касмічны працэс.

КАДЗІЛА, кадзільніца — металічная чаша, у якой змяшчаюцца тлеючыя вугольлі, ладан і інш. духмяныя рэчывы. Падвешваецца К. на 3—4 ланцужках. Выкарыстоўваецца падчас богаслужэнняў у хрысц. храмах.

КАЗАННЕ — від царкоўна-рэлігійнай прапаведніцкай літаратуры; належыць да аратарскай прозы. Блізкае да «слова», але больш вузкае і пэўнае па значэнні. Асн. тыпы — урачыстае і дыдактычнае К. Яго вытокі ў вусных «словах» — прадмовах першых прапаведнікаў. Класічныя ўзоры К. пакінулі раннехрысц. пісьменнік *Іаан Златавуст, Грыгорый Багаслоў, Васіль Вялікі, Яфрэм Сірын,* якія развівалі традыцыі ант. аратарскай прозы. Найб. яркія помнікі ўрачыстага К. на Русі — глыбокапатрыятычнае «Слова пра закон і дар божы» *Іларыёна* і паэтычныя, напоўненыя багатай эмацыянальнай вобразнасцю «словы» *Кірылы Тураўскага.* Іх традыцыі прадоўжылі Г.*Цамблак,* Л.*Карповіч,* М.*Сматрыцкі* і інш. (апошнія пакінулі ўзоры яшчэ аднаго віду К. — пахавальнага). Лепшыя К. адметныя стройнасцю кампазіцыі, дасканаласцю і пераканаўчасцю выкладання, багаццем вобразна-паэтычнай мовы. Як вусная прамова-*прапаведзь* К. бытуе і ў наш час, але сфера яго выкарыстання больш вузкая. *В.А.Чамярыцкі.*

КАЗІМІР СВЯТЫ (5.10.1458, Кракаў — 4.3.1484) — другі сын караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Казіміра IV Ягелончыка і Альжбеты Ракушанкі. Ушаноўваецца каталіцкай царквой як патрон Вільні, апякун земляў ВКЛ, патрон *Гродзенскай рымска-каталіцкай епархіі* (з 1991). Быў вельмі рэлігійны. Атрымаў добрую гуманітарную адукацыю. Хатнімі яго выкладчыкамі былі гісторык Я.Длугаш, выкладчык тэалогіі ў Ягелонскім ун-це Я.Канта, італьянскі пісьменнік і гуманіст Ф.Калімах. У 1471 па просьбе праціўнікаў венгерскага караля Мацея Корвіна на чале 12-тысячнага войска беспаспяхова спрабаваў заняць прастол Венгрыі. Калі ў 1475 старэйшы сын Казіміра IV Уладзіслаў заняў чэшскі трон, К.С. стаў наследнікам польскай кароны. З гэтага часу ён часта на-



Выява св. **Казіміра** на абразе Тракельскай Маці Божай. 17 ст. З в. Тракелі Гродзенскай вобл.

ведваў Вільню. У 1481—83 кіраваў справамі ў Польшчы. З-за хваробы на сухоты даў зарок цнатлівасці, таму адмовіўся ад шлюбу з дачкой герм. імператара Фрыдрыха III. У маі 1483 па выкліку бацькі прыехаў у Вільню. Дабрачыннасцю заслужыў павагу гараджан. На каляды 1483 наведаў Гродна, але яго здароўе моцна пагоршылася і 1.3.1484 ён у цяжкім стане перавезены ў Вільню, дзе памёр. Пахаваны ў каралеўскай капліцы Віленскага кафедральнага сабора. У 1522 адбылася кананізацыя К., але кананізацыйная була знікла па дарозе. У 1602 папа рымскі Клімент VII загадаў аднавіць ушанаванне К. як святога ва ўсім каталіцкім свеце. Асаблівае значэнне культ К. атрымаў на землях ВКЛ, дзе ў яго гонар праводзіцца асобная служба 4 сакавіка. У Вільні ў гэты дзень адбываецца святочны кірмаш (літоўскае «Казюкас»).

*Л.А.Карнілава.*

КАЗУІСТЫКА — разгляд асобных выпадкаў, здарэнняў у іх сувязі з агульнымі прынцыпамі. У іудаізме — тлумачэнне *Торы* і *Талмуда*. Талмудычная К. (хілук ці пілпул) — разважанні на рэліг.-абрадавую тэму, пошукі аргументаў «за» і «супраць» аднаго і таго ж рэліг. палажэння. У сярэдневяковай схаластыцы і багаслоўі — прымяненне агульных дагматычных палажэнняў да асобных выпадкаў. У тэалогіі (асабліва ў каталіцызме) вучэнне пра ступень граху.

КАЗЬМА, Косма (? — каля 1166) — епіскап полацкі. Упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца пад 1144. Верагодна, прыехаў у Полацк з Візантыі разам з полацкімі князямі-выгнаннікамі Рагвалодам (Васілём) і Іванам (?) у 1140. Пасля захопу Кіева кн. Ізяславам Мсціслававічам (1146) выступіў з епіскапам Мануілам Смаленскім і Ніфантам Наўгародскім супраць некананічнага прызначэння мітрапалітам кіеўскім Клімента Смаляціча. У 1147 трапіў у няміласць і пакінуў кафедру, вярнуўся ў 1155 ці 1156 пры Юрыю Далгарукім. У 1156 разам з Мануілам сустракаў у Кіеве новага мітрапаліта Канстанціна. Пры К. быў зроблены *Крыж Ефрасінні Полацкай* (1161). Пераемнікам К. ў Полацку стаў *Дыянісій*.

*С.В.Тарасаў.*

КАІН — паводле біблейскай міфалогіі, старэйшы сын *Адама* і *Евы*, земляроб. К. забіў з зайздрасці брата Авеля, пастуха, за тое, што бог Яхве прыняў дары Авеля, а не яго. Пракляты Богам за братазабойства (асуджаны на вечнае блуканне) і адзначаны асобым знакам («Каінава пячатка»).

КАЛАДЫНСКІ Андрэй (Казьма) — беларускі дзеяч *Рэфармацыі* 16 ст. Дыякан з Віцебска. Верагодны аўтар апакрыфічнага «Пісьма полаўца Івана Смеры». К. сцвярджаў быццам бы ён знайшоў у 1567 у Перамышльскай зямлі пісьмо полаўца Івана Смеры, «урача, вучонага і годнага чалавека», які быў адпраўлены вял. князем кіеўскім Уладзімірам у 10 ст. ў Візантыю з заданнем апісаць звычаі і стан «грэчаскай» (хрысц.) веры. У «пісьме» Смеры да князя рэзка крытыкуецца візантыйскае хрысціянства за «ідаласлужэнне», раскошу, карыслівасць, трыманне «народа ў рабстве». Адначасова з задавальненнем гаворыцца пра існаванне ў Александрыі сапраўдных хрысціян-праведнікаў, у малітоўных дамах якіх «няма ніякіх ідалаў», а толькі сталы і лавы». «Пісьмо» ў перакладзе на латынь было апублікавана ў 1675 у кнізе па царк гісторыі Хрыстафора Сандзіуса і ў 1679 у «Чатырох кнігах аб славянскай рэфармацыі» польскага пратэстанцкага гісторыка Андрэя Венгероўскага. Да 18 ст. храністы і гісторык верылі ў праўдзівасць «Пісьма». М.М.Карамзін першы дапусціў, што гэта фальсіфікацыя, а І.І.Малышэўскі ў 19 ст. абгрунтаваў, што аўтар гэтага твора сам К. Будучы прадстаўніком антытрынітарызму, К. ў «Пісьме» фактычна проціпастаўляў праваслаўю і каталіцызму ідэалы радыкальнага пратэстантызму. На думку Малышэўскага, К. ідэнтычны сацыніяніну Казьме-Андрэю з пасланія Арцемія С. Буднаму: «И се товарищ ваш Козма, егоже вы нарекаете Андрея, в Витебску ясно объявил нынешния ереси проповедани, не треба глаголя Троицу именовати... И лист показал тот Козма, яко от вашея сонмища послан з Вильна...». Верагодна, К. належаў да паслядоўнікаў рус. ератыка Ф.*Касога*, які ў 1550-я г. пасяліўся каля Віцебска.

*Літ.:* Дмитриев М. Белорусский скептик XVI в. // Наука и религия. 1984. №4.

*Ю.В.Бажэнаў.*

КАЛЕГУМЫ — навучальныя ўстановы ў 16—19 ст. на Беларусі. Найб. пашыраны К. ордэна езуітаў (гл. *Езуіцкія калегіумы*). Давалі класічную гуманітарную адукацыю. У іх прымалі дзяцей з розных саслоўяў (пераважна са шляхты) і неабавязкова каталіцкага веравызнання (схіленне ў каталіцызм прадугледжвалася ўсім ходам выхавання). Навучанне было бясплатнае. Выпускнікі маглі заставацца свецкімі асобамі або належаць да інш. каталіцкіх арганізацый. На чале К. стаяў рэктар; навуч.-выхаваўчым працэсам загадваў яго памочнік — прэфект. Паводле навук. званняў выкладчыкі падзяляліся на прафесараў і магістраў. Найб. вядомым тыпам езуіцкіх К. былі сярэднія 5-класныя гімназіі з тэрмінам навучання 6—7 гадоў. Першыя 3 класы называліся ніжэйшай школай або граматычнымі класамі, іх задачай было навучанне лац. граматыцы і падрыхтоўка да далейшага курса красамоўства. Першы клас езуіцкіх К. называўся «infima classic grammaticae»

(«ніжэйшая граматыка»). Часам яго праграма расцягвалася на 2 гады. Выкладаліся таксама асновы грэч. мовы. У вялікіх К. класу «infima» папярэднічаў падрыхтоўчы клас, у якім дзяцей вучылі чытаць і пісаць. У 2-м класе завяршалася элементарнае навучанне лац. граматыцы, выкладанне грэч. мовы даводзілася да ўзроўню сінтаксісу. У 3-м класе вучні ўдасканальвалі свае веды ў лац. мове, вывучалі поўны аб'ём граматыкі грэч. мовы. Пасля заканчэння ніжэйшай школы вучань пераходзіў у клас паэзіі. Пры вывучэнні літаратурных твораў звярталася ўвага на літ. дасканаласць, аратарскія вартасці, маст. асаблівасці і г.д. Завяршаўся курс 2-гадовым класам рыторыкі, які прадугледжваў азнаямленне з тэорыяй аратарскага мастацтва, выпрацоўку ўласнага стылю мовы, далейшае вывучэнне твораў лац. і грэч. аўтараў, а таксама айцоў царквы. Увесь навуч.-выхаваўчы працэс быў прасякнуты рэліг. накіраванасцю. Вывучаліся таксама гісторыя, геаграфія, фізіка, логіка і астраномія. Існавалі таксама К. з дадатковым 3-гадовым курсам філасофіі і 4-гадовым курсам тэалогіі, якія лічыліся вышэйшымі. Тэалогію вывучалі толькі члены ордэна і кандыдаты ў духоўны сан. К. былі лепшымі на той час навуч. установамі ў свеце, садзейнічалі ўсталяванню на Беларусі заходнееўрап. сістэмы адукацыі. Буйнейшыя езуіцкія К. на Беларусі: у Брэсце, Віцебску, Гродне, Драгічыне-Надбужскім, Жодзішках (Ашмянскі павет), Магілёве, Мінску, Мсціславе, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Полацку (у 1812—20 *Полацкая езуіцкая акадэмія*), Слуцку, Смаленску, Юравічах (Мазырскі пав.). Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 К. былі закрыты ці перададзены Адукацыйнай камісіі. Захаваліся толькі ва ўсходняй Беларусі, далучанай да Рас. імперыі ў 1772. У Рас. імперыі К. існавалі да выгнання езуітаў з краіны ў 1820. У канцы 17—1-й трэці 19 ст. на Беларусі былі пашыраны таксама К. ордэна *піяраў*. Іх праграма навучання і ўнутраная будова былі на ўзор езуіцкіх К. (пасля скасавання ордэна езуітаў піяры фактычна выконвалі іх функцыі). У 1740—50-я г. па ініцыятыве правінцыяла ордэна асветніка і педагога С. Канарскага праведзена рэформа піярскіх К. (скарочаны курс тэалогіі, уведзена польская мова, грамадскія і прыродазнаўчыя навукі). Найб. вядомыя К. піяраў былі ў Вільні, Віцебску, Воранаве, Геранёнах (Ашмянскі пав.), Дуброўне (Магілёўская губ.), Лідзе, Лужках (Дзісенскі пав.), Любяшове (Мінская губ., цяпер Валынская вобл. Украіны), Полацку, Шчучыне. У 1822—31 працавала *Полацкае вышэйшае піярскае вучылішча*. Існавалі К. і некаторых інш. ордэнаў, напр., Віленскі К. дамінікаўцаў, *Забельскі дамініканскі калегіум*.

*Літ.:* Жлутка А. Езуіты на Беларусі: пошукі праўды // З гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. Вып. 2. *Т.Б.Блінова.*


Г.Календа.

КАЛЕ́НДА Гаўрыіл (Габрыэль; каля 1606, Вільня — 18.11.1674) — уніяцкі рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай. З бел. шляхецкага роду герба «Бэлты». У 1626 уступіў у ордэн *базыльян*. Вучыўся ў калегіумах Брунсберга (цяпер г. Бранева, Польшча; 1627—30), Вены і Рыма (1633—39). У 1633 пасвячоны ў сан святара. У 1642—55 пры мітрапаліце *А.Сяляве*, з 1653 каад'ютар (памочнік-намеснік) полацкага архіепіскапа. Архіепіскап полацкі (1655—74), адміністратар (асоба, якая часова выконвае функцыі мітрапаліта) *Кіеўскай мітраполіі* (1655—65). Протаархімандрыт базыльянскага ордэна (1666—74), архімандрыт супрасльскі, беразвецкі, лешчынскі. Мітрапаліт кіеўскі і галіцкі (1665—74). Дзейнасць К. прыпала на час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, калі на тэр., занятай рас. войскамі і казакамі, *Брэсцкая унія 1596* скасоўвалася, а на заходніх землях рымска-каталіцкія біскупы імкнуліся падпарадкаваць уніятаў сваёй уладзе. Ва ўмовах няпэўнасці папа рымскі Аляксандр VII не зацвярджаў К. мітрапалітам. Да 1660, ратуючыся ад рас. і шведскіх войск, К. вандраваў па гарадах ВКЛ. У 2-й палавіне 1660-х г. пералом у настроях шляхты на карысць уніі і асабістыя намаганні К. паспрыялі яго зацвярджэнню мітрапалітам і выданню ў 1667—68 каралём і сеймам пастаноў, якія аднаўлялі правы грэка-каталіцкай іерархіі і гарантавалі перадачу ім незанятых правасл. епархій. Дамогся вяртання царк. маёмасці, страчанай у час вайны, заключыў пагадненне з рымска-каталіцкай царквою аб забароне лац. ксяндзам браць дзесяціну з уніятаў. Унутры царквы імкнуўся да адзінаўладдзя. У 1660-я г. ўвайшоў у сутыкненне з базыльянамі: вывеў з падпарадкавання ордэну шэраг манастыроў, зрабіў іх архімандрыямі і перадаў епіскапам. У 1661 на Супрасльскім *капітуле* самачынна спрабаваў абвясціць сябе протаархімандрытам — галавой


Ю.А.**Каліноўскі**

ордэна (рашэнне скасавана рымскім папам Аляксандрам VII). У 1666 на Брэсцкім капітуле для захавання ўнутрыцарк. спакою зноў абраны протаархімандрытам базыльян. Падтрымка ім у гэты перыяд ордэна і перадача яму архімандрый выклікала канфлікт з епіскапатам. Спробы К. адлучыць нязгодных архірэяў ад царквы і ўсталяваць неабмежаваную ўладу зноў былі спынены папствам. Пахаваны ў Полацку. *С.В.Казуля.*

КАЛІНО́ЎСКІ Юзаф Андрэевіч (1.9.1835, Вільня — 15.11.1907) — каталіцкі рэлігійны дзеяч, удзельнік паўстання 1863 у Польшчы, Літве і Беларусі. Скончыў Мікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію ў Пецярбургу (1863). З чэрвеня 1863 на чале ваеннай секцыі Выканаўчага аддзела Літвы, найбліжэйшы памочнік кіраўніка паўстання К.Каліноўскага, хоць і не падзяляў яго радыкальных поглядаў. У 1864 арыштаваны, да 1873 на катарзе і пасяленні ў Іркуцкай губерніі. Пасля вяртання з Сібіры быў выхавальнікам сына кн. У. Чартарыйскага — Аўгуста, пераехаў у парыжскую рэзідэнцыю Чартарыйскіх. У 1887 у г. Грац (Аўстрыя) уступіў у каталіцкі ордэн кармелітаў босых, прыняў манаскае імя Рафал. Пасля 1880 накіраваны ў кляштар у в. Чэрна каля Кракава. Тройчы выбіраўся там прыёрам, з 1899 генеральны вікарый кармелітаў босых у Галіцыі. Аўтар гіст. і рэліг.-філасофскіх твораў. 17.11.1991 кананізаваны.

*Тв.:* Споведзь (падрыхтаваў да друку В.Шалькевіч) // Хрысціянская думка. 1994. №2. *Г.В.Кісялёў, В.Ф.Шалькевіч.*

КА́ЛІСТ (Дарафеевіч-Рытарайскі, ? — не раней 1664) — праваслаўны царкоўны дзеяч. Верагодна, родам з Украіны. Быў ігуменам Маркавага манастыра ў Віцебску. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 намеснік Полацкай епархіі (прызначаны ў 1656 маскоўскім патрыярхам Ніканам). З 1657 епіскап полацкі і віцебскі (з часовым далучэннем да епархіі сумежных Магілёўскага і Ашмянскага пав.). Актыўны праваднік царк. палітыкі царскага ўрада на Беларусі (рэвізія стаўленых грамат правасл. святароў, забарона уніяцкага набажэнства, рэстытуцыя маёнткаў, якія перайшлі да каталіцкай або уніяцкай царквы і інш.). Удзельнік Маскоўскага сабора 1660 па справе Нікана. Аўтар шэрагу літаратурна-публіцыстычных твораў. *В.В.Антонаў.*

КАЛЬВА́РЫЯ (ад лац. calva чэрап) — святое месца ў католікаў Беларусі, Літвы і Польшчы, куды збіраліся натоўпы набожных, хворых, калек, старцаў на пакаянне. Пачалі засноўвацца як апорныя пункты *каталіцызму* у 2-й палавіне 16—пач. 17 ст. на ўзгорках і ў лесе, часта на месцы былых язычніцкіх *капішчаў*. У цэнтры К. звычайна ставілі капліцу, будавалі касцёл або кляштар. Найстарэйшая К. каля Вільні вядома з 1564. К. былі ў Барысаўскім, Вілейскім, Мінскім і інш. паветах. У Мінску пад такой назвай захаваліся могілкі.

КАЛЬВІНІ́ЗМ — кірунак *пратэстантызму*, які ўзнік у перыяд Рэфармацыі ў 16 ст. Асновы веравучэння і культу сфармуляваў французскі тэолаг Жан Кальвін (1509—64). Як рэліг. сістэма склаўся ў Жэневе (Швейцарыя), адкуль распаўсюджваўся па Еўропе. Падзяляе гал. палажэнні пратэстантызму аб апраўданні верам. Адметная рыса кальвініскай тэалогіі — вучэнне пра наканаванне. Паводле яго, Бог загадзя абраў адных людзей на выратаванне, іншых на пагібель. Даведацца пра свой лёс да Страшнага Суда немагчыма, аднак гэта не азначае пасіўнасці: чалавек павінен паверыць, што Хрыстос выратаваў менавіта яго і даказаць гэта сваім жыццём і энергічнай дзейнасцю. Для гэтага дастаткова выконваць штодзённую працу, поспех у якой — адзнака абранасці. У кальвініскай этыцы ўвасобіліся каштоўнасці новага часу: прагматызм, працавітасць, жыццёвая актыўнасць. К. займае самастойную пазіцыю ў адносінах да дзяржавы, аж да прызнання права супраціўлення тырану, які пераступае запаведзі Бога. Царква ў К. мае дэмакр. лад: святары выбіраюцца вернікамі. Паслядоўна здзейснены прынцып таннай царквы: у *кальвінскім зборы* няма алтароў, абразоў, аргана, свечак. Набажэнства вядзецца на роднай мове, гал. ролю адыгрывае чытанне Бібліі, пропаведзь, спяванне псалмоў. З 7 хрысц. таінстваў захаваліся хрышчэнне і прычасце. К. існуе ў выглядзе самастойных рэліг. арг-цый, евангелічна-рэфармацкіх цэркваў, прэсвітэрыянства і кангрэгацыяналізму. Найб. распаўсюджаны ў ЗША, Вялікабрытаніі і яе былых калоніях і дамініёнах, Нідэрландах, Швейцарыі.

У ВКЛ К. зацвердзіўся ў перыяд Рэфармацыі. Як і ў некаторых еўрап. краінах (напр., Францыі), яго гал. сацыяльную базу складалі магнаты, а таксама шляхта і частка гараджан. Апраўданне Кальвінам барацьбы супраць тыраніі адпавядала традыц. каштоўнасцям вольнасці шляхты, давала падставу для супрацiўлення цэнтр. уладзе, а вялікі ўплыў патронаў на кіраванне рэфармацкай царквою дазваляў ім кантраляваць рэліг. жыццё падданых. Дзейнічаў прынцып: «Чыя ўлада, таго і вера». Пачатак К. на Беларусі паклаў віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны, які ў 1553 заснаваў у Брэсце першы кальвінскі збор з друкарняй. У 1550—70-я г. К. прынялі Кішкі, Валовічы, Дарагастайскія, Хадкевічы, Саламярэцкія, Тышкевічы і інш. магнацкія роды. У 1563 кальвінісцкая шляхта ўраўнавана ў правах з каталіцкай і праваслаўнай. Большасць збораў знаходзілася ва ўладаннях феадалаў і ўтрымлівалася за іх кошт. У буйных гандлёвых і рамесных цэнтрах (Вільня, Віцебск, Мінск, Полацк і інш.) значную ролю ў кіраванні суполак адыгрывалі гараджане. Пры зборах існавалі шпіталі, школы, друкарні, дзе выдавалася л-ра на польскай і бел. мовах. Кальвіністамі былі бел. асветнікі С.*Будны*, В.*Цяпінскі* і інш. У 1560-я г. склалася арганізац. структура евангелічна-рэфармацкай царквы. Кальвіністы ВКЛ утварылі асобную Літоўскую правінцыю, якая падзялялася на 6 дыстрыктаў: Брэсцкі (Падляшскі), Віленскі, Жмудскі, Завілейскі, Навагрудскі, Рускі (пазней — Беларускі з цэнтрам у Мінску). Вышэйшым органам з'яўляліся сіноды (правінцыяльныя, а ў дыстрыктах партыкулярныя); у іх рабоце ўдзельнічалі духоўныя і свецкія асобы. Паміж сінодамі кіраўніцтва ажыццяўляў суперінтэндант. Цэнтр правінцыі знаходзіўся ў Вільні. Дыстрыктамі кіравалі сіньёры. На чале асобных збораў стаяла духавенства (пастары, прапаведнікі або міністры) і выбраныя са свецкіх асоб старэйшыны (сіньёры, прэвістэры). Важную ролю адыгрывалі патроны суполак. У перыяд *Контррэфармацыі* большасць кальвіністаў перайшла ў каталіцтва, а тыя, што засталіся кальвіністамі былі абмежаваны ў правах. Для абароны сваіх інтарэсаў кальвінісцкая шляхта ўтварыла канфедэрацыю з правасл. (1599). Пасля далучэння зямель Беларусі да Расійскай імперыі рэфармацкая царква страціла аўтаномію. Кальвінісцкія зборы падпарадкоўваліся кансістору, які прызначаўся на сваю пасаду царскімі ўладамі. У пач. 20 ст. на Беларусі заставаліся адзінкавыя кальвінісцкія суполкі, частка іх існавала да 2-й сусв. вайны. У вер. 1992 у Мінску зарэгістравана кальвінісцкая абшчына — хрысц. рэліг. кангрэгацыя (Бел. евангелічны рэфармацкі збор).

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Чанышев А.Н. Протестантизм. М., 1969; Kosman M. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkim. Księstwie Litewskim... Wrocław etc., 1973. *С.В.Казуля.*



Да арт. **Кальварыя.** Мінскі Кальварыйскі касцёл. 1839—41.

КАЛЬВІНІ́СЦКІЯ ШКО́ЛЫ — навучальныя ўстановы, якія ствараліся прыхільнікамі *кальвінізму*. На Беларусі існавалі ў 16—19 ст. У 1570-х г. — пач. 17 ст. існавалі ў Вільні, Віцебску, Глыбокім, Заслаўі, Магілёве, Мінску, Навагрудку, Оршы, Свіслачы, Смаргоні, Шклове і інш. Мелі розны ўзровень: ад ніжэйшых (пачатковыя, 6 гадоў навучання) да 5-класных вучылішчаў (10 гадоў навучання), якія давалі адукацыю, дастатковую каб паступіць ва ун-т; лепшыя выхаванцы атрымлівалі стыпендыі ва ун-тах Англіі і Германіі. Асаблівая ўвага аддавалася рэліг. навучанню і выхаванню, фізічнаму выхаванню; акрамя багаслоўя вывучаліся стараграэч., лац., бел., польская мовы, рыторыка, гісторыя, матэматыка, логіка і інш. У К.ш. выкарыстоўваліся элементы класна-ўрочнай сістэмы, гуманіст. падыходы ў арганізацыі навучання, у навучэнцаў фарміравалася крытычнае мысленне. Пасля паражэння Рэфармацыі ў сярэдзіне 17 ст. колькасць пратэстанцкіх школ пачала скарачацца. К.ш. ў Слуцку (1617) толькі ў 1868 перайшлі ў разрад урадавых навуч. устаноў. *В.С.Болбас.*

КАЛЯ́ДЫ (ад лац. Calendae календы — назва першага дня кожнага месяца ў рымлян), народнае зімовае свята дахрысціянскага паходжання, звязана з першым павелічэннем самага кароткага дня. У гадавым крузе народных аграрных абрадаў і светкаванняў займала 1-е месца. З усталяваннем хрысціянства прымеркаваны да рэліг. свят Раства Хрыстова і *Вадохрышча*. На Беларусі хрысц.


Да арт. **Каляды**. Латыгаўскі майстар. Нараджэнне Хрыстова. 1746. Беларуская іканапісная школа.

рытуал святкавання К. цесна пераплецены з народнай святочнай традыцыяй. К. працягваюцца з 24 снежня да 6 студзеня. Для К. характэрны тры абрадавыя вячэры (куцці): посная (вялікая) спраўляецца перад 1-м святочным днём; багатая (тоўстая, шчодрая) з мяснымі стравамі — у вечар перад Новым годам; посная (галодная, вадзяная) — перад Вадохрышчам. Наладжвалася калядаванне, варажба, шматлікія забавы, гульні; спявалі калядныя песні.

*А.У.Верашчагіна.*

КАЛЯНДА́Р ц а р к о ў н ы — сістэма адліку пэўных прамежкаў часу, звязаных з эвалюцыяй, традыцыямі хрысціянства, умовамі гаспадарчага ўкладу народаў; пералік царкоўных юбілейных, памятных дат, святаў, пастоў і адпаведных ім набажэнстваў. К. мае стараж. паходжанне. У 10 ст. з увядзеннем хрысціянства на Русі быў прыняты юліянскі каляндар, якім карысталіся ў Візантыі, а летазлічэнне сталі весці ад «стварэння свету», г.зн., паводле царк. падання, за 5508 гадоў да Раства Хрыстова, або новай эры. Год пачынаўся з 1 сакавіка, калі прыступалі да сельгасработ. У сярэдзіне 14 ст. Рус. правасл. царква ў адпаведнасці з вызначэннем Нікейскага сабора пачатак года перанесла на 1 верасня. У гэты дзень, паводле царк. падання, Ісус Хрыстос «з'явіў сябе свету, сышоў з горных вяршынь і пачаў пропаведзь». У 1700 у Расіі указам Пятра І ўведзена летазлічэнне ад Раства Хрыстова і пачатак года перанеслі на 1 студзеня. Аднак царква захавала ранейшую дату пачатку года. Ад яе і пачынаецца ўсё гадавое кола царк.


Да арт. **Каляды**. Нараджэнне Хрыстова. 18 ст. Беларуская іканапісная школа.

святаў, пастоў, евангельскіх чытанняў у Рус. правасл. царкве. 31 студзеня 1918 у Расіі і савецкіх рэспубліках уведзены грыгарыянскі каляндар, т.зв. новы стыль, які на 13 сутак адрозніваецца ад юліянскага К. (старога стылю). Рус. правасл. царква захавала стары стыль. У многіх зарубежных аўтакефальных правасл. цэрквах прыняты новы стыль. Каталіцкая царква, у т.л. і на Беларусі, вядзе адлік часу па новым стылі з 1582.

КАМАЕ́ДЗІЦА — старадаўняе свята, якое спраўлялі ў пачатку вясны, калі заканчвалася спячка мядзведзя і ён вылазіў з бярлогі. Ёсць сведчанне, што ў 19 ст. яно спраўлялася ў сакавіку перад хрысц. святам Дабравешчання. На К. гатавалі і елі гарохавую кашу — т.зв. камы (адсюль назва), сушаны рэпнік, аўсяны кісель. Гэтыя стравы лічыліся любімай ежай мядзведзя і былі абрадавымі стравамі святочнага абеду, пасля якога сяляне клаліся на палаці і пераварочваліся з боку на бок, імітуючы звычкі мядзведзя. Выток К. звязаны з *татэмізмам* — водгалас пакланення мядзведзю, яго шанавання. Абрадавымі дзеяннямі імкнуліся ўлагодзіць, задобрыць звера. Найпазней святкаванне К. зафіксавана на Бягомльшчыне, дзе былі вялікія лясы, у якіх вялося многа мядзведзяў, і яны часам шкодзілі свойскай жывёле, выклікалі страх у людзей. У 19 ст. свята страціла ранейшы сэнс, стала традыц. забавай. У апошняй чвэрці 19 ст. яно зусім знікла з побыту. *М.Ф.Піліпенка.*

КАМА́ЙСКІ КАСЦЁЛ — помнік архітэктуры пач. 17—18 ст. Пабудаваны ў 1603—06 у в. Камаі Пастаўскага р-на Віцебскай вобл. Храм абарончага тыпу. Засн. Янам Рудамінам-Дусяцкім. Акт фундацыі (1606) падпісаны і Янам Хаецкім. Дата пабудовы (1603) названа ў інвентары 18 ст. Першапачаткова квадратны ў плане, з паўцыркульнай апсідай і абарончымі вежамі на фасадзе, перакрыты скляпеннямі на 4 слупах. З 1643 пры касцёле існаваў шпіталь на 5 мужчын і 13 жанчын, падараваны П. і М. Рудамінамі. У сярэдзіне 17 ст. касцёл згарэў, скляпенні разбурыліся. Пасля адбудовы храм у 1673 асвячоны віленскім біскупам-суфраганам М. Слупскім. У Паўночную вайну 1700—21 абстраляны шведамі (у мурах захаваліся гарматныя ядры). У 1778 на сродкі Войнаў і Козелаў прыбудавана капліца-алтар з крыптай. У інтэр'еры алтар 1-й чвэрці 18 ст., абраз Маці Божай (паводле інвентароў 18 ст. лічыўся цудатворным). *А.А.Ярашэвіч.*

КАМУНІ́СТЫ (ад лац. communis агульны) — аб'яднанне белых рымска-каталіцкіх ксяндзоў, якое мела ўласны статут. Не былі асобным ордэнам ці манаскай кангрэгацыяй. Заснавальнік — нямецкі ксёндз Барталамей Хольцгаўзер (1613—58).



Да арт. **Каляды**. Пакланенні вешчуноў. Мастак невядомы. 16—17 ст.

У 1640 ён са сваімі сябрамі-ксяндзамі стварыў аб'яднанне, члены якога абавязваліся жыць сумесна, мець агульны прыбытак (адсюль назва), дапамагаць адзін аднаму, асабліва клапаціцца пра сваю цнатлівасць (напрыклад, абыходзіцца без жаночай прыслугі) і г.д. Пры гэтым яны не давалі спец. манаскіх зарокаў. У 1680 папа рымскі Інакенцій XI зацвердзіў іх статут, а ў 1684 унёс у яго дапаўненні і дадаткі. На чале ўсёй арг-цыі К. стаяў генеральны начальнік, якога зацвярджаў папа рымскі пажыццёва; пры начальніку былі 2 асістэнты і 2 генеральныя візітатары. Кіраўніцтва К. ў дыяцэзах (*епархіях*) ажыццяўлялі дыяцэзныя (епархіяльныя) начальнікі, якія падпарадкоўваліся біску-



**Камайскі касцёл.**

пам і 1 раз у 10 гадоў збіраліся на генеральны капітул. На чале мясцовай абшчыны (дома) стаяў суперыёр. К. часта кіравалі духоўнымі семінарыямі. З 2-й палавіны 17 ст. аб'яднанні К. пашырыліся і ў інш. еўрап. краінах. У 1683 біскуп пазнанскі Вяжбоўскі запрасіў абшчыну К. у Польшчу, дзе яны заснавалі семінарыі ў г. Гура-Кальварыя і ў Варшаве. Найб. вядомая іх абшчына на Беларусі — дом К. у Пінску (1695—1836). Староста пінскі Ян Кароль Дольскі разам з жонкай Ганнай пабудаваў для К. у прыгарадзе Пінска Караліне (названы так у гонар фундатара) касцёл св. Карла Барамея і даў яму 14 моргаў зямлі ў в. Сосенка. Абшчына праіснавала да смерці апошняга ксяндза І. Кантаровіча. Апошнія дамы К. у Рас. імперыі закрыты разам з каталіцкімі кляштарамі ў 1830—60-я г.

*Ю.В.Бажэнаў.*

КАНАНІЗА́ЦЫЯ (ад грэч. canonizō узаконьваю) — у каталіцтве і праваслаўі акт прылічэння пэўных асоб да святых. Ушанаванне святых пачалося ў перыяд станаўлення хрысц. культу, пэўны парадак К. ўведзены ў 10 ст. Працэсы К. працягваюцца і ў наш час. У рус. правасл. царкве пытаннямі К. займаецца спец. камісія, якая разглядае прапановы, паводле якіх прымаюцца рашэнні на Памесным саборы. Гл. таксама *Сабор Беларускіх святых.*

КАНАНІ́ЧНАЕ ПРА́ВА — сукупнасць прававых нормаў, створаных на падставе канонаў — спецыяльных царкоўных пастанаўленняў, што маюць сілу закону. У правасл. царкве каноны сфарміраваліся ў перыяд сусв. сабораў (1-е тысячагоддзе) і складаюцца з апостальскіх правіл, рашэнняў сусв. і памесных сабораў, твораў *айцоў царквы*. На Русі зборнікі К.п. наз. *«Кормчыя кнігі»*. У 1893 у Рас. імперыі Свяцейшым Сінодам выдадзены поўны тэкст К.п. правасл. царквы «Кніга правіл святых апосталаў, святых сабораў сусветных і памесных і айцоў царквы». У каталіцкай царкве К.п. змешчана ў зб. «Corpus juris canonici», крыніцамі якога акрамя вышэйназваных з'яўляюцца папскія дэкрэты, законы франкскіх каралёў, урыўкі з рымскага права і інш. У 1918—83 зборнік К.п. наз. «Codex juris canonici», у 1983 на падставе рашэнняў II Ватыканскага сабора (1962—65) дзейнічае новы кананічны кодэкс. Ад К.п. адрозніваюць царк. права — права, якое дзейнічае ў царкве незалежна ад крыніцы паходжання і часу яго ўзнікнення.

КАНГРЭГА́ЦЫІ (ад лац. congregatio злучэнне, аб'яднанне) у каталіцызме — 1) органы *рымскай курыі*, якія ажыццяўляюць кіраванне пэўнымі сферамі дзейнасці каталіцкай царквы. Узначальваюцца *прэфектам*, якога прызначае папа. 2) Рэліг. арганізацыі, якія кіруюцца *ордэнамі манаскімі*. Уваходзяць як свяшчэннаслужыцелі, так і недухоўныя асобы. Члены К. даюць зарокі (цноты, паслушэнства, беднасці) на пэўны тэрмін ці пажыццёвыя. Узніклі ў канцы 16—17 ст., найб. пашыраны ў 19 ст. 3) Аб'яднанне некалькіх манастыроў, якія прытрымліваюцца аднаго статута, пад адзіным кіраваннем.

КАНГРЭГАЦЫЯНАЛІ́СТЫ — паслядоўнікі аднной з плыней *кальвінізму*, якая ўзнікла ў 2-й палавіне 16 ст. ў Англіі. К. абвясцілі поўную незалежнасць мясцовых цэркваў або суполак (кангрэгацый); кожная з іх сама вызначала *сімвал веры* і культавую сістэму, выбірала служыцеляў культу і кіраўніцтва, прымала і выключала членаў. Заснавальнік першай кангрэгацыі — Р. Браўн (1581). К. актыўна ўдзельнічалі ў англійскай буржуазнай рэвалюцыі 17 ст., стварылі паліт. партыю індэпендэнтаў, аснову арміі О. Кромвеля. Пасля рэстаўрацыі ў 1660 дынастыі Сцюартаў мноства К. перасялілася ў Новы Свет, дзе яны адыгралі значную ролю ў сацыяльна-эканамічным развіцці гэтага рэгіёна. К. перагледзелі вучэнне аб жорсткім наканаванні чалавечага лёсу, ідэю непагрэшнасці *Бібліі*, прыйшлі да высновы, што атрымальнікам божага дару з'яўляецца не індывід, а суполка як цэлае; высока ставілі навуку і адукацыю, прадпрымальніцтва і дзелавы поспех, вызначаліся актыўнай грамадзянскай пазіцыяй. К. адыгралі вырашальную ролю ў заснаванні Гарвардскага, Іельскага і інш. каледжаў (пазней ун-ты), заявілі пра сябе як палітыкі і адміністратары. У 1960—70-я г. разам з прэсвітэрыянамі і метадыстамі К. стварылі ў Канадзе найбуйнейшую пратэстанцкую Аб'яднаную царкву, з евангелістамі і рэфарматамі ў ЗША — Аб'яднаную царкву Хрыста (больш за 2 млн. вернікаў). Тэндэнцыя К. да аб'яднання праяўляецца ў стварэнні асацыяцый, саюзаў, саветаў, сінодаў і інш. З'яўляюцца ўдзельнікамі экуменісцкага руху.

*А.А.Цітавец.*

КАНІ́СКІ Георгій (у свеце Рыгор; 20.11.1717, г. Нежын Чарнігаўскай вобл., Украіна — 13.2.1795) — украінскі і беларускі царкоўны і грамадскі дзеяч, пісьменнік. Скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію (1743), у 1745—55 яе выкладчык, прафесар, рэктар. З 1755 епіскап магілёўскі (беларускі). Змагаўся за захаванне і адраджэнне праваслаўя на Беларусі. У 1757 адкрыў у Магілёве пры архірэйскім доме друкарню, дзе перавыдаў скарочаны тэкст «Катэхізіса» Ф. Пракаповіча ў сваім перакладзе на «рускі дыялект». Ініцыятар адкрыцця Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1765 дамогся ад караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага вярнуць правасл. іх правы, манастыры, храмы, але кароль не стрымаў слова. Звяртаўся за дапамо-

гай да рас. імператрыц Лізаветы і Кацярыны II. Пасля трох замахаў на яго жыццё ў 1768 уцёк у Расію (Смаленск), дзе заставаўся магілёўскім епіскапам у выгнанні. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) вярнуўся ў Магілёў. З 1793 архіепіскап, чл. Сінода. Садзейнічаў вяртанню уніятаў у праваслаўе. Збіраў дакументы па гісторыі правасл. царквы (каралеўскія граматы і інш.). Аўтар твораў: «Мемарыял аб крыўдах праваслаўным», «Правы і вольнасці жыхароў грэчаскага веравызнання», «Трактат вечнай дружбы», «Збор павучальных слоў»; таксама духоўнага дзённіка «Думкі», драмы «Уваскрэсенне мёртвых» і інш. На доме ў Магілёве, дзе ён жыў, мемарыяльная дошка. У 1993 кананізаваны.

*Тв.:* Собр. соч. Ч. 1—2. СПб., 1835.

*Літ.:* Кашуба М.В. Георгий Конисский. М., 1979; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. *В.М.Дышнсвіч.*



Георгій Каніскі.

КАНКАРДА́Т (ад позналац. concordatum згода, пагадненне) — пагадненне паміж папам рымскім як кіраўніком каталіцкай царквы і ўрадам пэўнай дзяржавы аб становішчы каталіцкай царквы ў гэтай краіне, яе правах і прывілеях (назначэнне епіскапаў, царк. уласнасць, вызваленне ад падаткаў, пытанні сям'і і шлюбу, умовы дыпламатычных зносін з Ватыканам і інш.). Найбольш вядомыя: Вормскі К. 1122; Балонскі К. 1516 (замацаваў залежнасць франц. царквы ад караля); К. 1801 папы Пія VII і Напалеона I; К. 1847 з Расіяй; К. 1929 з урадам Мусаліні; К. 1933 з гітлераўскім урадам Германіі; К. 1953 з урадам Франка ў Іспаніі (у 1976 унесены змены ў К. Ватыкана з Іспаніяй). У 1984 урадам Італіі падпісана пагадненне з Ватыканам, у якім перагледжаны шэраг палажэнняў К.

КАНКЛА́Ў (ад лац. conclave зачынены пакой) — сход кардыналаў, які збіраецца для выбрання папы рымскага пасля смерці яго папярэдніка. Парадак правядзення К. ўстаноўлены ў 1274 на 2-м Ліёнскім саборы папам Грыгорыем X. Адбываецца праз 18 дзён пасля смерці папы ў ізаляваным ад навакольнага свету памяшканні закрытым галасаваннем. Для выбрання папы патрабуецца $^{2}/_{3}$ галасоў удзельнікаў (колькасць не павінна перавышаць 120) плюс 1 голас. К. называецца таксама памяшканне Сікстынскай капэлы, дзе адбываюцца выбары.

КАНО́Н (ад грэч. kanōn норма, правіла) — збор палажэнняў, якія маюць нарматыўны характар. У праваслаўі гэта паняцце ўжываецца па меншай меры ў 4 значэннях: 1) правілы, якія тычацца веравучэння, абраднасці і царк. арганізацыі, узведзеныя ў ранг закона, які зыходзіць нібыта ад Ісуса Хрыста і яго апосталаў; 2) пастанова ўсяленскага сабора аб упарадкаванні царк. жыцця і характары рэлігійнасці; 3) сукупнасць кніг *Бібліі*, якія прызнаюцца царквой «боганатхнёнымі» і выкарыстоўваюцца ў богаслужэнні ў якасці «свяшчэннага пісання» (К. правасл., каталіцкай, пратэстанцкай цэркваў крыху адрозніваюцца складам твораў); 4) адна з форм правасл. царк. спеваў, якая ўяўляе сабой своеасаблівы дыялог паміж чытальнікам і хорам або паміж двума харамі.

КАНО́НІК — у каталіцкай царкве духоўная асоба, член *капітула*.

КАНСІСТО́РЫЯ (ад лац. consistorium месца сходу, сход) — 1) у каталіцкай царкве — нарада *кардыналаў* на чале з папам рымскім. 2) У пратэстантызме — царкоўна-адміністрацыйны орган, які ўключае духоўных і недухоўных асоб, выбраных абшчынай для кіраўніцтва справамі. У некаторых пратэстанцкіх канфесіях — мясцовыя ўстановы царк. кіравання ці іх апарат. 3) У Рус. правасл. царкве ў 1744—1918 орган кіравання і суда пры епархіяльным архірэю. Члены духоўнай К. займаліся справаводствам у епархіі, ажыццяўлялі суды над духоўнымі асобамі па справах аб шлюбах і іх скасаванні, а таксама па абвінавачанні ў богазневажанні — і над недухоўнымі асобамі. Духоўную К. узначальваў сакратар, які назначаўся обер-пракурорам Свяцейшага Сінода і падпарадкоўваўся яму.

КАНСТА́НЦКІ САБО́Р 1414—18 — 16-ы ўсяленскі сабор каталіцкай царквы, скліканы ў германскім г. Канстанц з мэтай спынення яе расколу; найбуйнейшы дыпламатычны кангрэс, на якім вырашаліся важнейшыя міжнар. пытанні, найперш звязаныя з прэтэнзіямі германскага імператара Сігізмунда I на паліт. гегемонію ў Еўропе. Напярэдадні сабора дзейнічалі 3 папы, асаб-

лівы размах набылі «ерасі» паслядоўнікаў Я. Гуса ў Чэхіі, Дж. Уікліфа ў Англіі і інш. Па ініцыятыве Сігізмунда I і антыпапы Яна XXIII барацьба супраць ерасі стала галоўнай у дзейнасці сабора. У 1415 на саборы асуджаны да спалення Гус, што стала штуршком да гусіцкіх войнаў у Цэнтральнай Еўропе. У 1417 скасаваны паўнамоцтвы ўсіх трох ранейшых папаў і выбраны адзін папа Марцін V, абвешчана вяршэнства сабораў над папамі. У дзейнасці сабора актыўна ўдзельнічалі дэлегацыі ВКЛ, аўтарытэт якога пасля Вялікай вайны 1409—11 з Тэўтонскім ордэнам значна вырас. Вялікі кн. Вітаўт некалькі разоў накіроўваў у Канстанц свае дэлегацыі. У 1415 ад яго імя падольскі староста Гедыгольд прапаноўваў перавесці бліжэй да Асманскай імперыі (у Паўночнае Прычарнамор'е або на Кіпр) Тэўтонскі ордэн, які пасля хрышчэння Жмудзі страціў фармальныя падставы для сваёй дзейнасці ў Прыбалтыцы, і абвяргаў абвінавачванні ў патаемным супрацоўніцтве Вітаўта з туркамі. У 1416 на саборы значнае месца было адведзена спрэчкам паміж ВКЛ і ордэнам за Жмудзь. 13.2.1416 разгледжана скарга ахрышчаных жмудзінаў на ўціск з боку крыжакоў, якія працягвалі рабаўнічыя наезды. 17.6.1416 сабор прыняў кампрамісныя рашэнне па Жмудзі: у адм. дачыненні яна падпарадкавана імператару (г.зн. фактычна Тэўтонскаму ордэну), а ў царк. — польскім і літоўскім біскупам. Было вырашана стварыць асобную Жмудскую *дыяцэзію*. 11.8.1416 львоўскі арцыбіскуп Я. Жашоўскі і віленскі біскуп П. Ястрэмбец прызначаны саборам дэлегатамі з абавязкам здзейсніць гэтыя рашэнні на месцы (прадоўжыць хрышчэнне жмудзінаў, арганізаваць дыяцэзію і інш.). У 1417 на саборы прысутнічаў «герцаг Павел з сапраўднай Русі, падначалены герцагу Вітаўту». Найб. прадстаўнічая дэлегацыя ВКЛ на чале з кіеўскім мітрапалітам Грыгорыем *Цамблакам* была накіравана ў Канстанц у 1418. У яе ўваходзілі правасл. епіскапы з розных епархій ВКЛ і Малдовы, а таксама свецкія прадстаўнікі Кіева, Смаленска, Вял. Ноўгарада і інш. гарадоў. Яна планавала заключыць унію паміж правасл. і каталіцкай цэрквамі на тэр. ВКЛ, а таксама дамагчыся прызнання сюзерэнітэту Вітаўта над Малдовай і Ноўгарадам. У выніку Марцін V прызначыў Вітаўта генеральным вікарыем Ноўгарада, а ў лютым 1418 Цамблак прысягнуў папе ад імя правасл. царквы ВКЛ. Аднак унія засталася нерэалізаванай з-за супраціўлення правасл. духавенства ВКЛ і пазіцыі канстанцінопальскага патрыярхату. Каштоўнай крыніцай для вывучэння сабора з'яўляецца «Хроніка Канстанцкага сабора» Ульрыха фон Рыхенталя, у якой неаднаразова згадваецца Белая Русь. *А.В.Белы.*

КА́НТАР (ад лац. cantor спявак) — першапачаткова пеўчы ў касцёле, пазней — спявак у прыдворнай капэле, настаўнік музыкі ў каталіцкіх і пратэстанцкіх духоўных навуч. установах, гарадскіх школах. К. ствараў таксама музыку для царк. службаў і гарадскіх урачыстасцей і кіраваў музычным выкананнем. Часам К. узначальваў усё музычнае жыццё горада (да канца 18 ст.; напр., І.С.Бах). У яўрэйскай сінагозе — галоўны спявак хору (называецца таксама *хазан*).

КАНФАРМІ́СТЫ (англ. conformist літар. згодны) — пашыраная назва прыхільнікаў дзяржаўнай англіканскай царквы ў Англіі, якія прымаюць яе догматы і абрады і выступаюць супраць іх змен.

КАНФЕ́СІЯ (ад лац. confessio прызнанне, споведзь) у гістарычным, традыц. значэнні — пэўнае выравызнанне, якое ўключае дагматычныя ўстанаўленні, каноны і сімвал веры (не ахоплівае абраднасць). Аб'ядноўвае людзей, спосаб мыслення і светаразуменне якіх базіруецца на веравучэнні пэўнай царквы (рэліг. арг-цыі). Тэрмін «К.» звычайна выкарыстоўваюць у дачыненні да рэліг. кірункаў, якія маюць развітую багаслоўскую школу (у *хрысціянстве*, *іудаізме*, *ісламе*, будызме). На Беларусі традыц. існавалі 2 хрысц. К.: *праваслаўе*, і *каталіцызм*. У 16 ст. ў выніку *Рэфармацыі* ўзнік *пратэстантызм*, які прывёў да фарміравання новых К. — лютэранскай (аўгсбургскае веравызнанне), кальвінісцкай (евангелічна-рэфармацкая К.), у 20 ст. — баптызму, евангельскага хрысціянства, адвентызму 7-га дня, пяцідзесятніцкіх плыней і інш. *Уніяцтва* не лічылася самастойнай К., бо веравучэнне *уніяцкай царквы* грунтавалася на догматах каталіцызму, а абраднасць захоўвала правасл. рысы. Падкрэсліваючы, што грэка-католікі належаць да адзінай каталіцай К. і адрозніваюцца ад рыма-католікаў толькі абраднасцю, іх часам называюць «католікамі ўсходняга абраду». У сучасным разуменні К. ўсё часцей вызначаецца як прыналежнасць да пэўнай царквы (рэліг. арг-цыі) і паводле веравызнання, і абраднасці. У гэтым сэнсе уніяцтва з'яўляецца асобнай К.

Паводле дадзеных на 1.1.2001 сярод бел. К. праваслаўная царква (1172 абшчыны), стараабрадніцкая царква (34 абшчыны), рымска-каталіцкая царква (417 абшчын), каталіцкая царква лац. абраду (2 абшчыны), грэка-каталіцкая царква (13 абшчын). У апошнія гады значна павялічылася колькасць пратэстанцкіх і неапратэстанцкіх аб'яднанняў: хрысціяне веры евангельскай (470 абшчын), евангельскія хрысціяне-баптысты (268 абшчын), Савет цэркваў ЕХБ (29 абшчын), хрысціяне поўнага Евангелля (58 абшчын), адвентысты 7-га дня (48 абшчын), сведкі Іеговы (26 абшчын),

Новаапостальская царква (20 абшчын), Лютэранская царква (13 абшчын), хрысціяне веры апостальскай (9 абшчын), Царква Хрыстова (6 абшчын), Мармоны (3 абшчыны), Месіянскія абшчыны (2 абшчыны), Рэфармацкая царква, Іеганская царква, Царква першых хрысціян — па 1 абшчыне. Значнае месца ў канфесіянальнай структуры Беларусі займаюць этнаканфесіянальныя аб'яднанні іудаістаў (22 абшчыны), прагрэсіўных іудаістаў (10 абшчын), мусульман (24 абшчыны). На тэр. Беларусі дзейнічаюць і нетрадыц. рэліг. аб'яднанні: Міжнар. т-ва свядомасці Крышны (7 абшчын), Бахаі (6 абшчын), Аамота (1 абшчына) і інш.

КАНФЕСІЯНАЛІ́ЗМ (ад лац. confessionalis веравызнальны) — лад думак, пачуццяў і ўчынкаў, што адпавядаюць догматам і патрабаванням пэўнага *веравызнання*. Знаходзіць увасабленне ў розных формах тэалогіі (праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай, іудаісцкай і інш.), філасофіі, сацыялогіі, якія развіваюць свае тэарэтычныя канцэпцыі на аснове традыц. рэліг. уяўленняў пра чалавека і яго месца ў сусвеце, сэнсе яго жыцця і адкрытасці ў адносінах да Бога, да каштоўнасцей маралі і культуры, навукі і тэхнікі.

*Я.М.Бабосаў.*

КАНФІРМА́ЦЫЯ (ад лац. confirmatio зацвярджэнне, умацаванне, у каталіцызме — таінства мірапамазання, якое ўчыняецца над дзяцьмі 7—12 гадоў: у пратэстантызме — урачысты публічны абрад далучэння да царквы юнакоў і дзяўчат, якія дасягнулі 14—16 гадоў.

КАПЕЛА́Н у каталіцкай царкве — *ксёндз*, які служыць у *капліцы*. Звычайна К. знаходзіліся пры дварах манархаў, магнатаў і не падлягалі парафіяльнай юрысдыкцыі. Былі таксама К. — памочнікі *канонікаў*, папскія К., К. — кураты (выконвалі пастырскія абавязкі ў пэўнай частцы парафіі; адпавядалі *вікарыям*). К. называецца таксама вайсковы святар у заходнееўрап. краінах і ЗША. У Рас. імперыі ў ваеннай часці з 1883 прызначаліся каталіцкія К., якіх зацвярджаў архібіскуп магілёўскі.

КАПІ́НСКІ Ісая (? — 15.10.1640) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік-палеміст. Манах Кіева-Пячэрскай лаўры, адзін з арганізатараў Кіеўскай брацкай школы. З 1620 епіскап перамышльскі, з 1628 — смаленскі і чарнігаўскі, у 1631—32 — мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. У крас. 1632 пры абранні каралём Уладзіслава IV намаганнямі архімандрыта Пятра *Магілы* адхілены ад пасады, у 1633 афіцыйна пазбаўлены сана і зняволены (да 1635). Выступаў супраць Брэсцкай уніі 1596. Аўтар зб. маральных выслоўяў «Духоўная лесвіца», пасланняў да духавенства і прыватных асоб і інш. Творы К. паўплывалі на наступныя пакаленні бел. і ўкр. мысліцеляў.

*Літ.:* Костомаров Н.И. Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. М., 1991. Кн. 2. С. 72—78; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

*А.А.Яскевіч.*



Да арт. **Капішча**. Верхаўлянскае свяцілішча. Рэканструкцыя Э.М.Зайкоўскага.

КАПІТУ́Л, капітула (ад лац. capitulum) у каталіцкай і англіканскай цэрквах — калегія канонікаў кафедральнага сабора, якая стварае пры біскупе раду па кіраванні дыяцэзам (епархіяй). Складаецца з пробашча, дэкана, схаластыка, кантара, кусташа і інш. канонікаў. К. ствараецца таксама ў касцёле, які мае ганаровае званне калегіята і знаходзіцца на іерархічнай лесвіцы паміж кафедральным касцёлам і парафіяльным. К. ў каталіцкіх духоўна-рыцарскіх і манаскіх ордэнах (у т.л. ў грэка-каталіцкім ордэне базыльян) — калегія кіруючых асоб ордэна.

КА́ПІШЧА (ад стараславянскага капь — выява ўкапанага ў зямлю божышча ці ідала; запазычана з цюркскіх моў) — адна з разнавіднасцей язычніцкіх свяцілішчаў — месца, дзе стаяў драўляны ці каменны *ідал*. Археалагічнымі даследаваннямі ўстаноўлена, што характэрная асаблівасць К. — пляцоўка круглай формы з ідалам у цэнтры, акрэсленая па краях ровам, камянямі або ямамі. Вядома з часоў тшцінецкай і сосніцкай культур эпохі бронзы. Рас. даследчыкі І.П.Русанава і Б.А.Цімашчук вылучаюць уласна пляцоўкі-К., малыя гарадзішчы-свяцілішчы, храмы; К. як састаўныя часткі вял. культавых цэнтраў. На Беларусі выяўлены К. першых 2 тыпаў: Ходасавіцкае і Верхаўлянскае свяцілішчы. Паколькі тэрмін «К.» ўтвораны ад стараж. назвы ідала, а ў некат. бел. дыялектах ідал абазначаецца словам «стод», то не выключана, што на бел. землях язычніцкія К. першапачаткова наз. стадоламі і абазначалі месца, дзе стаялі ідалы. З пашырэннем хрысціянства і ў сувязі з барацьбой духавенства супраць рэшткаў язычніцтва семантычны статус паняцця К. зніжаецца.

*Літ.:* Рыбаков Б.А. Язычество Древней Руси. М., 1987; Зайкоўскі Э. Камяні шмат аб чым нам гавораць // Мастацтва Беларусі. 1990. №1; Русанова И.П., Тимощук Б.А. Языческие святилища древних славян. М., 1993.

*Э.М.Зайкоўскі*

КАПЛІ́ЦА (позналац. capella) у каталіцкай царкве — невялікае культавае збудаванне на раздарожжы са статуяй святога; спецыяльна абсталяванае для малітвы памяшканне ў замку, палацы, публічнай установе, на могілках; мемарыяльная пахавальня на могілках; малы касцёл; прыбудова з алтаром у касцёле; асобны алтар у касцёле. Падзяляліся на публічныя і прыватныя. У адрозненне ад *касцёла* ў К. можна служыць імшу толькі па гал. святах са спецыяльнага дазволу біскупа. Настаяцель К. наз. *капеланам*. К. ў праваслаўі (рус. *часовня*) — невялікая царква без алтара, звычайна на могілках. Часта К. будавалі ў гонар знамянальнай падзеі царк. і дзярж. жыцця. На Беларусі найб. вядомыя К. — помнікі архітэктуры: у в. Гайцюнішкі Воранаўскага р-на Гродзенскай вобл. (1633, з элементамі рэнесансу і готыкі), Слоніме (св. Дамініка, 1745, у стылі барока), в. Моладава Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл. (1905—08), К.-пахавальня кн. Паскевічаў у Гомелі (1889), К.-пахавальня кн. Святаполк-Мірскіх у г.п. Мір Карэліцкага р-на (1904), К.-мемарыял у гонар перамогі над шведамі каля в. Лясная Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл. (1908), мемарыяльная К. ў в. Мілавіды Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. (1933).

КАПУЦЫ́НЫ (італьян. cappucini ад cappuccio капюшон) — каталіцкі манаскі ордэн. Засн. ў Італіі ў 1525 як адна з трох галін ордэна *францысканцаў*. Заснавальнік Матэо Серафіні з Баскіо імкнуўся надаць ордэну характар першапачатковага аскетызму часоў св. Францыска Асізскага (13 ст.), пашырыць уплыў на ніжэйшыя пласты грамадства. Манахі павінны былі апранацца ў бурую сутану з капюшонам (адсюль назва). У 1529 статут ордэна зацверджаны папам Кліментам VII, аднак з-за пераходу генеральнага вікарыя К. Бернардзіна Акіна ў пратэстантызм ордэн быў ледзь не закрыты ў 1543. У 1619 папа Павел V зацвердзіў ордэн як самастойны. У апошняй чвэрці 16 ст. К. распаўсюдзіліся ў Францыі, Іспаніі, Швейцарыі, у 17 ст. праніклі ў Бразілію, Цэнтральную Амерыку, Індыю і інш. У 1761 у свеце было 34 029 членаў ордэна і 1730 іх кляштараў. У адрозненне ад адукаваных *езуітаў* К. вялі місіянерскую дзейнасць сярод простага люду, іх называлі пралетарыямі сярод манахаў. У 1627 К. наведалі Польшчу, але не замацаваліся там. У Вільню першы К. Валерыян Магні прыехаў з каралём Уладзіславам IV і прабыў тут з 9.2 да 13.9.1636. У 1680—90-я г. пры каралю Яне III Сабескім у Польшчы пабудаваны першыя кляштары К. у Варшаве і Кракаве. Польскія К. падпарадкоўваліся тасканскай правінцыі ў Італіі. У 1754, калі ў Рэчы Паспалітай было ўжо 9 кляштараў і столькі ж рэзідэнцый (пераважна на поўдні Польшчы і на Украіне), папа Бенядзікт XIV стварыў асобную польскую правінцыю. З 1760 К. беспаспяхова імкнуліся замацавацца ў Вільні. У ВКЛ яны аселі ў 2 месцах: у Любяшове (1756, цяпер Валынская вобл. Украіны) і ў Юравічах (1781, цяпер Калінкавіцкі р-н Гомельскай вобл.). Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай з канца 18 ст. дзейнасць К. у Рас. імперыі стала затухаць, а ў 1888 іх кляштары забаронены. Жаночая галіна ордэна — капуцынкі — засн. ў 1538 Лаўрэнцыяй Лонга ў Неапалі. Іх кляштары былі ў Германіі, Швейцарыі, Перу. У 2-ю сусв. вайну ордэн моцна пацярпеў, але аднавіўся. У 1965 у свеце былі 93 адм.-тэр. адзінкі К., 15 700 манахаў. На 1.1.1993 у Польшчы было 785 братоў і 68 сясцёр — членаў ордэна К. Яны рэгулярна наведваюць Беларусь. З 1940 у Рыме дзейнічае Гістарычны ін-т, які даследуе гісторыю францысканцаў і, у прыватнасці, К.

*Ю.В.Бажэнаў, М.А.Дабрынін.*

КАРАІ́МЫ — этнаканфесійная група, нешматлікі цюркамоўны народ з уласнай рэлігіяй — адгалінаваннем *іудаізму*. Былі пашыраны ў Крыме, а з 14 ст. у ВКЛ. Паходжанне К. дакладна не высветлена. Першапачаткова К. (літаральна на іўрыце — «якія чытаюць») у 8 ст. ў Багдадзе называлася яўрэйская секта, створаная Ананам бен Давідам. Веравучэнне секты было засн. на прызнанні адзінай крыніцай веры Бібліі (Стары запавет) і адмаўленні рабінска-талмудысцкай традыцыі. У 9 ст. іх дактрыну распрацаваў Беньямін Нахавендзі, караімскае сектанцтва пашырылася ў Грузіі, Палесціне, Егіпце, Іспаніі і інш. У 12 ст. цэнтр духоўнага жыцця К. перамясціўся ў Візантыю. У 12 ст. К. з'явіліся ў Крыме, у 13 ст. ў г. Салхат (сучасны Стары Крым) існавала іх шматлікая абшчына. На думку некаторых даследчыкаў, К. прыбылі сюды з Візантыі; караімскі гісторык 19 ст. Абрам Фірковіч прапанаваў версію, што К. — нашчадкі стараж. ізраільцян, якія аселі ў Крыме яшчэ ў 6 ст. да н.э. Сучаснай навукай апошняя версія адвяргаецца. Больш верагоднай з'яўляецца думка пра зліццё К.-сектантаў з цюркамі-хазарамі, якія вызнавалі іудаізм і пасля разгрому Хазарскага каганата кіеўскім кн. Святаславам (10 ст.) былі выцеснены ў Крым. Тут К. афарміліся як народнасць з уласнай караімскай мовай, што належыць да кіпчакскай групы цюркскіх моў. Паводле караімскага падання, у 1392 вял. кн. ВКЛ Вітаўт разбіў крымскіх татар і захапіў шматлікі палон, у т.л. і К. Палонныя былі паселены ў Троках (сучасны Тракай), Луцку, Галічы і інш. У хуткім часе ВКЛ стала гал. культурным цэнтрам К. На караімскую мову была перакладзена літургія. Першы караімскі багаслоў у ВКЛ Іцхак бен Аўрахам Трокі (Трокскі) вядомы як аўтар палемічных антыхрысц. трактатаў «Умацаванне веры», перакладзеных у



Да арт. **Каран**. Другая сура.

1681 на латынь. У сярэднявеччы К. ўспрымаліся ўладамі і мясц. насельніцтвам як яўрэі; у 1495 пры выгнанні яўрэяў з ВКЛ К. таксама падлягалі высяленню, у час войнаў і бунтаў, як і яўрэі, падвяргаліся пагромам. З уваходжаннем Крыма і ВКЛ у склад Рас. імперыі К. атрымалі шэраг ільгот, якіх не мелі яўрэі: магчымасць набываць зямельную ўласнасць, палёгку ад падаткаў, з 1827—28 — вызваленне ад воінскай павіннасці. Гэта адбывалася дзякуючы намаганням лідэраў караімскіх абшчын, якія ў хадайніцтвах да ўрада падкрэслівалі сваё прынцыповае адрозненне ад артадаксальных іудаістаў. У 1835 К. дамагліся высялення яўрэяў з Трокаў і змены афіц. назвы супольнасці: замест «яўрэі-К.» яны сталі называцца «рускія К. старазапаветнага веравызнання», а пазней — проста К. У 1837 К. атрымалі права рэліг. самакіравання: у Таўрычаскай губ. (Крым) выбіраўся галава духавенства — хахам (гахам) з рэзідэнцыяй у Еўпаторыі, яму падначальваліся газаны — кіраўнікі кінас (караімскіх сінагог). Хахам і газаны еўпатарыйскай кінасы складалі Таўрычаскае караімскае духоўнае ўпраўленне, якому ў 1850 былі падначалены і К. заходніх губерняў. У 1863 К. поўнасцю ўраўнаваны ў правах з карэнным насельніцтвам Рас. імперыі. У 18—19 ст. вылучыўся шэраг караімскіх багасловаў і гісторыкаў. У 1920—30-я г. цэнтрам культурнага жыцця К. была Вільня, дзе выдаваліся часопісы і літ. творы. У 2-ю сусв. вайну тэарэтыкі германскага расізму не прызнавалі ў К. этнічнага сваяцтва з яўрэямі, таму К. пазбеглі генацыду ў час акупацыі і толькі ў асобных гарадах (напр., Кіеў) падзялілі лёс яўрэяў. Пасля вайны К. ў СССР значна асіміляваліся, цяпер у краінах СНД і Балтыі толькі некалькі тысяч чалавек. Найб. іх абшчына (каля 300 чалавек) у Тракаі (Літва). *Ю.В.Бажэнаў, Я.З.Басін.*

КАРА́Н (араб. ал-кур'ан — чытанне) — галоўная свяшчэнная кніга мусульман. Паводле мусульм. дагматыкі, К. быў па частках атрыманы ў 610—632 пракорам *Мухамедам* ад Бога (Алаха) праз архангела Джыбрыля (Гаўрыіла). Напісаны на арабскай мове рытмічнай прозай. У 650—655 паводле загаду халіфа Асмана — паплечніка Мухамеда — спец. калегія на аснове тэксту К., запісанага сакратаром Мухамеда, і з улікам інш. запісаў і сведчанняў асоб, што ведалі К. напамяць, склала спіс К. (Асманава рэдакцыя, зберагліся 2 копіі: у Сярэдняй Азіі і ў Турцыі), які паступова выцесніў інш. запісы і быў прызнаны кананічным. Існуючы тэкст К. ўключае 114 сураў (раздзелаў), размешчаных у парадку памяншэння колькасці аятаў (вершаў), якіх 6225. Паводле часу і месца паходжання суры падзяляюць на «мекканскія» (610—622, Мекка, 90 сураў) і «медынскія» (з 622 Медына, 24 суры). Храналагічная апавядальная і зместавая паслядоўнасць паміж сурамі, а часта і аятамі, адсутнічае. Многія рэлігійна-філасофскія апавяданні К. маюць агульныя (ці падобныя) з *Бібліяй* сюжэты, напр., аб прароках Алаха ад Адама да Мухамеда, уключаючы Нуха (Ноя), Ібрагіма (Аўраама), Ісы бен Марыям (Ісуса) і інш. *Іудаізм* і *хрысціянства* разглядаюцца К. як генетычна роднасныя *ісламу* нябесныя рэлігіі, якія папярэднічалі

яму. К. з'яўляецца літ. помнікам і адной з найважнейшых крыніц мусульманскага права.

На Беларусі К. з'явіўся ў 14 ст. з пасяленнем тут татараў-мусульман. К. быў у кожнай мусульманскай сям'і, а асобныя, найб. патрэбныя суры і ўрыўкі з іх запісваліся ў *хамаілы*, якімі ў час падарожжа мусульманін карыстаўся 5 разоў у суткі. Сэнс К. перадаваўся ў падрадковых перакладах на чагатайскую (старататарскую мову); такая кніга з падрадкоўем наз. *тэфсір*. Арфаэпічныя правілы чытання К., выкладзеныя ў настаўленні *тэджвід*, таксама былі перакладзены на чагатайскую мову. Да 16 ст. татары ВКЛ карысталіся рэліг. л-рай на гэтай мове. Потым, калі большасць татар стала карыстацца бел. мовай, падрадкоўе да К., тэджвід і хамаілы былі перакладзены на бел. мову, але іх пісалі *арабскім пісьмом*. Вялікія ўрыўкі з К. татары змяшчалі ў сваіх рукапісных кнігах — *кітабах*. Для азнаямлення са зместам К. навакольнага насельніцтва і тых татар, якія не разумелі арабскай графікі, у 18 ст. К. быў перакладзены на польскую мову (з французскай). З 1870-х г. быў пашыраны К., перакладзены на рус. мову з арабскай Г.С.Саблуковым, з паралельным арабскім і рус. тэкстам. У бел. татар-мусульман нават пасля таго, як з Казані пашырыліся друкаваныя рэліг. кнігі, перавага аддавалася рукапісным К. Перапісчыкамі былі людзі, якія валодалі выразнай графікай (папраўкі і падчысткі не дапускаліся), мелі добрую рэпутацыю. Перш чым узяцца за перапіску К., мусульманін павінен быў прывесці сябе ў стан рытуальнай чысціні, памаліцца. І так кожны раз пасля перапынку ў рабоце. Атрамант (чарніла) рабілі з фарбавальных раслін. К. захоўвалі на пачэсным месцы, бралі толькі чыстымі рукамі. Іншаверцам і атэістам К. не давалі ў рукі, бо тады ён лічыўся апаганеным. Да 1917 у рус. арміі і ў 1918—39 у польскім войску ваеннаслужачыя-мусульмане прымалі на К. ваенную прысягу. У 1920—30-я г. ў БССР традыцыя распаўсюджвання і перапісвання К. была парушана. За захоўванне К. веруючыя цярпелі ганенні. З канца 1980-х г. пачалі працаваць мусульманскія школы (навучэнцы рознага ўзросту, заняткі ў выхадныя дні і пазашкольны час), у якіх татарскія дзеці і дарослыя вывучаюць асновы ісламу, чытаюць К. У квартальніку Беларускага згуртавання татар-мусульман «Аль-Кітаб» — «Байрам» друкуецца пераклад К. на бел. мову. Для літургічных мэт карыстаюцца К. толькі на арабскай мове, тэкст якога застаецца нязменным з 7 ст. *Ю.В.Бажэнаў, Я.А.Якубоўскі.*

КАРДЫНА́Л (ад лац. cardinalis галоўны) — у царкоўнай іерархіі каталіцкай царквы другі пасля *папы рымскага* чын. Найбліжэйшыя саветнікі і памочнікі папы па кіраўніцтве царквой, маюць сан епіскапа (біскупа), назначаюцца са згоды кансісторыі — сходу кардынальскай калегіі. На *канклаве* з К. выбіраецца папа рымскі. Знакам кардынальскай годнасці з'яўляецца чырвоная шапка, якая сімвалізуе гатоўнасць К. праліць сваю кроў для абароны інтарэсаў царквы. Інстытут К. склаўся ў раннім сярэдневякоўі з ксяндзоў і дыяканаў гал. касцёлаў Рыма і прыгарадных епіскапаў. З 1059 гэтыя асобы і выбіраюць на канклаве папу. З 1586 папа Сікст V вызначыў колькасць К. у 70 чал., Ян XXIII (1958—63) павялічыў да 90. У наш час больш за 140 К. Кандыдаты ў К., што не маюць біскупскага сану, павінны быць пасвячоны ў біскупы. К. служаць папе калегіяльна ці індывідуальна, удзельнічаюць у рабоце рымскай курыі. К. могуць быць і дыяцэзіяльныя біскупы, рэзідэнцыі якіх знаходзяцца па-за межамі Рыма. Званне К. звычайна маюць прымасы — кіраўнікі каталіцкіх цэркваў асобных краін. На Беларусі К. былі: мітрапаліт Ісідор (15 ст.), Юрый (Ежы) Радзівіл (з 1579 віленскі, з 1591 кракаўскі біскуп, у 1583—1600 — К.). З 1798 магілёўскія мітрапаліты (пачынаючы з С.І.*Богуша-Сестранцэвіча*) мелі прывілей насіць шаты на ўзор рымскіх К. У 1994 папа Ян Павел II прысвоіў званне К. мінска-магілёўскаму мітрапаліту Казіміру *Свёнтаку*. *І.Г.Ганчарук.*

КАРМЕЛІ́ТЫ — манахі аднаго з каталіцкіх жабрацкіх ордэнаў, заснаванага ў 1155 св. Бертольдам у Палесціне ў час крыжовых паходаў. Першы скіт К. быў на гары Кармель (адсюль і назва). Ордэнскія гісторыкі да 16 ст. лічылі сваім заснавальнікам прарока Ілью, таму гэты святы асабліва ўшаноўваўся ў кармеліцкіх касцёлах. Першы статут К. атрымалі ад каталіцкага патрыярха іерусалімскага Альберта: манахі павінны былі жыць у асобных келлях, не мець уласнасці, працаваць фізічна, строга захоўваць пасты і г.д. У 13 ст. пад націскам сарацынаў (арабаў) К. перабраліся на Кіпр, адтуль — у Сіцылію, Праванс, Англію і інш. краіны Зах. Еўропы. Статут іх стаў больш памяркоўным, у 1247 ордэн зацверджаны папам Інакенціем IV. У сярэдзіне 13 ст. ўзнікла версія аб асаблівым патранаце над К. Дзевы Марыі. Патранальнае свята Маці Божай Шкаплернай — 16 ліп., у 1587 зацверджана для ордэна, у 1726 — для ўсёй каталіцкай царквы. Найб. росквіту К. дасягнулі ў 17 ст., калі мелі ў 38 правінцыях каля 700 кляштараў, у 1840 ордэн налічваў больш за 700 манахаў. У 1542 зацвердажана і жаночая галіна ордэна — кармеліткі. З канца 14 ст. К. пачалі пранікаць у Польшчу. У ВКЛ першы касцёл К. пад назвай Маці Божай Снежнай і св. Юрыя ў Вільні засн. Мікалаем Радзівілам у гонар перамогі ў Клецкай бітве 1506. У 17—18 ст. кляштары К. узніклі ў Ружанах, Мсціславе, Радамлі (Чавускі р-н),

Лідзе, Гродне, Чавусах, Магілёве, Жалудку (Шчучынскі р-н), Мінску, Калесніках (цяпер Літва), Крупчыцах (Жабінкаўскі р-н), Слабодцы (Астравецкі р-н), Станькаве (Віцебскае ваяв.), Засвіры (Мядзельскі р-н). Іх рэзідэнцыі існавалі ў Княжыцах (Магілёўскі р-н), Брэсце, Халопенічах (Крупскі р-н), Мазыках (Мсціслаўскае ваяв.), Чэрыкаве, Шэметаве (Мядзельскі р-н). У 16 ст. рэфарматарка ордэна іспанская кармелітка Тэрэза Авільская ўвяла больш суровы статут, зацверджаны ў 1593. Гэта прывяло да вылучэння новых ордэнаў — босых кармелітак і босых К. Пасля гэтага К. і кармелітак старога статута часта наз. «К. і кармеліткі абутыя». У 1605 босыя К. прысланы ў Рэч Паспалітую для місіянерскай прапаганды сярод правасл. вернікаў царк. уніі з Рымам. У ВКЛ мужчынскія кляштары босых К. існавалі ў Вільні, Глыбокім, Гродне, Мядзеле, Гудагаі (Астравецкі р-н), Пінску. У Вільні быў і жаночы кляштар кармелітак босых. У 19 ст. ўсе кармеліцкія кляштары зачынены. У 1990-я г. пачала аднаўляцца дзейнасць К. у Мядзеле і Гудагаі.

*Літ.:* Wanat B.J. Zakon Karmelitów Bosych w Polsce. Kraków, 1979.
*А.А.Ярашэвіч.*

КАРПО́ВІЧ Лявонцій (свецкае імя *Логін*, Лонгін; 1580, г. Пінск — 1620 — беларускі праваслаўны царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст. З сям'і святара. Вучыўся, верагодна, у Віленскай брацкай школе, пасля чаго быў «слугою и писаром» брацкім. «Карэктар» (гал. рэдактар) Віленскай брацкай друкарні. Магчыма, у якасці брацкага пісара прысутнічаў на Брэсцкім саборы 1596. У снеж. 1609 як пасол ад брацтва ўдзельнічаў у Варшаўскім сейме. Не пазней 1610 пастрыгся ў манахі з імем Лявонцій, у хуткім часе прыняў святарскі сан. Заснавальнік і першы архімандрыт *Віленскага Свята-Духаўскага манастыра* пры брацкай царкве Сашэсця св. Духа. У крас. 1610 за выданне антыуніяцкай кнігі М.Сматрыцкага «Трэнас» арыштаваны і пасля жорсткіх катаванняў кінуты ў земляную яму, дзе правёў 2 гады ў кайданах, аднак не адрокся ад праваслаўя. Пасля вызвалення працягваў архімандрыцкае служэнне, сачыў за работай друкарняў у Вільні і Еўі, перакладаў, пісаў, прапаведаваў у брацкай царкве. Стаў рэктарам брацкай школы, рэфармаванай пры яго ўдзеле на ўзор двухступенных школ «трывіума» і «квадрывіума». Адначасова ўзначальваў Віленскае правасл. стаўрапігальнае брацтва Сашэсця св. Духа, якое вяло актыўную антыуніяцкую дзейнасць. Кнігі К. мелі такі вял. уплыў, што, паводле падання, яго апаненты езуіты куплялі іх па вазе золата, каб спаліць. З 1616 намінат (непасвячоны епіскап) уладзімірскі і брэсцкі. Настаўнік і духоўны кіраўнік царк. дзеячаў М.*Сматрыцкага*, Сільвестра *Косава*, Ісаі Трафімовіча, *Іосіфа* Бабрыковіча. Аўтар твораў: «Казанье двое, едно на Преображение, другое на Успение» (Еўе, 1615), «Казанье пред Рождеством Христовым», пасланне на Афон «Чесному священноинокови господиню отцю Кирилу (Пафнутию, Елисею)» (1619), «Казанье на погреб. кн. В.В.Голицина» (1619) у аўтарскім перакладзе на польскую мову з прысвячэннем земскаму падскарбію, пісару і лоўчаму ВКЛ Хрыстафору Нарушэвічу. Памёр і пахаваны ў Вільні. Памяці К. прысвечаны «Казанье на погреб. о. Леонтия Карповича» М.Сматрыцкага і «Лямент света убогих на жалосное преставление... о. Леонтия Карповича».



М.Ф.**Карповіч**.

*Тв.:* У. кн. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959.

*Літ.:* Левшун Л.В. Некоторые принципы использования Священного Писания в «Казанье на Преображение» Леонтия Карповича // Начало: Сб. работ молодых ученых. М., 1990.
*Л.В.Лёўшун.*

КАРПО́ВІЧ Міхаіл Францішак (4.10.1744, г. Камянец Брэсцкай вобл. — 5.11.1803) — палітычны і царкоўны дзеяч, багаслоў-асветнік. Адукацыю атрымаў у Брэсцкім езуіцкім калегіуме (1751—61). З 1767 праф. філасофіі Варшаўскай семінарыі, з 1771 выкладаў багаслоўе ў Кракаве, у 1772—74 — багаслоўе і царк. гісторыю ў епархіяльнай семінарыі пры касцёле св. Казіміра ў Вільні. У 1774 дэлегат правінцыяльнага канвента ў Варшаве. З 1783 праф. дагматычнай тэалогіі ў Гал. літоўскай школе ў Вільні. Займаўся таксама прапаведніцкай дзейнасцю, пісаў вершы з нагоды розных падзей ў жыцці мясц. магнатаў, прапагандаваў ідэі франц. асветнікаў. Адзін з першых на Беларусі пачаў крытыку прыгону і жорсткага абыходжання паноў з сялянамі. Быў прыхільнікам Канстытуцыі 3 мая 1791. У час паўстання 1794 уваходзіў у паўстанцкі ўрад. Пасля задушэння

паўстання царскія ўлады выдалі загад на яго арышт. Пэўны час К. хаваўся ў Варшаве, потым паўлегальна жыў у маёнтку Грыжашкі на Сувалкаўшчыне, што атрымаў ад біскупа І.*Масальскага*. Сабраў там багатую бібліятэку, у якой шмат літаратуры на французскай мове.

КАРТУ́ЗЫ, гл. *Картэзіянцы*.

КАРТЭЗІЯ́НЦЫ, картузы, каталіцкі манаскі ордэн. Узнік у 2-й палавіне 11 ст. ў Бургундыі (Францыя). Засн. канонікам Рэймскай кафедры св. Бруно, які ў 1084 з паплечнікамі пабудаваў першы кляштар (напачатку скіт) у даліне Шартроз (лац. Cartusia; адсюль і назва). Афіцыйна зацверджаны ў 1176. К. жылі ў асобных доміках — келлях, пры кожнай з іх быў невялікі агарод; манахі чыталі, займаліся аскетычнымі практыкаваннямі і роздумам. Многія К. асвойвалі маст. прафесіі (жывапіс, разьбу, пазалоту), перапісвалі кнігі і ноты; рукапісы К. адметныя прыгажосцю каляровых і залатых ініцыялаў. Каля 1234 засн. жаночая галіна ордэна. У пач. 18 ст. ў Еўропе каля 170 кляштараў К., з іх 75 у Францыі. Адзіны кляштар К. на Беларусі засн. ў 1698 падканцлерам К.Л.Сапегам у г. Бяроза, быў разлічаны на 15 манахаў, належаў да Рэйнскай правінцыі ордэна (гл. *Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў*). *А.А.Ярашэвіч.*

КАРУ́ (Kareu) Францішак Ксаверый (10.12.1731, каля г. Орша Віцебскай вобл. — 30.7.1802) — каталіцкі рэлігійны дзеяч, педагог. З 1754 член ордэна *езуітаў*. У 1760-я г. місіянер і выкладчык у Мінску, Нясвіжы, Слуцку. У 1768 выкладаў філасофію, матэматыку, архітэктуру і тэалогію ў *Полацкім езуіцкім калегіуме*. З 1779 віцэ-рэктар, з 1782 рэктар *Аршанскага езуіцкага калегіума*. З 1786 рэктар Полацкага калегума, у 1787 адкрыў там друкарню. У 1799—1801 генеральны вікарый (выконваючы абавязкі генерала) ордэна езуітаў, у 1801—02 генерал (з правам карыстацца гэтым тытулам толькі ў межах Рас. імперыі). У 1801 адкрыў езуіцкую школу ў С.-Пецярбургу.



Рэліквіі святых **Касмы і Даміяна**. 14—15 ст. Кракаў. Касцёл Дзевы Марыі.

КАСМА́ І ДАМІЯ́Н — хрысціянскія першапакутнікі, святыя, родныя браты. Паходзілі з Аравіі. Вывучалі медыцыну ў Сірыі. Набыўшы прафесію лекараў, практыкавалі ў 3 ст. на Міжземнаморскім узбярэжжы ў Кілікіі. Будучы шчырымі хрысціянамі, праяўлялі міласэрнасць да людзей, аказвалі хворым дапамогу, не патрабуючы за гэта ніякай платы, за што іх называлі бессярэбранікамі. Браты былі актыўнымі змагарамі з язычніцтвам, прапагандавалі хрысц. веру. Адбывалася гэта ў 303—304, калі рымскі імператар Дыяклетыян праследаваў хрысціян. Па загаду кіраўніка правінцыі К. і Д. былі зняволены. Ім прапанавалі адрачыся ад хрысціянскай веры, люта іх катавалі, аднак браты вытрымалі ўсе выпрабаванні, засталіся вернымі вучэнню Хрыста. Разам з імі былі закатаваны і тры іх браты. У памяць святых К. і Д. на Беларусі пабудаваны і дзейнічаюць шэраг каталіцкіх і праваслаўных храмаў, якія носяць іх імёны.

КАСО́Й Феадосій (? — не раней сярэдзіны 1570-х г.) — рэлігійны вальнадумец і прапаведнік у Маскоўскай дзяржаве і ВКЛ. Ідэолаг радыкальнай антыправасл. ерасі — феадасіянства, адзін з кіраўнікоў рэфармацыйнага руху ва Усходняй Еўропе. У 1554 К. прыцягнуты да следства па справе рус. вальнадумца М.Башкіна, зняволены ў адзін з маскоўскіх манастыроў. Уцёк на Беларусь, дзе жыў у 1550—60-я г. (спачатку ў Віцебску). Крытыкаваў царк. абраднасць, афіц. веравучэнне, правасл. царкву як сацыяльны інстытут і духавенства як носьбіта ўласцівых царкве заганаў. Адмаўляў боскую прыроду Хрыста, не верыў у святых і цуды, у замагільнае жыццё і ўваскрэсенне мёртвых, крытыкаваў шанаванне абразоў, асуджаў феадальныя адносіны і ўладу, заклікаў да грамадскага непадпарадкавання. Выступаў за роўнасць народаў і веравызнанняў. Ідэі К. атрымалі шырокую падтрымку сярод гарадскіх нізоў Беларусі і ўвогуле ВКЛ. Паводле слоў свайго апанента Зіновія Атэнскага, К. «развратил Литву». Феадасіянства стала агульнаслав. з'явай і адыграла немалую ролю ў генезісе антыфеад. тэндэнцый у ходзе Рэфармацыі ў Рэчы Паспалітай, уяўляла небяспеку для духоўнай манаполіі правасл. царквы. Пад пагрозай расправы К. з аднадумцамі прымусілі пакінуць Віцебск. Магчыма, ён быў на чале групы маскоўскіх манахаў, што вясной 1557 з'явіліся ў Вільні. У 1560-я г. далучыўся са сваімі вучнямі да *антытрынітарыяў* і зрабіў уплыў на ідэалогію гэтага руху. Самыя познія звесткі пра К. датуюцца сярэдзінай 1570-х г., калі ён прапаведаваў на Валыні. Прадаўжальнікам феадасіянскіх традыцый на Беларусі быў С.*Лован*.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990.

*С.В.Марціпава.*

КАСЦЁЛ (ад лац. castellum невялікая крэпасць) — 1) польская і беларуская назва рымска-каталіцкага храма. Паводле царк. дагматыкі К. з'яўляецца домам Бога і месцам малітвы. Падзяляецца на 3 традыц. для хрысц. храма часткі: бабінец (прытвор, нартэкс), цэнтральную частку і прэсбітэрый (алтарную частку). У адрозненне ад правасл. храма (гл. *Царква*) у К. алтаром называецца не частка прасторы, а ўзвышанае ахвярнае месца з распяццем, абразом або статуяй святога. Гал., часта шматфігурны, алтар размяшчаецца ў прэсбітэрыі, які звычайна аддзяляецца ад цэнтральнай часткі невысокай агароджай. Акрамя гал. ў К. можа быць некалькі дадатковых бакавых алтароў у цэнтральнай частцы храма; там таксама знаходзяцца кафедра для ксяндза, спавядальня, лаўкі для вернікаў, на сценах жывапісныя або скульптурныя сцэны з крыжовага шляху Ісуса Хрыста (стацыі), дадатковыя абразы, эпітафіі і помнікі фундатарам (іх тут часта хавалі), месца для хораў, арган і інш. Інтэр'ер К. звычайна вельмі багата ўпрыгожаны. Пры прэсбітэрыі размяшчаецца сакрысція — спец. прыбудова, у якой зберагаюцца прыналежнасці культу (свяшчэнны посуд і богаслужэбныя адзенне, кнігі і інш.), часам тут месціцца і касцельная б-ка. Па сваім значэнні К. бываюць: базілікі (К. са спец. папскімі прывілеямі, асноўныя ў Рыме); кафедральныя (К., дзе ёсць кафедра *епіскапа* і знаходзіцца кафедральны *капітул*); калегіяты (К., якім нададзены спец. ганаровы статус, ёсць свой калегіяцкі капітул); кляштарныя; парафіяльныя (прыходскія, фарныя); філіяльныя (у складзе прыхода); *капліцы*. Паводле кананічнага права, узвядзенне К. біскуп мог дазволіць толькі тады, калі фундатар забяспечыць утрыманне будынка і існаванне прычта. Новы К. абавязкова падлягае абраду кансекрацыі (асвячэнню біскупам). На Беларусі К. пачалі сістэматычна будаваць пасля Крэўскай уніі 1358, а найб. шырока — пасля Брэсцкай уніі 1596 (гл. *Рымска-каталіцкая царква*). Сярод К. шмат выдатных помнікаў гісторыі і культуры. Найб. вядомыя К.: Нясвіжскі, Ішкалдскі, Траецкі, Камайскі, у в. Гнезна Ваўкавыскага р-на, у в. Міхалішкі Астравецкага р-на, в. Гервяты Астравецкага р-на, Гродзенскі фарны К. (былы езуіцкі) і інш. 2) Польскі тэрмін для абазначэння рымска-каталіцкай царквы як арг-цыі.



**Катакомбы** ў Рыме.

КАТАКО́МБЫ (італьянск. catacomba ад позналац. catacumba падземная грабніца) — падземныя памяшканні прыроднага або штучнага паходжання. Выкарыстоўваліся ў старажытнасці для правядзення рэліг. абрадаў і пахаванняў. Вядомы К. ў наваколлі Рыма, Неапаля, на в-ве Сіцылія, у Егіпце (Александрыя), Венгрыі, Германіі, Паўн. Афрыцы, Кіеве, на Балканах і інш. У 2—4 ст. выкарыстоўваліся хрысціянамі. Асабліва вялікія К. ў Рыме, якія ўяўляюць сабой разгалінаваныя лабірынты вузкіх галерэй (даўжыней каля 900 км) і невялікіх залаў — крыпт, багата аздобленых размалёўкамі. На сценах К. захавалася мноства эпітафій і культавых малюнкаў — важных крыніц па гісторыі ранняга хрысціянства.

КАТАЛІКО́С (ад грэч. katholikos, усяленскі, усеагульны) — тытул кіраўнікоў Армянскай апостальскай царквы (з 4 ст.), Грузінскай праваслаўнай царквы (з 5 ст.), монафісіцкай царквы армян католікаў. Спалучаецца з тытулам *патрыярха* і раўназначны яму.

КАТАЛІЦЫ́ЗМ (грэч. katholikos усеагульны, лац. catolismus галоўны, сусветны) — адзін з асноўных кірункаў (разам з *праваслаўем* і *пратэстантызмам*) у *хрысціянстве*. Вылучэнне з агульнай плыні хрысціянства пачалося ў сувязі з падзелам у 395 Рымскай імперыі на Заходнюю і Усходнюю; канчаткова афарміўся ў 1054 пасля падзелу цэркваў на заходнюю (каталіцкую) і ўсходнюю (праваслаўную). Мае шэраг асаблівасцей у дагматыцы, кульце арганіз. структуры. Уяўляе сабой моцную цэнтралізаваную царкву, якая кіруецца тэакратычнай дзяржавай — *Ватыканам* на чале з *папам рымскім*. Папа лічыцца намеснікам Ісуса Хрыста на Зямлі, пераемнікам апостала *Пятра*. Крыніцамі веравучэння К. з'яўляецца Пісанне свяшчэннае (Біблія) і Свяшчэннае паданне (традыцыя). У адрозненне ад праваслаўя К. лічыць усе без выключэння тэксты Бібліі кананічнымі. Свяшчэннае паданне — пастановы ўсіх усяленскіх сабораў (а не толькі першых сямі, як у правасл.),

творы святых айцоў і рашэнні рымскіх першасвятароў. Дагматыка К. адрозніваецца ад правасл., яна ўдакладнялася і дапаўнялася новымі тэалагічнымі прынцыпамі. Так, догмат пра Тройцу, паводле якога Святы Дух зыходзіць не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына, стаў спрэчным пунктам у час падзелу царквы ў 1054. Догмат аб запасе добрых спраў, на падставе якога склалася практыка продажу *індульгенцый*, быў адной з прычын аддзялення ад К. пратэстантызму ў 16 ст. Істотна большая роля ў К. належыць культу Дзевы Марыі, што складаецца з догматаў аб бязгрэшным зачацці і цялесным узнясенні яе на неба, а таксама з догматаў пра першародны грэх і чысцілішча. Значным лічыцца і прыняты ў 1870 догмат аб непагрэшнасці пап у справах веры і маралі ў час знаходжання іх на кафедры. Сярод кананічных асаблівасцей К. вызначаюцца: *цэлібат* (зарок бясшлюбнасці не толькі манаства, але ўсіх святароў), недапушчальнасць выхаду з духоўнага сану, інстытут кардыналаў, непарушнасць шлюбу, першынство папы. У К. шануюцца чатырохканцовы крыж, рэліквіі, святыя. Найб. значнае свята — *Раство Хрыстова*; ёсць і спецыфічныя святы: Цела Гасподняга, Сэрца Ісусавага і інш. Сярод устаноў К.: *рымская курыя*, калегія кардыналаў (у поўным складзе — *кансісторыя*), *кангрэгацыі* і канцылярыі; *ордэны манаскія*. Існуе ў К. добра арганізаваны грамадскі рух — *Акцыя каталіцкая*. У сферы ідэалогіі К. кіруецца афіц. філас. дактрынай, абноўленым вучэннем *Фамы Аквінскага* — неатамізмам. Праяўляецца цікаўнасць і да інш. філасофскіх сістэм, якія больш адпавядаюць патрэбам царквы і часу, напр., да тэярдызму. Адметная рыса К. — процістаянне мадэрністаў і традыцыяналістаў. Да 2-га Ватыканскага сабора (1962—65) каталіцкая *імша* (богаслужэнне) адбывалася па-лацінску, цяпер — і на родных мовах. К. найб. пашыраны ў Зах. Еўропе, Лац. Амерыцы, Філіпінах, ЗША, некаторых краінах Афрыкі. Акрамя *рымска-каталіцкай царквы* (уласна каталіцкай першапачатковай царквы зах. абраду) К. уключае і шэраг былых правасл. і стараж. усходніх цэркваў, якія прызналі ўладу рымскага папы і каталіцкую дагматыку пры захаванні сваёй абраднасці і ўнутранай арг-цыі і ператварыліся ва уніяцкія. Гэта цэрквы грэч., армянскага, копцкага (у Егіпце), мараніцкага (у Ліване) і інш. абрадаў. На Беларусі К. пашырыўся пасля Крэўскай уніі 1385 у выглядзе рым.-каталіцкай царквы, а ў выніку *Брэсцкай уніі 1596* створана *уніяцкая царква*.

*Літ.:* Х о л ь ц Л. История христианского монашества: Пер. с нем. СПб., 1993. *А.А.Цітавец.*

КАТО́ВІЧ Іаан (Іван Антонавіч ?—?) — Віленскі праваслаўны святар, археолаг. З 1869 рэдагаваў часопіс *«Литовские епархиальные ведомости»*, у якім змясціў шмат артыкулаў па царкоўных пытаннях. У артыкулах «Богагалоснік, яго значэнне і выкарыстанне ў народзе» (1866), «Пра праваслаўныя цэрквы ў г. Кобрыне» (1869), «Некалькі слоў пра віленскую Кальварыю і пра наведванне яе праваслаўнымі» (1875—79) ёсць звесткі па археалогіі Беларусі і Літвы. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы «Прац дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні» (1893; т. 1—2, 1895—97).



**«Катэхізіс»** С.Буднага. Тытульны ліст. 1562.

КАТЭХІ́ЗІС (ад грэч. katēchēsis павучанне, настаўленне) — рэлігійная кніга, у якой асновы хрысціянскага веравучэння выкладзены ў форме пытанняў і адказаў. Першапачаткова азначала вуснае настаўленне асоб, якія пераходзілі ў хрысціянства, перад прыняццем імі хрышчэння. З 16 ст. К. — кніга, навуч. дапаможнік, мэта якога — агульнае рэліг. навучанне вернікаў. Пачатак такім выданням паклаў М.Лютэр, які ў 1529 надрукаваў «Малы катэхізіс». У 1566 у Ватыкане выдадзены «Рымскі катэхізіс», у якім выкладзена каталіцкая дактрына: сімвал веры, таінства, дэкалог (10 запаведзей), гал. малітвы. У сярэдзіне 19 ст. правасл. мітрапаліт Філарэт (Драздоў) склаў «Прасторны катэхізіс», які доўгі час быў падручнікам па Закону Божаму. На бел. мове ў 1562 выдадзены «Катэхізіс» С.*Буднага*, у 1783 — Л.*Зізанія*. Існуе некалькі варыянтаў К. Звычайна яны складаюцца з 3 частак: у 1-й даюцца звесткі пра Бога і царкву, у 2-й — этычныя настаўленні, у 3-й апісаны сродкі атрымання божай ласкі.

*А.А.Цітавец.*

КА́ФЕДРА (ад грэч. kathedra сядзенне, крэсла) — у хрысціянскіх цэрквах сядзенне (крэсла) ў храме, на якое садзіцца *епіскап* у пэўныя моманты богаслужэння; К. называюць і месца для прапаведзі, дзе свяшчэннаслужыцель стаіць. У пера-

носным (і асноўным) сэнсе — пасада і месца знаходжання епіскапа, які кіруе *епархіяй*. У каталіцкай царкве К. (к а т э д р а) — таксама скарочаная назва кафедральнага сабора — храма, у якім служыць біскуп.

КАФІ́ЗМА — адзін з 20 раздзелаў *Псалтыра*.

КАХАНО́ВІЧ Грыгорый Ануфрый (сярэдзіна 18 ст., Аршанскі пав. — 1814) — грэка-каталіцкі (уніяцкі) царкоўны дзеяч. З бел. шляхецкага роду герба «Корвін», сын святара. Вучыўся ў віленскай папскай семінарыі. Быў святаром Галоўчынскай царквы ў Аршанскім пав. У 1790-я г. суддзя Полацкай уніяцкай кансісторыі, яе прэзідэнт (1798), епіскап-суфраган (вікарый) Полацкай архіепархіі. У 1798—1802 выконваў асабістыя даручэнні архіепіскапа І.Лісоўскага пры імператарскім двары. У 1803—08 адміністратар Полацкай архіепархіі. З 1808 епіскап луцкі і экзарх *Кіеўскай мітраполіі*. З кастрычніка 1809 мітрапаліт уніяцкай царквы. Імкнуўся ўзвысіць белае духавенства, паменшыць уплыў рыма-каталікаў і *базыльян* на ўнутранае жыццё грэка-каталіцкай царквы. У 1810 забараніў прымаць у базыльянскі ордэн шляхту лац. абраду, якая на той час складала значную частку манахаў, што выклікала пратэст і базыльян, і мясцовай шляхты. У час французскай акупацыі 1812 базыльяне беспаспяхова спрабавалі адхіліць К. ад пасады. К. так і не быў зацверджаны рымскім папам у якасці мітрапаліта, хоць хадайнічаў пра гэта ў спец. лісце, накіраваным у Рым (1810).

*С.В.Казуля.*

КАХЛЕ́ЎСКІ (Kochlewski) Пётр (?, Польшча — 23.8.1647) — палітычны і рэліг. дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік, кальвініст. У маладосці пасяліўся ў ВКЛ і стаў дваранінам К.Радзівіла. Быў уласнікам вёсак Барышын, Воля Нурэцкая, Дужы Лес, Зубача, Клюковічы, Ломна, Нурэц, Тумін, Цяляцічы ў Брэсцкім пав., а таксама дзяржаўцам каралеўскага маёнтка Палонцы. У 1621—22 у Інфлянтах прымаў удзел у вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29. Калі быў у Заходняй Еўропе, выконваў тайныя даручэнні К. Радзівіла па падрыхтоўцы перавароту, каб скінуць Жыгімонта III і замяніць яго Гастонам Арлеанскім. Пасля раскрыцця змовы хаваўся ад улад і часова адышоў ад паліт. дзейнасці. Удзельнік сеймаў канвакацыйнага і элекцыйнага 1632, каранацыйнага 1633, сеймаў 1635—40, дзе адстойваў інтарэсы *дысідэнтаў*. З 1635 войскі брэсцкі, з 1638 суддзя земскі брэсцкі. У 1633—45 пастаянны ўдзельнік кальвініцкіх віленскіх правінцыяльных сінодаў, часта выбіраўся на генеральныя сіноды (гл. ў арт. *Кальвінізм*). У 1638 на ўласныя сродкі пабудаваў у в. Нурэц кальвінскі збор са школай і шпіталем. Аўтар твораў «Мемарыял, або Настаўленне для жонкі і дзяцей маіх...» (1646), «Перасцярога і настаўленне набожнага евангеліка для братоў таго ж веравызнання», «Меркаванне безыменнага евангеліка аб рэлігійнай талерантнасці ў Польшчы» (апошнія 2 у рукапісах) і інш. Пісаў рэліг. вершы і паэмы на польскай і лац. мовах.



А.Каяловіч. Гісторыя Літвы. Ч.1. Тытульны ліст. Гданьск. 1650.

КАЯЛО́ВІЧ (В і ю к-К а я л о в і ч) Альберт (Войцех; 1609, Ковенскі пав. — 6.10.1677) — гісторык, геральдык, рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай. У 1627 уступіў у ордэн езуітаў. У 1628—32 вучыўся ў Віленскім і Нясвіжскім калегіумах, у 1634—38 — у Віленскай акадэміі. Адзін з арганізатараў Ковенскага калегіума. У 1644—45 прафесар палемічнай тэалогіі ў Браневе (Польшча). У 1645 атрымаў у Вільні ступень доктара тэалогіі і да 1658 выкладаў у Віленскай акадэміі схаластычную тэалогію (з 1649 падканцлер акадэміі, у 1654—55 яе рэктар). З 1658 пры двары віленскага біскупа-суфрагана А.Сапегі, біскупа Я.Даўгялы, падарожнічаў па ВКЛ. У 1662—66 прэпазіт (настаяцель) дома манахаў у Вільні, намеснік правінцыяла ордэна езуітаў. З 1666 прэфект у Варшаўскім калегіуме. Аўтар 34 друкаваных прац (з улікам перакладаў). Першыя публікацыі (1635) — палеміка з кальвіністамі. Гал. яго твор— «Гісторыя Літвы» на лац. мове (ч. 1—2, 1650—69). 1-я яго частка па сутнасці з'яўляецца перакладам «Хронікі» М. Стрыйкоўскага. Аднак К. адкінуў шмат яго фантастычных звестак і больш сістэматычна разгледзеў дахрысц. гісторыю Літвы. Гэта праца

пазнаёміла краіны Заходняй Еўропы з гісторыяй ВКЛ. Ход ваенных дзеянняў супраць укр. казакоў у 1648—49 К. апісаў у кн. «Аб ваенных дзеяннях 1648 і 1649 г. супраць запарожскіх казакоў» (Вільня, 1651). Генеалогіі роду Радзівілаў прысвяціў «Летапіс Радзівілаў» (Вільня, 1653), але з прычыны раскрыцця таямніц іх роду праследаваўся Радзівіламі. У рукапісах засталіся генеалагічныя творы пра Хадкевічаў і Сапегаў. Род Сапегаў выводзіў не ад Гедзіміна, а ад баярына Сунігайлы, чым настроіў іх супраць сябе. У 1648 пачаў працу над кнігай па гісторыі шляхты ВКЛ. Яе друкаванне ў 1656 спынена па патрабаванні адной шляхецкай сям'і, якая палічыла сябе абражанай. Гэты арыгінальны твор захаваўся ў 3 рэдакцыях: старэйшая на польскай мове, дзе роды размешчаны паводле старшынства і годнасці; «Кампендыум» («Compendium») на польскай мове, дзе матэрыял выкладзены паводле гербаў (надрукаваны ў 1897); «Наменклятар» («Nomenclator») на лац. мове, дзе матэрыял пададзены паводле прозвішчаў (надрукаваны часткова ў 1905—06). *А.А.Семянчук.*

КВА́КЕРЫ (англ. quakers літаральна якія трасуцца), Таварыства сяброў (Society of Friends) — паслядоўнікі радыкальнага кірунку ў *пратэстантызме*, заснаванага ў 1652 у Англіі Дж.Фоксам пры ўдзеле У.Пена. У выніку праследаванняў з боку ўрада і афіц. англіканскай царквы многія абшчыны К. з 1670-х г. эмігрыравалі ў Паўн. Амерыку. Становішча англійскіх і амерыканскіх К. легалізавана ў 1689 «Законам аб верацярпімасці». Асновы веравучэння сістэматызаваны тэолагам Р.Баклі (1676), арганізац. структуры распрацаваны Пенам, які заснаваў гал. асяродак К. у штаце Пенсільванія (ЗША). К. лічаць крыніцай веры ўнутранае праяўленне Бога, якое даецца кожнаму чалавеку, адмаўляюць усе знешнія формы культу, інстытут святарства, не прызнаюць вайсковую службу, прысягу, выступаюць супраць рэліг. і сацыяльнай няроўнасці, у т.л. змагаліся супраць рабства, аказвалі дапамогу ахвярам 1-й і 2-й сусв. войнаў. За сваю пацыфісцкую дзейнасць атрымалі Нобелеўскую прэмію міру 1947.

КВІЕТЫ́ЗМ (франц. quétisme ад лац. quetus спакойны, ціхамірны) — рэлігійнае вучэнне, якое прапаведуе містычна-пасіўныя адносіны да свету, абыякавасць да ўласнага выратавання, безумоўнае падпарадкаванне божай волі. Узнік у канцы 17 ст. як апазіцыйнае вучэнне ўнутры каталіцызму. Уяўляе сабой асаблівую разнавіднасць *фаталізму* і маральнага нігілізму. Афіц. кіраўніцтва каталіцкай царквы асуджала К., а 68 палажэнняў К. былі аб'яўлены ерассю. Асн. яго прадстаўнікі М.Малінас (Іспанія) і Ж.-М.Гюён (Францыя) правялі частку свайго жыцця ў зняволенні. Ідэі бяздзейнасці і абыякавасці да пакут развіў у сваім вучэнні А.Шапенгаўэр. У пераносным сэнсе К. — пасіўнасць, непрацігленне, бяздзейнасць, сузіральніцтва. *А.М.Елсукоў.*

КЕ́ЛЛЯ (ад лац. cella) — асобны пакой, асобнае жыллё манаха ці манашкі ў манастыры.

КІ́ЕВА-МАГІЛЯ́НСКІ КАЛЕ́ГІУМ (з 1701 Кіеўская акадэмія) — гуманітарная навучальная ўстанова для праваслаўных у 1632—1817 у Кіеве. Засн. мітрапалітам кіеўскім П.*Магілай* (адсюль і назва). Размяшчаўся пры брацкім манастыры і знаходзіўся пад сумеснай апекай Магілы і прадстаўнікоў *брацтва*. Выкладанне вялося на ўзор заходне-еўрап. навуч. устаноў. Напачатку калегіум меў 7 класаў: падрыхтоўчы (аналогія або фара), 3 ніжэйшыя (інфіма, граматыка, сінтаксіма) і 3 вышэйшыя (паэтыка, рыторыка, філасофія). У падрыхтоўчым і ніжэйшых класах гал. чынам вывучаліся мовы: «славяна-руская» (тагачасная старабеларуская мова, якая ўжывалася на Беларусі і Украіне), царк.-слав., польская, лац. і грэч.; пазней у праграму ўключаны заходне-еўрап. мовы. У старэйшых класах вывучаліся «сем вольных мастацтваў» і філасофія, даваліся звесткі па гісторыі і геаграфіі. У 1689 адкрыты 8-ы клас, у якім вывучалі тэалогію, што ставіла калегіум на ўзровень вышэйшай навуч. установы. Статус акадэміі нададзены калегіуму указам цара Пятра I у 1701. У год стварэння ў калегіуме вучылася каля 160 чал., на рубяжы 17—18 ст. — 1000 чал., у сярэдзіне 18 ст. — 1200 чал. У 1817 установа зачынена; замест яе адкрыта духоўная семінарыя, якая ў 1819 пераўтворана ў духоўную акадэмію (праіснавала да 1920). К.-М.к. адыграў вялікую ролю ў пашырэнні асветы і на Украіне, і на Беларусі, даваў магчымасць вучыцца бел. праваслаўнай моладзі (усе навуч. ўстановы такога ўзроўню на Беларусі таго часу былі ў падпарадкаванні каталікаў). Сярод навучэнцаў і выкладчыкаў калегіума былі вядомыя на Беларусі царк. дзеячы: Іосіф Канановіч-Гарбацкі, Г.Каніскі, Сільвестр Косаў, Сімяон Полацкі, гісторык М.М.Бантыш-Каменскі і інш. У калегіуме атрымлівалі адукацыю таксама студэнты з Балгарыі, Грэцыі, Малдавіі, Расіі, Сербіі.

*Літ.:* Булгаков М. История Киевской Академии. СПб., 1843; Хижняк З.И. Киево-Могилянська Академия. Київ. 1988; Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР с древнейших времен доконца XVII в. М., 1989.

*Ю.М.Лаўрык.*

КІЕЎСКАЯ МІТРАПО́ЛІЯ — царкоўна-адміністрацыйная адзінка праваслаўнай царквы, утвораная ў Кіеўскай Русі ў канцы 10 ст. пасля прыняцця хрысціянства. На працягу стагоддзяў межы мітраполіі мяняліся. Яна ахоплівала тэр. Украіны, Беларусі, Літвы, часткова Расіі. Узнікла як адна з 60 епархій Канстанцінопальскага патрыярхата. Месцазнаходжанне *мітрапаліта* Кіеўскага і ўсяе Русі — Кіеў. Мітраполія падзялялася на епархіі, колькасць якіх мянялася. Тэр. Беларусі ўваходзіла ў склад Полацкай, Тураўскай, Навагрудскай, часткова — Уладзіміра-Брэсцкай, Смаленскай і Чарнігаўскай епархій. Мітрапаліт выбіраўся саборам епіскапаў па ўзгадненні са свецкай дзярж. уладай і зацвярджаўся канстанцінопальскім *патрыярхам*, аднак быў незалежным ад апошняга ва ўнутраным кіраванні. У кампетэнцыю мітрапаліта ўваходзілі стварэнне новых і закрыццё існуючых *епархій*, прызначэнне і зняцце *епіскапаў* і суд над імі, скліканне сабораў і выданне правіл, што датычылі царк. спраў унутры епархій. Мітрапаліты карысталіся аўтарытэтам і рабілі пэўны ўплыў на паліт. жыццё Кіеўскай Русі, ВКЛ, Маскоўскай дзяржавы. Першыя мітрапаліты былі грэкамі ці балгарамі: Міхаіл (990—992), Лявонцій (992—1007) і інш. Аднак і намінальная залежнасць ад Візантыі была ў цяжар для вялікіх князёў кіеўскіх, якія імкнуліся прызначаць мітрапалітамі мясц. ураджэнцаў, напр. *Іларыёна* (1051—54), *Клімента Смаляціча* (1147—55). У сярэдзіне 13 ст. з заняпадам Кіева пасля мангола-татарскай навалы цэнтр К.м. перанесены ва Уладзімір-на-Клязьме, у пач. 14 ст. — у Маскву. У сувязі з уваходжаннем тэр. б. Кіеўскай Русі ў розныя дзярж. утварэнні з'явіліся тэндэнцыі да падзелу мітраполіі на 3 царк.-адм. адзінкі. У 1303 у Галіцка-Валынскім княстве створана Галіцкая мітраполія з 7 епархій (у тым ліку Тураўскай), да якой імкнулася тады і Полацкая епархія. У 1316 пры вялікім кн. ВКЛ Гедзіміне канстанцінопальскі патрыярх прызначыў 1-га мітрапаліта кіеўскага ў ВКЛ *Феафіла* з рэзідэнцыяй у Навагрудку, што адлюстравала саперніцтва царк. і свецкіх улад ВКЛ з маскоўскімі князямі і мітрапалітамі за першынство ва ўсходнеслав. землях. Маскоўскія і навагрудскія мітрапаліты вялі барацьбу за статус мітрапаліта «кіеўскага і ўсяе Русі». Абодва бакі звярталіся за прызнаннем і падтрымкай да канстанцінопальскіх патрыярхаў. Да сярэдзіны 15 ст. мітрапаліты прызначаліся ў Навагрудак нерэгулярна, самастойнасць мітраполіі з цэнтрам у Навагрудку перыядычна не прызнавалася (Галіцкая мітраполія канчаткова скасавана ў канцы 14 ст). У 1458 мітрапалітам кіеўскім, літоўскім і ўсяе Русі з дазволу папы Рымскага Калікста III быў прызначаны прыхільнік *Фларэнтыйскай уніі 1439 Грыгорый Балгарын*. Яго прэтэнзіі на канічную ўладу над усёй тэр. б. Кіеўскай Русі і спробы пашырыць унію выклікалі рэзкі пратэст з боку Масквы. Агульная К.м. канчаткова падзялілася на 2 самастойныя: К.м. ў ВКЛ і Галіцыі з цэнтрам у Навагрудку (часам у Вільні) і Маскоўскую (афіцыйна так называлася з 1459). Нягледзячы на прызнанне епіскапамі Грыгорыя Балгарына, унію з каталікамі ні яны, ні ўсё правасл. духавенства, ні вернікі не прынялі. У 1472 Грыгорый вярнуўся да праваслаўя і быў зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам як мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. У 1596 мітрапаліт Міхаіл *Рагоза* падтрымаў *Брэсцкую унію 1596*, была створана *уніяцкая царква*. Мітрапаліцкая кафедра перайшла да уніятаў, а уніяцкія мітрапаліты таксама называліся кіеўскімі і галіцкімі. У 1620 іерусалімскі патрыярх Феафан аднавіў правасл. К.м. з цэнтрам у Кіеве. У выніку вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 частка мітраполіі (Левабярэжная Украіна і Кіеў) адышла да Расіі. У 1660—80-я г. К.м. распалася на 2 часткі: пад маскоўскай юрысдыкцыяй на Левабярэжнай Украіне і пад патрыяршай канстанцінопальскай у Рэчы Паспалітай.
У 1685 пад націскам рас. свецкіх і духоўных улад пры садзейнічанні гетмана Левабярэжнай Украіны І. Самайловіча абраны мітрапаліт кіеўскі *Гедэон*. Уся К.м. была пераведзена пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхата і стала адной з яго царк.-адм. адзінак. У 1686 гэты перавод быў прызнаны канстанцінопальскім патрыярхам. Мітрапаліт страціў ранейшае значэнне ў грамадскім жыцці і быў абмежаваны ў сваёй дзейнасці духоўнымі справамі. Паводле мірнага дагавора 1686 паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай ён прызнаваўся гал. іерархам правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай, аднак заканадаўства гэтай дзяржавы ўскладняла яго зносіны з духавенствам і насельніцтвам Правабярэжнай Украіны і Беларусі. У 1722 К.м. скасавана царскім урадам. Імператрыца Лізавета Пятроўна [1741—62] аднавіла яе, мітрапаліт стаў называцца кіеўскім і галіцкім. Пасля 1917 утворана Укр. аўтакефальная правасл. царква (УАПЦ) на чале з мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Украіны, у 1925 — менш значная Укр. правасл. царква (УПЦ); паралельна з імі на Украіне дзейнічала Рус. правасл. царква. Прымусовае скасаванне ў 1930-я г. УАПЦ спыніла існаванне самастойнай К.м. У 1989 на Украіне разгарнуўся рух за аўтакефалію. У чэрвені 1990 усеўкраінскі сабор УАПЦ, якім кіравалі правасл. дзеячы з эміграцыі, абвясціў стварэнне кіеўскага патрыярхата, што не было прызнана Рускай і іншымі правасл. цэрквамі. У кастр. 1990 Архірэйскі сабор Рус. правасл. царквы (РПЦ) надаў Укр. правасл. царкве (УПЦ) правы незалежнасці і самастойнасці ў кіраванні пры захаванні юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярха-



Да арт. **Кімбараўскія цыстэрцыянскія кляштары.** Касцёл цыстэрцыянак.

та. Пасля распаду СССР (канец 1991) на пазіцыі аддзялення УПЦ ад РПЦ перайшоў мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Украіны Філарэт (Дэнісенка), пазбаўлены за гэта сана. У маі 1992 Харкаўскі архірэйскі сабор выбраў новым мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Украіны мітрапаліта растоўскага і новачаркаскага Уладзіміра (Сабадана). У чэрвені 1992 так званы Усеўкраінскі правасл. сабор (Кіеў) абвясціў пра аб'яднанне прыхільнікаў Філарэта (працягвалі называць сябе УПЦ) з УАПЦ у складзе новай УПЦ — Кіеўскага патрыярхата на чале з кіраўніком УАПЦ патрыярхам Мсціславам (жыў у ЗША) і яго намеснікам Філарэтам. Аднак Мсціслаў не прызнаў гэтага аб'яднання і застаўся на чале УАПЦ. Пасля яго смерці (1993) прыхільнікі Філарэта выбралі сваім патрыярхам Васіля Раманюка. Такім чынам на Украіне адначасова існуюць УПЦ Маскоўскага патрыярхата на чале з мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Украіны (большасць правасл. прыходаў), кананічна непрызнаныя УАПЦ (пераважна ў Галіцыі) і незалежная УПЦ—Кіеўскі патрыярхат (пераважна на поўдні Украіны і на Валыні), кожная з якіх узначальваецца сваім патрыярхам кіеўскім і ўсяе Украіны.

Кіеўскія мітрапаліты правасл. царквы ў ВКЛ: Феафіл (1316—30), Раман (1354—62), Кіпрыян (1375—89), Грыгорый *Цамблак* (1415—20), Герасім (1433—37), Грыгорый Балгарын (1458—72 або 1473), Місаіл (1475—80), Сімяон (1481—88), Іона І Глезна (1489—94), Макарый Чорт (1495—97), Іосіф І Булгарынавіч (1498—1501), Іона ІІ (1503—07), Іосіф ІІ Солтан (1507—21 або 1522), Іосіф ІІІ (1522—34), Макарый ІІ (1534—55), Сільвестр Бялькевіч (1556—67), Іона Пратасевіч (1568—77), Ілья Куча (1577—79), Анісіфар Дзевачка (1579—89), Міхаіл Рагоза (1589—96) (гл. пра кожнага асобны артыкул).

*Літ.:* Огієнко І.І. Українська церква. Т. 1—2. Київ, 1993; Крижанівський О., Плохій С. Історія церкви та релігійної думки в Україні. Київ, 1994. Кн. 3; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000; Православная энциклопедия: Русская православная церковь. М., 2000.

*Ю.В.Бажэнаў, С.В.Марозава.*

КІМБАРАЎСКІЯ ЦЫСТЭРЦЫЯНСКІЯ КЛЯШТАРЫ — мужчынскі і жаночы кляштары каталіцкага манаскага ордэна *цыстэрцыянцаў* у в. Кімбараўка (цяпер у межах г. Мазыр Гомельскай вобл.). Мужчынскі кляштар існаваў з пач. 18 ст. да 1864. У 1711 сродкі на яго даў навагрудскі кашталян Антоній Аскерка, у 1740-я і 1780-я г. яго мецэнатамі былі Рафаіл Алаізій і Казімір Мацей Аскеркі. У 1717 кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II даў кляштару 30 валок зямлі, у 1742 Аўгуст III — яшчэ 20. У 1825 цыстэрцыянцы мелі юрыдыку ў Кімбараўцы з 6 хатамі, вёскі Новікі і Юхнаўка, 24 валокі зямлі ворнай і пад лесам. З 1730 вакол кляштара існавала парафія з капліцамі ў вёсках Кочышчы, Кузьмічы, Нароўля, Новікі, Санюкі, Юзафоўка. Пры кляштары працавала школа (у 1819 было 10 вучняў), б-ка з 850 тамоў. У 1864 кляштар скасаваны, касцёл пераабсталяваны ў правасл. царкву. Жаночы кляштар існаваў у 1744—1888. Засн. паводле ініцыятывы прыёра мужчынскага кляштара Бенядзікта Ражанскага. Казімір Сапега падараваў 30 тыс. злотых, свой уклад зрабіла і мазырская шляхта. Былі пастаўлены мураваныя будынкі. Існавала школа, у 1809 вучылася 28 дзяўчат. Пасля закрыцця кляштара ў 1887—88 манашкі выехалі ў Імбрамовіцкі кляштар (каля Кельцаў, Польшча). Захаваліся будынкі касцёла і часткова жылога корпуса.

*А.А.Ярашэвіч.*

КІПРЫЯН (каля 1330 — 16.9.1406) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ і Маскоўскага вялікага княства, пісьменнік і перакладчык. Верагодна, быў балгарынам або сербам; некаторыя даследчыкі лічаць яго ўраджэнцам ВКЛ. У пач. 1370-х г. жыў у Візантыі, у т.л. на св. гары Афон. Каля 1373 канстанцінопальскі патрыярх паслаў яго ў ВКЛ і Цвер для прымірэння літоўскага і цвярскога князёў з мітрапалітам Аляксеем. У 1374 ён выступіў ініцыятарам праслаўлення трох *віленскіх пакутнікаў*, забітых у 1347, і перанясення ў Канстанцінопаль іх мошчаў. Вялікі кн. Альгерд з прычыны варожых адносін з Масквой папрасіў у 1375 канстанцінопальскага патрыярха Філафея прызначыць для ВКЛ асобнага мітрапаліта. Падтрымліваючы Альгерда і не жадаючы канчатковага падзелу *Кіеўскай мітраполіі*, Філафей прыняў кампраміснае рашэнне: 2.12.1375 пасвяціў К. ў мітрапаліта «кіеўскага, рускага і літоўскага» з тым, каб ён пасля смерці мітрапаліта Аляксея аб'яднаў абедзве часткі мітраполіі, стаўшы мітрапалітам «кіеўскім і ўсяе Русі». К. жыў у ВКЛ (Вільні, Навагрудку, Кіеве), а летам 1378 пасля смерці Аляксея прыехаў

у Маскву, каб узначаліць нанова аб'яднаную мітраполію. Аднак вялікі кн. маскоўскі Дзмітрый Іванавіч пасадзіў К. ў цямніцу, а потым выслаў з княства. У 1381 Дзмітрый Іванавіч ўсё ж запрасіў К. вярнуцца ў Маскву, але ў 1382 зноў выгнаў. У 1389 К. рашэннем канстанцінопальскага патрыярха Антонія абвешчаны мітрапалітам «кіеўскім і ўсяе Русі». У 1390 ён прыбыў у Маскву і быў прыняты новым вялікім кн. Васілём Дзмітрыевічам. У 1404 К. наведаў Вільню, быў прыняты вялікім кн. ВКЛ Вітаўтам. У 1405 прысутнічаў на сустрэчы Вітаўта з польскім каралём Ягайлам у Мілалюбне. Па патрабаванні Вітаўта К. пазбавіў сана тураўскага епіскапа Антонія, абвінавачанага ў падбухторванні татарскага хана Шчадыбека да нападу на гарады ВКЛ. К. вянчаў Васіля Дзмітрыевіча з дачкой Вітаўта Соф'яй. К. лічаць аўтарам шэрагу твораў, у т.л. «Летапісу аб пачатку зямлі Рускай», «Жыція св. мітрапаліта Пятра», «Зводнай кормчай», «Малітвы дазволіці цара і князя і ўсякага хрысціяніна...», 8 грамат, 4 пасланняў Сергію Раданежскаму. Кананізаваны правасл. царквой.

*Літ.:* П р о х о р о в Г.М. Повесть о Митяе: Русь и Византия в эпоху Куликовской битвы. Л., 1978; К а з б я р у к У. Пошукі духоўнай і палітычнай гармоніі: Мітрапаліт Кіпрыян // Вяртання маўклівая споведзь. Мн., 1994. *У.М.Казбярук.*

КІПРЫЯНО́ВІЧ Рыгор Якаўлевіч (1851, в. Крайск Лагойскага р-на Мінскай вобл. — пасля 1915) — царкоўны гісторык, педагог. Магістр багаслоўя (1873). Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію (1869). Выкладаў латынь, гісторыю, педагогіку ў Літоўскай духоўнай семінарыі, Віленскай гімназіі і Віленскім жаночым вучылішчы духоўнага ведамства. Друкаваўся пераважна ў *«Литовских епархиальных ведомостях»*. Аўтар прац, прысвечаных гісторыі праваслаўя, каталіцызму і уніяцтва ў Беларусі і Літве. Асноўныя з іх: «Гістарычны нарыс праваслаўя, каталіцтва і уніі ў Беларусі і Літве са старажытнейшага да сучаснага часу» (1895), «Жыціе Іосіфа Сямашкі, мітрапаліта літоўскага і віленскага, і ўз'яднанне заходнерускіх уніятаў з праваслаўнай царквою ў 1839 г. (2 выд., 1897), «Да гісторыі жаночай адукацыі ў Заходняй Расіі» (1910), «Архіепіскап полацкі і віцебскі Іасафат Кунцэвіч, заходнерускі пакутнік за унію з Рымам» (1912).

*Літ.:* Ч а р а п і ц а В.М. Са скарбніцы кніжных паліц: (Нарысы пра аўтографы даследчыкаў гісторыі Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX стст.). Мн., 1994. *В.М.Чарапіца.*

КІ́РХА, к і р к а (ад ням. Kirche царква) назва лютэранскага храма ў германа-моўным асяроддзі. Распрацаваныя з 16 ст. архітэктурныя традыцыі надалі К. асабліва строгія формы, якія ўзыходзяць да готыкі і барока, а пратэстанцкае вучэнне — аскетычнае ўнутранае аздабленне. Сучасная К. (асабліва там, дзе лютэране складаюць меншасць насельніцтва), часта выкарыстоўваюць не толькі як культавыя збудаванні, але і як рэліг. прапагандысцка-культурныя цэнтры. На Беларусі К. вядомы ў Гродна, Мінску, Полацку.

КІРЫ́ЛА І МЯФО́ДЗІЙ — славянскія асветнікі, прапаведнікі хрысціянства, стваральнікі славянскай азбукі. Браты; нарадзіліся ў г. Салунь (цяпер Салонікі, Грэцыя). Большасць вучоных лічаць іх балгарамі.

К і р ы л а (да прыняцця манаства ў 869 — К а н с т а н ц і н; каля 827 — 14.2.869). Атрымаў адукацыю пры двары імператара Міхаіла ў Канстанцінопалі, прыняў сан святара і стаў бібліятэкарам патрыярха Фоція. Пазней прызначаны настаўнікам філасофіі, за што празваны Філосафам. У пач. 860-х г. з дыпламатычна-рэліг. місіяй наведаў хазар у грэч. калоніі Херсанес (Крым).

М я ф о д з і й (815—6.4.885). Быў на ваеннай службе і 10 гадоў кіраваў адной з паўднёвых Візантыі славяна-балгарскіх абласцей, потым ігумен манастыра Паліхрон на беразе Мармуровага мора.

У 863 К. і М. запрошаны ў Маравію для прапаведзі хрысціянства на слав. мове. Прыбылі сюды са створанай імі слав. азбукай і ўласнымі перакладамі рэліг. кніг на слав. мову, царк. службу вялі па-славянску. З-за незадаволенасці нямецкіх місіянераў, якія ў сваёй службе выкарыстоўвалі латынь, былі вымушаны пакінуць Маравію. У 867 па запрашэнні папы Мікалая І прыбылі ў Рым, дзе абаранялі правы славян на родную мову ў літургіі. Пасля смерці ў Рыме Кірылы Мяфодзій пасвячоны ў сан епіскапа. У 882—884 жыў у Візантыі і Маравіі, дзе працягваў прапаведніцкую і



Кірыла і Мяфодзій.

асветніцкую дзейнасць. Імёны К. і М. сталі сімваламі культурнай еднасці і самастойнасці славян. Назва стараж. слав. азбукі *кірыліца* паходзіць ад імя Кірылы. Браты фактычна сталі стваральнікамі літ. старaслав. мовы, зразумелай тады ўсім слав. народам. На Беларусі пра дзейнасць К. і М. ведалі ўжо з 11 ст. праз творы Чарнарызца Храбра «О письменах» і праз жыцці К. і М. Асветнікі кананізаваны правасл. царквой як роўнаапостальныя К. і М., настаўнікі славенскія. 11 мая (с. ст.) — Дзень св. К. і М., які ў Балгарыі, а з 1986 ў слав. рэспубліках б. СССР, у т.л. на Беларусі, адзначаецца як дзень слав. пісьменства і культуры. Ушаноўваюцца як св. і каталіцкай царквой. У Балгарыі існуе ордэн К. і М., якім на Беларусі ўзнагароджаны П.Броўка, Н.Гілевіч, В.Нікіфаровіч.

*Літ.:* Сказания о начале славянской письменности. М., 1981; Бернштейн С.Б. Константин-философ и Мефодий. М., 1984; Истрин В.А. 1100 лет славянской азбуки. 2 изд. М., 1988.
*Г.П.Тварановіч.*

КІРЫ́ЛА ТУ́РАЎСКІ (каля 1113, г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. — пасля 1190 — беларускі і ўсходне-славянскі царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў. Паходзіў з заможнай сям'і. Атрымаў класічную для таго часу адукацыю. Прыблізна з 1123 у Нікольскім манастыры: манах, *ераманах*, у 1144—48 настаяцель. Потым стаў пустэльнікам. З 1161 тураўскі епіскап. Займаўся ўладкаваннем епархіі, прапаведніцкай, царк., і экзегетычнай паліт. і літ. дзейнасцю. Магчыма, ужо ў пач. 13 ст. К.Т. ўшаноўваўся як святы (звесткі пра яго афіц. кананізацыю не выяўлены). Вывучаў грэч. і візант. літаратуру. Стаўшы тураўскім *епіскапам*, праславіўся як майстар аратарскай прозы, прапаведнік, галоўны клопат якога — духоўнасць суайчыннікаў адпаведна этычным і эстэтычным ідэалам эпохі. Аўтар пропаведзей, малітваў, павучанняў, прытчаў, канонаў (захавалася каля 70 твораў), створаных на ўзор ант. і візант. аратарскай прозы. Сярод іх «Сказанне пра чын чарнарызца», «Слова пра паходжанне манаскага жыцця», малітоўны сядмічны цыкл (32 малітвы-споведзі), урачыстыя і дыдактычныя пропаведзі (10 казанняў пра святы Вялікоднага цыкла, «Слова на Богаяўленне», «Слова на Пяцідзесятніцу», «Слова пра тое, каб не забываць сваіх настаўнікаў» і інш.), павучанні (аб зыходзе душы, аб страху Божым, аб мудрасці, аб карыснасці чытання кніг), прытчы аб чалавечай душы і целе (пра кульгавага і сляпога), пасланні-прытчы да кіева-пячэрскага ігумена Васіля (пра нямудрага цара і пра схіму), 3 Вял. каноны (На ўспенне княгіні Вольгі, Малітоўны, Пакаяльны) і інш. У асобных творах закранаў надзённыя маральна-этычныя праблемы, важныя пытанні грамадска-паліт. жыцця. Арыгінальны, выключнай вобразна-выяўленчай сілы талент К.Т. найб. выявіўся ў «словах» з нагоды розных свят, дзе праз традыц. біблейскі змест выяўляюцца захапленне чалавека прыгажосцю прыроды, радасцю жыцця, імкненне да духоўнай дасканаласці і ідэалу. Дзякуючы багатай паэтычнай фразеалогіі, сінтаксічнаму паралелізму, агульнаму рытмічнаму ладу некаторыя творы нагадваюць вершы ў прозе. Алегорыі, сімвалы, рытарычныя звароты, разгорнутыя параўнанні надаюць ім глыбокі лірызм, эмацыянальнасць, узнёсласць. Вытанчаная царк.-славянская мова, спалучаная з жывым народна-паэтычным словам, сведчыць пра кніжную культуру, літаратурнае майстэрства і смеласць аўтара. На працягу многіх стагоддзяў творы К.Т. карысталіся вял. папулярнасцю на ўсх.-слав. землях. Іх перапісвалі да 19 ст., змяшчалі ў розных зборніках-анталогіях. Першая грунтоўная публікацыя яго твораў зроблена К.*Калайдовічам* у 1821. Найб. поўнае выданне яго твораў ажыццявіў А.Мельнікаў у сваёй кн. «Кірыл, епіскап Тураўскі» (1997). У 1984 К.Т. ўключаны ў Сабор бел. святых, 28 красавіка (с. ст.) — Дзень яго памяці. У г.п. Тураў пастаўлены помнік К.Т.



**Кірыла Тураўскі.**

*Літ.:* Мельников А.А. Путь непечален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992; Лабынцаў Ю. «Напой росою благодати...»: Малітоўная паэзія Кірылы Тураўскага. Мн., 1992.
*А.А.Мельнікаў, В.А.Чамярыцкі.*

КІРЫ́ЛІЦА — адна з двух старажытнаславянскіх азбук (другая глаголіца). Назва ад імя Кірылы (Кірыла і Мяфодзій — браты, славянскія асветнікі, прапаведнікі праваслаўя). Створана на аснове грэч. унцыяла з дадаткам некалькіх літар. Лі-

тары, запазычаныя з грэч. алфавіта, мелі таксама лічбавае значэнне. К. ўжывалася славянамі, якія вызнавалі праваслаўе, а таксама (да 19 ст.) румынамі. З цягам часу змяняліся склад і форма літар К. У Расіі ў 1708 К. была рэфармавана. На славяна-кірылаўскай графічнай аснове (з увядзеннем дадатковых літар і дыякрытычных знакаў) грунтуюцца рус., укр., бел., балгарскія, сербскія, македонскія алфавіты, а таксама (праз рускі) сучасныя алфавіты шэрагу народаў Расійскай Федэрацыі і СНД. У 14—18 ст. К. існавала ў бел. пісьменнасці. У 15—16 ст. паявіліся першыя кнігі, друкаваныя К. Кірылаўская літарная нумарацыя па аркушах упершыню ўведзена ў друкаваных кнігах Ф.Скарынам у яго выданнях Бібліі.

КІТА́БЫ (араб. — кнігі), — кнігі, напісаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Ствараліся з 16 ст. татарамі, што пасяліліся на Беларусі і ў Літве ў 14—15 ст. і паступова забылі сваю родную мову. Змест К. — усходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповесці, апісанні мусульманскіх рытуалаў, т.зв. Мерадж (паэма пра ўзнясенне Магамета на неба), маральна-этычныя павучанні для моладзі (пра шанаванне бацькоў, гасцей, бедных, сірот, суседзяў і інш.), варажба па літарах *Карана*, разгадка сноў. Акрамя К. вылучаюць пісаныя арабскім пісьмом тэфсіры, тэджвіды, хамаілы. К. напісаны і чытаюцца справа налева, тэкст пачынецца там, дзе ў слав. кнігах заканчваецца. Колькасць старонак 70—1000. Радок суцэльны, няма падзелу на словы, знакаў прыпынку, вял. літары. Новы твор (раздзел) пачынаецца словам «баб» (раздзел, пачатак новага зместу) ці «хікайет» (аповесць, апавяданне). Іншы раз і гэтых слоў няма, тады на палях выпісваюцца першапач. словы (першы сказ) раздзела. Мова К. адрозніваецца ад мовы стараж. бел. пісьмовых помнікаў, яна блізкая да бел. нар. мовы. У К. адлюстраваны побыт, звычаі, традыцыі татар-перасяленцаў, таму іх тэксты — каштоўны матэрыял для лінгвістаў, этнографаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў. Навук. вывучэнне К пачалося ў 19 ст. Урыўкі з К. надрукаваў А.В.Мухлінскі ў працы «Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх татар» (СПб, 1857). У пач. 20 ст. пра К. пісалі Я.Ф.Карскі, І.Ю.Крачкоўскі, І.І.Луцкевіч і інш. Найб. грунтоўна іх даследаваў А.К.Антановіч. У кнізе «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» (Вільнюс, 1963) ён разгледзеў 24 арыгінальныя тэксты, сярод іх 8 кітабаў. К. даследуюць мовазнаўцы В.І.Несцяровіч, Ч.Лапіч, В.М.Чэкман, Г.Александровіч-Мішкінене і інш. *В.І.Несцяровіч.*

КІ́ШКА Леў (Лука; 1668, г. Ковель Валынскай вобл., Украіна — 19.12.1728) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, рэлігійны пісьменнік і



**Кірыла Тураўскі.** Мастак І. Пратасеня.

перакладчык. Епіскап уладзімірскі і брэсцкі (1711—28), мітрапаліт кіеўскі і галіцкі уніяцкай царквы (1714—28). Паходзіў са шляхты роду герба «Дуброва». З 1684 член ордэна *базыльян*. Вучыўся ў школе пры *Быценскім манастыры базыльян* (1683—88), скончыў Калегіум прапаганды веры (Рым, 1693) са ступенню доктара багаслоўя. Прафесар рыторыкі і філасофіі ў базыльянскай школе г. Уладзімір-Валынскі (1694—96). У 1696 прапаведнік і вікарый (намеснік ігумена), у 1697—99 ігумен Віленскага манастыра св. Тройцы. Абараніў гэты цэнтр уніяцтва ад дамаганняў епіскапаў і падпарадкаваў яго базыльянскаму ордэну (1703). У 1699—1708 архімандрыт Полацкага манастыра св. Барыса і Глеба, у 1703—13 протаархімандрыт (галава) ордэна базыльян, у 1709—28 архімандрыт Супрасльскага манастыра. Уключыў у склад ордэна базыльян шэраг манастыроў, раней падпарадкаваных епіскапам, умацаваў аўтарытэт і ўладу протаархімандрыта (палічыў несапраўднымі выбары мітрапаліта Г.*Вінніцкага* ў 1708, якія адбыліся без яго ўдзелу, дамогся паўторнага галасавання). Рэгулярна наведваў манастыры, у т.л. архімандрыі, што не ўваходзілі ў ордэн. Аднавіў шэраг зруйнаваных кляштараў і цэркваў, у т.л. ў Беразвеччы, Супраслі, дзейнасць *Супрасльскай друкарні*, заснаваў паперню. Падрыхтаваў і правёў *Замойскі сабор 1720*. Імкнуўся да адзінаўладдзя, хацеў цалкам падначаліць сабе базыльянскі ордэн. Спрабаваў утварыць з манастыроў на Украіне асобную правінцыю і падначаліць непасрэдна сабе. Клапаціўся пра адукацыю белага духавенства. Выдаў на старабел. мове адной кнігай дапаможнік для святароў з катэхізісам для вернікаў «Собрание припадков краткое» (Супрасль, 1722), «Лек-

6. Зак. 287.



Л.Кішка.

сікон» (слоўнік царкоўнаслав.-польскі, Супрасль, 1722), «Букварь языка словенского» (Супрасль, 1727). Быў прыхільнікам частковага захавання ўсходняй абраднасці ва уніяцкай царкве, хоць не мог супрацьстаяць яе лацінізацыі. Імкнуўся пераадолець абрадавую разнастайнасць і недахоп богаслужэбнай літаратуры (з гэтай мэтаю выдадзены вялікім тыражом уніфікаваны для ўсіх парафій «Служэбнік» (Супрасль, 1727—32). *С.В.Калуля.*

КЛЕРЫКАЛІ́ЗМ (ад лац. clericalis царкоўны) — грамадска-палітычны кірунак у дзейнасці рэлігійных арганізацый, які выкарыстоўвае рэлігію і царкву для ўзмацнення ўздзеяння на сферы грамадскага жыцця. Прадстаўнікі К. ствараюць свае паліт. партыі, прафсаюзы, жаночыя, маладзёжныя і інш. масавыя грамадскія аб'яднанні, навуч. ўстановы.

КЛІМЕ́НТ СМАЛЯ́ЦІЧ, Клім Смаляціч (?, Смаленск — пасля 1164) — мысліцель, царк. дзеяч, пісьменнік. У 1148 — каля 1155 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Пастаўлены кіеўскім кн. Ізяславам Мсціслаўічам без санкцыі канстанцінопальскага патрыярха, падтрымліваў ідэю моцнай *Кіеўскай мітраполіі*, незалежнай ад Канстанцінопаля. Пасля смерці князя быў вымушаны пакінуць кафедру. У сакавіку 1155 сасланы кн. Юрыем Далгарукім ва Уладзімір-Валынскі. У 1158 новы кіеўскі кн. Мсціслаў Ізяславіч зноў прызначыў К.С. мітрапалітам, аднак кафедра была ўжо занята стаўленнікам Юрыя грэкам Канстанцінам. Такое некананічнае суіснаванне двух мітрапалітаў працягвалася да 1161, пакуль замест іх не паставілі новага мітрапаліта Феадора. Пасля смерці апошняга зроблена спроба яшчэ раз узвесці К.С. на кафедру, але беспаспяхова. Адукацыю атрымаў, відаць, у Канстанцінопалі. Паводле летапісу, ведаў ант. літ., быў знаёмы з творчасцю Гамера, Платона, Арыстоцеля, быў кніжнікам і філосафам. Прыхільнік развіцця ўсходнеслав. культуры, адзін з першых абаронцаў незалежнасці рус. правасл. царквы ад Візантыі. Захаваўся адзіны літ. твор К.С. — «Пасланне смаленскаму прэсвітэру Фаме», у якім ён разважаў пра межы інтэрпрэтацыі Свяшчэннага Пісання, падкрэсліваў духоўнамаральную прыроду чалавека. Важнае месца ў яго светапоглядзе займалі ідэя няхцівасці, акцэнтна духоўным, вечным, непрыняцці ўсяго часовага, матэрыяльнага.

КЛІ́Р (ад грэч. klēros жарабя) — у хрысціянскай царкве сукупнасць усіх царкоўнаслужыцеляў і свяшчэннаслужыцеляў; тое, што духавенства (за выключэннем архірэяў). К. таксама называюць прычт, г.зн. склад царкоўна- і свяшчэннаслужыцеляў, якія служаць пры пэўнай царкве (прыходскай, саборнай, дамавой). У раннім хрысціянстве слова «К.» абазначала апостальскае прызванне. Потым стала ўжывацца ў значэнні «духавенства» да тых асоб, якія былі выбраны па жэрабю ў якасці служыцеляў культу. На працягу стагоддзяў склад асоб, што ўваходзілі ў К., неаднаразова змяняўся. У 4 ст. з яго выключаюцца епіскапы, *прэсвітары* і *дыяканы*. На Захадзе пад К. разумеліся ўсе свяшчэннаслужыцелі, пачынаючы з дыякана; на Усходзе — з К. выключаўся епіскап. У гэтым апошнім значэнні тэрмін «К.» быў засвоены на Русі.

КЛІ́РАС (ад грэч. klēros) — у храмах праваслаўнай царквы ўзвышэнне перад *іканастасам*, на якім у час богаслужэння знаходзяцца чытальнікі, пеўчыя, а таксама свяшчэннаслужыцелі, што не прымаюць непасрэднага ўдзелу ў богаслужэнні, але дапамагаюць чытаць і спяваць. У культавым будынку звычайна два К. — левы і правы (паўночны і паўднёвы). З'явіліся К. ў 15 ст.

КЛЯ́ШТАР (ад лац. claustrum замак, закрытае месца) — каталіцкі *манастыр*. Належыць да пэўных *ордэнаў манаскіх*. На тэр. Беларусі адзінкавыя К. вядомы з сярэдзіны 13 ст., многія ўзніклі неўзабаве пасля хрышчэння Літвы (1387). Найб. стараж. К.: *францысканцаў* у Пінску (1396) і Ашмянах (1505)), *аўгусцінцаў* у Быстрыцы (цяпер Астравецкі р-н), Брэсце і Гродне (засн. Вітаўтам), *бернардзінцаў* у Вільні (1471), Гродне і Полацку (1498). Большасць К. засн. ў перыяд *Контррэфармацыі*, іх фундатарамі былі каралі Рэчы Паспалітай, магнаты (Сапегі, Глябовічы, Радзівілы, Пацы і інш.), шляхта. У канцы 18 ст. на бел. землях ВКЛ (без Вільні) дзейнічалі 50 К. і рэзідэнцый *дамініканцаў*, 27 — бернардзінцаў, 23 — францысканцаў, 22 — *кармелітаў*, 6 — *трынітарыяў*, 4 — аўгусцінцаў, 4 —

*баніфратаў*, 4 — *місіянераў*, 3— *цыстэрцыянцаў*, 2 — *капуцынаў*, па 1 — *картэзіянцаў*, рахітаў, *марыянаў*. Існавалі жаночыя К. — 5 бенедыкцінак, 4 бернардзінак, 2 брыгітак, 1 цыстэрцыянак. Асабліва становішча займалі езуіцкія і піярскія *калегіумы*, якія выраршалі адукацыйныя задачы. Пры многіх К. працавалі шпіталі. Пераважная большасць К. зачынена пасля паўстанняў 1830—31 і 1863—64 па абвінавачванні ў нелаяльнасці манахаў уладам, апошнія адзінкавыя — у 1870—80-я г. Іх жылыя будынкі найчасцей прыстасоўвалі пад шпіталі, казармы, бальніцы; іх касцёлы ператваралі ў парафіяльныя або перараблялі ў правасл. храмы. Класічны тып К. выпрацаваны ордэнам *бенедыкцінцаў*. Гэта быў замкнёны ансамбль будынкаў або памяшканняў для жыцця манаскай супольці. Цэнтрам ансамбля быў касцёл. Каля яго рабілі чатырохвугольны двор, сад. З усходу да двара прымыкала зала капітула, з захаду — келлі. Насупраць касцёла будавалі трапезную залу. Астатнія будынкі (дом абата, шпіталь, школа, гаспадарчыя пабудовы) размяшчаліся на тэр. ў межах кляштарных муроў. Бенедыкцінскі тып К. быў запазычаны большасцю каталіцкіх ордэнаў і прыстасаваны адпаведна характару іх дзейнасці.

*А.А.Ярашэвіч, С.А.Сергачоў.*

КНЯ́ЖЫЦКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ. Існаваў з 1670-х г. да 1832 у в. Княжыцы (Магілёўскі р-н). Засн. надворным харунжым ВКЛ Канстанцінам Пацам, які перадаў кляштару 18 тыс. злотых і фальварак з с. Балочычы. Крыштоф Пац запісаў кляштару 15 тыс. злотых (1724), Антон Міхаіл Пац — 2 тыс. злотых (1750), Андрэй і Соф'я Крукоўскія — 2 тыс. злотых (1739). Першыя будынкі былі драўляныя, у 3-й чвэрці 18 ст. пастаўлены мураваны касцёл св. Мікалая, асвячоны ў 1780 біскупам С.І.*Богуш-Сестранцэвічам*. Апошні драўляны корпус кляштара пабудаваны ў 1801 (мураваны быў толькі флігель). У 1832 кляштар зачынены; касцёл заставаўся парафіяльным, у 1865 ён пераабсталяваны пад правасл. царкву св. Аляксандра Неўскага.

*Н.І.Пятровіч, А.А.Ярашэвіч.*

КО́БРЫНСКІ САБО́Р 1626 — сабор вышэйшага духавенства грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы Рэчы Паспалітай, які адбыўся ў верасні 1626 у г. Кобрын (цяпер у Брэсцкай вобл.) замест аб'яднаўчага сабора правасл. і грэка-католікаў краіны, скліканне якога абвясцілі уніяцкі мітрапаліт І.В.*Руцкі* і кароль Жыгімонт III (рымская курыя і правасл. царква не падтрымалі ідэю аб'яднання і прымірэння). К.с. прыняў пастанову пра адкрыццё уніяцкай семінарыі для падрыхтоўкі духавенства (існавала ў 1650-я г. пры Мінскім базыльянскім кляштары), асудзіў сіманію (набыццё царк. пасад за грошы), пацвердзіў аўтаномію базыльянскага ордэна ў царкве і забараніў вышэйшаму беламу духавенству займаць у ім пасады, абавязаў епіскапаў і протаархімандрыта (генерала) *базыльян* даваць штогадовыя справаздачы мітрапаліту, а апошняга — Кангрэгацыі прапаганды веры ў Рыме. Вырашана склікаць агульныя царк. саборы кожныя 4 гады. Рашэнні К.с. з шэрагам змен зацверджаны папам Урбанам VIII у 1629.

*Літ.:* Плохий С.Н. Папство и Украина. Киев, 1989.

*С.В.Казуля.*

КО́БРЫНСКІ СПА́СКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 1497—1839 у г. Кобрын Брэсцкай вобл. Засн. як праваслаўны князямі Кобрынскімі пры драўлянай Спаскай царкве (царк. гісторыкі 19 ст. адносілі яе пабудову да часоў валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча — канец 13 ст.; але звесткі пра манастыр да 1497 не выяўлены). У 1501 удава І.С.Кобрынскага княгіня Фядора (з Рагатынскіх) адпісала манастыру с. Корчыцы з людзьмі і ўсімі данінамі, 2 карчмы у Кобрыне, дзесятую мерку жыта з млына на р. Кобрынка і дзесятую капу жыта і яравога збожжа з Кобрына. Інвентар манастыра 1549 надрукаваны ў 6-м томе «Актаў Віленскай камісіі». Пасля *Брэсцкай уніі 1596* манастыр стаў уніяцкім, належаў ордэну *базыльян*, меў свайго архімандрыта, некаторы час падпарадкоўваўся непасрэдна літоўскаму правінцыялу (у 1713 архімандрыя адноўлена). Тут праходзіў *Кобрынскі сабор 1626*. Указам рас. імператара 1828 у К.С.м. адчынена духоўнае вучылішча. Пасля *Полацкага царкоўнага сабора 1839* манастыр закрыты. Захаваўся мураваны жылы корпус, верагодна, 2-й пал. 18 ст., помнік архітэктуры барока. Меркаванне пра існаванне мураваных пабудоў у пач. 16 ст. не пацвярджаецца археалагічнымі даследаваннямі.

*А.А.Ярашэвіч.*



**Княжыцкі кляштар дамініканцаў.** Касцёл.



**Кобрынскі Спаскі манастыр.** Жылы корпус.

КО́ЙДАНАЎСКІ КАЛЬВІ́НСКІ ЗБОР. З 2-й пал. 16 ст. Койданава — адзін з найб. цэнтраў кальвінізму ў ВКЛ. Каля 1564 Мікалай Радзівіл Руды пабудаваў тут драўляны кальвінскі збор. Мураваны збор існаваў з пач. 17 ст. да 1-й паловіны 20 ст. Пабудаваны ў 1613 у стылі готыкі Крыштофам Мікалаем Радзівілам (Перуном) на месцы стараж. гарадзішча (бытуюць назвы: урочышча Крутагор'е, Акопішча, Гаштольдава гара, Кальвіншчына). Тэр. збору ўяўляла сабой замкнуты архітэктурны комплекс, абнесены мурам з 9 круглымі шатровымі вежамі і адзінай брамай; быў абкружаны земляным валам і ровам, запоўненым вадою з р. Няцеча. У цэнтры ўзвышаўся прамавугольны ў плане храм-крэпасць з высокім 2-схільным дахам і 4-яруснай вежай-званіцай з боку гал. фасада. Вежа была квадратнай у аснове (2 ніжнія ярусы) і васьміграннай уверсе. На ёй былі гадзіннік (працаваў да 1909) і вялікі звон. У храме зберагаўся адзін з экзэмпляраў Брэсцкай Бібліі. У 2-й пал. 19 ст. збор пачаў разбурацца, набажэнствы спыніліся. Аднак Койданаўская кальвініская парафія існавала да 1913. У пач. 20 ст. яна ахоплівала 3 паветы (Мінскі, Ігуменскі, Навагрудскі) і налічвала каля 200 прыхаджан. Збор моцна пацярпеў у час 1-й сусв. вайны, у 1930-я г. разабраны на патрэбы будаўніцтва, канчаткова зруйнаваны ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваліся рэшткі муроў, якія ахоўваюцца дзяржавай.

*Літ.:* Валаханович А.И., Кулагин А.Н. Дзержинщина: прошлое и настоящее. Мн., 1986. С. 127, 142—144; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 214—217; Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў. Мн., 1992. С. 134—135.

*А.І.Валахановіч.*

КОНТРРЭФАРМА́ЦЫЯ — рэлігійна-палітычны рух у Еўропе ў 2-й палавіне 16—17 ст., узначалены папствам і накіраваны супраць *Рэфармацыі* з мэтай узнаўлення страчаных каталіцызмам пазіцый. Гал. сродкамі К. былі *інквізіцыя*, манаскія ордэны, рымская курыя. Самы актыўны ўдзел у К. прыняў ордэн *езуітаў* (створаны ў 1534—40). У 1559 апублікаваны Індэкс забароненых кніг. Праграмай К. сталі рашэнні Трыдэнцкага сабора 1545—63 (вяршэнства папы над саборам, увядзенне строгай царк. цэнзуры, богаслужэнне толькі на лац. мове і інш.). Былі створаны спец. органы кіравання — *кангрэгацыі*, шэраг навуч. устаноў (калегіумаў) для падрыхтоўкі каталіцкага духавенства. К. уключала барацьбу супраць свецкай навукі і навук. светапогляду, праследаванне перадавых мысліцеляў (Дж.Бруна, Дж.Ваніні і інш.), знішчэнне пратэстантаў (Варфаламееўская ноч у Парыжы 24.8.1572), арганізоўвала т.зв. рэліг. войны, праследавала *ерасі*. На Беларусі К. актыўна праявілася пасля Люблінскай уніі 1569. Праваднікамі яе былі езуіты. Гал. ідэолагам К. ў ВКЛ быў П.*Скарга*. У 16—18 ст. тут асталяваліся яшчэ 24 каталіцкія манаскія ордэны (*францысканцы, дамініканцы, кармеліты, бенедыкцінцы*, піяры і інш.). Зачыняліся пратэстанцкія і правасл. школы і друкарні, учыняліся пагромы. К. была накіравана не толькі супраць пратэстантызму, але і праваслаўя. На хвалі К. нарадзілася *Брэсцкая унія 1596* і створана *уніяцкая царква*. Супрацiўленне каталіцкай экспансіі вылівалася ў народныя паўстанні (Віцебскае паўстанне 1623; антыкаталіцкую накіраванасць мела антыфеадальная вайна 1648—51). Найб. жорсткія ганенні з боку каталіцкай царквы і дзяржавы пачаліся супраць *антытрынітарыяў*. У канцы 16 ст. рэфармацыйны рух на Беларусі пачаў паступова згасаць, большасць кальвініцкай шляхты стала пераходзіць у каталіцтва, а ў пач. 17 ст. большая частка дробнай правасл. шляхты прыняла унію. Паводле сеймавых пастаноў 1764 адступніцтва каралася выгнаннем з краіны або смерцю.

У 1733 правасл. шляхта і духавенства былі пазбаўлены права займаць пасады ў сенаце, сейме, судах і інш. дзярж. установах. У 2-й палавіне 17—1-й трэці 18 ст. адбывалася амаль поўная клерыкалізацыя культуры і падпарадкаванне яе рэлігіі. Навук. веды абвяшчаліся грахоўнымі, панізіўся ўзровень адукацыі. У аснову навучання былі пакладзены тэалогія, схаластычная філасофія і лац. мова. З 1696 бел. мова стала выцясняцца з афіц. справаводства. Уздзеянне К. не было такім адмоўным у мастацтве. Пануючым стылем тут стала барока. Масавая паланізацыя пануючага класа Беларусі праз акаталічванне ў 17 ст. ўскладніла працэс кансалідацыі бел. народнасці, запаволіла фарміраванне яе свядомасці. У 1730—40-я г. на змену К. прыйшла эпоха *Асветніцтва*.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; 1980; Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн.,1990.

*С.В.Марозава.*

КО́РМЧЫЯ КНІ́ГІ (стараж.-славянскае кръмьчии — стырнавы, рулявы) — зборнікі царкоўных і свецкіх законаў, якія выкарыстоўваліся пры кіраванні царквой і ў духоўных судах паўднёва- і ўсходнеславянскіх краін. Паходзяць ад аналагічных візант. зборнікаў — номаканонаў, якія аб'ядноўвалі царк. правілы, пастановы ўсяленскіх і памесных сабораў, імператарскія пастановы адносна царквы, вытрымкі з заканадаўчых зборнікаў.

Так званая Кормчая 14 тытулаў без тлумачэнняў (Старажытнаславянская кормчая) — пераклад з грэч. мовы, зроблены ў Балгарыі ў пач. 10 ст. На Русь трапіла ў 11 ст. Найб. ранні яе спіс — наўгародская Яфрэмаўская кормчая пач. 12 ст. Напачатку свайго існавання на Русі К.к. не мелі пашырэння як кодэксы дзеючага права з-за неадпаведнасці сацыяльна-эканамічнага жыцця Русі і Візантыі. Каб дапасаваць кодэкс права візант. царквы да ўмоў Русі, у 12—13 ст. зроблены скарачэнні К.к. за кошт другасных і лакальных прававых нормаў. Некаторыя палажэнні з К.к. ўключаны ў мясцовыя помнікі царк. права (апрацоўка «Статута Уладзіміра»).

У канцы 12 ст. на Афоне (Грэцыя) складзена асобая рэдакцыя К.к., якая перакладзена ў Сербіі ў 1-й палавіне 13 ст. на стараж.-слав. мову і атрымала назву Сербскай рэдакцыі. У ёй вылучаюць 5 частак: пачатковыя артыкулы (пра ўсяленскія і памесныя саборы, тлумачэнні малітваў і сімвала веры); уводныя артыкулы, сістэматычны паказальнік і паказальнік зместу; кананічная частка (правілы апостальскія, усяленскіх і памесных сабораў 4—9 ст., правілы і пасланні *айцоў царквы* 3—11 ст.); грамадзянска-кананічная частка (візант. імператарскія, патрыяршыя і сінадальныя пастановы, правілы і пасланні епіскапаў, творы пра іканаборцаў і інш. ерасі, палемічныя творы супраць лацінян і інш.); дадатковыя артыкулы (творы супраць нестарыянскай ерасі, творы *Іаана Дамаскіна*, табліца ступеней роднасці і інш.). Па просьбе рус. мітрапаліта Кірылы спіс К.к. сербскай рэдакцыі без некаторых артыкулаў у 1262 перапісаны ў Балгарыі і высланы ў Кіеў. Гэтая К.к. змяшчала новыя заканадаўчыя палажэнні ў параўнанні са Старaж.-славян. кормчай і таму атрымала вялікае пашырэнне. Вядома каля 30 яе спісаў 13—19 ст. рус., бел. і ўкр. паходжання. Найб. пашырэнне Сербская рэдакцыя К.к. мела ў 15—16 ст. на землях ВКЛ. Гэтаму садзейнічала паўднёваслав. паходжанне кіеўскіх мітрапалітаў *Кіпрыяна*, Грыгорыя *Цамблака, Грыгорыя Балгарына*. Т.зв. Румянцаўскі спіс апошняй трэці 15 ст. з'явіўся на тэр. Турава-Пінскай епархіі і перапісаны ў адным зборніку са статутамі кн. Уладзіміра і Яраслава і Судзебнікам 1468. Гэта сведчыць, што Сербская К.к. разглядалася ў той час як дзеючы кодэкс права. Бел. спіс кормчай 2-й палавіны 16 ст. (т.зв. Барсаўскі 3-і) знаходзіўся ў 17 ст. ў Турыйску. У спісе Т-ва аматараў старaж. пісьменства 1-й чвэрці 17 ст., які бытаваў у ВКЛ, знаходзіцца выпіска з жыція 3-х літоўскіх пакутнікаў: Антонія, Іаана і Яўстафія. Пінскі спіс 1634, зроблены ва уніяцкім Пінскім Лешчынскім манастыры для Жыровіцкай лаўры, мае ўстаўкі на бел. мове пра саборы. Жыровіцкаму манастыру належаў таксама спіс пач. 17 ст. З ВКЛ Сербская рэдакцыя трапіла ў Маскоўскую Русь. Спіс Сербскай рэдакцыі патрыярх Іосіф паклаў у аснову надрукаванай у Маскве ў 1649—53 К.к. (т.зв. Іосіфаўская і Ніканаўская К.к.). У 1787 выйшла т.зв. Кацярынаўская кормчая (ад імя імператрыцы), апошняе выданне К.к. датавана 1816.

У 1260—70-я г. на Русі ўзнікла Руская рэдакцыя К.к. на аснове больш ранніх рэдакцый з дапаўненнем тэкстаў мясцовага паходжання: правіл кіеўскага мітрапаліта Іаана, наўгародскага епіскапа Ніфанта, царк. сабора 1273. Асн. тэкст Рускай К.к. складаўся з 70 раздзелаў. Верагодна, гэтая рэдакцыя ўзнікла ў Кіеве пры мітрапаліце Кірылу. У канцы 1270 — пач. 1280-х г. Рус. К.к. дапоўнена амаль 40 новымі артыкуламі: «Законам судным людзям», інш. юрыдычнымі помнікамі, правіламі царк. службы, манаскімі статутамі і правіламі (у т.л. «Сказаннем аб чарнарызскім чыне» Кірылы Тураўскага), аскетычна-містычнымі творамі, тлумачэннямі біблейскіх рэалій і сімволікі, гіст. і біяграфічнымі творамі. К.к. Рус. рэдакцыі былі пашыраны па ўсёй Русі. У канцы 13 — пач. 14 ст. ўзнік яе Валынскі звод,


Р.Корсак.

які распаўсюдзіўся на ўкр. і бел. землях. На землях Маскоўскай і Наўгародскай Русі ў 14—15 ст. ствараліся мясцовыя зводы Рус. К.к. Так званы Харкаўкі спіс у 15—16 ст. знаходзіўся ў Полацкім Іаана-Багаслоўскім манастыры, а ў 18 ст. — у Жыровіцкім. Румянцаўскі 3-і спіс у 18—19 ст. захоўваўся ў веткаўскіх старавераў. Спісы Сербскай рэдакцыі К.к. на землях Украіны і Беларусі (захавалася больш за 10) колькасна пераважалі над спісамі Рус. рэдакцыі (3 экзэмпляры), што тлумачыцца яе больш раннім паспаўсюджваннем.

*Літ.:* Щ а п о в Я.Н. Византийское и южнославянское правовое наследие на Руси в XI—XIII стст. М., 1978; М и л о в Л.В. О древнейшей истории кормчих книг на Руси // История СССР. 1980. №5. *В.С.Пазднякоў.*

КО́РСАК Рафаіл (свецкае імя Мікалай; каля 1595—28.8.1640) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З бел. кальвініцкай шляхты. Выхоўваўся ў *Нясвіжскім езуіцкім калегіуме*, дзе прыняў каталіцтва. Пад уплывам мітрапаліта І.*Руцкага* перайшоў ва уніяцтва і ўступіў у ордэн *базыльян* пад манаскім імем Рафаіл (1620—21). Вывучаў філасофію ў папскіх калегіумах Брунсберга (цяпер Бранева, Польшча) і Прагі (1618—20), тэалогію ў калегіуме св. Афанасія ў Рыме (1621—24). Архімандрыт манастыроў Віленскага св. Тройцы (1625—37), Ануфрыеўскага (Мсціслаўскае ваяв., 1631), Кобрынскага св. Спаса (1632—33), Жыдзічынскага (1637—40); протаархімандрыт (генерал) базыльянскага ордэна (1626—40); епіскап Галіцкай (1626—32) і Турава-Пінскай (1632—37) епархій. Кароль Жыгімонт III 8.7.1626 прызначыў К. каад'ютарам (памочнікам-намеснікам) мітрапаліта Руцкага. Пасля зацвярджэння каралевічам Уладзіславам «Пунктаў заспакаення Русі», якія легалізавалі правасл. царкву, К. пасланы Руцкім у Рым, дзе дамогся адмовы папы Урбана VIII прызнаць гэтыя «Пункты...». Як мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай (1637—40) К. падтрымаў курс караля Уладзіслава IV на прымірэнне уніятаў і праваслаўных. У 1639 ён прасіў у папы Урбана VIII дазволу склікаць сумесны сабор абедзвюх цэркваў і стварыць адзіны «рускі» патрыярхат Рэчы Паспалітай. Клапаціўся аб беатыфікацыі (абвяшчэнні святым) І.*Кунцэвіча*. Памёр у Рыме, пахаваны ў царкве св. Сергія і Бакха.

*Літ.:* П л о х и й С.Н. Папство и Украина. Киев, 1989. *С.В.Казуля.*

КО́САЎ Сільвестр (канец 16 ст., маёнтак Жаробычы, Віцебскае ваяв. — 23.4.1657) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай, пісьменнік-палеміст. Скончыў Віленскую брацкую школу, Люблінскі езуіцкі калегіум і Замасцянскую акадэмію. Выкладаў рыторыку ў Вільні і Львове. З 1631 прафесар філасофіі ў Кіева-Пячэрскай школе. У 1631—32 разам з мітрапалітам П.*Магілам* праводзіў рэформу навуч. устаноў Кіева. Паводле прапановы К. ў 1632 школа Кіеўскага правасл. брацтва і Кіева-Пячэрская школа аб'яднаны, у выніку утвораны *Кіева-Магілянскі калегіум*. З 1633 К. — архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры, з 1634 епіскап магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі; канфліктаваў з полацкім і віцебскім уніяцкім архіепіскапам А.*Сялявай*. У 1646 заснаваў *Магілёўскі Свята-Мікольскі жаночы манастыр*. У 1647—57 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (у межах Рэчы Паспалітай), экзарх канстанцінопальскага патрыяршага прастола. У 1647 блаславіў Б.Хмяльніцкага на барацьбу з палякамі. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 выступаў супраць падначалення *Кіеўскай мітраполіі* Маскоўскаму патрыярхату і супраць далучэння ўкр. і бел. зямель да Расіі. Аўтар шэрагу публіцыстычных і багаслоўскіх твораў: «Экзэгезіс» (1635, Вільня, Прапанаваў новую сістэму адукацыі, абараняў правасл. святароў ад абвінавачванняў у пратэстантызме); «Патэрыкон, або Зборнік жыццяў святых пячорскіх айцоў» (1635, перавыдадзены ў 1661 і 1678, у ім выказаў погляд на складанае пытанне аб часе хрышчэння бел. і ўсіх усходнеслав. зямель, падаў храналогію ўсходнеслав. мітрапалітаў); прамовы ў празаічным і вершаваным варыянтах на смерць свайго папярэдніка *Іосіфа* Бабрыковіча Капета-Аняхожскага (1635); «Дыдаскалія, або Навука для святароў» (1637) і інш.

*Літ.:* С а в е р ч а н к а І.В. Сільвестр Косаў // Бел. гіст. часоп. 1995. №3. *І.В.Саверчанка.*

КО́УШ Аляксандр (1890, в. Рыдзялі Гродзенскага р-на — 1943) — беларускі грамадска-палітычны праваслаўны царкоўны дзеяч. Скончыўшы Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў на Століншчыне. Пасля заканчэння бухгалтарскіх

курсаў працаваў у Люблінскім аддзеле Рас. дзярж. банка, з якім у пач. 1-й сусв. вайны эвакуіраваны ў г. Разань, потым у Майкоп. У 1921 вярнуўся ў Заходнюю Беларусь і ў г. Гродна пасвячоны ў святары. У 1925 у Вільні, настаяцель прыхода ў Шнішках (цяпер у межах горада), гал. бухгалтар Бел. кааператыўнага банка, выкладчык Закона Божага ў Віленскай бел. гімназіі. Выступаў у друку з артыкуламі па пытаннях беларусізацыі правасл. царквы, аднаўлення бел. дзяржаўнасці. У 1927 у сувязі з забаронай дзейнасці Бел. сялянска-работніцкай грамады арыштаваны польскімі ўладамі, аднак у 1928 апраўданы. У 1928—29 рэдактар-выдавец царк.-грамадскага час. «Беларуская зарніца», кіраўнік секцыі Чырвонага крыжа пры Бел. цэнтры. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху пазбаўлены польскімі ўладамі месца настаяцеля Пятніцкай царквы ў Вільні і высланы святаром у в. Кастылі Віленскага пав. У 1939 вярнуўся ў Вільню, быў настаяцелем царквы св. Мікалая, але ў снеж. таго ж года звольнены Ковенскім епархіяльным саветам. У першыя гады 2-й сусв. вайны быў звязаны з бел. нацыянальна-рэліг. і грамадска-культ. арг-цыямі. У 1941 прызначаны ў выдавецкую камісію пры мінскім архірэі. У 1943 за садзеянне ў выратаванні яўрэйскага насельніцтва арыштаваны гітлераўскімі акупантамі ў г.п. Плешчаніцы і расстраляны. *А.С.Ліс.*

**КОЎШ** Святаслаў Аляксандравіч (1917, в. Ілья Вілейскага р-на Мінскай вобл. — 1997) — рэлігійны і грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі, пісьменнік. Скончыў Віленскую бел. гімназію і Віленскі ун-т. Пасвячоны ў дыяканы, быў псаломшчыкам у в. Засулле Стаўбцоўскага р-на. З 1939 завуч сярэдняй школы ў Стаўбцоўскім р-не. У 1941—44 супрацоўнічаў з ням.-фаш. акупацыйнымі ўладамі, быў старшынёй павета ў Клецку. З 1944 у Германіі, з 1949 у ЗША. У 1969 пасвячоны ў святары і да 1977 быў настаяцелем бел. прыхода св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Йорк), у 1976—86 — прыхода св. Ефрасінні Полацкай у г. Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі). З 1970 чл. епархіяльнай рады Бел. правасл. царквы Паўночнай Амерыкі і Канады. У 1977 г. выбраны адміністратарам бел. правасл. прыходаў ЗША і Канады, якія падлягаюць юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха. У 1976—88 старшыня Злучанага беларуска-амерыканскага дапамогавага камітэта. Пасля 1976 рэдактар час. «Царкоўны сьветач», выдаваў «Беларускі праваслаўны каляндар». Аўтар кнігі балад і прозы «Русалчына балада», аповесці «На дарогах вайны» і інш.

*Тв.:* Шляхам аўтакефаліі // Беларуская думка XX ст. Варшава, 1998. *Л.У.Языковіч.*

**КРАМЯНІЦКІ КЛЯШТАР КАНОНІКАЎ ЛАТЭРАНСКІХ.** Існаваў у 1617—1832 у в. Крамяніца Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. Засн. 20.6.1617 віцебскім кашталянам М. Вольскім і яго жонкай Б.Войнай. Першыя манахі прыйшлі з Кракава. На ўтрыманне кляштара аддадзены фальварак Вольгаўшчына з в. Марціновічы (50 валок зямлі), 15 маргоў сенажаці над р. Зэльва пры в. Падбалоцце і поле вакол кляштара пл. 1,5 валокі. У 1620 пабудаваны касцёл Цела Хрыстова, у 1657 асвячоны біскупам Даўгялам; адначасова будаваліся жылыя памяшканні кляштара. Сын Вольскага Казімір, пакаёвы дваранін каралеўскі, працягваў будаўніцтва і даў кляштару в. Кватэры. Пры кляштары існаваў шпіталь, ружанцовае брацтва, б-ка, якая ў 1783 мела 1055 кніг. Пасля закрыцця кляштара яго будынкі перададзены ваеннаму ведамству. Касцёл застаўся парафіяльным, у ім захаваліся разны алтар і амбон 1-й палавіны 17 ст., надмагіллі Вольскага і Войны. Жылы будынак разбураны ў 1940-я г. *А.А.Ярашэвіч.*

**КРУПЧЫЦКІ КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ.** Існаваў у 2-й палавіне 17 ст. — 1832 у в. Крупчыцы (цяпер у складзе в. Чыжэўшчына Жабінкаўскага р-на). У дакументах часам называўся Нелаевіцкім (узнік на землях маёнтка Нелаевічы). Кармеліты асталяваліся каля в. Крупчыцы ў 2-й палавіне 17 ст., у лісце ад 24.3.1676 яны называлі сябе «крупчыцкімі кармелітамі». Першае падараванне выдадзена ў 1676 брэсцкім зямянінам А.Асоўскім (з пацвярджэннем у 1682). У кастр. 1699 па хадайніцтве дзяржаўцы навакольных зямель Я.П.Несаровіча царк. кіраўніцтва зацвердзіла канчатковую дабудову кляштара; яго плошча 300 $м^2$. Будынак жылога памяшкання цагляны, 2-павярховы, на каменным падмурку, накрыты гонтай і саломай, у канцы 18 ст. — чарапіцай. Да 1701—02 дабудаваны ўвесь комплекс, куды ўваходзіў і драўляны касцёл з гаспадарчымі пабудовамі. У 1729 касцёл



**Крамяніцкі кляштар канонікаў латэранскіх.** Георгіеўскі касцёл.

асвячоны пад назвай Нявіннага Зачацця. На працягу 18 ст. мясцовая шляхта падаравала манахам фальварак Нелаевічы (1701), в. Чыжэўшчына і фальварак Багданы (1714), у 1737 Нестаровічы часова перадалі ў заклад кармелітам маёнтак Ківаверты-Хадасы. У 1728 у касцёле ўстаноўлены арган. У 1738 М. Непакайчыцкая заснавала пры кляштары брацтва св. Юзафа, а кн. В.Шуйскі адпісаў у 1747 кармелітам 4 тыс. злотых, забяспечаных маёнткам Рыкавічы. У 2-й палавіне 18 ст. ў кляштары жылі 14 манахаў на чале з прыёрам. У час паўстання 1794 каля вёскі адбыўся бой паўстанцаў з рас. войскамі. Указам імператара Паўла І (1797) кляштар перададзены з Луцка-Брэсцкай у Віленскую дыяцэзію. У 1800 віленскі біскуп Я.Н.Капакоўскі па хадайніцтве Нестаровічаў ператварыў касцёл у прыходскі. У канцы 18 — пач. 19 ст. пры кляштары існавала духоўная школа (у 1817 вучыліся 7 сірот). У яе б-цы было 278 тамоў на лац. і польскай мовах, што давала магчымасць праводзіць заняткі па тэалогіі, гісторыі, філасофіі і інш. У 1830-я г. памяшканне б-кі аддадзена пад склад. Кляштар валодаў 12 валокамі зямлі (каля 256 га); яму належалі 17 сялянскіх сядзіб (26 сем'яў). У 1832 кляштар зачынены. Касцёл у 1866—67 ператвораны ў правасл. царкву. Рэшткі жылога памяшкання разабраны ў 1891. У 1894 на іх месцы пабудавана Уладзімірская царква.

*Літ.:* Б е н з я р у к А. Кармяліцкі кляштар у Крупчыцах // Бел. мінуўшчына. 1996. №2.

*А.Р.Бензярук.*

КРЫЖ — рэлігійны сімвал, які шануецца ў хрысціянстве. На К., паводле евангелляў, быў распяты і замучаны Ісус Хрыстос, які асвяціў яго сваёй крывёю, што паслужыла падставай для ператварэння К. пакарання ў сімвал збавення і аб'ект шанавання. У хрысціянстве яго афіц. шанаванне ўведзена ў 4 ст. разам з легендай пра здабыцце (узвіжанне) святога крыжа імператрыцай Аленай. У праваслаўі К. — неабходная прыналежнасць *прастола* ў царкве, якім увенчаны *іканастас*, ускладваецца на веруючых у час *хрышчэння*; кладзецца ў аснову пры пабудове храма і ўзводзіцца над ім; пастаянна носіцца веруючымі (нацельны К.); пры здзяйсненні хрэснага знамення карыстаюцца сімвалічным К. (з 17 ст. хрысцяцца трыма пальцамі). Увогуле К. служыць своеасаблівай пячаткай усіх свяшчэнных прадметаў. Яму прыпісваецца магічная выратавальная сіла. Найб. пашыраныя формы хрысц. К. — чатырохканцовы (яго разнавіднасці: грэчаскі К., дзе вертыкальны брус і перакладзіна аднолькавыя, і лацінскі, дзе вертыкальны брус даўжэйшы за гарызантальны), Т-падобны, андрэеўскі (2 брусы, складзеныя як дыяганалі), рускі правасл. (з 2 перакладзінамі, верхняя гарызантальная даўжэйшая, ніжняя дыяганальная), латарынгскі (з 2 гарызантальнымі перакладзінамі, верхняя карацейшая), васьміканцовы (у форме латарынгскага К., з кароткай перакладзінай унізе, дыяганальнай або гарызантальнай). Два апошнія К. даследчыкі называюць «патрыяршыя К.». Форма К. мае практычнае значэнне для хрысц. канфесій: католікі і пратэстанты карыстаюцца амаль выключна чатырохканцовым К., правасл. — шасціканцовым і васьміканцовым розных варыянтаў, часам — чатырохканцовым, стараверы прызнаюць толькі васьміканцовы К.



**Крыж Ефрасінні Полацкай.** Майстар Л.Богша. 1161.

КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПО́ЛАЦКАЙ — унікальны твор старабеларускага эмальернага мастацтва, помнік пісьменства 12 ст.; рэлігійная і духоўная святыня беларусаў. Зроблены ў 1161 полацкім ювелірам Лазарам Богшам паводле заказу *Ефрасінні Полацкай* як каўчэг для захавання хрысц. рэліквій. Крыж 6-канцовы, вышыня 51,8 см, даўжыня верхняга перакрыжавання 14 см, ніжняга — 21 см, таўшчыня — 2,5 см. Аснова з кіпарысавага дрэва, зверху і знізу пакрыта 21 залатой пласцінкай з каштоўнымі камянямі, арнаментамі і 20 сярэбранамі з пазолотай пласцінкамі; брыжы пярэдняга боку абведзены шнурком жэмчугу. Пласціны пярэдняга боку ўтвараюць іканапісную кампазіцыю — вялікі, або расшыраны, дэісус. На верхніх канцах крыжа паясныя выявы Хрыста, Маці Божай, Іаана Прадцечы. У цэнтры ніжняга перакрыжавання — 4 евангелісты, на канцах — архангелы Гаўрыіл і Міхаіл. Унізе крыжа — патроны заказчыцы і яе бацькоў: св. Ефрасіння Александрыйская, Георгій і Софія. У верхнім перакрыжаванні прымацаваны невялікія 4-канцовы і ў ніжнім — 6-канцовы крыжыкі. На адвароце выявы айцоў царквы Іаана Златавуста, Васілія Вялікага, ГрыгорыяНазіянзіна (Б а г а с л о в а), апосталаў Пятра і Паўла, св. Стафана, Дзмітрыя, Панцеляймона. З імі чаргуюцца эмалевыя арнаментальныя пласціны. Над кожным абразком часткова грэч., часткова слав. літарамі зроблены надпісы.

У сярэдзіне крыжа ў 5 квадратных падпісаных гнёздах знаходзіліся рэліквіі: кавалачкі крыжа Гасподняга з кроплямі яго крыві, кавалачак каменю ад дамавіны Маці Божай, часткі мошчаў св. Стафана і Панцеляймона, кроў св. Дзмітрыя. Унізе дробны надпіс з імем майстра: «Господи, помози рабоу своемоу Лазорю, нареченномоу Богъши, съделавъшемоу крьсть сии цръкви святаго Спаса и Офросиньи». На баках крыжа па спіралі ў 2 рады зроблены вялікі завяшчальны надпіс: «У лета 6669 кладзе Ефрасіння святы крыж у сваім манастыры, у царкве святога Спаса. Дрэва святое бясцэннае, акова ж яго золата і срэбра, і камяні і перлы на 100 грыўняў, а да... 40 грыўняў, і хай не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прааюць, не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынясе з манастыра, хай не дапаможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, хай пракляты будзе ён святой жыватворную Тройцаю ды святымі айцамі... і хай напаткае яго доля Іуды, які прадаў Хрыста. Хто ж насмеліцца ўчыніць такое... валадар або князь, або епіскап ці ігумення, або іншы які чалавек, хай будзе на ім гэты праклён. Ефрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі...» Захоўваўся (з перапынкамі) у Полацку. У 1921 крыж рэквізаваны. У 1929—41 зберагаўся ў Магілёўскім краязнаўчым музеі, адкуль знік пры нявысветленых абставінах. У 1992 прынята рашэнне аб узнаўленні крыжа, і створана навук.-кансультатыўная група, у склад якой уваходзілі бел. і рас. вучоныя. У 1997 брэсцкі мастак М.Кузьміч узнавіў крыж, які быў асвячоны і перададзены ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр у Полацку.

*Літ.:* Арлоў У.А. Таямніцы полацкай гісторыі. Мн., 1994; Крест — красота церкви: (История создания и воссоздания Креста преподобной Ефросинии Полоцкой). Мн., 1998.

*Т.В.Пешына.*

КРЫШНАІ́ТЫ — гл. ў *Вайшнавы.*

КРЭАЦЫЯНІ́ЗМ (ад лац. creatio стварэнне) — рэлігійнае вучэнне пра стварэнне свету Богам з нічога. Пашыраны ў *іудаізме, хрысціянстве, ісламе.* У біблейскай версіі гэта «творчы акт» Бога, які на працягу 6 дзён стварыў жывую і нежывую прыроду і чалавека. Мае разнавіднасці — ідэі аднаразовага ці шматразовага стварэння свету (атрымала своеасаблівае «пацвярджэнне» ў тэорыі катастроф Ж.Кюўе), а таксама пастаяннага стварэння свету. Прыхільнікі падобных ідэй былі і сярод вучоных, якія выступалі супраць канцэпцыі натуральнага развіцця і эвалюцыі матэрыі ад яе найпрасцейшых форм да ўзнікнення чалавека і паступальнага прагрэсіўнага развіцця грамадства. З пракіцелых К. пазіцый праблему развіцця жывой прыроды разглядае эвалюцыйнае вучэнне Ч.Дарвіна, Г.Гекслі, Э.Гекеля і інш. У цяперашні час у мадэрнізаваных формах К. выкарыстоўваецца тэалогіяй для абгрунтавання рэліг. карціны свету.

*А.М.Елсукоў.*



Л.Крэўза.

КРЭ́ЎЗА Леў (Лявон; 2-я пал. 16 ст., Падляшша — 1639) — дзеяч уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, пісьменнік-палеміст. Манах, з 1617 архімандрыт Віленскага манастыра св. Тройцы, з 1621 протаархімандрыт (генерал) ордэна базыльян, з 1623 архіепіскап смаленскі і чарнігаўскі. Удзельнік Львоўскага сабора 1629. У палемічным творы «Абарона царкоўнай еднасці, або Доказ, які сведчыць, чаму грэчаская царква павінна быць аб'яднана з лацінскай» (Вільня, 1617) даў звесткі пра кіеўскіх мітрапалітаў і выказаў думку, што многія з іх імкнуліся да адзінства з Рымам. Аўтар «Абароны манастыра св. «Тройцы» (Вільня, 1702) і інш. Ідэі К. паўплывалі на наступныя пакаленні прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты уніяцкай царквы.

*С.В.Марозава.*

КСЁНДЗ (ад старапольскага ksiądz князь) — у беларускай і іншых славянскіх мовах назва рымска-каталіцкага святара. На Беларусі К. часам называюць і уніяцкіх святароў. У польскай мове тэрмін К. можа ўжывацца і ў дачыненні да духавенства інш. хрысц. канфесій.

КУЗЬМЕНКА Міхаіл Сямёнавіч (8.11.1915, г. Гомель — 12.3.1986), праваслаўны рэлігійны дзеяч, царкоўны гісторык. Кандыдат багаслоўя (1971). Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1935), правасл. багаслоўскі ф-т Варшаўскага ун-та (да 1939), 2 курсы Віленскай кансерваторыі (1941),

Маскоўскую духоўную акадэмію (1971). У 1930-я г. спяваў у хоры Р.Р.Шырмы. Дыякан (з 1942), святар (з 1943). У 1940-я г. сакратар праўлення Віленскага Свята-Духава манастыра, выкладчык і інспектар Віленскай духоўнай семінарыі. З 1945 святар у прыходах Віленскай і Мінскай епархій. У 1951 асуджаны «за контррэвалюцыйную дзейнасць» на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у г. Інта Комі АССР. 25.5.1956 вызвалены. 28.11.1978 рэабілітаваны. У 1958—70 святар Барыса-Глебскай царквы ў Магілёве, потым настаяцель Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку. Аўтар публікацый ў айчынным і замежным друку па гісторыі праваслаўнай царквы на Магілёўшчыне, Барыса-Глебскай царквы ў Магілёве, пра лёс і абставіны смерці мітрапаліта Сергія (Васкрасенскага). Пахаваны ў Вільнюсе. У 1978 Патрыярхам усяе Русі ўзнагароджаны мітраю (мітрафорны протаіерэй), у 1980 ордэнам Прападобнага Сергія Раданежскага 2-й ступені.

*Тв.:* Магілёўская епархія ад часоў далучэння да Расіі да 1918 г. // Магілёўская даўніна. 1966. С. 73—91; 1997. С. 54—60; 1998. С. 63—68; 1999. С. 51—57.

*Літ.:* Айцец Міхаіл (Кузьменка) // Магілёўская даўніна. 1995. С. 69—71. *І.А.Пушкін.*

КУЛЕ́ША Ян Алаізій (1660—1706) — каталіцкі палеміст канца 17 — пач. 18 ст. Нарадзіўся на Палессі. Быў нейкі час місіянерам у Маскве. Аўтар твора «Праваслаўная вера» (Вільня, 1704), у якім прасачыў гісторыю правасл. царквы да канца 17 ст. Сцвярджаў, што пры князю Уладзіміру «Русь прыняла рымска-каталіцкую веру» і першыя кіеўскія мітрапаліты не былі ў схізме (царк. расколе), аднак пазней Русь апынулася ўцягнутай у схізму. Адна яе частка была спустошана татарамі, а другая падпарадкавана язычніцкай Літве. Падкопамі схізматыкаў-раскольнікаў тлумачыў К. паўстанне ў Віцебску 1623, а таксама антыфеадальную і нацыянальна-вызваленчую вайну ўкр. і бел. народаў пад кіраўніцтвам Б.Хмяльніцкага. Як і інш. каталіцкія палемісты, К. тэарэтычна абгрунтаваў і апраўдваў гвалтоўнае насаджэнне каталіцызму, нац. і рэліг. ганенні ў Рэчы Паспалітай.

КУЛЬТ ПРО́ДКАЎ, ушанаванне памерлых бацькоў і інш. родзічаў. Развіваўся як сямейны культ на стадыі распаду родавага ладу. Звязаны з анімістычнымі вераваннямі і ўяўленнямі аб продках як ахоўніках роду і іх нашчадкаў. У першабытныя часы ўшаноўваліся татэмныя першапродкі (гл. *Татэмізм*). У політэістычных рэлігіях стараж. грэкаў, рымлян, славян і некаторых інш. народаў вялікую ролю меў сямейна-родавы К.п. У Кітаі ён пакладзены ў аснову канфуцыянства. Існавалі таксама агульнаплемянны і агульнанародны К.п. правадыроў і князёў, якія ў некаторых народаў абагаўляліся яшчэ пры жыцці і іх продкі лічыліся асабліва магутнымі (Палінэзія, Паўднёвая Азія, Цэнтральная Афрыка і інш.). У балцкіх плямён, што насялялі большую частку тэр. Беларусі, ў раннім жалезным веку татэмнымі першапродкамі былі, верагодна, мядзведзь і дзік. Паводле адной з легенд, продкам беларусаў быў Бой (Бай), які пакінуў сыну Белаполю землі ў Падзвінні і Падняпроўі. Назву племяннога саюзу крывічоў часам выводзяць ад імя іх мяркуемага родапачынальніка Крыва. У «Аповесці мінулых гадоў» назва радзімічаў выводзіцца ад Радзіма, які са сваім родам прыйшоў у Пасожжа «з ляхаў». Сляды К.п. захаваліся ў бел. святкаваннях *Дзядоў, Радаўніцы*, пахавальных абрадах і звычаях (памінкі), галашэннях. З К.п. звязаны і міфалагічны вобраз *дамавіка* як духаахоўніка хатняга ачага.

*Літ.:* Легенды і паданні. Мн., 1983; Іванов В.В., Топоров В.Н. Крив // Мифы народов мира. М., 1992. Т. 2.

КУЛЬТ РЭЛІГІ́ЙНЫ — сістэма абрадаў, сродкаў і дзеянняў, накіраваных на абгрунтаванне веры ў звышнатуральнае і зацверджаных у царкоўных канонах. Яго вытокі ў дахрысц. культах, якія ўключалі розныя праяўленні *фетышызму, магіі, татэмізму* і да т.п. Элементамі К.р. з'яўляюцца як простыя акты (паклоны, *малітвы, пасты*, стаянне на каленях і інш.), так і больш складаныя (*святы, рэлігійныя абрады, рэлігійныя богаслужэнні*, культ святых і інш.). Да іх належаць таксама *культавыя збудаванні, рэліквіі царкоўныя*, адзенні святароў, розныя прыстасаванні для набажэнстваў і інш. Формы К.р. суадносяцца з гіст. формамі рэлігіі: культы татэмічныя, пахавальныя, родавыя, магічныя, анімістычныя (экзаркізм), астральныя, жывёльныя (зоалатрыя), праціцыяльныя (звязаныя з шанаваннем багоў, якія нібыта кіруюць лёсам як Сусвету, так і кожнага чалавека). Развіццё і ўскладненне К.р., неабходнасць яго абгрунтавання абумовілі з'яўленне спецыфічнай рэліг. супольнасці, храмаў, іерархіі святароў, якія рэгламентавалі К.р. і манапалізавалі права здзяйсняць культавыя дзеянні. К.р. як найб. даступны элемент рэлігіі і непасрэдна набліжаны да простых вернікаў, стымулюе пачуццёва-рэліг. светаўспрыманне, і ў выніку сам ператвараецца ў самастойны аб'ект веры і шанавання як паказчык рэлігійнасці народа. *А.А.Цітавец.*

КУ́ЛЬТАВЫЯ ЗБУДАВА́ННІ — пабудовы, прызначаныя для адпраўлення рэлігійных абрадаў. Тыпалогія і гісторыя развіцця К.з.: абумоўлена прыналежнасцю да пэўнага веравызнання (*канфесіі*), а таксама ходам развіцця архітэктуры і будаўнічай тэхнікі. Асноўныя тыпы К.з.: *царква, сабор* (праваслаўе), *касцёл*, сабор (каталіцызм), *мячэць* (іслам), кірха, збор (пратэстантызм), *сінагога*

(іудаізм), пагада, ступа, дацан (будызм), малельны дом (у старавераў, *баптыстаў*), а таксама *званіца, капліца*, мінарэт, капэла, *кляштар*, лаўра, некаторыя мемарыяльныя збудаванні (піраміды, мастабы, грабніцы), язычніцкія свяцільні (*капішча*) і інш. На Беларусі найб. былі пашыраны правасл. і уніяцкія цэрквы, каталіцкія касцёлы і капліцы, кальвінскія зборы, кляштары, трапляюцца сінагогі, мячэці. Мураваныя цэрквы вядомы з 11 ст. Асноўны іх тып — крыжова-купальны храм. У 13—16 ст. К.з. звычайна з'яўляліся і храмамі-крэпасцямі, у іх архітэктуры былі элементы готыкі і рэнесансу. На мяжы 16—17 ст. яны мелі бязвежавыя або 1-, 2- і 3-вежавыя гал. фасады (Мірскі Мікалаеўскі касцёл, *Камайскі касцёл*). У 17—18 ст. асн. мастацкім кірункам у архітэктуры быў стыль барока (касцёл у в. Адэльск Гродзенскага р-на, сярэдзіна 18 ст.).

У гэты час пашырыліся 1- і 3-нефавыя базілікі без трансепта, крыжовыя і крыжова-купальныя, напачатку з бязвежавым ці 1-вежавым, потым 2-вежавым фасадам (Навасвержанская Успенская царква з брамай-званіцай, *Жыровіцкі Успенскі манастыр, Нясвіжскі касцёл езуітаў*). Часта К.з. ставілі ў ансамблі з манастырамі і кляштарамі (*Гродзенскі кляштар бернардзінцаў*, манастыр базыльян у в. Жыровічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.). У 1-й палавіне 19 ст. архітэктура К.з. набыла рысы класіцызму (*Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор*), з сярэдзіны 19 ст. — эклектычныя формы стыляў несапраўднай готыкі, псеўдарус. і псеўдавізант. (*Мінская царква Аляксандра Неўскага*), мадэрн. Са старажытнасці пашыраны таксама драўляныя К.з.: зрубныя (царква ў в. Здзітава Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл., 1502) і пабудаваныя «ў стоўп» (Успенская царква Пінскага Лешчанскага манастыра). У перыяд барока пераважалі збудаванні 2-зрубнай базілікальнай структуры з бязвежавым, пазней 2-вежавым гал. фасадам (царква ў в. Вавулічы Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл., 1737), 3-зрубныя з рытмічным спалучэннем аб'ёмаў і самастойным крыццём кожнага зруба (Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква). У 17 — 1-й палавіне 19 ст. пашыраны манументальныя 4- і 5-зрубныя крыжова-купальныя К.з. з планам у выглядзе грэч. або лац. крыжа (Ільінская царква ў Віцебску). Драўляныя К.з. канца 19 — пач. 20 ст., як і мураваныя, маюць эклектычныя формы (касцёл у в. Паланэчка Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл., 1899).

*С.А.Сергачоў, Т.В.Габрусь.*

КУЛЬЧЫ́НСКІ Ігнат (1707 — каля 1747) — гісторык, уніяцкі царкоўны дзеяч. Нарадзіўся каля Гродна. У 1727—35 знаходзіўся ў Рыме, дзе атрымаў званне доктара багаслоўя, займаўся гісторыяй царквы, шмат пісаў і выдаваў багаслоўскія працы. У 1735 вярнуўся на радзіму, дзе стаў архімандрытам Гродзенскага Каложскага базыльянскага манастыра. Вывучаў гісторыю Гродна, в. Жыровічы на Слонімшчыне, даследаваў Каложскую царкву, на аснове вывучэння манастыркага архіва склаў «Інвентар Гродзенскага Каложскага манастыра... складзены ў 1718», у якім падрабязна апісаў храм, яго вонкавы і ўнутраны выгляд, алтары і інш. К. з'яўляецца аўтарам «Хронікі ігуменаў, архімандрытаў, царк. старост і заступнікаў Каложскага манастыра». К. — асноўная крыніца па гісторыі Каложскай царквы. К. вывучаў таксама Гродзенскі Стары замак, апісаў крыж Ефрасінні Полацкай, дзякуючы чаму гэтая рэліквія стала вядомая на Захадзе.



І.Кунцэвіч.

КУЛЬЧЫ́ЦКІ Андрэй (у манастве А л я к с а н д р) Міхайлавіч (1826, в. Камень-Шляхецкі, цяпер Акцябр Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. — 28.12.1888) — праваслаўны царкоўны дзеяч, гісторык. Кандыдат багаслоўя (1857). З сям'і святара. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію (1857). З 1847 святар Петрапаўлаўскай царквы ў Кобрыне, у 1852 прыняў манаства. У 1857—66 знаходзіўся ў якасці місіянера ў Пекіне, вывучаў побыт насельніцтва Кітая, складаў рус.-кітайскі слоўнік. З 1866 інспектар Полацкай духоўнай семінарыі, з 1871 настаяцель царквы Рас. пасольства ў Рыме. З 1878 епіскап туркестанскі, кастрамскі, галіцкі. Аўтар прац па гісторыі царквы, геаграфічных нататак і інш.

*В.М.Чараніца.*

КУНЦЭ́ВІЧ Іасафат (у свецe Іван; 1580, г. Уладзімір-Валынскі, Украіна — 12.11.1623) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З правасл. сям'і гандляра, уладзімірскага райцы Гаўры-

лы Кунцэвіча. Пасля заканчэння пачатковай школы адпраўлены бацькам у Вільню вучыцца купецкай справе (каля 1596). Зблізіўся з езуітамі, праф. Віленскай акадэміі Ф.Фабрыцыюсам і Я.Грушэўскім, а таксама з грэкам П.Аркудзіем, найбліжэйшым паплечнікам мітрапаліта І.Пацея. Пад іх уплывам стаў прыхільнікам *Брэсцкай уніі 1596.* У 1604 стаў манахам Віленскага манастыра св. Тройцы. Вывучаў багаслоўе ў семінарыі пры манастыры, вызначаўся глыбокай рэлігійнасцю і аскетызмам. Таленавіты прапаведнік і місіянер, пераканаў многіх уплывовых асоб Вільні прыняць унію. У 1609 пасвячоны ў святара. Заснаваў *навіцыят* пры Быценскім манастыры (1613), аднавіў царкву і манастыр у Жыровічах. У 1613—14 ігумен гэтых манастыроў. У 1614—17 архімандрыт Віленскага манастыра св. Тройцы. Разам з мітрапалітам І.*Руцкім* удзельнічаў у стварэнні ордэна *базыльян* (1617). У 1617—18 каад'ютар (намеснік) полацкага архіепіскапа Гедэона Бральніцкага, пасля яго смерці архіепіскап полацкі (1618—23). Увёў у практыку штогадовыя епархіяльныя саборы, частыя візітацыі парафій, рэгулярныя споведзі духавенства і вернікаў. Садзейнічаў далучэнню некаторых манастыроў епархіі да базыльянскага ордэна. Дамагаўся ў шляхты вяртання царк. маёмасці. Адбудаваў Сафійскі сабор у Полацку. Энергічна распаўсюджваў унію, у т.л. і адм. сродкамі, што выклікала супраціўленне правасл. гараджан. Паколькі правасл. царква ў пач. 17 ст. была па-за законам, К. закрываў правасл. храмы, выдаляў святароў і на іх месца прызначаў уніяцкіх. У кастр. 1618 магілёўскія мяшчане зачынілі перад К. гар. браму.

Тады К. звярнуўся да каралеўскіх улад, якія пакаралі бунтаўшчыкоў і гвалтоўна адабралі на карысць уніятаў правасл. цэрквы. Прызначэнне ерусалімскім патрыярхам Феафанам у 1620 полацкім правасл. епіскапам М.*Сматрыцкага* пагоршыла становішча К. У епархіі паралельна з грэка-каталіцкай пачала ствараецца правасл. іерархія. Гараджане Віцебска, Магілёва, Полацка, Оршы сталі адступацца ад уніі, адбываліся антыуніяцкія хваляванні. У сувязі з узмацненнем рэліг. барацьбы, знешняй небяспекі з боку Турцыі змянілася стаўленне да уніяцкай царквы кіруючых колаў Рэчы Паспалітай. Канцлер ВКЛ Л.*Сапега* ў лісце да К. ад 12.3.1622 абвінаваціў апошняга ў «гвалтоўным уціску чалавечага сумлення». Аўтар палемічных твораў на старабел. і польскай мовах у абарону уніі: «О фалшованю пісм словеньских», 6 артыкулаў у кн. Л.Крэўзы «Абарона адзінства», «Правілаў Іасафата архіепіскапа Полацкага», «Катэхізма слугі Божага Іасафата» і інш. У час Віцебскага паўстання 1623 К. быў забіты. За забойства архіепіскапа каралеўская камісія на чале з Л.Сапегам прыгаварыла 19 чал. да пакарання смерцю; Віцебск пазбаўлены магдэбургскага права. 16.5.1643 К. папам рымскім Урбанам VIII прылічаны да блажэнных пакутнікаў каталіцкай царквы. У 17—18 ст. на Беларусі і Украіне фарміраваўся культ К. *Замойскім саборам 1720* уніяцкай царквы зацверджана свята ў гонар блажэннага. У Супраслі на царк.-слав. мове складзена і выдадзена «Служба святапакутніку Іасафату» (1710—30-я г.). Да труны з яго мошчамі ладзіліся паломніцтвы, распаўсюджваліся жыццяпісы, маляваліся абразы. 22.4.1867 папа Пій IX абвясціў К. святым. З 1949 рэліквіі К. знаходзяцца ў базіліцы св. Пятра ў Рыме.

*Літ.:* Говорский К. Иосафат Кунцевич, полоцкий униатский архиепископ. Вильна, 1865; Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893. С. 389—392; Козаневич Е. Життя Св. Священомученика Йосафата Кунцевича... Жовква. 1930. Żywot.

*С.В.Казуля.*



Да арт. **Кунцэвіч** І. Забойства І. Кунцэвіча. Малюнак Зімлера. 1865.

КУПА́ЛЛЕ, Іван Купала, Ян — старажытнае язычніцкае земляробчае свята. Пад рознымі назвамі вядома ўсім індаеўрапейскім народам. Ва ўсх. славян згадваецца ў летапісах з 1175, у старабел. граматах — з 13—14 ст. Лічылася святам сонца і прымеркавана да дня летняга сонцастаяння, калі найб. росквіту дасягалі жыватворныя сілы прыроды, найперш раслліннасці і збажыны. Прадстаўнікі міфалагічнай школы лічылі К. святам у гонар язычніцкага бога (багіні) Купалы. Слова «купала», як і «К.», мае некалькі трактовак. Найб. пашыраная — ад стараж.-слав. «купець» (гарэць). Мае індаеўрап. корань kup — са значэннем «кіпець», «горача жадаць», блізкі да лац. cupido (імкнуцца, ускіпаць), ад якога выводзіцца і Купідон. Мела карнавальна-экстатычны характар, блізкі да ант. вакхічных культаў. Пра гэта

сведчыць і такі абавязковы элемент К., як эротыка (супольнае купанне ў аголеным выглядзе, асаблівая сексуальная свабода ў купальскую ноч, пасля якой нараджаліся пазашлюбныя, т.зв. «святыя» дзеці, і інш.). Купальскія рытуалы суадносяцца з агнём (зямным і нябесным — сонцам, прадстаўленым у К. колам) і вадой, якія ў купальскіх міфах выступаюць як брат і сястра. У аснове міфа пра К. ляжыць матыў кровазмяшальнага шлюбу (увасабляецца ў двухколернай кветцы браткі), які тлумачыцца як узаемасувязь асн. процілегласцей — агню і вады. Пашыраныя матывы купальскіх змей, жывёл, скарбаў і інш. звязваюць цыкл купальскіх міфаў з асн. міфамі слав. міфалогіі. Пасля прыняцця хрысціянства царква прымеркавала К. да дня Іаана Хрысціцеля, у выніку свята атрымала здвоеную назву Івана Купала, або Іванаў (Янаў) дзень. Святкавалася ў ноч на 24 чэрв. 7 ліп. (с. ст.). Характарызавалася комплексам абрадаў, павер'яў, любоўнай і аграрнай *варажбой*. Яшчэ днём дзяўчаты збіралі купальскія (святаянскія) зёлкі, што, як лічылася, мелі асаблівую лекавую моц. Частку іх пакідалі на лекі, на спажыванне ў ежу, некаторыя (ім надавалі ахоўнае значэнне) утыкалі ў сцены хаты і хлява, з іншых плялі вянкі для купальскіх гулянняў. Цэнтральнае месца ў абрадах і гульнях К. займала купальскае вогнішча. Купальскія агні, верагодна, увасаблялі сонца і надзяляліся сілай спрыяць ураджаю і праганяць смерць. Да купальскага вогнішча рыхтаваліся загадзя. Па ўсіх дварах збіралі старыя непатрэбныя рэчы і вывозілі іх на выбранае для ўрачыстасці месца (узлесак, паляну, высокі бераг ракі), дзе яны пазней спальваліся. У старажытнасці купальскі агонь распальвалі трэннем кавалкаў дрэва адзін аб адзін, адначасова ўздымалі на высокім шасце прамасленае драўлянае кола (верагодна, сімвал сонца), якое потым падпальвалі. Пры агні гатавалі абрадавую вячэру: яешню, верашчаку, кулагу, варэнікі. Вакол агню вадзілі карагоды, спявалі купальскія песні. Праз вогнішча хлопцы і дзяўчаты скакалі парамі, што было звязана з ачышчальнай магіяй і рытуалам, прызначаным забяспечыць пладнасць (ад вышыні скачка залежыла вышыня хлябоў і інш.). Важнымі элементамі свята былі спаленне або тапленне ў вадзе чучала Купалы (называлі таксама Марай, Марэнай), рытуальнае купанне на ўзыходзе сонца, качанне па расе, пусканне з гары падпаленага кола і інш. Вельмі пашыранай на К. была варажба, асабліва на замужжа (на рачную плынь пускалі вянкі, загадваючы на суджанага, і інш.). Купальскую ноч лічылі ноччу цудаў. Паводле народных павер'яў, рэкі ў гэту ноч свецяцца асаблівым прывідным святлом, а звяры, птушкі і нават дрэвы атрымліваюць дар мовы, зацвітае папараць-кветка і да т.п. Адначасова К. — час



Выява крыжа-энкалпіёна з Купяціцкага Увядзенскага манастыра.

разгулу змрочных сіл прыроды: ведзьмы і ведзьмары нібыта імкнуцца адабраць у кароў малако, зрабіць заломы ў жыцце і інш. Таму ў гэту ноч рабілі розныя засцярогі, прыбягалі да ахоўнай магіі (кідалі ў жыта галавешкі з агнём, абтыкалі сцены хаты і хлява святаянскімі зёлкамі, у некаторых мясцовасцях праз вогнішча з мэтай ачышчэння і засцярогі праганялі статак). Традыцыйныя К. на Беларусі амаль у архаічным выглядзе захаваліся да сярэдзіны 20 ст. У наш час існуе як традыц. народнае свята.

*Літ.:* Иванов В.В., Топоров В.Н. Исследования в области славянских древностей. М., 1974; Беларускія народныя абрады. Мн., 1994.

КУПЕ́ЛЬ — вялікая чаша на высокай падстаўцы, якая выкарыстоўваецца ў таінстве *хрышчэння*.

КУПЯ́ЦІЦКІ УВЯДЗЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 1628—1817 у в. Купяцічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. Засн. Апалоніяй Войнай (з Валовічаў) як правасл. манастыр пры старадаўняй царкве Уводзін Багародзіцы ў храм. Гал. яго святыняй быў абраз Маці Божай у выглядзе меднага крыжа-энкалпіёна, знойдзенага 15.11.1182 (дата вылічана мітрапалітам кіеўскім Яўгенам Балхавіцінавым у 1-й палавіне 19 ст.) у Купяцічах, паводле царк. легенды, пры дзівосных абставінах. Гісторыя з'яўлення і цуды абраза апісаны ў кнізе іераманаха Афанасія Кальнафакійскага «Тэраргіум» (Кіеў, 1638). У сярэдзіне 17 ст. абраз перанесены ў Сафійскі сабор у Кіеў. Першыя манахі прыйшлі ў Купяцічы ў 1629 з *Віленскага Свята-Духаўскага манастыра*. У 1630-я г. ў манастыры жыў вядомы рэліг. дзеяч і пісьменнік *Афанасій Брэсцкі*, які ў сваіх творах усхваляў купяціцкі абраз як гал. правасл. святыню Рэчы Паспалітай. У 1740-я г. манастыр стаў уніяцкім. Зямельныя валоданні манастыра былі невялікія: 4 валокі ў Купяцічах, 2 — у в. Волька, там жа сенажаць і бортнае дрэва. Пасля

1743 далучаны да Пінскага Богаяўленскага манастыра. У 1817 зачынены. Будынкі былі драўляныя, не збераглiся. *А.А.Ярашэвіч.*

КУРБА́Н-БАЙРА́М, і д а л ь - а д х а, і д а л ь - к а б і р, і д а л ь - к у р б а н — свята ахвярапрынашэння ў мусульман. Пачынаецца з 10 дня месяца зу-ль-хіджа (12-ы месяц мусульм. месячнага календара), у дзень заканчэння паломніцтва ў *Мекку*, і доўжыцца 3—4 дні. У гэты дзень паломнікі ў даліне Міна (каля Меккі) прыносяць ў ахвяру жывёл у памяць аб тым, як Ібрахім (Аўраам) быў гатовы прынесці ў ахвяру Алаху (Богу) свайго сына Ісмаіла (Ізмаіла!). У рытуал К.-б. уваходзіць спец. малітва. У гэты дзень прынята прыходзіць на магілы продкаў, рабіць падарункі, наведваць сяброў, арганізоўваць урачыстую трапезу.

КУРЧЭ́ЎСКІ (Kurczewski) Ян (1854, в. Данюшава Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. — 30.7.1917) — гісторык рымска-каталіцкай царквы, каталіцкі рэлігійны дзеяч. Магістр тэалогіі (1881). Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, Пецярбургскую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію (1881). Пасвячоны ў ксяндза (1881), выкладаў Закон Божы ў 2-й Віленскай гімназіі. За процідзеянне ўжыванню богаслужэбных кніг на рус. мове звольнены з гімназіі. З 1886 настаяцель у в. Кемелішкі (цяпер у Астравецкім р-не), з 1889 у касцёле св. Якуба ў Вільні, пазней займаў духоўныя пасады ў курыі (кіраўнічым органе пры біскупе) Віленскага біскупства. З 1911 займаўся навук. дзейнасцю. Член Віленскага т-ва сяброў навук. Супрацоўнічаў з варшаўскай «Падручнай касцельнай энцыклапедыяй». Аўтар кніг пропаведзей, гіст. прац. У сваіх даследаваннях абапіраўся на першакрыніцы, што надае ім значную каштоўнасць. 2 гал. працы прысвечаны гісторыі Віленскага біскупства і замкавага касцёла ў Вільні.

*Тв.:* Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912; Kościół zamkowy, czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. T. 1—3. Wilno, 1908—16. *І.І.Трацяк.*

КУЦЕ́ІНСКАЯ ДРУКА́РНЯ — цэнтр беларускага кірылічнага кнігадрукавання ў 17 ст. Дзейнічала ў 1630—54 пры *Аршанскім Куцеінскім Богаяўленскім манастыры*. Засн. С.Собалем, які да 1632 яе ўзначальваў. Пасля ад'езду Собаля 4 гады не працавала. Потым друкарню ўзначаліў ігумен І.Труцэвіч. Карысталася падтрымкай магілёўскага і аршанскага мяшчанства, выдавала навук.-асветніцкую, царк.-палемічную і свецкую літаратуру на царк.-слав. і старабел. мовах. У ёй выдадзены «Брашна духоўнае» (1630), «Малітваслоў», «Буквар» (абодва 1631), «Часаслоў», «Новы запавет і Псалтыр», часткова дадрукаваны кіеўскі «Апостал» (усе 1632). З 1636 выдала яшчэ 14 кніг: «На ойча наш выклад» Іаана Златавуста» (1636), «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» і «Дзідаскалія...» С.Косава (абедзве 1637), «Псалтыр» (1642), «Актоіх Іаана Дамаскіна» (1646), «Трэфалагіён» (1647), «Дыоптра» (1651), «Лексікон...» П.Бярынды (1653) і інш. Усяго ў ёй выдадзена 20 кніг. Выданні вылучаліся своеасаблівым графічным афармленнем. Яны распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, у Літве, Расіі. У 1655 друкарскае абсталяванне перавезена ў Іверскі Валдайскі манастыр пад Ноўгарадам, у 1665 — у Васкрасенскі манастыр пад Масквой, у 1676 — на Друкарскі двор (Масква).

*Літ.:* З е р н о в а А.С., Г о р б у н о в Т.С. Книгопечатание в Белоруссии XVI — XVII вв. // 400 лет русского книгопечатания, 1564—1964. М., 1964. Т. 1. *Ю.М.Лаўрык.*

КУЦЕ́ІНСКІ БОГАЯЎЛЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р — помнік архітэктуры барока. Засн. ў 1623 як правасл. мужчынскі манастыр. Размешчаны ў Куцейне — паўн.-зах. ускраіне г. Орша ў сутоках Дняпра і Куцеінкі. Складаўся з гал. Богаяўленскага сабора, Свята-Духаўскай царквы, званіцы, манастырскіх і гасп. пабудоў. Быў абнесены агароджай з бутавага каменю і цэглы. Драўляны Богаяўленскі сабор, пабудаваны ў 1623—35; згарэў у 1888. У 1630 бел. асветнік і кнігадрукар Спірыдон Собаль засн. пры манастыры *Куцеінскую друкарню*. Захаваліся Свята-Духаўская царква (узведзена ў 1-й палавіне 17 ст.), манастырскі будынак, частка сцяны. *Т.В.Габрусь.*

КУЦЕ́ІНСКІ УСПЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 17—20 ст. Заснаваны як жаночы манастыр у 1631 Багданам Сцянкевічам у Куцейне на паўд.-зах. ускраіне г. Орша. У комплекс уваходзіла некалькі драўляных цэркваў, жылыя і гасп. пабудовы. Гал. драўляны сабор згарэў у 1635. Пабудаваны ў 1655 мураваны Успенскі сабор меў рысы стылю барока. Крыжова-купальны 3-апсідны храм. Асн. неф і крылы трансепта былі накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Сярэдкрыжжа ўвенчана 8-гранным глухім барабанам і масіўным грушападобным купалам з галоўкай. Сцены ўпрыгожаны прафіляванымі карнізамі, пілястрамі на вуглах. Вокны высокія з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Франтоны завершаны галоўкамі і аздоблены патройнымі плоскімі арачнымі нішамі. У 1658 куцеінскія манахіні пераведзены ў новаадчынены Уваскрасенскі манастыр у Смаленску. Ёсць звесткі, што з Куцейна былі і першыя насельніцы Новадзявочага манастыра ў Маскве. У 1842 манастыр прылічаны да 1-га класа. Зачынены ў 1918, будынкі не захаваліся. *Т.В.Габрусь, А.А.Ярашэвіч.*

КЦІ́ТАР (грэч. ktitor, літаральна — заснавальнік, стваральнік) — асоба, на сродкі якой пабудаваны або нанава ўбраны (абразамі, фрэскамі) праваслаўны храм. Выявы К., у тым ліку партрэтныя, пашыраны ў сярэдневяковым мастацтве. З 17—18 ст. К. называлі царк. стараст.

# Л

ЛА́ДАН (ад грэч. ladanon) — пахучая смала, што выдзяляецца некаторымі раслінамі сямействаў ладаннікавых і бурзеравых. Атрымліваюць падсочкай пераважна ладаннага дрэва і басвеліі свяшчэннай (Усходняя Афрыка і паўднёва-заходняя частка Аравійскага паўвострава). Са стараж. часоў выкарыстоўваўся ў розных культах для выкурвання злых духаў, курэння фіміяма багам і інш. У хрысціянстве скарыстоўваюць для каджэння падчас богаслужэння.

ЛАЗІ́НСКІ (Loziński) Зыгмунт (5.6.1870, в. Барацін каля Навагрудка — 26.3.1932) — рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Беларусі. Скончыў гімназію ў Пецярбургу (1889) і Пецярбургскую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію, дзе потым выкладаў Свяшчэннае Пісанне і гамілетыку. У 1895 пасвячоны ў ксяндзы. З-за канфлікту з царк. уладамі двойчы (1898—1900 і 1905) быў адхілены ад пасады. У 1905—09 зноў прафесар духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, з 1908 — адначасова ў семінарыі. У 1915—16 капелан у лагеры для інтэрніраваных нямецкіх і аўстра-венгерскіх грамадзян. 2.11.1917 прызначаны біскупам аднаўленай Мінскай дыяцэзіі (епархіі), з 14.8.1918 заняў кафедру. 6.12.1918 разам з Ф.*Абрантовічам* правёў першае ў Мінску богаслужэнне на бел. мове, быў арганізатарам бел. каталіцкай семінарыі ў Мінску, якая пазней пераехала ў Навагрудак, а потым у Пінск. У 1921 арыштаваны, потым выехаў у Заходнюю Беларусь, з 2.12.1925 біскуп Пінскай дыяцэзіі. Спрыяў усталяванню бел. мовы ў касцёлах. Аўтар шэрагу брашур і артыкулаў на польскай мове.

*І.Г.Ганчарук.*

ЛАМПА́ДА — невялікая пасудзіна з кнотам, у якую наліты алей. Л. ставяць на *горным месцы*, на прастоле, на ахвярніку, а таксама каля абразоў. Каля асабліва шануемых абразоў запальваюць некалькі Л.

ЛАСІ́ЦКІ (Lasicki) Ян (каля 1534, в. Ласіцы Сахачоўскага пав. Раўскага ваяв., Польшча — пасля 1599) — польскі гісторык, бібліёграф, рэлігійны пісьменнік. Паходзіў з дробнай мазавецкай шляхты. Кальвініст. У 1556—61 вучыўся ў гімназіях і ун-тах Страсбурга, Жэневы, Лазаны, Цюрыха, Падуі, вандраваў па Швейцарыі, Францыі, Нідэрландах, Англіі. Напісаў шэраг прац па гісторыі рэлігіі, пра часы панавання Стафана Баторыя, нарыс гісторыі Францыі і інш. У 1581 вярнуўся ў Рэч Паспалітую і паступіў на службу да кашталяна мінскага Я.Я.Глябовіча выхавацелем яго дзяцей, жыў у Вільні і Заслаўі. У 1582 выдаў у Шпаеры (Германія) зборнік прац розных аўтараў «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татар» (назва запазычана з трактата П.Одэрборна), у які ўвайшоў і яго арыгінальны твор, дзе апісаў нар. адзенне, стравы і абрады беларусаў, архітэктуру Вільні, Полацка, бел. вёсак; крытычна ставіўся да перажыткаў язычніцтва, забабонаў, неадукаванас-



**З.Лазінскі.**

ці насельніцтва ВКЛ. У рэліг. палеміцы выступаў як супраць каталіцкай рэакцыі (у 1584 бараніў А.Волана ад П.Скаргі), так і супраць радыкальных пратэстанцкіх плыней (асуджаў антытрынітарыяў, Ф.Социна). Апошнія звесткі пра Л. паходзяць з Заслаўя (ліп. 1599). Пасмяротна выйшаў яго твор «Пра багоў жамойтаў, іншых сарматаў і несапраўдных хрысціян» (Базель, 1615) — першы сістэматычны выклад язычніцкіх вераванняў балтаў.

*Літ.:* Издано в 1582 г. // Белорусский «экватор». 2 изд. Мн. 1988; B a r y c z H. Jan Jasicki: Studium z dziej ów polskiej kultyry naukowej XVI w. Wroclaw etc., 1973. *А.Белы.*

ЛА́ЎРЫШАЎСКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ — беларускі рукапісны помнік 1-й паловы 14 ст. Напісана для *Лаўрышаўскага манастыра* ўставам на пергаменце царк.-слав. мовай. Тэкст размешчаны ў 2 калонкі. Мае 374 нумараваныя старонкі. Змяшчае кананічны тэкст 4 евангельскіх кніг *Новага запавету*, што ўзыходзіць да стараж.-рус. традыцыі, дастасаваны да царк. службы (т.зв. апракас). Мае 14 разгорнутых запісаў 14—16 ст. пра ўклады ў манастыр землямі, дваровымі людзьмі, збожжам, грашамі з упамінаннем мясц. прозвішчаў і геагр. пунктаў. Укладныя запісы перамяжоўваюцца ўстаўкамі на старабел. мове і маюць сціслыя каментарыі 16—17 ст. на бел. і польскай мовах. Кніга аздоблена вялікай колькасцю па-мастацку выкананых ініцыялаў у тэраталагічным стылі і 19 мініяцюрамі на евангельскія сюжэты, некаторыя — складаныя шматфігурныя кампазіцыі. Пераплёт зроблены з дошак, абцягнутых аксамітам. На пераплёце замацаваны адзін з самых стараж. бел. *абкладаў*. На верхняй вокладцы — 4 навугольнікі з бірузой. Іх краі аздоблены суцэльным карункавым арнаментам. У цэнтры абклада на сярэбранай пласціне выява святога з дзідаю і шчытом. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў вобразе святога ўвасоблены заснавальнік Лаўрышаўскага манастыра князь *Войшалк*, на думку інш. даследчыкаў — гэта Дзмітрый Салунскі. Сярэднік на ніжняй вокладцы — пазалочаны крыж-распяцце. Кніга рэстаўрыравана ў 1887. Захоўваецца ў б-цы імя Чартарыйскіх у Кракаве.


**Лаўрышаўскае евангелле**. Пераплёт з абкладам. 16 ст.

*Літ.:* Щ а п о в Я.Н. Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. М., 1976. С. 78—85; С в е н т и ц к и й И.С. Лаврашевское Евангелие начала XIV в.: (Палеогр.-граммат. описание) // Изв. отд. Рус. яз. и словесности имп. Академии наук. СПб., 1913. Т. 18, кн. 1. *А.М.Пяткевіч.*

ЛА́ЎРЫШАЎСКІ МАНАСТЫ́Р — адзін з найбольш старажытных манастыроў Беларусі. Існаваў у в. Лаўрышаў каля Навагрудка у 13—19 ст. Згадваецца ў летапісах ВКЛ, «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага, у працах правасл., уніяцкіх і каталіцкіх гісторыкаў 17 ст. Паводле летапісных крыніц, засн. ў 13 ст. вял. кн. ВКЛ Войшалкам (у манастве Лаўрыш), ад яго імя атрымалі сваю назву манастыр і вёска. (Паводле царк. версіі заснавальнікам манастыра лічыцца прападобны *Елісей Лаўрышаўскі*, якому ў 1996 у Лаўрышаве адкрыты помнік). На думку М.Ермаловіча і С.Думіна, манастыр засн. як апора правасл. хрысціянізацыі гіст. Літвы. У 13 ст. быў адным з цэнтраў летапісання Беларусі. Каля 1329 тут створана *Лаўрышаўскае евангелле*. У 14—15 ст. манастыр атрымаў ад Хадкевічаў, Храптовічаў і мясц. шляхты значныя падараванні ў выглядзе ворных зямель, сенажацей, вадаёмаў, вёсак з сялянамі, права збору царк. дзесяціны. У 16 ст. пры манастыры дзейнічала правасл. школа. У 1596 манастыр стаў уніяцкім, з 1615 належаў *базыльянам*. У 1621 і 1623 тут праходзілі базыльянскія *кангрэгацыі*, на якіх выпрацоўваліся арганізац. асновы ордэна, царк. палітыка. У сувязі са скасаваннем у Лаўрышаве архімандрыі і падпарадкаваннем Л.м. разам з уладаннямі Навагрудскаму манастыру, а таксама з адабраннем падараванняў свецкімі асобамі манастыр у сярэдзіне — 2-й палавіне 17 ст. збяднеў і заняпаў. Пытанне пра аднаўленне архімандрыі абмяркоўвалася на Віленскай (1636), Навагрудскай (1671), Жыровіцкай (1675) і Бельскай (1709) кангрэгацыях базыльян. У канцы 18 — 1-й трэці 19 ст. тут дзейнічала Брэсцкая епархіяльная уніяцкая семінарыя, была б-ка (каля 500 тамоў, 1824) і архіў з вял. зборам дакументаў 14—19 ст. Пры царкве існавала брацтва. Манастырскі комплекс адбудаваны ў 1775—80. Ён складаўся з драўлянай званіцы, кляштара, царквы і невял. мураванай пабудовы, дзе знаходзіліся б-ка і склад. У 1816 манастыр ва-

лодаў 3 вёскамі (Лаўрышаў, Лычыцы і Купіск). У 1824 у манастыры было 5 манахаў. У 1834 — 36 Л.м. скасаваны. Яго збудаванні не зберагліся. Інвентары манастыра канца 18 — пач. 19 ст. захоўваюцца ў рукапісным аддзеле б-кі Вільнюскага універсітэта. *С.В.Марозава.*

ЛАЎРЭ́НЦІЙ ТУ́РАЎСКІ (каля 1113 — пасля 1190) — беларускі святы, пустэльнік, тураўскі епіскап. Нарадзіўся ў г. Тураў ці ў яго ваколіцах. У 2-й палавіне 12 ст. звярнуўся да ігумена Кіеўскай Лаўры, каб той блаславіў яго на пустэльніцтва, але атрымаў адмову. Накіраваўся для пустэльніцтва ў манастыр св. Вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Пазней пустэльнічаў у Пячэрскай Лаўры. Вызначаўся дарам цудатворнага вылячэння цялесных і душэўных хвароб. З пач. 1180-х г. стаў наступнікам *Кірылы Тураўскага* і ўзначаліў Тураўскую кафедру. Дабраахвотна ці па прымусу адмовіўся ад свяціцельскага сану і зноў пустэльнічаў у манастыры св. вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага. Пахаваны ў Кіеўскіх пячорах. Адразу пасля смерці стаў ушаноўвацца. Уваходзіць у *Сабор Беларускіх Святых.*

ЛЕБЕНЗО́Н Аўраам Бер (Abraham — Dop-Ben-Ha — Kohen; 1787, каля Вільні — 1878) — яўрэйскі паэт і тлумачальнік Бібліі. Адукацыю атрымаў у віленскіх яўрэйскіх вучылішчах. Скончыў курс яўрэйскага вучылішча ў Міхалішках на Віленшчыне, працягваў вывучэнне кабалістыкі і філасофіі рэлігій, а таксама еўрап. моў, гісторыі, геаграфіі, матэматыкі і славесных навук. З 1808 яўрэйскі духоўны суддзя ў Ашмянах, адначасова вучыў яўрэйскіх дзяцей. Пакінуўшы Ашмяны, пачаў выдаваць Біблію ў Мендэльсонаўскім нямецкім перакладзе з уласнымі каментарыямі. У 1848—64 працаваў настаўнікам яўрэйскай і халдзейскай моў пры Віленскім рабінаўскім вучылішчы. З 1864 займаўся выключна навук. і літ. дзейнасцю: пісаў вершы на стараж.-яўрэйскай мове. У першым зборніку (1842) пераважалі лірычныя і дыдактычныя вершы, у некаторых крытыкавалася тагачаснае яўрэйства. Гэтыя вершы на «свяшчэннай мове» выклікалі абурэнне вучоных рабінаў, кнізе абвешчаны «херэм» (анафема), і яна была ўрачыста спалена. У 1849—53 у Вільні выйшлі яго экзегетычныя працы, у 1858 — новае тлумачэнне да некаторых кніг Бібліі, у 1867 — драма «Праўда і Вера». З нагоды каранацыі імператара Аляксандра II напісаў малітву, за што атрымаў брыльянтавы пярсцёнак, а ў 1861 сярэбраны медаль на станіслаўскай стужцы. Л. распаўсюджваў сярод аднаверцаў яўрэйскую культуру, узначальваў гурток, які адкрыў у Вільні першую рэфармаваную сінагогу. Яго экзегетычныя працы садзейнічалі пашырэнню сярод яўрэяў разважлівага разумення біблейскага тэксту. Пазней вершы Л. атрымалі агульнае прызнанне сярод яўрэяў, бо ажыўлялі стараж.-яўрэйскую мову. Памёр у Вільні.

ЛЕПЯШЫ́НСКІ Васіль Іванавіч (1828, г.п. Хоцімск Магілёўскай вобл. — 1891) беларускі рэлігійны праваслаўны дзеяч, асветнік. Вучыўся ў Мсціслаўскім духоўным вучылішчы і Магілёўскай духоўнай семінарыі. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію ў 1857 са ступенню магістра. Пасля заканчэння семінарыі выкладаў у Мсціслаўскім, з 1850 — у Гомельскім духоўных вучылішчах. Працаваў настаўнікам Магілёўскага духоўнага вучылішча, потым Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1860 узведзены ў сан свяшчэнніка Магілёўскага кафедральнага сабора. З 1864 член дырэкцыі народных вучылішчаў Магілёўскай губ., з 1878 рэвізаваў духоўныя вучылішчы гэтай губерніі. З 1884 рэктар Пермскай духоўнай семінарыі. Быў вядомы як выдатны прапаведнік. Частка яго пропаведзяў надрукавана ў 1882 у Магілёве.

ЛЁС — у міфалогіі, ірацыяналістычных філасофскіх сістэмах, паўсядзённым усведамленні незразумелая, недаступная розуму, загадкавая прадвызначанасць падзей і ўчынкаў. У старажытнагрэч. міфалогіі ўвасаблялася ў вобразах Мойраў (трох багінь Л.); стараж. рымляне называлі іх Паркамі і верылі ў няўхільную прадвызначанасць, фатальнасць усяго, што адбываецца з чалавекам. У



**Лаўрэнцій Тураўскі.**



А.Я.**Лісоўскі.** Партрэт работы І.Хруцкага.

хрысціянстве і інш. рэлігіях Л. выступае ў выглядзе боскага *прадвызначэння.* Некаторыя рэліг. кірункі (каталіцызм, праваслаўе) імкнуцца паслабіць фатальнасць уяўленняў аб Л. пры дапамозе эклектычнага спалучэння ідэі боскага прадвызначэння і свабоды волі асобы. Вера ў Л. стала перадумовай узнікнення астралогіі. У канцы 19 ст. паняцце Л. мела пашырэнне ў філасофіі жыцця. У звычайным жыцці Л. азначае долю, жыццёвы шлях, збег абставін.

ЛІ́ДСКІ ПІЯ́РСКІ КАЛЕ́ГІУМ. Існаваў у 1756—1834 у г. Ліда Гродзенскай вобл. *Піяры* з'явіліся ў Лідскім пав. ў 1-й трэці 18 ст. Іх калегіум напачатку быў утвораны ў 1735 у мястэчку Воранава (цяпер у Гродзенскай вобл.) на сродкі смаленскага кашталяна Я.Сцыпіёна дэль Кампа і яго сына Юзафа (50 тыс. злотых і фальварак Лапацызна з вёскай Вільканцы). У 1756 па прапанове лідскага старосты І.Сцыпіёна пераведзены ў Ліду. Мясцовая шляхта ахвяравала піярам фальварак Пастаўшчызна і юрыдыку ў Лідзе. З 1783 калегіум уваходзіў у Гродзенскую навуч. акругу, з 1790 — у Піярскую навуч. акругу, падпарадкаваную Адукацыйнай камісіі. У 1783 тут вучыліся ў трох класах 90 чалавек, у 1787—62, у 1790—50. У апошняй чвэрці 18 ст. фінансавае становішча калегіума пагоршылася, што выклікала скарачэнне колькасці вучняў. Пры калегіуме былі 2 пансіёны для дзяцей збяднелай шляхты. Пасля ўключэння Лідскага пав. ў Рас. імперыю (1795) падначалены ведамству літоўскага ген.-губернатара. З 1803 у складзе Віленскай навуч. акругі як 4-класнае павятовае вучылішча з 5 выкладчыкамі. У 1805—07 часова закрыты. У 1803 было 56 вучняў, у 1807—44, у 1810—42, у 1817—46, у 1820—18, у 1828—55, у 1829—59. У 1817 калегіум наведаў з рэвізіяй папячыцель Віленскай навуч. акругі кн. А.Чартарыйскі, які застаўся задаволены станам навуч. справы і поспехамі вучняў. У выніку рэформы мясцовых навуч. установ 9.9.1834 Л.п.к. канфіскаваны ў піяраў і рэарганізаваны ў 5-класнае дваранскае павятовае вучылішча.

*А.Ф.Самусік.*

ЛІСО́ЎСКІ Адам Язэпавіч (18.1.1884, в. Каранды Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. — 9.10.1929) — беларускі рэлігійны дзеяч, рымска-каталіцкі святар. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, Пецярбургскую духоўную каталіцкую акадэмію (1906). Удасканальваў веды ў Інсбруку (Аўстрыя, 1908—09) і Мюнхене (1909—10). Займаў духоўныя пасады ў прыходах Беларусі і Расіі. Быў блізка знаёмы з Б.*Эпімахам-Шыпілам* і адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі (архіепархіі) біскупам С.*Данісевічам.* Спрыяў усталяванню бел. мовы ў касцёльным жыцці. Падрыхтаваў да з'езда бел. ксяндзоў у Мінску (1917) рэферат «Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцёльнага, а таксама да акцыі каталіцкай у Беларусі» (зачытаў А.*Станкевіч*). У 1917—22 служыў у касцёлах Міншчыны. У 1922 за выступленне супраць канфіскацыі касцёльнай маёмасці прыгавораны да смяротнага пакарання (заменена на 5 гадоў зняволення). У 1925 вызвалены ў выніку савецка-польскага абмену вязнямі; канонік Пінскага капітула, *пробашч.* Пераклаў на бел. мову кнігі Новага Запавету: Адкрыццё Іаана (Апакаліпсіс), Дзеянні Апосталаў, Лісты св. Паўла да рымлян, да галатаў, Першы і Другі лісты да карынфян.

*І.І.Трацяк.*

ЛІСО́ЎСКІ Іраклій (свецкае імя Іосіф; 1734, б. Полацкае ваяв. — 11.9.1809) — уніяцкі царкоўны дзеяч. З бел. шляхецкага роду герба «Вожык». Вучыўся ў школе пры кляштары дамініканцаў ва Ушачах (Полацкае ваяв.), там уступіў у ордэн *базыльян.* Ігумен Полацкага манастыра пры Сафійскім саборы. З 1778 архімандрыт Ануфрыеўскага манастыра (Мсціслаўскае ваяв.). З 1780 член кансісторыі Полацкай уніяцкай епархіі. У 1784—1809 полацкі епіскап. З 1795 пасля скасавання уніяцкіх епархій (акрамя Полацкай) фактычны кіраўнік усіх грэка-католікаў Рас. імперыі. У 1806—09 мітрапаліт кіеўскі (не зацверджаны папам рымскім). У царк. жыцці ў процівагу базыльянам абапіраўся на белае духавенства, вылучаў яго на кіруючыя пасады. У 1785 падпарадкаваў сваёй уладзе базыльянскія манастыры Полацкай епархіі, у 1798 забараніў агульныя капітулы (з'езды) ордэна. У 1805 спрыяў выданню загаду Пецярбургскай рымска-каталіцкай калегіі пра ска-

саванне 54 базыльянскіх манастыроў. Садзейнічаў стварэнню Гал. семінарыі пры Віленскім ун-це (1803), адкрыў *Віцебскую духоўную семінарыю* (1806). Быў прыхільнікам ачышчэння абраднасці ад лац. запазычанняў. Склаў і паслаў у Рым на зацвярджэнне службоўнік з паралельнымі царк.-слав. і лац. тэкстамі. Дамогся ад імператара Аляксандра І стварэння ўнутры рымска-каталіцкай калегіі асобнага дэпартамента для уніятаў (1805), старшынёй якога стаў сам. Садзейнічаў выданню царскага дазволу для уніятаў, якія прынялі лац. абрад, вярнуцца да папярэдняга веравызнання. Ва ўнутрыцарк. барацьбе абапіраўся на падтрымку дзярж. улад. У 1795 забараніў уніяцкім святарам процідзейнічаць схіленню (часам гвалтоўнаму) сваіх вернікаў у праваслаўе. Курс Л. на збліжэнне грэка-каталіцкай царквы з уладамі і правасл. царквой працягвалі ў 1820—30-я г. уніяцкія царк. дзеячы А.*Зубко*, І.Красоўскі, В.Лужынскі, І.*Сямашка* і інш. *С.В.Казуля.*



І.Лісоўскі.

«ЛИТÓВСКИЕ ЕПАРХИÁЛЬНЫЕ ВÉДОМОСТИ» — часопіс, орган Літоўскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі, выдаваўся ў 1863—1917 у Вільні на рус. мове штотыднёва (да 1873 раз у 2 тыдні). У 1870—1902 яго рэдактарам быў пратаіерэй І.*Катовіч* (рэдактарамі звычайна былі рэктары або інспектары *Літоўскай духоўнай семінарыі*). Часопіс прызначаўся для *Літоўскай праваслаўнай епархіі*. Меў афіц. і неафіц. аддзелы. У афіц. аддзеле друкаваліся пастановы і распараджэнні ўрада і мясц. улад па царк. справах, рашэнні і справаздачы Сінода, аб'явы і распараджэнні ўрада і мясц. улад па царк. справах, рашэнні і справаздачы Сінода, аб'явы і распараджэнні Літоўскай духоўнай кансісторыі. У неафіц. частцы друкаваліся матэрыялы па гісторыі правасл. царквы Беларусі, гісторыі асобных храмаў і манастыроў, нарысы пра царк. дзеячаў, у тым ліку артыкулы пра Жыровіцкі манастыр і цудатворны абраз Маці Божай (1863), пра ролю правасл. духавенства Літоўскай епархіі ў паўстанні 1863—64 (1863), «Смута ва уніяцкім асяроддзі ў Беларусі ў 1802—1803 гг.» М.Каяловіча (1874), «Духоўны суд у Заходняй Русі ў 16 ст.», «Лёсы рэлігійна-царкоўнага жыцця ў Заходняй Русі і Літве» Р.*Кіпрыяновіча* (1878) і інш. Публікаваліся рэцэнзіі на творы, што тычыліся канфесійнай гісторыі Беларусі: на працы М.Ізвекава «Гістарычны нарыс стану праваслаўнай царквы ў Літоўскай епархіі за час з 1839—1889 г.» (1899), І.Чыстовіча «Нарыс гісторыі заходнярускай царквы» (ч. 1—2, 1882—84), Р.Кіпрыяновіча «Гістарычны нарыс праваслаўя, каталіцтва і уніі ў Беларусі і Літве са старажытнага да нашага часу» (1895) і інш. З 1907 неафіц. частку замяніў «Вестник Виленского православного Св.-Духовского братства». *В.В.Грыгор'ева.*

ЛІТÓЎСКАЯ ДУХÓЎНАЯ СЕМІНÁРЫЯ — сярэдняя рэлігійная навучальная ўстанова ў 1828—45 у мястэчку Жыровічы Гродзенскай вобл. Знаходзілася ў *Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыры*. Створана на аснове павятовага вучылішча па ініцыятыве члена уніяцкага дэпартамента Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі Іосіфа *Сямашкі*, які меў намер падрыхтаваць у семінарыі новых святароў, якія б падтрымалі збліжэнне, а потым і аб'яднанне з правасл. царквой. Рэктарам семінарыі прызначаны А.*Зубко*, інспектарам — настаяцель манастыра архімандрыт *Міхаіл* (Галубовіч). Вучэбныя планы былі набліжаныя да ўзору Пецярбургскай семінарыі, унутраны распарадак яе жыцця адпавядаў правілам каталіцкіх духоўных школ. Лепшых студэнтаў накіроўвалі ў Пецярбургскую і Маскоўскую духоўныя акадэміі для набыцця вышэйшай адукацыі. Семінарыя стала цэнтрам па падрыхтоўцы да скасавання *Брэсцкай уніі 1596*. У 1835—36 больш за 200 святароў наведалі Жыровічы з прапановамі аб'яднання з правасл. царквой. Пасля скасавання уніі *Полацкім царкоўным саборам 1839* семінарыя стала праваслаўнай. У 1845 пераведзена ў Вільню, дзе пераўтворана ў Віленскую духоўную семінарыю. У Жыровічах створана Жыровіцкае духоўнае вучылішча, якое праіснавала да 1915 (у 1-ю сусв. вайну эвакуіравана). *А.В.Кароль.*

ЛІТО́ЎСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — кананічная частка Рус. праваслаўнай царквы ў 1839—1922, утвораная замест Літоўскай уніяцкай епархіі пасля скасавання грэка-каталіцкай царквы указам Сената 23.6.1839. У 1840 прылічана да 2-га класа правасл. епархій (атрымала клас архіепіскапіі). У 1840—42 у ёй адбыліся змены, у выніку якіх у Л.п.е. ўвайшлі 447 прыходаў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губ. з амаль 700 тыс. прыхаджан. Да 1845 епіскапская кафедра знаходзілася ў мястэчку Жыровічы (цяпер вёска ў Слонімскім р-не Гродзенскай вобл.), з 1845 — у Вільні. На тэр. епархіі дзейнічалі 11 манастыроў (9 мужчынскіх і 2 жаночыя), Літоўская духоўная семінарыя. У 1890 Л.п.е. мела 506 прыходскіх цэркваў, 1 160 300 вернікаў, у 1007 царк. школах навучалася 20 268 чалавек. Сярод свяшчэнна- і царкоўнаслужыцеляў было 26 протаіерэяў, 538 святароў і 38 протадыяканаў, дыяканаў і паддыяканаў, 592 псаломшчыкі, дзякі, пеўчыя, званары, вартаўнікі. У 1900 тэр. Гродзенскай губ. выдзелена ў асобную *Гродзенскую праваслаўную епархію*. У выніку плошча Л.п.е. скарацілася, стала менш храмаў, духавенства і вернікаў. На 1912 у епархіі было 5 сабораў, 200 прыходскіх, 65 прыпісных, 26 дамовых цэркваў, а таксама 103 царквы на могілках і 58 капліц. У 1913 на тэр. епархіі дзейнічалі духоўная семінарыя, віленскія духоўнае вучылішча, жаночае вучылішча духоўнага ведамства, Марыінскае епархіяльнае жаночае вучылішча. Да 1917 выдаваліся *«Литовские епархиальные ведомости»*. У 1922 пры абвяшчэнні аўтакефаліі Польскай правасл. царквы на тэр. Зах. Беларусі, Зах. Украіны і Сярэдняй Літвы створаны новыя епархіі. Л.п.е. пераўтворана ў Віленскую епархію. Архірэі, якія кіравалі епархіяй, мелі тытул архіепіскапа літоўскага і віленскага. Імі былі Іосіф (*Сямашка*, 1839—68, з 1852 мітрапаліт), *Макарый* (Булгакаў, 1868—79), Аляксандр (Дабрынін, 1879—85), Алексій (Платонаў, 1885—90), Данат (Бабінскі, 1890—94), Іеранім (Экзэмплярскі, 1894—98), Ювеналій (Папоўцаў, з 1898), Ціхан (В.І.Бялавін, 1914—17). *В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава.*

ЛІТУРГІ́ЧНЫЯ КНІ́ГІ, богаслужэбныя кнігі — выданні, якімі карыстаюцца хрысціянскія канфесіі ў час богаслужэння. Падзяляюцца на кнігі для прыватнага богаслужэння (пры хрэсьбінах, шлюбе, адпяванні) і кнігі для грамадскага богаслужэння ў храмах.

У праваслаўі да першай катэгорыі належыць Трэбнік, да другой — Служэбнік, Часаслоў (Часоўнік), Актоіх, Трыодзі (посная і цвятная), Мінеі (месячная і агульная), Стыхірары, Ірмалогіі і інш. Біблейскія кнігі Апостал, Евангелле, Псалтыр выкарыстоўваюцца і для грамадскага і для прыватнага богаслужэння. Перакладзены на царк.-слав. мову з грэчаскай. У 11 — 1-й палавіне 18 ст. ў правасл. царкве на Беларусі дзейнічаў Статут канстанцінопальскіх храмаў — Тыпікон, які прадугледжваў комплекс кніг, якія бяруць пачатак ад кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі: Евангелле, Апостал, Псалтыр, Парамійнік, Эўхалагіён (служэбнік і трэбнік), спеўныя зборнікі і інш. У 15 ст. асн. рэгулятарам Л.к. стаў Ерусалімскі Статут, паводле якога Л.к. чытаюцца ў час набажэнстваў і цяпер.

Ва уніяцкай царкве пасля *Брэсцкай уніі 1596* працягвалі карыстацца правасл. Л.к. Але ў Служэбнік на ўзор рымска-каталіцкіх імшалаў былі ўнесены пэўныя змены, якія закранулі парадак літургіі і таінстваў. 25.3.1994 Святая Кангрэгацыя Усходніх Цэркваў Ватыкана зацвердзіла бел. пераклады тэкстаў літургіі, таінстваў, абрадаў пахавання памерлых, службаў Часаслова, зробленыя ў пач. 1990-х г. у Лондане.

У рымска-каталіцкай царкве гал. Л.к. з'яўляецца імшал (missale), які адпавядае Служэбніку і змяшчае чын імшы (месы) каталіцкай літургіі. Поўны склад імшала пачаў ужывацца з 9 ст. У 1563 на Трыдэнцкім саборы прыняты новы імшал. Цяпер карыстаюцца рэдакцыяй 1634 Missale Romanum (Рымскі імшал). Сярод іншых Л.к.: літургічная кніга Breviarium (Брэвіярый), Rituale Romanum (адпаведнік Трэбніка), Antiphonarium (збор усіх спеваў). Да 2-га Ватыканскага сабора (1962—65) усе каталіцкія Л.к. выдаваліся на лац. мове. На бел. землях друкаванне імшалаў пачалося ў 17 ст. (у Вільні).

*Літ.:* Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII ст. Мн., 1993. *Н.В.Сазановіч.*

ЛІТУРГІ́Я (грэч. leiturgia) — 1) найбольш значнае богаслужэнне праваслаўнай царквы (у католікаў і пратэстантаў называецца *меса*, імша). Праводзіцца звычайна ў перадабедзенны час (адсюль другая назва — абедня). Рэліг. сэнс Л. — здзяйсненне таінства прычасця, ці *еўхарыстыі*. Паводле евангелляў, першая еўхарыстычная трапеза адбылася ў вялікі чацвер у час Тайнай вячэры Ісуса Хрыста з апосталамі. Большасць тэкстаў правасл. Л. нязменныя, у адрозненне ад заходняй традыцыі, дзе асн. іх частка мяняецца ў залежнасці ад канкрэтнага рэліг. свята. Гістарычна сфарміраваліся 3 асн. чыны Л.: блізкія паводле зместу Іаана Хрызастома, ці Златавуста (штодзённы) і Васіля Вялікага (святкуецца 10 разоў на год); папярэдне асвячоных дароў, ці Грыгорыя Дваяслова (у час вялікага посту і ў першыя 3 дні Перадвелікоднага тыдня). Парадак іх правядзення выкладзены ў Служэбніку. Л. ўключае *праскамідыю* — спец. рытуальнае прыгатаванне «рэчыва для св. еўхарыстыі» з просвір і разбаўленага чырвонага віна; Л. апавешчаных для тых, хто рыхтуецца да хрышчэння, і тых, хто адлучаны ад прычасці і каецца ў грахах; Л. верных, на якой спачатку прысутнічалі толькі хрысціяне. Л. складаецца з чытання выбраных урыўкаў з Бібліі, малітваў, шэрагу сімвалічных дзеянняў і працэсій, песнапенняў.

Сутнасная і неад'емная частка Л. — псалмодыя, антыфонны і рэспансорны спеў. Да 16 ст. музыка Л. развівалася ў рэчышчы манадыйнай

традыцыі. Важнейшыя тэксты распяваліся ў традыц. знаменным, дзямественным, вялікім, малым, грэч. і інш. стылях. На Беларусі найб. пашыраны былі мелодыі т.зв. кіеўскага і балгарскага роспеваў, а таксама мясцовыя меладычныя варыянты (супрасльскія, віленскія, мірскія і інш.). У 17—18 ст. у музычным афармленні большую ролю адыгрывалі партэсныя кампазіцыі, якія паступова пачалі дамінаваць. Асобныя «херувімскія» і інш. кампазіцыі на тэксты Л. і цыклы т.зв. «службаў божых», аб'яднаныя адзінай аўтарскай задумай, стварылі М.Дылецкі, В.Цітоў, А.Ведаль, С.Давыдаў і інш. З канца 18 ст. важную ролю пачалі адыгрываць харавыя канцэрты a cappella, кампазіцыі досыць вольнай формы, якія выконваліся ў час Л. (Дз.Бартнянскі, М.Беразоўскі, С.Дзегцяроў, Ведаль і інш.). Росквіт правасл. музыкі канца 19 — пач. 20 ст. звязаны са стварэннем літургічных цыклаў П.Чайкоўскага, А.Грачанінава, А.Кастальскага, С.Рахманінава і інш. Да сярэдзіны 18 ст. традыц. чыны Л. — нязменная аснова літургічнай практыкі уніяцкай царквы Беларусі. Менавіта ў Л. — набажэнства, прызначанае для шырокіх колаў вернікаў, найб. актыўна ўводзіліся кампазіцыі ў новых музычных стылях. Захаваліся унікальныя помнікі уніяцкай музычнай традыцыі: «Херувік балгарскі» св. Іасафата *Кунцэвіча* (аднагалосая кампазіцыя страфічнай будовы; Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Нац. б-кі Рэспублікі Беларусь) і першы вядомы помнік шматгалосай партэснай кампазіцыі «Херувімская» з Супрасльскага ірмалоя 1639 (б-ка АН Літвы). У сучаснай бел. музыцы цыклы Л. стварылі М.Равенскі, М.Шчаглоў-Куліковіч, А.Хадоска, А.Залётнеў, А.Бандарэнка, Л.Шлег. 2) З 16 ст. ў каталіцкай тэалагічнай літаратуры тэрмін «Л.» абазначае сукупнасць афіц. богаслужэнняў і цырымоній.

*Літ.:* А р р а н ц М. Историческое развитие Божественной литургии. Л., 1978; Г е о р г и е в с к и й А.И. Чинопоследование Божественной литургии. Л., 1991; К а н д и н с к и й А. Литургия святого Иоанна Златоуста // Муз. академия. 1993. № 3; П р о т о п о п о в В. Музыка русской литургии: Пробл. цикличности // Там жа. 1996. № 3—4; 1997. № 1. *Т.У.Ліхач.*

ЛО́ВАН Стафан (Сцяпан) Рыгоравіч — беларускі атэіст і матэрыяліст 2-й паловы 16 ст. Працаваў земскім суддзёй у Мазырскім пав. У 1592 выкліканы («пазваны») у Гал. трыбунал ВКЛ па скарзе С.В.Лозкі (верагодна, мясц. шляхціц). У ранейшых гіст. публікацыях пра Л. лічылася, што гал. артыкулам яго абвінавачвання быў атэізм і матэрыялізм: «а ни Бога о тройци единого не толко абыверыл, але еще и именем Божим блюзниш, разумеючы и мовечи, же... и души в чоловеку, раю и пекла нет, и судного дня не будет и чоловек же, яко пес кровю албо бидле сходит, и штоколвек есть на свете, то все само пред себе...». Аднак дакумент, які мае назву «Позов одному русскому секты епикуровой» і адрасаваны Л. ад імя караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III, сведчыць, што Л. выклікаўся ў суд не за свае атэіст. і матэрыялістычныя перакананні, а за тое, што «ведле права и статуту» гэтыя перакананні не дазваляюць яму займаць дзярж. пасаду суддзі, на якой, як падкрэслівае кароль, павінен сядзець «чоловек хрестиански». Суд павінен быў вырашыць, ці мае права Л. займаць пасаду суддзі. У канцы 16 ст. ў ВКЛ светапогляд лічыўся прыватнай справай. Становішча рэзка змянілася ў 2-й палавіне 17 ст., калі атэізм стаў дзярж. злачынствам, пра што сведчыць трагедыя К.Лышчынскага. Далейшы лёс Л. невядомы. Хутчэй за ўсё, ён да канца жыцця заставаўся на сваёй пасадзе. Ёсць меркаванне, што Л. і Ян Лавейка, мазырскі маршалак, справа якога ў 1594 разглядалася ў судзе, адна і тая ж асоба, хоць Лавейка і не абвінавачваўся ў атэізме і матэрыялізме. Характэрна, што судовую справу ён выйграў і захаваў за сабою «маршалкоўскі ўрад» (пасаду).

*Літ.:* Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962. С. 92—99; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 100—103; П о д о к ш и н С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: Вторая половина XVI — нач. XVII в. Мн., 1970; Я г о ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990. *С.А.Падокшын.*

ЛО́СКАЯ ДРУКА́РНЯ. Існавала ў 2-й палавіне 16 ст. ў мяст. Лоск (цяпер в. ў Валожынскім р-не Мінскай вобл.). Была цэнтрам арыянскага кнігадрукавання ў ВКЛ. Заснавана магнатам-арыянінам Я.Кішкам, які ў 1572 выкупіў у братоў М. і Г. Кавячынскіх абсталяванне *Нясвіжскай друкарні* і размясціў яго ў сваім замку ў Лоску. У Л.д. выдаваліся кнігі на польскай і лац. мовах (вядома каля 20 выданняў). Тут працавалі друкары Д.Ланчыцкі (1573—74), Я.Карцан (1576—80), Ф.Баляморскі (1586—89?). Фактычна ідэйным кіраўніком друкарні ў 1570 — пач. 1580-х г. быў С.*Будны*, які адначасова з'яўляўся хатнім прапаведнікам у Кішкі. У ліку найб. значных выданняў Л.д. творы Буднага: «Новы запавет» (яго пераклад, прадмова і каментарыі), «Пра дзве сутнасці Хрыста», «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог-Айцец», «Супраць хрышчэння дзяцей» (усе 1574), «Пра свецкую ўладу» (1583). Сярод інш. выданняў — палемічныя творы М.Чаховіца, А.Волана, кнігі рэктара арыянскай школы ў Іўі Я.Л.Намыслоўскага, трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» (1576, пераклад С.Кашуцкага), Э.Варамунда Фрыза «Пра фурыі, або Вар'яцтвы французскія» (1576, пераклад С.Буднага; аб падзеях Варфаламееўскай ночы 1572). Асобнае месца ў дзейнасці Л.д. займае выданне вядомага твора А.Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577, пераклад Ц.Базыліка, прадмовы католіка М.Стрыйкоўскага, кальвініста Волана, арыяніна Буднага). Выданні Л.д. адметныя вострай палемічнай накіраванасцю, якая нярэдка выходзіла за межы тэалагічных праблем і ўздымала пытанні дзярж. і сац.



**Лука**. Фрагмент царскіх варот з Віцебскай Юр'еўскай царквы. 1690-я г.

перабудовы грамадства. Перастала існаваць з 1592 пасля смерці Кішкі. *Л.С.Іванова.*

ЛО́СКІ Мікалай Ануфрыевіч (6.12.1870, мяст. Краслаўка Віцебскай губ., цяпер г. Краслава Даўгаўпілскага пав., Латвія — 24.1.1965) — рэлігійны філосаф, заснавальнік інтуітывізму, прадстаўнік персаналізму ў Расіі. Паходзіў з бел. шляхецкага роду. Атрымаў адукацыю ў Пецярбургскім ун-це (1891—98), скончыўшы фізіка-матэм. і гісторыка-філалагічны ф-ты. Д-р філасофіі (1907). З 1900 прыват-дацэнт, з 1916 прафесар Пецярбургскага ун-та. У 1922 высланы за мяжу. Выкладаў ва ун-тах Прагі, Брно, Браціславы (да 1945). У 1946 пераехаў у ЗША, быў прафесарам філасофіі Свята-Уладзіміраўскай духоўнай акадэміі ў Нью-Йорку (1947—50). У аснову тэорыі пазнання Л. пакладзена сістэма т.зв. інтэгральнага інтуітывізму — любы прадмет пазнаецца шляхам розных відаў інтуіцыі (інтэлектуальнай, пачуццёвай, містычнай) у залежнасці ад характару аб'екта. У вучэнні аб быцці (анталогіі), якое ён называў «персаналістычным ідэал-рэалізмам», зыходзіў з таго, што свет складаецца з мноства субстанцый — звышпрасторавых і звышчасавых ідэальных асоб, «субстанцыянальных дзеячаў» (падобна паняццю манады Г.Лейбніца), якія звязаны паміж сабой, і звышсусветным пачаткам (Богам) і ўтвараюць вышэйшую сферу свету — Царства Божае, або Царства Духу; ніжэйшую сферу складае царства варожасці асоб, якія адпалі ад Царства Духу, пастаянная барацьба паміж імі і іх узаемавыцясненне прыводзяць да ўзнікнення з'явы матэрыяльнасці і няпраўды. У сваіх этычных працах Л. развіваў анталагічную тэорыю каштоўнасцей, паводле якой абсалютныя каштоўнасці ўвасоблены ў «паўнаце быцця», у Богу; грамадства, у якім знікаюць уяўленні аб вышэйшых каштоўнасцях і ідэалах, становіцца арэнай неўтаймаванага эгаізму і маральнага хаосу, што вядзе да ўзаемнага непаразумення і бязлітаснасці, росту злачыннасці, духоўнага збяднення ўнутр. свету асобы. На яго думку, у рамках маральнага прагрэсу, які падымае сусветныя істоты на больш высокія ступені дасканаласці, адбываецца і маральны рэгрэс — працэс аддалення ад Бога носьбітаў «сатанінскай прыроды», якія пад уплывам гордасці ненавідзяць Царства Божае; у гісторыі адбываецца рух «ад нуля» у бок абсалютнага дабра і адноснага зла, прамежкавых фаз на шляху прагрэсу да больш высокіх форм Боскага дабра і справядлівасці.

*Тв.:* Свобода воли. Париж, 1927; Избранное. М., 1991; Условия абсолютного добра. М., 1991; Учение о перевоплощении: Интуитивизм. М., 1992; Чувственная, интеллектуальная и мистическая интуиция. М., 1995.

*Літ.:* Старченко Н.Н. Мир, интуиция и человек в философии Н.О.Лосского. М., 1991; Короткая Т.И. В поисках новой рациональности: религиозная философия в России конца XIX — нач. XX в. Мн., 1994. *С.Ф.Дубянецкі.*

ЛУЖКО́ЎСКІ ПІЯ́РСКІ КАЛЕ́ГІУМ. Дзейнічаў у 1745—1832 у мяст. Лужкі Дзісенскага павета (цяпер Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобл.). *Піяры* былі запрошаны сюды ў 1741 уладальнікам мястэчка кашталянам полацкім Валерыянам Жабам (у яго гонар калегіум наз. Валерыянаўскім), які падараваў манахам фальварак Віснік (у 1832 — 13 вёсак і 330 сялян), адвёў месца для пабудовы кляштара, касцёла (узведзены ў 1744—56) і калегіума. Жонка Жабы ахвяравала на калегіум 1000 злотых. У канцы 1750-х г. навуч. сістэма калегіума рэарганізавана паводле рэформаў С.Канарскага. У апошняй чвэрці 18 ст. ў час дзейнасці Адукацыйнай камісіі калегіум уваходзіў з 1783 у Навагрудскую, з 1790 у Піярскую навуч. акругі. У 1782 у калегіуме былі 3 класы з тэрмінам навучання 6 гадоў, 4 выкладчыкі, 130 вучняў. Візітатары з Віленскай гал. школы адзначалі нездавальняючы ўзро-



**Лужкоўскі піярскі калегіум**. Міхайлаўскі касцёл.

вень адукацыі і нізкі стан дысцыпліны. Пасля далучэння Дзісенскага пав. да Рас. імперыі (1793) калегіум пераўтвораны ў павятовае 4-класнае вучылішча з 6-гадовым тэрмінам навучання (3-і і 4-ы класы мелі 2-гадовыя курсы). У 1807 тут вучылася 116 юнакоў. У вайну 1812 разрабаваны французамі. У пач. 1816 у вучылішчы адбыліся хваляванні, за непадпарадкаванне кіраўніцтву выключаны 47 вучняў са 113. У 1817 былі 144 выхаванцы. У 1825 рэарганізаваны ў звычайнае 4-класнае павятовае вучылішча. За ўдзел выкладчыкаў у паўстанні 1830—31 вучылішча 1.5.1832 скасавана, маёмасць піяраў канфіскавана. *А.Ф.Самусік.*

ЛУКА́ — паводле хрысціянскага падання, паслядоўнік апостала *Паўла*, па прафесіі ўрач. Паводле Яўсевія Кесарыйскага, магчыма, грэк. Царква прыпісвае яму аўтарства 3-га кананічнага Евангелля і новазапаветнай кн. «Дзеянні апосталаў», якія датуюцца 2 ст. Падарожнічаў з апосталам Паўлам у Рым.

ЛЫШЧЫ́НСКІ Казімір (4.3.1634, маёнтак Лышчыцы, цяпер вёска ў Брэсцкім р-не — 30.3.1689) — беларускі мысліцель, грамадска-палітычны дзеяч і педагог. Вучыўся ў езуіцкіх установах Брэста, Кракава, Каліша і Львова. З 1658 член ордэна езуітаў. Выкладчык, памочнік рэктара Брэсцкага езуіцкага калегіума. Пасля разрыву з езуітамі (1666) падсудак брэсцкага земскага суда. У 1687 езуіцкі агент Я.Бжоска выкраў у Л. яго рукапісны трактат «Аб неіснаванні Бога», на падставе якога Л. быў зняволены і прызнаны атэістам. Паводле прыгавору сеймавага суда ён абезгалоўлены і спалены на кастры ў Варшаве. Трактат Л. — арыгінальны філасофскі твор, у якім аўтар выступіў супраць рэліг. светаразумення і хрысц. рэлігіі, адкідаў біблейскую касмагонію, сцвярджаў, што прырода развіваецца па ўласных законах без умяшання звышнатуральных істот, а свет існуе вечна. Л. лічыў, што ўяўленні людзей пра Бога — вынік іх фантазіі і памылак, Стары і Новы запаветы — выдумка ашуканцаў Майсея і Хрыста, адмаўляў бессмяротнасць душы, Тройцы, замагільны свет, уваскрэсенне з мёртвых, крытыкаваў царк. мараль, лад жыцця духавенства, настойваў на замене царк. шлюбу грамадзянскім, адзін з першых на Беларусі прапагандыстаў ідэй утапічнага сацыялізму. Марыў аб сацыяльнай роўнасці і свабодзе, жадаў бачыць «свет без улады, гарады без начальнікаў, народ без гаспадароў». У 1957 польскі гісторык А.Навіцкі адшукаў некалькі фрагментаў з трактата, якія зберагаюцца ў г. Курнік (Польшча).

*Літ.:* Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962. С. 270—304; Идеи материализма и диалектики в Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1980; Д р у ж ч ы ц В. Казімір Лышчынскі — беларускі бязбожнік XVII в. // Полымя. 1927. № 2; Ш а л ь к е в і ч В. Касцёр бессмяротнасці // Там жа. 1977. № 3; П р о к о ш и н а Е.С., Ш а л ь к е в и ч В.Ф. Казимир Лыщинский. Мн., 1986. *В.Ф.Шалькевіч.*



К.**Лышчынскі**. Мастак С.Свістуновіч.

ЛЮ́БЧАНСКАЯ ДРУКА́РНЯ. Існавала ў 17 ст. ў мястэчку Любча Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. ў маёнтку кн. Радзівілаў. Заснавана Пятром Бластусам Кмітам, які ў 1612 перавёз сюды друкарскае абсталяванне з Вільні. Друкарня пераважна абслугоўвала патрэбы кальвіністаў, але зрэдку прымала заказы і католікаў. За 20 гадоў Кміта выдаў 59 назваў кніг на польскай і лац. мовах па гісторыі, медыцыне, філасофіі і інш. Сярод іх «Генеалогія, або Кароткае апісанне вялікіх літоўскіх князёў» М.Стрыйкоўскага ў перапрацоўцы С.Доўгірда (1626), «Гісторыя іудзейскай вайны» І.Флавія (1617), «Эпітоме» (1614) і зб. прыказак (1618) С.Рысінскага, «Апафегматы» Б.Буднага (1614), «Навагрудскі дыспут» Я.Зыгроўскага (1616), «Статут Слуцкай школы» (1628) і інш. З 1632 друкарню ўзначальваў сын Кміты Ян Даніэль, які выдаў кнігу арыянскага аўтара І.Шліхтынга «Аб святой Тройцы супраць Балтазара Мейснера» на лац. мове (1639), панегірыкі і літургічныя творы па заказе віленскіх лютэран (усяго 24 назвы). У 1646—55 (або 1656) кіраўніком друкарні быў Ян Ланге, які выдаў 14 кніг пратэстанцкага кірунку, сярод іх «Пастыла» і «Псалтыр» лютэранскага пастара А.Шонфліксіуса. З друкарняй супрацоўнічаў вядомы гравёр К.Гётке. *Ю.М.Лаўрык.*

ЛЮТЭРА́НСТВА — адзін з кірункаў *пратэстантызму*. Узнікла ў пач. 16 ст. ў Германіі ў перыяд *Рэфармацыі*. Назва ад імя заснавальніка Марціна Лютэра (1483—1546). Канчаткова веравучэнне выкладзена ў 1530 у «Аўгсбургскім спавяданні» (за што лютэранскую царкву часам называ-

юць аўгсбургскай). Гал. пастулат тэалогіі Л. — выратаванне асабістай верай, якая даруецца Богам, без дапамогі царквы. Сувязь Бога і чалавека набывае ўнутраны, асабісты характар, царква перастае быць пасрэднікам паміж Богам і індывідам. Усе вернікі прызнаюцца роўнымі перад Хрыстом, святары страчваюць палажэнне асобага саслоўя, адмаўляецца каталіцкая іерархія, манаства, бясшлюбнасць святароў. Рэліг. суполкі самі запрашаюць *пастараў* і выбіраюць кіруючыя органы — *кансісторыі*. Крыніцай веравучэння з'яўляецца Біблія, якую вернік мае права самастойна тлумачыць. У *кірхах* няма абразоў. З 7 таінстваў каталіцкай царквы засталіся толькі хрышчэнне і прычасце. Набажэнствы вядзецца на роднай мове. У культце Л. ўвасабляецца прынцып таннай царквы.

На землі Беларусі Л. пачало пранікаць у 1520-я г. з Лівоніі (сучасная тэр. Латвіі, прыняла Л. ў 1522) і Усх. Прусіі (прыняла Л. ў 1525). Трапляла і непасрэдна з Германіі праз студэнтаў з ВКЛ, якія навучаліся ў ням. ун-тах, асабліва ў Лейпцыгскім. Першым значным прапаведнікам Л. ў ВКЛ быў А.Кульва, які выкладаў вучэнне Лютэра ў сваёй школе ў Вільні. У 1544 ва Усх. Прусіі быў адкрыты пратэстанцкі Кёнігсбергскі ун-т, які значна паспрыяў распаўсюджванню Л. ў ВКЛ і Польшчы. Тут было засн. некалькі кафедраў з навучаннем на польскай, літоўскай і бел. мовах, устаноўлена некалькі стыпендый для выхадцаў з Беларусі, Літвы і Польшчы (сярод выпускнікоў ун-та прадстаўнік Рэфармацыі на Беларусі А.*Волан*), друкавалася пратэстанцкая літаратура. З сярэдзіны 1550-х г. лютэранскія суполкі з'явіліся ў Вільні, Мінску, Слуцку і інш. У канцы 16 ст. на тэр. ВКЛ было ад 5 да 8 такіх суполак. Л. было пашырана пераважна сярод гараджан, у меншай ступені сярод шляхты. Гал. кіруючым органам лютэранскай царквы ў ВКЛ была выбраная на сінодзе (з'ездзе) Літоўская кансісторыя на чале з прэзідэнтам (пазней суперінтэндантам). У час рэліг. ганенняў у 17—18 ст. (гл. *Контррэфармацыя*) лютэране супрацоўнічалі з кальвіністамі і праваслаўнымі, карысталіся падтрымкай Прусіі і Расіі; колькасць вернікаў у гэты перыяд значна скарацілася. У Рас. імперыі лютэранская (евангелічна-лютэранская) царква была падначалена Ген. кансісторыі ў Пецярбургу, якая падпарадкоўвалася імператару. У пач. 20 ст. на Беларусі заставаліся адзінкавыя лютэранскія суполкі. Найбольш іх было ў Зах. Беларусі да 1940-х г. Вернікамі былі пераважна асобы нямецкай нацыянальнасці. У 1990-я г. Л. стала адраджацца. На 1.1.2001 у Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 13 лютэранскіх суполак.

*С.В.Казуля, В.Ф.Шалькевіч.*

ЛЮЦЫ́ФЕР, гл. ў арт. *Д'ябал*.

ЛЯ́ДАЎСКІ МАНАСТЫ́Р ДАБРАВЕ́ШЧАННЯ. Існаваў у 1730-я — 1918 у в. Ляды (цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл.). Засн. каля 1730 як манастыр ордэна *базыльян* мечнікам ВКЛ І.Завішам, які запісаў манахам вёскі Грыва і Слабодка асобны фальварак і 4 тыс. злотых. Пазней ахвяраванні на манастыр рабілі ўдава Завішы Марцыбеля (10 тыс. злотых), Ю.Іліч і А.Беніцкі. У 1792—94 пабудавана мураваная царква Дабравешчання, у 1811—50 — жылы корпус. У 1796 настаяцель манастыра Т.Лебядзінскі прызначаны прэзідэнтам літоўскага праўлення базыльянскай генеральнай кансісторыі ў Рас. імперыі. Пры манастыры былі курсы маральнай тэалогіі для манахаў, школа для свецкіх асоб (у 1809 — 38 вучняў, у 1818 — 159, у 1819 — 143), шпіталь. У 1838 школа ператворана ў павятовае духоўнае вучылішча, выпускнікам якога давалася права паступаць ва ун-т. Пасля скасавання ў 1839 *Брэсцкай уніі 1596* манастыр пераўтвораны ў праваслаўны. У 1842 вёскі Грыва і Слабодка забраны ў казну, манастыр прылічаны да 3-га класа са штатам 13 чалавек. Пакінута 70 дзесяцін ворнай зямлі, 80 — сенажаці, 124 — лесу. У 1918 закрыты, царква і інш. манастырскія будынкі захаваліся.

*А.А.Ярашэвіч.*



**Лядаўскі манастыр Дабравешчання.** Агульны выгляд царквы.

# М

МАГІЛА Пётр (10.1.1597, Малдаўскае княства — 11.1.1647) — праваслаўны царкоўны і культурны дзеяч Рэчы Паспалітай. Сын гаспадара (правячага князя) Валахіі [1601—07] і Малдаўскага княства [1607—09] Сімяона. З 1627 кіева-пячэрскі архімандрыт. Дамогся ад каралеўскай улады дазволу на аднаўленне *Кіеўскай мітраполіі* з цэнтрам у Кіеве. У 1632—47 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. Заснаваў *Кіева-Магілянскі калегіум* (1632), які названы ў яго гонар. Выражаў інтарэсы вярхоў правасл. духавенства і шляхты Украіны і Беларусі, выступаў супраць *Брэцкай уніі 1596*, заснаваў *Магілёўскую праваслаўную епархію* (1632). Садзейнічаў пашырэнню асветы і друкарства на Украіне, Беларусі і ў Малдове. Непасрэдна кіраваў Віленскім, Слуцкім, Магілёўскім і Аршанскім брацтвамі з манастырамі. У 1635 наведаў Вільню, Мінск і інш. бел. гарады. Аўтар кніг, якія выкарыстоўваліся як падручнікі ў духоўных навуч. установах да пач. 20 ст.: «Евангелле вучыцельнае» (1616), «Анфалагіён» (1636), «Еўхалагіён» (1646), шматлікіх палемічных прапаведзей і інш. Складальнік «Праваслаўнага спавядання веры» (1640), якое ў 1672 на сінодзе ў Іерусаліме адобрана як гал. дактрына ўсіх правасл. цэркваў. У 1996 кананізаваны Украінскай праваслаўнай царквой Маскоўскага патрыярхату.

МАГІЛЁЎСКАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ — сярэдняя праваслаўная навучальная рэлігійная ўстанова ў Магілёве ў сярэдзіне 18 ст. — пасля 1917. У 1756 магілёўскі епіскап Г.*Каніскі* арганізаваў пачатковыя класы духоўнай семінарыі, дзе навучалі лац. мове і катэхізісу на рус. мове. У 1758 рас. ўрад выдзеліў на іх утрыманне 400 руб. У 1768 з дазволу караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага Каніскі перавёў класы ў прадмесце Магілёва да царквы св. Мікалая, стварыў кафедры багаслоўскіх і філасофскіх навук, старaж.-грэч. і старaж.-яўрэйскіх моў. У пач. 1780-х г. для семінарыі пабудаваны асобны 2-павярховы вучэбны корпус у стылі рус. класіцызму (не захаваўся). У 1785 адбылося афіц. адкрыццё семінарыі. У 1793 пры царкве св. Мікалая засн. падрыхтоўчая школа для семінарыі. У 1795 пабудаваны 2-павярховы дом для настаўнікаў і вучняў. Пры епіскапе Анастасіі Братаноўскім (1797—1805) семінарскі комплекс папоўніўся новымі збудаваннямі на вул. Ветранай (цяпер Ленінская). Анастасій арганізаваў семінарскае праўленне, пакінуў пасаду прэфекта і прызначыў рэктара і суперінтэнданта (пазней інспектара), увёў замест польскіх падручнікаў расійскія, арганізаваў аркестр, стварыў семінарскую бальніцу на 25 ложкаў, лазню і інш. У канцы 18 ст. ў семінарыі навучалася ад 100 да 400 чал. Сярод нетэалагічных прадметаў былі: філасофія, рыторыка, піітыка (паэтыка), сінтаксіка, гісторыя, геаграфія, медыцына, мовы (лац., нямецкая, французская, старaж.-яўрэйская). Навуч. праграма дапаўнялася правядзеннем дыспутаў, харавымі спевамі, паказам трагедый. Праўленню семінарыі падпарадкоўваліся Гомельскае, Невельскае, з 1807 Балуцкае духоўныя вучылішчы. У 1820 М.д.с. прылічана да 2-га разраду, уключана ў акругу С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У 1912—13 навуч. годзе ў семінарыі было 205 вучняў і 9 вольных слухачоў, у т.л. 147 дзяцей святароў. Пры семінарыі дзейнічала ўзорная царк.-прыходская школа, у якой навучаліся 36 хлопчыкаў.



П.Магіла.

*Літ.:* Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 31—35. *І.А.Пушкін.*

МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ. Утворана 1.11.1632 па ініцыятыве мітрапаліта Пятра *Магілы* як адзіная правасл. епархія на Беларусі (усе астатнія былі пераведзены ў унію), падпарадкоўвалася *Кіеўскай мітраполіі*, кафедра — у г. Магілёў. У 1633 зацверджана прывілеем караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV. Першы епіскап *Іосіф* (Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі) жыў у Вільні. З 1647 магілёўскай кафедрай валодалі уніяты, з 1650 — зноў праваслаўныя. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 тэр. епархіі падпарадкоўвалася полацкім епіскапам, якія прызначаліся Маскоўскай патрыярхіяй. З 1675 называлася таксама Беларускай, потым назвы неаднаразова мяняліся. Епіскапы павінны былі зацвярджацца каралём Рэчы Паспалітай (без такога зацвярджэння называліся нарачонымі епіскапамі-намінатамі). Пасля пераходу Кіеўскай мітраполіі пад юрысдыкцыю Маскоўскай патрыярхіі (1685) магілёўскіх епіскапаў прызначала Масква, але па-ранейшаму зацвярджала каралеўская ўлада. У 1718 у М.п.е. былі мужчынскія манастыры: Ахорскі, Буйніцкі, Горацкі, Віцебскі, Грывецкі, Дзісенскі, Друйскі, Крыжборскі, Куцеінскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Невельскі, Полацкі, Саламярэцкі, Шклоўскі; жаночыя: Баркалабаўскі, Касцюкоўскі, Куцеінскі, Мазалаўскі. У 1740—50-я г. ў выніку ганенняў на праваслаўе колькасць прыходаў значна скарацілася, у 1755 зроблена спроба зачыніць кафедру. Для захавання дзейнасці епархіі вялікія намаганні рабіў епіскап Георгій *Каніскі*. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 і ўваходжання Магілёва ў склад Рас. імперыі М.п.е. ў 1774 Указам Свяцейшага Сінода залічана да 2-га класа. З заснаваннем у 1793 Мінскай правасл. епархіі і аднаўленнем у 1833 Полацкай правасл. епархіі М.п.е. ўключала толькі тэр. Магілёўскай губ. У 1830—40-я г. ўсе уніяты ў епархіі былі пераведзены ў праваслаўе, закрываліся таксама стараверскія цэрквы. З 1883 М.п.е. стала выдаваць *«Могилёвские епархиальные ведомости»*. У 1892 у епархіі было 1360 царк.-прыходскіх школ, 6 двухкласных царк.-настаўніцкіх школ, у іх навучалася больш за 30 500 чал. У 1911 было 40 благачынных акруг па 4—20 цэркваў у кожнай, 828 храмаў, у т.л. 7 сабораў, 11 цэркваў пры мужчынскіх і 15 пры жаночых манастырах, 549 прыходскіх цэркваў, 15 цэркваў пры казённых і богаўгодных установах, 94 пры могілках, 46 малітоўных дамоў; манастыроў 12 (6 мужчынскіх і 6 жаночых). Духавенства і царкоўных служак налічвалася: 38 протаіерэяў, 540 святароў, 93 дыяканы, 533 псаломшчыкі; манахаў 91, паслушнікаў 134, манашак 113, беліц 421; паствы — 1 624 тыс. чал. Працавалі 533 царк. бібліятэкі, 2 бальніцы пры манастырах, 5 — пры цэрквах, 3 багадзельні пры манастырах. У падпарадкаванні епархіі быў 1 храм аднаверцаў (прыхільнікі стараверства, якія захавалі сваю абраднасць, але былі падначалены іерархіі правасл. царквы). У 1897 па ініцыятыве краязнаўца Е.Р.Раманава адкрыта епархіяльнае сховішча старажытнасцей, пераўтворанае ў 1904 у *Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей*. У 1920—30-я г. епархіяй кіравалі *абнаўленцы*, якія стварылі ў 1924 *Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву*. У сярэдзіне 1930-х г. яе прыходы перайшлі пад юрысдыкцыю кананічнай Мінскай епархіі, М.п.е. з-за жорсткай антырэліг. палітыкі ўлад фактычна спыніла дзейнасць. У сак. 1942 ва ўмовах нямецкай акупацыі епархія адноўлена ў складзе *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. Пасля Вял. Айч. вайны епіскапы ў епархію не прызначаліся. У 1989 дзейнасць епархіі адноўлена ў складзе *Беларускай праваслаўнай царквы* ў межах Магілёўскай вобл. У канцы 1999 М.п.е. складалася з 3-х благачынных акруг — Бабруйскай, Магілёўскай і Мсціслаўскай, налічвала 68 абшчын, 65 дзеючых храмаў; 8 абшчын адпраўлялі богаслужэнні ў малітоўных дамах, дзейнічала 1 капліца. На тэр. епархіі дзейнічае Свята-Нікольскі Магілёўскі манастыр. Праўячы архіерэй (з 1989) архіепіскап магілёўскі і мсціслаўскі Максім (у свеце Б.І.Кроха).

*Літ.:* Магілёўская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999. С. 132—135. *І.А.Пушкін.*

МАГІЛЁЎСКАЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ АРХІЕПА́РХІЯ, Магілёўская арцыдыяцэзія — царкоўна-адміністрацыйная адзінка каталіцкай царквы ў 18—20 ст. Створана як Беларуская рымска-каталіцкая епархія (дыяцэзія, біскупства) з цэнтрам у г. Магілёў паводле ўказа рас. імператрыцы Кацярыны II ад 22.11.1773 пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, і ўключала тэрыторыі, далучаныя да Рас. імперыі. З 1778 у Магілёве дзейнічала духоўная семінарыя, разлічаная на 20 навучэнцаў; пазней у складзе епархіі дзейнічалі таксама семінарыі ў Беластоку, Звінагродку, Краслаўцы. Указам ад 17.1.1782 епархія пераўтворана ў Магілёўскую архіепархію, што пацверджана вышэйшай граматай ад 11.11.1783. Вышэйшым кіруючым органам быў капітул з 12 *прэлатаў* і *канонікаў*, для вырашэння бягучых адм. спраў створана *кансісторыя*. Архіепіскап з канца 1797 пераехаў у Пецярбург. Ён узначальваў сталічную рымска-каталіцкую духоўную калегію (засн. ў 1801, падпарадкоўвалася міністру ўнутраных спраў) і з'яўляўся *мітрапалітам* усіх рымска-каталіцкіх цэркваў Рас. імперыі. У 1798 у склад архіепархіі апрача Беларускай і Кіеўскай губ.

увайшлі і ўсе касцёлы, якія былі на тэр. Рас. імперыі да 1793 (2-га падзелу Рэчы Паспалітай). Магілёўская архіепархія ўключала 27 дэканатаў на тэр. Беларусі і Украіны: Аршанскі, Бабінавіцкі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Віцебска-Веліжска-Суражскі, Дрысенскі (Дзярновіцкі), Дынабургскі, Звінагродскі, Кіеўскі, Копыскі, Ланцкаронскі, Лепельскі, Ліпавецкі, Люцынскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Невельскі, Новарасійскі, Полацкі, Рагачоўскі, Радамысленскі, Рэжыцкі, Себежскі, Сенненскі, Сквірскі, Смаленскі, Чавуска-Чэрыкаўскі. Пры наступных рэарганізацыях былі далучаны дэканаты Беластоцкай вобл., Пецярбурга і Масквы. У 1804 у склад архіепархіі ўваходзіла 159 парафій з 204 касцёламі, 78 ксяндзамі, 524 манахамі і 44 манашкамі, 223 936 вернікамі. У 1858 было 165 парафій і 14 філіялаў з 266 ксяндзамі і 369 753 вернікамі. У 1842 архіепархіі нададзены 1-ы клас. У 1846 на яе тэр. заставаліся 6 мужчынскіх (3 дамініканцаў, 1 бернардзінцаў, 2 капуцынаў) і 4 жаночыя (3 марыявітак і 1 бенедыкцінак) кляштары. У 1882 у М.р.-к.а. ўваходзілі 121 прыходскі і 23 філіяльныя касцёлы, 217 капліц, быў 281 ксёндз, 439 229 прыхаджан, адзіны кляштар — Англонскі дамініканцаў у Віцебскай губ. з 6 манахамі. У 1883 Магілёўскай архіепархіі падпарадкаваны касцёлы і Слонімскі кляштар бернардзінак б. *Мінскай рымска-каталіцкай епархіі*. У 1914 у архіепархіі 31 дэканат, 309 парафій, 455 ксяндзоў, 1 155 526 прыхаджан. У духоўных семінарыях вучылася 145 чалавек. Найб. вядомыя кіраўнікі Магілёўскай архіепархіі: С.*Богуш-Сестранцэвіч* (1772—83, епіскап, 1783—1826 — архіепіскап), архіепіскап А.Гінтаўт-Дзевалтоўскі (1883—1889), С.*Данісевіч* (1903—04 і 1905—08 — прэлат, 1909—10 епіскап), архіепіскап Э.*Роп* (1917—19), епіскап Я.*Цепляк* (1914—17 і 1919—23). У 1920-я г. ў сувязі з тэр. зменамі і антырэліг. палітыкай сав. улад дзейнасць архіепархіі фактычна спынілася. На тэр. Заходняй Беларусі былі створаны новыя епархіі. Функцыі кіраўніка Магілёўскай архіепархіі ў СССР у 1926—36 выконваў П.Э.Невё. У 1991 утворана *Мінска-Магілёўская архіепархія* з кафедрамі ў Мінску і Магілёве, якая з'яўляецца пераемніцай Мінскай і Магілёўскай епархій (архіепіскап — кардынал К.*Свёнтак*).

*Літ.:* Бакулов А. Пи-Эжен Невё — свидетель трагедии // Наука и религия. 1990. *В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава.*

МАГІЛЁЎСКІ БРА́ЦКІ МАНАСТЫ́Р, Магілёўскі Богаяўленскі манастыр — праваслаўны мужчынскі манастыр у Магілёве ў 1634—1918. У 1618 мяшчане магілёўскага Крыжаноснага брацтва купілі пляц з пабудовамі на Шклоўскай вул. ў кн. Е.Саламярэцкай з Корсакаў, якая ахвяравала манастыру 400 коп грошаў. Побач з гэтым месцам у 1619 Я.Агінскі даў яшчэ адзін пляц для засн. манастыра са школамі і шпіталем. У 1633—36 з дазволу караля Уладзіслава IV тут узведзена Богаяўленская царква. У 1633 канстанцінопальскі патрыярх Кірыла даў манастыру права стаўрапігіі (незалежнасці ад мясц. епіскапа), а каралеўскім прывілеем дадзена права на друкаванне кніг для школ (пацверджаны Янам III Сабескім і Аўгустам II). У 1634 па запрашэнні мяшчан з Віленскага Свята-Духаўскага манастыра прыбыў ігумен Варлаам Палоўка. У 1637 Багдан і Алена Статкевічы ахвяравалі манастыру новы пляц. Да 1798 эканамічнай дзейнасцю манастыра кіравалі выбраныя братчыкамі на 3 гады старасты, а ігумены сачылі толькі за царк. справамі. У 1657 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 маскоўскі патрыярх Нікан забараніў манастыру займацца карчомствам. У 1669 пры Іаана-Багаслоўскай царкве ўтворана малодшае брацтва, да якога належалі маладыя нежанатыя мяшчане. У М.б.м. знаходзіўся цудадзейны абраз Маці Божай, для якога войт Ф.Дзявульскі падараваў манастыру пляц з царквой св. Ануфрыя, пабудаванай ім у 1704. У час Паўночнай вайны 1700—21 шведы забралі з Богаяўленскай і Іаана-Багаслоўскай цэркваў больш за 150 сярэбраных рэчаў. У 1798 утворана *архімандрыя*, у 1798—1835 да М.б.м. быў прыпісаны *Буйніцкі Свята-Духаўскі манастыр*. Пасля пажару 1810 Богаяўленская царква да 1815, а Іаана-Багаслоўская — да 1828 былі закрыты. У 1828 М.б.м. — штатны «вучылішчны» манастыр 2-га класа з датацыяй ад казны 3642 руб. і б. езуіцкай сенажаццю і ворнай зямлёй. Тады ж скасавана абранне выбарных старастаў. У 1842 прылічаны да 1-га класа, надзелены зямлёй. У пач. 20 ст. —



**Магілёўскі Брацкі манастыр.** Фота пач. 20 ст.


Магілёўскі Свята-Мікольскі жаночы манастыр.

37 манахаў. У 1918 манастыр скасаваны, цэрквы дзейнічалі да 1928. У Вялікую Айчынную вайну манастырскі комплекс пашкоджаны, потым разбураны.

*А.А.Ярашэвіч.*

МАГІЛЁЎСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ — установа ордэна *езуітаў* у г. Магілёў. У 1680—1779 Магілёўская езуіцкая рэзідэнцыя, у 1779—1820 калегіум. Заснавальнік Я.Здановіч. У 1684 пабудавана мураваная капліца, у 1725 — мураваны касцёл св. Францыска Ксаверыя і Анёлаў Вартаўнікоў замест ранейшага драўлянага касцёла, спаленага ў Паўночную вайну 1700—21. Магілёўскай рэзідэнцыі падпарадкоўваліся езуіцкія місіі ў Гомелі, Фашчаве, Хальчы, Чачэрску і інш. У 1682 пры рэзідэнцыі адкрыта школа граматыкі. Каля 1684 адкрыта музычная бурса, у 1720 — аптэка, у 1780 — музей, з канца 17 ст. дзейнічаў тэатр, у 1820 б-ка налічвала каля 5 тыс. кніг. У 1796 было 106 вучняў, у 1805 — 154, у 1811 — 130 вучняў. У розныя часы рэзідэнцыі і калегіуму належалі маёнткі Бялянічы, Варатынічы, Галынец, Дабрасневічы, Дубнікі, Куты, Параеўка, Паўлаўка, Турэц, Цёплае, Хронеў, Ямны і інш. У 1820 калегіум закрыты, у 1833 касцёл пераўтвораны ў правасл. царкву.

МАГІЛЁЎСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Існаваў у канцы 17 ст. — 1864 у Магілёве. У 1687 рэчыцкі лоўчы Т.Ржавускі намерваўся заснаваць кляштар, але неўзабаве памёр. Новы фундатар М.Пяцюха аддаў бернардзінцам пляц са свірнам, які ў 1696—98 перароблены ў капліцу, што і лічыцца часам заснавання кляштара. У 1702 бернардзінцы пабудавалі драўляны касцёл св. Антонія, у 1705 — жылы корпус. У 1720-я г. ўзведзены мураваны касцёл, у якім было 7 алтароў, у т.л. гал. алтар св. Антонія з цудадзейным абразом. У 1760-я г. касцёл рэстаўрыраваны, у 1813 устаноўлены арган. У 1864 кляштар зачынены, манахаў перавялі ў Крэтынгу (Літва) і ў Мінск. Будынкі


Касцёл **Магілёўскага езуіцкага калегіума**. Фота пач. 20 ст.

пацярпелі ў час Вялікай Айчыннай вайны, пазней знесены. *А.А.Ярашэвіч.*

МАГІЛЁЎСКІ КЛЯ́ШТАР КАРМЕЛІ́ТАЎ. Існаваў у 1633 — каля 1831. Узнік як філіял *Бялыніцкага кляштара кармелітаў*, калі кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV 10.9.1633 даў дазвол бялыніцкім кармелітам купляць дамы і пляцы ў Магілёве для пабудовы касцёла і кляштара. У 1687 было 6 манахаў. Паводле інвентара 1692, у кляштары быў абраз Маці Божай, які лічыўся цудатворным. У 1738—52 пабудаваны мураваны касцёл Успення Дзевы Марыі, размаляваны ў 1765—67. У 1783 касцёл стаў кафедральным саборам *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі*, біскуп С.І.*Богуш-Сестранцэвіч* асвяціў яго ў гонар св. Станіслава. У 1818 жылы корпус быў драўляны. Каля 1831 кармеліты, верагодна, пакінулі Магілёў. Пасля 1860 касцёл стаў парафіяльным і атрымаў б. назву. У 20 ст. ў ім размяшчаўся гіст. (з 1935), потым Дзярж. архіў Магілёўскай вобл. (1964—86). У 1990 касцёл зноў стаў дзеючым, з 1991 кафедральны сабор Мінска-Магілёўскай архіепархіі. Помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння. *А.А.Ярашэвіч.*

МАГІЛЁЎСКІ СВЯ́ТА-МІКО́ЛЬСКІ ЖАНО́ЧЫ МАНАСТЫР. Заснаваны як праваслаўны кіеўскім мітрапалітам Пятром *Магілай*, якому ў крас. 1636 кароль Уладзіслаў IV дазволіў пабудаваць у Магілёве ў Грыўлянскай сотні Пакроўскага пасада Свята-Мікольскі храм з памяшканнямі. У 1637 пры магілёўскім епіскапе Сільвестры *Косаве* была пабудавана драўляная Мікольская царква з жаночым манастыром. У 1646 кароль Уладзіслаў IV дазволіў жыхарам Магілёва пабудаваць мураваную царкву ў гонар св. Мікалая. Мураваны Мікалаеўскі летні сабор манастыра (будаўніцтва распачалося ў 1669) асвячоны ў 1672. Да 1719 манастыр дзейнічаў як жаночы, потым пераўтвораны ў мужчынскі. У 1754 манастыр закрыты, Мікольская царква стала прыходскім храмам. У 1934 яна закрыта, у 1937 у царкве была перасыльная турма, з 1946 — кніжная база. У 1956—90 вяліся рэстаўрацыйныя работы, у 1972—78 часткова раскрыты размалёўкі 17 ст. 18.10.1991 Сінод Беларускага экзархата вырашыў адрадзіць манастыр і прызначыў настаяцельніцай Яўгенію (Валашчук). Рашэнне зацверджана Сінодам Рус. правасл. царквы 25.12.1991. 18.6.1991 манастыр наведаў Патрыярх Аляксій II. У 1992 грэч. таварыства «Панагія» ахвяравала манастыру царк. прыналежнасці і абразы. У манастыры 2 храмы: сабор св. Мікалая і царква св. Ануфрыя (1798), якія маюць шэраг каштоўных абразоў 17—19 ст. У 2000 у манастыры 15 насельніц, дзейнічае нядзельная школа, сястрынства міласэрнасці ў гонар трох пакутніц (Веры, Надзеі і Любові).

*Літ.:* Агееў А., Пушкін І. Магілёў на скрыжаванні. Магілёў, 2000. *І.А.Пушкін.*


**Магілёўскі Спаскі манастыр.** Агульны выгляд царквы.

МАГІЛЁЎСКІ СПА́СКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў у 2-й палавіне 16 ст. — 1918 у Магілёве. Засн. як праваслаўны магілёўскімі мяшчанамі пры Спаскай царкве (вядома з 1478). У 1578 кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторый даў архіепіскапу Феафану (Багдану) Рэпінскаму грамату на манастыр, але пазней перадаў яго мяшчанам. У 1594 пабудавана новая царква (згарэла ў 1709). Правасл. брацтва (вядома з 1597) каля 1600 засн. тут школу. У 1618 уніяцкі архіепіскап І.*Кунцэвіч* авалодаў манастыром, амаль 30 гадоў ім кіраваў намеснік Гервасій Гасцілоўскі. У 1632 кароль Уладзіслаў IV у «Артыкулах заспакаення рэлігіі грэ-


**Магілёўскі Свята-Мікольскі жаночы манастыр.** Брама.


Мазырскі кляштар бернардзінцаў.

часкай» прызначыў манастыр для рэзідэнцыі епіскапаў *Магілёўскай праваслаўнай епархіі*, аднак сейм 1635 замацаваў яго за уніятамі. Паводле ўмоў Збораўскага дагавора 1649 манастыр зноў правасл., у ім жыў епіскап *Іосіф* Канановіч-Гарбацкі. Але паводле «Запісак ігумена Арэста» праваслаўныя вярнулі сабе манастыр толькі ў 1674 пры епіскапе Феадосію Васілевічу [1669—78], а да гэтага магілёўскія архірэі жылі ў Пячэрску. Манастыру належалі ў Мсціслаўскім ваяв. вёскі Заполле, Калатоўка, Лешыны, Смолы, у Аршанскім — Барсукі, Вейна, Машонакі, Пячэрск, Тарасевічы, Цвіркаў, перавозы на Дняпры ў Магілёве, Бародзенічах, Любужы. Аднак з-за судовых спрэчак з адміністрацыяй Магілёўскага замка і езуітамі манастыр быў бедны, не рэалізаваў прывілеі на адкрыццё семінарыі (1633 і 1656). Па просьбах епіскапа Георгія *Каніскага* [1755—83] рас. імператары пачалі даваць грошы на заканчэнне буд-ва мураванай Спаса-Праабражэнскай царквы (закладзена ў 1740—42, завершана ў 1756—62, да 1802 кафедральны сабор), пабудову семінарыі і архірэйскага дома (1762—85). У архітэктурны ансамбль уваходзіў таксама корпус манастыра і каменная агароджа з брамай. Каля 1755 у манастыры складзена Магілёўская хроніка Спаскага манастыра. У 1842 на ўтрыманне архірэйскага дома і кансісторыі прызначана 14 800 руб., у 1868 манастыру выдзялялася 8500 руб. У 1918 манастыр спыніў існаванне, царква пашкоджана ў час Вялікай Айчыннай вайны, пазней знесена, частка пабудоў захавалася.

*А.А.Ярашэвіч.*

МАГІЛЁЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й. Існаваў у 1897—1918 у Магілёве. Засн. Е.Р.Раманавым, размяшчаўся ў будынку б. бернардзінскага кляштара. Плошча экспазіцыі 140 м², больш за 6 тыс. экспанатаў, атрыманых у асн. з рызніц і царк. кладовак, з археалагічных раскопак Раманава (каменныя і жалезныя прылады працы, фрагменты ганчарнага посуду, упрыгожанні, манеты і інш.). Сярод экспанатаў абразы 16—18 ст. магілёўскага, маскоўскага, смаленскага, стараабраднага пісьма на палатне, дошках, выразаныя з дрэва, медзі, свінцу, у т.л. абразы 17 ст. «Богаяўленне» з Петрапаўлаўскай царквы, «Раство Багародзіцы» і «Мікола-Цудатворац» з Мікалаеўскай царквы і інш., некаторыя з іх у абкладах работы магілёўскіх майстроў А.Воўчака і П.Сліжыка; калекцыя напрастольных і нацельных крыжоў (пераважна 18 ст., многія ў інкруставаных і каштоўных абкладах), медны пацір 17 ст. з Мікалаеўскай царквы, інкруставаная даразахавальніца 18 ст. з Крыжаўзвіжанскай царквы, шытая шоўкам і золатам плашчаніца 1556, сярэбраная мітра магілёўскага архіепіскапа Г.*Каніскага* (1758); часткі іканастасаў, царскія вароты і бакавыя алтарныя дзверы 17—18 ст., скульптурныя выявы святых і інш.; магільныя пліты кн. Друцкай-Сакалінскай (1588) і Арсенія Азаровіча (1652), драўляныя надмагільныя пліты 17—18 ст. з Мікалаеўскай царквы. У бібліятэчным аддзеле захоўваліся мінея 1490-х г., выдадзеная ў Кракаве, шматлікія богаслужэбныя кнігі 16—18 ст. Біблія 1751 з гравюрамі, напрастольныя Евангеліі 1568, 1637, 1640, 1764, кнігі магілёўскіх, маскоўскіх і львоўскіх выданняў 17—18 ст., у т.л. «Гутаркі Іаана Златавуста» (1623), «Словы і прамовы» Феафана Пракаповіча (1760—74). У архіве музея зберагалася больш за 4 тыс. дакументаў пераважна 17 ст., 26 каралеўскіх грамат 16—18 ст., у т.л. Стафана Баторыя на магдэбургскае права Магілёву (1577), інвентары горада, замка, воласці (1604) і інш. Экспанаты музея з 1919 захоўваліся ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*А.А.Сёдзін.*

МА́ГІЯ, чарадзейства — абрады, дзеянні або слоўныя формулы-заклінанні, якія звязаны з верай у звышнатуральныя здольнасці чалавека ўздзейнічаць на сілы прыроды, лёс, істоты і прадметы. Узнікла ў першабытным грамадстве. Вядомая ўсім народам, захавалася ў рэліг. вераваннях да нашага часу. Адрозніваюць белую М., якая заклікала бога, і чорную М., што звярталася да «нячыстай» сілы. У аснове М. — уяўленне, што пэўнае дзеянне выклікае адпаведную жаданую з'яву. Найб. пашыраныя віды М.: лячэбна-засцерагальная (*знахарства, замовы*), гаспадарчая (земляробчая, паляўнічая, бортніцкая, будаўнічая), бытавая (засцярога ў дарозе, пры начлезе ў лесе і інш.), любоўная (прыварожванне, адварожванне), шка-

даносная (насланне, псаванне, заломы ў жыце). Часта была заняткам т.зв. чараўнікоў, ведзьмароў, шаманаў (гл. *Шаманства*). Рэшткі магічных элементаў існуюць і ў наш час.

*Літ.:* Никифоровский Н.Я. Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897; Сержпутоўскі А.К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1930; Максимов С.В. Нечистая, неведомая и крестная сила. СПб., 1994.

МАЗЫ́РСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ. Існаваў у 1645—1832 у Мазыры. Засн. С.М.Лошкам, які падараваў для кляштара пляц з агародам і садам. Мураваны касцёл Міхаіла Архангела асвячоны ў 1775, мураваны жылы корпус памерам 70 × 14,5 локця пабудаваны ў 2-й палавіне 18 ст., астатнія будынкі (бровар, стайня, вазоўня, конскі млын) былі драўляныя. Б-ка налічвала 203 кнігі. У 1829 было 9 манахаў. У 1832 кляштар скасаваны, у 1839 у ім размешчаны бальніца і адм. установы. У 1865 касцёл пераабсталяваны ў правасл. Міхайлаўскі сабор (дзейнічае).

*А.А.Ярашэвіч.*

МАДО́ННА, гл. *Багародзіца*.

МАКА́РЫЙ (у свеце Булгакаў Міхаіл Пятровіч; 1.10.1816, с. Суркова Новааскольскага пав. Курскай губ., Расія — 21.6.1882) — праваслаўны царкоўны дзеяч, гісторык, багаслоў. Акадэмік Пецярбургскай АН (1854). Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію (1841). У 1842—57 у Пецярбургскай духоўнай акадэміі, прафесар, рэктар (з 1850). Вікарны епіскап вінніцкі (1855), епіскап тамбоўскі і шацкі (1857), харкаўскі і ахтырскі (1859), архіепіскап літоўскі і віленскі (1868), мітрапаліт маскоўскі і каломенскі (1879). Аўтар прац па багаслоўі і царк. гісторыі. Гал. яго твор — 12-томная «Гісторыя рускай царквы» (1866—83; перавыдадзена ў 1994—96 у 7 кнігах), дзе разгледжаны падзеі ад 10 ст. да часоў маскоўскага патрыярха Нікана (сярэдзіна 17 ст.). 9-ы том («Гісторыя Заходнярускай, або Літоўскай, мітраполіі», 1879) прысвечаны гісторыі правасл. царквы ВКЛ 15—16 ст.; у ім змешчана шмат дакументаў, што робіць працу асабліва каштоўнай. Гісторыі правасл. царквы і культуры ВКЛ прысвечана таксама праца «Аб Грыгорыі Цамблаку, мітрапаліце кіеўскім, як пісьменніку».

*Ю.В.Бажэнаў.*

МАКА́РЫЙ (мянушка Чорт; ?—1.5.1497) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. У 1480-я — пач. 1490-х г. архімандрыт Свята-Троіцкага манастыра ў Вільні. У 1495—97 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (пасвячоны епіскапамі ў Вільні, у 1496 блаславёны канстанцінопальскім патрыярхам Ніфантам). Забіты татарамі ў мяст. Скрыгалаў каля Мазыра ў час паездкі ў Кіеў пры набегу крымскіх татар. Пахаваны ў Сафійскім саборы ў Кіеве. Кананізаваны.

МАКА́РЫЙ II (?—1556) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Епіскап пінскі, з 1528 луцкі і астрожскі. З 1534 мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. Дзякуючы яго намаганням правасл. царква ў ВКЛ пры Жыгімонце II захоўвала свае правы і прывілеі, будаваліся новыя цэрквы і манастыры ў Віцебску, Навагрудку, Пінску. Аднак маральны стан духавенства мітраполіі значна пагоршыўся, пашырылася атрыманне царк. пасад за хабар, павялічыўся ўплыў свецкіх асоб на царк. справы, чаму М. фактычна спрыяў.

МАКА́РЫЙ ВЯЛІ́КІ, або ЕГІ́ПЕЦКІ (300—390) — вучань св. Антонія, хрысціянскі ас-



**Мазырскі кляштар бернардзінцаў**. З малюнка Н.Орды. Гравюра 19 ст.

кет. Пражыў у пустыні 60 гадоў. Яму прыпісваюць больш за 50 размоў павучальнага зместу, складзеных у форме дыялога. У іх даецца містычнае апраўданне аскетызму.

МАКА́РЫЙ КАНЕ́ЎСКІ (1605(?)—1678) — прападобнапакутнік, ігумен пінскі. Быў настаяцелем Купяціцкага Увядзенскага манастыра, Камянецкага Уваскрасенскага (на тэр. Брэсцкай вобл.), Оўруцкага Успенскага і Канеўскага (на Украіне) манастыроў. Адмовіўся выдаць манастырскія скарбы татарам у час іх набегу на Канеў, быў забіты. Мошчы захоўваюцца ў Багародзіцкай царкве ў Каневе. Памяць 13(26) мая — перанясенне мошчаў і 7(20) вер. — спачын. *Т.А.Матрунчык.*

МАЛІ́ТВА — 1) рэліг. містычны зварот да *Бога*, святых, звышнатуральных сіл з просьбай аб літасці або адхіленні зла, з ухваленнем, падзякай; частка *культу рэлігійнага*, абавязковы атрыбут абрадаў, набажэнстваў, царк. свят і штодзённага жыцця вернікаў. Бываюць вусныя (чытаюцца ўголас) і мысленныя (лічацца як узыходжанне розуму да Бога). Вусныя малітвы бываюць агульныя (царкоўны малебен) і асабістыя. У час М. вял. значэнне надаецца рытуальным дзеянням (стаянне на каленях, узняцце рук і г.д.). 2) Вызначаны, kaнанізаваны тэкст такога звароту.

МАЛО́Х (грэч. Moloch ад фінікійскага — уладар) — у рэлігіі старажытных фінікян і карфагенян бог сонца, якому штогод прыносілі чалавечыя ахвяры — забівалі ці спальвалі дзяцей знатных грамадзян, часам ваеннапалонных. У пераносным сэнсе — страшная ненажэрная сіла, якая патрабуе чалавечых ахвяр.

МАЛЫШЭ́ЎСКІ Іван Ігнатавіч (25.7.1828, в. Нягневічы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 23.1.1897) — пісьменнік, гісторык царквы, славяназнавец. Д-р багаслоўя (1873). З сям'і святара. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, Мінскую духоўную семінарыю (1849) і Кіеўскую духоўную акадэмію (1853). У 1862—97 прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, выкладаў у ёй рус. гісторыю і гісторыю рус. царквы. Даследаваў пытанні гісторыі царквы ў першыя стагоддзі хрысціянства, гісторыю Візант. царквы, гісторыю царквы заходніх і паўднёвых славян. Быў прыхільнікам агульнаслав. культурнага адзінства. Аўтар прац «Творы св. Кірылы Тураўскага з апісаннем яго жыцця» (1878), «Кірыла і Мяфодзій» (1885), «Заходняя Русь у барацьбе за веру і народнасць» (1895) і інш.

МАЛЬТЫ́ЙСКІ О́РДЭН на Беларусі, духоўна-рыцарскі ордэн святога Іаана Ерусалімскага. Узнік у пач. 12 ст. ў Ерусаліме ў час крыжовых паходаў. Ставіў за мэту апеку над шпіталем для пілігрымаў і барацьбу за ўтрыманне Св. зямлі ў руках хрысціян. Пад націскам туркаў у 1530 рыцары-гаспітальеры перабраліся на востраў Мальта (адсюль назва). Ордэн ахоўваў Міжземнае мора ад піратаў і туркаў, стаў аванпостам барацьбы зах. хрысц. дзяржаў супраць Асманскай імперыі. У 18 ст. паліт. мэты ордэна змяніліся на асветніцкія. Жыгімонт Кароль Радзівіл (1591—1642) у час вучобы ў Балонні выказаў жаданне ўступіць у ордэн мальтыйскіх рыцараў. Яго бацька Мікалай Крыштоф Радзівіл (1549—1616) падтрымаў намер сына і 20.11.1610 засн. камандорыю Мальтыйскага закону (ордэна), прызначыўшы ў якасці фундушу свае маёнткі Сталовічы (куплены ў 1596) і Пацейкі (атрыманы як пасаг жонкі). Паводле яго ўмоў камандорамі маглі быць Радзівілы, потым ужо інш. ліцвіны (беларусы) і палякі, а прызначаць іх павінны былі нясвіжскія ардынаты. Першым камандорам стаў Жыгімонт Кароль, які 8.12.1612 даў рыцарскі зарок на Мальце. У 1637 ён фундаваў касцёл і ларэтанскую капліцу ў Сталовічах, для яе з Італіі прывезена скульптура Маці Божай Ларэтанскай. Пасля Жыгімонта Караля камандорамі былі 2 браты Юдзіцкія, Пац, Дамброўскі, граф Ежы дэ Саксэ (сын польскага караля Аўгуста II, у 1764 звольнены канфедэратамі як іншаземец), Барталамей Стэцкі, клецкі ардынат Людвік Радзівіл. У сярэдзіне 18 ст. пры камандоры пазнанскім і сталовіцкім Дамброўскім да капліцы прыбудаваны мураваны касцёл. У 1866 касцёл пераўтвораны ў царкву, аднак капліца і цудатворная скульптура са шматлікімі *вотамі* заставалася на месцы яшчэ ў 1878. Дамінік (апошні з нясвіжскай лініі Радзівілаў) у 1809 перадаў фундушавыя маёнткі пажыццёва клецкаму ардынату камандору Льву для выкарыстання іх з мэтай фундацыі. Калі ў 1817 у Рас. імперыі быў скасаваны Мальтыйскі ордэн, маёнткі засталіся Льву Радзівілу ў якасці прыватнай уласнасці. Насуперак хадайніцтву Мальтыйскага ордэна аб захаванні ўласнасці на Сталовічы і Пацейкі за ім, пецярбургскі Сенат прыйшоў да высновы, што фундацыя Радзівіла была прыватнай, не зацверджанай Вялікім Магістрам і польскім урадам. *А.А.Ярашэвіч.*

МАЛЯВА́НЦЫ, рэлігійная секта. Узнікла ў 1880-я г. сярод сялянскай беднаты ў Кіеўскай губ. Пазней пашырылася ў Мінскай і Херсонскай губ. Назва ад імя заснавальніка — непісьменнага сталяра з г. Таращча К.Малявана, які абвясціў сябе сынам Божым. Веравучэнне і абраднасць уяўлялі сабой спалучэнне догматаў і культавай практыкі *баптыстаў, адвентыстаў*, старарус. сектаў духоўных хрысціян і хрыставераў (хлыстоў) з іх крайнім містыцызмам. М. падкрэслівалі прыярытэт св. Духа, які нібыта сыходзіць на вернікаў у час іх малітвы, што практычна выражалася ў экстатычных маленнях. Прытрымліваліся аскетычнага ладу жыцця, адмаўляліся ад вайсковай службы. У сваіх пропаведзях Маляваны выступаў супраць сац. несправядлівасці, у т.л. і ўнутры баптысцкіх

абшчын, крытыкаваў дзяржаўную правасл. царкву. У 1882 ён арыштаваны і адпраўлены ў дом вар'ятаў у Казань. Аднак гэта толькі паспрыяла росту аўтарытэту секты. На чале яе стаў паслядоўнік Маляванага І.Лысенка, які паспрабаваў арганізаваць рэліг. камуну і дачакацца «Тысячагадовага царства Божага». Для кіраўніцтва бягучымі справамі секты выбіраўся «брацкі савет» з 5 чал. У пач. 20 ст. М. з'явіліся на Беларусі. Напр., у 1901 у в. Рачканы Слуцкага пав. (цяпер Ляхавіцкі р-н) утварылася іх абшчына са 160 чал., меўся малітоўны дом. Секта існавала да 1930-х г.

*Літ.:* Федоренко Ф. Секты, их вера и дела. М., 1965.

*Б.І.Камейша.*

МАНА́СТВА (грэч. monachos адзінокі, пустэльнік) — лад жыцця рэлігійнай асобы або суполкі аднаверцаў (група, абшчына, брацтва), заснаваны на прынцыпах *аскетызму* (адрачэнне ад маёмасці, шлюбу, свецкіх уцех), на свядомым падпарадкаванні суровай дысцыпліне, а таксама дуалістычным супрацьпастаўленні зямнога і нябеснага, духоўнага і цялеснага, добрага і злога пачаткаў. Ідэя М. бярэ пачатак у брахманізме, будызме, егіпецкім кульце Серапіса і інш. у сярэдзіне 1-га тыс. да н.э., але адметнае ўвасабленне назіраецца ў хрысціянстве, дзе выпадкі манаскага служэння пачаліся ў 2 ст. н.э. Шырокае распаўсюджанне хрысц. М. пачалося з 4 ст. Прынцыпы ўстрымання і самаадрачэння пераняты ад секты есеяў; неаплатанізм узбагаціў М. ідэяй ачышчэння духу праз адмову ад цялесных асалод. На працягу стагоддзяў М., апрача рэліг., выконвала і свецкія функцыі: стварала летапісныя і літ. фонды, займалася навук. дзейнасцю, пашырала пісьменства. М. мае адметнасці ў розных канфесіях. Правасл. М. з'яўляецца наследнікам традыцый і ідэалаў першапачатковага хрысціянства. Прыняцце ў манахі суправаджаецца абрадам «пастрыжэння»: пры гэтым *неафіт* атрымлівае новае імя і спецыфічнае адзенне чорнага колеру (сімвал стрыманасці і смутку). Існуе іерархія М.: расафор, маласхімнік і вялікасхімнік; з М. складаецца кіраўніцтва царквы — епіскапат. Каталіцкая царква пайшла па лініі стварэння *ордэнаў манаскіх*. Пратэстантызм не мае М. У будызме існуе інстытут М. ў выглядзе мноства буйных манастыроў (віхара). У ісламе ў межах містычнай плыні — суфізму, дзейнічаюць т.зв. тэке (манастыры, дзе жыве частка дэрвішаў).

*Літ.:* Хольц Л. История христианского монашества: Пер. с нем. СПб., 1993.

*А.А.Цітавец.*

МАНАСТЫ́РСКІЯ ШКО́ЛЫ — навучальныя ўстановы пры *манастырах*. Вядомы з сярэдзіны 1-га тыс. да н.э. ў Індыі пры будыйскіх манастырах. Пасля пашырэння хрысціянства распаўсюдзіліся на Блізкім Усходзе і ў Заходняй Еўропе пры мужчынскіх манастырах. Падзяляліся на 3 тыпы: для падрыхтоўкі белага духавенства, для будучых манахаў, для навучання грамаце свецкіх юнакоў. У стараж.-рус. княствах манахі выкладалі ў М.ш. дзецям заможных гараджан асновы пісьма і чытання. У 11 ст. М.ш. адкрыты пры епіскапскіх кафедрах у Ноўгарадзе, Полацку, Тураве і інш. У 12 ст. яны ўзніклі і пры некаторых жаночых манастырах, у т.л. ў Полацку. У ВКЛ вялікі кн. Ягайла ў 1387 заснаваў М.ш. пры кляштары ў Вільні. Іх колькасць значна павялічылася ў 16 ст. Яны існавалі пры правасл. манастырах у Брэсце, Вільні і інш. У 1522 М.ш. адкрыты ў мястэчку Гайды Барысаўскага пав., у 1545 — у мястэчку Мядзведзічы Слуцкага пав. З 17 ст. пачатковыя школы працавалі пры уніяцкіх манастырах у Беразвеччы, Мазалаве, Мсціславе. Вядучае месца сярод М.ш. Рэчы Паспалітай займалі школы і *калегіумы* ордэна езуітаў і піяраў, якія ў 1740 мелі адпаведна 67 і 27 навуч. устаноў. Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў адбылося агульнае скарачэнне М.ш., былыя пазіцыі захавалі толькі піяры. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі мясц. ўлады пачалі перабудову свецкай сістэмы адукацыі, створанай Адукацыйнай камісіяй. У 1797 12 свецкіх вучылішчаў перададзены каталіцкім манаскім ордэнам і базыльянам. У 1824 з 47 павятовых вучылішчаў Віленскай навуч. акругі 37 належалі манахам. Пасля паўстання 1830—31 рас. ўрад пачаў ліквідацыю М.ш. у заходніх губернях. У 1832—35 яны закрыты ці пераўтвораны ў свецкія гімназіі, павятовыя вучылішчы для дваран і мяшчан, семінарыі, ніжэйшыя духоўныя вучылішчы і царк.-прыходскія школы.

*А.Ф.Самусік.*



Макарый Канеўскі.

МАНАСТЫРЫ́ (ад грэч. monastērion адасобленае жыццё) — асноўная форма арганізацыі рэлігійнага жыцця манахаў у хрысціянстве (акрамя пратэстантызму), індуізме, будызме, ісламе. М. існавалі ў сярэдзіне 1-га тыс. да н.э. ў Егіпце (культ Серапіса), у 2—1 ст. да н.э. ў Індыі (індуісцкія і будыйскія). Першыя хрысціянскія М. як установы з'явіліся ў 4 ст. На Беларусі правасл. М. з'явіліся ў 12 ст. (паводле інш. звестак у 10 ст.) у Полацку: Барыса-Глебскі на беразе р. Бяльчанка і 2 на берагах Палаты, якія засн. *Ефрасіння Полацкая*. У 12 ст. з'явіліся 2 манастыры ў Тураве — Варварынскі і Барыса-Глебскі, пры якім знаходзілася епіскапская рэзідэнцыя. У канцы 13 — сярэдзіне 16 ст. на тэр. Беларусі засн. каля 40 новых правасл. М. 17 М. дзейнічала ў Полацкім пав., 7 — у Навагрудскім, па 5 — у Пінскім і Аршанскім, па 4 — у Віцебскім і Мінскім, па 3 — у Брэсцкім, Гродзенскім, Мсціслаўскім, па 2 — у Ашмянскім, Браслаўскім, Мазырскім, Слонімскім. Большасць з іх былі дробнымі, нярэдка да 10 манахаў. У рымска-каталіцкай царкве манахі аб'ядноўваліся ў свае арг-цыі з уласнай структурай і кіраўніцтвам — *ордэны манаскія*. Звесткі пра з'яўленне першых каталіцкіх М. (*кляштараў*) у Беларусі і Літве адносяцца да канца 14 ст. У выніку *Брэсцкай уніі 1596* была створана *уніяцкая царква*, да якой паступова пераходзілі правасл. М., будаваліся новыя. У 1617 на ўзор рымска-каталіцкіх манаскіх ордэнаў створаны грэка-каталіцкі ордэн *базыльян*, да якога перайшла пераважная большасць уніяцкіх М., якія выйшлі з-пад улады епіскапаў. Жаночыя М. падпарадкоўваліся епіскапам, а базыльянскімі называліся таму, што прытрымліваліся статута св. Васіля (Базыля) Вялікага. У канцы 17 — пач. 18 ст. на Гомельшчыне з'явіліся стараверскія М. — скіты. У канцы 18 ст. іх было 9 (Веткаўскі, Тырлоўскі, Чонкаўскі і інш.). Але з-за праследаванняў царскіх улад яны праіснавалі нядоўга. У 1840-я г. застаўся толькі Чонкаўскі М., потым закрыты. У 1764 у Рас. імперыі праведзена царк. рэформа, паводле якой кіраванне манастырскімі землямі перадавалася Калегіі эканоміі. М. былі падзелены на лаўры, кафедральныя, 1-га, 2-га і 3-га класаў, пазаштатныя, прыпісныя, скасаваныя. У 1795 на Беларусі першакласным быў толькі Пінскі Богаяўленскі брацкі мужчынскі М., 2-класнымі — *Віленскі Свята-Духаўскі манастыр* і Слуцкі Спаса-Ільінскі жаночы М., 3-класных не было. 28 М. былі аднесены да пазаштатных і 3 — да скасаваных. З 1797 М. 1-га класа атрымлівалі з казны 1753 руб. штогод, 2-га класа — 1095 руб., пазаштатныя М. грошай не атрымлівалі (ім давалася толькі штогадовая дапамога ў памеры 300 руб.). Зямельная норма манастырскіх уладанняў была вызначана ў 30 дзесяцін. У 2-й палавіне 19 — пач. 20 ст. колькасць правасл. М. на Беларусі зменшылася з 60 да 37. У той жа час былі заснаваны або адноўлены Мінскі Спаса-Праабражэнскі жаночы, Бялыніцкі Раства Багародзіцы мужчынскі, Няклюдаўскі Барыса-Глебскі мужчынскі (Талачынскі р-н), Мінскі Свята-Духаўскі мужчынскі і інш. М. садзейнічалі аднаўленню брацтваў, стварэнню школ, вялі выдавецкую дзейнасць, адчынялі прытулкі і багадзельні. Па-іншаму склаўся лёс уніяцкіх і рымска-каталіцкіх М. Рашэннем *Полацкага царкоўнага сабора 1839* уніяцкая царква была ліквідавана, яе М. закрываліся або пераўтвараліся ў праваслаўныя. Каталіцкіх М. у Заходніх губернях у пач. 20 ст. засталося толькі 9. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 паводле Дэкрэта СНК РСФСР ад 23.1.1818 царква аддзелена ад дзяржавы, маёмасць М. аб'яўлена народным здабыткам. М. пачалі хутка закрывацца. На тэр. Беларусі ніколі не прыпыняў сваёй дзейнасці толькі *Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр*. З канца 1980-х г. пачалі аднаўляцца храмы, духоўныя навуч. ўстановы і М. На 1.1.1997 у Рэспубліцы Беларусь дзейнічалі 5 мужчынскіх (81 манах) і 6 жаночых (135 манашак) правасл. і 4 рымска-каталіцкія М.

*В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава.*

МАНІХЕ́ЙСТВА — рэлігійнае вучэнне, якое ўзнікла ў 3 ст. на Блізкім Усходзе. Заснавальнік Мані (каля 216—277, ад яго імя і назва М.). Мела шмат прыхільнікаў на тэр. ад Кітая да Італіі. Аснова М. — сінтэз халдзейска-вавілонскіх, персідскіх (парсізм, зараастрызм, маздаізм) ідэй з хрысціянствам. Звычайна М. звязваюць з *гнастыцызмам*, ад якога яно ўзяло канцэпцыю дуалізму душы і цела, святла і цемры, дабра і зла. Паводле вучэння М., у сусвеце суіснуюць царствы святла і цемры, духоўны і матэрыяльны пачаткі. У царстве святла, заснаваным на прынцыпе дабра, пануе Бог з анёламі, а ў царстве цемры, прасякнутым злом, — д'ябал з дэманамі. Барацьба Бога з д'яблам заканчваецца глабальнай катастрофай у выглядзе пажару, які спапяляе ўсё цялеснае і вызваляе дух. Зямны чалавек, паводле М., створаны д'яблам, але можа зменшыць уплыў зла, калі будзе спрыяць светламу, боскаму пачатку. Ён павінен клапаціцца аб чысціні душы і цела, засвойваць вучэнне М., якое Бог дае людзям праз свайго сына Ісуса. Але гал. пасланнікам свету з'яўляецца сам Мані. У 8—9 ст. М. праследавалася прыхільнікамі ісламу, у далейшым спыніла існаванне як рэлігія і ў Еўропе, і ў Азіі. Хрысціянства лічыла М. ерассю, якая дала пачатак такім рухам, як *паўлікіяне*, *багамілы*, катары і альбігойцы.

*А.А.Цітавец.*

МАРАНІ́ТЫ (назва ад імя рэліг. дзеяча 7 ст. Марона) — прадстаўнікі асобнай галіны каталіц-

кай царквы ў Сірыі і Лівяне, якія некалі былі монафелітамі, але ў 16 ст. прызналі вяршэнства Ватыкана (гл. *унія царкоўная*). Да нашага часу яны захоўваюць сваю арганізац. і культава-дагматычную самабытнасць (набажэнства праводзяць на сірыйскай мове, адхіляюць *цэлібат*). Кіраўніком М. (пасля папы) з'яўляецца «патрыярх Антыёхіі і ўсяго Усходу», рэзідэнцыя якога знаходзіцца каля г. Бейрут. У Ліване і Сірыі налічваецца каля 400 тыс. М., 15 тыс. жывуць у Егіпце, Ізраілі і Іарданіі. Каля мільёна М.-эмігрантаў пражывае ў Паўдн. Еўропе, Паўн. і Паўдн. Амерыцы, дзе, захоўваючы ўласную літургію і духавенства, падпарадкоўваюцца мясцовым каталіцкім епіскапам.

МАРАХО́ЎСКІ Ілья (свецкае імя Ірахім Стафанавіч; каля 1576, г. Львоў, Украіна — 1631) — пісьменнік-палеміст, палітычны і царкоўны дзеяч. Уніят. З 1596 вучыўся ў папскім калегіуме ў Рыме. Памагаў уніяцкаму мітрапаліту І.*Пацею* ў барацьбе супраць правасл.; мяркуюць, што ў сааўтарстве з ім напісаў кнігі «Гармонія» і «Рэляцыя» (Вільня, 1608 і 1609). У 1609 кароль Жыгімонт III Ваза прызначыў М. сваім сакратаром на ВКЛ, а пасля смерці Пацея (1613) выдаў яму прывілей на Уладзіміра-Брэсцкае епіскапства. Як епіскап удзельнічаў у з'ездзе уніятаў у Навагрудку (1624), рабоце Кобрынскага сінода 1626. Выступіў супраць палемічна-публіцыстычнага твора М.*Сматрыцкага* «Трэнас». У кн. «Перыгорыя...» (на польскай мове, Вільня, 1612) асудзіў ідэалогію брацкага руху. Аўтар «Размовы пра пачатак адарвання грэчаскай царквы ад рымскага касцёла...» (1622), «Рэляцыі аб жорсткім забойстве Іасафата Кунцэвіча, полацкага архіепіскапа» (1624; абодва на польскай мове, выдадзены ў Замосці). *А.Ф.Коршунаў.*

МАРК, Іаан-Марк — паводле хрысціянскага падання, вучань апостала Пятра, аўтар 2-га кананічнага Евангелля, якое датуецца рознымі даследчыкамі па-рознаму. У тым выглядзе, у якім яно дайшло да нашага часу, Евангелле ад М. афармілася не раней сярэдзіны 2 ст. М. удзельнічаў у місіянерскіх працах апостала *Паўла*, разам з ім і апосталам *Пятром* быў у Рыме, пазней (паводле Яўсевія Кесарыйскага) заснаваў хрысц. абшчыну ў Александрыі, дзе быў 1-м епіскапам.

МАРКЕ́Л (?—1698) — царкоўны дзеяч Расіі, асветнік. Паходзіў з Беларусі. Добра ведаў грэч., лац., нямецкую, польскую і татарскую мовы. Да пастрыжэння ў манахі быў перакладчыкам Пасольскага прыказа. Займаў пасады архімандрыта Бранскага Свенскага манастыра, потым епіскапа суздальскага і мітрапаліта пскоўскага. Адзін з самых адукаваных іерархаў свайго часу. Пасля смерці патрыярха Іакіма (1690) цар Пётр І меў намер



**Марк**. Фрагмент Царскіх варот з Праабражэнскай царквы с.Варанілавічы Брэсцкай вобл. 16 ст.

прызначыць на яго месца М., але маскоўская старaруская партыя скарыстала ўвесь свой уплыў, каб патрыярхам быў прызначаны казанскі мітрапаліт Адрыян. М. заняў яго месца ў Казані.

МАРМО́НЫ (саманазва «Царква Ісуса Хрыста святых апошняга дня») — рэлігійная плынь, заснаваная ў 1830-я г. ў ЗША Дж. Смітам. Вучэнне М. уяўляе сабой эклектычную сумесь ідэй *хрысціянства*, *іудаізму*, *язычніцтва*, а таксама самога Сміта, выказаных у «Кнізе Мармона», якая разам з Бібліяй лічыцца крыніцай веравызнання. Гал. тэзіс «Кнігі Мармона» сцвярджае, што М. з'яўляюцца нашчадкамі іудзейскага племя, якое нібыта перасялілася ў Амерыку за 6 ст. да н.э., заснавала там квітнеючую цывілізацыю, знішчаную неўзабаве ў выніку ўнутраных канфліктаў. Адсюль выцякаюць ідэі аб «збіранні плямён ізраілевых» і «адраджэнні сапраўднай хрысціянскай царквы». Тэалагічная дактрына М. мае прыземлены, антрапацэнтрычны характар: гал. бог М. утварыўся з сукупнасці атамаў і ў сваю чаргу парадзіў астатніх багоў і багінь; аднак М. пакланяюцца не яму, а богу Зямлі — Элахіму, цялеснай істоце, якая мае чалавечыя запатрабаванні і пачуцці. Малітоўныя сходы М. складаюцца з пропаведзяў, чытання і спеваў рэліг. гімнаў. Вернікі плацяць царк. падатак — дзесяціну, штомесячна — «прынашэнне посту» (грошы, сэканомленыя ў выніку аднаразовага ўстрымання ад ежы). Культавы сэнс у М. набыла палігамія, да 1890 яны афіц. практыкавалі мнагажонства (цяпер захоўваецца толькі ў нешматлікіх артадоксаў). Сучасны эпіцэнтр М. знаходзіцца ў г. Солт-Лейк-Сіці (ЗША). На 1.1.2000 на Беларусі дзейнічалі 3 суполкі М.

*Літ.*: Современные секты в России. М.; СПб., 1995.

*А.А.Цітавец.*

МАРТЫРАЛО́Г (грэч. martyros пакутнік + + logos слова) — жанр рэлігійнай *агіяграфіі*, у

якім апавядаецца пра св. пакутнікаў за веру: пра ганенні на іх, іх пакуты і пакаранні. Усе хрысц. М. абапіраюцца на ўяўленні пра пакутніцкі подзвіг, г.зн. пра гатоўнасць за «нябесную ўзнагароду» з радасцю прымаць ганенні, бедствы і смерць у імя Хрыста, за веру. Самым вядомым з'яўляецца «Усеагульны мартыралог» у каталіцызме (1536), «Менелогій» у праваслаўі (9 ст.). Большасці апавяданням-М. уласцівы казачнасць, легендарнасць, фантастычнасць, асабліва калі размова ідзе пра цуды, што суправаджаюць смерць пакутнікаў.

МАРЦІ́Н ТУ́РАЎСКІ (?—1150) — беларускі святы. Служыў поварам у тураўскіх епіскапаў Сімяона, Ігнація і Іакіма ў 1120—46. З-за цяжкай хваробы пакінуў свае абавязкі і стаў пустэльнікам Барыса-Глебскага манастыра. Аднойчы адчуў сябе кепска, але не змог атрымаць дапамогу, бо ў час паводкі яго жыллё аказалася адрэзаным ад сушы. Раптам з'явіліся два юнакі і напаілі яго вадой. Ён хацеў аддзячыць іх, але прышэльцы нібы растварыліся ў паветры. Старцу падалося, што юнакі былі падобныя аблічча на выявы з абраза пакутнікаў Барыса і Глеба. Пра сваё бачанне ён расказаў духоўніку. Як вынік гэтага прывіду хвароба пакінула старца. Памёр ён па старасці. Дзень памяці 10 ліпеня.

МАРЫ́Я МАГДАЛІ́НА — у евангельскай міфалогіі грэшніца, якая раскаялася; адданая паслядоўніца Хрыста. Спадобілася першай убачыць яго ўваскрэслым. Уключана хрысц. царквою ў лік святых.

МАРЫ́Я — ПРАСВЯТА́Я ДЗЕ́ВА (Мадона) — маці Ісуса Хрыста, гл. *Багародзіца*.



**Марцін Тураўскі**.

МАРЫЯ́НЕ — члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі (лац. Congregatio Marianorum Immaculatae Conceptionis). Ордэн засн. б. піярам С.Папчынскім у Карабеўскай Пушчы (Польшча), прызнаны пазнанскім біскупам Г.Свянцянскім 24.10.1673 (лічыцца датай узнікнення ордэна) і ў 1699 зацверджаны папам рымскім Інакенціем XII. Апекуном ордэна быў кароль Ян III Сабескі. Паводле статута гал. мэтамі ордэна былі пашырэнне культу св. Марыі і душпастырская дзейнасць сярод простых людзей. Да канца 17 ст. М. мелі ў Рэчы Паспалітай 3 дамы (кляштары). У сярэдзіне 18 ст. М. з'явіліся ў Чэхіі, Партугаліі, ВКЛ: Стаўрапалі (пазней Марыямпаль, цяпер Літва) і Расне (цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл.). У канцы 18 ст. на тэр. Віленскага біскупства дзейнічалі 2 кляштары (Марыямпаль і Мірасльў) і 2 рэзідэнцыі: Янаў-Палескі (1776 — каля 1800; цяпер г. Іванава Брэсцкай вобл.) і Воўпа (закрыты каля 1814, цяпер Ваўкавыскі р-н). На працягу 19 ст. ўстановы М. у Рас. імперыі скасоўваліся, у 1904 закрыты апошні кляштар у Марыямпалі. З 1909 пачалося адраджэнне дзейнасці М. на бел. і літ. землях. У 1910 паводле прапаноў генерала ордэна В.Зяньkоўскага і Ю.*Матулевіча* папам зацверджаны новыя палажэнні аб дзейнасці М. Калі Матулевіч узначальваў ордэн (1911—27), новыя ўстановы М. адкрыты ў адроджанай Польскай дзяржаве, Англіі, Аргенціне, ЗША, Канадзе, Партугаліі, Францыі. Пасля яго смерці генераламі ордэна былі Ф.Бучыс (1927—33, 1939—51)) і А.Цікота (1933—39). У 1923—39 дзейнічаў *Друйскі кляштар айцоў марыянаў*, а з 1935 — яго філіял у Вільні навуч. ўстанова «Беларускі марыянскі дом студыяў», які ўзначальвалі Ю.Кашыра (1935—36) і Я.Германовіч (В.Адважны, 1936—38). У 1928—48 у Харбіне (Кітай) сярод рус. эміграцыі дзейнічала місія М., арганізавана гімназія, выдаваўся час. «Католический вестник». Місію ўзначальвалі Ф.*Абрантовіч* (1928—39) і Цікота (1939—48), ім дапамагалі бел. святары М.Германовіч, Т.Падзява, К.Найловіч. У 1948 Ч.*Сіповічам* створаны бел. Дом айцоў М. у Лондане, які праводзіць рэліг. і культ. работу сярод беларусаў у Англіі; выдаваўся час. «Божым шляхам», створаны Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны. У 1950—60-я г. ў дзейнасці Дома ўдзельнічалі Л.Гарошка, Ф.Журня і інш. Цяпер Дом узначальвае А.Надсон. Характэрнай рысай бел. М. у Друі, Вільні, Харбіне, Лондане з'яўляецца ўсходні (грэка-каталіцкі) абрад. У 1997 у ордэне было 596 чал. М. працуюць у 15 краінах свету, у т.л. у Казахстане, Латвіі, Літве, Украіне, Эстоніі. У Беларусі М. (18 чал.) маюць дамы ў Друі, Барысаве, Оршы, прыходы ў Росіцы (Верхнядзвінскі р-н), Ідолце (Міёрскі р-н), Задарожжы (Глыбоцкі р-н) і Вішневе (Валожынскі р-н).

*Літ.:* Сіповіч Ч. З жыцця закону Айцоў Марыянаў // Божым шляхам. 1973. № 2. *Янка Траццяк.*

МАР'ЯВІТЫ, касцёл мар'явітаў — рэлігійная плынь, якая вылучылася з рымска-каталіцкай царквы ў самастойную арганізацыю. Засн. ў 1893 у Полацку (Польшча) манашкай Ф.Казлоўскай як брацтва ксяндзоў. У 1906 з-за своеасаблівага тлумачэння пытанняў маралі і крайняга містыцызму М. адбыўся іх поўны разрыў з папствам. Рас. ўлады падтрымалі М. і далі ім дазвол на легальную дзейнасць. У 1909 прыняты статут М. Іх колькасць у Прывіслінскім краі і зах. губ. дасягала паводле розных звестак ад 40 да 100 тыс. чал. У 1935 М. падзяляліся на 2 асобныя арг-цыі: Старакаталіцкі касцёл М. (большасць вернікаў) і Каталіцкі касцёл М. Пэўнае распаўсюджанне М. мелі ў Зах. Беларусі. Найб. вядомай была абшчына ў в. Шыдлоўшчына (цяпер Пружанскі р-н) на чале з Л.Пясецкай, дзе ў 1935 было 117 вернікаў, мелася свая капліца. Пасля Вялікай Айчыннай вайны дзейнасць М. у БССР не адзначалася. *Б.І.Камейша.*

МАСА́ЛЬСКІ Ігнацій Якуб (30.7.1729, в. Алекшыцы Бераставіцкага р-на Гродзенскай вобл. — 2.6.1794) — рэлігійны і дзярж. дзеяч Рэчы Паспалітай, прадстаўнік Асветніцтва. Нарадзіўся ў сям'і віленскага кашталяна і гетмана Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Іосіфа Масальскага. З маленства М. рыхтавалі да духоўнага сану. У 15-цігадовым узросце стаў канонікам Віленскага капітулу, а пасля вучобы ў Рыме, дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі і філасофіі (1752) — рэферандарыем літоўскім, пробашчам і прэлатам віленскім. З 1762 епіскап віленскі, старшыня Камісіі народнай адукацыі (Адукацыйнай камісіі) па Беларусі і Літве ў Рэчы Паспалітай, з 1774 адначасова распарадчык фонду публічнага выхавання ў Літве. М. быў прыхільнікам тэорыі фізіякратаў, у аснове якой ляжала ідэя звароту да вечных натуральных законаў быцця, сацыяльнай роўнасці і правоў чалавека. Па яго ініцыятыве гэтыя ідэі прапаведаваліся з касцёльных кафедраў. У сваіх пастырскіх пасланнях ён гаварыў пра надзённыя інтарэсы людзей, неабходнасць пераадолення векавой адсталасці краіны, больш эфектыўнага выкарыстання зямлі і сялянскай працы як адзінай крыніцы ўсіх багаццяў. Выдаваў спецыяльныя інструкцыі для ніжэйшага духавенства, у якіх прадпісваў ім дапамагаць у асвеце сялян і адкрываць школы, спрабаваў наладзіць сумеснае навучанне дзяцей з сялянскіх і шляхецкіх сем'яў. У 1777 М. звярнуўся са спецыяльнай адозвай пра неабходнасць арганізацыі пачатковых (парафіяльных) школ для сялян, а ў інструкцыях для такіх школ рэкамендаваў пачынаць навучанне з уразумення рэчаў, што абкружаюць дзяцей у іх жыцці. У Вільні ён заснаваў семінарыю і распачаў за свой кошт будаўніцтва кафедральнага сабора. Загінуў у час паўстання 1794 у Польшчы, Беларусі і Літве.


І.Я.Масальскі.

*Літ.:* Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977. *С.Ф.Дубянецкі.*

МА́СЛЕНІЦА, масленка — старажытнае перадвеснавое свята ў славянскіх народаў. Звязана з культам прыроды, адраджэннем пладаносных сіл зямлі, ушанаваннем продкаў. М. павінна была паскорыць прыход вясны, забяспечыць дастатак і багаты ўраджай. Свята прыпадала на 8-ы тыдзень перад *Вялікаднем*. На М. забаранялася есці мяса, яго замянялі бліны — сімвал сонца, надыходу вясны. На Беларусі святкаванне М. пачыналася ў чацвер, на *Уласа*; у пятніцу праводзілі бяседныя застоллі, у нядзелю — развітальныя, прабачальныя бяседы. На М. адведвалі бабку-павітуху, вадзілі па вёсцы маладзіцу, што выйшла замуж у апошні мясаед, халасцякам і незамужнім дзяўчатам прывешвалі да нагі калодкі, дзяўчаты і хлопцы гойдаліся на варотах у гумне і на арэлях (каб доўгім рос лён), рабілі і запальвалі кола, спальвалі сімвалічную антрапаморфную выяву холаду-зімы — саламяную ляльку або імітавалі «пахаванне» М. з «папом» і «галашэннямі», спявалі масленічныя песні, вадзілі карагоды, жартавалі, пачыналі «гукаць вясну». М. заканчвалася «запускамі» на малако і малочныя стравы. Традыцыі М. захаваліся ў сучасным святкаванні праводзін зімы. У краінах Зах. Еўропы М. адпавядаў карнавал.

*Літ.:* Карский Е.Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3, (ч.) 1. С. 137—141; Ліцьвінка В. Святы і абрады беларусаў. 2 выд. Мн., 1998.

МАСО́НСТВА, франкмасонства (франц. franc-maçn літар. — вольны муляр) — вучэнне і практыка найбуйнейшага міжнароднага тайнага таварыства элітарнага тыпу, якое аб'яд-

ноўвае людзей розных нацыянальнасцей і веравызнанняў пад эгідай пошуку «сапраўдных шляхоў духоўнага аднаўлення грамадства». Асн. метад дзейнасці т-ва — спроба ўплываць на гіст. падзеі праз намаганні сваіх адэптаў у розных сферах грамадскай дзейнасці і вядучых дзярж. установах. Класічнае М. ўяўляла сабой рэліг.-этычны рух, удзельнікі якога імкнуліся стварыць тайную сусв. арг-цыю з мэтай аб'яднання чалавецтва ў братэрскім саюзе, незалежна ад нац., паліт., сац., рэліг. і інш. адрозненняў. Гіст. карані М. — у брацтвах «вольных муляраў» (будаўнічых саюзах), што ўзніклі ў Германіі ў 12—13 ст. Вызначэнне «вольны» азначала апрацоўшчыка «вольных» (натуральных) парод каменю (мармур, вапняк). Т-вы «вольных муляраў» (цэхі, ложы) пашырыліся ў Англіі, Італіі, Францыі. З канца 16 ст. англ. ложы пачалі прымаць у свае рады т.зв. «пабочных муляраў» — заможных адукаваных людзей, якія садзейнічалі адукацыі і маральнаму ўдасканаленню астатніх членаў ложы. Уласна будаўнічыя т-вы зніклі ў пач. 18 ст., але брытанскія «пабочныя муляры», захоўваючы іх знешнюю атрыбутыку дзейнасці, пачалі выкарыстоўваць ложы для абмеркавання праблем маральнага выхавання асобы і грамадства ў цэлым. У 1717 брытанскія ложы ўтварылі Вялікую брытанскую ложу. Па яе даручэнні масон Дж.Андэрсан распрацаваў у 1721 «Кнігу канстытуцый» — першы сістэматызаваны зборнік прынцыпаў М., якія забаранялі масонам быць атэістамі і вальнадумцамі, падтрымліваць афіц. ўлады і прымаць удзел у паліт. рухах, замацоўвалі асн. іерархічныя ступені лож — вучань, падмайстар, майстар, уводзілі асобнае званне — наглядчык (сачыў за правільным выкананнем рытуалаў). Кожнага члена ложы звалі «братам», прымаліся асобы не маладзей 25 гадоў і толькі пры згодзе ўсіх «братоў». Вялікая ложа аб'ядноўвала майстроў і наглядчыкаў усіх лож краіны і ўзначальвалася Вялікім майстрам. Рытуал выконваўся ў кожнай ложы з выкарыстаннем традыц. мулярскіх інструментаў (малаток, навугольнік, цыркуль) і адзення (пальчаткі, капялюш, фартух). У далейшым арганізац. іерархія М. ўскладнілася. Меліся ложы з 33 ступенямі (градусамі) і нават з 99. З 18 ст. М. пашырылася ў Францыі, Германіі, Швецыі, Расіі, ЗША і інш. краінах. Яго ідэйныя арыенціры (пошук эфектыўных метадаў матэрыяльнага і маральнага прагрэсу грамадства, знакаміты дэвіз масонаў: «свабода, роўнасць, братэрства», імкненне ўзвысіцца над класавымі і партыйнымі супярэчнасцямі) былі прыцягальнымі для многіх дзярж. дзеячаў, пісьменнікаў, філосафаў розных краін. Пэўны антыклерыкалізм М. абумовіў варожасць Ватыкана да т-ва, многія папскія булы (у т.л. Льва XIII у 1884) абвяшчалі М. анафему.

У Беларусі і Літве масонскія ложы пачалі дзейнічаць з 2-й пал. 18 ст. як залежныя ад рас. і польскага М. У 1774 маёр рас. арміі Вердароўскі заснаваў у Полацку ложу «Талія». У Магілёве працавалі ложы «Да трох арлоў» (1770) і «Геркулес у калысцы» (1776). З 1781 у Вільні існавалі ложы «Дасканалае адзінства», «Руплівы літвін», «Добры пастыр», «Храм мудрасці», жаночая ложа «Дасканалая вернасць». У 1781 у Гродне заснавана ложа «Шчаслівае вызваленне», у 1784 — пад той жа назвай ложа ў Нясвіжы. Пасля паўстання 1794 дзейнасць бел.-літоўскіх лож прыпынілася і актывізавалася толькі ў 1810-я г. У гэты час узніклі масонскія ложы ў Вільні («Руплівы літвін», 1813; «Да храма мудрасці» і «Школа Сакрата», 1818; рус. ложа «Славянскі арол», 1819), у Мінску («Паўночная паходня», 1816, 200 чл. у 1822; «Гара Табар», 1818), Нясвіжы («Святыня спакою» і «Шчаслівае вызваленне», 1819), Слуцку («Уладзіслаў Ягайла»), Навагрудку («Вузел адзінства»), Гродне («Сябар чалавецтва»). Маладзёжныя т-вы філарэтаў, філаматаў і інш. структурай нагадвалі масонскія ложы. Кіраўнік філарэтаў Т.Зан быў членам віленскай ложы «Школа Сакрата». У 1822 усе масонскія ложы Рас. імперыі былі забаронены ўказам Аляксандра I. Яны пачалі аднаўляцца ў Маскве, Пецярбургу, Адэсе і інш. гарадах толькі з 1906—09. У Вільні ўзніклі ложы «Адзінства» (1910), «Літва» (1911), «Беларусь» (1914). Ёсць звесткі пра існаванне М. ў Віцебску і Мінску. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 і грамадзянскай вайны М. ў Расіі і Беларусі амаль спыніла дзейнасць. У сучасным свеце М. найб. пашырана ў Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША. Агульная колькасць членаў лож складае, паводле розных звестак, ад 6 да 30 млн. чалавек. У Італіі, дзе ў 1981—82 адбыўся буйны паліт. скандал у сувязі з тайнымі «работамі» ложы «Прапаганда-2», у пач. 1990-х г. існавалі 582 ложы (16 700



**Матфей**. Фрагмент Царскіх варот Віцебскай Юр'еўскай царквы. Каля 1690.

чл.). Каля 400 лож у той час дзейнічала на Кубе. Кіраўніцтва дзейнасцю масонаў ажыццяўляецца на сходах (канферэнцыях) масонскіх лож свету, 1-ы з якіх адбыўся ў пач. 20 ст. ў Бруселі, пасля звычайна раз у 5 гадоў праводзяцца канферэнцыі. З канца 1980 — пач. 1990-х г. масоны аднавілі дзейнасць ва Усходняй Еўропе (Будапешт, Белград, Прага, Варшава, Сафія), а таксама ў Расіі і некаторых краінах СНД. У крас. 1991 дэлегацыя французскіх масонаў стварыла ў Маскве брацтва «Паўночная зорка», у 1992 засн. роднасная ёй асацыяцыя «Свабодная Расія», а пазней — ложы «Паўночныя браты» і «Дзевяць муз», брацтвы «А.С.Пушкін» і «Мікалай Навікоў», а таксама асацыяцыі ў Санкт-Пецярбургу і Харкаве (Украіна). Куратарства дзейнасці вышэйназваных арг-цый ажыццяўляе парыжская ложа «Руская садружнасць», куды ўваходзяць 45 масонаў рас. паходжання. У сучасным М. вылучаецца 2 асн. плыні, якія прытрымліваюцца шатландскага або йоркскага рытуалу. Масоны імкнуцца да захавання таемнага характару сутнасці і метадаў сваёй дзейнасці.

*Літ.:* Д а б р а н с к і С. Масонскія ложы ў Літве // Спадчына. 1997. № 1; Я г о ж. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве // Там жа. № 3; З а м о й с к и й Л.П. За фасадом масонского храма: Взгляд на пробл. М., 1990; С о л о в ь е в О.Ф. Масонство в мировой политике XX в. М., 1998. *М.Я.Рыбак.*

МАТУЛЕ́ВІЧ, М а т у л а й ц і с Юрый (Юргіс, Ежы) Баляслаў Банавентура (13.4.1871, мястэчка Лугіна Сувалкаўскай губ., цяпер Літва — 27.1.1927) — рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Літвы і Заходняй Беларусі. З літоўскай сялянскай сям'і. Д-р тэалогіі (1902). Скончыў Варшаўскую каталіцкую духоўную семінарыю (1895), Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію (1899), вучыўся ў Фрыбургскім каталіцкім ун-це (Швейцарыя). У 1898 пасвячоны ў ксяндза. У 1902—04 прафесар і віцэ-рэктар Кельцкай духоўнай семінарыі (Польшча). Прымаў удзел у хрысц.-дэмакратычным руху, выступаў у друку на рэліг. і грамадскія тэмы. З 1907 прафесар і інспектар, з 1909 віцэ-рэктар Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі. З 1909 член ордэна марыянаў, у 1911—27 генерал гэтага ордэна. У 1918—25 віленскі біскуп. З 1925 тытулярны арцыбіскуп Адылійскі і апостальскі візітатар Літвы. З 1926 каўнаскі арцыбіскуп. Спрыяў пашырэнню бел. мовы ў касцельным жыцці. Па яго ініцыятыве ў 1923 адкрыты бел. *Друйскі кляштар айцоў марыянаў.* Аўтар граматыкі літоўскай мовы (разам са сваім дзядзькам Я.Матулевічам). 28.6.1987 беатыфікаваны (прылічаны да блажэнных) рымскім папам Іаанам Паўлам II. *І.І.Трацяк.*

МАТФЕ́Й — паводле хрысціянскага падання, найбліжэйшы вучань Ісуса Хрыста, адзін з 12 апосталаў, аўтар першага кананічнага евангелля, якое канчаткова склалася ў 2 ст.



Ю.Матулевіч.

МЕДЫТА́ЦЫЯ (ад лац. meditatio роздум, разважанне, абдумванне) — разумовае дзеянне, мэтай якога з'яўляецца прывядзенне псіхікі чалавека ў стан паглыбленай засяроджанасці, яго самаўдасканаленне і вылячэнне; адна з сістэм псіхафізічнай трэніроўкі чалавека. М. існавала са стараж. часоў у культуры многіх народаў свету, яе гал. прызначэннем лічылася спасціжэнне Вышэйшай Рэальнасці, Абсалютнай Ісціны, Бога, дасягненне прасветленасці («азарэння»). Суправаджаецца цялеснай расслабленасцю, адсутнасцю эмацыянальных перажыванняў, канцэнтрацыяй увагі на якім-небудзь прадмеце, з'яве, працэсе (музыцы, дыханні, зямлі, небе і інш.); сеанс М. можа працягвацца ад 10—15 хвілін да некалькіх гадзін. Існуюць розныя тыпы М. ў залежнасці ад культурна-гіст. умоў. У с х о д н і тып М. (прадстаўлены ўсімі тыпамі ёгі ў Індыі, даасізм у Кітаі, дзэн-будызм у Японіі) накіраваны на рэліг.-містычнае растварэнне індывідуальнай свядомасці ў безасабовым, «акіянападобным Абсалюце». Х р ы с ц і я н с к і тып М. прадугледжвае своеасаблівае зліццё дзвюх асоб (чалавечай і боскай) і праяўляецца ў час працяглых малітваў, літургій і т.п. П с і х а ф і з і ч н ы тып М. разлічаны на тэрапеўтычна-аздараўляльны эфект. Методыкі М. распрацоўваюцца ў сучасным псіхааналізе, аналітычнай псіхалогіі, выкарыстоўваюцца ў псіхатэрапіі, псіхафізічных трэнінгах (аўтагенная трэніроўка, нервова-мышачная рэлаксацыя, аўтагіпноз). Заняткі М. дазваляюць павысіць імунітэт і вынослівасць арганізма, палепшыць фізічныя і інтэлектуальныя здольнасці чалавека, выявіць яго экстрасэнсорныя магчымасці (тэлепатыя, яснабачанне і інш.).

*Літ.:* К а п т е н Ю.Л. Основы медитации: Вводный практич. курс. СПб., 1991; Л е с н я к Ю. Медитация. М., 1992; Психотерапевтическая энциклопедия. СПб., 1998. *Э.С.Дубянецкі.*

МЕ́ККА (араб. Умаль-Кура) — горад у Саудаўскай Аравіі, за 70 км ад узбярэжжа Чырвонага мора; галоўны рэлігійны цэнтр *ісламу* і месца паломніцтва мусульман (каля 5 млн. чалавек штогод). У цэнтры М. — «свяшчэнны» комплекс мячэці Харам, або Бейт-Улах, вакол стараж. свяцілішча Кааба (608, занава адбудавана ў 1570). Паводле мусульм. падання, М. — месца, дзе некаторы час жылі героі свяшчэннай гісторыі — Адам, Хавва (Ева), Ібрахім (Аўраам), Ісмаіл, Хаджар. У М. нарадзіўся і распачаў сваю пропаведзь заснавальнік ісламу *Мухамед*, які ўстанавіў паломніцтва ў храм Кааба ў М. адным з абавязкаў мусульманіна (гл. *Хадж*). М. — месца знаходжання шматлікіх міжнар. мусульм. арг-цый, Мусульм. тэалагічнай акадэміі, Ісламскага універсітэта. «Свяшчэнная тэрыторыя» — практычна забароненая зона для немусульман.

МЕ́ЛЬНІКАЎ Аляксей Анатолевіч (9.11.1962, г. Гомель — 13.8.1995) — беларускі літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1990). Скончыў Мазырскі пед. ін-т (1983). Працаваў настаўнікам у школах Мазыра. З 1989 навук. супрацоўнік Ін-та літаратуры імя Я.Купалы АН Беларусі. Даследаваў стараж. слав. літаратуру, пісьмовую спадчыну бел. народа, духоўную культуру ўсходніх славян эпохі сярэдневякоўя. Вывучаў агіяграфічную літаратуру, у т.л. жыцці Ефрасінні Полацкай, інш. бел. святых. Даследчык жыцця і творчасці Кірылы Тураўскага, падрыхтаваў збор яго твораў. Укладальнік «Кнігі жыцій і хаджэнняў» (1994).

*Тв.:* Путь непечален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992; Преподобная Ефросиния Полоцкая. Мн., 1997; Кірыл, епіскап Тураўскі. Мн., 1997. *В.А.Чамярыцкі.*

МЕЛХІСЕДЭ́К (у свеце П а е ў с к і Міхаіл Львовіч; верасень 1878, с. Вітулін, Люблінскае ваяв., Польшча — 17.5.1931) — беларускі праваслаўны царкоўны дзеяч. Скончыў Казанскую духоўную акадэмію (1904). Выкладаў у Магілёўскай духоўнай семінарыі (1904—05). Настаяцель Магілёўскага брацкага (1905—07), Бялыніцкага і Херсонскага Уладзімірскага (1907—14) манастыроў. З 1914 епіскап таўрычаскі, архіепіскап астраханскі. З 1919 вікарны епіскап слуцкі, епіскап мінскі і тураўскі. З ліпеня 1922 мітрапаліт мінскі і беларускі. Выступаў супраць *абнаўленцаў*, якія стварылі *Беларускую аўтаномную праваслаўную царкву*. Стаў прыхільнікам абвяшчэння *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У 1925 на адкрытым паліт. працэсе ў Мінску прыгавораны да 3 гадоў зняволення ўмоўна па абвінавачанні ў «раскраданні царк. маёмасці» і «контррэвалюцыйнай прапагандзе». У тым жа годзе пасля арышту ў Маскве сасланы на пасяленне ў Краснаярскі край. З 1927 архіепіскап краснаярскі, з 1930 у Маскве, абраны ў Сінод Рус. правасл. царквы. Раптоўна памёр у Дарагамілаўскім саборы.

*Літ.:* П р о ц ь к а Т. Пакутнік за веру і бацькаўшчыну. Мн., 1996; М а р т о с А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *Т.С.Процька.*

МЕНАНІ́ТЫ — прыхільнікі адной са старэйшых пратэстанцкіх цэркваў. Рух М. пачаў фарміравацца ў 1530-я г. ў Нідэрландах пад уплывам памяркоўных *анабаптыстаў*. Яго ўзначаліў каталіцкі святар Мена Сіманс (назва ад яго імя), аўтар асноватворнага для М. трактата «Асновы хрысціянскага вучэння» (1539). Каноны веравызнання М., канчаткова кадыфікаванага на Дарцкай канферэнцыі 1632, уключаюць (акрамя агульнапратэстанцкіх прынцыпаў выратавання і ўсеагульнага свяшчэнства): пакаянне ў грахах, свядомае хрышчэнне дарослых, прычашчэнне, царк. адлучэнне, адмову ад вайсковай і дзярж. службы і інш., што прыводзіць іх да самаізаляцыі ад грамадства і дзяржавы; іх паводзіны характарызуюцца маралістычным рыгарызмам. Узмацненне ў Нідэрландах рэпрэсій супраць ератыкоў у 1540—50-я г. прымусіла многіх М. да эміграцыі. З 1683 цэнтрам дзейнасці М. стаў г. Джэрмантаўн (ЗША). Многія з іх эмігрыравалі ў Рэч Паспалітую, адкуль у 1789 пачалі перасяляцца ў Расію. У 1898 у ЗША створана Ген. канферэнцыя М., якіх цяпер у свеце каля 500 тыс. чалавек.

*Літ.:* К р е с т ь я н и н о в В.Ф. Меннониты. М., 1967. *Н.К.Мазоўка.*

МЕ́СА (позналац. missa ад лац. mitto пасылаю, адпускаю), і м ш а — галоўнае богаслужэнне ў каталіцкай царкве. Уключае чытанне малітваў, песнапенні ў суправаджэнні аргана, заканчваецца абрадам *прычасця*. Паводле рашэння II Ватыканскага сабора (1962—65) М. дазволена праводзіць на нац. мове, прычашчаць недухоўных асоб хлебам і віном, уключаць элементы нац. музыкі і інш.; таксама адноўлена агульная малітва ў царкве.

МЕ́СА — цыклічны вакальны ці вакальна-інструментальны твор на кананічны лацінскі тэкст. Выконваецца ў час імшы — цэнтральнага абраду сутачнага цыкла богаслужэння каталіцкай царквы, аналагічнага правасл. *літургіі*. М. складаецца з ардынарыя (раздзелы, тэкст якіх павінен гучаць штодзённа) і праприя (раздзелы, тэкст якіх мяняецца ў залежнасці ад пэўнага свята ці рытуалу). Ардынарый уключае 5 частак: Kyrie eleison (Госпадзі, памілуй), Gloria (Слава ў вышніх Богу), Credo (Верую), Sanctus (Свят) і Benedictus (Благаславёны), Agnus Dei (Ягня божае). Тэкст М. звычайна спяваюць, некаторыя раздзелы выконваюць рэчытацыяй. Асн. разнавіднасці М. — *рэквіем*, кароткая

М. (missa brevis, уключае Kyrie і Gloria) і харальная. Інтанацыйная аснова М. — грыгарыянскі харал.

Раннія ўзоры М. аднагалосыя і ананімныя. Прыкладна з 14 ст. паявіліся аўтарскія харавыя шматгалосыя творы (4-галосая Г. дэ Машо, 1364). У 15—17 ст. пераважалі харавыя М. без суправаджэння Г.Дзюфаі, І.Окегема, Я.Обрэхта, Жаскена Дэпрэ, А.Ласа, Дж. Палестрыны, Дж.Габрыэлі, К.Мантэвердзі. У 18—19 ст. М. ўключае сольныя, харавыя і аркестравыя нумары (сярод узораў — «Высокая меса» І.С.Баха, «Урачыстая меса» Л.Бетховена, М. c-moll В.А.Моцарта). Уплыў эстэтыкі рамантызму відавочны ў М. Ф.Шуберта, Ф.Ліста, А.Брукнера. У 20 ст. М. пісалі Л.Яначак, І.Стравінскі, Ф.Пуленк, А.Месіян і інш.

На Беларусі захаваліся шматлікія нотныя рукапісы з творамі ў жанры М., большасць якіх ананімныя або падпісаны імем перапісчыка ці ўласніка рукапісу (Міхалевіча з Полацка, М.Кніфкі з Гродна, Нікалаеўскага са Слоніма, рукапісы з Нясвіжа і інш., усе 18 ст.). Сярод аўтараў М. 18 ст. Шымкевіч, В.Данькоўскі, полацкі езуіт Лаўрыновіч (верагодна), у 19 ст. — Баброўскі, Ф.Міладоўскі, С.Манюшка, І.Глінскі, К.Горскі, Ю.Дашчынскі і інш. У сучаснай бел. музыцы да жанру М. звяртаюцца Л.Шлег (рэквіем «Помніце!», 1980), В.Капыцько («Меса ў гонар Св. Францыска Асізскага» 1993) і інш., А.Літвіноўскі («Грыгарыянская меса», 1994). *Т.А.Цітова.*

МЕСАЛІЯ́НСТВА — рэлігійнае вучэнне, якое ўзнікла ў 4 ст. на Усходзе. Мела шмат прыхільнікаў (месаліян, ці еўхітаў, энтузіастаў, еўстафіян) на тэр. Месапатаміі і Сірыі. Прадстаўнікі М. вызначаліся гранічнай ступенню *аскетызму* і адрачэння ад жыцця: жылі на вуліцах і плошчах на міласціну, маёмасць прадавалі ці раздавалі жабракам. У М. падкрэслівалася грахоўная прырода чалавека, якога могуць выратаваць толькі ўзмоцненыя малітвы. М. было цесна звязана з *маніхействам*, у 10 ст. месаліяне выступалі разам з *паўлікіянамі*. М. праследвалася хрысціянствам: на Гангрскім саборы асуджаны гранічны аскетызм месаліян, на 3-м сусв. саборы М. разам з маніхействам было прылічана да найб. шкодных сектаў. Месаліяне былі выцеснены з Сірыі ў Пафлагонію і Арменію, а ў далейшым спынілі сваю дзейнасць.

МЕСІ́Я (стараж.-яўрэйскае — памазаннік) — у іудаізме і хрысціянстве «божы пасланец», «выратавальнік», збавіцель, які павінен знішчыць зло і ўсталяваць «божае царства». Першапачаткова М. называўся цар, які пры ўступленні на трон памазваўся асвячоным алеем; у іншых выпадках — ідэальны дзярж. кіраўнік або святар. У час асіра-вавілонскага, персідскага, рымскага панавання над яўрэямі, калі няўдалыя спробы вызвалення пахіснулі веру ў магутнасць Яхве, у іудаізме склаўся класічны вобраз М. як збавіцеля, выратавальніка, які павінен узначаліць яўр. народ, вызваліць яго ад іншаземнага панавання і забяспечыць яму пануючае становішча сярод інш. народаў. У хрысціянстве ідэя М. ўвасобілася ў вобразе Ісуса Хрыста, які вёў радаслоўную ад цара Давіда і ахвяраваў сабою для выратавання ўсяго чалавецтва ад першароднага граху; уваскрэслы Хрыстос павінен прыйсці на зямлю ў другі раз, каб канчаткова знішчыць зло і вырашыць лёс чалавецтва. Ідэя аб М. прысутнічае ў інш. рэлігіях свету (Вішну — у індуізме, Майтрэя — у будызме, Саош'янт — у зораастрызме і інш.); яна была характэрна для многіх сялянскіх і нац.-вызваленчых рухаў. Многія сучасныя нетрадыц. культы ўвасабляюць ідэю М. ў вобразах заснавальнікаў гэтых вераванняў. *А.А.Цітавец.*

МЕСІЯНІ́ЗМ — 1) рэлігійнае вучэнне пра будучае выратаванне чалавецтва дзякуючы прыходу звышнатуральнай істоты — *месіі*, збавіцеля. Узнік у стараж. іудаізме і быў абумоўлены іншаземным панаваннем, сацыяльнай эксплуатацыяй і расчараваннем стараж. яўрэяў у вучэнні пра заступніцтва Яхве. У хрысціянстве М. заснаваны на веры ў выратаванне Ісусам Хрыстом не якой-небудзь канкрэтнай нацыі, а ўсяго чалавецтва і ў яго «другое прышэсце» пасля страшнага суда для ўсталявання на Зямлі вечнага «божага царства». Непасрэднае іудзейска-хрысц. паходжанне мае М. у будызме. У мусульман-шыітаў ён пашыраны ў форме вучэння пра махдзі — месію, які павінен аб'явіцца ў час другога прышэсця «схаванага імама». 2) Погляды на асаблівую ролю якога-небудзь народа, дзяржавы, сацыяльнай групы, арг-цыі, асобы ў вырашэнні грамадскіх праблем, канкрэтна-гіст. крызіснай сітуацыі. Месіянская канцэпцыя набыла своеасаблівае развіццё ў ідэалогіі сіянізму, у канцэпцыі асаблівай гіст. ролі Маскоўскай дзяржавы як «трэцяга Рыма» і богавыбранні рус. народа. Крыжовыя паходы і рэліг. войны натхняліся ідэяй асаблівай рэліг. місіі іх ініцыятараў, ажыццяўленне якой пажадана Богу і вядзе да ўсталявання «ісціннай» рэлігіі. Аднак з развіццём секулярызацыйных працэсаў М. паступова страчвае рэліг. змест. Ва ўмовах абвастрэння сац.-паліт. крызісаў растуць грамадскія надзеі на харызматычныя якасці таго ці інш. лідэра, магчымасці якіх-небудзь паліт. рухаў, партый, звышнатуральнае ўмяшанне незямных сіл і г.д. *І.В.Катляроў.*

МЕСТР (Maistre) Жазеф дэ (1.4.1753—26.2.1821) — французскі палітычны дзеяч, філосаф, публіцыст, граф. Скончыў езуіцкі калегіум, Турынскі ун-т. З 1788 сенатар савойскага сената. У

час Французскай рэвалюцыі 1789—99 эмігрыраваў у Сардзінію, з 1800 яе канцлер. У 1802—17 пасланнік сардзінскага караля ў Расіі. Меў уплыў на Аляксандра I і міністра народнай асветы А.К.Разумоўскага. Падтрымліваў дзейнасць ордэна *езуітаў* у Рас. імперыі. Гал. ініцыятар стварэння *Полацкай езуіцкай акадэміі*, удзельнічаў у яе ўрачыстым адкрыцці (22.6.1812). Выступаў супраць прагрэсіўных рэктараў Віленскага ун-та — І.Страйноўскага і А.Снядэцкага. У 1817 за празмерную падтрымку каталіцызму высланы з Расіі. Аўтар вялікай літаратурнай і эпісталярнай спадчыны. У лістах да Разумоўскага асвятляў гісторыю езуітаў на Беларусі. Захаваліся фрагменты яго перапіскі з генералам ордэна езуітаў Т.*Бжазоўскім* і мітрапалітам С.І.*Богушам-Сестранцэвічам*.

*Літ.:* Х о р у ж и й С.С. Карсавин и де Местр // Вопр. философии. 1989. № 3; Я к о в е н к о С. Иезуиты в России: «Записки» по истории о-ва Иисуса в царствование Екатерины II // Европейский альманах. М., 1991; К а т л я р ч у к А.С. Санкт-Пецярбургскі перыяд жыцця Ж. дэ Мэстра и Полацкая езуіцкая акадэмія // Albaruthenika Petropolitanae. Спб., 1996; Я г о ж. Жазэф дэ Мэстр і Тадэвуш Бржазоўскі ў справе адкрыцця Полацкай езуіцкай акадэміі // Віцебскі сшытак. 1997. № 3.

*А.С.Катлярчук, Э.К.Дарашэвіч.*

МЕТАДЫ́СТЫ, в е с л е я н ц ы — пратэстанцкая плынь, якая ўзнікла ў 2-й чвэрці 18 ст. ў Англіі ва ўлонні англіканскай царквы і вылучылася ў асобную арганізацыю. У 1729 Дж.Уэслі (Веслей) засн. у Оксфардскім ун-це рэліг. гурток, члены якога вылучаліся асаблівай набожнасцю, упартасцю і метадычнасцю (адсюль назва М.) у вывучэнні Бібліі. У 1740—60-я г. Уэслі стварыў самастойную строга цэнтралізаваную царкву з веравучэннем і арганізац. структурай. Дагматыка ў асн. агульная з інш. пратэстанцкімі канфесіямі. Вял. ўвага надавалася веры ў Св. Духа, што прыводзіла да эмацыянальных, часам экстатычных набажэнстваў; абраднасць больш спрошчаная, чым у англікан. У 1784 узнікла метадысцкая епіскапальная царква ЗША, пазней М. распаўсюдзіліся ў многіх краінах свету (пераважна ў калоніях і дамініёнах Вялікабрытаніі). У наш час М. аб'яднаны ў розныя, незалежныя адна ад адной рэліг. арг-цыі, якія падзяляюцца на 2 асн. кірункі: цэрквы без епіскапаў (англійскага паходжання) і епіскапальныя цэрквы (пад амерыканскім уплывам). У 1920-я г. амерыканскія М. засн. ў Заходняй Беларусі сваю місію з цэнтрам у Вільні. Аддзяленні місіі дзейнічалі ў Клецку, Лідзе, Шчучыне і інш. У Клецку актыўную рэліг. работу сярод вучняў Клецкай бел. гімназіі вёў пастар Нагуй, сюды перыядычна прыязджалі кіраўнікі Віленскай місіі англічанін Чэмберс і швейцарац Дып. У Клецку М. давалі вучням бясплатны інтэрнат, арганізоўвалі паходы на прыроду, выконвалі рэліг. і свецкія песні. У пропаведзях і спевах М. выкарыстоўвалі бел. мову (яе вывучалі і замежныя місіянеры), выпускалі на ёй сваю л-ру. Такая падкрэсленая ўвага да бел. культуры прыцягнула да М. некаторых прадстаўнікоў бел. інтэлігенцыі. Напр., з Віленскай місіяй супрацоўнічаў паэт Г.Леўчык, які перакладаў на бел. мову метадысцкія спеўнікі. Аднак ахапіць шырокія пласты насельніцтва Заходняй Беларусі ў 1920—30-я г. М. не ўдалося. Восенню 1944 на Беларусі мелася ўсяго 10 метадысцкіх супольнасцей: у Клецку, Лідзе, Нясвіжы, Шчучыне, Юрацішках (Іўеўскі р-н), Лідскім (2), Маладзечанскім (2), Пінскім р-нах; у большасці з іх не было пастараў. Тады ж была зроблена спроба стварыць «Епіскапальную царкву метадыстаў па Літоўскай ССР, БССР і УССР» са сваім статутам. Аднак неўзабаве дзейнасць М. на Беларусі заняпала і не аднавілася.

*Ю.В.Бажэнаў, М.Г.Макулік.*

МЕЧАНО́СЦЫ, о р д э н м е ч а н о с ц а ў — духоўна-рыцарскі ордэн, заснаваны ў 1202 рыжскім епіскапам Альбертам для абароны каталіцкай царквы ў Лівоніі і прымусовай хрысціянізацыі народаў Усходняй Прыбалтыкі. Афіцыйная назва Браты воінства Хрыстовага (Fratres militiae Christi) паходзіць ад апазнавальнага знака на белых плашчах рыцараў — мяча і крыжа. У 1205 папа рымскі Інакенцій III афіц. зацвердзіў ордэн і надаў яму статут на ўзор статута тампліераў. Паводле статута члены ордэна падзяляліся на братоў-рыцараў, братоў-святароў і братоў-службоўцаў. На чале ордэна стаяў выбарны магістр з рэзідэнцыяй у Рызе, які падпарадкоўваўся рыжскаму епіскапу. У 1-й трэці 13 ст. М., нягледзячы на процідзеянне Полацкага княства і Пскова, зламалі супраціўленне ліваў, земгалаў, латгалаў, эстаў, інш. прыбалтыйскіх плямён і авалодалі большай часткай тэр. сучасных Латвіі і Эстоніі. Паводле дагавораў з Рыжскім і інш. епіскапствамі ордэн М. атрымаў каля трэці заваяваных зямель і фактычна ператварыўся ў каталіцкую дзяржаву. Мясцовую ўладу ажыццяўлялі комтуры (начальнікі правінцыяльных замкаў) і фогты (адм. чыноўнікі). Браты аднаго замка складалі канвент, іх сход называўся капітулам, агульны сход усіх ордэнскіх братоў — генеральным капітулам. Гал. даходам ордэна была даніна з мясцовага прымусова хрысціянізаванага насельніцтва, а таксама ваенная здабыча. У 1236 аб'яднаныя сілы літоўцаў і земгалаў каля сучаснага г. Шаўляй (Літва) разбілі М., рэшткі якіх у 1237 аб'ядналіся з *Тэўтонскім ордэнам* і ўтварылі залежны ад яго *Лівонскі ордэн.* *Г.М.Сагановіч.*

МІКАЛА́Й (у свеце М а ц у к е в і ч Міхаіл; н. 2.6.1917, хутар Суяцін Саратаўскай вобл., Расія) — бел. рэлігійны і грамадскі дзеяч у эміграцыі. Бацькі паходзілі з в. Моталь Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл., у 1-ю сусв. вайну выехалі ў Паволжа і ў

1921 вярнуліся на радзіму. Скончыў украінскую духоўную семінарыю ў Вініпегу (Канада, 1954). У 1939 служыў у Войску Польскім. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Беларусі ў красавіку 1944 вывезены на прымусовую працу ў Германію. З сакавіка 1945 у Англіі, адзін са стваральнікаў Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Са жніўня 1951 у Канадзе. У маі 1952 пасвячоны ў святара, з 1954 настаяцель прыхода св. Кірылы Тураўскага ў г. Таронта *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі* (БАПЦ). У 1966 прыняў манаства, у 1968 пасвячоны ў епіскапа турава-пінскага і таронцкага. У маі 1983 на Надзвычайным Саборы БАПЦ выбраны яе першаіерархам. Адзін з ініцыятараў стварэння Бел. камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі (1989, у эміграцыі). Выдаў «Праваслаўны малітоўнік» (1966) і «Службоўнік» (1980).

*Літ.:* Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. Мн.; Мюнхен, 1999. С. 124—125. *Л.У.Языковіч.*

МІКАЛА́Й КУЗА́НСКІ [Nicolaus Cusanus; сапр. К р э б с (Krebs); 1.8.1401, г. Бернкастэль-Кус, Германія — 11.8.1464] — нямецкі філосаф, багаслоў, царк. і паліт. дзеяч. Скончыў Падуанскі ун-т (1424). Манах-аўгусцінец. Удзельнік Базельскага і Ферара-Фларэнційскага сабораў. З 1433 член папскай курыі, саветнік папы Пія II, з 1448 кардынал. Крыніцай пазнання лічыў вопыт. Зыходзячы з ідэй неапланатанічнай дыялектыкі і ням. містыкі, развіў вучэнне пра абсалют як супадзенне процілегласцей (канечнага і бясконцага, найменшага і найбольшага, адзінага і множнага і г.д.) і палажэнні пра ролю матэматычных паняццяў для пазнання прыроды, пра існаванне бясконца малых велічынь і інш. Аўтар матэматычных трактатаў, адзін з папярэднікаў касмалогіі М.Каперніка; сцвярджаў, што Зямля не з'яўляецца цэнтрам Сусвету і падобная на інш. планеты. Стварыў першыя геаграфічныя карты Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

*Тв.:* Рус. пер. — Соч. Т. 1—2. М., 1979—80.

МІКАЛА́Й МІРЛІКІ́ЙСКІ, М і к а л а й Ц у д а т в о р а ц — агульнахрысціянскі святы, епіскап г. Міры ў Лікіі. Паводле жыція святых нарадзіўся ў 260, памёр у 343, удзельнік І Усяленскага сабора (у яго спісах не пазначаны), змагар з арыянствам, праславіўся многімі цудамі. Лічыцца заступнікам падарожнікаў, сельскай гаспадаркі, усіх няшчасных і убогіх і інш. Адзін з найб. папулярных правасл. святых, якія фігуруюць у нар. легендах, часта далёкіх ад рэліг. разумення вобраза святога. Царква двойчы на год шануе памяць М.М. : 9(22) мая (М. «веснавы») — дзень перанясення мошчаў М.М. ў г. Бары (Італія) і 6(19) снеж. (М. «зімовы»).



**Мікалай Мірлікійскі.** Сярэдзіна 18 ст. Беларуская іканапісная школа.

МІКО́ЛА — старадаўняе каляндарна-абрадавае свята ў беларусаў і інш. славянскіх народаў у гонар апекуна земляробства і народнага заступніка святога Міколы. Вытокі свята, якое спалучыла элементы язычніцкай персаніфікацыі дабрадзейных сіл прыроды з прынцыпамі хрысціянства, у шанаванні культу *Вялеса.* Адзначаюць 2 разы ў год — вясною (9 мая ст. с.) і зімою (6 снежня ст. с.). да веснавога М. заканчвалася сяўба, упершыню пасля зімы выводзілі коней на начлег, спраўлялі магічныя абрады, якія мелі ахоўны сэнс, пачыналі стрыгчы авечак; пасля М. забаранялася пасвіць статак на сенажацях. Да зімовага М. заканчвалася малацьба.

МІЛАСЭ́РНАСЦЬ — дзейнае спачуванне і канкрэтна выяўленая дабрыня ў адносінах да бедных, абяздоленых, тых, што пакутуюць. Выводзіцца рэлігіяй з наказаў Бога і разглядаецца як адна з дабрачыннасцей, якія спрыяюць пераадоленню грахоўнасці. У паняцці «М.» злучаюцца 2 аспекты — духоўна-эмацыянальны (перажыванне чужога болю як свайго) і канкрэтна-практычны (рэальная дапамога). Вытокі М. як маральнага прынцыпу ў архаічнай родавай салідарнасці, якая абавязвала

цаной любых ахвяр вызваляць з бяды родзіча і паблажліва ставіцца да тых, хто нейкім чынам звязаны з асяроддзем «сваіх». М. прапаведуюць амаль усе сусветныя рэлігіі, найперш будызм і хрысціянства. Ідэал будызму — пустэльнік, які аддае сябе на з'ядзенне, каб накарміць галоднага льва (жывёлы як аб'екты М. прыраўнаваны да людзей, што лагічна вынікае з вучэння аб перасяленні душ). Хрысціянства ўносіць у М. спецыфічную матывацыю — асабістую любоў да Хрыста, які быццам бы становіцца на месца кожнага, хто адчувае патрэбу ў М.

МІ́НА ПО́ЛАЦКІ (не пазней 1065—1116) — беларускі святы, епіскап полацкі. Нарадзіўся ў Полацку або ў яго наваколлі. Юнаком паступіў у Кіева-Пячорскі манастыр, дзе прыняў пострыг пад імем Міны. Хіратонія ў полацкія епіскапы адбылася 13.12.1105. Адзін з першых полацкіх іерархаў, пра якога маецца датаванае летапіснае сведчанне. Верагодна, што пры яго ўдзеле выхоўвалася і падрастала Ефрасіння Полацкая, і пострыг яна прыняла яшчэ пры яго жыцці. Пра дзейнасць М.П. не захавалася якіх-н. звестак, але можна меркаваць, што пры ім добраўпарадкаваліся цэрквы і манастыры. Ушаноўваецца правасл. царквой як адзін з першых архіпастыраў, які спрыяў распаўсюджванню хрысціянства на Беларусі. Пакуль што невядома, дзе захоўваюцца мошчы святога: у Полацку або ў Кіеве. Дзень памяці 3 ліпеня.

МІНАРЭ́Т (ад араб. «манара» свяцільня) — вежа каля або на самім будынку мячэці, адкуль муэдзін заклікае вернікаў да намазу (абвяшчае азан). У наш час у многіх краінах М. захоўвае характар архітэктурнай дэкарацыі, а азан абвяшчаецца з невялікага ўзвышша ў двары мячэці.

«МІНЕ́І-ЧЭ́ЦЦІ» (ад грэч. mēnaios месячны + + старaж.-рус. — чытанне) — царкоўна-рэлігійныя зборнікі твораў павучальнага зместу, т.зв. «штомесячныя чытанні». Уключалі жыцці святых, павучанні, словы, казанні, легенды, складзеныя па месяцах у адпаведнасці з днямі ўшанавання царквою памяці пэўнага святога. Прызначаліся для штодзённага чытання. Узніклі ў Візантыі ў 9 ст. На Русі вядомы з 11 ст., найб. пашыраны ў 16 ст. ў сувязі з умацаваннем ідэалаг. асноў самадзяржаўя і стварэннем культу агульнарас. святых. У 1530—40-я г. складзены «Вялікія Чэцці-Мінеі» ў 12 тамах, у якіх сабраны творы царкоўна-апавядальнай і духоўна-павучальнай л-ры Русі ад пачатку хрысціянства, уключаны шэраг помнікаў стараж.-рус. л-ры. Амаль пасля кожнага жыція або казання змешчана «слова» айцоў царквы ці твор свецкага зместу. У складзе «М.-Ч.» дайшлі спісы каштоўнейшых помнікаў стараж.-рус. л-ры. На Беларусі вядомы «М.-Ч.» камянецкія і жыровіцкія (15 ст.), слуцкія (16 ст.), а таксама супрасльская рукапісная і друкаваная «Мінея агульная», віленская рукапісная (усе 17 ст.).

*Літ.:* Великие Минеи-Четии, собранные Всероссийским митрополитом Макарием. Вып. 1—14. СПб., 1868—1917; Гудзий Н.К. История древнерусской литературы. 7 изд. М., 1966.

*А.Ф.Коршунаў.*

МІНІ́СТР (лац. minister памочнік, даверaная асоба) — у пратэстантызме (найчасцей у *кальвінізме*) святар, які ўтрымліваецца за кошт вернікаў. Выбіраецца рэліг. абшчынай. М. можа быць кожны прыхаджанін, духоўная адукацыя і духоўнае званне неабавязковыя. Лічыцца не пасрэднікам паміж людзьмі і Богам, а настаўнікам, які, дзякуючы жыццёваму вопыту і ведам, дапамагае вернікам разумець Біблію і Бога. У службовым узроўні гэтая пасада адпавядае парафіяльнаму (прыходскаму) ксяндзу ў каталіцызме.

*В.Ф.Шалькевіч.*

МІ́НСКАЕ ДУХО́ЎНАЕ ВУЧЫ́ЛІШЧА — навучальная ўстанова, якая дае пачатковую духоўную адукацыю. Засн. ў 1989 у Мінску. Рыхтуе спецыялістаў царк. спеваў (пеўчых, псаломшчыкаў,



Будынак **Мінскай Вышэйшай духоўнай семінарыі**. Пач. 20 ст.

рэгентаў) для прыходаў Бел. правасл. царквы. Выкладаюцца (1999): біблейская гісторыя, царк. статут, катэхізіс, Святое пісанне, гісторыя царквы, літургіка, псіхалогія царк. зносін, царк.-слав. мова, тэорыя музыкі, сальфеджыо, дырыжыраванне, царк. хар. спевы, чытанне хар. партытур і інш. Прымаюцца асобы ва ўзросце да 35 гадоў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Навучанне дзённае.

МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЯ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ АРХІЕПАРХІЯ-МІТРАПОЛІЯ, Мінска-Магілёўская арцыдыяцэзія — царкоўна-адміністрацыйная адзінка каталіцкай царквы на Беларусі. Утворана ў 1991 шляхам злучэння Мінскай і Магілёўскай епархій (пра кожную гл. асобны артыкул), пераемніцай якіх яна з'яўляецца. Кіраўнік (з 1991) — архіепіскап-мітрапаліт кардынал К.*Свёнтак*.

МІНСКАЯ ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ — вышэйшая навучальная ўстанова Беларускай праваслаўнай царквы. Засн. ў 1785 у Слуцку як «Набожная Слуцкая праасвяшчэннага Віктара Садкоўскага семінарыя». У 1789 семінарыя закрыта, у 1793 аднаўлена і ў гэтым жа годзе, пасля ўсталявання Мінскай правасл. епархіі, яна атрымала назву Мінская духоўная семінарыя. У 1840 семінарыя пераведзена ў Мінск. Акрамя рэліг. навук вывучаліся медыцына, прыродазнаўства, сельская гаспадарка, гісторыя роднага краю. У 1918 семінарыя закрыта. У 1945 у *Жыровіцкім Успенскім манастыры* адкрыты пастырска-багаслоўскія курсы, якія ў 1947 пераўтвораны ў семінарыю. У 1963 семінарыя зноў закрыта. У 1989 яна аднаўлена на тэр. Жыровіцкага манастыра. У 1991 семінарыя пераўтворана з сярэдняй у вышэйшую навуч. ўстанову з 5-гадовым тэрмінам навучання. У ёй выкладаюцца 39 дысцыплін (багаслоўскія, філас., філал., гіст., царк.-практычныя і інш.). Пасля заканчэння 5-га курса студэнты абараняюць дыпломныя працы на ступень бакалаўра багаслоўя, што дае магчымасць паступаць у Духоўную акадэмію. Пры семінарыі дзейнічаюць нядзельная (з 1990) і рэгенцкая (з 1993) школы. У 1999/2000 навуч. г. на дзённым аддзяленні больш за 230 студэнтаў, на завочным — каля 200 студэнтаў-святароў, у рэгенцкай школе 30 навучэнцаў, у нядзельнай 30 дзяцей. *А.С.Балоннікаў.*

МІНСКАЯ ДУХОЎНАЯ АКАДЭМІЯ імя свяціцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага — вышэйшая навуч. ўстанова Бел. экзархата Маскоўскага патрыярхата. Засн. ў 1996 у в. Жыровічы (Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.). Паводле Статута навучанне мае 2 ступені: 1-я — 3 гады навучання (кандыдат багаслоўя), 2-я — аспірантура (2 гады навучання), дае права на абарону


Міна Полацкі.

магістэрскай дысертацыі. На 2-ю ступень акад. адукацыі дапускаюцца кандыдаты багаслоўя паводле рашэння Савета акадэміі. У 1999/2000 навуч. г. кафедры: Святога пісання, Старога і Новага запавету, дагматычнага і асн. багаслоўя, царк. гісторыі, стараж. і новых моў. Вывучаюцца акрамя багаслоўскіх такія дысцыпліны, як гісторыя Беларусі, праваслаўе і бел. культура, філасофія, педагогіка, царк.-слав., лац., стараж.-грэч., англійская, нямецкая мовы і інш. *А.С.Балоннікаў.*

МІНСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЕПАРХІЯ. Утворана ў крас. 1793 на тэр. Мінскага, Ізяслаўскага і Брацлаўскага генерал-губернатарства. З крас. 1795 уключала тэр. Мінскай і новаўтвораных Віленскай і Слонімскай (пазней Гродзенскай) губ. У 1833 у сувязі з адраджэннем *Полацкай праваслаўнай епархіі* тэр. М.п.е. паменшана да межаў Мінскай і Гродзенскай губерній. З 1840 тэр. епархіі ахоплівала толькі Мінскую губ. (575 прыходаў). Тады ж у Мінску пачала дзейнічаць пераведзеная са Слуцка Мінская духоўная семінарыя. З 1869 выдаваліся *«Минские епархиальные ведомости»*. У 1910 утворана Слуцкае вікарыяцтва. Напярэдадні 1-й сусв. вайны ў епархіі было 1230 храмаў (у тым ліку капліцы і дамовыя цэрквы), 566 прыходаў, 4 мужчынскія і 2 жаночыя манастыры, семінарыя, 5 духоўных вучылішчаў. У 1921 заходняя частка епархіі апынулася ў складзе Польшчы (Зах. Беларусь) і перайшла пад юрысдыкцыю Польскай аўтакефальнай правасл. царквы. У ліпені 1922 на з'ездзе духавенства ў Мінску абвешчана Мінская

мітраполія, якая падзялялася на Мінскую, Бабруйскую, Мазырскую, Слуцкую епархіі. Мітрапалітам стаў епіскап мінскі, які такім чынам узначаліў усю правасл. царкву на тэр. БССР. У выніку рэпрэсій супраць духавенства М.п.е. ў 2-й палавіне 1930-х г. фактычна спыніла функцыянаванне. Ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі ў кастр. 1941 з прызначэннем на мінскую кафедру кіруючага архірэя дзейнасць епархіі адноўлена ў межах *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У 1950-я г. ў сувязі з тым, што епіскапы на інш. бел. епархіі не прызначаліся, М.п.е. ў рангу мітраполіі засталася адзінай у БССР. Кананічна яна падпарадкоўвалася Маскоўскаму патрыярхату. У 1989 утвораны Бел. экзархат Маскоўскага патрыярхату (Бел. праваслаўная царква) на чале з мінскім мітрапалітам, які называецца таксама патрыяршым экзархам усяе Беларусі. З адраджэннем у 1989—92 стараж. бел. епархій межы М.п.е. мяняліся. З лютага 1992 яны супадалі з адм. граніцамі Мінскай вобл. У 1999 у адм. адносінах М.п.е. падзялялася на 20 благачынных акруг — Мінскую гарадскую, Мінскую раённую, Барысаўскую, Бярэзінскую, Валожынскую, Вілейскую, Капыльскую, Клецкую, Крупскую, Лагойскую, Маладзечанскую, Мядзельскую, Нясвіжскую, Пухавіцкую, Салігорскую, Слуцкую, Смалявіцкую, Старадарожскую, Стаўбцоўскую і Уздзенскую. У ёй налічвалася 279 прыходаў, дзейнічалі 183 храмы і 10 капліц. На тэр. епархіі дзейнічаюць манастыры: мужчынскі Свята-Благавешчанскі у Лядах (Смалявіцкі р-н) і 2 жаночыя — Свята-Іаана-Багаслоўскі Дамашанскі (Смалявіцкі р-н) і Свята-Елізавецінскі ў пас. Навінкі (Мінскі р-н). Да М.п.е. таксама адносіцца Свята-Успенскі Жыровіцкі манастыр (на тэр. Навагрудскай епархіі). Функцыянуюць *Мінская духоўная акадэмія* імя свяціцеля Кірылы, епіскапа Тураўскага (у Жыровіцкім манастыры), Багаслоўскі (тэалагічны) факультэт Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (Мінск). З 1989 адноўлена выданне «Минских епархиальных ведомостей». Тытулы кіруючых архірэяў — епіскапаў, архіепіскапаў, мітрапалітаў: мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі (1793—95), мінскі і літоўскі (1795—1833), мінскі і гродзенскі (1833—40), мінскі і бабруйскі (1840—78), мінскі і тураўскі (1878—1922), мінскі і беларускі (1922—89), мінскі і слуцкі (з 1991). Епархіяй кіравалі: архіепіскапы Віктар (Садкоўскі, 1793—96), Іоў (Пацёмкін, 1796—1812), Серафім (Глаголеўскі, 1812—14), Анатоль (Максімовіч) (1816—32), Яўгеній (Бажанаў, 1832—34), Ніканор (Кляменцьеўскі, 1834—40), Антоній (*Зубко*, 1840—48), *Міхаіл* (Галубовіч, 1848—68), Аляксандр (Дабрынін, 1868—77), Яўгеній (Шарашылаў, 1877—80), Варлаам (Чарняўскі, 1880—89), Сімяон (Лінькоў, 1889—99), Міхаіл (Цемнарусаў, 1899—12), епіскап Мітрафан (Краснапольскі, 1912—16), архіепіскап Георгій (Ярашэўскі, 1916—19), мітрапаліт *Мелхіседэк* (Паеўскі, 1919—26), епіскапы Арсеній (Смалянец, 1927—30), Феафан (Семяняка, 1930—35), архіепіскап Мадэст (Нікіцін, 1936—37), мітрапаліт *Панцеляймон* (Ражноўскі, 1941—44), архіепіскап Васілій (Ратміраў, 1944—47), мітрапаліты Піцірым (Свірыдаў, 1947—58), Гурый (Ягораў, 1958—61), Антоній (Крацэвіч, 16.4—17.7.1961), архіепіскап Варлаам (Барысевіч, 1961—63), мітрапаліты Нікадзім (Ротаў, 4.8—9.10.1963), Сергій (Пятроў, 1963—65), *Антоній* (Мельнікаў, 1965—78), *Філарэт* (Вахрамееў, з 10.10.1978).

*Літ.*: Мінская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999. С. 102—114. *Г.М.Шэйкін.*

МІНСКАЯ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ЕПАРХІЯ, Мінская дыяцэзія — царкоўна-адміністрацыйная адзінка каталіцкай царквы ў 19—20 ст. Засн. паводле імператарскага ўказа ад 28.4.1798. Яе тэр. супадала з межамі Мінскай губ. Падзялялася на 13 дэканатаў: Бабруйскі, Барысаўскі, Вілейскі, Дзісненскі, Ігуменскі, Мазырскі, Мінскія (гарадскі і сельскі), Надвілейскі, Наднёманскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слуцкі. Пры епіскапе дзейнічаў капітул з 6 *прэлатаў* і *канонікаў*, для вырашэння бягучых спраў была створана *кансісторыя*. У 1798 адкрыта духоўная семінарыя. У 1804 у склад епархіі ўваходзіла 86 *парафій* са 156 касцёламі, было 49 ксяндзоў і 112 214 вернікаў. У 1842 епархіі нададзены 3-і клас. У 1865 складалася з 11 *дэканатаў*, 80 парафій і 38 філій, 231 869 вернікаў. У 1798 на тэр. епархіі 50 мужчынскіх і 9 жаночых кляштараў, у 1846 — 14 мужчынскіх і 9 жаночых кляштараў розных *ордэнаў манаскіх*. У 1869 епархія скасавана, яе тэр. далучана да *Віленскай рымска-каталіцкай епархіі*. З 1883 яе касцёлы і адзіны дзеючы тады Слонімскі кляштар бернардзінак падпарадкаваны *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі*. У ліст. 1917 дзейнасць Мінскай епархіі адноўлена. У 1925 на частцы яе тэр., што ў 1921 адышла да Польшчы, створана *Пінская рымска-каталіцкая архіепархія*. Землі БССР па-ранейшаму ўваходзілі ў Мінскую епархію, якая фактычна не функцыянавала, але кананічна не была ліквідавана. У 1989 засн. апостальская адміністрацыя ў Мінску. У 1991 створана *Мінска-Магілёўская архіепархія-мітраполія*, якая з'яўляецца пераемніцай Мінскай і Магілёўскай епархій (архіепіскап-мітрапаліт — кардынал К.*Свёнтак*). Мінскую епархію ўзначальвалі: епіскап І.Дзядзерка (1798—1816), прэлаты С.Пазняк (1816—24) і Камінскі (1824—27), епіскап М.Ліпскі (1827—39), прэлат П.Рава (1839—53), епіскапы А.Вайткевіч (1853—69) і З.*Лазінскі* (1917—25). *В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава.*

МІНСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ, Мінская Адзігітрыя, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Паводле легенды, прывезены князем Уладзімірам Святаславічам з Корсуні (Херсона) і ад часоў хрышчэння Русі знаходзіўся ў Дзесяціннай царкве ў Кіеве. Уцалеў пры разбурэнні Кіева татара-манголамі ў 1240. У канцы 15 ст. ў час набегу на Кіеў крымскія татары знялі з абраза каштоўныя аздобы і кінулі яго ў Днепр. У 1500 таямнічым чынам з'явіўся ў Мінску на рацэ Свіслач насупраць замка. Яго заўважылі гараджане па незвычайным святле на гэтым месцы і ўрачыста перанеслі ў замкавую царкву Нараджэння Багародзіцы. Пасля прыняцця *Брэсцкай уніі 1596* вакол царквы і абраза адбывалася барацьба паміж мінскім магістратам і мітрапалітам *Рагозай*. 18.10.1616 паводле распараджэння уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Вельяміна Руцкага абраз перанесены з замкавай царквы ў храм Свята-Духаўскага манастыра. Мінскія мяшчане прасілі дазволу пабудаваць новую царкву ў замку і перанесці ў яе цудатворны абраз. Дазвол на будаўніцтва Руцкі даў, але абраз пакінуў «на вечныя часы» ў царкве Св. Духа, дзе ён і знаходзіўся пад апекай базыльян больш за 2 стагоддзі. Пасля далучэння Мінска да Рас. імперыі і ліквідацыі уніі Свята-Духаўская царква стала Петра-Паўлаўскім кафедральным саборам. У 1852 абраз быў укрыты новай сярэбранай пазалочанай рызай з каштоўнымі камянямі і кароткім гіст. надпісам унізе, над галовамі — каронай з брыльянтамі. У скарбонку каля абраза людзі апускалі і ахвяраванні і пісьмы-падзякі за вылячэнне. 22.10.1914 рас. імператар Мікалай II, прыехаўшы ў Мінск, адразу накіраваўся ў кафедральны сабор, каб пакланіцца абразу Маці Божай. У 1920-я г. каштоўная рыза з абраза знята, у 1936 сабор узарваны, абраз перададзены ў музей. У пач. Вялікай Айчыннай вайны абраз ўратаваны вернікамі і ў 1941 унесены ў сабор св. Кацярыны на Нямізе. Пасля закрыцця царквы на Нямізе ў 1945 святыню перанеслі ў Свята-Духаўскі храм, дзе ён і знаходзіцца ў ківоце ў паўночным нефе; карыстаецца вялікім шанаваннем. Святкуецца 13 жніўня (па старым стылі — дзень з'яўлення абраза ў 1500). Абраз намаляваны тэмперай па ляўкасе на драўлянай аснове з каўчэгам, яго памер 140 × × 105 см. Паводле іканаграфіі, Адзігітрыя, набліжаная да Цэсарскай, арнаментавана кветкавымі бутонамі. У сучасным выглядзе першапачатковы жывапіс знаходзіцца пад запісамі розных часоў. У 1990-я г. абраз адрэстаўрыраваны Пятром Журбеем, зняты найб. грубыя запісы.

*Літ.:* Пятисотлетие явления Минской иконы Божией Матери. Мн., 2000. *А.А.Ярашэвіч.*


**Мінскі абраз Маці Божай.**

МІНСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ — установа ордэна *езуітаў* у Мінску у 1657—1773 (з 1657 — місія, з 1686 рэзідэнцыя, з 1714 калегіум). У 1657 смаленскі біскуп Геранім Сангушка купіў для езуітаў у Мінску ўчастак на Высокім рынку і ахвяраваў ім 70 тыс. злотых (яго нашчадкі выдалі толькі дзесятую частку). У 1665 Тамаш і Елісавета Улоўскія падаравалі місіі маёнтак Нача і 5 тыс. злотых. У 1680 рэферэндарый ВКЛ Ц.П.Бжастоўскі з жонкай далі мінскім езуітам маёнтак Ніжыцы ў Аршанскім пав. і 50 тыс. злотых. Віленскі біскуп К.К.Бжастоўскі ў 1682 падараваў маёнтак Ніжняе ў Мінскім ваяв. У 1685 канцлер ВКЛ кн. М.Агінскі падараваў 50 тыс. злотых. Падобныя падараванні былі і ў 18 ст. Калегіум ператварыўся ў буйнога землеўласніка і ўладальніка вялікіх грашовых багаццяў. Каралі Рэчы Паспалітай далі калегіуму шэраг прывілеяў: Міхаіл Вішнявецкі — права збіраць маставы падатак, Аўгуст III — правы бязмытнага гандлю ва Упіравічах і рыбнай лоўлі ў р. Бярэзіна каля маёнтка Ніжыцы. Да канца 17 ст. пабудавана школа, у 1700—10 — касцёл Ісуса, Марыі і Барбары. У 1723 пачаў будавацца мураваны корпус калегіума (закончаны ў 2-й палавіне 18 ст.). Калегіум садзейнічаў умацаванню пазіцый каталіцызму на Беларусі, змагаўся супраць ідэй вальнадумства; адначасова ён спрыяў усталяванню і развіццю еўрап. сістэмы адукацыі. З 1678 у ім адкрыты класы граматыкі і паэзіі, з 1729 чытаўся курс філасофіі. Для бедных вучняў існавала бурса (інтэрнат); з 1737 дзейнічала аптэка. У 1773 у сувязі са скасаваннем ордэна езуітаў калегіум закрыты і перададзены Адукацыйнай камісіі. Касцёл пераўтвораны ў парафіяльны, у 1798—1869 быў ка-



**Мінскі кляштар бенедыкцінак.** Рэканструкцыя В.Сташчанюка.

федральным саборам Мінскай рымска-каталіцкай епархіі, у 1951 пераабсталяваны пад будынак спартыўнага т-ва «Спартак», у 1997 зноў адкрыты пасля рэстаўрацыі як кафедральны касцёл Дзевы Марыі. *Т.Б.Блінова.*

МІНСКІ КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК. Існаваў у Мінску ў 1633—1870-я г. Засн. віленскім канонікам і дзераўноўскім пробашчам В.Сялявай, які купіў у Мінску 2 дамы з інш. пабудовамі ў С.Друцкага-Горскага і А.Сакалінскага і перадаў іх бенедыкцінкам. Фундуш пацверджаны каралём Уладзіславам IV (14.7.1633) і зацверджаны віленскім біскупам А.Войнай. Першыя манашкі перасяліліся сюды з Нясвіжа. Напачатку будынкі былі драўляныя. Мураваны касцёл св. Войцеха пабудаваны ў 1647—49 намаганнямі віленскага ваяводы К.Хадкевіча і яго жонкі Соф'і (з Друцкіх-Горскіх) паводле праекта архітэктара Андрэаса Кромера. Пасля 1682 узведзены мураваны жылы корпус на сродкі К.К.С.Свірскай. У 1661 Марцыбела Зянкевічава (з Рагозаў) адпісала кляштару фальварак Колкі ў Мазырскім пав. У 1780-я г. касцёл рэканструяваны архітэктарам Т.Раманоўскім, у 1797—1800 гал. фасад — архітэктарам Ф.Крамарам. Комплекс уключаў касцёл, 2-павярховы жылы корпус з прыбудовай, 2 флігелі, бровар, свіран, стайню і інш. У канцы 18 — пач. 19 ст. кляштару належалі 3 фальваркі, 8 вёсак, 3 корчмы, млын і каля 93 валок зямлі. У 1799 у ім жылі 22 манашкі. Паводле інвентара 1804 кляштар меў фруктовы сад (150 дрэў) і агарод. У школе пры кляштары вучылася 18 дзяўчынак (толькі 6 з іх плацілі за вучобу). У пач. 1870-х г. кляштар скасаваны, у 1872 пераабсталяваны пад правасл. жаночы Праабражэнскі манастыр. У 1930-я г. будынак касцёла прыстасаваны пад клуб, у сярэдзіне 1960-х г. разбураны.

*Літ.:* Дзянісаў У.М. Кляштар бенедыктынак // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1981. № 3. *У.М.Дзянісаў.*

МІНСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК. Існаваў у Мінску ў 1633—1853. Першыя бернардзінкі з'явіліся ў горадзе ў 1630, аднак яны не мелі свайго касцёла і кляштара. Кляштар заснаваў трокскі ваявода А.Слушка, паводле фундацыі якога ў 1633 пабудаваны драўляныя касцёл і кляштар. Слушка падараваў бернардзінкам маёнтак Гатаў (цяпер в. Гатава Мінскага р-на), у якім былі 4 вёскі, 4 корчмы, 2 млыны, больш за 109 валок ворнай зямлі. Дзякуючы намаганням А.Слушкі ў 1642 пачалося будаўніцтва новага мураванага касцёла Дабравешчання. Кляштар моцна пацярпеў у 1656 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Адноўлены пасля вайны будынак касцёла асвячоны ў 1687 віленскім біскупам Мікалаем Слупскім. У гал. алтары касцёла знаходзіўся цудатворны абраз Маці Божай, пра які ў 1672 напісана кніга. Пасля пажару 1741 комплекс кляштара рэканструяваны. У 1762 у касцёле пабудаваны новы гал. мураваны алтар. Комплекс кляштара складаўся з 3-нефавага 2-вежавага касцёла ў стылі барока, мураваных жылога корпуса і флігеля, а таксама драўляных гасп. пабудоў. Кляштар пацярпеў ад вял. пажару Мінска 1835, але ў хуткім часе адноўлены. Каля 1842 у ім жылі 20 манашак-бернардзінак, 1 паслушніца, 1 кандыдатка і 2 манашкі ор-



**Мінскі езуіцкі калегіум.** Малюнак Н.Орды. 1860-я г.


Да арт. **Мінскі кляштар бернардзінак**. Мінскі Свята-Духаўскі кафедральны сабор.

дэна тэрцыярак; у ім выхоўваліся таксама каля 20 дзяўчат, большасць з якіх страціла бацькоў. У 1853 кляштар скасаваны. У 1870 будынкі кляштара перададзены Мінскаму Свята-Духаву правасл. манастыру. У 1926 комплекс кляштара пастановай урада узяты пад дзяржаўную ахову як помнік архітэктуры. Пасля Вял. Айч. вайны ў будынку касцёла знаходзіцца правасл. кафедральны сабор.
*У.М.Дзянісаў.*

МІНСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Існаваў у 1624—64 у Мінску. Засн. краснасельскім старостам А.Кенсоўскім, які разам са сваёй жонкай Гальшкай з Ляўковічаў у 1624 запісаў бернардзінцам для канвента (жылога памяшкання) вялікі драўляны дом на Высокім рынку. У 1625 гэты фундуш зацверджаны каралём Жыгімонтам III (адначасова кляштару перададзены дадатковыя зямельныя пляцы), у 1628 — пацверджаны віленскім біскупам Я.Валовічам. У 1630-я г. намаганнямі Яна, сына А.Кенсоўскага, драўляны дом перабудаваны пад будынак канвента і ў 1638 пабудаваны драўляны касцёл св. Юзафа, якія неўзабаве згарэлі. У 1644 віленскі біскуп А.Война даў згоду на будаўніцтва мураваных касцёла і кляштара. У 1656 у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай комплекс кляштара моцна пацярпеў, пасля вайны адноўлены. У 1676 да касцёла прыбудавана мураваная капліца з пахавальнай крыптай (фундатар К.Завіша). Пасля пажару 1740 комплекс кляштара ў 1752 рэканструяваны (некаторыя дакументы лічаць гэтую рэканструкцыю новым будаўніцтвам). У 1753 на ахвяраванні рэчыцкага харунжага Я.Юдыцкага (8 тыс. злотых) пры кляштары засн. брацтва св. Ганны. У касцельнай крыпце і на кляштарных могілках былі пахаваны прадстаўнікі вядомых шляхецкіх і магнацкіх родаў: Завішаў, Кенсоўскіх, Тышкевічаў, Хмараў і інш. У 18 ст. пры кляштары існавала школа філасофіі (у 1753—99 у ёй 8—10 студэнтаў, 2 выкладчыкі). У 1819 засн. пачатковая школа з навучаннем па сістэме Бела—Ланкастэра (88 вучняў). У 1830 у кляштары было 13 манахаў і 12 клірыкаў (навучэнцаў школы філасофіі). У 1835 комплекс кляштара пацярпеў ад пажару. У 1864 кляштар скасаваны і прыстасаваны пад турму, дзе трымалі ўдзельнікаў паўстання 1863—64. Пазней будынкі кляштара перададзены ваеннаму ведамству. Касцёл у 1872 прыстасаваны пад архіў, з 1992 у ім знаходзяцца Архіў навук.-тэхнічнай дакументацыі і Архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь. Помнік рэспубліканскага значэння.
*У.М.Дзянісаў.*


Касцёл **Мінскага кляштара бернардзінцаў**.

МІНСКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ. Існаваў у 1680—1832 у Мінску. Засн. мінскім падкаморым Т.К.Горскім, які 19.10.1680 ахвяраваў пляц для пабудовы кляштара. У 1681 мінскі стольнік Т.Ванькові́ч падараваў кляштару пляц на Татарскай вул. і 2 тыс. злотых; у 1689 новыя пляцы яму ахвяравалі Е.Кастравіцкі і С.Заблоцкі. У 18 ст. папячыцелямі кляштара былі А.Прушынскі, С. і К. Камоцкія, Ю.Світы-Ііч і інш. Паводле візіты (інспекцыі) 1796 комплекс кляштара размяшчаўся на рагу вул. Францысканскай (цяпер вул. Леніна) і Юр'еўскай. Уключаў драўляны крыжападобны ў плане 2-вежавы касцёл св. Антонія, інтэр'ер якога ўпрыгожвалі 4 драўляныя разныя алтары. Мураваны жылы будынак кляштара ўзведзены ў 18 ст. на месцы драўлянага будынка 2-й палавіны 17 ст. Уяўляў сабой 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус пад 2-схільным чарапічным дахам. Яго тарцовы фасад завяршаўся трохвугольным франтонам са скульптурамі 2 анёлаў і рэльефнай выявай сонца з прамянямі (у тымпане). Меліся драўляныя пабудовы (2 жылыя дамы, стайня, бровар і інш.), агарод, фруктовы і дэкаратыўны сад. Комплекс быў абнесены высокай муранай агароджай з брамамі. У канцы 18 ст. ў кляштары было 5 манахаў. У 1798—99 францысканцы пераведзены ў будынкі Мінскага касцёла і кляштара кармелітаў. Як установа М.к.ф. скасаваны ў 1832. Драўляны касцёл св. Антонія перанесены на мінскія Кальварыйскія могілкі (у 1839—41 на яго месцы пабудаваны новы мураваны касцёл). Пабудовы кляштара па Францысканскай вул. ў пач. 19 ст. перададзены Мінскай каталіцкай семінарыі, якая знаходзілася там да 1843, потым мураваны будынак належаў кансісторыі *Мінскай рымска-каталіцкай епархіі*. У 2-й палавіне 19 ст. перабудаваны пад Мінскую гарадскую ўправу. У Вялікую Айчынную вайну ён пашкоджаны, у канцы 1940-х г. пры рэканструкцыі вул. Леніна разбураны.

*У.М.Дзянісаў.*

МІНСКІ ПЕТРА-ПАЎЛАЎСКІ МАНАСТЫР — праваслаўны мужчынскі манастыр у Мінску ў 17—18 ст. Засн. ў пач. 17 ст. ў адказ на захоп мінскіх правасл. цэркваў і манастыроў уніяцкім духавенствам. У 1611 Аўдоцця Статкевічава (з кн. Друцкіх-Горскіх) ахвяравала на буд-ва манастыра 3 пляцы на вул. Юроўскай. У 1612 52 шляхціцы і мешчаніны Мінска і Мінскага ваяв. спецыяльнай граматай абвясцілі сябе царк. старастамі і фундатарамі гэтага манастыра. У 1613 узведзены манастырскі комплекс. Напачатку ўсе будынкі былі, відаць, драўляныя. Царква, што захавалася цяпер, пабудавана ў канцы 1620-х г. У 17—18 ст. манастыру належалі фальварак Пярэспа, 2 сенажаці ў Крупцы і на Камароўскім балоце (цяпер у межах Мінска), шэраг зямельных пляцаў у Мінску. У 1624 кіеўскі мітрапаліт *Іоў Барэцкі* выдаў грамату на заснаванне пры М.П.м. жаночага манастыра (у 1635 пацверджана мітрапалітам Пятром *Магілай*). У 1691 М.П.м. вытрымаў трохдзённую «аблогу» мясц. католікаў і уніятаў. У 1742 драўляны жылы корпус і мураваная царква моцна пацярпелі ад пажару. У 1793—95 царква капітальна адрамантавана на сродкі, ахвяраваныя рас. імператрыцай Кацярынай II, і перайменавана ў царкву св. Кацярыны. У 1795 манастыр скасаваны, манахі ў 1795—99 пераведзены ў Мінскі Свята-Духаўскі манастыр, потым — у Пінскі Богаяўленскі манастыр; царква стала гарадскім саборам. У 1870—71 грунтоўна перабудавана. У канцы 1940-х г. будынак царквы прыстасаваны пад жыллё, потым — пад Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі і Архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі. З 1997 царква зноў дзейнічае, рамонт інтэр'ера працягваецца.

*Р.В.Бараны.*

МІНСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ. Існаваў у 1908—15 пры *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце*. З 1909 музеем кіраваў А.К.Снітка. Экспазіцыя мела 1363 экспанаты (1910), сярод іх рэчы царк. даўніны, рэліг. культу, матэрыялы этнаграфічных экспедыцый па гісторыі гербаў і пячатак, тэксты народных песень, казак, паданняў, каля 500 стараж. манет, археалагічныя знаходкі з раскопак пад Пінскам, Радашковічамі, Слуцкам, Туравам. Сярод збораў кніжнага фонду (каля 1900 тамоў, 1910) Апостал і Тыпікон (16 ст.), Мінея агульная (канец 17 ст.), Сінопсіс (18 ст.), архіў Слуцкага Трайчанскага (Троіцкага) манастыра. У музеі захоўвалася частка калекцыі бел. археолага Г.Х.Татура. У пач. 1-й сусв. вайны экспанаты музея эвакуіраваны ў Разань (Расія). У 1922 вернутая частка фонду і 250 кніг трапілі ў царк. аддзел Бел. дзярж. музея, астатнія выданні кніжнага фонду перададзены дзярж. б-цы, архівы — у цэнтр. архіў. Некаторыя рэчы, у т.л. рукапісы, захоўваюцца ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі.

Будынак музея пастаўлены на тэр. архірэйскага падвор'я ў 1913 у азнаменаванне 300-годдзя дома Раманавых (архітэктар В.Струеў). Быў задуманы як частка архітэктурна-маст. комплексу духоўнай рэзідэнцыі Мінскай епархіі, якая ўключала пабудовы архірэйскага падвор'я і праектуемыя будынак музея і агароджу з цэнтральным парадным уваходам. Выкананы ў неарускім стылі. 2-павярховы прамавугольны ў плане цагляны будынак пастаўлены на высокі цокаль і накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад асіметрычнай кампазіцыі. З усходняга боку да яго прыбудавана круглая ў плане вежа, завершаная шлемападобным купа-

лам. Сцены вежы, стылізаванай пад стараж. абарончую, былі прарэзаны байніцамі, верхняя частка аформлена машыкулямі і геаметрычным арнаментам. З заходняга боку фасад фланкіраваны невялікай квадратнай у плане вежачкай, прарэзанай неглыбокімі нішамі і завершанай высокім 4-гранным шатром. Гал. ўваход падкрэслены кілепадобным франтонам, упрыгожаны арнаментам. Фасады падзелены карнізным пояском. Высокія лучковыя аконныя праёмы ўпрыгожаны дэкаратыўнымі паўкалонамі, 2- і 3-лопасцевымі аркамі, філёнгамі і інш. элементамі. Агароджа з цэнтральным парадным уваходам аддзяляла архірэйскае падвор'е ад Аляксандраўскага сквера. Цэнтральны парадны ўваход меў тыя ж архітэктурныя формы, што і будынак музея: высокія фланкіруючыя квадратныя ў плане слупы-вежачкі завяршаліся вастраверхімі шатровымі дахамі; карнізныя пояскі, што апяразвалі вежачкі, мелі просты геаметрычны арнамент. Лучковая металічная арка была вырашана ў духу венскага мадэрна. Каваныя рашоткі, агароджа, вароты, брама былі зроблены высокакваліфікаванымі мясцовымі кавалямі. У 1930-я г. агароджа знішчана. У 1915—20 у будынку размяшчаўся Народны дом, з 1963 — Дом работнікаў мастацтваў.

*Літ.:* Шыбека З.В., Шыбека С.Ф. Мінск: Старонкі жыцця дарэв. горада: Пер. с рус. Мн., 1994; Чернатов В.М. Памятник творческого содружества // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1979. № 2. *А.С.Жмуроўскі, В.М.Чарнатаў.*

МІНСКІ ЦАРКОЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ КАМІТЭТ. Дзейнічаў з лютага 1908 да пач. 1-й сусв. вайны. Створаны ў Мінску Сінодам пры *Мінскай праваслаўнай епархіі* па ініцыятыве інтэлігенцыі для збору і вывучэння старажытнасцей на тэр. Міншчыны. Кіраўнікі: М.М.Былоў, з 1909 А.К.Снітка. Камітэт праводзіў даследаванні і апісанні помнікаў даўніны і гісторыі, збор і запісы фальклору, вывучэнне манастырскіх архіваў, меў бібліятэку і *Мінскі царкоўнаархеалагічны музей*. Члены камітэта чыталі лекцыі па гісторыі і культуры Беларусі. У яго рабоце ўдзельнічалі вядомыя навукоўцы Д.І.Даўгяла, А.А.Шахматаў. Камітэт выдаў зб. дакументаў «Мінская даўніна» і 1-ы выпуск кнігі «Апісанне рукапіснага аддзела і старадрукаў бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта» (1909).

*Літ.:* Шыбека З.В., Шыбека С.Ф. Мінск: Старонкі жыцця дарэв. горада. Мн., 1994. *А.С.Жмуроўскі.*

«МІНСКИЕ ЕПАРХИАЛЬНЫЕ ВЕДОМОСТИ» — часопіс *Мінскай праваслаўнай епархіі*, які выдаваўся ў 1896—1917 у Мінску на рус. мове 2 разы на месяц (у 1871—72 штотыднёва). Мелі афіц. аддзел і неафіц. «Приложения». У афіц. аддзеле змяшчаліся паведамленні аб рабоце Сінода, распараджэнні па епархіі, указы пра перамяшчэнні і ўзнагароды свяшчэннаслужыцеляў, некралогі, справаздачы епархіяльнага ўпраўлення аб рабоце сваіх структур (царк., гаспадарчых, навуч.), асвятлялася жыццё манастыроў і царк. прыходаў. У «Приложениях» публікаваліся творы вядомых дзеячаў правасл. царквы, павучанні і пропаведзі *айцоў царквы*, артыкулы па царк. гісторыі і археалогіі, паведамленні аб дзейнасці царк. брацтваў і сястрынстваў, духоўных асветных і дабрачынных устаноў, змяшчалася рэклама аб новых кнігах, асвятлялася работа рэстаўрацыйных майстэрняў. Вялікая ўвага аддавалася місіянерскай дзейнасці сярод старавераў і сектантаў. У 1989 выданне «М.е.в.» адноўлена. *Л.У.Салодкіна.*



Кацярынінская царква **Мінскага Петра-Паўлаўскага манастыра**.

МІРА (ад грэч. myrrha духмяны алей) — састаў, які выкарыстоўваецца пры ажыццяўленні таінства *мірапамазання*. Першапачаткова М. ўяўляла сабой звычайны раслінны алей. З 6 ст. да яго сталі дадаваць бальзам і духмяныя рэчывы. У правасл. цэрквах М. вырабляюць з аліўкавага алею, белага вінаграднага віна і духмяных рэчываў.

МІРАПАМАЗАННЕ — адно з 7 таінстваў. Паводле правасл. і каталіцкага вучэнняў, у выніку М. чалавек спасцігае божую ласку. Перад М., духоўная асоба чытае малітву аб пасланні на чалавека Св. Духа, пасля чаго са словамі «пячаць Святога Духа» крыжападобнымі рухамі змазвае яму лоб, вочы, ноздры, вушы, грудзі, рукі і ногі спец. араматычным алеем (*міра*). Абрад выконваецца пасля *хрышчэння*.

МІСАЇЛ (?, в. Чарэя Чашніцкага р-на Віцебскай вобл. — 1480?) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. У гіст. працах 19 ст. вядомы як М.П е с т р у ч э й (Пструх, Пяструцкі, Пструцкі; бо мянушка яго брата Міхаіла — Пструх — памылкова была прынята за прозвішча ўсяго роду). Незадоўга да 1454 стаў епіскапам смаленскім. У 1454 разам з братам Міхаілам заснаваў у Чарэі манастыр св. Тройцы. У 1456 вярнуў з Масквы ў Смаленск абраз Маці Божай Адзігітрыі Смаленскай. Напачатку выступіў супраць прыхільніка царк. уніі *Грыгорыя Балгарына*, пазней падтрымаў ідэю уніі. Каля 1475 абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі (рэзідэнцыя ў Навагрудку), але не быў зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам. Магчыма, у 1476 арганізаваў зварот вышэйшых правасл. духоўных і свецкіх асоб да рымскага папы Сікста IV (т.зв. эпістолію М.), тэкст якога ў пач. 17 ст. выкарыстоўваў для прапаганды уніі мітрапаліт І.*Пацей*. Аднак аўтэнтычнасць «эпістоліі» ці яе значнай часткі аспрэчвалі многія даследчыкі. Апошнія звесткі пра М. адносяцца да 1480, калі ён, верагодна, і памёр.

*Літ.:* М а к а р и й (Булгаков). История русской церкви. Кн. 5. История западнорусской, или Литовской, митрополии (1458—1596). М., 1996. С. 40—50; М а р т о с А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

*А.В.Белы.*

МІСІЯНЕ́РСТВА (ад лац. missio пасылка, даручэнне) — форма дзейнасці рэлігійных арганізацый па распаўсюджванні свайго веравучэння і культу сярод іншаверцаў. Характэрна для ўсіх сусв. рэлігій, найб. пашырана ў *хрысціянстве*. Дзейнасць першых *місіянераў* у Зах. Еўропе звязана з пашырэннем хрысціянства як пануючай ідэалогіі феадальнага грамадства. Місіянерская дзейнасць каталіцкай царквы ў 10—13 ст. спалучалася з крыжовымі паходамі, прымусовым хрышчэннем мясцовага насельніцтва. Намаганні правасл. місіянераў садзейнічалі распаўсюджванню хрысціянства сярод малалікіх народаў Расіі на Поўначы, Урале, у Сібіры, а таксама ў Амерыцы (Аляска, Каліфорнія), Кітаі, Японіі і інш. У 15—16 ст. М. стала часткай дзейнасці ордэнаў *францысканцаў, бенедыкцінцаў, дамініканцаў, езуітаў*. Місіянеры пракладвалі шлях заваёўнікам — салдатам і купцам еўрап. краін, іх дзейнасць суправаджалася знішчэннем помнікаў нац. культуры як язычніцкіх, іншаверных. У 18—19 ст. ствараліся пратэстанцкія місіянерскія т-вы — Нідэрландскае (1792), Лонданскае (1795), Англійскае (1797), Берлінскае (1824), якія кіравалі дзейнасцю евангелічных місій. М. адыграла значную ролю ў барацьбе за перадзел свету. Асаблівая актыўнасць у гэтым належала Ватыкану і створанай пры ім кангрэгацыі прапаганды веры. Пасля 1-й сусв. вайны ў энцыкліках рымскіх пап намечана новая тактыка Ватыкана, якая прадугледжвала падрыхтоўку каталіцкага духавенства і місіянераў з мясцовага насельніцтва з мэтай прыстасавання прапаганды да мясцовых звычаяў і нораваў. Разам з тым М. садзейнічала пашырэнню санітарна-гігіенічных ведаў, лячэнню хвароб і барацьбе з эпідэміямі, вывучэнню еўрап. моў і авалоданню дасягненнямі еўрап. культуры (стварэнне і дзейнасць місіянерскіх школ, дзіцячых дамоў, бальніц, б-к і г.д.).

На тэр. Вялікага княства Літоўскага місіянерскую дзейнасць шырока праводзілі каталіцкія манахі т.зв. *жабрацкіх ордэнаў, езуіты*. Місіянерскія пляцоўкі знаходзіліся ў Вільні (засн. 1695, з 1803 дзейнічала школа, дзе навучалі чытанню, пісьму, арыфметыцы, лац. і рус. мовам, катэхізісу, маральным навукам), у Асвеі (1788), Лыскаве (1751, з 1757 дзейнічала павятовая 6-класная школа, шпіталь), Оршы (1752), Сямяцічах (1719), Смілавічах (1747), Смолінску (1808, парафія і школка), Тыкоціне (1751). Дзейнічалі таксама семінарыі ў Магілёве (1783), Мінску (1804), Беластоку, Краславе, рэзідэнцыя ў Ігумене. У 1921—39 актыўную місіянерскую дзейнасць у Заходняй Беларусі вяла каталіцкая царква, а таксама *баптысты, евангельскія хрысціяне, пяцідзесятнікі*.

У канцы 20 ст. формы і метады М. змяніліся. Ордэн езуітаў у 1965 распрацаваў сучасныя прынцыпы М., у іх ліку навучанне або абуджэнне веры як адказ на пытанні людзей, выкарыстанне нац. мовы, рэалістычнае ўспрыняцце сучаснай цывілізацыі, дыялогі і кантакты, аб'яднанне місіянерскай і пастырскай дзейнасці і інш. У аснову дзейнасці пратэстанцкай царквы пакладзена евангелізацыя — распаўсюджванне і ўкараненне ў сістэму мясцовых і культурна-гіст. традыцый і веравызнання асн. палажэнняў хрысц. веравучэння, яго абрадавай практыкі і адпаведнага светапогляду. У краінах і рэгіёнах, дзе маюць месца секулярызацыйныя тэндэнцыі або атэістычныя настроі, пастаўлена мэта рэевангелізацыі, пераўтварэння традыц. канфесій і плыняў у састаўную частку абвешчанага місіянерамі вучэння. У Рэспубліцы Беларусь М. вядзецца з выкарыстаннем такіх форм, як аказанне гуманітарнай дапамогі, выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі, арэнда залаў, стадыёнаў для агітацыйнай работы, арг-цыя паездак за мяжу і інш. *І.В.Катляроў.*

МІСІЯНЕ́РЫ, м і с і я н е р ы св. В і н ц э н т а з П а ў л а (Congregatio Missionis) — аб'яднанне рымска-каталіцкіх святароў. Засн. ў 1625 у Парыжы Вінцэнтам з Паўла, у 1632 зацверджана рымскім папам Урбанам VIII. Гал. іх мэта — пашырэнне каталіцызму праз місіянерскую дзейнасць і падрыхтоўка да яе моладзі. *Ка-*

*пітум* М. знаходзіўся ў Парыжы пры касцёле св. Лазара (наз. таксама л а з а р ы с т ы). У 1651 М. запрошаны ў Польшчу каралевай Марыяй Людвікай (жонкай Яна Казіміра), гал. іх рэзідэнцыя была пры касцёле св. Крыжа ў Варшаве. У ВКЛ місіянерскія пляцоўкі былі: у Вільні (засн. у 1695 гетман К.Сапега, з 1803 дзейнічала школа), у Асвеі (Верхнядзвінскі р-н, засн. у 1788 мінскі ваявода Гільзен), у Лыскаве (Пружанскі р-н, засн. у 1751 ксёндз Быхавец, з 1797 дзейнічала павятовая 6-класная школа, да 120 вучняў, шпіталь, захаваўся мураваны касцёл), у Оршы (з 1752), у Сямятычах (Беластоцкае ваяв. Польшчы, засн. ў 1719 пісар ВКЛ М.Сапега і ксёндз М.Красоўскі), у Смілавічах (Чэрвеньскі р-н, засн. у 1747 М.М.Завішанка з Агінскіх; мураваны касцёл існаваў у 1781—1930-я г.), у Смолінску (каля Ашмян, з 1808, парафія і школка, канонік М.Янкоўскі) і інш. Дзейнічалі таксама семінарыі ў Магілёве (1783), Мінску (1804), Беластоку, Краславе (Латвія), рэзідэнцыя ў Ігумене. У 1832 аб'яднанне М. у Рас. імперыі скасавана, усе яго ўстановы закрыты.

*А.А.Ярашэвіч, М.А.Дабрынін.*

МІ́СТЫКА, м і с т ы ц ы з м (ад грэч. mistikos таямнічы) — рэлігійна-філасофскія плыні, якія прызнаюць магчымасць непасрэдных зносін і яднання чалавечай душы з Богам (абсалютам) на прынцыпах звышпачуццёвага сузірання і індывідуальнага экстатычнага перажывання. У гэтым плане М. супрацьпастаўляецца *схаластыцы*, якая звязвае шлях спасціжэння Бога з логікай разважання, г. зн. з прынцыпамі рацыяналізму.

Вытокі М. ў стараж. таямнічых рэліг. арганізацыях і культах, якія па-рознаму праяўляліся ў розных сістэмах і тэалагічных дактрынах народаў свету. У Стараж. Грэцыі існавалі містычныя культы орфікаў, Дыянісія, Ісіды, Мітры; у стараж. Кітаі М. праяўлялася ў даасізме, у Стараж. Індыі — у будызме і брахманізме, у Іране — у суфізме. Найб. пашырэнне М. атрымала ў эпоху Сярэднявечча. У філасофска-тэарэтычным плане М. абгрунтавана ў працах неаплатонікаў і раннехрысц. багасловаў (Арыген, Афінагор, *Аўгусцін* і інш.), якія распрацоўвалі паняцце трансцэндэнтальнага абсалюту. Адрозніваюць М. артадаксальную і неартадаксальную. А р т а д а к с а л ь н а я М. прызнавалася хрысц. царквой. Яе прадстаўнікі (Бернар Клервоскі, Гуга Сен-Вікторскі і інш.) пры тлумачэнні шляху спасціжэння Бога зыходзілі з вучэння Аўгусціна аб звышпачуццёвым азарэнні чалавечай душы па літасці божай. Н е а р т а д а к с а л ь н а я М. (Іаан Скот Эрыўгена, *Мікалай Кузанскі* і інш.) прызнавала тоеснасць прыроды душы і Бога і ў нейкай ступені змыкалася з *пантэізмам*, які адвяргаўся царквой. Выступленне прыхільнікаў гэтай плыні за індывідуальныя шляхі богапазнання ў канчатковым выніку прыводзіла да апазіцыі ў адносінах да іерархічных рэліг. інстытутаў, свяшчэнных і царк. аўтарытэтаў (напр., містычны пантэізм Т.Мюнцэра, які спалучаўся з элементамі рацыяналізму і атэізму). У Расіі, акрамя рэліг. арганізцый, М. прапагандавалася славянафіламі, масонамі, філосафамі-ідэалістамі (У.Салаўёў, М.Бярдзяеў). Ідэі М. распаўсюжваюцца ў неатамізме, персаналізме, экзістэнцыялізме, прагматызме, неапратэстантызме. *Т.І.Адула.*

МІСТЭ́РЫІ (ад грэч. mystērion тайна, таінства) — тайныя рэлігійныя абрады (шэсці, заклінанні, оргіі і інш.), у якіх удзельнічалі толькі пасвячоныя — місты. Звычайна ілюстравалі пашыраныя міфы пра багоў і багінь. У Стараж. Егіпце адбываліся М. Ісіды і Асірыса, у Вавілоне — Тамуза, у Стараж. Грэцыі — Элеўсінскія, Арфічныя, Самафракійскія, у Стараж. Рыме — Вакха (Дыяніса), Атыса і інш.

МІ́ТРА — у рэлігіях і міфалогіі Стараж. Ірана, Індыі і Мітані (сучасная паўночная Сірыя) бог святла, сонца, праўды, справядлівасці і дагавору, гарант устаноўленых або абумоўленых адносін у свеце і грамадстве. Увасабляе добразычлівы ў адносінах да чалавека бок боскай існасці. З 1 ст. да н. э. культ М. быў пашыраны на тэр. Рымскай дзяржавы, у 5 ст. н.э. выцеснены хрысціянствам. Паўплываў на фарміраванне хрысц. догматаў, абрадаў і свят.

МІТРАПАЛІ́Т (грэч. mētropolītēs чалавек з галоўнага горада) — у шэрагу хрысціянскіх цэркваў адзін з вышэйшых тытулаў *епіскапаў*, кіраўнікоў некалькіх *епархій*. Інстытут М. сфарміраваўся ў першыя стагоддзі хрысціянства. У Рымскай імперыі М. называлі епіскапаў гал. гарадоў — мітраполій, якія мелі ў сваім падпарадкаванні іншых епіскапаў. У 4 ст. пры новым адм. падзеле імперыі на дыяцэзы і епархіі М. дыяцэзаў атрымалі тытул *архіепіскапа*, а калі ў распараджэнні апошняга было некалькі М., ён атрымліваў тытул *прымаса* ці *экзарха*. М. мае сан трэцяй, вышэйшай ступені свяшчэнства і ў кананічных адносінах з'яўляецца роўным любому епіскапу, незалежна ад яго пасады і яго ганаровага тытула (*патрыярха*, экзарха і іншых).

У п р а в а с л а ў і М. — тытул вышэйшых *архірэяў*. Стаіць ніжэй патрыярха, узначальвае памесную (аўтакефальную) царкву ці акругу з некалькіх епархій (у асобных выпадках — буйную епархію). Правы М. вызначаюцца ў кожнай памеснай царкве. Бел. землі ў 10—18 ст. у кананічных адносінах падпарадкоўваліся Кіеўскай мітраполіі, у 14—16 ст. рэзідэнцыя М. знаходзілася ў Навагрудку і часам у Вільні. У 1922 утворана Мінская мітраполія. Пералік М. Беларусі гл. ў арт. *Кіеўская мітраполія* і *Мінская праваслаўная епархія*.



Архангел **Міхаіл**. 18 ст.

У рымска-каталіцкай царкве М. — ганаровы тытул *біскупа*, які ўзначальвае *правінцыю царкоўную* з некалькіх *дыяцэзій* — мітраполію і з'яўляецца арцыбіскупам сваёй дыяцэзіі. Правы М. вызначаюцца кодэксам кананічнага права. На Беларусі тытул М. мелі біскупы Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі (з 1783) і Віленскай архіепархіі [(1925—91) — *Я.Цепляк* (1925—26), Р.Ялбжыкоўскі (1926—55)]. Аднаўленне кананічна пастаўленай іерархіі пачалося ў 1989. У 1991 створана Мінска-Магілёўская архіепархія-мітраполія на чале з арцыбіскупам-мітрапалітам.

У грэка-каталіцкай (уніяцкай) царкве, створанай у выніку *Брэсцкай уніі 1596*, яе кіраўнікі захавалі тытул кіеўскіх М. Пералік грэка-каталіцкіх М. гл. ў арт. *Уніяцкая царква*.

*Ю.В.Бажэнаў, І.Г.Гапчарук.*

МІТРАПО́ЛІЯ — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка царквы, якую ўзначальвае свяшчэннаслужыцель найвышэйшай трэцяй ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі — *мітрапаліт*.

МІХАІ́Л— *арханел* у іудаісцкай і хрысціянскай міфалогіях. У Старым запавеце выступае як «князь» яўрэйскага народу і яго абаронца ад «князя Персідскага царства» і як «архістраціг», правадыр нябеснага воінства ў канчатковай бітве супраць сіл зла. У Апакаліпсісе змагаецца з драконам (д'яблам, сатаной). Вобраз М. распаўсюджаны ў хрысц. мастацтве як увасабленне перамогі над сіламі зла. У ісламе М. адпавядае адзін з 4 набліжаных да Алаха анёлаў Мікал.

МІХАІ́Л (у свеце Галубовіч; 1800, б. Літоўская губ. — 18.3.1881) — уніяцкі, потым праваслаўны царкоўны дзеяч. Д-р багаслоўя і царк. права. Скончыў Віленскую гал. семінарыю. З 1828 інспектар, выкладчык (да 1831) *Літоўскай духоўнай семінарыі* ў Жыровічах, потым саборны протаіерэй і віцэ-старшыня Літоўскай уніяцкай духоўнай кансісторыі, пасля смерці жонкі архімандрыт *Быценскага кляштара базыльян*. 24.2.1839 разам з інш. вышэйшым духавенствам падпісаў на *Полацкім царкоўным саборы 1839* Саборны акт аб скасаванні *Брэсцкай уніі 1596* і далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўя. З 1839 епіскап пінскі (з 1840 называўся епіскап брэсцкі), з 1848 епіскап, з 1853 архіепіскап мінскі. З 1868 па-за штатам. Апошнія гады правёў у *Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры*. Аўтар перакладу на польскую мову праваслаў. катэхізісу, пашыранага сярод б. уніяцкіх святароў, якія не ведалі або дрэнна ведалі рус. мову (1841).

*А.М.Філатава.*

МІХА́ЛІШКАЎСКІ КЛЯ́ШТАР АЎГУСЦІНЦАЎ (КАНО́НІКАЎ РЭГУЛЯ́РНЫХ). Існаваў у 1622—1839 у мяст. Міхалішкі (цяпер вёска ў Астравецкім р-не Гродзенскай вобл.). Засн. ў 1622 рэферэндарыем ВКЛ Я.Ц.Бжастоўскім, які аддаў кляштару фальварак Рудашаны. Сын Бжастоўскага Цыпрыян Павел дадаў да зямельнага ўчастка частку Мілашун і фальварак Буйвідзы. М.к.а. быў філіялам Віленскага кляштара аўгусцінцаў. Дзейнасць нешматлікіх манахаў абмяжоўвалася абслугоўваннем парафіі, працаваў шпіталь. У 1653 (паводле іншых звестак у 1622) тут пабудаваны мураваны касцёл Міхаіла Архангела (архітэктар К.Пенс), у канцы 17 ст. аздоблены ляпнымі алтарамі са стука, служыў пахавальняй Бжастоўскіх і Котвічаў. У 1782 інфлянцкі біскуп Ю.Касакоўскі дамогся ад папы рымскага закрыцця кляштара. Аўгусцінцы папрасілі дапамогі ў гаспадара Міхалішак графа Міхаіла Бжастоўскага, які адпісаў касцёлу і плябаніі 20 тыс. злотых, валоку зямлі, аднак пазней сам захапіў уладанні кляштара. У 1839 са скасаваннем ордэна аўгусцінцаў у Рас. імперыі кляштар закрыты. Касцёл стаў парафіяльным, у 1-ю сусв. вайну ў 1915 пацярпеў ад ваенных дзеянняў, у 1920-я г. адрэстаўрыраваны, помнік архітэктуры.

*А.А.Ярашэвіч.*

«МОГИЛЁВСКИЕ ЕПАРХИА́ЛЬНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ» — штотыднёвае выданне Магілёўскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі. Выдаваліся ў Магілёве ў 1883—1917 на рус. мове. Прызначаліся для *Магілёўскай праваслаўнай епархіі*. Мелі афіц. і неафіц. аддзелы. У афіц. аддзеле друкаваліся пастановы і распараджэнні ўрада і мясцовых улад па царк. справах, рашэнні і справаздачы Сінода, аб'явы і распараджэнні кансісторыі. У неафіц. частцы змяшчаліся матэрыялы царк.-гіст. характару: пра дзейнасць брацтваў (артыкул Ф.Жудро аб

Магілёўскім Богаяўленскім брацтве, 1889—90), царк.-прыходскіх школах і інш. навуч. установах (аб Магілёўскім жаночым духоўным вучылішчы, 1884, № 20, чытаннях па гісторыі Магілёўскай епархіі пры Магілёўскай духоўнай семінарыі, 1884, № 35—36), гіст. нарысы пра асобныя манастыры (Чонкаўска-Макар'еўскі адзінаверскі, 1889, № 22—23, Тупічэўскі Свята-Духаўскі, 1889, № 14—15), успаміны пра магілёўскіх епіскапаў і інш. Змяшчалі матэрыялы ў дапамогу святарам: як праводзіць гутаркі са стараверамі, як весці барацьбу супраць забабонаў і інш. У кожным нумары змяшчаўся летапіс бягучых падзей, што тычыліся розных бакоў грамадскага жыцця. Рэдактары: Д.Ціхамінаў, І.Пятніцкі, П.Сахараў, А.Малевіч. У 1991 выпуск «М.е.в.» адноўлены. *В.В.Грыгор'ева.*

МОНАТЭІ́ЗМ (ад грэч. monos адзін + theos бог) — сістэма рэлігійных вераванняў, заснаваная на ўяўленні пра адзінага Бога (адзінабожжа) у адрозненне ад *політэізму* (мнагабожжа). М. — характэрная асаблівасць *хрысціянства, іудаізму* і *ісламу*. Аднак паняцце «М.» адноснае, бо ні адна рэлігія не з'яўляецца паслядоўна монатэістычнай. Культ адзінага Бога ў іх арганічна звязаны з шанаваннем інш. багоў, якія ўтвараюць складаную іерархічную сістэму (анёлы, прарокі, апосталы, святыя і інш.). М. вынікае з гіст. развіцця рэліг. вераванняў. З 18 ст. існуе думка (К.Ф.Вальней, А.Конт, Дж.Лебак і інш.), што М. ёсць апошняя і вышэйшая форма рэлігіі, якая вырасла з політэізму ў працэсе развіцця абстрактнага мыслення. Элементы М. ўзнікалі ў Стараж. Кітаі (культ вярхоўнага бога Шандзі), у Індыі (вучэнне аб Брахме), Стараж. Егіпце [рэліг. рэформа цара Аменхатэпа IV (Эхнатона)], Вавілоне (усе багі — сутнасць адзінага вярхоўнага бога Мардука), Стараж. Перу (культ бога-сонца), у стараж. яўрэяў — бог Яхве. Хрысціянства, засвоіўшы культ вярхоўнага Бога (Бог-айцец), дапоўніўшы яго верай у Бога-сына, які ўвасобіўся ў «богачалавека» Хрыста, неапалтанічным вучэннем аб адзіным сусв. духу (Бог — Дух Святы) не можа лічыцца строга монатэістычнай рэлігіяй: хрысц. Бог — Тройца.


Міхаіл.


Касцёл Міхалішкаўскага кляштара аўгусцінцаў (канонікаў рэгулярных).

МОНАФІ́ЗІЦТВА (ад грэч. monos адзін, адзіны і physis прырода) — хрысціянскае вучэнне, якое ўзнікла ў 5 ст. ў Візантыі як рэакцыя на *арыянства* і *несторыянства*. Заснавальнік М. канстанцінопальскі архімандрыт Яўціхій (каля 378—454) сцвярджаў, что спачатку асобна існавалі 2 прыроды Хрыста — боская і чалавечая, аднак пасля спалучэння іх пры богаўвасабленні стала існаваць адна. Зыходзячы з гэтага, прыхільнікі М. лічылі, што на крыжы ахвяраваў сабою сам Бог, а не Богачалавек, таму гэтая ахвяра ў пэўнай ступені служыць толькі сімвалам. У 448 памесны патрыяршы сабор у Егіпце пазбавіў Яўціхія сана архімандрыта, але яго падтрымаў імператар Візантыі Феадосій II, які склікаў сабор епіскапаў у Эфесе (449), дзе Яўціхій быў апраўданы. Пасля смерці Феадосія II Халкідонскі усяленскі сабор 451 прыняў дыяфізіцкую дактрыну (вучэнне аб дзвюх прыродах Хрыста) і асудзіў М. як ерась. Працяглая ўзброеная барацьба хрысціян-монафізітаў прывяла да аддзялення нехалкідонскіх цэркваў ад афіц. візант. царквы. На аснове М. засн. копцкая царква ў Егіпце і Эфіопіі, сірыйская (якавіцкая) царква, армянская апостальская царква, якія захоўваюць сваю дагматычную і царк. самастойнасць. *А.А.Цітавец.*

МО́ШЧЫ — астанкі святых, якія паводле царкоўнага вучэння праваслаўных і католікаў валодаюць здольнасцю ствараць цуды і выступаюць аб'ектам рэлігійнага пакланення. У праваслаўі шанаванне М. — неабходны элемент культа святых.



Труна з **мошчамі** св. Андрэя Баболі. Варшава. Касцёл св. Андрэя Баболі.

У адрозненне ад візант. праваслаўя, у якім пад М. разумеліся не толькі нятленныя целы, але і косці, што прыемна пахнуць або струменяць *міра*, у рус. праваслаўі склалася ўяўленне аб М. як аб нятленных целах, якія божай сілай пазбаўлены закону тлення. Пры кананізацыі патрабаваліся доказы нятленнасці М. кандыдата ў святыя. М. захоўваюцца і выстаўляюцца ў храмах у т. зв. раках — грабніцах або каўчэгах. Напр., М. *Ефрасінні Полацкай*, якія перавезены з Кіева, з 1910 захоўваюцца ў Спаса-Ефрасіннеўскай царкве ў Полацку. Рус. правасл. царква ўслаўляе нятленныя М. Дзмітрыя Растоўскага, Сергія Раданежскага і інш.

МСЦІСЛА́ЎСКІ ЕЗУ́ІЦКІ КАЛЕ́ГІУМ — установа ордэна *езуітаў* у Мсціславе Магілёўскай вобл.: у 1690—1711 місія, у 1711—79 рэзідэнцыя, у 1779—1820 калегіум. Засн. М.Якановічам. Сродкі на стварэнне місіі ахвяравалі мсціслаўскі староста Ю.Галынскі, В.Іллініч, С.Зуб. У 1730—48 пабудаваны мураваны касцёл Міхаіла Архангела (у ім знаходзіўся абраз Маці Божай, які лічыўся цудатворным), у 1764—79 навуч. корпус (у 1796 рэканструяваны). Калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Гарадку, Кадзіне, Клімавічах, Кулікове, Лазовіцы, Расне, Старадубе, Халобліне, Шумячы. У 1691 пры місіі адкрыта ніжэйшая школа, у сярэдзіне 18 ст. ў школах рэзідэнцыі выкладаліся філасофія, маральная тэалогія, матэматыка, гісторыя. Пасля пераўтварэння ў калегіум праграма стала характэрнай для такога тыпу навуч. устаноў, выкладаліся таксама французская, нямецкая і рус. мовы. У 1725 пры калегіуме адкрыта муз. бурса, у 1740 — аптэка, меліся канвікт (пансіён) і б-ка. У розны час рэзідэнцыі і калегіуму належалі навакольныя маёнткі Гразь, Жукаў, Казлоўск, Крута, Кулікоў, Ласкоўка, Пятровічы, Пірхаў, Пацееўка, Стайкі, Точна і інш. У 1820 калегіум закрыты. Будынкі захаваліся, у навуч. корпусе размяшчаецца школа-інтэрнат для глухіх дзяцей. Касцёл доўгі час выкарыстоўваўся як правасл. сабор; цяпер не дзейнічае, вядзецца рэстаўрацыя.

МСЦІСЛА́ЎСКІ КЛЯ́ШТАР КАРМЕЛІ́ТАЎ. Існаваў у 1620—1832 у Мсціславе Магілёўскай вобл. Паводле падання *кармеліты* (вайсковыя капеланы), вяртаючыся з вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, былі запрошаны мясц. шляхтай у Мсціслаў. Напачатку яны размяшчаліся ў прыходскім касцёле. У 1622 упамінаецца кармеліцкі касцёл Успення Марыі. У 1623 віленскі біскуп Яўстафій Валовіч даў кармелітам парафію (прыход). Пазнейшыя дакументы (архіў згарэў у 1654) называюць заснавальнікамі кляштара мсціслаўскага войскага Я.К.Мадалінскага, які даў яму 3 валокі зямлі (1618), стаў і 10 юрыдык (1638), Ю.Багдановіча, Б.Бялецкага (1618), мсціслаўскага старосту К.С.Сапегу (1622), А.Геленскага і Букоўскага (маёнтак Земнае), Пажарыскага (маёнтак Безнакаў, 1690). Кляштару належалі таксама в. Біжуны і фальварак Аслянка ў Смаленскім ваяводстве. У 1654 кляштар пацярпеў у час штурму Мсціслава маскоўскімі войскамі ў ходзе вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Пры падзеле ў 1687 Польскай правінцыі ордэна кармелітаў кляштар аднесены да Рус. правінцыі св. Юзафа, з 1756 у Літ.-Рускай (Беларускай) правінцыі св. Георгія Пакутніка. У 1691 комплекс кляштара поўнасцю згарэў, у 1717 адбудаваны. Жылы корпус увесь час заставаўся драўляным (інвентары 1817 і 1828). Мураваны касцёл пачаў будавацца, верагодна, у 1732; у 1746—50 рэканструяваны архітэктарам Я.К.Глаўбіцам. Каля 1768 зроблены насценныя размалёўкі. У 2-й пал. 18 ст. грашовыя ахвяраванні на кляштар рабілі ў асноўным мясцовыя шляхціцы Галынскія. Паводле інвентара 1823 касцёл памерам 12,5 × 8,5 сажняў меў 6 алтароў, б-ку (207 кніг). У 1832 кляштар скасаваны. Касцёл захаваўся — помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння.

*А.А.Ярашэвіч.*

МСЦІСЛА́ЎСКІ ПУСТЫ́НСКІ УСПЕ́НСКІ МАНАСТЫ́Р. Існаваў каля г. Мсціслаў Магілёўскай вобл. на беразе р. Аслянка (правы прыток Сажа). Паводле царк. падання засн. каля 1380 мсціслаўскім кн. Лугвенам. Па звестках царк. гіс-

торыка М.І.Пятрова манастыр вядомы толькі з 1500 (архіў не захаваўся). У 1578 аддадзены каралём Рэчы Паспалітай Стафанам Баторыем пад патранат полацкага архіепіскапа Феафана. У пач. 17 ст. стаў уніяцкім; у 2-й палавіне 17 ст. пэўны час быў не заселены, падпарадкоўваўся юрысдыкцыі смаленскага уніяцкага архіепіскапа. Да 19 ст. будынкі былі драўляныя, у 1801—08 мітрапаліт Іраклій *Лісоўскі* пабудаваў мураваны храм Успення Багародзіцы базілікальнага тыпу. У 1839 пры настаяцелі Касікоўскім манастыр зноў стаў праваслаўным. У 1864 на месцы, дзе паводле легенды кн. Лугвену з'явіўся абраз Маці Божай, пабудавана новая мураваная царква Нараджэння Багародзіцы (абраз візант. тыпу захоўваўся ў манастыры да 1918). У 1865 узведзена цёплая мураваная Пакроўская царква. У 1869 царква Успення Багародзіцы перабудавана ў крыжападобны ў плане храм. У канцы 19 ст. пабудавана шмат'ярусная званіца. У 1918 манастыр закрыты. Частка будынкаў захавалася ў руінах.

*А.А.Ярашэвіч.*

МУГІР (ад турэцкага — ваўняная тканіна) — у ісламе твор дэкаратыўнага мастацтва, тканіна з надпісам рэлігійнага зместу або выявай рэлігійнай сімволікі. Прызначаны для пашырэння рэліг. ведаў, у народнай свядомасці мае таксама функцыі абярога. Першапачаткова выраблялся туркамі-качэўнікамі, праз іх трапіў да крымскіх татар. У бел. татар вядомы з 16 ст. як элемент насценнага аздаблення мячэці ці жылога дома. Спачатку М. выраблялі з казінай воўны, пазней і з інш. тканін і матэрыялаў. На Беларусі вядомы М. ў выглядзе апраўленых у рамы пергаментаў з вершамі *Карана*, малітвамі, імем прарока Мухамеда. У 19—20 ст. яны часта змяняліся літаграфіямі з відамі славутых мячэцей, атрыбутамі ісламскай сімволікі. У М. бел. татар творча ўзаемадзейнічалі татарскія і бел. культурныя традыцыі.

*Г.А.Дубар.*



Касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі **Мсціслаўскага кляштара кармелітаў.**



**Мсціслаўскі пустынскі Успенскі манастыр.**

МУЖЫЛОЎСКІ Андрэй (1580-я — 1640-я) — беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, рэлігійны дзеяч. Прэсвітэр, з канца 1620-х г. слуцкі пратапоп. У 1631 пастрыгся ў манахі пад імем Анатолій і стаў іераманахам Кіева-Пячэрскага манастыра. Выступаў супраць Брэсцкай уніі 1596. У «Водпісе на ліст уніятаў віленскіх» (на старабел. мове, 1616) пад уплывам «Трэнаса» М.Сматрыцкага асудзіў учынкі «сына»-уніята, які здрадзіў інтарэсам правасл. народаў Беларусі і Украіны, даў знішчальную характарыстыку слугам рымска-каталіцкай царквы. У «Антыдотуме» (на польскай мове, 1629), скіраванай супраць «Апалогіі» Сматрыцкага, М. падкрэсліваў значэнне антыуніяцкіх твораў Сматрыцкага, але асуджаў яго за тое, што ён, на думку М., перайшоў ва уніяцтва не па ідэйных меркаваннях, а спакушаны прывабнымі абяцанкамі рымска-каталіцкай царквы. Адзін з першых спрабаваў аддзяліць царк.-багаслоўскую літаратуру ад свецкай, указваў на гіст. характар творчасці Хрыстафора Філалета, Клірыка Астрожскага. На «Антыдотум» Сматрыцкі адказаў з'едлівым творам «Экзэтэзіс» (1629). Адзін з прэтэндэнтаў на Кіеўскую правасл. мітраполію пасля смерці мітрапаліта Іова Барэцкага. У 1631 прымаў актыўны ўдзел у адабранні ва уніятаў Сафійскага сабора ў Кіеве на карысць правасл. мітраполіі.

*У.Г.Кароткі.*

МУЗЕІ (ад грэч. museion храм муз) — навукова-даследчыя и культурна-асветныя ўстановы, якія ажыццяўляюць камплектаванне, улік, захоўванне, вывучэнне і папулярызацыю помнікаў гісторыі і культуры, прыродных аб'ектаў. Паводле формы ўласнасці падзяляюцца на дзярж., грамадскія і прыватныя, паводле профілю — на гіст. (археалагічныя, этнаграфічныя і інш.), прыродазнаўчыя, маст., літаратурныя і інш. Большасць краязнаўчых М. з'яўляюцца комплекснымі: яны спалучаюць блізкія тэматычныя кірункі, у т.л. гісторыю, археалогію, этнаграфію, рэлігіязнаўства.



Мураванкаўская царква-крэпасць.

На Беларусі ў 14—15 ст. існаваў перадмузейны збор пры канцылярыі вял. князя ВКЛ. Музейныя зборы мелі Радзівілы, Сапегі, Тышкевічы, Алелькавічы, Войны, Слушкі, Хадкевічы, некаторыя заможныя шляхціцы, мяшчане, навуч. установы. Да 1-й сусв. вайны на Беларусі існавала больш за 50 М., якія ствараліся статыстычнымі камітэтамі, навук. т-вамі, земствамі, царк.-археалагічнымі камітэтамі і навуч. установамі. Да Вял. Айч. вайны працавала каля 60 М., дзейнасць якіх была звязана з краязнаўчым рухам. У час вайны музейны фонд рэспублікі панёс вял. страты, але з цягам часу дзейнасць музейных устаноў аднавілася, іх фонды значна папоўніліся. На канец 20 ст. на Беларусі дзейнічала больш за 130 дзярж. М. Найб. цікавасць для азнаямлення з пытаннямі рэлігіязнаўства, прадметамі культаў і выяўленчым мастацтвам у царк. ўжытку ўяўляюць *Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі*, *Музей старажытнабеларускай культуры* Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, Брэсцкі абласны краязнаўчы музей, Заслаўскі гіст.-культурны запаведнік, Музей этнаграфіі ў Магілёве, *Віцебскі царкоўна-археалагічны музей, Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей*, Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

**МУЗЕ́Й СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУ́СКАЙ КУЛЬТУ́РЫ** Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай АН Беларусі. Засн. ў 1977 у Мінску, адкрыты ў 1979 як цэнтр вывучэння і прапаганды бел. мастацкай спадчыны. Агульная пл. 1200 $м^2$, пл. экспазіцыі 600 $м^2$. Больш за 17 тыс. экспанатаў (2000), у т.л. 600 твораў іканапісу і жывапісу, 4,5 тыс. дэкар.-прыкладнога мастацтва, 170 скульптур, 2,6 тыс. узораў нар. ткацтва. Экспазіцыя мае раздзелы археалогіі (знаходкі з раскопак гарадоў і інш. археал. помнікаў Беларусі), мастацтва (абразы 16—18 ст., скульптура 16—19 ст., слуцкія паясы і інш. тканіны 18 ст., старадрукі і кніжная гравюра 16—18 ст., разьба, маст. вырабы з металу), этнаграфіі (ткацтва, нар. касцюмы канца 19 — пач. 20 ст., кераміка, нар. музычныя інструменты, прылады працы, хатняе начынне, вырабы з саломкі і інш.). Асобны раздзел прысвечаны помнікам этнаграфіі і нар. мастацтва чарнобыльскай зоны. Мае навук. лабараторыю, вядзе выставачную дзейнасць.

*Літ.:* Музей старажытнабеларускай культуры. Мн., 1998.

*В.Ф.Шматаў, А.А.Ярашэвіч.*

**МУЛА́** (араб. — пан, уладар) — служыцель рэлігійнага культу ў мусульман; знаўца рэліг. навук. Звычайна выбіраецца вернікамі са свайго асяроддзя.

**МУРАВА́НКАЎСКАЯ ЦАРКВА́-КРЭ́ПАСЦЬ,** Маламажэйкаўская царква-крэпасць — помнік архітэктуры пач. 16 ст. Пабудавана ў в. Мураванка (Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл.). Храм абарончага тыпу. Трохнефавае 4-стаўповае збудаванне зальнага тыпу (у плане прамавугольнік блізкі да квадрата), завершанае высокім 2-схільным дахам са шчытамі на тарцах, паўкруглай апсідай і 4 круглымі вуглавымі вежамі, накрытымі шатрамі. Сцены і вежы ўпрыгожаны яруснай кампазіцыяй плоскіх атынкаваных нішаў, завершаных падвойнымі аркамі. Падобны дэкор мае фігурны шчыт на гал. фасадзе. Гатычныя скляпенні царквы вызначаюцца тонкім малюнкам (спляценне гуртоў і нервюр зорчатых скляпенняў утварае трохвугольнікі і ромбы розных абрысаў і велічынь). Пад храмам — скляпеністае складское памяшканне. Да пач. 19 ст. ў царкве былі апускныя жал. дзверы-краты (герсы). У час перабудоў (1817, 1871—72) да гал. фасада прыбудаваны прытвор, надбудаваны заходнія вежы, паніжаны дах, зроблены карнізы і павялічаны вокны. З 1990 дзейнічае як правасл. храм.

**МУРА́ШКАЎЦЫ,** евангельскія хрысціяне святыя сіяністы — рэлігійная секта. Узнікла ў канцы 1920-х г. у Заходняй Беларусі. Назва ад імя заснавальніка Івана Мурашкі, які абвясціў сябе пракорам ад бога і стаў прапаведаваць канец свету і страшны суд. Члены секты павінны былі выконваць запаведзі Майсея, святкаваць суботу і нядзелю, не спажываць мяса, не галіць бараду, не чытаць свецкую л-ру, не мець зносін з іншаверцамі. У 1936 Мурашка заснаваў каля г. Сарны Валынскага ваяв. рэліг. камуну «Новы Іерусалім». У 2-й палавіне 1930-х г. М. было каля 800—1000 чал. У 1938, забраўшы касу, Мурашка з жонкай уцёк у Аргенціну. Пасля Вялікай Айчыннай вайны найб. актыўныя «апосталы» секты стварылі новыя «сіёны» ў Антопальскім, Высокаўскім, Іванаўскім, Кобрынскім р-нах. У 1951 секта перайменавана ў царкву св. Тройцы,

аднак ніколі не рэгістравалася. Да 1953 усе «сіёны» разагнаны, многія члены секты арыштаваны і асуджаны. Вернікі раз'ехаліся па Малдавіі, Грузіі, Казахстане, Краснадарскім краі. На Беларусі засталіся адзінкі М., якія не маюць сваёй арг-цыі, але выконваюць веравучэнне і абрады секты, часам наведваюць малітоўныя сходы пяцідзесятнікаў і адвентыстаў, радзей баптыстаў.

*Літ.:* Камейша Б.И. Кто такие мурашковцы. Мн., 1970.
*Б.І.Камейша.*

МУСУЛЬМА́НСТВА, тое, што *Іслам.*

МУ́ФЦІЙ (араб., які выказвае сваю думку) — у мусульман-сунітаў вышэйшая духоўная асоба, якая дае заключэнне (фетву) па пытаннях выкарыстання шарыяту. У краінах, дзе іслам дзярж. рэлігія, М. назначаюцца урадам. У іншых выпадках выбіраюцца на з'ездах прадстаўнікоў духавенства і вернікаў.

МУХА́МЕД, Магамет (каля 570, г. Мека — 632) — арабскі рэлігійны і палітычны дзеяч, заснавальнік *ісламу.* Тагачасных крыніц пра жыццё М. не захавалася. Паводле біяграфіі, складзенай у 9 ст., ён паходзіў з арабскага роду Бану-хашым з племя курэйшытаў. Рана асірацеў. Напачатку быў пастухом, потым прыказчыкам. У Аравіі і па-за яе межамі пазнаёміўся з хрысціянствам, іудзейскім і інш. рэліг. і паліт. вучэннямі. Паводле мусульм. уяўленняў, М. — прарок і пасланнік *Алаха,* праз якога людзям перададзены тэкст свяшчэннай кнігі мусульман — *Карана.* Каля 610 М. выступіў з прапаведдзю ісламу. Вёў жорсткую барацьбу супраць традыцыйна язычніцкай *Меккі,* абапіраючыся на дапамогу некаторых плямён Ясрыба (Медыны). У 622 перасяліўся ў Ясрыб, дзе выбраны правіцелем горада, ваяводам і вярхоўным суддзёй (гэты год лічыцца пачаткам мусульм. эры). У Ясрыбе ён знішчыў апазіцыю з боку іудзеяў, усталяваў монатэізм ісламу і ўладу арабаў. Стварыў у Аравіі супольніцтва, засн. не на кроўнай сувязі, а на прыналежнасці да адзінай веры. З 631 амаль усе навакольныя плямёны падпарадкаваліся яму і перайшлі ў іслам. Утварылася магутная цэнтралізаваная тэакратычная дзяржава, якая пачала праводзіць захопніцкую палітыку ў розных напрамках. Памёр і пахаваны ў Медыне, яго грабніца стала другой (пасля Каабы) святыняй ісламу.

*Літ.:* Панова В.Ф., Вахтин Ю.Б. Жизнь Мухаммеда. М., 1991.
*А.А.Цітавец.*

МЮРЫ́Д (араб., які шукае, імкнецца; пераноснае — вучань) — у мусульманскіх краінах чалавек, які жадае прысвяціць сябе *ісламу,* авалодаць асновамі містычнага вучэння суфізму. Паводле канонаў *мюрыдызму* М. выбірае сабе настаўніка і падначальваецца яго волі, спавядаецца і каецца яму.

МЮРЫДЫ́ЗМ — умоўны тэрмін для абазначэння рэлігійна-містычнай плыні ў *ісламе,* пашыранай на Паўднёвым Каўказе ў 19 ст. У аснове М. — прынцыпы, выпрацаваныя ідэолагамі суфізму ў 12—14 ст., якія ўключалі ідэю роўнасці людзей перад Богам у замагільным жыцці, культ беднасці, заклікі да самаадрачэння, самазневажання. Гал. ў М. была ідэя джыхаду (газавату) — вайны супраць каланіяльнай палітыкі рус. царызму ў 1820—60-я г. і супраць мусульман, якія былі на баку «няверных» або ўхіляліся ад удзелу ў газавацe. Правадыры гэтай барацьбы імамы Газі-Магамед, Гамзатбек і Шаміль ставілі сваёй мэтай стварэнне імамата — ісламскай тэакратычнай дзяржавы, жыццё ў якой строга рэгламентавалася *шарыятам,* барацьба з «нявернымі» абвяшчалася гал. умовай рэліг. самаўдасканалення. Тым, хто



**Мурашкаўцы.** Абед у «Новым Ерусаліме». Другі злева І.Мурашка. 1930-я г.


Навагрудская **мячэць**. 1796. Адноўлена ў 1997.

загінуў за справу ісламу, абяцалася выратаванне і вечнае шчасце. Вялікая роля ў імамаце належала *мюрыдам*, найб. адданым паплечнікам імама, выхаваным у нянавісці да «няверных». Ідэі М. нацыяналісты выкарыстоўвалі на Каўказе ў 1918—21 і 1990-я гады.

МЯФО́ДЗІЙ — гл. ў арт. *Кірыла і Мяфодзій.*

МЯЧЭ́ЦЬ (араб. масджыд — месца пакланення) — культавы будынак у *ісламе*, месца агульнай малітвы. М. ўзніклі ў 7 ст. Першапачаткова для мусульм. набажэнства прыстасоўвалі б. язычніцкія храмы або цэрквы. Да 8 ст. сфарміраваліся асн. тыпы М.: дваровыя (адкрыты прамавугольны двор, абнесены сценамі і галерэямі) і купальныя. Ва ўсіх М. у сцяне, звернутай да *Меккі*, знаходзяцца адзін ці некалькі міхрабаў. З правага боку ад міхраба — узвышэнне ці кафедра (мінбар) з 3—9 прыступак, дзе чытаюць хутбу (мусульм. пропаведзь). З 10 ст. пашыраны тып М. з айванамі (тэрасамі) па восях двара. М. аздаблялі разьбой па стука, камені ці дрэве, узорыстай цаглянай або каменнай муроўкай, паліванай керамікай, інкрустацыяй, мазаікай, размалёўкай. Пры М. звычайна ставяць *мінарэты.*

На Беларусі пісьмовыя сведчанні пра М. адносяцца да 16 ст. Першыя з іх былі драўляныя, адназрубныя пад 4-схільным дахам, са слупавым ганкам ці галерэяй, без мінарэтаў. Паступова з'явіўся мінарэт у выглядзе стромкай вежы. У 18—19 ст. ўзнік адметны тып М., па архітэктуры блізкі да касцёла: зруб пад 2-схільным дахам з вежай-мінарэтам. Унікальным помнікам архітэктуры з рысамі класічнага Усходу з'яўлялася М. у вёсцы Даўбучкі Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. (18 ст.) з 12-гранным купалам, галерэяй і 3-ярусным мінарэтам. Шмат М. будавалі на ўзор правасл. царк. архітэктуры. М. на Беларусі мелі асобныя памяшканні для мужчын і жанчын, падзеленыя сцяной з шырокім акном, закрытым кратамі-балясінамі, з тонкай занавескай (муслінавай). Міхраб знаходзіўся ў мужчынскай палавіне. Падлогу засцілалі зялёнымі суконнымі коўдрамі (кілімамі), круглымі дыванкамі (чалунамі) з імёнамі продкаў падзвіжнікаў. Для старых і хворых уздоўж сцен ставілі лавы, засланыя зялёнымі посцілкамі. На падлозе і сценах былі ваўняныя дываны з выявамі славутых М., *мугіры* з тэкстамі карана, імёнамі святых, відарысамі Меккі і інш. У 1-й палавіне 20 ст. М. існавалі ў г.п. Іўе, Мір (да 1795, нанава адбудавана ў 1840), г. Навагрудку (1796, адноўлена ў 1855), у вёсках Некрашунцы (Воранаўскі р-н, паводле падання прыход засн. ў 1415, у 1915 спалена, адбудавана ў 1926), Лоўчыцы (Навагрудскі р-н, 1688), Крушыняны (Гродзенскі пав., 18 ст.), Асмолава (Навагрудскі р-н, 1924—25), у гарадах Слонім (1804, у 1881 згарэла, у 1882 адбудавана), Ляхавічы (1816, разбурана ў 1917, у 1924—28 адноўлена), Мядзел (1840, спалена ў грамадзянскую вайну, у 1930 адбудавана), Клецк (1881, будаўніцтва фундавалі Радзівілы, рамантавалася ў 1911, 1930—31), Узда, Капыль, Мінск (1901, адзіная мураваная М. на Беларусі), г.п. Смілавічы (19 — пач. 20 ст.), Відзы (1860—65, у грамадзянскую вайну спалена, у 1930—32 адбудавана, з 1999 дзейнічае). Захаваліся М. ў вёсках Даўбучкі (перавезена ў Бел. дзярж. музей народнай архітэктуры і побыту), Лоўчыцы (рэшткі), Іўі, Навагрудку. М. адбудаваны ў Слоніме (1994), Навагрудку (1997), Смілавічах (1996). Распрацаваны праекты аднаўлення і рэстаўрацыі М. ў Даўбучках, Лоўчыцах, Мінску.

*Літ.:* Лакотка А.І. Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994.
*А.І.Лакотка.*

# Н

НАВАГРУ́ДСКАЯ ДАМІНІКА́НСКАЯ ШКО́ЛА — павятовая сярэдняя школа пры Навагрудскім кляштары дамініканцаў у 1794—1831. Мела 6 класаў, працавалі 6—7 выкладчыкаў (прафесараў) на чале з *прэфектам*. Мела 2 ступені. Ніжнюю ступень утваралі 2 першыя класы, у якіх вывучалі польскую і лац. мовы, арыфметыку і геаграфію. У наступных 4 класах выкладаліся гісторыя, фізіка, матэматыка, літаратура, права, этыка, французская, нямецкая і рус. мовы. У кожным класе з найб. здольных вучняў выбіралі т. зв. аўдытараў, якія дапамагалі выкладчыкам у навучанні і падтрыманні дысцыпліны. Штоквартальна праводзіліся экзамены. Большасць вучняў жыла ў кляштарнай бурсе (інтэрнаце). Выпускнікі школы мелі права паступаць у Віленскі універсітэт. У 1807—15 у школе вучыліся паэты А.Міцкевіч і Я.Чачот. Закрыта пасля пажару 1831. У 1834 на яе базе створана пяцікласная павятовая школа з рус. мовай выкладання. *М.П.Гайба.*

НАВАГРУ́ДСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — царкоўна-адміністрацыйная адзінка *Беларускай праваслаўнай царквы* (экзархата). У 1316—1596 Навагрудак з'яўляўся цэнтрам Літоўска-Навагрудскай мітраполіі (гл. ў арт. *Кіеўская мітраполія*). У 1942—44 епархія існавала ў складзе *Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У лютым 1992 адноўлена; ахоплівае Навагрудскі, Астравецкі, Ашмянскі, Дзятлаўскі, Іўеўскі, Карэліцкі, Лідскі, Слонімскі, Смаргонскі р-ны Гродзенскай вобл. У канцы 1999 епархія складалася з 7 благачынных акруг (благачынняў) — Дзятлаўскай, Іўеўскай, Карэліцкай, Лідскай, Навагрудскай, Паўночнай і Слонімскай; дзейнічалі 85 абшчын, 108 храмаў, 2 капліцы. На тэр. епархіі ў в. Жыровічы (каля Слоніма) дзейнічае *Мінская вышэйшая духоўная семінарыя*. Тытул кіруючага архірэя Н.п.е. — епіскап Навагрудскі і Лідскі, яго рэзідэнцыя знаходзіцца ў *Жыровіцкім Свята-Успенскім мужчынскім манастыры*. З 1996 епархіяй кіруе епіскап Гурый (М.П.Апалька). Выдаюцца газеты: «Новогрудские епархиальные ведомости» (з 1998) і «Жыровіцкая абіцель».

*Літ.*: Навагрудская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. С. 136—140.

НАВАГРУ́ДСКІ БАРЫСА-ГЛЕ́БСКІ МАНАСТЫ́Р — уніяцкі мужчынскі манастыр у На-



Царква **Навагрудскага Барыса-Глебскага манастыра**. Малюнак 19 ст.

вагрудку Гродзенскай вобл. ў 17—19 ст. Засн. ў 1-й чвэрці 17 ст. пры мітрапаліцкім Барыса-Глебскім саборы протаархімандрытам ордэна *базыльян*, пазней мітрапалітам І.В.*Руцкім*, які на ўтрыманне манахаў прызначыў частку прыбыткаў Лаўрышаўскага манастыра. (Паводле меркаванняў некаторых гісторыкаў, манастыр пры Барыса-Глебскім саборы існаваў з 14 ст. як праваслаўны.) На 1-й і 2-й кангрэгацыях базыльян (1617, 1623) Навагрудскі манастыр названы другім пасля Віленскага. У сярэдзіне 17 ст. манастыр ахвяраваў на ўтрыманне рымскай рэзідэнцыі базыльян 24 залатыя фларыны. Пэўны час пры манастыры дзейнічала школа для свецкіх асоб, у 1666 манахі пратэставалі супраць канкурэнцыі езуітаў у галіне адукацыі. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 манастыр збяднеў і заняпаў, у 1671 былі толькі 2 манахі. Скасаваны разам з Лаўрышаўскім манастыром пры ліквідацыі уніі ў 1839. Барыса-Глебская царква 1517—1519 захавалася, помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння. *А.А.Ярашэвіч.*

НАВАГРУ́ДСКІ ЕЗУ́ІЦКІ КАЛЕ́ГІУМ — установа ордэна *езуітаў* у Навагрудку Гродзенскай вобл. З 1626 місія, з 1631 рэзідэнцыя, у 1714—73 калегіум. Сродкі на стварэнне місіі ахвяравалі Е.Галаўня і Я.Машынскі, першы кіраўнік місіі Я.Разнавольскі. У 17 — 1-й пал. 18 ст. драўляныя збудаванні калегіума шмат разоў знішчаліся пажарамі. Каля 1754 пабудаваны мураваны 3-нефавы касцёл, у 1752 — навуч. корпус. Калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Бурдыкаве, Варончы, Востраве, Гарадзішчы, Любчы, Мажэйках, Моладаве, Пачапаве, Слоніме, Шчорсах. У 1649 у рэзідэнцыі адкрыты класы граматыкі, у 1653 — паэтыкі і рыторыкі. Пасля пераўтварэння рэзідэнцыі ў калегіум навуч. праграма адпавядала гэтаму тыпу навуч. устаноў, выкладаліся таксама матэматыка, геаграфія, гісторыя, французская мова. Каля 1680 адкрыта музычная бурса, у 1705 — канвікт (пансіён), у 1721 — аптэка. Была б-ка. У 18 ст. колькасць навучэнцаў складала ад 13 да 51 чал. У розны час рэзідэнцыі і калегіуму належала некалькі навакольных маёнткаў. У 1773 калегіум закрыты, у 1815 касцёл пераабсталяваны пад ратушу.

НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НАК. Існаваў у 17—19 ст. у Навагрудку Гродзенскай вобл., як адзіны жаночы кляштар ордэна дамініканцаў на Беларусі. Засн. ў 1654 М.Дамброўскім (паводле інш. звестак — у 1678 А.Пратасевічавай, жонкай навагрудскага земскага натарыуса). У 1690 пабудаваны мураваны касцёл Дзевы Марыі. У канцы 18 — пач. 19 ст. кляштару належала частка в. Каменка ў Навагрудскім пав. У 1864 скасаваны, 20 яго манашак накіраваны ў *Гродзенскі кляштар брыгітак* і *Мінскі кляштар бенедыкцінак*. Каля 1900 касцёл разабраны на цэглу. У жылым будынку кляштара ў 1920-я г. размяшчалася ваяводская ўправа, у час Вялікай Айчыннай вайны разбураны. *М.П.Гайба.*

НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ. Існаваў у Навагрудку Гродзенскай вобл. ў 17—19 ст. Засн. літоўскім канюшым, пазней віленскім ваяводам К.Хадкевічам, які ў 1624 даў дамініканцам дом, пляц, пабудаваў драўляны касцёл св. Яцака. У канцы 17 ст. Бральніцкія і Астроўскія далі кляштару фальваркі Корыца і Перакопы (105 валок зямлі і шмат прыгонных). Драўляны касцёл згарэў у 2-й палавіне 17 ст. Мураваны касцёл 1724 зведаў 2 пажары: 1751 (пасля рамонту асвячоны ў гонар Міхаіла Архангела) і 1831 (пасля дабудовы набыў сучасны класіцыстычны выгляд). Надмагільныя пліты-эпітафіі 18 ст. са сцен пакладзены ў падлогу. У 1794—1834 пры кляштары дзейнічала Навагрудская дамініканская школа. У 1853 кляштар скасаваны, з 1858 Міхайлаўскі касцёл стаў фарным (прыходскім), у 1898 у ім нелегальна ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар А.Міцкевіча. Касцёл — помнік архітэктуры, у ім зберагаецца фундатарскі партрэт К.Хадкевіча і алтарны абраз Міхаіла Архангела. У 1990-я г. адрэстаўрыраваны, дзейнічае. *А.А.Ярашэвіч.*

НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ. Існаваў у 18—19 ст. ў Навагрудку Гродзенскай вобл. (паводле некаторых звестак францысканцы былі запрошаны ў Навагрудак вял. кн. ВКЛ Гедзімінам у 1323). Засн. навагрудскім падстолім Т.Вайніловічам у 1714 (паводле некаторых звестак — у 1780). У 1831 кляштар скасаваны. Барочны касцёл св. Антонія ў 1846 перабудаваны ў візант. стылі ў праваcл. сабор св. Мікалая (дзейнічае). Г-падобны ў плане будынак кляштара цяпер прыстасаваны пад жыллё. *М.А.Дабрынін.*

НАВІЦЫЯ́Т — інстытут папярэдняй падрыхтоўкі і апрабацыі прэтэндэнтаў на членства ў каталіцкім *ордэне манаскім*. Звычайна перыяд Н. працягваецца 1 год. На працягу гэтага тэрміну навіцый павінен беспярэчна падпарадкоўвацца ордэнскаму кіраўніцтву, насіць уласцівае ордэну адзенне і выконваць яго статут.

НАГО́РНАЯ ПРО́ПАВЕДЗЬ — паводле Евангелляў ад Матфея і ад Лукі, пропаведзь, абвешчаная Ісусам перад народам. Ісус абвяшчаў яе, стоячы на гары (адсюль назва). Н.п. змяшчае асн. маральна-этычныя нормы хрысціянства. У 1-й частцы пералічваюцца патрабаванні ад імя Бога да людзей; за іх выкананне абяцаецца ўзнагарода ў замагільным жыцці. У 2-й частцы выкладзены асновы новазапаветнай маралі — запаветы тва-

рыць міласціну таемна, не гневацца, любіць ворагаў сваіх, не клясціся, не судзіць, не збіраць скарбаў, не дбаць пра заўтрашні дзень, пра яду, піццё, а перш за ўсё шукаць царства нябеснага. Пазней у пасланнях апостала Паўла максімалізм гэтых патрабаванняў стаў меншым. Н.п. разам са старазапаветным Дэкалогам ляжыць у аснове хрысц. этыкі.

НАЗАРЭЦЯ́НКІ — рымска-каталіцкі жаночы ордэн «Згуртаванне сёстраў Найсвяцейшай сям'і з Назарэта». Засн. ў 1875 у Польшчы Ф.Сядліцкай з благаславення папы рымскага Пія IX. Гал. мэтамі ордэна былі клопат пра маральнае і рэліг. адраджэнне, выхаванне духоўнасці ў шлюбе. На Беларусі ў 1908—1940-я г. ордэну належаў комплекс *Гродзенскага кляштара брыгітак*. Кляштар Н. ў Навагрудку засн. ў 1929 па ініцыятыве біскупа З.*Лазінскага*. З 1931 пры кляштары працавала школа. У 1940 будынкі кляштара нацыяналізаваны, школа пераўтворана ў свецкую. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Н. праводзілі рэліг. навучанне дзяцей, насілі манаскае адзенне. 1.8.1943 гітлераўцы расстралялі каля горада 11 навагрудскіх Н. У 1945 іх перапахавалі побач з фарным касцёлам, тут устаноўлены памятны знак. 27.9.1991 іх мошчы перанесены ў капліцу Маці Божай Навагрудскай у фарным касцёле ў спец. саркафаг. 6.3.2000 яны беатыфікаваны (прылічаны да блажэнных). 31.7.1995 абшчына сясцёр-Н. аднавіла дзейнасць у будынку кляштара. На 2000 кляштары Н. дзейнічаюць у Гродне, Лідзе і інш. Існуе больш за 140 кляштараў Н. у Еўропе, ЗША, Аўстраліі, на Філіпінах.

*Літ.:* Стажиньская М. Одиннадцать мучениц: Пер. с польского. Гродно, 1999. *М.П.Гайба.*

НАМА́З (перс. — малітва) — абавязковая штодзённая пяціразовая малітва ў ісламе, якая ўключае чытанне «Фаціхі» і ўрыўкаў са стараж. сур Карана, вымаўленне дакладна ўстаноўленых малітоўных формул, якія суправаджаюцца паклонамі, апусканнем на калені, распасціраннем ніц, сядзеннем на падлозе з падагнутымі нагамі і інш. Н. можна рабіць у любым чыстым месцы, ступіўшы на малітоўны дыванок, цыноўку або расцеленую верхнюю вопратку. Па пятніцах шарыят раіць рабіць Н. у мячэці.

НАСТАЯ́ЦЕЛЬ храма, у праваслаўнай царкве *святар*, які прызначаецца епархіяльным архірэем для духоўнага кіравання вернікамі, кіраўніцтвам *прычтам* і *прыходам*. Узначальвае органы прыходскага кіраўніцтва: прыходскі сход і прыходскі савет, сумесна з якімі ён кіруе рознымі бакамі жыцця і дзейнасці прыхода. Н. называецца таксама кіраўнік манастыра.



Міхайлаўскі касцёл **Навагрудскага кляштара дамініканцаў**.

НЕАПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ, ліберальная тэалогія — рэлігійна-філасофская плынь у *пратэстантызме* 19—20 ст., якая імкнецца ўлічыць вынікі развіцця навукі і зменлівыя гіст. ўмовы для аховы асноў хрысц. веравучэння шляхам перагляду яго традыц. дагматычнага разумення. Найважнейшая тэарэтычная крыніца Н. — ідэі ням. філосафа і тэолага Ф.Шлеермахера. У тлумачэнні рэлігіі прыхільнікі гэтай плыні надаюць вялікае значэнне псіхалагічным і культурным фактарам. Лічаць, што Бог адкрываецца выключна індывідуальнаму ўнутранаму пачуццю, а рэліг. вера з'яўляецца адказам на запатрабаванні самой чалавечай прыроды і раскрываецца ў межах звычайнай жыццёвай практыкі пад уплывам канкрэтных культур. Рэлігія разглядаецца як частка агульнай культурнай гісторыі, а Ісус Хрыстос як гіст. асоба. Гал. зместам хрысціянства лічаць этычнае вучэнне Хрыста, а рэліг. карціну свету разглядаюць у святле навукі. Ідэі Н. набылі пашырэнне сярод прыхільнікаў абнаўлення пратэстантызму. Многія рэліг. і свецкія мысліцелі (у прыватнасці А.Швейцэр) ставяцца да хрысціянства як да выключна маральнай дактрыны, здольнай адкрыць індывіду шляхі духоўнага ўдасканальвання. Н. выказвае тэндэнцыю да міжканфесіяналізацыі і надання хрысціянству свецкага характару.

НЕАФІ́Т (ад грэч. neophytos той, хто нядаўна прыняў веравызнанне) — у хрысціянстве той, хто толькі што ахрышчаны як паслядоўнік вучэння Хрыста; пасвячоны ў сан святара; манах, які прыняў пострыг. Н. называюць таксама таго, хто нядаўна прыняў якую-н. рэлігію.

НЕАХРЫСЦІЯ́НСТВА — разнастайныя нетрадыцыйныя рэлігіі, для веравызнання якіх характэрна імкненне аб'яднаць хрысц. веравучэнне з элементамі ўсходніх рэлігій, яскрава выяўлены месіянізм і матывы хуткага сканчэння свету. Сярод неахрысціянскіх аб'яднанняў найб. вядома «Царква аб'яднання», або «Асацыяцыя Святога Духа за аб'яднанне сусветнага хрысціянства». Засн. ў 1954 у Паўд. Карэі прападобным Сан Мен Мунам. Гэта арганізацыя мае мільёны паслядоўнікаў больш як у 150 краінах свету. Яе кіруючы цэнтр — «Сусветны місіянерскі цэнтр» знахо-

дзіцца ў Нью-Йорку. Паводле вучэння Муна, існуе адзіны Бог, айцец усіх нацый, які абвяшчае пра сябе ў іудаізме, хрысціянстве, ісламе, будызме і інш. рэлігіях свету. Чалавечая гісторыя, на іх думку, складваецца з трох перыядаў: «век Старога запавету», «век Новага запавету», «век Завершанага запавету»; кожнаму веку Бог паведамляе «ісціну» ў пэўным аб'ёме, з улікам духоўнага ўзроўню людзей, з выкарыстаннем розных месій і прарокаў. 1-ы і 2-і перыяды атрымалі сваю ісціну ў Бібліі. У 1960 пачаўся апошні перыяд — век «Завершанага запавету». Месіяй 3-га перыяду Мун абвясціў сябе, а сваю працу «Боскі прынцып» — істотным дапаўненнем адкрыцця. Адной з форм Н. з'яўляецца стварэнне на тэр. былога СССР «Царквы Вісарыёна», або «Царквы адзінай веры», заснавальнікам якой з'яўляецца Сяргей Торап, ураджэнец г. Краснадар. Рэліг. арг-цыя «Царква адзінай веры» афіцыйна зарэгістравана ўладамі Расіі — цэнтр яе знаходзіцца ў г. Мінусінск, дзе жыве яе заснавальнік, які абвясціў сябе Вісарыёнам — новым месіяй. Найб. адданыя яму паслядоўнікі прадаюць сваю маёмасць і ўсе грошы ахвяруюць на пабудову храма, у якім маюць памер сустрэць канец Свету. Яны парвалі свае традыцыйныя сац. сувязі, пакінулі работу і сем'і, жывуць сваёй асобай сям'ёй, або «камунай».

НЕАЯЗЫ́ЧНІЦТВА, сучасная з'ява ў рэліг. і сац. жыцці, якая спалучае асн. рысы *новых рэлігій* — сінкрэтызм, актыўнае выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі, камунікацый, апакаліптызм, місіянерства з язычніцтвам — політэістычнымі разнароднымі культамі. У пач. 20 ст. Н. найбольш яскрава выявілася ў нацысцкім руху. Уяўленне аб немцах як нашчадках раней адзінай арыйскай цывілізацыі стала фундаментальнай для шэрагу мысліцеляў-рамантыкаў таго часу. Адным з кіраўнікоў антыхрысціянскага руху ў 1920-я г. быў ветэран 1-й сусв. вайны генерал Э.Людэндорф, які прапаноўваў адрадзіць стараж.-германскую рэлігію на чале з богам вайны Ватанам. Для абгрунтавання іх сістэм выкарыстоўваліся даныя індаеўрапейскіх даследаванняў. Пазней прадстаўнікі «арыясофіі» дапоўнілі свае канцэпцыі тэзісам пра няроўнасць рас. Так сфарміравалася дактрына, якую ўзялі на ўзбраенне эзатэрычныя арганізацыі, што падрыхтавалі перамогу нацысцкай партыі ў Германіі. Пасля прыходу нацыстаў да ўлады пад патранажам Г.Гімлера быў створан інстытут Аненэрбе, адной з мэтаў якога было стварэнне новай «арыйскай» рэлігіі. На гэтым шляху кіраўнікі 3-га рэйха імкнуліся дасягнуць поўнага зліцця духоўнай і свецкай улады. У 1920-я г. стройная сістэма Н. была створана ў Латвіі. Гэты рух намагаўся адрадзіць стараж.-латышскую рэлігію. Аналагічная спроба была зроблена і ў Літве. У пач. 20 ст. сярод нац. інтэлігенцыі Ірландыі быў папулярны неадруідызм — спроба адрадзіць стараж. кельцкую рэлігію. Вял. цікавасць да стараж. іранскай рэлігіі — зараастрызму — праяўляў апошні шах Мухамед Рэза Пехлеві ў 2-й пал. 20 ст. Ствараючы свой светапогляд, бальшавікі ў Савецкім Саюзе адмаўлялі ўсякую рэлігію, але задачы выхавання людзей новага пакалення вымагалі пошукаў незвычайных крокаў, і тады выкарыстоўваліся рэшткі язычніцкай абраднасці, якія захаваліся на вёсцы (чырвонае вяселле, замест хрышчэння немаўлят акцябрыны, святы першай баразны і інш.). Вельмі цікавымі сталі паралелі савецкай сімволікі і сімволікі пэўных акультных колаў (пяціканцовая зорка, чырвоны колер піянерскіх гальштукаў і сцягаў, муміфікацыя цела У.І.Леніна, умуроўванне ў Крамлёўскую сцяну ўрнаў з прахам крэміраваных дзеячаў і г.д.). У 1988, калі адзначалася тысячагоддзе Хрышчэння Русі, у інфармацыйным штомесячніку ТАСС для моладзі ў артыкуле «Паклоннікі Крышны — хто яны?» камсамольскім лідэрам давалася парада, што «адным са шляхоў (улічваючы цягу пэўнай часткі моладзі да індыйскай філасофіі) магла б стаць больш шырокая папулярызацыя духоўнай спадчыны Мікалая Рэрыха — нашага вялікага суайчынніка, мастака і мысліцеля, які пачарпнуў з індыйскай філасофіі ідэі ўдасканалення свету і чалавека праз мастацтва». Агні-ёга і тэасофія атрымалі пашырэнне на Беларусі праз дзейнасць Беларускага фонду Рэрыхаў, які быў створаны ў 1990 пастановай Савета Міністраў БССР «з мэтай садзеяння развіццю культуры народа Беларусі на аснове гуманістычных ідэй сям'і Рэрыхаў». Апрача Мінска цэнтры фонду былі створаны ў Гомелі, Брэсце і Баранавічах. Выстаўкі фонду пабывалі ў экскурсійным суправаджэнні ў 25 гарадах, дзе нярэдка распаўсюджвалася літаратура па агні-ёзе і тэасофіі. Тыбецкая язычніцкая школа Бон-по пачала распаўсюджвацца ў Мінску ў 1997 пасля лекцыі тыбецкага прапаведніка, практычных заняткаў і ініцыяцый.

Адзін з кірункаў неаязычніцкай думкі на Беларусі звязаны з ідэяй сінтэзу агульнай для ўсіх славян касмалагічнай сістэмы, здольнай, на думку яе прыхільнікаў, аб'яднаць славянскія народы на аснове фарміравання веры ў «славянскага бога — Крышэня — Сварога (Крышны). Таварыства адраджэння культуры стараж. славян «Славянін» і Маладзёжны цэнтр славянскай культуры «Рус», што былі ў свой час зарэгістраваны міністэрствам юстыцыі, будавалі сваю дзейнасць на аснове неаязычніцкай расавай ідэалогіі, аналогіяй якой кіраваліся нямецкія нацысты. Эксперты Дзяржкамітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей прызналі абедзве арганізацыі дэструктыўнымі. Асэнсаванне гісторыі Н., яго месца і ролі ў канфесіянальнай структуры Беларусі будзе спрыяць духоўнаму прагрэсу, зробіць магчымым пабудову гарманічнага грамадства, без этнічных, рэлігійных канфліктаў.

*Літ.:* Верашчагіна А.В., Гурко А.В. Гісторыя канфесій на Беларусі ў другой палове XX стагоддзя. Мн., 1999. *А.В.Гурко.*

НЕЛЮБО́ВІЧ-ТУКА́ЛЬСКІ Іосіф (?—1675) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Архімандрыт *Пінскага Лешчанскага манастыра.* У 1654—69 епіскап магілёўскі (зацверджаны каралеўскім прывілеем у 1661). Аднак у 1654—56 *Магілёўскай праваслаўнай епархіяй* фактычна кіраваў епіскап Іаакім, прызначаны Маскоўскім патрыярхатам. У 1664—75 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Да 1669 адначасова заставаўся і епіскапам магілёўскім. У 1664 па нагаворы гетмана Правабярэжнай Украіны П. Цяцеры арыштаваны каралеўскімі ўладамі і разам з б. гетманам Ю.Хмяльніцкім зняволены ў Марыенбургскую крэпасць (Паўночная Польшча). У 1667 апраўданы і вызвалены. Жыў у Каневе і Чыгірыне, дзе і памёр. У 1669 пасвяціў у епіскапа магілёўскага *Феадосія* Васілевіча і ў дыякана — Д.Тупталу (будучага св. Дзімітрыя Растоўскага). Аўтар пасланняў і пісем.

*Літ.:* Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 22; Mironowicz A. Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski. Białystok, 1998. *І.А.Пушкін.*

НЕМАНЦЭ́ВІЧ Антон (8.2.1893, С.-Пецярбург — 1.4.1943) — беларускі уніяцкі царкоўны дзеяч. З сям'і выхадцаў з мястэчка Саколка Гродзенскай губ. (цяпер тэр. Польшчы). Д-р тэалогіі (1927). Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію (1918). У 1915 пасвячоны ў ксяндза. Быў членам бел. культурна-асветніцкага гуртка ў акадэміі. З 1918 вікарый парафіяльнага касцёла св. Кацярыны ў Петраградзе. У 1921 быў арыштаваны за пратэст супраць арышту біскупа Цепляка, пасля вызвалення вікарый парафіі св. Пятра і Паўла ў Маскве. У 1923 зноў арыштаваны, у 1925 вызвалены ў выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай. Вывучаў тэалогію ў Рыме (1925—27). З 1929 член ордэна *езуітаў*, прыняў усходні (грэка-каталіцкі) абрад, настаяцель грэка-каталіцкай царквы ў Альбярціне, з 1933 — у Сынкавічах (гл. *Альбярцінская каталіцка-езуіцкая група*). У 1932—37 рэдагаваў і выдаваў уніяцкую бел. газ. «Да злучэння», дзе большасць артыкулаў пісаў сам (пад уласным прозвішчам і псеўданімам Злучэнец). З 1934 прафесар тэалогіі і кананічнага права ў Папскай Усходняй семінарыі г. Дубна (Зах. Украіна). У 1938 рэдагаваў у Варшаве час. «Злучэнне». З 1939 узначаліў Бел. грэка-каталіцкі экзархат Укр. уніяцкай мітраполіі, увёў бел. мову як афіц. ў справаводства і царк. жыццё. У 1942 паводле даносу арыштаваны гітлераўскімі акупантамі па дарозе з Львова ў Альбярцін. Памёр у турме ў Берліне. *І.І.Трацяк.*

НЕСТАРЫЯ́НСТВА — хрысціянскае багаслоўскае вучэнне, якое ўзнікла ў Візантыі ў 5 ст. Заснавальнік — канстанцінопальскі партрыярх Нестар. Паводле яго вучэння, Багародзіца і Ісус Хрыстос былі смертнымі людзьмі. У 431 Н. асуджана як ерась.

НЕСЦЯЖА́ЦЕЛІ — рэлігійна-палітычная плынь у Расіі канца 15 — пачатку 16 ст., прыхільнікі якой выступалі з патрабаваннем адмаўлення царквы ад «сцяжання» (набыццё зямельных і маёмасных каштоўнасцей), якое пярэчыла евангелічным ідэалам і шкодзіла аўтарытэту царквы. Гэта патрабаванне абгрунтавана ў працах *Ніла Сорскага*, Васіяна Патрыкеева, старца Арцемія і інш. У «Манастырскім статуце» Сорскі сцвярджаў, што набыццё ўласнасці несумяшчальна з манаскім зарокам, які абавязвае адмовіцца ад усяго свецкага, патрабуе весці строгі, аскетычны лад жыцця, карыстацца вынікамі ўласнай працы. Яго вучань Патрыкееў выступаў за канфіскацыю манастырскіх зямель і стварэнне манастырскага фонду для надзелу дробных і сярэдніх феадалаў. Несцяжацельства адпавядала інтарэсам буйнога баярства і ўдзельных князёў, якія імкнуліся захаваць свае ўладанні і задаволіць патрэбу вялікакняжацкай улады ў зямлі для дваранства за кошт секулярызацыі царк. зямель. Супраць Н. выступалі *іасіфляне* на чале з Іосіфам Валоцкім, якія пераканалі Івана III адмовіцца ад падтрымкі Н. як працiўнікаў палітыкі ўзмацнення вялікакняжацкай улады. Н. зганьбаваны на царк. саборах 1503, 1531.

*Літ.:* Замалеев А.Ф., Овчинникова Е.А. Еретики и ортодоксы: Очерки древнерус. духовности. Л., 1991.

НІЛ СО́РСКІ (у свеце Мікалай Майкаў; 1433, Масква — 1508) — расійскі царкоўны і грамадскі дзеяч, кіраўнік *несцяжацеляў*. Манах Кірыла-Белазерскага манастыра. У 1473—89 шмат падарожнічаў, быў у Палесціне, Канстанцінопалі, Афоне, дзе пазнаёміўся з містычным вучэннем ісіхазму (шлях чалавека да яднання з Богам праз «ачышчэнне сэрца»). Пасля вяртання заснаваў першы на Русі манаскі скіт на р. Сора каля Кірыла-Белазерскага манастыра. У творах «Статут скіцкага манаскага жыцця», «Паданне вучням сваім аб жыхарстве манаскім» і інш. патрабаваў засяроджвання вернікаў на сваім ўнутраным свеце, асабістага перажывання веры як непасрэднага яднання верніка з *Богам*. Выступаў за ўдзел манахаў у прадукц. працы, рэформу манаства на пачатках

скіцкага жыцця, заклікаў духавенства адмаўляцца ад роскашы, уладання зямлёй і сялянамі («несцяжання»). У адносінах да ератыкоў рэкамендаваў адмову ад насілля і ганенняў. Удзельнічаў у саборы 1503, дзе несцяжацелі пацярпелі паражэнне ад іасіфлян. Прадаўжальнікамі ідэй Н.С. былі Васіян Патрыкееў Касы і Арцемій Троіцкі.

*Літ.:* Замалеев А.Ф., Овчинникова Е.А. Еретики и ортодоксы: Очерки древнерус. духовности. Л., 1991.

НІМБ (лац. воблака, хмара) — умоўнае абазначэнне ззяння вакол галавы (радзей — усёй постаці) на выявах багоў і святых. Адзін з найб. стараж. сімвалаў, які абазначае выпраменьванне жыццёвай сілы, энергіі, мудрасці і інш. Пазней Н. трактавалі як ззянне ад святасці, дабрачыннасці, як замагільнае святло ведаў. На хрысц. абразах Н. з'явіўся ў 4 ст. Бывае рознай формы (круглы, квадратны, трохвугольны, шасцівугольны) і рознага колеру (сіні, жоўты, усіх колераў вясёлкі, найчасцей — залацісты). Існуе і крыжападобная форма Н., уласцівая толькі хрысц. іканапісу і якая сімвалізуе Хрыста. Трохвугольны Н. вакол галавы Бога-Айца сімвалізуе трыадзінства хрысц. бога і яго магутнасць як творцы, дэміурга.

НІРВА́НА (санскрыт, літар. — знікненне, згасанне) — у будызме і джайнізме канчатковае духоўнае вырагаванне, якое дасягаецца асабістымі намаганнямі веруючага. Азначае найвышэйшы стан свядомасці, процілеглае сансары, калі адсутнічаюць перараджэнні і пераходы ад адной сферы сансарнага існавання да другой. Псіхалагічна стан Н. негатыўна апісваецца як адсутнасць жадання, прагі да жыцця ўвогуле, а пазітыўна — як стан дасканаласці, задаволенасці, спакою, самадастатковасці. Паводле тэорыі будызму, Н. — стан свабоды, незалежнасці, спакою; толькі чалавек можа дасягнуць Н. і стаць будай. Лічыцца, што поўнасцю дасягнуць Н. можна толькі пасля смерці, т. зв. парынірвана. У міфалогіі махаяны адрозніваюць некалькі ўзроўняў Н.

НОВААПО́СТАЛЬСКАЯ ЦАРКВА́ — пратэстанцкая рэлігійная арганізацыя. Засн. ў 1863 у Вялікабрытаніі. Члены Н.ц. лічаць сябе адзінымі і сапраўднымі паслядоўнікамі першых *апосталаў* хрыстовых (адсюль назва), таму маюць права перадаваць св. Дух вернікам. У цэлым дагматыка падзяляе асн. палажэнні пратэстанцкіх плыней: *баптыстаў, адвентыстаў, пяцідзесятнікаў* (аб хрышчэнні св. Духам) і інш. Вярхоўная ўлада над усімі абшчынамі Н.ц. належыць першаапосталу (выбарная пасада). Акруговыя апосталы (каля 200) кіруюць асобнымі акругамі. Н.ц. пашырана ў 180 краінах (каля 7 млн. чалавек). На Беларусі пачала распаўсюджвацца з пач. 1990-х г. у выніку дзейнасці нямецкіх місіянераў (на 1.1.2001 было 20 абшчын).

*А.У.Верашчагіна.*

НОВАПАКУ́ТНІКІ МІ́НСКАЙ ЕПА́РХІІ, новамучанікі Мінскай епархіі, дваццаць тры новапакутнікі, якія як мясцовашанаваныя святыя Беларускай праваслаўнай царквы па блаславенні патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II (атрымана 5.10.1999) услаўлены ў мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы 12.12.1999 у 28-ы тыдзень пасля Пяцідзесятніцы (гл. таксама *Святыя праваслаўныя*). Рашэннем Св. Сінода Бел. правасл. царквы ўшанаванне царк. памяці новапакутнікаў устаноўлена па юліянскім календары 15 кастрычніка (па н. ст. 28 кастрычніка) у дзень іх кананізацыі. Да дня ўслаўлення створаны абраз «Сабор новапакутнікаў Мінскай епархіі», а ў газ. «Царкоўнае слова» (2000, № 2) змешчаны іх жыццяпісы. Рашэннем Асвячонага юбілейнага архірэйскага сабора Рус. правасл. царквы, які адбыўся 13—16.8.2000, усе яны ўвайшлі ў збор новапакутнікаў і праведнікаў расійскіх і атрымалі статус агульнацарк. ўшанавання:

Аляксандр (Шалай Аляксандр Сямёнавіч; 20.11.1879, г. Слуцк Мінскай вобл. — 14.11.1937), протаіерэй, настаяцель Троіцкай царквы ў в. Блонь Пухавіцкага р-на. Арыштаваны ў 1937 і прыгавораны да смяротнага пакарання за тое, што арганізаваў збор подпісаў за адкрыццё мясцовай царквы.

Валерыян (Навіцкі Валерыян Васілевіч; чэрв. 1897 — лют. 1930), іерэй, настаяцель Троіцкай царквы ў Капыльскім р-не. Арыштаваны 14.1.1930 за тое, што выступаў супраць удзелу сваіх аднавяскоўцаў у дзейнасці антырэліг. гурткоў, 23.2.1930 прыгавораны да смяротнага пакарання.

Васілій (Ізмайлаў Васіль Васілевіч; 4.6.1885, г. Вышні Валачок Цвярской вобл., Расія — 22.2.1930), протаіерэй, настаяцель Уваскрэсенскага сабора ў г. Барысаў. Арыштаваны ў 1927 за супраціўленне абнаўленцам, якія імкнуліся захапіць сабор. Быў зняволены ў Салавецкі канцлагер, дзе і памёр.

Дзімітрый (Паўскі Дзмітрый Аляксандравіч; 1874, б. Цвярская губ. — 14.8.1937), протаіерэй. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 — настаяцель мінскага Петра-Паўлаўскага кафедральнага сабора, потым служыў у царкве Св. Духа ў мястэчку Астрашыцкі Гарадок. У 1931 арышта-

ваны і асуджаны на 5 гадоў зняволення. Пасля датэрміновага вызвалення быў настаяцелем царквы ў в. Ульянава Пагарэльскага р-на Калінінскай вобл. Там 23.7.1937 арыштаваны другі раз і неўзабаве расстраляны.

Дзімітрый (Плышэўскі Дзмітрый Іванавіч; 1880 — 19.1.1938), іерэй. Служыў другім святаром у г. Смалявічы. Арыштаваны 26.9.1937 за тое, што працягваў набажэнствы і даваў знаёмым чытаць жыцці святых, 19.11.1937 прыгавораны да расстрэлу.

Іаан (Варанец Іван Васілевіч; 20.6.1864, гар. пас. Халопенічы Крупскага р-на Мінскай вобл. — 19.8.1937), протаіерэй, настаяцель Георгіеўскай царквы ў мястэчку Смілавічы (цяпер гар. пас. у Чэрвенскім р-не Мінскай вобл.). У час Усесаюзнага перапісу насельніцтва настаўляў прыхаджан, каб яны не баяліся ўлады і запісваліся веруючымі. У ліпені 1937 арыштаваны і прыгавораны да расстрэлу.

Іаан (Вячорка Іван Марцінавіч; 1890, в. Касарычы Глускага р-на Магілёўскай вобл. — 1933), іерэй, настаяцель Пакроўскай царквы ў в. Крываносы Старадарожскага р-на. Быў арыштаваны ўладамі ў 1926 і 1933. За мужныя паводзіны ў час допытаў 17.4.1933 прыгавораны да расстрэлу.

Іаан (Панкратовіч Іван Фёдаравіч; 1870, г. Клецк Мінскай вобл. — 6.10.1937), іерэй, настаяцель Пакроўскай царквы ў в. Чыжэвічы (цяпер у межах г. Салігорск). Арыштаваны ў 1937 і прыгавораны да расстрэлу за тое, што хадзіў па вёсках і заклікаў сялян падпісвацца за аднаўленне зачыненай раней прыходскай царквы.

Леанід (Біруковіч Леанід Платонавіч; 1864, в. Ухвала Крупскага р-на Мінскай вобл. — 20.8.1937), протаіерэй, настаяцель Успенскай царквы ў в. Брадзец Бярэзінскага р-на. Быў арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1934, 1935, 1937. Прыгавораны да расстрэлу за тое, што збіраў подпісы за адкрыццё раней зачыненай прыходскай царквы.

Матфей (Крыцук Мацвей Аляксандравіч; 1892, в. Малы Карацк б. Слуцкага пав. Мінскай губ. — 1950), протаіерэй, настаяцель Крыжа-Узвіжанскай царквы ў в. Вялікая Лысіца Нясвіжскага р-на. Арыштаваны 28.7.1950 за тое, што ў сваім доме захоўваў рэліг.-філасофскую літаратуру, прыгавораны да 25 гадоў зняволення. У тым жа годзе па-пакутніцку памёр у лагеры.

Мікалай (Васюковіч Мікалай Васілевіч; 28.3.1882, в. Коскі б. Мінскага павета — 26.9.1937), дыякан. Служыў у царкве Раства Прасвятой Багародзіцы ў в. Літвяны Уздзенскага р-на. Арыштаваны 6.8.1937 і прыгавораны да расстрэлу за смелыя выказванні, што выкрывалі беззаконне ўлад.

Мікалай (Мацкевіч Мікалай Сцяпанавіч; 4.5.1878, г. Барысаў Мінскай вобл. — ?), іерэй, настаяцель Андрэеўскай царквы ў г. Барысаў. Арыштаваны 15.8.1937 за нежаданне адрачыся ад свяшчэнніцкага сану, прыгавораны да 10 гадоў зняволення, адкуль не вярнуўся.

Міхаіл (Навіцкі Міхаіл Канстанцінавіч; 1889 — 1.5.1935), протаіерэй, настаяцель Петра-Паўлаўскай царквы ў мястэчку Узда. Благачынны. У ноч напярэдадні Вялікай Суботы 1935 збіты невядомым яўрэем, які патрабаваў ад яго царк. каштоўнасці. Памёр ад пабояў на 3-і дзень Вялікадня, паспеўшы справіць (у цяжкім стане) сваю апошнюю службу ў дзень Светлага Хрыстова Уваскрэсення.

Міхаіл (Плышэўскі Міхаіл Пятровіч; 1862, в. Варонічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 19.8.1937), протаіерэй, настаяцель царквы Св. Прарока Іліі ў в. Шацк Пухавіцкага р-на. Неаднаразова быў арыштаваны савецкімі ўладамі; у апошні раз — у 1937, прыгавораны да расстрэлу за тое, што збіраў подпісы за аднаўленне ў в. Шацк раней зачыненага храма.

Парфірый (Рубановіч Парфірый Адамавіч; 1863, в. Лемяшэвічы Пінскага р-на Брэсцкай вобл. — 1943), протаіерэй, настаяцель Спаса-Праабражэнскай царквы ў г. Заслаўе. У 1936 высланы з Заслаўя ў г. Быхаў, дзе 5.8.1937 арыштаваны за нежаданне адрачыся ад свяшчэнніцкага сану і прыгавораны да 10-гадовага зняволення. Пакаранне адбываў у лагеры каля г. Гомель, працуючы на торфазаводзе. У час нямецка-фашысцкай акупацыі забіты партызанамі.

Пётр (Грудзінскі Пётр Феафілавіч; 1877, гар. пас. Глуск Магілёўскай вобл. — 1930), іерэй, настаяцель Мікалаеўскай царквы ў в. Цімкавічы Капыльскага р-на. Быў дэпутатам 2-й Дзяржаўнай Думы Расіі (1907) ад сялян. Сан святара прыняў у пачатку 1920-х г., калі пашырыліся ганенні на царкву. Арыштаваны 13.1.1930 па фальшывым абвінавачванні ў антысавецкай агітацыі, 23.2.1930 прыгавораны да расстрэлу.

Серафім (Шахмуць Раман Раманавіч; 1901, в. Падлессе Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл. — 1945?), архімандрыт, з насельнікаў *Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра*. У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі (1941—44), выконваючы даручэнне мітрапаліта *Панцеляймона* праводзіў шырокую місіянерскую дзейнасць па аднаўленні царк. жыцця ва Усходняй Беларусі (адкрыта каля 70 храмаў), збіраў звесткі аб праследаванні правасл. царквы пры савецкай уладзе. У 1943—44 служыў пры Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску. 6.9.1944 арыштаваны савецкімі ўладамі ў г. Гродна, 7.7.1945 прыгавораны нібыта за супрацоўніцтва з акупантамі да 5 га-

доў пазбаўлення волі. Неўзабаве памёр у лагеры для зняволеных.

Сергій (Радакоўскі Сяргей Пятровіч; 1882, г. Жыткавічы Гомельскай вобл. — 1933), протаіерэй, настаяцель Троіцкай царквы ў в. Таль Любанскага р-на. Арыштаваны ў сакавіку 1933, абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі і 21.4.1933 прыгавораны да расстрэлу.

Уладзімір (Зубковіч Уладзімір Гаўрылавіч; 1863, г. Смалявічы Мінскай вобл. — 31.1.1938), протаіерэй. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 — памочнік інспектара Мінскай духоўнай семінарыі, пазней — настаяцель Мікалаеўскай царквы ў г. Смалявічы. Арыштаваны ў 1937 за тое, што не адрокся ад сану святара. Расстраляны.

Уладзімір (Пастарнацкі Уладзімір Іларыёнавіч; 2.7.1885, в. Дудзічы Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 1938), протаіерэй, настаяцель Спаса-Увазнясенскай царквы ў мястэчку Капыль. Двойчы арыштаваны ў 1937, абвінавачаны ў контррэвалюцыі і шпіянажы і 5.1.1938 прыгавораны да расстрэлу. На самой справе пацярпеў за тое, што адмовіўся адрачыся ад святарскага сану.

Уладзімір (Талюш Уладзімір Дзмітрыевіч; 1891, в. Залужжа Старадарожскага р-на Мінскай вобл. — ?), іерэй, настаяцель Георгіеўскай царквы ў роднай вёсцы. Арыштаваны 19.4.1933 за спробу збору сярод прыхаджан сродкаў, неабходных для аплаты падаткаў з царквы, асуджаны на 10 гадоў зняволення ў лагерах, дзе і загінуў.

Уладзімір (Хіраска Уладзімір Рыгоравіч; 11.1.1874, г. Камянец-Падольскі Хмяльніцкай вобл. , Украіна — 1933), протаіерэй, настаяцель царквы абраза Божай Маці «Усіх смуткуючых радасці» ў Мінску. Неаднаразова быў арыштаваны. У апошні раз выйшаў са зняволення (1929—32) паўсляпым, з падарваным здароўем, і праз некалькі месяцаў памёр.

Уладзімір (Хрышчановіч Уладзімір Іванавіч; 1875, в.Гезгалы Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл. — 1933), іерэй, настаяцель царквы Праабражэння Гасподняга ў в. Языль Старадарожскага раёна. Арыштаваны 27.12.1932 за частае ажыццяўленне набажэнстваў, 12.2.1933 прыгавораны да расстрэлу.

Акалічнасці арышту і смерці вышэйназваных пакутнікаў сведчаць, што кожны з іх сустрэў наканаваны яму лёс з рэдкім смірэннем і мужнасцю. Таму да іх могуць быць аднесены словы, якія прамовіў на зары хрысціянскай эры Св. апостал Павел: «Мы адусюль прыгнечаны, але не скораны; мы ў адчайных абставінах, але не адчайваемся; нас праследуюць, мы пакінуты, нізложаны, але не згінем... Бо жывыя бесперапынна перадаемся на смерць дзеля Ісуса, каб і жыццё Ісуса адкрылася ў смяротнай плоці нашай».

*Літ.:* Свящ. Феодор Кривонос. Священномученики Минской епархии XX века // Ежегодная богословская конференция православного Св.-Тихоновского института. М., 2000; Его ж. Синодик за веру и Церковь Христову пострадавших в Минской епархии. Киевец, 1996. *Святар Фёдар Крывanos.*

НО́ВЫ ЗАПАВЕ́Т — частка *Біблii*, якая з'яўляецца для хрысціян Свяшчэнным пісаннем. У назве выяўляецца ідэя новага звароту Бога да людзей у процілегласць *Старому запавету.* Назву «Н.з.» пачалі выкарыстоўваць з канца 2 ст. Н.з. уключае 27 кніг: 4 *евангеллі* (ад Матфея, ад Марка, ад Лукі і ад Іаана), Дзеянні апосталаў, 21 пасланне (Пасланне Іакава, 2 пасланні Пятра, 3 пасланні Іаана, Пасланне Іуды і 14 пасланняў Паўла) і Адкрыццё Іаана Багаслова (*Апакаліпсіс*). Н.з. з'яўляецца асн. крыніцай хрысц. веравучэння, у якой распавядаецца пра сына Божага Ісуса Хрыста, які ахвяраваў сваім жыццём, уваскрэс на 3-ці дзень і ўзнёсся на неба, пра другое яго прышэсце, якое чакаецца, пра прапаведніцкую дзейнасць і вучэнні апосталаў Ісуса. Н.з. не з'яўляецца суцэльным творам: часткі, якія яго складаюць, створаны ў розны час і ў розных месцах. Да найб. ранніх належаць асобныя пасланні Паўла, якія вучоныя лічаць сапраўднымі, і Адкрыццё Іаана, што было створана ў 68—69. Да канца 1 ст. створаны евангеллі, на мяжы 1—2 ст. напісана большасць пасланняў (адно з самых позніх — Другое пасланне Пятра — у пач. 2 ст.) і Дзеянні апосталаў. Н.з. папярэднічала працяглая вусная традыцыя. За выключэннем некалькіх сапраўдных пасланняў Паўла, часткі Н.з. напісаны не тымі асобамі, якім царква прыпісвала аўтарства. Кананізаваны састаў Н.з. склаўся не адразу. Да 4 ст. лічыліся свяшчэннымі евангеллі розных апосталаў (Пятра, Андрэя, Фамы, Філіпа і інш.), адкрыцці, дзеянні розных апосталаў, пасланні. У розных абшчынах складваліся свае каноны Н.з. (у Рыме, Александрыі, Сірыі). У 4 ст. ў новазапаветны канон уключаны «Пастыр» Гермы, напісаны ў жанры адкрыцця, які пазней не быў прызнаны царквой. У 363 на Лаадыкейскім саборы быў зацверджаны састаў Н.з., пазней ён разглядаўся яшчэ на некалькіх саборах. Доўга ішлі спрэчкі наконт уключэння ў састаў Н.з. Адкрыцця Іаана; яго ўключэнне было пацверджана толькі ў 7 ст. на Канстанцінопальскім саборы. Тэксты, якія не ўваходзяць у Н.з., прылічаны да *апокрыфаў.* Тэкст Н.з. вядомы ў некалькіх рукапісных рэдакцыях.

НО́ВЫЯ РЭЛІ́ГІІ, рэлігіі, якія з'явіліся ў свеце на мяжы 19—20 ст. Агульныя рысы Н.р.: сінтэз у веравучэнні палажэнняў як традыц., так і нетрадыц. рэлігій; ушанаванне і свяшчэнных пісанняў традыц. рэлігій, і кніг сваіх заснавальнікаў; культ не толькі Бога і яго пасланцаў, але і рэліг. лідэраў; актыўная місіянерская дзейнасць; умелае карыстанне сродкамі масавай інфармацыі. Многія з Н.р. знаходзяцца на стадыі станаўлення. З'яўленне Н.р. у сучасным грамадстве звязана з інфармацыйнымі працэсамі, характэрнай рысай якіх з'яўляецца сінкрэтызм.

Паводле культ.-рэліг. традыцый, пакладзеных у аснову веравучэння, Н.р. падзяляюць на 4 тыпы. Да першага тыпу Н.р. адносяцца рэліг. аб'яднанні, якія бяруць пачатак у іншаземнай культ.-рэліг. традыцыі. Найб. вядомыя іх прадстаўнікі на Беларусі — *вайшнавы* (крышнаіты). З 1994 у Мінску дзейнічае абшчына Аамота (вучэнне Вялікай асновы). Аамота ўзнікла ў 1872 у Японіі як сінтэз рэліг.-філасофскіх ідэй сінтаізму, канфуцыянства, даасізму, будызму. Заснавальнікамі Аамота лічацца непісьменная жанчына Дэгуці Наа і яе перайманьнік — святар дзэн Уэда Канісабура (рэліг. імя Анісабура Дэгуці). У Беларусі святаром Аамота быў былы папулізатар каратэ Валерый Буяк (рэліг. імя Бумата Мататацу). Адзін з самых істотных прынцыпаў руху Аамота — «адзіны Бог, адзіны свет, адзіная мова», таму яго прыхільнікамі кананізаваны аўтар эсперанта А.Заменграф. Значнае месца ў дактрыне Аамота займае пошук пунктаў сутыкнення розных рэлігій у галінах мастацтва і культуры («мастацтва — маці рэлігіі»). У культавай практыцы Аамота вялікую ролю адыгрываюць медытацыя і рытуальнае ўшанаванне з'яў прыроды. Без рэгістрацыі ў якасці рэліг. арг-цый на тэр. Беларусі дзейнічаюць Сусветны Духоўны Універсітэт Брахма Кумарыс (заснавальнік Дзіда Лекрадж) і Цэнтр Міру Шры Чынмой (заснавальнік Шры Чынмой), якія ўзніклі ў 20 ст. як плыні індуізму, адаптаваныя да ўспрыняцця еўрапейца; шэраг кірункаў будызму. Дзейнасць ісламскай секты ахмадые, індуісцкай секты шайвашактыстаў, будыйскай секты Аум Сенрыкё прызнана дэструктыўнай і забаронена на тэр. Беларусі.

Да другога тыпу Н.р. адносяцца рэліг. рухі, якія ўзніклі ў выніку драблення хрысц. традыцыі. У мінулым дзесяцігоддзі на Беларусі з'явіліся неапратэстанцкія плыні, створаныя ў ЗША: Царква Уніфікацыі, Сям'я, Царква Хрыста, *Мармоны, Сведкі Іеговы, Новаапостальская царква* (гл. *Неапратэстантызм*). Царква Уніфікацыі засн. ў 1954 паўднёвакарэйскім прапаведнікам Сан Мён Мунам, які выступіў з ідэяй аб'яднання ўсіх хрысціян з мэтай пабудовы на зямлі Царства Божага і з уласным вучэннем, заснаваным на вольным тлумачэнні Біблії і хрысц. веравучэння. Антыподам Царства Божага Сан Мён Мун абвясціў СССР і заклікаў да крыжовага паходу супраць камунізму. Сябе прапаведнік лічыў Новым Месіяй. Шлях да стварэння ідэальнага грамадства, паводле вучэння Царквы Уніфікацыі, ляжыць праз стварэнне ідэальных сем'яў: пары падбіраюць па камп'ютэры і кожную з іх блаславляе сам Сан Мён Мун. Царква Уніфікацыі — адна з самых багатых рэліг. арг-цый у свеце, мае шмат філіялаў у розных краінах; на Беларусі дзейнічае незарэгістраваны філіял «Вузаўская Асацыяцыя па вывучэнні Прынцыпу». Згуртаванне хрысц. місій «Сям'я» (да 1978 «Дзеці Бога») засн. ў 1968 баптысцкім прапаведнікам Дэвідам Брандтам Бергам, які прапагандаваў свае ідэі сярод хіпі. На аснове тэкста Евангелля ад Матфея ён прыйшоў да высновы, што дзяржава — гэта сістэма сатаны, а моладзь прызвана разбурыць ін-ты грамадства. Паводле Берга, старэйшае пакаленне — канфармісты, якія будуць знішчаны ў «апошняй бітве», а паслядоўнікі «Ісус-рэвалюцыі» будуць выратаваны, каб засяліць «ачышчаную зямлю» і аднавіць патрыярхальна-натуральны лад жыцця. Берг лічыў, што сям'я з'яўляецца адбіткам сістэмы грамадства, і таму новае грамадства павінна будавацца на аснове тэорыі сексуальнай рэвалюцыі. На Захадзе «Сям'я» атрымала распаўсюджанне ў выглядзе камун, сельгасабшчын; на Беларусі назіраліся яе адзінкавыя місіянеры. Царква Хрыста засн. ў 1979 пратэстанцкім пастарам Кінам Мак-Кінам. Сваёй гал. мэтай яе прыхільнікі лічаць стварэнне «сапраўднай царквы» ва ўсіх краінах свету на працягу аднаго маладога пакалення; вызначаюцца актыўнымі, агрэсіўнымі метадамі місіянерскай дзейнасці, напалову ваеннай дысцыплінай, кантролем за кожным вернікам.

Да трэцяга тыпу Н.р. належаць рэлігіі, вытокі якіх у зах. акультнай традыцыі: *масонства*, розенкрэйцарства, а таксама арг-цыі сатаністаў, адзінкавыя прадстаўнікі якіх ёсць у Беларусі.

Да чацвёртага тыпу Н.р. адносяцца сінкрэтычныя рэлігіі, якія спалучаюць у сабе ў розных прапорцыях элементы будызму, хрысціянства, індуізму, акультызму і інш. Рысы сінкрэтычных рэлігій уласцівы кірункам *неаязычніцтва*, рэліг. арг-цыям *бахаістаў*. У сярэдзіне 20 ст. вядомым пісьменнікам-фантастам Р.Хабардам была створана тэорыя дыянетыкі («навукі разумовага здароўя»), якая была пакладзена ў аснову Саенталагічнай царквы. Асн. ідэя гэтай царквы — магчымасць самавывучэння, самаўдасканальвання, выз-

валення, ачышчэння, самаідэнтыфікацыі з Абсалютам яе шлях да выратавання асобы. Саенталагічная царква спалучае дасягненні псіхіятрыі і інш. навук з філасофскімі і акультнымі сістэмамі Усходу і Захаду. Прыхільнікі Саенталагічнай царквы праходзяць шэраг тэарэтычных і практычных (напр., па ўдасканальванні сістэмы кіравання вытворчасцю, міжасобасных адносін) семінараў. Фінансавая актыўнасць гэтай царквы, выкарыстанне тэхналогій уплыву на асобу, якія цяжка кантраляваць з боку грамадства, сталі прычынай шматлікіх судовых працэсаў над саентолагамі ва ўсім свеце. На Беларусі дзейнасць Саенталагічнай царквы забаронена. Стваральнікі Н.р. «Белае Брацтва» («Юсмалас») кібернетык Ю.Крываногаў і М.Цвігун з Кіева прапанавалі эсхаталагічнае вучэнне на аснове сінтэзу парапсіхалогіі, неаіндуізму, хрысціянства і акультызму. Крываногаў (рэліг. імя Юаан Свамі) быў абвешчаны пераўвасабленнем Адама, Іаана Хрысціцеля, Іаана Багаслова, Іліі, архангела Міхаіла, Цвігун (рэліг. імя Марыя Дэві Хрыстос) — Ісуса Хрыста. Прыхільнікі «Белага Брацтва» вялі падрыхтоўку да Страшнага Суда, які павінен быў адбыцца ў ліст. 1993, і да ахвярапрынашэння Марыі Дэві Хрыстос. Украінскія ўлады арыштавалі арганізатараў «Белага Брацтва» і нейтралізавалі юсмаліян. У канцы 1990-х г. на Беларусі назіраліся адзінкавыя прадстаўнікі «Белага Брацтва», якія дзейнічалі нелегальна. У 1990 засн. Царква Вісарыёна, якая спалучае рысы язычніцтва, будызму, даасізму, хрысціянства і ісламу (заснавальнікі В.Плецін і С.Тароп). Паводле дактрыны Царквы Вісарыёна, Вышэйшы Розум вырашыў знішчыць чалавецтва, але тыя, хто далучыцца да месіі Вісарыёна (Таропа), могуць атрымаць выратаванне. У краснаярскім краі паслядоўнікі Царквы Вісарыёна заснавалі вялікую абшчыну «Экаполіс Цыберкуль», стварылі ўласны каляндар, прытрымліваюцца вегетарыянства, практыкуюць метады нетрадыц. медыцыны, жорстка рэгламентуюць сваё жыццё. На Беларусі паслядоўнікі Царквы Вісарыёна з'явіліся ў 1992, дзейнічаюць нелегальна.

Найб. масавымі з'яўляюцца рэліг. рухі, якія не прадугледжваюць цэласных структур, сістэм, светапогляду: астралагічныя школы, секцыі і гурткі ёгі, медытатыўныя практыкі, звязаныя з баявымі майстэрствамі, тэасофскія аб'яднанні. На Беларусі з 1980-х г. актыўна распаўсюджваліся гурткі хатхаёгі. З 1990-х г. дзейнічае Бел. фонд Рэрыхаў з цэнтрамі ў Мінску, Гомелі, Брэсце і Баранавічах, супрацоўнікі якога арганізуюць выставы, распаўсюджваюць літаратуру па тэасофіі і агні-ёзе. Вялікую папулярнасць з пач. 1990-х г. набылі «авестыйская» (П.Глоба) і інш. школы астралогіі. Секцыі ўсходніх баявых майстэрстваў, у аснове якіх — практыка дзэн-будызму, з'явіліся на Беларусі ў 1970-х г. У 1980-х г. тут пачалі ўзнікаць гурткі ушу, дзе выкарыстоўваліся даоскія практыкі. У 1990-х г. у асяроддзі аматараў усходніх адзінаборстваў узнікаюць абшчыны дзэн-будызму (г. Новаполацк) і сентаісцкай абшчыне Аамота (Мінск).

Паводле характару рэалізацыі сваіх ідэй Н.р. падзяляюць на 4 тыпы. Да першага належаць экстрэмісцкія рэлігіі, якія характарызуюцца дамініраваннем эсхаталагічных ідэй і рэалізацыяй гэтых ідэй у выглядзе прапаганды і правакавання катастрафічных змен у грамадстве, радыкальнага пераўтварэння жыцця вернікаў, якія кідаюць сям'ю, работу, маёмасць і чакаюць надыходу канца свету ці здзяйсняюць самазабойчы акт «канчатковага вызвалення» («Белае Брацтва», Аум Сінрыкё).

Да другога тыпу Н.о. належаць рэліг. рухі, якія прапагандуюць мадэлі паступовых змен свету шляхам радыкальнага пераўтварэння свядомасці людзей. Напр., паслядоўнікі Цэнтра Міру Шры Чынмоя лічаць, што праз медытацыю, агульную і адначасовую малітву прадстаўнікоў усіх канфесій можна дасягнуць спынення войн і пабудаваць шчаслівае грамадства. Апрача медытацый, паслядоўнікі Цэнтра арганізуюць выставы жывапісных твораў Шры-Чынмоя, якія нібыта станоўча ўздзейнічаюць на свядомасць чалавека, спартыўныя забегі дзеля міру. Цэнтр Міру Шры Чынмоя існаваў на Беларусі з пач. 1990-х г. як грамадская арг-цыя, з 1999 ён фармальна не існуе, але яго актывісты праводзяць выставы і марафоны. Пабудовы шчаслівага грамадства шляхам аб'яднання ўсіх рэлігій абвяшчаюць бахаісты, першыя паслядоўнікі якіх з'явіліся на Беларусі ў канцы 1970-х г., з 1990-х г. актыўна дзейнічаюць у Мінску, Брэсце, Гродне. Бахаісты выкарыстоўваюць у місіянерскіх мэтах арганізацыю курсаў англійскай мовы і валанцёрскай працы за мяжой. У 2-й палавіне 1990-х г. маскоўскі прапаведнік В.Данілаў імкнуўся стварыць на Беларусі секту на аснове крышнаізму. Паводле яго вучэння, неабходна пабудаваць «арыйскі парадак», аднавіць «варную структуру» грамадства, апісаную ў ведычнай літаратуры. Адзінкавыя паслядоўнікі Данілава ёсць на Беларусі.

Да трэцяга тыпу Н.р. адносяцца рэліг. рухі, якія звязваюць кардынальныя змены ў грамадстве з вырашэннем праблем пэўнай сац. групы. Рэліг.-містычныя ідэі распаўсюджаны ў феміністцкім руху, сярод моладзі і інш. Да гэтага тыпу Н.р. можна аднесці Духоўны Універсітэт Брахма Кумарыс, ядро якога складаюць незамужнія жанчыны, якія практыкуюць бясшлюбнасць, аскезу, раджа-ёгу.

На Беларусі гэта арг-цыя існуе з 1995, у 1999 пазбаўлена рэгістрацыі як грамадскае аб'яднанне і фармальна не існуе.

Да чацвёртага тыпу Н.р. адносяцца рэліг. рухі, арыентаваныя на утылітарна-прагматычнае прыстасаванне да пэўнага сацыяльна-палітычнага ці гаспадарча-бытавога ладу. Напр., Саенталагічная Царква прапануе сістэму для «ачышчэння свядомасці» чалавека (на Беларусі нелегальна дзейнічае з сярэдзіны 1990-х г.). Паслядоўнікі Царквы Вісарыёна ствараюць тэхнікі самаўдзеяння чалавека з мэтай самаачышчэння і самаўдасканальвання і ў той жа час працуюць над арганізацыяй натуральнай гаспадаркі, цэнтр якой знаходзіцца ў Сібіры (вызначанай Вісарыёнам як сакральная тэрыторыя). Разнастайныя культы д'ябламаніі прапануюць уласныя метады і формы прыстасавання да грамадства і прапаведуюць амаральны прагматызм, заснаваны на ўпэўненасці, што поспех прадпрымальніцкай і палітычнай дзейнасці чалавека грунтуецца на падпарадкаванні культу бескампраміснай улады, жорсткасці і насілля — тых сатанінскіх каштоўнасцей, якія, паводле д'ябламанскай міфалогіі, складаюць падмурак узаемаадносін паміж людзьмі ў сучасным грамадстве. Дзейнасць адзінкавых паслядоўнікаў гэтых культаў на Беларусі выяўляецца ў ахвярапрынашэннях жывых істот, ганьбаванні культавых пабудоў і могілак.

Вылучаюць таксама кансерватыўна-рэстаўрацыйныя Н.р., якія прапагандуюць адраджэнне грамадска-палітычнага ладу жыцця, які адышоў у мінулае, у т.л. і зусім архаічныя погляды: адраджэнне язычніцтва, аднаўленне абшчыннага ладу і натуральнай гаспадаркі, дарэвалюцыйнай царквы і манархіі.

Працэсы дэмакратызацыі палітычнага жыцця, фарміраванне новых мадэлей царк.-дзярж. адносін і змены ў грамадскай свядомасці на карысць прызнання права на існаванне рэліг. аб'яднанняў разнастайных тыпаў, у т.л. і тых, што прыйшлі з-за мяжы, зрабілі магчымым з'яўленне Н.р. на Беларусі. Н.р. выконвалі функцыю запаўнення светапогляднага і ідэалагічнага вакууму, які ўзнік пасля краху камуністычнай сістэмы. У адрозненне ад канфесій-носьбітаў роднай духоўнай традыцыі, для якіх патрабаваўся час для аднаўлення паўнавартаснай дзейнасці, знішчаных савецкай уладай арг-цый і ўстаноў, большасць з Н.р. валодала распрацаванымі механізмамі адаптацыі да сучаснага культ. асяроддзя, гатовымі адказамі на ўсе пытанні рэчаіснасці, тэхналогіямі, якія нібыта спрыялі кароткатэрміновай духоўнай рэалізацыі. У апошняе дзесяцігоддзе склаліся ўмовы для бесперашкоднай дзейнасці сектаў Аум Сінрыкё, Харэ Крышна, саенталагаў, тыбецкай секты Бон-по, Царквы Уніфікацыі і інш., якія вялі прапаганду па ўсёй тэр. нашай краіны на хвалях рас. радыёстанцый, на старонках бел. газет. Колькасць паслядоўнікаў Н.р. у свеце не больш за 112 млн. чалавек (каля 2% жыхароў Зямлі); абсалютная большасць якіх (каля 97%) сканцэнтравана ў Азіі. На Беларусі прыхільнікамі Н.р. з'яўляецца 2 тыс. чалавек. Супрацьстаянне магчымым разбуральным працэсам, звязаным з уздымам Н.р., павінна здзяйсняцца праз сістэму выхавання, заснаваную на нац. каштоўнасцях, традыц. веравызнаннях, умацаванні сям'і.


Касцёл **Нясвіжскага езуіцкага калегіума**.

*Літ.:* Балагушкин Е.Г. Критика современных нетрадиционных религий. М., 1980; Ткачева А.А. Новые религии Востока. М., 1991; Баркер А. Новые религиозные движения: Пер. с англ. СПб., 1997; Торчинов Е.А. Религии мира; Опыт запредельного; Трансперсональные состояния и психотехника. СПб., 1997; Дьяченко О.В. Новые религиозные объединения. Мозырь, 1998; Пучков П.И., Казьмина О.Е. Религии современного мира. М., 1998; Этнос и религия. М., 1998; Гурко А.В. Движение вайшнавов («Харе Кришна») и его последователи в Беларуси. Мн., 1999.

*А.В.Гурко.*

НУ́НЦЫЙ (ад лац. nuntius вяшчун) — пастаянны дыпламатычны прадстаўнік *Ватыкана* пры ўрадзе замежнай дзяржавы, якая падтрымлівае з ім афіц. дыпламатычныя адносіны. Паводле Венскай канвенцыі аб дыпламатычных адносінах 1961 Н. адпавядае дыпламатычнаму рангу надзвычайнага і паўнамоцнага пасла. Інстытут пастаяннага прадстаўніцтва Н. склаўся ў 1-й палавіне 16 ст. У большасці каталіцкіх краін Н. з'яўляецца старэйшынай (дуаенам) дыпламатычнага корпуса.

НЯСВІ́ЖСКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ. Дзейнічаў у 1586—1773 у Нясвіжы Мінскай вобл. Засн. М.К.Радзівілам Сіроткам, які падараваў калегіуму маёнтак Ліпск з 6 вёскамі. Даходы калегіума ў



Касцёл **Нясвіжскага езуіцкага калегіума**. Размалёўка цэнтральнага плафона і скляпенняў.

1603 складалі 1600, у 1639 — 6000, у 1749 — 5569 злотых. Корпус калегіума пабудаваны ў 1586—88 паводле планаў з Рыма, у 1593—99 павялічаны. У 1587—93 узведзены касцёл Божага Цела (архітэктар Я.М.Бернардоні), у 1601 асвячоны. Нясвіжскія езуіты стварылі свае місіі ў Белай, Капылі, Крывошыне, Ліпску, Мікалаеве, Ужанцы; на базе іх місій узніклі таксама *Бабруйская езуіцкая рэзідэнцыя, Мінскі езуіцкі калегіум, Навагрудскі езуіцкі калегіум, Слонімская езуіцкая рэзідэнцыя*. У 1586 адкрыты класы граматыкі, потым — паэтыкі, рыторыкі і інш. У пач. 17 ст. было каля 300 вучняў. Пры Н.е.к. дзейнічалі: з 1610 музычная бурса, з 1620 канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, з 1627 аптэка, з 1750 *Нясвіжская друкарня* Радзівілаў. Б-ка ў канцы існавання налічвала каля 15 тыс. тамоў. У 1773 калегіум са скасаваннем ордэна езуітаў пераўтвораны ў свецкую школу. Касцёл пераўтвораны ў парафіяльны (помнік архітэктуры барока; у ім знаходзіцца склеп з пахаваннем членаў роду Радзівілаў). Інш. будынкі не захаваліся.

НЯСВІЖСКІ КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК. Існаваў у 1591—1877 у Нясвіжы Мінскай вобл. Засн. Мікалаем Крыштофам Радзівілам і яго жонкай Альжбетай Эўфеміяй. Актамі фундацыі 1591—95 і 1602 яны далі бенедыкцінкам фальварак Гавязна з вёскамі Ахрымавічы, Вязавец, Зарэчча, Петухоўшчына (170 валок зямлі), тэрыторыю ў 11 моргаў у паўднёва-заходняй частцы Нясвіжа і 9 тыс. злотых на пабудову кляштара (грашовыя ўносы кляштару Радзівілы працягвалі і пазней). Першыя манашкі прыбылі з Хелмна (Польшча). Прыярыса М.Мартэнская атрымала папскі прывілей на змякчэнне суровага статута ордэна. Пазней нясвіжскія бенедыкцінкі сталі першымі пасяленкамі ў аналагічных кляштарах Вільні, Коўны, Мінска, Оршы, Смаленска. Сярод манашак былі прадстаўніцы вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў (Войнаў, Нарбутаў, Радзівілаў, Слушкаў, Тышкевічаў, Халецкіх і інш.), якія пры паступленні ў кляштар павінны былі ўносіць грашовы «пасаг». У 1627 бенедыкцінкі купілі фальварак Вялешын і в. Талядовічы; Крыстына Эўфемія Радзівіл (прыярыса ў 1632—58) адсудзіла ў Завішаў на карысць кляштара вёскі Лучыца і Слабада. У нясвіжскім кляштары пастаянна выхоўвалася 25 свецкіх паненак, якіх манашкі навучалі мовам, музыцы, мастацкаму шыццю і інш. У 1804 было 22 выхаванкі, 48 чал. жаночай прыслугі, 16 рамеснікаў; у 1828 — 33 манашкі, пераважна з Мінскага і Навагрудскага пав.; б-ка мела 437 кніг на польскай і 79 на лац. мове; былі муз. інструменты. У 1784 кляштар наведаў кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст. Корпус кляштара змураваны ў 1593—96, касцёл св. Эўфеміі (архітэктар Я.М.Бернардоні) асвячоны ў 1595. Вежа над касцёлам пабудавана ў 1720-я г., уваходная званіца — у 1760-я г. У 1877 кляштар скасаваны, апошнія 20 манашак высланы ў Вільню і Гродна, будынкі аддадзены пад Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. У 1920—45 кляштар зноў дзейнічаў. Цяпер у комплексе кляштара размешчаны педагагічны каледж.

*А.А.Ярашэвіч.*

НЯСВІЖСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Дзейнічаў у 1598—1864 у Нясвіжы Мін-

скай вобл. Засн. М.К.Радзівілам Сіроткам па волі сваёй памерлай жонкі Гальшкі Эўфеміі (з Вішнявецкіх), якая завяшчала на пабудову кляштара даход ад маёнтка Карэлічы. Радзівіл Сіротка перадаў бернардзінцам даход ад маёнтка Чановічы, агарод у 3 маргі і 20 прутоў, 28 маргоў лугоў, 5 валок і 6 маргоў лесу ў наваколлях Нясвіжа. У 1617 Я.Ю.Радзівіл даў кляштару млын, сажалку і лес каля Пагарэлага. Касцёл св. Кацярыны (названы ў памяць памерлай дачкі М.К.Радзівіла, у 1603 асвячоны віленскім біскупам Б.Войнай) і корпус кляштара пабудаваны паводле праекта італьянскага архітэктара Я.М.Бернардоні. У 17 ст. да касцёла прыбудаваны капліцы св. Францыска і св. Ганны. З 1628 пры кляштары працавала школа тэалогіі, у 1654 заменена на школу філасофіі. У 1655 кляштар спалены, да 1662 адбудаваны. У 1731 школа адноўлена, дзейнічала да 1864. У касцёле знаходзіліся надмагіллі фундатараў з вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў. Статуя «Укрыжаванне» лічылася цудадзейнай. Пры касцёле дзейнічалі 3 брацтвы. У 1793 касцёл св. Кацярыны і корпус кляштара цалкам згарэлі, у пач. 19 ст. касцёл нанова пабудаваны ў класіцыстычным стылі, вуглавы камень закладзены біскупам Дадэркам у 1802. У 1804 у кляштары было 15 манахаў, 12 студэнтаў, у б-цы — 1199 кніг. У 1864 нясвіжскія бернардзінцы абвінавачаны ў падтрымцы паўстання 1863—64, і іх кляштар закрыты (перададзены ваеннаму ведамству). Манахаў выслалі ў Крэтынгу (Літва), Кімбараўку (прыгарад Мазыра), Гарадзішча і ў *Нясвіжскі кляштар дамініканцаў.* У 1870 касцёл пераабсталяваны пад Георгіеўскую царкву. У 1950-я г. разбураны.

*А.А.Ярашэвіч.*

НЯСВІ́ЖСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ. Існаваў у 1672—1877 у Нясвіжы Мінскай вобл. Засн. ў 1672 падчашым смаленскім Б.Баканоўскім і М.К.Радзівілам, які, верагодна, выдзеліў месца для пабудовы кляштара. У 1842 кляштару належала 268 валок зямлі і 12 тыс. руб. капіталу. 26.8.1680 асвячоны мураваны, 3-нефавы, з 2-вежавым фасадам касцёл Яна Хрысціцеля. Яго скляпенні і сцены былі размаляваны вядомым мастаком Д.Гескім. У алтары знаходзіўся абраз Маці Божай Ружанцавай, які лічыўся цудадзейным. Да касцёла прымыкаў 2-павярховы мураваны корпус кляштара. Пасля закрыцця ў 1773 *Нясвіжскага езуіцкага калегіума* дамініканцы ўтрымлівалі пры сваім кляштары гімназічныя школы, пазней павятовыя (зачынены ў 1835). У апошні перыяд існавання кляштара сюды адпраўлялі ксяндзоў, якія не хацелі правіць імшу на рус. мове. У 1877 скасаваны, касцёл перабудаваны ў правасл. храм. Будынкі кляштара да нашага часу не захаваліся.

*Літ.:* Сыракомля У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Пер. с пол. Мн., 1992. *А.А.Ярашэвіч.*

НЯСВІ́ЖСКІЯ ДРУКА́РНІ. Існавалі ў 16 і 18 ст. у г. Нясвіж Мінскай вобл. Друкарня 16 ст. засн. М.Кавячынскім і Л.Крышкоўскім; ідэйным кіраўніком у першыя гады яе існавання быў С.*Будны*. Першая на тэр. Беларусі друкарня, якая карысталася кірыліцай. У 1562 у ёй выдадзены «Катэхізіс» Буднага — першая на Беларусі кніга на бел. мове, а таксама яго твор «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад богам» (не збярогся). Друкавала творы на польскай і лац. мовах (друкар Д.Ланчыцкі); усяго ў 1563—71 надрукавана 11 выданняў, у асн. творы палемічнай пратэстанцкай



**Нясвіжскі кляштар бенедыкцінак.** З малюнка Н.Орды. 19 ст.

публіцыстыкі. Спыніла дзейнасць паводле загаду М.К.Радзівіла Сіроткі. Апошняе выданне — «Біблія» (пераклад на польскую мову Буднага) дадрукавана ў 1572 у Заслаўі ці ў маёнтку Кавячынскіх ва Уздзе. Большасць кніг аформлены проста, без ілюстрацыйных гравюр. У маст. афармленні кірыліцкіх кніг прытрымліваліся друкарскіх традыцый Ф.Скарыны: выкарыстанне наборнага арнаменту, разнастайных шрыфтоў, ініцыялаў з дэкаратыўна-раслінным фонам. Маёмасць друкарні ў 1572 купіў Я.С.Кішка, які ў 1574 заснаваў *Лоскую друкарню*. Друкарня 18 ст. (1750—90-я г.) засн. Радзівіламі. У 1751 падаравана мясцоваму калегіуму езуітаў. Гравёрам быў Г.Ляйбовіч. У ёй надрукавана каля 70 белетрыстычных, рэліг., палемічных і вучэбных твораў, панегірыкаў на польскай і лац. мовах, у т.л. «Пра жыццё і справы Аляксандра Вялікага» К.Руфа (1763), «Жыццё і ерасі Вальтэра» Ф.Нано (1781), «Артыкулы вайсковыя» (1754), альбом медзярытаў «Партрэты сям'і Радзівілаў...» (1757, 165 гравюр на медзі).

*Літ.:* Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Шматаў Г.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984.

*Г.Я.Галенчанка.*



О́ДЭРБОРН (Oderborn) Пауль (каля 1555, Барт у Заходнім Памор'і — 1604), дзеяч лютэранскай царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім, пісьменнік. З 1577 служыў прапаведнікам у Вільні, удзельнічаў у рэліг. дыспутах і палемічнай перапісцы з прадстаўнікамі інш. канфесій ВКЛ, у т.л. з Я. *Ласіцкім*. У 1582 выдаў у г. Ростак (Германія) на лац. мове трактат «Апавяданне пра рэлігію і звычаі рускіх», у якім выклаў свае адносіны да побыту і рэліг. жыцця беларусаў і рускіх, адным з першых сярод зах.-еўрапейскіх аўтараў ужыў назву «Белая Русь» у дачынне да ПнУ Беларусі. Трактат О. перавыдаваўся разам з падобнай па назве і змесце працай Ласіцкага і ў складзе выданняў кампілятыўнага характару. У 1587 у Гродне вітаў абранне Жыгімонта III каралём польскім і вял. князем ВКЛ, атрымаў ад яго пасаду лютэранскага пастара ў Рызе. Пазней служыў пастарам у сталіцы Курляндыі Мітаве (Елгаве). *А. В. Белы.*

О́ПЦІНА ПУСТЫ́НЯ — адзін з самых вядомых мужчынскіх манастыроў Рускай праваслаўнай царквы, месца паломніцтва праваслаўных вернікаў. Размешчаны за 80 км ад г. Калугі (Расія). Заснаваны на мяжы 14—15 ст. Амаль да пач. 16 ст. у ёй пражывалі сумесна манахі і манашкі, з чаго яна, паводле адной з версій і атрымала назву Опцінай, г. зн. агульная. Спачатку быў бедны і малавядомы. Усерасійскую вядомасць набыў з пач. 19 ст., калі ператварыўся ў цэнтр адраджэння ў Расіі старцаў — своеасаблівага інстытута духоўнага настаўніцтва. Манастыр наведвала вялікая колькасць паломнікаў і ён набыў славу як аднаго з цэнтраў рус. культуры. Тут збіраліся, перакладаліся і перапісваліся творы візант. стараж.-грэч. і стараж.-рус. аўтараў; была разгорнута шырокая выдавецкая дзейнасць, існавалі друкарні, кнігарня, б-ка. Дзейнасць опцінскіх старцаў падтрымлівалі прадстаўнікі рас. інтэлігенцыі. Сюды прыязджалі многія вядомыя паэты, пісьменнікі, філосафы, мастакі, кампазітары, у т. л. М.В.Гогаль, М.Ф.Дастаеўскі, Л.М.Талстой і інш. У 1923 манастыр па патрабаванню сав. улад закрыты. Адраджэнне манаскага жыцця ў О.п. пачалося з 1987.

О́РГІЯ (ад грэч. orgia тайныя абрады) — рэлігійныя абрады, звязаныя з культам некаторых старажытна-ўсходніх (Астарты, Ісіды і Асірыса, Кібель, Тамуза), старажытна-грэчаскіх (Дыяніса і інш.), старажытна-рымскіх (Вакха і інш.) багоў.

ОРДЭН (ад лац. ordo(ordinis) рад, разрад) — 1) каталіцкія цэнтралізаваныя манаскія таварыствы (з 6 ст.) з пэўнымі статутамі, зацверджанымі папствам (у склад *ордэнаў манаскіх* уваходзяць і духоўна-рыцарскія О. (гл. *Бернардзінцы, Дамініканцы, жабрацкія ордэны , Кармеліты, Францысканцы*). 2) Назва некаторых тайных рэлігійна-філасофскіх аб'яднанняў, арг.-цый (напр., масонскі О.)

О́РДЭНЫ МАНА́СКІЯ — цэнтралізаваныя манаскія аб'яднанні ў некаторых канфесіях, якія маюць статут і ўласную арганізацыйную структуру. Найб. пашыраны ў рымска-каталіцкай царкве. Звычайна каталіцкія О.м. былі падначалены рымскаму папе і не падпарадкоўваліся біскупам (епіскапам) на месцах. На чале О.м. стаіць генерал (генерал-магістр), пры якім ёсць *капітул* — калегія кіруючых асоб. Тэрытарыяльна О.м. падзяляюцца на *правінцыі ордэна* на чале з правінцыяламі. Адрозніваюцца адзін ад аднаго традыц. ладам жыцця, мэтамі, закладзенымі сваімі заснавальнікамі, і задачамі, вызначанымі папствам, а таксама колерам і кроем адзення. Маюць свае звычаі і абраднасць. Некаторыя мужчынскія ордэны маюць жаночыя адгалінаванні (напр., дамініканкі, кармеліткі), існуюць і асобныя жаночыя ордэны (напр., *урсулінкі*). Члены большасці О.м. жывуць у *кляштарах*. Старэйшым О.м. лічыцца ордэн *бенедыкцінцаў* (засн. каля 538). Па меры пашырэння хрысціянства павялічвалася колькасць О.м., узнікла іх «спецыялізацыя». У 11—12 ст. у сувязі з крыжовымі паходамі на Блізкі Усход узнік шэраг духоўна-рыцарскіх ордэнаў, члены якіх былі адначасова рыцарамі і манахамі: іааніты, Тэўтонскі ордэн і інш., а таксама *цыстэрцыянцы*. У 12—13 ст. узніклі *жабрацкія ордэны* : *аўгусцінцы, бернардзінцы, дамініканцы, кармеліты, францысканцы*. Ватыкан выкарыстоўваў О.м. для ба-

рацьбы з ерасямі і для місіянерскай дзейнасці. Для барацьбы з *Рэфармацыяй* быў створаны ордэн *езуітаў*, якія разам з *піярамі* адыгралі адначасова вялікую ролю ў развіцці навукі і адукацыі. На ўзор рымска-каталіцкіх О.м. былі створаны і уніяцкія ордэны — *базыльян* (у грэка-каталіцкай царкве) і мхітарыстаў (у армяна-каталіцкай царкве). На Беларусі найб. актыўная дзейнасць О.м. прыпала на 16—17 ст. — перыяд *контррэфармацыі*; у 19 ст. дзейнасць большасці ордэнаў тут спынена, а іх кляштары падначалены біскупам. У пач. 20 ст. на Беларусі аднавіў дзейнасць ордэн марыянаў (адраджалі грэка-каталіцкі абрад, буйнейшы кляштар у архітэктурным комплексе Б. *Друйскага кляштара бернардзінцаў*) і з'явіўся ордэн *назарэцянак*. У 20 ст. О.м. ўдасканальвалі і пашыралі сваю дзейнасць у свеце, прыстасоўваючы яе да патрэб сучаснага жыцця і сацыяльна-эканамічных і паліт. змен. Паводле кодэкса кананічнага права 1983 О.м. могуць быць засн. на папскім і дыяцэзіяльным праве. У першым выпадку яны знаходзяцца ў распараджэнні папы, у другім — пад апекай дыяцэзіяльнага біскупа. Па сваіх задачах і арганізац. структуры да О.м. блізка стаяць кангрэгацыі і аб'яднанні белых ксяндзоў (напр., камуністы), але не лічацца ордэнамі, бо іх члены не даюць спец. манаскіх зарокаў.

У ісламе да О.м. часам адносяць брацтвы дэрвішаў, прыхільнікаў суфізму — кадзірыя, накшбандзія, ясевія, меўлевія, бекташыя, сенусія і інш. Аднак гэта не зусім дакладна: дэрвішы не даюць зароку бясшлюбнасці, могуць выйсці з манастыра, жаніцца, вярнуцца да часова пакінутай сям'і.

*Літ.:* Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Карсавин Л.П. Монашество в средние века. М., 1992; Хольц Л. История христианского монашества: Пер. с нем. СПб., 1993.

*М.А.Дабрынін, А.А.Цітавец.*

# П

ПА́ВЕЛ — адзін з *апосталаў* хрысціянства. Паводле хрысц. падання, нарадзіўся ў малаазійскім г. Тарс у іудзейскай сям'і, якая мела рымскае грамадзянства. Таму яму было дадзена яўр. імя Саул і рымскае Павел (у новазапаветных тэкстах згадваюцца абодва). Першапачаткова быў зацятым ганіцелем хрысціян, але пасля таго, як нейк яму з'явіўся Хрыстос, ён стаў хрысціянінам. Легенда пра П. выкладзена ў «Дзяяніях апосталаў», але звестак пра яго смерць няма. Царк. традыцыя сцвярджае, што ён быў пакараны ў час ганенняў на хрысціян, пасля пажару Рыма ў 64. У *Новым запавеце* ёсць 14 пасланняў, аўтарства якіх прыпісваецца П. Навукоўцы лічаць, што толькі некаторыя з іх мог напісаць П.: два пасланні карынфянам, пасланні рымлянам, галатам, магчыма, філіпійцам, 1-е пасланне фесаланікійцам і да Філімона. П. выступаў за разрыў з іудаізмам, за распаўсюджванне хрысціянства сярод усіх народаў, за прымірэнне з існуючым грамадскім ладам. Гал. ідэя яго настаўленняў — духоўнае выратаванне.

ПАДА́ННЕ СВЯШЧЭ́ННАЕ, апостальскае паданне — сукупнасць павучальных палажэнняў, выпрацаваных вуснай і пісьмовай пазабіблейскай традыцыяй хрысц. царквы. Поруч з Бібліяй лічыцца асновай Божага адкрыцця, што перадавалася апосталамі вусна і атрымана ў спадчыну царк. абшчынамі і саборамі 2—4 ст. Да П.с. адносяцца: *сімвалы веры*, творы *айцоў царквы*, «Правілы апостальскія», рашэнні ўсяленскіх і некаторых памесных сабораў. Каталіцызм лічыць носьбітамі П.с. помнікі хрысц. ант. і сярэдневяковага мастацтва (эпіграфіка, жывапіс, скульптура) і надае асаблівае значэнне ў гэтым плане папскім дэкрэталіям. У П.с. зафіксаваны нормы і догматы, што адсутнічаюць ў Св. пісанні, і ўзніклі ў працэсе эвалюцыі хрысц. веравучэння і арг-цыі царквы, але замацаваныя як нязменныя па «боскаму праву» царквы (напр., догмат аб Тройцы, аб непагрэшнасці пап і інш.). Пасля Трыдэнцкага сабора (1545—63), намецілася тэндэнцыя падпарадкаваць Св. пісанне П.с. (у *езуітаў*). На 1-м Ватыканскім саборы (1869—70) папа Пій IX аб'явіў сябе ўвасабленнем П.с. 2-і Ватыканскі сабор (1962—65) разгледзеў праблемы П.с. ў дагматычнай канстытуцыі «Дэі вербум», з улікам экуменічнай дзейнасці хрысц. цэркваў (праваслаўе адносіць да П.с. значна меней царк. матэрыялаў; пратэстантызм не прызнае П.с. асновай Божага адкрыцця).

ПАДЗЕ́Л ЦЭ́РКВАЎ, схізма — падзел хрысціянскай царквы на заходнерымскую (каталіцкую) і ўсходнеканстанцінопальскую (праваслаўную). Асн. прычынай падзелу з'явілася саперніцтва паміж папамі Рыма і патрыярхамі Канстанцінопаля ў выніку таго, што пасля падзелу Рымскай імперыі ў гэтых гарадах склаліся 2 рэліг. цэнтры, паміж якімі да 7 ст. выявіліся пэўныя адрозненні ў дагматыцы, арганізацыі і абрадах. Афіц. П.ц. адбыўся ў 1054, калі паглыбленыя разнагалоссі прывялі да таго, што папа Леў IX і пат-



Апостал **Павел**. Апошняя чвэрць 17 ст. Беларуская іканапісная школа.

рыярх Керуларый абвясцілі адзін аднаму анафему (праклён). Завяршыўся пасля захопу ў 1204 Канстанцінопаля крыжакамі. Прыхільнікі П.ц. пасля расколу пачалі называць сваіх праціўнікаў з другой канфесіі хрысц. царквы схізматыкамі. У 1965 на 2-м Ватыканскім саборы папа Павел VI і канстанцінопальскі патрыярх Афінагор I выпрашылі «аддаць забыццю» анафему 1054. Гэта рашэнне — вынік сучаснага экуменічнага руху да аб'яднання хрысц. канфесій. Гл. таксама *Каталіцызм, Праваслаўе, Хрысціянства.*

ПАЕЎСКІ Леў Сямёнавіч (1850—1919) — бел. гісторык, бацька *Мелхіседэка.* Скончыў Люблінскую духоўную семінарыю. Служыў святаром у прыходах Холмска-Варшаўскай, потым Гродзенскай правасл. епархіі (с. Шчытнікі Брэсцкага пав., г. Слонім, мяст. Каменец-Літоўскі і інш.). Арганізатар т.зв. рухомых школ (штодзень у новай хаце), якія ў 1870—80-я г. набылі папулярнасць сярод сялян. Удзельнік 7-га Маскоўскага (1890), 9-га Віленскага (1893) і 10-га Рыжскага (1896) археалагічных з'ездаў. З 1903 чл. Гродзенскага губ. статыст. камітэта. Даследаваў царк. гісторыю 18—19 ст., гісторыю гарадоў і мястэчак Беларусі, пытанні археалогіі. Аўтар прац, змешчаных у перыядычных царк. і свецкіх выданнях Гродна, Вільні, Холма, Масквы («Пра цэркву Брэсцкай капітулы ў пачатку другой паловы 18 ст.», 1887; «Пра цэрквы старажытнай Брэсцкай епархіі, якія ўваходзілі ў склад Мельніцкага благачыння ў 1775 г.», 1892; «Старажытнае паданне аб Жыровіцах і аб цудатворным абразе Жыровіцкай божай маці», 1897; «Горад Брэст-Літоўскі і яго старажытныя храмы», 1894).

*Літ.:* Ч а р а п і ц а В.М. Са скарбніцы кніжных паліц (Нарысы пра аўтографы даследчыкаў гісторыі Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст.). Мн., 1994. *В.М.Чарапіца.*

ПАКАЯННЕ, гл. *Споведзь.*

ПАКРОВЫ БАГАРОДЗІЦЫ — адно з вялікіх свят праваслаўнай царквы. Адзначаецца 1 (14) кастрычніка. У аснове свята паданне пра з'яўленне ў 910 Багародзіцы ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі. Паводле царк. версіі, яна разгарнула над вернікамі белае пакрывала (амафор) і малілася аб выратаванні свету ад нягод і пакут. Свята распаўсюдзілася з-за таго, што Багародзіца была аб'яўлена апякункай земляробаў. У гонар гэтага адзначаецца земляробчае свята Пакровы — свята заканчэння палявых работ. Гэты дзень лічыцца пераломным момантам у жыцці прыроды. Да гэтага часу звычайна завяршаліся ўсе работы на полі і ў садзе, уцяпляліся жыллё і гаспадарчыя пабудовы; пачынаўся новы цыкл работ — нарыхтоўка паліва, перавод жывёлы на стойлавае ўтрыманне («Прыйшлі пакровы, ці да зімы гатовы»). Пасля П. пачыналася пара вяселляў («Пакровы пакрываюць траву лістам, зямлю снегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам»). Вечарам перад П. дзяўчаты варажылі пра замужжа: стаялі з блінам на скрыжаваннях і слухалі, у якім баку брэша сабака (туды, маўляў, пойдуць замуж); елі на ноч салёную аладку (спадзяваліся, што суджаны паднясе вады) і інш. З П. пачыналіся попрадкі (вячоркі, супрадкі), якія працягваліся да Вялікадня. *А.А.Цітавец.*

ПАЛЕМІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА — публіцыстычная літаратура Беларусі і Украіны канца 16 — 1-й пал. 17 ст., у якой узнімаліся вострыя праблемы сацыяльна-палітычнага жыцця, рэлігійнай дагматыкі, гісторыка-культурных працэсаў у грамадстве. Прадстаўлена рукапіснымі і друкаванымі помнікамі на царк.-слав., старабел., укр., польскай і лац. мовах. Уключала палемічныя трактаты, развагі, памфлеты, апалогіі, абароны, адозвы і інш.

Творы хрысц. П.л. ўзніклі ў перыяд ранняга хрысціянства, асабліва пашырыліся пасля адасаблення праваслаўя і каталіцызму (1054). У 11—12 ст. ў Кіеўскай Русі былі вядомы палемічныя трактаты, пасланні мітрапалітаў Льва, Георгія, Нікіфара, Іаана, Феадосія Пячэрскага і інш. Р э ф а р м а ц ы й н а я п у б л і ц ы с т ы к а на Беларусі прадстаўлена творамі бел. і польскіх пісьменнікаў, рэліг. і дзярж. дзеячаў (С.*Будны,* А.Волан, Л.Крышкоўскі, М.*Радзівіл* Чорны, М.*Чаховіц,* Якуб з Калінаўкі і інш.). Асобныя палемічныя пасажы мелі месца ў прадмове да «Евангелля» В.*Цяпінскага.* П.л. эпохі к о н т р р э ф а р м а ц ы і на Беларусі — трактат Гербеста «Указанне шляху» (1566) і кніга П.*Скаргі* «Пра адзінства касцёла Божага пад адзіным пастырам» (1577, 2-е выданне 1590). Адказам на іх былі ананімныя правасл. рукапісныя творы антыкаталіцкай накіраванасці: «Пасланне да лацін з іх жа кніг», «На богамярзотную, на паганую лаціну», «Павучэнне, нанова складзенае ў Літваніі» (каля 1581, 1582). Літаратурная палеміка асабліва актывізавалася напярэдадні і пасля *Брэсцкай уніі 1596.* З каталіцка-уніяцкага боку з'явіліся творы І.*Пацея* «Унія» (1595), «Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай» (1597), «Антырызіс» (1600), А.Шчаснага-Жабroўскага «Кукаль, які рассявае Стафан Зізаній» (1595). Найб. значныя творы правасл. палемікі: трактаты С.*Зізанія* «Казанне святога Кірылы Іерусалімскага пра антыхрыста» (1596), *Хрыстафора Філалета* «Апокрысіс» (1597, 1598), Клірыка Астрожскага «Гісторыя пра Лістрыкійскі, гэта значыць разбойны Ферарскі або Фларэнційскі сінод» (1598). Большасць твораў П.л. ўзнікла ў 1-й трэці 17 ст.: з правасл. боку «Антыграфі...» (1608) і «Трэнас» (1610) М.*Смятрыцкага,* «Адказ на ліст віленскіх уніятаў»

(1616) А.*Мужылоўскага*, «Палінодыя...» (1619—20) З.Капысценскага; з каталіцка-уніяцкага — «Гармонія...» і «Ерас...» (1608) Пацея, «На трэны і лямант Тэафіла Арталога... перасцярога» (1610) Скаргі, «Абарона уніі» (1617) Л.*Крэўзы* і інш. Новая хваля палемікі выклікана аднаўленнем вышэйшай правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай у 1620 іерусалімскім патрыярхам Феафанам. З'явіліся палемічныя творы грамадзянскага гучання: «Апраўданне невінаватасці» і «Абарона апраўдання» (1621), «Эленхус», «Суплікацыя і Юстыфікацыя» (абодва 1622) М.Сматрыцкага, «Антыдотум» (1629) Мужылоўскага, «Антапалогія» (1631) Г.Дзіпліца. Погляды уніятаў раскрываліся ў творах «Двайная віна» (1621) і «Экзамен абароны» (1622) І.*Руцкага*, «Антыэленхус» (1622) А.*Сялявы*, «Апалогія» (1628), «Парэнезіс», «Экзатэзіс» (абодва 1629) Сматрыцкага (пасля яго пераходу ва уніяцтва). У 1640-я г. з боку правасл. з'явіўся «Дыярыуш» Афанасія Філіповіча, з боку уніятаў — «Абарона святой саборнай апостальскай царквы» (1638), «Праўдзівы каляндар хрыстовай царквы», «Іерархія» І.*Дубовіча*, «Акуляры старому календару» К.Саковіча (усе 1644). У сярэдзіне 16—18 ст. П.л. развівалася пераважна на тэр. Украіны. Вядома палеміка паміж П.*Магілай* («Літас», 1644) і Саковічам («Перспектыва, 1642; «Кайло, або Молат на крушэнне камянёў схізмы», 1646). Палемічнай завостранасцю вызначаліся творы уніятаў П.Боймы, Ц.*Жахоўскага*, Я.А.*Кулешы*, Т.Руткі, а таксама правасл. дзеячаў Л.*Барановіча*, І.Галятоўскага, І.Гізеля і інш. Палемічныя трактаты, дыскусіі, абвяржэнні сталі асновай стварэння багаслоўскіх прац па гісторыі праваслаўя, каталіцызму, уніяцтва і інш. хрысц. канфесій. Асобныя творы перавыдадзены ў 19—20 ст., большасць з іх маладаследаваныя, з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю.

*Літ.:* Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. 4 выд. Мн., 1998; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура. Мн., 1998. *У.Г.Каро́ткі.*

ПАЛО́МНІЦТВА (ад лац. palm пальма) — падарожжа вернікаў да святых месцаў з надзеяй атрымаць звышнатуральную дапамогу. У старажытнасці цэнтрамі П. былі храмы Амона ў егіпецкіх Фівах, Азірыса ў Абідосе, Апалона ў Дэльфах і інш. У хрысціян П. пачалося з 4 ст. ў Палесціну (адтуль паломнікі звычайна прывозілі пальмавую галіну, ад гэтага і назва «П»). П. адыграла значную ролю ў падрыхтоўцы *крыжовых паходаў*. Для заахвочвання П. і з мэтай рэліг. прапаганды складаліся шматлікія пуцяводныя даведнікі, многія з якіх, як і апісанні П., сталі ўрэшце важнымі гіст. крыніцамі. Акрамя Палесціны (месца П. для хрысціян, іудзеяў і мусульман) П. ажыццяўляецца ў інш. св. месцы: ў правасл. — у Канстанцінопаль (у сярэднія вякі), на гару Афон



Да арт. **Пакровы Багародзіцы**. Пакроў. 1751. Беларуская іканапісная школа.

(Грэцыя); у каталікаў — у Рым і Ларэта (Італія), у Лурд (Францыя); у мусульман П. (хадж) — у Меку і Медыну (Саудаўская Аравія); ламаістаў — у Лхасу (Кітай); у індусаў —Ілахабад і Варанасі (Бенарэс, Індыя); у будыстаў і сінтаістаў — Нара (Японія).

ПАМА́ЗАНІК — асоба, над якой адбыўся абрад памазання *ялеем*. У іудаізме і хрысціянстве П. называюцца *прарокі*, першасвяшчэннікі, манархі, якія праз абрад памазання атрымоўваюць сваю ўладу быццам бы ад самога Бога. У Новым запавеце П. называецца Ісус Хрыстос.

ПАМІНА́ННЕ — 1) сшытак з імёнамі асоб (жывых і памерлых), якіх святар павінен упомніць у час набажэнства. 2) Царк. рытуал памінання памерлых на 3-і, 9-ы, 40-ы дзень пасля іх канчыны, а таксама ў гадавіну смерці. П. робіцца таксама ў час літургіі, калі святар пералічвае занесеныя ў спецыяльны спіс (памінанне) імёны. У правасл. царкве маюцца і асобыя дні П. памерлых, у якія блізкія і родныя наведваюць магілкі, а таксама ўзносяць малітвы Богу, спадзеючыся на яго міласць да душ нябожчыкаў.

ПАНІХІ́ДА (грэч. pannychida усяночная) — хрысціянская царк. служба па нябожчыку, а таксама ў гадавіну яго смерці. Існуюць таксама ўсяленскія П. ў памяць пра ўсіх памерлых. П. грамадзянская — агульны сход тых, хто прыйшоў на пахаванне, прысвечаны памяці памерлага; жалоб-


Папа рымскі Іаан Павел II.

ны мітынг каля труны (урны з прахам) з развітальнымі прамовамі перад пахаваннем.

ПАНТЫФІКА́Т (лац. pontipicatus) — у каталіцкай царкве ўлада і час праўлення *папы рымскага*. Адзін з тытулаў папы з 5 ст. — вярхоўны пантыфік.

ПАНТЭІ́ЗМ (ад грэч. pan усё + theos Бог) — рэлігійнае і філасофскае вучэнне, якое збліжае або атаясамлівае Бога з навакольным светам. Панятак «П.» уведзена нідэрландскім тэолагам Й.Фаем (1709). Пантэістычныя тэндэнцыі праяўляюцца ў ерэтычнай містыцы сярэдніх вякоў, характэрны для натурфіласофіі эпохі Адраджэння. У розных вучэннях П. выражае натуралістычныя, матэрыялістычныя або ідэалістычныя тэндэнцыі. Прыхільнікі адной плыні імкнуліся да ўзмацнення рэліг.-містычнага зместу тэалогіі шляхам растварэння прыроды ў Богу, сцвярджаючы, што Бог існуе ва ўсіх рэчах, з'явах, працэсах як звышнатуральны пачатак (Іаан Скот Эрыўген, Н.Мальбранш, сучасныя філосафы-персаналісты). Прадстаўнікі 2-й плыні лічылі, што менавіта Бог раствараецца ў прыродзе, што Сусвет нікім не створаны і кіруецца асабістымі законамі, што сама прырода і ёсць сапраўды Бог (Дж.Бруна, Б.Спіноза, І.Г.Гердэр). Гэта тэндэнцыя грунтуецца на гілазаістычных ідэях старажытнасці, на прынцыпах натуралізму сярэднявечча і з'яўляецца падставай для атэістычных поглядаў. Вядомы выпадкі і эклектычнага змяшэння элементаў гэтых плыней. Аднак усе тыпы П. аб'ядноўвае прынцып адмаўлення асабістай персаніфікацыі Бога, які недасягальна ўзвышаецца над Сусветам і чалавекам паводле тэалагічных сістэм т. зв. аўраамічных рэлігій (*хрысціянства, ісламу* і *іудаізму*). На практыцы канцэптуальныя высновы П. прыводзяць да змены тэацэнтрычнай мадэлі Сусвету інш. парадыгмамі — касмацэнтрычнай або антрапацэнтрычнай. На падставе ідэі П. аб стварэнні свету бесцялесным сусв. духам ці розумам, што знаходзіцца ў самой прыродзе, нямецкія філосафы Ф.Шэлінг і Г.Гегель спрабавалі прымірыць супярэчнасці паміж духоўным і матэрыяльным пачаткамі быцця. *А.А.Цітавец.*

ПАНЦЕЛЯЙМО́Н (у свеце Ра́жноўскі Павел Стафанавіч; 21.10.1867, г. Кастрама, Расія — 30.12.1950) — праваслаўны царкоўны дзеяч Беларусі, мітрапаліт. Скончыў ваенна-інжынернае вучылішча, духоўныя курсы пры Казанскай Духоўнай акадэміі. У 1897 прыняў манаства. У 1906—13 настаяцель Маркава манастыра ў Віцебску. У 1913 пасвячоны ў епіскапа, у 1913—20 вікарны епіскап дзвінскі. У 1920 Маскоўскім патрыярхатам прызначаны епіскапам пінскім. У 1922 з-за нязгоды з польскімі ўрадавымі «Часовымі правіламі» аб правасл. царкве пазбаўлены ўладамі кафедры і да 1939 знаходзіўся пад наглядам у розных манастырах Польшчы. У 1939—40 патрыяршы экзарх Заходніх Беларусі і Украіны. У 1940—41 архіепіскап гродзенскі, у 1941—44 ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі мітрапаліт мінскі і ўсяе Беларусі. У ліпені 1944 выехаў у Германію. У 1946 разам з большасцю бел. епіскапаў, якія эмігрыравалі, перайшоў пад юрысдыкцыю рус. праваслаўнай царквы ў замежжы. Пахаваны на могілках у прыгарадзе г. Мюнхена. У 1987 перазахаваны на рус. гіст. могілках каля г. Вісбадэн.

*Літ.:* Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярыс, мартыралогія, успаміны. Мн.; Мюнхен, 1999; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *Г.М.Шэйкін.*

ПА́ПА РЫ́МСКІ — глава каталіцкай царквы і вярхоўны правіцель (абсалютны манарх) дзяржавы-горада *Ватыкан*. Выбіраецца *канклавам* пажыццёва $^{2}/_{3}$ галасоў + 1 голас (з 1389 толькі з кардыналаў). Згодна з догматам каталіцкай царквы, які прыняты на I Ватыканскім саборы ў 1870, П.р. лічыцца бязгрэшным у справах веры і маралі. У афіц. спісе П.р., які выдаецца Ватыканам, 262 папы. З 1523 папскі прастол займалі толькі італьянцы. Традыцыя парушана ў 1978, калі папай абраны польскі кардынал Караль Вайтыла, які прыняў імя *Іаан Павел II*.

ПА́ПЕРЦЬ — пляцоўка перад уваходам у царкву ў выглядзе невялікай галерэі або ганку. Неабходны атрыбут хрысц. храма. На П. звычайна збіраліся жабракі ў чаканні міласціны.

ПА́ПСТВА — рэлігійны цэнтр каталіцкай царквы, які ўзначальвае *папа рымскі*. Узнік на базе

рымскага епіскапства ў 5 ст. У 8 ст. была створана папская дзяржава — Папская вобл. — у выніку перадачы папе рымскаму зямель вакол Рыма французскім каралём Піпінам Кароткім. У сярэдняявечча П. змагалася за прэрагатыву царк. улады над свецкай, выступала з ініцыятывай крыжовых паходаў. У 14 ст. падпарадкавалася французскай кароне, і ў 1309—77 рэзідэнцыя пап знаходзілася ў французскім горадзе Авіньёне. У эпоху Рэфармацыі, якая прывяла да стварэння самастойных пратэстанцкіх цэркваў, роля П. стала менш значнай. У 1870 у сувязі з уключэннем Рыма ў склад італьянскай дзяржавы Папская вобл. была ліквідавана. У 1929 паводле Латэранскага пагаднення папа рымскі абвешчаны галавой суверэннага горада-дзяржавы *Ватыкан*. З 2-й палавіны 20 ст. П. праводзіць палітыку адаптацыі каталіцкай царквы да сучасных культурна-гіст. умоў.

ПАРА́ФІЯ (грэч. paroecia царкоўны прыход), плябанія — у рымска-каталіцкай царкве прыход, ніжэйшая тэрытарыяльная царкоўна-адміністрацыйная адзінка *епархіі* (дыяцэза, дыяцэзіі). Узначальваецца *пробашчам*. П. аб'ядноўваюцца ў *дэканат*. На тэр. П. акрамя парафіяльнага (фарнага) *касцёла* могуць быць філіяльныя касцёлы і *капліцы*. Тэрмін «П.» на Беларусі ўжываўся і ва уніяцкай царкве.

ПАРО́Х, гл. ў арт. *Пробашч*.

ПАСЛУ́ШНІК — асоба, якая рыхтуецца да пастрыжэння ў манахі. Прымае зарок жыцця ў манастыры, у адпаведнасці з манастырскім статутам выконвае розныя послухі (звычайна т.зв. чорная, фізічная праца ў манастыры).

ПА́СТАР (лац. pastor пастыр, пастух) — служыцель культу ў плынях *пратэстантызму*, якія адмаўляюць інстытут святарства (не прызнаюць *духавенства* асобнымі пасрэднікамі паміж Богам і звычайнымі вернікамі). Выбіраецца, як і *прэсвітэр*, рэліг. абшчынай са свайго асяроддзя. Прыхільнікі *кальвінізму* на Беларусі выкарыстоўвалі ў дачыненні да П. таксама тэрмін *міністр*.

ПАТРАЛО́ГІЯ (лац. patres айцы + logos вучэнне) — у каталіцызме і праваслаўі раздзел тэалогіі, у якім вывучаюцца і каменціруюцца вучэнні «айцоў і настаўнікаў» царквы, апісваюцца іх жыццё і дзейнасць. У правасл. П. абгрунтоўваецца выключнае значэнне для хрысціянства твораў *Васіля Вялікага, Грыгорыя Багаслова, Іаана Златавуста, Афанасія Александрыйскага*. У каталіцызме адрозніваюць П. і *патрыстыку*. У адрозненне ад патрыстыкі, у якой даследуюцца творы толькі «айцоў і настаўнікаў» царквы, у каталіцкай П. разглядаецца спадчына і інш. тэолагаў. Найб. папулярнасцю ў каталіцкай П. карыстаюцца творы *Іераніма, Аўгусціна*, Амвросія. У пратэстантызме вучэнні «айцоў і настаўнікаў» царквы не лічацца выяўленнем божага адкрыцця, а разглядаюцца як творы, дзе выкладаецца асабісты погляд аўтара на тыя ці інш. рэліг. пытанні. Пераадольванне дагматызму ў даследаванні твораў «айцоў і настаўнікаў» царквы характарызуе сучасную каталіцкую і правасл. тэалогію.

ПАТРЫ́СТЫКА (ад лац. patres айцы), патрыстычная літаратура — кананічна зацверджаныя творы *айцоў царквы* — рымскіх і візантыйскіх багасловаў, ідэолагаў філасофска-тэалагічнага вучэння і дактрын хрысціянскай царквы 2—8 ст., а таксама бібліяграфія і даследаванні па гэтым прадмеце. Сфарміравалася ў перыяд распаду познаант. грамадства, выкарыстоўвала яго культурныя традыцыі. Гал. змест П. — абгрунтаванне, тлумачэнне і прапаганда прынцыпаў хрысц. рэлігіі, барацьба супраць язычніцтва, палеміка з ератычнымі плынямі ўнутры хрысціянства. Адыграла важную ролю ў фарміраванні ідэалаў культуры сярэдневякоўя, разуменні духоўнага свету чалавека таго часу.

П. ўключае царк. жанры пісьменнасці: экзегетыку (тлумачэнні), *гамілетыку*, палемічныя трактаты-памфлеты, казанні, павучанні, агіяграфічную літаратуру, гімнаграфію (песнапенні). У выніку падзелу раннехрысц. тэалогіі на заходнюю і ўсходнюю ў 5 ст. вылучыліся адносна самастойныя плыні П.: лац. і грэка-візантыйская. Лац. П. мела больш рацыяналістычны характар, грэка-візант. аддавала перавагу алегарычнай і сімвалічнай экзегезе (тлумачэнню). У лац. П. вялікае значэнне мелі творы Юсціна, Тэртуліяна, Амвросія Медыяланскага, Ераніма, *Грыгорыя Вялікага*; цэнтральнае месца ў ёй належыць Аўгусціну Аўрэлію (Блажэннаму, 354—430), «Споведзь» якога вызначаецца глыбінёй псіхалагічнага аналізу і зрабіла ўплыў на сусв. літаратуру. З грэка-візант. пісьменнікаў найб. вядомыя: *Афанасій Александрыйскі* (аўтар «Жыція Антонія»), Васіль Кесарыйскі (Вялікі, аўтар «Шастаднева»), паэт Грыгорый Назіянзін (Багаслоў), *Грыгорый Ніскі* (аўтар «Дыялога пра душу»), гамілетык *Іаан Златавуст*, філосаф *Іаан Дамаскін* (аўтар трактата «Крыніцы ведаў»). Творы лепшых патрыстычных пісьменнікаў з'яўляюцца яскравымі прыкладамі паэтычнага мастацтва (вершы Іаана Дамаскіна, лірыка і паэмы «Пра мой лёс», «Пра пакуты маёй душы» Грыгорыя Назіянзіна), эпісталярнага (*Васілій Вялікі*) і гістарыяграфічнага (Аўгусцін Аўрэлій) жанраў. У Стараж. Русі перакладныя творы візант. літаратуры распаўсюджваліся з 10 ст. На ўзор грэч. анталогій Іаана Златавуста тут узнікалі свае «Златавусты», «Златаструі», «Ізмарагды» і інш. зборнікі павучанняў. Уплыў грэка-візант. П. асабліва адчувальны ў «сло-

вах» *Кірылы Тураўскага*. П. шырока разыходзілася на бел. землях у рукапісах («словы» Іаана Златавуста і «словы» Ісаака Сірына, 1428; «Павучанне *Яфрэма Сірына*», 1492). Бел. асветнік і друкар Ф.*Скарына* ў сваіх тлумачэннях кніг Бібліі выкарыстоўваў працы Васілія Вялікага, Грыгорыя Дваяслова, Ераніма Блажэннага, Феадосія, Феадарыта Кіпрскага, Ісаака і Яфрэма Сірыных, Іаана Дамаскіна, Іосіфа Канстанцінопальскага і інш., а таксама аўтараў, якія не былі прызнаны царквой (напр., Арыген). У сваіх экзегетычных пабудовах Скарына паказаў сябе сапраўдным прадаўжальнікам ідэалаў патрыстычнай лініі пазнання, якая па шэрагу пунктаў уступала ў спрэчку з рацыяналістычна звужанай карцінай свету, узятай на ўзбраенне эпохай Адраджэння. У 16—17 ст. з развіццём кнігадрукавання побач з *палемічнай літаратурай*, скіраванай супраць езуіцка-каталіцкай экспансіі, П. атрымала найб. пашырэнне. З'явіліся пераклады лац. П.: творы Аўгусціна Аўрэлія «Пра горад Божы», «Богападобная любоў», зборнікі павучанняў. У друкарнях Віленскага брацтва і Мамонічаў выдадзены «Слова пра цярплівасць і богаўхваленне» Іаана Златавуста, «Спрэчка другая хрысціяніна...» Іаана Дамаскіна (1585), «Маргарыт» Іаана Златавуста (1588) і інш. Папулярным на Беларусі патрыстычным пісьменнікам быў Яфрэм Сірын, зборнікі якога друкавалі ў Вільні («Павучанні», 1780, «Кніга прападобнага айца нашага Яфрэма Сірына», 1768, «Розныя павучальныя словы», 1764), у Супраслі («Павучанні», 1786, 1788, 1789; «Паранесіс», 1791) і інш. гарадах. Працы Грыгорыя Назіянзіна, Іаана Дамаскіна, Іаана Златавуста, Яфрэма Сірына перакладалі С.*Зізаній*, Л.*Карповіч* і інш. П. шырока выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці І.Фёдараў, Г. і М.Смотрыцкія, С.Кімбар, Л. і С.Зізаніі, Л.Карповіч, Е.Плецянецкі, І.Вішанскі, З.Капысценскі, В.Суражскі, П.Бярында, І.Гізель, І.Галятоўскі, Л.Барановіч, Дзмітрый Растоўскі (Туптала), інш. асветнікі і царк. дзеячы Беларусі і Украіны. Творы П. шырока выкарыстаны ў вядомым рукапісным тлумачэнні Бібліі сярэдзіны 17 ст. «Выкладъ месцъ труднейшыхъ...». Значнае месца П. займала ў пашыраных на Беларусі зборніках т. зв. вучыцельскай л-ры 16—18 ст. («Пандэкты», Вільня, 1592; «Анфалагіён», Еўе, 1613; «Дыоптра», Еўе, 1619; «Перла мнагацэннае», Магілёў, 1694, 1699 і інш.). Заклікамі трымацца бацькоўскай веры як асновы нац. традыцыі і культуры яны набывалі выхаваўчае, маральна-дыдактычнае і патрыятычнае гучанне.

*Публ.*: Памятники византийской литературы IV—IX вв. М., 1968; Памятники средневековой латинской литературы IV—IX вв. М., 1970; Памятники литературы Древней Руси, XI — начало XII в. М., 1978.

*Літ.*: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Византийская литература. М., 1974; Аверинцев С.С. Поэтика древневизантийской литературы X—XVII в. М., 1977; История русской литературы X—XVII вв. М., 1980; Замалеев А.Ф., Зоц В.А. Мыслители Киевской Руси. Киев, 1981; Історія Української літератури. Київ, 1987; Тысячелетие традиции болгарской литературы // Родник златоструйный. М., 1990; Яскевич А.А. Творы Ф.Скарыны: Жанравая структура, філас. погляды, мастацтва слова. Мн., 1995; Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1997.

*Г.У.Грушавы, А.А.Яскевіч.*

ПАТРЫЯ́РХ (грэч. patriarcher прабацька, пачынальнік роду) — вышэйшы епіскапскі тытул у праваслаўнай царкве, кіраўнік памеснай праваслаўнай царквы. У Стараж. Іудзеі П. называлі старшыню сінедрыёна — вышэйшага калегіяльнага органа ўлады. У хрысц. царкве з 4 ст. П. — кіруючы *епіскап* некаторых гарадоў і зямель (александрыйскі, іерусалімскі, канстанцінопальскі, антыяхійскі, рымскі). З канца 6 ст. П. канстанцінопальскі атрымаў тытул Усяленскага з правам склікаць *Усяленскія саборы* і прызначаць *мітрапалітаў*. Папа рымскі разглядаўся тады як П. зах. часткі Візантыі. Рымская царква пасля свайго аддзялення не пагадзілася з гэтым і з 13 ст. ўвяла тытул П. для епіскапаў сваіх асобных стараж. епархій у падпарадкаванні папы. Тытул П. існуе таксама ў армяна-грыгарыянскай, копцкай (у Егіпце), эфіопскай і інш. стараж. усходніх цэрквах. Правасл. царква Беларусі з часоў свайго існавання і да 1596 знаходзілася пад амафорам (апекай) П. канстанцінопальскага. Са згоды апошняга пастаўляліся мітрапаліты *Кіеўскай мітраполіі*. У 1596 П. канстанцінопальскі накіраваў свайго *экзарха* Нікіфара на правасл. сабор у Брэсце, які выступіў супраць *Брэсцкай уніі 1596*. У 1620—86 аднаўленая правасл. іерархія Украіны і Беларусі зноў знаходзілася пад апекай П. канстанцінопальскага. З 1917 правасл. царква Беларусі (з 1989 Беларускі экзархат) знаходзіцца ў царк. юрысдыкцыі П. маскоўскага і ўсяе Русі. Першы П. маскоўскі пастаўлены ў 1589 (у 1700—1917 П. не было). Ён кіруе царквой сумесна са Свяцейшым Сінодам і Архірэйскім саборам, выбіраецца пажыццёва на Памесным саборы (сходзе прадстаўнікоў духавенства і вернікаў царквы). За час існавання Маскоўскага патрыярхату было 15 П. Апошні з іх, Аляксій II чатыражды (1991, 1995, 1998, 2001) наведаў Беларусь.

*Літ.*: Под Патриаршим омофором. М., 1989. *Г.У.Шэйкін.*

ПАТРЫЯРХА́Т, патрыярхія (ад грэч. pater бацька + arche улада) у хрысціянстве — кіруемая *патрыярхам* царква ў сукупнасці яе элементаў: веравучэння, богаслужэбнай практыкі, падання і традыцыі, іерархічнай сістэмы кіравання.

ПА́ТЭР (лац. pater бацька) — каталіцкі манах у сане святара або дыякана, а таксама каталіцкі святар наогул.

ПАЎЛІКІЯ́НЕ (грэч. Paulikianoi ад імя апостала Паўла) — удзельнікі буйнога ератычнага руху ў Візантыйскай імперыі. Узніклі ў пач. 7 ст. ў

Заходняй Арменіі, іх заснавальнік армянін Канстанцін (пазней прыняў імя Сільван). На рэліг.-філасофскую дактрыну П. моцна паўплывалі *маніхейства* і маздахізм. Для веравучэння П. (канчаткова аформлена ў пач. 9 ст. ерасіярхам Сергіем — Ціхікам) характэрны дуалізм, вера ў Бога дабра (анёл і сын якога — Ісус Хрыстос) і Бога зла — Сатаніла. Адмаўлялі культ Маці Божай, прарокаў, святых, неабходнасць царквы і духавенства; з Бібліі прызнавалі толькі Новы запавет (без пасланняў апостала Пятра). У сярэдзіне 9 ст. П. пад кіраўніцтвам Карвеаса і Хрысахіра стварылі на У Візант. імперыі сваю дзяржаву з цэнтрам у г. Тэфрыка, адкуль рабілі напады ў інш. раёны імперыі. У 872 візант. войскі разбілі П. каля г. Вафірыяка, а ў 878 захапілі Тэфрыку. Многія П. прымусова перасялены на Балканскі паўвостраў, дзе моцна паўплывалі на фарміраванне вучэння *багамілаў*.

ПАЎЛО́ВІЧ Сяргей Канстанцінавіч (25.9.1875, в. Асаўцы Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл. — 16.9.1940) — беларускі грамадска-культурны і рэлігійны дзеяч, педагог. Скончыў правасл. семінарыю ў Вільні, Кіеўскую духоўную акадэмію (1899). Працаваў у царк. установах, у 1909—13 выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі ў Рагачове, у 1913—18 інспектарам нар. школ Ваўкавыскага пав., у 1925—28 настаўнікам і дырэктарам Віленскай бел. гімназіі. Адзін з кіраўнікоў Т-ва бел. школы. Удзельнічаў у працы Бел. навук. т-ва ў Вільні. Выступаў супраць паланізацыі і за пашырэнне адукацыі на роднай мове. Быў прыхільнікам ідэі працоўнай школы («Аб арганізацыі беларускай працоўнай школы», 1928). Для агульнаграмадзянскага, нац. выхавання дамагаўся выкарыстання і рэліг. каштоўнасцей. У 1937 выдаваў царк. і культурна-асветны часопіс для дзяцей «Снапок». Аўтар школьных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў «Свяшчэнная гісторыя Старога Завету» (1926), «Пішы самадзейна: Развіццё навыку самастойнага пісьма» (ч. 1, 1928), «Свяшчэнная гісторыя Новага Завету» (1936), буквароў «Першыя зерняткі» (1936), «Засеўкі» (1937, на лацінцы).

*Літ.:* Народная адукацыя і педагагічная навука ў Беларусі (1917—1945). Мн., 1993; Вабішчэвіч А. Каб жыць пад сваім небам: Навук.-пед. спадчына Сяргея Паўловіча // Голас Радзімы. 1996. 19, 26 снеж.; Шырокава М. Сяргей Паўловіч як асветнік і перакладчык (да 125-годдзя з дня нараджэння) // Праваслаўе. 2000. №9.

*А.М.Вабішчэвіч.*

ПАЦЕ́Й Іпацій (свецкае імя Адам Львовіч; 12.4.1541, сядзіба Ражанка Камянецкага пав. Падляшскага ваяв. — 18.7.1613) — беларускі царкоўны і дзяржаўны дзеяч, пісьменнік-палеміст. З правасл. роду Пацеяў. Мяркуецца, што ў дзяцінстве быў пажам пры каралеўскім двары, потым — пры двары кн. М.*Радзівіла* Чорнага, дзе атрымаў выхаванне і адукацыю, перайшоў у *кальвінізм*. Магчыма, вучыўся ў Ягелонскім ун-це (Кракаў). З 1566 брэсцкі пісар земскі. З 1569 дэпутат ад брэсцкай шляхты на Люблінскім сейме. У 1573 (ці 1574) вярнуўся ў праваслаўе. З 1577 земскі суддзя. У 1586 уваходзіў у склад каптуровага суда. У 1588 брэсцкі кашталян і сенатар Рэчы Паспалітай. Пасля смерці жонкі (1592) прыняў манаства пад імем Іпацій (крас. 1593). У маі 1593 — епіскап уладзімірскі (у г. Уладзімір-Валынскі). У 1595 разам з К.*Цярлецкім* узначальваў пасольства ў Рым да папы Клемента VIII з мэтай аб'яднання ўсходняй і заходняй цэркваў у Рэчы Паспалітай. Адзін з ініцыятараў і арганізатараў *Брэсцкай уніі 1596*. У 1599—1613 уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Пераклаў на старабел. мову 2 кнігі П.*Скаргі* «Сінод брэсцкі» і «Апісанне і абарона сабору рускага брэсцкага» і выдаў іх пад адной вокладкай (1597). У 1605 апублікаваў «эпістолію» 1476 мітрапаліта *Місаіла* папе Сіксту аб падтрымцы уніі з Рымам (сапраўднасць тэксту гэтай «эпістоліі» аспрэчваецца многімі даследчыкамі). Аўтар палемічных твораў на старабел. і польскай мовах у абарону уніі: «Унія...» (1595), «Справядлівае апісанне ўчынкаў і справы сінодавае» (1597), «Размова берасцяніна з братчыкам» (1604), «Уваскрослы Налівайка» (1607), «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія...», «Рэляцыя» (усе 1608), шэрагу лістоў да кн. К.Астрожскага, якія з'явіліся прычынай палемікі П. з Клірыкам Астрожскім («Водпіс на ліст нейкага Клірыка Астрожскага безыменнага», 1599), вялікай колькасці прамоў і павучанняў. П. таксама прыпісваюць аўтарства «Антырызіса, або Апалогіі супраць Хрыстафора Філалета» (1599; польскае перавыданне 1600). Прапаведніцкія творы П. на старабел. мове былі сабраны і выдадзены ў 1677, у 1714 — перавыдадзены на польскай мове ў Супраслі.



І.Пацей.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Падокшин С.А. Іпацій Пацей: Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох. Мн., 2001. Лаўрык Ю. Іпацій Пацей // Спадчына. 1992. № 7; Дмитриев М.В. Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595—96 гг. // Славяноведение. 1996. № 2; Кішка Л. Жыццяпіс Іпація Пацея // Спадчына. 1998. № 4.

*Ю.М.Лаўрык.*

ПЕ́КЛА — у хрысціянскіх уяўленнях месца вечнага пакарання адрынутых анёлаў і душ памерлых грэшнікаў. Уяўляе сабою міфалагічную прастору, якая, паводле хрысціянскай традыцыі, створана пасля здрады Богу Люцыфера, анёла святла, яго звяржэння ў якасці *Д'ябла* з неба ў нетры зямлі з мноствам слуг — адрынутых анёлаў. Яны — распарадчыкі пякельных пакут душ грэшнікаў, што аддадзены вечнай смерці. Вучэнне пра вечнасць пакут у П. канчаткова зацвердзілася ў царкве на саборы ў 533. У Старым запавеце такое пакаранне адсутнічае; у Новым запавеце ёсць папярэджанне пра Страшны суд і апісанне стыхій П. — агню, цемры, болю і плачу. Дэталізаваная пачуццёва-наглядная карціна П. намалявана ў літаратуры 4—12 ст.: апакрыфічным «Апакаліпсісе Паўла», «Дыялогах» *Грыгорыя Вялікага*, «Жыціях св. Патрыка», «Прывідзе Тунгдала» і інш. У «Боскай камедыі» Дантэ 9 колаў П. — у залежнасці ад цяжкасці зробленых грахоў — складаюць своеасаблівую іерархію асуджаных у адрозненне ад сіметрычнай іерархіі блажэнных у *раі*. Царкоўным вызначэнням П. фальклорная традыцыя проціпастаўляла часовы адпачынак ад пакут. Асн. супярэчнасці міфа аб П. — бесцялесная душа і яе фізічныя пакуты, пасмяротныя і канчатковыя пакаранні грэшнікаў. У трактоўцы П. і Д'ябла сучаснымі тэолагамі побач з афіц. версіяй царквы маюцца і мадэрнісцкія. П. блізкія паняцці Тартар (грэч.), Нарака (індуісцкая, будысцкае), Джаханам (мусульманская).

ПЕРШАБЫТНЫЯ РЭЛІ́ГІІ. Паводле сучасных навук. даследаванняў рэлігійныя вераванні пачалі ўзнікаць 40—50 тыс. гадоў назад на адносна высокай ступені развіцця першабытнага грамадства. Першапачаткова аб'ектам рэліг. ўспрымання былі тыя прыродныя з'явы, з якімі чалавек быў звязаны ў сваёй штодзённай практычнай дзейнасці і якія мелі для яго жыццёва важнае значэнне. Аб'ектам рэліг. адносін мог стаць рэальна існуючы прадмет, якому надаваліся звышпачуццёвыя ўласцівасці — фетыш. *Фетышызм* звязаны з *магіяй*, імкненнем зрабіць уплыў на ход падзей у жаданым кірунку пры дапамозе чараўніцкіх абрадаў, замоў і да т.п. У далейшым прыпісваемыя прадмету звышпачуццёвыя ўласцівасці пачалі аддзяляцца ад яго, ператварацца ў самастойныя істоты — «духаў»; узнікла вера ў самастойную адносна да цела «душу» (*анімізм*), стварылася магчымасць падвоенасці свету на рэальна існуючы і нязямны, звышнатуральны. На змену родавым і племянным рэлігіям прыйшлі політэістычныя рэлігіі.

Да прыняцця хрысціянства паслядоўнікі язычніцтва, ці паганскіх вераванняў, пакланяліся мноству багоў, ушаноўвалі свяшчэнныя дрэвы, камяні, узгоркі, крыніцы, вытокі рэк, прыродныя стыхіі, нябесныя свяцілы. Мноства багоў, перапляценне іх функцый патрабавала ўладкавання іх адносін. У Старaж. Егіпце, напр., сфарміраваўся пантэон багоў, у якім усталёўвалася пэўная іх іерархія. Найб. шаноўнымі (вярхоўнымі) былі бог сонца Ра, бог-творца Птах, папулярнымі былі Азірыс, багіня-маці Ізіда. Асаблівую ролю адыграла абагаўленне асобы фараона, які як жывы бог забяспечваў усю жыццядзейнасць дзяржавы і сваіх падданых. У Старaж. Месапатаміі кожны шумерскі горад меў свайго бога-заступніка. Але былі і агульнадзяржаўныя багі, такія, як бог нябёсаў Ану, бог зямлі Энліль, бог месяца Найнар і інш. Індуізм, як і інш. раннія нац. рэлігіі, быў політэістычным. Першапачаткова гэта мноства багоў не мела ўстойлівай іерархіі. Найб. вядомымі з іх былі бог буры Індры, бог Сонца Сурая, бог агню — Агні і інш. Пазней у брахманскі перыяд вядучымі багамі абвешчана тройца — Брахма, Шыва і Вішну. У Старaж. Кітаі на пярэдні план рэлігіі былі выстаўлены культ Шан-дзі, культ Неба, даасізм і канфуцыянства. У дагамераўскі перыяд Старaж. Грэцыі навакольны свет успрымаўся чалавекам як населены рознымі дэманічнымі сіламі — духамі, якія былі ўвасаблены ў свяшчэнных прадметах, з'явах, істотах. Сярод такіх істот быў знакаміты Пан — сын бога Гермеса і німфы Дрыёны. Пануючай формай Рымскай дзяржавы быў культ полісных багоў, цэнтр. ролю ў якім адыгрываў культ заступніка Рыма Юпітэра.

У славян-беларусаў адным з вярхоўных багоў быў *Вялес*, апякун жывёлагадоўлі, гандлю, багацця, замагільнага свету, абрадавай паэзіі і песень. Другім з вярхоўных багоў быў *Пярун*, бог грому і маланкі, вайсковай справы. Богам сонца лічыўся *Даждбог*, богам агню быў *Жыжаль*, холаду — *Зюзя*, дабрабыту — Цёця, богам вясны і пладнасці — *Ярыла*, багіняй урадлівасці лічылі Ладу, а яе дачку Лёлю (Лялю) — багіняй кахання і вясны. Вядомы таксама вобраз ранішняй заранкі Дзянніцы, каханкі Месяца. Даравальнікам багацця і долі лічыўся Бялун.

ПЕРШАПАКУ́ТНІК — архідыякан Сцяфан, які прыняў смерць за Хрыста і яго вучэнне. Сцяфан, выбраны ў лік першых 7 дыяканаў, быў адукаваным эліністам, але ён не абмяжоўваўся толькі служэннем у час трапез, а смела і перака-

навуча прапаведаваў Евангелле і пераможна вёў спрэчкі пра хрысціянскую веру ў іерусалімскіх сінагогах. Фанатыкі абвінавацілі яго ў блюзнерстве і з дапамогай ілжывых сведак дамагліся асуджэння яго да смяротнага пакарання. Ён быў забіты камянямі, і сярод тых, хто кідаў у асуджанага гэтыя камяні, быў юнак Саул, які пазней стаў вялікім апосталам *Паўлам*. Такім чынам гвалтоўна абарвалася жыццё дабравесніка, які ўпершыню ясна выставіў ідэю ўсяленскага хрысціянства, прызначанага абняць свет — ідэю, гал. вяшчальнікам якой урэшце стаў сам Павел. Мошчы Сцяфана былі адкрыты паблізу Іерусаліма ў 415, перанесены ў Іерусалім і каля 428 змешчаны на захаванне ў заснаваным імператрыцай Пульхерыяй у Канстанцінопалі храме ў імя Сцяфана.

ПЕТРАПА́ЎЛАЎСКІ Іван Міхайлавіч — духоўны пісьменнік, педагог, гісторык магілёўскай епархіі, этнограф 19 ст. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Казанскай духоўнай акадэміі. Выкладаў у Магілёўскай духоўнай семінарыі. Аўтар артыкулаў «Пра мнагажонства ў старажытных яўрэяў» (1884), «Феадосій Васілевіч, епіскап магілёўскі» (1887), «Гістарычныя звесткі аб стане праваслаўя ў магілёўскай епархіі пасля смерці епіскапа магілёўскага Феадосія Васілевіча з 1678 да 1699 гг.», «Серапіён Палхоўскі, епіскап магілёўскі, 1699—1704 гг.» (абодва 1888). «Сільвестр II, кн. Святаполк Чацвярцінскі, епіскап магілёўскі» (1893).

ПЁТР — у Новым запавеце адзін з 12 *апосталаў*. Паводле хрысц. легенды, рыбакі Сімон, празваны Кіфай (арамейскае), Пятром (у перакладзе з грэч. камень), і яго брат Андрэй былі першымі заклікані Ісусам ў шэрагі яго вучняў. П. атрымаў прызначэнне стаць «асновай» царквы Хрыста. Лічыцца, што яму ўручаны ключы ад нябеснага царства. Верны Хрысту, П. пасля тайнай вячэры (у час допыту і катаванняў Ісуса) тройчы ад яго адрокся, але потым раскаяўся. Пасля смерці Ісуса вёў прапаведніцкую дзейнасць. У Рыме быў схоплены і пакараны смерцю разам з *Паўлам* (каля 65). Каталіцкая царква лічыць яго першым епіскапам рымскіх хрысціян. Паколькі іудахрысціяне ўшаноўвалі П., а *Павел* называў яго апосталам для іудзеяў, у навуцы ўжываецца тэрмін «петрынізм» для азначэння той плыні ў раннім хрысціянстве, якая выступала за захаванне некаторых абрадаў, супраць разрыву з іудаізмам.

ПЁТР З ГАНЁНДЗА (Пётр Гезка з Ганёндза; паміж 1525—30, мяст. Гонёндз Падляшскага ваяв. — 15.9.1573) — ідэолаг левай, сялянска-плебейскай плыні Рэфармацыі на Беларусі і ў Літве, належаў да *антытрынітарыяў*. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве (1551), удасканальваў веды ў Італіі, Швейцарыі. У 1554 праф. сафістыкі ў Падуанскім ун-це. Паслядоўнік рэліг.-філас. вучэння іспанскага вучонага М.Сервета і сац.-паліт. ідэй мараўскіх анабаптыстаў. Выдаў на лац. мове творы «Супраць боскасці Ісуса Хрыста» (Брэст, 1557), «Аб першахрысціянскай царкве» (1563?; не зберагліся), на польскай мове «Пра трох», «Пра сына Божага» і «Пра хрысціянскае хрышчэнне» (усе каля 1570). Удзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах, палемізаваў з *С.Будным*. Адмаўляў царк.-тэалагічную і філас. схаластычную традыцыі. Выступаў супраць прыватнай уласнасці, сац. няроўнасці, войнаў, феад. права, свецкай улады, пакарання смерцю. Яго паслядоўнікі Якуб з Каліноўкі, Павел з Візны, М.Чаховіц і інш.



Святы **Пётр**. 1700. Беларуская іканапісная школа.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970. *С.А.Падокшын.*

ПІЕТЫ́ЗМ (ад лац. pietas набожнасць) — містычная плынь, якая ставіла рэліг. пачуцці вышэй за рэліг. догматы; супрацьлеглая артадаксальнаму *пратэстантызму*. Узнік у канцы 17—18 ст. ў Германіі. Яго заснавальнік ням. тэолаг Ф.Шпенер не прызнаваў царк. абраднасць, падкрэсліваў неабходнасць для вернікаў асабістага перажывання Бога, якое дазваляе зацвердзіць высокамаральныя прынцыпы жыцця і атрымаць «боскую ласку». Прыхільнікі П. абвяшчалі грахоўнымі тэатр, танцы, песні, забавы, насаджалі веру ў цуды, фанатызм, містыку, выступалі супраць навукі, розуму, прагрэсу, праследавалі вучоных і філосафаў. У 18 ст. іх ідэі былі выкарыстаны ў барацьбе суп-

раць ідэй Асветніцтва. У шырокім сэнсе П. — рэліг.-містычны настрой, паводзіны.

ПІЛІГРЫ́М (італьян. pellegrino чужаземец) — вандроўны багамолец; тое, што паломнік (гл. *Паломніцтва*).

ПІ́НСКАЯ ДРУКА́РНЯ. Існавала ў 1729?—46? у г. Пінск Брэсцкай вобл. Належала езуітам. Выпускала кнігі на лац. і польскай мовах (вядома 8 назваў, ёсць звесткі яшчэ пра 3): літургічныя выданні, панегірыкі, казанні, белетрыстычныя зб-кі «Усякай усячыны», складзеныя смаленскім кашталянам паэтам К.Несялоўскім. У зб-ках змешчаны вершы складальніка, дакумент. і эпісталярныя матэрыялы, легенды, апокрыфы, эпітафіі і інш.

*Літ.:* Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974. *Г.Я.Галенчанка.*

ПІ́НСКАЯ КАНГРЭГА́ЦЫЯ 1791, Пінская генеральная кангрэгацыя 1791 — сход праваслаўнага духавенства і вернікаў Рэчы Паспалітай з мэтай стварыць у краіне аўтакефальную царкву, незалежную ад Сінода Грэкарасійскай (Рускай праваслаўнай) царквы . Рашэнне аб яе скліканні прынята Чатырохгадовым соймам 1788—92. 2.3.1791 кароль Станіслаў Аўгуст прызначыў камісарамі на кангрэгацыю ад Кароны сандамірскага пасла М.Каханоўскага і люблінскага пасла кн. Чартарыйскага, ад ВКЛ — трокскага пасла Залескага і пінскага пасла і падстарасту Бутрымовіча. Навагрудскі пасол Бярновіч быў прызначаны для зносін з кангрэгацыяй і для забеспячэння яе дакументамі. У Пінск прыбылі 96 дэлегатаў: 24 манахі, 21 святар, 51 свецкая асоба (сярод іх 19 са шляхты, астатнія з мяшчан). У кангрэгацыі ўдзельнічалі і каталікі (напр., генерал-інспектар войск ВКЛ Грабоўскі) і уніяцкае духавенства (епіскап пінскі Іаакім Дашкевіч-Гарбацкі і яго каад'ютар Іасафат *Булгак*). Генеральная кангрэгацыя пачала працу 1.7.1791. Яна прыняла рашэнне, што Генеральная кангрэгацыя, або «Нацыянальны сінод праваслаўных цэркваў каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага» складаецца з архіепіскапа і 3 епіскапаў, старшых архімандрытаў, асэсараў кансісторыі і дэпутатаў, абраных епархіяльнымі кангрэгацыямі. Генеральная кангрэгацыя павінна была збірацца кожныя 4 гады. Яе гал., або генеральная кансісторыя складалася з 12 чал. Архіепіскап павінен быў дзейнічаць на правах *мітрапаліта* і знаходзіцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха. На сваіх з'ездах кангрэгацыя павінна была абмяркоўваць духоўныя справы сваёй царквы, прызначаць, калі гэта патрэбна, 4 кандыдатаў на кафедру епіскапа. З іх каралеўскі ўрад павінен быў выбраць аднаго. Цэнтрам кангрэгацыі прызначаўся г. Пінск. Нягледзячы на пратэсты з боку некаторых каталіцкіх і уніяцкіх епіскапаў, сейм зацвердзіў рашэнне кангрэгацыі і абвясціў у 1792 «Упарадкаванне царкоўнай іерархіі грэка-ўсходняга абраду». Але 2-і і 3-і падзелы Рэчы Паспалітай не дазволілі выканаць гэтыя рашэнні. *А.М.Філатава.*

ПІ́НСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка праваслаўнай царквы на Беларусі з 13 ст. З канца 10 — пач. 11 ст. тэр. епархіі ўваходзіла ў склад *Тураўскай праваслаўнай епархіі* ў падпарадкаванні *Кіеўскай мітраполіі*. У 1241 кафедра перанесена ў Пінск, што лічыцца пачаткам дзейнасці П.п.е. У 14 ст. епархія тройчы знаходзілася ў юрысдыкцыі Галіцкай мітраполіі, а пасля яе скасавання — зноў у Кіеўскай. У сярэдзіне 16 ст. ў спіску было 16 цэркваў, пратапоп, ад 15 да 25 святароў, 1 ці 2 дыяканы; у епархіі — больш за 200 храмаў. Падзялялася на 3 пратапопіі: Пінскую, Давыд-Гарадоцкую і Тураўскую. У 16—17 ст. у епархіі былі наступныя манастыры: у Пінскай пратапопіі — мужчынскія Дзятлавіцкі, Дубайскі, Купяціцкі, Пінскія Богаяўленскі і Лешчанскі, Навадворскі і жаночы Пінскі Варварынскі; у Турайскай пратапопіі — мужчынскія Мазырскі, Яснагорскі, Мораціі, Тураўскі Барыса-Глебскі, жаночыя Мазырскі Параскевінскі і Тураўскі Варварынскі. У 17—18 ст. непасрэднае кіраўніцтва пратапопіямі ажыццяўлялі ігумены Пінскага Богаяўленскага манастыра. У 1596—1795 пінскай кафедрай валодалі уніяты. У 1620—32 П.п.е. была часова адноўлена, але пад націскам уніятаў зноў спыніла існаванне. З 1633 у Пінску дзейнічала правасл. брацтва, якое мела школу і бальніцу. Каб выпрацаваць палажэнне аб правасл. духавенстве, тут была склікана *Пінская кангрэгацыя 1791*. Пасля далучэння Піншчыны да Расіі (1793, 1795) у 1794—95 шмат уніяцкіх прыходаў епархіі аб'ядналіся з правасл. царквой і іх тэр. была ўключана ў склад *Мінскай праваслаўнай епархіі*. У 1920 П.п.е. адноўлена, у 1922—39 знаходзілася ў складзе *Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы*. У 1937 епархія падзялялася на 24 благачынні: 4 у Брэсцкім, 2 у Драгічынскім, 2 у Камень-Кашырскім (цяпер Украіна), 3 у Кобрынскім, 2 у Косаўскім, 1 у Лунінецкім, 3 у Пінскім, 2 у Пружанскім, 2 у Столінскім, 3 у Сарненскім (цяпер Украіна) паветах; прыходскіх храмаў было 229, прыпісных — 91. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР (1939) у 1941 на пінскую кафедру Маскоўскім патрыярхатам быў прызначаны епіскап Веньямін, аднак з-за ваен. дзеянняў ён не змог кіраваць епархіяй. Ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі ў 1942—44 епархія знаходзілася ў падпарадкаванні Украін-

скай аўтакефальнай правасл. царквы: у 1944 яна вернута ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату. У 1949 уключала 85 прыходаў Пінскага, Ганцавіцкага, Давыд-Гарадоцкага, Драгічынскага, Жабчыцкага, Іванаўскага, Лагішынскага, Ленінскага, Лунінецкага, Столінскага і Целяханскага р-наў. З 1952 кіруючых архірэяў у епархію не прызначалі, адбывалася масавае закрыццё цэркваў, а тыя, што дзейнічалі, падпарадкоўваліся Мінскай праваслаўнай епархіі. У 1980—90 тытул «епіскап пінскі» насілі вікарыі Мінскай епархіі. 4.3.1990 дзейнасць П.п.е. адноўлена ў складзе Бел. Экзархата, яе тэр. ахоплівае 8 раёнаў Брэсцкай вобл.: Пінскі, Баранавіцкі, Ганцавіцкі, Іванаўскі, Івацэвіцкі, Лунінецкі, Ляхавіцкі, Столінскі. У канцы 1999 у Пінскай епархіі налічвалася 147 прыходскіх абшчын, дзейнічалі 147 храмаў і 34 капліцы. У адм.-царк. адносінах П.п.е. падзяляецца на 8 благачынных акруг (благачынняў), межы якіх супадаюць з межамі адм. раёнаў. На тэр. епархіі дзейнічае Свята-Варварынскі жаночы манастыр (засн. ў 1521, адноўлены ў 1993). Тытулы кіруючых архірэяў: 13 ст. — 1416 Тураўскі і Пінскі, 1416—1632 Пінскі і Тураўскі, 1920—22, 1939—40 Пінскі і Навагрудкі, 1922—39, 1942—44 Палескі і Пінскі, 1945—46 Пінскі і Брэсцкі, 1946—48, 1950—52 Пінскі і Лунінецкі, 1948—50 Пінскі і Палескі, з 1990 Пінскі і Лунінецкі. П.п.е. кіравалі епіскапы: Афанасій (упамянуты пад 1328), Феадосій (1390?), Антоній (?—1404), Яўфімій (Акушко, 1412 — пасля 1420), Іаакім (упамянуты пад 1458), Яўфімій II (упамянуты пад 1489), Васіян (1492? — 1502), Арсень (1509—14), Іона (1517—22), Макарый (1522—28), Васіян II (упамянуты пад 1535), Варлам (упамянуты пад 1545), Васіян III (1549—52), Макарый II (1552—65?), Іона II (Пратасовіч-Астроўскі, 1566—68), Андрэй (Русін-Берастэцкі, 1568—72), Макарый III (Еўлашэўскі, 1572—74), Кірыла *Цярлецкі* (1576—85), Лявонцій (1585—95), Аўрамій (Лецыд, 1620—32), *Міхаіл* (Галубовіч; вікарый ад Мінскай епархіі, 1839—40), *Панцеляймон* (П.С.Ражноўскі, 1920—22, 1939—40), Аляксандр (Іназемцаў, 1922—39, 1942—44), Веньямін (Навіцкі, 1941—42), Анісіфар (Панамароў, 1945), Данііл (Юзьвюк, 1946—50), Паісій (Абразцоў, 1950—52), Афанасій (Кудзюк; вікарый, 1980—84), Канстанцін (Хоміч; вікарый, 1987—90), Стафан (І.П.Корзун, з 1990).

*Літ.:* Цыпин В. Протоиерей. История Русской церкви 1917—1997 гг. М., 1997; Пінская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999. С. 141—144. *В.К.Касцюк.*

ПІНСКАЯ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ЕПАРХІЯ, Пінская дыяцэзія, Пінскае біскупства, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы на Беларусі. Першая спроба заснаваць епархію з цэнтрам у Пінску была зроблена ў 1794 магілёўскім арцыбіскупам С.І.*Богушам-Сестранцэвічам.* Аднак у 1798 папскі нунцый у Расіі Л.Літа скасаваў епархію як некананічна ўтвораную. У тым жа годзе на падставе папскай булы і імператарскага ўказа засн. Мінская рымска-каталіцкая епархія, у склад якой увайшла тэр. скасаванай П.р.-к.е. У 1917 Мінская епархія была адноўлена, аднак у пач. 1920-х г. яе біскуп З.Лазінскі быў вымушаны пакінуць Мінск і шукаць новую рэзідэнцыю, якой стаў Пінск у межах Польшчы. 28.10.1925 апостальскай канстытуцыяй «Vixdum Poloniae unitas» была ўтворана П.р.-к.е., якая фактычна існавала да 1939, фармальна — да 1946 (года смерці біскупа). Епархіяй кіравалі біскупы пінскія: З.Лазінскі (1925—32), К.Букраба (1932—46). У 1991 епархія адноўлена ў межах Брэсцкай і Гомельскай абласцей у падпарадкаванні Мінска-Магілёўскай архіепархіі. Дыяцэзіяльны біскуп — К.Свёнтак. *І.Г.Ганчарук.*

ПІНСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР, Пінскі Богаяўленскі брацкі манастыр, мужчынскі правасл. манастыр у Пінску ў пач. 17 — пач. 20 ст. Узнік у ранні перыяд праваслаўна-уніяцкай канфрантацыі. У жн. 1614 на сродкі Р.Гарабурдзінай і Пінскага правасл. брацтва была пабудавана Богаяўленская царква, пры ёй аселі манахі з *Пінскага Лешчанскага манастыра.* Праз месяц царква была разабрана уніятамі, скаргі праваслаўных да караля і ў сейм былі безвыніковымі. У 1633 кароль Уладзіслаў IV дазволіў брацтву пабудаваць на ўскраіне горада манастыр з вучылішчам, пачатковай школай і шпіталем. У 1647 драўляны манастыр згарэў, у 1650 зноў адбудаваны. Быў цэнтрам праваслаўя на Піншчыне. У 18 ст. цярпеў прыцясненні з боку пінскага уніяцкага епіскапа і фанатычнай шляхты. Аднак у 1757 за манастыр заступіўся канцлер Ф.М.Чартарыйскі, а ў 1775 кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі вызваліў манастырскіх падданых ад усіх падаткаў. У 1799 драўляныя будынкі згарэлі, у 1800 манастыр размешчаны ў комплексе б. *Пінскага езуіцкага калегіума* (тады сюды ж пераведзены манахі з *Мінскага Петрапаўлаўскага манастыра,* а ў 1848 — духоўнае вучылішча з Лядаў). Манастыр быў прыпісаны да 1-га класа. Спыніў існаванне ў час 1-й сусв. вайны. *А.А.Ярашэвіч.*

ПІНСКІ ВАРВАРЫНСКІ МАНАСТЫР — жаночы манастыр у г. Пінск Брэсцкай вобл. ў 16—19 ст. Вядомы паводле пісьмовых крыніц з 1520, калі кн. Фёдар Яраславіч з жонкай адпісалі яму вёскі Высокае, Гольцы, Дубай, Лісіцк, двор Піскалаўшчына ў в. Асобавічы. Аднак, верагодна, манастыр першапачаткова заснаваны ў Тураве ў часы ўдзельнага княства і пераведзены ў Пінск у 15—16 ст. У 16—18 ст. ігуменні паходзілі з вядо-

мых родаў — Валовічаў, Велятыцкіх, Войнаў, Ордаў, Пачапаўскіх, Сапегаў, Трызнаў, Шырмаў. Пры ігуменні Ефрасінні Трызне (канец 16 — пач. 17 ст.) манастыр стаў уніяцкім, ігуменця набыла вёскі Завідчыцы і Жытновічы; манастыру належалі 32 валокі зямлі і 732 душы, 23 пляцы ў Пінску і 2 у Слуцку. Пасля *Полацкага царкоўнага сабора 1839* манастыр зноў стаў праваслаўны. У 1842 дзяржава пакінула яму 147 дзесяцін зямлі і 100 сялян, з казны была прызначана гадавая пенсія 1455 руб., графіня Г.Арлова запісала манастыру 10 тыс. руб. серабром. У той час жыло 9—14 манашак, мелася вучылішча для дачок дваран і святароў (навучалі чытанню, пісьму, рукадзеллю). Будынкі былі драўляныя. У 1858—75 манастыр размяшчаўся ў архітэктурным комплексе б. *Пінскага кляштара бернардзінцаў*, потым пераведзены ў Мінск. *А.А.Ярашэвіч.*

ПІНСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ — установа ордэна езуітаў у г. Пінск Брэсцкай вобл.; у 1632—38 рэзідэнцыя, у 1638—1773 і 1923—39 калегіум. У 1630 езуіты запрошаны ў Пінск мясц. стольнікам М.Ельскім. Ахвяраванні на заснаванне калегіума пасля смерці Ельскага зрабіў у 1632 пінскі староста А.С.Радзівіл. Напачатку рэзідэнцыя і калегіум размяшчаліся на пл. Рынак у доме Ельскага (згарэў у 1648). У 1636—47 на беразе Піны ў цэнтры горада ўзведзены мураваны касцёл св. Станіслава (у 2-й пал. 18 ст. перабудаваны), а пры ім у 1651—75 — 3-павярховы мураваны будынак калегіума (2-я яго чарга закончана ў 1694—1738). У 17—18 ст. калегіуму падпарадкоўваліся місіі ў Дубаі, Лагішыне, Падгацці, Снятыні, Тураве, Янаве-Палескім (цяпер Іванава). У 1632 было 40 вучняў, у канцы 17 ст. — каля 700. У 1645 адкрыта музычная бурса, у 1694 — аптэка, увесь час дзейнічаў тэатр, у 1727—35 існавала друкарня, меліся бібліятэка, шпіталь для бедных. Калегіуму належалі навакольныя маёнткі Адрыжын, Альбрыхтаў, Асавец, Аснежыцы, Баландзічы, Бродніца, Веlесснь, Дубай, Іванчыцы, Крывічы, Снятын, Удрожын, Целяханы. У 1773 калегіум закрыты, вучэбны корпус перададзены пад школу адукацыйнай камісіі. Касцёл у 1786 перададзены уніятам і стаў кафедральным саборам Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі, з 1799 перайшоў да праваслаўных, належаў Богаяўленскаму манастыру. У 1919 касцёл вернуты езуітам, у 1923 аднавілася навучальная дзейнасць калегіума. З 1925 пры калегіуме працавала духоўная семінарыя, з 1937 — навіцыят (установа для падрыхтоўкі новых членаў ордэна) Велікапольска-Мазавецкай правінцыі езуітаў. У верасні 1939 калегіум закрыты. У 1955 касцёл зруйнаваны. Будынак калегіума — помнік архітэктуры барока.

ПІНСКІ КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ. Існаваў у 1705—1832 у г. Пінск Брэсцкай вобл. Засн. ў 1705 В.С.Вішнявецкім і яго жонкай Кацярынай з Дольскіх. Агульная плошча 6 маргоў 2 пруты, уключаў агароды і лугі. Штогодняя «правізія» складала 1500 злотых. Уваходзіў у Літоўскую правінцыю ордэна *бернардзінцаў*. У 1765—86 пабудаваны мураваны касцёл Міхаіла Архангела, парафіі пры ім не было. У пач. 19 ст. дабудаваны сакрысція і прылеглае памяшканне. Гараднічы Берасцейскага ваяв. В.Грабоўскі адпісаў на будоўлю касцёла 16 тыс. злотых. У 1832 у кляштары жылі 13 манахаў. У тым жа годзе кляштар скасаваны. Пазней касцёл перарабілі на царкву св. Варвары, а ў 1858 у памяшканнях кляштара размясціўся *Пінскі Варварынскі манастыр*. Царква дзейнічае, помнік архітэктуры барока. *А.А.Ярашэвіч.*



**Пінскі езуіцкі калегіум.**



Пінскі кляштар францысканцаў.

ПІНСКІ КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ. Існаваў у 1667—1850 у г. Пінск Брэсцкай вобл. Засн. жонкай полацкага ваяводы Я.К.Копаця, маркграфіняй Марыяй Лукрэцыяй Строцы, якая ахвяравала кляштару 12,7 тыс. злотых на набыццё маёнтка Шышова (Брэсцкі павет), фальварка над Ясельдай з «грунтам ворным», зямельных пляцаў у Пінску. Для будаўніцтва драўлянага касцёла св. Дамініка (закончаны ў 1697) былі запісаны 3 тыс. злотых на алтар Маці Божай Ружанцовай, ахвяравана сярэбранае начынне. У 1709 пачалося ўзвядзенне новага жылога будынка. У 18 ст. ў кляштары была музычная капэла У 1785 стары касцёл разабраны, у 1787—1810 пабудаваны новы. У 1850 кляштар скасаваны, касцёл у 1857 пераабсталяваны пад правасл. Фёдараўскі сабор. У 1950-я г. разбураны.

*А.А.Ярашэвіч.*

ПІНСКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ. Існаваў у 1396—1852 у г. Пінск Брэсцкай вобл. Засн. Жыгімонтам Кейстутавічам, які даў кляштару зямельны ўчастак у маёнтку Вышэвічы. У сярэдзіне 15 — пач. 17 ст. кляштар атрымаў зямельныя падараванні ад Казіміра IV (фальваркі Статычы, Дружылавічы, Ставок, Сяльцо, карчму з шынком у Пінску і в. Охава), Аляксандра Уладзіслава IV (в. Кудрычы) і інш. Да 1625 у складзе Польскай правінцыі ордэна францысканцаў, пазней Руска-Літоўскай правінцыі. З 1632 у кляштары жыло каля 18 манахаў. Да пач. 18 ст. драўляны касцёл Успення Маці Божай (адначасова парафіяльны на ўсё Пінскае Палессе) неаднаразова цярпеў ад пажараў. У 1-й чвэрці 18 ст. пабудаваны мураваны касцёл і званіца. Да 1830 кляштару належалі фальваркі Вышэвічы і Рудка з 6 вёскамі, 64 валокі ворнай зямлі, 2 карчмы; прыбытак складаў 4576 руб. серабра. У 1842 Вышэвічы, Охава і Кудрычы перайшлі ў дзярж. уладанне. У інвентары 1663 упамінаецца парафіяльная школа пры кляштары з бакалаўрам (існавала да 1799). У 1805—32 існавала павятовая школа пры Віленскім ун-це (з 1832 пад назвай дваранскай перайшла ў свецкае кіраванне), б-ка (661 том). Скасаваны 19.12.1852, касцёл застаўся парафіяльным. Архіў кляштара захоўваўся яшчэ ў час 1-й сусв. вайны. Метрычныя кнігі (з сярэдзіны 17 ст.) захоўваюцца ў Нац. гіст. архіве Рэспублікі Беларусь. Будынкі касцёла і кляштара захаваліся, помнікі архітэктуры.

*А.А.Ярашэвіч.*

ПІНСКІ ЛЕШЧАНСКІ МАНАСТЫР Нараджэння Багародзіцы. Існаваў у 13 ст. — 1839 у прыгарадзе г. Пінск Лешча. Упершыню згадваецца ў летапісах у сувязі з уцёкамі сюды князя Война па сля забойства яго бацькі Міндоўга. У 14 ст. пінскі князь Юрый Нарымунтавіч даў манастыру востраў паміж рэкамі Пінай, Струменем і Орліцай. Ахвяраванні манастыру рабілі князі Яраславічы, а таксама Велятыцкія, Галоўні, Качаноўскія. Манастыр быў рэліг. і культ. цэнтрам Палесся. З 15 ст. тут жылі епіскапы Пінскай правасл. епархіі, якія лічыліся архімандрытамі манастыра; тут, верагодна, вялося летапісанне, перапісваліся кнігі. У манастыры знаходзіўся цудатворны абраз Успення Багародзіцы (верагодна, перанесены ў 13 ст. з Турава з пераводам у Пінск епіскапскай кафедры). У 1580—84 замест царквы Нараджэння Багародзіцы пабудаваны новы драўляны храм Успення Багародзіцы. У 1-й пал. 17 ст. архімандрытам быў Іосіф *Нелюбовіч-Тукальскі*, потым — мітрапаліт кіеўскі. У 1668 манастыр стаў уніяцкім. Новы драўляны крыжова-купальны храм пабудаваны ў 1746 (у ім лічылася цудатворнай разьбяная фігура Ісуса

Хрыста). У пач. 19 ст. манастыру належалі вёскі Аўсямераў, Вульвавічы, Жытновічы, Заглубочча, Любель, Патапавічы, Сухое, Тырновічы; у 1816 было 478 душ прыгонных. У 1839 манастыр скасаваны, царква згарэла ў канцы 19 ст. *А.А.Ярашэвіч.*

**ПІСА́ННЕ СВЯШЧЭ́ННАЕ** — рэлігійныя кнігі, напісаныя ў адпаведнасці з рэліг. веравучэннем па паданні самога Бога. У кожнай рэлігіі ёсць П.с., напр., у будызме — Трыпітака, у іудаізме — *Тора*, у хрысціянстве — ***Біблія***, у ісламе — ***Каран*** і г.д. Усе яны ствараліся ў розных гіст. умовах, многімі аўтарамі. У іх адлюстраваны таксама рэліг. ўяўленні і нормы першабытных народаў. П.с. з'яўляюцца помнікамі стараж. культуры.

**ПІЯ́РЫ** (лац. patres scholarum piarum айцы набожных школ), каталіцкі манаскі ордэн. Засн. ў 1597 іспанскім святаром Іосіфам (Хасе) Каласанцам, у 1621 зацверджаны рымскім папам Грыгорыем XV. На чале ордэна стаялі генерал, 4 асістэнты і 4 кансультанты. Мэтай П. было выхаванне і навучанне юнацтва праз стварэнне шырокай сеткі сваіх ***калегіумаў***, а не паліт. ці місіянерская дзейнасць. У 1641 кароль Уладзіслаў IV папрасіў Каласанцу прыслаць П. у Рэч Паспалітую, каб пазбавіцца ад манаполіі ***езуітаў*** у галіне адукацыі. У 1642 П. прыбылі ў Варшаву. У 1736 у краіне былі створаны 2 ***правінцыі ордэна*** — Каронная (Польская) і Літоўская. Піярскі калегіум узначальвалі рэктар (займаўся адм. справамі) і прэфект (загадваў навуч. часткай). Навуч. курс калегіума падзяляўся на 7 класаў: праформа (вучылі пісаць, чытаць і пачаткам арыфметыкі), інфіма (тыя ж самыя прадметы і катэхізіс), граматыка (латынь і пераклады з яе, матэматыка), сінтаксіс (латынь, пераклады з яе і напісанне на ёй лістоў), паэзія (пераклады з латыні, красамоўства), рыторыка (рыторыка, латынь, гісторыя) і філасофія (логіка, метафізіка, этыка, геаметрыя). Выкладчыкі 1—5-га класаў мелі званне магістраў, а 6—7-х — прафесараў. Навучанне было бясплатнае, плата бралася толькі за канвікт (інтэрнат). Самыя бедныя вучні ўтрымліваліся за кошт ордэна, але павінны былі выконваць шэраг прац па школьнай гаспадарцы. Падабенства навуч. праграмы П. на езуіцкую і менш строгая дысцыпліна рабілі іх навуч. ўстановы папулярнымі ў Рэчы Паспалітай. У 1722 віленскі біскуп К.К.Бжастоўскі запрасіў П. у Вільню, а мерацкі староста А.Сапега ахвяраваў ім палац і 2 інш. мураваныя будынкі. Кляштары і рэзідэнцыі П. пры падтрымцы магнатаў і шляхты з'явіліся таксама ў Шчучыне (1726), Воранаве і Геранёнах (1730), Зэльве (1739), Лужках (1741), Віцебску (1751), Драгічыне-Надбужскім (1773), дзе хутка ўтвараліся і калегіумы.

Значныя перашкоды стварэнню сеткі піярскіх устаноў чынілі езуіты, якія бачылі ў П. сваіх канкурэнтаў. Езуіты дамагліся закрыцця піярскіх калегіумаў у Вільні, Гаранёнах, Воранаве (пераведзены ў 1756 у Ліду), адкрывалі свае школы ўсюды, дзе ўжо меліся піярскія ўстановы, пастаянна падавалі скаргі на П. у суды і інш. Для павышэння канкурэнтаздольнасці піярскай адукацыі пад кіраўніцтвам правінцыяла Кароннай правінцыі С.Канарскага ў 1740—50-я г. праведзена рэформа піярскіх навуч. устаноў (у 1750—60-я г. яна закранула і Літ. правінцыю): былі пашыраны курсы матэматыкі, прыродазнаўчых і свецкіх гуманітарных навук, уведзены франц. і ням. мовы і інш. Выкладаць новыя прадметы павінны былі спецыяльна падрыхтаваныя асобы па новых падручніках (перакладзеных ці напісаных П.), тэрмін навучання склаў 6 гадоў. Значны ўплыў на навуч. праграмы П. у Рэчы Паспалітай зрабіла франц.



**Пінскі Лешчанскі манастыр.** З малюнка Н.Орды. 19 ст.



1



2



3

Турынская **Плашчаніца**. 1. Агульны выгляд 2. Выява ліку 3. Негатыў з выявай ліку.

культура, шэраг прадметаў выкладаўся па-французку, лепшыя выхаванцы накіроўваліся на стажыроўку ў Францыю. Пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў і стварэння Адукацыйнай камісіі П. адыгралі вял. ролю ў рэфармаванні сістэмы асветы краіны ў 1770—80-я г.: падрыхтавалі вял. колькасць праектаў рэформ, пісалі падручнікі (А.Каменскі, А.Паплаўскі, М.Пракаповіч). За заслугі ў галіне адукацыі П. было дазволена ў 1775 набываць новыя зямельныя ўладанні, у 1783 іх школы ў Польшчы вылучаны ў асобную акругу (вучылішчы П. у ВКЛ увайшлі ў яе склад у 1790). У канцы 18 ст. на тэр. ВКЛ дзейнічала 18 кляштараў П. Пасля далучэння Беларусі да Рас. імперыі і стварэння Віленскай навуч. акругі становішча П. змянілася нязначна, у 1804 піярскія навуч. ўстановы былі ўключаны ў гэту акругу і атрымалі статус павятовых вучылішчаў. Адкрываць новыя школы П. не дазвалялася (выключэннем з'явілася заснаванне ў 1822 *Полацкага вышэйшага піярскага вучылішча*). Піярскія навуч. ўстановы працягвалі займаць адно з вядучых месцаў у акрузе: у 1803 у П. вучыліся 1234 юнакі, у 1816 — 1245, у 1822 — 1401. П. займалі шэраг прафесарскіх пасад у Віленскім універсітэце: С.Юндзіл, Ф.Серафімовіч, Ф.Галанскі. У 1831—34 пасля паўстання 1830—31 навуч. ўстановы П. былі пераўтвораны ў 5-класныя свецкія павятовыя вучылішчы ці зачынены. Літ. правінцыя П. скасавана ў 1843.

*Літ.:* Самусік А.Ф. Дзейнасць манаскіх ордэнаў у галіне асветы на Беларусі ў першай трэці XIX стагоддзя // Гісторыя: праблемы выкладання. 1998, № 1. *А.Ф.Самусік.*

ПЛАШЧАНІЦА — палотнішча з выявай цела Ісуса Хрыста пасля зняцця яго з крыжа. У праваслаўі Вялікі пятнак (пятніца перад *Вялікаднем*) П. ўрачыста выносіцца з *алтара* на сярэдзіну храма для пакланення веруючых і застаецца там да велікоднай поўначы, пасля чаго вяртаецца ў алтар.

ПЛЯБАН, гл. *Пробашч.*

ПЛЯБАНІЯ — 1) у каталіцкай царкве адна з назваў царк. прыхода. Гл. *Парафія.* 2) Дом *пробашча* (плябана).

ПО́ЛАЦКАГА САФІ́ЙСКАГА САБО́РА БІБЛІЯТЭ́КА. Існавала з сярэдзіны 11 ст. да 1579 пры *Полацкім Сафійскім саборы*. У 12 ст. папаўненню яе фондаў садзейнічала асветніца *Ефрасіння Полацкая*. У бібліятэцы зберагаліся рукапісныя кнігі пераважна рэліг. зместу, арыгінальныя помнікі, у т.л. творы мясцовага паходжання: летапісы, «Жыціе Ефрасінні Полацкай». Разрабавана ў час Лівонскай вайны 1558—83. 10 рукапісаў на слав. мове з гэтай б-кі зберагаюцца ў Нац. б-цы ў Варшаве (у т.л. «Зборнік» 1500—01, спіс Пскоўскага 1-га летапісу 1548), «Евангелле вучыцельнае» сярэдзіны 16 ст. — у б-цы Львоўскага ун-та імя І.Франко.

*Літ.:* Слуховский М.И. Библиотечное дело в России до XVIII в. М., 1963; Шапов Я.Н. О судьбе библиотеки Полоцкого Софийского собора // Вопросы истории. 1974. № 6; Яго ж. Библиотека Полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976. *В.А.Цыбуля.*

ПО́ЛАЦКАЕ ВЫШЭ́ЙШАЕ ПІЯ́РСКАЕ ВУЧЫ́ЛІШЧА — навучальная ўстанова ордэна *піяраў* у Полацку ў 1822—30. Створана на базе пераведзенага сюды Віцебскага піярскага вучылішча паводле імператарскага ўказа ад 16(28).8.1822. Размяшчалася ў будынках скасаванай *Полацкай езуіцкай акадэміі*. У адпаведнасці са статутам падзялялася на прыходскае вучылішча, 4-класнае павятовае вучылішча і 3-гадовыя «курсы вышэйшых навук». З казны атрымлівала 28 тыс. руб. штогод з былых езуіцкіх фундушаў. Ад езуітаў вучылішчу перайшлі б-ка (больш за 24 тыс. тамоў), фізічны і мінералагічны кабінеты, музей, друкарня. Выкладанне вялося на польскай мове. У 1823 былі рэктар, прэфект і 13 выкладчыкаў (большасць з іх скончыла Віленскі ун-т). Каб стварыць асветніцкі цэнтр, падобны да універсітэцкага, была значна пашырана навуч. праграма і ўведзены лекцыі замест звычайных урокаў. У павятовым вучылішчы выкладаліся: закон Божы, польская, лац., франц., ням. мовы, геаграфія, арыфметыка, асновы геаметрыі, прыродазнаўства, фізіка, маляванне. «Курсы вышэйшых навук» падзяляліся на літ. і матэм. аддзяленні, дзе выкладаліся матэматыка, доследная фізіка, цывільнае права, лац., грэч., польская мовы, гісторыя, маляванне, музыка, фехтаванне, танцы. Пры вучылішчы дзейнічаў канвікт (інтэрнат) на 40 юнакоў.

Вучылішча мела сувязі з Віленскім ун-там, у канцы 1822 лекцыі па гісторыі тут чытаў праф. гэтага ун-та І.Лялевель. У вучылішчы дзейнічаў філіял т-ва філаматаў (раскрыты паліцыяй у снеж. 1823, выкладчыкі К.Львовіч і М.Брадовіч арыштаваны). Папячыцель Віленскай навуч. акругі кн. А.Чартарыйскі меркаваў надаць вучылішчу афіц. статус ліцэя, але ў 1824 Усх. Беларусь адышла да Пецярбургскай навуч. акругі. У 1825—26 па ініцыятыве візітатара праф. В.Сянкоўскага праведзена рэформа вучылішча: лекцыйная сістэма выкладання забаронена, у пачатковых класах выкладанне пераводзілася на рус. мову, узмацніўся нагляд паліцыі за выхаванцамі і выкладчыкамі, прэфект Я.Лашкевіч заменены праф. Шумброўскім. У 1824 вучылася 239 чал., у 1825 — 256, у 1826 — 279, у 1827 — 273. Пасля ўтварэння ў 1829 Бел. навуч. акругі ўлады пачалі працэс скасавання вучылішча. Летам 1830 вучылішча закрыта, піяры пераведзены ў Вільню, дзе яны адкрылі ў верасні сваю гімназію. Большая частка абсталявання вывезена ў Маскву, Кіеў і Пецярбург. Касцёл пераўтвораны ў правасл. царкву. У вучэбных будынках размясціліся Полацкі кадэцкі корпус і свецкае павятовае вучылішча.

*Літ.:* Самусік А.Ф. Полацкае вышэйшае Піярскае Вучылішча // Старонкі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1997. *А.Ф.Самусік.*

ПО́ЛАЦКАЙ ЕЗУ́ІЦКАЙ АКАДЭ́МІІ БІБЛІЯТЭ́КА. Існавала з канца 16 ст. да 1820. Засн. пры *Полацкім езуіцкім калегіуме*, які ў 1812 пераўтвораны ў акадэмію. У 1811 налічвала каля 40 тыс. тамоў. Складалася з гал., навук. і польскай б-к. У 19 ст. была найбагацейшым кнігазборам на Беларусі. У ёй зберагаліся каралеўскія граматы, стараж. рукапісы, інш. дакументы, каля 90 біблій, выдадзеных у 16—17 ст. Аснову кніжнага фонду складалі выданні 16—18 ст. на польскай, лац., французскай, нямецкай мовах, сярод іх працы Арыстоцеля (Гейдэльберг, 1562), Эразма Ратэрдамскага (Амстэрдам, 1682). Значная колькасць літаратуры была выдадзена на Беларусі, у т.л. лекцыі ўкр. і рус. пісьменніка-асветніка Ф.Пракаповіча (Магілёў, 1786), выданні *Полацкай езуіцкай акадэміі* па маст. рыторыцы (1788, 1816), яе перыядычнае выданне «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік»), дысертацыя філосафа А.Доўгірда, дапаможнікі па прыродазнаўстве. Пасля закрыцця акадэміі (1820) кнігазбор перададзены манаскаму ордэну *піяраў*. У 1830, калі піяры былі пераведзены з Полацка ў Вільню, кнігазборы часткамі перададзены б-цы Полацкага кадэцкага корпуса (2080 кніг па дакладных навуках у 1915 вывезены ў Сімбірск), Публічнай б-цы ў С.-Пецярбургу (389 старадрукаў), б-кам бел. гімназій (10 тыс. тамоў). Значную частку фондаў атрымала б-ка Віцебскай духоўнай семінарыі, якая ў 1900 перадала яе Кіеўскай духоўнай акадэміі. *В.А.Цыбуля.*

ПО́ЛАЦКАЯ ДРУКА́РНЯ. Дзейнічала ў 1787 — 1820. Створана пры Полацкім езуіцкім калегіуме (з 1812 Полацкая езуіцкая акадэмія). Кіраўнікі: Б.Шыркевіч, А.Лянкевіч, Я.Заранек і

інш. Шрыфты атрымлівала з Пецярбурга і Варшавы. Выпусціла больш за 500 выданняў пераважна на польскай і лац. мовах, часткова на рус., італьянскай, нямецкай, французскай мовах. Пры друкарні існавала славалітня. Сярод кніг падручнікі для вучняў па ўсеагульнай геаграфіі і гісторыі Рыма (1788), па граматыцы лац. мовы (1790, 1794), майстэрстве рыторыкі (1790, 1799), слоўнікі, творы пісьменнікаў І.Беніслаўскага, М.Карыцкага, Я.Каханоўскага, І.Красіцкага, Н.Мусніцкага, А.Нарушэвіча, філосафа В.*Бучынскага* і інш., пісьменнікаў-палемістаў 16—17 ст. П.*Скаргі*, І.В.*Руцкага*, рымскіх пісьменнікаў Вергілія, Гарацыя, Плінія і інш., літургічная літаратура. З канца 18 ст. выдавала «Каляндар полацкі», дзе змяшчаліся краязнаўчыя матэрыялы, у т.л. пра Полацк, звесткі па гуманітарных і фізіка-матэматычных навуках, крытыка-бібліяграфічныя агляды, пераклады, апісанні падарожжаў у Сібір і на Каўказ; з 1818 да лютага 1820 (з перапынкам у 1819) — час. «Месенчнік полацкі». Маст. афармленне выданняў сціплае, гравюр мала, для аздаблення выкарыстоўваўся наборны арнамент, ксілагафічныя застаўкі.

*Літ.:* Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Умецкая Е.С. «Месенчник полоцкий» — первый журнал дореволюционной Белоруссии // Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1972. Вып. 2. *Г.Я.Галенчанка.*

ПО́ЛАЦКАЯ ЕЗУІ́ЦКАЯ АКАДЭ́МІЯ — першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэр. сучаснай Беларусі ў 1812—20. Адкрыта 10.6.1812 у Полацку на базе *Полацкага езуіцкага калегіума.* У сувязі з вайной 1812 заняткі пачаліся 8.1.1813. Акадэміі былі нададзены правы універсітэта, мела 3 ф-ты: тэалагічны, філасофскі, вольных навук і старaж. і сучасных моў. Сярод 39 выкладчыкаў побач з вучонымі з Італіі, Францыі, Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Польшчы былі ўраджэнцы Беларусі: прафесар фізікі І.Цытовіч, прафесар філасофіі В.*Бучынскі*, прафесар грэч. мовы Н.Гаўрылевіч, прафесар рус. мовы і літаратуры І.Залескі і інш. Навуч. працэс кантраляваўся Міністэрствам асветы, па ўсіх інш. пытаннях акадэмія падпарадкоўвалася генералу ордэна *езуітаў* Т.*Бжазоўскаму*. На чале ўстановы стаялі рэктар і 4 дарадцы, ф-тамі кіравалі дэканы. Колькасць студэнтаў дасягала 700 чал. Фармальна навучанне было пазаканфесійным, пазасаслоўным і бясплатным, але за ўтрыманне студэнта ў канвікце (інтэрнаце) бралася 600 руб. за год.

Выпускнікі атрымлівалі чын 14-га класа і маглі паступаць на дзярж. службу. Акадэмія мела права надаваць навук. ступені магістраў вольных навук і філасофіі, дактароў тэалогіі, цывільнага і кананічнага права. На ф-це вольных навук і стараж. і сучасных моў вывучалі рус., французскую, італьянскую, польскую, лац., грэч., сірыйскую і стараж.-яўрэйскую мовы, а таксама літаратуру на гэтых мовах. На філасофскім ф-це вывучалі логіку, метафізіку, дыялектыку, этыку, паліт. эканомію, геаметрыю, трыганаметрыю, фізіку, хімію, матэматыку, астраномію, архітэктуру, батаніку, заалогію. У акадэміі былі 2 б-кі — адна з кнігамі на польскай мове, другая (больш за 40 тыс. тамоў) — з кнігамі на рус. і інш. мовах. Працавалі кабінеты — натуральнай гісторыі, хімічны, фізічны (найлепшы), мінералагічны, заалагічны; меліся карцінная галерэя і збор архітэктурных мадэлей. Усяго на вывучэнне прыродазнаўчых дысцыплін на ф-це вольных навук у 2-м і 3-м класах адводзілася 20 гадзін ў тыдзень, столькі ж адводзілася на мовы. Выкладанне вялося па падручніках еўрап. ун-таў, а таксама па ўласных, якія выдаваліся ў акадэмічнай *Полацкай друкарні.* У старшых класах выкарыстоўвалася семінарская форма навучання, справаздачы аб семінарах змяшчаліся ў друкаваным органе акадэміі — час. «Месенчнік полацкі». Нягледзячы на шырокую і глыбока прадуманую вучэбную праграму, акадэмія не адпавядала тагачаснаму навук. ўзроўню з-за моцнага клерыкальнага ўплыву. Вучоныя Віленскага ун-та, якія падзялялі ідэі Асветніцтва, крытыкавалі акадэмію як «гняздо абскурантызму». Тым не менш сярод выпускнікоў акадэміі быў шэраг выдатных дзеячаў навукі і культуры: пісьменнік Я.Баршчэўскі, мастак В.Ваньковіч, філосаф А.Доўгірд, астраном Я.Накцыяновіч і інш. 13.3.1820 акадэмія закрыта ў сувязі са скасаваннем ордэна езуітаў у Рас. імперыі. Частка студэнтаў была пераведзена ў Пецярбургскі ун-т. Б-ка, друкарня і інш. маёмасць былі перададзены навуч. установам Полацка, Віцебска, Пецярбурга. У будынках акадэміі размясцілася Полацкае вышэйшае піярскае вучылішча. Рэктарамі акадэміі былі: А.Люстыг (1812—14), А.Ляндэс (1814—17), Р.Бжазоўскі (1817—20).

*В.Ф.Шалькевіч.*

ПО́ЛАЦКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ — старэйшая хрысціянская епархія на Беларусі. Засн. ў 992 як адм.-тэр. адзінка *Кіеўскай мітрапаліі*, цэнтр — г. Полацк. Адыграла важную ролю ў хрысціянізацыі Падзвіння і пашырэнні тут больш высокай візант. культуры. Кафедральным храмам епархіі стаў *Полацкі Сафійскі сабор*. У 13 —пач. 14 ст. з'яўлялася гал. правасл. епархіяй у ВКЛ, ахоплівала тэр. Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі, у тым ліку Навагрудак, Мінск, Слуцк, Оршу, і некаторых суседніх зямель, напр. Цвярскога княства. Са стварэннем мітрапаліцкай кафедры ў Навагрудку (1316) роля Полацкай епархіі паменшала, аднак у 1511 яна атрымала статус ар-

створаны экзархат Заходніх Беларусі і Украіны Маскоўскага патрыярхата на чале з архіепіскапам *Панцеляймонам*. Ва ўмовах акупацыі ў Вял. Айч. вайну зноў абвешчана, але кананічна не афармлена БАПЦ, арганізаваны яе епархіяльныя структуры. У 1950-я г. епіскапы на новаўтвораныя кафедры не сталі прызначацца, таму адзінай епархіяй у БССР доўгі час заставалася Мінская. Царк. жыццё ў СССР актывізавалася ў канцы 1980-х г. напярэдадні святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі. У 1989 створаны Бел. экзархат Маскоўскага патрыярхата (Бел. правасл. царква) на чале з мінскім мітрапалітам *Філарэтам*. Дзейнічаюць 10 епархій: *Брэсцкая праваслаўная епархія*, Віцебская, *Гомельская праваслаўная епархія*, Гродзенская, Магілёўская, Мінская, *Навагрудская праваслаўная епархія*, Пінская, Полацкая, Тураўская. У 1999 на Беларусі 1071 прыход, 962 святары, 14 манастыроў (5 мужчынскіх і 9 жаночых), 14 брацтваў, 31 сястрынства, Мінская духоўная семінарыя (адноўлена з 1989), *Мінская духоўная акадэмія* (з 1995), багаслоўскі ф-т Еўрап. гуманітарнага ун-та, духоўнае вучылішча. Выдаюцца 4 часопісы, у т.л. *«Веснік Беларускага экзархата»* і *«Праваслаўе»*, 10 газет, царк. календары і інш. рэліг. л-ра.

*Літ.:* Макарий (Булгаков). История русской церкви. Кн. 2. М., 1995; Игумен Никон (Лысенко). Православная церковь Литвы и малой Руси и религиозная политика князей Литовских в XIV — нач. XV вв. // Тэз. навук. канф., прысв. 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі. Мн., 1992; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994; Грыгаровіч І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн. 1998.

*В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава.*

ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЭНЦЫКЛАПЕ́ДЫЯ, сучаснае навуковае энцыклапедычнае выданне, прысвечанае сусветнаму праваслаўю — яго гісторыі, тэалогіі, філасофіі, культуры, этыцы, арганізац. структурам і інш.; асвятляе таксама і некат. інш. рэлігіі і вучэнні з пункту гледжання правасл. царквы. Выдаецца ў Маскве царк.-навук. цэнтрам «Праваслаўная Энцыклапедыя» пад агульнай рэдакцыяй патрыярха маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II. У назіральны савет П.э. ўваходзяць вышэйшыя іерархі Маскоўскага патрыярхата (у т.л. мітрапаліт мінскі і слуцкі Філарэт), прадстаўнікі вышэйшых дзярж. органаў Расійскай Федэрацыі. Членамі царк.-навук. савета з'яўляюцца буйнейшыя царк. і свецкія гісторыкі, філосафы, тэолагі, мастацтвазнаўцы, вучоныя інш. галін ведаў з Расіі, краін СНД і далёкага замежжа. Выданне пачалося з 2000, плануецца выхад 24 тамоў.

«ПРАВАСЛА́ЎНЫ БЕЛАРУ́С» — часопіс, які выдаваўся ў лютым — снежні 1925 у Варшаве на бел. мове па ініцыятыве Беларускага пасольскага клуба. Рэдактар Я.Пачопка, маст. афармленне Я.Драздовіча. Асн. змест складалі матэрыялы з гісторыі, царк., грамадскага і культурнага жыцця Зах. Беларусі, літ. творы. Выступаў за ўзвядзенне бел. мовы ў навуч. установах. Меў рубрыкі «Што чуваць у свеце», «Беларускае жыццё», «З народнай творчасці», «Сельскагаспадарчыя парады», «З гісторыі археалогіі» і інш. Змясціў артыкулы, прысвечаныя *Ф.Скарыне, Сімяону Полацкаму*, Я.Купалу (з нагоды 20-годдзя літ. дзейнасці), шмат артыкулаў па гісторыі стараж. Полаччыны І.Палачаніна, даследаванне «Месца беларускай мовы сярод моў свету і славянскіх увасобку» І.Савіцкага, пра народныя земляробчыя святы М.Яцкевіч. Друкаваў вершы Г.Леўчыка, П.Прадухі, С.Свістуна, апавяданні З.Бядулі, Пачопкі, М.Запольскага і інш. Выйшлі 22 нумары.

*А.С.Ліс.*

ПРАВАСЛА́ЎНЫЯ ЖАНО́ЧЫЯ ВУЧЫ́ЛІШЧЫ, жаночыя вучылішчы праваслаўнага духоўнага ведамства, навучальныя ўстановы ў Расійскай імперыі, якія падпарадкоўваліся Свяцейшаму Сіноду. Падзяляліся на 2 катэгорыі: *епархіяльныя вучылішчы* і жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства. У 1912 у бел.-літоўскіх губернях налічвалася 5 жаночых вучылішчаў духоўнага ведамства (Мінскае, Полацкае, Парыцкае, Магілёўскае, Віленскае) і 2 епархіяльныя вучылішчы (Спаса-Ефрасіньеўскае у Полацку і Віленска-Марыінскае ў Вільні). Жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства — навуч. установы, якія знаходзіліся пад апекай імператрыц і ўтрымліваліся на сродкі духоўна-вучэбнага капіталу пры дапамозе мясцовых епархіяльных сродкаў. Выхоўвалі і давалі адукацыю дзяўчатам у духу правасл. царквы, каб яны сталі дастойнымі жонкамі правасл. святарнаслужыцеляў, добрымі маці і гаспадынямі. Да 1874 мелі назву «жаночыя вучылішчы для дзяўчат духоўнага звання». Ствараліся з 1843, на сучаснай тэр. Беларусі з 1863 (Магілёўскае). Спачатку былі 3-класнымі (па 2 гады ў кожным класе), з 1870-х да 1910-х г. паступова пераведзены на 6-класны курс навучання (1 год у кожным класе) па праграме епархіяльных вучылішчаў. Паводле статута 1901 у жаночых вучылішчах выкладаліся: Закон Божы, царк. спевы, рус. і царк.-слав. мовы з тэорыяй славеснасці і гісторыяй літаратуры, рус. і ўсеагульная грамадзянская гісторыя, арыфметыка, геаграфія, геаметрыя, дыдактыка з практычнымі заняткамі ў школе, фізіка, неабходныя звесткі па прыродазнаўстве і гігіене, чыстапісанне і рукадзелле. Выпускніцы мелі права на званне хатніх настаўніц. Паводле спец. «Палажэння аб сёмым дадатковым педагагічным класе пры Епархіяльных жаночых вучылішчах ад 1907 былі адкрыты 7-я класы ў Парыцкім, Полацкім, Магілёўскім і Мінскім жаночым вучылішчах. У 1910 у Парыцкім вучылішчы адкрыты 8 клас, які даваў выпускніцам права паступаць у Пецярбургскі пед. інстытут. Пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 П.ж.в. скасаваны.

*С.М.Васовіч.*

ПРАВАСЛА́ЎНЫЯ ДУХО́ЎНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ, духоўныя мужчынскія вучылішчы духоўнага ведамства, духоўныя навучальныя ўстановы, якія давалі пачатковую адукацыю і рыхтавалі дзяцей для служэння правасл. царкве. Да пач. 19 ст. функцыі вучылішчаў выконвалі семінарыі, якія сумяшчалі курс ніжэйшай і сярэдняй духоўнай школы. На Беларусі існавалі ў канцы 18 — пач. 19 ст. наступныя вучылішчы: Невельскае (1780, да 1804 — гімназія), Гомельскае (1781), Бабалуцкае (1808). Выкладаліся: катэхізіс, арыфметыка, чытанне і пісьмо рускае і царк.-славянскае, лацінская і польская мовы. У пач. 19 ст. духоўныя вучылішчы падзелены на павятовыя (для падрыхтоўкі і паступлення вучняў у духоўную семінарыю) і прыходскія (для падрыхтоўкі да павятовага вучылішча). У 1810 на гэтай аснове ў бел. губернях усталяваны 5 павятовых вучылішчаў (Аршанскае, Віцебскае, Гомельскае, Магілёўскае, Мсціслаўскае) і 15 прыходскіх (Бабалуцкае, Быхаўскае, Гомельскае, Дубровіцкае, Копыскае, Клімавіцкае, Любавіцкае, Магілёўскае, Мсціслаўскае, Невельскае, Себежскае, Уцеўскае, Чавускае, Чачэрскае, Чэрыкаўскае). Пасля некат. змяненняў іх статуты ў 1814 зацверджаны імператарам Аляксандрам I. Прыходскія вучылішчы мелі 2 класы з гадавым тэрмінам навучання ў кожным. Павятовае вучылішча мела 2 аддзяленні (па 2 гады ў кожным). Прыходскія вучылішчы падпарадкоўваліся павятовым, павятовыя — семінарыям. У 1830—40-я г. адкрываліся і закрываліся новыя вучылішчы; пасля скасавання ў 1839 *Брэсцкай уніі 1596* б. уніяцкія вучылішчы былі пераўтвораны ў правасл., частка з іх закрыта. У пач. 1850-х г. адбылася рэформа духоўных вучылішчаў, пасля якой працягвалі дзейнічаць толькі павятовыя вучылішчы. Яны мелі 3 аддзяленні: ніжэйшае, сярэдняе, вышэйшае з двухгадавым курсам навучання ў кожным. Асаблівасцю Беларусі была наяўнасць спец. духоўных вучылішчаў, якія рыхтавалі дзячкоў пры Літоўскай (з 1834) і Полацкай (з 1838) семінарыях. У пач. 1850-х г. гэтыя вучылішчы былі пераўтвораны ў класы па падрыхтоўцы псаломшчыкаў (праіснавалі да 1869). Паводле новага статута духоўных вучылішчаў 1867 замест 6-гадовага курсу навучання быў уведзены 4-гадовы, адбыліся змены ў вучэбнай праграме. Да сярэдзіны 1870-х г. паводле новага статута былі пераўтвораны ўсе духоўныя вучылішчы. Некаторыя з іх былі скасаваны. У Полацкай епархіі засталіся дзейнічаць 2 вучылішчы: Полацкае і Віцебскае, у Магілёўскай — 4: Аршанскае, Гомельскае, Магілёўскае, Мсціслаўскае, у Мінскай — 3: Мінскае, Пінскае і Слуцкае, у Літоўскай — 2: Віленскае і Жыровіцкае. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 у выніку рэарганізацыі сістэмы асветы правасл. духоўныя вучылішчы былі скасаваны.

*С.М.Васпіч.*

ПРА́ВЕДНІК у праваслаўі — святы, які праславіўся сваімі «подзвігамі і святасцю жыцця» у звычайных умовах, а не ў манастыры (святыя з манаскага асяроддзя называюцца прападобнымі).

ПРАВІ́НЦЫЯ О́РДЭНА — у каталіцкай царкве адм.-тэр. адзінка *ордэнаў манаскіх*, якая аб'ядноўвае некалькі *кляштараў*. Узначальвае П.о. правінцыял, які выбіраецца ці назначаецца на пэўны тэрмін. Калегіяльным органам улады з'яўляецца правінцыяльны *капітул*. Падзел ордэнаў на правінцыі ўведзены каля 13 ст. П.о. атрымлівалі назву ад імя святога-заступніка, назвы свецкай або царк. адм.-тэр. адзінкі, пэўнай гіст. вобласці ці дзярж. ўтварэння. Ордэн *францысканцаў* падзяліўся на правінцыі ў 1217, ордэн *дамініканцаў* — у 1220. Ордэны з вялікай колькасцю кляштараў на тэр. Беларусі стваралі тут асобныя П.о., напр., Літоўская правінцыя Анёла Ахоўніка ў дамініканцаў, Літоўская правінцыя ў *бернардзінцаў*. Ордэны, якія мелі на Беларусі толькі адзінкавыя кляштары, уключалі іх у свае замежныя правінцыі, напр., *Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў* уваходзіў у Рэйнскую правінцыю гэтага ордэна. У Рэспубліцы Беларусь асобных П.о. не існуе. *І.Г.Ганчарук.*

ПРАВІ́НЦЫЯ ЦАРКО́ЎНАЯ — у каталіцкай царкве адм.-тэр. адзінка, якая аб'ядноўвае шэраг суседніх *дыяцэзій* і ўзначальваецца *мітрапалітам*. Пры мітрапаліце ствараецца правінцыяльны сінод. П.ц. з'явіліся ў першыя стагоддзі н.э. ва ўмовах адм.-тэр. падзелу Рымскай імперыі на дыяцэзіі і правінцыі, калі духоўная ўлада стала тэрытарыяльна адпавядаць свецкай. Функцыі і правы П.ц. вызначаюцца кодэксам *кананічнага права*. Ліквідацыя П.ц., заснаванне новых і змена іх межаў не могуць адбывацца без згоды апостальскай сталіцы. Колькасць дыяцэзій у складзе П.ц. не абумоўлена, але кожная дыяцэзія павінна ўваходзіць у пэўную П.ц. Некалькі П.ц. могуць аб'ядноўвацца ў царк. рэгіёны. У 1920—30-я г. ў Польшчы было 5 П.ц.: Гнезненская і Пазнанская, Варшаўская, Кракаўская, Львоўская, Віленская. Апошняя ўключала Віленскую, Пінскую, Ломжынскую дыяцэзіі і т.ч. ахоплівала тэр. ўсёй Заходняй Беларусі. У Рэспубліцы Беларусь існуе адна П.ц. — Мінска-Магілёўская, у якую ўваходзяць Гродзенская і Пінская дыяцэзіі, Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Гродзенская дыяцэзія ахоплівае Гродзенскую вобл., Пінская — Брэсцкую і Гомельскую, Мінска-Магілёўская — Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую. *І.Г.Ганчарук.*

ПРАДВЫЗНАЧЭ́ННЕ, наканаванне, промысел Божы (ад лац. provideo, прадбачу, прадугледжваю) — паводле рэлігійных вучэнняў, наперад устаноўленыя этапы здзяйснення сусветных падзей і развіцця лёсаў індывідаў, супольнасцей, народаў, чалавецтва. Ідэя П. лічыцца універсальным выяўленнем і прызнаннем усемагутнасці Бога і бяссілля чалавека. Іудзеяхрысціянская дактрына П., якая мела на ўвазе звышнатуральнасць стваральніка і прадвесніка, была накіравана супраць ант. ідэй безаблічнага лёсу і касмічнай неабходнасці. Першай сістэматызаванай канцэпцыяй П. быў правідэнцыялізм *Аўгусціна*. Ён уключаў вучэнне пра дар божы, або П. да выратавання выбраных, і тэлеалагічную канцэпцыю гісторыі, якая ўяўлялася ажыццяўленнем недасягальнага чалавечаму разуменню боскага плана і павінна завяршыцца канцом свету і ўсталяваннем божага царства. Альтэрнатывай жорсткаму П. было дапушчэнне свабоды волі, якая часткова азначала пэўную самадзейнасць чалавека ў пытаннях выратавання і сацыяльнай творчасці (пелагіянства) і ў большай меры — здольнасць да граху і магчымасць збавення пры пасрэдніцтве царквы (каталіцызм, праваслаўе). Пратэстантызм ажывіў і развіў ідэі аўгусціянства. Лютэранства прыняло больш мяккія прынцыпы П., што тлумачыцца некаторымі ўступкамі каталіцызму і адбілася ў Аўгсбургскай споведзі (яшчэ ў большай ступені гэта адносіцца да англіканства). Кальвінізм у трактоўцы дару божага прапаведваў ідэю жорстка ўстаноўленага П. яшчэ да нараджэння індывіда, а ў разуменні свецкай гісторыі — прынцыпы *эсхаталогіі* і фаталізму. У трактоўцы гісторыі для большасці сучасных пратэстанцкіх плыняў характэрна разуменне яе як барацьба дабра і зла, канчатковы вынік якой прадвызначаны на карысць сіл дабра.

ПРАРО́КІ (празорліўцы, прадвеснікі) — у іудаізме, хрысціянстве і ісламе асобы, якія быццам бы надзелены дарам успрымання Божага паслання і здольнасцю паведамляць яго людзям. Лічылася, што яны пасрэднікі паміж Богам і людзьмі і могуць выступаць празорліўцамі і прадказальнікамі ад імя Бога будучых падзей (засух, голаду і да т.п.) рэліг. або гіст. характару, а таксама індывідуальнага лёсу. На Стараж. Усходзе была значная колькасць П., яны адыгрывалі важную ролю ў жыцці народаў. Так, у іудаізме вядомы П. старажытныя, або раннія (сярод іх Майсей), і познія — аўтары пісьмовых твораў (Ісаія і інш.). Вядомымі біблейскімі П. былі Ілія і яго вучань Елісей (9 ст. да н.э.), Амас, Осія, Міха (8 ст. да н.э.), Ірамія, Сафонія, Авакум (7 ст. да н.э.) і інш. Запісаныя пропаведзі некаторых з П. увайшлі ў *Стары запавет*. П. зрабілі вял. ўплыў на рэліг.-паліт. мысленне. Да іх ідэй звярталіся хрысц. ератычныя рухі сярэдневякоўя, ідэолагі сялянскіх войнаў і інш. нар. рухаў, сацыялісты-утапісты.

*Літ.:* Рижский М.И. Библейские пророки и библейские пророчества. М., 1987.

ПРАРО́ЦТВА рэлігійнае — прадказанне, прадбачанне будучага, якое робіцца прадказальнікамі нібыта па волі багоў, шляхамі ўзаемасувязі са звышпрыроднымі сіламі. У пратэстантызме найбольш характэрна для *пяцідзесятнікаў*. Чалавек, які моліцца, у стане эйфарыі, экзальтацыі, трансе і інш. аналагічных перажыванняў пад уражаннем якіх-н. уяўленняў (галюцынацыі) пачынае выкрыкваць асобныя словы, адрывістыя сказы, якія і расцэньваюцца прысутнымі ў якасці праяўлення божай волі. Потым яны «тлумачацца» спецыяльнымі людзьмі — «тлумачальнікамі», радзей — святарамі. Прароцтвы адыгрываюць выключна вялікую ролю ў рэліг. жыцці пратэстанцкіх цэркваў і сектаў, разглядаюцца кіраўнікамі і радавымі вернікамі як непасрэдныя ўказанні Бога аб тым, што іх чакае і што яны павінны рабіць у бліжэйшым будучым. Аналіз П. сведчыць, што ў іх звычайна дамінуюць ідэі пра канец свету, тысячагадовае царства Хрыста і вечнае жыццё. Зразумела, што розныя жахі, звязаныя з «пагібеллю гэтага свету», якія перадаюцца ад імя самаго Бога, робяць на вернікаў велізарнае ўражанне, нараджаюць у іх страх і няўпэўненасць у сваім быцці. Адсюль гарачыя малітвы і слёзы. П. ўласцівы ўсім кірункам хрысціянства, але асабліва папулярныя яны ў харызматыкаў і ў рухах рывайвелізму.

ПРАСКАМІ́ДЫЯ — першая частка хрысціянскай літургіі, у час якой святары рыхтуюць хлеб і віно для *прычашчэння* вернікаў.

ПРАСТО́Л — у праваслаўным храме стол з мошчамі, накрыты пакрывалам; гал. прыналежнасць алтара. На П. знаходзіцца антымінс (хустка з выявай палажэння ў труну Ісуса Хрыста), прастольнае Евангелле, даразахавальніца, напрастольны крыж. Каля П. адбываецца прычашчэнне, праводзяцца богаслужэнні. Прастольнае свята — дзень святога, у гонар якога пабудавана царква. Часам у адным храме бывае некалькі П., асвячоных у гонар розных святых, аднак увесь храм называецца па гал., цэнтральным П.

ПРАТАСЕ́ВІЧ (Пратасевіч-Шушкоўскі) Валяр'ян (каля 1509, маёнтак Шушкова каля в. Крайск Лагойскага р-на Мінскай вобл. — 31.12.1579) — дзяржаўны і рэлігійны (каталіцкі) дзеяч ВКЛ. З баярскага роду герба «Дравіца». У 1532—44 пісар вялікакняжацкай канцылярыі, з 1533 адначасова плябан (пробашч) у Крожах (цяпер



Да арт. **Прачыстая**. Успенне. 1-я чвэрць 15 ст. Беларуская іканапісная школа.



Да арт. **Прачыстая**. Успенне. 1650. Беларуская іканапісная школа.

Кражай, Літва), *канонік* у Жмудскім, потым у Віленскім *біскупстве*. З 1544 пісар ВКЛ і сакратар вялікага кн. Жыгімонта II Аўгуста. Удзельнік шэрагу сеймаў ВКЛ, займаўся дыпламатычнымі справамі. У 1549 прызначаны біскупам луцкім (пасвячоны ў 1554). З 1555 біскуп віленскі (афіц. з 1556). Супрацьстаяў націску Рэфармацыі ў час яе найб. ўздыму, аднак у барацьбе з пратэстантамі не выкарыстоўваў гвалтоўных сродкаў. Паставіў свой подпіс пад Віленскім прывілеем 1563 Жыгімонта II Аўгуста аб роўных правах каталіцкай і некаталіцкай шляхты. Быў прыхільнікам аб'яднання ВКЛ з Польшчай на прынцыпах федэрацыі, а не інкарпарацыі. Люблінскую унію 1569 аб аб'яднанні ВКЛ і Польшчы ад імя П. падпісаў яго прадстаўнік А.Р.Мялескі. Адзін з гал. ініцыятараў адкрыцця ў 1570 Віленскага езуіцкага калегіума (пазней Віленская акадэмія, Віленскі ун-т). У 1570-я г. пераканаў перайсці ў каталіцтва сваіх б. апанентаў кн. Радзівілаў. Сын Мікалая Радзівіла Чорнага Юрый (Ежы) стаў у 1574 яго каад'ютатарам (памочнікам-намеснікам). Рабіў ахвяраванні на будаўніцтва касцёлаў і каталіцкіх навуч. устаноў.

ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ (ад лац. protestans абвяшчаю) — адзін з асн. кірункаў (разам з *каталіцызмам* і *праваслаўем*) у хрысціянстве. Узнік у выніку Рэфармацыі каталіцкай царквы. Першапачаткова звязваўся з вучэннем М.*Лютэра*, пазней Ж.*Кальвіна*, *Цвінглі* і інш. рэфармацыйных плыней. Да сярэдзіны 16 ст. распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе, у 17 ст. пашырыўся і па-за яе межамі. У выніку ўзніклі і арганізацыйна афарміліся пратэстанцкія цэрквы: лютэранская, кальвіністцкая, англіканская, ад якіх утварыўся шэраг рэліг. груповак і аб'яднанняў. Для П. характэрна адсутнасць супрацьпастаўлення духавенства недухоўным людзям, адмова ад складанай царк. іерархіі, спрошчаны культ, адсутнасць манаства і бясшлюбнасці духавенства. У П. няма культу Багародзіцы, святых, анёлаў, абразоў, таінствы зведзены да хрышчэння і прычашчэння. Пратэстанты адмаўляюць аўтарытэт папскіх дэкрэтаў і пасланняў, рашэнні сабораў, прызнаюць толькі Біблію, для разумення якой непатрэбны пасрэднікі і традыцыі, а патрэбна толькі вера ва ўсё тое, што ў ёй напісана. Адказнасць чалавека за сваё выратаванне залежыць ад яго асабістай веры, ніякая пасрэдніцкая арг-цыя для гэтага непатрэбна, у т.л. і царква як сац. інстытут. Існуюць разнавіднасці арганізац. форм П.: *баптысты*, *метадысты*, *адвентысты*, *пяцідзесятнікі*, *сведкі Іеговы* (больш за 400 млн. у свеце).

На Беларусі пратэстанцкія погляды пачалі распаўсюджвацца з сярэдзіны 16 ст., што спрыяла эвалюцыі грамадскага ладу, фарміраванню шляхецкай дэмакратыі, развіццю рэнесансава-гуманіст. і рацыяналістычных тэндэнцый у духоўным жыцці, станаўленню новых форм культуры, пашырэнню міжнар. культ. сувязей. Рэфармацыю падтрымлівалі Радзівілы, Тышкевічы, Сапегі, Кішкі, адукаваная частка грамадства і інш. П. пашырыўся ў выглядзе *кальвінізму*, *лютэранства*, *арыянства* і інш., у 19—20 ст. з'явіліся баптысты, евангельскія хрысціяне, пяцідзесятнікі, сведкі Іеговы і інш.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970. *С.М.Зень.*

ПРАЧЫ́СТАЯ, Успенне Багародзіцы — летняе свята нар. календара, якое адзначалася 15 жніўня с. ст. Правасл. царква прымеркавала гэты дзень да Успення Багародзіцы, аднаго з *дванадзесятых свят*. Наз. таксама «ўспленне»,

«спажа», «зельная». Назва «ўспленне» і «спажа» ў народзе тлумачыліся тым, што ў садах спелі плады, а на палетках — збажына. У гэты дзень у царкве асвячалі зерне, зеляніну. Асвечанае жыта перамешвалі з насеннем, каб на наступны год прычакаць добрага ўраджаю. У фальклоры беларусаў П. згадваецца ў сувязі з падвядзеннем вынікаў працы селяніна: «Прачыста снапкі падае», «Свята Прачыста — у полі ўрачыста», «Спажа — хлеба дзяжа». Сеялі азімыя, пра што прыгадвала прыказка «Успенне — ці гатова насенне?» П. звычайна называлі першай або вялікай у адрозненне ад *багача* — другой (меншай) П., прымеркаванай да Раства Багародзіцы, якое адзначалася 21 жніўня с. ст.

ПРАЧЫ́СТАЯ другая, Раство Багародзіцы — старажытнае земляробчае свята, якое спраўлялі пасля заканчэння ўборкі ўраджаю. Царква прымеркавала яго да Раства Багародзіцы, якая лічылася заступніцай ураджаю. Адзначаецца 21 жніўня (8 вер. с.ст.). Адно з *дванадзесятых свят* праваслаўя.

ПРО́БАШЧ (ад лац. praepositus начальнік, загадчык), парох, плябан — у каталіцкай царкве *ксёндз* — кіраўнік *парафіі*, настаяцель парафіяльнага касцёла. Да 19 ст. тытул П. мелі толькі нешматлікія кіраўнікі парафій, у прыватнасці некаторыя члены *капітула*, астатнія называліся плябанамі. Напр., у 1-й трэці 19 ст. з 14 парафій Гродзенскага дэканата толькі 2 узначальваліся П. (Гродзенкая Фарная і Вялікабераставаіцкая), астатнія — плябанамі. *І.Г.Ганчарук.*

ПРО́СВІРА (грэч. прынашэнне) — у праваслаўных цэрквах — невялічкая круглая булачка, выпечаная з пшанічнага цеста. На яе верхняй скарынцы выціснута выява чатырохканцовага крыжа і літары ІС, ХС, NІ, КА («Ісус Хрыстос перамагае»). Выкарыстоўваецца для *прычашчэння*. Назва паходзіць ад звычаю, прынятага ў першыя стагоддзі існавання хрысціянства, прыносіць у храм хлеб і віно для *еўхарыстыі* і на «вячэры любві», якія адбываліся пасля набажэнства. У каталіцкіх і лютэранскіх цэрквах для гэтых мэт выкарыстоўваюцца *гоcціі* — маленькія з пшанічнай мукі з выявай крыжа або ягняці.

ПРОТАДЫЯ́КАН — галоўны *дыякан* у *епархіі*, звычайна пра кафедральным саборы. Званне П. можа прысвойвацца і ў якасці царк. узнагароды.

ПРОТАІЕРЭ́Й (ад грэч. protos першы + hieréus жрэц) — духоўная асоба сярэдняй (другой) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі. Выконвае абавязкі старшага святара (настаяцеля) храма. Уваходзіць у склад белага духавенства. Да пач. 19 ст. П. называлі протапопам.

ПРОТАПРЭСВІ́ТЭР — вышэйшае званне белага духавенства ў праваслаўнай царкве. Прысвойваецца ў якасці царк. узнагароды за асаблівыя заслугі перад царквой. У Рус. правасл. царкве да 1917 П. ўзначальвалі прыдворнае, ваеннае і марское духавенствы. У апошні час званне П. прысвойваецца настаяцелям кафедральных сабораў і гарадскіх цэркваў.

ПРО́ШЧА — месца (крыніца, возера, камень, узгорак і г.д.), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, надзвычайнымі звышнатуральнымі сіламі і ўласцівасцямі. П. называецца таксама маленне аб дараванні грахоў ў якім-небудзь «святым» ці «цудадзейным» месцы. Вера ў П. генетычна звязана з культам прыроды. Пазней у П. ператварыліся некаторыя язычніцкія свяцілішчы. П. пакланяліся, іх наведвалі, каб пазбавіцца ад хвароб, прыносілі ахвяраванні (палатно, ручнікі, кветкі, ежу і інш.). Значная частка П. была прызнана хрысц. духавенствам і знаходзілася пад яго апекай. Каля такіх П. нярэдка будавалі капліцы, цэрквы, касцёлы, у дні рэліг свят. праводзілі хрэсныя хады і богаслужэнні. Часта П. лічыліся камяні-следавікі, некаторыя камяні з надпісамі, крыніцы і калодзежы, вада з якіх нібыта вылечвала ад пэўных хвароб, азёры (напр., Свіцязь, а таксама з пашыранай назвай «Святое»), некаторыя культавыя ўзгоркі, дрэвы. Найб. вядомымі П. былі Сіняя крыніца каля Слаўгарада, Святая горка каля Смілавіч, Мар'іна горка ў Пухавіцкім р-не, нагрувашчванне вялізных камянёў на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на, камяні-следавікі пад Навагрудкам, каля в. Мэйры Лідскага р-на, на Траецкай гары ў Мінску, на дарозе са Слуцка ў в. Грозава і інш. Бел. этнографамі зафіксавана некалькі выпадкаў узнікнення П. і пакланення ім у 19—20 ст. *Э.М.Зайкоўскі.*

ПРЫЁР (ад лац. prior першы, найважнейшы) — ігумен невялікага каталіцкага мужчынскага кляштара; вялікі П. — службовая асоба ў духоўна-рыцарскіх ордэнах, рангам ніжэй за вялікага магістра.

ПРЫ́МАС (ад лац. primus) — у рымска-каталіцкай царкве тытул арцыбіскупа мітрапаліта, які валодае ганаровым (часам і юрыдычным) першынством над астатнімі біскупамі (гл. *Епіскап*) і *мітрапалітамі* пэўнай краіны. У царк. іерархіі займае 2-ю ступень пасля *патрыярха*. Тытул П. ўтварыўся гістарычна ў выніку надзялення біскупа пэўнай дыяцэзіі (епархіі) папскімі правамі першынства ў адносінах да інш. біскупаў краіны. Першапачаткова тытул П. выкарыстоўваўся таксама апостальскімі *вікарыямі* (духоўнымі пастырамі тэрыторый, якія не мелі статуса *дыяцэзій*). У Рэчы Паспалітай тытул П. меў арцыбіскуп мітрапаліт Гнезна, які прадстаўляў увесь касцёл дзяржавы і

ўзначальваў *правінцыю царкоўную*, у склад якой уваходзіла Віленскае біскупства. Акрамя духоўных прэрагатыў замяшчаў *нунцыя* ў час яго адсутнасці, склікаў агульнакраявыя сіноды, прымаў апеляцыі на біскупскія пастановы і інш. Тытул П. ў Рэчы Паспалітай меў паліт. значэнне. Ён выконваў абавязкі кіраўніка дзяржавы ў перыяд бескаралеўя, склікаў элекцыйныя сеймы, меў першае пасля караля месца ў Сенаце і інш. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі Гнезна адышло ад Прусіі, папа надаў тытул П. варшаўскаму арцыбіскупу (1818). У 1946 гнезненскае і варшаўскае прымасоўствы аб'яднаны ў варшаўска-гнезненскае. У Рэспубліцы Беларусь рымска-каталіцкая царква мае свайго арцыбіскупа-мітрапаліта і юрысдыкцыі П. ў Польшчы не падлягае. *І.Г.Ганчарук.*



Да арт. **Прачыстая** другая. Нараджэнне Маці Божай. 1648—50. Беларуская іканапісная школа.

ПРЫ́ТЧА — павучальна-алегарычны жанр сімвалічнага зместу, які не мае адасобленага бытавання і ўзнікае ў пэўным кантэксце. У адрозненне ад байкі ці навелы ў П. можа быць толькі фабула ці разгорнутае параўнанне, а развіты сюжэт адсутнічае. У сучаснай маст. творчасці П. — жанравая мадыфікацыя, дыдактычны архетып (напр., апавяданне-П., аповесць-П., раман-П., фільм-П. і інш.). П. ўзнімае спосабы існавання сваіх герояў, што выступаюць суб'ектамі этычнага выбару, да універсалій чалавечага быцця; стварае ўнутрана адзіную, замкнутую, пазачасавую, тэлеалагічную карціну свету, у якой пануе заканамернасць лёсу. Аўтары маст. твораў звяртаюцца да П. ў пошуках этычных першаасноў чалавечага існавання.

П. — універсальная з'ява маст. творчасці. Шырока прадстаўлена ў сусв. літаратуры і фальклоры самастойна і ў тлумачэнні з інш. жанрамі стараж., сярэдневяковай і новай літаратуры. Найстараж. П. сабраны ў кнігах Старога запавету. У раннехрысц. літаратуры (кананічныя евангеллі, творы царк. дзеячаў) П. выкарыстоўвалася ў павучаннях, пропаведзях і разглядалася як агульназразумелая форма папулярызацыі ведаў і хрысц. догматаў. З 12 ст. вядомы П. *Кірылы Тураўскага*. П. ўвайшлі ў пераклады зб. «Пчала» (13 ст.), «Ізмарагд» (14 ст.). Шмат П. змешчана ў перакладных зборніках «Вялікае зярцала», «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа», «Рымскія дзянні». *Ф.Скарына* адзін з першых звярнуў на глыбокі сімвалічны сэнс П. і яе ролю ў папулярызацыі маральна-філасофскіх ведаў. *Сімяон Полацкі* на сюжэт папулярнай П. напісаў «Камедыю прытчы пра блуднага сына». З канца 19 ст. эканомнасць, змястоўнасць, этычны дыдактызм П. з'яўляецца ўзорам для творчасці шэрагу пісьменнікаў (Ж.П.Сартра, А.Камю, Б.Брэхта, У.Фолкнера і інш.). У 20 ст. П. паўплывала на творчасць пісьменнікаў (Ф.Кафкі, М.Булгакава, Ч.Айтматава і інш.), кінарэжысёраў (М.Антаніёні, А.Д.Іаселіяні, А.Таркоўскага, Ф.Феліні і інш.).

Сімволіка і маст. структура П. зрабілі ўплыў на многія жанры бел. фальклору (чарадзейныя казкі, казкі пра жывёл, балады), літаратуры («нашаніўская» паэзія і проза, навелы Я.Коласа, апавяданні М.Багдановіча, аповесці В.Быкава і інш.). У маст. творы П. можа арганічна ўплятацца ў тканіну ўсяго аповеду (позніх творы Л.Талстога, «Казкі жыцця» Я.Коласа), можа быць «апавяданнем у апавяданні» («Легенда пра Вялікага інквізітара» Ф.Дастаеўскага, «Апавяданне пра гусара-схімніка» І.Ільфа і Я.Пятрова). *У.М.Конан, С.Ю.Лебедзеў.*

ПРЫХО́Д, ніжэйшая царк.-адм. адзінка ў праваслаўнай і некаторых інш. хрысціянскіх цэрквах: абшчына вернікаў (з кліру і свецкіх асоб), аб'яднаных пры храме. З'яўляецца часткай *епархіі*, знаходзіцца пад кіраваннем епархіяльнага *архірэя* і ўзначальваецца святаром-*настаяцелем*. Прыходская абшчына ствараецца па добраахвотнай згодзе не менш як 20 рэгіструецца ў органах юстыцыі ва ўстаноўленым законам парадку. Органамі кіраўніцтва П. з'яўляюцца прыходскі сход і прыходскі савет.

ПРЫХО́ДСКІЯ ВУЧЫ́ЛІШЧЫ — ніжэйшыя пачатковыя навучальныя ўстановы ў межах царкоўных прыходаў у 14 — пач 20 ст. Утрымліваліся за кошт прыхаджан, памешчыкаў і царквы. На Беларусі першыя П.в. ўзніклі ў 14 ст. Доўгі час да П.в. адносілі пачатковыя школы ўсіх тыпаў. Паводле школьнага статута 1804 у П.в. прымаліся дзеці «ўсякага стану». Статут 1807 дазваляў для дзяцей дваран і рамеснікаў адкрываць двухкласныя П.в., а для сялян — толькі аднакласныя. Статут 1828 абвясціў П.в. школай для дзяцей «самых ніжніх станаў», ліквідаваў яго пераемнасць з 2-й ступенню адукацыі — павятовымі вучылішчамі. У П.в. выкладаліся Закон Божы, чытанне, пісь-

мо, лічэнне і царк. спевы. У 1864 П.в., якія адкрываліся царквой, пераўтвораны ў *царкоўнапрыходскія школы*. Захаваліся толькі тыя П.в., якія адкрывалі паводле статута 1828 у гарадах і мястэчках па лініі Міністэрства нар. адукацыі. У канцы 19 — пач. 20 ст. іх засталося каля 60. Гэта былі пераважна аднакласныя вучылішчы з 2-гадовым навучаннем; двухкласных 4-гадовых засталося 11.

ПРЫЧА́ШЧЭННЕ, е ў х а р ы с т ы — галоўны абрад, адно з 7 хрысціянскіх таінстваў. Займае цэнтр. месца ў *літургіі*. Заключаецца ў тым, што веруючыя з'ядаюць кавалачак асвячонага хлеба і выпіваюць лыжачку віна, якія сімвалізуюць «цела і кроў» Ісуса Хрыста і тым самым далучаюцца да «боскай сутнасці». Паводле хрысц. веравучэння, Ісус Хрыстос у час апошняй трапезы частаваў сваіх вучняў віном і хлебам, містычна ператвараючы іх у цела і кроў сваю, і даў ім наказ захоўваць гэты абрад у памяць аб ім. У пратэстанцкіх цэрквах П. разглядаецца як сімвалічны абрад, а не як таінства.

ПРЫЧТ, у хрысціянскіх цэрквах (звычайна ў праваслаўнай) свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі аднаго храма (*прыхода*). У П. уваходзяць *настаяцель*, *святар* (часам 2—3 і больш), *дыякан*, *панамар*, *псаломшчык* і інш.

ПРЭЛА́Т (ад лац. praelatus вышэйшы, вышэйстаячы) — у рымска-каталіцкай царкве тытул вышэйшага дыяцэзіяльнага *духавенства*. Часам у знак асаблівай павагі гэты тытул ужываецца простымі вернікамі ў дачыненні да святароў.

ПРЭСВІТЭ́Р (грэч. presbyteros старэйшына) — у раннехрысціянскай абшчыне асоба, якая кіравала яе справамі. Пасля ўзнікнення хрысціянскай царквы — святар і ўвогуле свяшчэннаслужыцель (у праваслаўі тэрмін «П.» звычайна ўжываецца як урачыстая назва святара). У *пратэстантызме* П. — адм. кіраўнік абшчыны, які, як і *пастар*, выбіраецца вернікамі са свайго асяроддзя. У прыхільнікаў кальвінізму на Беларусі П. называўся таксама с і н ь ё р а м.

ПРЭСВІТЭРЫЯ́НСТВА (ад грэч. presbyteres, старшы, старэйшы) — рэлігійная плынь, якая ўзнікла ў перыяд *Рэфармацыі* ў Шатландыі і Англіі ў 2-й пал. 16 ст., разнавіднасць *кальвінізму*. Паслядоўнікі П. адвяргалі жорсткую царк. цэнтралізацыю і епіскапат, змагаліся супраць каталіцызму, які карыстаўся ў Шатландыі ў часы праўлення Марыі Сцюарт дзярж. падтрымкай, і супраць англіканства з-за яго кампрамісу з каталіцтвам. Не падзялялі яны і радыкалізм кангрэгацыяналістаў-індэпендэнтаў, а складалі памяркоўнае крыло *пурытанізму*. На першым этапе Англійскай рэвалюцыі (1640—48), калі валодалі большасцю ў парламенце і былі фактычна правячай партыяй, прэсвітэрыяне імкнуліся захаваць манархію і зрабіць П. дзярж. рэлігіяй. У сувязі з гэтым яны выступалі за прызнанне Вестмінсцэрскай споведзі, распрацаванай імі, — сімвала веры ўсіх англійскіх пратэстантаў. Яны былі паслядоўнікамі дактрыны невыкаранёнай грахоўнасці чалавека, таму яго выратаванне выступала як нічым не заслужаная і прадвызначаная боская ласка. Лічылі, што абмежаванасць чалавека праяўляецца і ў яго няздольнасці спасцігнуць бога праз стварэнне, г.зн. рэальны свет, таму выключнае значэнне ў іх вучэнні набывае боская ласка, якая выяўляецца праз Ісуса Хрыста і Свяшчэннае пісанне. Сваёй дактрынай і арганізац. прынцыпамі П. блізкае да рэфарматарства. Культ і абраднасць П. гранічна простыя. Каталіцкае і англійскае прэлацтва заменена сістэмай прэсвітэрства з рэзка паслабленымі адм. функцыямі і цэнтралізацыяй. У кангрэгацыях дзейнічае царк. дэмакратыя, якая выяўляецца ў выбранасці прэсвітэраў і прапаведнікаў, якія складаюць кансісторыю абшчыны. На больш высокім узроўні (ад акругі да дэнамінацыі) дактрынальныя і эклезіястычныя пытанні разглядаюцца прэсвітэрыямі, сінодамі і асамблеямі. Апрача Вялікабрытаніі прэсвітэрыянскія цэрквы існуюць у кантынентальнай Еўропе і гал. чынам у былых англійскіх калоніях, найперш у ЗША. Найб. уплывовыя прэсвітэрыянскія цэрквы: у Шатландыі (з 1592 з'яўляецца дзярж.), у Англіі, Паўночнай Ірландыі, ЗША, аб'яднаная прэсвітэрыянская царква Паўн. Амерыкі. Многія прэсвітэрыянскія цэрквы ўваходзяць у Сусв. альянс рэфармацкіх цэркваў.

ПРЭФЕ́КТ (лац. praefectus начальнік) у к а т а л і ц к а й ц а р к в е — 1) *ксёндз*, які выкладае кананічнае права. 2) *Кардынал*, які ўзначальвае кангрэгацыю рымскай курыі. 3) *Прэлат*, які выконвае функцыі ардынатара на акрэсленай тэрыторыі, што не набыла статуса дыяцэзіі і ўласнага кліру і падпарадкоўваецца кангрэгацыі прапаганды веры.

ПСА́ЛМЫ — малітоўныя песнапенні, якія выконваліся ў іерусалімскім храме Яхве пры розных абрадавых цырымоніях. Сярод П. вылучаюцца тыя, што выконваліся пры ўзвядзенні на прастол цара і ў час штогодняга рытуалу «ўступлення на трон Яхве», а таксама калектыўныя і індывідуальныя малітвы і пакаянныя гімны, вершы гіст. зместу.

ПСАЛО́МШЧЫК — царкоўны служка ў праваслаўнай царкве, у абавязкі якога ўваходзіць чытанне Свяшчэннага пісання і спевы на клірасе,

царкоўнае справаводства. Гэта найменне ўведзена ў 1885 як агульнае для ўсіх *дзячкоў*.

ПСАЛТЫ́Р (ад грэч. psalterion назва музычнага інструмента) — зборнік *псалмаў*, якія ўваходзяць у *Стары запавет*. У традыц. (масарэцкі) тэкст Старога запавету ўваходзяць 150 псалмаў, падзеленых на 5 кніг; у Септуагінце — 151 псалом. Нумерацыя псалмаў, а таксама і тэксты некаторых з іх у масарэцкім тэксце і ў Септуагінце не супадаюць. У сучасным выглядзе П. узнік, відавочна, не раней канца 5 — пач. 4 ст. да н.э., хаця асобныя псалмы значна больш ранняга паходжання. Большасць псалмаў у П. — аўтарскія; сярод аўтараў упамінаецца цар Давід (многія псалмы суаднесены з фактамі яго біяграфіі), Саламон, Асаф і Эман — сыны Карэевы. Адзін псалом прыпісваецца Майсею. Загалоўкі многіх псалмаў утрымліваюць указанні (не зусім ясныя), да якога жанру яны належаць і у суправаджэнні якіх інструментаў іх трэба выконваць.

ПУРЫТАНІ́ЗМ (лац. purus чысты, puritas чысціня) — у 2-й пал. 16 ст. ў Англіі апазіцыйна-рэлігійны рух за паслядоўную рэфармацыю англіканскай царквы, «ачышчэнне» яе ад рысаў каталіцызму. Прадстаўнікі П. вызначаліся рэліг. фанатызмам, заклікалі да аскетызму, маральнай і фіз. чысціні. Падзяляліся на памяркоўную (*прэсвітэрыяне*) і радыкальную (*кангрэгацыяналісты*) плыні. П. стаў ідэалаг. абгрунтаваннем бурж. рэвалюцыі 17 ст., у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі абедзвюх плыней.

ПЯРУ́Н — вярхоўнае язычніцкае божышча ўсх. славян; бог грому і маланкі. Падобны да стараж.-грэч. Зеўса, стараж.-рым. Юпітэра, балцкага Пяркунаса. Лічыўся ўладаром неба, даравальнікам дажджу; ад яго залежаў плён сял. працы, таму ўшаноўваўся і як земляробчы бог. У «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 П. называецца сярод багоў першы. У 10 ст. лічыўся таксама богам-заступнікам князевай дружыны. У гонар П. будавалі свяцілішчы, рэшткі некат. з якіх знойдзены на тэр. Беларусі (гл. *Капішча*). З пашырэннем хрысціянства на Русі рысы П. нададзены св. Іллю (Ілью-прароку), у гонар якога ў Кіеве пастаўлена першая царква (944). Уяўляўся волатам з залатой барадою, які трымае лук (вясёлку) і калчан з вогненнымі стрэламі (маланкамі). Сляды культу П. захаваліся ў некаторых павер'ях, праклёнах. У бел. мове і некаторых інш. слав. мовах слова «П.» азначае — той, хто б'е, ударае; а таксама агульная назва грому і маланкі.

ПЯ́ТНІЦКІ Іван Канстанцінавіч (1856—?) — духоўны пісьменнік, выдавец. Адукацыю атрымаў у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Працаваў выкладчыкам у Магілёўскай духоўнай семінарыі, быў рэдактарам *«Могилевских епархиальных ведомостей»*. Аўтар працы «Тупічэўскі манастыр Магілёўскай епархіі» (Магілёў, 1889) і інш. Пад яго рэдакцыяй выдадзены «Словы і прамовы Георгія Каніскага, архіепіскапа магілёўскага» (Магілёў, 1892). Пад назвай «Рускі сектант у сваёй гісторыі» апублікаваў раскольніцкі рукапіс секты вандроўнікаў, або бегуноў, са сваёй прадмовай, пасляслоўем і заўвагамі (1884).

ПЯТРО́, Пятра, Пятрок — старажытнае земляробчае свята ў беларусаў і інш. славянскіх народаў, своеасаблівы працяг *Купалля*. Адзначалася 29 чэрв. ст. стылю. Назва язычніцкага свята, з якім злілося хрысціянскае свята апосталаў Пятра і Паўла, не захавалася. У бел. фальклоры П. — апякун хлеба і хлебаробаў. Калі спрыяла надвор'е, з П. пачыналі сенакос («Хто ў пятроўку сена не косіць, той зімою ў сабак просіць»). З гэтага свята звычайна пачыналіся т.зв. пятроўскія карагоды, якія працягваліся да *Спаса*. У час святкавання спявалі пятроўскія песні, адбывалася кумаванне дзяўчат з хлопцамі, якому ў старажытнасці папярэднічала кумаванне дзяўчат паміж сабой (абмяняўшыся пярсцёнкамі або чым-небудзь з вопраткі, яны на працягу года лічыліся кумамі). Пасля П. дзень ішоў на спад, лета хілілася на восень («Прыйшоў Пятрок — час дня ўвалок», «Прыйшоў Пятрок, апаў лісток»). *А.В.Цітавец.*

ПЯЦІДЗЕСЯ́ТНІКІ — паслядоўнікі адной з плыняў у *пратэстантызме*. Узніклі ў ЗША ў пач. 20 ст. У аснову іх веравучэння пакладзена евангельскае паданне пра сыходжанне Св. Духа на апосталаў — вучняў Ісуса Хрыста на 50-ы дзень пасля яго ўваскрэсення (свята Пяцідзесятніцы), што дало і назву П. Адсюль зыходзіць сцверджанне, што для сапраўднага верніка патрэбны непасрэдныя зносіны з Богам праз Св. Духа, а таксама наяўнасць яго дароў — «гаварэння на іншых мовах» (гласалалій), прароцтва. Значнае месца ў П. адводзіцца ідэі блізкасці канца свету, другога прышэсця Хрыста і ўсталявання яго 1000-гадовага царства на Зямлі. Неабходны для П. абрад «хрышчэння Св. Духам» дасягаецца праз асаблівы комплекс доўгіх маленняў і пастоў. Для культу П. характэрна наяўнасць «пракрокаў» і «прарочыц», вера ў магчымасць цудатворнага вылячэння і інш. Існуюць абрады воднага хрышчэння і хлебапраламлення, у часткі П. — абмывання ног. П. не маюць цэнтралізаванай арг-цыі. Іх дысцыпліна грунтуецца на адзінстве веравучэння і абраднасці. Існуе шэраг самастойных кірункаў П., у т.л. і на Беларусі: *хрысціяне веры евангельскай* (ХВЕ), *хрысціяне веры апостальскай* (ХВА), хрысціяне поўнага евангелля (ХПЕ).

Першыя паслядоўнікі ХВЕ з'явіліся на тэр. Палескага ваяв. ў Зах. Беларусі ў 1920-я г. ў выніку дзейнасці замежных місіянераў і рээмігрантаў з ЗША і наз. таксама зеленасвёнткаўцы (ад польскай назвы свята Пяцідзесятніцы — Zielene Swiątki). Ва Усх. Беларусі, дзе іх было значна менш, яны наз. таксама варанаеўцы (у гонар першага прапаведніка гэтага вучэння ў СССР І.Я.Варанаева). Кіраўнікамі ХВЕ ў Зах. Беларусі ў той час былі І.К.Панько, С.Нядзвецкі, Г.К.Селюжыцкі. У 1930 абшчыны ХВЕ Палескага ваяв. (больш за 1 тыс. чал.) увайшлі ў саюз ХВЕ у Польшчы (цэнтр у г. Лодзь). З 1929 саюз выдаваў час. «Примиритель» на рус. мове. У канцы 1944 была створана Царква ХВЕ ў БССР, УССР і Літ. ССР з цэнтрам у г. Баранавічы на чале з епіскапам Панько і ген. сакратаром С.І.Вашкевічам. Аднак гэтая царква не была зарэгістравана з-за яе экстатычнай абраднасці. Тады частка абшчын на чале з кіраўніцтвам Царквы ХВЕ ў 1945 увайшла ў зарэгістраваны Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) са згодай адмовіцца ад гаварэння на «іншамовах». Частка абшчын ХВЕ, якія не пайшлі на рэгістрацыю, дзейнічала ў падполлі. У 1-й палавіне 1970-х г. некаторыя абшчыны ХВЕ атрымалі дазвол на аўтаномную рэгістрацыю (па-за межамі ЕХБ), у 1989 аб'яднанне ХВЕ з ЕХБ распалася. У наш час ХВЕ займаюць першае месца на Беларусі сярод пратэстанцкіх плыней. На 1.1.2001 зарэгістравана 470 абшчын, якія аб'яднаны ў Саюз ХВЕ Беларусі.

ХВА (або евангельскія хрысціяне ў духу апостальскім — ЕХВДА, таксама с м а р о д з і н ц ы ў гонар заснавальніка гэтай плыні ў Расіі ў пач. 20 ст. М.П.Смародзіна) прызнаюць большасць агульных догматаў П., але адмаўляюць траістасць Бога. На іх думку толькі ў Ісусе Хрысце ўвасабляецца Бог-Айцец, Бог-Сын і Бог-Св. Дух. Адсюль іх інш. назва — і с у с а ў ц ы. Разам з тым хрышчэнне Св. Духам у шэрагу іх абшчын не лічыцца абавязковай умовай для асабістага выратавання. Паслядоўнікі ХВА пашыраны ў Гродзенскай вобл. (Масты і Мастоўскі р-н, Гродна і інш.) і ў Брэсцкім р-не (в. Страдзічы, Медна і інш.). Заснавальнікам гэтай плыні ў Заходняй Беларусі быў селянін в.Ханявічы Скідзельскай воласці Гродзенскага пав. І.Казячы, які ў 1919 быў пасвячоны ў прапаведніка ў г. Іжэўск (Расія), а ў пач. 1920-х г. вярнуўся на радзіму. Ён заснаваў шэраг абшчын на Гродзеншчыне, а ў 1924 пераехаў у Страдзічы. У 1947 ЕХВДА, каб атрымаць рэгістрацыю, як і ХВЕ увайшлі ў Саюз ЕХБ, у 1970-я г. іх пачалі рэгістраваць аўтаномна. На 1.1.2001 на Беларусі зарэгістравана 9 абшчын ХВА.

ХПЕ па сваім веравучэнні і рэліг. практыцы найб. блізкія да ХВЕ. Першыя абшчыны ХПЕ узніклі на Беларусі ў пач. 1990-х г. з актыўным удзелам місіянерскіх груп з ЗША, Канады, Швецыі. Іх членамі сталі пераважна маладыя вернікі з абшчын ХВЕ у Мінску, Брэсце, Баранавічах, Мікашэвічах (Брэсцкая вобл.). Адрозніваюцца ад ХВЕ у асноўным знешнім бокам сваіх малітоўных сходаў. Шмат увагі надаецца сумесным спевам рэліг. гімнаў з пляскаданнем у далоні і танцамі пад акампанемент сучасных музычных ансамбляў. Вялікім аўтарытэтам у вернікаў карыстаецца пастар, які на кожным сходзе праводзіць абрад вылячэння верай з ускладаннем рук. На 1.1.2001 налічвалася 58 абшчын, якія ўваходзяць у рэліг. аб'яднанне абшчын ХПЕ ў Рэспубліцы Беларусь.

*Літ.:* Баптизм и баптисты. Мн., 1969; М о с к а л е н к о А.Т. Пятидесятники М., 1973; *Ю.В.Бажэнаў, Л.У.Барэўка, А.У.Варашчагіна.*

ПЯЦІДЗЕСЯ́ТНІЦА — хрысціянскае свята — 50-ы дзень пасля Вялікадня; гл. *Сёмуха.*

ПЯЦІКНІ́ЖЖА — першыя 5 кніг Біблії (Быццё, Зыход, Левіт, Лікі і Другазаконне), вядомыя таксама пад назвай Закон, або Вучэнне (па-яўрэйску — Тора); гал. свяшчэнныя кнігі *іудаізму.* П. — раздзел Старога запавету, складзены ў 1-м тыс. да н.э. Стварэнне яго прыпісваюць біблейскаму герою Майсею. У 1519 Ф.Скарына выпусціў у Празе ў 5 асобных кнігах на старабел. мове.



РАБІН (ад старaж.-яўрэйскага рабі — мой настаўнік) — служыцель культу ў іудаізме. Тлумачыць догматы веравучэння, вырашае пытанні, звязаныя з рытуаламі, выконвае некаторыя абрады, выступае ў *сінагозе* з пропаведзямі рэліг.-маральнага зместу. Ін-т Р. аформіўся ў раннім сярэднявеччы ў дыяспары. У сярэднія вякі і новы час Р. кіраваў не толькі рэліг. але і паліт. і эканамічным жыццём яўрэйскай абшчыны. У 16 — 17 ст. у Польшчы і ВКЛ Р. часам кіравалі *ешыботам*. У Рас. імперыі статус Р. вызначаўся дзярж. пастановамі. Паводле палажэння аб яўрэях 1835 Р. павінен быў весці метрычныя кнігі і выконваць абрады. Паводле закона 1857 пасаду Р. маглі займаць толькі выпускнікі рабінскіх вучылішчаў. У пач. 1990-х г. на Беларусі Р. са спецыяльнай духоўнай адукацыяй практычна не было. Цяпер іудзейскія рэліг. абшчыны арганізаваны ў Іудзейскае рэліг. аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь (ІРА ў РБ), адм. кіраўніком якога з'яўляецца старшыня, а найб. аўтарытэтам у справах веры карыстаецца гал. Р. ІРА ў РБ. Гл. таксама *Духавенства*.

РАГО́ЗА Міхаіл (каля 1540 — паміж 18.6. і 15.8.1599) — праваслаўны, потым уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду герба «Рагоза» Мінскага ваяв. У 1576 пісар валынскага ваяводы кн. Богуша Карэцкага. Пасля прыняцця манаства архімандрыт манастыроў Мінскага Ушэсця (з 1579), Слуцкага Траецкага (з 1582), Морацкага. З 1589 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Праводзіў рэформы правасл. царквы з мэтай павысіць аўтарытэт і адукацыю духавенства і паменшыць умяшанне свецкіх улад у царк. справы. З 1590 увёў практыку штогадовых сабораў з удзелам прадстаўнікоў духавенства, шляхты, брацтваў. Пры Р. свецкім асобам забаронена кіраваць манастырамі, усталявана новая працэдура прызначэння епіскапаў і мітрапаліта: кароль зацвярджаў адну з 4 кандыдатур, вылучаных на такім штогадовым саборы. Сабор 1594 падпарадкаваў брацтвы царк. іерархам, што ўзмацніла супярэчнасці паміж імі (напр., у 1595 Р. забараніў выступаць з казаннямі прапаведніку Віленскага брацтва Стафану *Зізанію*). З 1594 Р. далучыўся да падрыхтоўкі злучэння правасл. царквы з каталіцкай. Пад яго старшынствам царк. сабор у Брэсце абвясціў *Брэсцкую унію 1596* і зацвердзіў яе ўмовы. Р. захаваў у новаўтворанай *уніяцкай царкве* тытул мітрапаліта. Правасл. сабор 1596, які адбыўся ў Брэсце адначасова з уніяцкім, абвясціў аб пазбаўленні Р. сана, аднак гэта і інш. падобныя захады правасл. духавенства не мелі вынікаў. Змагаўся з апанентамі пераважна адм. сродкамі, у пашырэнні уніі карыстаўся падтрымкай каралеўскай улады. *С.В.Калуга.*

РАГО́ЎСКІ Казімір (9.6.1728, Навагрудчына — 5.1.1810) — беларускі тэолаг, філосаф, педагог. Вучыўся ў Слонімскім езуіцкім калегіуме, дзе ў 1735 уступіў у езуіцкі ордэн. Пасля праходжання 2-гадовага *навіцыяту* і вывучэння рыторыкі і філасофіі ў 1750—55 выкладаў у *Навагрудскім езуіцкім калегіуме*. Наступныя 3 гады вывучаў тэалогію і грэч. мову ў Полацку, дзе ў 1759 пасвячоны ў святара. У 1760—61 прапаведнік у Слоніме. Напісаў жалобныя элегіі на смерць падканцлера Вялікага княства Літоўскага М.Сапегі. У 1761—62 прафесар паэтыкі і старaж. моў у Віленскім езуіц-



М.**Рагоза**.


М.Радзівіл.

кім калегіуме. У 1763—65 выкладаў філасофію ў Крошынскім калегіуме, у 1766—67 — рыторыку на віленскім семінары для езуіцкіх клірыкаў, у 1768—70 — філасофію, маральную і палемічную тэалогію ў Віленскай акадэміі, займаючы пасады в.а. сіндыка акадэміі, дэкана філасофскага ф-та, асістэнта, прафесара філасофіі, рыторыкі, грэч. і лац. моў. У 1792 апублікаваў збор лац. і грэч. афарызмаў павучальнага характару для моладзі. У 1798 запрошаны на пасаду выкладчыка грэч. мовы, якую займаў да 1804.

РАДАЎНІЦА, р а д а н і ц а, н а в і д з е н ь (ад стараж.-рус. навь — нябожчык) — дзень памінання памерлых ва ўсходніх славян. Паводле стараж. традыцый падчас Р. адбываліся трапезы на магілах бацькоў і блізкіх сваякоў. Правасл. царква ўключыла Р. ў свой культ і прымеркавала яе да першага тыдня пасля *Вялікадня*. Падчас Р. праводзяцца богаслужэнні. Традыцыя наведваць могілкі на Р. захоўваецца.

РАДЗІВІЛ Мікалай (мянушка Ч о р н ы; 4.2.1515, Нясвіж — 28/29.5.1565) — палітычны, рэлігійны і культурны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Юнацтва правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе зблізіўся з будучым вялікім князем ВКЛ Жыгімонтам II Аўгустам. Імклівае ўзвышэнне па службе Р. пачалося пасля 1544, калі на Берасцейскім вальным сойме быў прыняты акт, паводле якога Жыгімонт I Стары перадаваў поўную ўладу ў ВКЛ свайму сыну Жыгімонту II Аўгусту. У 1574 Р. атрымаў ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла V права на княжацкі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду. З гэтага часу ён стаў называцца князем «на Алыцы і Нясвіжы». У 1549 Р. удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць татараў на Валыні. У 1550 атрымаў пасаду канцлера ВКЛ. Гал. сферай яго дыпламатычнай дзейнасці былі адносіны з Лівоніяй, вынікам чаго стала ў 1561 інкарпарацыя Польшчай і ВКЛ большай яе часткі і ліквідацыя там Ордэна *мечаносцаў*. Р. быў шчырым прыхільнікам незалежнасці ВКЛ ад Польшчы. На соймах, якія абмяркоўвалі праекты уніі дзвюх дзяржаў, Р. выступаў за суверэннасць ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай.

З імем Р. звязана пашырэнне і прапаганда рэфармацыйных ідэй, арг-цыя рэфармацыйнай царквы ў ВКЛ. Паліт. ўплыў і аўтарытэт Р., які першы з магнатаў прыняў пратэстанцкае веравызнанне ў пач. 1550-х г., абумовілі пераход значнай часткі шляхты ў *пратэстантызм*. Спачатку ён схіляўся да *лютэранства*, але з сярэдзіны 1550-х г. прыняў *кальвінізм*, які атрымаў найб. пашырэнне ў ВКЛ. Р. падтрымліваў сувязі з прадстаўнікамі асн. пратэстанцкіх плыней (лютэранамі, кальвіністамі, *антытрынітарыямі*), стаў гал. пратэктарам *Рэфармацыі*. Валодаючы вялізнымі маёнткамі на Беларусі, у Літве і Польшчы, ён засноўваў там пратэстанцкія цэрквы — *зборы*. У 1553 першы на Беларусі рэфармацыйны збор Р. залажыў у сваім замку ў Бярэсці. Каля 1557 пры яго ўдзеле арганізавана гал. рэфармацыйная абшчына ВКЛ у Вільні. Першы Віленскі збор размяшчаўся ў радзівілаўскім палацы на Лукішках. Некаторы час Р. быў прыхільнікам стварэння Народнага сабора — свайго роду дзярж. царквы, якая б аб'ядноўвала ўсіх хрысціян ВКЛ і Польшчы і была б больш незалежнай ад *Ватыкана*. У апошнія гады свайго жыцця Р. падтрымліваў антытрынітарыяў, якія ў рэлігійна-багаслоўскіх і сацыяльных пытаннях займалі найб. радыкальныя пазіцыі. У 1563 у падляшскім мястэчку Морды, што належала яму, адбыўся сінод, дзе большасць прысутных ухвалілі ідэі антытрынітарызму. Р. выношваў планы аб'яднання кальвіністкай і антытрынітарскай плыней.

Р. адыграў вялікую ролю ў развіцці мецэнацтва ў розных сферах культуры Беларусі і Літвы, найб. у арг-цыі кнігадрукавання. У 1553 для прапаганды рэфармацыйных ідэй Р. заснаваў пры Берасцейскім зборы першую на тэр. Беларусі друкарню, у якой друкавалася не толькі рэліг., але і свецкая літаратура. У 1563 на сродкі Р. выдадзены польскі пераклад поўнага зводу Бібліі, найбуйнейшага па аб'ёме і аднаго з лепшых па маст. і паліграфічных якасцях рэнесансавага выдання. У гісторыю бел. кнігавыдання яна ўвайшла пад назвай «Брэсцкая, ці Радзівілаўская біблія» (гл. *Брэсцкая Біблія*). З імем Р. звязана таксама выданне арыгінальнага публіцыстычнага твора — паслання папскаму нунцыю ў Польшчы Алаізію Ліпаману, напісанага, верагодна, яго асабістым сакратаром, вядомым лексікаграфам Янам Манчынскім, дзе

меліся рэзкія антыкаталіцкія і антыпапскія выпады. Пад апекай Р. дзейнічала пратэстанцкая *Нясвіжская друкарня*, у арг-цыі якой прымалі ўдзел вядомыя дзеячы Рэфармацыі — Сымон *Будны*, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі. Некаторыя свае творы яму прысвячаў Жан Кальвін. Шчодрасцямі радзівілаўскага двара карысталіся такія відныя тэолагі як С. Будны, Марцін *Чаховіц*, паэт Андрэй Тшэцэскі, кампазітары Кіпрыян Базілік, Вацлаў з Шамотул і інш. Пасля смерці Р. ўсе яго дзеці пад уплывам паліт. абставін перайшлі ў каталіцтва. Дзейнасць Р. як вялікага рэфарматара кардынальна паўплывала на царк.-рэліг. і культурнае жыццё ВКЛ. *Л.С.Іванова.*

РАДЗІВІ́Л Соф'я, Соф'я Слуцкая (1.5.1585 — 19.3.1612) — рэлігійная дзеячка, беларуская праваслаўная святая. Дачка слуцкага кн. Юрыя Юр'евіча (1559—86) і Барбары Кішкі, апошняя з княжацкага роду Алелькавічаў. Выхоўвалася ў праваслаўі. Рана асірацела і стала ўладальніцай вялікай латыфундыі пад апекай сваякоў Хадкевічаў. Пасля смерці дзядзькоў Аляксандра (1591) і Яна Сымона (1592) да Соф'і адышло ўсё Слуцкае княства з гарадамі Слуцк і Капыль, мястэчкамі Раманава, Старобін, Любань, Пясочнае і Ленін, 32 фальваркі. Яе апекуны Хадкевічы завінаваціліся Радзівілам вялікую суму грошай, і ў 1600 дамовіліся выдаць Соф'ю замуж за Я.Радзівіла (у будучым віленскі кашталян), за што доўг скасаваўся і Хадкевічы атрымалі яшчэ 360 тыс. злотых і 500 валок зямлі. Аднак спрэчкі паміж Хадкевічамі і Радзівіламі ледзь не вылiліся ў баявыя дзеянні. Пры пасрэдніцтве караля Жыгімонта III Вазы бакі паразумеліся. Хадкевічы адмовіліся ад апекі, атрымалі 360 080 злотых і 500 валок зямлі, іх доўг быў скасаваны. 1.10.1600 у Брэсце адбыўся шлюб Соф'і з Радзівілам. Хоць муж вызнаваў кальвінізм, Р. засталася праваслаўнай. Шмат увагі аддавала дабрачынным справам, падтрымлівала правасл. цэрквы і манастыры ў Слуцкім княстве, якое дзякуючы ёй захавала свае правасл. аблічча. Пасля заўчаснай смерці Р. Слуцкае княства згодна з далейшай дамоўленасцю, перайшло ў род Радзівілаў. Труна з астанкамі Соф'і знаходзілася ў царкве Слуцкага Траічанскага манастыра і шанавалася як цудатворная. Зараз мошчы зберагаюцца ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы. Соф'я ўваходзіць у *Сабор беларускіх святых.* Дзень яе памяці 19 сакавіка.


Да арт. С.**Радзівіл**. Соф'я Слуцкая. З карціны Я.Ждана. 1991.


Да арт. С.**Радзівіл**. Праведная Соф'я, княгіня Слуцкая.

*Літ.:* Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Мельников А.А. Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992. *А.П.Грыцкевіч.*

РАДЗІВІ́Л Юрый (Ежы; 31.5.1556, в. Лукішкі, цяпер у межах г. Вільня, — 23.1.1600) — каталіцкі царкоўны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Сын Мікалая Радзівіла Чорнага. Вучыўся ў Лейпцыгскім ун-це (да 1572), вывучаў філасофію і тэалогію ў Рымскім калегіуме (1575—76). У дзяцінстве выхоўваўся ў кальвінісцкім духу, але ў 1574 перайшоў у каталіцтва. Каад'ютар (памочнік-намеснік) біскупа В.*Пратасевіча*. Біскуп віленскі (1581—91) у 1583 атрымаў званне кардынала. Актыўна змагаўся супраць *Рэфармацыі*, у 1581 упер-

шыню ўвёў у сваёй дыяцэзіі (епархіі) цэнзуру друку. У 1582 адчыніў на ўласныя сродкі каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні. У 1582—84 адначасова намеснік караля (губернатар) у Інфлянтах. На элекцыйным сейме 1587 пасля смерці Стафана Баторыя падтрымліваў прадстаўніка аўстрыйскай дынастыі Габсбургаў Максіміляна, але абраны быў Жыгімонт III Ваза. Пасля збліжэння Жыгімонта III у 1589 з Габсбургамі ўплыў Р. пры двары зноў узрос. З 1591 біскуп кракаўскі. Спрыяў шлюбу Жыгімонта III з эрцгерцагіняй з дому Габсбургаў Ганнай (1592). Адзін з бліжэйшых дарадчыкаў караля, у 1596—97 вёў перагаворы аб далучэнні Рэчы Паспалітай да антытурэцкай каталіцкай лігі.

РАЙ — у хрысціянскім веравучэнні — месца вечнага шчасця, якое абяцаецца праведнікам у будучым жыцці. У *Старым запавеце* — зямны сад Эдэм, які знаходзіцца на Усходзе (у Паўночнай Месапатаміі). З Эдэма былі выгнаны першыя людзі *Адам* і *Ева* (гл. *Выгнанне*). У *Новым запавеце* — сонечны нябесны Іерусалім, горад без смутку і смерці. У апакрыфічных апісаннях нябесныя ярусы населеныя анёламі. Пытанне пра месцазнаходжанне Р., яго суадносіны з зямлёй і космасам па-рознаму разглядаліся тэалогіяй, ерасямі і нар. мысленнем. Вобраз Р. як нябеснага горада характэрны для тэорый будучыні і утопій (напр., «Хрысціанопаль» І.В.Андрээ). У ранняй *патрыстыцы* і рэліг. літаратуры 6—12 ст. сустракаюцца вучэнні аб іерархіі душ праведнікаў. Для *пратэстантызму* характэрна адмаўленне лакалізацыі Р. ў нябёсах і сцвярджэнне ўсёпрысутнасці Бога. Хрысц. Р. адпавядае Джана ў мусульманстве, Брахмалока ў індуізме і Абхіраці ў будызме.



**Расціслаў Мсціславіч.** (Благаверны Расціслаў-Міхаіл, князь Смаленскі).

РАМА́Н (? — 1362) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Паводле «Рагожскага летапісца» (помнік цвярскога летапісання 15 ст.), паходзіў з цвярскіх баяр, сваяк вялікага князя *Альгерда* па лініі яго жонкі Ульяны. У 1354—62 мітрапаліт літоўска-навагрудскі, пастаўлены канстанцінопальскім патрыярхам Філафеем па просьбе Альгерда, які дамагаўся для ВКЛ самастойнай мітраполіі. Адначасова з Р. мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі з цэнтрам у Маскве быў пастаўлены Алексій, родам з Чарнігава. Паўнамоцтвы паміж мітрапалітамі не былі размежаваны, абедзве мітраполіі прэтэндавалі на правы агульнарус. царк. цэнтра. Р. прыняў захады, каб перанесці сваю кафедру ў Кіеў, які фармальна ўваходзіў у сферу дзейнасці Алексія, але знаходзіўся на тэр. ВКЛ. Пасля скаргі Алексія абодва мітрапаліты былі выкліканы ў Канстанцінопаль на патрыяршы суд. Канстанцінопальскі сабор 1356 усталяваў тэр. Літ.-Навагрудскай мітраполіі ў межах навагрудскай мітрапаліцкай, Полацкай, Тураўскай, Уладзімірскай (Валынь), Луцкай, Холмскай, Галіцкай і Перамышльскай епархіі, а пасля далучэння да ВКЛ Бранскага княства — і Бранска-Чарнігаўскай епархіі Р. не адмовіўся ад захадаў пашырыць сваю ўладу і на Кіеў, што было расцэнена Канстанцінопалем як перавышэнне яго паўнамоцтваў. У 1361 патрыярх накіраваў сваіх паслоў для расследавання гэтай справы, якая была спынена ў 1362 у сувязі са смерцю Р. Пасля яго смерці тэр. Літ.-Новагрудскай мітраполіі перайшла ў падначаленне да мітрапаліта Алексія. Пры Р. пабудавана Мікалаеўская царква ў Вільні, праведзена рэканструкцыя інтэр'ера царквы Навагрудскага замка, засн. манастыры Троіцы і Іаана Прадцечы ў Полацку і інш.

*Літ.:* Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Ч.1—3. Буэнос-Айрэс, 1966 (репр. изд. Мн., 1990); Мейендорф И. Византия и Московская Русь. Париж, 1990; Лапіцкі М. Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім да часоў панавання Уладыслава Ягайлы. Нью-Йорк, 1978.

*Л.Я.Кулажанка.*

РА́СА (ад грэч. rason выцертая, паношаная) — паўсядзённае верхняе адзенне духоўных асоб розных ступеней з доўгімі і шырокімі рукавамі. Часцей бывае чорнага колеру, але можа быць і цёмна-сіняга, карычневага, зрэдку белага ці шэрага колераў. У стараж. хрысц. царкве выкарыстоўвалася толькі манахамі. Пазней увайшла ва ўжытак і белага духавенства.

РАСКО́Л — рэлігійна-грамадскі рух у Расіі, у выніку якога адбылося аддзяленне ад рускай праваслаўнай царквы самастойнай рэлігійнай плыні —

стараверства (гл. *Стараверы*). Зачэпкай для Р. сталі рэформы 1653—60, праведзеныя патрыярхам Ніканам з мэтай павышэння аўтарытэту царквы і патрыяршаства і ўсталявання аднастайнасці ў царк. службе. Рэформа ліквідавала адрозненні паміж рус. і грэч. чынамі богаслужэння і прадугледжвала выпраўленні розначытанняў у рус. царк. кнігах паводле грэч. узораў. Нікан шырока выкарыстоўваў рэліг. практыку правасл. царквы Рэчы Паспалітай, дзе адрозненняў ад грэч. царквы не было; святары і манахі з Беларусі і Украіны (напр., *Сімяон Полацкі*) актыўна ўдзельнічалі ў правядзенні рэформы. Так 8-канцовы крыж быў заменены на 6-канцовы, 2-пальцавае хрышчэнне — 3-пальцавым, двайная (сугубая) алілуя — трайной і інш. Супраць новаўвядзенняў і за захаванне старой набожнасці выступіла частка духавенства на чале з пратапопамі Авакумам, Даніілам, Іванам Няронавым і інш. На царк. саборах 1654—55 і 1666—67 перамаглі прыхільнікі рэформ. Аднак праціўнікі перамен не падпарадкоўваліся саборным пастановам і т.ч. «раскалолі» царкву (адсюль Р.). Раскольнікі падвяргаліся праследаванням з боку патрыяршаства і царскай улады: іх высылалі на ўскраіны Расіі, знявольвалі ў турмы і манастыры, катавалі і каралі смерцю; шмат іх уцякло за мяжу, у т.л. ў Рэч Паспалітую. У 2-й пал. 17 ст. стараверства стала ідэйным сцягам самых розных апазіцыйных рухаў — ад антыфеадальна-сялянскіх да кансерватыўна-баярскіх. Супярэчлівы характар, сац. неаднароднасць удзельнікаў Р. абумовілі наяўнасць розных па арганізацыі і ідэалогіі груповак стараверства. Доўгі час захоўваліся 2 асн. плыні: п а п о ў ш ч ы н а — найб. блізкая да правасл. царквы, з яе вылучаюць беглапапоўцаў, адзінаверцаў і паслядоўнікаў Белакрыніцкай іерархіі (аформілася ў 1846 у в. Белая Крыніца на Букавіне, Украіна, тады ў Аўстрыйскай імперыі, дзейнічала ў Маскве); б е с п а п о ў ш ч ы н а — адмовілася ад святароў, ліквідавала шэраг таінстваў, падзялялася на розныя кірункі (толкі і сагласы): паморскі, федасееўскі, філіпаўскі, бягунскі, спасаўскі і інш., якія былі ў Зах. Сібіры, Яраслаўскай, Саратаўскай абл., на Урале, Каўказе і інш. У наш час на Беларусі стараверства захавалася ў абодвух формах. *Ю.В.Бажэнаў.*

РАСТО́ЦКІ Феадосій (свецкае імя Т а д э в у ш 1725—1805) — уніяцкі царкоўны дзеяч. Са шляхецкай сям'і, якая ў канцы 17 ст. перасялілася са Слонімскага пав. на Валынь. З 1739 чл. ордэна *базыльян*. У 1754 скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме і пасвячоны ў святара. Пасля вяртання ў Рэч Паспалітую выкладаў у базыльянскіх школах Холма (прафесар багаслоўя з 1754) і Уладзіміра-Валынскага. У 1772—84 правінцыял Літоўскай


Ю.Радзівіл.

правінцыі ордэна базыльян, у 1784—90 епіскап холмскі, у 1784—88 генеральны візітатар і каад'ютар (намеснік) мітрапаліта *Я.Смагаржэўскага*. З 1788 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. З 1790 сенатар (першы з уніяцкіх мітрапалітаў). У 1795 пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай адмовіўся прысягаць на вернасць Рас. дзяржаве, за што адхілены ад пасады. Часовае кіраванне уніяцкай царквою было даручана архіепіскапу *І.Лісоўскаму*, а Р. прапанавана выбраць месца жыхарства па-за межамі новадалучаных зямель (пераехаў у С.-Пецярбург). Кананічна лічыўся мітрапалітам аж да смерці, але рэальнай улады не меў. *С.В.Казуля.*

РАСЦІСЛА́Ў МСЦІСЛА́ВІЧ (у хрышчэнні М і х а і л; паміж 1100 і 1110—14.3.1167) — князь смаленскі [1125—59], вялікі князь кіеўскі [1154, 1159—67]; заснавальнік дынастыі смаленскіх князёў. Сын вял. кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча, унук Уладзіміра Манамаха. Паводле В.М.Тацішчава, у 1125 атрымаў ад бацькі ва ўдзел Смаленск, што дало пачатак існаванню Смаленскага княства. Як смаленскі князь упершыню згадваецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1127, калі ён разам з інш. князямі ўдзельнічаў у паходзе супраць Полацкай зямлі (на яго быў ускладзены захоп Друцка). У гады яго княжання Смаленскае княства дасягнула свайго росквіту і ахапіла тэр. Верхняга Падняпроўя (з г. Орша, Копысь, Лучын, Мсціслаў і інш.) і Верхняга Паволжа. Пры Р.М. заснавана Смаленская епархія (1136), якой былі падараваны вял. ўладанні. Статут Р.М. 1136 аб падараванні даходаў на карысць епіскапіі згадвае валасці Смаленскага княства, размешчаныя на тэр. сучаснай Беларусі: Басея, Мірачыцы, Вітрына, Прупой (Прапойск), Крэчут (Крычаў). У выніку паходаў 1127 і 1142 Р.М. значна пашырыў свае ўладанні за кошт зямель радзімічаў. Ім пабудаваны гарады Мсціслаў, Рослаў і

Ізяслаў, названыя ў гонар бацькі, сябе і брата. У 1146 Р.М. па даручэнні свайго брата вял. кіеўскага князя Ізяслава Мсціславіча ўдзельнічаў у паходзе супраць тураўскага князя Вячаслава Уладзіміравіча. 8.12.1154 Р.М. пасля смерці Ізяслава стаў вял. князем кіеўскім. Першапачаткова княжыў у Кіеве разам са сваім дзядзькам Вячаславам Усеваладавічам, а пасля яго смерці — адзін. Перадаў Тураў і Пінск Святаславу Усеваладавічу. У канцы 1154 Р.М. прайграў барацьбу за Кіеў чарнігаўскаму князю Ізяславу Давыдавічу і вярнуўся на княжанне ў Смаленск. У 1158 аказаў дапамогу полацкаму князю Рагвалоду Барысавічу ў барацьбе за полацкі прастол і падтрымліваў яго пазней. 2-і раз Р.М. заняў кіеўскі прастол 12.4.1159. У 1162 заключыў мір з тураўскім князем Юрыем Яраславічам, які змагаўся за незалежнасць ад Кіева з 1158. Пахаваны ў Кіеве ў Фёдараўскім манастыры. За міралюбнасць, імкненне вырашаць спрэчкі мірным шляхам і дапамогу царкве атрымаў мянушку Набожны. Прылічаны да ўгоднікаў божых і ўваходзіць у *Сабор беларускіх святых.* Дзень памяці Р.М. 14(27) сакавіка.

*Літ.:* Татищев В.Н. История Российская с древнейших времен. М., 1963. Т. 2. С. 137—138; Алексеев Л.В. Смоленская земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980; Мельников А.А. Путь непечален: Ист. свидетельства святости Белой Руси. Мн., 1992.

*А.А.Мяцельскі.*

РАХІ́ТЫ, браты міласэрнасці ад святога Роха — каталіцкае рэлігійна-дабрачыннае аб'яднанне, гал. задачай якіх быў догляд хворых. Існавалі ў 1713—1840-я г. ў Літве і Беларусі. Аб'яднанне засн. віленскім біскупам К.К.*Бжастоўскім*, першы шпіталь св. Роха быў пры Віленскім кафедральным касцёле. Статут аб'яднання, распрацаваны канонікам Ф.Гечэвічам, прадугледжваў зарокі беднасці, чысціні, паслухмянасці і поўнага падпарадкавання віленскім біскупам, якія маглі вызваляць ад зарокаў, караць і інш. На чале аб'яднання стаяў старэйшы брат (першым быў К.Люткевіч). Р. мелі права збіраць міласціну на ўтрыманне хворых. У сувязі з частымі эпідэміямі сетка шпіталяў Р. хутка пашырылася. У 1752 апостальскі пісар Т.Стацэвіч і каралеўскі сакратар Т.Шышка з братамі заснавалі шпіталь Р. у Мінску. У 1821 мінскія Р. былі далучаны да блізкіх ім *баніфратаў*, нязгодным прапанавана выехаць на Жмудзь. Пасля 1840 усе ўстановы Р. скасаваны.

*А.А.Ярашэвіч.*

РОП (Ropp) Эдвард фон (14.12.1851, б. маёнтак Ліксна Даўгаўпілскага р-на, Латвія — 25.7.1939) — рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч Літвы і Беларусі. Па бацьку паходзіў з прыбалтыйскага ням. баронскага роду, маці — з роду Плятэраў. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1875), Ковенскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (1886), удасканальваў тэалагічную адукацыю ў Інсбруку і Фрыбургу (Аўстрыя). З 1889 ксёндз у Лібаве (цяпер г. Лієпая, Латвія), з 1896 канонік Жмудскай дыяцэзіі. З 1902 біскуп цірaспальскі, у 1904—07 біскуп віленскі. На апошняй пасадзе ва ўмовах нац.-культ. адраджэння літоўцаў і беларусаў імкнуўся не дапусціць міжэтнічнай канфрантацыі, садзейнічаў прадухіленню ў канцы 1905 яўр. пагрому ў Вільні, быў супраць атаясамлівання каталіцызму з польскасцю. Спрыяў увядзенню літ. і бел. моў у царк. жыцці, напр., восенню 1905 загадаў выкладаць у межах дыяцэзіі каталіцкі Закон Божы для дзяцей-беларусаў па-беларуску. Належаў да кансерватыўнага крыла краёўцаў — польскага руху ў Беларусі і Літве. Ініцыятар і заснавальнік Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (1906). У пач. 1906 заснаваў польскамоўную газ. «Nowine Wileńskie» («Віленскія навіны»), у 1906—09 валодаў газ. «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік»). Дэпутат І Дзярж. думы (1906), уваходзіў у «Кола тэрытарыяльнае» (аб'ядноўвала польскіх дэпутатаў ад Беларусі, Літвы і Украіны) і ў фракцыю аўтанамістаў. У кастр. 1907 загадам міністра ўнутр. спраў адхілены ад кіравання дыяцэзіяй, каля 10 гадоў пражыў у маёнтку Нішча Віцебскай губ. пад наглядам паліцыі. У ліп. 1917 прызначаны арцыбіскупам *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі* з рэзідэнцыяй у Петраградзе. У час яго візітацый касцёлаў Усх. Беларусі (ліп. 1917) набажэнствы праводзіліся і на бел. мове. Кастр. рэвалюцыю 1917 не прыняў. У пач. 1919 загадаў духавенству правесці выбары ЦК сваёй архіепархіі, пасля чаго арыштаваны як заложнік. Пасля хадайніцтва папы рымскага за дазвол праехаць у Расію з Германіі сав. парт. дзеячу К.Радэку вызвалены і адпраўлены ў Польшчу. Там працягваў рэліг. і грамадскую дзейнасць. Да 1931 фармальна лічыўся арцыбіскупам магілёўскім.

*Літ.:* Смалянчук А. Біскуп Эдвард Роп // Беларускі гіст. часопіс. 1994. №3.

*А.Ф.Смалянчук.*

РУКАПАЛАЖЭ́ННЕ, хіратанія (грэч. cheirotonia дзеянне сілай рук) — абрад узвядзення ў свяшчэнніцкі сан (дыякана, свяшчэнніка, епіскапа і інш.); хрысціянскае таінства свяшчэнства. У працэсе яго пры ўскладанні рук вышэйстаячага служыцеля культу на галаву пасвячаемага апошняму нібыта перадаецца «боская ласка». У пратэстанцкіх цэрквах праз Р. пасвячаюцца на служэнне прэсвітэры, дыяканы і інш. служыцелі мужчынскага полу, выбраныя царквой. У шэрагу пратэстанцкіх цэркваў (напр., епіскапальная царква ЗША, прэсвітэрыянская і лютэранская цэрквы ў ЗША, нац. асацыяцыя кангрэгацыяналісцкіх хрысц. цэркваў і інш.) прынята рашэнне аб Р. і жанчын у сан дыякана і прэсвітэра.

РУНКЕ́ВІЧ Сцяпан Рыгоравіч (23.1.1867 — 1919 ?) — бел. гісторык правасл. царквы, прапаведнік, грамадскі дзеяч. З сям'і святара Мінскай епархіі. Д-р багаслоўя (1899). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1891), потым выкладаў у ёй. У 1901—08 прыват. дацэнт Пецярбургскага ун-та. У 1901—17 займаў таксама адм. пасады ў Св. Сінодзе. Гістарычныя погляды Р. склаліся пад уплывам М.В.Каяловіча. Пачаў навук. дзейнасць з выдання «Матэрыялаў для гісторыі Мінскай епархіі» (вып. 1—5, Мн., 1892—94). Падрыхтаваў і выдаў фундаментальнае «Апісанне дакументаў архіва заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў» (т. 1—2, СПб., 1897—1907). Аўтар прац па гісторыі Мінскай епархіі, артыкулаў у гродзенскіх, літоўскіх, мінскіх «Епархиальных ведомостях» і інш.

*В.М.Чараніца.*

РУ́СКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЦАРКВА́ (РПЦ), Маскоўскі Патрыярхат — адна з буйнейшых праваслаўных аўтакефальных цэркваў у свеце. Традыцыйна часам заснавання лічыцца 988 — пачатак увядзення хрысціянства на Русі (гл. *Хрышчэнне Русі*). Першапачаткова ахоплівала тэр. усёй Русі (адсюль назва РПЦ), узначальвалася мітрапалітам кіеўскім (гл. *Кіеўская мітраполія*). Напачатку знаходзілася, на думку царк. гісторыкаў, у юрысдыкцыі Охрыдскага (Балгарскага), з 1037 — канстанцінопальскага патрыярхатаў. У сувязі са спусташэннем Кіева мангола-татарамі ў 1240 мітрапаліцкая кафедра ў 1250 перанесена ва Уладзімір-на-Клязьме, у 1320 — у Маскву. Пасля стварэння ва Усх. Еўропе 2 буйных самастойных дзяржаў — Вял. княства Маскоўскага і ВКЛ, выявіліся тэндэнцыі да адасаблення іх правасл. цэркваў, кожная з якіх прэтэндавала на першынства. У 1316 у Навагрудак быў прызначаны першы асобны мітрапаліт *Феафіл*, аднак у наступныя 1,5 стагоддзі мітрапаліты прызначаліся сюды нерэгулярна, што захоўвала адноснае адзінства РПЦ. У 1448 незалежна ад Канстанцінопальскага патрыярхату, які заключыў з папствам *Фларэнтыйскую унію 1439*, мітрапалітам маскоўскім абраны епіскап *Іона*, што лічыцца пачаткам аўтакефаліі (поўнай незалежнасці) РПЦ. Пасля падзення Візантыйскай імперыі ў 1453 РПЦ з мітрапаліцкай кафедрай у Маскве стала буйнейшай правасл. царквой у свеце. У 1458 Літоўска-Навагрудская мітраполія (афіц. наз. Кіеўскай) пры мітрапаліце *Грыгорыі Балгарыне* канчаткова аддзялілася ад Маскоўскай, якая стала так афіц. называцца з 1459. У 1589 у РПЦ усталявана патрыяршаства (першы патрыярх — *Іоў*), што яшчэ больш павысіла яе статус сярод памесных правасл. цэркваў. У 1653—60 патрыярх Нікан правёў у РПЦ рэформы, каб прывесці абраднасць у адпаведнасць з грэч. першаўзорамі; аднак гэта прывяло да царк. *расколу* і вылучэння *стараабраднікаў* у асобную арг-цыю. У 1700 пасля смерці патрыярха Адрыяна цар Пётр І прызначыў месцаахоўнікам патрыяршага прастола Стафана Яворскага, а ў 1721 увогуле скасаваў ін-т патрыяршаства, замяніўшы яго Духоўнай калегіяй, хутка перайменаванай у Святейшы *Сінод*. Сінод складаўся з вышэйшых іерархаў царквы, а ўзначальваў яго свецкі чыноўнік — обер-пракурор, які прызначаўся імператарам. 28.10.(10.11).1917 патрыяршаства было адноўлена пры адначасовым існаванні Сінода і Вышэйшага Царк. Савета; патрыярхам абраны епіскап Ціхан (В.І.Белавін). Разам з тым аддзяленне царквы ад дзяржавы пасля Кастр. рэвалюцыі 1917 карэнным чынам падарвала пазіцыі РПЦ. У пач. 1920-х г. у царк. іерархіі адбыўся раскол: частка епіскапаў выступіла супраць ін-та манаства, стварыла без дазволу патрыярха свой орган царк. кіравання — Вышэйшае царк. ўпраўленне — і стала звацца «абнаўленцамі». Абнаўленцаў фактычна падтрымала дзяржава, прыхільнікі ж патрыярха Ціхана цярпелі ганенні, большасць епархій у 1920—30-я г. спыніла сваю дзейнасць. У 1921 на саборы рас. эмігранцкага духавенства ў г. Срэмске-Карлаўцы (Югаславія) была створана асобная Замежная рус. правасл. царква (існуе і цяпер сярод часткі рус. эміграцыі). У 1922 з-за цяжкасці нармальнага функцыянавання РПЦ у такіх складаных умовах патрыярх дазволіў самастойнае кіраванне ў межах асобнай епархіі ці іх групы. На падставе гэтага была абвешчана ў 1927 і *Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква*. У час. Вял. Айч. вайны РПЦ заняла патрыятычную пазіцыю, месцаахоўнік патрыяршага прастола мітрапаліт Сергій (І.М.Старагародскі) ужо 22.6.1941 выступіў з заклікам да абароны Радзімы. Адносіны дзяржавы да РПЦ палепшыліся, сталі адкрывацца храмы, пачаў выходзіць «Журнал Московской Патриархии», рэліг. л-ра і інш. У 1943 на памесным саборы мітрапаліт Сергій быў абраны патрыярхам. Аднак у 1950—60-я г. дзейнасць РПЦ зноў пачала абмяжоўвацца. З 1988 (год святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі) адбываецца значная актывізацыя царк. жыцця. У 1989 у юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату створаны Бел. Экзархат (гл. *Беларуская праваслаўная царква*). Аднак у пач. 1990-х г. у сувязі з распадам СССР у шэрагу б. сав. рэспублік вызначыліся тэндэнцыі да выхаду з-пад юрысдыкцыі РПЦ нац. правасл. цэркваў: у 1990 на Украіне адроджана Украінская аўтакефальная праваслаўная царква, у 1992 створана Украінская правасл. царква — Кіеўскі Патрыярхат (не атрымалі кананічнага прызнання); у 1995 частка эстонскіх правасл. прыходаў перайшла ў юрысдыкцыю Канстанцінопальскай правасл. царквы. На 1.1.2000 у складзе РПЦ 130 епархій, 545 манастыроў, 19 417 прыхо-

даў, каля 2 тыс. чал. духавенства. У юрысдыкцыю РПЦ уваходзяць Японская і Кітайская аўтаномныя правасл. цэрквы, 6 епархій у Еўропе і 1 у Паўд. Амерыцы, прыходы ў ЗША і Канадзе. Сістэма духоўнай адукацыі РПЦ уключае 5 духоўных акадэмій, 2 правасл. ун-ты, 23 семінарыі, 28 духоўных вучылішчаў і 13 пастырскіх курсаў. Друкаваны орган — «Журнал Московской Патриархии». З 2000 пад патранажам РПЦ пачала выдавацца шматтомная «Праваслаўная энцыклапедыя».

*Літ.:* Русская православная церковь. М., 1980; История Русской церкви: [в 9 т.]. М., 1994—97; Православная энциклопедия: Русская православная церковь. М., 2000. *Ю.В.Бажэнаў.*

РУ́ЦКІ Іосіф Вельямін (ва уніяцкай гістарыяграфіі І о с і ф IV; свецкае імя Іван Феліксавіч; 1573 ці 1574, маёнтак Рута, Навагрудчына — 5.2.1673) — беларускі пісьменнік, уніяцкі царкоўны дзеяч. Са шляхецкай кальвіністкай сям'і герба «Вужака». Хрышчаны паводле правасл. абраду. Вучыўся ў Карлавым ун-це ў Празе, слухаў лекцыі па філасофіі ў Вюрцбургу, скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме; перайшоў ва уніяцтва. З 1603 у Вільні. У 1603—06 рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі. Каля 1605—06 з місіянерскімі мэтамі наведаў Маскоўскую дзяржаву. У 1608 пастрыжаны ў манахі, дыякан, прэсвітэр, каад'ютар мітрапаліта Іпація Пацея, з 1609 архімандрыт Віленскага Троіцкага манастыра, з 1612 епіскап галіцкі. У 1613—37 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (у 1614 зацверджаны булай папы рымскага Паўла V). Арганізатар ордэна *базыльян* на Беларусі. Актыўна ўдзельнічаў у літ. палеміцы 1620 з Мялеціем *Сматрыцкім*; у адказ на яго палемічныя трактаты выдаў «Двайную віну» і «Экзамен абароны» (абодва 1621). Пісаў на старабел. і старапольскай мовах. Пакінуў багатую эпісталярную спадчыну. Адстойваў ідэі хрысц. адзінства. Адзін з ініцыятараў стварэння асобнай бел.-літоўскай уніяцкай патрыярхіі.

*Літ.:* Т у р у к Ф. Униатский митрополит Иосиф Вельямин Рутский (1613—1637) и его значение в истории западной русской церкви. Пг., 1916; С а в е р ч а н к а П. Апостал яднання веры. Мн., 1994. *У.А.Кароткі.*

РЫ́ЗА, 1) літургічнае адзенне хрысціянскага святара. Уяўляе сабой багата ўпрыгожаную залатым і сярэбраным шыццём (у каталіцкага святара) накідку-безрукаўку з разрэзам для галавы, якая пакрывае грудзі, спіну і даходзіць амаль да каленяў. Сімвалізуе цяжкасць Хрыстовай ношы, якую святар перакладвае на сябе, а таксама — дасканаласць. У правасл. святара Р. (фелонь) — доўгае адзенне без рукавоў з разрэзам для галавы. 2) Фігурная металічная накладка на абразах, якая пакідае адкрытымі толькі выявы твару і рук.

РЫ́ЗНІЦА — памяшканне ў хрысціянскіх храмах і манастырах, дзе захоўваюцца *рызы* і інш. царкоўнае ўбранне святара і начынне для набажэнстваў. Р. можа знаходзіцца як у самім храме, так і ў асобнай прыбудове, а ў манастырах нават у невялікім асобным будынку.

РЫ́МСКА-КАТАЛІ́ЦКАЯ ЦАРКВА́ н а Б е л а р у с і. *Хрысціянства* на землях Беларусі ўведзена ў 992 у яго ўсх. форме яшчэ да афіц. падзелу на *праваслаўе* і *каталіцызм*. Заходнехрысц. ўплывы пранікалі на тэр. Беларусі праз місіянераў, гандлёвыя і эканам. сувязі з заходнееўрап. краінамі. Каля 1010—13 вядома місія з г. Калобжэг (Польшча) біскупа Рэйнберна ў Тураве. Дыпламатычную падтрымку ў папы Грыгорыя VII шукаў скінуты ў 1068 вял. кн. кіеўскі і кн. тураўскі Ізяслаў Яраславіч, а яго сын Яраполк 17.4.1075 атрымаў ад Грыгорыя VII булу на вялікае княжанне ў Кіеве (падзеі 1075 адлюстраваны ў мініяцюрах Трырскага псалтыра). У 1250-я папа Інакенцій IV падпарадкаваў сваёй уладзе новае біскупства, межы яго адпавядалі дзярж. граніцам ВКЛ, але ў пач. 1260-х г. яно спыніла існаванне. У 1263—1387 Р.-к. ц. не мела ў ВКЛ тэр. арг-цыі, аднак місіянерская дзейнасць не спынялася. У 1320-я нямецкія *дамініканцы* і *францысканцы* мелі ў Вільні і Навагрудку па аднаму кляштару, каталіцкія манахі былі пры дварах вялікіх кн. Віценя і Гедзіміна. Трывала Р.-к. ц. замацавалася ў ВКЛ пры вялікім кн. *Ягайле*, калі ён сам прыняў каталіцтва і хрысціў язычнікаў. Ён заснаваў у 1387 *Віленскую рымска-каталіцкую епархію* (у 1388 зацверджана папам) — першую царк.-адм. адзінку Р.-к. ц., якая падзялялася на 7 *парафій*, 3 з іх на тэр. Беларусі: у Абольцах, Гайне, Крэве. Тэр. *біскупства* ахоплівала літоўскія і большую частку бел. зямель, акрамя паўднёва-заходніх з Брэстам і Пінскам, якія ўваходзілі ў склад Уладзімірскага біскупства (г. Уладзімір на Валыні). У 1-й чвэрці 15 ст. Віленскае і Жмудскае (створана ў 1417) біскупствы былі падпарадкаваны гнезненскаму архібіскупу (у Польшчы), а Уладзімірскае біскупства ў 1425 аб'ядналася з Луцкім. З 1613 на ўсходніх землях ВКЛ існавала Смаленскае біскупства (кананічна ў 1636—1798). Да 1430 узнікла яшчэ 20 парафій, у 1772 у Віленскім біскупстве іх было 429 (большая частка ў этнічнай Літве і паўночна-заходніх землях Беларусі), філіяльных касцёлаў і публічных *капліц* — 192. Гал. патронам Віленскага біскупства быў абвешчаны св. *Казімір*. У канцы 15 — 1-й пал. 16 ст. Р.-к. ц. перажывала крызіс і часткова страціла свае пазіцыі ў перыяд *Рэфармацыі*. Для пераадолення крызісу праведзена царк. рэформа, якая зарадзілася ў манаскім асяроддзі і была падтрымана папствам і санкцыянавана Тры-

дэнцкім саборам (1545—63, гл. таксама *Контррэфармацыя*). Гал. ўвага аддавалася павышэнню адукацыі духавенства і дысцыпліны. У парафіях ад ксяндзоў патрабавалася весці метрычныя запісы, здзяйсняць паломніцтвы, ствараць каталіцкія *брацтвы*, шпіталі, пачатковыя школы, б-кі. Гал. ролю на землях Беларусі ў пашырэнні каталіцызму адыгралі *ордэны манаскія*. Ордэнскае духавенства перавышала дыяцэзіяльнае (епархіяльнае), прадстаўляла ўсе групы манаскіх арг-цый. У 1772 на тэр. Беларусі дзейнічалі *кляштары* 27 ордэнаў (19 мужчынскіх і 8 жаночых), найб. манахаў было ў *ордэнах жабрацкіх* (*аўгусцінцы, бернардзінцы, дамініканцы, кармеліты, францысканцы*). У 16—18 ст. з'явіліся новыя манаскія ордэны: *баніфраты, езуіты, камуністы, марыяне, місіянеры, піяры, рахіты, трынітарыі* і інш. Большасць кляштараў знаходзілася ў гарадах. Значным манаскім асяродкам была Вільня, якая ў 1772 займала 1-е месца ў Рэчы Паспалітай па колькасці ордэнскага духавенства (774 чал.) і 3-е па колькасці кляштараў (22). Дзейнасць Р.-к. ц. прыносіла на Беларусь заходне-еўрап. культурны ўплыў і пакінула прыкметны след у яе гісторыі і культуры, спрыяла развіццю навуч. устаноў і кнігадрукавання, фарміраванню навук. кадраў, у галіне мастацтва прынесла культуру барока, культывавала традыцыі школьных тэатраў, грыгарыянскіх спеваў, вакальна-інструментальнай музыкі. З манаскага асяроддзя паходзілі Ф.Багамолец, Я.Багамолец, Б.*Дабшэвіч*, А.*Каяловіч*, С.*Лаўксмін*, К.Нарбут, Ф.М.Нарвойш, М.Пачобут-Адляніцкі, М.К.*Сарбеўскі*, І.*Страйноўскі*, С.Шадурскі, С.Б.Юндзіл і інш.

У 1772 у выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай да Рас. імперыі адышла тэрыторыя, на якой жыло каля 100 тыс. католікаў. Указам імператрыцы Кацярыны II ад 22.11.1773 створана Бел. рымска-каталіцкая епархія (дыяцэзія) з цэнтрам у Магілёве; яе біскупу (на той час С.І.Богуш-Сестранцэвіч) былі падпарадкаваны ўсе касцёлы і кляштары ў дзяржаве. На ўтрыманне біскупа і *кансісторыі* было выдзелена 10 тыс. рублёў. Але тады стварэнне епархіі не было санкцыянавана папствам. Указам ад 17.1.1783 замест Бел. дыяцэзіі ўтворана *Магілёўская рымска-каталіцкая архіепархія* (архідыяцэзія), пры ёй былі *кансісторыя* і *капітул* з 12 *канонікаў*. Архіепархія зацверджана булай папы Пія VI ад 15.4.1783. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795—98 замест скасаванага Віленскага дзейнічала Інфлянцкае біскупства з цэнтрам у Вільні, у 1798 адноўлена Віленскае біскупства. У 1795—98 зроблена спроба стварыць *Пінскую рымска-каталіцкую епархію* (скасавана папскім нунцыем Л.Літам як некананічна ўтвораная). Усяго на 1798 у Рас. імперыі было 6 рымска-каталіцкіх дыяцэзій, з іх 3 (Віленская, Магілёўская, Мінская) ахоплівалі



І.Руцкі.

тэр. Беларусі і Літвы. Для кіравання Р.-к. ц. 26.2.1797 створаны дэпартамент для рымска-каталіцкіх спраў пры Юстыц-калегіі Ліфляндскіх, Эстляндскіх і Фінляндскіх спраў, які 26.1.1798 быў вылучаны асобна. У 1801 замест дэпартамента заснавана рымска-каталіцкая духоўная калегія — вышэйшая рымска-каталіцкая ўстанова Рас. імперыі, якой былі падпарадкаваны ўсе начальнікі, установы і духавенства. Супраць паўнамоцтваў калегіі выступалі біскупы і папства, адзначаючы, што такая ўстанова звужае правы біскупаў і супярэчыць вучэнню Р.-к.ц. У 1847 паводле канкардата (дагавора) паміж Расіяй і папствам зацверджаны межы і колькасць дыяцэзій, правы рымска-каталіцкай калегіі звужаны да ўстановы — пасрэдніка паміж урадам і біскупамі і кіраўніка маёмаснымі справамі. У 1866 рас. ўрад перастаў выконваць умовы канкардата: правы калегіі зноў пашыраны (хаця ранейшае становішча адноўлена не было), скасаваны Мінская (1869) і Камянецкая дыяцэзіі. Бел. губерні ўвайшлі ў склад 2 дыяцэзій — Віленскай (Віленская і Гродзенская губ.) і Магілёўскай, у якую акрамя Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губ. увайшлі ўсе вялікарас. губерні (за выключэннем Саратаўскай, Самарскай і Астраханскай), Вялікае княства Фінляндскае і Астзейскі край (за выключэннем Курляндскай губ.). Рымская курыя не пагадзілася з такім падзелам і лічыла яго незаконным. У 1875 папства прызнала рымска-каталіцкую духоўную калегію, але толькі як установу, якая загадвае адм.-гаспадарчымі справамі; яна складалася з 2 членаў (пад кіраўніцтвам магілёўскага архібіскупа) і 12 засядацеляў. У 1883 папа рымскі заключыў новае пагадненне з рас. урадам і даручыў кіраванне касцёламі б. Мінскай дыяцэзіі магілёўскаму архібіскупу. У 19 ст. двойчы (пасля паўстанняў 1830—31 і 1863—64) царскія ўлады праводзілі масавыя закрыцці кляштараў па аб-

вінавачанні манахаў у нелаяльнасці. Кляштары, што заставаліся, былі выведзены з падпарадкавання правінцыялаў (гл. *Правінцыя ордэна*) і непасрэдна падначалены мясц. біскупам (жаночыя) ці візітатарам з белага духавенства, якія зацвярджаліся міністрам унутраных спраў па рэкамендацыі біскупа (мужчынскія, з 1842). Духоўную адукацыю ў канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. рымска-каталіцкае духавенства Беларусі атрымлівала ў Рыме, *Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, Полацкай езуіцкай акадэміі*, семінарыях у Вільні, Беластоку, Магілёве, Мінску. У 2-й пал. 19 ст. ў Рас. імперыі дзейнічала 1 ВНУ (Рымска-каталіцкая духоўная акадэмія ў Санкт-Пецярбургу) і сярэднія — па адной семінарыі ў кожнай дыяцэзіі. Магілёўская архіепархіяльная семінарыя знаходзілася таксама ў Пецярбургу, у 1881 сярод яе выхаванцаў было 48 палякаў, 26 літоўцаў, 19 латышоў, 10 беларусаў, 1 немец. У 1871 у Мінску адкрыта вучылішча для касцельных арганістаў. Традыц. дзейнасць каталіцкага духавенства — выхаванне свецкай моладзі — паступова выцяснялася са скасаваннем у 19 ст. *езуіцкіх навучальных устаноў*, школ і *калегіумаў* піяраў і дамініканцаў. 10.12.1892 паводле загаду імператара ўсе вучылішчы, што яшчэ засталіся пры касцёлах, перададзены міністэрству народнай асветы. Выдавецкая дзейнасць Р.-к.ц. абмяжоўвалася выданнем казанняў для абвяшчэння ў касцёлах і т.зв. рубрыцеляў (календароў) на лац. мове (з 1860-х г. улады прадпрымалі захады, каб зрабіць іх рускамоўнымі).

Пасля рэвалюцыі 1917 савецкі ўрад прыняў шэраг заканадаўчых актаў пра адмену ўсякіх нац.-рэліг. прывілеяў і абмежаванняў, пра пазбаўленне царквы зямельнай уласнасці, дзярж. датацый, права кантраляваць школу і сямейнае жыццё. Ва ўмовах неўмяшання дзяржавы ва ўнутрыцарк. справы Р.-к.ц. ў ліст. 1917 адрадзіла дзейнасць Мінскай дыяцэзіі. Але новым заканадаўствам дзяржава фактычна выключала рэлігію і царкву, у т.л. рымска-каталіцкую, са сферы грамадска-паліт. жыцця і распачала шырокую атэістычную прапаганду. У сваю чаргу Р.-к.ц. варожа сустрэла новую ўладу, з незадавальненнем успрыняла яе сацыяльныя пераўтварэнні. У 1920—30-я г. царква перажыла шэраг антырэліг. кампаній: канфіскацыю царк. каштоўнасцей у 1922 у сувязі з голадам у Паволжы, канфіскацыю званоў на патрэбы індустрыялізацыі, закрыццё касцёлаў і інш. Праводзіліся судовыя працэсы над прадстаўнікамі каталіцкага духавенства, якім інкрымінаваліся контррэвалюцыйная дзейнасць і шпіянаж на карысць Польшчы. Напр., у маі 1922 у Мінску адбыўся суд над групай ксяндзоў (Я.Васілеўскі, А.*Лісоўскі*, М.Тамашэўскі), якія былі прыгавораны да розных тэрмінаў зняволення; у 1923 у Маскве прайшоў працэс над групай з 14 чалавек духавенства, двое з якіх былі прыгавораны да расстрэлу — ксёндз К.Буткевіч і архібіскуп Я.*Цепляк* (апошні памілаваны і высланы з СССР). Вялікую ролю ў атэістычнай рабоце адыграў *Саюз ваяўнічых бязбожнікаў*, у якім была і антыкаталіцкая секцыя. На 1938 у БССР не засталося ніводнага дзеючага касцёла. У Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы Р.-к.ц. знаходзілася ў спрыяльных умовах і займала прывілеяванае становішча. Канстытуцыі 1921 і 1935 прызнавалі роўнасць рэлігій і права на свабоднае выкананне культаў, аднак польскі ўрад разглядаў Р.-к.ц. як апору ў сваёй палітыцы на «крэсах усходніх». Школа не была аддзелена ад царквы, і Р.-к.ц. мела вялікі ўплыў на адукацыю. Касцёлы і кляштары адкрывалі школы, апекавалі дзіцячыя дамы, выхоўвалі дзяцей і моладзь у духу каталіцызму і адданасці польскай дзяржаве. Амаль уся тэр. Заходняй Беларусі ўваходзіла ў Віленскую мітраполію, якая складалася з Віленскай, Пінскай і Ломжынскай дыяцэзій. У 1926 у Драгічыне і Пінску адкрыты духоўныя семінарыі. Адраджаліся кляштары, будаваліся новыя касцёлы. Напр., у 1914 у Навагрудскім пав. было 9, а ў 1939 — 37 касцёлаў. Нерухомая маёмасць Р.-к.ц. ў Беластоцкім, Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяв. склала 14 565 га ворнай зямлі (без земель, якія належалі віленскаму архібіскупу і пінскаму біскупу). Касцёлам належалі і вытворчыя прадпрыемствы (невялікія фабрыкі, заводы, тартакі, млыны і інш.). Пад уплывам Р.-к.ц. знаходзіўся шэраг масавых арг-цый, створаных з мэтай умацавання каталіцызму, выхавання ў духу непрымання бальшавізму і камуністычных ідэй, барацьбы з рэвалюцыйным рухам: *«Акцыя каталіцкая»*, «Зухі», Каталіцкія саюзы жаночай і мужчынскай моладзі, Таварыства каталіцкай моладзі, «Стральцы», «Харцэры» і інш. Прыхільнікі бел. нац. арыентацыі сярод каталіцкага духавенства складалі меншасць і аб'ядноўваліся ў *Беларускую хрысціянскую дэмакратыю*. Р.-к.ц. мела свой масавы друк; для Заходняй Беларусі ў асноўным прызначаліся «Nowe życie» («Новае жыццё»), «Słowo» («Слова»), «Gazeta kartuzka» («Картузская газета»). Францысканцы пад кіраўніцтвам М.Кольбе выдавалі ў Гродне час. «Rucerz Niepokalaney» («Рыцар Бязгрэшна Зачаўшай») і газ. «Mały dziennik» («Малы дзённік»). Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР савецкае заканадаўства аб культах было пашырана і на гэтыя тэрыторыі. Уплыў Р.-к.ц. рэзка скараціўся, ксяндзы падвяргаліся рэпрэсіям. У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія акупацыйныя ўлады ў дачыненні да Р.-к.ц. на Беларусі праводзілі палітыку лавіравання: дазвалялі адраджаць рэліг. жыццё з мэтай выкарыстаць антысавецкія настроі каталіцкага духавенства, аднак баяліся «прапольскіх імкненняў».

Бел. калабрацыяністы-католікі ў 1942 у пісьме да Кубэ прасілі дазволу на стварэнне Бел. Р.-к.ц., лаяльнай да Германіі. Частка бел. ксяндзоў, у т.л. В.*Гадлеўскі*, спрабавала супрацоўнічаць з акупацыйнымі ўладамі, але няўдала. Многія ксяндзы ўдзельнічалі ў партызанскім антыфашысцкім руху. Асабліва актыўным было польскае духавенства ў Арміі Краёвай, якая для капеланаў і афіцэраў мела нават падпольны час. «Sursum corda» («Узнясенне сэрца»). За ўдзел у антыфашысцкім руху акупанты загубілі больш за 100 чалавек каталіцкага духавенства, у т.л. Ю.Кашыра, А.Ляшчэвіч (гл. таксама *Назарэцянкі*). На 1945 у БССР захавалася 325 касцёлаў (90 разбурана ў вайну). Пасля вайны пачалася новая хваля скасавання парафій і абмежавання дзейнасці Р.-к.ц. Духавенства масава выязджала ў Польшчу, многія рэпрэсіраваны. На 1.1.1960 у БССР існавала 191 каталіцкае аб'яднанне са 102 ксяндзамі, на 1985—96 аб'яднанняў з 52 ксяндзамі. Біскупы ў дыяцэзіі не прызначаліся. Сувязі Р.-к.ц. на Беларусі з *Ватыканам* былі парушаны (ажыццяўляліся нелегальна праз епіскапат Польшчы). Кадры духавенства для Беларусі з 1975 рыхтаваліся ў Рыжскай каталіцкай духоўнай семінарыі. У 2-й пал. 1980-х г. у СССР пачалося ажыўленне рэліг. дзейнасці, у т.л. Р.-к.ц. Адчыняюцца старыя і будуюцца новыя касцёлы, аднаўляецца дзейнасць манаскіх ордэнаў, вядзецца місіянерская дзейнасць, выдаецца рэліг. літаратура і інш. Арганізаваны епархіяльныя структуры: у 1989 засн. апостальская адміністрацыя ў Мінску, у 1991 утвораны новыя царк.-адм. адзінкі — *Гродзенская рымска-каталіцкая епархія* (у межах Гродзенскай вобл.) і *Мінска-Магілёўская архіепархія-мітраполія* (архідыяцэзія, у межах Мінскай і Магілёўскай абл.) з падпарадкаваннем апошняй *Пінскай рымска-каталіцкай епархіі* (у межах Брэсцкай і Гомельскай абл.), у 1998 — Віцебская дыяцэзія (у межах Віцебскай вобл.). На 1.1.2000 у Рэспубліцы Беларусь было: 405 прыходаў, 266 ксяндзоў, 7 кляштараў (усе жаночыя), *Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя* (з 1990), выдаюцца час. «Наша вера» (Мінск), «Дыялог» (Баранавічы), «Ave Maria» (час. Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі), «Ave Maria. Маленькі рыцар Беззаганнай» (Мінск), «Misericordia» («Міласэрнасць», Гродна), газ. «Слова жыцця» (Гродна), «Odkupiciel» («Збавіцель», Гродна), «Каталіцкія навіны» (Мінск—Магілёў).

*Літ.:* Куроедов В.А. Религия и церковь в советском государстве. М., 1981; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795). М., 1971; Яго ж. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; Яго ж. Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии (1918—1939). Мн., 1983; Докторов В.Г. Католицизм сегодня: Некоторые вопр. идеологии. Мн., 1984; Глябовіч А. Касцёл у няволі // Спадчына. 1994. №1—2; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн., 1998.

*І.Г.Ганчарук, В.В.Грыгор'ева, А.М.Філатава, Э.С.Ярмусік.*

РЫ́МСКАЯ КУ́РЫЯ — царкоўны ўрад у Ватыкане, які складаецца з рознага кшталту *кангрэгацый* (дэпартаментаў, міністэрстваў). Стваралася на працягу 16 ст. Да таго часу адм. царк. справамі кіравала папская канцылярыя. Гал. міністэрствам Р.к. з'яўляецца статс-секрэтарыят (з 1692 г.), кіраўнік якога (звычайна кардынал) з'яўляецца правай рукой папы і выконвае функцыі прэм'ер-міністра і міністра замежных спраў. Р.к. неаднаразова рэарганізоўвалася, апошні раз папам Паўлам VI ў жн. 1967. Цяпер Р.к. складаецца са статс-сакратарыята, 9 кангрэгацый, 3 трыбуналаў, 3 сакратарыятаў (створаны пасля II Ватыканскага сабора, 1962—65); па адзінству хрысціян, па сувязях з нехрысц. рэлігіямі і па справах няверуючых. Уключае таксама Савет па справах міран, камісіі («Справядлівасць і мір» і па справах Расіі), фінансавыя службы. Прафектура па эканамічных справах Святога прастолу (міністэрства фінансаў) і Кіраўніцтва ўласнасці апасталічнага прастолу; кіраванне дзяржавай-горадам Ватыкан і розных інш. службаў. Асн. дэпартаменты ўзначальваюцца кардынальскімі камісіямі на чале з прэфектам або прэзідэнтам. У склад Р.к. ўваходзяць кардынальская калегія і сінод каталіцкай царквы. У іх адм. апараце працуе каля 3 тыс. чалавек, у асн. духоўныя асобы. Афіц. мова Р.к. — лац., рабочая — італьянская.

РЫПІ́ДА (ад грэч. rhipis, веер) — прамяністы круг з золата, серабра або залочанай бронзы з выявай шасцікрылага серафіма, замацаваны на доўгім дрэўцы. Ужываецца пры архірэйскім набажэнстве, а таксама яе нясуць у час хрэснага ходу з удзелам епіскапа.

РЭВІНДЫКА́ЦЫЯ (ад лац. re частка слова для абазначэння паўторнага дзеяння + vindicato абарона, ахова) — вяртанне маёмасці першапачатковаму ўладальніку, а таксама скарга аб гэтым. У 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі Р. наз. працэс перадачы каталіцкай царкве культавых будынкаў, зямель, інш. рухомай і нерухомай маёмасці, што да 1793—1839 належала уніятам (грэка-католікам), але была адпісана царскім урадам правасл. царкве. Хоць хадайнікам аб Р. выступала не уніяцкая (непасрэдна пацярпелая), а каталіцкая царква, да 1925 каля 320 храмаў на зах.-бел. і зах.-укр. землях былі рэвіндыкаваны на яе карысць. Абапіраючыся на канкардат 1927 паміж польскім урадам і рымскім папам, паводле якога каталіцтва прызнавалася пануючым веравызнаннем у Польшчы, дзярж. ўлады абавязаліся перадаць католікам уласнасць былых уніяцкіх парафій. У 1930 католікі падалі судовыя скаргі аб Р. 500 правасл. цэркваў, 300 з іх паводле прысудаў былі пераўтвораны ў касцёлы. Адабранне правасл. храмаў не заўсёды

мела на мэце задавальненне рэліг. патрэб насельніцтва інш. веравызнання. Так, некалькі дзесяткаў цэркваў былі разбураны, шмат бажніц не выкарыстоўваліся або абслугоўвалі невял. колькасць вернікаў каталіцкай канфесіі. У той жа час тысячы праваслаўных былі пазбаўлены храмаў. Напр., у в. Сталовічы Баранавіцкага пав., дзе было 500 католікаў і ў іх меўся касцёл, у 4 тыс. праваслаўных была рэвіндыкавана царква з усёй маёмасцю. Вял. маштабы набыла ў Зах. Беларусі канфіскацыя царк. зямель. У 1924—36 правасл. абшчыны страцілі 17 400 дзесяцін зямлі. Палітыка Р. садзейнічала хуткаму павелічэнню колькасці касцёлаў і ўзмацненню пазіцый каталіцкай царквы на тэр. Зах. Беларусі.

*Літ.:* К а с я к І. З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу. Нью-Йорк, 1965; История русской церкви, 1917—1997. Кн. 9. М., 1997. *Г.А.Мудрачэнка.*

РЭ́КВІЕМ — памінальнае богаслужэнне ў каталіцкай царкве; твор для хору (звычайна з сімфанічным аркестрам) на тэкст малітвы «Requiem aeternam dona eis» («Пакой вечны дам ім»). Вядомы Р., напісаныя Моцартам, Берліёзам, Вердзі, якія часта выконваюцца ў канцэртных залах.

РЭЛІ́ГІЯ (лац. religio набожнасць, культ багоў ад religare звязваць) — светапогляд і светаадчуванне, а таксама адпаведныя паводзіны і спецыфічныя дзеянні (культ), заснаваныя на веры ў існаванне звышнатуральных істот (духаў, багоў і інш.). Структуру Р. складаюць: рэліг. свядомасць (рэліг. ідэі, уяўленні, пачуцці), рэліг. культы (богаслужэнні, таінствы, пасты, малітвы, святы, рытуалы і інш.), рэліг. арг-цыі (цэрквы, секты, дэнамінацыі). Вылучаюць розныя гіст. формы і тыпы Р.: родава-плямянныя (*язычніцтва*); нац.-дзярж., ці этнічныя (*іудаізм, індуізм, сінтаізм*, даасізм і інш.); сусветныя, ці наднацыянальныя (*будызм, хрысціянства, іслам*). Для старaж. Р. характэрны політэізм (шматбожжа), які змяніўся монатэізмам (адзінабожжам). Як важны састаўны элемент чалавечай культуры Р. існуе з часоў, калі з'явіўся чалавек сучаснага тыпу — Homo Sapiens. Яна ўзнікла ў эпоху верхняга палеаліту, каля 50—40 тыс. гадоў назад, на адносна высокай ступені развіцця першабытнага грамадства. Гістарычна найб. раннімі і прымітыўнымі выяўленнямі Р. былі *магія, татэмізм, анімізм, фетышызм* і інш. Ням. філосаф І.Кант лічыў, што Р. з'яўляецца пазнаннем нашых абавязкаў у выглядзе божых запаведзяў і неабходная чалавеку для абгрунтавання маральных прынцыпаў яго паводзін. Г.Гегель разглядаў Р. як самасвядомасць абсалютнага духа. Англ. этнограф Дж.Фрэзер асн. крыніцай Р. лічыў чалавечае пачуццё абсалютнай залежнасці ад Бога і сцвярджаў, што чалавецтва ў сваім разумовым развіцці прайшло 3 стадыі: магію — Р. — навуку. Ф.Энгельс, падкрэсліваючы сац. карані Р., вызначаў яе як «фантастычнае адлюстраванне ў галовах людзей тых знешніх сіл, якія ўладараць над імі ў іх паўсядзённым жыцці, адлюстраванне, у якім зямныя сілы прымаюць форму незямных». Англ. антраполаг і рэлігіязнавец Э.Тайлар распрацаваў анімістычную канцэпцыю паходжання Р., паводле якой у аснове ўсіх Р. ляжаць першабытныя ўяўленні аб душы і звышнатуральных істотах. Псіхалагічныя канцэпцыі Р. выводзяць яе з асобных станаў псіхікі індывіда (У.Джэмс, З.Фрэйд і інш.), а сацыялагічныя канцэпцыі фіксуюць увагу на сац., грамадскай абумоўленасці Р. (Э.Дзюркгейм, М.Вебер і інш.). Прадстаўнікі багаслоўска-тэалагічнай канцэпцыі паходжання Р. лічаць, што Р. — гэта вера ў адзінага Бога-стваральніка, а яе вытокі бачаць у божым адкрыцці, якое аднойчы было дадзена людзям і лічыцца безумоўна ісцінным, нязменным.

На тэр. Беларусі ў старaж. перыяд панавала язычніцтва, для якога характэрны абагаўленне прыродных сіл і стыхій (*пантэізм*), вера ў рэальнае існаванне душы, добрых і злых духаў (*анімізм*), надзяленне чалавечымі рысамі і якасцямі прыродных з'яў, багоў, міфічных істот (*антрапамарфізм*), вера ў цудадзейную сілу асобных матэрыяльных прадметаў (фетышызм), уяўленні пра звышнатуральную роднасць паміж людзьмі і пэўным відам жывёл і раслін (татэмізм), культ продкаў і інш. У канцы 10 — пач. 11 ст. дзярж. рэлігіяй на землях Беларусі стала хрысціянства ва ўсх. форме (з 1054 праваслаўе), пасля Крэўскай уніі 1385 — і каталіцызм (іх гісторыю гл. ў арт. *Праваслаўная царква, Рымска-каталіцкая царква*). Царква або адкрыта змагалася з язычніцкімі традыцыямі, або прымяркоўвала свае святы і абрады да старaж. нар. календара (язычніцкім святам надаваўся сэнс царкоўных, а ранейшым багам — імёны хрысціянскіх святых). Для бытавання рэліг. вераванняў на Беларусі быў характэрны *сінкрэтызм* — арганічнае ўзаемапераплаценне старaж. язычніцкіх з больш познімі хрысціянскімі ўяўленнямі. З 14—15ст. у перыяд з'яўлення ў ВКЛ яўрэяў і татар пашырыўся іудаізм і іслам. У 16 ст. ўзнік *пратэстантызм*, гал. чынам у выглядзе *кальвінізму, лютэранства, арыянства* і інш. У 1596—1839 існавала *уніяцкая царква*, вернікамі якой у канцы 18 ст. было да 75% беларусаў, рашэннем *Полацкага царкоўнага сабора 1839* далучана да праваслаўя (гл. *Беларуская грэка-каталіцкая царква*). Царскім указам у крас. 1905 адменены абмежаванні дзейнасці неправасл. рэліг. аб'яднанняў і цэркваў. У лют. 1918 у адпаведнасці з дэкрэтам СНК РСФСР «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы» адменены ўсе ранейшыя прывілеі царквы, маёмасць царквы і

рэліг. т-ваў абвешчана агульнанароднай, рэліг. арг-цыям забаронена адкрываць ці мець агульнаадук. школы, выкладаць у школах рэліг. вучэнні і інш. У студз. 1922 прынята аналагічная па змесце пастанова СНК БССР «Аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы». Пасля гэтага з боку дзяржавы вялася актыўная барацьба з Р. («опіумам народа», паводле К.Маркса), метады і формы гэтай барацьбы часта набывалі адм. характар. На 1939 г. у БССР засталіся 2 дзеючыя храмы (у Зах. Беларусі былі 542 царквы). Пасля пэўнага ўздыму рэліг. актыўнасці ў Вял. Айч. вайну ў 1950—60-я г. ў БССР аднавілася палітыка абмежаванняў у дзейнасці рэліг. аб'яднанняў і т-ваў, вялася актыўная антырэліг. прапаганда. Лібералізацыя адносін да Р. пачалася ў канцы 1980-х г. напярэдадні святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі. За 2 гады (1988—89) удзельная вага веруючых павялічылася амаль у 2 разы, і ў 1989 кожны чацвёрты апытаны беларус лічыў сябе веруючым. Актывізацыі рэліг. жыцця спрыялі такія фактары, як абвяшчэнне эканам. і паліт. незалежнасці Беларусі, увядзенне шматпартыйнасці, нарастанне негатыўных з'яў у сац.-эканам. развіцці грамадства, дэмакратызацыя грамадска-паліт. жыцця і інш. За 10 гадоў (1988—97) колькасць рэліг. абшчын павялічылася ў 2,5 раза, а рэліг. кірункаў — у 3 разы. У Рэспубліцы Беларусь існуе 26 канфесій (2000 г.). У сучасным бел. грамадстве для часткі насельніцтва (найперш сельскага) характэрны рэліг. прымхі, у якіх захоўваюцца сляды язычніцтва на ўзроўні нар. свят, абрадаў і звычаяў (напр., язычніцкімі па паходжанні з'яўляюцца многія замовы, варажба, добразычлівыя ці зламоўныя пажаданні, святы Купалле, Каляды, Дзяды, абрад гукання вясны і інш.). На Беларусі дзейнічаюць як шматлікія традыцыйныя (праваслаўе, каталіцызм, асобныя кірункі пратэстантызму), так і нешматлікія, маргінальныя нетрадыцыйныя Р. (напр., дээн-будызм, бахаізм, вайшнавы і інш.). Дзейнасць рэліг. абшчын і цэркваў рэгулюецца адпаведнымі статутамі і дзярж. заканадаўчымі актамі. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 (са зменамі і дапаўненнямі 1996) забяспечвае роўнасць перад законам усіх Р. і веравызнанняў. У снеж. 1992 прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях», які абвясціў свабоду рэліг. аб'яднанняў, гарантаваў усім грамадзянам права прытрымлівацца любой Р. або не прызнаваць ніякай. У Законе адзначаецца, што ўсе грамадзяне маюць аднолькавыя правы незалежна ад рэліг. прыналежнасці; царква аддзелена ад дзяржавы, а дзярж. сістэма адукацыі і выхавання мае свецкі характар. Рэліг. сітуацыя на Беларусі на працягу стагоддзяў вызначалася даволі высокім узроўнем міжканфесіянальнай талерантнасці (верацярпімасці).

*Літ.:* Иллюстрированная история религии. Т. 1—2. М., 1992; Гарошка Л. Навука і рэлігія. Дрэтома. Друя, 1994; Основные закономерности в религиозном сознании населения Республики Беларусь в современных условиях. Мн., 1995; Религия и церковь: Краткий науч.-популярн. очерк. Мн., 1998; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX стст.). Мн., 1998; Великие религии человечества. М., 1999.

Э.С.Дубянецкі.

РЭЛІ́КВІІ (лац. reliquiae рэшткі, астанкі) царкоўныя — прадметы, якія карыстаюцца рэлігійным шанаваннем і звязваюцца з жыццём Хрыста, Багародзіцы ці святых. Да Р. адносяць таксама *мошчы*. Культ Р. найб. распаўсюджаны ў каталіцызме. У каталіцкіх храмах і кляштарах захоўваюць рэшткі адзення Хрыста, кавалачкі «крыжа, на якім ён быў распяты», цвікі, «якімі яго прыбівалі да крыжа», і інш. Храмы і кляштары, што валодаюць Р., асабліва ўшаноўваюцца і прыцягваюць шматлікіх паломнікаў.

РЭФАРМА́ЦЫЯ (ад лац. reformatio пераўтварэнне) — шырокі сацыяльна-палітычны і ідэалагічны рух у Еўропе, накіраваны супраць *рымска-каталіцкай царквы* і яе ролі ў палітычнай сістэме грамадства; прывёў да ўзнікнення розных форм *пратэстантызму*. Ідэйнымі крыніцамі Р. былі *гуманізм* эпохі Адраджэння і сярэдневяковыя *ерасі*. Гал. месца ў ідэалогіі Р. займала вучэнне пра тое, што для *выратавання* душы верніка не патрабуецца пасрэдніцтва царквы, таму адмаўлялася неабходнасць яе існавання з усёй іерархіяй на чале з папам рымскім. Адзінай крыніцай веры было абвешчана Свяшчэннае пісанне — *Біблія*. Пачаткам Р. лічыцца выступленне 31.10.1517 прафесара тэалогіі Вітэнбергскага ун-та ў Германіі М.Лютэра, у якім ён асудзіў гандаль папскімі індульгенцыямі. У ліку вядучых тэарэтыкаў Р. былі тэолагі са Швейцарыі У.Цвінглі і Ж.Кальвін (бюргерска-буржуазны кірунак) і германскі святар Т.Мюнцэр (сялянска-плебейскі кірунак).

На фарміраванне Р. на Беларусі паўплывалі заходне-еўрап. гуманізм, гусіцкая ідэалогія, вучэнні правадыроў еўрап. Р. (асабліва *кальвінізм*), ідэі рус. вальнадумства. Прагрэсіўная грамадская думка Расіі, рацыяналістычныя ерасі *Ф.Касога, Ігнація*, якія жылі на Беларусі, садзейнічалі фарміраванню радыкальнага кірунку бел. Р. Першыя пратэстанцкія абшчыны тут узніклі да сярэдзіны 16 ст. У 1535 слуцкі кн. Юрый Алелькавіч выдзеліў зямельны ўчастак для лютэранскай царквы ў Слуцку. Аднак *лютэранства* тут не атрымала такога вялікага пашырэння, як кальвінізм, які больш адпавядаў традыц. каштоўнасцям вольнасці магнатаў і шляхты. У 1550-я г. ў духу кальвінізму рэфармаваны цэрквы ў Нясвіжы, Брэсце, Клецку, Ляхавічах, Койданаве, Навагрудку, пазней у Віцебску, Мінску,

Полацку, Глыбокім, Івянцы, Оршы, Смаргоні і інш. Р. падтрымалі буйныя феадалы: Радзівілы (гал. пратэктарам кальвінізму ў ВКЛ быў М.*Радзівіл* Чорны), Кішкі, Сапегі, Хадкевічы, Тышкевічы і інш. У 1557 у Вільні адбыўся ўстаноўчы сінод пратэстанцкіх абшчын ВКЛ. Пры пратэстанцкіх абшчынах адкрываліся школы, шпіталі, друкарні і інш. У 1560-я г. адбыўся раскол кальвініcцкага лагера. З яго вылучыўся радыкальна-рэфармацыйны кірунак — *антытрынітарыі* (прыхільнікі *арыянства*), якія крытыкавалі асновы феадалізму, падтрымлівалі патрабаванні нізоў. Пераемнікамі антытрынітарыяў былі *сацыніяне*. Своеасаблівасцю Беларусі было тое, што ў рэфармацыйным руху ўдзельнічалі і выхадцы з правасл. царквы (напр., дыякан з Віцебска К.*Каладынскі*). Пасля Люблінскай уніі 1569 на Беларусі пачалося наступленне *Контррэфармацыі*.

Р. актыўна ўздзейнічала на духоўныя працэсы на Беларусі. З ёю звязана фарміраванне бел. народнасці і станаўленне нац. самасвядомасці, пашырэнне кнігадрукавання, развіццё літаратуры, мастацтва, асветніцкай дзейнасці.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XV — начало XVII вв.). Мн., 1970; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационное движение в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XV в. М., 1990; Шалькевіч В.Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мн., 1999.

*Г.У.Грушавы, В.Ф.Шалькевіч.*

**РЭФО́РМЫ ДУХО́ЎНЫХ НАВУЧА́ЛЬНЫХ УСТАНО́Ў ПРАВАСЛА́ЎНАГА ДУХО́ЎНАГА ВЕ́ДАМСТВА** ў Расійскай імперыі. На Беларусі ў канцы 18 — пач. 20. ст. існавалі усе тыпы духоўных навуч. устаноў, падпарадкаваных Свяцейшаму Сіноду (акрамя духоўных акадэмій). Да пач. 19 ст. семінарыі Беларусі, як і ўсёй Рас. імперыі, кіраваліся ў сваёй дзейнасці «Духоўным рэгламентам» (1721). Яны ўяўлялі змешаныя навуч. ўстановы, якія сумяшчалі курс ніжэйшай і сярэдняй школы, пачынаючы ад простай граматыкі і да вышэйшых багаслоўскіх навук. У 1798 зроблена беспаспяховая спроба уніфікаваць навуч.-выхаваўчы працэс у семінарыях, дзе захавалася перавага схаластыкі і фармалізму. Навучанне праводзілася на лац. мове, адсутнічалі статут, пастаянны знешні нагляд за навуч. працэсам, агульнае кіраванне. У 1808 створана Камісія духоўных вучылішчаў, якая кіравала духоўнымі навуч. установамі праз акруговыя акад. праўленні. Семінарыі былі размеркаваны па 4 духоўна-вучэбных акругах, на чале якіх стаялі духоўныя акадэміі. Мінская семінарыя была ўключана ў Кіеўскую акругу, Магілёўская — у Санкт-Пецярбургскую. 30.5.1814 імператар Аляксандр I зацвердзіў статут правасл. духоўных семінарый. Яны павінны былі рыхтаваць правасл. святароў або выхаванцаў для духоўных акадэмій. 6-гадовы курс навучання складаўся з трох двухгадовых класаў: клас славесных навук з далучэннем да іх усеагульнай гісторыі, клас філасофскіх навук з далучэннем матэматыкі і фізікі, клас багаслоўскіх навук з далучэннем царк. гісторыі. Усе правасл. духоўныя семінарыі з падначаленымі ім духоўнымі вучылішчамі былі падзелены на 3 разрады: першы, другі і трэці з адпаведна вышэйшым, сярэднім і ніжэйшым акладамі. Мінская і Магілёўская семінарыі атрымалі сярэднія оклады. Пераўтварэнне Магілёўскай семінарыі па статуце 1814 адбылося ў 1814, Мінскай — у 1817. У 1821 Мінская семінарыя аднесена да першага разраду. Пасля скасавання уніяцкай царквы (1839) яе духоўныя навуч. установы афіц. сталі праваслаўнымі. У пач. 1840-х г. дзяржава адабрала фундушы (маёнткі) б. уніяцкіх духоўных школ, і яны пачалі ўтрымлівацца на сродкі духоўна-вучэбнага капіталу. Рэформа 1840-х г. закранула толькі навуч. працэс семінарый: колькасць абавязковых прадметаў павялічылася да 26, у навуч. курс уведзены асновы медыцыны, сельскай гаспадаркі, прыродазнаўчыя навукі; выкладанне пераводзілася на рус. мову. Паводле статуту 1867 семінарыі сталі 6-класнымі навуч. установамі з аднагадзічным курсам навучання ў кожным класе. З навуч. курса былі выключаны 10 дысцыплін, замест іх уведзены агляд філасофскіх вучэнняў, педагогіка і адна з сучасных замежных моў. Чатыры ніжэйшыя класы семінарый складалі закончаны агульнаадукацыйны курс сярэдняй навуч. установы. Уводзіліся калегіяльнасць у прыняцця рашэнняў, выбарнасць службовых асоб, шырокі ўдзел выкладчыкаў у кіраванні семінарыямі. Быў скасаваны ранейшы падзел навуч. устаноў на разрады, ва ўсіх епархіях уводзіліся адзіныя аклады настаўнікам. Скасоўваліся размеркаванне семінарый і вучылішчаў па духоўна-вучэбных акругах і адм. улада акадэмій у адносінах да семінарый. У 1867 скасавана Духоўнае вучэбнае упраўленне і створаны Вучэбны к-т пры Сінодзе. Семінарыі Беларусі (Полацкая, Літоўская, Мінская і Магілёўская) былі пераўтвораны на падставе новага статуту да сярэдзіны 1870-х г. Увядзенне статуту 1884 было адно з контррэформ Аляксандра III: скасавана самакіраванне і выбарчы пачатак, адменены агульныя пед. сходы праўленняў семінарый. Яны былі зноў размеркаваны па духоўна-вучэбных акругах, павялічылася ўлада над імі епархіяльных архірэяў. Семінарыі на Беларусі (Літоўская, Мінская, Магілёўская, Віцебская) былі падначалены Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У розныя часы падвяргаліся пераўтварэнням і рэфармаванню таксама духоўныя вучылішчы.

*С.М.Васіліч.*



САБО́Р — 1) галоўны храм *епархіі*, горада ці манастыра, дзе богаслужэнне адпраўляе вышэйшая духоўная асоба. 2) Афіц. сход *епіскапаў* і інш. прадстаўнікоў хрысц. цэркваў з мэтай распрацоўкі палажэнняў веравучэння, богаслужэння, дысцыплінарных норм і мер барацьбы з ерасямі. Першым С. па традыцыі лічыцца сустрэча апосталаў у Іерусаліме. Бываюць памесныя С. і *ўсяленскія саборы*. На памесным С. збіраюцца іерархі асобных краін ці рэгіёнаў. У каталіцызме памесны С. называецца *сінодам*.

САБО́Р БЕЛАРУ́СКІХ СВЯТЫ́Х — праваслаўныя святыя, жыццё і дзейнасць якіх адбываліся на тэр. Беларусі. Святкаванне С.б.с. усталявана ў 1984 па благаславенні патрыярха маскоўскага і ўсяе Русі Пімена і праводзіцца штогод у 3-ю нядзелю Пяцідзесятніцы (*Тройцы*). Акрамя таго, амаль для кожнага святога ёсць асобны дзень памяці. У С.б.с. уваходзяць:

Свяціцель *Міна Полацкі* (?—1116). Памяць 20 чэрв. (3 ліп.).

Прападобны *Марцін Тураўскі* (?—1150). Памяць 27 чэрв. (10 ліп.).

Дабраверны Р а с ц і с л а ў (паміж 1100 і 1101—1167), кн. кіеўскі, смаленскі. Памяць 14(27) сакавіка.

Прападобная *Ефрасіння Полацкая* (каля 1101—67). Памяць 23 мая (5 чэрв.).

Свяціцель *Дыянісій Полацкі* (?—1182). Памяць у 3-ю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы.

Свяціцель Кірыла, епіскап тураўскі. Гл. *Кірыла Тураўскі*. Памяць 28 крас. (11 мая).

Свяціцель *Лаўрэнцій Тураўскі* (каля 1113 — пасля 1190). Памяць 29 студз. (11 лютага).

Прападобны *Елісей Лаўрышаўскі* (?—1250). Памяць 23 кастр. (5 ліст.). Помнік у в. Лаўрышава Навагрудскага р-на (1996).

Свяціцель С і м я о н (?—1289), епіскап полацкі. Меў шырокую багаслоўскую адукацыю, быў выдатным прамоўцам. Вядома невял. «Наказанне» Сімяона полацкаму кн. Канстанціну, якое ўвайшло ў *Кормчыя кнігі*. Папракаў улады ў спрыянні выключна багатым і заклікаў абараняць бедных ад уціску з боку «моцных». Займаўся дабрачыннасцю, апекаваўся жабракамі, сіротамі, удовамі. Паміж 1265 і 1271 пакінуў Полацк і па запрашэнні вял. кн. уладзімірскага Яраслава Яраславіча стаў першым цвярскім епіскапам. Магчыма, займаў нейкі час абедзве кафедры. Удзельнічаў ва Уладзімірскім саборы 1274. Памяць 3(16) лютага.

Пакутнікі А н т о н і й, І а а н і Я ў с т а ф і й (?—1347). Гл. *Віленскія пакутнікі*. Памяць двойчы: 14(27) крас. — спачын і 13(26) ліп. — перанясенне мошчаў.

Праведная дзева *Юліянія Альшанская* (?—1550). Памяць двойчы: 6(19) ліп. і 28 вер. (11 кастр.).

Праведная С а ф і я (1585—1612), княгіня слуцкая. Жонка князя Яна Радзівіла. Памяць 19 сак. (1 крас.).

Прападобнапакутнік А ф а н а с і й (каля 1597—1648), ігумен брэсцкі. Гл. *Афанасій Брэсцкі*. Памяць двойчы: 20 ліп. (2 жн.) — адшуканне мошчаў і 5(18) вер. — спачын.

Прападобнапакутнік *Макарый Канеўскі* (?—1678). Памяць двойчы: 13(26) мая — перанясенне мошчаў: 7(20) вер. — спачын.

Пакутнік дзіцятка *Гаўрыіл Беластоцкі* (1684—1690). Памяць 20 крас. (3 мая).

Свяціцель Г е о р г і й (1717—1795), архіепіскап магілёўскі і беларускі (гл. *Каніскі* Г.). Памяць двойчы: 13(26) лют. — спачын і 24 ліп. (6 жн.) — праслаўленне.

Праведны І а а н К а р м я н с к і (1839, в. Агародня Добрушскага р-на Гомельскай вобл. — 1917). Быў іераманахам, вызначаўся дабрынёй, міласэрнасцю і празорлівасцю. Мошчы знаходзяцца ў Пакроўскай царкве ў в. Карма Добрушскага р-на. Памяць двойчы: 18(31) мая — праслаўленне і 27 жн. (9 вер.) — спачын.

28.10.1999 на пасяджэнні Сінода Бел. правасл. царквы здзейснена кананізацыя «ў ліку мясцоваўшаноўваемых святых 23 новапакутнікаў», кліры-

каў Мінскай епархіі 1-й пал. 20 ст. (гл. *Новапакутнікі Мінскай епархіі*. Памяць 15 (28) кастр.

*Літ.:* Мельников А.А. Путь непечален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992; Яскевіч А. Падзвіжнікі і іх святыні. Мн., 2001; Святыя зямлі Беларускай // Беларускі праваслаўны каляндар. 1994. Мн., 1993.

*Т.А.Матрунчык, В.А.Варонін (Сімяон).*

САБО́РНАСЦЬ, кафалічнасць — рэлігійна-багаслоўскае паняцце, якое азначае адзінства, цэласнасць царк. арганізма. Абвяшчаючы сябе саборнай ці кафалічнай, пэўная царква імкнецца да адзінства і быць адзінай ў свеце. Ідэя С. сыходзіць з вучэння апостала *Паўла* пра царкву. Але самастойнасць і характар вызначэння паняцце С. упершыню набывае ў працах аднаго з заснавальнікаў славянафільства А.С.Хамякова, які трактаваў С. як асаблівы род аб'яднання людзей, засн. на свабодзе, любові і веры і процілеглы асацыяцыі — механічнаму аб'яднанню людзей. С. паводле Хамякова — супрацьлеглае паняцце як індывідуалізму, які разбурае чалавечую прыроду, так і калектывізму, які нівеліруе асобу. Паняцце С. стала цэнтральным у праваслаўна-славянафільскім кірунку рус. рэліг. філасофіі, прыхільнікі якога сцвярджаюць місіянерскую функцыю рус. правасл. царквы і крытыкуюць каталіцызм, які выцісnуў С. з-за знешняга аўтарытэту папскай улады, і пратэстантызму, які падчас Рэфармацыі пазбавіў асобу цэласнага царк. жыцця.

САБО́РНЫ РУХ, канцылярызм — плынь у каталіцкай царкве, ідэолагі якой абвяргалі дамаганні папства на універсальную ўладу і абгрунтоўвалі яго падпарадкаванне дзяржаве ў свецкіх справах і аўтарытэту *Усяленскіх сабораў* у царк. справах. Існаваў ў 14 — пач. 15 ст., узмацніўся ў час «Вялікай схізмы». Прадстаўнікі С.р. — Жан Жарсон (1363—1429), П'ер д'Айі (1350—1420) і *Мікалай Кузанскі* (1401—64). Практычнай рэалізацыяй патрабаванняў С.р. стала скліканне Пізанскага (1409) і Канстанцкага (1414—18) сабораў. На апошнім удалося правесці шэраг рашэнняў, накіраваных на абмежаванне папскай улады. Але адсутнасць адзінства ў царкве дазволіла папе Марціну V пазбавіць саборы ў Павіі і Сіене якога-небудзь практычнага значэння, а Яўгенію VI удалося нейтралізаваць пастановы Базельскага сабора, які найб. паслядоўна праводзіў прынцыпы С.р. У 1460 Пій II забараніў апеляцыі да Усяленскага сабора. Важнейшым вынікам С.р. было абвяшчэнне ў Францыі ў 1438 «Буржскай прагматычнай санкцыі», якая прызнала «Базельскія пастановы» і патрабавала ад мясцовых улад строгага іх прытрымлівання.

СА́ВА [у свеце Саветаў Юрый (Георгій) Яўгенавіч; 18.4.1898, С.-Пецярбург — 21.5.1951] праваслаўны царк. дзеяч у Польшчы і Зах. Беларусі. Магістр багаслоўя (1943). Скончыў Пажскі корпус (1916), вучыўся на тэалагічных ф-тах Бялградскага (1921—24) і Варшаўскага (1926—28) ун-таў. Удзельнік 1-й сусв. і грамадз. (у складзе белай добраахвотніцкай арміі) войнаў. З 1920 у эміграцыі ў Сербіі. У 1925 пасвячоны ў святара. З 1929 архімандрыт, дырэктар мітрапаліцкага інтэрната ў Варшаве, з 1931 епіскап люблінскі. Са снеж. 1936 часовы кіраўнік *Гродзенскай праваслаўнай епархіі*, з 1937 епіскап гродзенскі і навагрудскі. Ініцыятар мерапрыемстваў па ператварэнні беларусаў і ўкраінцаў у «праваслаўных палякаў». Прымаў удзел у выданні ў Гродне час. «Przegląd Prawosławny» («Праваслаўны агляд»), гал. мэтай якога была паланізацыя мясц. насельніцтва. З вер. 1939 у Літве, Германіі, Румыніі, Турцыі, Індыі. У 1942—43 у ЗША і Вялікабрытаніі, адкуль накіраваны польскім эмігранцкім урадам у 2-і польскі корпус ген. У.Андэрса на пасаду ваен. капелана; у званні генерала брыгады прайшоў з корпусам увесь баявы шлях. Пасля 2-й сусв. вайны ў Вялікабрытаніі архіепіскап (1947). З 1949 чл. Польскай нац. рады ў эміграцыі.

*Літ.:* Черепица В.Н. Очерки истории Православной церкви на Гродненщине (с древн. времен до наших дней). Гродно. 2000; Arcybiscup generał brygady Sawa (Jerzy Sowetow): Wybór dokumentów. Białystok; Warszawa. 1997.

*В.М.Чарапіца.*

САДКО́ЎСКІ Віктар (свецкае Васіль Сямёнавіч; 1741?—23.11.1803) — праваслаўны царк. дзеяч Беларусі. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1758 прэфект *Магілёўскай духоўнай семінарыі*. У 1768 пасвячоны ў сан іераманаха, чл. Магілёўскай кансісторыі. З 1774 ігумен *Тупічэўскага Свята-Духаўскага манастыра* ў Мсціславе, з 1775 капелан (святар) рас. пасольства ў Варшаве. З 1784 архімандрыт слуцкі. З 1785 епіскап пераяслаўскі і барыспальскі, адначасова намеснік мітрапаліта кіеўскага са знаходжаннем у *Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры*. У час служэння С. актывізавалася правасл. царк. жыццё Беларусі: асвячоны храмы ў Слуцку, Мазыры, Асаўцах, закладзена царква ў Капылі; адкрыты шэраг жаночых і мужчынскіх манастыроў; заснавана духоўная семінарыя ў Слуцку (гл. *Мінская вышэйшая духоўная семінарыя*). У выніку інтрыг з боку каталіцкага і уніяцкага духавенства ў 1789 С. арыштаваны па абвінавачванні ў падбухторванні вернікаў супраць улад Рэчы Паспалітай як агент рас. ўрада і зняволены ў Нясвіжскі замак. Тут яго прымусілі выступіць з заявай аб лаяльнасці каралеўскай уладзе, аднак яшчэ 3 гады пратрымалі ў турмах Варшавы і Чанстахова. У вер. 1792 пасля хадайніцтва рас. пасла Я.І.Булгакава С. вызвалены і апраўданы. У сак. 1793 вярнуўся ў Мінск. Са стварэннем у крас. 1793 *Мінскай праваслаўнай епархіі* С. стаў яе



**Сабор беларускіх святых.** Абраз.

першым архірэем з тытулам «епіскап мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі» (кафедра засталася ў Слуцку). У 1794 выдаў грамату з заклікам да уніятаў вяртацца ў праваслаўе (за няпоўных 6 месяцаў перайшло каля 1,1 млн. вернікаў). З 1795 архіепіскап мінскі і валынскі, архіепіскапская кафедра пераведзена ў Мінск. 3 мая 1796 архіепіскап чарнігаўскі.

*Літ.:* Шейкин Г. Двухсотлетие Минской епархии // Минские епархиальные ведомости. 1993. Июнь; Я г о ж. Мінская епархія // Бел. Праваслаўны каляндар, 1997. Мн., 1996; К о я л о в и ч М.О. История воссоединения западнорусских униатов. Мн., 1999. С. 273—339, 341—359.

*І.В.Аржахоўскі, В.А.Цяплова.*

САКРАЛІЗА́ЦЫЯ (ад лац. sacer свяшчэнны) — 1) надзяленне матэрыяльных прадметаў, персон, дзеянняў, моўных формул, норм паводзін і інш. магічнымі ўласцівасцямі і ўзвядзенне іх ў ранг *сакральных*, свяшчэнных, святых. С. можа адбывацца стыхійна, традыцыйна; у шэрагу канфесій распрацоўваліся спец. працэдуры асвячэння. Святыя прадметы, персоны, дзеянні, тэксты, моўныя формулы і інш. могуць падпадаць пад дэсакралізацыю. Напр., пратэстантызм зняў з культавай практыкі паданні, абразы святых, мошчы і інш. 2) Уцягванне ў сферу рэлігійнага санкцыяніравання грамадскай, групавой і індывідуальнай свядомасці, дзейнасці і паводзін людзей, сацыяльных адносін і інстытутаў.

САКРА́ЛЬНАЕ (лац. sacer свяшчэнны, святы) — 1) рэліг. каштоўнасці — вера, «ісціны» веравызнання, таінствы, царква. 2) Сукупнасць рэчаў, асоб, дзеянняў, тэкстаў, моўных формул, будынкаў і інш., што ўваходзіць у сістэму рэліг. культу. С. процiпастаўляецца свецкаму, таму, што не адносіцца да сферы рэлігіі. 3) Істоты, найчасцей персанажы рэліг. міфаў, надзеленыя незвычайнымі якасцямі.

10. Зак. 287.

САКРА́ЛЬНАЯ МО́ВА, мова, якая ўжываецца ў богаслужэнні той ці іншай *канфесіі*. На ёй напісаны таксама галоўныя свяшчэнныя кнігі. Функцыянаванне С.м. ў кожнай канфесіі вызначаецца гістарычнымі традыцыямі, якім надаецца сакральны сэнс. У раннехрысціянскай царкве С.м. былі іўрыт, лацінская і грэчаская. Пасля падзелу цэркваў *рымска-каталіцкая царква* выкарыстоўвала як сакральную ў імшы лацінскую мову; рашэннем II Ватыканскага сабора 1962—65 дапушчаны і сучасныя нар. мовы, але і цяпер у найбольш урачыстых выпадках імша выконваецца на лацінскай мове. У праваслаўі з самага пачатку акрамя галоўнай грэчаскай у богаслужэнні і царк. літаратуры былі прызнаныя і нар. мовы; але ў наш час *праваслаўная царква* фактычна выкарыстоўвае іх старажытныя формы (стараж.-грэчаскую ў Грэцыі, стараж.-грузінскую ў Грузіі, *царкоўнаславянскую мову* ў слав. краінах, у т.л. ў Беларусі, і інш.), увядзенне сучасных моў у літургію адбываецца павольна. У стараж.-ўсходніх цэрквах у якасці С.м. таксама ўжываюцца стараж. нац. мовы (стараж.-армянская ў армянскай, стараж.-амхарская ў эфіопскай, копцкая — у копцкай царкве Егіпта і г.д.). У *іудаізме* С.м. з'яўляецца іўрыт, у *ісламе* — арабская, у індуізме — санскрыт, у будызме — палі.

САН — 1) званне, звязанае з высокай і ганаровай пасадай у службовай іерархіі. 2) Ступень духоўнай улады ў царк. іерархіі.

САРБЕ́ЎСКІ (Sarbiewski) Мацей Казімір (24.2.1595, в. Сарбева каля г. Плоцк, Польшча — 2.4.1640) — лацінамоўны паэт Польшчы і Беларусі, літаратуразнавец, тэолаг, прадстаўнік культуры барока. Вучыўся ў Пултуску, скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію. З 1612 член ордэна *езуітаў*, у 1623 пасвячоны ў ксяндза. Выкладаў у *Полацкім езуіцкім калегіуме*: у 1618—20 рыторыку, у 1626—27 паэтыку і тэорыю літаратуры. У 1622—26 вывучаў у Рыме філасофію і тэалогію, рэдактар і дапрацоўшчык касцельных гімнаў. Атрымаў у гэты час ад папы Урбана VIII ганаровае найменне «сармацкі Гарацый». У канцы 1620 — сярэдзіне 1630-х г. выкладаў у *Нясвіжскім езуіцкім калегіуме* і ў Віленскай езуіцкай акадэміі (1628—35: прафесар красамоўства, філалогіі і тэалогіі). З 1635 прапаведнік пры двары караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV. Аўтар трактатаў па рыторыцы, паэтыцы, антычнай міфалогіі: «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер», «Лекцыі па паэтыцы», «Багі язычнікаў» і інш. Выйшла 5 прыжыццёвых выданняў паэзіі С. (на канец 20 ст. больш за 60 выданняў). Яго літ. спадчына вывучалася ў еўрап. гімназіях і ун-тах 17—19 ст. У 1851 У.Сыракомля выдаў пераклады вершаў С. на польскую мову з уласнай прадмовай.

*Н.В.Сазановіч.*

САСНО́ЎСКІ Антон Юр'евіч (1775—1852) — рэлігійны дзеяч. Скончыў Бельскае вучылішча і Супрасльскую епархіяльную семінарыю. У розны час займаў пасады прэсвітэра, каноніка ў Драгічыне, Брэсце, быў членам Супрасльскага капітула, віцэ-старшынёй Брэсцкай кансісторыі, афіцыялам Віленскай Мітрапаліцкай кафедры, старшым саборным протаіерэем. У 1838 прызнаны «нядобранадзейным» і сасланы ў Кастрамскую губ. У тым жа годзе памілаваны і неўзабаве адноўлены ў духоўным званні. Правёў больш за 30 гадоў у жорсткай барацьбе з базыльянамі. Дамогся пэўнага паляпшэння ў становішчы белага правасл. духавенства, напісаў шэраг праектаў, частка з якіх атрымала заканадаўчую санкцыю і садзейнічала павелічэнню колькасці уніяцкіх семінарый і вучылішчаў. Быў знаўцам гісторыі царквы і заканадаўства ВКЛ, любіў даўніну, збіраў нар. песні, апавяданні і інш.

САЦЫНІЯ́НЕ — паслядоўнікі Ф.*Соцына*, якія заснавалі ў Польшчы рацыяналістычны кірунак ў *пратэстантызме*, што вызначаўся рэлігійным радыкалізмам. З пункту гледжання грамадска-паліт. зместу сацыніянства было правым крылом польскай пратэстанцкай секты «Польскія браты». С. былі *антытрынітарыямі* (г.зн. адмаўлялі догмат аб тройцы), лічылі Ісуса Хрыста не Богам, а чалавекам, які паказаў шлях да выратавання і набыў боскія ўласцівасці пасля ўваскрэсення. С. прызнавалі Свяшчэннае пісанне адзінай крыніцай веравучэння, але толькі тады, калі яно не супярэчыла розуму; лічылі, што першароднага граху не існуе, таму не патрэбна і збаўленне; абвяргалі кальвініскі догмат аб прадвызначэнні. Філасофскія погляды С. уяўлялі сабой па сутнасці ўтоены *дэізм*. Выгнаныя ў 1658—60 з Польшчы, С. пасяліліся ў Галандыі, Германіі, Англіі, дзе яны растварыліся ў інш. плынях пратэстантызму.

САЮ́З БЕЛАРУ́СКАГА ПРАВАСЛА́ЎНАГА ДУХАВЕ́НСТВА 1917, СБПД — арганізацыя нацыянальна арыентаванай часткі бел. правасл. святароў Віленскай і Гродзенскай губ., якія знаходзіліся ў эвакуацыі ў першую сусветную вайну. Створаны напярэдадні Лютаўскай рэвалюцыі 1917 у Маскве. У СБПД уваходзілі протаіерэі І.У.Карчынскі, І.*Кульчынскі*, святары Л.С.*Паўскі*, Рапнін, Усякоўскі і інш. Саюз далучыўся да бел. нац. руху з цэнтрам у Маскве, летам 1917 правёў з'езд правасл. святароў-беларусаў. Члены саюза супрацоўнічалі з арг-цыяй бел. каталіцкага духавенства «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць» (пазней — *Беларуская хрысціянская дэмакратыя*), імкнуліся да беларусізацыі царк. жыцця, вялі пропаведзі на бел. мове. У пач. 1918 пасля аддзялення цар-

квы ад дзяржавы і арышту актыўных членаў СБПД спыніў сваю дзейнасць. *А.І.Валаханові*ч.

СВАБО́ДА ВЕРАВЫЗНА́ННЯ — адна з асноўных асабістых свабод чалавека, якая ўключае права індывідуальна або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію, свабодна выбіраць, мець і пашыраць рэліг. перакананні і дзейнічаць у адпаведнасці з імі. У Рэспубліцы Беларусь С.в. гарантуецца арт. 31 Канстытуцыі.

СВАРО́Г — у міфалогіі ўсх. славян бог шлюбу, апякун рамёстваў, асабліва кавальства. Сынамі С. лічыліся *Дажбог* (бог сонца і агню, пазней земляробства, урадлівасці, дабрабыту) і Сварожыч (бог агню, памочнік С.).

СВАЯ́К Казімір (сапр. Стаповіч Канстанцін Мацвеевіч; 19.2.1890, в. Барані Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. — 6.5.1926) — бел. паэт, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1914), пасвячоны ў ксяндза ў 1915. Служыў у парафіі Камаі (Пастаўскі р-н Віцебскай вобл.), у 1915—16 у роднай парафіі Клюшчаны (Астравецкі р-н), дзе разгарнуў актыўную рэліг.-нацыянальную дзейнасць: праводзіў беларускамоўныя набажэнствы і казанні, арганізаваў 7 бел. школ і бел. настаўніцкія курсы, касцельны хор, культ.-асветную суполку «Хаўрус сваякоў», драм. гурток. У 1916 пераведзены касцельнымі ўладамі ў в. Карыцін каля Беластока. З 1920 служыў пробашчам у Засвіры (Мядзельскі р-н). За бел. грамадскую дзейнасць праследаваўся польскімі дзярж. касцельнымі ўладамі. Памёр ад сухотаў. Друкаваўся з 1913 у газ. «Беларус». Галоўныя матывы паэтычнай творчасці — Бог і Бацькаўшчына; звязваў гуманістычныя і патрыятычныя ідэі з духоўнасцю і боскасцю. Аўтар вершаў, драм. твораў, гіст.-філас. артыкулаў і інш.

*Тв.:* Мая ліра: зб. вершаў. Мн., 1993; Адраджэнне Беларусі і Унія // Унія. 1991. №1; Унія на Беларусі // Там ж а. 1995. №1. *І.І.Трацяк.*

СВЕ́ДКІ ІЕГО́ВЫ, іегавісты — адна з позніх плыняў *пратэстантызму*. Засн. ў ЗША Ч.Т.Раселам (Руселем), які ў 1870 арганізаваў групу па вывучэнні *Біблії* (адсюль першапачатковая назва С.І. — даследчыкі Свяшчэннага пісання). З 1931 іх афіц. назва С.І. Усяго ў свеце іегавістаў больш за 5 млн. чал., іх дзейнасць зафіксавана ў 232 краінах. Сусв. цэнтр С.І. знаходзіцца ў Брукліне (р-н у Нью-Йорку). Веравучэнне С.І. даволі арыгінальнае, хоць у ім запазычаны некаторыя дактрыны *адвентыстаў* 7-га дня (напачатку Расел быў адвентыстам). Некаторыя даследчыкі лічаць, што папярэдніцай С.І. была рас. секта іегавістаў штабс-капітана М.С.Ільіна (1809—90), які вучыўся ў школе пры *Полацкай езуіцкай акадэміі*, дзе пазнаёміўся з заходняй тэалогіяй. Для С.І. характэрны спецыфічны падыход да традыц. хрысц. дагматыкі: адмаўленне бессмяротнасці душы і веры ў існаванне раю і пекла, своеасаблівая трактоўка Тройцы. Крыніцай усяго жывога і існага, усемагутным і адвечным творцам лічаць Бога Іегову, а Ісуса Хрыста — яго адзінародным сынам, створаным непасрэдна Іеговай. Гісторыю грамадства яны разглядаюць як барацьбу паміж Іеговай і Сатаной, якая ў хуткім часе завершыцца бітвай — Армагедонам. Праведнікі — С.І. ў колькасці 144 тыс. выбраннікаў — знойдуць вечнае жыццё ў тэакратычнай дзяржаве Іеговы, т.зв. раі на Зямлі, астатнія загінуць у бітве. У С.І. няма царк. іерархіі, кожны з вернікаў можа быць прапаведнікам. Афіц. рэліг. свята толькі адно — святкаванне штогод Вечарыны ўспамінаў смерці Ісуса Хрыста, на якой адбываецца прычашчэнне хлебам і віном. Словы Ісуса аб тым, што яго вучні павінны быць «не гэтага свету», трактуецца С.І. літаральна, што вядзе да іх самаізаляцыі ў грамадскім жыцці і нярэдка да канфлікту з уладамі з-за адмовы служыць у арміі, удзельнічаць у выбарах і інш. С.І. вядуць актыўную місіянерскую дзейнасць, для чаго выкарыстоўваюць сродкі масавай інфармацыі. На Беларусі першае т-ва даследчыкаў Свяшчэннага пісання (польск. Badaczy Pisma Świętego) зафіксавана ў 1925 у Брэсцкім павеце. Паводле афіц. звестак польскіх улад, у 1929 у Палескім ваяв. былі 2 групы іегавістаў (87 чал.). У Заходняй Беларусі распаўсюджваліся іегавісцкія выданні — час. «Башня стражи» (пазней «Сторожевая башня»), кнігі іх тагачаснага кіраўніка І.Ф.Рутэрфорда «Арфа Божая», «Ці могуць жывыя гаварыць з памерлымі?», «Пажаданы ўрад», «Фатадрама тварэння» і інш. У савецкі час дзейнасць іегавісцкіх груп і абшчын была забаронена, у 1990-я г. легалізавана ў



М.К.**Сарбеўскі.**

краінах б. СССР. На 1.1.2001 у Рэспубліцы Беларусь налічвалася 26 абшчын іегавістаў, якія аб'яднаны ў Рэспубліканскае аб'яднанне С.І.Беларусі.

*Літ.:* Иеговизм. Мн., 1981. *А.У.Верашчагіна.*

СВЕ́РЖАНСКІ МАНАСТЫ́Р БАЗЫЛЬЯ́Н. Існаваў у 1739—1833 у мястэчку Свержань (цяпер в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на) пры Успенскай царкве, паводле царк. крыніц пабудаванай каля 1590 Мікалаем Крыштофам Радзівілам паводле плана італьянскага архітэктара Я.М.Бернардоні. У 1739 трокскі ваявода і гетман польны Міхал Казімір Радзівіл заснаваў пры царкве манастыр для 4 манахаў-выкладчыкаў і семінарыю для дзяцей уніяцкіх святароў на 12 вучняў. На іх утрыманне даў 3 валокі зямлі і абяцаў плаціць 5200 злотых штогод. Вял. гістарычнай і мастацкай каштоўнасцю манастыра быў цудатворны абраз Маці Божай Навасвержанскай. Паводле падання, ён з'явіўся каля 1500 на дрэве ў лесе на месцы, дзе потым была пабудавана царква. Пра гісторыю цудаў абраза была складзена спец. кніга (выдавалася ў 1650 і 1754). Паступова з-за нявыплат фундушавых грошай манастыр занепаў: у 1812 былі 2 манахі, семінарыстаў не было. У 1833 скасаваны. Драўляныя жылыя будынкі не захаваліся. Царква пераўтворана ў праваслаўную, помнік архітэктуры. Абраз у 1960-я г. загінуў пры закрыцці царквы. *А.А.Ярашэвіч.*

СВЁНТАК Казімір (н. 21.10.1914, г. Валга, Эстонія) — рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Беларусі. Скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю імя Тамаша Аквінскага ў Пінску (1939). У 1939—44 в.а. вікарыя парафіі ў Пружанах. У крас. 1941 арыштаваны і зняволены на працягу 2 месяцаў у брэсцкай турме. У снеж. 1944 зноў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў, зняволенне адбываў у лагерах Сібіры і Комі АССР. Пасля вызвалення 16.6.1954 вярнуўся да пастырскай дзейнасці, з 1.12.1954 пробашч парафіі ў Пінску. З 13.4.1991 архібіскуп мітрапаліт *Мінска-Магілёўскай архіепархіі-мітраполіі*, апостальскі адміністратар *Пінскай рымска-каталіцкай епархіі.* 26.12.1993 атрымаў ад папы Іаана Паўла II званне кардынала. *С.Ф.Адамовіч.*

СВІ́ТЫЧ Аляксандр Калінікавіч [27.3.1890, Магілёўская губ. — 17.8.1963] — бел. гісторык правасл. царквы, выдавец і публіцыст. Скончыў багаслоўскі ф-т Варшаўскага ун-та (1912). Магістр багаслоўя. Выкладаў багаслоўе ў Віленскай духоўнай семінарыі, потым у Варшаўскім ун-це. У 1920—30-я г. супрацоўнічаў з рускамоўнымі выданнямі Варшавы, Вільні, Львова. У 1930—33 выдаваў у Варшаве часопіс «В ограде Церкви». Абараняў пазіцыі праваслаўя ў Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіне, выступаў супраць гвалтоўнай паланізацыі праваслаўных, закрыцця і разбурэння правасл. святынь. У 1936—39 у духоўнай кансісторыі *Гродзенскай праваслаўнай епархіі*, сакратар епіскапа *Савы* (Саветава). Са жн. 1939 да ліп. 1944 у духоўнай кансісторыі Варшаўскай епархіі. Пасля 2-й сусветнай вайны жыў у ЗША, куды вывез свае гіст. матэрыялы.

*Тв.:* Православная Церковь в Польше и ее автокефалия // Православная Церковь на Украине и в Польше в XX столетии. 1917—1950 гг. М., 1997. *В.М.Чараніца.*

СВЯТАВІ́Т (С в е т а в і т, С в е н т а в і т) — галоўнае язычніцкае божышча балтыйскіх славян; ушаноўваўся таксама як бог вайны і дастатку. У Арконе на востраве Руген (Германія) знаходзіўся храм-свяцілішча (разбураны ў 1168) з чатырохгаловай статуяй С.

СВЯТА́Р — гл. *Прэсвітэр.*

СВЯ́ТКІ, «святыя дні» — устаноўленыя правасл. царквой у памяць аб нараджэнні і хрышчэнні *Ісуса Хрыста* 12 дзён: з 25 снеж. па 6 студз. (7—19 студз.). На гэтыя дні (перыяд зімовага сонцавароту) у стараж. славян прыпадалі святы, звязаныя з культам прыроды, якія суправаджаліся рэлігійна-магічнымі абрадамі, заклікannямі аб ураджаі, прыплодзе свойскай жывёлы, варажбой, пераапрананнямі і інш. Укараняючы хрысціянскую веру ў свядомасць народа і сутыкнуўшыся з немагчымасцю пераадолення язычніцкіх вераванняў, царква асімілявала іх, надаўшы ім хрысціянскі змест, характар праслаўлення Хрыста.

СВЯ́ТЦЫ — спіс святых правасл. царквы, складзены ў адпаведнасці з парадкам месяцаў і дзён года, у якія ўшаноўваецца святы. Уключаецца ў богаслужэбныя кнігі. Тыя С., што выдаюцца асобна, называюцца месяцасловам.

СВЯ́ТЫ РЭЛІГІ́ЙНЫЯ — асобыя знамянальныя дні, якія адзначаюцца ў памяць аб важных царк. падзеях ці ў гонар святых. Хрысціянскія святы падзяляюцца на 12 галоўных (або дванадзесятых) і 5 вялікіх. З гал. свят некаторыя адзначаюцца ў пастаянныя дні і наз. непераходнымі (усяго іх 9 — Раство Хрыстова, Хрышчэнне Гасподняе, Стрэчанне Гасподняе, Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы, Праабражэнне Гасподняе, Успенне Прасвятой Багародзіцы, Раство Прасвятой Багародзіцы, Узвіжанне Крыжа Гасподняга, Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы), а другія залежаць ад зменлівага часу святкавання Вялікадня і наз. пераходнымі (іх 3 — Уваход Гасподні ў Іерусалім, Ушэсце Гасподняе, Дзень Святой Тройцы). Усе 5 вял. свят (Абразанне Гасподняе, Раство Іаана Прадцечы, Памяць святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла, Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы, Пакроў Прасвятой Бага-

родзіцы) з'яўляюцца непераходнымі. С.р. звязаны з рэліг. веравучэннем і культам, суправаджаюцца адпаведнымі богаслужэннямі і абрадамі. У час многіх С.р. забараняецца працаваць, вучыцца, забаўляцца. Святочныя дні прызначаюцца для духоўнага багаўгоднага жыцця, наведвання царквы і малітваў. Царк. правасл. каляндар дакладна вызначае і т.зв. «посныя дні» («пасты»). На працягу года бываюць 4 шматдзённыя пасты (найб. важны і строгі — Вялікі Пост, які працягваецца 7 тыдняў перад Вялікаднем). Найвялікшым хрысціянскім святам з'яўляецца Вялікдзень (Пасха, Уваскрэсенне Хрыстова). Пасля прыняцця хрысціянства на Беларусі многія царк. святы паступова былі прымеркаваны да стараж. нар. свят. У выніку атрымалася так, што нар. і рэліг. святы нярэдка адзначаліся ў адны і тыя ж дні. Напр., Каляды — Раство Хрыстова; Грамніцы — Стрэчанне Гасподняе; Гуканне вясны — Дабравешчанне; Вербніца — Уваход Гасподні ў Іерусалім; Вялікдзень — Уваскрэсенне Хрыстова (Пасха); Сёмуха (Зялёныя святкі) — Тройца; Купалле — Раство Іаана Прадцечы; Спас — Праабражэнне Гасподняе, Багач — Раство Дзевы Марыі, ці Раство Багародзіцы, і інш. У правасл. і каталіцкіх хрысціян С.р. адзначаюцца па розных календарах (каталікі — па грыгарыянскім, а праваслаўныя — па юліянскім), таму ў сучасны перыяд розніца паміж датамі іх правядзення складае 13 дзён. Многія бел. святы маюць сінкрэтычны (змешаны) характар, бо ў іх большменш арганічна пераплецены язычніцкія і хрысціянскія элементы (Стрэчанне, Юр'е, Спас, Пакровы).

19.12.1991 Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў закон «Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь», згодна з якім былі прызнаны святочнымі (нерабочымі) дні вял. рэліг. свят па календары правасл. і каталіцкай канфесій: Вялікдзень (Пасха); Радаўніца (па календары правасл. канфесіі); 2 ліст. — Дзень памяці; 25 снеж. і 7 студз. — Раство Хрыстова (каталіцкія і правасл. Каляды). Спец. пастанова Савета Міністраў Рэспублікі «Аб парадку вызначэння нерабочых дзён для вернікаў нехрысціянскіх рэлігій у сувязі з іх святамі» (студз. 1992) прадугледжвала, што нерабочыя дні рабочым і служачым прадстаўляюцца па ўзгадненні з адміністрацыяй прадпрыемстваў, устаноў, арг-цый для святкавання рэліг. свят па іудзейскім (Вялікдзень — першы і апошні дні; Рош-Ашана; Іом-Кіпур) і мусульманскім (Рамазан, Ураза-Байрам, Курбан-Байрам і Маўлюд) календарах. На працягу 2-й пал. 1980 — пач. 1990-х г. асобныя бел. нар. святы намаганнямі дзеячаў культуры былі адроджаны (напр., Купалле, Каляды, Гуканне вясны, Дзяды). У сучасны перыяд



К.Свёнтак.

многія нар. і рэліг. святы афіцыйна прызнаны на дзярж. узроўні.

*Літ.:* Васілевіч У. Беларускі народны каляндар. Мн., 1993; Земляробчы каляндар. Мн., 1990; Крук І. Беларускі нар. каляндар. Мн., 1998; Ліцьвінка В. Святы і абрады беларусаў. 2 выд. Мн., 1998; Лозка А. Беларускі народны каляндар. Мн., 1993; Сысоў У.М. З крыніц спрадвечных. Мн., 1997.

*Э.С.Дубянецкі.*

СВЯТЫ́Я БЕЛАРУ́СІ — рэальныя гістарычныя асобы, якія, паводле паданняў, за сваю адданасць рэлігіі пасля смерці былі ўшанаваны царквой. У 1984 усталявана святкаванне *Сабора беларускіх святых* у 1-ю нядзелю пасля св. Тройцы (*Сёмухі*). Першапачаткова ў Сабор было уключана 15 святых. У Сабор не ўвайшлі асобы, пра якіх не захавалася дастаткова звестак або якія жылі на землях, што не ўвайшлі ў склад сучаснай Беларусі, але без якіх немагчыма ўявіць гісторыю бел. царквы: св. пакутнік *Макарый*, Меркурый, воін смаленскі; прападобныя *Аўрамій Смаленскі* і Яфрэм Смаленскі; свяціцель *Кіпрыян*, мітрапаліт кіеўскі, літоўскі, маскоўскі і ўсяе Русі і інш. Нараджэннем або сваім служэннем апасродкавана з Беларуссю звязаны роўнаапостальны Мікалай Японскі; свяціцель Ціхан, патрыярх маскоўскі; св. пакутнік Іаан (І.Дз.Пашын), вікарны епіскап мазырска-тураўскі; дабраверны князь Цімафей-Даўмонт і інш. З каталіцкіх і уніяцкіх святых ушаноўваюць Іасафата *Кунцэвіча*, Андрэя *Баболю*, Параскеву, княгіню полацкую і інш. Працэсы *кананізацыі* працягваюцца і ў наш час.

*Літ.:* Мельников А.А. Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992. *А.А.Мельнікаў.*

СВЯТЫ́Я ДАРЫ́ — хлеб і віно, рытуальна падрыхтаваныя духоўнай асобай у алтары для

прычашчэння вернікаў. Хлеб гатуецца з пшанічнай мукі, замешваецца на вадзе, у праваслаўі — квасны, у каталіцызме — прэсны (гл. *Просвіра*). Віно павінна быць чыста вінаградным, абавязкова чырвоным (гл. *Праскамідыя*). Папярэдне асвячоныя С.д. — хлеб і віно, асвячоныя напярэдадні дня прычашчэння. Запасныя С.д. служаць для прычашчэння хворых дома; звычайна іх асвячаюць пасля *літургіі* ў вялікі чацвер. Папярэдне асвячоныя і запасныя С.д. захоўваюць у *даразахавальніцы*, транспартуюць у *дараносіцы*.

СВЯТЫ́Я І БЛАЖЭ́ННЫЯ РЫ́МСКА-КАТАЛІЦКІЯ. Святыя — асобы, якія паводле царк. вучэння, сваім праведным самаахвярным жыццём на зямлі ў імя Хрыста заслужылі ад Бога вечнае жыццё і з'яўляюцца нябеснымі пасрэднікамі паміж ім і людзьмі; складаюць разам з Богам Касцёл Трыумфальны. Малітва да святых — гэта не пакланенне, як Богу, а толькі просьба да любімага Богам слугі аб пасрэдніцтве. У гонар святых царквой устаноўлены святы, адпраўляецца імша, асвячаюцца касцёлы і інш. Ніжэйшай ступенню святых з'яўляюцца блажэнныя (іх культ абмежаваны пэўнай тэрыторыяй, без спец. дазволу нельга вывешваць іх абразы і будаваць алтары ў касцёлах, правіць у іх гонар імшу і інш.). Прылічэнне да святых (кананізацыя) і блажэнных (беатыфікацыя) праводзіцца толькі папам рымскім пасля працяглай падрыхтоўчай работы (збору шматлікіх звестак аб зямным жыцці кандыдата). Беатыфікацыя звычайна папярэднічае кананізацыі. На Беларусі жылі наступныя гіст. асобы, якія былі прылічаны да С. і б.

Святыя:

*Казімір* (5.10.1458—4.3.1484), сын караля Польшчы і вял. кн. ВКЛ Казіміра IV Ягелончыка. Памяць 4 сак.

*Баболя* Андрэй (30.11.1591, Страхоцін, каля г. Санак Падкарпацкага ваяв., Польшча — 16.5.1657), рэліг. дзеяч, місіянер. 17.4.1938 кананізаваны (дзень памяці 16 мая).

*Каліноўскі* Юзаф (1.9.1835—15.11.1907). Кананізаваны 17.11.1991.

К о л ь б е Максімілян Марыя (свецкае імя Р а й м у н д; 8.1.1894, г. Здунска-Воля Лодзінскага ваяв., Польшча — 14.8.1941), рэліг. дзеяч. Д-р філасофіі (1915), д-р тэалогіі (1919). Скончыў Грыгарыянскі ун-т у Рыме (1919). Манах ордэна *францысканцаў*, з 1918 ксёндз. З 1919 выкладаў у Кракаўскай францысканскай семінарыі. У 1922—27 служыў у *Гродзенскім кляштары францысканцаў*. У 1927 заснаваў у в. Папротня Лодзінскага ваяв. францысканскі комплекс Непакалянаў (адзін з найб. у свеце) і быў яго кіраўніком. Заснавальнік і рэдактар каталіцкіх выданняў, у т.л. час. «Rycerz Niepokalanej» («Рыцар Бязгрэшна Зачаўшай», з 1922) і газ. «Mały Dziennik» («Малая газета», з 1935). У 1930—36 праводзіў місіянерскую дзейнасць у Кітаі і Японіі, выдаваў «Rycerz...» на мясц. мовах, заснаваў кляштары і семінарыі. У 1936 вярнуўся ў Польшчу. У час ням. акупацыі Польшчы хаваў асоб, якіх расшуквалі ням.-фаш. ўлады. З дазволу акупац. адміністрацыі выдаў адзіны нумар «Rycerza...». 17.2.1941 арыштаваны гестапа і 28.5.1941 змешчаны ў канцлагер Асвенцім. Добраахвотна прапанаваў сябе замест аднаго з прызначаных да пакарання смерцю вязняў. 17.10.1971 беатыфікаваны, 10.10.1982 кананізаваны. Дзень памяці 17 жн. Помнік у Непакалянаве, мемарыяльная дошка ў касцёле Гродзенскага кляштара францысканцаў. Духоўнаму подзвігу Кольбе прысвечаны маст. фільм польскага рэжысёра К.Занусі «Жыццё за жыццё. Максімілян Кольбе» (1990).

Блажэнныя:

*Матулевіч* Ю.Б.Б. (13.4.1871—27.1.1927), рэліг. дзеяч, віленскі біскуп. Беатыфікаваны 28.6.1987.

Л я м а н т Баляслава Марыя (3.6.1862, г. Ловіч Лодзінскага ваяв., Польшча — 29.1.1946), манашка. Спачатку ўваходзіла ў ордэн Сям'і Марыі. Займалася дабрачыннай дзейнасцю ў Варшаве, з 1903 у Магілёве. У кастр. 1905 заснавала там ордэн Сясцёр Місіянерак св. Сям'і, асаблівай мэтай якога вызначыла працу і малітву на карысць аб'яднання каталіцкай і правасл. цэркваў, дапамогу бедным. З 1907 кіравала ордэнам у Пецярбургу, з 1913 — таксама і ў Выбаргу. З 1921 жыла і працавала ў межах тагачаснай Польшчы, пераважна ў Віленскай і Пінскай дыяцэзіях. Памерла ў Беластоку. Беатыфікавана 5.6.1991 у Беластоку папам Янам Паўлам II у час яго візіту ў Польшчу. Памяць 29 студз.

Б я р н а ц к а я Марыяна (1888—13.7.1943), свецкая асоба. Пад час аблавы, праведзенай у Гродне гестапа, ахвяравала сваё жыццё замест сваёй цяжарнай нявесткі. Расстраляна гітлераўцамі каля в. Навумавічы (Гродзенскі р-н). Беатыфікавана 13.6.1999.

Л я ш ч э в і ч Антон (18.9.1890—17.2.1943), ксёндз-марыянін. Закатаваны ням.-фаш. захопнікамі ў в. Росіца Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Б а г а т к е в і ч Мечыслаў (1.1.1904, маёнтак Крыкалы, Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 4.3.1942), рэліг. дзеяч. Вучыўся ў Будслаўскай бел. гімназіі, у польскай гімназіі ў Докшыцах, у каталіцкай духоўнай семінарыі ў Навагрудку і Пінску. Ксёндз (1933), служыў у Драгічыне Надбужскім. У 1936—39 прэфект дзярж. гімназіі імя Уладзіслава Ягайлы ў Лунінцы. З пач. 2-й сусв. вайны быў пробашчам у Пеліканах у Браслаўскім дэканаце, з ліст. 1941 — у Дрысе. 16.1.1942 арыштаваны гестапа, расстраляны каля в. Беразвечча (у

межах г. Глыбокае Віцебскай вобл.). Беатыфікаваны 13.7.1999.

Гляб о віч Генрык (1904—9.11.1942), рэліг. дзеяч, ксёндз, праф. тэалогіі Віленскага ун-та. З 1936 пробашч парафіі ў Троках. Быў надзвычай ахвярным падзвіжнікам веры, прыхільнікам еднасці ўсіх хрысціян. Меў вял. ўплыў на шырокія акадэмічныя колы Вільні і архідыяцэзіі. Расстраляны гестапа ў Барысаве за выкананне душпастырскіх паслуг на Беларусі. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Кашыра Юрый (Ежы; 4.4.1904—18.2.1943), ксёндз-марыянін. Закатаваны ням.-фаш. захопнікамі ў в. Росіца Верхнядзвінскага р-на. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Мацьковяк Уладзіслаў (14.11.1910, в. Чыткі каля г. Драгічына Надбужскага Падляскага ваяв., Польшча — 4.3.1942), рэліг. дзеяч., ксёндз. Скончыў тэалагічны ф-т Віленскага ун-та (1939), з лета 1939 служыў вікарыем парафіі Іказнь Міёрскага дэканата. 3.12.1941 арыштваны гестапа, расстраляны каля в. Беразвечча. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Стэмпень Караль Герман (1910—19.7.1943), рэліг. дзеяч, ксёндз. Скончыў тэалагічны ф-т Львоўскага ун-та. Закатаваны ням.-фаш. захопнікамі ў в. Баравікоўшчына (Валожынскі р-н Мінскай вобл.) разам з парафіянамі. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Пухала Юзаф Ахілес (1911—19.7.1943), ксёндз, манах-францысканец, пробашч у в. Пяршаі Валожынскага р-на Мінскай вобл. Закатаваны ням.-фаш. захопнікамі ў в. Баравікоўшчына. Беатыфікаваны 13.6.1999.

Пыртак Станіслаў (21.3.1913, в. Быстра-Падхаляньска Малапольскага ваяв., Польшча — 4.3.1942). У 1934—40 вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі і адначасова на тэалагічным ф-це Віленскага ун-та, пасля заканчэння вікарый у парафіі Дукшты-Піярскія каля Вільні, з 1941 — у парафіі Іказнь (Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.). Расстраляны каля в. Беразвечча. Беатыфікаваны 13.6.1999.

11 манашак-назарэцянак з Навагрудка (гл. *Назарэцянкі*). Беатыфікаваны 6.3.2000.

*Літ.:* Жарнасек І. Да хвалы алтара // Наша вера. 1999. №2.
*Э.С.Ярмусік.*

## СВЯТЫЯ І БЛАЖЭННЫЯ УНІЯЦКІЯ.

Вызначэнне і кананічныя правілы прылічэння да святых і блажэнных ва уніяцкай царкве такія ж, як і ў каталіцкай (гл. *Святыя і блажэнныя рымска-каталіцкія*). На Беларусі жылі наступныя асобы, якія былі прылічаны да С. і б.у.

Святы — Іасафат *Кунцэвіч* (1580—12.11.1623), полацкі архіепіскап. Кананізаваны 29.6.1867.

Блажэнныя — 13 падляшскіх пакутнікаў, сялян-уніятаў в. Пратулін Сядлецкай губ. (цяпер у Люблінскім ваяв., Польшча), якія загінулі 26.1.1874 пры абароне сваёй царквы ад пераўтварэння яе ў праваслаўную ў час ліквідацыі *Брэсцкай уніі 1596* на Падляшшы (у Царстве Польскім). 23.1.1874 500 чал. уніятаў в. Пратулін, узброеныя каламі, занялі абарону вакол царквы, каб не дапусціць туды правасл. духавенства. Калі 26.1.1874 да царквы былі накіраваны 2 роты салдат, сяляне сустрэлі іх камянямі і каламі. Салдаты выкарысталі зброю, і 9 чал. сялян-уніятаў было забіта, многія цяжка паранены (пазней 4 памерлі). Аналагічныя сутыкненні уніятаў з войскамі адбыліся ў вёсках Дралёва (загінула 5 чал.) і Палубічы на Падляшшы. У 1875 у Парыжы быў выбіты медаль у гонар уніятаў, што загінулі, з надпісам: «Братам-русінам, замардаваным маскоўскім царызмам, за вернасць царкве і Польшчы. 1874» і з імёнамі 18 уніятаў, забітых у Пратуліне і Дралёве. У 1938 у Сядлецкай дыяцэзіі (епархіі) пачаты працэс беатыфікацыі (прылічэння да блажэнных). У 1991 праведзена эксгумацыя, рэшткі забітых сялян перанесены ў парафіяльны касцёл у Пратуліне. 6.10.1996 13 падляшскіх пакутнікаў урачыста беатыфікаваны ў Рыме.
*С.В.Марозава.*

## СВЯТЫЯ МЕСЦЫ

— месцы, звязаныя з падзеямі свяшчэннай гісторыі, наведваннямі багоў і святых, цудатварэннямі; важны элемент культу ўсіх рэлігій (гл. Культ рэлігійны). У хрысціян асаблівым шанаваннем карыстаюцца святыні ў Палесціне, дзе жыў, прапаведаваў, прыняў пакутніцкую смерць і ўваскрэс Ісус Хрыстос. Да С.м. адносяцца храмы і манастыры, дзе захоўваюцца *мошчы* святых, цудатворныя іконы і інш. святыні, а таксама цудатворныя крыніцы, месцы, дзе адбываліся з'яўленні абразоў і інш. цудатварэнні. У каталіцызме адрозніваюць свяшчэнныя і С.м. Да С.м. адносяць вобласці Палесціны, звязаныя са старазапаветнымі падзеямі і жыццём Хрыста, Дзевы Марыі і апосталаў. Пад свяшчэннымі месцамі разумеюць асабліва адметныя ў культавай практыцы месцы, асвячоныя вышэйшымі царк. іерархамі, а таксама цэрквы, *алтары* і могілкі. Паводле *кананічнага права*, свяшчэнныя месцы павінны быць унесены ў *літургічныя кнігі* і традыцыйна выключаны са свецкай юрысдыкцыі.

## СВЯТЫЯ ПРАВАСЛАЎНЫЯ,

асобы, якія былі кананізаваны, г.зн. праслаўлены царквой за іх праведнае жыццё, стойкасць у веры, асаблівыя подзвігі ў імя Хрыстова. Вернікі ўзносяць малітвы святым, ушаноўваюць іх як нябесных заступнікаў і апекуноў. Жыццю святых прысвечана агіяграфічная літаратура. На Беларусі асабліва ўшаноўва-

юцца С.п., якія ўваходзяць у *Сабор беларускіх святых.* (Гл. таксама *Святыя Беларусі*). *Т.А.Матрунчык.*

СВЯШЧЭННАСЛУЖЫ́ЦЕЛІ, у хрысціянстве (пераважна ў правасл. і каталіцкай цэрквах) духоўныя асобы, узведзеныя ў сан (гл. *Рукапалажэнне*). Да С. адносяцца: *епіскапы, святары, дыяканы.* С. (акрамя дыяканаў) маюць права самастойна праводзіць богаслужэнні, абрады і таінствы.

СВЯШЧЭ́ННІЦКАЕ АДЗЕ́ННЕ Ў ПРАВАСЛА́ЎНАЙ ЦАРКВЕ́ — адзенне свяшчэннаслужыцеляў у час набажэнства, якое мае асаблівае духоўнае значэнне. Да яго належаць: с т ы х а р — доўгае роўнае адзенне з шырокімі рукавамі, *рыза* (ф е л о н ь) — доўгае адзенне без рукавоў з адтулінай для галавы, с а к о с — кароткі стыхар з невялікімі рукавамі, яго носяць толькі епіскапы. Дыяканы носяць на левым плячы а р а р — вузкую доўгую стужку, а святары і епіскапы — е п і т р а х і л ь — шырокую стужку на шыі. Значэнне надаецца і галаўным уборам асоб, што праводзяць набажэнства. Да іх належаць: с к у ф'я — круглая аксамітавая шапка і к а м і л а ў к а — высокі аксамітавы галаўны ўбор. Епіскапам, а таксама некаторым святарам за «асаблівыя заслугі» даецца права насіць *мітру.* Да адзення святароў адносяцца таксама н а б е д р а н і к — чатырохвугольная прадаўгаватая хустка і п а л і ц а — такая ж хустка ў форме ромба; іх носяць на поясе. У адзенне епіскапаў уваходзіць і а м а ф о р — шырокая стужка цераз плячо. Свае святарскае адзенне маюць таксама служыцелі культу ў *ісламе, іудаізме,* будызме і інш. рэлігіях. Святарскаму адзенню надаецца сімвалічны сэнс, звязаны з асаблівасцямі веравучэння.

СЕ́КТА (лац. sekta школа, вучэнне), адзін з тыпаў рэлігійных аб'яднанняў, які вылучаецца даследчыкамі побач з *царквой* і *дэнамінацыяй.* Звычайна ўзнікае як апазіцыйная плынь да таго ці інш. рэліг. кірунку або як пратэст пэўнай сац. групы. Для С., асабліва ў ранні перыяд існавання, характэрны крайні радыкалізм вучэння і адмоўнае стаўленне да інш. рэліг. кірункаў і «свету». С. прэтэндуюць на абранасць сваёй пазіцыі, выключнасць ідэй і місіі, што нярэдка прыводзіць да самаізаляцыі.

Асаблівая ўвага аддаецца ідэі духоўнага адраджэння, якое атаясамліваецца звычайна з вяртаннем да вытокаў вучэння, з якога вылучылася С. Кіраўнік С. лічыцца харызматычным, у той жа час падкрэсліваецца роўнасць усіх яе членаў. Ін-т свяшчэнства звычайна адсутнічае. Можа абвяшчацца ўсеагульнае свяшчэнства. Практыкуецца добраахвотнае ўступленне ў абшчыну, строгае падпарадкаванне дысцыпліне, прынятым маральным нормам, рытуальным прадпісанням. Многія хрысціянскія С., якія ўзніклі ў 18—1-й пал. 20 ст. (напр., у Расіі — *скапцы,* у Беларусі — *ільінцы, маляванцы, мурашкаўцы*) у 2-й пал. 20 ст. спынілі існаванне. Некаторыя С. паступова пераўтварыліся ў інш. тыпы рэліг. арг-цый. Так, аб'яднанні *евангельскіх хрысціян-баптыстаў, адвентыстаў, пяцідзесятнікаў* на сучасным гіст. этапе з'яўляюцца дэнамінацыямі. На побытавым узроўні і нават у л-ры тэрмін «С.» без дастатковых на тое падстаў нярэдка ўжываецца ў адносінах да абшчын прыхільнікаў *пратэстантызму* розных кірункаў, што не адпавядае сучаснаму стану гэтых рэліг. арг-цый.

*Літ.:* Г а р а д ж а В.И. Религиоведение. М., 1995; Я б л о к о в И.Н. Религиоведение. М., 1998. *А.У.Барэйка.*

СЕ́КТЫ ТАТАЛІТА́РНЫЯ — апазіцыйныя традыцыйным *канфесіям* рэлігійныя аб'яднанні, якія характарызуюцца поўнай падпарадкаванасцю паводзін і свядомасці вернікаў кіраўніцтву *секты.* Для С.т. характэрны культ «духоўнага настаўніка», вызначэнне абавязковых для ўсіх правілаў паводзін, катастрафічна-апакаліпсічны сэнс вучэння, актыўная місіянерская дзейнасць з выкарыстаннем метадаў псіхалагічнага маніпуліравання. Ва ўздзеяннях на свядомасць прыхільнікаў С.т. вылучаюць 3 этапы: д э п р а г р а м і р а в а н н е, у выніку чаго вернік адмаўляецца ад свайго мінулага; п а д п а р а д к а в а н н е в о л і вернікаў пры дапамозе спецыфічных псіхатэхналогій; р э п р а г р а м і р а в а н н е, накіраванае на змену свядомасці і паводзін вернікаў. С.т. носяць дэструктыўны, антысацыяльны характар: забараняецца удзел вернікаў у сацыяльным жыцці, патрабуецца спыненне зносін з сям'ёй і інш. Дзейнасць некаторых С.т. суправаджаецца гранічнымі антысацыяльнымі дзеяннямі: чалавечымі ахвярапрынашэннямі, тэрактамі і інш. Дзейнасць большасці С.т. забаронена заканадаўчымі актамі ва ўсіх краінах. У Рэспубліцы Беларусь забаронены «Аум Сінрыкё», «Багародзіны цэнтр», «Вялікае Белае Брацтва», «Сатаністы», «Сям'я любові». Гл. таксама *Новыя рэлігіі.*

СЕКУЛЯРЫЗА́ЦЫЯ (ад лац saccularis свецкі) — ператварэнне царк. маёмасці ў свецкую. Праводзілася ў розных краінах свету з мэтай паслаблення эканамічнай магутнасці і паліт. ролі царквы ў дзяржаве. На Беларусі ажыццяўлялася з канца 18—20 ст. Канфіскацыі 1770—90-х г. закранулі толькі частку царк. маёнткаў (больш за 40 тыс. рэвізскіх душ — сялян мужчынскага полу), што належалі пераважна Віленскаму біскупству. У Рэчы Паспалітай у 1773 быў скасаваны ордэн езуітаў, а яго маёнткі перададзены Адукацыйнай камісіі, якая распрадала іх шляхце пры умове выплаты 6% з даходаў на ўтрыманне вучылішчаў. На 1790

у паезуіцкіх маёнтках на тэр. зах. і цэнтральнай Беларусі знаходзіліся 644 гарадскія і 7179 сельскіх дымоў. Ва ўсходняй Беларусі езуіты захаваліся да высылкі іх з Рас. імперыі паводле ўказа 1820. Палажэннем К-та міністраў і ўказам Сената ад 13.4.1822 35 маёнткаў (9830 рэвізскіх душ), што належалі езуітам, былі канфіскаваны і замацаваны за казной. Карэнны пералом у адносінах да царк. маёмасці ў зах. губернях наступіў пасля паўстання 1830—31 у рамках палітыкі нейтралізацыі шляхецка-каталіцкай апазіцыі. Указам ад 19.7.1832 аб ліквідацыі некамплектных (што не мелі поўнага складу манахаў) рымска-каталіцкіх кляштараў іх маёнткі перададзены ў склад казны. У 1837 на Беларусі былі 93 паманастырскія маёнткі з 10 183 рэвізскімі душамі. Калі ў Віцебскай і Магілёўскай губ. адбыліся хваляванні з-за пераводу уніятаў у праваслаўе, у 1833 і 1834 у рымска-каталіцкага і уніяцкага духавенства было забрана 5 маёнткаў і ўстаноўлена казённае кіраванне яшчэ адным. Паводле 8-й рэвізіі (1834) у пауніяцкіх вёсках налічвалася 2894 рэвізскія душы. Са спасылкай на тое, што «непрыстойна духоўнай асобе адрывацца ад яго прамых святарных абавязкаў», 25.12.1841 падпісаны шэраг указаў аб прыёме ў дзярж. маёмасць усіх населеных маёнткаў вышэйшага правасл. і іншавернага духавенства зах. губерняў. 10.5.1843 прыняты ўказы пра перадачу ў казну населеных маёнткаў прыходскіх цэркваў, а 28.2.1844 — вылучаных па «эксдывізіях» (па рашэнні суда) ва ўласнасць каталіцкага духавенства. Такіх падухоўных маёнткаў у 1847 у 5 бел. губернях было 546 і 87 269 рэвізскіх душ сялян; $^1/_3$ з іх прыпадала на Віленскую губ. Рэшткі царк. уладанняў секулярызаваны ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917.

*Літ.:* С о с н о в В.А. Конфискация церковных имений на Беларуси при включении ее в состав Российской империи // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 3; Я г о ж. Секуляризация церковных крестьян на Беларуси в 30—40-е гг. XIX в. // Церковь в истории славянских народов. М., 1997. *У.А.Сосна.*

СЕМІНА́РЫІ ДУХО́ЎНЫЯ — навучальныя ўстановы рымска-каталіцкай і правасл. царквы. Іх узнікненне звязана з Трыенцкім саборам (1545—63), на якім вырашана арганізаваць шэраг спец. навуч. устаноў для падрыхтоўкі добраадукаваных асоб. К а т а л і ц к і я С.д. звычайна адкрывалі мясцовыя біскупы. Выкладчыкамі ў іх былі прадстаўнікі якога-н. *ордэна манаскага.* На Беларусі першыя С.д. засн. ў Вільні (1582) і Краславе (1755), належалі ордэну місіянераў, які да 1-й трэці 19 ст. кантраляваў С.д. ў Беластоку, Вільні, Заслаўі, Магілёве. Дамініканцам належала С.д. ў Мінску. С.д. існавалі таксама ў Брэсце і Нясвіжы. Пры Віленскім ун-це ў 1808—32 дзейнічала гал. С.д., якая рыхтавала *біскупаў, прэлатаў* і *канонікаў* каталіцкага і уніяцкага веравызнання. Яна мела праграму духоўнай акадэміі і была разлічана на 50 *клірыкаў.* Пасля задушэння паўстання 1830—31 большасць С.д. скасавана. У сярэдзіне 19 ст. каталіцкія С.д. захаваліся ў Вільні, Мінску, Магілёве. Яны былі разлічаны на 20—50 клірыкаў; у іх выкладаліся багаслоўе, царк. абрады, маральная, дагматычная, палемічная тэалогіі, кананічнае права, рыторыка, логіка, духоўнае красамоўства, свяшчэнная і айчынная гісторыя, лац., французская, польская і рус. мовы, народнае права, фізіка, патрыстыка, матэматыка, спевы, паліт. эканомія. З 1822 выкладчыкамі маглі быць толькі асобы, якія мелі дыпломы дактароў і магістраў багаслоўя. Для паступлення патрэбен быў дазвол губернатара. У пач. 20 ст. каталіцкая С.д. захавалася толькі ў Вільні. З 1990 дзейнічае *Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя.* Першая у н і я ц к а я С.д. адкрыта ў 1746 у Свержані. У пач. 19 ст. яны дзейнічалі ў Лаўрышаве, Супраслі, Полацку, Жыровічах. Навуч. праграма была такая ж, як і ў каталіцкіх С.д., у 1820—30-я г. яны скасаваны ці пераўтвораны ў праваслаўныя. П р а в а с л а ў н ы я С.д. пачалі ствараццa на Беларусі з 2-й пал. 18 ст. (у 1752 у Магілёве, у 1785 — у Слуцку) і па сваёй праграме нагадвалі езуіцкія *калегіумы.* У адпаведнасці са статутам 1808 мелі 6 класаў і падпарадкоўваліся Духоўным акадэміям. Іх праграма адпавядала 4 старэйшым класам гімназіі, выкладаліся рус., грэч. і лац. мовы, эстэтыка, рыторыка, гісторыя, геаграфія, алгебра, геаметрыя, механіка, медыцына, логіка, метафізіка, мараль, багаслоўе, герменеўтыка, царк. абрады, сельская гаспадарка. Пасля заканчэння С. лепшыя выпускнікі працягвалі адукацыю ў акадэміях, астатнія выкладалі ў пав. і прыходскіх духоўных вучылішчах ці ішлі ў манастыры. У 1867—69 адбылася рэформа С.д., паводле якой яны сталі незалежнымі ад духоўных акадэмій, з навуч. праграмы выключаны сельская гаспадарка і медыцына, уведзена педагогіка; пры С.д. адкрыты нядзельныя школы. У 1884 прыняты новы статут С.д., паводле якога ў іх павінен быў выкладацца поўны курс класічнай гімназіі, а таксама псіхалогія, гісторыя філасофіі, сельская гаспадарка і медыцына. На пач. 20 ст. такія С.д. дзейнічалі ў Віцебску, Вільні, Мінску, Магілёве. У наш час. дзейнічае *Мінская вышэйшая духоўная семінарыя.* Гл. таксама *Духоўныя навучальныя ўстановы.*

*А.Ф.Самусік.*

СЕНЧЫКО́ЎСКІ Францыск Фердынанд Яўстаф'евіч (16.10.1837, маёнтак Сноў, цяпер вёска Нясвіжскага р-на Мінскай вобл. — 8.11.1907) бел. каталіцкі рэліг. дзеяч. Скончыў Мінскую каталіцкую духоўную семінарыю. Служыў ксяндзом у памешчыцкіх дамах, прыходах, школах Мінскай губ. Чытаў пропаведзі і размаўляў з вернікамі на рус. і бел. мовах, чым выклікаў незадавальненне з

боку польскай каталіцкай грамадскасці. Карыстаўся падтрымкай віленскага ген.-губернатара М.М.Мураўёва. У выкананне «Найвышэйшага загада» 1869 Аляксандра II аб дазволе ўводзіць рус. мову ў дадатковае богаслужэнне ў каталіцкіх касцёлах перавёў з польскай на рус. мову каля 30 касцёлаў Мінскай губ. У лют. 1872 адкрыў у Мінску вучылішча арганістаў для «рымска-католікаў па рэлігіі», але «чыста рускіх па паходжанні і народнасці». Узнагароджаны многімі ордэнамі. З 1873 С. — ганаровы канонік, з 1876 візітатар касцёлаў і памочнік кіраўніка Віленскай рымска-каталіцкай епархіі ў Мінскай губ. З 1882 на пенсіі. Ратуючыся ад праследаванняў католікаў — праціўнікаў рус. мовы, у 1883 выехаў у Пецярбург, і па загадзе Аляксандра III накіраваны ў Туркестанскую ваен. акругу, дзе заснаваў каталіцкую капліцу. З 1887 ксёндз Омскага касцёла, але неўзабаве адхілены ад пасады. Аўтар і перакладчык на рус. мову шэрагу рэліг. кніг, складальнік зборніка бел. рэліг. песень.

*А.Ф.Мяснікоў.*

СЁМУХА, Тройца, Зялёныя святкі — старажытнае земляробчае свята беларусаў і інш. славянскіх народаў. Лакальная назва зелянец. Святкавалася на сёмы (русальны) тыдзень пасля *Вялікадня*. Вытокі С. ў родавым грамадстве; у аснове яе культ зеляніны, шлюбу і продкаў. Пераходнае паміж веснавымі і летнімі земляробчымі цыкламі. Перад святам упрыгожвалі хату і двор «маем» (аерам, галінкамі бярозы, клёну, рабіны, дубу і інш.), прыбіралі магілы. У суботу напярэдадні С. спраўлялі *дзяды*. У час свята ў некаторых мясцовасцях адбывалася кумаванне, завівалі бярозку, ладзілі гульні, карагоды, агульнае частаванне, вілі вянкі. На С. спявалі сёмушныя песні, асн. матыў якіх — каханне. На С., перад пачаткам летніх палявых работ, на Беларусі спраўлялі шмат вяселляў. Свята Тройцы ўведзена ў культавую практыку правасл. царквы ў 14 ст. На першы дзень свята (у нядзелю) у царкве асвячалі лугавыя і палявыя зёлкі, якія вернікі потым доўга захоўвалі.

СІЁН — 1) узгорак у Іерусаліме, дзе, паводле біблейскай міфалогіі, знаходзілася стараж. крэпасць, рэзідэнцыя цара Давіда і храм бога (Яхве). Адсюль у іудаізме слова «С.» стала сімвалічна абазначаць «адданых богу» людзей. С. называюць таксама жыллё Бога — нябесны Іерусалім. 2) У правасл. культе С. — від царк. начыння, прызначанага для захоўвання *прасвіры* (асвячонага хлеба). С. рабілі звычайна з серабра і паўтаралі ў мініяцюры архітэктурныя формы хрысц. храма. 3) У мастацтвазнаўстве — назва шэрагу грузінскіх сярэдневяковых цэркваў.

СІКХІ́ЗМ — рэлігійна-рэфарматарскі рух у індуізме ў 16—17 ст., які ператварыўся ў самастойную рэлігію і атрымаў пашырэнне гал. чынам у Пенджабе. Яго заснавальнік гуру Нанак (1469—1533). Асновай С. з'яўляецца адзінабожжа, адмаўленне ідалапаклонства, аскетызму, кастаў, прапаведзь роўнасці сікхаў перад богам і свяшчэннай вайны з іншаверцамі. Прыхільнікі С. абавязаны насіць цюрбан, доўгія валасы і бараду, пастаянна мець пры сабе 3 стальныя рэчы: меч, грэбень і бранзалет. Кожнаму сікху прысвойваўся тытул «сінгх» (леў). У 1765 сікхі стварылі сваю дзяржаву, якая існавала да 1849. Сучасны С. — рэлігія з традыц. догмамі. Сярод сікхаў паявіліся розныя абшчыны і паліт. партыі.

СІЛЬВЕ́СТР (у свеце Бялькевіч Стэфан Андрэевіч; ?—1567) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ. Пры Жыгімонце II Аўгусце каралеўскі скарбнік і ключнік у Вільні. Пасля смерці архіепіскапа Аляксія, настаяцеля *Віленскага Троіцкага манастыра*, выпрасіў у вял. князя гэты манастыр у кіраванне. Яшчэ пры жыцці мітрапаліта Макарыя II атрымаў каралеўскую грамату (10.7.1551) на Кіеўскую мітраполію, захоўваючы і Троіцкі манастыр. У 1556—67 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Быў абвешчаны «нарачоным мітрапалітам» яшчэ ў свецкім стане і толькі праз паўгода ў вер. 1556 прыняў манаства і адразу заняў кафедру. У 1558 склікаў у Вільні сабор (магчыма для барацьбы з Рэфармацыяй ці для выпраўлення ўнутрыцаркоўных неладоў). Самачынна забраў у свае кіраванне шмат манастыроў (у т.л. Кіева-Мікалаеўскі Пустынскі), змагаўся за Луцкую епіскапскую кафедру. Нізкія маральныя якасці С., на думку царк. гісторыкаў, вялі да аслаблення пазіцый правасл. царквы ў ВКЛ у 16 ст.

*Літ.:* Карташев В.В. Очерки по истории русской церкви. Т. 1 — Париж, 1959; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990; Макарий, митрополит Московский и Коломенский. История Русской церкви. Кн. 5. М., 1996.

*В.А.Цяпліна.*

СІ́МВАЛ ВЕ́РЫ — кароткі звод галоўных догматаў, якія складаюць аснову веравучэння пэўнай рэліг. плыні або царквы. С.в. павінен прымацца на веру, без доказаў. Агульнахрысціянскі (апостальскі) С.в. складаецца з 12 частак, або членаў. У першых 8 частках вядзецца размова пра траістасць Бога, «ачалавечванне» Ісуса Хрыста і збавенне ад грахоў; 4 апошнія часткі прысвечаны царкве, хрышчэнню і «вечнаму жыццю». С.в. складзены *айцамі царквы* і зацверджаны на Нікейскім (325) і Канстанцінопальскім (381) усяленскіх саборах. С.в. чытаецца як малітва на набажэнствах і ў хатніх умовах, а таксама выконваецца хорам прысутнымі ў храме. Апрача апостальскага

вядомы С.в. св. Афанасія (больш падрабязна выкладае вучэнне пра Тройцу і ўвасабленне Хрыста), С.в. Трыдэнцкага сабора (С.в. каталіцызму). Падрабязнае тлумачэнне С.в. даецца ў катэхізісах, катэхізічных павучаннях або спец. дакументах, якія называюцца «спавяданне веры».

СІМЯО́Н — праваслаўны царк. дзеяч ВКЛ. У 1459—81 архіепіскап полацкі пад імем С. III. Адыгрываў вял. ролю ў грамадска-паліт. жыцці Полацка. Падтрымліваў зносіны з рыжскімі гар. ўладамі. У 1481—88 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (у ВКЛ з кафедрай у Навагрудку). Інтранізацыю С. ў Навагрудку правялі 2 экзархі канстанцінопальскага патрыярха, якія прыехалі сюды спецыяльна. У 1487 С. пасвяціў епіскапа ўладзімірскага (г. Уладзімір-Валынскі) і брэсцкага Васіяна. Пры С. правасл. цэрквам і манастырам быў зроблены шэраг значных падараванняў: гродзенскімі мяшчанамі — Каложскаму манастыру, кн. Іванам Юр'евічам Мсціслаўскім — Ануфрыеўскаму манастыру, Іванам Стратовічам—Лаўрышаўскаму манастыру і інш. *В.А.Варонін.*

СІМЯО́Н ПО́ЛАЦКІ (у свеце Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл Гаўрылавіч, паводле некаторых звестак — Емяльянавіч; 1629, г. Полацк — 25.8.1680) — беларускі паэт, драматург, перакладчык, педагог, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Скончыў Кіева-Магілянскі калегіум (каля 1650), вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі (да 1653). З сярэдзіны 1650-х г. да 1664 настаўнік брацкай школы *Полацкага Богаяўленскага манастыра.* У 1656 прыняў манаства пад імем Сімяон. Быў манахам ордэна *базыльян* (нават у маскоўскі перыяд жыцця падпісваў кнігі як «полацкі іераманах ордэна св. Васілія Вялікага»). Прапагандаваў ідэю ўз'яднання хрысціян пад духоўнай эгідай рымскага папы і пад дзярж. патранатам маскоўскага цара. У полацкі перыяд творчасці пісаў на бел., польскай і лац. мовах, раннія вершы («Акафіст», «Канон» 1648) маюць рэліг.-культавае прызнанне. З 1664 жыў у Маскве. Арганізаваў «лацінскую» школу пры Заіконаспаскім манастыры, заснаваў незалежную ад патрыяршай цэнзуры Верхнюю друкарню, быў першым прыдворным паэтам рас. цароў, выхавацелем дзяцей Аляксея Міхайлавіча. Найбольшай падтрымкай карыстаўся ў цара Фёдара Аляксеевіча (1676—82). Прыхільнік асветніцкага абсалютызму, быў у цэнтры дзярж. і рэліг. праблем Маскоўскай дзяржавы. Крытыкаваў стараабраднікаў, падтрымліваў рэформы патрыярха *Нікана.* Пазней выступаў з асуджэннем Нікана на Вялікім саборы 1666—67, дзе быў сакратаром-перакладчыкам блізкаўсходніх патрыярхаў александрыйскага і антыяхійскага, а таксама мітрапаліта газскага Паісія Лігарыда. Вынікам тэолага-арганізац. спрэчак стаў яго трактат «Жазло праўлення» (1667). Прапаведніцкая дзейнасць С.П. адлюстравана ў 2 зборніках «Абед душэўны» (1675, выд. 1681) і «Вячэра душэўная» (1676, выд. 1683). Аснову літ. спадчыны С.П. складаюць 2 вялікія зборнікі, падрыхтаваныя ў канцы 1670-х г., але выдадзеныя пасмяротна: «Вертаград многацветны» і «Рыфмалагіён, ці Вершаслоў» (1678, выдадзеныя ў 1681). Яшчэ пры жыцці яго першы зборнік быў ацэнены як энцыклапедыя, з якой чэрпалі веды па хрысц. сімволіцы, гісторыі, ант. міфалогіі, тэалогіі. У другім зборніку змешчаны драм. творы «Камедыя прытчы пра блуднага сына...» і «Пра Навуходаносара цара», якія ставіліся ў прыдворных тэатрах Крамля і с. Прэабражэнскага. Як перакладчык С.П. пазнаёміў чытача з многімі папулярнымі ў той час творамі: «Казанне пра Магамета», «Тастамент, або запавет Васіля, цара грэчаскага», «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» і інш. Сваю прыватную бібліятэку С.П. завяшчаў Полацкаму Богаяўленскаму, Маскоўскаму Заіконаспаскаму, Кіеўскім Пячэрскаму і Брацкаму манастырам. У Маскве да грамадзянскай і рэліг. дзейнасці С.П. і яго творчай спадчыны ставіліся неадназначна. З асуджэннем асобных твораў С.П. выступілі «грэкафілы» Епіфаній Славінецкі, які быў яго настаўнікам, і Яўфімій Чудаўскі. Паводле рашэння ЮНЕСКА імя С.П. было ўнесена ў каляндар памятных дат 1980. Да нашага часу большасць твораў С.П. не перавыдадзена, творы на польскай і лац. мовах не перакладзены на беларускую.


Сільвестр.

*Тв.:* Избр. соч., М.-Л., 1953; Вирши. Мн., 1990.

*Літ.:* Прашковіч М.І. Сімяон Полацкі // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. І. Мн., 1968; Грынчык М.М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973; Панченко А.М. Русская стихотворная культура XVII века.

Л., 1973; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. *У.Г.Кароткі.*

СІНАГО́ГА (ад грэч. synagōgē сход, месца сходу), у *іудаізме* — культавы будынак. Першыя С. ўзніклі ў 1-й пал. 1-га тысячагоддзя да н.э. ў Палесціне і Егіпце. Пасля разбурэння рымлянамі Іерусалімскага храма (70 н.э.) і пашырэння дыяспары будаваліся ўсюды, дзе жылі яўрэі. У адрозненне ад храма лічыцца не домам Бога, а домам малітваў, сходаў і вучэння. У С. праводзяцца набажэнствы, вывучаюцца *Біблія* і *Талмуд*, спраўляюцца рэліг. абрады, абмяркоўваюцца штодзённыя справы абшчыны. Паводле яўрэйскіх рэліг. правіл С. павінна быць самым высокім будынкам у горадзе. Аднак мясц. ўлады патрабавалі, каб С. не была вышэйшая за цэрквы і мячэці, таму на С. устанаўлівалі шост, які ўзвышаўся над навакольнымі будынкамі, а для павелічэння вышыні залы падлогу рабілі ніжэй за ўзровень зямлі. Звонку на С. прымацоўвалі Маген-Давід (шасціканцовую зорку) і таблічы з рэліг. запаветамі. Унутры С. на сценах вывешвалі таблічы з малітоўнымі тэкстамі, біблейскімі і талмудычнымі выслоўямі, упрыгожвалі іх геаметрычным ці расліннымі арнаментам, сімвалічнымі выявамі жывёл (2 мядзведзі з вінаграднай гронкай — добрая вестка, паўлін — вечнае жыццё сярод райскай прыроды, лань — сімвал кахання, алень — сімвал дабра і інш.). Выявы чалавека забараняліся. Прамавугольная зала мела вокны для сузірання неба, гал. сцяна арыентавана на Іерусалім (у еўрапейскіх, у т.л. бел., яўрэяў на У). Каля гэтай сцяны ў спец. шафе арон-кодэш («святы каўчэг») знаходзіўся скрутак *Торы*, а ў цэнтры залы — кафедра (біма; магла быць і каля арон-кодэша). Памяшканне для жанчын размяшчалася за мужчынскім або на балконе.

На Беларусі С. вядомы з канца 14 ст. (у Брэсце і Гродне). З 16 ст. іх стала значна больш; будаваліся мураваныя і драўляныя. Адзінага патрабавання да архітэктурнага стылю С. не было. Характэрнай асаблівасцю С. Беларусі быў чатырохсхільны дах. Выкарыстоўваліся элементы архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму і інш. Разнавіднасцю С. ў Рас. імперыі быў малітоўны дом (школа), які паводле закона 1835 мог быць адкрыты для агульных набажэнстваў у населеным пункце, дзе яўрэйскіх дамоў было не больш як 30 (калі яўрэйскіх дамоў было 80, магла быць адкрыта С.). С. часам называлі і іудзейскую абшчыну вернікаў. З 2-й пал. 16 да канца 18 ст. ў ВКЛ С. таксама называліся адм.-тэр. саюзы кагалаў: Брэсцкая, Гродзенская, Пінская, Полацкая, Слуцкая, Беларуская (ва ўсх. Беларусі) кагальныя акругі, якія з'яўляліся і судова-апеляцыйнымі інстанцыямі. Да 1917 ва ўсх. Беларусі былі 704 дзеючыя С. (разам з малітоўнымі дамамі), у 1936 у БССР — 71. Шмат С. знішчана ням.-фаш. захопнікамі ў час Вял. Айч. вайны. На пач. 1990-х г. на Беларусі дзейнічалі 2 С. — у Мінску і Калінкавічах. На 1.1.2001 у Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць 32 іудзейскія аб'яднанні, у т.л. 10 абшчын прагрэсіўнага іудаізму. Захаваліся будынкі мураваных С. (помнікі архітэктуры) у Быхаве і Слоніме (17 ст.), Століне (18 ст.), Ашмянах, Барысаве, Іўі, Кобрыне, Міры, Ружанах і інш; драўляных — у Івянцы і Нясвіжы (19 ст.).

*Літ.:* Анишенко Е.К. Черта оседлости: (Бел. синагога в царствование Екатерины II). Мн., 1998. Синагоги Беларуси. Еврейский календарь 5756. 1995—1996. Мн., 1995; Синагоги Беларуси. Еврейский календарь. 5757. 1996—1997. Мн., 1996; Синагоги Беларуси. Еврейский календарь. 5758. 1997—1998. Мн., 1997. *В.Ф.Бацяеў, І.П.Герасімава, У.М.Пярэвышын.*

СІНО́Д (ад грэч. synodos сход, літаральна — спадарожнічанне) — сход вышэйшых духоўных асоб у хрысціянскай царкве. У 1721—1917 Свяцейшы Усерасійскі Кіруючы С. — вышэйшы орган кіравання ў *Рускай праваслаўнай царкве* (РПЦ). Усталяваны вярх. самадзяржаўнай уладай для непасрэднага кіравання царквой замест скасаванага патрыяршаства, падпарадкоўваўся імператару. Быў прызнаны патрыярхамі ўсх. цэркваў. Паводле рэгламенту, ў склад С. ўваходзілі 12 іерархаў царквы. Дзярж. нагляд над С. ажыццяўляў свецкі чыноўнік, прызначаны імператарам — обер-пракурор. Праз яго падтрымліваліся ўсе сувязі С. з дзярж. органамі. Пасля аднаўлення патрыяршаства (1917) С. у РПЦ дзейнічае як царк. дарадчы орган пры *патрыярху* Маскоўскім і ўсяе Русі. У склад С. ўваходзяць пастаянныя члены: мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Украіны; мітрапаліт санкт-пецярбургскі і ладажскі; мітрапаліт круціцкі і каломенскі; мітрапаліт мінскі і слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі; старшыня аддзела знешніх царк. зносін; кіраўнік спраў Маск. патрыярхіі; часовыя члены — епархіяльныя архірэі, якія па чарзе ўдзельнічаюць у рабоце С. На Беларусі з усталяваннем у 1989 Беларускага экзархата дзейнічае *Сінод Беларускай праваслаўнай царквы*, падсправаздачны С. РПЦ. У інш. правасл. цэрквах таксама існуюць С. з рознымі функцыямі. У 1960-я г. ў каталіцкай царкве ўтвораны С. біскупаў як орган пры папе рымскім. С. на чале з патрыярхамі ёсць і ў некаторых усх. цэрквах у уніі з Ватыканам — копцкага, халдзейскага і інш. абрадаў. У *пратэстантызме* С. — сход духоўных і свецкіх асоб, які перыядычна склікаецца для прыняцця рашэнняў па рэліг. справах. *Г.М.Шэйкін.*

СІНО́Д БЕЛАРУ́СКАЙ ПРАВАСЛА́ЎНАЙ ЦАРКВЫ — сход вышэйшых духоўных асоб. Дзейнічае з усталяваннем у 1989 Беларускага эк-

*зархату*. Яму належыць вышэйшая царк. заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлада ў межах экзархату. Складаецца з 5 (4 часовыя і 1 пастаянны — экзарх) членаў, з 10 кіруючых архірэяў Бел. правасл. царквы. Часовыя члены па чарзе выклікаюцца на пасяджэнні, якія праводзяцца не радзей як 4 разы ў год. Сінод дзейнічае ў межах кампетэнцыі, вызначанай царк. канонамі і Статутам Бел. экзархату. Падсправаздачны Сіноду *Рускай праваслаўнай царквы*. У іншых правасл. цэрквах таксама існуюць Сіноды з рознымі функцыямі. У 1960-я г. ў каталіцкай царкве ўтвораны Сінод біскупаў як орган пры папе рымскім. Сіноды на чале з патрыярхамі ёсць і ў некат. усх. цэрквах уніі з Ватыканам — копцкага, халдзейскага і інш. абрадаў. У пратэстантызме сінод — сход духоўных і свецкіх асоб, які перыядычна склікаецца для прыняцця рашэнняў па рэліг. справах. *Г.М.Шэйкін.*

СІПО́ВІЧ Часлаў Вінцэнтавіч (8.12.1914, в. Дзедзінка Міёрскага р-на Віцебскай вобл. — 4.10.1981) — бел. рэлігійны і грамадскі дзеяч у эміграцыі. Д-р тэалогіі (1946). У 1928—38 вучыўся ў гімназіі пры *Друйскім кляштары айцоў марыянаў*, у Віленскім ун-це. Скончыў у Рыме Грыгарыянскі ун-т (1942) і Пантыфікальны ін-т вывучэння Усходу (1946). У 1940 пасвячоны ў ксяндза. З 1947 у Лондане, у 1947—60 і 1970—81 узначальваў Бел. каталіцкую місію ў Вялікабрытаніі. Епіскап каталіцкай царквы ўсх. абраду (1960). У 1960—81 апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў зах. і ўсх. абрадаў у эміграцыі. У 1936—69 генерал ордэна *марыянаў*, жыў у Рыме. Адзін з ініцыятараў стварэння Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, англа-бел. т-ва (1954), адкрыцця бел. секцыі радыё Ватыкана (1950). Арганізатар Бел. школы імя св. Кірылы Тураўскага (1961), Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. На 2-м Ватыканскім саборы (1962—65) абраны ў Кангрэгацыю Усходніх цэркваў. Супрацоўнічаў у час. «Божым шляхам» (1947—80) і «Джэнерал беларашн стадзіс» (1965—81). Аўтар артыкулаў па гісторыі хрысціянства ў Беларусі, па бел. духоўнай л-ры 17 ст.

*Тв.:* Кіеўская мітраполія ў другой палове XVIII ст. // Божым шляхам. 1951. 1951. №2—6; Тры папы // Спадчына. 1996. №3; Прэлат Пётр Татарыновіч (1896—1978) // Там жа; Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны. Мн.; Мюнхен, 1999. *Л.У.Языковіч.*

СКАПЦЫ, адна з старых рускіх сект, якая вылучылася з хрыставер'я ў 60—70-я гг. 18 ст. і атрымала першапачаткова пашырэнне сярод аброчных сялян у шэрагу цэнтральных губерняў Расіі. Заснавальнікам і найбольшым аўтарытэтам С. лічыцца К.Сяліванаў. Аскетызм у С. прыняў крайнюю форму выяўлення і патрабаваў ад вернікаў «вогненнага хрышчэння» — кастрацыі. Лічылася, што менавіта С. (са спасылкай на Евангелле, дзе ідзе размова пра С., якія самі спакладалі сябе для царства нябеснага) і будуць тымі выбранцамі «ангелападобнымі людзьмі», якія застануцца пасля страшнага суда. У ідэалогіі С. адбіўся настрой песімізму і адчаю, бяссілля перад светам сац. несправядлівасці, якія ўзмацніліся сярод сялян пасля паражэння паўстання Я.Пугачова. Царскія ўлады жорстка праследавалі С., неаднаразова ссылалі. Перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй налічвалася прыблізна 5—6 тыс. С. Пасля рэвалюцыі абшчыны С. распаліся.



Пётр **Скарга**.

СКА́РГА (П а в е н с к і) Пётр (люты 1536, Груец у Мазовіі, Польшча — 12.9.1612) — царкоўны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, пачынальнік польскай аратарскай прозы. Скончыў Кракаўскую Акадэмію (1555), удасканальваў адукацыю ў Рыме. З 1569 член ордэна *езуітаў*. З 1574 у ВКЛ. Заснавальнік і першы рэктар (1579—84) Віленскай езуіцкай акадэміі (цяпер Віленскі універсітэт). Заснаваў *Полацкі езуіцкі калегіум*, калегіумы ў Рызе і Дэрпце (цяпер Тарту, Эстонія). Вёў актыўную барацьбу супраць *Рэфармацыі*. Дзякуючы аратарскаму таленту заўсёды перамагаў сваіх апанентаў у дыспутах. Здолеў вярнуць уплывовага прыхільніка *кальвінізму* М.К.Радзівіла Сіротку у каталіцызм. З 1584 у Кракаве, з 1588 прыдворны прапаведнік караля Жыгімонта III Вазы. Ініцыятар і прапагандыст *Брэсцкай уніі 1596*. Аўтар рэліг.-паліт. твораў: «Пра еднасць касцёла Божага» (1577), «Жыцці святых» (1579), «Брэсцкі сінод» (1577), «Сеймавыя казанні» (1600), «Жаўнерскія набажэнствы» (1606), «На трэны і лямант Тэафіла Арталога» (1610) і інш. Выступаў за моцную цэнтралізаваную дзяржаву на чале з каралём з абсалютнай уладай, аднак дзеянні манарха, на яго думку, павінны абмяжоўвацца правам і радай. Ра-

зам з тым паліт. ідэалам лічыў *тэакратыю*, пад якой разумеў кіраванне царк. улады пры дапамозе караля. Абгрунтоўваў ідэю *уніі царкоўнай* для ўмацавання духоўнага адзінства дзяржавы. Рэзка крытыкаваў анархізм і разбэшчанасць шляхты, яе класавы эгаізм, сацыяльную няроўнасць і прыгнёт сялянства. Папярэджваў, што прамаруджванне з рэформамі па цэнтралізацыі дзяржавы можа прывесці да падзення Рэчы Паспалітай. У 19 ст. С. разглядаўся польскай інтэлігенцыяй як прарок трагічнага лёсу краіны. С. прысвечана вядомая карціна Я.Матэйкі «Казанне Скаргі» (1864).

*Літ.:* Ш а л ь к е в і ч В.Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мн., 1999. *В.Ф.Шалькевіч.*

СКАРЫ́НА Францыск [1490(?), Полацк — 1551 (?)] — беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч, перакладчык, пісьменнік, мастак-графік эпохі Адраджэння. У 1504 паступіў у Кракаўскі ун-т, у 1506 атрымаў вучоную ступень бакалаўра філасофіі, у 1512 абараніў у Падуанскім ун-це вучоную ступень д-ра лекарскіх навук. Меў таксама ступень д-ра artium (вольных навук). Пры падтрымцы мецэнатаў (віленскага бурмістра Якуба Бабіча, радцаў Багдана Онкава і Юрыя Адверніка) выдаў у 1517—19 у Празе 23 кнігі *Біблii* на мове, набліжанай да мовы стараж.-бел. пісьменства, пад агульнаю назваю «Бівлія руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Каля 1520 заснаваў друкарню ў Вільні. Адаптаваў, пракаменціраваў і надрукаваў тут «Малую падарожную кніжку» (каля 1522) і «Апостал» (1525). Служыў лекарам і сакратаром у віленскага біскупа. Выязджаў у Германію (сустракаўся з М.Лютэрам), магчыма, і ў Маскву, вёў з братам Іванам гандлёвыя справы ў Варшаве і Познані. У 1530 па запрашэнні герцага Альбрэхта ездзіў у Кёнігсберг па справах кнігадрукавання. З 1534 ці 1535 у Празе, працаваў каралеўскім батанікам. Там і памёр (у 1552 яго сын Сімяон прыязджаў сюды па бацькаву спадчыну).

Да кнігі Бібліі С. пісаў прадмовы і пасляслоўі (новыя ў бел. літаратуры жанры) у якіх ацэньваў пазнавальна-адукацыйныя і маст. вартасці біблейскіх твораў, выказваў свае грамадска-філасофскія, маральна-этычныя і эстэт. погляды. С. лічыў Біблію тварэннем філосафаў, мудрацоў і летапісцаў, а не божым звеставаннем, як патрабавалі артадаксальныя багасловы. С. не адмаўляўся ад веры, але пацясняў яе, рэкамендуючы рэліг. кнігі для навучання і выхавання. «Біблія» С. выйшла раней за ням. пераклад Лютэра. Сутнасць яго каментарыяў — у рэнесансавым сцвярджэнні, што змест Бібліі можна ўзгадняць з чалавечым разуменнем і вопытам, рацыянальна выкарыстоўваць. Яна павінна даваць спажыву мысленню мудраца і навучаць розуму і добрым норавам простага чалавека. Гэта пярэчыла традыцыі і практыцы царкоўнікаў сярэдневякоўя, якія глядзелі на выданні С. як на ератычныя. У Бібліі С. шукаў асновы гуманістычнага светаўяўлення. Свет для яго — гарманічная сістэма, якая дзейнічае па законах разумнай мэтазгоднасці, а грамадства — частка гэтай сістэмы, якая павінна кіравацца законамі сумлення. Справядлівы той закон, што «не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написанный». Прыклады бездакорных правіцеляў-заканадаўцаў С. знаходзіў у ант. свеце (Салон, Лікург, Нума Пампілій), для хрысціян ставіў за ўзор Майсея і Саламона. Мудрых правіцеляў проціпастаўляў тыранам, дэспатам, заваёўнікам. С. быў прыхільнікам прагрэсіўных зрухаў, звязаных з ростам гарадоў, пераходам іх да кіравання паводле магдэбургскага права. Ідэалам чалавека лічыў грамадзяніна выхаванага, свядомага, які заўжды і без прымусу трымаецца закону, інтарэсы грамадскія ставіў вышэй за асабістыя. У прадмове да кн. «Юдзіф» С. ўхваляе патрыятызм як праяву універсальнага закону гарманічных суадносін чалавека і радзімы. Служэнне грамадству С. ставіў нараўне са служэннем Богу, а сваю перакладчыцкую, пісьменніцкую і выдавецкую дзейнасць трактаваў як духоўную ахвяру радзіме. Неад'ем-



«Плач Ераміі». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Плач Ераміі» Ф.**Скарыны**.



«Дачка фараона і Майсей». Гравюра з тытульнага ліста кнігі «Выхад» Ф.**Скарыны**.

німі якасцямі дасканалага чалавека прызнаваў праўдалюбства, сумленнасць і цнатлівасць у грамадскім жыцці і асабістых учынках. Высока цаніў эстэт. вартасці псалмоў, прытчаў Саламона, у ліку першых біблейскіх кніг надрукаваў любоўную паэму «Песня песням». Хараство лічыў праявай разумнай гармоніі жыцця, а мастацтва, у прыватнасці музыку, псалмаспеў, — сілаю, што можа звязаць чалавека з сутнасцю быцця, устанавіць гармонію ў душы, ачысціць яе ад страху, зайздрасці, жорсткасці. Несучы асвету ў свой край, С. ўлічваў яго канкрэтныя ўмовы. Ён заяўляў, што ў Бібліі ўсёй мудрасці «зачало и конец». Але даў свабодны выклад кананічных біблейскіх тэкстаў, пераклаў вершам 10 запаведзяў Майсеевых. Вершаваныя радкі сустракаюцца і ў іншых мясцінах прадмоў і пракладаў С. Гэта дае падставу называць яго пачынальнікам бел. пісьмовай паэзіі. Універсальна адукаваны чалавек, які валодаў многімі еўрап. мовамі, С. любіў, цаніў і ўмеў карыстацца родным словам. С. ўводзіў грамадскую думку Беларусі ў агульнае рэчышча еўрап. думкі і культуры, узняў прэстыж свайго народа і радзімы ў цывілізаваным свеце. Выданні С. вылучаюцца высокімі маст. якасцямі: майстэрствам набору, разнастайнасцю шрыфтоў, шырокім ужываннем заставак, вялікіх рамачных ініцыялаў і тэматычных ксілаграфій. Высокамаст. гравюры С. Рэліг. тэматыка некаторых з іх секулярызаваная (адлюстроўваюць архітэктуру еўрап. гарадоў, працу дойлідаў і землеробаў, адзенне, вайсковы рыштунак сучаснікаў, экзатычны жывёльны і раслінны свет). Манаграмы на паасобных гравюрах С., у т.л. на яго партрэце 1517, не расшыфраваны. Выданні С. зрабілі істотны ўплыў на бел. і ўсё ўсходнеслав. кнігадрукаванне. Помнік С. знаходзіцца ў Полацку. Імем С. названы праспект у Мінску і вуліца ў Полацку, друкарня выдавецтва «Навука і тэхніка» ў Мінску.

*Тв.:* Творы. Мн., 1990.

*Літ.:* Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. даведнік. Мн., 1988; Францыск Скарына. Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988; Немировский Е. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990; Булыка А.М., Жураўскі А.І., Свяжынскі У.М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990; Францыск Скарына: Жыццё і дзейнасць: Паказ. л-ры (Склад. Я.Л.Неміроўскі, Л.А.Осіпчык. Мн., 1990.

СКІТ (ад грэч. asketos аскет, падзвіжнік) — самастойнае ці выдзеленае ў манастыры адасобленае жыллё пустэльніка. Манахі, якія жывуць у С., прымаюць дадатковыя зарокі (напр., строгага посту, узмоцненай малітвы, пустэльніцтва і інш.). Звычайна С. забаронена наведваць пабочным асобам. У стараабрадніцтве С. называюць манастыр і паселішча манастырскага тыпу.

СКРЫЖА́ЛЬ — 1) дошка з высечаным на ёй свяшчэнным тэкстам. Паводле Бібліі, *дзесяць запаведзей*, якія бог Яхве ўручыў Майсею, былі выкладзены на дзвюх С. 2) Чатырохвугольная хуста з аздабленнем па краях і выявай крыжа ці абраза ў цэнтры. Нашываецца на мантыю *архірэя* каля плячэй і падола як сімвалы Старога і Новага запаветаў.


Гравюрны партрэт Ф.**Скарыны** з «Бібліі».

«СКРЫЖА́ЛЬ» — збор прац усходніх *айцоў царквы* па спрэчных пытаннях дагматычнага, кананічнага і абрадавага характару. Складзены грэч. манахам Нафанаілам. На стараж.-слав. мову перакладзены Арсеніем Грэкам. Паводле распараджэння патрыярха Нікана, «С.» быў выдадзены, каб зняславіць старыя абрады, што былі абвешчаны ератычнымі (гл. *Стараабраднікі*).

СЛАВІНЕ́ЦКІ Епіфаній (?—20.11.1657) — усходнеславянскі пісьменнік, перакладчык, багаслоў, філосаф. Яго літ. і навук. спадчына — агульны здабытак культ. спадчыны бел., укр. і рус. народаў. Пра месца яго нараджэння няма агульнай думкі. У прадмовах да выданняў твораў *айцоў царквы*, перакладзеных ім, С. пісаў, што яны складзены «тщанием... во философии и богословии изящного дидаскала и искуснейшаго во еллинском и славенском диалектах пречестного отца господина иеромонаха Епифания, Кіевския страны». У каталогу бібліятэкі *Сімяона Полацкага* пад назвай кнігі С. паслядоўнік Сімяона паэт Сільвестр Мядзведзеў напісаў: «От Малыя Россіи». Аднак найб. кампетэнтны ў біяграфіі С. яго вучань-паслушнік Яўфімій запісаў у рукапісным перакладзе Новага запавету: «... преводу и стяжания многомудрого мужа в философии и Богословіи иеромонаха Епифания Славинецкого родом Белорусца». Супастаўляючы розныя факты з біяграфіі пісьменніка, у т.л. яго завяшчанне значнай часткі маёмасці Пінскаму манастыру, І.Ротар зрабіў выснову, што радзімай Епіфанія быў горад Пінск. Выхоўваўся пісьменнік у Кіеўскай брацкай школе (пазней — Кіева-Магілянская акадэмія), вучыўся за мяжой, як мяркуюць даследчыкі, у Кракаўскім ун-це.

У 1649 на запрашэнне рас. ўрада прыехаў у Маскву на чале групы адукаваных манахаў для выпраўлення, рэдагавання і перакладу з грэч. мовы кніг, арганізацыі школы і царк.-асветніцкай дзейнасці. У Расіі ён стаў адным з «любамудраў», прыбліжаных да патрыярха Нікана, кіраўніком і выкладчыкам «сямі вольных мастацтваў» у школе пры Чудаўскім манастыры і гал. «спраўшчыкам» (фактычна — рэдактарам) перакладных царк. кніг, тэарэтыкам ніканаўскай царк. рэформы. Паводле свайго светапогляду С. — адукаваны і аўтарытэтны прадстаўнік «грэкафільскай» партыі; праціўнік зах.-еўрап. лаціна-каталіцкага ўплыву на правасл. царкву і ў гэтым плане — апанент *Сімяона Полацкага.* Аднак адносіны паміж імі былі неадназначныя, нярэдка сяброўскія. З прадмовы да рукапіснага збору твораў С. вынікае, што ідэолаг «лацінскай» (бел.) партыі Сімяон ставіўся да свайго апанента-грэкафіла як вучань да настаўніка: «Егда они купно случахуся, всегда и везде бываше вопрошати честному Симеону мудрейшаго отца Епифания и многих неудоборазумеваемых вещех». У адрозненне ад яркага палеміста Сімяона Полацкага, які моцна ўплываў на развіццё літаратуры, кнігадрукавання і грамадскай думкі Расіі, С. быў тыповым «акадэмічным» пісьменнікам. Толькі аднойчы ён уступіў у палеміку, каб даказаць нелегітымнасць пазбаўлення былога патрыярха Нікана епіскапскага сану. У запісцы цару пра гэта закрануў і філасофскую праблематыку.

Апрача «выпраўлення» царк. кніг, у т.л. Астрожскай Бібліі, ён перакладаў творы айцоў усходняй царквы (*ГрыгорыяНазіянзіна, Васіля Вялікага, Іаана Златавуста* і інш.), прапагандаваў іх філас. і эстэт. ідэі. На рус. царк.-маст. свядомасць моцна ўплываў перакладзены ім трактат *Іаана Дамаскіна* пра абразы як сімвалічныя вобразы, што адлюстроўваюць першавобразы трансцэндэнтнай божай рэальнасці. Высока цаніў С. і свецкую навуку, сведчаннем чаго з'яўляюцца яго пераклады падручніка па геаграфіі з пераказам геліяцэнтрычнай тэорыі М.Каперніка, кніг А.Везалія па анатоміі, трактата Эразма Ратэрдамскага па педагогіцы («Грамадзянства звычаяў дзіцячых»), а таксама складзены ім славяна-грэка-лацінскі слоўнік. Аднак ён выступаў супраць уплыву свецкай навукі, філасофіі і рэалістычнага мастацтва на рэлігію і царк. традыцыю, даказваў, што найвышэйшым аўтарытэтам у духоўным жыцці застаецца Свяшчэннае пісанне і вучэнне грэч. айцоў царквы. У прыватнасці, быў супраць, каб мастакі пісалі з лац. і лютэранскіх узораў Спаса, Багародзіцу і св. апосталаў, абараняў традыцыйны візант. стыль у іканапісе. На яго думку, у свеце матэрыяльных з'яў нішто не вечнае, усё мяняецца, затое ў свеце духоўным, божым дзейнічае закон пастаянства, стабільнасці. Адсюль схільнасць яго да правасл. артадоксіі, непрыманне схаластычнай логікі і «вонкавай» мудрасці ў сферы багаслоўя і веры. Ён прызнаваўся, што сілагізмамі, асабліва лац., не карыстаецца, таму што Васіль Вялікі патрабаваў пазбягаць іх, а Грыгорый Назіянзін назваў сілагізмы «веры развращением и тайне истощением». У гэтым С. разыходзіўся з больш рацыяналістычным «лацінікам» Сімяонам Полацкім. Скрытая палеміка паміж імі ўзнікла і адносна *еўхарыстыі.* Захаваўся запіс «разглагольства» двух іераманахаў у форме пытанняў Сімяона Полацкага і адказаў С. (1673). На пытанне, ці сапраўды літургічнае таінства ператварэння хлеба і віна ў цела і кроў Хрыста адбываецца адразу па выяўленні святаром слоў Хрыстовых на тайнай вячэры, С. адказаў, што пасля гэтых слоў хлеб і віно становяцца толькі правобразамі цела і крыві, і толькі пасля малітвы святара з просьбай да Бога Айца пасляць на хлеб і віно дары Святога Духа, каб асвяціць і ператварыць іх, хлеб і віно становяцца сапраўдным целам Хрыстовым і сапраўднай яго кроўю. На гэта Сімяон Полацкі дыпламатычна запярэчыў, што вучоная Русь у Кіеве таксама думае, што толькі праз слова Хрыста ператвараюцца хлеб і віно ў цела і кроў Хрыстовы, а думка такая не з'яўляецца грэшнай. У адказ С. заўважыў, што кіяўляне вучыліся і вучацца толькі па латыні і чытаюць толькі лац. кнігі, таму так мудрагеляць, а па-грэчаску не вучыліся і грэч. кніг не чытаюць, таму і не ведаюць ісціны і моцна ў гэтым памыляюцца, падпаўшы пад лац. ерась. У гэтым светапоглялнае разыходжанне паміж «лацінісамі» і «грэкафіламі». Адносна пакланення абразам погляды С. і



**Слонімскі кляштар бернардзінак.**

Сімяона Полацкага ў асноўным супадалі, бо яны аднолькава грунтаваліся на размежаванні вобразаў і правобразаў, мастацтва і рэальнасці. У маральна-тэалагічным слове «Пра міласэрнасць» С. гаварыў: «Поклоняйся начертанию телесно; умом же твоим поклоняйся первообразному, его же образ видиши начертан, самого же начертанного вежды быти на небеси... Елицы же противно хотят поклонятися святым или образам яко богам, сии достойны суть вечнаго огня». С. адразіў сімвалічна-алегарычнае красамоўства, засн. ў 12 ст. *Кірылам Тураўскім.* Шматлікія аналогіі з ант. літаратурай, спасылкі на «Адысею», Плутарха, Плінія, Дэмакрыта і інш. ант. аўтараў сведчаць пра ўплыў на С. гуманістычнай філалогіі і красамоўства эпохі Адраджэння. Захавалася яго рукапісная паэтычная спадчына — каля 40 сілабічных песняў эпічнага зместу. Паэзія асветніка адметная багатым гукапісам, вытанчанасцю выяўленчых сродкаў, лексічным багаццем. С. і Сімяон Полацкі былі заснавальнікамі дзвюх школ перакладчыцкага майстэрства: першы — паслядоўнік літаральнага, другі — адносна вольнага, сэнсавага перакладу. Сімяон Полацкі напісаў 5 варыянтаў эпітафіі на смерць свайго настаўніка. *У.М.Конан.*

СЛО́НІМСКАЯ ДРУКА́РНЯ. Існавала ў 1777(?)—1782(?) у Слоніме. Належала мецэнату М.К.Агінскаму, размяшчалася ў яго палацы. 1-е выданне — «Рэлігійны культ Брунона, патрона картузаў» (1777, на лац. мове) — ажыццёўлена з удзелам дамініканцаў. На польскай і італьянскай мовах выдадзена «Кніжка для дзяцей, або ўяўленне аб прадметах, якія дзеці павінны вывучаць» (1778), на польскай — лібрэта опер «Сілы свету», «Становішча саслоўяў», «Елісейскія палі» (каля 1781), напісаныя, як мяркуюць, Агінскім.

СЛО́НІМСКАЯ ЕЗУІ́ЦКАЯ РЭЗІДЭ́НЦЫЯ — установа ордэна *езуітаў* у г. Слонім Гродзенскай вобл. у 1709—25 місія Навагрудскага езуіцкага калегіума, у 1725—73 рэзідэнцыя. Першыя спробы стварэння місіі зроблены ў 1664—65. У пач. 18 ст. зямельныя наданні слонімскім езуітам рабілі жмудскі кашталян А.Уніхоўскі, муж і жонка Талаканскія, М.Кошыц, пробашч Віленскай кафедры ксёндз П.Палубінскі. Першы драўляны касцёл св. Іосіфа ўзведзены ў 1713—15, другі мураваны будаваўся з 1740 (не завершаны). Пры місіі дзейнічалі школы: граматыкі (з 1713), паэтыкі і рыторыкі (з 1714). У 1736 пры рэзідэнцыі створана школа філасофіі, з 1750 вывучаліся гісторыя і матэматыка. Меліся муз. бурса, канвікт (інтэрнат) для дзяцей збяднелай шляхты, б-ка. У розны час місіі і рэзідэнцыі належалі маёнткі: Вішаў, Грынькі, Дабосня, Шулякі, дзейнічалі місіі ў Ваўкавыску і Дабосні. Пасля скасавання рэзідэнцыі школа пераўтворана ў павятовае вучылішча. Будынкі не захаваліся.



Слонімскі кляштар бернардзінцаў.

СЛО́НІМСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НАК. Існаваў у Слоніме Гродзенскай вобл. з 1640-х г. да пач. 20 ст. Засн. К.Юдзіцкай-Салятыцкай, якая купіла бернардзінкам пляц з дваром за 3 тыс. злотых. Браты З. і К. Працлаўскія дакупілі кляштару суседнія пляцы за 1500 зл. З 1645 існаваў драўляны касцёл Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі (згарэў у 1656). Першыя манашкі прыбылі сюды з Віленскага кляштара св. Міхаіла. Маёмасць кляштара складалася з пасагаў, агарода і капіталу ў 10 тыс. злотых ад Юдзіцкай. У 1670—96 пабудаваны мураваны касцёл пад ранейшай назвай (асвячоны віленскім біскупам Канстанцінам Бжастоўскім 4.12.1696). У 1760-я г. інтэр'ер касцёла аздоблены майстрам Гедэлем паводле праекта Я.Глаўбіца стукавай лепкай (алтары, амбон), тады ж пабудаваны 2-паярховы жылы корпус. Паслушніцы навучаліся музыцы, вышыўцы, франц. мове. З 1696 пры кляштары існавала брацтва св. Міхаіла. У 1830 сюды пераведзены бернардзінкі з Брэста. Пасля 1905 са згоды біскупа Э.*Ропа* кляштар перададзены манашкам ордэна Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі (непакалянкам). Касцёл дзейнічае, у корпусе кляштара размешчаны шпіталь. Помнік архітэктуры рэсп. значэння. *А.А.Ярашэвіч.*

СЛО́НІМСКІ КЛЯ́ШТАР БЕРНАРДЗІ́НЦАЎ. Існаваў у 1630—1864 у г. Слонім Гродзенскай вобл. Засн. па ініцыятыве Я.Жарноўскага і А.Лукашэвіч. 30.5.1639 каралеўскі сакратар А.Радван заклаў фундамент мураванага касцёла св. Тройцы. Кіраўнік буд. работ мулярскі майстар С.Тарашкевіч з Нясвіжа. У 1655 касцёл згарэў. Адбудаваны

ў 1671, асвячоны біскупам М.Слупскім. У 1668 і 1750 да касцёла прыбудаваны капліцы Працлаўскіх і Слізняў. У 1861 у касцёле адбываліся патрыятычныя маніфестацыі, за што на яго накладзены штраф у 308 руб. На час закрыцця (21.12.1864) у кляштары знаходзіўся 21 манах. У 1866 касцёл перароблены на царкву, прыпісную да сабора, корпус кляштара аддадзены паліцыі, а пляцы і агароды — палаце дзярж. маёмасцей. Будынкі касцёла (цяпер Троіцкі правасл. сабор) і кляштара (інтэрнат) — помнікі рэсп. значэння. *А.А.Ярашэвіч.*

СЛУ́ЦКІ ЕЗУІ́ЦКІ КАЛЕ́ГІУМ — установа ордэна *езуітаў* у г. Слуцк Мінскай вобл. ў 1689—1773. У 1689—1704 місія, у 1704—15 рэзідэнцыя, у 1715—73 калегіум. У 1692 віцебскі падчашы Ян Слонскі з жонкай Кацярынай адпісалі езуітам двор у Слуцку і 2 вёскі. У 1696 другая жонка Слонскага Мар'яна ахвяравала на езуіцкую місію 10 тыс. злотых. Першыя драўляныя будынкі місіі і рэзідэнцыі месціліся ў гар. раёне Падвалле (не захаваліся). У 1715 у раёне Зарэчча пабудаваны драўляныя корпус калегіума і касцёл св. Тройцы — 8-гранны ў плане храм з галоўным купалам у цэнтры і 4 вежамі па вуглах; стары корпус рэзідэнцыі ў Падваллі быў перароблены ў канвікт (інтэрнат). У 1698 адкрыта школа граматыкі, у 1702 — паэтыкі, у 1704 — рыторыкі. З ператварэннем рэзідэнцыі ў калегіум навуч. праграма стала адпавядаць праграме сярэдніх навуч. устаноў. Пры калегіуме існавалі муз. бурса (з 1713) і аптэка (з 1762). У бібліятэцы меліся каштоўныя старадрукі і рукапісы, у т.л. Літоўскі Статут 16 ст., Мазавецкі Статут 1541, аўтографы П.*Скаргі*. Пасля скасавання калегіума ў бібліятэку Віленскага ун-та перададзена 2200 тамоў. У розныя часы калегіуму належалі навакольныя маёнткі Багурын, Багурынак, Бокшыцы, Бранчыцы, Кіявічы, Новы Двор, Румок, Уса, Ямінск; місіянерскія пункты існавалі ў Багурыне, Румцы, Ямінску. У 1773 калегіум скасаваны. У 1804 касцёл і ўсе пабудовы калегіума знішчаны пажарам.

*Літ.:* Габрусь Т. Слуцкі Троіцкі касцёл езуітаў // Случчына: мінулае і сучаснасць. Слуцк, 1995; Я е ж. Цуд з дрэва // Страчаная спадчына. Мн., 1998.

СЛУ́ЦКІ ІЛЬІ́НСКІ МАНАСТЫ́Р, праваслаўны манастыр у г. Слуцк Мінскай вобл. ў 16—19 ст. Знаходзіўся ў Старым горадзе на вул. Віленскай перад Віленскай брамай. Дакладная дата заснавання невядома. Упершыню згадваецца ў 1515. Царк. гісторыкі лічаць, што да 1611 манастыр быў мужчынскі, потым пераўтвораны ў жаночы. У 19 ст. манастырскі комплекс уключаў: халодную саборную царкву Увахода Ісуса Хрыста ў Іерусалім, цёплую царкву св. Іаана Златавуста, званіцу над гал. уязной брамай, дамок для ігуменні, манастырскі корпус з 13 келлямі, гасп. пабудовы. Усе будынкі былі драўляныя. Паводле рашэння Сінода ў 1854 манастыр закрыты, а яго маёмасць перададзена *Пінскаму Варварынскаму манастыру*. У 1856 будынак цёплай царквы перанесены на Замкавую гару ў Слуцку, а саборная царква ў 1861 перавезена ў в. Заўшыцы ў Слуцкім пав. (абедзве не захаваліся); дамок ігуменні і манастырскі жылы корпус перададзены гарадскому сабору. *Н.І.Пятровіч.*

СЛУ́ЦКІ ТРО́ІЦКІ МАНАСТЫ́Р, Трайчанскі манастыр — праваслаўны мужчынскі манастыр у Слуцку ў 15 — 1-й пал. 20 ст. Знаходзіўся на левым беразе р. Случ у прадмесці Трайчаны, якому даў сваю назву. Час узнікнення невядомы, упершыню згадваецца ў 1455. У гістарычнай літаратуры прынята лічыць, што гал. храм манастыра — царква св. Тройцы пабудавана ў 1505, але дакументальнага пацвярджэння гэтаму не выяўлена. Дакладна вядома, што ў 1654 яна была мураваная, узвышалася ў цэнтры манастырскага двара, усе астатнія пабудовы былі драўляныя. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 манастыр моцна пацярпеў, а царква была практычна знішчана. Тагачасныя ўладальнікі Слуцка кн. Багуслаў Радзівіл у 1667 даў на адбудову «спустошанага і зруйнаванага непрыяцелем» манастыра неабходную драўніну «з мясцовых пушчаў», а жыхары Слуцка (пераважна купцы і шляхта) у 1668—69 рабілі ўзносы на мураванне царквы. У 18 ст. храм зноў разбураны. У 1785—88 царква адбудавана паводле праекта і пад кіраўніцтвам архітэктара «Шаі Вольфавіча Турава, мешчаніна слуцкага» па заказу тагачаснага слуцкага архімандрыта В.*Садкоўскага*. Храм быў у стылі барока, крыжовакупальны ў плане, з дзвюма 3-яруснымі чацверыковымі вежамі-званіцамі на гал. фасадзе; на паўн. вежы быў уманціраваны гадзіннік. Сцены тарцоў трансепта завяршаліся фігурнымі франтонамі. Перад гал. уваходам да сцяны быў прыбудаваны прытвор пад двухсхільным дахам. Над сяродкрыжжам на чацверыку ўзвышаўся вял. купал з вежавым завяршэннем. У храме зберагаліся цудатворныя абразы Маці Божай і Казанскай Маці Божай (абодва візантыйскага пісьма), Евангелле 1582, пісанае слуцкім кн. Юрыем Юр'евічам Алелькавічам, старажытныя партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў, у т.л. заснавальніка роду Аляксандра і трох яго сыноў — Юрыя, Сямёна і Аляксандра; вырабы з серабра і інш. Да 1860-х г. усе манастырскія пабудовы, акрамя Троіцкай царквы, былі драўляныя. У 1867 пастаўлены мураваны манастырскі корпус з цёплай царквой св. Іаана Багаслова, у 1868 — мураваная брама, над якой месцілася яшчэ адна цёплая царква — Даб-

равешчанская. Трапезная, дом архімандрыта, дом для гасцей і гасп. пабудовы былі драўляныя. Пры манастыры працавала школа граматы і рамёстваў. У 1785—1840 на тэр. манастыра размяшчалася духоўная семінарыя (з 1793 наз. *Мінская духоўная семінарыя*). Дакладны час закрыцця С.Т.м. невядомы, усе будынкі разам з гал. храмам разбураны на працягу 1-й пал. 20 ст.

*Літ.:* Русские монастыри. М., 1995. *Н.І.Патровіч.*

СМАГАРЖЭЎСКІ Ясон (каля 1714 — 1.2.1788) — уніяцкі царк. дзеяч Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду Ваўкавыскага пав. герба «Юноша». Напачатку католік. Каля 1731 уступіў у ордэн базыльян. Вывучаў тэалогію і філасофію ў Грэчаскім калегіуме ў Рыме (1734—40). У 1740 пасвячоны ў святара. З 1747 ген. афіцыял і вікарый Кіеўскай мітраполіі. Па даручэнні мітрапаліта Ф.*Грабніцкага* каля 1752—58 знаходзіўся ў Рыме. У 1762—80 архіепіскап полацкі. 16.9.1772 прысягнуў на вернасць Расіі, атрымаў 2 дэканаты мітрапаліцкай епархіі (Гомельскі і Рагачоўскі, 1773) і Смаленскую епархію (1778), што паставіла пад уладу С. ўсе парафіі ў землях, далучаных да Рас. імперыі. Абараняў пазіцыі уніяцкай царквы ад пераводу вернікаў як у праваслаўе, так і ў каталіцтва. Імкнуўся абмежаваць дзейнасць правасл. епіскапа В.*Садкоўскага*, вярнуць парафіі, што прынялі праваслаўе, забараніць святарам з Расіі працаваць у прыходах. У 1774 дамогся ад папства пацвярджэння пастановы 1624 аб забароне уніятам пераходзіць у каталіцтва. У 1774 падрыхтаваў праект стварэння епархіяльнай семінарыі ў в. Струнь каля Полацка (адкрыта ў 1807). Заахвочваў развіццё базыльянскіх школ свецкага кірунку. У 1780—88 С. — мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. Спрабаваў захаваць за сабой і пасаду полацкага архіепіскапа, але 2.7.1780 імператрыца Кацярына II пазбавіла яго рас. падданства. Выехаў у Рэч Паспалітую, жыў у сваёй рэзідэнцыі ў г. Радамысль (Кіеўскае ваяв.). Заснаваў семінарыі ў Радамыслі і Жытоміры. Намаганні С. не спынілі агульнай тэндэнцыі да паслаблення пазіцый уніяцкай царквы.

*Літ.:* Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II. Мн., 1998. *С.В.Калуля.*

СМАЛЕНСКІ АБРАЗ МАЦІ БОЖАЙ, Смаленская Адзігітрыя — адна з галоўных праваслаўных святынь Беларусі і Расіі. Паводле царк. падання, намаляваны евангелістам Лукой. Да 11 ст. захоўваўся ва Улахернскім храме ў Канстанцінопалі, у 1046 прынесены ў Чарнігаў візант. прынцэсай Ганнай, нявесткай кн. Усевалада Яраславіча. Яго сын Уладзімір Усеваладавіч Манамах перанёс абраз у Смаленскі Успенскі сабор, пабудаваны ім у 1101. Соф'я Вітаўтаўна, жонка вялікага кн. Васіля Дзмітрыевіча, прывезла ў 1398 гэты абраз у Дабравешчанскі сабор (Масква). У 1456 па просьбе вялікага кн. ВКЛ Казіміра IV Ягелончыка абраз вернуты ў Смаленск епіскапам *Місаілам*, а ў Маскве засталася яго копія. У памяць адваявання Маскоўскім княствам Смаленска ў пач. 16 ст. ў Маскве быў заснаваны Новадзявочы манастыр са Смаленскім саборам і прызначана дата святкавання цудадзейнага абраза (дакладней, яго маскоўскай копіі) 28 ліп. с. ст. У 1666 у Смаленску на Дняпроўскай вежы гарадской сцяны пастаўлена новая копія Смаленскай Адзігітрыі (намалявана ў 1602). У 1812 гэты абраз быў пры дывізіі генерала А.П.Ярмолава, у т.л. у Барадзінскай бітве. Абраз з Успенскага сабора таксама вывозіўся ў 1812, потым вернуты. Лёс сапраўднага абраза ў 20 ст. няпэўны: паводле адной версіі ён знік у 1941; паводле інш. — загінуў яшчэ ў 1611 у час пажару пры штурме Смаленска войскамі Рэчы Паспалітай; некаторыя каталіцкія гісторыкі лічаць, што абраз у 1611 трапіў да дамініканцаў; паводле царк. традыцыі, абраз і цяпер знаходзіцца ў Смаленскім Успенскім саборы. Вядома мноства копій С.а.М.Б., сярод іх каля 30 цудадзейных і шанаваных, у т.л. на Беларусі найб. знакамітыя абразы — дубянецкі (16 ст., цяпер у Нац. маст. музеі Беларусі) і дзісенскі (18 ст.). *А.А.Ярашэвіч.*



**Смаленскі абраз Маці Божай.**

СМАТРЫЦКІ Мялецій (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1577, с. Смотрыч, цяпер гар. пасёлак Дунавецкага р-на Хмяльніцкай вобл., Украіна — 27.12.1633) — беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч. Першапачатковую адукацыю атрымаў пад кіраўніцтвам бацькі і вучонага грэка Кірылы Лукарыса, будучага канстанцінопальскага патрыярха. Скон-

чыў Віленскую езуіцкую акадэмію. З 1601 у кн. Б.Саламярэцкага (мястэчка Баркулабава Аршанскага пав. Віцебскага ваяв., цяпер Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.). Разам з сынам князя ўдасканальваў веды ў Лейпцыгскім і Вітэнбергскім ун-тах; пабываў у Нюрнбергу, Вроцлаве, Вюрцбургу. Потым жыў у маёнтках Саламярэцкага каля Мінска. Уступіў у Віленскае правасл. брацтва пры Троіцкім манастыры, дзе зблізіўся з Л.*Карповічам*. Выступаў супраць *Брэсцкай уніі 1596*. Пісаў на стараж. бел. і ўкр., лац., польскай мовах (многія творы напісаны макаранічнай мовай). У 1608 супраць твораў І.*Пацея* «Ерасі...» і «Гармонія...» выдаў «Антыграфі...», у 1610 пад псеўданімам Тэафіла Арталога — «Трэнас», дзе ад імя «маці-царквы», што сімвалізавала прыгнечаную радзіму, заклікаў народы Беларусі і Украіны да аб'яднання супраць каталіцызму. Твор выклікаў шырокую грамадска-паліт. рэакцыю. На яго кнігу палемічнымі творамі адказалі П.*Скарга* і І.*Марахоўскі*. У 1617 пастрыгся ў манахі пад імем Мялецій. Працаваў у брацкай школе Віленскага Свята-Духаўскага манастыра, быў рэктарам Кіеўскай брацкай школы (1618—20). Вынікам педагагічнай дзейнасці стала «Грамматики словенския правилная синтагма...» (1618/1619, Еўе, цяпер Везіс, Літва), дзе ўпершыню на высокім навук. узроўні тлумачыліся арфаграфія, этымалогія, сінтаксіс і прасодыя. Больш як 2 стагоддзі яна была адным з самых аўтарытэтных падручнікаў на слав. мовазнаўстве; двойчы перавыдавалася ў Маскве (1648, 1721), вытрымкі з яе І.Капіевіч надрукаваў у Галандыі («Руковедение во грамматику словеноросcийскую», 1706). У 18 — 1-й пал. 19 ст. яна стала ўзорам для сербскай, харвацкай, румынскай і балгарскай граматык. З 1620 С. — архіепіскап полацкі, епіскап віцебскі і мсціслаўскі. Аўтар «Трактата пра паходжанне Святога Духа» і «Палінодыі...» (каля 1615), прадмовы да «Евангелля вучыцельнага патрыярха Каліста» (1616), «Казання... на чэснае пахаванне... Лявонція Карповіча» (1620), «Апраўдання нявіннасці» і «Абароны апраўдання» (1621), «Дадатку да абарон апраўдання» і «Выкрывання з'едлівых твораў» (1622), «Юстыфікацыі...» і «Суплікацыі...» на імя сената і караля (1623). Напалоханы ўзмацненнем нац.-вызваленчага руху і забойствам уніяцкага архіепіскапа І.*Кунцэвіча*, паломнічаў па св. мясцінах Блізкага Усходу (1624—25). У 1627 тайна, у 1628 адкрыта перайшоў на бок уніятаў. У творах «Апалогія...», «Разважанне пра шэсць розніц паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі», «Пратэстацыя» (усе 1628), «Пранэсіс...» і «Экзатэіс...» (1629) адрокся ад сваіх антыуніяцкіх твораў, выступаў супраць правасл. пісьменнікаў-палемістаў С.*Зізанія*, Кліpыка Астрожскага, *Хрыстафора Філалета*. С. — прадстаўнік барока. Стыль і мова яго твораў сталі ўзорам для Л.Карповіча, З.Капысценскага, А.*Мужылоўскага* і інш.

*Літ.*: Прокошина Е.С. Мелетий Смотрицкий. Мн., 1966; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Короткий В.Г. Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987.

*У.Г.Кароткі.*

СМІЛАВІЦКІ КЛЯШТАР МІСІЯНЕРАЎ. Існаваў у 1747—1832 у мяст. Смілавічы Чэрвеньскага р-на Мінскай вобл. Засн. Марцыбелай Завішанкай з Агінскіх. Яна размясціла ксяндзоў з аб'яднання місіянераў пры драўляным касцёле і завяшчала грошы на мураваныя будынкі. Кляштар знаходзіўся на краі мястэчка пры гасцінцы Мінск—Ігумен. У 1774 пабудаваны 2-павярховы мураваны корпус місійнага дома (кляштара). Трохнефавы з 2-вежавым фасадам касцёл св. Тройцы быў кансекраваны (асвячоны біскупам) у 1785, з'яўляўся таксама і парафіяльным. У сярэдзіне храма было 6 ілюзіяністычных алтароў з абразамі і скульптурамі. У 1832 кляштар закрыты, касцёл заставаўся парафіяльным да 1865, пазней перабудаваны пад царкву. Будынкі разбураны ў 1930-я г.

*А.А.Ярашэвіч.*



**Смілавіцкі кляштар місіянераў**. З малюнка Н.Орды. 1870-я гады.

СО́Ф'Я СЛУ́ЦКАЯ — гл. *Радзівіл* Соф'я.

СО́ЦЫН (Socino, Sozzini) Фауст (5.12.1539, г. Сіена, Італія — 3.3.1604) — італьянскі тэолаг-антытрынітарый, філасаф, заснавальнік сацыніянства (гл. *Сацыніяне*). У 1579 ён прыехаў у Кракаў і актыўна ўключыўся ў радыкальна-рэфармацыйны рух Польшчы і ВКЛ. У ідэйнай спрэчцы правага і левага крыла *антытрынітарыяў* займаў цэнтрысцкія пазіцыі. Успрыняў і развіў некаторыя сацыяльныя і рэліг.-філасофскія ідэі С.*Буднага*, аднак асудзіў яго вучэнне пра натуральнае паходжанне Ісуса Хрыста і выступіў супраць атэістычных тэндэнцый у бел. антытрынітарызме. Вырашальным крытэрыем у ацэнцы Бібліі лічыў індывідуальны чалавечы розум. Вера, на думку С., залежыць ад свабоднай волі, маральнай пазіцыі чалавека, таму насільна навязаць яе не мае права ні царква, ні дзяржава. У 1588 на сінодзе ў Брэсце прыхільнікі С. атрымалі ідэйную перамогу, з таго часу ён стаў ідэолагам польскага і бел. антытрынітарызму. *С.А.Падокшын.*

СПІРЫТУАЛІ́ЗМ (ад лац. spiritualis духоўны) — філасофскі погляд, процілеглы як матэрыялістычнай, так і пазітывісцкай канцэпцыі існага. Галоўны тэзіс С. — нязводнасць чалавека да прыроды. С. разглядае дух у якасці першаасновы рэчаіснасці, як асобую бесцялесную, «тонкую» субстанцыю, якая існуе па-за матэрыяй і незалежна ад яе. Як філасофскі тэрмін «С.» уведзены Кузенам (пач. 19 ст.); у далейшым такім тэрмінам сталі карыстацца французскія і італьянскія філасофскія школы 19—20 ст. Па сутнасці, спірытуалістычнымі з'яўляюцца ўсе рэліг. вераванні ў існаванне Бога і бессмяротнасць душы. У філасофіі С. сінтэзуюцца самыя разнастайныя культурныя феномены старажытнасці (магія, містыка, тэургія, астралогія і інш.) і новага часу (месмерызм, гіпнатызм, экстрасенсорыка, парапсіхалогія і інш.), якія сцвярджаюць субстанцыянальнасць духоўнага пачатку і займаюцца практычным вывучэннем псіхічных, астральных, ментальных з'яў.

СПІРЫТЫ́ЗМ (ад лац. spiritus душа, дух) — містычная плынь, прыхільнікі якой вераць у пасмяротнае існаванне душ памерлых і магчымасць зносін з імі. Узнік у сярэдзіне 19 ст. ў ЗША і ў хуткім часе пашырыўся ў Зах. Еўропе. Узыходзіць да стараж. анімістычных вераванняў (гл. *Анімізм*), разнастайных уяўленняў пра існаванне звышнатуральнага свету і нематэрыяльных істот (духаў, дэманаў, анёлаў і да т.п.) і магчымасці пры пэўных умовах зносін з імі, у т.л. з душамі памерлых. Сувязь са светам духаў лічылася прывілеяй нешматлікіх спецыяльна «пасвечаных» людзей — магаў, жрацоў, прадказальнікаў, а спосабы гэтай сувязі складалі прадмет глыбокай тайны. Тэарэтыкамі С. былі амерыканец А.Дж.Дэйвіс і француз А.Кардэк.


М.Сматрыцкі.

СПО́ВЕДЗЬ, пакаянне — адно з 7 хрысціянскіх таінстваў, якое заключаецца ў прызнанні вернікам грахоў перад святаром, які дазвольнымі (магічнымі) словамі ад імя Ісуса Хрыста адпускае грахі хрысціяніну, што шчыра пакаяўся. У 2—3 ст. у хрысц. абшчынах склалася дэталёвая рэгламентацыя пакаяння за розныя катэгорыі праграшэнняў (смяротныя, прабачальныя) перад абшчынай (публічная С.). Звычай публічнай С. існаваў да 7 ст., пазней пачала пераважаць індывідуальная тайная С. перад святаром. У 12—13 ст. у схаластычнай літаратуры ішла вострая палеміка адносна вытокаў С., яе сутнасці і абавязковасці (Гуга Сен-Віктарскі, Пётр Ламбардскі, *Фама Аквінскі*). Формула абавязковай тайнай С., прадпісаная IV Латэранскім саборам (1215) і зацверджаная Трыдэнцкім (1545—63), прадугледжвала неабходнасць пакаяння для ўсіх каталікаў «разумнага ўзросту» не радзей як адзін раз на год. У рус. праваслаўі тайная С. узаконена ў 17 ст. Захаванне тайны С. ўстанаўлялася ў якасці абавязковага патрабавання дэкрэтамі пап Клімента VIII і Інакенція XI, аднак некаторыя тэолагі абгрунтоўвалі магчымасць яе парушэння ў надзвычайных выпадках. У Расіі ў 1722 царскі ўказ абавязаў святароў даносіць пра выяўленыя на С. замахі супраць дзярж. і царк. улад. С. звязана з гал. хрысціянскім таінствам — прычашчэннем (еўхарыстыяй), якому яна, як правіла, папярэднічае. Сярэдневяковыя ератычныя рухі і пратэстанты рашуча адвяргалі права святароў адпускаць на С. грахі, назначаць адкупныя пакаранні, выдаваць *індульгенцыі*. Пратэстантызм захаваў С. толькі як традыцыйны царкоўны абрад, які выяўляе пакаянне і шкадаванне хрысціяніна пра ўчыненыя ім грахі, пазбавіўшы яго характару таінства.

СТАНКЕ́ВІЧ Адам (24.12.1891, в. Арлянята Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. — 4.12.1949) — бел. рэлігійны і культ.-асветны дзеяч, гісторык, выдавец, публіцыст. Скончыў гарадское вучылішча ў Ашмянах (1809?), духоўную семінарыю ў Вільні. Вучыўся ў рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу (1914—1918). Пасвячоны ў святара ў снежні 1914. Супрацоўнічаў з бел. перыядычнымі выданнямі ў Пецярбургу. Удзельнічаў у дзейнасці першай бел. нац. рэліг. арганізацыі «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць» (гл. *Беларуская хрысціянская дэмакратыя*). Адзін з ініцыятараў правядзення і ўдзельнік з'езда бел. каталіцкага духавенства (Мінск, 24—25.5.1917). На з'ездзе выступіў з рэфератам пра бел. нацыянальна-адраджэнскі рух і яго сувязь з рэліг. жыццём. Член саюза ксяндзоў-беларусаў. З восені 1918 жыў у Вільні. Рэдагаваў бел. каталіцкую газ. «Krynica» («Крыніца»). Выкладаў рэлігію ў Віленскай бел. гімназіі. У 1922—28 быў паслом (дэпутатам) у сейм Польскай Рэспублікі, дзе стварыў фракцыю Бел. сялянскага саюза. Узначальваў таварыства бел. школы (ТБШ; 1924—26). Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Бел. ін-та гаспадаркі і культуры. З 1926 разгарнуў шырокую кнігавыдавецкую дзейнасць. Адзін з заснавальнікаў Бел. каталіцкага выдавецтва і друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні. У 1928—39 рэдактар і выдавец часопіса «Хрысціянская думка». Выступаў за шырокую беларусізацыю нац.-рэліг. жыцця ў Зах. Беларусі, за што праследаваўся польскімі духоўнымі і свецкімі ўладамі, і разам з бел. нацыянальна-хрысціянскімі дзеячамі У.Талочкам і А.Клімовічам выселены з Вільні. Да кастр. 1939 знаходзіўся ў Слоніме. У пач. 2-й сусв. вайны вярнуўся ў Вільню, удзельнічаў у дзейнасці бел. грамадска-культурных арганізацый. У снежні 1944 арыштаваны, але ў хуткім часе вызвалены. 13.4.1949 зноў арыштаваны і асуджаны да 25 гадоў зняволення. Памёр 4.12.1949 у Азярлагу (г. Тайшэт Іркуцкай вобл., Расія).

СТАРААБРА́ДНІКІ, старавеpы — прыхільнікі старaабрадніцтва — рэлігійнай плыні, якая ўзнікла ў выніку расколу ў *Рускай праваслаўнай царкве* і адмовы часткі насельніцтва прызнаць царк. рэформы патрыярха Нікана 2-й пал. 17 ст. Па рэліг. дагматыцы С. не адрозніваліся ад рэфармаванай правасл. царквы, аднак фактычна захоўвалі старую абраднасць (адсюль назва): 8-канцовы крыж, 2-пальцавае хрышчэнне, двайная (сугубая) алілуя і інш., а таксама стары побыт. Падзяляліся на 2 буйныя гал. галіны — папоўцаў і беспапоўцаў. Першыя стаяць бліжэй да правасл. царквы, у іх ёсць свае святары і епіскапы, у 1846 яны стварылі Белакрыніцкую іерархію (ад в. Белая Крыніца на Букавіне, Украіна) на чале з мітрапалітам. Больш радыкальныя беспапоўцы ўвогуле адмовіліся ад інстытута свяшчэнства (адсюль назва). Афіцыйную правасл. царкву яны лічаць ератычнай, якая трапіла пад уладу антыхрыста. Кожная з гэтых галін падзяляецца на сагласы: у папоўстве — аўстрыйскі (Белакрыніцкая іерархія), веткаўскі, дыяканаўскі, епіфанеўскі і інш.; у беспапоўстве — паморскі, федасееўскі, філіпаўскі (спальшчыкі або марэльшчыкі), нетаўскі (спасаўскі), пастухоўскі (адамантавы) і інш. Прычынамі рознагалосся паміж імі сталі спрэчкі па пытаннях культу і адносінах да ўлад. Акрамя падзелу на сагласы існуе падзел на толкі. На Беларусь С. сталі перасяляцца ў 1650-я г. з Помор'я і Ноўгарада. Беспапоўцы (паморцы, федасееўцы, з 1760-х г. філіпаўцы) аселі пераважна на паўн. землях: у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс, Латвія), Браславе, Полацкім (Лепель, Полацк, Себеж, Сянно) і Віцебскім (Веліж, Віцебск, Копысь) ваяводствах. Яны складалі найбольш прыгнечаную частку сялянства і інш. ніжэйшых саслоўяў, таму што адмаўлялі любы кампраміс з дзяржавай і «ніканіянскай» (рэфармаванай правасл.) царквой. У сваіх службах беспапоўцы ў асноўным адмаўляліся маліцца за цара, не будавалі вял. і багатых храмаў, часта пераязджалі з месца на месца, што не давала магчымасці весці іх дакладны ўлік, былі больш адасобленымі і замкнёнымі. Папоўцы (і невял. колькасць паморцаў і федасееўцаў) пасяліліся на ПдУ Беларусі — у Мсціслаўскім ваяводстве (Магілёў, Чэрыкаў) і ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства (Ветка, Гомель). Папоўцамі былі пераважна заможныя сяляне, рамеснікі, купцы. Іх цэрквы па велічыні і багацці не саступалі праваслаўным. Найбуйнейшым пасяленнем папоўцаў (і ўвогуле С.) на Беларусі было мяст. Ветка, вакол якога ў хуткім часе вырасла 14 слабод С. У 2-й чвэрці 18 ст. ў Ветцы і слабодах было каля 40 тыс. жыхароў. На Гомельшчыне дзейнічалі ўплывовыя манастыры і скіты, якія адыгрывалі ролю манастыроў: Абрамаўскі, Веткаўскі, Іаасафаўскі, Пыханскі, Тырлаўскі мужчынскія манастыры, жаночы манастыр пры Спасавай слабадзе каля Гомеля, скіты каля вёсак Агародня-Гомельская і Чыстыя Лужы. У 1735 і 1764 рас. войскі двойчы ажыццяўлялі т.зв. выганкі з Веткі і слабод; мястэчка Ветку палілі, захопленых высялялі ў Сібір. Частка С. веткаўскага сагласу здолела ўцячы, пасяліўшыся ў Віцебску, Лепелі, Полацку і іх ваколіцах, у Мінскім ваяводстве (каля Бабруйска і Барысава). У канцы 18 ст. па ініцыятыве царскіх улад узнікла новая плынь — адзінаверства, якое было ўмоўным аб'яднаннем С. з правасл. царквой: у імя саюзу з царквой С. прымалі ад яе законнае свяшчэнства, а царква дазваляла ім мець старыя абрады і кнігі. У 1794 пабудавана першая на Беларусі адзінаверніцкая царква ў Гомелі на Спасавай слабадзе. На пач. 19 ст. С. на Беларусі было амаль удвая менш, чым перад выганкай 1764. У 1830—40-я г. С. жылі пераважна ў Віцебскай губ. (38 425 чал. у 1840), у Магілёўскай (13 299 чал. у 1842), у Мінскай (7132 чал. у 1839). У 19 ст. сяляне-С. былі асабіста

вольнымі арандатарамі. Яны арандавалі панскую зямлю за грашовую плату і часта прыпісваліся да саслоўя мяшчан і купцоў. У сав. час адносіны да С. былі такімі ж, як і да інш. канфесій. Асаблівасць у тым, што пра стараабрадніцтва на Беларусі да 1990-х г. было вядома вельмі мала. На 1.1.2001 зарэгістраваны 34 абшчыны С. розных сагласаў і толкаў. Найбольш іх у Браслаўскім, Віцебскім, Лепельскім, Полацкім р-нах Віцебскай, Веткаўскім, Гомельскім, Добрушскім р-нах Гомельскай, Барысаўскім р-не Мінскай і Бабруйскім р-не Магілёўскай абласцей. Паводле неафіц. падлікаў, агульная колькасць С. складае каля 20 тыс. чал. У 1998 зарэгістраваны Цэнтральны савет Дрэўлеправаслаўнай паморскай царквы ў Рэспубліцы Беларусь.

*Літ.:* Никольский Н.М. История русской церкви. Мн., 1990; Короткая Т.Н., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядничество в Белоруссии. Мн., 1992; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн., 1998; Гарбацкі А.А. Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII — пачатку XX ст. Брэст, 1999.

*А.А.Гарбацкі.*

СТАРАВЕ́РЫ, гл. *Стараабраднікі*.

СТАРЫ́ ЗАПАВЕ́Т — зборнік выбраных твораў стараж.-яўрэйскай рэліг. літаратуры, якія складаюць 1-ю частку хрысц. *Бібліі*. Да нашага часу дайшло некалькі варыянтаў старазапаветнага тэксту, з якіх найважнейшыя: «традыцыйны» («масарэцкі») тэкст на стараж.-яўр. мове, які складае свяшчэннае пісанне іудаізму; Септуагінта — пераклад С.з. на грэч. мову «сямідзесяці тлумачальнікаў»; самарыцянскае Пяцікніжжа; Таргумы — пераклады біблейскіх кніг на арамейскую мову. Іудаісцкая кананізацыя С.з. адбывалася ў 1 ст. н.э., стварэнне сучаснага (агалошанага) тэксту адносіцца да сярэдзіны і 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н.э. *Хрысціянства* ўспрыняло Септуагінту, якая пазней, асабліва пры перакладах на лац. і нац. мовы, была пераглежджана з улікам «традыцыйнага» тэксту, што лічыўся найб. дакладным. Адрозненні паміж пазначанымі тэкстамі (ізводамі) — рэдакцыйныя (разбіўка на раздзелы і вершы, размяшчэнне раздзелаў і кніг) і тэкставыя (адрозненні тэкстаў унутры адных і тых жа ўрыўкаў). Апрача таго, у Септуагінце ёсць кнігі, што не ўвайшлі ў іудаісцкі канон. Найб. старажытны тэкст С.з. («Песня Дэворы») датуецца 13 ст. да н.э., самыя познія (Эклезіяст, Даніїла і г.д.) — 2—3 ст. да н.э. С.з. уключае зборнікі пропаведзей пракрокаў Ісаі, Ераміі, Іезекііля, Амоса, Міхея, Осіі і інш., у якіх выкрываецца сац. зло; выказваліся пракрокі і па актуальных грамадска-паліт. пытаннях. У С.з. таксама ўваходзіць Пяцікніжжа (Быццё, Зыход, Левіт, Лічбы, Другазаконне), складзенае пад уплывам прароцкай пропаведзі; яно ўтрымлівае апрацаваныя ў адпаведнасці з монатэістычнай дактрынай старажытнаізраільскія міфы і псеўдагістарычныя паданні, а таксама зборнікі ўзаконенняў і маральна-этычных прадпісанняў. Крыніцай Пяцікніжжа паслужылі нар. паданні, якія захаваліся як у вуснай перадачы, так і ў запісах (не дайшоўшыя да нас Кніга войнаў Яхве, Кніга Доблеснага, Кніга песень). У ходзе праведзенай у Іудзеі ў 621 да н.э. рэформы (зацвярджэнне *монатэізму* Яхве, ліквідацыя язычніцкіх культаў) Пяцікніжжа было абвешчана законам, які рэгуляваў усё жыццё іудзейскага грамадства. Да Пяцікніжжа прымыкаюць кнігі гіст. зместу, якія закліканы паказаць, што фундаментам дабрабыту іудзейска-ізраільскага грамадства з'яўляецца монатэізм Яхве, што адступленне ад яго вядзе да катастроф і гібелі. Трэцяя група кніг С.з. — кнігі павучальнага зместу (Прытчы Саламона, у Септуагінце — Прамудрасці Ісуса сына Сірахава і інш.), псалмы, паэмы філас. зместу: аб сэнсе жыцця (Кніга Эклезіяста), пра тое, чаму пакутуе праведнік (Кніга Іова), навелы псеўдагістарычнага зместу (Кніга Эсфіры, Руфі, у Септуагінце — Юдзіфі і г.д.), паэтычны плач пра гібель Іерусаліма, складзены прарокам Іераміяй, зборнік шлюбных любоўных песень (Песня песням Саламона), кнігі, у якіх апавядаецца пра вяртанне іудзеяў з вавілонскага палону і пра аднаўленне Іерусалімскага храма Яхве, пра арганізацыю вакол храма грамадзянска-храмавай абшчыны іудзеяў. У Септуагінту ўключаны таксама кнігі Макавеяў, што расказваюць пра барацьбу нар. мас супраць чужаземнага панавання. У правасл. і каталіцкую Біблію ўваходзяць 11 старазапаветных кніг, якія не лічацца кананічнымі (Тавіта, Юдзіфі, Прамудрасці Ісуса сына Сірахава, Макавеяў і інш.). Пратэстанты выключаюць іх з С.з.

СТАРЫ́ КАЛЯНДА́Р, Юліянскі каляндар — старажытнарымскі сонечны *каляндар*, уведзены ў 46 да н.э. Юліем Цэзарам (адсюль другая назва). Паводле гэтага календара тры гады запар мелі 365 сутак, а 4-ы, высакосны — 366. Сярэдняя працягласць года 365,25 сутак, што на 11 мін 14 секунд больш за трапічны год. З-за гэтай недакладнасці кожныя 128 гадоў юліянскі каляндар адставаў на 1 суткі. Гэту памылку на 10 сутак выправілі ў 1582 пры папе рымскім Грыгорыю XIII увядзеннем новага календара (ад яго імя названы грыгарыянскім). У ім выкарыстоўваецца больш дакладнае значэнне сапраўднага трапічнага года. Нязначная недакладнасць паміж грыгарыянскім і трапічным гадамі дае розніцу ў 1 дзень за 3300 гадоў. На Беларусі выкарыстоўваецца грыгарыянскі каляндар.

СТАЎБЦО́ЎСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ. Існаваў у 1623—1830 у г. Стоўбцы Мінскай вобл. Засн. з дазволу віленскага біскупа Я.Валовіча трокскім ваяводам А.Слушкам з жонкай Соф'яй, якія далі кляштару ў якасці фундушу фальваркі Кучкуны і Отцадку і 6 тыс. злотых. Да 1645 ужо быў пабудаваны мураваны касцёл св. Казіміра, але з-за вайны Расіі з Рэччу Паспалітай

1654—67 кансекраваны (асвячоны) толькі ў 1673 біскупам М.Слупскім. Касцёл быў 3-нефавы, памерам 15 × 8,5 сажняў, з 2-вежавым фасадам, 2 бакавымі купальнымі капліцамі і бабінцам. У каменную падлогу былі ўмураваны 13 мармуровых надмагільных пліт, у сцены — мармуровыя эпітафіі 18 ст. У склепах касцёла хавалі прадстаўнікоў феад. знаці (найперш Слушкаў) і духоўных асоб (у склепе пад капліцай св. Дамініка была труна памерлага ў 1644 манаха Фабіяна Малішэўскага, які шанаваўся як святы і да якога ладзіліся паломніцтвы аж з Украіны; лічылася, што гэта дапамагае ад каўтуна). У 1681 удава падскарбія надворнага ВКЛ Б.Ю.Слушкі Г.Патоцкая падаравала кляштару 10 тыс. злотых, на якія віленскія скульптары аздобілі інтэр'ер касцёла стукавай лепкай. У 1830 кляштар скасаваны. У 1865 закрыты касцёл, у 1867—83 перабудаваны пад праваcл. царкву св. Марыі Магдаліны, у 1950-я г. разбураны. У 2-павярховым жылым корпусе кляштара пасля скасавання размяшчалася нар. жаночае вучылішча (будынак не захаваўся). *А.А.Ярашэвіч.*

СТРАЙНО́ЎСКІ (Stroynowskii) Іеранім (20.9.1754, в. Ходачкава Крамянецкага р-на Цярнопальскай вобл., Украіна — 5.8.1815) — асветнік, правазнавец, рэліг. дзеяч. Адукацыю атрымаў у навучальных установах ордэна *піяраў*, членам якога быў у 1776—88. У 1776 пасвячоны ў ксяндза (пасля выхаду з ордэна заставаўся белым ксяндзом). З 1776 выкладаў у Варшаўскім калегіуме матэматыку, логіку, метафізіку, а потым натуральнае права, права народаў і паліт. эканомію. З 1780 праф. кафедры натуральнага права Гал. школы ВКЛ у Вільні. Удзельнічаў у рабоце Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай па Беларусі і Літве. У 1799—1806 рэктар Віленскай Гал. школы, пераўтворанай у 1803 ва ун-т. Выступленні С. за свецкі характар адукацыі былі непрыязна сустрэты часткай духавенства. З 1806 займаў шэраг царк. пасад (тытульны біскуп дамбезітанскі і каад'ютар біскупа луцкага, адміністратар віленскай дыяцэзіі), а ў 1814 стаў біскупам віленскім. Асн. твор С. «Навука аб прыродным і палітычным праве, палітычнай эканоміі і праве народаў» (Вільня, 1785) неаднаразова перавыдаваўся ў Вільні і Варшаве на польскай мове, а ў 1809 выйшаў у Пецярбургу на рус. мове; ён выкарыстоўваўся як падручнік для вышэйшых і сярэдніх навучальных установ Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Як і большасць філосафаў-асветнікаў таго часу, стаяў на пазіцыях дэізму і лічыў Бога тварцом і першапрычынай прыроды. Паводле С., пранікненне ў дасканалы механізм прыроды, назіранні за нябеснымі целамі, даследаванні рознага роду прадметаў і будовы чалавека вымушаюць «чалавечы розум прызнаць існаванне вышэйшай сілы і мудрасці». Зыходзячы з тэорыі фізіякратаў, С. ў сваіх творах адзначаў, што з фізічнага парадку рэчаў вынікае маральны парадак, які таксама не ўстаноўлены людзьмі і не можа быць зменены ў адпаведнасці з іх воляй і жаданнем. Ён дапускаў існаванне вечнага, нязменнага натуральнага закона, г. зн. канечную абумоўленасць такога закона боскай воляй. Людзі, на думку С., могуць быць шчаслівыя толькі праз глыбокае пазнанне і поўнае захаванне гэтага натуральнага закона; адыход чалавека або грамадства ад дакладных і разумных законаў прыроды непазбежна выклікае «пакаранне» — няшчасці, бедствы, беспарадкі. З натуральных правоў і патрэбнасцей, з прыроднай роўнасці людзей С. выводзіў сац. правы і абавязкі, да якіх ён адносіў вечныя і нязменныя правы асабістай свабоды, узаемнай дапамогі, недатыкальнасць уласнасці, недапушчальнасць ужывання сілы ў адносінах да іншых людзей, за выключэннем выпадкаў самаабароны.

*Літ.:* Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; Асветнікі зямлі Беларускай: Энцыкл. даведнік. Мн., 2001. *С.Ф.Дубянецкі.*

«СТРА́ШНЫ СУД» — у хрысціянскім веравучэнні канчатковая адплата ў выглядзе суда ў час другога прышэсця *Ісуса Хрыста* над усімі людзьмі, што жылі калісьці, якія для «С.с.» ўваскрэснуць целам і паводле прыгавору атрымаюць кожны ў адпаведнасці са сваімі справамі (або, як лічаць пратэстанты, па яго веры): вечнае шчасце ў раі або вечныя пакуты ў *пекле*. Уяўленне аб «С.с.» бярэ пачатак у егіпецкай рэлігіі і старазапаветным міфе аб Судным дні. Ён уяўляецца наступным чынам: з'явіцца Хрыстос на хмарах нябесных, на прастоле; перад ім збяруцца ўсе народы: апраўданыя стануць па правую, а асуджаныя па левую руку суддзі. У Евангеллі ад Матфея, ад Іаана і Апакаліпсісе змешчана таксама апісанне сусветнай катастрофы, якая спадарожнічае канцу Свету. У агульнахрысціянскі эсхаталагічны арсенал увайшлі таксама вобразы, створаныя раннехрысціянскімі пісьменнікамі, у т.л. *Яфрэмам Сірыным* (4 ст.): «кніга лёсаў», вяртанне зямлёй і морам цел нябожчыкаў, працэдура прыгавору і яго выкананне ангеламі і д'ябламі, і інш. У сімвале веры ўяўленне аб «С.с.» апісана ў сёмым члене: вера ў Хрыста, які прыйдзе ізноў і будзе са славаю судзіць жывых і мёртвых. Пратэстантызм увогуле пагаджаецца з гэтымі ўяўленнямі аб «С.с.», аднак некаторыя яго кірункі тлумачыць сімвалічна і алегарычна. Эсхаталагічныя і апакаліпсічныя карціны і погляды сёння цесна пераплятаюцца з т.зв. «экалагічным катастрафізмам», які выяўляецца ў тэалагічна афарбаваных пратэстанцкіх канцэпцыях.

СТРЫБО́Г, адзін з язычніцкіх багоў усходніх славян, ідал якога ў 980 быў устаноўлены ў Кіеве разам з ідаламі інш. вярхоўных божышчаў. У народных вераваннях і фальклоры ўяўленне пра С. не захавалася. У «Слове аб палку Ігаравым» ветры

названы ўнукамі С., што, верагодна, паказвае на яго атмасферныя функцыі. Магчыма, ад назвы С. паходзяць бел. прозвішчы на Палессі Стрыбук і Страбук.

СТРЫГО́ЛЬНІЦТВА — першая вядомая з гіст. крыніц руская «адкрытая ерась», якая ўзнікла на наўгародска-пскоўскіх землях у 2-й пал. 14 ст. Гэта быў арганізаваны рух, які выпрацаваў сваё вучэнне, зафіксаваў яго пісьмова і шырока прапаведваў. С. адмаўляла ўвесь інстытут тагачаснай царквы — ад святароў да канстанцінопальскага патрыярха («сёння Хрыстос не мае царквы на зямлі»), царкоўных таінстваў і нават (у найб. радыкальным кірунку) догмата аб уваскрэсенні мёртвых. На чале руху стаяў дыякан Карп. Духоўныя і свецкія ўлады ў 1375 утапілі лідэраў С. ў р. Волхаў. Самым абстрактным з прынцыпаў стрыгольніцкага вучэння і самым ідэалагічна значным было супрацьпастаўленне «дрэва пазнання» «дрэву жыцця», г.зн. розуму, які абмяжоўваў веру. Ідэалам стрыгольнікаў была апостальская царква, і свой супрацьцаркоўны «саюз» яны разглядалі як аднаўленне гэтага ідэала. У рамках ідэала першапачатковага хрысціянства яны ўстанаўлівалі годнасць чалавека, яго права быць настаўнікам веры ў жыцці незалежна ад прыналежнасці да духоўнага саслоўя: «Павел і простаму чалавеку наказаў вучыць». Пропаведзь лічылася не толькі правам, але і абавязкам кожнага, нават калі ён не з'яўляецца святаром, але вядзе «годны» лад жыцця. Нягледзячы на смяротныя пакаранні С. працягвала актыўную дзейнасць і ў 1-й чвэрці 15 ст. С. можна характарызаваць як гарадскі ератычны рух, які выражаў інтарэсы рамесніцка-мяшчанскіх слаёў і ніжэйшага духавенства. Творы стрыгольнікаў да нас не дайшлі (верагодна, яны былі знішчаны царквой). Інфармацыя аб стрыгольніках ёсць у летапісах і палемічных творах, накіраваных супраць іх. Застаецца нявысветленай сама назва ератыкоў — «стрыгольнікі».

СТРЭ́ЧАННЕ — адно з *дванадзесятых свят* праваслаўнай царквы. Адзначаецца 2(15) лютага. У яго аснову пакладзена апісаная ў Евангеллі ад Лукі сустрэча старца Сімяона з немаўляткам Ісусам, якога бацькі, згодна са звычаем, прынеслі ў Іерусалімскі храм. Сімяон нібыта прадказаў, што бездапаможнае немаўлятка выйдзе «на служэнне выратавання людзей». Свята С., ўведзенае хрысціянскай царквой для выцяснення свята ачышчэння і пакаяння, якое адзначалася ў Рымскай імперыі. У хрысціянскім свеце яно пачало адзначацца толькі ў 6 ст. У яго рытуал былі ўведзены ачышчальныя абрады, што замацаваліся ў нар. побыце і не мелі прамых адносін да яго зместу. На Беларусі С. ў свядомасці народа найперш звязвалася з гаспадарчай дзейнасцю. Яно азначала канец зімы і пачатак вясны, падрыхтоўку да веснавых палявых работ.



Да арт. **Стрэчанне.** Грамніцы. 1731. Беларуская іканапісная школа.

СТЫХА́Р — царкоўнае адзенне праваслаўнага і каталіцкага духавенства. У праваслаўі доўгае, звычайна парчовае адзенне з шырокімі рукавамі; у каталіцызме — белая кашуля да калень, аздобленая карункамі.

СТЫХІ́РА — царкоўнае песнапенне, якое звычайна выконваецца пасля вершаў з *псалтыра*. Складаецца з вершаў, напісаных у адным памеры. Першапачаткова гэта былі старазапаветныя паэтычныя пісанні, на ўзор якіх складаліся хрысц. С. Першым аўтарам С. быў канстанцінопальскі патрыярх 5 ст. Анатолій.

СУД ЦАРКО́ЎНЫ, суд духоўны. Разглядаў справы ўнутры канфесій, звязаныя са спрэчнымі пытаннямі па скаргах на духоўных асоб, пазбаўленнем іх сану, высвятленнем ступеней роднасці пры ўзяцці шлюбу, міжканфесіянальнымі адносінамі, парушэннямі шлюбнай вернасці, невыкананнем рэліг. абавязкаў і інш. Традыцыйна ў такіх хрысц. *канфесіях*, як *праваслаўе*, *каталіцызм*, *уніяцтва* вышэйшую судовую ўладу мелі *мітрапаліт*, *епіскап*. У правасл. царкве ВКЛ органам С.ц. (як і кіравання) быў крылас — рада пры епіскапе, якая складалася з пастаянных членаў і часова запрошаных, намеснікаў духоўных і свецкіх з мясц. прыхаджан, пратапопаў і дзесятнікаў. Белае прыходскае *духавенства* было падпарадкавана судовай уладзе сваіх епіскапаў, а манаскае падпарадкоўвалася ім толькі тады, калі манастыр не меў свайго патрона. Прыхаджане епархіі таксама падлягалі С.ц. па духоўных справах, асабліва па шлюбных. С.ц. правасл. царквы ў ВКЛ кіраваліся наступнымі прававаымі крыніцамі: *Кормчымі кні-*

*гамі*; скруткам Яраслававым, вядомым з часоў вял. кн. Вітаўта і пацверджаным з некат. дапаўненнямі ў 1503, 1514 каралём Жыгімонтам I; мясц. царк. звычаямі; шматлікімі граматамі, выдадзенымі вял. князямі і каралямі, што тычыліся епіскапаў, цэркваў і манастыроў; Статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588, якія хоць і тычыліся цывільных і крымінальных спраў, але закраналі і некат. духоўныя аспекты. У 1542 Жыгімонт I з панамі-радай выдаў чарговы эдыкт аб неўмяшанні свецкіх улад у духоўныя справы і вырашэнні гэтых спраў епіскапамі. Пасля ўключэння Беларусі ў склад Рас. імперыі змянілася ў некат. ступені і судовае духоўнае права. Як і раней яно належала епіскапам і мітрапалітам, але ўказамі ад 1805 і 1810 святейшы *Сінод* забраў у епіскапаў права скасавання шлюбу і вырашаў гэтыя справы сам. Епіскапы і кансісторыі пры вядзенні судовых спраў карысталіся Духоўным рэгламентам 1721, Зборам законаў 1832, Статутам духоўных кансісторый 1841. Менавіта ў апошнім былі канкрэтна вызначаны функцыі С.ц. пры епархіяльнай кансісторыі. Кампетэнцыі С.ц. ў адносінах да духоўных асоб падлягалі: праступкі і злачынствы супраць пасады, сану і добрапрыстойнасці; цяжбы аб карыстанні царк. маёмасцю; скаргі духоўных і свецкіх асоб на духавенства (за выключэннем крымінальных спраў). У адносінах да свецкіх асоб С.ц. належалі: незаконныя шлюбы; скасаванне шлюбаў і аднаўленне іх у выніку незаконнасці разводу; выдача шлюбных пасведчанняў і пасведчанняў аб нараджэнні ад законнага шлюбу; праступкі свецкіх асоб, за якія належаць царк. пакаранні. У некат. епархіяльных судах для дапамогі благачынным пры правядзенні следства былі свае судовыя следчыя. За злачынствы супраць шлюбу, пралюбадзейства і інш. каралі царк. *епітым'ёй* і высылкай у манастыр. Апошнюю меру часта выкарыстоўвалі супраць стараверaў і сектантаў. Некат. праступкі свецкіх людзей разглядалі сумесна свецкія і духоўныя суды: парушэнне шлюбнай вернасці; шлюбы, узятыя гвалтоўна; перавышэнне колькасці шлюбаў (не больш як тры); злачынствы супраць веры і царквы. Асобым царк. пакараннем была адмова ў царк. пахаванні для самазабойцаў. Самым цяжкім пакараннем было адлучэнне ад царквы, якое накладалася толькі Сінодам. Аналагічныя судовыя функцыі мелі каталіцкія і уніяцкія епіскапы і мітрапаліты. У судовых справах яны кіраваліся рас. рэгламентамі 1769, 1798, 1800, 1801, Зборам законаў 1832, канкардатам 1847, рашэннямі сваіх сінодаў і інш. Судовыя справы пратэстантаў разглядаліся на пасяджэннях сінодаў. Судовымі справамі ў кальвіністкай царкве як у часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, так і Рас. імперыі займаўся Віленскі сінод. Мусульмане да канца 18 ст. звярталіся па спрэчных справах да муфтыя Асманскай імперыі, а з 1831 — у Таўрычаскае духоўнае ўпраўленне (у Крыме), якому яны былі падпарадкаваны. Духоўнымі судовымі справамі ў іудзеяў займаўся рэліг. суд кагалу. Ва ўказах 1786 і 1795 было абумоўлена, што павятовыя і губернскія кагалы «не павінны закранаць ніякіх іншых спраў, акрамя абрадаў закону і богаслужэння». Пасля скасавання кагалаў дзейнічалі рабінскія духоўныя суды ў складзе калегіі з рабіна і трох «морэ гарое» (вырашальнікаў рэліг. пытанняў). Гэтыя суды займаліся справамі па скасаванні шлюбаў. Пасля аддзялення царквы ад дзяржавы ў 1918 С.ц. ўсіх канфесій страцілі сваё значэнне і тычыліся амаль выключна духавенства.

*Літ.:* Макарий (Булгаков). История русской церкви. М., 1996. Кн. 5, 8. *А.М.Філатава.*

СУ́НА (ад араб. звычай, паводзіны, лад дзеянняў) — свяшчэннае пісанне *ісламу*, выкладзенае ў апавяданнях (хадысах) пра ўчынкі і выказванні прарока *Мухамеда*. У ісламе С. надаецца значэнне крыніцы, якая тлумачыць і дапаўняе Каран і служыць другой (пасля Карана) асновай мусульманскага права. Складанне С. ўзыходзіць да 2-й пал. 7 — пач. 8 ст. Шэсць зборнікаў С. з'яўляюцца кананічнымі; галоўныя з іх складзены аль-Бухары (810—870) і Муслімам (817—875). Разам з пераважным легендарным матэрыялам у С. ёсць гіст. звесткі, якія характарызуюць працэсы развіцця ісламу і станаўлення розных сац. слаёў у першыя 2 стагоддзі Халіфата. Сучаснае мусульманскае багаслоўе пры тлумачэнні С. звычайна мадэрнізуе яе.

СУНІ́ЗМ — кірунак у *ісламе*, які мае найб. колькасць паслядоўнікаў ва ўсіх мусульманскіх краінах (акрамя Ірана і Ірака). Склаўся ў 10—11 ст. і развіваўся як плынь, процілеглая *шыізму*. Гал. адрозненнем вучэння С. ад шыізму з'яўляецца адмаўленне магчымасці пасрэдніцтва паміж *Алахам* і людзьмі пасля смерці *Мухамеда*, непрызнанне асаблівай прыроды Алі і права яго нашчадкаў на *імамат* (гл. *Імам*). Агульнапрызнанага зводу догматаў у С. няма. Суніты (ахль ас-суна ва-ль-джама — людзі суны і згоды абшчыны) прытрымліваюцца традыцый, акцэнтуюць увагу на суне (учынкі і выказванні прарока Мухамеда), зафіксаванай у хадысах (канец 7 — пач. 8 ст.).

СУ́ПРАСЛЬСКАГА БЛАГАВЕ́ШЧАНСКАГА МАНАСТЫРА́ БІБЛІЯТЭ́КА — адна з буйнейшых бібліятэк ВКЛ. *Супрасльскі Благавешчанскі манастыр* засн. ў 1498 маршалкам ВКЛ А.І.Ходкевічам сумесна з епіскапам смаленскім (пазней кіеўскі мітрапаліт) *Іосіфам II Солтанам* у Блудаўскай пушчы (цяпер Беластоцкае ваяв., Польшча). Пры архімандрыце Сергіі Кімбары (1532—65) манастыр стаў называцца лаўрай. У 1-й палавіне 16 ст. ён стаў буйным цэнтрам правасл. культуры, ахвяраванні ў які, у т.л. кніжныя, паступалі нават «с Торопца места з Москвы». У гэты час і пазней запісы аб памінанні ў манастыры рабілі і жыхары Маскоўскай дзяржавы, сярод іх «род Афанасия Глебова з земле Резаньской», «род Памва псковитина».

Да сярэдзіны 16 ст. ўзмацніліся сувязі з паўднёваслав. культурамі. Працягвалі развівацца сувязі з укр. і рус. землямі. З часоў архімандрыцтва Ц.В.Злобы (1575—90) манастыр стаў сховішчам папер роду Хадкевічаў, дзе, мабыць, знаходзіліся і дакументы пра выдавецкую дзейнасць І.Фёдарава і П.Мсціслаўца ў Заблудаве. Пры архімандрыце Герасіме Веліконціі (1609—35) манастыр прыняў унію. Аднак праваслаўе ў ім было настолькі моцным, што яшчэ цэлае стагоддзе захоўваліся ўсе яго знешнія прыкметы. Да 1720 набажэнства тут правілася па ранейшых кнігах правасл. рэдакцыі, а ў справаводстве выкарыстоўваліся бел. мова і кірыліцкае пісьмо. Манастыр даваў для чытання кірыліцкія кнігі з б-кі і свецкім асобам (у 1654 кн. Януш Радзівіл узяў у б-цы 2 кірыліцкія кнігі — Хроніку і Ірмалогій, — пра што даў уласнаручную распіску, пабудаваў школу для навучання «рускай» грамаце»). У ім працягвалася перапіска кірыліцкіх рукапісаў, помнікаў візант., стараж.-рус., балгарскай і сербскай літаратур, захоўваліся выданні Ф.*Скарыны*, помнікі музычнай культуры і інш. У ліку выдатных кніжнікаў былі манах манастыра Яўстафій, які ў 1580 перапісаў зб. «полемических и поучительных статей», і Багдан Анісімовіч, «спевак родом с Пинска», які пакінуў выдатны помнік усходнеслав. музычнай культуры канца 16 — пач. 17 ст.

Першы вопіс манастырскай б-кі, складзены ў 1557 архімандрытам Сергіем Кімбарам, зафіксаваў 209 кніг, у т.л. на грэч. і лац. мовах. У вопісе 1645 зафіксавана каля 600 кніг, сярод якіх пераважалі друкаваныя на лац. (212 тамоў) і польскай (152 тамы) мовах. Кірыліцкіх кніг было больш за 200, асн. масу складалі рукапісныя, зафіксаваныя яшчэ папярэднім вопісам. Сярод друкаваных кніг было нямала выданняў «друку Скорининого», унікальны экзэмпляр «Евангелля» В.*Цяпінскага*, выданні Фёдарава, а таксама, мабыць, выданні Ш.Фіёля і маскоўскай ананімнай друкарні. Паводле вопісу 1688, друкаваныя кнігі пераважалі над рукапіснымі, але колькасць лац. і польскіх кніг паменшала ў 2 разы і склала 104 лац. і 72 польскія кнігі. Кірыліцкіх кніг было каля 200 (пераважна рукапісныя). Зберагаліся таксама халдзейская граматыка, грэч. кнігі (Евангелле, Новы запавет, грэч. граматыка). У 17 ст. Супрасльскі кнігазбор заставаўся адным з найбуйнейшых не толькі Беларусі, але і ўсходнеслав. зямель. Тут зберагаліся выдатныя помнікі слав. кірылічнай кніжнасці з 11 ст., у т.л. Супрасльскі рукапіс, летапісны зборнік 1-й палавіны 16 ст., зборнік 1519 з самым поўным спісам 2-й рэдакцыі Беларуска-літоўскага летапісу 1446. Гэтыя помнікі выдадзены ў 19 і 20 ст. і маюць першаступеннае значэнне для гісторыі і культуры беларусаў і ўсіх слав. народаў. Зберагаўся тут і найстараж. (з тых, што дайшлі да нас) кірыліцкі рукапіс нотна-лінейнага пісьма — Супрасльскі Ірмалагіён 1598—1601, а таксама значная колькасць рукапісаў і кніг, у т.л. маскоўскага паходжання. Сярод кірыліцкіх кніг некалькі было напісана на пергаменце.

Акрамя асноўнай, у манастыры былі і келейныя бібліятэкі. У 18 ст. манастыр значна папоўніў б-ку пераважна за кошт лацінa- і польскамоўных кніг, у т.л. надрукаваных у *Супрасльскай друкарні*. Вопіс 1764 фіксуе 1456 кніг, з іх больш за 800 на лац. мове, больш за 300 на польскай, некалькі дзесяткаў на французскай і італьянскай, больш за 10 на нямецкай мовах, больш за 100 рукапісных і друкаваных царк.-слав. кніг. У пач. 19 ст. б-ка пачала прыцягваць увагу буйнейшых славістаў свету. Вучоныя зрабілі ў ёй шэраг значных адкрыццяў, у т.л. адкрылі Супрасльскі рукапіс 11 ст. — адну з найстараж. кніг усяго славянства. Тады ж пачаўся паступовы адток кніжных каштоўнасцей з б-кі, у чым найперш вінаватыя ігумены манастыра. Вопіс 1836 фіксуе 1862 кнігі: на старaж. мовах (амаль выключна на лацінскай) — 1100; на французскай — больш за 50; на нямецкай — больш за 20; на італьянскай — больш за 100; на польскай — каля 400; «Бібліятэка славянская» (раздзел на царк.-слав. мове) налічвала амаль 130 кніг, сярод іх кніга «Іоў», надрукаваная ў 1517 у Празе Скарынай. На момант поўнай перадачы ў 1876 у Віленскую публічную б-ку значная частка Супрасльскага кнігазбору, найб. старaж. і каштоўная, ужо была вывезена рознымі асобамі. Акрамя 1109 кніг, у Вільню было перададзена ў 1876 каля 200 спраў манастырскага архіва. У манастыры засталося толькі некалькі дзесяткаў кніг, пераважна царк.-службовых, новага друку. Дзякуючы ігумену манастыра архімандрыту Мікалаю (Далматаву) з 1880-х г. б-ка і архіў сталі паступова папаўняцца. Яго ж клопатамі складзены каталог б-кі, якая на пач. 20 ст. налічвала каля 1000 адзінак захоўвання, і вопіс архіва (да 700 спраў). Усе яны былі ўжо не такія каштоўныя, але і гэты збор у далейшым быў страчаны, а сам манастыр практычна зруйнаваны.

Большая частка рукапісаў і друкаваных кніг з б-кі Супрасльскага манастыра знаходзіцца ў Вільнюсе, пэўная іх колькасць — у С.-Пецярбургу, Маскве, Варшаве і інш. З 1980-х г. сіламі Польскай правасл. царквы манастыр пачаў аднаўляцца. Мяркуецца ўзнавіць і б-ку, зрабіць Супрасль адным з сусв. цэнтраў слав. правасл. кніжнай культуры. Міжнар. даследчая праграма «Гісторыя кніжнай культуры Падляшша», над якой працуюць славісты Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны, прадугледжвае і падрабязнае вывучэнне шматмоўнай літаратуры і кніжнасці, створанай у яго сценах.

*Літ.:* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 9. Вильна, 1870; Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. Вильна, 1882; Николай (Далматов). Супрасльский Благовещенский мо-

настырь: Ист.-стат. описание. СПб., 1892; Рогов А.И. Супрасль как один из центров культурных связей Белоруссии с другими славянскими странами // Славяне в эпоху феодализма: К столетию академика Пичеты. М., 1978; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Лабынцев Ю.А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Я г о ж. Пачатае Скарынам. Мн., 1990. *Ю.А.Лабынцаў.*

**СУ́ПРАСЛЬСКАЯ ДРУКА́РНЯ.** Існавала з пач. 1690-х г. да 1803 пры *Супрасльскім Благавешчанскім манастыры* (цяпер у Польшчы). Створана на аснове Свята-Троіцкай віленскай базыльянскай друкарні. Размяшчалася ў мураваным будынку манастыра. Выпусціла больш за 420 выданняў. Зарэгістравана больш за 100 кірылічных выданняў, у т.л. «Собрание припадков краткое» (1772) на старабел. мове, буквары слав. мовы, першы славяна-польскі друкаваны «Лексікон» (1722), першы кірылічны помнік нотадрукавання (1697, у зб. «Паследаванне пастрыгу»). У 18 ст. выпускала таксама стараверскія выданні. З сярэдзіны 18 ст. пад уплывам ідэі Асветніцтва павялічыўся выхад перакладной навук. і маст. літаратуры, арыгінальных твораў мясц. аўтараў. На польскай мове выдадзены «Прыгоды Гулівера» (1784) Дж.Свіфта, «Авантуры філосафаў, якія пакахалі модных жанчын» (1789), «Новыя байкі Эзопа», «Падарожжа да вострава кахання» (1782), «Кароткі збор польскай гісторыі і геаграфіі» (1767), «Асновы земляробства», «Нясвіжская ардынацыя», «Трактат пра пчол», «Людвіг XVI, забіты сваім народам», «Дыялог бурмістра з войтам» і інш. У 1780—90-я г. выпусціла некалькі кніг на літоўскай мове. Друкарня мела манапольнае права выпускаць некаторыя выданні для уніяцкай царквы, што прыносіла значныя даходы. Была добра абсталявана, выкарыстоўвала разнастайныя шрыфты, маст. ўпрыгожанні, наборны арнамент, фігурныя ксілаграфіі і гравюры на медзі.

*Літ.:* Лабынцев Ю.А. В помощь составителям сводного каталога старопечатных изданий кириллического и глаголического шрифтов: Кирилловские издания Супрасльской типографии. М., 1978; Я г о ж. Графіка беларускіх выданняў Супрасля // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 2; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984. *Г.Я.Галенчанка.*

**СУ́ПРАСЛЬСКІ АБРА́З МА́ЦІ БО́ЖАЙ,** Супрасльская Адзігітрыя — адна з хрысціянскіх святынь Беларусі і Польшчы, ушанаваная правасл. і грэка-каталіцкай царквамі як цудатворная. Паводле прыходскай кнігі *Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*, быў унесены ў 1503 смаленскім епіскапам Іосіфам (пазней мітрапаліт Кіеўскі *Іосіф II* Солтан) у Супрасль у дар манастыру разам з царк. начыннем і богаслужэбнымі кнігамі. Пашыраная на Беласточчыне легенда сцвярджае, што абраз быў яўлены на водах р. Супрасль двум манахам. Іканапісны звод паходзіць ад візантыйскага абраза Маці Божай — Улахернскай Адзігітрыі («Пуцевадзіцельніцы»), напісанай, паводле царк. падання, евангелістам Лукой непасрэдна з Багародзіцы і перанесенай у пач. 12 ст. кіеўскім кн. Уладзімірам Манамахам у Смаленск. У адрозненне ад Улахернскай Адзігітрыі і яе спісаў (гл. *Смаленскі абраз Маці Божай*) на С.а.М.Б. дзіцятка Ісус трымае ў руцэ не скрутак, а кнігу; над галавой Маці Божай знаходзіцца Бог-Айцец у аблоках з анёльскімі чынамі. У Супрасльскім манастыры пры архімандрыце Сергію Кімбару абраз быў у 1557 упрыгожаны сярэбранай вызалачанай шатай з каштоўнымі камянямі. Цудатворны абраз захоўваўся ў Супраслі да 1915, потым з-за наступлен-



Да арт. **Супрасльскі Благавешчанскі манастыр.** Гравюра пач. 20 ст.

ня герм. войск быў перанесены ў Слуцк, далейшы лёс невядомы. Захаваліся 2 копіі, адна з якіх знаходзіцца ў царкве Іаана Багаслова ў Супрасльскім манастыры. Традыцыйны дзень ушанавання — 25 сак. (7 крас.), з 19 ст. таксама 28 ліп. (10 жн.) — дзень агульнага святкавання Смаленскай Адзігітрыі. У гэты час ідуць паломніцтвы да абраза, ладзяцца міжнар. навук. канферэнцыі і семінары. *А.А.Яскевіч.*

**СУ́ПРАСЛЬСКІ БЛАГАВЕ́ШЧАНСКІ МАНАСТЫР**, Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр — праваслаўны мужчынскі манастыр у г. Супрасль (цяпер у Польшчы). Засн. у 1498 навагрудскім ваяводам і маршалкам ВКЛ А.І.Хадкевічам пры ўдзеле архіепіскапа смаленскага Іосіфа (гл. *Іосіф II* Солтан) у родавай сядзібе Хадкевіча ў Гарадку-на-Супраслі. У 1500 перанесены ніжэй па р. Супрасль ва ўрочышча Сухі Груд. Першыя манахі прыйшлі з Кіеўскай лаўры. У 1501 пабудавана драўляная царква Іаана Багаслова (згарэла ў 1650). Канстанцінопальскі патрыярх Іаакім благаславіў заснаванне манастыра падзячным лістом Хадкевічу. У 1503 архіепіскап Іосіф перадаў манастыру *Супрасльскі абраз Маці Божай* і ахвяраваў яму ў 1506 вял. зямельную маёмасць у Бельскім пав. У 1510 Хадкевіч падарыў манастыру «двор и место Хворошчу». У 1510 пабудавана Супрасльская царква-крэпасць у імя Дабравешчання Прасвятое Багародзіцы. Манастыру дадзены Статут, і ён стаў не толькі адным з буйнейшых цэнтраў бел. правасл. культуры, але і цэнтрам агульнаслав. значэння (другім пасля Кіеўскай лаўры). Меў сувязі з Кіевам, Слуцкам, Масквой, Сербіяй, Балгарыяй; у ім фарміраваліся багаслоўска-філасофская, іканаграфічная і архітэктурная школы, склаўся своеасаблівы стыль царк. спеваў — супрасльскі распеў. Тут напісаны «Пасланне каталіцкаму Іерарху пра ерась каталіцызму» (1511), «Супрасльскі летапіс», «Валынскі летапіс», «Кіева-Пячэрскі пацярык» (усе 1519), дзейнічалі залатарская, пераплётная і інш. майстэрні. Пры ігумене Сергію Кімбару (1532—65) пабудавана царква Уваскрэсення Хрыстова над катакомбамі, трапезная, гмах з манаскімі келлямі, млын, выкапаны сажалкі, наладжана гаспадарка ў манастырскіх фальварках. У бібліятэцы манастыра захоўваліся сотні каштоўных рукапісных і старадрукаваных кніг. Манахі на чале з архімандрытам Іларыёнам (кн. Масальскім) змагаліся супраць *Брэсцкай уніі 1596*, тут напісана і выдадзена 8 палемічных антыуніяцкіх твораў. Пры архімандрыце Герасіме Веліконцію (1609—35) манастыр стаў уніяцкім і падпарадкаваны ордэну *базыльян*; з 1722 у манастыры знаходзілася гал. рэзідэнцыя гэтага ордэна. У 1645—1853 пры манастыры дзейнічала (з перапынкамі і пераўтварэннямі) духоўнае вучылішча (пераведзена ў Гродна), у 1695—1803 — *Супрасльская друкарня*, у 1710—1834 — паперня. У 1645—52 пабудаваны палац архімандрытаў, у 1695—97 — мураваная званіца



Царква-крэпасць **Супрасльскага Благавешчанскага манастыра**. Гравюра. 19 ст.

(аднаўлена пасля пажару як брама-званіца ў сярэдзіне 18 ст.); у 2-й пал. 18 ст. — манаскія келлі, гасп. пабудовы. У выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) манастыр знаходзіўся на тэрыторыі, што адышла да Прусіі, пасля Тыльзіцкага міру (1807) — да Расіі. Уніяцкія манахі фінансава падтрымалі паўстанне 1794, удзельнічалі ў паўстанні 1830—31. У 1-й трэці 19 ст. манастыр заняпаў, на яго тэр. размяшчаўся шпіталь (да 1833), частка будынкаў належала ням. фабрыканту Захерту. На момант скасавання уніі Полацкім царкоўным саборам 1839 у С.Б.м. было 5 базыльян, якія адмаўляліся перайсці ў праваслаўе. У 1842 маёмасць манастыра канфіскавана. Да 1864 праваслаўе ў С.Б.м. адраджалася марудна з-за непрыхільнага стаўлення да яго навакольных памешчыкаў-католікаў. У 1875 на старых манастырскіх могілках пабудавана царква св. Панцеляймона, у 1890 — цёплая царква Іаана Багаслова, у 1901 — царква Георгія Пераможцы на новых могілках. У 1915 у сувязі з 1-й сусв. вайной манахі эвакуіраваны ў глыб Расіі, з 1918 яны пачалі вяртацца. У 1919 польскі ўрад нацыяналізаваў маёмасць манастыра і апячатаў цэрквы, у 1924 адтуль выдалены апошні манах. У 1925 значная частка маёмасці манастыра аддадзена ў арэнду каталіцкаму ордэну салезіянаў. У 1927 віленскі біскуп Р.Ялбжыкоўскі асвяціў Дабравешчанскую царкву ў каталіцкі касцёл. У час вызвалення Зах. Беларусі ў 1939 храмы і будынкі манастыра моцна зруйнаваны. У 1943 сюды вярнуліся правасл. манахі і пачалі адраджаць храмы. У час адступлення ням.-фаш. захопнікі ў ліп. 1944 узарвалі Дабравешчанскую царкву і спалілі манастырскія будынкі разам з б-кай. Пасля вайны польская адміністрацыя перадала манастыр салезіянам (гэтаму садзейніча-

ла і выгнанне правасл. манахаў бандай акаўцаў 31.5.1945). З 1948 у манастыры месцілася школа механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1958 вернікі адбудавалі царкву Іаана Багаслова. У 1984 дзяржава вярнула вернікам руіны Дабравешчанскай царквы. Архіепіскап беластоцкі і гданьскі Сава адрадзіў С.Б.м. спачатку ў часовым памяшканні, а потым перавёў яго ў старыя манастырскія будынкі. У 1996 польскі ўрад замацаваў увесь манастырскі комплекс за правасл. царквой. У 1999 завяршылася праца па адбудове Дабравешчанскай царквы, вядуцца работы па аднаўленні яго інтэр'ера. *М.Р.Гайдук.*

СУСВЕ́ТНЫ САВЕ́Т ЦЭ́РКВАЎ (ССЦ) — цэнтр экуменічнага руху (гл. *Экуменізм*), адна з найбуйнейшых міжнар. арганізацый. Засн. ў 1948 на I Генеральнай асамблеі ССЦ у Амстэрдаме як аб'яднанне 3 пратэстанцкіх рухаў («Вера і парадак», «Жыццё і дзейнасць», «Міжнародны місіянерскі савет»). Мэта ССЦ — садзейнічанне збліжэнню хрысц. цэркваў у пытаннях веравызнання. На асамблеях ССЦ распрацоўваюцца агульныя хрысц. праграмы, накіраваныя на сац. і эканам. пераўтварэнне свету, абмяркоўваюцца глабальныя праблемы чалавецтва і шляхі выхаду з сац.-эканам. і экалагічнага крызісаў. ССЦ аб'ядноўвае больш за 300 рэліг. аб'яднанняў са 100 краін свету. У яго склад уваходзяць пратэстанцкія і правасл. арг-цыі, у т.л. *Руская праваслаўная царква* з 1961.

СУСВЕ́ТНЫЯ РЭЛІ́ГІІ — *рэлігіі*, якія маюць найб. колькасць паслядоўнікаў ва ўсім свеце. Вызначаюцца універсальным, касмапалітычным веравучэннем і празелетызмам. Да традыцыйных С.р. адносяцца *хрысціянства*, будызм і *іслам*.

СУФРАГА́Н (ад лац. suffrago дапамагаю, падтрымліваю) — у рымска-каталіцкай царкве біскуп (*епіскап*) — памочнік дыяцэзіяльнага біскупа (кіраўніка дыяцэзіі, *епархіі*). Тытул С. адпавядае тытулу *вікарыя* ў праваслаўі.

СУ́ША Якуб (свецкае імя Ян; 1610, Мінск — 4.3.1685) — грамадскі і рэлігійны уніяцкі дзеяч. Д-р тэалогіі. Вучыўся ў мінскай базыльянскай школе, у Пултуску (Польшча), Оламаўцы (Чэхія), Рыме. У 1626 прыняў манаства. Выкладаў філасофію і тэалогію ў базыльянскіх кляштарах. З 1652 архіепіскап холмскі. У 1661 выбраны генералам ордэна базыльян. Пісаў пераважна на лац. мове. Аўтар твораў «Уваскрэслы фенікс...» (1646), «Аб дзяяннях уніятаў...» (1646), «Савел і Павел» (1666). Яму прыпісваецца твор «Пра іерэйскія павіннасці» (1670, на стараж.-бел. літаратурнай мове). Творы С. насычаны вытрымкамі з пастаноў, лістоў дзярж. і рэліг. дзеячаў; яны сведчаць аб эрудыцыі і ведах аўтара. Некаторыя яго творы ў сярэдзіне 19 ст. перавыдадзены ў Парыжы і Лейпцыгу. *У.Г.Карпекі.*

СХАЛА́СТЫКА (ад грэч. scholastikós школьны, вучоны) — тып рэлігійнай філасофіі, які характарызуецца рацыяналістычным тэарэтычным абгрунтаваннем рэлігійнага светапогляду. Атрымала найб. развіццё ў Зах. Еўропе ў сярэдневякоўі. Вытокі С. ў познаант. філасофіі (Прокл) і хрысц. *патрыстыцы* (*Іаан Дамаскін*). Ранняя С. (11—12 ст.) стваралася пад уплывам аўгусцінаўскага платанізму (Ансельм Кентэрберыйскі). У спрэчцы аб універсаліях вылучыліся 2 супрацьлеглыя пазіцыі: рэалізм, які сцвярджаў, што універсаліі існуюць рэальна і незалежна ад свядомасці (Гільём з Шампо); наміналізм, прадстаўнікі якога лічылі, што рэальна існуюць адзінкавыя рэчы, а універсаліі — толькі ў мысленні (І.Расцэлін); прамежкавую пазіцыю займаў канцэптуалізм, які сцвярджаў, што ў адзінкавых рэчах існуе нешта агульнае, на аснове чаго ўзнікае універсалія (П.Абеляр). У гэты перыяд С. развівалася як апазіцыйны кірунак, прынцыпы схаластычнага рацыяналізму крытыкавалі П.Даміяні, Бернар Клервескі і інш. Сталая С. (12—13 ст.) развівалася пад уплывам філасофіі Арыстоцеля. У яе межах вылучыліся «артадаксальны» кірунак, які пры дапамозе анталогіі Арыстоцеля абгрунтоўваў існаванне душы і Бога (*Альберт Вялікі*, *Фама Аквінскі*), і «ератычны» авераізм, які адмаўляў існаванне асабістай душы і сцвярджаў, што існуе адзіная безасабовая душа (Сігер Брабанцкі). У гэты перыяд С. развівалася ў сярэдневяковых ун-тах; яе еўрап. цэнтрам стаў Парыжскі ун-т. У позняй С. (13—14 ст.) вызначыўся адыход ад рацыяналістычнай методыкі ў абгрунтаванні рэліг. светапогляду. Іаан Дунс Скот проціпастаўляў інтэлектуалізму сістэмы Фамы Аквінскага свой валюнтарызм, адмаўляўся ад закончанай сістэмы светапабудовы на карысць вывучэння індывідуальнага быцця. У.Окам настойваў на тэорыі дзвюх ісцін, якая прызнавала супярэчнасць паміж рацыянальным пазнаннем і рэлігійным. У эпоху Адраджэння С. перажывае крызіс. Новы ўздым С. звязаны з *Контррэфармацыяй* (16—17 ст.), гал. чынам у Іспаніі (Ф. дэ Віторыя, Ф.Суарэс, Г.Васкес, М.Маліна). У эпоху Асветніцтва С. страціла свае пазіцыі, але адрадзілася ў канцы 19—20 ст. ў неатамізме, які бачыць у вучэнні Фамы Аквінскага «вечную філасофію», аднаўляе схаластычныя традыцыі сінтэзу веры і розуму і асн. задачай філасофіі лічыць рацыянальнае абгрунтаванне рэліг. ісцін (Э.А.Жыльсон, Ж.Марытэн, А.Дэмпф, І.Лоц, У.Падавані і інш.).

СХІ́ЗМА (грэч. schisma раскол) — царкоўны раскол у выніку супярэчнасцей унутры царквы. Часцей за ўсё пад С. разумеецца канфлікт паміж заходняй і ўсходняй хрысц. цэрквамі, які пачаўся ў 867 і прывёў у 1054 да падзелу *хрысціянства* на *каталіцызм* і *праваслаўе*. У Зах. Еўропе «Вялікай С.» называлі перыяд 1378—1418, калі абвастрэнне канфлікту папства з шэрагам краін (Францыяй, Германіяй, Англіяй) прывяло да адначасовых выбараў двух, а часам і трох пап.



Сынковіцкая царква-крэпасць.

СХІ́МНІК, схіманах — манах, які вядзе асабліва аскетычны, пустэльніцкі лад жыцця; асоба, якая прыняла схіму — урачысты зарок прытрымлівацца асабліва строгіх правіл паводзін. Маласхімнікі і вялікасхімнікі ўяўляюць сабой 2 вышэйшыя ступені *манаства*.

СЫНКО́ВІЦКАЯ ЦАРКВА́-КРЭ́ПАСЦЬ — помнік абарончага дойлідства. Пабудавана з цэглы ў канцы 15 — пач. 16 ст. на паўн. ускраіне в. Сынковічы Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. Мае рысы стылю готыкі. 3-нефавы, 4-слуповы, 3-апсідны мураваны храм зальнага тыпу (у плане — перакошаны прамавугольнік), фланкіраваны па вуглах 4 баявымі вежамі (з 3 гранёныя, з У круглыя) з цаглянымі вітымі ўсходамі ўнутры. Мае пояс машыкуляў на версе сцен, накрыты высокім 2-схільным дахам з тарцовымі шчытамі. Шчыт на гал. фасадзе аздоблены некалькімі ярусамі розных па форме плоскіх атынкаваных нішаў. Знадворку апсіды ўверсе аб'яднаны ў адну і накрыты агульным высокім дахам. Пазней прыбудаваны бабінец. У 1880—81 у час рамонту заменены дах і дабудаваны купал над апсідай, разабраны купал над цэнтр. часткай храма. У інтэр'еры 4 васьміграннbackslashыя слупы падзяляюць прастору на роўныя пралёты, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі з нервюрамі. Цэнтр. і паўн. апсіды перакрыты крыжовымі, паўднёвая — зорчатым скляпеннямі. Сцены атынкаваны і расчлянёны прамавугольнымі лапаткамі, аб'яднанымі са слупамі падпружнымі аркамі.

*Літ.*: Всеобщая история архитектуры. Т. 6. М., 1968; Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. 3 изд. Мн., 1985; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1993 (рэпр. выд.: Мн., 1928). *С.Г.Багласаў.*

СЯЛЯ́ВА Антоній (свецкае імя Анастасій; каля 1583, Полацкае ваяв. — 1655) — уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З правасл. шляхецкага роду ўласнага герба. З 1612 чл. ордэна *базыльян*, у 1617 пасвячоны ў святара. Скончыў Грэчаскі калегіум у Рыме (1622). З 1622 архімандрыт уніяцкіх манастыроў: у Вільні св. Тройцы, Навагрудку, Жыдзічыне. З 1624 архіепіскап полацкі, з 1639 ген. вікарый Кіеўскай мітраполіі. У 1641—55 мітрапаліт кіеўскі і галіцкі з рэзідэнцыяй у Вільні, захаваў за сабой пасаду архіепіскапа полацкага. Адначасова з 1652 генерал (протаархімандрыт) ордэна базыльян, хаця такое сумяшчэнне супярэчыла канстытуцыям ордэна. Канфліктаваў з правасл. іерархамі, асабліва на тэр. *Полацкай уніяцкай архіепархіі* — *Іосіфам Бабрыковічам*, Сільвестрам *Косавым* і інш. У 1630—40-я г. прымаў удзел у падрыхтоўцы агульнага сабора уніятаў і праваслаў-


А.Сялява.

ных з мэтай аб'яднання на падставе стварэння Кіеўскага патрыярхата і прызнання вяршэнства папы, вёў аб гэтым тайныя перагаворы з С.Косавым і П.Магілам, але так і не здолеў склікаць сабор. Клапаціўся пра адукацыю святароў і ўмацаванне манастырскага жыцця, адкрыў семінарыю пры Мінскім базыльянскім манастыры (1652). Папулярызаваў культ Іасафата *Кунцэвіча*. У апошнія гады з-за стану здароўя паслабіў кантроль над царквой. У пач. вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 пакінуў Вільню. У студз. 1655 перадаў Г.*Календу* адміністрацыю (часовае кіраванне) мітраполіяй, пераехаў у г. Тыкоцін (на ПнЗ ад Беластока), дзе і памёр. Аўтар «Антыэленхуса» (1622) — адказу на «Эленхус» М.Сматрыцкага (1622) і жыццяпіса Кунцэвіча (1625).

*Літ.:* Уния в документах. Мн., 1997. *С.В.Казуля.*

СЯМА́ШКА Іосіф (5.1.1799, с. Паўлаўка Вінніцкай вобл., Украіна — 5.12.1868) — уніяцкі, потым праваслаўны царкоўны дзеяч Расійскай імперыі. З сям'і уніяцкага святара. Скончыў Гал. семінарыю пры Віленскім ун-це са ступенню магістра багаслоўя (1820). Кафедральны прапаведнік і праф. багаслоўя Луцкай семінарыі, пасвячоны ў бязжоннага іпадыякана, потым у дыякана (1820). Засядацель Луцкай кансісторыі, пасвячоны ў святара (1821). У 1822 протаіерэй, член 2-га дэпартамента рымска-каталіцкай калегіі (С.-Пецярбург). З 1823 канонік, з 1825 прэлат-схаласт Луцкага уніяцкага кафедральнага капітула, застаючыся ў Пецярбургу. Пад уражаннем багацця сталічных храмаў і магутнасці правасл. царквы Рас. імперыі і пры наяўнасці пэўных антыпольскіх настрояў С. ў 1827 падаў рас. імператару запіску аб становішчы уніяцкай царквы ў Рас. імперыі і сродках па яе далучэнні да праваслаўя. Запіска была ўхвалена Мікалаем I і стала праграмай далейшых дзеянняў С. З 1829 вікарны епіскап мсціслаўскі Полацкай уніяцкай архіепархіі, старшыня яе кансісторыі. Адначасова захоўваў членства, а потым старшынства ў калегіі (у 1828 створана асобная Грэка-каталіцкая калегія). З 1833 кіруючы епіскап літоўскі. На гэтай пасадзе вёў падрыхтоўчую работу па скасаванні уніі: ездзіў па епархіях, наглядаў за ўвядзеннем у храмах іканастасаў і служэбнікаў маскоўскага друку, вынішчэннем арганаў і навучаннем святароў богаслужэнню на царк.-слав. мове і інш., узгадняў арганізац. пытанні з дзярж. ўладамі. У вер. 1836 звярнуўся з лістом да пецярбургскага мітрапаліта Серафіма з прашэннем аб далучэнні да праваслаўя. Быў ініцыятарам і актыўным удзельнікам *Полацкага царкоўнага сабора 1839*. З 1840 правасл. архіепіскап літоўскі і віленскі (з 1852 мітрапаліт). У 1844 пераехаў з Пецярбурга ў сваю епархію, спачатку ў Жыровічы, потым у Вільню (1845), садзейнічаў пераводу *Літоўскай духоўнай семінарыі* з Жыровіч у Вільню. З 1847 член Свяцейшага Сінода. У апошнія гады займаўся дабрачыннасцю, збіраў дакументы, пісаў мемуары.

*Літ.:* Теплова В.А. Жизнь и труды преосвященного митрополита Литовского Иосифа: К 200-летию со дня рождения // Материалы IV Кирилло-Мефодиевских чтений, посвященных дням славянской письменности и культуры. М., 1999. Ч. 1. *В.Р.Кірэеў.*

СЯМІСВЕ́ЧНІК — асобы від каганца (падсвечніка) з 7 галінак, замацаваных на высокай падстаўцы. Ставіцца ў алтары правасл. храма перад *горнім месцам*. Галінкі С. заканчваюцца кубачкамі для лампад або свечак. Паходжанне С. не высветлена (магчыма, ад іудзейскай міноры). У старажытнасці С. не быў вядомы як абавязковая прыналежнасць алтара. У наш час займае трывалае месца ў царк. ужытку, лічыцца свяшчэнным прадметам, які сімвалізуе 7 таінстваў правасл. царквы. С., безумоўна, звязаны з магічнай лічбай 7.


І.Сямашка.



ТАБЕРНА́КЛЬ (ад лац. tabernaculum шацёр) — 1) сховішча для асвячоных госціяў, якое знаходзіцца на алтары. Т. уяўляе сабой невялікую, унутры пазалочаную або абабітую белым шоўкам шафку, з дзверкамі, якія зачыняліся. Як культавае напрастольнае прыстасаванне Т. з'явіўся ў каталіцкіх храмах у 16 ст., выцiснуўшы больш раннія тыпы дараносіцы — навесныя алтарныя каўчэгі і насценныя сховішчы, якія, напр., захаваліся ў англіканаў. 2) Т. называюцца некаторыя інш. царк. збудаванні, напр., балдахін над папскім алтаром у саборы Пятра ў Рыме, створаны ў 17 ст. Л.Берніне.

ТАБУ́ (палінезійскае) — пашыраная ў першабытным грамадстве сістэма забарон, парушэнне якіх быццам бы караецца звышнатуральнымі сіламі. Звычай Т. ўпершыню апісаны Дж.Кукам у абарыгенаў астравоў Тонга (Палінезія) у 1771. У палінезійцаў табуіраваным было ўсё, што адносілася да багоў і духаў, усё, што належала жрацам і правадырам. Узнікненне Т. звязана з патрэбамі чалавечага грамадства, якое фарміравалася падпарадкаваць паводзіны індывідуума інтарэсам калектыву. У родавым грамадстве Т. рэгламентавала найважнейшыя бакі жыцця чалавека, найперш выкананне шлюбных экзагамных норм. Шырока распаўсюджаны таксама харчовыя Т. Перажыткі Т. захоўваюцца ў сучасных рэлігіях. Напр., у хрысціянстве панятце граху аналагічна Т.

ТА́ІНСТВЫ (лац. sacramentum) — у хрысціянстве абрадавыя дзеянні, у якіх «пад бачным абразом паведамляецца вернікам нябачная боская ласка». Праваслаўе і каталіцызм прызнаюць Т. — хрышчэнне, прычашчэнне, свяшчэнства, пакаянне (споведзь), мірапамазанне, шлюб, елеасвяшчэнне (сабораванне). У большасці пратэстанцкіх плыней спраўляюцца толькі хрышчэнне і прычашчэнне, якія разглядаюцца як сімвалічныя абрады, што не адрозніваюцца ад іншых. Паводле вучэння царквы Т. ўстаноўлены Ісусам Хрыстом. Яны ўводзіліся ў хрысц. культ на працягу доўгага часу. Спачатку хрышчэнне і прычашчэнне, потым свяшчэнства і толькі ў 4—5 ст. астатнія. Вытокі Т. узыходзяць да стараж. вераванняў, магічных дзеянняў стараж. людзей, якія былі ўпэўнены ў магчымасці непасрэдных зносін са звышнатуральнымі сіламі, уздзеяння на іх. Пры ўстанаўленні Т. хрысціянства запазычыла шмат элементаў і з усх. рэлігій. Вялікую ўвагу царква надае правільнаму выкананню Т., маючы на ўвазе абавязковы ўдзел у ім «законнай» духоўнай асобы і прытрымліванне ўстаноўленага парадку. Тым самым падкрэсліваецца роля царквы як «пасрэдніцы» паміж богам і людзьмі, без якой Т. лічацца «несапраўднымі». Гэта ўмова не прызнаецца пратэстанцкімі цэрквамі, якія адмаўляюць ідэю пасрэдніцтва царквы ў зносінах чалавека з Богам.

ТАЛІСМА́Н (франц. talisman ад познагрэч. télesma рэлігійны абрад, асвячоны прадмет) — прадмет, які паводле прымхлівых уяўленняў валодае магічнай здольнасцю прыносіць яго ўладальніку шчасце, поспех і г.д. Вера ў Т. узнікла ў першабытных людзей як адлюстраванне іх бяссілля перад прыродай. Гл. таксама *Амулет*.

ТАЛМУ́Д (ад стараж.-яўр. ламейд — вывучэнне), збор дагматычных, рэлігійна-этычных і прававых палажэнняў *іудаізму*, складзены ў 4 ст. да н.э. — 5 ст. н.э. Пачатак яго стварэнню паклалі іўдзейскія законавучыцелі (танаі), якія займаліся тлумачэннем Пяцікніжжа, або Торы. Іх вусныя і пісьмовыя тлумачэнні Торы ў 210 н.э. былі складзены і адрэдагаваны Іегудам Ганасі і атрымалі назву Мішна (паўтор, другі закон). Мішна напісана на іўрыце, падзелена на 63 трактаты, якія згрупаваны ў 6 раздзелаў (седарым): З е р а і м (Пасевы) — збор законаў аб пасевах і пазямельных абавязках, аб прынашэннях на карысць духавенства, бедных і інш. (у пач. гэтага раздзела змешчаны трактат аб малітвах і благаславеннях — Берахот); М о э д (Свя́ты) — законы пра суботу, святы і пасты; Н а ш ы м (Жонкі) — аб шлюбах, разводах і інш. пытаннях сямейнага права; Н е з і к і н (Пашкоджанні) — грамадзянскае і крымінальнае

права, а таксама трактат «Абот», які змяшчае павучальныя выслоўі; Кадашым (Святыні) — законы аб кашруце (рытуальных правілах харчавання), ежы, а таксама аб ахвярапрынашэннях і абрадах іерусалімскага храма; Тагарот (Ачышчэнні) — законы аб рытуальнай чысціні для святароў і недухоўных асоб. Кожны раздзел (сэдэр) падзяляецца на трактаты (месіхтот), кожны трактат на часткі (перакім), а кожная частка на артыкулы (мішны). Сама Мішна ў сваю чаргу стала прадметам тлумачэння іудзейскім тлумачальнікам (амараямі). Збор тлумачэнняў Мішны атрымаў назву Гемара (дапаўненне; напісана на арамейскай мове), якая разам з Мішнай склала Т. Тлумачэнні Мішны зроблены ў Палесціне і ў Вавілоніі, таму адрозніваюць 2 варыянты Т. — палесцінскі, або іерусалімскі (Т.Іерушалмі), і вавілонскі (Т.Баўлі). Т. змяшчае 613 рэліг. прадпісанняў. 365 з іх складаюцца з абмежаванняў і забарон, 248 — з указанняў. У Т. разам з рэліг. і грамадзянскім законамі змешчаны легенды, фальклор, а таксама звесткі па матэматыцы, геаграфіі, прыродазнаўстве, медыцыне, гісторыі і інш. навуках. Змест Т. звычайна падзяляюць на 2 узаемапераплеценыя часткі: галаху і агаду. У галасе падрабязна абмяркоўваюцца і дапаўняюцца законапалажэнні Мішны і ўказваецца сувязь гэтых законаў з біблейскімі. У агадзе гал. месца займаюць маральныя павучанні, гутаркі аб розных з'явах жыцця, гістарычныя паданні. На Беларусі Т. вядомы з канца 14 ст., калі тут былі заснаваны першыя яўр. абшчыны.

Пачаткам друкавання Т. стала выданне ў 1483—1520 у г. Санчына (Паўн. Італія) трактата Берахот. Першае поўнае выданне Т. — Т. вавілонскі, надрукаваны ў 1520—23 у Венецыі ў друкарні Д.Бомберга. У 16—18 ст. Т. друкаваўся ў многіх гарадах Еўропы, у т.л. ў ВКЛ. З адкрыццём у канцы 18 — пач. 19 ст. на Беларусі яўр. друкарняў выданне Т. адзначана ў Копысі — Т. вавілонскі, Т. іерусалімскі, і ў Шклове — Т. іерусалімскі. Найб. значным на Беларусі з'яўляецца Т. вавілонскі, выдадзены сумесна друкарамі гродзенскім З.Нахімовічам і віленскім М.Ромам у Вільні ў 1835 (30 тамоў). У 1836 палажэннем К-та міністраў яўр. друкарні ў Рас. імперыі закрыты (за выключэннем Вільні і Кіева). У 1845 дазвалялася дзейнасць яўр. друкарняў у Вільні і Жытоміры. Т. ч. Вільня стала гал. цэнтрам яўр. кнігавыданняў у дзяржаве. Найб. значнай у гэты перыяд была віленская друкарня братоў Ром (спачатку дзейнічала ў Гродне; вядома яе віленскае выданне Т. 1846). У 1862 зноў дазволена адкрываць яўр. друкарні на тэр. ўсёй мяжы яўрэйскай аселасці і ў С.-Пецярбургу. Шматтомнае выданне Т. вавілонскага ў друкарні Ромаў 1880—86 стала стандартным узорам для наступных выданняў Т. ў Расіі і ва ўсім свеце. У 1897 кнігі Т. вавілонскага выдаваліся віленскай друкарняй А.Разенкранца. У 1901—09 віленскі талмудыст Б.Ратнер выдаў збор выпраўленняў да Т. іерусалімскага «Veria lectiones». У 1920-я г. дзейнасць друкарні Ромаў працягвалася (вядома выданне Т. іерусалімскага 1922). Першыя пераклады асобных трактатаў Т. (Мішны) на рус. мову былі надрукаваны ў Пецярбургу ў 1866 і 1868. У 1869 трактат Берахот у перакладзе на рус. мову А.Воля і В.Кагана надрукаваны ў Вільні. З 1996 у Ізраілі пачалося выданне тамоў Т. на рус. мове пад рэдакцыяй рабіна А.Штайнзальца.

*Літ.:* Беленький М.С. Что такое Талмуд? М., 1963; Герасимова И. Еврейская печать и типографии в Беларуси. История и современность // Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі. Мат-лы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Мн., 1997.

*В.Ф.Бацяеў, Л.І.Доўнар.*

ТАЛО́ЧКА Уладзіслаў [6(8?).2.1887, г. Гродна — 13.11.1942] — бел. рэліг. і культ.-асв. дзеяч, культуролаг, гісторык, літ. крытык. У 1896—1904 вучыўся ў Гродзенскай гімназіі. З кастр. 1906 семінарыст Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. У 1909 пасвячоны ў святара. У 1909—14 вывучаў тэалогію і філасофію ў каталіцкім ун-це ў Інсбруку (Аўстрыя). З 1914 святар у Вільні. Адзін з першых пачаў ужываць бел. мову ў набажэнствах. Публікаваў матэрыялы гіст. тэматыкі ў Віленскім каталіцкім час. «Dwutygodnik Diecezjalny» («Дыяцэзіяльны двухтыднёвік»). У 1-ю сусв. вайну выкладаў рэлігію ў бел. школах г. Вільня. Падтрымліваў выданне бел. каталіцкай газеты «Беларус». У 1915—18 адзін з ініцыятараў і арганізатараў Віленскага к-та дапамогі пацярпелым ад вайны, бел. дзіцячага прытулку «Золак». У 1916—17 выкладаў на курсах для непісьменных і для рабочых. З 1917 звязаны з бел. нац.-рэліг. арг-цыяй «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць», у яе друкаваным органе — газеце «Krynica» («Крыніца») змяшчаў артыкулы культ.-адраджэнскай і рэліг. праблематыкі. У 1918 удзельнічаў у арганізацыі і правядзенні Беларускай канферэнцыі ў Вільні, Беларускага з'езда Віленшчыны і Гродзеншчыны. Уваходзіў у склад Літоўскай Тарыбы. У міжваеннае дваццацігоддзе адзін з вядучых публіцыстаў час. віленскіх краёўцаў «Przegląd Wileński» («Віленскі агляд»). З 1920-х г. праследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі. 15.12.1938 як «нядобранадзейная асоба» выселены ў Беласток. На пач. 2-й сусв. вайны вярнуўся ў Вільню.

ТАМІ́ЗМ (ад лац. Thomas Фама) — напрамак у схаластычнай філасофіі і каталіцкім багаслоўі, які зарадзіўся пад уплывам ідэй *Фамы Аквінскага*. Гал. асаблівасць Т. — імкненне рацыянальна абгрунтаваць многія палажэнні хрысц. веры. Нягледзячы на славу Фамы пры жыцці, пашырэнне Т. сутыкнулася першапачаткова з супрацьдзеяннем аўгусцініянцаў (у большасці — *францысканцаў*, але часткова і *дамініканцаў*), якія ў справах веры аддавалі перавагу інтуіцыі. Але ўжо ў 1278 Т. пры-

знаны афіцыйным вучэннем дамініканскага ордэна. Пасля кананізацыі Фамы Аквінскага ў 1323 Т. замацоўваўся ва ун-тах Парыжа і Кёльна. Аднак у 15—16 ст. Т. не стаў універсальным царк. вучэннем, а ў Італіі гуманісты моцна падарвалі яго ўплыў. Толькі пасля Трыдэнцкага сабора, дзякуючы дзейнасці *езуітаў*, ва ўмовах т.зв. другой схаластыкі, буйным прадстаўніком якой з'яўляецца Ф.Суарэс, Т. стаў дамінуючым каталіцкім вучэннем, а ў 1879 энцыкліка Льва XIII зацвердзіла яго ў якасці пануючай каталіцкай дактрыны.

ТАМУШÁНСКІ Роберт Язэп (3.7.1940, г. Порт-Чэстэр, штат Нью-Йорк, ЗША — 10.12.1996) — рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч бел. замежжа, філолаг, публіцыст. Унук бел. селяніна з Аўгустоўскага пав. Д-р філалогіі (1974). Скончыў Атаўскі ун-т у Канадзе (1964), Кёнігштайнскую каталіцкую духоўную семінарыю ў Германіі (1966), Лонданскі ун-т (1971), Папскі інстытут арабістыкі і ісламскіх навук у Рыме (1977). У 1966 пасвячоны ў ксяндза. Працаваў у Бел. каталіцкай місіі ў Лондане, актыўна ўдзельнічаў у рэліг.-культ. жыцці бел. замежжа. З 1967 нам. дырэктара Бел. школы імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане, з 1971 нам. кіраўніка Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане. Чл. англа-бел. навук. т-ва. З 1974 нам. гал. рэдактара, з 1977 — гал. рэдактар Бел. секцыі радыё Ватыкана. Вывучаў слав. і германскую філалогію, арабістыку, гісторыю філасофіі і рэлігіі, бел.-яўр. літаратурныя сувязі канца 19 — пач. 20 ст. Супрацоўнічаў з час. «Божым шляхам», «Унія» і інш. Аўтар прац «Старонкі з гісторыі царквы ад пачатку да 1850 году» (1977), «Сістэматычнае і гістарычнае выясненне Боскае літургіі паводле бізантыйскага абраду» (1991) і інш. Выступаў па Ватыканскім радыё з прамовамі па рэліг.-царк. гісторыі Беларусі, з малітвамі і казаннямі. Чытаў сваю тэалагічную працу «Бог і чалавек. Дапаможнік тым, што шукаюць праўды», перапрацаваў для радыёперадач «Кароткі катэхізм для беларусаў-католікаў» Я.Рэшаця ў выглядзе рэліг. гутарак. *Ю.Р.Васілеўскі, Л.У.Языковіч.*

ТАРАКÁНСКІ МАНАСТЫ́Р БАЗЫЛЬЯ́Н. Існаваў у 17 — 1-й пал. 19 ст. ў фальварку Таракань (Таракані; цяпер у межах в. Імянін Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл.). Знаходзіўся ў фундушавым маёнтку, нібыта дадзеным у 1517 кіеўскім мітрапалітам валынскай кашталянкай Агатай Песачынскай. Пасля *Брэсцкай уніі 1596* за маёнтак ішла працяглая барацьба паміж уніяцкімі мітрапалітамі і ордэнам *базыльян*. Дакладная дата заснавання манастыра не акрэслена. Манастыр быў адным з галоўных у базыльян, з 1656 тут праходзілі ордэнскія кангрэгацыі. Мітрапаліт Ц.*Жахоўскі* пабудаваў тут сваю рэзідэнцыю, якая пасля яго смерці дасталася базыльянскім протаархімандрытам (генералам); з 1743 тут размяшчалася адна з рэзідэнцый правінцыялаў Літоўскай правінцыі ордэна. Паводле хронікі Аляшэўскага (памёр у 1721), мураваныя царква св. Іасафата Кунцэвіча і жылы корпус манастыра пабудаваны ў 1710—12 генералам ордэна базыльян Л.*Кішкаю.* 3-нефавая базіліка з 2-вежавым фасадам памерам у плане 24 × 14 м і вышынёй 10 м да карніза, з разным іканастасам, была аздоблена падобна манастырскай царкве ў Беразвеччы. Прыкладна з 1780 пры манастыры існавала школа, дзе навучалі мовам, гісторыі, геаграфіі, арыфметыцы. Паводле інвентара 1821, скляпенні і сцены царквы былі размаляваны, мелася 7 алтароў, арган, жалезны каваны іканастас з пазалотай, намаляваныя на медных лістах на царскіх варотах абразы «Маці Божая», «Спас» і «Звеставанне», каваныя з жалеза балдахін і кораб амбона. У 1821 былі 24 манахі і 23 чал. прыслугі. Паводле інвентара 1836, у храме мелася шмат сярэбраных літургічных рэчаў; да царквы прымыкаў вял. аднапавярховы манастырскі корпус, утвараючы квадратны двор; быў мураваны флігель. Б-ка налічвала каля 1750 кніг. Манастыру належаў фальварак Таракань (87 дамоў, 73 валокі зямлі), працавала 5 варштатаў для ткацтва палатна. Пасля скасавання уніі (1839) манастыр быў месцам ссылкі непакорных святароў-уніятаў. У 1920—30-я г. тут размяшчалася сельскагасп. школа. У 1950-я г. будынкі разбураны. *А.А.Ярашэвіч.*

ТАРАСЕ́ВІЧ Уладзімір (27.11.1921, в. Клешнякі Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. — 2.1.1986) — рэлігійны і грамадскі дзеяч бел. замежжа. Напярэдадні 2-й сусв. вайны пераехаў у ЗША да свайго дзядзькі Я.*Тарасевіча.* Д-р тэалогіі (1958). Скончыў духоўную семінарыю і каледж пры абацтве св. Пракопа ў г. Лайл каля Чыкага, Каталіцкі ун-т у Вашынгтоне (1950), вучыўся ў Рыме ў папскім Грыгарыянскім ун-це і Пантыфікальным ін-це вывучэння Усходу. Манах-бенедыкцінец (1944), каталіцкі святар усх. абраду (1949). У 1958—86 узначальваў бел. уніяцкую парафію Хрыста Спаса ў Чыкага. Архімандрыт (1975). Епіскап каталіцкай царквы ўсх. абраду (1983), адначасова папам рымскім прызначаны на пасаду апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў зах. і ўсх. абрадаў на эміграцыі. 25.4.1959 адчытаў малітву за бел. народ у Кангрэсе ЗША. Адзін з заснавальнікаў уніяцкага англа-рускамоўнага час. «Церковный голос», выдаваў бюлетэні «Праўда», «Да злучэння». *Л.У.Языковіч.*

ТАРАСЕ́ВІЧ Янка (Іван Міхайлавіч; 20.10.1892, в. Клешнякі Шчучынскага р-на Гродзенскай вобл. — 11.6.1978) — рэлігійны і грамадскі дзеяч бел. замежжа. Дзядзька У.*Тарасевіча.* З 1911 жыў у ЗША. Д-р тэалогіі (1925). У 1917—18 вывучаў тэалогію ў Манрэалі (Канада). Скончыў Фрыбургскі каталіцкі ун-т у Швейцарыі (1925). З 1912 чл. ордэна саламынаў, у 1923 пасвячоны ў ксяндза. З 1926


Тора.

выкладаў у семінарыі ў штаце Нью-Йорк. У 1936 перайшоў у ордэн бенедыкцінцаў. З 1937 служыў у манастыры св. Пракопа ў г. Лайл каля Чыкага. У 1941 адзін з ініцыятараў стварэння культ.-грамадскай арг-цыі Бел.-амерыканская нац. рада, разам з Я.Варонкам і Я.Рэшацем уваходзіў у яе ўправу, у 1941—48 яе старшыня. Заснавальнік бел. уніяцкай парафіі Хрыста Спаса ў Чыкага. У 1921, 1924, 1935 і 1967—68 наведваў Бацькаўшчыну. Аўтар шэрагу філасофска-тэалагічных трактатаў, у т.л. «Зло і лякарства на яго», «Беларусы ў святле праўды». У 1930—40-я г. выдаваў бюлетэнь «Праўда», англа-рускамоўны уніяцкі час. «Церковный голос», у 1952—62 — «Лісток к Беларусам». Супрацоўнічаў з час. «Chryścijanskaja Dumka» («Хрысціянская думка»), «Божым шляхам», «Siaŭbit» («Сейбіт») і інш.

*А.У.Языковіч.*

ТАТЭМІЗМ (на мове паўночнаамерыканскіх індзейцаў племя аджыбве «от-атэм» — літаральна яго род) — комплекс вераванняў і абрадаў у абшчынна-родавым грамадстве, звязаны з уяўленнем пра роднасць паміж групай людзей (родам, фратрыяй) і *татэмам* (пэўным відам жывёл, раслін, радзей з'яў прыроды ці неадушаўлёнымі прадметамі). Перавага жывёл сярод татэмаў абумоўлена пашырэннем паляўніцтва ў абшчыннародавым грамадстве. Татэмаў паважалі, часам абагаўлялі, не прычынялі ім шкоды (іх нельга было забіваць, есці іх мяса, гэта дазвалялася толькі ў час татэмных свят), імкнуліся іх аберагаць, спрыяць павелічэнню іх колькасці. Кожная татэмная група насіла імя свайго татэма, а яе члены мелі спец. татэмічныя эмблемы (камень, драўляная дошчачка); існавала забарона на заключэнне шлюбаў унутры татэмных груп. Дзеля задобрывання татэма-жывёлы і павелічэння яго колькасці людзі выконвалі спец. магічныя абрады, выконвалі песні-заклінанні, татэмічныя танцы, у якіх звычайна імітаваліся паводзіны татэмаў. Класічны Т. зафіксаваны ў Аўстраліі. Існуе некалькі канцэпцый узнікнення Т.: боязь жывёл (найперш драпежных); адчуванне сваёй натуральнай еднасці з жывёламі, раслінамі; вера ў існаванне свяшчэнных (сакральных) прыродных сіл і з'яў. Рэшткі Т. захаваліся да нашага часу ў розных народаў Амерыкі, Азіі, Афрыкі, Акіяніі. Яны выяўляюцца ў разнастайных формах: выявах татэмічных істот на сценах дамоў і на дэталях адзення; звычаях урачыстага пахавання памерлых татэмаў; выкарыстанні ў якасці абярэгаў асобных частак цела татэмічных жывёл (зубы, скура, галава, пер'е, косці); клятва на частках цела татэмных жывёл; звычай пераапранання ў скуру жывёл у час свят, рытуальныя татэмічныя танцы; легенды, паданні, казкі пра паходжанне роду ад пэўнага татэма.


**Тройца** Старазапаветная. 2-я чвэрць 18 ст. Беларуская іканапісная школа.


**Тройца** Старазапаветная. 17 ст. Беларуская іканапісная школа.


**Тройца** Навазапаветная. 18 ст. Беларуская іканапісная школа.


**Тройца** Навазапаветная. 1790. Беларуская іканапісная школа.

У беларусаў захаваліся нар. легенды і паданні, прыкметы і павер'і, у якіх прасочваюцца рэшткі стараж. Т. У асобных бел. фальклорных творах адзначаецца, што людзі часам ператвараліся (пераважна па волі Бога) у мядзведзяў, буслоў, ваўкоў. Праявай татэмістычных уяўленняў людзей з'яўляюцца наступныя вызначэнні асобных жывёл: мядзведзя называюць «продкам», «апекуном», бусла — «братам» і г.д. У бел. фальклоры найчасцей сустракаюцца звесткі пра мядзведзя, які быў самай паважанай жывёлінай. Ён лічыўся адным з самых магутных звяроў у лесе (таму яго баяліся і імкнуліся задобрыць), а таксама шмат у чым нагадваў самога чалавека (напр., мог хадзіць на задніх лапах, любіў есці мёд, гарохавую кашу, кісель). На Беларусі працяглы час захоўвалася свята татэмнага паходжання *камаедзіца*, якое праводзілася вясной у гонар абуджэння мядзведзя ад зімовай спячкі. Дзеянні людзей імітавалі паводзіны мядзведзя. У бел. фальклоры сустракаюцца павер'і, паводле якіх, напр., калі мядзведзь пройдзе каля зачараванай хаты, то можа адвесці любыя няшчасці і інш. Татэмічныя карані мае звычай пераапранання ў шкуру мядзведзя ў час нар. свят (напр., *Каляд*).

*Літ.:* Арсеньев В.Р. Звери — боги — люди. М., 1991; Ненадавец А.М. Святло таямнічага вогнішча. Мн., 1993; Волошина Т.А., Астапов С.Н. Языческая мифология славян. Ростов н/Д., 1996; Соколова З.П. Животные в религиях. СПб., 1998.

*Э.С.Дубянецкі.*

ТО́РА — старажытнаяўрэйская назва *Пяцікніжжа.* У богаслужбовай практыцы *іудаізма* выкарыстоўваецца толькі тэкст, напісаны ад рукі на скрутку пергамента.

ТРАНС РЭЛІГІ́ЙНЫ (ад франц. transe здранцвенне) — асаблівы кароткачасовы стан свядомасці, які выяўляецца ў ажыццяўленні вернікам нематываваных учынкаў. Да Т.р. адносяцца таксама станы адлучанасці, экстазу і яснабачання. Т.р. сустракаюцца ва ўсіх рэлігіях, асабліва ў харызматычных і экстатычных культах. Дасягненне такіх станаў звязана з уяўленнямі аб магчымасці такім чынам вызваліць дух ад плоці.

ТРО́ЙЦА — цэнтральны хрысціянскі догмат, паводле якога Бог адзіны па сваёй сутнасці, але існуе ў трох асобах (іпастасях) — Айца, Сына і Святога Духа. Вучэнне аб Т. бярэ вытокі ў *Старым запавеце*, але канчаткова выяўлена ў *Новым запавеце.* Маючы прадпасылкі ў Свяшчэнным Пісанні, гэты догмат патрабаваў канчатковай фармулёўкі і пачаў распрацоўвацца ў канцы 2 ст. ў сувязі з фарміраваннем адзінай епіскапальнай царквы. У перыяд фарміравання вучэння аб Т. вяліся вострыя дыскусіі, т.зв. трынітарныя спрэчкі. Адносную тэалагічную завершанасць догмат аб Т. атрымаў у 3 ст. і быў замацаваны на 1-м (325) і 2-м (381) Усяленскіх саборах. У 381 уведзена свята Тройца (гл. *Сёмуха*). У адрозненне ад праваслаўя каталіцызм сцвярджае, што Святы Дух зыходзіць не толькі ад Айца, але і ад Сына. Вучэнне аб Т. распрацоўваў *Аўгусцін* Блажэнны, які трактаваў Т. як вечнае божае самапазнанне і любоў. Догмат аб Т. адмаўляўся ў антытрынітарных вучэннях (гл. *Антытрынітарыі*). Т. з'яўляецца адным з самых распаўсюджаных сюжэтаў у *іканапісе*. Сімвал Т. — выява трох анёлаў.

ТРЫ́ЗНА — язычніцкі пахавальны абрад у старажытных славян (адпавядае грэчаскаму слову

«спаборніцтва»). Першапачаткова складалася з *ахвярапрынашэнняў*, ваенных гульняў і песень у гонар памерлага, а таксама памінальнага частавання напярэдадні і пасля трупаспалення (наладжвалі побач з месцам пахавання). Ва ўсх. славян Т. звычайна адбывалася пры насыпанні кургана як урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе ваеннай гульні ці спаборніцтва, асабліва пры пахаванні воіна або іншага знатнага мужа. У слав. Т., як і ў ант. пахавальным цырыманіяле, гал. месца належала конскім рысталішчам (спаборніцтвам). Пасля прыняцця хрысціянства Т. доўгі час захоўвалася ў выглядзе памінальных песень, частавання. Да нашых дзён дайшоў памінальны звычай частаваць тых, хто прыйшоў на пахаванне, а таксама пакідаць невялікую колькасць ежы і пітва для нябожчыка (духам продкаў). Часам тэрмін «Т.» выкарыстоўваецца як сінонім памінак.

*Г.В.Штыхаў.*

ТРЫНІТА́РЫІ — манахі каталіцкага ордэна св. Тройцы, заснаванага ў канцы 12 ст. ў Францыі ў час крыжовых паходаў з мэтай выкупу ў мусульман з няволі палонных хрысціян. Статут зацверджаны папам рымскім Інакенціем III 17.12.1198. На чале ордэна стаяў генерал, які жыў у Рыме (у 2-й пал. 18 ст. ім быў Станіслаў Аборскі з Вальні). Кляштары Т. былі ў Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Італіі, Германіі, Аўстрыі, Польшчы, ВКЛ (у канцы 18 ст. каля 300 у свеце). У Францыі ордэн скасаваны ў час рэвалюцыі 1789—99, у інш. краінах — у 1-й трэці 19 ст., захаваўся толькі ў Італіі. У 1685 першыя Т. з'явіліся ў Варшаве. У 1727 утворана польская правінцыя ордэна Т. св. Іахіма, да якой належалі кляштары ў ВКЛ: у Бабінавічах (засн. ў 1782), Брэсце (1728, фундатар навагрудскі ваявода Ян Радзівіл, будынкі змураваны ў 1737—39), Вільні (на Антокалі; 1694, віленскі ваявода К.Сапега), Віцебску (1758, віцебскі харунжы М.Рэут), Крывічах (1770, трокскі цівун і падкаморы А.Укольскі з жонкай), Маладзечне (1758, трокскі ваявода Т.Агінскі), Оршы (1714, А.У.Сакові́ч), Трынопалі каля Вільні (1700, віленскі біскуп К.Бжастоўскі). У 1773 ва ўсёй правінцыі было 25 кляштараў, 303 манахі. За першае стагоддзе існавання польскай правінцыі Т. яе манахамі было выкуплена з палону 517 чал. Кляштары Т. на тэр. Літвы і Беларусі скасаваны ў 1832, Віленскі — у 1864.

*А.А.Ярашэвіч.*

ТУПІЧЭ́ЎСКІ СВЯТАДУ́ХАЎСКІ МАНАСТЫ́Р — праваслаўны манастыр ва ўрочышчы Тупічэўшчына каля г. Мсціслаў у 1641—1918. Засн. як мужчынскі паводле завяшчання мсціслаўскага краўчага Канстанціна Маскевіча яго нашчадкамі, якія далі для гэтага 2 валокі зямлі; там у пач. 17 ст., паводле падання, з'явіўся цудадзейным чынам абраз Маці Божай. Акрамя Маскевічаў апекунамі манастыра сталі мсціслаўскія зямяне: скарбнік Б.Кацёл, гродскі пісар Я.Галынскі, а гал. чынам падкаморы Б.Статкевіч. Апошні даў пляц з домам і агародам і атрымаў ад караля Уладзіслава IV прывілей пабудаваць царкву, шпіталь і заснаваць школы навук рускіх, польскіх і лацінскіх. Манастыр знаходзіўся ў непасрэднай юрысдыкцыі мітрапалітаў кіеўскіх. Драўляная крыжова-купальная царква Зыходжання Св. Духа закладзена ў 1641 і асвячона 1.10.1645 епіскапам мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім Сільвестрам *Косавым*. Акрамя Тупічэўскага абраза Маці Божай у манастыры знаходзіўся прысланы патрыярхам маскоўскім Ніканам Карсунскі абраз Маці Божай, які, як і першы, праславіўся цудамі вылячэнняў. Т.С.м. карыстаўся падтрымкай рас. улад: цар Пётр I (наведаў яго ў 1708) і імператрыца Ганна Іванаўна давалі яму ахоўныя граматы. Па хадайніцтве Пятра I кароль Аўгуст II 28.11.1720 абвясціў непарушнасць правасл. манастыроў у Рэчы Паспалітай, у т.л. Тупічэўскага (пацверджана Аўгустам III у 1735). У 1724 рас. *Сінод* дазволіў манастырскаму ігумену збіраць ахвяраванні ў Расіі. Верагодна, у 1-й пал. 18 ст. царква Зыходжання Св. Духа размалявана, пры школах была брацкая Успенская царква (згарэла ў 1771). У 1771 пры настаяцельскіх келлях пабудавана новая драўляная (цёплая) царква Уводзін прасвятой Багародзіцы ў храм (перабудавана ў 1898). Пасля далучэння Мсціслаўшчыны да Рас. імперыі (1772) Т.С.м. пакінуты па-за штатам, у 1842 страціў самастойнасць і прыпісаны да Мсціслаўскага Мікалаеўскага манастыра, у 1877 манахі пераведзены ў будынкі б. *Бялыніцкага кляштара кармелітаў.* У 1886 манастыр адноўлены ў старых памяшканнях у Тупічэўшчыне як жаночы і прыпісаны да Мазалаўскага, у 1903 зноў стаў самастойным і прылічаны да 2-га класа. У 1891—95 намаганнямі ігуменні Анатоліі (Ганны Чарняўскай) пабудаваны мураваны крыжова-купальны Успенскі храм у неавізантыйскім стылі. У канцы 19 ст. пры манастыры дзейнічала царк.-прыходская школа з рукадзельным класам для дзяўчынак, шпіталь на 10 ложкаў, з 1902 працавала амбулаторыя, якую наведвалі каля 2500 хворых штогод. У пач. 20 ст. манастыр меў 380 дзес. зямлі (з іх 270 не давалі прыбытку), 2 вадзяныя млыны, дом у горадзе; з 1903 як 2-класны атрымліваў штогод ад дзяржавы 2155 руб. Закрыты ў 1918, будынкі разбураны ў 1930-я г.

*Літ.:* Пятницкий И. Тупичевский монастырь Могилевской епархии. Могилев, 1907; Ржавуская Т. Насценныя роспісы ў царкве Тупічэўскага манастыра ў Мсціславе // Зап. аддзел гуманітарных навук Інстытута бел. культуры. Мн., 1928. Т. 1, сш. 1.

*А.А.Ярашэвіч.*

**ТУ́РАЎСКАЕ ЕВА́НГЕЛЛЕ** — старажытнарускі рукапісны помнік 11 ст.; самая ранняя (з тых, што захаваліся) кніга, створаная на бел. землях. Збераглося 10 яго аркушаў. Напісана на пергаменце ўставам царк.-слав. мовай стараж.-рус. рэдакцыі, аздоблена ініцыяламі (старавізант. тып, выкананы на зялёным фоне, размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі) і маргінальнымі ўпрыгожаннямі ў выглядзе гронкі. Ёсць укладныя запісы 2.5.1508, 10.2.1513, 1781. Знойдзена ў Тураве ў 1865, вывезена М.Сакаловым у Віленскую публічную б-ку. Зберагаецца ў б-цы АН Літвы. У 1962—63 рэстаўрыравана, зроблены новы пераплёт, стары (17 ст.) захоўваецца асобна.

*Літ.:* Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в СССР. XI—XIII вв. Мн., 1984; Н і к а л а е ў М.В. Палата кнігапісная. Мн., 1993. *М.В.Нікалаеў.*

**ТУ́РАЎСКАЯ ПРАВАСЛА́ЎНАЯ ЕПА́РХІЯ** — другая па старажытнасці праваслаўная епархія на Беларусі. Засн. ў канцы 10 — пач. 11 ст. як адм.-тэр. адзінка *Кіеўскай мітраполіі*. Першапачаткова ахоплівала тэр. басейна р. Прыпяць і на Пн ад яе, уключаючы гарады Навагрудак, Мінск, Пінск, Барысаў. Пасля разбурэння Турава (сярэдзіна 13 ст.) епіскапская кафедра перанесена ў Пінск, епархія стала наз. Турава-Пінская (або Пінска-Тураўская; далейшую гісторыю гл. ў арт. *Пінская праваслаўная епархія*). У 1878—1922 кіруючыя архірэі Мінскай епархіі тытулаваліся «мінскія і тураўскія». У 1992 Т.п.е. адноўлена як самастойная епархія Бел. экзархата Рус. правасл. царквы. Уключае тэр. 10 адм. раёнаў Гомельскай вобл.: Акцябрскага, Брагінскага, Ельскага, Жыткавіцкага, Калінкавіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага, Петрыкаўскага, Хойніцкага, у склад якіх уваходзяць 50 царк. прыходаў (на 2000). На тэр. епархіі дзейнічаюць 2 жаночыя манастыры. Епархіяльнае ўпраўленне знаходзіцца ў Мазыры. Выдаецца газ. «Искра Православия». Тытулы кіруючых архірэяў: тураўскі (да сярэдзіны 13 ст.), тураўскі і мазырскі (з 1992). Сярод кіруючых архірэяў вядомыя: Фама (узгад. 1005), Кірыла (1114—20), Сімяон (?), Ігнацій (?—1144), Іаакім (1144—?), Георгій (узгад. 1167), *Кірыла Тураўскі* (? — каля 1183), Лаўрэнцій (узгад. 1183), Пётр (В.П.Карпусюк, з 1992).

*Літ.:* Тураўская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар. 2000. Мн., 1999. *В.К.Касцюк.*

**ТУРАЎСКІЯ КРЫЖЫ**, каменныя крыжы 12 ст. з г. Турава і навакольных вёсак: Верасніца, Пагост, Перароў, Хлупін, Старажоўцы і інш. Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. З'яўляюцца сімвалам веры і прадметам культавага пакланення для хрысціян. Мясцовыя жыхары вешалі на крыжы стужкі, лампадкі, пакрывалі іх хусткамі, ахвяравалі на падножжа крыжоў манеты, сувоі, мяса, рыбу, птушак і інш., хадзілі да іх хрэсным ходам (найчасцей на Узвіжанне). Паводле павер'я, Т.к. прыплылі па Дняпры і Прыпяці з Кіева і засцерагаюць ад хвароб. Крыжоў было больш за 10 (вышыня ад 1 м да 2 м, шырыня 0,6—0,7 м). Найбольш вядомы т.зв. Тураўскі, ці Святы, крыж (вышынёй 2 м, шырыня 0,7 м), які стаяў на могілках в. Пагост на беразе р. Прыпяць. З 1979 зберагаецца ў Гомельскім абл. краязнаўчым музеі. Там жа захоўваюцца 2 крыжы (вышыня 1 м, шырыня 0,6 м), якія стаялі на тураўскіх Барыса-Глебскіх могілках. В вёсках Пагост і Верасніца над крыжамі былі пабудаваны капліцы. Некаторыя Т.к. знаходзяцца ў Тураўскай царкве. *Л.У.Дучыц.*

**ТЫА́РА** — трайная карона папы рымскага, якая ўскладалася на епіскапскую мітру, сімвалізавала траіснасць правоў папы як суддзі, заканадаўца і свяшчэннаслужыцеля. Існавала з 14 ст. Выраблялася з каштоўных металаў і ўпрыгожвалася каштоўнымі камянямі. Папа Павел VI у 20 ст. ахвяраваў сваю Т. бедным, а наступныя папы — Іаан Павел I і Іаан Павел II — наогул адмовіліся ад акта каранацыі.

**ТЭАКРА́ТЫЯ** (ад грэч. theos Бог + kratos улада) — форма праўлення, пры якой кіраўнік дзяржавы з'яўляецца адначасова і яе рэлігійным кіраўніком. Існавала ў 5—1 ст. да н.э. ў Іудзеі, дзе ўлада належала вярх. жрацу. Тэакратычнымі дзяржавамі былі *халіфаты* Амеядаў, Абасідаў, а таксама *Папская вобласць*, дзе папа ажыццяўляў і палітычную, і духоўную ўладу. У наш час тэакратычнай дзяржавай з'яўляецца *Ватыкан*

**ТЭАЛО́ГІЯ** — гл. ў арт. *Багаслоўе*

**ТЭАСО́ФІЯ** (ад грэч. theos Бог + sophia мудрасць) — у шырокім сэнсе Т. — містычнае богапазнанне. У адрозненне ад *багаслоўя*, якое абапіраецца на рэліг. догматы, асновай Т. з'яўляецца суб'ектыўны містычны вопыт, выкладзены ў выглядзе цэласнай сістэмы. Да Т. некаторыя даследчыкі адносяць герметызм, *гнастыцызм*, *кабалу*, неаплатанізм, разенкрэйцараўскае светаразуменне, а таксама шэраг вучэнняў 16—18 ст., якія знаходзяцца па-за царк. традыцыяй (Я.Бёме, Парацэльс, Л.К.Сен-Мартэн, Э.Сведэнбарг, Ф.Этынгер і інш.). Ф.В.Й.Шэлінг разумеў пад Т. сінтэз містычнага богапазнання і рацыянальнай філасофіі; набліжана да яго паняцце «свабоднай Т.» у У.С.Салаўёва. Ідэі Т. паслужылі прадметам асэнсавання М.Гандзі, Я.І. і М.К.Рэрыхаў, В.Кандзінскага і інш. У вузкім сэнсе Т. — рэліг.-містычнае вучэнне Я.П.Блавацкай і яе паслядоўнікаў. У асн.

працы Блавацкай «Тайная дактрына» (ч. 1—2, 1888) спалучаны канцэпцыі брахманізму, будызму, індуізму (вучэнне пра карму — пераўвасабленне чалавечай душы і касмічнай эвалюцыі як маніфестацыі духоўнага абсалюту), а таксама *акультызму* і некаторых элементаў гнастыцызму. Яна імкнулася аб'яднаць розныя веравызнанні праз раскрыццё тоеснасці сэнсу рэліг. сімвалаў і стварыць на гэтай аснове універсальную рэлігію, не звязаную пэўнай дагматыкай. Паводле яе вучэння, мэта чалавека — дасягненне акультных ведаў і звышнатуральных здольнасцей — ажыццяўляецца пры дапамозе эзатэрычнай традыцыі нешматлікіх «пасвячоных», або «майстроў», якія інспіруюць духоўную эвалюцыю чалавека. У 1875 у Нью-Йорку Блавацкая і амер. палкоўнік Г.Олкат заснавалі тэасофскае таварыства, уплыў якога хутка пашырыўся па краінах Еўропы і Азіі. У 1879 яго цэнтр перанесены ў Індыю. У канцы 1900 — пач. 1910 г. у тэасофскім таварыстве адбыўся раскол, у выніку чаго было створана антрапасофскае таварыства на чале з Р.Штэйнерам (гл. *Антрапасофія*).

ТЭДЖВІ́Д (араб. фанетыка, правільнае вымаўленне гукаў) кніга-падручнік па навучанні чытанню *Карана.* Змяшчаў указанні, як чытаць Свяшчэнную кнігу. У бел. татараў былі вядомыя рукапісныя Т. з асн. тэкстам на старатурэцкай (асманскай) мове і з тлумачэннем на бел. або польскай мовах (арабскім пісьмом). Т. ёсць у б-цы Мусульманскага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь.

*І.Б.Канапацкі.*

ТЭІ́ЗМ (ад грэч. theós Бог) — рэлігійны светапогляд, які зыходзіць з разумення Бога як абсалютнай асобы, што знаходзіцца па-за светам, стварыла яго і дзейнічае ў ім. Прызнанне замагільнасці Бога адрознівае Т. ад *пантэізму*, прызнанне непарыўнай актыўнасці Бога — ад *дэізму.* Найб. характэрны для генетычна звязаных паміж сабой *іудаізму, хрысціянства* і *ісламу.* Тэрмін упершыню ўжыты Р.Кедвортам.

ТЭФСІ́Р (у вымаўленні бел. татар т а ф с і р, т а п с і р; араб. — тлумачэнне, каментарый) — кніга-падручнік па тлумачэнні і каментарыі *Карана.* Дапамагаў зразумець змест Свяшчэннай кнігі. У бел. татар звычайна ў Т. арабскі тэкст (цытаты з Карана) пісалі гарызантальна, а пад ім наўскось — каментарый на бел. або польскай мовах (*арабскім пісьмом*). Т. — звычайна вельмі вял. па памерах кніга, ёсць Т. у 2 тамах. У наш час Т. надзвычай рэдкія і захоўваюцца ў татарскіх сем'ях як рэліквіі.

У б-цы Мусульманскага рэліг. аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь знаходзяцца 2 Т. 18 ст. Унікальны Т. 17 ст. (у 2 тамах) захоўваецца ў Цэнтр. навук. б-цы Нац. АН Беларусі.

*І.Б.Канапацкі.*



УВАСКРЭ́СЕННЕ — цудоўнае вяртанне да жыцця распятага на крыжы і памерлага ў пакутах Ісуса Хрыста, якое, паводле вучэння царквы, было правобразам надыходзячага ўсеагульнага ўваскрэсення мёртвых для апошняга страшнага суда над імі. У. — адлюстраванне ў рэліг.-фантастычнай форме вечнага веснавога адраджэння прыроды, якая «памерла» восенню і заставалася мёртвай усю зіму. Запазычана хрысціянствам з больш стараж. усходніх рэліг. культаў.



**Уваскрэсенне.** 19 ст. Беларуская іканапісная школа.

УВЯДЗЕ́ННЕ ў х р а м Б а г а р о д з і ц ы — адно з *дванадзесятых свят* рус. праваслаўя. Адзначаецца 21 лістапада (4 снежня). У яго аснову пакладзена міфічная падзея — увядзенне трохгадовай Марыі (будучай маці *Ісуса Хрыста*) у Іерусалімскі храм, куды яна была аддадзена бацькамі на выхаванне. Падкрэсліваючы асаблівую значнасць гэтай падзеі, царква акцэнтуе ўвагу на прыкладзе, які падалі бацькі будучай Багародзіцы, прылучыўшы дачку з ранняга ўзросту да рэліг. веры. Яны паказалі ёй сапраўдны шлях у жыцці, які ўрэшце прывёў яе да таго, што менавіта Марыя была выбрана Богам для ажыццяўлення яго плана «выратавання чалавецтва» ў якасці зямной маці Хрыста. Царк. прапаведнікі ўнушаюць усім хрысціянам, каб яны гэтак жа ставіліся да рэлігійнага выхавання сваіх дзяцей, прыводзілі іх змалку ў храм на набажэнствы, знаёмілі з царк. абрадамі, звычаямі і традыцыямі.



**Узнясенне.** Сярэдзіна 17 ст. Беларуская іканапісная школа.

УГО́ДНІК — у рэлігійным уяўленні святы, які дагадзіў Богу сваім бязгрэшным жыццём.

УЗНЯСЕ́ННЕ — адно з *дванадзесятых свят* рускай праваслаўнай царквы, якое адзначаецца на 40-ы дзень пасля Вялікадня. Рэліг. аснову складае евангелічная легенда пра ўзнясенне Ісуса Хрыста на неба ў прысутнасці яго вучняў. Свята зарадзілася ў 4—5 ст., а сучасны выгляд і богаслужэбны рытуал набыло толькі ў 8—9 ст. Ідэолагі сучаснага праваслаўя трактуюць У. як напамін аб прыярытэце духоўнага перад цялесным, ідэальнага перад матэрыяльным, узвышанага перад ганебным.

УЛАДЗІ́МІР СВЯТАСЛА́ВІЧ (у хрышчэнні Васіль; ? — 1015) — вялікі князь кіеўскі [каля 980—1015]. Пазашлюбны сын Святаслава Ігаравіча і Малушы Любячанкі — ключніцы-рабыні княгіні Вольгі. Паводле прапановы свайго дзядзькі Дабрыні быў пасланы ў Ноўгарад у якасці князя-намесніка (969). Пасля смерці Святаслава (972) паміж яго сынамі пачаліся жорсткія ўсобіцы. Уладзімір уцёк у Скандынавію. Неўзабаве з атрадам варагаў вярнуўся ў Ноўгарад і выгнаў брата Яраполка. Каля 980 рушыў на Кіеў. Спыніўшыся каля Полацка, Уладзімір пасватаўся да Рагнеды Рагвалодаўны — дачкі полацкага кн. Рагвалода. Калі Рагнеда адмовілася выйсці за яго замуж, Уладзімір захапіў Полацк, забіў Рагвалода, яго жонку і 2 сыноў, а Рагнеду прымусіў стаць сваёй жонкай. Пасля захапіў Кіеў, забіў і Яраполка. У 981 адваяваў у Польшчы Чэрвенска-Перамышльскую зямлю, у 981—982 рабіў паходы на вяцічаў, у 983 — на яцвягаў, у 984 — на радзімічаў. Пашырыў і ўмацаваў межы Кіеўскай Русі. Для абароны паўд. межаў дзяржавы ад нападаў качэўнікаў (печанегаў, чорных клабукоў) у 988 пабудаваў гарады-крэпасці на р. Трубеж, Сула, Стугна, Дзясна. Каб узмацніць сваю ўладу, напачатку выкарыстоўваў язычніцкую рэлігію і стварыў пантэон язычніцкіх багоў на чале з Перуном. У 987 па просьбе візант. імператара Васіля ІІ дапамог яму задушыць паўстанне ў Візантыі пры ўмове, што сястра імператара Ганна будзе аддадзена за яго замуж. Перад узяццем шлюбу Уладзімір павінен быў прыняць хрысціянства і пакінуць Херсанес (Корсунь), які ён аблажыў сваім войскам. У 988—989 пры актыўнай яго дзейнасці хрысціянства стала дзярж. рэлігіяй Кіеўскай Русі (гл. *Хрышчэнне Русі*). Уладзімір лічыў будаўніцтва цэркваў важнай справай дзяржавы. Пабудаваў у Кіеве велічны храм св. Багародзіцы, для чаго запрасіў візант. майстроў, выдаў грамату пра выдзяленне ёй дзесяціны. Каля 1011 грамата дапоўнена, створаны т. зв. Статут Уладзіміра. Пры Уладзіміры Кіеўская Русь дасягнула высокага паліт., эканам. і культ. ўзроўню: развіваліся земляробства, рамёствы, будаўніцтва, заснаваны школы падрыхтоўкі служылай знаці і духавенства. Наладзіў паліт., эканам. і культ. сувязі з Візантыяй, Балгарыяй, Польшчай, зах.-еўрап. краінамі. У канцы яго княжання паявіліся прыкметы раздробленасці Кіеўскай Русі. Меў 12 сыноў ад 5 жонак, 1-й была Рагнеда. Вялікая колькасць дзяцей, што прыпісваюцца Рагнедзе (4 сыны і 2 дачкі), тлумачыцца няўважлівым рэдагаваннем летапісаў. Верагодна, заснаваў г. Ізяслаўль (Заслаўе) на Свіслачы ў канцы 10 ст. і назваў яго па імю Ізяслава Уладзіміравіча — свайго сына ад Рагнеды, якому вярнуў «отчину» (зямлю продкаў) — Полацкае княства. Аб'яўлены праваславу царквой роўнаапостальным і кананізаваны, як лічаць, у сярэдзіне 13 ст. па прапанове кн. Аляксандра Неўскага. Найб. старажытны спіс «Жыція Уладзіміра» адносіцца да 13—14 ст. У нар. памяці застаўся шчодрым князем, якога ўслаўляюць быліны і называюць «Краснае Сонейка».

*Літ.:* Повесть временных лет. Ч. 1—2. М.; Л., 1950; История России: С древнейших времен до конца XVII в. М., 1997; Толочко П. Володимир Святий. Ярослав Мудрий. Київ, 1996; Заяц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995.

*Г.В.Штыхаў.*

«У́НІЯ» — рэлігійна-культурны часопіс бел. уніяцкай грамадскасці. Выдаваўся ў 1990—95 у Мінску на бел. мове. Мэта часопіса — адраджэнне і папулярызацыя уніяцкай царквы на Беларусі, абуджэнне нац. свядомасці, выхаванне хрысц. культуры. Змяшчаў хроніку сучаснага уніяцкага жыцця, інтэрв'ю, рэліг. тэксты, арыгінальныя і перакладныя літ. творы, артыкулы па тэалогіі, гісторыі, мастацтве. Гіст. тэматыка пададзена артыкуламі Міхаліны «Жыццяпіс святой пакутніцы уніі», С.Мамчыца «Апалогія уніі», «Грэка-каталіцкая царква на Украіне: выхад з падполля» (1990, № 1); С.Абламейкі «Архімандрыт Леў Гарошка», Л.Гарошкі «Няўміручая ідэя», С.Горбіка «Хорам на Нямізе» — пра Петрапаўлаўскую царкву (1990, № 2); С.Абламейкі «Невядомая унія: перадгісторыя ў 20 стагоддзі», П.Богдана «Царква: аналітычны агляд», А.Ліцьвіна «Усходнія каталіцкія абрады праз стагоддзі» (1995, № 4). Выйшла 5 нумароў. Заснавальнік С.Абламейка, гал. рэдактар І.Дубянецкая.

*А.Э.Гардзіенка.*

У́НІЯ ЦАРКО́ЎНАЯ — арганізацыйнае аб'яднанне пад адзіным кіраўніцтвам дзвюх або некалькіх цэркваў на ўмовах вяршэнства дагматыкі адной з іх пры захаванні іншымі своеасаблівасцей у абраднасці. У.ц. заключаліся пераважна рымска-каталіцкай царквой з праваслаўнай, а таксама са стараж. ўсходнімі (нехалкідонскімі) цэрквамі з мэтай падначаліць іх уладзе рымскіх пап. Пры гэтым сцвярджалася, што т.ч. аднаўляецца былое адзінства ўсяленскай хрысціянскай царквы. З 13 ст. візант. імператары таксама імкнуліся пайсці на У.ц. з папствам, каб атрымаць яго дапамогу ў барацьбе супраць туркаў. Рымскія папы двойчы спрабавалі заключыць У.ц. з Канстанцінопальскім патрыярхатам: у 1274 падпісана Ліёнская У.ц. (не падтрымана большасцю духавенства і народа Візантыі, асуджана Канстанцінопальскім саборам 1285), у 1439 — ***Фларэнтыйская унія 1439*** (адхілена Іерусалімскім 1443 і наступнымі царк. сабора-

мі; у ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве яе беспаспяхова імкнуліся ўвесці мітрапаліты *Ісідор* і *Грыгорый Балгарын*). У 1596 рымска-каталіцкая царква падпісала з правасл. царквой Рэчы Паспалітай *Брэсцкую унію 1596* (гл. *Уніяцкая царква* на Беларусі). У 17 ст. ў Венгрыі з мясц. правасл. царквой была заключана Ужгарадская унія 1646 [напачатку дзейнічала на тэр. Закарпацця і Славакіі, у 1699 пашырана на правасл. насельніцтва Альба-Юлійскай епархіі Трансільваніі (цяпер у Румыніі)]. Наступная Трансільванская унія 1760, заключаная па ініцыятыве аўстрыйскіх улад, ахапіла ўжо большую частку гэтай тэрыторыі. У.ц. былі падпісаны папствам і з некат. стараж.-ўсх. цэрквамі, у выніку чаго былі створаны уніяцкія цэрквы халдзейскага (у Іраку), мараніцкага (у Ліване і Сірыі), армянскага (на чале з патрыярхам кілікійскім у Турцыі), сірыйскага, копцкага (у Егіпце) абрадаў. Ідэя У.ц. была выкарыстана і *Рускай праваслаўнай царквой* у дачыненні да *стараабраднікаў*: у 1800 было аформлена адзінаверства — кірунак, прыхільнікі якога падначальваліся *Сіноду*, але службу ім дазвалялася спраўляць паводле сваіх старых абрадаў.

*Літ.:* Макарий (Булгаков М.П.) История Русской церкви. Кн. 5. М., 1996. *Ю.В.Бажэнаў, А.В.Міраковіч.*

УНІЯ́ТЫ — прыхільнікі *уніі царкоўнай.*

УНІЯ́ЦКАЯ ЦАРКВА́ на Беларусі, грэка-каталіцкая царква на Беларусі, аб'яднанне уніяцкіх епархій на Беларусі ў 1596—1839. Створана ў выніку *Брэсцкай уніі 1596*, калі праваслаўная царква на Беларусі і Украіне (гл. *Кіеўская мітраполія*) арганізацыйна аб'ядналася з каталіцкай царквой на ўмовах падпарадкавання рымскаму папе і прыняцця каталіцкай дагматыкі пры захаванні правасл. абраднасці. Спробы ажыццявіць *унію царкоўную* ў ВКЛ рабіліся з 15 ст. (гл. *Канстанцкі сабор 1414—18*). *Фларэнтыйскую унію 1439*, падпісаную з боку Кіеўскай мітраполіі мітрапалітам *Ісідорам*, не прынялі ў ВКЛ; аднак шэраг літоўска-навагрудскіх мітрапалітаў былі яе прыхільнікамі, у т.л. *Грыгорый Балгарын, Місаіл, Іосіф I.* На Брэсцкім саборы 1596 большасць правасл. епіскапаў на чале з мітрапалітам Міхаілам *Рагозам* падтрымала унію. Новаўтвораная У.ц. захавала свае структуры; усе правасл. епархіі, якія ахаплівалі бел. землі, сталі уніяцкімі (Пінска-Тураўская уніяцкая епархія, Полацкая уніяцкая архіепархія, Смаленская і Уладзіміра-Берасцейская епархіі), а кіраўнікі У.ц. захавалі тытул мітрапалітаў кіеўскіх з кафедрай у Навагрудку, Вільні, часам у Варшаве (з 18 ст.). Дагматычныя, абрадава-літургічныя, іерархічныя і юрыд. асновы У.ц. вызначаны 33 «берасцейскімі артыкуламі», прызнанне якіх з'яўлялася ўмовай для заключэння уніі.

Артыкулы былі заклікаы ліквідаваць дэзарганізацыю правасл. царквы ва ўсіх сферах духоўнага, матэрыяльнага і культурнага жыцця і мелі выразную этнаахоўную накіраванасць. Яны абгаворвалі дзярж. гарантыі памеснасці У.ц., стваралі перашкоду яе лацінізацыі і паланізацыі, прадугледжвалі захаванне адм. самастойнасці і незалежнасці ад польскага касцёла, павышэнне сац. статуса епіскапату, захаванне ўсх.-візантыйскай традыцыі. З пачатку заснавання У.ц. сустрэла моцнае супраціўленне з боку духавенства і свецкіх людзей, пераважна мяшчан (у канцы 16 — пач. 17 ст. іх узначальваў кн. К.В.Астрожскі), чыя апазіцыйнасць выяўлялася ў розных формах — ад пратэстаў, соймавых дэбатаў, антыуніяцкай палемікі, дзейнасці правасл. *брацтваў* да рознага роду выступленняў аж да паўстанняў (Магілёўскае паўстанне 1618, Віцебскае паўстанне 1623). У.ц. пашырала свой уплыў шляхам стварэння ўласнай сістэмы асветы, праз палемічную літаратуру, кнігавыдавецкую дзейнасць, прапаведніцкае майстэрства, уніяцкія брацтвы, сродкамі мастацтва, заснаваннем сеткі храмаў і манастыроў, але не пазбегла прымусу. У.ц. карысталася ў літургіі *царкоўнаславянскай мовай*, якая ў 17 ст. падверглася моцнай беларусізацыі, і бел. («рускай»), замацаванай у 1636 як мова казанняў. Палітыка правячых колаў Рэчы Паспалітай адносна У.ц. мела неадназначны, супярэчлівы характар і неаднаразова мянялася са зменай грамадска-паліт. абставін. З аднаго боку, улады падрымлівалі У.ц., бо яна адпавядала іх палітыцы цэнтралізацыі дзяржавы, з другога — жадалі зліць уніятаў з рыма-католікамі. Недапушчэнне уніяцкай іерархіі ў Сенат сведчыла пра прыніжаны статус У.ц., стаўленне да яе дзяржавы як да другараднай.

Нягледзячы на дэкрэт Кангрэгацыі прапаганды веры ад 7.2.1624, зацверджаны папам і на пратэсты грэка-каталіцкага духавенства, перавод уніятаў у касцёлам у лац. абрад працягваўся ўвесь час існавання У.ц. Рэформы мітрапаліта І.В.*Руцкага* [1613—37] па ўмацаванні царквы і ўзвышэнні яе культ. ўзроўню (у т.л. стварэнне ордэна *базыльян* і арганізацыя базыльянскіх школ), прыклад аўтарытэту М.*Смятрыцкага*, які прыняў унію, прывялі да росту колькасці паслядоўнікаў У.ц. З 1630-х г. на бок уніі сталі схіляцца сімпатыі бел. шляхты, на той час акаталічанай у асн. масе.

Аднак большасць паствы У.ц. ўвесь час складала сялянства. Асвячэнне іерусалімскім патрыярхам *Феафанам* у 1620 новай правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай (епіскапы не былі дапушчаны на кафедры каралём Жыгімонтам III), падзел у 1635

культавых устаноў граматай Уладзіслава IV паміж праваслаўнымі і уніятамі зацвердзілі падзел усх. царквы на 2 легальныя кіеўскія мітраполіі — уніяцкую і праваслаўную і замацавалі канфесіянальны раскол бел.-укр. грамадства. Спробы яго паяднання рабіліся на саборах 1629 у Кіеве і 1680 у Любліне, скліканых па ініцыятыве уніяцкай іерархіі, але праігнараваных праваслаўнымі. У 1630-я г. Руцкі выношваў праект стварэння на базе Кіеўскай мітраполіі патрыярхату, агульнага для правасл. і уніяцкай цэркваў, чым зацікавіў правасл. апанентаў, у т.л. П.*Магілу*. Рэалізацыя гэтай ідэі магла прывесці да стварэння на тэр. ВКЛ і Украіны новага сусв. цэнтра хрысціянства і ўзвышэння міжнар. прэстыжу дзяржавы, але яна не сустрэла падтрымкі папства, урада Рэчы Паспалітай, не знайшла разумення правасл. насельніцтва. Паводле ананімнай рэляцыі, прадстаўленай у жн. 1647 у Рым для Кангрэгацыі прапаганды веры, на той час на тэр. Рэчы Паспалітай было каля 4 тыс. уніяцкіх і больш як 13,5 тыс. правасл. прыходаў. У час нар. вызв. вайны бел. і укр. народаў 1648—54 і вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 У.ц. апынулася на мяжы пагібелі.

На тэр., занятай маскоўскім войскам, дзейнасць У.ц. была забаронена. Факт падпарадкавання правасл. Кіеўскай мітраполіі ў Рэчы Паспалітай Маскоўскаму патрыярхату ў 1686 значна змяніў адносіны бел.-укр. грамадства да уніі, у якой многія ўбачылі аснову незалежнасці ад Расіі. Рост прауніяцкіх настрояў, унутраны раскол у правасл. царкве, адыход ад яе шляхты, спад паліт. значэння казацтва разам з рэформамі мітрапаліта Руцкага, А.*Сяляві*, Ц.*Жахоўскага*, Л.*Кішкі* па ўзвышэнні культ. ўзроўню У.ц. спрыялі павелічэнню яе аўтарытэту. Пасля Андросаўскага перамір'я 1667 урад Рэчы Паспалітай рэзка ўзмацніў падтрымку У.ц. Каралі Міхал Вішнявецкі [1669—73] і асабліва Ян III Сабескі [1674—96] адкрыта выяўлялі прыхільнасць да У.ц., хоць і захоўвалі пэўныя прывілеі праваслаўных. У канцы 17 — пач. 18 ст. У.ц. ў Рэчы Паспалітай дасягнула найб. значных поспехаў: у 1692 да яе далучана Перамышльская, у 1700 — Львоўская, у 1702 — Луцкая епархіі, што ў значнай ступені тлумачылася незадаволенасцю мясцовай правасл. іерархіі разрывам Кіеўскай мітраполіі з Канстанцінопалем і падпарадкаваннем яе Маскоўскаму патрыярхату. Уніятаў тады стала больш, чым праваслаўных. Гэты працэс ішоў у значнай меры добраахвотна.

У час Паўночнай вайны 1700—21 У.ц. значна пацярпела ад саюзнага Рэчы Паспалітай рас. войска: расправа з полацкімі базыльянамі ў 1705, разбурэнне *Полацкага Сафійскага сабора* ў 1710 і інш. У 18 ст. адбывалася лацінізацыя У.ц. — перайманне насуперак «берасцейскім артыкулам» рымска-каталіцкай абраднасці. Гэта было вынікам польскай паліт., грамадскай і культ. экспансіі на «рускіх» землях Рэчы Паспалітай (крайнім праяўленнем гэтай экспансіі стаў «Праект аб знішчэнні Аб'яднанай Русі»). На Беларусі лацінізацыя была больш значнай, чым на Украіне; яе праваднікамі былі базыльяне, якія паходзілі з рымска-каталіцкіх шляхецкіх родаў, і выхаваныя ў лац. школах епіскапы. На думку прыхільнікаў лацінізацыі, грэка-каталіцкая царква не апраўдвала спадзяванняў польскіх ініцыятараў уніі на паланізацыю беларусаў і ўкраінцаў. Гал. ролю ва уніфікацыі абраднасці на лац. ўзор адыграў *Замойскі сабор 1720*. Аднак пасля яго ва уніяцтве сталі выразна акрэсліваецца 2 плыні: першая настойвала на засваенні вопыту і здабыткаў рымска-каталіцкай царквы, а другая не прымала замойскіх наватарстваў і ахоўвала старыя правасл. традыцыі, адстойвала чысціню абраду. За ўвесь перыяд дзейнасці У.ц. зрабіла важкі ўклад у развіццё асветы, кнігадрукавання, бібліятэчнай, архіўнай справы, жывапісу, скульптуры, муз. і тэатр. мастацтва.

Уніяцкае асяроддзе выхавала шэраг выдатных царк. і грамадскіх дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры: І.*Пацея*, І.Руцкага, Л.*Крэўзу*, І.*Марахоўскага*, А.Сяляву, Л.Кішку, П.Янкоўскага, гісторыкаў *Я.Сушу*, І.Кульчынскага, І.Даніловіча, славіста М.*Бабров́скага* і інш. Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай уніяты мелі тут 8 епархій з 9300 прыходамі, 10 300 святарамі, 4,5 млн. вернікаў і 172 манастыры з 1458 манахамі. На 1790 на бел. землях Рэчы Паспалітай уніятамі былі ад $^2/_3$ да $^3/_4$ насельніцтва (у сельскай мясцовасці да 80%). У 1772—95 тэрыторыі, дзе жылі уніяты, апынуліся пад расійскай і аўстрыйскай уладай і невял. колькасць (каля 70 тыс. чал.) — пад прускім панаваннем, але ў 1807 і яны перайшлі пад уладу Расіі. На тэр. Расійскай імперыі У.ц. спачатку захоўвала сваю маёмасць, правы і прывілеі, але пазбавілася дзярж. падтрымкі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) уніяты на далучаных да Расіі бел. землях заставаліся ў складзе Полацкай архіепархіі на чале з *Я.Смагаржэўскім* і былі падпарадкаваны Ліфляндскай, Эстляндскай і Фіняндскай юстыц-калегіі. У 1780—83 адбыліся значныя пераходы з уніяцтва ў праваслаўе. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай указ ад 22.4.1794 «Аб устраненні ўсялякіх перашкод для павароту уніятаў да праваслаўнай грэчаскай царквы» таксама садзейнічаў такім пераходам. Усяго, паводле звестак гісторыка Г.*Кіпрыяновіча*, са жн. 1794 да сак. 1795 да праваслаўя было далучана 1 483 111 украінцаў і беларусаў. 19.10.1795 указам Кацярыны II былі скасаваны ўсе уніяцкія епархіі, акрамя Полацкай. Папа Пій VI даручыў рымска-каталіцкаму мітрапаліту С.*Богушу-Сестранцэвічу* ажыццяўляць кіраўніцтва і над У.ц. З 26.1.1798 уніяты былі падпарадкаваны дэпартаменту рымска-каталіцкіх спраў,

якi выдзелiўся ў асобны орган з юстыц-калегii, а з 1801 — створанай замест яго рымска-каталiцкай духоўнай калегii, у склад якой прадстаўнiкi ад унiяцкага духавенства нават не ўваходзiлi. Указам ад 28.4.1798 былi створаны 2 новыя унiяцкiя епархii: Брэсцкая i Луцкая. У 1804 полацкi архiепiскап I.*Лiсоўскi* дамогся, каб у склад рымска-каталiцкай духоўнай калегii былi ўведзены 1 епiскап i па 1 засядацелю ад кожнай з 3 епархiй. З канца 18 ст. адбывалiся пераходы з унiяцтва i ў лац. абрад. Так, у 1803 у полацкай архiепархii ў лац. абрад перайшло 100 тыс. чал. (паводле iнш. звестак — каля 200 тыс. чал.), у Дзiсенскiм i Вiленскiм пав. — 20 тыс. чал. Гэтаму спрыялi мясц. памешчыкi-католiкi.

У лiп. 1806 былi зацверджаны сумесныя прапановы Богуша-Сестранцэвiча i Лiсоўскага аб рашэннi вярнуць унiятаў, якiя перайшлi ў каталiцтва, да унii i не прымаць iх «у рымскi абрад нi пад якiм выглядам». 25.10.1807 былi пацверджаны ўсе ўказы, якiя зберагалi цэласнасць У.ц. Але i У.ц. iмкнулася вяртаць сваю былую паству. Указ ад 28.8.1797 забараняў унiяцкiм святарам праводзiць агiтацыю сярод правасл. насельнiцтва, але ўсё ж меў месца значны адток з праваслаўя ва унiяцтва. У 1809 была створана новая Вiленская епархiя. Базыльянскiя кляштары былi падпарадкаваны епархiяльным архiрэям. Пры iмператару Мiкалаю I у зах. губернях стала праводзiцца палiтыка «ўмацавання рускай народнасцi i праваслаўнай веры», што падразумявала i рэлiг. унiфiкацыю. У канцы 1827 быў складзены i падпiсаны мiнiстрам народнай асветы i гал. кiраўнiком Дэпартамента замежных веравызнанняў А. Шышковым праект па скасаваннi У.ц. Для гэтага трэба было спачатку адарваць У.ц. ад рымска-каталiцкай. Указам ад 22.4.1828 была заснавана незалежная ад рымска-каталiцкай царквы грэка-унiяцкая калегiя i замест 4 створаны 2 епархii: Лiтоўская i Беларуская з кансiсторыямi адпаведна ў Жыровiчах i Полацку. Абвастрыўся канфлiкт памiж ордэнам базыльян i белым духавенствам, што аслабляла царкву. Удзел базыльян ў паўстаннi 1830—31 прывёў да скасавання ў Рас. iмперыi $^{2}/_{3}$ iх манастыроў, а каля 200 манахаў пакiнулi ордэн i перайшлi ў каталiцкiя кляштары. У 1833 у Гродзенскай губ. было 472 тыс. унiятаў, у Мiнскай — 376 тыс., Вiцебскай — 273 тыс., Магiлёўскай — 228 тыс.

У 1835 быў створаны Сакрэтны к-т па унiяцкiх справах. 1.1.1837 грэка-унiяцкая калегiя была выведзена з-пад улады мiнiстра ўнутр. спраў i падпарадкавана обер-пракурору Св. Сiнода. Смерць у 1831—38 пяцi епiскапаў (А.Галаўня, К.Серацiнскi, Л.Явароўскi, I.Матусевiч, I.Жарскi) i мiтрапалiта I.I.*Булгака*. — працiўнiкаў злiцця У.ц. з праваслаўем — аблегчыла рэалiзацыю планаў скасавання унii (гл. *Полацкi царкоўны сабор 1839*). У 1596—1839 У.ц. ўзначальвалi мiтрапалiты кiеўскiя: Мiхаiл Рагоза (1596—99), Iпацiй Пацей (1599—1613) Iосiф Вельямiн Руцкi (1613—37), Рафаiл *Корсак* (1637—40), Антон Сялява (1641—55), Гаўрыiл *Календа* (1665—74), Цыпрыян Жахоўскi (1674—93), Леў *Заленскi* (1694—1708), Георгiй *Вiннiцкi* (1710—13), Леў Кiшка (1714—28), Афанасiй *Шаптыцкi* (1729—45/46?), Фларыян *Грабнiцкi* (1748—62), Фелiцыян *Валадковiч* (1762—78), Леў *Шаптыцкi* (1779—80), Ясон Смагаржэўскi (1780—88), Феадосiй *Растоцкi* (1788—95), Iраклiй Лiсоўскi (1806—09), Рыгор *Кахановiч* (1809—14), Iосiф Iасафат Булгак (1817—38).

Лiквiдацыя унii выклiкала пратэсты ў шэрагу мясцовасцей Беларусi, аб чым сведчаць судовыя справы аб ухiленнi б. унiятаў ад праваслаўя; частка з iх здолела перайсцi ў рыма-католiкi. У 1840—50-я былi праведзены карныя аперацыi супраць жыхароў вёсак Дудаковiчы Магiлёўскай губ., Дзярновiчы Вiцебскай губ., Поразава Гродзенскай губ., якiя не згаджалiся прымаць праваслаўе. Захаванне схiльнасцi да У.ц. аж да 1860-х г. на Беларусi выкарыстоўваў у рэв. агiтацыi К.Калiноўскi. Ён заклiкаў да адраджэння У.ц., якую лiчыў нац. царквой бел. народа. У 1864—75 У.ц. была скасавана на Падляшшы (у Люблiнскай, Сувалкаўскай i Сядлецкай губ.), дзе ў 1875 было 159 880 прыхаджан i 538 парафiй. Супрацiўленне скасаванню унii тут было найб. упартым. У вёсках Дралёва, Палубiн i Пратулiн пры сутыкненнi сялян-унiятаў з войскам былi забiтыя i параненыя (гл. *Святыя i блажэнныя унiяцкiя*). Пасля 1875 У.ц. засталася толькi ў Галiцыi, на ўкр. землях у складзе Аўстра-Венгрыi. З пач. 20 ст. некаторыя дзеячы бел. нац. руху звярталiся да iдэi адраджэння У.ц. Адраджэннем унiяцтва ў Зах. Беларусi займалiся мiсiянерскiя цэнтры ў Альбярцiне (гл. *Альбярцiнская каталiцка-езуiцкая* група), Вiльнi, Друi, Пiнску. Першы унiяцкi прыход быў адкрыты ў 1924 у в. Гола Гродзенскага пав. У 1927 налiчвалася 14 прыходаў, у 1932—36 прыходаў.

Актыўнымi дзеячамi на нiве адраджэння унiяцкай iдэi былi бiскуп Ю.*Матулевiч*, ксяндзы В.*Адважны*, В.Аношка, I.*Бобiч*, Л.*Гарошка*, В.*Гадлеўскi*, А.Зянкевiч, А.*Станкевiч*, У.*Талочка*, А.Цiкота. Але унiяцкi рух у Зах. Беларусi ў 1920—30-я г. сутыкнуўся з моцным супрацiўленнем розных грамадска-палiт. сiл, найперш з боку правасл. царквы, якая за пасляўнiяцкi перыяд умацавала свае пазiцыi. Неадназначна ставiлiся да унiяцтва польскiя ўлады, памешчыкi i рымска-каталiцкая царква: калi частка яе духавенства падтрымлiвала унiяцтва, бо бачыла ў iм сродак пашырэння ўплыву Ватыкана, iншыя лiчылi унiяцкую кампанiю антыпольскай па сваiм характары. У 1939 укр. мiтрапалiт Ан-

дрэй Шаптыцкі стварыў пад сваёй юрысдыкцыяй Бел. грэка-каталіцкі экзархат на чале з А.*Неманцэвічам*. У ліст. 1941 папа Пій XII зацвердзіў апошняга апостальскім адміністратарам для католікаў усх. абраду на Беларусі. Але пасля арышту ў 1942 Неманцэвіча ням. акупац. уладамі дзейнасць экзархата спынілася, і епархіяльных структур у бел. уніятаў з таго часу не існавала. У 1946 Львоўскі сабор скасаваў Укр. У.ц. і пастанавіў увайсці ў склад Рускай правасл. царквы, аднак у Зах. Украіне богаслужэбная дзейнасць асобных уніяцкіх святароў увесь час працягвалася ў падполлі. Сярод беларусаў прыхільнікі У.ц. былі ў эміграцыі. З канца 1980-х г. пачалося масавае легальнае адраджэнне У.ц. на Украіне.

На Беларусі таксама сталі стварацца суполкі вернікаў-уніятаў (пераважна з інтэлігенцыі). Душпастырам для беларусаў-уніятаў замежжа з'яўляецца апостальскі візітатар А.Надсон. У 1994 Ватыкан афіцыйна зацвердзіў для бел. уніятаў беларускамоўную версію літургічных тэкстаў. На 1.1.2001 на Беларусі зарэгістравана аўтаномна 13 уніяцкіх суполак у Баранавічах, Брэсце, Віцебску, Гомелі, Гродне, Івацэвічах, Лідзе, Магілёве, Маладзечне, Мінску, Полацку. Паводле сваёй унутр. структуры яны аб'яднаны ў дэканат. У 1990—95 выдаваўся час. «*Унія*», выдаюцца газ. «Царква» (з 1995), «Шлях да Хрыста» (з 1999), «Наша вера» (з 2000).

У гістарычнай навуцы існуюць розныя пункты гледжання на гісторыю і ролю У.ц., што ўскладняе яе аб'ектыўнае вывучэнне. У рэліг. гістарыяграфіі рымска-каталіцкія і грэка-каталіцкія даследчыкі падаюць яе ў апалагетычным, праваслаўныя — у дыскрэдытацыйным духу. Пры гэтым каталіцкі бок заяўляе, што унія — гэта сродак адрадзіць страчанае былое адзінства ўсяленскай хрысціянскай царквы; праваслаўны бок адзначае, што католікі бясспрэчнай умовай усякай уніі ставяць прызнанне сваёй дагматыкі, хаця ўласна каталіцкія догматы сталі з'яўляцца толькі з канца 6 ст. і фарміраваліся аж да 20 ст. У бел. гістарыяграфіі сярод інш. можна вылучыць 2 процілеглыя погляды на прычыны ўзнікнення, прызначэнне, шляхі пашырэння, метады дзейнасці, ролю У.ц. ў гістарычным лёсе Беларусі, наступствы яе скасавання і альтэрнатыўныя ацэнкі яе дзеячаў. Каля вытокаў першай гістарыяграфічнай канцэпцыі знаходзяцца працы М.В.Каяловіча, Ю.Ф.Крачкоўскага і інш., якія безумоўна крытыкавалі У.ц., падавалі яе паслухмянай зброяй у руках польска-езуіцкіх колаў для акаталічвання і паланізацыі бел. народа і г.д. Многія прадстаўнікі нац.-адраджэнскага кірунку (В.Ластоўскі, А.Станкевіч, А.Цвікевіч) лічылі з'яўленне У.ц. заканамерным і станоўчым працэсам развіцця ідэі аб'яднання праваслаўя і каталіцызму, бачылі ва уніяцтве спробу Беларусі самаакрэсліцца ў хрысціянскім свеце і г.д. За апошнія дзесяцігоддзі гісторыю уніі і У.ц. асвятлялі бел. гісторыкі, філасофы, філолагі С.Абламейка, М.Гайдук, В.Грыгор'ева, А.Грыцкевіч, Ю.Драгун, У.Кароткі, У.Конан, Ю.Лабынцаў, Л.Лыч, Я.Мараш, С.Марозава, А.Мірановіч, С.Падокшын, І.Саверчанка, У.Сосна, А.Філатава, М.Хаўстовіч, Л.Царанкоў, В.Цяплова і інш. Асабліва праявілася цікавасць да уніяцкай тэматыкі ў 1990-я г.

Хаця навук. дыскусія ў поглядах на У.ц. працягваецца, ідзе адмаўленне ад крайнасцей вышэй названых канцэпцый, адыход ад спрошчанага разумення «берасцейскага» працэсу, пашырылася кола даследчыкаў і сам прадмет даследаванняў, узмацнілася дакументальная база даследаванняў.

*Кр.:* Уния в документах. Мн., 1997; Архіў уніяцкіх мітрапалітаў. Дак. па гісторыі царквы ў Беларусі (XV—XIX стст. у фондзе «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі»: Давед. Мн.; Полацк, 1999.

*Літ.:* Мараш Я.Н. Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии (1918—1939). Мн., 1983; Католицизм в Белоруссии: традиционализм и приспособление. Мн., 1987; Зноско К. Исторический очерк церковной унии, ее происхождение и характер. М., 1993; Берестейська унія (1596—1996): Статті й матеріали. Львів, 1996; Гайдук Н. Брестская уния 1596 г. Мн., 1996; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі ў канцы XVII — пачатку XIX (конец XVII—XX ст.). Мн., 1996; Марозава С.В. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596—1839 гг.). Гродна, 1996; Брэсцкай царкоўнай уніі — 400: Матэрыялы міжнар. навук. канф. Брэст, 1997; Материалы науч.-богословской конф., посвящ. памяти преподобномученика Афанасия, игумена Брестского и 400-летию Брестских церковных соборов. Мн., 1997; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура: філас.-гіст. аналіз. Мн., 1998; Канфесіі на Беларусі (канец XVIII—XX ст.). Мн., 1998; Гудзяк Б. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат и генеза Берестейської унії. Львів, 2000; Грыцкевіч А. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 6; Абламейка С. Хай будуць усе адно // Бел. мінуўшчына. 1994. № 4; Тимошенко Л.В. Артикули Берестейської унії 1596 р. // Український істор. журн. 1996. № 2; Unia Brzeska: Geneza, dzieje i Konsekwencje w Kulturze narodów słowiańskich. Kraków; Dyługowa H. Dzieje Unii Brzeskiej (1596—1918). Warszawa, Olsztyn, 1996; Unia brzeska z perspektywy czterech stuleci. Lublin, 1998.

*С.В.Марозава, А.М.Філатава.*

УНІЯЦТВА (ад лац. unio саюз, яднанне) — царкоўная плынь, заснаваная на саюзе розных хрысціянскіх цэркваў з рымска-каталіцкай царквой ва ўмовах прызнання вяршэнства папы рымскага і каталіцкай дагматыкі пры захаванні традыцый рэліг. культу і выкарыстанні адпаведна традыц. сакральнай ці народнай мовы ў богаслужэнні. Да У. належаць цэрквы грэчаскага (б. правасл.), армянскага, копцкага (у Егіпце), мараніц-

кага (у Ліване і Сірыі) і інш. абрадаў. Пра У. на Беларусі гл. ў арт. *Брэсцкая унія 1596, Уніяцкая царква.*

УРАЗÁ-БАЙРÁМ (цюрк. ураза — пост + + байрам — свята), ід альфітр, ід ас-сагір, качук-байрам, шакер-байрам — мусульманскае свята з выпадку заканчэння посту ураза месяца *рамадана*; адно з гал. мусульманскіх свят. Адзначаецца 3—4 дні, пачынаючы з 1 шаваля (10-й месяц мусульм. месячнага календара). У першы дзень адбываецца спецыяльная агульная малітва, у далейшым арганізуюць святочныя трапезы, ходзяць на магілы продкаў. Напярэдадні святочнага богаслужэння вернікі раздаюць бедным і жабракам міласціну (закят альфітр, фітр-садака).

УРСУЛÍНКІ назва ад імя святой Урсулы — манашкі жаночага каталіцкага ордэна, заснаванага ў Італіі ў 1535. Займаюцца выхаваннем дзяўчат, працуюць у шпіталях і бальніцах. Ордэн мае свае арг-цыі ў многіх краінах Зах. Еўропы і Амерыкі. У Францыі ў час Вялікай французскай рэвалюцыі (канец 18 ст.) ордэн быў закрыты, пазней адноўлены Напалеонам І.

УСПÉННЕ БАГАРÓДЗІЦЫ — адзін з дванадзесятых святаў у праваслаўі (гл. *Прачыстая*). У каталіцызме догмату аб У.Б. адпавядае догмат аб цялесным Унебаўзяцці Дзевы Марыі, які быў канчаткова зацверджаны ў 1950.

УСЯЛÉНСКІЯ САБÓРЫ — сходы вышэйшага духавенства, на якія дэлегуюцца прадстаўнікі хрысціянскіх памесных цэркваў. На У.с. распрацоўвалася і ўстанаўлівалася сістэма веравучэння і культу, фарміраваліся кананічныя нормы і правілы богаслужэння, абмяркоўваліся розныя багаслоўскія канцэпцыі, вызначаліся спосабы барацьбы з ерасямі. Пачалі праводзіцца па ініцыятыве візант. імператараў, якія надавалі рашэнням У.с. статус дзярж. законаў, а часам старшынствавалі на іх. І У.с. — Нікейскі (325) прыняў у першай рэдакцыі *сімвал веры*, асудзіў *арыянства* як «бязбожную ерась», вызначыў час святкавання *Вялікадня*, выпрацаваў 20 канонаў, у т.л. аб перавагах александрыйскага, рымскага, антыяхійскага і іерусалімскага мітрапалітаў перад усімі іншымі. На ІІ У.с. — Канстанцінопальскім (381) удакладняліся Нікейскі сімвал веры і метады барацьбы з ерасямі арыян, еўнаміян, фатыніян, савеліян, маркеліян і інш.; распрацавана формула траістасці Бога, кананізаваны сімвал веры, а таксама ўсталяваны правілы, паводле аднаго з якіх канстанцінопальскаму патрыярху (пасля рымскага) прадастаўляліся перавагі перад усімі інш. епіскапамі. Кіраўніком канстанцінопальскай царквы прызначаны *Грыгорый Назіянін*. ІІІ У.с. — Эфескі (931) праходзіў у абставінах жорсткай барацьбы цэркваў за першынства, асудзіў *нестарыянства*, прызнаў дзеву Марыю Багародзіцай. У 449 у Эфесе скліканы новы сабор, які потым атрымаў назву «разбойніцкага». На ім александрыйскі патрыярх Дыёскар прымусіў цэрквы прызнаць *монафізіцтва*. На IV У.с. — Халкідонскім (451) монафізіцтва асуджана, першынство ў хрысціянстве прызнавалася за канстанцінопальскім патрыярхам, замацаваны догмат пра Ісуса Хрыста як сапраўднага Бога і сапраўднага чалавека, адзінасутнага Богу-Айцу, які ўвасабляе дзве існасці, але адну іпастась. Монафізіты адмовіліся прызнаць гэта і вылучыліся ў асобную царкву. На V У.с. — ІІ Канстанцінопальскім (553) асуджаны як ерасі вучэнні Феадора Мапсуэцкага, Феадарыта Кірскага і Івы Эдэскага, якія не прызнавалі рашэнняў Халкідонскага сабора, падтрымлівалі нестарыянства і не лічылі Хрыста Богачалавекам, а Марыю — Багародзіцай, а таксама Арыгена за яго вучэнне аб прадыснаванні душ, канчатковым усеагульным выратаванні і інш. На VI У.с. — ІІІ Канстанцінопальскім (680—681) адноўлены мір з папствам, які быў парушаны ў сярэдзіне 7 ст. пасля арышту і ссылкі папы Марціна паводле загаду візант. імператара. У 692 у Канстанцінопалі скліканы У.с., які атрымаў назву Пяташостага, таму што яго рашэнні дапаўнялі рашэнні V і VI У.с. VII У.с. — ІІ Нікейскі (787) асудзіў *іканаборства* і зацвердзіў азначэнне аб шанаванні абразоў і крыжа. На IV Канстанцінопальскім саборы (869—870) явіліся вострыя супярэчнасці паміж заходняй і ўсходняй хрысц. цэрквамі. Яго рашэнні, накіраваныя супраць канстанцінопальскага патрыярха Фоція, былі скасаваны на V Канстанцінопальскім саборы (879—880). У каталіцызме IV Канстанцінопальскі сабор прызнаецца VIII У.с.

Пасля падзелу хрысціянства на *каталіцызм* і *праваслаўе* (1054) агульнахрысц. саборы не скікаліся. З гэтага часу У.с. называюць сходы каталіцкіх епіскапаў і інш. прадстаўнікоў каталіцкай царквы. У 12 ст. адбыліся 3 саборы: І Латэранскі (1123), ІІ Латэранскі (1139), ІІІ Латэранскі (1179), на якіх вырашаліся ўнутрыцарк. пытанні, праблемы адносін царквы са свецкімі ўладамі, барацьбы з ерасямі. У 13 ст. таксама праведзены 3 У.с.: IV Латэранскі (1215), І Ліёнскі (1245), ІІ Ліёнскі (1274). На IV Латэранскім саборы зацверджаны каля 70

прапаноў папы, у т.л. аб праследаванні ерасяў катараў, вальдэнсаў і амальрыканаў. XV В'енскі У.с. (1311—12) вядомы суровымі рашэннямі аб праследаванні вальдэнсаў, спірытуалаў, бегардаў і інш. ератыкоў. На XVI Канстанцкім У.с. (1414) прыняты дэкрэты аб рэформе царквы, згодна з якімі У.с. станавіўся інстытутам кантролю дзейнасці папскай улады, вызначаны парадак і тэрміны склікання У.с. Гэты сабор вядомы расправай над Я.Гусам і Іеранімам Пражскім. У 1431—49 дзейнічаў XVII Базельска-Фларэнтыйскі У.с., які садзейнічаў канчатковаму разгрому гусітаў у Чэхіі. На ім была заключана *Фларэнтыйская унія* (1439) каталіцкай і правасл. цэркваў, не прынятая большасцю праваслаўных. XVIII У.с. — V Латэранскі адбыўся ў 1512—17. XIX — Трыдэнцкі У.с. (1545—63) быў накіраваны на ўмацаванне каталіцызму, які страчваў свае пазіцыі ў перыяд *Рэфармацыі*. Сабор устанавіў догматы аб першародным граху, *чысцілішчы*, прыярытэце папскай улады над аўтарытэтам У.с., аддаў анафеме гал. палажэнні *пратэстантызму*, склаў т.зв. Трыдэнцкае веравызнанне — тэкст царк. прысягі. На XX У.с. — I Ватыканскім (1869—70) абвешчаны догмат аб бязгрэшнасці папы. На XXI У.с. — II Ватыканскім (1962—65) прыняты рашэнні аб рэформах *літургіі* і *рымскай курыі*, *экуменізме*, *місіянерстве*, павышэнні ролі *епіскапа*, увядзенні ў богаслужэнне нац. моў, вызначаны задачы каталіцкай царквы на сучасным стане.



ФАЛЬКО́ЎСКІ Якуб (свецкае імя Шыман Тадэвуш; 28.10.1778, Беластоцкі пав. Падляшскага ваяв., Польшча —22.11.1836) — беларускі літаратуразнавец, тэолаг і педагог. Скончыў Віленскую гімназію (1797) і адразу ўступіў у дамініканскі ордэн прапаведнікаў, дзе атрымаў імя хрысц. апостала Якуба Завядзея. Вышэйшую адукацыю набыў у Віленскім ун-це (1803—06). Быў прапаведнікам і прафесарам маральнай тэалогіі ў Полацку, прэфектам і настаўнікам літаратуры ў Гродне (1817). З Гродна выязджаў у Расію да каталіцкага мітрапаліта. Выступаў з евангельскімі пропаведзямі на Беларусі, Украіне, у Літве і Латвіі. Быў ігуменам кляштара св. Якуба на Лукішках (Вільня) і інш. Апошнія гады жыцця (1832—36) правёў у Забельскім кляштары. Планаваў выдаць 12 тамоў сваіх казанняў на польскай мове пад назваю «Новая прапаведніцкая літаратура». Першыя 2 тамы «Нядзельных казанняў» (1832) апублікаваны ў друкарні піяраў і 3—6-ы тамы пад назваю «Прапаведніцкія творы» (1827—29) у друкарні І.Завадскага. У Гродне надрукаваны яго прывітальныя прамовы з нагоды ўступлення на пасаду гродзенскага губернатара і інш. творы красамоўства, оды «На дзень нараджэння найяснейшага цара Аляксандра І» (1816), на імяніны гродзенскага губернатара і віцэ-губернатара. Сярод рукапіснай спадчыны Ф. захаваліся 3 тамы «Збору розных твораў». У 3-м томе гэтага рукапісу сістэматызаваны курс пад назваю «Усеагульная літаратура», які, відаць, ён чытаў у Гродзенскай гімназіі. У ім аўтар дае вызначэнне ўсім родам і жанрам літаратуры. На яго думку, літаратура (пад гэтым паняццем разумелася амаль уся гуманітарная культура) — аб'ект вывучэння «прыгожых навук» і падзяляецца на рэліг. (гісторыя царквы, аскетычная мараль, пропаведзь і г.д.) і свецкую (філасофія, «сем вольных мастацтваў», прыгожыя мастацтвы). Акрамя таго, ён падзяляў літаратуру на тэарэтычную (тэорыя красамоўства, крытыка, дыпламатыя, палітыка, права і інш.) і практычную — разнастайныя звесткі і вынаходніцтвы. Паводле свайго светапогляду і метаду выкладання Ф. быў асветнікам-гуманістам акадэмічнага складу, лаяльным да царскага ўрада.

*Літ.:* К о н о н В.М. Рост национального самосознания и белорусское искусство // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

*У.М.Конан.*

ФАМА́ АКВІ́НСКІ, Т а м а ш   А к в і н с к і (Thomas Aquinas, 1225, каля Акуіна, Італія — 7.3.1274) — сярэдневяковы філосаф, тэолаг, сістэматызатар *схаластыкі*, заснавальнік тамізму. Выхоўваўся і вучыўся ў бенедыкцінскім кляштары Монтэ-Касіна, пазней у Неапалі. У 1244 уступіў у ордэн *дамініканцаў*. Адукацыю працягваў у Парыжы, дзе вучыўся ў *Альберта Вялікага*. Выкладаў у Парыжы, Рыме, Неапалі. З 1257 д-р тэалогіі. У асн. працах «Сума тэалогіі» (не скончана, 1269—73) і «Сума філасофіі, аб сапраўднасці каталіцкай веры супраць язычнікаў» (1259—64) імкнуўся даць філасофскае абгрунтаванне каталіцкаму веравучэнню, сінтэзуючы рацыянальнае і рэліг. пазнанне і пераасэнсоўваючы з хрысц. пазіцый вучэнне Арыстоцеля. Паводле Ф.А., вера не супярэчыць розуму і тэалогія выкарыстоўвае філасофію для таго, каб ісціны адкрыцця сталі больш даступнымі чалавечаму разуменню. Догматы веры падзяляў на рацыянальна зразумелыя, якія можна растлумачыць пры дапамозе тэалогіі і філасофіі (існаванне Бога, бессмяротнасць душы і інш.), і рацыянальна незразумелыя, якія спасцігаюцца толькі пры дапамозе веры і тэалогіі, звышрацыянальныя і недаступныя логіцы (створанасць свету, траістасць Бога, догмат аб першародным граху). Дасканалае пазнанне, паводле Ф.А., магчыма толькі ў раі ці ў стане рэліг. экстазу і заключаецца ў сузіранні Бога. У адрозненне ад *Аўгусціна*, Арыгена, Сігера Брабанцкага, якія ігнаравалі ролю ця-

леснага, лічыў, што «чалавек не ёсць толькі душа, але спалучэнне душы і цела». Сцвярджаў, што ў аснове чалавечай дабрадзейнасці знаходзіцца «натуральны закон», які патрабуе ад чалавека пазбягаць зла і ствараць дабро. Мэтай чалавека лічыў дасягненне замагільнага шчасця пры дапамозе дабрадзейнага жыцця і садзеяння Бога. Усе віды ўлады, паводле Ф.А., ад Бога. Гал. задачай дзярж. улады лічыў садзейнічанне агульнаму шчасцю, захаванне міру і справядлівасці ў грамадстве. Аддаваў перавагу манархічнай форме праўлення, але сцвярджаў, што народ мае права зрынуць несправядлівага манарха. Царк. ўлада, паводле Ф.А., вышэй за манархічную; усе зямныя правіцелі павінны падпарадкоўвацца папе рымскаму. Філасофска-тэалагічная сістэма Ф.А. з'яўляецца вяршыняй у развіцці схаластыкі; з 14 ст. яна стала гал. кірункам развіцця каталіцкай філасофіі. Ф.А. атрымаў тытулы «анёльскага доктара», «усеагульнага настаўніка» і «князя схаластаў». У 1323 ён кананізаваны каталіцкай царквой, у 1567 прызнаны «пятым настаўнікам царквы». У 1879 вучэнне Ф.А. прызнана папам Львом XIII «адзіна сапраўднай філасофіяй каталіцызму», што стала падставай для развіцця неатамізму (Ж.Марытэн, Э.А.Жыльсон і інш.) — сучаснай рэліг. каталіцкай філасофіі.

ФАРЫСÉІ (грэч. pharisaios ад стараж.-яўр. «перушым» — якія аддзяліліся), паслядоўнікі грамадска-рэлігійнай плыні, якая існавала ў Іудзеі ў 2 ст. да н.э. сярод гандлёва-рамесніцкіх слаёў. Імкнуліся вытлумачыць Пяцікніжжа ў адпаведнасці з новымі сац.-эканам. ўмовамі. Былі непрымірымымі ворагамі раннехрысціянскага вучэння.

ФЕАДÓСІЙ Васілевіч (?— 11.3.1678) — праваслаўны царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Быў архімандрытам *Слуцкага Троіцкага манастыра*. У пач. вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 выступіў у падтрымку Расіі, у ліп. 1654 паслаў цару Аляксею Міхайлавічу ліст аб вернасці. Неўзабаве змяніў арыентацыю і як намеснік мітрапаліта кіеўскага ў крас. — маі 1655 заклікаў жыхароў Магілёва здацца войску Рэчы Паспалітай; лічыў, што правасл. духавенства пад уладай Масквы траціць незалежнасць. З 1664 кіраваў *Магілёўскай праваслаўнай епархіяй* як адміністратар, у 1669 пасвячоны ў епіскапа магілёўскага. З 1676 (паводле інш. звестак з 1675) меў таксама тытул «епіскап беларускі». Зацверджаны на епіскапскай кафедры прывілеем караля Міхала Карыбута-Вішнявецкага ад 20.4.1672 з захаваннем за сабой Слуцкага манастыра. У 1672 пры Ф. завершана будаўніцтва Мікалаеўскай царквы — выдатнага помніка барока ў Магілёве, распачата ўзвядзенне Успенскай царквы, у якой знаходзіўся вядомы абраз «Нараджэнне Маці Божай» Пятра Яўсеевіча з Галынца (1649). У 1674 дзякуючы намаганням Ф. з *Магілёўскага Спаскага манастыра* выдалены манахі-базыльяне. У 1677 кароль Ян III Сабескі спец. прывілеем пазбавіў Ф. епіскапства, аднак Ф. кананічна лічыўся епіскапам да смерці. Памёр у г. Люблін, пахаваны 23.10.1678 грэч. мітрапалітам Макарыем Лігарыдам у Дзятлавіцкім манастыры (цяпер на тэр. Лунінецкага р-на).

*Літ.:* Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Агееў А., Марзалюк І., Пушкін І. Магілёўская даўніна ў пытаннях і адказах. Магілёў, 1997; Кузьменка М. Магілёўская епархія ад часоў далучэння да Расіі да 1918 года // Магілёўская даўніна. 1996, 1997. *І.А.Пушкін.*

ФЕАФÍЛ (? — 1330) — першы літоўска-наваградскі мітрапаліт (1315 ці 1316—1330) з кафедрай у Навагрудку, грэк. Пастаўлены на асобную Літоўскую мітраполію (гл. ў арт. *Кіеўская мітраполія*) канстанцінопальскім патрыярхам па ініцыятыве вял. князя ВКЛ Гедзіміна. Пашырыў уладу мітрапаліта на Полацкую і Турава-Пінскую епархіі. Прысутнічаў у Канстанцінопалі на пасяджэннях патрыяршага сінода ў 1317, 1327 і 1329. Пасля смерці Ф. патрыярх канстанцінопальскі не прызначыў яму пераемніка, і названыя епархіі вярнуліся пад уладу мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Феагноста (кафедра ў Маскве).

*Літ.:* Мейендорф И. Византия и Московская Русь. Париж. 1990; Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Мн., 2000. *Л.Я.Кулажанка.*

ФЕТЫШЫ́ЗМ (ад франц. fétiche ідал, талісман) — культ неадушаўлёных прадметаў — фетышаў, якія, паводле ўяўлення вернікаў, надзелены звышнатуральнымі ўласцівасцямі. Быў пашыраны ва ўсіх першабытных народаў. Перажыткі Ф. — вера ў амулеты, абярэгі, талісманы. Захаваўся ў сучасных рэлігіях — шанаванне чорнага каменя ў г. Мека (іслам), крыжа і мошчаў (хрысціянства) і інш.

ФІДЭІ́ЗМ (ад лац. fides вера) — сцвярджэнне прыярытэту веры над розумам, характэрнае для рэліг. светапоглядаў, якія абапіраюцца на адкрытасць (шчырасць). Абмяжоўваючы сферу дзеяння навукі, Ф. адмаўляе светапогляднае значэнне навуковага пазнання, адводзячы вырашальную ролю рэліг. веры.

ФІЛАРЭ́Т (у свеце Вахрамееў Кірыла Варфаламеевіч, н. 21.4.1935, Масква) — дзеяч праваслаўнай царквы на Беларусі. Скончыў Маскоўскую духоўную семінарыю (1957) і Маскоўскую духоўную акадэмію (1961). У 1959 прыняў манаства, у 1961 пасвячоны ў іераманаха. У 1965 пасвячоны ў епіскапа ціхвінскага. У 1966—73 епіскап дзмітраўскі, рэктар Маскоўскай духоўнай акадэміі і семінарыі. У 1971 узведзены ў сан архіепіскапа, у 1975 — у сан мітрапаліта. З 1978 мітрапаліт мінскі і беларускі; адначасова да 1984 займаў пасаду патрыяршага экзарха Зах. Еўропы, а ў 1981—89 быў старшынёй аддзела знешніх сувязей Маскоўскага патрыярхата. З 16.10.1989 патрыяршы экзарх усяе Беларусі, пастаянны чл. Сінода Рускай правасл. царквы, старшыня Сінода Беларускага экзархата. З 1992 поўны тытул «мітрапаліт мінскі і слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, свяшчэнна-архімандрыт Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра». Па ініцыятыве Ф. на Беларусі адроджаны многія манастыры і ўсе стараж. епіскапскія кафедры; утворана Біблейская камісія, якая займаецца паракладам на бел. мову Новага Запавету. Мітрапаліт Ф. — заснавальнік першай на Беларусі правасл. духоўнай акадэміі. Пры яго ўдзеле адноўлены Крыж прападобнай Ефрасінні Полацкай (1997).

*Літ.:* Нефедов В.В. Беседы с митрополитом Филаретом. Мн., 1992.


Філарэт.

ФІМІЯ́М (грэч. thymiama) — духмянае рэчыва, якое спальваецца пры богаслужэннях, а таксама духмяны дым пры спаленні такога рэчыва. Выкарыстоўваецца ў рэліг. абрадах. У пераносным сэнсе — «курыць Ф.» — ліслівіць, празмерна ўсхваляць каго-небудзь.

ФІЯЛКО́ЎСКІ Антоній (1796, Віцебшчына — 1883) — рэлігійны дзеяч, магілёўскі каталіцкі архіепіскап (1872—83), мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі, у галоўнай духоўнай семінарыі пры Віленскім ун-це, быў пасвячоны ў ксяндза. Прафесар багаслоўскіх навук. і царк. гісторыі ў Віленскай епархіяльнай семінарыі і Віленскім ун-це, а пасля закрыцця яго — у Віленскай каталіцкай духоўнай акадэміі; быў яе рэктарам да 1842. Садзейнічаў пашырэнню рус. мовы сярод каталіцкага насельніцтва, прымаў удзел у складанні першага каталіцкага катэхізіса на рус. мове. Яго клопатамі ў Пецярбургу заснаваны мітрапаліцкая царква і епархіяльная семінарыя, якой ён завяшчаў усю сваю багатую бібліятэку.

ФЛАРЭ́НСКІ Павел Аляксандравіч (1882—1937) — рускі рэлігійны філосаф, святар і багаслоў, паслядоўнік У.*Салаўёва*. Цэнтральнае пытанне яго асн. працы «Стоўп і сцвярджэнне ісціны» — абгрунтаванне сапраўднасці правасл. дагматыкі, асабліва трыадзінства. Антынамічнасць догматаў, напр., адзінасутнасці і трохіпастаснасці Бога, паводле Ф., не можа быць растлумачана на аснове лагічнага закону тоеснасці. Вырашэнне відавочных антыномій магчыма толькі пры безумоўным прызнанні сапраўднасці догматаў, якія павінны быць для розуму самадаказальнай аксіёмай. Ф. напісаны таксама багаслоўскія працы, прысвечаныя абгрунтаванню аскетызму і шанаванню абразоў. Акрамя багаслоўя займаўся фізікай, матэматыкай. Загінуў у Салавецкім канцлагеры.

ФЛАРЭНТЫ́ЙСКАЯ У́НІЯ 1439 — арганізацыйнае аб'яднанне пад уладай рымскага папы ўсяленскіх каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, абвешчана на царк. саборы ў Фларэнцыі (Італія). Правасл. царква мусіла прызнаць каталіцкія догматы, у т.л. «Філіёквэ» (зыходжанне Св. Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына), існаванне чысцілішча і г.д. пры захаванні абраднасці і богаслужэння на грэч., царк.-слав. і інш. мовах, шлюбу белага духавенства, права свецкіх людзей прычашчацца віном і інш. Скліканы папам Яўгенам IV для заключэння уніі ўсяленскі сабор (1438—45) адкрыўся ў Ферары, прадоўжыў дзейнасць у Фларэнцыі (адсюль назва

Фларэнтыйскі або Ферара-Фларэнтыйскі сабор) і закончыўся ў Рыме. Ініцыятарамі уніі побач з папствам былі кіруючыя колы Візант. імперыі, у т.л. імператар Іаан VIII Палеалог і канстанцінопальскі патрыярх Іосіф II, якія спадзяваліся ў абмен на ўступкі ў дагматыцы атрымаць ваен. дапамогу каталіцкага Захаду ў барацьбе з турэцкай пагрозай. З канца 14 ст. ідэю уніі спрабавалі рэалізаваць усе вял. князі ВКЛ, перш за ўсё Вітаўт (гл. *Канстанцкі сабор 1414—18*) з мэтай узмацніць унутр. адзінства дзяржавы. Мітрапаліт кіеўскі ў ВКЛ *Герасім* [1432—35] з ведама кн. Свідрыгайлы і канстанцінопальскага патрыярха вёў з Яўгенам IV перагаворы аб уніі, якая не была рэалізавана з-за пакарання смерцю Герасіма Свідрыгайлам у 1435. Дэлегацыю правасл. *Кіеўскай мітраполіі* (на той час зноў адзінай у межах Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ) на Фларэнтыйскі сабор узначальваў мітрапаліт *Ісідор*. У яе склад уваходзілі суздальскі епіскап Аўрамій, *Грыгорый Балгарын*, аўтар «Аповесці пра Фларэнтыйскі сабор» манах Сімяон з Суздаля і інш. 5.7.1439 унія падпісана і на наступны дзень урачыста абвешчана. З каталіцкага боку свае подпісы пад актам уніі паставілі папа Яўген IV, 143 кардыналы, прымасы, біскупы і арцыбіскупы, з праваслаўнага — імператар Іаан VIII, мітрапаліты *Антоній*, Дасіфей, Ісідор і яшчэ 15 мітрапалітаў. Подпіс патрыярха Іосіфа II ў акце адсутнічае, бо ён памёр 10.6.1439, але пакінуў дакумент, дзе засведчыў на гэта сваю згоду. У 1440 на зваротным шляху Ісідор спрабаваў увесці унію ў ВКЛ, але яна не была тут прынята. Апрача правасл. духавенства унію праігнаравалі і каталіцкія іерархі Польшчы і ВКЛ, якія да 1443 не прызнавалі уніі і яе ініцыятара Яўгена IV, бо падпарадкоўваліся папе Феліксу V, абранаму Базельскім саборам, альтэрнатыўным Фларэнтыйскаму. Талерантнае стаўленне Ф.у. сустрэла толькі ў Кіеве, Смаленску і некат. інш. землях ВКЛ. Прызнанне яе кн. Юрыем Лугвенавічам, які ў 1440—41 на кароткі час аднавіў незалежнасць б. Смаленскага княства ад ВКЛ і разлічваў атрымаць падтрымку Рыма, было яшчэ адной з прычын, чаму кіруючыя колы ВКЛ, у той час не прызналі Ф.у. Яшчэ больш непрыхільна Ф.у. сустрэлі ў Маскве; Ісідор быў зняволены, а потым уцёк праз ВКЛ у Рым. Большасць духавенства Візантыі таксама не прыняла Ф.у. Яна была адвергнута Іерусалімскім 1443 і інш. царк. саборамі, у т.л. Канстанцінопальскімі саборамі 1450 і 1472.

Пасля аднаўлення ў 1458 асобнай ад Маскоўскай Кіеўскай мітраполіі ў ВКЛ (з кафедрай у Навагрудку) Ф.у. падтрымлівалася вял. кн. Казімірам IV. Ён паставіў мітрапалітам прыхільніка Ф.у. Грыгорыя Балгарына, які, не здолеўшы ўвесці унію, адмовіўся ад яе. Наступны мітрапаліт *Місаіл* арганізаваў зварот вышэйшых духоўных і свецкіх асоб да папы Сікста IV пра гатоўнасць працягваць справу уніі. Да пач. 16 ст. некат. кіеўскія мітрапаліты (як правіла, са смаленскіх епіскапаў, напр., *Іосіф I*) фармальна лічылі Ф.у. сапраўднай на тэр. Польшчы і ВКЛ. Аднак гэта фактычна не адбівалася на жыцці духавенства і вернікаў, хаця зрабіла, напр., магчымым выпуск папам адмысловых індульгенцый, збор ад якіх мусіў пайсці на адбудову Кіева, разбуранага ў 1482 крымскім ханам Менглі-Гірэем. На прынцыпах Ф.у. была заснавана *Брэсцкая унія 1596*, ідэолагі якой, асабліва Іпацій *Пацей*, часта звярталіся ў палеміцы да прыкладу Ф.у.

*Літ.*: Мощинская Н.В. Литературная история «Повести об Осьмом Ферраро-Флорентийском соборе» Симеона Суздальского // Вопросы русской литературы. М., 1971; Зимин А.А. Витязь на распутье. М., 1991; Макарий (Булгаков). История русской церкви. Кн. 5. М., 1996. *А.В.Белы.*

**ФО́ЦІЙ** (?, г. Манемвасія, Грэцыя — 1.6.1431) — праваслаўны царк. дзеяч ВКЛ і Маскоўскага вял. княства. У 1408—31 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (на той час *Кіеўская мітраполія* ахоплівала тэр. ВКЛ і Маскоўскага вял. княства). Пастаўлены мітрапалітам паводле просьбы вял. кн. маскоўскага Васіля I і насуперак пазіцыі вял. кн. ВКЛ Вітаўта. У вер. 1409 Ф. прыбыў з Канстанцінопаля ў Кіеў і заставаўся ў ВКЛ да вясны 1410; Вітаўт прызнаў Ф., верагодна, з умовай яго пераважнага знаходжання ў ВКЛ і аднаўлення Кіеўскай кафедры як рэальнага цэнтра мітраполіі. Аднак актыўная дзейнасць Ф. ў Маскве (з крас. 1410) па вяртанні царк. маёмасці, што была страчана або разрабавана пасля смерці мітрапаліта *Кіпрыяна* (1406) і ў час вайны з правіцелем Залатой Арды Едыгеем (1408), закранула матэр. інтарэсы заходнярус. епархій. Ф. абвінавачвалі ў вывазе з Кіева ў Маскву вял. каштоўнасцей і святынь. У 1411—12 Ф. знаходзіўся ў ВКЛ (у прыватнасці, паставіў тураўска-пінскага епіскапа Яўфімія), але ў 1413 (ці 1414) пры спробе прыехаць у Гродна для сустрэчы з Вітаўтам быў абрабаваны і высланы назад; намеснікі Ф. былі адхілены ад кіравання маёмасцю Кіеўскай кафедры. На царк. саборы 1414—15 у Навагрудку епіскапы ВКЛ адмовіліся падпарадкавацца Ф. і абралі мітрапалітам Грыгорыя *Цамблака*. Пасля смерці апошняга (1419/1420?) і пераарыентацыі Вітаўта на саюз з Масквой канфлікт быў вычарпаны. Вітаўт больш не дамагаўся падзелу мітраполіі, а Ф. са свайго боку ўзмацніў увагу да зах. епархій: ён быў у ВКЛ у 1420—21, 1423 і

1430 (у апошнім выпадку з нагоды мяркуемага каралеўскага каранавання Вітаўта; пасля смерці апошняга 27 кастр. вёў перагаворы з Ягайлам і Свідрыгайлам у Навагрудку). У час. феад. вайны ў Маскоўскім княстве (з 1425) Ф. рашуча падтрымаў Васіля II і рэгенцтва Соф'і Вітаўтаўны. Памёр у Маскве. Праўленне Ф. (асабліва ў 2-й палавіне) — апошні перыяд рэальнага адзінства Кіеўскай мітраполіі.

Літ.: Лурье Я.С. Две истории Руси XV века. Ранние и поздние, независимые и официальные летописи об образовании Московского государства. СПб., 1994. *В.В.Антонаў.*

ФРАНЦЫСКА́НЦЫ (лац. Ordo Fratrum Minorum, OFM, ордэн братоў меншых) — жабрацкі каталіцкі манаскі ордэн. Засн. св. Францыскам Асізскім (1181—1226, кананізаваны 9.7.1228 папам Грыгорыем IX) з мэтай захавання Евангелля, наследавання Ісусу Хрысту праз паслушэнства, беднасць, цнатлівасць, апасталат і казанне Слова Божага. Стварэнне і хуткае распаўсюджанне ордэна абумоўлена станам і багаццем каталіцкай царквы, што выклікала недавер да яе праўдзівасці, якое ўзмацнілася ў гар. і універсітэцкім асяроддзі заклікамі вяртання да ўзору жыцця ранняй хрысціянскай царквы. У 1208 Францыск з групай аднадумцаў пачаў прапаведаваць у г. Асізі і наваколлі неабходнасць духоўнага абнаўлення і вяртання да жыцця апостальскіх часоў. У 1209 (1210) папа Інакенцій III вусна пацвердзіў складзены св. Францыскам Статут новай абшчыны (протастатут). 14.5.1217 на 1-й капітуле ордэна ў г. Парцынкул прынята цэнтралізаваная сістэма кіравання і падзел яго на 12 правінцый, вырашана накіраваць братоў у Германію, Венгрыю, Сірыю, Францыю. У 1221 Францыск Асізскі з Цэзарыем са Сміркы распрацавалі новы Статут, адрэдагаваны кардыналам Угаліна і зацверджаны ў 1223 папам Ганорыем III. Ордэн падзяляўся на правінцыі і кустодыі, капітулы праводзіліся раз у 3 гады, пацверджана захаванне 3 асн. зарокаў — беднасці, паслушэнства, цнатлівасці, існаванне навіцыяту. Першапачатковае манаскае заканадаўства патрабавала адмовы ад уласнасці, аднак дапускала ўласнасць калектыўную. Францысканскі Статут адмаўляў асабістую і калектыўную ўласнасць, што рабіла ордэн мабільным і надавала яму характар жабрацкага і вандроўнага ордэна. Новаўвядзеннем сталі пастановы аб пропаведзі. Розная інтэрпрэтацыя спадчыны св. Францыска, у першую чаргу Статута, стала прычынай з'яўлення ў ордэне плыняў: абсервантаў — прыхільнікаў радыкальнага ладу жыцця і выканання першапачатковага францысканскага правіла, і канвентуалаў — прыхільнікаў стрыманага ладу жыцця, які вёў да адмовы абсалютнага патрабавання жабрацтва. У 1446 адбыўся часовы падзел на абсервантаў і канвентуалаў. Афіцыйны падзел ордэна здзейснены ў 1517 папам Львом X і прывёў да выдзялення францысканцаў-канвентуалаў у самастойны ордэн. На тэр. Польшчы і ВКЛ за ім захавалася назва «францысканцы», а францысканцы-абсерванты атрымалі назву *«бернардзінцы»* (ад першага кляштара св. Бернарда Сіенскага ў Кракаве). Характэрнымі рысамі ордэна францысканцаў-канвентуалаў сталі: аслабленне радыкальных патрабаванняў жабрацтва згодна з банавентурскай інтэрпрэтацыяй Статута св. Францыска і булай папы Кліментa X [з 1565 ордэн атрымаў дазвол прымаць у дар і карыстацца рухомай маёмасцю, валодаць касцёламі і кляштарамі (канвентамі), якія з'яўляліся агульнай уласнасцю]; святарскі профіль, што зрабіла магчымым выкананне пастырскіх абавязкаў; правядзенне незалежных капітул, выбары кіраўніка ордэна [у 1566 яму нададзены тытул ген. магістра (міністра)]; утрыманне калегій, якія мелі характар універсітэцкіх тэалагічных курсаў з правамі надання акадэмічных ступеняў і патрабаваннем адкрыцця ў кожнай правінцыі ордэна гімназіі з пачатковым гуманітарным і філас.-тэалагічным навучаннем.

У ВКЛ францысканцы пачалі місіянерскую дзейнасць пры вял. кн. Гедзіміне. Вял. ўклад у распрацоўку адм. структуры і арганізацыю рымска-каталіцкай царквы ў дзяржаве зрабілі біскупы Андрэй Васіла і Якуб Пліхта. 1-ы канвент (кляштар) ордэна заснаваны ў Вільні ў сярэдзіне 14 ст. У гэты ж час засн. канвенты ў Ашмянах і Лідзе (скасаваны ў пач. 15 ст.) і ў 2-й пал. 14 ст. ў Пінску (канвент і парафія Унебаўзяцця Дзевы Марыі), якія ўваходзілі ў польскую правінцыю. Рэформы, праведзеныя ў правінцыі ў 2-й пал. 16 — пач. 17 ст., садзейнічалі павелічэнню колькасці кандыдатаў у ордэн ад мяшчан, а таксама ад шляхецкіх і магнацкіх родаў. У 1625 створана самастойная Рус.-Літ. правінцыя св. Антонія Падуанскага, у 1686 яна падзелена на Рускую і Літоўскую св. Казіміра. У 1772 у Літ. правінцыі дзейнічаў 31 канвент, з іх 21 знаходзіўся на бел. землях. У Віленскую кустодыю ўваходзілі Ашмяны (1505, канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Гальшаны (1618, канвент і парафія св. Яна Хрысціцеля), Івянец (1702, канвент св. Антонія Падуанскага), Мінск (каля 1676, канвент св. Антонія Падуанскага), Навагрудак (пач. 18 ст., канвент св. Францыска Асізскага), Шайбакі (1737, канвент св. Бенядзікта); у Гродзенскую — Гродна (1635, канвент і парафія Дзевы Марыі Анёльскай), Драгічын (1749, канвент

св. Францыска Асізскага), Лапенеўцы (1633, канвент св. Антонія Падуанскага), Пінск (1396, канвент і парафія Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Свіслач (1705, канвент св. Францыска Асізскага); у Ковенскую — Паставы (1617, канвент св. Францыска Асізскага), Празарокі (1698, канвент св. біскупа Людвіка), Удзела (1640/42, канвент і парафія Нараджэння і Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі); у Полацкую — Губіна (1714, канвент Наведання Дзевы Марыі), Дзісна (1630, канвент Бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі), Лукомль (1636/37, канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Орша (17 ст., канвент Унебаўзяцця Дзевы Марыі), Полацк (1684, канвент і парафія св. Антонія Падуанскага), Сянно (пач. 17 ст., канвент і парафія св. Францыска Асізскага), Мацевічы (рэзідэнцыя св. Францыска Асізскага). У 1819 Літ. правінцыя паводле загаду царскіх улад аб'яднана з Рускай, сядзіба правінцыяла знаходзілася ў Вільні. Правінцыя падзелена на 6 кустодый, бел. канвенты размяшчаліся ў кустодыях: Віленскай (Ашмяны, Гальшаны), Гродзенскай (Гродна, Драгічын, Навагрудак, Лапенеўцы, Свіслач, Шайбакі), Пінскай (Дзісна, Івянец, Мінск, Паставы, Пінск, Празарокі, Удзела), Полацкай (Губін, Лукомль, Орша, Полацк, Сянно). Пасля задушэння паўстання 1830—31 большасць кляштараў скасавана, канвенты дзейнічалі толькі ў Ашмянах, Гальшанах, Гродне, Навагрудку, Оршы, Пінску, Сянне, Удзеле. Пасля паўстання 1863—64 застаўся адзін канвент у Гродне (зачынены ў сярэдзіне 1940-х г.). *Л.А.Карнілава.*



ХАДЖ (араб.) — паломніцтва мусульман у Меку да храма Кааба 8—12 чысла зу-ль-хіджа (луннага месяца хіджры) для правядзення ахвярапрынашэння ў свята *курбан-байрам*. Лічыцца адным з асноўных абавязкаў мусульманіна. Вернік, які здзейсніў хадж, атрымлівае ганаровы тытул хаджы і права насіць зялёную чалму.

ХАЗА́Н, к а н т а р, у яўрэйскай *сінагозе* служыцель, які чытае нараспеў малітвы ў час богаслужэння.

ХАЛІФА́Т (арабскае халіфа — пераемнік) — 1) сістэма мусульманскага праўлення, пры якой халіф спалучаў свецкую ўладу з духоўнай. Першыя халіфы (632—661) лічыліся пераемнікамі *Мухамеда*; пры Амеядах (661—750) роля халіфаў пабольшала: яны сталі лічыцца намеснікамі *Алаха*. Спрэчкі аб сутнасці інстытута Х. паслужылі прычынай вострай рэліг.-паліт. барацьбы, што прывяло да вылучэння 3 асн. кірункаў ісламу: *сунізму, шыізму* і харыджызму. Пачынаючы з 10 ст. халіфы страцілі палітычную ўладу. Інстытут Х. захоўваўся да 1924 толькі ў Турцыі. 2) Назва дзяржавы, створанай у 7 ст. ў Зах. Азіі, Паўд. Афрыцы і Паўд.-Зах. Еўропе ў выніку арабскага заваявання.

ХАМ — у *Біблії* адзін з 3 сыноў Ноя, ад якіх пасля сусветнага патопу засялілася ўся Зямля. Быў пракляты Богам за тое, што насмяяўся з аголенага бацькі.

ХАМАІ́Л (ад арабскага хамала — насіць) — рукапісны мусульманскі малітоўнік бел. татар на арабскай і стараж.-турэцкай мовах. Самыя раннія Х. напісаны на чагатайскай (старататарскай) або стараж.-уйгурскай мовах. Арабскія і цюркскія тэксты малітваў суправаджаюцца тлумачэннямі на бел. або польскай мовах (*арабскім пісьмом*). Акрамя малітваў, апісання абрадаў і рытуалаў, у Х. ёсць матэрыялы па мусульманскай храналогіі, парады, як лячыць захворванні з дапамогай малітваў, тлумачэнні сноў і інш. У большасці Х. значнае месца займае магія. Даюцца, у прыватнасці, парады, як пазбегнуць непрыемнасцей і дасягнуць пэўных мэт у разнастайных жыццёвых сітуацыях. Нягледзячы на тое, што Х. знаходзіліся ў пастаянным карыстанні, іх шмат захавалася ў б-ках і ў татарскіх сем'ях (меліся ў кожнай сям'і). Вывучэннем Х. займаліся даследчыкі Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы, у т.л. Г.Александровіч-Мішкенене, А.Антановіч, А.Барановіч, В.Вольскі, М.Гарэцкі, А.Дрозд, А.Заянчкоўскі, Г.Крачкоўскі, Ч.Лапіч, В.Ластоўскі, А.Мухлінскі, В.Несцяровіч, Я.Станкевіч, А.Шлюбскі.

*Літ.:* М у х л и н с к и й А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. СПб., 1857 (рэпрынт Мн., 1993); А н т о н о в и ч А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; К а н а п а ц к і І.Б., С м о л і к А.І. Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000.
*І.Б.Канапацкі.*

ХАРУ́ГВА — свяшчэнны сцяг з выявамі Ісуса Хрыста, Багародзіцы, святых і падзей свяшчэннай гісторыі. Разам з крыжамі і абразамі атрыбут удзельнікаў крыжовых паходаў.

ХАРЫ́ЗМА (грэч. charisma дар) — тэалагічны тэрмін для абазначэння дзевяці асобых дароў Святога Духа, пасланых апосталам у Іерусалімскім храме на свята *Сёмухі* (Пяцідзесятніцы). Звычайна дары Святога Духа падзяляюць паводле траістага прынцыпу: т р а й н ы я д а р ы а д к р ы ц ц я (мудрасць, веданне духаў і ўменне іх адрозніваць), т р а й н ы я д а р ы с і л ы (вера, цуды і вылячэнне), т р а й н ы я д а р ы м о в ы (прароцтва, іншамовы і іх тлумачэнне). У некаторых пратэстанцкіх кірунках (напр., *пяцідзесятнікі*) прызнаецца магчымасць атрымання Х. ў выніку духоўных зносін (малітвах, асаблівых абрадах і інш.) са Святым Духам. Найб. распаўсюджанымі ў вернікаў (харызматыкаў) лічацца трайныя дары мовы.

ХАСІДЫ́ЗМ (іўрыт — вучэнне набожнасці) — рэлігійна-містычны рух у *іудаізме*. Узнік у 1-й пал. 18 ст. на Валыні, Падоліі, у Галіцыі і пашырыўся

па ўсёй Рэчы Паспалітай, а пазней і сярод сусв. яўрэйства. У аснове веравучэння Х. — спалучэнне элементаў рабінізму і *Кабалы* (іудзейскай містыкі). З'яўленне Х. абумоўлена прыгнечаным станам і сац. неарганізаванасцю яўрэйскіх працоўных гэтых тэрыторый, вял. пакутамі, якія выпалі на іх долю ў 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. ў выніку шматлікіх войнаў і ганенняў. Масы малапісьменнай яўрэйскай беднаты страцілі духоўную апору і спадзяваліся знайсці яе ў містыцызме. Заснавальнікам Х. стаў Ізраіль Бешт (1700—60; прозвішча створана ад слоў «Баал-Шэм-Тоў» — «чалавек добрага імя» ці «добры цудатворца»), які прапаноўваў дэзарыентаваным людзям містычны спосаб пазбегнуць роспачы і заняпаду без скрупулёзнага выконвання шматлікіх абрадаў і глыбокага вывучэння *Талмуда*, як таго патрабавалі рабінска-кагальныя вярхі. Ён унёс і прапагандаваў ідэю аб цадзіках (праведніках), якія адораны звышнатуральнай сілай, знаходзяцца ў пастаянных зносінах з Богам, цудоўна вылечваюць сваім дотыкам і могуць абараняць людзей нават ад божага наканавання. Х. звернуты на пачуццё і эмоцыі простага і неадукаванага чалавека (менавіта такія яўрэі пераважалі на Украіне), а не на розум і інтэлект.

На Беларусі Х. з'явіўся ў 1770-я г. і адразу сустрэў супраціўленне з боку прыхільнікаў традыц. рабіністычнага іудаізму (хасіды называлі іх «міснагдым» — праціўнікі, апаненты). У адрозненне ад яўрэяў Украіны яўрэі Літвы і Беларусі мелі высокі ўзровень рэліг. адукаванасці і строгую арганізацыю абшчыннага жыцця. Першым праведнікам Х. стаў рабін з прыгарада Пінска Карлін (Каралін) Аарон Карлінскі, які засн. тут першую хасідскую абшчыну. Гал. праціўнікам Х. стаў вядомы віленскі талмудыст Гаон («Геній»; 1720—97), які меў бясспрэчны аўтарытэт сярод яўрэяў бел.-літоўскіх земляў. Па ініцыятыве Гаона і шклоўскіх рабіністаў у 1772—80 хасідаў адлучалі ад абшчын у Брэсце, Гродне, Пінску, Слуцку, выганялі з гарадоў. Аднак пад кіраўніцтвам Саламона Карлінскага і Мендэля Віцебскага ствараліся новыя хасідскія абшчыны. У гэты перыяд пачаў дзейнічаць Шнеер Залман з Лёзна, духоўны правадыр бел.-літоўскіх хасідаў, родапачынальнік дынастыі Шнеерсонаў. Ён правёў рэформы ў рэліг. дагматыцы і абраднасці і стаў заснавальнікам новага, больш рацыянальнага кірунку ў Х. — Хабада (абрэвіятура: «хохма» — мудрасць, «біна» — разуменне, «даат» — веды). Крыніцай веры Залман лічыў не пачуццё, а розум. Свае ідэі ён адлюстраваў у многіх творах, найб. значная кніга — «Танія» («Збор прамоў»). Буйныя цэнтры Х. ўзніклі ў Століне, Ляхавічах і інш. З далучэннем бел. земляў да Рас. імперыі хасіды атрымалі больш свабоды для прапаганды свайго вучэння. Аднак у 1798 па даносе «міснагдым» Залман быў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць у Пецярбургу. Яго абвінавацілі ў стварэнні шкоднай секты, адпраўцы грошай у Палесціну для паліт. мэт (магчыма, для Н.Банапарта). Аднак у час допытаў Залман зрабіў добрае ўражанне на сенатараў і імператара Паўла І і быў вызвалены. Пасля гэтага хасіды сталі выбірацца ў кагалы і трапілі ў праўленне Бел. *сінагогі* (кагальнай акругі). Нягледзячы на новы кароткачасовы арышт Залмана (1800—01), у 1804 урад выдаў «Палажэнне», у якім афіцыйна прызнаваў існаванне ў рас. яўрэйстве 2 кірункаў і ўзаконіў іх. Т.ч. Х. заняў легальнае месца ў рэліг. жыцці яўрэяў Беларусі. У далейшым адбылося прымірэнне хасідаў з «міснагдым» на глебе агульнай барацьбы супраць гаскалы (хаскалы) — руху ў яўрэйстве за аваладанне свецкімі ведамі. У наш час паслядоўнікам Хабада з'яўляецца плынь «Любавіцкія хасіды» (назва ад мяст. Любавічы Магілёўскай губ., цяпер у Смаленскай вобл. Расіі, дзе жылі нашчадкі Залмана), якая ўзначальваецца дынастыяй Шнеерсонаў, з 1940 мае цэнтр у Нью-Йорку.

*Літ.:* Г е р а с і м а в а І. Прадпасылкі і станаўленне хасідызму на Беларусі ў канцы XVIII — пач. XIX ст. // Нацыянальная палітыка расійскага самадзяржаўя на Беларусі ў канцы XVIII — пач. XIX ст.: Зборнік навуковых прац. Мн., 1995. *І.П.Герасімава.*

ХЕ́ДАР (ад стараж.-яўр. — хата) — яўрэйскія рэлігійныя пачатковыя школы, дзе вывучалі Свяшчэннае Пісанне і малітвы. Існавалі Х. прыватныя (платныя) і грамадскія (Талмуд-Тора, бясплатныя), першапачаткова толькі для хлопчыкаў. Падзяляліся на 3 групы. У 1-й дзеці з 3 гадоў навучаліся азбуцы і чытанню, у 2-й з 5 гадоў вывучалі *Пяцікніжжа* з каментарыямі Рашы, у 3-й з 8 гадоў — *Талмуд* і яго каментарыі. Размяшчаліся непасрэдна ў пакоі настаўніка (меламеда). У сістэме яўр. нац. адукацыі Х. адыгрывалі важную ролю, таму што ў іх адбывалася абавязковае вывучэнне *Торы* будучымі членамі абшчыны, што давала магчымасць захоўваць і перадаваць яўр. традыцыю. На Беларусі Х. былі найб. распаўсюджанымі яўр. навучальнымі ўстановамі. Паводле перапісу 1897 у Гродзенскай губ. існавала 698, Мінскай — 977, Магілёўскай — 882, Віцебскай — 499 Х., у якіх навучалася 29 669 вучняў (з іх 17% дзеці заможных бацькоў, 55% — сярэдняга класа і 28% — бедных сем'яў). Асабліва былі пашыраны дробныя Х., у якіх навучалася 10—12 дзяцей. У канцы 19 ст. ў процілегласць традыцыйным узніклі Х. рэфармаваныя (хедэры-метуканы), што было звязана з распаўсюджваннем ідэй сіянізму. У 1895 у Пінску сіяніст І.Бергер заснаваў адзін з першых у Расіі рэфармаваны Х. (пазней яны наз. ўзорнымі). У іх вывучалі іўрыт, граматыку, гісторыю яўр. народа, геаграфію, арыфметыку. У пач.

20 ст. ўзорныя Х. створаны ў Мінску, Бабруйску, Гомелі, Слуцку і інш. З цягам часу ўзорныя Х. сталі пачаткам новага этапу ў яўр. нац. адукацыі. У гэты час ствараліся і жаночыя Х., больш падобныя на пачатковыя школы, дзе акрамя яўр. прадметаў выкладаліся і абавязковыя. Для малазабяспечаных дзяцей існавалі жаночыя Х. на ўзор Талмуд-Тора (у Мінску іх было 6, у Бабруйску і Глуску 4 і інш.). Ствараліся рэфармаваныя Талмуд-Тора і для хлопчыкаў, дзе таксама выкладаліся агульнаадук. прадметы і асновы рамёстваў. Але іх было няшмат. У 1897 у Гродзенскай губ. было 12 Талмуд-Тораў (419 вучняў), у Мінскай — 18 (711 вучняў), Магілёўскай — 12 (429 вучняў), Віцебскай — 4 (218 вучняў). Х. былі асноўнымі нац. школамі і ў першыя гады сав. улады. Пасля прыняцця ўказа ў 1922 «Аб забароне выкладання дзецям яўрэйскай нацыянальнасці да 18 гадоў рэлігіі ў хедарах, талмуд-торах і ешыботах» Х. да сярэдзіны 1930-х г. існавалі падпольна.

*І.П.Герасімава.*

ХЕРУВІ́МЫ — гл. *Анёлы.*

ХІЛІЯ́ЗМ (ад грэч. chilias, chilioi тысяча), м і л е н а р ы з м — рэлігійна-утапічнае вучэнне пра другое прышэсце Хрыста і яго тысячагадовае царства, прадказаныя ў Адкрыцці Іаана. Хіліясты верылі, што гэта царства адбудзецца на зямлі, а не ў замагільным свеце. Х. узнік у раннім хрысціянстве, быў асуджаны царквой у 3 ст., але не аднойчы адраджаўся ў сярэдневяковых *ерасях* (іаахіміты, гусіты, амальрыкане), у час *Рэфармацыі* (Мюнцэр, *анабаптысты*) і пазней.

ХРАМ — культавае збудаванне, якое лічыцца месцам знаходжання Бога (у манатэізме) ці багоў і духаў (у політэістычных вераваннях), мае *алтар*, прызначана для выканання рэлігійных абрадаў. Архітэктура асн. тыпаў Х. (свяцілішча, хрысц. *касцёл, царква* і *сабор*, будыйская пагада і інш.) гістарычна відазмяняліся адпаведна развіццю дойлідства ў розных краінах і набывалі яркую нац. своеасаблівасць (*мячэць, сінагога* і культавыя будынкі ў пратэстанцкіх канфесіях не маюць алтара і лічацца дамамі малітвы, а не Х.). На працягу тысячагоддзяў Х. выконвалі не толькі рэліг., але і некаторыя грамадскія функцыі (урачыстыя сходы, цырымоніі; многія Х. мелі мемарыяльны характар), адыгрывалі ролю абарончых збудаванняў, напр., храм-крэпасць. У сімволіцы архітэктурных частак раскрываліся асн. рысы светапогляду эпохі. Гл. таксама *Кляштар, Манастыр.*

ХРЫСТАЛО́ГІЯ — традыцыйны раздзел багаслоўскіх, рэлігійна-філасофскіх і містычных вучэнняў, якія грунтуецца на ўяўленні аб Ісусе *Хрысце* як цэнтральным сімвалічным вобразе хрысціянскай культуры. Спалучае дагматычныя палажэнні з філасофска-метафізічнымі пабудовамі. Асновай хрысталагічных канцэпцый служыць вучэнне пра траістую сутнасць Бога: Бог-Айцец — увасабляе касмічна-універсальны пачатак, Бог-Сын — канкрэтнасць і цэлеснасць універсальнага; Святы Дух — містычны сінтэз, закончанасць і паўнату. У сувязі з гэтым гісторыя разглядаецца як паслядоўнасць увасабленняў Айца, Сына і Святога Духа (І.Флорскі, М.Экхарт, Я.Бёме, У.С.Салаўёў, М.А.Бярдзяеў і інш.). Эпоха Айца характарызуецца як «язычніцкі натуралізм», эпоха Сына — як час усведамлення рэліг. адзінства Бога і чалавека; эпоха Святога Духа — як эпоха Богачалавецтва. Прышэсце Ісуса Хрыста разглядаецца як пачатак сусветнай гісторыі, цэнтрам якой з'яўляецца асоба як анталагічны цэнтр светабудовы, як суб'ект дасканалага пазнання.

ХРЫСТАФО́Р ФІЛАЛЕ́Т (у перакладзе з грэч. — Х р ы с т а н о с е ц  П р а ў д а л ю б) — псеўданім беларуска-ўкраінскага пісьменніка-палеміста, пад якім выйшаў у 1597 на старапольскай у Вільні, а ў 1598 на старабел. у Астрозе «Апокрысіс, або Водпаведзь на кніжкі пра Берасцейскі сабор ад імя люду старажытнай грэчаскай веры...». Большасць даследчыкаў гіпатэтычна лічаць, што пад псеўданімам Х.Ф. выступаў валынскі шляхціц-пратэстант Марцін Бранеўскі, які быў у блізкіх адносінах з кн. К.К.Астрожскім, па даручэнні якога і напісаў «Апокрысіс», скіраваны супраць *Брэсцкай уніі 1596* і ананімна выдадзенай кнігі П.*Скаргі* «Апісанне і абарона сабору рускага Берасцейскага» (1597). Пісьменнік шырока выкарыстоўваў тэкст *Бібліі*, пісанні грэчаскіх і лацінскіх айцоў царквы, для доказу пэўных палажэнняў звяртаўся да сучасных яму дзярж. дакументаў і прыватных лістоў вядомых асоб. У творы адстойваецца права на самабытнасць праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, даказваецца згубнасць шляху гвалтоўнага насаджэння уніі, якое можа прывесці да грамадз. вайны. «Апокрысіс» насычаны вобразамі-алегорыямі, прыказкамі, прымаўкамі, эпітэтамі, пераказамі сюжэтаў з Эзопа і Федра. Відавочная залежнасць спосабу вядзення палемікі ад пратэстанцкіх прац 16 ст. У сваю чаргу, «Апокрысіс» зрабіў уплыў на творчасць К.Астрожскага, аўтара «Перасцярогі», М.*Смятрыцкага* і інш. Поўны тэкст «Апокрысіса» на польскай і старабел. мовах надрукаваны ў «Рускай гістарычнай бібліятэцы» (т. 7. 1882).

*Літ.:* Я р е м е н к о П.К. Український письменник-полеміст Христофор Філалет і його «Апокрисис». Львів, 1964.

*У.Г.Кароткі.*

ХРЫСЦІЯ́НЕ ВЕ́РЫ ЕВА́НГЕЛЬСКАЙ (ХВЕ) — найбольш пашыраная плынь сярод *пяцідзесятнікаў*, якая вядзе свой радавод ад амеры-

канскай царквы Асамблея Бога. Пачала пашырацца ў Зах. Украіне і Зах. Беларусі ў 1920-я г., калі туды вярнуліся пасля заканчэння ў ЗША біблейскай школы мясцовыя жыхары І.Герыс, І.Чэрскі, П.Ільчук, Т.Нагорны і І.Антанюк. Яны арганізавалі шэраг абшчын на тэр. Цярнопальскай, Ровенскай і Брэсцкай абл., якія тады ўваходзілі ў склад Польшчы. Пазней плынь пачала распаўсюджвацца ў інш. раёнах Польшчы. Паколькі большая частка паслядоўнікаў ХВЕ пражывала на тэрыторыях, якія ў 1939—40 апынуліся ў складзе СССР, яны стварылі свой «Саюз ХВЕ Зах. Украіны, Беларусі і Літвы». ХВЕ з'яўляюцца паўночнай галіной таго ж веравызнання, якое на поўдні (з цэнтрам у г. Адэса, кіраўнік — І.Я.Варанаеў) называлася хрысціяне евангельскай веры (ХЕВ). У апошнія гады 2-й сусветнай вайны яны фармальна аб'ядналіся і сталі называць сябе «Епіскапальнай царквой ХЕВ». У 1945 кіраўніцтва ХВЕ падпісала пагадненне пра аб'яднанне з Саюзам евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ). Пасля гэтага частка абшчын ХВЕ далучылася да ЕХБ, а другая ўстрымалася. У 1989 аб'яднанне ХВЕ з ЕХБ распалася. Больш за ўсё абшчын ХВЕ і ХЕВ знаходзіцца на Украіне, Беларусі і ў Прыбалтыцы. На 1.1.2001 у Рэспубліцы Беларусь налічваецца 470 абшчын ХВЕ, якія аб'яднаны ў саюз ХВЕ Беларусі.

ХРЫСЦІЯ́НСТВА, адна з сусветных рэлігій (побач з будызмам і *ісламам*). Узнікла ў 1 ст. ва ўсходніх правінцыях Рымскай імперыі як рэлігія прыгнечаных, якія шукалі збаўлення ад бесчалавечных умоў жыцця ў прыходзе месіі (збавіцеля). Хрысціянская ідэя адплаты абяцала пакутным і абяздоленым атрыманне шчасця і свабоды ў царстве нябесным. З цягам часу Х. ў выніку змен, што адбываліся ў ім самім і ў навакольным свеце,ператварылася са зняважанай і гнанай «іудзейскай секты» ў дзярж. рэлігію Рымскай імперыі (пач. 4 ст.). Адносна хуткаму распаўсюджанню Х. сярод розных сац. і этнічных груповак імперыі спрыялі яго касмапалітызм, місіянерская дзейнасць, універсалізм маральных прынцыпаў, нівеліроўка класавых і нац. адрозненняў. Галоўнае ў Х. — вучэнне пра богачалавека Ісуса *Хрыста* — Сына Божага, які сышоў з неба на зямлю, прыняў пакуты і смерць для збавення людзей ад першароднага граху, уваскрэс і ўзнёсся на неба. У будучым, паводле хрысціянскага вучэння, адбудзецца другое прышэсце Хрыста для суда над жывымі і мёртвымі. Прыхільнікі Х. павінны выконваць запаветы Хрыста, пакорліва пераносіць цяжкасці жыцця, як гэта рабіў Хрыстос, а падзяку за гэта яны атрымаюць у замагільным свеце. На фарміраванне ідэалогіі Х. прыкметны ўплыў зрабілі ўсх. культы, месіянскія іудзейскія секты (напр., эсены), іудзейска-грэчаская філасофія (вучэнне пра логас Філона Александрыйскага), позні стаіцызм. Першапачатковa Х. не былі вядомы ўяўленні пра Тройцу, першародны грэх, богаўвасабленне, хрышчэнне, прычашчэнне і інш. догматы, якія паявіліся пазней. Працэс фарміравання хрысціянскай дагматыкі расцягнуўся на некалькі стагоддзяў. Сфармуляваны Нікейскім і Канстанцінопальскім саборамі *сімвал веры* неаднаразова дапаўняўся і змяняўся. Як да събораў, так і ў працэсе іх дзейнасці паміж рэгіянальнымі хрысціянскімі аб'яднаннямі вяліся бязлітасныя спрэчкі па пытаннях разумення розных догматаў. Яшчэ больш працяглай была барацьба, звязаная з рознымі адносінамі да некаторых абрадаў, шанавання абразоў і г.д. У арганізацыйных адносінах Х. ніколі не ўяўляла сабой адзінага цэлага. У ходзе свайго развіцця яно распалася на 4 асн. галіны: старажытныя ўсходнія (нехалкідонскія) цэрквы, *праваслаўе*, *каталіцызм* і *пратэстантызм*. У сваю чаргу ў кожнай з іх вылучыліся розныя плыні, кірункі, групы, секты. Цяпер ў Х. адбываюцца складаныя і супрацьлеглыя працэсы. З аднаго боку, назіраецца сац.-палітычная дыферэнцыяцыя духавенства хрысціянскіх цэркваў, паяўленне левых плыней і груповак, перагляд ранейшых сац. дактрын і ўстановак, а з другога — інтэграцыя розных хрысціянскіх канфесій, асабліва прыкметная ў экуменічным руху і дзейнасці *Сусветнага савета цэркваў*.

ХРЫШЧЭ́ННЕ — адно з сямі хрысціянскіх *таінстваў*. Паводле царк. вучэння, азначае прыняцце чалавека ва ўлонне царквы, які пасля Х. «памірае для жыцця грэшнага і адраджаецца ў жыццё духоўнае, святое». Пачатак Х. паклаў Іаан Хрысціцель, які хрысціў у рацэ Іардан Ісуса Хрыста. Рытуал Х. ў праваслаўі заключаецца ў апусканні немаўлят у купель, у каталіцкай царкве — у паліванні вадой галавы таго, каго хрысцяць, мірапамазанні, вымаўленні святаром строга вызначанага тэксту і надзяванні на ахрышчанага нацельнага крыжыка. Хрысц. царква дапускае Х. і дарослых. Карані Х. ў старажытных водных ачышчальных абрадах. У раннехрысціянскіх абшчынах Х. называлі нараджэннем верніка «ад вады і Духа», яно праводзілася міранамі, у т.л. жанчынамі (дыяканісамі), над людзьмі рознага ўзросту. Х. папярэднічала аскетычная падрыхтоўка. Паступова абрад Х. стаў выключнай прэрагатывай духавенства. З 8 ст. замацаваўся звычай хрысціць немаўлят. У ранняй патрыстыцы Х. трактавалася гал. чынам як далучэнне да Хрыста, у сувязі з неабходнасцю збавення ад першароднага граху. У барацьбе каталіцкай царквы з ератыкамі, якія адмаўлялі Х., выпрацаваны формулы Х. (зацверджаны IV Латэранскім і Фларэнтыйскім саборамі), неабходнага для «адра-

джэння з дапамогай вады ў слове», пакаянне і апраўдання. У 16—17 ст. анабаптысты («перахрышчэнцы»), крытыкуючы ідэалогію каталіцызму, настойвалі на Х. дарослых, што захавалася як адметная прыкмета веравучэння баптызму.

ХРЫШЧЭ́ННЕ ЛІТВЫ́ — увядзенне ў Літве *хрысціянства* як дзяржаўнай рэлігіі ў 13—14 ст. Язычніцкія літоўскія плямёны пакланяліся сілам прыроды, шанавалі лясы і воды. Сярод багоў, якім яны пакланяліся, былі ўладальніца зямлі Жэмяпата, заячы бог Дысверыкс, лясны бог Лайдэйна, Ляевель, які змясціў на небе Сонца. Важнае месца займаў культ змей, якім прыносілі ахвяраванні. Хрышчэнне літоўскіх плямён з пач. 13 ст. імкнуліся правесці 2 крыжацкія ордэны — Інфлянцкі (Лівонскі) і Нямецкі (Тэўтонскі). Апошні пасля захопу Прусіі пачаў з 1283 агрэсію супраць Жамойці, Літвы і бел. зямель у Панямонні. Першым з вял. князёў ВКЛ прыняў хрысціянства Міндоўг. Наконт яго хрышчэння існуюць 2 версіі. Паводле адной (Густынскі летапіс 17 ст.), ён прыняў праваслаўе ў 1246: «В сие же лето великий князь литовский Миндовг прия веру христианскую от Востока, со многими своими бояры, по немнозе же сын его Войшелк пострижеся во иночество». Але гэта супярэчыць Іпацьеўскаму летапісу 13 ст., які паведамляе аб прыняцці князем у 1251 каталіцтва. Міндоўг быў ахрышчаны разам з жонкай, двума малодшымі сынамі і ўсім дваром прэсвітэрам Інфлянцкага ордэна Хрысціянам. Але па звестках таго ж летапісу, Міндоўг употай маліўся язычніцкім багам. Разам з Міндоўгам хрысціянства прынялі балты-язычнікі, што знаходзіліся пад яго ўладай, хоць і не ўсе. Рымскі папа Інакенцій IV у 1251 прызначыў на пасаду біскупа Літвы Хрысціяна, якому ў 1254 Міндоўг дараваў землі ў зах. частцы Жамойці. На пасаду біскупа Літвы была прызначана і другая кандыдатура — польскі дамініканец Віт. Але ў сувязі з тым, што Міндоўг падтрымаў Хрысціяна, рымскі папа Аляксандр IV у 1255 зняў Віта. Літоўскае біскупства перастала існаваць пасля разрыву Міндоўга з Інфлянцкім ордэнам і адмовы ад каталіцтва ў 1260. Многія з дачок вял. літ. князёў пры заключэнні шлюбаў з хрысціянамі прымалі праваслаўе або каталіцтва ў залежнасці ад веравызнання мужа. Сярод іх дачка Трайдзеня Гаўдэмунда (Соф'я) — жонка Баляслава Плоцкага, дачка Гедзіміна Альдона (Ганна) — жонка Казіміра III Вялікага. Некаторыя з літоўскіх князёў прымалі праваслаўе, напрыклад, сын Міндоўга Войшалк, які нават стаў манахам. Польскае каралеўства рабіла спробы хрысціянізацыі Літвы ў 1349, 1351, 1358 і 1373. Шэраг іх звязаны з дзейнасцю Казіміра III, якога падтрымліваў рымскі папа Клімент VI. Германскі імператар Карл IV таксама 18.5.1358 звяртаўся да Гедзімінавічаў з прапановай прыняць хрысціянства і абяцаў ім падтрымку. Але літоўскія князі паставілі ўмовай вяртанне ім зямель, захопленых крыжакамі. У 1373 рымскі папа Грыгорый XI заклікаў князёў Кейстута, Альгерда і Любарта прыняць хрысціянства, але, як і папярэднія спробы, гэта не было здзейснена. Сыны Кейстута, як і сыны Альгерда ад цвярской княжны Ульяны, пры жыцці бацькоў не былі ахрышчаны. Таму язычніцтва ўладароў Літвы, як і літоўскага насельніцтва ў цэлым, апраўдвала ў вачах каталіцкай Еўропы агрэсіўную дзейнасць Нямецкага ордэна. Прыняцце каталіцтва выкарыстаў у палітычных мэтах вял. князь ВКЛ *Ягайла*, які пасля заключэння Крэўскай уніі 1385 разам з братамі Карыгайлам, Свідрыгайлам і Вігандам быў ахрышчаны 15.2.1386 у Кракаве ў кафедральным саборы. Пасля гэтага ён ажаніўся з польскай каралевай Ядвігай і быў каранаваны як польскі кароль. Пасля прыняцця Ягайлам каталіцтва настаў 2-і этап хрышчэння Літвы. Зімой 1386—87 кароль прыбыў у Літву разам з прэлатамі і інш. духоўнымі асобамі. У Вільні адбыўся з'езд, на якім прысутнічалі браты караля Скіргайла, Вітаўт, Уладзімір, Карыбут, рыцарства і прадстаўнікі народу. Ягайла заклікаў пакінуць «фальшывых багоў» і прыняць «веру адзінага праўдзівага Бога і яго хрысціянскую рэлігію». Кароль загадаў загасіць вечны агонь на капішчы ў Вільні. Ідалаў разбівалі і знішчалі. Тым літоўцам, хто згаджаўся прыняць хрысціянства, Ягайла даваў новае адзенне, якое прывёз з Польшчы. Яму дапамагала духавенства з Польшчы і манахі віленскага францысканскага кляштара. Пасля Вільні кароль з духавенствам пачаў аб'язджаць інш. месцы для хрышчэння насельніцтва. 17.2.1387 была заснавана *Віленская рымска-каталіцкая епархія*, якой Ягайла аказваў паліт. і матэрыяльную падтрымку. У 1387 засн. першыя парафіяльныя касцёлы ў Вількаміры, Мейшагале, Немянчыне, Медніках, Крэве, Абольцах і Гайне і інш.

*Літ.:* Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. 2 выд. Rzeszów, 2000. *А.М.Філатава.*

ХРЫШЧЭ́ННЕ РУСІ́ — увядзенне ў Кіеўскай Русі *хрысціянства* як дзярж. рэлігіі ў канцы 10 ст. Царк. традыцыя адносіць пачатак хрысціянізацыі да першых стагоддзяў н.э. У летапісах ёсць сцверджанне пра хаджэнне апостала Андрэя Першазванага на Русь. Займаючыся місіянерскай дзейнасцю, ён трапіў на Кіеўскія горы, блаславіў іх, паставіў крыж і прадказаў узнікненне тут вял. горада. На думку М.Ю.Брайчэўскага, «Андрэева легенда» мае прыкметы глыбокай старажытнасці. Хрысціянізацыя ўсх. славян як прыкметная з'ява

прасочваецца з сярэдзіны 9 ст. У дагаворы кіеўскага кн. Ігара з грэкамі 945 упамінаюцца хрысціяне на Русі. Верагодна, у Кіеве каля 955 прыняла хрысціянства жонка Ігара княгіня Вольга. У 980 рымскі папа накіраваў да кіеўскага кн. Уладзіміра Святаславіча пасольства з мэтай схіліць яго да прыняцця хрысціянства паводле рымскай традыцыі. Аднак каталіцкая царква не мела поспеху на Русі. Афіцыйнаму ўвядзенню хрысціянства на Русі папярэднічаў зварот візантыйскага імператара Васіля II за дапамогай для задушэння паўстання, якое выбухнула ў Візантыі. Уладзімір згадзіўся дапамагчы пры ўмове, што імператар выдасць за яго замуж царэўну Ганну. Паўстанне было задушана пры дапамозе прысланага Уладзімірам атрада. Але імператар адмовіўся выконваць свае абавязацельствы. Тады Уладзімір з войскамі уступіў у Крым і пасля доўгай аблогі ўзяў Херсанес (Корсунь). Імператар паспяшыў заключыць з Уладзімірам мір і выканаць свае абавязацельствы. Перш чым заключыць шлюб, Уладзімір павінен быў прыняць хрысціянства і пакінуць Херсанес. Тут кіеўскі князь быў ахрышчаны сам і абвясціў хрысціянства рэлігіяй Русі. Паводле яго загаду кіеўлян сагналі ў Днянро, і грэчаскія святары іх ахрысцілі. Аб тым, калі гэта адбылося, крыніцы даюць супярэчлівыя звесткі. Побач з традыцыйнай датай 988 даследчыкі абгрунтоўваюць больш раннія і больш позція даты, у прыватнасці 989 і 990. На Русі з'явілася *духавенства*. На чале яго стаў *мітрапаліт*, які меў рэзідэнцыю ў Кіеве. Падпарадкаваныя яму *епіскапы* знаходзіліся ў буйных гарадах. Правам назначэння мітрапаліта карыстаўся канстанцінопальскі патрыярх. Царква на Русі знаходзілася ў залежнасці ад грэчаскай царквы. Мітрапалітамі звычайна былі грэкі. Мітрапаліту і епіскапам падпарадкоўвалася белае (жанатае) духавенства, якое было ў гар. і сельскіх прыходах, а таксама чорнае духавенства — манахі. Падобна візантыйскаму, рус. духавенства падтрымлівала свецкую ўладу і клапацілася аб уласных царкоўных выгадах. Царква атрымлівала ад князёў дзесятую частку дзярж. даходаў і значныя зямельныя ўладанні. Прыняцце хрысціянства ў параўнанні з язычніцтвам было вял. крокам наперад. Умацоўваліся сувязі Русі з інш. дзяржавамі. У манастырах адкрываліся школы для навучання грамаце, тут працавалі перапісчыкі кніг і мастакі. На Русі пачалі будаваць мураваныя цэрквы, якія былі ўпрыгожаны мазаікамі і фрэскамі.

Пра пашырэнне хрысціянства на бел. землях звестак у пісьмовых крыніцах недастаткова. Напэўна, прыняцце хрысціянства ў Полацку адбылося больш спакойна, чым у некаторых інш. гарадах (у Ноўгарадзе княжацкія дружыннікі за супраціўленне спалілі палавіну горада). У позніх летапісах пра полацкага кн. Ізяслава Уладзіміравіча [988—1001] гаворыцца, што ён чытаў хрысціянскія кнігі і быў вельмі набожны. Пра Рагнеду Рагвалодаўну позні летапіс паведамляе, што яна правяла апошнія гады свайго жыцця пад імем чарніцы (манашкі) Анастасіі. Недастаткова высветлена, калі пачалі ствараццa на бел. землях тэрытарыяльныя царкоўныя акругі — епархіі на чале з епіскапамі. Выказваюць меркаванні, што ў 992 была створана *Полацкая праваслаўная епархія*. У сярэдзіне 11 ст. быў пабудаваны кафедральны *Полацкі Сафійскі сабор*. Першае ўпамінанне ў летапісе пра полацкага епіскапа Міну змешчана пад 1105. У 12 ст. ўзніклі першыя *Полацкія манастыры*. Ёсць сведчанні пра заснаванне адной з першых цэркваў у Друцку (1001).

У Тураве, верагодна, усталяванне хрысціянства суправаджалася крывавымі падзеямі. Тураўскае паданне апавядае пра каменныя крыжы, якія прыплылі ў горад па Прыпяці, вада ў рацэ была чырвонай ад крыві. Мяркуецца, што *Тураўская праваслаўная епархія* заснавана ў канцы 10 — пач. 11 ст. У «Кіева-Пячэрскім пацерыку» змешчана паведамленне аб яе заснаванні ў 1005. У 1013 тураўскі кн. Святаполк Яраполчыч узяў шлюб з дачкой польскага кн. Баляслава. Разам з яе акружэннем прыехаў калобжэгскі біскуп Рэйнберн, які ў Тураве пачаў рабіць захады па распаўсюджванні хрысціянства паводле лацінскай традыцыі і спробы стварэння тут каталіцкай біскупіі. Кіеўскі кн. Уладзімір Святаславіч зняволіў у турму Святаполка, яго жонку і Рэйнберна, які хутка памёр. У 1054 хрысціянская царква канчаткова падзялілася на каталіцкую і праваслаўную. Некаторыя гісторыкі выказваюць спрэчныя меркаванні аб тым, што Тураў стаў цэнтрам епархіі пасля таго, як у 1088 тут пачаў княжыць праўнук Уладзіміра Святаполк Ізяслáвіч. Пасля яго смерці ў 1113 яго ўдава грачанка Варвара заснавала ў Тураве манастыр у імя св. Варвары, дзе жыла з дваімі дзецьмі. У 12 ст. ў Тураве існаваў мужчынскі Барыса-Глебскі манастыр, пры якім знаходзілася епіскапская рэзідэнцыя. У летапісе пад 1146 упамінаецца тураўскі епіскап Іакім. Шырока вядомы ў гісторыі Беларусі епіскап *Кірыла Тураўскі*. Распаўсюджванне хрысціянства на стараж. землях Беларусі мела агульныя рысы з зацвярджэннем новай веры на інш. землях усх. славян. У гарадах раней, чым у вёсках, пазнаёміліся з хрысціянствам. Яно было прынята напачатку вярхамі і пастулова распаўсюджвалася сярод інш. слаёў грамадства.

*Літ.:* Брайчевский М.Ю. Утверждение христианства на Руси. Киев, 1989; Русское православие: вехи истории. М., 1989; Штыхов Г.В. Язычество и христианство в Полоцкой земле // Старожитності Русі—України. Київ, 1994; Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 1. Мн., 2000.

*Г.В.Штыхаў.*



ЦА́МБЛАК Грыгорый (свецкае імя Г а ў р ы і л; каля 1364, г. Тырнава, цяпер Вяліка-Тырнава, Балгарыя — 1419 або 1420?) — праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ, пісьменнік, мітрапаліт кіеўскі ў 1415—1419/20?. Пляменнік мітрапаліта *Кіпрыяна* і, верагодна, сваяк тырнаўскага патрыярха Яўфімія. Атрымаў царк. адукацыю на Афоне (Грэцыя). Пасля 1393 (захоп Тырнава туркамі і падзенне Балгарскага царства) займаў царк.-адм. пасады ў Канстанцінопалі, Малдове, Сербіі. У 1406 выклікаиы Кіпрыянам у Маскву, але па дарозе (на Нёмане) даведаўся пра смерць Кіпрыяна і застаўся ў ВКЛ, дзе набыў вядомасць як вучоны кніжнік і прапаведнік. Праблема пастаўлення новага мітрапаліта (*Кіеўская мітраполія* захоўвала ў той час адноснае адзінства) прывяла да канфлікту паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Канстанцінопальскі патрыярх адхіліў прапанаваную вялікім кн. ВКЛ Вітаўтам кандыдатуру полацкага архіепіскапа Феадосія і ў 1408 зацвердзіў кандыдата Масквы Фоція. У адказ у 1415 на скліканым па патрабаванні Вітаўта ў Навагрудку царк. саборы асобным мітрапалітам кіеўскім у ВКЛ быў абраны Ц. Абранне адбылося без згоды канстанцінопальскага патрыярха, гэта значыць некананічна паводле царк. права (пры гэтым спасылаліся на прэцэдэнт *Кліменга Смаляціча*), але садзейнічала ўнутр. ўмацаванню ВКЛ. Да найбуйнейшых падзей перыяду кіравання Ц. належыць перанос у 1416 мітрапаліцкай кафедры з Кіева (спустошаны ў выніку набегу Нагайскай арды) ў г. Навагрудак і ўдзел Ц. ў *Канстанцкім саборы 1414—18.* Са смерцю Ц. і пагаршэннем адносін ВКЛ з Польшчай у пач. 1420-х г. пытанне пра асобнасць мітраполіі страціла вастрыню; Вітаўт прызнаў царк. ўладу *Фоція* над заходнімі епархіямі. Наступны этап станаўлення правасл. царквы ВКЛ звязаны з імем і дзейнасцю *Грыгорыя Балгарына* (яго ўжо ў старажытнарус. кніжнасці блыталі з Ц.). Літаратурная творчасць Ц. (жыціі, казанні, пахвальныя словы) ставіць яго ў шэраг найвыдатнейшых дзеячаў царк.-слав. і старабалгарскай культуры. Гіпотэза А.І. Яцымірскага пра добраахвотны адыход Ц. з мітраполіі, далейшае жыццё ў Малдове ў 1420—40-я г. і пра яго тоеснасць з малдаўскім манахам-кніжнікам Гаўрыілам не сустракае прызнання многіх даследчыкаў.

*Тв.:* Житие на Стефан Дечански. София, 1983.

*Літ.:* Я ц и м и р с к и й А.И. Григорий Цамблак: Очерк его жизни, административной и книжной деятельности. СПб., 1904; Григорий Цамблак: Живот и творчество. София, 1984; Ш а л ь к е в і ч В. Цамблак і Вітаўт // Голас Радзімы. 1998. 10 вер.

*В.В.Антонаў.*

ЦАРКВА́ (ад грэч. kyriake дом Божы) — 1) арганізацыя вернікаў, якая склалася ў працэсе развіцця веравучэння і аб'яднання людзей у межах агульнай *рэлігіі* (звычайна ў *хрысціянстве*). Для Ц. характэрна існаванне сістэмы абавязковых догматаў, абрадаў (культ). Кіраванне ёю, як правіла, заснавана на іерархічных прынцыпах.

Паводле праваслаўнай і каталіцкай дагматыкі, Ц. ёсць усталяваная ад Бога супольнасць людзей, якія аб'яднаны верай, законам Божым, свяшчэнным кіраўніцтвам і таінствамі; «містычнае цела Ісуса Хрыста», пасрэдніца паміж Богам і чалавекам, ахоўніца святых дароў, без якой немагчыма выратаванне. Пратэстанцкая трактоўка паняцця «Ц.» заснавана на адмаўленні яе функцыі як пасрэдніцы паміж Богам і чалавекам (догмат аб апраўданні верай) і адвяргае традыцыйны падзел на свецкіх асоб і клір (*духавенства*), абвяшчаючы догмат аб «агульным свяшчэнстве». Хрысціянская Ц. як сац. інстытут складалася паступова на аснове невял. аб'яднанняў вернікаў — эклесій (грэч. — сходаў), у якіх яшчэ не было ні прафесійнага духавенства, ні развітой абраднасці. У 2—3 ст. у іх з'явіўся клір на чале з *епіскапамі*. Для прыняцця агульных рашэнняў праводзіліся з'езды епіскапаў (саборы). У 1054 адбыўся падзел хрысціянскай Ц. на каталіцкую і праваслаўную, а ў 16 ст. ўзнікалі пратэстанцкія *секты*, некаторыя з іх пераўтвары-

ліся ў Ц. У сучасным рэлігіязнаўстве акрамя Ц. і секты вылучаюць і *дэнамінацыю*. У наш час розныя хрысціянскія канфесіі істотна адрозніваюцца па сваёй арг-цыі. Толькі каталіцкая Ц. і нестарыянская асірыйская Ц. Усходу з'яўляюцца адзінымі (кожная паасобку) у арганізацыйным плане, у той час як у *праваслаўі* і *монафізіцтве* існуе значная колькасць самастойных памесных Ц. *Пратэстантызм* не ўяўляе сабой адзінага цэлага і складаецца з вял. колькасці плыняў (англіканства, *лютэранства, кальвінізм*, баптызм, метадызм, пяцідзесятніцтва і інш.), якія, у сваю чаргу, падзяляюцца на асобныя Ц. і дэнамінацыі. Гісторыю розных Ц. на Беларусі гл. ў арт. *Праваслаўная царква, Рымска-каталіцкая царква, Уніяцкая царква.*

2) Назва храма ў *праваслаўі, уніяцтве* і некат. інш. рэлігіях. Паводле рэліг. дагматыкі з'яўляецца домам Бога і месцам агульнага богаслужэння. Звычайна мае 3-часткавую кампазіцыю: прытвор, уласна храм, алтар. У прытворы (нартэксе, катыхумене) стаяць аглашэнныя — людзі, якія збіраюцца далучыцца да Ц., і тыя, на каго накладзена епітым'я (грэч. — пакаранне). Храм (грэч. — наос) — зала для малення абшчыны вернікаў — мужчын і жанчын; у цэнтры знаходзіцца амбон — узвышанае месца, з якога чытаецца *Евангелле* і прамаўляюцца пропаведзі. Алтар — памяшканне, даступнае толькі *святару*, там знаходзіцца прастол, або Св. Трапеза; алтар аддзяляецца ад малельнай залы іканастасам — драўлянай сцяной з абразоў у некалькі ярусаў з царскімі варотамі. У раннехрысціянскія часы, калі жанчыны маліліся асобна ад мужчын, для гэтага ладзіліся адмысловыя канструкцыі — хоры і галерэі (па-грэч. — гінекеі), або бабінцы; пазней, калі жанчынам дазволілі стаяць у прытворы, яго таксама сталі называць бабінцам. У архітэктурны комплекс Ц. можа ўваходзіць званіца (бывае непасрэдна на будынку або стаіць асобна). Ц. мае шматлікія сімвалічныя тлумачэнні (карабель, космас, чалавек, цела Хрыстова, дом Гасподзень, Іерусалімская горніца). Падабенства да карабля або Ноева каўчэга ў тым, што вернікі ратуюцца сярод бурных вод жыцця і плывуць разам са Збавіцелем да нябеснага Іерусаліма. Падабенства Ц. да космасу ў тым, што рукатворная Ц. — увасабленне Ц. нерукатворнай, г. зн. светастварэння. Антрапаморфнасць Ц. адлюстравана ў старадаўніх назвах элементаў пабудовы — галава (купал), шыя (барабан), плечы (скляпенні) і інш. Аздабленне Ц. мае ўстойлівую сістэму, якая склалася да 10 ст. ў Візантыі. Царк. размалёўкі ўвасабляюць вобраз свету, які ўключае гісторыю (Свяшчэнную гісторыю і гісторыю Ц.) і метагісторыю (стварэнне і канец свету). У аснове размалёвак — іерархічны падыход: чым вышэй выява, тым больш значная падзея або асоба. Царк. дэкарацыя развіваецца ад купала, які ўспрымаецца як рэальнае неба, адкуль прыйдзе Хрыстос у дзень другога прышэсця. Таму там размяшчаецца выява Хрыста-Пантакратара (грэч. — Уседзяржыцеля). Вакол Хрыста — сілы нябесныя: архангелы, херувімы і інш. Ніжэй у барабане — выявы прарокаў, якія ўспрынялі і перадалі народам волю Божую. Купал звязваецца з падкупальнымі слупамі з дапамогай канструкцыйных элементаў паўсферычнай формы — ветразяў. Там знаходзяцца выявы евангелістаў, якія пашыраюць Добрую Вестку. На слупах насценныя выявы і абразы св. падзвіжнікаў — пакутнікаў і воінаў — «стаўпоў Ц.». На скляпеннях і сценах размяшчаюцца сюжэты з Новага і Старога запаветаў. Змест размалёвак можа адрознівацца ў залежнасці ад зададзенай багаслоўскай праграмы Ц. Па сваім значэнні Ц. можа быць стаўрапігіяльнай — у непасрэдным падпарадкаванні *патрыярха* або *Сінода*; кафедральнай — Ц. епархіяльнага *архірэя*; прыходскай; могілкавай ці мемарыяльнай — *капліцай*. Найб. значныя Ц. таксама называюць саборамі.

На Беларусі будаўніцтва Ц. вядзецца з пач. 11 ст. (Ц. Багародзіцы «Старой» у Полацку). У 11 ст. на аснове творчага пераасэнсавання візант. будаўнічых традыцый склалася Полацкая школа дойлідства, у 12 ст. — Гродзенская архітэктурная школа. Ц. перыяду ВКЛ мелі рысы старабел. традыцый і зах.-еўрап. культуры (*Мураванкаўская царква-крэпасць, Сынковіцкая царква-крэпасць*, Супрасльская царква-крэпасць). У 17 ст. на Беларусі існавала самастойная Магілёўская школа царк. архітэктуры. Пасля скасавання царк. уніі у 1839 з 2-й пал. 19 ст. да пач. 20 ст. будаўніцтва і ўладкаванне Ц. праводзіліся пад наглядам Сінода. Сучасныя бел. Ц. будуюцца і пад уплывам гіст. узораў (гал. чынам маскоўскіх), і па праектах, якія выкарыстоўваюць рысы нац. дойлідства (напр., Ц. ў гонар *Мінскага абраза Маці Божай* у Мінску; арх. А.Трухін).

*Літ.*: Ретковская Л.С. Вселенная в искусстве Древней Руси // Труды ГИМ. Вып. 33. М., 1961; Голубинский Е. История Русской церкви. Т. 1. М., 1980; Пучков П.И., Казьмина О.Е. Религии современного мира. М., 1998; Самыгин С.И., Нечипуренко В.Н., Полонская И.Н. Религиоведение: социология и психология религии. Ростов-н/Д., 1996.

*А.У.Верашчагіна, Г.А.Лаўрэцкі.*

ЦАРКОЎНАПРЫХО́ДСКІЯ ШКО́ЛЫ (ЦПШ), адзін з тыпаў пачатковых царкоўных школ. Падпарадкоўваліся Св. Сіноду, давалі адукацыю ў духу правасл. веры і царквы. Фактычна існавалі пры цэрквах і манастырах задоўга да афіц. іх прыз-

нання ў 1836, калі імператар Мікалай I запрасіў правасл. духавенства навучаць сялянскіх дзяцей чытанню, пісьму і лічэнню. Да пач. 1860-х г. наз. «царкоўныя школы», «школы святчэннікаў», «прыходскія вучылішчы». Паводле «Правіл аб царкоўнапрыходскіх школах» (13.6.1884) ЦПШ падзяляліся на аднакласныя з 2-гадовым і двухкласныя з 4-гадовым курсам навучання. У іх выкладаліся: Закон Божы, царк. спевы, чытанне царк. і грамадз. друку і пісьма, пачатковыя звесткі па арыфметыцы, у 2-класных яшчэ і звесткі з царк. і рас. гісторыі. Паводле «Палажэння аб царкоўных школах ведамства праваслаўнага веравызнання» (1.4.1902) курс навучання ў аднакласных ЦАШ павялічаны да 3 гадоў, у 2-класных — да 5 гадоў. У іх выкладаліся Закон Божы, царк. спевы, царк.-слав. грамата, рус. мова, пісьмо, пачатковая арыфметыка, для дзяўчынак — рукадзелле; у 2-класных яшчэ кароткая царк. і рас. гісторыя, геаграфія з кароткімі звесткамі пра з'явы прыроды, чарчэнне і, пры магчымасці, маляванне. Акрамя звычайных агульнаадукац. ЦПШ на Беларусі існавалі 2-класныя царкоўна-настаўніцкія школы (да 1902), школы з рамеснымі аддзяленнямі (Вайханская Гарадоцкага пав. са сталярным, Межаўская Полацкага пав. з кавальска-слясарным), з с.-г. і рамесным аддзяленнямі (хутар Прыволле Аршанскага пав.), чыгуначныя (Аршанская, Жлобінская, 2 Гомельскія) для падрыхтоўкі дзяцей служачых чыгункі да паступлення ў тэхн. чыгуначныя вучылішчы. Вучэбны курс у апошніх быў пашыраны за кошт матэм. прадметаў. У ЦПШ вучыліся ў асн. дзеці бел. сялян правасл. веравызнання. ЦПШ былі бедна абсталяваны, знаходзіліся ў непрыстасаваных памяшканнях, вучням не хапала вучэбных дапаможнікаў, выкладчыкі мелі нізкі адукацыйны ўзровень. Намаганнямі Сінода, духавенства, часткі грамадства ў 1910-я г. ЦПШ па ўзроўні навучання наблізіліся да аднатыпных школ інш. ведамстваў. Напярэдадні 1-й сусв. вайны сельскія ЦПШ Беларусі ўключаны ў агульнагуб. школьныя сеткі ўсеаг. навучання. Утрымліваліся за кошт субсідый Сінода, мясц. сял. абшчын, губ. земскіх збораў, пасля ўтварэння земстваў — губ.-земскіх субсідый і прыватных ахвяраванняў. У 1911 у Літоўскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Полацкай і Мінскай епархіях існавала 75 двухкласных і 2523 аднакласных ЦПШ, у якіх навучалася 142 269 дзяцей. У 1913 у Літоўскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Полацкай епархіях каля 41% ЦПШ не мелі ўласных будынкаў, 2,2% настаўнікаў былі свяшчэннаслужыцелямі, 20,2% свецкіх настаўнікаў мелі вышэйшую або сярэднюю адукацыю, 5,3% — спец. пед. адукацыю, 71,9% — толькі званне настаўнікаў аднакласных школ, а астатнія — званне настаўніка школы граматы або не мелі ніякага пасведчання. У 1-ю сусв. вайну школы з зах. і цэнтр. Беларусі эвакуіраваны ці зачынены ў сярэдзіне 1915, на ўсходзе большасць школ працавала да 1918. Частковае адраджэнне ЦПШ пачалося ў 1990-я г. ў выглядзе нядзельных школ. *С.М.Васовіч.*

ЦАРКОЎНАСЛАВЯ́НСКАЯ МО́ВА — літаратурная мова, пашыраная ў большасці славянскіх народаў у 11—17 ст. Утварылася ў выніку пранікнення ў стараслав. мову фанетычных, граматычных і лексічных элементаў жывых слав. моў. Вылучаюцца зводы (рэдакцыі) Ц.м.: сярэднебалгарскі, сербскі, чэшскі, рус., бел. і інш. Самы багаты па колькасці помнікаў рус. звод.

На Беларусі Ц.м. выкарыстоўвалася амаль выключна ў рэліг. сферы (богаслужэнне, царк. літаратура). Сярод помнікаў бел. зводу Ц.м. — «Жыціе Ефрасінні Полацкай» (спіс 14 ст.), «Чэцця» (15 ст.), большая частка «Зборніка біблейскіх кніг № 262» (16 ст.) і інш. У іх пры захаванні архаічных рыс стараслав. мовы адчувальны і бел. моўны ўплыў. У фанетыцы паралельнае ўжыванне няпоўнагалосных і поўнагалосных форм («гласъ», «злато» — «голос», «золото»), розных рэфлексаў праслав. спалучэнняў dj, tj («надежда», «свеща» — «надежа», «свеча»), пачатковых «е» і «о» («единъ», «езеро» — «одинъ», «озеро»); у марфалогіі выкарыстанне розных форм скланення і спражэння, напр., канчаткаў прыметнікаў роднага склону мужчынскага і ніякага роду «-аго» і «-ого» («великаго», «добраго»), форм на «-ши» і «-шъ» у дзеясловах 2-й асобы адзіночнага ліку («будеши», «несеши» — «будешъ», «несешъ»); у лексіцы ўжыванне розных сродкаў для абазначэння адных і тых жа рэалій і паняццяў («блюсти», «глаголати», «житница», «перстъ», «страна» — «стеречи», «мовити», «гумно», «палецъ», «краіна») пры перавазе першых.

Павышэнню аўтарытэту і нармалізацыі Ц.м. садзейнічала з'яўленне дапаможнікаў па ёй («Граматыка» Л.*Зізанія*, 1569, «Граматыка» М.*Смятрыцкага*, 1618, 1619, слоўнікаў «Лексіс» Зізанія, 1569, «Лексікон...» П.Бярынды, 1627, 2-е выд., 1653). Ц.м. на працягу многіх стагоддзяў уплывала на бел. літ.-пісьмовую мову, аднак царкоўнаславянізмаў у ёй захавалася вельмі мала. Гэтым бел. мова адрозніваецца ад рус. літ. мовы, якая за час гіст. развіцця арганічна ўвабрала ў сябе цэлыя пласты слоў і фразеалагічных зваротаў стараслав. паходжання.

*Літ.*: Ван-Вейк Н. История старославянскага языка: Пер. с нем. М., 1957; Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967. *А.М.Булыка.*

ЦАРКОЎНАСЛУЖЫ́ЦЕЛІ — прадстаўнікі ніжэйшага духавенства ў праваслаўных і некаторых іншых хрысціянскіх цэрквах, якія выконваюць дапаможную ролю ў падрыхтоўцы і правядзенні богаслужэнняў. Над Ц. не ўчыняецца таінства свяшчэнства (хіратоніі), яны пасвячаюцца на пасаду толькі благаславеннем архірэя, якое называецца хіратэсія (рукаўскладанне).

ЦВІНГЛІЯ́НСТВА — адна з рэфармацыйных плыняў 16 ст. ў Швейцарыі і Германіі. Засн. швейцарскім святаром Ульрыхам Цвінглі, які ў 1522 абвясціў 67 тэзісаў па прынцыпах *Рэфармацыі*, згодна з якімі каталіцкая царква была рэфармавана. Кляштары былі зачынены, гандаль *індульгенцыямі* забаронены, з храмаў былі выдалены абразы, статуі, крыжы, мошчы, алтары, арганы — усё, што паводле Ц., адцягвае ўвагу ў храме ад самапаглыблення і разлічана на пачуццёвае ўздзеянне. Богаслужэнне было зведзена да пропаведзі, малітвы і спявання псалмоў. У арганізацыі царквы ажыццяўляліся прынцыпы самакіравання абшчыны з выбраннем і зняццем служыцеляў культу. Нягледзячы на самастойнае развіццё, Ц. мела агульныя рысы з *лютэранствам*. У аснове Ц. вучэнне апостала *Паўла* пра збаўленне Хрыстом ад першароднага граху і выратаванне чалавека праз веру. Цвінглі спавядаў строгі дэтэрмінізм і сцвярджаў, што выратаванне спасцігне толькі нешматлікіх выбраннікаў, крытычна падыходзіў да царк. устанаўленняў. *Таінствы* ў Ц. лічыліся толькі сімваламі: *еўхарыстыя* разглядалася як напамін аб ахвяры Хрыста, *хрышчэнне* сімвалізавала прыняцце верніка ў абшчыну і г.д. Пасля смерці Цвінглі Ц. было выцеснена, але дзякуючы намаганням пераемніка Цвінглі Г.Булінгера зноў пачало распаўсюджвацца. Да канца 16 — пач. 17 ст. Ц. злілося з *кальвінізмам*.

ЦЕПЛЯ́К (Cieplak) Ян (17.8.1857, г. Дамброва, Падляскае ваяв., Польшча — 17.2.1926), дзеяч рымска-каталіцкай царквы ў Расіі і Беларусі. Д-р тэалогіі (1901). Вучыўся ў Келецкай духоўнай семінарыі (1873—78) і Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1878—82), дзе да 1908 быў выкладчыкам. Пасвячоны ў ксяндзы 24.7.1881. З 1908 тытулярны біскуп і суфраган магілёўскі. Член Рымска-Каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, у 1909—10 яе старшыня. Здзейсніў першую ў гісторыі візітацыю ў Сібір і на Сахалін (1908), наведаў іншыя рэгіёны Расіі. Візітацыя Мінскай дыяцэзіі прыпынена царскімі ўладамі ў 1910, а сам Ц. пазбаўлены выканаўчых функцый у Духоўнай калегіі. У 1914—17 генеральны вікарый *Магілёўскай рымска-каталіцкай архіепархіі* (арцідыяцэзіі) і апостальскі адміністратар Мінскай дыяцэзіі. Спрыяў узнікненню ў Пецярбургу «Таварыства хрысціянскіх рабочых». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 склаў мемарыял аб свабодзе касцёла, ствараў новыя парафіі. 19.4.1917 удзельнічаў у канферэнцыі біскупаў Магілёўскай арцыдыяцэзіі ў Пецярбургу. З 29.4.1919 тытулярны арцыбіскуп, у тым жа годзе ў выніку арышту магілёўскага арцыбіскупа Э. Ропа зноў прыняў кіраўніцтва Магілёўскай арцыдыяцэзіяй. За абарону правоў каталіцкай царквы арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1920 і 1922, у сак. 1923 прыгавораны да смяротнага пакарання, замененага 10-гадовым турэмным зняволеннем. У 1924 дэпартаваны ў Латвію, адкуль выехаў у Польшчу, потым у Рым. З кастр. 1925 па даручэнні папы Пія XI рабіў візітацыю польскіх парафій у ЗША, падчас якой быў прызначаны арцыбіскупам Віленскай арцыдыяцэзіі. Памёр да ўрачыстага прыняцця кафедры, пахаваны ў касцёле Св. Станіслава ў Вільні.

*І.Г.Ганчарук.*

ЦУД — звышнатуральнае, не даступнае розуму здзяйсненне, якое парушае законы прыроды. Шматлікія паданні пра Ц. характэрны для ўсіх рэлігій. У т.зв. рэлігіях адкрыцця (хрысціянства, іслам, іудаізм) Ц. лічыцца сведчаннем сапраўднасці божага адкрыцця і доказам усемагутнасці Бога. У пратэстанцкай тэалогіі паняцце «Ц.» набыло шмат інтэрпрэтацый. М.Лютэр далучаў да Ц. ўсе здзяйсненні, якія адбываюцца ў свеце, сціраючы межы паміж натуральным і цудоўным. Ліберальная тэалогія, пратэстанцкі рацыяналізм 18—19 ст., неалібералізм 19—20 ст. імкнуліся даць рацыянальна-натуральнае тлумачэнне Ц., апісаным у Свяшчэнным пісанні. Прадстаўнікі Цюбінгенскай школы лічылі ўсе біблейскія паведамленні пра Ц. недакладнымі (Ф.К.Баўэр, А.Гільгенфельд, Г.Планк, Э.Цэлер). Пад уплывам І.Канта некаторыя кірункі пратэстанцкай тэалогіі сцвярджалі, што месца Ц. ў суб'ектыўных перажываннях чалавека. Ф.Шлеермахер абвясціў Ц. рэліг. эквівалентам выпадковасці, Р.Бультман прапанаваў метад дэміфалагізацыі хрысціянства, згодна з якім хрысц. міфалогія страчвае рысы Ц., а сапраўднае тлумачэнне Ц. бачыў у атаясамленні веры ў Ц. і веры ў Бога.

ЦЭЛІБА́Т (ад лац. caelebs нежанаты) — абавязковая бясшлюбнасць каталіцкага духавенства. Прапанавана папам Грыгорыем VII у 1075, усталявалася з сярэдзіны 13 ст. Энцыклікай «Аб цэлібаце святароў» (1967) папа Павел VI пацвердзіў непахіснасць Ц.

ЦЯ́ПІНСКІ (Амельяновіч) Васіль Мікалаевіч (1530-я або пач. 1540-х г., Полаччына — 1603) — бел. гуманіст і радыкальна-рэфармацыйны дзеяч, кнігавыдавец, пісьменнік. З сям'і дробнага гаспадарскага баярына Полацкага пав. Мікалая Амельяновіча. З 1567 служыў малодшым афіцэрам коннай роты аршанскага старосты Ф.Кміты-Чарнабыльскага. Прымаў удзел у Лівонскай вайне 1558—83. Меў родавы маёнтак Цяпіна (Чашніцкі р-н). Служыў у падканцлера ВКЛ Астафія Валовіча, пратэктара рэфармацыйнага руху, які падтрымліваў кнігавыдавецкую і асветніцкую дзейнасць на Беларусі і ў Літве. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў пач. 1570-х г. ён жыў на Валыні.

Ц. прадоўжыў гуманістычныя і культурна-асветніцкія традыцыі *Ф.Скарыны*, быў асабіста і ідэйна звязаны з *С.Будным*, падзяляў яго грамадска-палітычныя і рэліг. погляды. Як і С.Будны, ён прыйшоў ад *кальвінізму* да антытрынітарызму (гл. *Антытрынітарыі*). У кнізе «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры» С.Будны паведамляў, што ў 1574 у доме «брата мілага Васіля Цяпінскага» адбыўся сінод антытрынітарыяў. У другой сваёй кнізе ён пісаў пра сінод 1578, на якім Ц. адстойваў пазіцыю, што валодаць маёнткамі і зямлёй, а таксама ўдзельнічаць у справядлівых войнах супраць нашэсцяў і пагрозы тыраніі — гэта не грэх і не супярэчыць Бібліі, як даводзілі крайне левыя антытрынітарыі. Такія погляды Ц. супадалі з поглядамі шляхецкага крыла пратэстанцкага руху. У 1570-я г. Ц. на свае сродкі арганізаваў друкарню (знаходзілася, відаць, у маёнтку Цяпін каля Лепеля) з намерам выдаваць кнігі на бел. мове. Наважыўшыся надрукаваць Евангелле на двух мовах — царк.-слав. і стараж.-рус. (бел.), Ц. распачаў цяжкую і складаную па тым часе працу па яе перакладзе. Зараз вядома толькі адно яго выданне — Евангелле, якое выйшла каля 1570 і змяшчае евангеллі ад Матфея, Марка і часткова ад Лукі (захоўваецца ў Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу). Гэта частка выдання выяўлена ў 19 ст. ў рукапісным зборніку, куды былі ўплецены 62 друкаваныя аркушы Евангелля Ц. Пры перакладзе Евангелля на бел. мову Ц. апіраўся на стараслав. пераклады Свяшчэннага пісання асветнікамі *Кірылам* і *Мяфодзіем*. Уся перакладчыцкая і друкарская дзейнасць вялася ім з патрыятычных пачуццяў «своей Русі услугуючи». Пра сваё высокае прызначэнне служыць бел. народу Ц. пісаў у рукапіснай прадмове да Евангелля. Ён высока цаніў «зацный, славный, острий, довстипный» бел. народ, да якога адносіў і сябе. Ц. імкнуўся даказаць вялікую карысць чытання Евангелля на роднай мове як «сумы закону божиего», якое дае магчымасць лепш разумець рэлігію. Яго падыход да рэлігіі быў рацыяналістычны, талерантны. Рэліг. адукацыю ён звязваў з асветай наогул. Евангелле адрасаваў і дарослым, і дзецям, і кальвіністам, і праваслаўным, і ўсім, хто хоча чытаць гэту частку Бібліі. У сваёй прадмове да Евангелля Ц. пісаў, што з-за цяжкага матэрыяльнага становішча, процідзеяння непрыяцеляў, якія здзекаваліся з яго шчырага імкнення надрукаваць кнігу, яму давялося выпусціць толькі пісанні св. Матфея, Марка і пачатак з Евангелля Лукі. Выданнем Евангелля Ц. ставіў мэту не толькі спрыяць рэліг. выхаванню, але ўзняць асвету і нац. самасвядомасць бел. народа. Асн. прычыну цяжкага становішча і заняпаду сваёй айчыны ён бачыў у афіц. палітыцы паланізацыі і акаталічвання беларусаў, у падтрымцы гэтай палітыкі мясц. феадаламі. Даўно наспелай справай ён лічыў адкрыццё школ, у якіх выкладанне вялося б не на лац. ці польскай, а на бел. мове, дастаткова багатай для выкарыстання яе ў навуч. установах. У сваім выданні Евангелля Ц. змясціў 210 глос (слоў-перакладаў), якія тлумачылі на палях кнігі незразумелыя ці малазразумелыя словы. Мяркуюць, што ў 1562 Ц. надрукаваў у Нясвіжы 2 творы С.Буднага: «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». У Супрасльскім зборніку 16 ст. перад прадмовай да Евангелля Ц. змешчаны «Катэхизисъ, або Соума Науки детеи въ христе Исусе», магчыма, тэкст пад рыхтаваны Ц.

*М.Б.Батвіннік.*



В.М.Цяпінскі.

ЦЯРЛЕ́ЦКІ, Тарлецкі Кірыла (свецкае імя невядома, імя па бацьку Сямёнавіч; ?, Піншчына — май 1607) — беларускі і ўкраінскі цар-

коўны і дзярж. дзеяч. З правасл. шляхецкага роду. У пач. 1570-х г. пратапоп пінскай саборнай царквы св. Дзмітрыя. У час міжкаралеўя 1574—75 прызначаны Радай ВКЛ епіскапам пінскім і тураўскім, што пацвердзіў прывілеем у 1576 кароль Стафан Баторый. Шмат намаганняў прыклаў да маёмаснага ўпарадкавання епархіі, збіраў дакументы, выдадзеныя на карысць правасл. царквы. У 1585 кароль прызначыў яго епіскапам луцкім і астрожскім. Луцкая епархія мела каля 40 царкоўных маёнткаў, у т.л. 4 мястэчкі, што зрабіла Ц. ўплывовай асобай. Шмат клапаціўся пра павелічэнне царкоўных даходаў, вяртанне царкоўных маёнткаў, якія апынуліся ў прыватным трыманні. У час вяртання з Масквы канстанцінопальскага патрыярха Іераміі ў 1589 атрымаў ад яго ганаровы сан патрыяршага экзарха (намесніка), што было ўпершыню ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У 1590-х г. Ц. стаў адным з ініцыятараў уніі правасл. царквы Рэчы Паспалітай з каталіцкай. У чэрв. 1591 на саборы ў Брэсце разам з інш. епіскапамі падпісаў грамату аб магчымасці заключэння уніі на пэўных умовах. Ц. было даручана весці перагаворы з мітрапалітам Міхаілам *Рагозам*, папскім нунцыем і каралём пра заключэнне уніі. Удзельнічаў у выпрацоўцы ў 1594—95 «Артыкулаў» пра ўмовы уніі. Кароль Жыгімонт II пагадзіўся на патрабаванні епіскапаў, адзначаў вял. намаганні Ц. ў падрыхтоўцы злучэння цэркваў. У вер. 1595 Ц. разам з епіскапам уладзімірскім Іпаціем *Пацеем* выехаў да рымскага папы Клемента VIII. 23.12.1595 яны прысягнулі яму. Ц. садзейнічаў паспяховаму правядзенню ў кастр. 1596 сабора ў Брэсце, дзе была прынята *Брэсцкая унія 1596*. Праціўнікі уніі абвясцілі пра пазбаўленне Ц. сана, але Жыгімонт III узяў яго пад сваю апеку. 30.5.1569 кароль даў Ц. ў кіраванне *Кобрынскі Спаскі манастыр*, у снеж. 1597 — прывілей на ўладанне багатым Жыдзічынскім манастыром каля Луцка (аднак Ц. не завалодаў ім з-за процідзеяння інш. прэтэндэнтаў). У апошнія гады жыцця Ц. адышоў ад паліт. дзейнасці. Пахаваны, верагодна, у Луцку.

*Літ.:* Дмитриев М.В. Посольство Ипатия Потия и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595—1596 годах // Славяноведение. 1996. № 2.

*В.С.Пазднякоў.*

# Ч

**ЧАРНЕ́ВІЧ** Станіслаў (15.8.1728, с. Шламава каля г. Каўнас, Літва — 20.7.1785) — каталіцкі рэлігійны дзеяч. Чл. ордэна *езуітаў* з 1743. У 1747—50 вывучаў тэалогію ў Вільні, Мінску і Слуцку, потым да 1757 — у Віленскім ун-це. У 1756 пасвячоны ў ксяндза. У 1759—68 у Рыме, сакратар і пракуратар Польскай правінцыі езуітаў пры генерале ордэна В.Рычы. З 1768 на Беларусі. У 1772, калі да Расіі была далучана усх. Беларусь, стаў рэктарам Полацкага езуіцкага калегіума. З 15.10.1773 віцэ-правінцыял езуітаў на далучанай да Расіі частцы Беларусі. У ліст. 1773 разам з Г.Лянкевічам і Ю.Катэнбрынгам наведаў Пецярбург, дзе яны прысягнулі імператрыцы Кацярыне II ад імя усіх езуітаў, у т.л. замежных. У студз. 1774 Кацярына II вызваліла езуітаў ад падаткаў і сурова забараніла не толькі абвяшчаць, але нават і прывозіць у рас. уладанні булу рым. папы Клімента XIV аб забароне ордэна езуітаў (1773). Ч. і яго паплечнікі дамагліся легалізацыі дзейнасці езуітаў у Рас. імперыі. У 1780 Ч. дамогся адкрыцця ў Полацку езуіцкага *навіцыяту*, што вырашыла праблему пераемнасці кадраў у ордэне. Шмат увагі аддаваў дзейнасці школ. *Т.Б.Блінова.*

**ЧАРЭ́ЙСКІЯ МАНАСТЫРЫ́.** У 1454 епіскап смаленскі *Місаіл* (з 1475 мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі) заснаваў праваслаўны Троіцкі манастыр каля возера Галаўля, на поўнач ад мястэчка Чарэя (цяпер вёска ў Чашніцкім р-не Віцебскай вобл.). У 17 ст. звесткі пра яго знікаюць. У канцы 16 ст. канцлер ВКЛ Леў Сапега заснаваў другі манастыр на востраве Чарэйскага возера; надаў яму сёлы Вобчына-Манастыр, Будзілава, Плескачы, Рыдамля і Клубінічы. У 1599 ён закончыў мураваную Троіцкую царкву, ад белых сцен якой манастыр атрымаў назву Белацаркоўскага. У яе склепах пахаваны бацькі Л.Сапегі. У царкве мелася копія вядомага наўгародскага абраза «Маці Божай Знаменне», перададзеная (ці вернутая) у 1640 з Ружан Казімірам Лявонам Сапегаю, сынам канцлера. З 1601 манастыр быў уніяцкім. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 у Магілёўскім царкоўна-археалагічным музеі захоўваўся сярэбраны стацыянальны крыж 1596, падараваны ў Чарэю Л.Сапегам. У 1834 манастыр скасаваны. Царква захавалася ў напаўразбураным стане. *А.А.Ярашэвіч.*

**ЧАСАСЛО́Ў** — богаслужэбная кніга, прызначаная для правасл. царк. чытальнікаў і пеўчых. У ім змяшчаюць *псалмы, малітвы*, песнапенні і інш. тэксты богаслужэнняў (акрамя тэкстаў літургіі, якія змяшчаюць у служэбніку).

**ЧАХО́ВІЦ** Марцін (1532, г. Збоншынь, Польшча — 1613) — тэолаг і арыянскі палеміст, паэт, ідэолаг левага крыла радыкальна-рэфармісцкага руху ў ВКЛ і Польшчы. Пасля заканчэння школы яго накіравалі ў Лейпцыгскі ун-т, дзе ён правучыўся год. Па запрашэнні Мікалая *Радзівіла* Чорнага ў 1559 Ч. прыехаў у Вільню настаўнікам пратэстанцкай школы. Ён актыўна ўключыўся ў жыццё радыкальнай *рэфармацыі* і пад уплывам прапаганды *Пятра з Ганёндза* пачаў адыходзіць ад памяркоўнага *пратэстантызму*. У чэрвені 1561 Радзівіл Чорны накіраваў Ч. ў Швейцарыю, каб памірыць Ж.Кальвіна з Г.Бляндратам, якога жэнеўскі тэолаг абвінавачваў у прапагандзе ідэй М.Сер-


С.Чарневіч.

вета ў Польшчы і ВКЛ. У вер. 1561 Ч. прыехаў у Цюрых, за 3 дні знаходжання з дапамогай вядомага пратэстанцкага школьнага дзеяча атрымаў дэталёвае апісанне цюрыхскай гарадской школы, каб на яе ўзор стварыць школу ў Вільні. Пры вяртанні дадому наведаў адну з анабаптысцкіх суполак у Маравіі і падрабязна пазнаёміўся з яе вучэннем і ладам жыцця. Відавочна, што Ч. хвалявалі сац. ідэі *анабаптыстаў*. Пасля вяртання ў Вільню ён атрымаў пасаду прапаведніка ў *кальвіністкім зборы* і пачаў энергічную прапаганду сац. радыкалізму: выступаў з пропаведзямі, браў удзел у сінодах бел. і літоўскіх *антытрынітарыяў*, дзе абараняў сац. пазіцыі анабаптызму. Ч. падрыхтаваў да друку кнігу «Трохдзённая спрэчка аб хрышчэнні дзяцей», якая выйшла толькі ў 1583. Пад націскам кальвіністаў і гарадскога магістрата Ч. пакінуў Вільню і выехаў у Польшчу. Пасяліўся ў Куявіі ў маёнтку свайго аднадумца Яна Немаеўскага — заможнага шляхціца, суддзі і соймавага пасла. Там яны арганізавалі арыянскую суполку (гл. *Арыянства*). Каля 1570 пад уплывам сац. ідэй Ч.Немаеўскі і група куяўскіх шляхціцаў адмовіліся ад усіх дзярж. пасад, прадалі свае маёнткі, маёмасць і раздалі грошы бедным. Ч. і Немаеўскі пераехалі ў Люблін і сталі на чале вялікай брацкай суполкі, членамі якой былі мясц. гараджане, шляхта, навакольныя сяляне. Пасля смерці Немаеўскага пад націскам памяркоўнага крыла арыян Ч. пакінуў сваю справу, аднак да канца жыцця вёў спрэчкі з прыхільнікамі *Ф.Соцына*, палемізаваў з кальвіністамі і *езуітамі*. У 1581 у Лоску (каля Валожына) ён вёў палеміку з *С.Будным*. Ч. — аўтар твора «Хрысціянскія размовы» (1575), рэліг. песень, вершаванага выкладання Новага запавету (1570), а таксама яго перакладу з грэч. мовы (1577). Веру ён лічыў асабістай справай чалавека, патрабаваў рэліг. верацярпімасці, выступаў супраць каталіцкай рэакцыі і езуітаў на Беларусі, феадальнага ладу, прыгонніцтва, адмаўляў свецкую ўладу, войны, царкву.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая пол. XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970.

ЧЫСТО́ВІЧ Іларыён Аляксеевіч (1828—1893) — праваслаўны гісторык і багаслоў. Прафесар багаслоўя (1862). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1854) і пакінуты ў ёй выкладчыкам. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі правасл. царквы і багаслоўі, у якіх даў характарыстыку адносін стараж.-грэч. свету і хрысціянства да пытання аб бессмяротнасці чалавека. Апублікаваў са сваімі каментарыямі перапіску наўгародскага мітрапаліта Іова. Вывучаў гісторыю правасл. царквы на Беларусі.

*Тв.:* Очерк истории Западно-Русской церкви. Ч. 1. СПб., 1882; Санкт-Петербургская Духовная Академия за последние 30 лет (1858—1888). СПб., 1889.

*В.М.Чарапіца.*

ЧЫСЦІ́ЛІШЧА — паводле каталіцкага веравучэння, прамежкавае месца паміж раем і пеклам. У Ч. душы грэшнікаў, якія не атрымалі даравання ў зямным жыцці, але не абцяжараныя смертнымі грахамі, перад тым, як трапіць у рай, гараць у ачышчальным агні. У каталіцкім багаслоўі гэта выпрабаванне трактуецца як сімвал мук сумлення і раскаяння. Лёс душы ў Ч. можа быць палегчаны, а тэрмін знаходжання там скарочаны, калі ў памяць памерлага родныя і блізкія, пакінутыя на зямлі, будуць рабіць «добрыя справы» (малітвы, месы, матэрыяльныя ахвяраванні на карысць царквы). Уяўленні аб Ч. склаліся яшчэ ў раннім хрысціянстве (1 ст.). Вучэнне пра Ч. распрацаваў *Фама Аквінскі*. Догмат аб Ч. быў прыняты на Фларэнтыйскім (1439) і пацверджаны на Трыдэнцкім (1562) саборах. У праваслаўі і пратэстантызме вучэнне пра Ч. адвяргаецца.

# Ш

ШАМАНСТВА, шаманізм (ад эвенкійскага шаман, саман — узбуджаны чалавек) — ранняя форма *рэлігіі*, найбольш характэрная для народаў Афрыкі, Паўн. і Усх. Азіі, індзейцаў і інш. Засн. на ўяўленнях аб магчымасці асаблівых людзей (шаманаў) быць пасрэднікамі паміж чалавекам і духамі. Шаманам таксама прыпісваліся здольнасці прадказваць будучыню, даведвацца, што адбываецца ў аддаленых пунктах, лячыць ад хвароб, выклікаць змены ў прыродзе, выпраўляць памерлых у падземны свет і інш. Шаманы вызначаліся т.зв. «шаманскай хваробай», якая перадавалася нашчадкам: лічылася, што духі спачатку забіваюць такіх людзей, а пазней уваскрашаюць у новай якасці. Зносіны шамана з духамі адбываліся ў стане экстазу пры выкананні асаблівых рытуалаў (камланняў) пад суправаджэнне ўдараў бубна, калатушкі ці інш. музычнага інструмента, якому надаваліся містычныя якасці. Звычайна шаманы былі майстэрскімі гіпнатызёрамі, ілюзіяністамі, а таксама спевакамі, паэтамі. Абраднасць, адзенне, рытуальныя рэчы, уяўленні аб духах значна адрозніваліся ў Ш. розных народаў. Пэўныя функцыі шаманаў, на думку гісторыкаў, выконвалі і старажытнарускія валхвы.

ШАПТЫЦКІ Афанасій (свецкае імя Антоній; 1685, Уваскрэсенцы Перамышльскай епархіі ў Галіцыі — 11.12.1745 або 1746), уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. Са стараж. шляхецкага роду б. Галіцка-Валынскага княства. З 18.5.1713 архімандрыт унеўскі, адначасова каад'ютар (памочнік) свайго дзядзькі епіскапа львоўскага Варлаама Шаптыцкага. У 1715—45 епіскап львоўскі, галіцкі і камянецкі; адначасова ў 1727—28 каад'ютар уніяцкага мітрапаліта *Л.Кішкі*, у 1729—45 уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і галіцкі, якому падпарадкоўваліся і уніяты на тэр. Беларусі. Пашыраў унію ў Магілёўскай епархіі і на Правабярэжнай Украіне за кошт праваслаўных прыходаў. У царк. кіраванні імкнуўся засяродзіць уладу ў сваіх руках. Пастаянна канфліктаваў з базыльянамі, якія спачатку не прызнавалі яго мітрапалітам. У адпаведнасці з пастановамі *Замойскага сабора 1720* ажыццяўляў захады па выпраўленні багаслужэбных кніг, уводзіў у практыку каталіцкі *сімвал веры*, выключаў службы некаторым святым усходняга хрысціянства, завяршыў друкаванне новага «Служэбніка» (Супрасль, 1727—32) і выдаў свой (Унеў, 1739). У 1720-я г. безвынікова імкнуўся падпарадкаваць сваёй уладзе Львоўскае брацтва, якое мела статус *стаўрапігіі*. Выступаў супраць пераходу уніятаў у лацінскі абрад. Звяртаўся ў Рым (19.10.1744) з просьбай пацвердзіць забарону змены абраду. 19.9.1730 каранаваў цудатворны *Жыровіцкі абраз Маці Божай*. Выдаткаваў сродкі і пачаў будаўніцтва кафедральнага сабора св. Юрыя ў Львове (1745), дзе і пахаваны. *С.В.Казуля.*

ШАПТЫЦКІ Леў (свецкае імя Людвіг; 23.8.1717—25.5.1779), уніяцкі царкоўны дзеяч. Д-р кананічнага права. Са стараж. шляхецкага роду б. Галіцка-Валынскага княства. Вучыўся ў Львоўскім калегіуме тэатынаў, вывучаў багаслоўе і права ў Рыме. Пасля вяртання ў Рэч Паспалітую прыняў манаства ў ордэне *базыльян*. Архімандрыт Мелецкага манастыра на Валыні (1743—49), епіскап львоўскі, галіцкі і камянецкі (1749—79). Быў каад'ютарам з правам наступства пры мітрапаліце *Ф.Валадковічу*, у час яго ўдзелу ў Барскай канфедэрацыі і наступных уцёкаў (1768—70) часова кіраваў *Кіеўскай мітраполіяй*, улада якой пашыралася і на уніятаў Беларусі. З 24.2.1772 генеральны адміністратар Кіеўскай мітраполіі. Фактычна выконваў функцыі мітрапаліта на ўкраінскай частцы мітраполіі. З лют. 1778 да канца жыцця мітрапаліт кіеўскі і галіцкі. У царкоўным жыцці быў прыхільнікам павышэння ролі белага духавенства і абмежавання ўплыву базыльян, якіх імкнуўся пазбавіць права займаць пасады епіскапаў. *С.В.Казуля.*

ШАРАШОЎСКАЕ ЕВАНГЕЛЛЕ, беларускі рукапісны помнік 16 ст. У 16—17 і 19 ст. было напрастольным у царкве вёскі, пазней мястэчка Шарашова (цяпер гарадскі пас. у Пружанскім раёне Брэсцкай вобл.). Тэкст напісаны чорным чарнілам, загалоўкі, надпісы — кінавар'ю. Мастацкае аздабленне складаецца з 4 мініяцюр з выявамі евангелістаў, выкананых чырвонай, карычневай і залаціста-зялёнай фарбамі, 5 заставак, малюнкаў

на палях (раслінная арнаментыка) і ініцыялаў. Зберагаецца ў Нац. маст. музеі Рэспублікі Беларусь.

*Літ.:* Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1980. С. 23—25. *В.Ф.Шматаў.*

ШАРЫЯ́Т (ад арабскага шарыа — правільны шлях да мэты) — комплекс мусульманскіх юрыдычных норм, прынцыпаў і правіл паводзін, выкладзены ў *Каране, суне* і інш. рэліг. творах. У Каране Ш. азначае выкладзены людзям *Алахам* праз прарока *Мухамеда* шлях, прытрымліваючыся якога мусульманін трапляе ў рай. Канчатковую распрацоўку Ш. набыў у 11—12 ст. Ён складаецца з ібадату (рэгулюе знешнія формы адносін людзей да Бога), муамаляту (правілы адносін людзей адзін да аднаго) і укубату (вызначэнне пакаранняў за парушэнне правіл). Асн. праблемы Ш. распрацоўваюцца ў фікху (мусульм. правазнаўстве). На практыцы Ш. рэалізуецца ў мусульм. (шарыяцкіх) судах. Паводле мусульм. уяўленняў, Ш. — вечны і нязменны божы закон, у якім прадугледжаны правілы паводзін на ўсе выпадкі жыцця і змешчаны ўсе рэліг., маральныя, юрыдычныя, бытавыя нормы і звычаі. Паводле тэарэтыкаў *ісламу*, Ш. — агульны арыенцір, які не дае адназначных адказаў і рацыянальнае асэнсаванне якога дазваляе знайсці правільнае вырашэнне канкрэтнай праблемы. У шэрагу сучасных краін сфера дзеяння Ш. звужана за кошт увядзення свецкіх норм права.

ШКА́ПЛЕР (ад польск. szhaplerz абразок, ладанка) — элемент верхняй вопраткі манахаў шэрагу каталіцкіх ордэнаў. Найб. распаўсюджаны ў *кармелітаў.* Складаецца з 2 частак, адна з якіх апускаецца на грудзі, другая — на спіну. У сярэдзіне 13 ст. генерал ордэна кармелітаў С.Шток дазволіў насіць Ш. малой формы свецкім асобам — членам рэліг. брацтваў. Ён складаецца са злучаных стужкамі 2 невялікіх кавалачкаў тканіны, на якіх вышываецца імя (манаграма) Дзевы Марыі. Ш. асвячаецца святаром і абавязвае ўладара да чытання пэўных малітваў. *Л.А.Карнілава.*

ШЛЮ́БУ ТА́ІНСТВА — адно з сямі хрысціянскіх таінстваў, якія прызнаюцца ў праваслаўі і каталіцызме і адбываюцца пры заключэнні царкоўнага шлюбу (вянчанне). Паводле хрысціянскага веравучэння ў час Ш.т. на мужа і жонку праліваецца Божая ласка, якая забяспечвае непарыўны сямейны саюз, заснаваны на каханні, вернасці і ўзаемнай дапамозе да магілы і на агульных клопатах бацькоў аб выхаванні дзяцей у духу хрысц. рэлігіі і высокай маральнасці. Першапачаткова Ш.т. адбывалася ў час літургіі і толькі з 13 ст. стала самастойным. Рытуал яго складваўся паступова і мае свае асаблівасці ў праваслаўі і каталіцызме. Сучасную форму ў правасл. царкве Ш.т. набыло толькі да 17 ст. Рытуал Ш.т. адрозніваецца пышнасцю і ўрачыстасцю, радасным настроем.

ШТУНДЫ́ЗМ (ад ням. Stunde гадзіна, гадзіна для рэліг. чытанняў у ням. каланістаў) — сектанцкая плынь сярод рус. і ўкр. сялян у 2-й пал. 19 ст. Узнік пад уплывам *пратэстантызму*, элементы якога спалучаліся з веравучэннямі духоўных хрысціян. Пазней зліўся з *баптызмам.*

ШЧУ́РАЎСКІ Тыматэвуш (1740—1812) — місіянер і прапаведнік базыльянскага ордэна. Паходзіў з Валыні. Быў прапаведнікам, потым настаяцелем базыльянскага манастыра ў Вільні. У 1792 заснаваў новы жаночы манаскі ордэн ва уніяцкім манастыры, манашак якога называў ёзафаткамі. Пісаў духоўныя вершы, якія доўгі час спявалі ва ўсім Палессі. Аўтар вершаванага дыялога, твораў «Знак благаславення апостальскай навукі» (Вільня, 1780—83), «Бельская місія» (Супрасль, 1792).

ШЫ́ВА (стараж.-індыйскае — добры, той, хто прыносіць шчасце) — у індуісцкай міфалогіі адзін з вярхоўных багоў, які разам з Брахмай і Вішну ўваходзіў у т.зв. боскую трыяду. У якасці самастойнага бажаства Ш. ўключаны ў пантэон параўнальна позна (каля 200 да н.э.), аднак вытокі яго культу ў глыбокай старажытнасці. Ш. — адначасова бог-стваральнік і бог-разбуральнік. У вярхоўнай індуісцкай трыядзе яму адведзена роля знішчальніка свету і багоў у час надыходжання ўсеагульнай гібелі. З гэтым звязаны многія застрашальныя рысы аблічча і культу Ш. На многіх выявах у Ш. пяць (або 4) твары і 4 рукі, пасярэдзіне лба трэцяе вока, якое асабліва згубнае, шыя ў яго сіняга колеру, а цела ў вогненным паўкружжы. Валасы Ш. ўпрыгожвае серп Месяца. У руках ён трымае трызубец, маленькі барабан у форме пясочнага гадзінніка, баявую сякеру або дубінку, лук, сетку і г.д. Са сваёй жонкай, якая мае мноства імён, Ш. жыве на вяршыні гары Кайласы ў Гімалаях.

ШЫІ́ЗМ (ад араб. шыа — прыхільнікі, групоўка, партыя) — адзін з двух (побач з сунізмам) асн. кірункаў у *ісламе*, прыхільнікі якога прызнаюць адзіна законнымі пераемнікамі прарока Мухамеда толькі Алі і яго нашчадкаў. Неўзабаве пасля смерці Мухамеда частка яго паплечнікаў выступіла за захаванне вярхоўнай улады ў «сям'і прарока». У 2-й пал. 7 ст. ў барацьбе за ўладу ўтварылася рэліг.-палітычная групоўка прыхільнікаў перадачы вярхоўнай улады Алі як бліжэйшаму сваяку прарока Мухамеда. Гэта групоўка стала ядром шыіцкага руху, што падзяліў пазней мусульманскую абшчыну на сунітаў і шытаў. Шыіты пераважаюць у Іране і Азербайджане, значная іх колькасць таксама ў Ліване, Іраку, Йемене, Бахрэйне. У інш. краінах — Пакістане, Афганістане, Індыі, Сірыі, Таджыкістане — шытаў менш. Шыіцкія абшчыны ёсць ва ўсіх мусульманскіх краінах, у т.л. і суніцкіх. З 7 да 20 ст. сярод шытаў вылучылася мноства кірункаў і сектаў.



ЭКЗА́РХ (грэч. exarchos галава, начальнік, намеснік) — 1) у Старажытнай Грэцыі — галава жрацоў пры храме. 2) У Візантыйскай імперыі — правіцель вобласці (дыяцэза), адваяванай у варвараў, да 7 ст. — епіскап, які кіруе хрысціянскай царквой у дыяцэзе. 3) У сучасным праваслаўі — галава *экзархату*.

ЭКЗАРХА́Т (ад грэч. exarchos галава, начальнік, намеснік) — у Візантыі ў канцы 6—7 ст. — ваенна-адміністрацыйная адзінка (намесніцтва). *Экзархі* (намеснікі) узначальвалі тут вайсковыя сілы і грамадзянскую адміністрацыю; у праваслаўі — царкоўная акруга, якая звычайна аб'ядноўвае некалькі *епархій* і карыстаецца пэўнай самастойнасцю. Э. узначальваецца епіскапам — патрыяршым экзархам, які падпарадкоўваецца *патрыярху*. Рус. правасл. царква мае Э. у Зах. Еўропе, Цэнтр. і Паўд. Амерыцы, на Украіне, Беларусі.

ЭНЦЫ́КЛІКА (ад грэч. enkyklios агульны, кругавы) — пасланне папы рымскага да ўсіх католікаў або да католікаў адной краіны, вернікаў іншых веравызнанняў, часам і да няверуючых. Прысвячаецца найб. важным грамадска-паліт., рэліг., маральным пытанням. Паводле канонаў каталіцкай царквы Э. не абмяркоўваецца і абавязковая да выканання. Э. звычайна пішуцца на лац. мове і называюцца па першых 2 словах тэксту.

ЭПІМА́Х-ШЫПІ́ЛА Браніслаў Ігнатавіч (4.9.1859, в. Будзькаўшчына Полацкага р-на Віцебскай вобл. — 6.6.1934) — бел. выдавец, мовазнавец, культурны і рэлігійны дзеяч. Кандыдат філалалогіі (1887). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1885), працаваў у б-цы ун-та. Збіраў матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі і фальклоры Беларусі. Ініцыятар стварэння (1906) і фактычны кіраўнік бел. выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Склаў рукапісную хрэстаматыю з твораў бел. літаратуры 19 ст. (1889—1931). Рэдактар першага зб. Я.Купалы «Жалейка» (1908). У 1907—17 выкладаў стараж.-грэч. мову і літаратуру ў Імператарскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. Адначасова больш за 20 гадоў вёў заняткі па тых жа прадметах у прыватнай мужчынскай гімназіі пры рымска-каталіцкай парафіі св. Кацярыны ў Пецярбургу; з 1919 выкладаў тут бел. мову. Адзін з лідэраў бел. культурна-грамадскага, навук. і рэліг. жыцця ў Пецярбургу. Быў звязаны з бел. хрысц. рухам; адзін з духоўных патронаў культурна-асветнага гуртка беларусаў-клерыкаў. Садзейнічаў развіццю нац. самасвядомасці будучых бел. каталіцкіх святароў А.*Станкевіча*, А.Цікоты, М.Пятроўскага і інш., падтрымліваў цесныя кантакты з бел. святарамі Я.Белагаловым, Л.Хвецькам, Ф.*Абрантовічам*, В.Шутовічам і інш. З 1925 рэдактар, у 1927—29 дырэктар камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой бел. мовы. Праследаваўся савецкімі ўладамі. У 1930 арыштаваны ў Мінску, правёў у турме 2 месяцы. Пасля вызвалення яму было забаронена жыць і працаваць у Мінску. Памёр у Ленінградзе.

ЭСХАТАЛО́ГІЯ (ад грэч. eschaton канец у часе і прасторы, край, канчатковая мэта + logos ву-



Б.І.**Эпімах-Шыпіла**

чэнне) — рэлігійнае вучэнне пра канец свету, сэнс і заканчэнне зямной гісторыі. Адрозніваюць індывідуальную Э. (вучэнне пра канчатковы лёс чалавека) і універсальную (вучэнне пра канчатковы лёс усяго чалавецтва). У станаўленні індывідуальнай Э. асаблівая роля належыць стараж.-егіпецкай рэліг. традыцыі, а ў станаўленні універсальнай — *іудаізму*, засяроджанаму на містычным асэнсаванні гісторыі як працэсу, які накіроўваецца воляй Бога. У той ці іншай форме Э. характэрна для ўсіх рэлігій, аднак найб. сістэматызаваныя канцэпцыі распрацаваны ў *манатэізме*, які проціпаставіў цыклізму міфалогіі і *політэізму* ідэю абсалютнага канца свету перад надыходам *Царства Божага*. На ўзроўні міфа Э. мае агульныя матывы, характэрныя для розных рэлігій (*ісламу, хрысціянства* і інш.). У *Старым запавеце* Э. прадугледжвае збаўленне толькі богавыбранага народу. У хрысціянстве збаўленне прызначалася ўсім праведнікам, а ідэя канца свету звязвалася з другім прышэсцем Хрыста, Армагедонам, *хіліязмам* і *Страшным судом*. Ідэя пакарання віноўнікаў несправядлівасці і адвечнага шчасця праведнікаў надавала сэнс зямной гісторыі, але апакаліпсічныя сімптомы хуткага канца былі крыніцай страху перад зямнымі пакутамі і пасляслмяротным пакараннем (гл. *Апакаліпсіс*). Гэта супярэчнасць парадзіла неадназначную трактоўку Э. ў *пратэстантызме*. У эпоху *Рэфармацыі* ў ідэалогіі масавых рухаў былі імкненні зняць супрацьлегласць зямнога і нябеснага свету шляхам абвяшчэння ідэі зямнога Царства Божага і тлумачэння канца свету як пазбаўлення ад сац. зла. Аднак пазней хіліязм быў асуджаны самім жа пратэстантызмам, які прызнаў антыміленарысцкую Э. *Аўгусціна* і кананічную евангелічную традыцыю, паводле якіх сац. перамены, суд і пакаранне з'яўляюцца выключна юрысдыкцыяй Бога. Большасцю пратэстанцкіх кірункаў (*адвентыстамі, пяцідзесятнікамі, сведкамі Іеговы*) канец свету адназначна звязваецца з другім прышэсцем Хрыста і яго вызваленчай місіяй, а не з сац. актыўнасцю людзей, а Э. з'яўляецца стрыжнёвай асновай усяго іх веравучэння. Эсхаталагічныя ідэі прадстаўнікоў ліберальнай тэалогіі, неаартадоксіі і некаторых традыц. кірункаў адыходзяць ад літаральнай трактоўкі канца свету і звязваюць Царства Божае з пераадольваннем зямнога часу і далучэннем да вечнасці шляхам усеагульнай веры і евангелізацыі свету. Для сучаснай тэалогіі і філасофіі характэрна тэндэнцыя да злучэння Э. з глабальнымі праблемамі чалавецтва.

# Ю

ЮБІЛЕ́ЙНЫЯ ГАДЫ́ у каталіцызме — гады, якія перыядычна адзначаюцца каталіцкай царквою. Паводле царк. традыцыі з Ю.г. звязваецца магчымасць поўнага адпушчэння грахоў і вызвалення ад пакарання за іх на гэтым свеце. Упершыню Ю.г. адзначаны ў 1300 паводле пастановы папы Баніфацыя VIII, які прапанаваў адзначаць Ю.г. кожныя 100 гадоў. У 1343 перыяд паміж Ю.г. быў скарочаны да 50 гадоў, у 1389 — да 33 гадоў (у памяць пра зямное жыццё Ісуса). У 1470 папа Павел II прыняў рашэнне адзначаць Ю.г. кожныя 25 гадоў, каб кожнае пакаленне магло ўдзельнічаць у царк. юбілеі. Т.ч. узнікла традыцыя, якая існуе і сёння, адзначаць пачатак кожнай чвэрці стагоддзя як святы год. Як Ю.г. адзначаліся таксама 1933 (у памяць 1900-й гадавіны смерці і ўваскрэсення Хрыста) і 1983 (у памяць 1950-й гадавіны).

ЮЛІЯ́НІЯ АЛЬША́НСКАЯ (?—1550) — бел. праваслаўная святая. Паходзіла са стараж. княжацкага роду Дамбравіцкіх-Альшанскіх, дачка правасл. магната Рыгора Альшанскага. Выхоўвалася ў духу хрысц. пакорлівасці, вызначалася любоўю да навук, шчодрымі ахвяраваннямі на карысць Кіева-Пячэрскай лаўры, асабліва храма Успення Багародзіцы. Памерла ў 16-гадовым узросце і была пахавана ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Мошчы святой былі праслаўлены шматлікімі цудатворствамі і вылячэннямі. Ушаноўваць Ю.А. пачалі з 1624. Уваходзіць у *Сабор беларускіх святых.*

ЮЛІЯ́НСКІ КАЛЯНДА́Р. Гл. ў арт. *Каляндар* царкоўны.

Ю́РАВІЦКАЯ ЕЗУІ́ЦКАЯ РЭЗІДЭ́НЦЫЯ — установа ордэна *езуітаў* у в. Юравічы Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл. ў 17—18 ст.; з 1681 місія, у 1754—73 рэзідэнцыя. Узнікла ў выніку місіянерскай дзейнасці езуітаў Астрожскага калегіума. У Юравічах езуіты вялі актыўную рэліг. дзейнасць дзякуючы абразу Маці Божай Ласкавай, якая карысталася ў вернікаў вял. пашанай. Да яе адбываліся паломніцтвы, шляхта ахвяравала сродкі на будаўніцтва новага касцёла. Пасля заканчэння будаўніцтва (1717—50) у касцёл з вял. урачыстасцю быў унесены абраз. Тут езуіты праводзілі царк. святы, прымеркаваныя да раздачы індульгенцый. Юравіцкія езуіты валодалі вял. зямельнымі і грашовымі сродкамі. У 1674 Барбара Лосчына і Марыяна Катарская перадалі Юравічы ў поўную ўласнасць ордэну. Акрамя гэтага Барбара Лосчына падаравала езуітам 3 вёскі — Пінніцы, Хабна, Крышычы і 11 381 злоты. Паводле завяшчання свайго мужа Міхаіла Лоскі яна абавязвалася перадаць ордэну яшчэ 10 тыс. злотых. У 1677 жонка рэчыцкага маршалка Настасся Пагірская завяшчала езуітам свой маёнтак Хазін. Пазней езуіты набылі і в. Тулавічы. Юравіцкія езуіты займаліся актыўнай ліхвярскай дзейнасцю. У 1687 Лукаш Валовіч за пазычаныя яму 1500 злотых аддаў у заклад свой маёнтак Вішанкі. У год заснавання езуіцкай місіі (1681) польскі кароль і вял. князь ВКЛ Ян III Сабескі даў Юравічам правы мястэч-



**Юліянія Альшанская.**


Да арт. **Юравіцкая езуіцкая рэзідэнцыя.** Рэшткі Юравіцкага касцёла езуітаў.

ка і «на вечныя часы» вызваліў місію ад ваен. павіннасцей на карысць Рэчы Паспалітай. У 1756 у Юравічах адкрыта школа, у 1757 яна пераўтворана ў сярэднюю. Пры рэзідэнцыі былі музычная бурса (з 1765), тэатр і бібліятэка. Юравіцкай езуіцкай рэзідэнцыі падпарадкоўваліся Мазырская (засн. ў 1729, фундуш 20 тыс. злотых) і Брагінская (засн. ў 1750 на ахвяраванні Кацярыны Мнішак).

*Т.Б.Блінова.*

ЮРКЕ́ВІЧ Іван Іванавіч (?, Мінская губ. — 1876) — беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, асветнік. У 1832 паступіў у Літоўскую духоўную семінарыю ў Жыровічах, а ў 1837 — у Пецярбургскую духоўную акадэмію, пасля заканчэння якой у 1841 прызначаны настаўнікам царк. гісторыі і кананічнага права ў Магілёўскай семінарыі. У 1842 абараніў дысертацыю на ступень магістра «Аб прычынах падзелу паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі». У 1844 пераведзены ў Літоўскую духоўную семінарыю, дзе выкладаў Свяшчэннае пісанне і герменеўтыку. З 1845 сакратар семінарскага праўлення (з захаваннем пасады настаўніка), з 1847 — член камітэта, заснаванага пры праўленні семінарыі для збору этнаграфічных матэрыялаў на бел. землях і накіраванне іх у Рус. этнаграфічнае таварыства. У арт. «Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павета» (1853) апісаў хатні і грамадскі побыт, адзенне, абрады бел. сялян. Лічыў, што беднасць сялян тлумачыцца дрэннымі прыроднымі ўмовамі, прычыну хвароб бачыў у дрэнным санітарным стане вясковага жылля. Бел. мову разглядаў як мешаніну рус. і польскай, але больш блізкай да рускай. У 1857 на яго ўскладзены абавязкі выкладчыка яўрэйскай мовы ў семінарыі, а з 1860 ён выкладаў і псіхалогію. У 1860-я змясціў у «Литовских епархиальных ведомостях» вялікі гіст. нарыс пра Літоўскую духоўную семінарыю. У свой час быў вядомы як выдатны знаўца Свяшчэннага пісання і высокакваліфікаваны выкладчык. У 1870 выйшаў у адстаўку.

ЮРО́ДЗІВЫЯ — на Русі аскеты, якія валодалі дарам прароцтва. Царквой разглядаюцца як асобы, што свядома адмовіліся ад звычайнага карыстання розумам. Ю. абвяшчаліся людзьмі, якія адзначаны «божай пячаткай», карыстаюцца асаблівай прыхільнасцю Усявышняга. Выдаючы сябе за вар'ятаў, Ю. смела выкрывалі цароў і вяльмож, былі выразнікамі спадзяванняў нар. мас. У народзе Ю. шанавалі як святых. Некаторыя з іх кананізаваны Рус. праваслаўнай царквой. Сярод найб. вядомых Ю. манах Кіева-Пячэрскай лаўры Ісаакій (11 ст.), Пракопій Усцюжскі (14 ст.), Мікалай Качанаў (14 ст.), Васіль Блажэнны (15—16 ст.).



ЯБЛЫЧЫНСКІ СВЯТА-АНУФРЫЕЎСКІ МАНАСТЫР — праваслаўны мужчынскі манастыр у в. Яблычын за 30 км ад Цярэспаля на беразе р. Буг (Люблінскае ваяводства, Польшча). Засн. ў пач. 14 ст. У дакументах упершыню згадваецца пад 1498. Паводле падання, аднойчы рыбакам з'явіўся святы Ануфрый Вялікі і прадказаў: «Тут будзе праслаўлена імя маё»; праз нейкі час да берага прыстаў абраз святога. Для цудадзейнага абраза спачатку была пабудавана капліца, потым бел. магнаты Забярэзінскія, якім належаў Яблычын з наваколлем, на месцы з'яўлення святыні засн. мужчынскі манастыр і забяспечылі яго матэрыяльна. Яблычын і манастыр па чарзе пераходзілі ва ўладанне і апеку бел. правасл. родаў Іллінічаў, Насутаў, Багавіцінавічаў, Пронскіх, Сапегаў. Манастыр ад іх атрымаў больш за 1400 га зямлі. Пасля *Брэсцкай уніі 1596* ён не паддаўся націскам уніятаў і застаўся праваслаўным, аб'яднаўся з інш. правасл. манастырамі ў Драгічыне, Бельску, Заблудаве і разам яны склалі апору праваслаўя на Падляшшы. У Яблычынскім манастыры скрытна жыў і кіраваў Холмскай епархіяй да сваёй смерці ў 1633 Паісій, якога ў 1620 патаемна пасвяціў у епіскапа іерусалімскі патрыярх Феафан. Пасля непасрэднага далучэння Каралеўства Польскага да Расійскай імперыі (1831) манастыр у 1834 падпарадкаваны мінскаму епіскапу, з 1840 — архіепіскапу варшаўскаму і новагеоргіеўскаму. У 1838—40 пабудаваны гал. манастырскі мураваны храм св. Іаана Багаслова (дзейнічае і цяпер). У 1889 пры манастыры пачала працаваць школа псаломшчыкаў, у 1908 адкрыта 3-гадовая сельскагаспадарчая школа. У 1915 манастыр эвакуіраваўся ў Маскву, але ў 1918 большасць браціі вярнулася ў Яблычын. У 1-ю сусв. вайну манастырскія збудаванні зруйнаваны, зямля і ўся маёмасць канфіскаваны. З 1929 пры манастыры працаваў прытулак для састарэлых святароў. У 1934 у манастыры адкрыты 2-гадовыя курсы для псаломшчыкаў, у 1936 — для дыяканаў, у 1938 — курсы для настаўнікаў Закону Божага. У час нямецкай акупацыі ў 2-ю сусв. вайну манастыр цалкам разбураны. У пасляваенныя гады ў час этнічнай чысткі правасл. насельніцтва (акцыя «Вісла») у Паўд. Падляшшы Праваслаўнай царкве ў Польшчы ледзь удалося ўратаваць манастыр. У 2-й пал. 1960-х г. пачалося яго адраджэнне. У 1974—94 тут размяшчалася частка класаў Варшаўскай правасл. духоўнай семінарыі.

*М.Р.Гайдук.*

ЯЗЫЧНІЦТВА (ад царк.-слав. языцы — народы, чужаземцы), паганства (ад лац. paganus язычнік) — прыняты ў багаслоўі і ўмоўна ў гістарычнай літаратуры тэрмін, які абазначае старадаўнія вераванні і культы, што існавалі да пашырэння т.зв. «вышэйшых» рэлігій (*хрысціянства*, *ісламу*, будызму). Я. — сукупнасць шматслойных і разгалінаваных рэлігій. Уключае рознастадыяльныя ўяўленні, ідэалагічныя напластаванні розных гіст. эпох (*анімізм*, *фетышызм*, *татэмізм* і інш.).

Асн. звесткі пра слав. Я. пачэрпнуты з розных крыніц, у т.л. з твораў ант. аўтараў, хрысц. палемічных пісанняў, гіст. сведчанняў. Археалагічныя адкрыцці пацвердзілі існаванне язычніцкіх культавых збудаванняў, *капішчаў*, дзе адбываліся стараж. абрады. Цікавыя звесткі пра Я. даюць этнаграфія, фальклор, нар. выяўленчае мастацтва, мова. На працягу многіх тысячагоддзяў свайго існавання Я. зазнала шматлікія змены, трансфармацыі, наслаенні. Яно пачыналася ад культу вялікай Маці-Багіні эпохі матрыярхату, *культу продкаў*, культу жывёлы і закончылася складаным і разгорнутым пантэонам багоў. У індаеўрап. народаў вялікае пашырэнне меў культ Сонца і культ агню як праяўленне энергіі Сонца. З'явіліся шматлікія сімвалы сонца-агню ў выглядзе разетак, круглых шчытоў, разнастайных крыжоў і розных камбінацый іншых фігур з крыжамі (роўнаканцовы крыж, мальтыйскі крыж, упісаны ў кола, квадрат, ромб). Сонечны культ выяўляў тэндэнцыю да *манатэізму*. Накладваючыся на больш раннія вераванні і культы, ён дапускаў пэўны кампраміс, у якім ранейшыя *божаствы* падпарадкоўваліся галоўнаму з рысамі бога-сонца. Часта адбывалася

ідэнтыфікацыя галоўнага племяннога бажаства з сонцам. На больш нізкія ступені іерархіі спускаліся даўнія божаствы падначаленых плямён, асобных родаў і інш. Паводле сведчанняў ант. аўтараў, славяне лічылі ўладаром свету аднаго бога — творцу грома і маланкі, якому прыносілі ахвяры, але аддавалі належную пашану і менш значным міфалагічным персанажам. Прыносілі ахвяры таксама духам рэк і азёр, дрэвам, камяням і інш. (гл. *Ахвярапрынашэнне*). «Аповесць мінулых гадоў» адлюстравала познюю стадыю існавання Я. ва ўсх.-слав. народаў. Кіеўскі кн. *Уладзімір Святаславіч* перад тым, як увесці хрысціянства, спрабаваў стварыць дзярж. рэлігію з культам Перуна. *Пярун* — бог грому і маланкі — адзін з найб. стараж. божастваў, культ якіх выводзіцца з часоў індаеўрап. супольнасці (Пяркунас у літоўцаў, Пярунаш у хетаў). Вядома, што ў дагаворах з візантыйцамі русы прысягалі Перуном і *Вялесам*. Вылучэнне на першае месца Перуна ў часы кн. Уладзіміра сведчыла пра аднясенне на другараднае месца божастваў сонца і агню, якія мелі раней агульнаслав. пашырэнне. Па нешматлікіх пісьмовых звестках можна меркаваць, што *Сварог* быў богам неба, а бог сонца *Дажбог* — яго сынам. Увядзенне хрысціянства не скасавала цалкам язычніцкіх уяўленняў, язычніцкай культуры. Хрысц. царква вымушана была дапасоўваць свае святы і абрады да язычніцкага святочнага календара. Нар. масы па сутнасці доўгі час заставаліся язычнікамі. Язычніцкая па сваіх вытоках і аснове нар. свядомасць выявілася ў вераваннях, абрадах, звычаях, вуснай паэзіі народа. Многае з таго, што ў язычніцкія часы было культавым, захоўваецца ў асноўным як маст. з'ява.

Звесткі, сабраныя этнографамі, фалькларыстамі і інш. даследчыкамі традыц. культуры на Беларусі, дазваляюць пад наносным пластом позніх хрысц. уяўленняў адшукаць рэшткі язычніцкага светапогляду і магічна-абрадавай практыкі (святкаванне *дзядоў*, *радаўніцы*, звычаі і дзеянні, звязаныя з пахаваннем, нябожчыкамі, уяўленні пра «той свет»). У памяці народа жывуць шматлікія паданні і песні, у якіх з пазіцый міфалагічных уяўленняў тлумачыцца паходжанне аб'ектаў жывой і нежывой прыроды, чалавека, асобных народаў, культурных здабыткаў і інш. Без веры ў сапраўднасць іх існавання апавядаюцца гісторыі пра русалак, *ваўкалакаў*, лесавікоў, *вадзянікоў*, чарцей, зданяў, ведзьмаў і інш. персанажаў нар. *дэманалогіі*. У беларусаў шырока выкарыстоўвалася вербальная (слоўная) і невербальная магія: вялікае пашырэнне мелі разнастайныя *замовы*, праклёны, «засцерагальныя» дзеянні ад стыхійных нягод, эпідэмій, сац. катаклізмаў і інш. (напр., комплекс рытуальных дзеянняў «выкліканне дажджу», комплекс ахоўных дзеянняў, звязаных з тканнем ахвярнага палатна, якім абносілі паселішча ад няшчасцяў, і шэраг *варожбаў*, забарон, звязаных з аховай ураджаю, свойскай жывёлы, сямейнага дабрабыту, здароўя і жыцця асобных індывідуумаў). У нар. уяўленнях працягваецца традыцыя паважлівых адносін да агню, у фальклоры ўслаўляюцца сонца, месяц, зоркі, дрэвы, рэкі, крыніцы і г.д. Абрады каляндарнага цыкла — *гуканне вясны*, ваджэнне куста, пахаванне «стралы», *Купалле*, *Каляды*, валачобніцтва, юраўскія і траецкія звычаі і дзействы страцілі сваю магічна-аграрную функцыю і захоўваюцца часткова ў нар. практыцы.

*А.М.Салавей*

ЯЛЕЕАСВЯШЧЭ́ННЕ, сабораванне — адно з сямі хрысціянскіх *таінстваў*, якое спраўляецца над хворымі. Рытуал Я. заключаецца ў змазванні лба, шчок, вуснаў, рук і грудзей *ялеем* і чытанні малітваў. Паводле правасл. вучэння, Я. вылечвае ад цялесных і душэўных хвароб і адначасова вызваляе ад грахоў, у якіх хворы не паспеў пакаяцца. Каталікі бачаць у Я. суцяшальны наказ чалавеку, які памірае, і не прызнаюць вылечвальнай функцыі Я.

ЯЛЕ́Й — аліўкавы алей, які ўжываецца ў царк. рытуалах. Я. запраўляюць лампады, памазваюць вернікаў пасля богаслужэння, а таксама новахрышчаных. Выкарыстоўваюць у таінстве *ялеесвяшчэння*, праліваюць на памерлага.

ЯНСЕНІ́ЗМ — рэлігійна-палітычная каталіцкая неартадаксальная плынь у Францыі і Галандыі ў 17—18 ст. Прынцыпы Я. выкладзены галандскім тэолагам К.Янсеніем (1585—1638), які развіваў вучэнне *Аўгусціна* пра *прадвызначэнне*. У шэрагу палажэнняў Я. набліжаўся да пратэстантызму (адмаўленне свабоды волі, прызнанне прадвызначэння), прапаведаваў строгае рэліг.-этычнае самаўдасканальванне. Паслядоўнікі Я. выступалі супраць *езуітаў*, адмоўна ставіліся да мастацтва. Я. праследаваўся царквой і дзяржавай. У Францыі ён страціў значэнне да сярэдзіны 18 ст.; у Галандыі паслядоўнікі Я. стварылі самастойную царкву.

ЯРЫ́ЛА — у язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян бажаство сонца і ўрадлівасці, апякун земляробства. Я. (ад стараж.-рус. «яр» — вясна, святло, жар) — той, хто грэе, расціць, апладняе (параўн. «ярына»). На Беларусі Я. ўяўлялі прыгожым хлопцам, які тумановым веснавым досвіткам ездзіць па полі на белым кані і «апладняе» ніву. Маладзіца, якая хацела мець дзіця, старалася ўгледзець Я., каб збылася яе мара. У Ярылаў дзень вадзілі карагод вакол дзяўчыны ў вянку на белым кані, якая ўвасабляла Я., спявалі песні. Святкаванні забараняліся хрысц. царквою. Некаторыя сля-

ды культу Я. захаваліся ў абраднасці Каляд, Масленіцы, Вялікадня, Купалля, у анамастыцы (геаграфічныя назвы Ярылаў гай, Ярылавічы, прозвішчы Ярылавец, Ярук і інш.).

ЯФРЭ́М СІ́РЫН (каля 306, Нізібія — 28.1.373) — адзін з настаўнікаў царквы 4 ст.; хрысціянскі аскет, пустэльнік каля Нізібіі. Сын язычніцкага жраца, які выгнаў яго з дому за зварот да хрысціянства. Выконваў абавязкі дыякана ў Едэсе, дзе адкрыў вучылішча. Адмовіўшыся ад епіскапскага сану, цалкам займаўся прапаведніцкай дзейнасцю і песеннай творчасцю, выкрываў ератыкоў. Хоць сябе Я.С. называў «невукам і маласвядомым», аднак з яго твораў вынікае, што ён добра ведаў не толькі хрысціянскіх вучоных, але і «элінскую мудрасць», язычніцкую міфалогію і пачаткі сучаснага яму прыродазнаўства. У сваіх пропаведзях выказваўся на карысць ведаў і адукацыі, ставіў іх вышэй за багацце. Творы Я.С. былі перакладзены на грэч. мову і чыталіся ў цэрквах пасля Свяшчэннага пісання. Лепшую частку твораў складаюць яго пропаведзі, асабліва павучальныя. Ён бласлаўляў шлюб і сям'ю, раіў бацькам клапаціцца пра выхаванне дзяцей для жыцця.

Я́ХВЕ (таксама Я г в е, І е г о в а, С а в а о ф) — назва адзінага Бога ў іудаізме. На пачатку Я. шанавалі як абаронцу вандроўных плямён ізраільцян і іудзеяў. Пасля пераходу іх да аселасці Я. нададзены рысы апекуна земляробства. Выявы паказвалі Я. ў выглядзе льва ці быка, пазней у чалавечым абліччы. З 11 ст. да н.э. абвешчаны абаронцам цара. У 622 да н.э. культ Я. цэнтралізаваны, ён стаў адзіным Богам Іудзейскага царства. Гал. рысы біблейскага Я. — ваяўнічасць, жорсткасць, дэспатызм. Паводле стараж. падання, імя Я. было адкрыта Богам Майсею ў богаяўленні з купіны пры гары Харыў.

P 96 **Рэлігія** і царква на Беларусі: Энцыкл. давед. /Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш.; Маст. А.А.Глекаў. — Мн.; БелЭн, 2001. — 368 с.: іл.
ISBN 985-11-0220-2

У даведніку змешчана больш за 1000 артыкулаў па гісторыі ўзнікнення і развіцця рэлігійных вераванняў на Беларусі, дзейнасці арганізацый і аб'яднанняў вернікаў розных канфесій або асобных рэлігійных плыняў (праваслаўе, каталіцызм, пратэстантызм, уніяцтва, іслам, іудаізм і інш.), рознага роду нетрадыцыйных культаў. У ім падаюцца звесткі пра жыццё і дзейнасць беларускіх святых, царкоўных і рэлігійных дзеячаў, пра манастыры і кляштары, манаскія ордэны, духоўныя навучальныя ўстановы, цудатворныя абразы Беларусі. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, партрэтамі.

Кніга адрасавана навучэнцам і выкладчыкам агульнаадукацыйных школ, каледжаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, навукоўцам, усім, хто цікавіцца пытаннямі рэлігіязнаўства і гісторыі Беларусі.

**УДК 2(091) (476) (035)**
**ББК 86.3 (4Бен)я2**

Даведачнае выданне

**РЭЛІГІЯ І ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ**

**Энцыклапедычны даведнік**

Мастацкі рэдактар *І.В.Каранкевіч*
Тэхнічны рэдактар *М.І.Грыневіч*
Карэктары: *Ж.С.Берасневіч, Л.А.Варабей, Т.П.Гілевіч, А.І.Клімовіч, С.М.Красная, В.А.Кульбіцкая, В.М.Чудакова*
Камп'ютэрная падрыхтоўка арыгінала-макета:
*С.А.Макаёнак* (заг. рэдакцыі),
*Р.У.Дзявочка, І.І.Драздова, Н.М.Зубкевіч, Н.У.Мітраховіч, І.А.Навіцкая, Н.А.Стасевіч*

Падпісана да друку 2.11.2001. Фармат 70×100 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Гарамонд. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 29,9. Ум. фарб.-адб. 120,9. Ул.-выд. арк. 41,77. Тыраж 3000 экз. Заказ 287.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.650.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 10 ад 10.11.2000. Рэспубліка Беларусь. 220072, Мінск, Акадэмічная, 15а.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Мінская фабрыка каляровага друку». Рэспубліка Беларусь. 220024, Мінск, Каржанеўская, 20.

ISBN 985-11-0218-0



## СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА

**Рэдакцыя філасофіі, эканомікі і права:**

Загадчык рэдакцыі — кандыдат філасофскіх навук **С.Ф.Дубянецкі**,
вядучыя навуковыя рэдактары **Т.М.Грынько, В.В.Краснова, Г.А.Маслыка**,
навуковы рэдактар **Н.Г.Кісялёва.**

**Рэдакцыя ўсеагульнай гісторыі:**

Загадчык рэдакцыі — **Ю.В.Бажэнаў**,
вядучы навуковы рэдактар **М.Г.Нікіцін**,
навуковыя рэдактары кандыдат гістарычных навук **В.У.Адзярыха, Н.А.Дзянісава, У.Я.Калаткоў.**

**Рэдакцыя навуковага і літаратурнага кантролю:**

Загадчык рэдакцыі — кандыдат гістарычных навук **І.П.Хаўратовіч**,
вядучыя навуковыя рэдактары **В.В.Гетаў, Е.П.Фешчанка**,
навуковы рэдактар **Т.У.Люковіч.**

На форзацы выкарыстаны афорт мастака
**У.М.Вішнеўскага** «П'ета».

# АСНОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

адм. — адміністрацыйны
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акад. — акадэмічны, акадэмік (пры імю)
АН — акадэмія навук
аналіт. — аналітычны
ант. — антычны
антырэліг. — антырэлігійны
апубл. — апублікаваны
арганізац. — арганізацыйны
арг-цыя — арганізацыя
арт. — артыкул (пры назве), у бібліяграфіі
асн. — асноўны
атэіст. — атэістычны
афіц. — афіцыйны
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларусі
б-ка — бібліятэка
БССР — Беларуская ССР
в. — вёска (пры назве)
ваяв. — ваяводства (пры назве)
вер. — верасень
візант. — візантыйскі
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
выяўл. — выяўленчы
г. — горад (пры назве)
газ. — газета (пры назве)
гал. — галоўны
гіст. — гістарычны
грэч. — грэчаскі
губ. — губерня (пры назве)
дзярж. — дзяржаўны
д-р — доктар
д-р н. — доктар навук
еўрап. — еўрапейскі
жн. — жнівень
засн. — заснаваны
зах.-бел. — заходнебеларускі
зб. — зборнік (пры назве), збор (у бібліяграфіі)
зб-кі — зборнікі (пры назве)
ін-т — інстытут
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве), князь (пры імю)
крас. — красавік
лац. — лацінскі
ліп. — ліпень
ліст. — лістапад
літ. — літаратурны, літаратура (у бібліяграфіі)
маст. — мастацкі, мастак (пры імю)
міжнар. — міжнародны
мусульм. — мусульманскі
н. — нарадзіўся
н. ст. — новы стыль
н. э. — наша эра
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
найб. — найбольшы, найбольш
напр. — напрыклад
нац. — нацыянальны
НДІ — навукова-даследчы інстытут
пав. — павет (пры назве)
паліт. — палітычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пач. — пачатак
пед. — педагагічны
правасл. — праваслаўны
рас. — расійскі
р-н — раён (пры назве)
рус. — рускі
РПЦ — Руская праваслаўная царква
рэліг. — рэлігійны
сак. — сакавік
св. — святы
слав. — славянскі
снеж. — снежань
СССР — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік
спец. — спецыяльны
ст.ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе
сараж. — старажытны
студз. — студзень
сусв. — сусветны
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тыс. (т.) — тысяча жыхароў, тысячагоддзе (пры лічбе)
тэр. — тэрыторыя, тэрытарыяльны
ун-т — універсітэт
ф-т — факультэт
хрысц. — хрысціянскі
царк. — царкоўны
час. — часопіс (пры назве)
чэрв. — чэрвень
экз. — экзэмпляр
эстэт. — эстэтычны

